**Беларуская Энцыклапедыя**



# ХІТЭКТУРА БЕЛАРУСІ

## Энцыклапедычны даведнік

*Мінск*
«Беларуская Энцыклапедыя»
імя Петруся Броўкі
1993

ББК 85.113(2Б)я2
А 87

**Навуковыя кансультанты:**

*В. І. АНІКІН,*
*І. І. БОЎТ,*
*Т. В. ГАБРУСЬ,*
*А. М. КУЛАГІН,*
*В. Ф. МАРОЗАЎ,*
*С. А. СЕРГАЧОЎ,*
*М. А. ТКАЧОЎ,*
*В. М. ЧАРНАТАЎ,*
*Т. І. ЧАРНЯЎСКАЯ,*
*Ю. А. ЯКІМОВІЧ.*

А $\frac{4902010000-02}{М\ 318(03)-93}$ 1—92

ISBN 5-85700-078-5

## Ад рэдакцыйнай калегіі

*На працягу сваёй гісторыі беларускі народ стварыў высокаразвітую і арыгінальную архітэктуру. Яе лепшыя помнікі адлюстроўваюць асаблівасці і найважнейшыя архітэктурна-мастацкія плыні і дасягненні сваёй эпохі, сведчаць аб практычнай мудрасці і мастацкім майстэрстве дойлідаў Беларусі.*

*Выпуск спецыяльнай энцыклапедыі пра архітэктуру Беларусі адпавядае пажаданням чытачоў мець грунтоўны даведнік, у якім была б сабрана інфармацыя пра найбольш вядомыя помнікі беларускага дойлідства.*

*У энцыклапедыі «Архітэктура Беларусі» змешчана больш за 1200 артыкулаў, прысвечаных лепшым творам беларускай архітэктуры з часоў старажытнасці да нашых дзён. У ёй чытач зможа знайсці інфармацыю пра такія выдатныя помнікі старажытнага дойлідства, як Сафійскі сабор і Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, Барысаглебская царква ў Гродне, касцёлы ў Пінску і Слоніме, замкі ў Лідзе і Міры, палацава-паркавыя ансамблі ў Нясвіжы і Гомелі і многія інш., што ўвайшлі ў скарбніцу сусветнай архітэктуры. Прадстаўлены ў гэтым выданні і лепшыя творы архітэктуры, якія не дайшлі да нас з-за ваенных ліхалеццяў, не ўцалелі з-за чыноўніцкага раўнадушша, непавагі і абыякавасці да культурнай спадчыны. Змешчаны ў ёй даведкі і пра лепшыя ансамблі і асобныя будынкі савецкага часу, якія адлюстравалі і вызначылі найважнейшыя кірункі развіцця сучаснай беларускай архітэктуры. Асобныя артыкулы прысвячаюцца лепшым мемарыяльным збудаванням. У томе падаюцца таксама звесткі пра населеныя пункты, адметныя дасягненнямі горадабудаўнічага мастацтва, архітэктурным абліччам, багаццем старажытных і сучасных твораў архітэктуры. Даведнік спалучае тэматычны і алфавітны прынцыпы: кожная частка тома прысвячаецца пэўнай тэматыцы, а ўнутры яе артыкулы размяшчаюцца ў алфавітным парадку.*

*У пачатку тома змешчаны агляднавы нарыс, у якім паказана гісторыя развіцця архітэктуры рэспублікі. У 1-ю частку даведніка ўключаны артыкулы пра канкрэтныя творы культавага і грамадзянскага дойлідства, помнікі сядзібна-паркавай, палацавай і замкавай архітэктуры, горадабудаўнічыя ансамблі, мемарыяльныя збудаванні, гарады, гарадскія пасёлкі і сучасныя вёскі Беларусі. Гэта найбольшая па аб'ёму частка кнігі і яна нясе асноўную кампазіцыйную і сэнсавую нагрузку.*

*У 2-й частцы тома змешчаны тэрміналагічны слоўнік, дзе сабраны асноўныя паняцці і тэрміны, якія ўжываюцца пры апісанні таго ці іншага помніка архітэктуры.*

*3-ю частку тома складаюць біяграфічныя артыкулы пра беларускіх архітэктараў і дойлідаў, а таксама замежных архітэктараў, творчасць якіх звязана з Беларуссю, пра гісторыкаў і даследчыкаў архітэктуры. Тут змешчаны таксама спіс членаў Саюза архітэктараў Беларусі. Спісы літаратуры і асноўных скарачэнняў, прынятых у гэтым выданні, змяшчаюцца ў канцы кнігі.*

*Энцыклапедычны даведнік «Архітэктура Беларусі» з'яўляецца калектыўнай працай. У яе стварэнні прымалі ўдзел многія беларускія даследчыкі архітэктуры і мастацтвазнаўцы. Аснову кнігі складаюць матэрыялы, што ўвайшлі ў шматтомныя выданні «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Энцыклапедыя «Архітэктура Беларусі» разлічана на прафесійных архітэктараў, дзеячаў мастацтва, педагогаў, студэнтаў гуманітарных ВНУ, вучняў сярэдніх навучальных устаноў і ўсіх тых чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй, мастацтвам і архітэктурай нашай рэспублікі. Свае заўвагі і пажаданні просім дасылаць на адрас: 220600, Мінск, ГСП, вул. Ф. Скарыны, 15-а, выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.*





# Архітэктура Беларусі ад старажытных часоў да нашых дзён

**Архітэктура ў эпоху першабытнаабшчыннага ладу.** Спецыфічным відам пластычных мастацтваў архітэктура становіцца толькі ў класавым грамадстве. Але яе станаўленню папярэднічаў вялікі гіст. перыяд (каменны, бронзавы, жалезны вякі), у які адбываўся паступовы пераход ад чыста утылітарнага буд-ва да мэтанакіраванай архіт.-мастацкай творчасці, калі вырашаліся не толькі функцыянальна-канструкцыйныя, але сацыяльна-эстэтычныя і палітычныя задачы.

Паводле знойдзеных археолагамі прылад працы першабытны чалавек паявіўся на тэр. Беларусі 100—40 тыс. гадоў таму назад. Але стаянкі чалавека той эпохі не выяўлены. У канцы ледавіковай эпохі, калі тэр. Беларусі ператварылася ў зону лесастэпу і лесатундры, яе пачалі стала засяляць людзі, якія аб'ядноўваліся ў роды. Іх стаянкі размяшчаліся пераважна на прырэчных берагавых мысах. Рэшткі найбольш ранніх на тэр. Беларусі верхнепалеалітычных паселішчаў выяўлены ў Падняпроўі (Бердыж Чачэрскага і Юравічы Калінкавіцкага р-наў; 24—20 тыс. гадоў да н. э.). Жытлы мелі круглую або авальную ў плане форму, ніжняя частка сцен выкладалася з буйных вялікіх камянёў, чарапоў і буйных касцей мамаята, а верх сцяны і дах утваралі канструкцыі з жэрдак і мамантавых рэбраў, накрытыя скурамі. Унутры жытлаў размяшчаліся адкрытыя вогнішчы. Такія і падобныя ім збудаванні ў той час былі характэрныя амаль для ўсіх жыхароў Еўропы. У сярэднім каменным веку — мезаліце (9—6-е тысячагоддзі да н. э.) — з поўным адступленнем ледавіка і фарміраваннем сучаснага ландшафту з рэкамі і азёрамі, буйнымі ляснымі масівамі пачалося масавае засяленне тэр. Беларусі паляўнічымі плямёнамі, якія паступова пераходзілі да аселага жыцця. Іх паселішчы размяшчаліся паблізу вадаёмаў, звычайна на надпоймавай тэрасе ракі ці на прыбярэжных дзюнах, былі невялікімі і існавалі непрацяглы час. Гэтыя плямёны будавалі каркасныя драўляныя жытлы-буданы конусападобнай формы з адкрытым агнішчам. Таму можна сцвярджаць, што пачаткі драўлянага дойлідства нарадзіліся менавіта ў мезаліце. У 5—4-м тысячагоддзях да н. э. пачаўся новы каменны век — неаліт, у якім паявіўся гліняны посуд, зараджаліся земляробства і жывёлагадоўля, значна ўзрасла колькасць насельніцтва. Паселішчы гэтай эпохі былі доўгатэрміновыя і сезонныя. Размяшчаліся яны па берагах вадаёмаў, часцей на 1-й надпоймавай тэрасе, мелі выцягнутую форму, забудоўваліся лёгкімі каркаснымі дамамі. Жытлы мелі круглую, авальную ці прамавугольную ў плане форму, плошчай каля 10—16 м². Яны былі наземнымі і паўзямлянкавымі (заглыбляліся ў зямлю да 1 м), нярэдка з конусападобным дахам. У цэнтры або ў куце дома размяшчалася адкрытае вогнішча. Наяўнасць каменных сякер давала магчымасць выкарыстоўваць канструкцыі з тоўстых слупоў, плашак, дошак і інш., у выніку чаго дамы ў сваёй канструкцыі і аздобе ўдасканальваліся. На некаторых паселішчах, што ў мэтах абароны размяшчаліся сярод балот, будавалі складаныя паводле канструкцыі дамы на па́лях.

У пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. на тэр. Беларусі пачаўся новы гіст. перыяд — бронзавы век, у якім сталі ўжывацца медныя і бронзавыя вырабы, на першае месца ў гасп. дзейнасці плямён пачалі выходзіць земляробства і жывёлагадоўля. У выніку колькаснага росту насельніцтва асвойваліся новыя тэрыторыі, зараджалася маёмасная няроўнасць, умацоўваўся патрыярхат. Асваенне новых зямель, павышэнне прадукцыйнасці земляробства і жывёлагадоўлі выклікалі працэс развіцця новых паселішчаў, якія будаваліся для доўгатэрміновага пражывання вял. патрыярхальнымі сем'ямі. Жылыя і гасп. пабудовы звязваліся ў адзіную сістэму планіроўкі і нярэдка мелі лінейна-радавае або кругавое размяшчэнне на паселішчы. У плямён сосніцкай і тшцінецкай культур (Падняпроўе, басейн Прыпяці) адзначана размяшчэнне будынкаў у 2 рады, з фарміраваннем элементаў вулічнай планіроўкі. Бытавала наземнае і паўзямлянкавае жыллё слупавой канструкцыі, авальнае або прамавугольнае ў плане. На Пд сустракаецца 2-камернае жыллё. Асновай сцен і перакрыцця былі вертыкальныя слупы. Прасценкі паміж слупамі запаўняліся тонкімі бярвёнамі або плятнём, які нярэдка абмазвалі глінай. Пераважалі падоўжна-восевыя будынкі з 2-схільнымі перакрыццямі, сустракаліся і пірамідальна-цэнтрычныя, унутры жылля размяшчаліся агнішчы з каменнай вымасткай, гасп. ямы.

У 7—6 стагоддзях да н. э. ў эканоміцы і культуры плямён, што жылі на тэр. Беларусі, пачалі складвацца новыя рысы, звязаныя са з'яўленнем жалезных прылад працы. Асн. формай гаспадаркі стала земляробства. З дапамогай жалезных сякер і цёслаў удасканальвалася будаўнічая тэхніка. У раннім жалезным веку тэр. Беларусі падзялялася на 5 этнакультурных зон: на Пн жылі плямёны штрыхаванай керамікі і днепрадзвінскай культур, на Пд — мілаградскай, зарубінецкай і паморскай культур. У сувязі з паглыбленнем міжплемянных і міжрадавых канфліктаў, частымі ваеннымі сутыкненнямі ў раннім жалезным веку з'явіліся новыя формы паселішчаў — гарадзішчы. На Пд Беларусі яны пераважна выконвалі ролю сховішчаў і размяшчаліся каля неўмацаваных селішчаў, па Пн яны з'яўляліся жылымі (на кожным пражывала вял. патрыярхальная сям'я). У больш позні час развіццё земляробства прывяло да распаўсюджвання неўмацаваных селішчаў і на Пн. Гарадзішчы будавалі на ўзвышаных рачных або азёрных мысах, высокіх узгорках, на астравах сярод балот. Іх форма была разнастайная: 3-вугольная, прамавугольная, у выглядзе трапецыі, круга, авала і інш. Напачатку выкарыстоўвалі толькі натуральныя перашкоды, потым гарадзішчы ўмацоўвалі валамі, равамі і драўлянымі сценамі. На Пн пераважалі невял. гарадзішчы, на Пд — больш буйных памераў часам з некалькімі пляцоўкамі. Яны выконвалі адначасова абарончыя, жылыя, грамадскія і культавыя функцыі. Напачатку забудова на гарадзішчах групавалася па знешнім кальцы, цэнтр пляцоўкі займалі гасп. будынкі і загоны для жывёлы (гарадзішча каля в. Збаровічы Мінскага р-на). Пазней жыллё раўнамерна займала ўсю пляцоўку (гарадзішчы Малышкі Вілейскага і Вязынка Маладзечанскага р-наў), што было звязана з працэсам распаду вял. патрыярхальных сямей. У планіроўцы, кампазіцыі і будаўнічай тэхніцы жылля заўважаецца падзел на паўн. і ўсх. зоны. На Пн разам з 1-камернымі будынкамі існавалі вял. шматкамерныя абшчынныя дамы. У 3 ст. н. э. тут паявіліся наземныя збудаванні зрубнай канструкцыі. На Пд пераважалі 1-камерныя дамы слупавой канструкцыі, шмат будавалася паўзямлянак. Паступова круглыя або авальныя ў плане дамы былі выцеснены прамавугольнымі ці квадратнымі, завершанымі 2-схільнымі, шатровымі ці вальмавымі дахамі. 2-я палова 1-га тысячагоддзя н. э. адметная далейшым развіццём земляробства, жывёлагадоўлі і рамёстваў. Ранейшыя ўмацаваныя радавыя паселішчы стрымлівалі прагрэс развіцця вытв. сіл. Таму замест іх сталі ўзнікаць неўмацаваныя селішчы; гарадзішчы паўсюдна ператварыліся ў сховішчы на час небяспекі. Гэты працэс раней пачаўся ў зарубінецкіх плямён Падняпроўя (2 ст.), пазней (5 ст.) захапіў насельніцтва Пн Беларусі — носьбітаў культуры тыпу Адаменкаўскага паселішча (у в. Адаменка Быхаўскага р-на). Раннеславянскім паселішчам была ўласціва планіровачная структура, якая ўключала гарадзішча-сховішча і неўмацаванае селішча каля яго (каля в. Хатомель Столінскага р-на і інш.). З'яўленне жалезных прылад

для апрацоўкі дрэва адкрыла новую старонку ў гісторыі драўлянага дойлідства. Ранняй тэхнікай драўлянага будаўніцтва была слупавая канструкцыя, у 8—9 ст. пашырылася і стала пануючай зрубная канструкцыя.

**Дойлідства заходнерускіх зямель 9—13 ст.** Гарадскія і сельскія паселішчы стараж. Русі фарміраваліся на базе гарадзішчаў і селішчаў жалезнага веку. Аднак новыя ўмовы іх функцыяніравання ў структуры раннефеадальнай дзяржавы Кіеўскай Русі выклікалі і новыя іх рысы. Паселішчы звычайна размяшчаліся па берагах рэк і азёр. Селішчы яшчэ маглі ўтвараць з гарадзішчамі адзіны планіровачны ансамбль (яны прылягалі да гарадзішчаў або абкружалі іх па перыметры), але ўсё часцей яны размяшчаліся асобна ад гарадзішчаў (гэта было асабліва характэрна для Панямоння). Пра структуру, размяшчэнне і характар сельскіх паселішчаў можна меркаваць па звестках некаторых стараж.-рус. дакументаў, у якіх называюцца «весі», «селішчы», «пагосты» і «сёлы». Аднак гэтыя тэрміны не набылі ў той час яшчэ канкрэтна акрэсленага сэнсу. Напрыклад, пагостамі называлі сельскія абшчыны, іх цэнтры, спец. падатак і месцы яго збору. Гэта былі і абласныя цэнтры, якія аб'ядноўвалі некалькі паселішчаў у адзіны адм.-гасп. комплекс. У іх размяшчаліся цэрквы і абшчынныя могілкі. Сёламі часцей называлі ўладальніцкія паселішчы — цэнтры феадальных вотчын. Яны таксама, як і пагосты, аб'ядноўвалі некалькі больш дробных вёсак. Асноўнымі тыпамі жылля былі невял. паўзямлянкі ці наземныя збудаванні каркаснай і вянковай канструкцыі, прызначаныя для пражывання асобнай сям'і. Прамежкавы характар паміж гарадскімі і сельскімі паселішчамі мелі гарады-крэпасці; якія будаваліся дзяржавай для аховы яе межаў, а таксама феадальныя замкі, што не мелі развітой рамеснай вытворчасці.

Адной з найбольш важных рыс раннефеадальнага грамадства было зараджэнне і развіццё гарадоў — новага для таго часу тыпу паселішчаў. Іх з'яўленне выклікана працэсам распаду першабытнаабшчынных і фарміравання феадальных адносін. Непасрэднай прычынай узнікнення гарадоў было аддзяленне рамёстваў і гандлю ад земляробства. Хуткаму росту гарадоў спрыялі шляхі зносін, якія вызначалі структуру размяшчэння паселішчаў. Некаторыя гарады развіліся з былых племянных цэнтраў (Полацк, Тураў); шэраг гарадоў (асабліва на Пн і З) першапачаткова меў ваенныя функцыі, толькі пазней набыў рысы гандлёва-рамесніцкіх паселішчаў. У старажытнасці «градамі» называлі крэпасці, незалежна ад заняткаў іх насельніцтва, а гарадское паселішча мела назву «месца» або «места».

У 9—10 ст. лік гарадоў быў нязначны, узнікалі яны пераважна на Пн і ПнЗ Беларусі як цэнтры каланізацыі славян: Полацк, Віцебск, Лукомль, Мінск, Орша, Друцк, Заслаўе, Лагойск, Браслаў, Шклоў, Навагрудак, Ваўкавыск. На Пд, акрамя Турава, іншых гарадоў не існавала. Колькасць гарадоў рэзка ўзрасла ў 11—12 ст., што было звязана з развіццём сельскагаспадарчай і рамеснай вытворчасці. Усяго ў 9—13 ст. на тэр. Беларусі існавала больш за 40 гарадоў. Паступова ўмацаваныя «грады» паўн. і паўн.-зах. Беларусі абрасталі пасадамі і ператвараліся ў гарадскія паселішчы. Іншым шляхам развіваліся гарады на Пд Беларусі. Амаль усе яны (за выключэннем Турава і Бярэсця) узніклі як цэнтры рамяства і гандлю і абслугоўвалі земляробчыя акругі. Гарады Пасожжа (на думку гісторыка Б. А. Рыбакова) з'яўляліся невялікімі крэпасцямі, дзе мясцовае насельніцтва хавалася ў часы міжусобіц і княскіх «палюддзяў». Толькі ў 12—13 ст. яны паступова развіліся ў гарадскія паселішчы (Гомель, Чачэрск і інш.).

Найважнейшае значэнне ў размяшчэнні гарадоў мелі водныя гандлёвыя шляхі, што звязвалі старажытную Русь з Пд і З. Менавіта на буйных водных шляхах узніклі найбольш значныя гарады: Полацк, Віцебск, Тураў, Пінск, Бярэсце, Гародна і інш. Рэкі забяспечвалі насельніцтва вадой, з'яўляліся значнымі натуральнымі перашкодамі для непрыяцеля. Таму амаль усе гарады ўзніклі на рэках, звычайна на ўзвышшы пры злучэнні дзвюх рэк. Гэтыя ўзвышшы былі месцамі фарміравання старажытнейшых частак гарадоў — дзядзінцаў. Іх абносілі штучнымі абарончымі ўмацаваннямі — равамі і высокімі земляными валамі з драўлянымі сценамі і вежамі. Разрастаючыся, гарады паступова набывалі характар гандлёва-рамесніцкіх паселішчаў, вакол дзядзінца складваліся пасады, таксама ў большасці выпадкаў абнесеныя абарончай сістэмай. У вялікіх гарадах за пасадамі ўзніклі неўмацаваныя прадмесці — вакольныя гарады. Адбывалася і «адваротная» эвалюцыя, калі ў часы ваенных ліхалеццяў насельніцтва горада перасялялася з пасадаў у дзядзінец (Навагрудак у сярэдзіне 13 ст.).

Цікавай асаблівасцю развіцця некаторых гарадоў з'яўляўся іх перанос на іншае, больш зручнае месца. Ён мог быць частковым, з захаваннем першапачатковага размяшчэння асобных раёнаў, або поўным, калі на новае месца пераносіўся ўвесь горад (Полацк, Мінск).

Планіроўка гарадоў была надзвычай устойлівай. Выключэнне — Віцебск, дзе выразныя рэгулярныя рысы планіроўкі склаліся толькі да 16 ст. У шэрагу выпадкаў будынкі гарадоў мелі амаль аднолькавую арыентацыю сцен па баках свету, што можа сведчыць пра дасканала распрацаваную сістэму рэгулярнай вулічнай забудовы. Мяркуючы па формах планаў гарадзішчаў і выгляду ўездаў, у гарадах звычайна вылучаліся адна або некалькі гал. вуліц, якія вялі ад замка да знешняга гандл. сухапутнага шляху. Такія вуліцы ў сваім пачатку, за брамай, разгаліноўваліся на шэраг больш дробных, якія ўтваралі аснову вулічнай планіроўкі. Радыяльныя вуліцы перасякаліся паўкальцавымі або кальцавымі. Аднак апошнія існавалі толькі ў буйных гарадах.

У гандлёва-рамесніцкіх гарадах рана склаўся другі цэнтр, які разам з замкам вызначыў асаблівасці гарадской структуры. Гэта — гандлёвая плошча, цэнтр дзелавога жыцця горада. Яна звычайна размяшчалася каля ракі, дзе была прыстань. Тут жа стаялі крамы, рамесніцкія майстэрні, купецкія свірны і каморы. Аснову планіроўкі складалі вуліцы (шыр. 3—4 м і болей). Яны пакрываліся насціламі з бярвення ці плашак на спецыяльных лагах. У Полацку знойдзены рэшткі дрэнажных сістэм, што сведчыць пра добраўпарадкаванасць гэтага горада.

Паколькі гарадскую тэр. абмяжоўвалі знешнія ўмацаванні, забудова горада па меры яго росту паступова ўшчыльнялася. Гэта прыводзіла да значнай шчыльнасці ў размяшчэнні будынкаў. Напрыклад, у Мінску было звычайным размяшчэнне на адной сядзібе 2 хат і да 5 гасп. збудаванняў. Тэрыторыю двара звычайна абносілі трывалай агароджай — найчасцей частаколам, радзей замётам у шулах. З вуліцы ў двор вяла манум. брама, накрытая 2-схільным дахам. Ёсць падставы меркаваць, што ў 12—13 ст. у гарадах склаліся элементы традыцыйных вянковых і пагонных двароў. Апошнія былі найбольш зручнымі пры шчыльнай вулічнай забудове. Двары высцілалі дрэвам, у некаторых выпадках іх накрывалі паветкамі. У некаторых гарадах (напрыклад, у Навагрудку) у дварах амаль не будавалі асобных гасп. пабудоў, іх узводзілі кампактна на спецыяльна адведзеных для гэтай мэты тэрыторыях.

Традыцыйнае масавае буд-ва ў 11—12 ст. вялося амаль выключна з дрэва. Пераважалі 1-камерныя кур-



Драўляныя збудаванні ў старажытным Бярэсці. Раскопкі 1970.

ныя жытлы наземнага тыпу (паўночны варыянт), зрубленыя з бярвення ў верхняе «абло з астаткам», плошчай 12—16 м². Зрэдку сцены будавалі з брусоў (Мінск, Давыд-Гарадок). Сустракаюцца каркасныя наземныя дамы і паўзямлянкі (паўднёвы варыянт). Зрубы звычайна ставілі падрубай на зямлю, на штандары, на плашкі ці ніжнія вянкі старых папярэдніх пабудоў. Значная колькасць хат мела драўляныя падлогі з колатых дошак, якія насцілалі па лагах. Невялікія дзвярныя праёмы размяшчаліся высока. Для асвятлення і выхаду дыму выкарыстоўвалі валаковыя акенцы, размешчаныя ў 2 верхніх сумежных вянках. У некаторых выпадках яны мелі слюдзяныя ці шкляныя абалонкі. Асноўным тыпам перакрыцця была 2-схільная страха з драніц. З 12 ст. вядомы і лёгкія каркасныя дахі на кроквах. Выкарыстоўваліся архаічныя канструкцыі перакрыцця на «сохах» і «дзядках». Спалучэннем розных тэхнік буд-ва стваралася багатая разнастайнасць архіт.-маст. вырашэння нар. жылля. Асабліва гэта прыкметна ў Навагрудку, дзе кожны дом меў свае адметныя рысы. Тут існавалі вялікія (70—75 м²) дамы 2-камернай планіроўкі, 1- і 2-паверховыя, з «белымі» печамі. Адзін з дамоў унутры быў аздоблены фрэскавым жывапісам па тынкоўцы, нанесенай на абчасаныя сцены. Многія дамы Навагрудка ў 12—13 ст. асвятляліся вял. вокнамі ў 3—4 круглыя шкляныя дыскі, устаўленыя ў спец. рамы, што было унікальнай з'явай у старажытнарускім дойлідстве. Рэшткі хат складанай планіроўкі знойдзены таксама пры раскопках Слоніма і Бярэсця. Прыкладна з 10—11 ст. фарміруецца і планіроўка жылога памяшкання, характэрная ў далейшым (да 20 ст.) для беларускага, украінскага і заходнерускага жытла, у якім глінабітная або мураваная печ размяшчалася ў куце каля ўвахода. Такім чынам, фарміраванне традыцыйных форм бел. нар. жылля адбывалася ўжо ў старажытнарускую эпоху.

Развіццё гарадоў як цэнтраў феадальнай дзяржаўнасці і прыняцце хрысціянства з'явіліся першапрычынай фарміравання новых кірункаў у манументальнай, найперш культавай архітэктуры. У дахрысціянскай архітэктуры былі пашыраны капішчы — спец. пляцоўкі з «кумірамі» — ідаламі, якія абносіліся агароджамі і серпападобнымі равамі для палення агню. Відаць, існавалі і драўляныя збудаванні для выканання язычніцкіх абрадаў. З хрысціянствам на Русі паявіўся новы тып збудавання — мураваны крыжова-купальны храм, збудаваны з тонкай квадратнай цэглы — плінфы. У 10—11 ст. храмы будавалі пераважна майстры, запрошаныя з Візантыі. Яны прынеслі на старажытнарускія землі традыцыі канстанцінопальскага ці правінцыяльнага буд-ва Візантыйскай імперыі. Адным з першых храмаў Кіеўскай Русі, узведзеных з дапамогай замежных майстроў, быў *Полацкі Сафійскі сабор* (сярэдзіна 11 ст.). Збудаваны з плінфы ў тэхніцы «са схаваным радам», з выкарыстаннем каменю, сабор быў задуманы як «скарочаны варыянт» Сафіі Кіеўскай і Сафіі Наўгародскай. Аднак ужо ў ім былі закладзены вызначальныя прынцыпы мясц. архітэктурнай школы, якія выявіліся ў цэнтрычна-пірамідальнай кампазіцыі архіт. форм. Верагодна, такія прынцыпы склаліся пад уплывам мясц. драўлянага дойлідства.

Пасля ўзвядзення ў Полацку Сафійскага сабора манум. будаўніцтва на тэр. Беларусі спынілася да пачатку 12 ст., калі наспелі новыя паліт. ўмовы жыцця, звязаныя з распадам Кіеўскай Русі. У той час найбольш моцным і самастойным было Полацкае княства, таму менавіта тут у 12 ст. ўзнікла надзвычай яркая і своеасаблівая *Полацкая школа дойлідства.* Развіццё гэтай школы не было адназначным. На раннім этапе выступала тэндэнцыя наследавання Кіеўскім узорам (Вялікі сабор *Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра* шмат у чым нагадваў царкву Спаса ў Бераставе пад Кіевам). Толькі ў сярэдзіне 12 ст. склалася традыцыя, якая найб. яскрава ўвасобілася ў творчасці майстра Іаана. Ён першым са старажытнарускіх майстроў рашуча парывае з канонамі візантыйска-кіеўскай архітэктуры і стварае свой адметны тып храма вежападобнай кампазіцыі (Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква, Барысаглебская царква ў Бельчыцах), арыентуючыся ў гэтым на славуты прататып — Сафію.



Сафійскі сабор у Полацку. 11 ст. Рэканструкцыя плана.

Іншым шляхам, чым у Полацку, пачало развівацца ў сярэдзіне 12 ст. манум. буд-ва ў Віцебску. У адзіным вядомым помніку гэтага часу — *Віцебскай Благавешчанскай царкве* — выкарыстана сістэма муроўкі з чаргаваннем радоў плінфы і каменных блокаў. Такая тэхніка буд-ва сустракалася ў Балгарыі і Грэцыі, адкуль, відаць, і былі запрошаны майстры ў Віцебск. На жаль, разбурэнне помніка ў 1961 ускладніла яго далейшае даследаванне.

На рубяжы 11 і 12 ст. у нязвыклай для Полацка тэхніцы распачата буд-ва *Мінскай замкавай царквы* (з каменю, на бутавых падмурках, з абмуроўкай сцен пліткамі з абчасанага выпняку). Мяркуючы па характары плана, можна ўявіць, што дойліды хацелі ўзвесці кампактны цэнтрычны храм вежападобнай кампазіцыі, дзе выразна выявіліся полацкія традыцыі.

Полацкія майстры будавалі таксама і далёка за межамі свайго княства: у Смаленску, Ноўгарадзе. У канцы 12 ст. на аснове полацкіх архіт. форм развіваецца Смаленская архіт. школа, якая пашырае свой уплыў на Ноўгарад, Пскоў, Уладзіміра-Суздальскія землі, верагодна, на Чарнігаў. У пач. 13 ст. многія старажытнарускія землі прымаюць тую новую схему крыжовакупальнага храма, якая ўпершыню была распрацавана полацкім дойлідам Іаанам. Арыгінальнае спалучэнне полацкіх і віцебскіх традыцый адбылося пры буд-ве *Навагрудскай Барысаглебскай царквы:* віцебскія майстры ўзвялі храм, полацкія прыбудавалі да яго вонкавую галерэю.

Другая вядомая архіт. школа на Беларусі — *Гродзенская школа дойлідства* — склалася ў 12 ст. ў Гародні. Яна была больш лакальнай, чым Полацкая, ахоплівала толькі Гародню і Ваўкавыск. Збярогся адзіны помнік гэтай школы — *Гродзенская Барысаглебская царква* на Каложы. Іншыя 4 помнікі (Ніжняя і Прачысценская цэрквы, княжацкія палаты ў Гродне, царква ў Ваўкавыску) вядомы паводле археал. раскопак.

На аснове археал. даследаванняў можна сцвярджаць, што ў 12 ст. пачало развівацца манум. мураванае буд-ва і на Пд Беларусі, у Турава-Пінскіх землях. Раскапаныя рэшткі замкавай царквы ў Тураве сведчаць, што яе буд. тэхніка была звязана з кіеўскімі і гродзенскімі традыцыямі, аднак такога выключнага дэкору, як у Гродне, гэтая царква не мела. У Пінску зафіксаваны мuроўкі з плінфы; знойдзена унікальная калекцыя фігурных паліваных керамічных плітак, надзвычай разнастайных па форме. Аднак для якога будынка яны прызначаліся — невядома.

У канцы 12 ст. манум. мураванае буд-ва на тэр. Беларусі практычна спыняецца. Гэта было звязана з



Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку. 12 ст. Аксанаметрыя.



Вялікі сабор Бельчыцкага манастыра. 12 ст. План.



Благавешчанская царква ў Віцебску. 12 ст. Бакавы фасад.



Барысаглебская царква на Каложы ў Гродне. 12 ст. Фрагмент мураўкі з керамічнымі ўстаўкамі.



Вежа ў Камянцы. 13 ст. Агульны выгляд.

драбленнем княстваў на невял. ўдзелы, з неспрыяльнымі паліт. ўмовамі, у якіх развіваліся гарады Зах. Русі ў канцы 12—13 ст. Пагроза нападу з боку татар і крыжакоў паставіла ў горадабудаўніцтве на першы план абарончыя задачы. Таму ў 13 ст. на землях, якія часова залежалі ад Валынскага княства (Бярэсце, Гародня), збудаваны магутныя вежы-данжоны (захавалася адна такая вежа ў Камянцы, гл. *Камянецкая вежа*), якія адносяцца да так званых валынскіх вежаў. Такія ж вежы ў 2-й палове 13 ст. ўзніклі ў Тураве і Навагрудку; у Полацку існавалі драўляныя данжоны. Гэтыя збудаванні адлюстроўвалі ўжо новы этап манум. дойлідства, звязаны з уплывам традыцый ранняй готыкі (буд-ва з брусковай цэглы, выкарыстанне ў дэкоры стральчатых акон і нішаў, парэбрыкаў і інш.). Далейшае развіццё новых архіт. традыцый адбываецца ў часы, калі на аснове беларускіх, літоўскіх і часткова ўкраінскіх зямель утвараецца магутная дзяржава — Вялікае княства Літоўскае.

**Горадабудаўніцтва і архітэктура 14 — сярэдзіны 18 ст.** У 13 — 1-й палове 14 ст. сфарміравалася Вял. княства Літоўскае, у склад якога ўвайшлі і бел. землі. Перамога над крыжакамі пад Грунвальдам у 1410 спыніла агрэсію нямецкіх феадалаў на ўсход, што значна стабілізавала палітычнае становішча княства. З гэтага часу паявіліся больш шырокія магчымасці для культ. кантактаў з краінамі Зах. Еўропы. Аднак паступальнаму развіццю эканомікі і культуры Беларусі перашкаджалі шматлікія войны, якія вяліся на яе тэрыторыі. Асабліва спусташальнымі былі набегі крымскіх татар з 2-й паловы 14 ст. да 1530-х гг. З пачатку 16 ст. пачасціліся напады рус. войск. З 1558 да 1583 працягвалася крывавая Лівонская вайна. У 1654 пачалася спусташальная для Беларусі руска-польская вайна. Вялікія страты нанесла Паўночная вайна (1700—21). У выніку гэтага горадабудаўніцтва і архітэктура развівалася нераўнамерна, перыяды эканамічнага заняпаду адлюстроўваліся ў рэгрэсе архіт. форм, звароту да больш простых архаічных кампазіцый. Вялікае значэнне мела абарончае буд-ва.

16 — 1-я палова 17 ст.— перыяд інтэнсіўнага развіцця гарадскіх і сельскіх паселішчаў. Патрэба павелічэння вытворчасці прадуктаў земляробства стала прычынай рэарганізацыі ўсёй сістэмы сялянскага землекарыстання. У сувязі з гэтым у 1540-я гг. пачалася карэнная рэканструкцыя сельскіх паселішчаў на аснове аднастайных стандартных надзелаў-валок, так званая валочная памера. Пры гэтым стваралася разгалінаваная сетка феадальных маёнткаў, у склад якіх уваходзілі гарады і мястэчкі, замкі, двары і фальваркі. Такая сістэма рассялення паскорыла распад сялянскай абшчыны, адміранне архаічных форм сямейнай вытворчасці, вылучэнне з сялянскага асяроддзя значнай колькасці будаўнічых майстроў (муляраў, цесляроў, дойлідаў) і дрэваапрацоўшчыкаў (сталяроў, сніцараў). Частка з іх займалася свабодным промыслам, утвараючы карпарацыі тыпу арцеляў, частка асядала ў гарадах, мястэчках і фальварках. У буйных староствах (Гродзенскім, Іўеўскім і інш.) існавалі і асобныя дойлідскія паселішчы, феадальна залежныя жыхары якіх абслугоўвалі замкі, двары і фальваркі.

У пач. 17 ст. гарадскіх паселішчаў на Беларусі было больш за 300 (на карце Т. Макоўскага 1613 пазначана 312 буйных паселішчаў гарадскога тыпу). Значна пашырылася тэр. буйных гарадоў. Аднак канцэнтрацыя гарадскога насельніцтва на Беларусі значна ўступала Зах. Еўропе. Большасць паселішчаў складалі мястэчкі з насельніцтвам да 1,5 тыс. жыхароў. Каля 60 % гарадоў размяшчалася ў заходняй, 40 % — ва ўсх. Беларусі. Большасць гарадоў і мястэчак мела аграрны характар. Жыхары карысталіся зямельнымі надзеламі,

рознымі ўгоддзямі тыпу выганаў, гуменных пляцаў, агародаў, «астраўкоў», засценкаў і інш. Толькі ў цэнтры, у раёне гандл. плошчы і на гал. вуліцах сяліліся гандляры і рамеснікі. Перыферыйныя гарадскія тэрыторыі займалі тыповыя сялянскія гаспадаркі.

Імкненне гараджан пазбавіцца з-пад улады не толькі паноў-магнатаў, але велікакняжацкай і каралеўскай выявілася ў стварэнні самакіравання паводле магдэбургскага права. Яно пачало ўводзіцца з канца 14 ст., аднак да 16 ст. ім карысталіся толькі вялікія гарады — Брэст, Гродна, Слуцк, Полацк, Мінск. У 16 — 1-й палове 17 ст. магдэбургскае права атрымала вялікая колькасць гарадоў і мястэчак. У «магдэбургскіх» гарадах асн. цэнтрам становіцца гандл. плошча, горадабудаўнічая роля замка адыходзіць на другі план. Гэта рабіла гарадскія кампазіцыі больш адкрытымі, надавала ім свецкі, грамадскі характар.

Паводле прывілеяў на самакіраванне, гараджанам прадпісвалася будаваць ратушу з крамамі і складскімі памяшканнямі, важніцу і васкабойню, гасціны дом ці двор, грамадскую лазню, корчмы і інш. збудаванні, якія вызначалі архітэктуру гар. цэнтра. Пераважную масу гарадской забудовы складалі драўляныя жылыя дамы і гасп. пабудовы. Мураваныя камяніцы сустракаліся рэдка. Забудова гарадскіх двароў, асабліва ў цэнтры, была шчыльнай, верагодна, пераважалі двары пагоннага тыпу. У дварах рамеснікаў і гандляроў існавалі майстэрні, крамы, шынкі, бровары і інш. збудаванні. Нярэдка яны сумяшчаліся з жыллём. Наяўнасць пэўнай колькасці складаных сямей ці «падсуседкаў» выклікала існаванне ў асобных гарадскіх дварах некалькі жылых дамоў або аднаго дома складанай планіроўкі.

Характэрныя тыпы жылля прадстаўлены на «Чарцяжы» Віцебска 1664, на гравюрах 16—17 ст. Гродна, Нясвіжа, Клецка, Брэста і інш. Па гэтых выявах можна меркаваць пра надзвычайную разнастайнасць прыёмаў стварэння кампазіцыі жылых дамоў, тэхнікі іх будаўніцтва. Многія дамы набліжаліся па сваім характары да сялянскага жылля. У іншых выпадках высокія прамавугольныя ў плане дамы ставілі шчыльна адзін да аднаго. Іх тарцовыя фасады ўтваралі нібы суцэльны фронт забудовы рынка і гал. вуліц. У такіх дамах уваходы размяшчаліся ў вулічных тарцах, у другім ярусе былі жылыя мансарды (Клецк, Нясвіж). У Гродне зафіксаваны пабудовы, выкананыя ў тэхніцы «прускага муру». Яны вырашаліся ў 1—3 паверхі, нярэдка мелі зрубныя падклеццi. Формы пакрыцця разнастайныя: 2-схільныя, вальмавыя, паўвальмавыя з залобкамі. Распаўсюджанымі элементамі жылля былі верхнія кансольныя галерэйкі ці мезаніны, узнятыя на слупах. Некаторыя дамы мелі вонкавую шалёўку.

Асноўнай сістэмай планіроўкі, асабліва ў малых гарадах і мястэчках, была так званая веерная, утвораная шэрагам вуліц, якія разыходзіліся ад гандлёвай плошчы па розных напрамках. Гэтыя вуліцы нярэдка не злучаліся паміж сабой. Часам вуліца разгаліноўвалася ў двух і больш напрамках і зноў змыкалася каля гарадской брамы. З часам галоўныя вуліцы злучаліся паміж сабой папярочнымі вуліцамі ці завулкамі, што стварала сетку кварталаў. Да 18 ст. квартальная планіроўка не была характэрнай у цэлым для большасці гарадоў і асабліва мястэчак.

Пад уплывам рэнесанснай горадабудаўнічай культуры ў 16 — пач. 17 ст. ў шэрагу гарадоў (пераважна ўласніцкіх) праведзена карэнная рэканструкцыя, пры якой гарадская тэр. набыла геаметрычнае акрэсленне (круг, паўкруг, квадрат, прамавугольнік), развілася стройная сістэма рэгулярнай квартальнай планіроўкі. Пры гэтым вызначаліся 2 асноўныя лініі развіцця. У першым выпадку з утварэннем магутнага знешняга абарончага пояса (Слуцк, Стары Быхаў, Рэчыца) асн. акцэнт абароны горада пераносіўся на перыферыю, у другім — замак магната займаў адасобленае ад горада становішча (Нясвіж, Мір, Любча).

Развіццё мястэчак адбывалася 2 шляхамі. Многія з іх развіваліся з старых паселішчаў тыпу пасадаў, якія існавалі пры феадальных рэзідэнцыях (Беліца Лідскага р-на, Койданава, Круглае). Іх забудова ў цэлым захоўвала нерэгулярныя рысы. Толькі новыя тэрыторыі ствараліся паводле адзінага распрацаванага плана. Звычайна мястэчкі абарончых збудаванняў не мелі, планіроўка падпарадкоўвалася сістэме дарожных камунікацый. Некаторыя мястэчкі такога тыпу набліжаліся да невял. гарадоў. Пераважалі ўсё ж мястэчкі, нанава створаныя на свабодных тэрыторыях, звычайна на буйных гандлёвых гасцінцах. Як правіла, такія паселішчы мелі дакладную рэгулярную планіроўку з уніфікаванымі стандартнымі ўчасткамі двароў і агародаў, з вылучэннем вытв. і гасп. зон у перыферыйных частках. Паводле сваіх планіровачных асаблівасцей, мястэчкі адрозніваліся адно ад аднаго. Найпрасцейшы тып яго планіроўкі — мястэчка з адной вуліцай-дарогай. Больш характэрна для мястэчка наяўнасць 2—3 вуліц, адна з якіх была гал. планіровачнай воссю. На перакрыжаванні вуліц фарміравалася гандл. плошча з крамамі, рамеснымі майстэрнямі, карчмой, шынкамі, культавымі збудаваннямі. Буйныя мястэчкі мелі радыяльна-веерную планіроўку, з элементамі квартальнай сістэмы.

У 2-й палове 17 — 1-й палове 18 ст. з прычыны эканамічнага заняпаду большасць гарадоў Беларусі практычна не развівалася, многія рэгрэсіравалі і ператварыліся ў мястэчкі (Бабруйск, Тураў, Клецк, Давыд-Гарадок і інш.). Толькі на пач. 1760-х гг. скла́ліся перадумовы для далейшага архіт.-планіровачнага развіцця гарадскіх паселішчаў. У 18 ст. ў асноўным ішоў працэс завяршэння кампазіцыі асн. гарадскіх раёнаў, асабліва цэнтраў за кошт буд-ва палацавых рэзідэнцый, каталіцкіх кляштараў і касцёлаў у стылі барока. У гэты час набылі выразныя барочныя рысы цэнтр. частка Гродна, ансамблі Мінскага Верхняга горада, Ратушнай пл. ў Віцебску, *Полацкай Параднай плошчы.*

З 2-й пал. 13 ст. прынцыпова змянілася тэхніка муроўкі, што выклікала пэўныя змены ў архіт. вырашэнні будынкаў. У мураваным манум. дойлідстве 14—18 ст. паступова зжываліся рысы папярэдняга старажытнарускага этапу буд-ва, творча засвойваліся прыёмы заходнееўрапейскай архітэктуры, стыляў готыкі, рэнесансу і барока.

У гатычна-рэнесанснай архітэктуры Беларусі склалася своеасаблівая сістэма дэкору фасадаў, заснаванага на дыхроміі. Выступаючыя часткі сцен былі адкрытыя, мелі натуральны колер чырвонай цэглы. Паглыбленыя часткі, нішы, пояскі, аблямоўкі і інш. элементы аздобы зацiраліся шчыльным слоем белай вапны. Гэта ствapала бела-чырвоную колеравую гаму, надавала фасадам урачыстаць. З канца 16 ст., асабліва ў барочных пабудовах, стала пераважаць пластыка атынкаваных паверхняў сцен.

Замкавае буд-ва на працягу 14—18 ст. прайшло шэраг якасных этапаў развіцця, зазнала перыяды ўзлёту і заняпаду. У 14 ст. паявіліся замкі тыпу «кастэль», якія прынцыпова адрозніваліся ад «данжонаў» 13 ст. Яны ўяўлялі сабой замкнёныя 4-вугольныя збудаванні з магутнымі сценамі і адной ці дзвюма мураванымі вежамі ў процілеглых вуглах (Крэва, Ліда). На дзядзінцах узводзілі разнастайныя драўляныя збудаванні жылога, гасп., ваеннага прызначэння. Такія замкі будаваліся на раўніннай мясцовасці, абводзіліся вадзянымі равамі. Больш складаны комплекс — замак у Навагрудку, пабудаваны на месцы старажытнарускага драўлянага з каменю і цэглы, на высокай Замкавай гары. Бу-


Лідскі замак. 14 ст. З малюнка Н. Орды. 19 ст.

даваўся ён паступова і ў 16 ст. меў 7 баявых вежаў, унутры знаходзіліся палац і замкавая царква (гл. ў арт. *Навагрудскія замкі*). Яшчэ больш умацаваных рэзідэнцый меў замак Вітаўта ў Гродне (гл. ў арт. *Гродзенскі Стары замак*).

Значныя работы па ўзвядзенню мураваных замкавых умацаванняў вяліся ў 14—15 ст. У пач. 14 ст. вымураваны ўмацаванні аршанскага дзядзінца (гл. *Аршанскі замак*). У 14 ст. князь Альгерд і яго жонка Марыя абнеслі мураванымі сценамі і вежамі Верхні і Ніжні замкі Віцебска (гл. *Віцебскія замкі*).

Раннія бел. замкі мелі суровы непрыступны выгляд — тоўстыя моцныя сцены, магутныя валы і равы. Фасады амаль пазбаўлены аздобы, за выключэннем асобных элементаў раманскага (аркатура ў Лідскім замку) або гатычнага паходжання. Змрочнымі былі і інтэр'еры гэтых збудаванняў — масіўныя скляпенні, маленькія акенцы-байніцы, вузкія лесвіцы ў тоўшчы сцен.

У 16 ст. замкавае буд-ва набыло якасна новыя рысы, што было звязана з непасрэдным уздзеяннем архітэктуры рэнесансу. Найбольш гэтая плынь захапіла прыватнаўласніцкія замкі, у якіх асн. акцэнт абароны паступова пераносіўся на знешнія ўмацаванні (валы і бастыёны). Самі замкі набылі характар палацавых рэзідэнцый з багатым аздабленнем фасадаў і інтэр'ераў. На прамежкавай стадыі развіцця знаходзіцца гатычна-рэнесансны Мірскі замак (гл. ў арт. *Мірскі замкава-паркавы комплекс*), у якім абарончыя рысы прасочваюцца досыць выразна. Нясвіжскі замак (гл. ў арт. *Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс*), збудаваны ў канцы 16 ст. ў рэнесансных традыцыях, меў свабодную адкрытую дынамічную кампазіцыю. Гэты працэс працягваўся і ў 17 ст. *(Гальшанскі палац, Смалянскі замак, Любчанскі замак).*

Пераважнае месца ў абарончым дойлідстве займалі драўляныя замкі. Іх пашырэнне было звязана з адноснай хуткасцю іх будаўніцтва і аднаўлення, наяўнасцю высокакваліфікаваных дойлідаў і цесляроў. У 1-й палове 16 ст. драўлянае замкавае буд-ва дасягнула высокай


Руіны замка і Міхайлаўскі касцёл у Навагрудку. З малюнка Н. Орды. 1876.


Замак у в. Смаляны Аршанскага раёна. 1626. З малюнка Ю. Пешкі. 18 ст.



Палацава-паркавы комплекс у Нясвіжы 16—18 стагоддзяў. Выгляд палаца з паўночна-ўсходняга боку.

ступені развіцця. Лёгкія канструкцыі тыпу астрога і замёта ў іх былі заменены на больш магутныя зрубныя гародні. Драўляныя сцены і вежы ўзводзілі таксама пры рэканструкцыі некаторых мураваных замкаў (Орша, Віцебск, Полацк). Вежы будавалі ў найб. слабых месцах абароны, таму іх размяшчалі нераўнамерна адносна даўжыні ўмацаванняў. Архіт.-мастацкае аблічча замкаў стваралі вежы 2 тыпаў: клецкія, рубленыя чацверыкамі і завершаныя 2-схільнымі ці шатровымі пакрыццямі, і шатровыя, ці «круглікі»,— васьмерыковыя або тыпу «васьмярык на чацверыку», накрытыя шатрамі. Больш прымітыўныя тыпы вежаў — раскаты і бычкі. Некаторыя вежы мелі наверсе «веставыя» званы і «трапіла» — крытыя дазорныя пляцоўкі.

Новы ўздым замкавага буд-ва прыпадае на час руска-польскай вайны сярэдзіны 17 ст. Найбольш моцныя ўмацаванні меў у гэты час Віцебск (3 замкі са сценамі-гароднямі і астрогам, тэрасамі, гароднямі і астрогам, 33 вежамі). У некаторых замках будавалі баявыя высокія вежы, не звязаныя са сценамі (Полацк, Брэст і інш.). Паяўленне ў 16 ст. новых сістэм бастыённых фартыфікацый стварала перадумовы пачатку новага этапу, які найб. ярка выявіўся ў прыватнаўласніцкіх рэзідэнцыях. Характэрна, што ў большасці замкаў не выкарыстоўвалі магутныя канструкцыі тыпу тарас, а вярнуліся да лёгкіх астрогаў (Астрашыцкі Гарадок, Бабруйск, Дуброўна, Свіслач Асіповіцкага р-на). У дзядзінцах будавалі палацы, гасп. збудаванні.

Адной з найважнейшых галін драўлянага буд-ва гэтага часу стала сядзібна-палацавае дойлідства. Пашырэнне сядзіб вызначалася панаваннем фальваркова-прыгоннай сістэмы гаспадаркі. У 16—18 ст. існавалі

Мірскі замак. 16 ст. Выгляд з боку сажалкі.

разнастайныя тыпы сядзіб. Найбольш простыя з іх — шляхецкія двары, якія нагадвалі хутары і ўключалі ў свой склад жылы дом, некалькі гасп. пабудоў, гумно, абору. Больш буйныя сядзібы складаліся з трох комплексаў: панскага двара, гуменнага і абароннага. Пры некаторых дварах існавалі фальваркі, комплексы млыноў, бровараў і інш. пабудоў. Звычайна забудова вялася па перыметры двара, цэнтральная частка падвор'я заставалася свабоднай. З 16 ст. вядомы сядзібы, у якіх жылы дом і брама складалі гал. планіровачную вось ансамбля. Такі стыль забудовы прывёў да стварэння ў 18 ст. барочных П-падобных кампазіцый, утвораных жылым домам або палацам і 2 бакавымі флігелямі, якія часам развіваліся ў бакавыя крылы дома. У планіроўцы сядзіб вял. ролю адыгрывалі натуральныя і штучныя вадаёмы. Аднак у 17 ст. садова-паркавае мастацтва, за выключэннем пэўнай колькасці «італьянскіх садоў», не было шырока распаўсюджана. Большасць садоў і паркаў рэгулярнага, потым пейзажнага тыпу ўзнікла ў 18—19 ст.

Для сядзібных дамоў выкарыстоўвалі розныя тыпы планіровак: ад традыцыйных 2- і 3-камерных да складаных шматпакаёвых з анфіладным або калідорным размяшчэннем парадных, жылых і гасп. пабудоў. Ствараліся сіметрычныя і асіметрычныя кампазіцыі. Асабліва маляўнічы выгляд мелі сядзібныя дамы на падклецях, з разнастайнымі надбудовамі тыпу мезанінаў, дамы з вежамі ў цэнтры або бакавымі вежападобнымі алькежамі (*Сёмкаўскія сядзібы*), дахамі складанай формы (ламанымі, яруснымі). Вялікую маст. ролю адыгрывалі ганкі (некаторыя ў выглядзе ярусных вежаў), галерэі рэнесанснага тыпу, купалы, каваныя флюгеры і інш. (Беліцкая сядзіба ў Лідскім р-не). З 17 ст. вядомы таксама і крыжападобныя кампазіцыі дамоў. У замках паявіліся манум. драўляныя палацы з высокімі гадзіннікавымі вежамі пасярэдзіне корпуса (*Лоскі замак*).

У інтэр'еры жылых драўляных дамоў 16—17 ст. пераважалі ў асноўным традыцыйныя формы. Інвентары таго часу сярод мэблі называюць лавы, зэдлікі, крэслы, сталы, паліцы, шафы, якія характарызаваліся як цяслярскія, сталярскія або сніцарскія вырабы. Сцены часам аздаблялі чорным, зялёным, чырвоным сукном або палатном, нярэдка размаляваным, узятым у ліштвы. Выкарыстоўваліся таксама папяровыя ці скураныя шпалеры, разныя панелі і столі, зрэдку і лепка з гіпсу ў тэхніцы стука. Дзверы аздаблялі разьбой, размалёўкай або інкрустацыяй з каштоўных парод дрэва. Дэкаратыўны характар мелі печы з паліванай кафлі або каляровага фаянсу. У вял. парадных памяшканнях да бэлек перакрыцця прымацоўваліся ланцугамі ліхтары і люстры ў выглядзе галоў дзікіх звяроў. Дэкаратыўны лад інтэр'ераў дапаўнялі абразы, партрэты, жанравыя карціны, карты, гравюра, лубачныя выявы. У 18 ст. мастацкае аздабленне інтэр'ераў узбагачаецца барочнымі формамі (размалёўка, скульпт. пластыка, творы дэкар.-прыкладнога мастацтва і інш.).



Дом-крэпасць у в. Гайцюнішкі Воранаўскага раёна. 1613. З малюнка Н. Орды. 19 ст.

Падобным жа кірункам развівалася і мураванае сядзібна-палацавае дойлідства. У пач. 17 ст. для яго яшчэ характэрна захаванне абарончых рыс, лаканізм у аздабленні фасадаў і інтэр'ераў (*Гайцюнішскі дом-крэпасць*). У барочных палацах 18 ст. ўжывалася П-падобная схема планіроўкі, якая стваралася гал. палацавым корпусам і флігелямі або бакавымі крыламі (палацы ў Пінску, Ружанах, Магілёве і інш). У цэнтры палаца размяшчалася парадная зала, часам авальнай або круглай у плане формы. Пераважала анфіладная планіроўка. Фасады аздабляліся пілястрамі, нішамі, рустыкай, раскрапаванымі антамблементамі, складанымі абляміоўкамі акон і дзвярэй. Пэўную эстэтычную ролю выконвалі высокія ламаныя дахі.

Для сядзіб характэрны разнастайны комплекс гасп. і вытв. збудаванняў. Сярод іх вылучаліся пабудовы для захавання харчовых запасаў і маёмасці — клеці, свірны, спіхлеры і інш. У выніку сінтэзавання рыс жылога і гасп. збудаванняў у 16 ст. склаўся такі тып пабудовы, як лямус. Ад свірнаў паходзяць сядзібныя і замкавыя арсеналы, прызначаныя для захавання зброі і іншай ваеннай амуніцыі. Зрэдку яны надбудоўваліся над сядзібнымі дамамі ці палацамі. У некаторых сядзібах існавалі майстэрні, напрыклад па адбельванні і валкаванні палатна (бялільні і валкоўні). Для захоўвання садавіны і гародніны будавалі варыўні — невял. курныя хаткі з сенцамі і каморамі. Існавалі разнастайныя падземныя ці наземныя збудаванні для захоўвання прадуктаў — піўніцы, паграбы, скляпы і інш. Іх звычайна будавалі побач з жылым домам або пад ім, зрэдку — пад свірнам ці клеццю. Сярод сядзібных пабудоў важнае месца займаў бровар, які звычайна стаяў каля вадаёма ці калодзежа. Каля яго размяшчаліся лазня, саладзільня, жыллё броварных работнікаў і інш. У кожнай сядзібе абавязкова былі стайні — доўгія збудаванні з кармушкамі-яслямі, сховішчамі для сена для трымання коней. Пры некаторых стайнях існавалі вазоўні і маштарні (майстэрні па рамонце экіпажаў). Традыцыйнымі пабудовамі фальварка былі сырніца, лазні, пуні і адрыны.

Характэрнымі вытворчымі пабудовамі з'яўляліся вадзяныя млыны (колавыя, наплаўныя). Ветракі да сярэдзіны 17 ст. на Беларусі не мелі значнага пашырэння, у 18 ст. вядомы ветракі прымітыўнага стрыжнёвага або козлавага тыпаў і больш складаныя шатровыя.

Буйныя грамадскія будынкі гарадоў і мястэчак былі прадстаўлены ратушамі, гандлёвымі радамі, гасцінымі дварамі, корчмамі. Найбольш масавымі збудаваннямі грамадскага прызначэння былі шынкі, корчмы і аўстэрыі. Іх простыя формы нагадвалі традыцыйнае нар. жыллё. Вялікія гарадскія аўстэрыі вылучаліся больш развітым складам памяшканняў, іх сацыяльнай дыферэнцыяцыяй (святліцы для заможных пастаяльцаў і курныя — для простага люду). Корчмы звычайна размяшчаліся на рынку, гал. вуліцах гарадоў і мястэчак, пры рачных пераправах, каля млыноў і інш. Іх будаўніцтва рэгламентавалася заканадаўствам. У 18 ст. на аснове корчмаў і аўстэрый развіваліся гасцініцы, харчэўні і інш. Асобным відам карчмы для іншаземных купцоў быў гасціны двор.

На гандл. плошчах гарадоў будавалі ратушы. Выявы ратуш у Гродне, Віцебску, Нясвіжы, Клецку захаваліся на гравюрах 16—17 ст. Гэта былі высокія вежападобныя

рэнесансныя збудаванні, якія сваім ярусным сілуэтам вызначалі грамадскі цэнтр горада, падкрэслівалі значэнне гандл. плошчы ва ўсёй яго архіт.-прасторавай структуры. Ратушы ў 18 ст. набылі больш выразныя дынамічныя вертыкальныя кампазіцыі (ратушы ў Магілёве і Віцебску). Пры ратушах і каля іх у 16—17 ст. узнікалі гандл. рады, якія фарміравалі забудову гандл. плошчы. Асноўным матывам іх архітэктуры з'яўлялася рэнесансная аркадная галерэя. Галерэі і ганкі ўласцівы і іншым тыпам збудаванняў.

Паводле архіўных звестак, у 16—17 ст. буйных спецыяльных школьных (за выключэннем каталіцкіх калегіумаў) і лячэбных збудаванняў не існавала. Школы звычайна будавалі на аснове 3-камернага плана, з сенцамі ў цэнтры і 2 класамі па баках. Традыцыйную 2- і 3-камерную планіроўку мелі шпіталі (багадзельні пры цэрквах і касцёлах). Дакументы 18 ст. змяшчаюць звесткі пра тэатральныя будынкі ў Нясвіжы, Слуцку, Слоніме, Гродне, Паставах і інш. Яны мелі ўмяшчальныя залы з развітай сцэнічнай часткай, артыстычнымі пакоямі. У слонімскім тэатры была вял. сцэна, прызначаная для паказу тэатралізаваных баталій шматлікіх коннікаў, водных феерый, фантанаў, асветленых бенгальскімі агнямі.

У сярэдзіне 18 ст. ў рэчышчы архітэктуры барока фарміраваўся стыль ракако, адметны выключнай арыгінальнасцю прыёмаў і прывабнасцю форм архіт. экспрэсіі. Яго прадстаўнікамі на Беларусі былі высокапрафесійныя дойліды А. А. Гену, І. К. Глаўбіц, Л. Грынцэвіч, А. Чаховіч, архітэктуры нямецкага барока і ракако Я. Ф. Кнобель, М. Д. Пёпельман, І. Х. Яўх, выхадцы з Польшчы Б. Касінскі, Лаўбе. У сваёй творчасці дойліды паўстаюць таленавітымі мастакамі, скульптарамі і рысавальшчыкамі. Ім уласцівы імкненне да вытанчанасці архіт. форм і ліній, пышнасць дэкору, неабмежаваная фантазія. Майстры ракако ў сваіх творах адмаўляліся ад тэктанічнага сэнсу стоечна-бэлечнай сістэмы — канструкцыйнай асновы будынка. Класічная ордэрная сістэма з яе архітэктонікай зводзілася да дэкаратыўнасці: геаметрычнасць антаблементаў і прамалінейнасць карнізаў парушалася іх інтэнсіўнай крапоўкай, выгнутасцю, разрывамі; 3-вугольныя франтоны разрываліся ці змяняліся шчытамі плаўнага малюнка; капітэлі і кансолі набывалі арнаментальна-ракайльны выгляд; калоны скручваліся ў спіралі ці камуфліраваліся пад расліну. Стыль ракако развіваўся ў архітэктуры шматлікіх магнацка-шляхецкіх палацаў і сядзіб, паляўнічых домікаў, паркавых павільёнаў. Скульптурна-пластычную аб'ёмную кампазіцыю ім надавалі мансардавыя дахі *(Гродзенскі Каралеўскі палац)*, вуглавыя алькежы з фігурным купалам (палац *Дзятлаўскай сядзібы*), шматпланавасць фасада. Для вылучэння цэнтра палацавага фасада дойліды выкарыстоўвалі пластычны гранёны ці акруглы рызаліт, які звычайна быў пануючым у сілуэце будынка *(Станіславаўская сядзіба, Гродзенская Аўгустоўская сядзіба)*. Балкон ці тэраса, якія выступалі на фасадзе, агароджваліся ажурнымі ўвагнута-пукатымі кованымі рашоткамі *(Лявонпальская сядзіба)*. У арсенале дэкар. форм палацавага інтэр'ера вылучаліся тонкапрафіляваныя хваліста-выгнутыя карнізы і сандрыкі, ляпныя гірлянды, ракавіны, картушы, завіткі, геральдычныя знакі і манаграмы, «люстэркавая» аправа разнастайных па канфігурацыі акон. У вонкавую архітэктуру палаца ўводзіўся інтэр'ерны дэкаратыўны атрыбут — вазы *(Чарнаўчыцкі палац)*. Новае, што ўнёс стыль у палацава-сядзібнае буд-ва,— пашырэнне набору апартаментаў: разам з парадным заламі ўзнікалі невял. ўтульныя пакоі, гасціныя, альковы. Канфігурацыя параднай залы набыла складаную форму. Дынаміка авала, паліганальнасць многавугольніка стварала ўражанне нерасчлянял-насці, прасторавай неабмежаванасці інтэр'ера. Для стварэння глыбіннай кампазіцыі інтэр'ера шырока выкарыстоўваліся шматлікія люстэркі, якія ўтваралі эфект перспектывы ілюзорнай анфілады, узмацнялі ўражанне раскошы і візуальна-аптычнай шматпланавасці. Інтэр'ер узбагачалі новыя дэкар. элементы — ракайлі, напышлівыя панелі, залачэнне і пастэльная колеравая палітра. Гэтаму спрыяла і размалёўка сцен пад паркавую расліннасць ці трэльяжную сетку, манум. жывапіс плафонаў. У ракайльным інтэр'еры палацаў і сядзібных дамоў шырока ўжываўся сінтэз мастацтваў: архітэктуры, жывапісу, скульптуры, дэкар.-прыкладнога мастацтва (разьба па дрэве, мэбля і інш.).



Віцебская ратуша. 1775. Чарцёж.

Архітэктура ракако ўзбагаціла творчы арсенал прафесіі дойліда новымі выразнымі сродкамі і прыёмамі. Як і ў папярэднія эпохі, гэта было гіст. увасабленнем у дойлідстве навізны і сучаснасці, імкненне да ўзнаўлення сродкаў маст. выразнасці. Лёгкая і вытанчаная архітэктура ракако не дайшла да нашага часу ва ўсёй сваёй пышнай раскошы і вечнай прывабнасці і захавалася ў нешматлікіх, звычайна значна змененых помніках.

**Культавае дойлідства 15—18 ст.** У манументальным культавым дойлідстве 15—18 ст. найб. яскрава і паслядоўна выявіліся самабытныя архіт.-маст. характарыстыкі бел. готыкі, рэнесансу і барока, абумоўленыя спалучэннем традыцый мясцовага буд-ва з заходнееўрапейскімі сацыяльна-палітычнымі і культ. ўплывамі.

Самабытная архітэктура культавых пабудоў бел. готыкі склалася на аснове зліцця структуры руска-візантыйскага крыжова-купальнага храма дамангольскага перыяду і кампазіцыйна-канструкцыйных прыёмаў мясцовага замкавага дойлідства. Шырокую вядомасць набылі цэрквы абарончага тыпу канца 15 — пач.

16 ст.: *Супрасльская царква-крэпасць, Сынковіцкая царква-крэпасць, Мураванкаўская царква-крэпасць.* Яны ўяўляюць сабой кампактныя ў плане блізкія да прамавугольніка аб'ёмы, фланкіраваныя па вуглах круглымі баявымі вежамі з байніцамі. Верх сцен апяразваў шэраг навясных байніц — машыкуляў. У час небяспекі абаронцы храма хаваліся на гарышчы пад высокімі клінападобнымі дахамі. У скляпеністых сутарэннях пад будынкам размяшчаліся сховішчы правіянту. Асн. памяшканне культавага назначэння (кафалікон) падзяляецца 4 слупамі невял. сячэння на роўныя па вышыні прасторавыя ячэйкі-травеі, перакрытыя гатычнымі нервюрнымі скляпеннямі розных тыпаў (крыжовымі, зорчатымі, сотавымі). Пры агульным падабенстве гэтых помнікаў у іх ёсць пэўныя адрозненні, якія адлюстроўваюць паступовую эвалюцыю форм і канструкцый.

Узорам для буд-ва храмаў гэтага тыпу, верагодна, стаў Сафійскі сабор у Полацку, які на мяжы 15—16 ст. быў перабудаваны і набыў 4-вежавае завяршэнне з купалам у цэнтры. У Супрасльскай царкве-крэпасці захаваны трохапсіднасць і двухвосевая сіметрыя, уласцівыя старажытнарускаму крыжова-купальнаму храму. У Сынкавіцкай царкве-крэпасці 3 аднолькавыя паўкруглыя апсіды ўверсе аб'яднаны ў адну пры дапамозе ступеньчатых тромпаў. Мураванкаўская царква, пабудаваная пазней за іх (паміж 1516 і 1542), мае толькі адну значную па памерах алтарную аспіду. Адзначаная эвалюцыя адлюстроўвае тэндэнцыю да аднаапсіднасці, абумоўленую заходнееўрапейскімі ўплывамі.



Царква-крэпасць у в. Мураванка Шчучынскага раёна. 16 ст. Вежа.

Дэкаратыўнае вырашэнне абарончых цэркваў, як і замка ў Міры, заснавана на кантрасце чырвонага колеру адкрытай муроўкі з выбеленымі плоскімі нішамі, якія мелі завяршэнні ў выглядзе арак розных тыпаў: паўцыркульных, каробчатых, падвесных з адной альбо дзвюма гіркамі. Асноўны дэкар. акцэнт рабіўся на шчыце гал. фасада, дзе нішы разнастайных форм утваралі маляўнічую ярусную кампазіцыю.

Акрамя 4-вежавых цэркваў-крэпасцей да бел. готыкі належаць некалькі бязвежавых культавых пабудоў канца 15 — пач. 16 ст.: *Усялюбскі касцёл, Ішкалдскі Троіцкі касцёл, Навагрудская Барысаглебская царква.* Усе гэтыя храмы маюць кампактны прамавугольны асн. аб'ём і адну значную па памерах шматгранную алтарную апсіду з вімай. Абедзве часткі накрыты самастойнымі высокімі клінападобнымі дахамі з вальмамі над алтаром. Інтэр'еры будынкаў падзяляюцца слупамі на роўныя па вышыні травеі (ва Усялюбскім касцёле адзін слуп у цэнтры). Прасторавыя ячэйкі паміж апорамі перакрыты гатычнымі нервюрнымі скляпеннямі. Распор скляпенняў часткова перададзены на контрфорсы пераменнага сячэння, якія звонку ўмацоўваюць даволі вузкія сцены будынкаў. Фартыфікацыйныя элементы (баявыя вежы, байніцы, машыкулі) у збудаванняў гэтага тыпу адсутнічаюць. Традыцыйнае двухколернае вырашэнне ў іх узбагачалася ўключэннем у муроўку перапаленай цэглы-жалезняку ў выглядзе арнаментальных паясоў па нізе сцен. У дэкоры Барысаглебскай царквы ў Навагрудку выкарыстаны своеасаблівы матыў сеткаватых арачак з прафіляванай цэглы, які паўтарае на фасадах структуру нервюрных скляпенняў у інтэр'еры.

Зліццё традыцый мясцовага абарончага дойлідства з візантыйскімі і заходнееўрапейскімі ўплывамі спрыяла фарміраванню яскрава выяўленага самабытнага характару культавага дойлідства бел. готыкі. З буд-вам першых каталіцкіх храмаў у бел. архітэктуру прыўнесены яшчэ адзін тып культавай пабудовы, які ўвабраў у сябе рысы цэнтральнаеўрапейскай готыкі. Гэты тып храма ўяўляе сабой 3-частковую падоўжна-восевую структуру і складаецца з адной алтарнай апсіды, асн. зальнага аб'ёму і ўваходнага аб'ёму-бабінца. Усе аб'ёмы звычайна маюць аднолькавую вышыню, аб'яднаны агульнай цягай карніза і накрыты асобнымі дахамі. Паколькі шырыня аб'ёмаў розная, а схіл крокваў дахаў аднолькавы, ствараецца дынамічная кампазіцыя, якая нарастае ад алтара да ўвахода. Над бабінцам звычайна ўзвышаецца масіўная вежа, якая складаецца з некалькіх ярусаў чацверыкоў і васьмерыкоў, завершаных шатровым дахам, па архітэктуры блізкія да вежаў бел. замкаў. Першапачаткова гэты храм меў выключна гатычную канструкцыю і дэкор *(Гнёзнаўскі касцёл Міхаіла Архангела).*

У сярэдзіне 16 ст. з пашырэннем рэфармацыйнага руху пачалося актыўнае буд-ва пратэстанцкіх храмаў. Кальвінскія зборы ў Асташыне, Койданаве набылі падобную 3-часткавую 1-вежавую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, але вызначаюцца іншымі канструкцыйнымі прыёмамі і характарам дэкору. Замест гатычных нервюрных скляпенняў з'явіліся цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, якія перакрывалі ўсю прастору храма. Знікалі контрфорсы. Стральчатыя абрысы праёмаў замяніліся паўцыркульнымі. Фасады атынкоўваліся і атрымлівалі стрыманы ордэрны дэкор. Скляпенні часта ўпрыгожвалі ляпным дэкорам у выглядзе плоскіх кесонаў геаметрычнага малюнка. Відавочна, што адначасова з станаўленнем рэнесанснага светапогляду ў грамадскім жыцці Вял. кн. Літоўскага манум. культавае дойлідства набывала рысы архітэктуры рэнесансу. Аднак для помнікаў мясцовага рэнесансу характэрна захаванне абарончых элементаў.

Рысы рэнесансу набывалі і каталіцкія храмы 2-й паловы 16 ст. Так, *Чарнаўчыцкі Троіцкі касцёл* спалучае ляпны дэкор скляпенняў, рэнесансны бязвежавы фасад і абарончую круглую вежу каля апсіды прэсбітэрыя. Незвычайную для каталіцкага храма аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю з планам у выглядзе роўнаканцовага грэчаскага крыжа і дзвюма круглымі вежачкамі па баках уваходнага аб'ёму меў першы мураваны касцёл у Нясвіжы, які пазней быў разбураны для ўзвядзення на яго месцы новага касцёла езуітаў.

Рэфармацыйны рух выклікаў адваротную рэакцыю каталіцызму — контррэфармацыю, якую ўзначальваў гал. чынам ордэн езуітаў. Важным сродкам укаранення ў сацыяльнае жыццё ідэалагічнай праграмы контррэфармацыі стаў архіт.-маст. стыль барока. Першым збудаваннем у стылі барока на тэр. ўсёй Рэчы Паспалітай з'явіўся *Нясвіжскі касцёл Божага Цела,* пабудаваны ў 1587—93 паводле праекта Дж. М. Бернардоні. Будынак у агульных рысах паўтарае гал. ордэнскі храм езуітаў Іль Джэзу ў Рыме і ўяўляе сабой першую ў бел. дойлідстве 3-нефавую крыжова-купальную базіліку з планам на ўзроўні карніза ў выглядзе лацінскага крыжа і бязвежавым фасадам, насычаным узбуйненай барочнай ордэрнай пластыкай. Пры пэўнай блізкасці да італьянскага прататыпа Нясвіжскі касцёл мае адметныя рысы: аднолькавая пластычная апрацоўка ўсіх фасадаў, спрошчаная інтэрпрэтацыя ордэра, наяўнасць бакавых гранёных капліц за межамі базілікі. Як сведчаць праектныя чарцяжы помніка, першапачаткова па баках гал. фасада былі зроблены круглыя вежачкі, традыцыйныя для бел. готыкі, з вітымі хадамі на эмпоры (галерэі) у бакавых нефах. Каля 1705 эмпоры і вежы былі ліквідаваны.



Касцёл у в. Камаі Пастаўскага раёна. 1603—06. З малюнка 19 ст.

Запазычаныя з Італіі архіт. формы барока яшчэ доўга спалучаліся ў мясц. дойлідстве з элементамі готыкі і рэнесансу. Ёсць падставы меркаваць, што фарныя касцёлы ў Клецку і Гродне пабудаваны аднвачасова з Нясвіжскім касцёлам Божага Цела. *Клецкі Троіцкі касцёл* захаваў готыка-рэнесансную трохчасткавую структуру з асн. зальным аб'ёмам і масіўнай вежай над бабінцам, шматгранную апсіду і контрфорсы. Касцёл у Гродне меў базілікальную структуру, схаваную ў суцэльным аб'ёме, шматгранную апсіду і вежу пры ўваходзе, а таксама яшчэ 2 вежачкі з усходамі каля бабінца і алтара. Мікалаеўскі касцёл у Міры, пабудаваны ў 1599—1605,— трохнефавая базіліка (бяскупальная), мае 3-апсіднае вырашэнне алтарнай часткі, характэрнае бел. праваслаўным храмам, і 3 вежы на гал. фасадзе: шмат'ярусную чацверыковую ў цэнтры і 2 невял. круглыя з вітымі ўсходамі абапал бабінца.



Касцёл у в. Гнезна Ваўкавыскага раёна. 16 ст. Бакавы фасад.

Самабытныя кампазіцыі з шматграннымі няроўнабаковымі планамі мелі касцёл Рафала на гары Анельскай пад Нясвіжам (1584—92) і кальвінскі збор у Смаргоні (1606—12), фасады якога завершаны дэкаратыўна-абарончым атыкам, найбольш характэрным элементам архітэктуры мясц. рэнесансу. Падобны атык мелі таксама мураваныя сінагогі ў Старым Быхаве і Пінску.

На мяжы 16—17 ст. культавыя пабудовы мелі рознастылявы характар. Працягвалі выкарыстоўвацца рэнесансныя архіт. формы, пераважна ў буд-ве рэфармацкіх храмаў, якія пазней былі перароблены пад касцёл, напрыклад, у в. Дзераўная (1590), у Заслаўі (пач. 17 ст.), Замосці (1620), Крамяніцы Дольнай (1617). Касцёлы бенедыкцінак у Нясвіжы (1590—96) і кармелітаў у Ружанах (1617) таксама захоўвалі трохчасткавую аднавежавую готыка-рэнесансную структуру. Касцёлы бернардзінцаў у Гродне (1595—1618) і Іўе (каля 1600) маюць гатычныя шматгранныя апсіды, умацаваныя контрфорсамі, але іх барочныя фасады плоскія, што сведчыць пра паступовае пранікненне ў манум. дойлідства эстэтычнай канцэпцыі барока.

Заключэнне ў 1596 царкоўнай Берасцейскай уніі стала прычынай абвастрэння ў 1-й палове 17 ст. рэлігійна-палітычнай барацьбы. Саперніцтва паміж уніятамі, католікамі і праваслаўнымі ў сферы культавага буд-ва вяло да выкарыстання найб. выразных архіт. сродкаў барока і сінтэзу іх з мясц. будаўнічымі прыёмамі папярэдняга часу. У выніку на працягу 17—18 ст. сфарміравалася своеасаблівая архіт.-маст. сістэма бел. барока. Ранні этап яго станаўлення завяршыўся фарміраваннем характэрнага базілікальнага 1-апсіднага тыпу храма з 2-вежавым фасадам: касцёлы ў Дзятлаве (1624), брыгітак у Гродне (1642—51), Вішневе (1637—41) і інш.

У адрозненне ад абарончых храмаў бел. готыкі, у архітэктуры барока вежы страцілі сваё функцыянальнае прызначэнне і сталі важнымі кампазіцыйнымі элементамі. Галоўны 2-вежавы фасад трактаваўся як куліса для ўсёй кампазіцыі збудавання і завяршаў агульную дынаміку архіт. мас. Манументальныя культавыя пабудовы звычайна размяшчаліся сярод нізкай драўлянай забудовы і фарміравалі панарамы гарадоў і мястэчак. Таму стварэнне маляўнічага сілуэта, дэталёвая распрацоўка ўсіх фасадаў стала спецыфічнымі рысамі архітэктуры бел. барока. Яго асн. характарыстыкі — манументальнасць, тэктанічнае адзінства аб'ёмаў, адпаведнасць гарызантальных і вертыкальных чляненняў: касцёлы аўгусцінцаў у Міхалішках, кармелітаў у Засвіры, бернардзінцаў у Мінску, цыстэрцыянцаў у Вістычах, бернардзінак у Слоніме і інш.

Пры буд-ве найб. значных культавых збудаванняў выкарыстоўваўся тып 3-нефавай крыжова-купальнай базілікі з 2-вежавымі гал. фасадамі: уніяцкі Успенскі сабор у Жыровічах, праваслаўны Богаяўленскі сабор у Магілёве, касцёл езуітаў у Гродне. Праваслаўнае культавае дойлідства трывала захоўвала тып крыжова-купальнага 3-апсіднага храма з планам у выглядзе роўнаканцовага грэчаскага крыжа: Успенскі сабор жаночага Куцеінскага манастыра пад Оршай (1631—35), Успенская і Пакроўская цэрквы ў Магілёве (канец 17 ст.), Мікалаеўская царква ў Магілёве (1669—72).

Роля вежаў у кампазіцыі храмаў паступова ўзрастала (касцёлы францысканцаў у Івянцы, бернардзінцаў у Беніцы, кармелітаў у Глыбокім). Позняму бел. барока ўласцівы іх надзвычайная маляўнічасць і пластычнасць, шматпланавая прасторавая структура фасадаў, багацце святлаценi, стромкасць і лёгкасць, якія надавалі збудаванням вытанчаныя прапорцыі, фігурныя скразныя праёмы, хвалістыя абрысы вежаў і франтонаў.

Архіт.-маст. сістэма позняга барока ў манум. дойлідстве Вял. кн. Літоўскага атрымала ў мастацтвазнаўстве назву «віленскага барока». Яго рысы найб. яскрава выявіліся ў культавых пабудовах уніятаў, напрыклад, Сафійскі сабор у Полацку (1738—60), цэрквы і манастыры базыльян у Беразвеччы (1756—79), Барунах (1747—57), Вольна (1768), Талачыне (1769—79), Богаяўленская і Крыжаўзвіжанская цэрквы ў Жыровічах (1769), Уваскрасенская царква ў Віцебску (1772) і інш. Для



Касцёл бернардзінцаў у Гродне. 17—18 стагоддзі. Фрагмент інтэр'ера.



Касцёл у в. Крамяніца Зэльвенскага раёна. 1617.



Манастыр базыльян у в. Жыровічы Слонімскага раёна. 17 ст. Званіца.

Полацкі Сафійскі сабор. 18 ст. Агульны выгляд.



Полацкі Сафійскі сабор. 18 ст. Інтэр'ер.

шэрага каталіцкіх храмаў гэтага перыяду характэрны больш груваздкія манум. формы, якія склаліся пад уплывам архітэктуры паўночна-італьянскага барока: касцёлы кармелітаў у Мядзелі (1739—54) і Магілёве (1739—52), мальтыйцаў у Сталовічах (1740—46), бернардзінцаў у Будславе (1767—83), езуітаў у Полацку (1745) і Лучаі. У меншай ступені ў каталіцкім буд-ве 2-й паловы 18 ст. знайшлі ўвасабленне маст. характарыстыкі віленскага барока: касцёлы ў Лужках, Слоніме, Германавічах, дамініканцаў у Смалянах і Дунілавічах.

Дэкаратыўная пластыка збудаванняў, аснову якой складала ордэрная сістэма, на працягу 17—18 ст. эвалюцыяніравала ад адзінкавых пілястраў і простых карнізаў да шматлікіх раскраповак, вязак пілястраў і паўкалон, хвалістых антаблементаў. Аздоба інтэр'ераў помнікаў віленскага барока ўзбагачалася маляўнічай лепкай у тэхніцы стука. Пластычнае вырашэнне мураваных алтароў, амбонаў, абрамленняў парталаў набыла ў сярэдзіне 18 ст. рысы ракако: інтэр'еры касцёлаў у Гродне, Слоніме, Вішневе, Новай Мышы, Ішчалне і інш. Важнае значэнне мелі манум. фрэскавыя размалёўкі, якія дапаўнялі архіт. прастору. Мастацкай цэласнасцю вызначаецца дэкор інтэр'ераў касцёлаў езуітаў у Нясвіжы, Гродне, кармелітаў у Магілёве, францысканцаў у Пінску.

Культавыя будынкі часта ўзводзілі ў комплексе з манастырамі. Мастацкі вобраз ансамбля будаваўся звычайна на кантрастным спалучэнні суровай простай архітэктуры манастырскага корпуса і ўзнёслага маляўнічага фасада храма. Ансамблевае вырашэнне характэрна для шэрагу езуіцкіх калегіумаў: у Брэсце, Мінску, Полацку, Гродне, Юравічах, кляштараў картэзіянцаў у Бярозе, місіянераў у Лыскаве і інш. Для



Кляштар картэзіянцаў у Бярозе. Канец 17 ст. З малюнка Н. Орды. 1870-я гады.

праваслаўных і уніяцкіх манастыроў уласціва большая сувязь з навакольным асяроддзем, іх будавалі звычайна з улікам рэльефу мясцовасці: базыльянскія манастыры ў Жыровічах, Віцебску, праваслаўныя Куцеінскія манастыры пад Оршай. У комплексах праваслаўных манастыроў мураваныя храмы часта спалучаліся з драўлянымі пабудовамі.

Дрэва было асн. будаўнічым матэрыялам у забудове гарадоў і мястэчак Беларусі да канца 19 ст. У адрозненне ад сялянскага буд-ва, якое мянялася і ўдасканальвалася вельмі павольна, на развіццё манум. культавага драўлянага дойлідства (пачынаючы з 17 ст.) аказвалі значны ўплыў мастацкія стылі, што панавалі ў мураванай архітэктуры. У драўляным культавым дойлідстве выявіліся 2 асн. тэндэнцыі развіцця: кансерватыўная, звязаная з устойлівым утрыманнем мясц. традыцый, і наватарская, якая адлюстравала працэс укаранення эстэтычных канцэпцый афіцыйных стыляў. Таму працэс развіцця форм у драўляным дойлідстве быў больш складаным, чым у мураваным, бо ён прадугледжваў не толькі абнаўленне, але і зварот да спадчыны. З гэтым звязана таксама асінхроннасць развіцця мураванай і драўлянай архітэктуры, спазненне ў апошняй тых тэндэнцый, якія вызначалі афіцыйнае культавае мастацтва свайго часу.

Вядомы 4 асн. кампазіцыйныя тыпы драўляных хрысціянскіх храмаў: падоўжна-восевы, глыбіннапрасторавы, цэнтрычны і крыжовы. Падоўжна-восевыя збудаванні мелі 1,2 або 3 зрубы (адпаведна асноўны, алтарны і бабінец), паслядоўна злучаныя адзін з адным па падоўжнай восі і завершаныя 2-схільнымі або вальмавымі дахамі (в. Здзітава Жабінкаўскага р-на). Збудаванні падоўжна-восевай кампазіцыі адлюстроўваюць прыёмы нар. дойлідства. Пад уплывам барока ў 18 ст. некаторыя храмы набылі пластычныя дахі, складаныя па форме купалкі ў завяршэнні (в. Вялікія Жухавічы Карэліцкага р-на). У 17—19 ст. развіваўся готыка-рэнесансны тып падоўжна-восевага храма з вежай-званіцай на гал. фасадзе (в. Дарапеевічы Маларыцкага р-на).

Цэнтрычныя збудаванні (4-, 6- або 8-гранныя ў плане, пад шатровымі або купальнымі дахамі) у большасці выпадкаў уяўлялі сабой капліцы або цэрквы-ратонды. Іх архітэктура склалася пад уплывам адпаведных рэнесансных будынкаў. У барочных помніках 18 ст. ўскладняецца форма даху, ён набывае ярусныя формы (в. Дунайчыцы Нясвіжскага р-на).

Паводле вырашэння глыбінна-прасторавай і крыжовай кампазіцыі храмаў 17—18 ст. выразна вылучаліся 2 рэгіёны: паўночна-ўсходні і паўднёвы (Прыпяцкае Палессе), у якіх адпаведна склаліся Віцебская і Цэнтральнапалеская школы дойлідства. Храмы глыбіннапрасторавай кампазіцыі маюць стараж. паходжанне, звязаны з традыцыяй будаваць над кожным зрубам самастойны верх вянковай або каркаснай канструкцыі. Для Віцебскай школы ў 17 ст. было характэрна вырашэнне кожнага зруба асобным высокім ярусным аб'ёмам з купальным завяршэннем, у выніку чаго ствaралася маляўнічая свабодная кампазіцыя з вертыкальнымі дамінантамі (Увядзенская і Васкрасенская цэрквы). Такая ж тэндэнцыя захоўвалася ў канцы 17—18 ст. ў крыжова-цэнтральных храмах Віцебска (Ільінская царква, Троіцкая царква Маркава манастыра). Падобныя ім былі цэрквы крыжовай кампазіцыі 17 ст. ў Аршанскім Богаяўленскім Куцеінскім манастыры, Тупічэўскім манастыры ў Мсціславе і інш. Гэта былі храмы з 1 або 5 высокімі вярхамі, яны мелі вакол сябе галерэі, што падкрэслівала іх дынамічную ярусную кампазіцыю. Стыль барока не ўнёс асаблівых карэктываў у вонкавае вырашэнне гэтых будынкаў, за выключэннем асобных дэталяў, галоўным чынам у завяршэнні.



Званіца перад касцёлам Успення Дзевы Марыі ў Пінску. 1-я палавіна 19 ст.

Палескія храмы былі кампактныя і нізкія, у іх архітэктуры захавалася больш архаічных рыс. Прысадзістыя зрубы і іх завяршэнні кампазіцыйна былі аб'яднаны ў адзінае цэлае; вылучаўся толькі цэнтр. аб'ём, якому падпарадкоўваліся ўсе астатнія (цэрквы ў в. Сінкевічы Лунінецкага, у Давыд-Гарадку Столінскага р-наў). Толькі на рубяжы 18—19 ст. пад уплывам барока ў цэнтральнапалескай школе адбыўся рэзкі скачок наперад: храмы набылі выразныя ярусныя формы, чацверыкі заменены васьмерыкамі і інш. (цэрквы ў вёсках Рубель Столінскага і Кажан-Гарадок Лунінецкага р-наў).

Адпаведна развіццю барочных форм у мураванай архітэктуры 18 ст. ў драўляным дойлідстве ўзнік шэраг збудаванняў падоўжна-восевай і глыбінна-прасторавай кампазіцыі з 2 вежамі на гал. фасадзе або ў вы-

глядзе бязвежавай базілікі (цэрквы ў вёсках Валовель Драгічынскага, Опаль Іванаўскага, Дуды Іўеўскага р-наў). Побач з культавымі будынкамі ўзводзілі шмат'ярусныя званіцы, якія ўзбагачалі сілуэт ансамбля. Званіцы будавалі 4 тыпаў: слуповыя, каркасныя, зрубныя і зрубна-каркасныя. Найбольш выразныя зрубна-каркасныя збудаванні. Традыцыйныя будынкі такога тыпу —2-ярусныя са зрубным ніжнім і каркасным верхнім ярусамі, пад шатровым дахам. У 18 ст. з'явіліся барочныя варыянты такіх званіц з 3—4 ярусамі, аркаднымі галерэямі на фасадах (Клецк, в. Мядзведзічы Ляхавіцкага р-на).

**Архітэктура канца 18 — 1-й паловы 19 ст.** Станаўленне класіцызму ў архітэктуры Беларусі адносіцца да



Царква ў в. Давыд-Гарадок Столінскага раёна. 1724.



Магілёў. З малюнка 19 ст.

1770—90 і супадае з далучэннем да Расійскай імперыі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай 1772, 1793 і 1795. Асновай для пранікнення рысаў класіцызму ў архітэктуры Беларусі стала дзейнасць па перапланіроўцы яе гарадоў, якая пачалася пасля далучэння ўсходнебеларускіх зямель да Расіі ў 1772. У 1778 зацверджаны складзеныя рус. архітэктарамі ў Пецярбургу планы гарадоў для Магілёўскай і Полацкай губерняў: Бабінавіч, Беліцы, Быхава, Віцебска, Гарадка, Клімавіч, Копысі, Магілёва, Мсціслава, Оршы, Полацка, Рагачова, Суража і інш. Планы гарадоў і іх кварталы набылі геаметрычныя абрысы, у якасці кампазіцыйных восей вылучаліся гал. вуліцы і гар. плошчы. Прынцып рэгулярнасці найбольш праявіўся пры стварэнні планаў невял. гарадоў, якія забудоўваліся на новым месцы па суседству з ранейшымі паселішчамі (Бабінавічы, Клімавічы, Гарадок і інш.). Для іх ствараліся «ідэальныя» сіметрычныя планіровачныя схемы прамавугольнага або квадратнага абрысу. У цэнтр. частцы горада звычайна размяшчалі гал. квадратную ў плане плошчу, дзе будавалі дзяржаўныя ўстановы і гасціны двор, а па вуглах — цэрквы. Абапал часта былі меншыя прамавугольныя плошчы з гандл. будынкамі і гаўптвахтай. Горад абкружалі валам і ровам. Пасярэдзіне кожнага боку ўмацаванняў ствараліся уезды ў горад, якія вуліцамі злучаліся з гал. плошчай.

У некаторых гарадах традыцыйныя сіметрыі і цэнтрычнасць планаў парушаліся ўключэннем у ансамбль існуючых пабудоў, абрысамі берагоў рэк і яроў, сараж. ўмацаваннямі (Сураж, Копысь, Стары Быхаў). У планіроўцы буйных гарадоў (Полацк, Віцебск, Магілёў) назіралася толькі спрамленне вуліц і павелічэнне кварталаў.

Першыя класіцыстычныя пабудовы з'явіліся ў вял. гарадах Беларусі і ў маёнтках дваран, якія атрымалі тут землі ад царскага ўрада. У праектаванні будынкаў удзельнічалі вядомыя рус. дойліды — М. А. Львоў, І. Я. Староў, Дж. Кварэнгі. Сярод значных пабудоў вылучаюцца паштовы дом у Полацку (1774, арх. І. Староў, не захаваўся), *Магілёўскі Іосіфаўскі сабор,* вучэбны корпус Магілёўскай семінарыі (гл. ў арт. *Магілёўскай духоўнай семінарыі будынкі*), жылы корпус і царква *Полацкага Богаяўленскага манастыра,* гал. корпус *Гомельскага палацава-паркавага ансамбля,* сядзібны дом і гасціны двор у Дуброўна (1787, арх. І. Староў, не захаваліся), *Крычаўскі палац.* Праекты гэтых пабудоў ствараліся ў асноўным у Пецярбургу.



Царква ў в. Сінкевічы Лунінецкага раёна. 18 ст.



Сядзіба ў в. Моладава Іванаўскага раёна. Канец 18 ст. З малюнка Н. Орды.

У цэнтр. і зах. Беларусі класіцызм набыў нязначнае развіццё. Асобныя пабудовы ў стылі класіцызму ствараліся ў маёнтках арыстакратыі: палацы *Гародзенскай сядзібы, Беніцкай сядзібы, Радзівілімонтаўскі палацава-паркавы ансамбль.*

У работах дойлідаў мясцовай архітэктурнай школы І. Зігфрыдана і І. Зэйдэля, творчасць якіх сфарміравалася ў час іх працы на Беларусі, рысы класіцызму спалучаліся з рысамі барока. Гэта праявілася ў праектах будынкаў павятовых дзяржаўных устаноў для гарадоў Полацкай губ.: Дрысы, Невеля, Гарадка, Веліжа, Суража (1780—85, арх. І. Зігфрыдан), забудове адм.-грамадскімі будынкамі гал. плошчаў Полацка (гл. *Полацкая Парадная плошча*), Магілёва (гл. *Магілёўская Губернатарская плошча*).

У работах дойлідаў мясцовай архіт. школы, якія стваралі ў бел. гарадах у асноўным адм.-грамадскія пабудовы, выявіліся рэгіянальныя рысы: у забудове гар. плошчаў спалучаліся рэгулярнасць і маляўнічасць (Полацк, Магілёў, Мінск); выкарыстанне традыцыйных аб'ёмна-прасторавых схем (будынкі ратуш з вял. вежай у Шклове і Мінску). У дэкоры фасадаў у якасці асн. тэмы выкарыстоўвалася чляненне плоскасці сцен лапаткамі, што было раней пашырана ў эпоху барока ў манастырскіх пабудовах.

У 1780-я гг. ў маёнтках рус. вяльможаў З. Р. Чарнышова і П. Б. Пасека паявіліся першыя пабудовы з элементамі псеўдаготыкі (*Чачэрская ратуша, Магілёўская сядзіба «Піпенберг»*). Ім уласцівы характэрнае для псеўдагатычных пабудоў рус. архіт. школы спалучэнне рыс класіцызму (аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя) і псеўдаготыкі (дэкарыраванне фасадаў). Своеасаблівасць архітэктуры канца 18 ст. характарызуецца суседствам пабудоў розных архіт. школ, спалучэннем матываў барока і строгага класіцызму.

У 1800—30-я гг. класіцызм на Беларусі дасягнуў найвышэйшага развіцця і ўступіў у перыяд т. зв. высокага класіцызму. Развіццё архітэктуры характарызавалася значным ростам гарадскога і сядзібнага буд-ва, пашырэннем тыпалогіі будынкаў, развіццём новых аб'ёмна-прасторавых і планіровачных схем, высокай якасцю архіт. рашэнняў.

У гэты перыяд узведзена шмат манументальных будынкаў — узораў сталага класіцызму ў грамадзянскай, культавай і жыллёвай архітэктуры. У архіт.-будаўнічай дзейнасці цэнтральнае месца займаў дойлід-прафесіянал з мастацкай і інжынернай падрыхтоўкай, выпускнік вышэйшай навучальнай установы. На Беларусі ў гэты час працавалі выпускнікі Віленскага і Варшаўскага ун-таў, Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. Значны ўклад у развіццё бел. архіт. школы зрабілі дойліды К. В. Бягеміле, О. І. Бетыні, Дж. Кларк, Л. Грэйпель, Ю. К. Лянчоўскі, В. Міхаэліс, Ф. Санкоўскі, Л. Саленік, М. В. Чахоўскі і інш. Архітэктары, якія працавалі на Беларусі, перадавалі свае веды і ўменне вучням. Так вучнямі Кларка ў Гомелі былі І. Аднасумаў і І. Дзячкоў, вучнем гродзенскага губ. архітэктара Бягеміле — Міхаэліс, які пазней заняў месца свайго настаўніка.

Істотныя змены адбыліся ў арганізацыі праектнай справы. З пач. 19 ст. ў бел. губернях уведзены пасады губернскіх архітэктараў, якія стваралі праекты асобных будынкаў, невял. серыі ўзорных праектаў, наглядалі за буд-вам. У 1-й палове 19 ст. на пасадах губ. архітэктараў працавалі: у Віленскай губерні К. Шыльтгауз (1803—07), Ж. Пусье (1810—21), Я. Гаўрылаў (1822—28), К. Грэгатовіч (1831—38); у Віцебскай Санкоўскі (з 1803 да 1818), Саленік (1818—20), Бетыні (1827—42); у Гродзенскай П. П. Лукін (1803—05), Лянчоўскі (1805—08), Бягеміле (1811—26), Міхаэліс (1826—35); у Мінскай Ф. Крамер (1796—1805), М. Чахоўскі (1805—25), К. Хршчановіч (1825—63 г.); у Магілёўскай В. Зражэўскі (1805—12), Раеўскі (1818—23), А. Страхаў (1825—27), Цістраў (1829—1830), П. Пастухоў (1831), А. Бусырскі (1833—37). Пасады архітэктараў былі ўведзены і ў навучальных акругах, кампетэнцыяй якіх з 1800-х стала ўзвядзенне навучальных будынкаў. На Беларусі, тэрыторыя якой уваходзіла ў 1803—32 у Віленскую навучальную акругу, працаваў арх. К. І. Падчашынскі (з 1819 да 1832). У пач. 19 ст. ў сувязі з ростам сядзібнага буд-ва склалася група архі-

тэктараў, якія працавалі пераважна па прыватных заказах (Б. Тычэцкі, А. Градзецкі, Ф. Яшчалд і інш.). Істотны ўплыў на архіт.-будаўнічую дзейнасць у 1-й палове 19 ст. зрабілі пецярбургскія ўстановы — Будаўнічы камітэт і Камісія праектаў і каштарысаў, якія займаліся праектаваннем і кантролем за будаўніцтвам на ўсёй тэр. Расійскай імперыі. Яны былі праваднікамі рус. класіцызму і пецярбургскіх традыцый. З 1830-х гг. усе праекты для дзярж. буд-ва на Беларусі разглядаліся гэтым Камітэтам і Камісіяй і ў многіх выпадках перапрацоўваліся.

У 1-й палове 19 ст. працягваліся работы па перапланіроўцы гарадоў Беларусі адпаведна горадабудаўнічым прынцыпам рус. класіцызму. Гарадскія планы прыводзілі да дакладнай рэгулярнай схемы, звычайна надавалі ім форму прамавугольнікаў ці многавугольнікаў. У 1800 складзена серыя планаў гарадоў Мінскай губ. (Бабруйск, Барысаў, Вілейка, Дзісна, Ігумен, Мазыр, Мінск і інш.). Некаторыя гарады пераносілі на новае месца (Клімавічы). Рэгулярныя планы часта праектаваліся без уліку рэльефу і мясц. традыцый. Такія праекты не маглі быць ажыццёўлены цалкам і патрабавалі частковай карэкцыі. Перапланіроўка гарадоў была падпарадкаваная інтарэсам імперскай адміністрацыі. Лепшыя землі адводзілі пад адм. ўстановы, гар. насельніцтва адцяснялі на ўскраіны і ў прадмесці (Мінск, Гродна, Магілёў). Гарады разбівалі на раёны і кварталы з абавязковымі правіламі забудовы. На ўскраінах ставілі драўляныя дамы, у цэнтры — мураваныя. Кампазіцыйнымі восямі служылі гал. вуліцы. Цэнтральныя плошчы размяшчалі на месцы перасячэння гал. магістралей. У вялікіх гарадах прадугледжаны праектам цэнтр звычайна сумяшчаўся з існуючым гал. архіт. ансамблем. Архітэктура цэнтра вызначалася новай забудовай і манум. будынкамі мінулых стагоддзяў. Праекты канца 18 — пач. 19 ст. ў гал. рысах былі ажыццёўлены да сярэдзіны 19 ст. Пазнейшыя планы распрацоўваліся па меры неабходнасці, да іх выканання прыцягваліся губернскія архітэктары і каморнікі. Для гэтых работ характэрны тыя ж прынцыпы, што і для праектаў канца 18 ст., аднак заўважаецца больш удумлівы падыход да выкарыстання старой структуры горада і існага рэльефу. Капітальная забудова (кляштары, манастыры, ратушы, мураваныя жылыя дамы, гіст. вуліцы і плошчы) улічвалася пры перапланіроўцы. Буйных ансамбляў класіцызму, нягледзячы на шырокія маштабы буд-ва, на Беларусі амаль не было створана, што тлумачыцца разгрупаваным узвядзеннем новых будынкаў і ўключэннем многіх класіцыстычных збудаванняў у старую структуру цэнтраў гарадоў. Выключэннем з'яўляецца забудова Гомеля паводле плана 1800 (арх. Кларк) і *Бабруйскай крэпасці* і *Брэсцкай крэпасці*.

Ажыццяўленне праектаў рэгулярнай планіроўкі гарадоў пачыналася з буд-ва адм. будынкаў — губернскіх і павятовых урадавых устаноў, судоў, архіваў, гар. управы. Іх архітэктура з пач. 19 ст. ў вялікай ступені збліжаецца з рус. практыкай. Пры стварэнні ўрадавых будынкаў шырока выкарыстоўваліся праекты з Расіі. Выкананыя ў 1806 праекты ўрадавых будынкаў у Вілейцы, Дзісне і Бабруйску ідэнтычныя праектам для Кіеўскай губ. З пач. 1820-х гг. адм. будынкі ўзводзіліся выключна паводле складзеных у Пецярбургу ўзорных праектаў. Паводле праекта 1822 пастаўлены будынкі ў Бабінавічах, Магілёве, Сянне, Бабруйску. Найбольш значныя пабудовы — *Гродзенскі дом віцэ-губернатара* і *Віцебскі палац губернатара* былі выкананы мясцовымі архітэктарамі з выкарыстаннем фасадаў пецярбургскіх узорных праектаў. Буд-ва па ўзорных праектах атрымала шырокае развіццё пры ўзвядзенні паштовых станцый (*Мілавідская паштовая станцыя, Няхачаўская паштовая станцыя* і інш.).

У буд-ве гандлёвых будынкаў — гандлёвых і гасціных двароў, корчмаў і шынкоў — засталіся моцныя мясцовыя традыцыі. Аднак і гэтыя пабудовы пачалі набываць формы класічнага дойлідства, не трацячы адначасова традыцыйнай планіроўкі. Праекты ў асноўным выконваліся губернскімі архітэктарамі (*Пінскія гандлёвыя рады, Навагрудскія гандлёвыя рады* і інш.). Да стварэння некаторых буйных мураваных будынкаў прыцягваліся пецярбургскія архітэктары (гасціны двор у Брэсце). Новым тыпам гандл. збудаванняў сталі 1—2-павярховыя магазіны. З канца 18 ст. архітэктура гарадскога жылога дома набывала рысы, уласцівыя тыпавому буд-ву (тыпавыя праекты былі рэалізаваны пераважна ў губернскіх гарадах). У іншых населеных пунктах пашыраны дамы, якія спалучалі традыцыйныя для нар. жылля планы і ўзорныя класіцыстычныя фасады, аздобленыя франтонамі, пілястрамі, ліштвамі, рустам. Мураваныя дамы з майстэрнямі рамеснікаў



Від Віцебска. З акварэлі Н. Орды. 19 ст.



Жылы дом на вуліцы Леніна, 39, у Брэсце. 1-я палавіна 19 ст.



Палац у Гомелі. 19 ст. Фрагмент галоўнага фасада.

і крамамі гандляроў, з мансардамі пад дахам паўтаралі ўзоры 18 ст. Пры агульнай планіровачнай структуры і падобнай кампазіцыі фасадаў дамы адрозніваліся дэкорам франтонных сцен. Матывы барока і класіцызму, спалучэнне гэтых форм пры вольнай трактоўцы дэталей былі звычайнай з'явай у забудове невял. гарадоў і мястэчак (Іўе, Ружаны, Слонім, Клецк і інш.). Тып такога дома, які склаўся за многія дзесяцігоддзі, задавальняў патрэбы ўладальніка і адпавядаў патрабаванням горадабудаўніцтва. З канца 18 ст. паявіліся гарадскія дамы новага тыпу — 2—3-павярховыя, шматкватэрныя, з магазінамі, прызначаныя для здачы ў наём.

У сувязі з пераходам адукацыі ад духавенства ў кампетэнцыю дзяржавы на Беларусі з пач. 19 ст. пашыраецца ўзвядзенне спец. будынкаў для гімназій, павятовых вучылішчаў і прыходскіх школ. Дзякуючы творчасці архітэктара Віленскай навучальнай акругі Падчашынскага стварэнне навучальных будынкаў на Беларусі набыло адметныя ад расійскай практыкі рысы. Яны выявіліся ў шырокай разнастайнасці аб'ёмна-планіровачных рашэнняў — ад развітых комплексаў, якія займалі цэлыя кварталы (*Свіслацкай гімназіі будынак*, павятовае вучылішча ў Бабруйску), да невял. кампактных у плане будынкаў (*Слуцкай мужчынскай гімназіі будынак*, павятовае вучылішча ў Брэсце), а таксама ў розпай трактоўцы вонкавага абрыса будынка, дзе выцягнутыя з шырокім выкарыстаннем ордэра кампазіцыі суседнічалі з рацыянальнымі прыёмамі безордэрнай пабудовы фасадаў. У функцыянальнай арганізацыі будынкаў паявіўся шэраг новаўвядзенняў, напр., блакіраваныя класныя пакоі вакол памяшкання сенцаў, што спрыяла ізаляцыі навучэнцаў розных узроставых груп.

1-я палова 19 ст.— час інтэнсіўнага буд-ва грамадскіх і ваенных шпіталяў, якія як самастойныя ўстановы ўзніклі на Беларусі пасля далучэння да Расіі. Яны сталі прыкметнай з'явай у гар. забудове. Лячэбныя ўстановы, утвараючы комплексы з падкрэсленым гал. будынкам і вял. правільна спланаваным садам, часта паўтаралі ўзоры, выпрацаваныя ў рус. архітэктуры, але набывалі большую спрошчанасць планіровачнага рашэння і апрацоўкі фасадаў. Гал. 1—2-павярховы будынак уяўляў сабой выцягнуты сіметрычны корпус, часам П-падобны ў плане. Палаты, размешчаныя ўздоўж ці ўпоперак корпуса, злучаліся з калідорам, які праходзіў па падоўжанай восі будынка альбо прымыкаў да вонкавай сцяны будынка. Ваенныя шпіталі значна пераўзыходзілі памерамі грамадзянскія. Лячэбныя будынкі, асабліва шпіталі, праектаваліся пецярбургскімі архітэктарамі В. П. Стасавым, Штаўбертам і інш., а таксама губернскімі архітэктарамі Чахоўскім, К. Хршчановічам, Міхаэлісам. Найбольшымі грамадзянскімі шпіталямі на Беларусі былі т. зв. Марыінскі шпіталь у Мінску, шпіталь у Віцебску (гл. *Віцебскай бальніцы будынкі*), комплексы багадзельняў у Мінску (1840-я гг., арх. Хршчановіч) і Магілёве. Найбольш значныя ваенныя шпіталі — у Мінску (гл. *Мінскага вайсковага шпіталя будынкі*), Магілёве (1849—54), Бабруйскай крэпасці.

1800—40-я гг.— перыяд найбольшага развіцця палацава-сядзібнага буд-ва на Беларусі, абумоўлены эканамічным уздымам і пэўнай палітычнай стабілізацыяй. Узведзеныя ў гэты час комплексы характарызуюцца разнастайнасцю прыёмаў пабудовы і архіт.-кампазіцыйных сродкаў. Класіцыстычныя палацы канца 18—1-й паловы 19 ст. мелі шырокую тыпалогію: ад невял. палаца-сядзібы да гарадскога палацавага комплексу, які займаў важнае месца ў планіровачнай структуры горада. Яны вызначаюцца прастатой планавай пабудовы, рацыянальнасцю распрацоўкі, выкарыстаннем у архіт.-маст. кампазіцыі перапрацаваных форм антычных ордэраў. Тыповымі для палацаў былі выцягнутыя, плоскасна распрацаваныя фасады і пластычна багатыя порцікі. У стварэнні палацава-сядзібных комплексаў вял. роля ўладальнікаў маёнткаў, буйных памешчыкаў, густы якіх, абумоўленыя традыцыяй і палітычнымі сімпатыямі, арыентаваліся або на мясцовую віленскую школу, або на варшаўскія ўзоры, або на архітэктуру Пецярбурга і Масквы. Тэрытарыяльны ўплыў буйных культурных цэнтраў у асноўным адпавядаў рассяленню памешчыкаў розных нацыянальнасцей. У цэнтр. і зах. раёнах Беларусі вырашальны быў уплыў віленскай і варшаўскай школ, ва ўсходніх — рус. архітэктуры.

Больш за ўсё было створана палацава-сядзібных комплексаў, арыентаваных на віленскую і варшаўскую школы. Ствараліся буйныя палацы з развітымі флігелямі і невял. пабудовы — сядзібны дом у Вістычы Брэсцкага р-на (1830-я гг., арх. Яшчалд). Шырока распаўсюдзіліся прамавугольныя ў плане пабудовы з флігелямі, якія абкружалі вял. парадны двор. Флігелі атрымлівалі трактоўку, блізкую да гал. будынка, у іх аздабленні выкарыстоўваўся ордэр. У будынках, якія ўзводзіліся пад уплывам варшаўскай школы, паявілася тэндэнцыя да стварэння дынамічнай, сугучнай эпосе ба-



Палац у в. Сноў Нясвіжскага раёна. 1827. Чарцёж.




Сядзіба ў в. Глыбокае Шчучынскага раёна. 19 ст. Схема планіроўкі: 1 — сядзібны дом; 2 — парк; 3 — сад.

рока прасторы (*Гнезнаўская сядзіба, Валожынскі палац, Высокаўская сядзіба*). Павялічылася колькасць палацаў са складанымі планам і аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй (*Сноўскі палацава-паркавы ансамбль, Паланэчаўскі палацава-паркавы ансамбль*), а таксама будынкаў з больш развітай прасторавай арганізацыяй (*Залескі палацава-паркавы комплекс, Жыліцкі палацава-паркавы ансамбль, Гомельскі палацава-паркавы ансамбль*). Іх паяўленне ў значнай ступені было абумоўлена ўплывам рамантызму. Гэтыя пабудовы вызначаліся агульнай рэгулярнай арганізацыяй з уключэннем у кампазіцыю асн. сіметрычнага элемента.

Мясцовыя архітэктары стваралі і невял. будынкі з выкарыстаннем, як правіла, прамавугольнай формы плана і агульным вырашэннем, набліжаным да звычайных сядзібных дамоў (*Нацкі сядзібны дом, Дзедзінская сядзіба, Янавіцкая сядзіба*). Будынкі вызначаліся простым дэкорам фасадаў, лаканізмам і абагуленай трактоўкай архіт. форм, свабоднай інтэрпрэтацыяй кананічнага ордэра. Сядзібныя дамы былі падобныя да сядзібных палацаў. Звычайна да дома прылягаў парадны двор і парк, часам рэгулярны — каля дома. На 1-м паверсе звычайна размяшчаліся парадныя пакоі, на 2-м ці на антрэсолях — жылыя памяшканні. Архітэктура класіцызму паўплывала і на формы драўлянага дойлідства. Пашыраны былі калоны, антаблементы і інш., у сувязі з чым змяніліся і прапорцыі ордэра: павялічыўся пралёт паміж калонамі, сталі больш тонкія стваАы калон, паменшала вышыня антаблемента, спрасціліся профілі. Шалёўка сцен стала імітаваць мураваны руст. У канцы 18—19 ст. ў маёнтках будавалі таксама дамы з ускладненай планіровачнай схемай, сваёй кампазіцыяй падобныя да абарончых збудаванняў мінулага. У іх былі квадратныя ў плане вежавыя пабудовы (алькежы) у вуглах ці тарцовых частках (*Поразаўская сядзіба*). Сядзібныя дамы з высокім, часта ламаным дахам будавалі з дрэва, каменю ці ў іх спалучэнні. Большасць збудаванняў — драўляныя 1-павярховыя ці з антрэсоллю або 2-павярховыя, пераважна мураваныя. У сядзібным буд-ве класіцызм усталяваўся толькі ў 1-й трэці 19 ст. У сядзібных дамах паявіліся гладкія сцены з драўляным дарычным порцікам у цэнтры (*Радзівілімонтаўскія сядзібы, Запольскі сядзібны дом*). Сядзібныя дамы характарыза-



Гомельскі палац. Агульны выгляд. З карціны мастака М. Залескага. 1850-я гады.



Сядзібны дом у в. Бальценікі Воранаўскага раёна. 19 ст. З малюнка Н. Орды.



Будынак чыгуначнага вакзала ў Гомелі. 2-я палавіна 19 ст.

валіся дакладнасцю і рацыянальнай распрацоўкай плана, фасады — сіметрычнасцю пабудовы. У архітэктуры многіх драўляных сядзібных дамоў выкарыстаны мясцовыя прыёмы дэкору, заснаваныя на прыёмах нар. дойлідства.

Група пабудоў 1800—40-х гг. у маёнтках рус. памешчыкаў нязначная, бо ўладальнікі, якія атрымалі землі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і секвестрацый, пабудаваліся, а новых масавых наданняў у пач. 19 ст. не рабілася. Уплывам рус. класіцызму пазначаны *Грудзінаўскі палацава-паркавы ансамбль, Хальчанскі палац, Гомельскі «паляўнічы домік»*, палацава-паркавы ансамбль у Гомелі.

Побач з увядзеннем палацаў-сядзіб развівалася буд-ва палацаў гарадскога тыпу на гал. вуліцах і плошчах. Яны не мелі вял. паркавых масіваў і ўключаліся ў агульны ансамбль гарадской забудовы, што ў практыцы горадабудаўніцтва было новай з'явай. Колькасць такіх палацаў невялікая, іх звычайна будавалі ўладальнікі гарадоў (*Крычаўскі палац* кн. Р. Пацёмкіна).

З канца 18 ст. буд-ва касцёлаў і уніяцкіх цэркваў на Беларусі рэзка скарацілася. У гэты перыяд узводзіліся пераважна праваслаўныя храмы, што тлумачылася русіфікатарскай палітыкай урада. Значны ўклад у праваслаўнае культавае буд-ва на Беларусі зрабілі рус. архітэктары Штаўберт і А. І. Мельнікаў. У іх творчасці найбольшае распаўсюджанне атрымалі кубічныя пабудовы з трапезнай і званіцай над гал. уваходам, якія развівалі традыцыі старажытнарус. дойлідства (цэрквы ў Рэчыцы і Бабруйскай крэпасці, *Мазалаўская царква Ушэсця*). Значным помнікам класіцызму ў галіне культавага буд-ва з'яўляецца *Гомельскі Петрапаўлаўскі сабор*, у якім набыло далейшае развіццё спалучэнне класічнага порціка і купальнага аб'ёму. У пач. 19 ст. пашырыліся храмы-ратонды (*Чачэрская Спаса-Праабражэнская царква*). У цэрквах гэтага тыпу (*Стрэшынская Пакроўская царква, Слаўгарадская царква Раства Багародзіцы*) адсутнічаюць традыцыйныя апсіды, раўнацэнна вырашаны ўсе фасады, форма акон і ўваходаў тыповая для грамадзянскай архітэктуры. Архітэктарамі віленскай і варшаўскай школ ствараліся ў асноўным прамавугольныя ў плане храмы з порцікам над гал. уваходам (касцёл у Барысаве, *Валожынскі касцёл Святога Юзафа*). У творчасці бел. архітэктараў выкарыстоўвалася таксама традыцыйная для дойлідства барока схема плана ў выглядзе лацінскага крыжа (Спаская царква ў Віцебску, Валатоўская царква ў Гомелі). Сярод нешматлікіх каталіцкіх храмаў-ратондаў — *Лідскі Іосіфаўскі касцёл піяраў, Шчучынскі касцёл Тэрэзы*, якім характэрна прысадзістая цэнтр. кампазіцыя.

У 1830-я гг. ў бел. дойлідстве пачынае назірацца адыход ад класічнай школы і распад стылявога адзінства ў архітэктуры. Пабудовы пачалі траціць вядучую ролю ордэра, іерархічнасць у чляненнях фасадаў. Шырока выкарыстоўвалася раўнамерная рытмічная разбіўка плоскасцей фасадаў, у дэталізацыі якіх пераважала сухасць і здробленасць форм, перанасычанасць дэкар. элементамі. На Беларусі гэтая рыса раней за ўсё выявілася ў грамадскіх будынках.

У 1830-я гг. ў архітэктуры Беларусі пачынаецца новы этап неаготыкі, які дасягнуў росквіту ў сярэдзіне 19 ст. ў рэчышчы эклектыкі. Найбольш поўна ён выявіўся ў палацава-сядзібных пабудовах і звязаны з вырашальным уплывам варшаўскай архіт. школы (*Касаўскі палац, Масалянскі палац*, перабудова *Ражанкаўскага Петрапаўлаўскага касцёла*). На Беларусі працавалі буйнейшыя варшаўскія архітэктары А. Ідзкоўскі, Яшчалд, Г. Марконі. У параўнанні з канцом 18 ст. аблічча неагатычных будынкаў зазнала істотныя змены. Элементы неаготыкі больш поўна ўкараняліся ў архітэктуру. Структура будынка стала больш расчлянёнай, пашырылася больш развітая аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя і шматстайнасць форм. У 1830-я гады ў архітэктуры Беларусі адбывалася палярызацыя і нават ідэйнае процістаянне двух стыляў: у прыватным буд-ве ў маёнтках мясцовых магнатаў развівалася неаготыка, а ў дзяржаўным буд-ве і творчасці рус. архітэктараў — класіцызм.

**Горадабудаўніцтва і архітэктура 2-й паловы 19 — пач. 20 ст.** За гэты перыяд бел. гарады ў два разы і болей павялічылі свае тэрыторыі, відазмяніліся ці зусім зніклі асобныя тыпы будынкаў, у цэнтр. раёнах паявіліся шматпавярховыя будынкі фінансавых і гандл.-прамысл. устаноў, гар. асабнякі. Дамы гандл.-рамеснай часткі насельніцтва і заможных гараджан становіліся больш складанымі паводле планіроўкі. У гарадскім буд-ве больш шырока выкарыстоўваліся цэгла, новыя матэрыялы — чыгун, пракатнае жалеза, пазней — жалезабетон. Асноўным матэрыялам ускраіннай гарадской і вясковай забудовы заставалася дрэва.

Большасць будынкаў, узведзеных у гэты перыяд, вызначалася стрыманасцю і лаканічнасцю дэкар. матываў. Гэтым бел. архітэктура адрознівалася ад рускай, у першую чаргу пецярбургскай і маскоўскай архіт. практыкі. Найбольшай прыхільнасцю да традыцый, заснаваных на прынцыпах архітэктуры рускага класіцызму, вызначалася архітэктура гарадоў Віцебскай губ. У сярэдзіне 19 ст. ў архітэктуры зах. і цэнтр. частак Беларусі выразна выявіліся тэндэнцыі паступовага адыходу ад класіцызму ў бок эклектыкі і стылізатарства.

Гэты працэс адбываўся не столькі з-за «выраджэння» класіцызму, колькі ў выніку афармлення новага, дыяметральна процілеглага ідэйна-эстэтычнага светапогляду. На розных узроўнях сацыяльна-палітычнага і нац. жыцця выспявала незадаволенасць афіцыйнай палітыкай імперыі.

Горадабудаўнічыя і архіт.-маст. пераўтварэнні ў бел. дойлідстве адбываліся ў агульным еўрапейскім кантэксце. У той жа час яны мелі характэрныя нац. і рэгіянальныя рысы, звязаныя з канкрэтнымі гіст. і сацыяльна-эканам. ўмовамі, багатымі культ. і маст. традыцыямі, творчым узаемадзеяннем з нац. культурамі суседніх народаў. Геаграфічнае становішча Беларусі спрыяла фарміраванню на яе тэрыторыі ў 2-й палове 19—пач. 20 ст. густой сеткі чыгунак. Новыя транспартныя шляхі спрыялі пашырэнню эканам. сувязей, садзейнічалі урбанізацыі. Прамысловасць развівалася хуткімі тэмпамі. Інтэнсіўнае буд-ва чыгунак і развіццё прамысловасці сталі асн. горадатворчымі фактарамі, якія істотна змянілі планіровачную арганізацыю паселішчаў, характар і маштаб горадабудаўніцтва. На Беларусі афарміліся 4 асн. рэгіёны са сваімі архіт. асаблівасцямі і цэнтрамі: заходні (Гродзенская і частка Віленскай губ.) — Вільня, Гродна, Брэст, Беласток; паўд.-ўсходні (Палессе, поўдзень Мінскай і Магілёўскай губ.) — Гомель, Пінск; цэнтральны (Мінская губ.) — Мінск; паўн.-ўсходні (Віцебская і Магілёўская губ.) — Віцебск, Магілёў.

У горадабудаўніцтве Беларусі 2-й паловы 19 — пач. 20 ст. можна прасачыць 2 этапы: сярэдзіна 19 ст.— 1890-я гг., калі адбываліся істотныя планіровачна-структурныя змены (бел. горад з параўнальна кампактнага ў 18 — пач. 19 ст. ператварыўся ў складаны арганізм, дзе важную ролю выконвалі функцыянальныя зоны — прамысловая, транспартная і жылая); 1890—1917 гг., калі адбываліся якасныя змены архіт. напаўнення, звязаныя з новымі прагрэсіўнымі ідэямі ў грамадскім і культ. жыцці.

Для гарадоў сталі характэрнымі прыёмы рэгулярнай забудовы, якія спрыялі арганізацыі прамавугольнай сістэмы кварталаў, стварэнню новых вуліц, плошчаў, сквераў і паркаў. Прыкметнай з'явай горадабудаўнічай практыкі стала тэндэнцыя лінейнага развіцця цэнтра. У выніку дынамічнага росту гарадоў кампазіцыйнай дамінантай у іх планіровачнай структуры становіцца не гал. гарадская плошча, а магістральная вуліца, якая злучала чыгуначны вакзал з гіст. цэнтрам. У 2-й палове 19 ст. на гэтай гал. транспартнай артэрыі горада канцэнтраваліся дзярж. гандлёва-фінансавыя, камерцыйныя і культ. ўстановы, паступова трансфармуючы яе ў грамадскі цэнтр горада. Гал. магістраль пачынае ўплываць на функцыі вулічнай сеткі, на арганізацыю аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі горада. Гэта спрыяла пашырэнню самога паняцця гарадскога цэнтра, якое стала больш умоўнае і пачало распаўсюджвацца на значны раён. Падобнае развіццё цэнтра назіраецца пры аналізе планіровачнай структуры Віцебска, Гомеля, Гродна, Мінска, Магілёва.

У 2-й палове 19 ст. ў планіровачнай структуры некаторых гарадоў цэнтр. і паўн.-ўсх. Беларусі (Барысаў, Мінск, Магілёў) адбылася пераарыентацыя ў маскоўскім кірунку гал. кампазіцыйна-прасторавых восей і асн. напрамка тэрытарыяльнага росту, што было выклікана пашырэннем функцыянальна-транспартных сувязяў з Расіяй. Напр., у Мінску асн. кампазіцыйная вось з паўн. напрамку (вул. Аляксандраўскай, сучаснай вул. Горкага) паступова пераарыентавалася на ўсх. напрамак (вул. Захар'еўскую, сучасны праспект



Ваўкавыск. Вуліца Бульварная. Фота пачатку 20 ст.

Ф. Скарыны). Забудова гэтай магістралі вызначалася інтэнсіўнасцю, капітальнасцю і высокім узроўнем маст. выразнасці, што падкрэслівала кампазіцыйную ролю вуліцы ў планіровачнай структуры горада. Аналіз планаў губернскіх і буйных павятовых гарадоў Беларусі сведчыць, што развіццё цэнтр. кварталаў у гэты перыяд грунтавалася на сумяшчэнні прыёмаў рэгулярнасці і пейзажнасці (натуральнасці), што адлюстроўвала дух часу і адпавядала маст. сістэме эклектыкі. Прыкладамі пейзажнай арганізацыі гарадскога асяроддзя, калі буйныя грамадскія будынкі ўзводзілі з улікам гарадскога рэльефу, з'яўляюцца епархіяльнае вучылішча ў Мінску (1864, арх. А. Жукоўскі), *Магілёўскага жаночага епархіяльнага вучылішча будынак, Віцебскага жаночага епархіяльнага вучылішча будынак,* радзільны дом у Гомелі (1914, арх. С. Шабунеўскі). Вял. значэнне для фарміравання новага аблічча бел. гарадоў мелі характэрныя ў гэты перыяд для Еўропы горадабудаўнічыя пераўтварэнні, звязаныя з ліквідацыяй сярэдневяковай фартыфікацыйнай сістэмы і правядзеннем работ па добраўпарадкаванні гэтых тэрыторый. У 1870-я гг. ў Віцебску на месцы зніveліраваных земляных валоў на



Пінск. Забудова на вуліцы Леніна. 2-я палавіна 19 — пачатак 20 ст.



Вытворчыя збудаванні ў в. Парэчча Пінскага раёна. З малюнка Н. Орды. 1876.

Замкавай гары ўзведзены буйныя грамадскія будынкі *(Віцебскага акруговага суда будынак, Віцебскай мужчынскай гімназіі будынак.* Актыўна перабудоўваліся цэнтр. кварталы, рэзка вырасла шчыльнасць іх забудовы, выпростваліся і расшыраліся вуліцы, ішла капітальная рэканструкцыя асобных будынкаў, якім часта дабудоўвалі дадатковыя паверхі. Гэтыя раёны мелі водаправод (Мінск, 1874; Гродна, 1876; Магілёў, 1897; Мазыр, 1900), каналізацыю, электрычнае асвятленне, тэлефон. Тут ствараліся скверы, гар. сады і паркі (у 1872 пасаджаны гар. сад у Магілёве і Аляксандраўскі сквер у Мінску, у 1873 — парк у Оршы, у 1876 — сад у Гомелі). У гарадах фарміраваліся новыя плошчы (прывакзальная, тэатральная, адміністрацыйная). Напр., у канцы 1880-х гг. акрэсліліся памеры прывакзальных плошчаў у Віцебску, Гомелі, Гродне, Полацку, Мінску. У пач. 20 ст. з'явіліся новыя тыпы гар. будынкаў («народныя дамы», «дамы працавітасці», начлежныя дамы).

Вытворчыя тэрыторыі найчасцей размяшчалі ўздоўж транспартных восей або на іх скрыжаванні. За кароткі прамежак часу на гэтых месцах выраслі адносна буйныя прамысл. зоны. Напр., па некалькі прамысл. прадпрыемстваў канцэнтравалася ў раёне Ляхаўкі ў Мінску і Занёманскім прадмесці (фарштаце) у Гродне. Буйныя вытв. аб'екты ў Бабруйску, Барысаве, Віцебску, Гомелі, Пінску канцэнтраваліся ў месцах, дзе чыгунка праходзіла побач з буйной воднай артэрыяй. У гэты час пабудаваны: дрожджа-патачны, Кашарскі чыгуналіцейны і машынабудаўнічы з-ды ў Мінску; Добрушская папяровая ф-ка; чыгуна-медналіцейны і механічны з-ды ў Магілёве; ф-ка запалак у Пінску; ільнопрадзільная ф-ка «Дзвіна» і чыгуналіцейны з-д Грынберга ў Віцебску; тытунёвая ф-ка Шарашоўскага ў Гродне і інш. Аб'ёмна-планіровачная структура прадпрыемстваў фарміравалася з 1—2-павярховых карпусоў вытв. прызначэння і будынка заводакіраўніцтва. Архітэктурна-маст. вырашэнне фасадаў вызначалася стрыманай трактоўкай стылявых рыс, уласцівых тагачасным грамадзянскім пабудовам. Буд-ва вытв. аб'ектаў ніяк не рэгламентавалася ген. планам развіцця гарадоў, з-ды і ф-кі часта ўзводзіліся хаатычна, без уліку сан.-гігіенічных аспектаў аховы асяроддзя, займалі лепшыя гар. пляцоўкі па берагах рэк, вытв. сцёкамі і выкідамі атручвалі прылеглыя раёны. У гэтым выявілася адна з адметных рыс горадабудаўніцтва 1890-х гг.— пач. 20 ст.— вострая супярэчнасць паміж ростам гарадоў і магчымасцю планамернай забудовы ў адпаведнасці з рассяленнем, функцыянальнымі зонамі, новымі законамі горадабудаўнічай кампазіцыйнай і архіт.-маст. арганізацыі паселішчаў. Гарады, асабліва губернскія, тэрытарыяльна раслі за кошт прадмесцяў, унутраная планіровачная структура якіх фарміравалася вакол невял. плошчы — функцыянальнага цэнтра прадмесця (Занёманскае прадмесце ў Гродне, Траецкае і Ракаўскае прадмесці і Старажоўка ў Мінску, Лупалава ў Магілёве). Тэрытарыяльны рост гарадоў фарміраваў новыя прасторавыя сувязі. Асаблівае месца па-ранейшаму належала культавым пабудовам, якія з'яўляліся кампазіцыйнымі акцэнтамі і дамінавалі сярод 1—2-павярховай забудовы. Далейшае развіццё атрымаў традыцыйны прыём бел. горадабудаўнічай практыкі — спалучэнне нізкага масіву жылой забудовы і акцэнтаваных па вертыкалі аб'ёмаў культавых будынкаў. Гэта забяспечвала кампазіцыйнае і маст. адзінства гарадскога асяроддзя. Культавыя будынкі ўзводзіліся ў гэты перыяд так, каб іх вертыкальная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя знаходзілася ва ўзаемным падпарадкаванні з існуючымі кульмінацыйнымі вузламі гіст. цэнтра. У выніку працягвала фарміравацца не толькі сістэма горадатворчых вузлоў, але і развілася

сістэма візуальнай сувязі паміж апорнымі будынкамі. Сілуэтныя і панарамныя вобразы якасна насычаліся, узбагачалі эстэтычны патэнцыял горада. Дынамічнасць сілуэтаў Віцебска, Гродна, Мінска, Магілёва, Полацка дасягалася за кошт паступовага нарастання рытму вертыкальных акцэнтаў па меры набліжэння да цэнтра. Ідэя актыўнага пераўтварэння плніроўкі і забудовы Мінска належала арх. К. Хршчановічу (працаваў мінскім губернскім архітэктарам з 1825 да 1863), які адным з першых усвядоміў будучыя памеры гарадскога буд-ва. Прасторавая кампазіцыя горада была раскрыта ім праз сістэму вертыкальных дамінантаў, прадумана размешчаных на мясцовасці, гарманічна дапасаваных да прыроднага ландшафту і структуры гарадскога плана.

З ростам гарадоў у канцы 19 — пач. 20 ст. абвастрылася праблема гар. транспарту. Калі першыя лініі конкі і трамвая пракладаліся ў найб. людных месцах, дзе размяшчаліся буйныя будынкі адм., вытв. і транспартнага прызначэння (гіст. цэнтр. вакзал, прамысл. зона), то ў канцы 19 — пач. 20 ст. ўзвядзенне буйных грамадскіх будынкаў у сваю чаргу залежала ад трасіроўкі гарадскога транспарту. Уздоўж або паблізу транспартных ліній канцэнтравалася найб. камфартабельнае жыллё, значна паляпшалася якасць забудовы. Горадабудаўнічая практыка пач. 20 ст. выявіла тэндэнцыі да дэмакратызацыі, што адлюстравалася ў пэўнай нівеліроўцы адрозненняў паміж цэнтрам і ўскраінамі. У перыферыйных раёнах горада пачалі ўзводзіцца шпіталі, школы, тэхнічныя і рамесніцкія вучылішчы, інш будынкі грамадскага прызначэння.

У архітэктуры Беларусі 2-й паловы 19 — пач. 20 ст. пашырыўся рэтраспектыўны (эклектычны) кірунак, развіццё якога можна падзяліць на 3 этапы: 1) сярэдзіна 19 ст.— 1860-я гг.— пераход пад уплывам рамантызму ад класіцыстычнай стылістыкі да форм архіт. спадчыны, у прыватнасці готыкі (засваенне гіст. стыляў адбывалася яшчэ ва ўмовах тэктанічнай сістэмы класіцызму); 2) 1860 — 90-я гг.— шырокае выкарыстанне метаду гістарызму, асновай якога з'яўлялася паслядоўная арыентацыя на архіт. стылі мінулага; гістарызм на Беларусі развіваўся ва ўмовах узмацнення ўрадавага кантролю за культ. жыццём і аформіўся ў 2 напрамкі — афіцыйны (т. зв. псеўдарускі), з арыентацыяй на візантыйскія і стараж. рус. ўзоры і дыяметральна процілеглы, звязаны з нацыянальна-вызваленчымі і дэмакратычнымі ідэямі, арыентаваны на архіт. спадчыну Зах. Еўропы; 3) 1890—1917 — узнікненне на рэтраспектыўна-эклектычным фоне новых архіт. кірункаў: мадэрна і неакласіцызму.

Сферай пашырэння эклектыкі найперш былі будынкі масавага прызначэння: гар. жыллё, даходныя дамы, навучальныя і адм. пабудовы, гандлёва-фінансавыя ўстановы, шпіталі і інш. З сярэдзіны 19 ст. яны шмат у чым пачынаюць фарміраваць новае маст. аблічча гарадоў. Асн. ўпор рабіўся на вонкавую дэкаратыўнасць фасадаў. Архітэктары адвольна спалучалі ў будынках формы готыкі, рэнесансу і барока, стваралі кангламераты архіт. форм, стыль якіх цяжка вызначыць. Навучальныя ўстановы і банкі звычайна афармляліся пад рэнесанс *(Гомельскай мужчынскай гімназіі будынак)*, тэат-



Касцёл святога Пятра ў в. Старыя Васілішкі Шчучынскага раёна. 1903.



Касцёл у в. Іказнь Браслаўскага раёна. Пачатак 20 ст.

ры — пад барока *(Мінскага тэатра будынак),* касцёлы — пад готыку *(Віцебскі Варварынскі касцёл).* З канца 1870-х гг. у гарадах Беларусі пачаў пашырацца псеўдарускі стыль, асабліва яго цагляны, найб. эканамічны варыянт *(Бешанковіцкая Ільінская царква, Барысаўскі Васкрасенскі сабор).* Напачатку гэты стыль з'яўляўся манаполіяй праваслаўнага культавага дойлідства (пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 на Беларусі з мэтаю русіфікацыі насельніцтва ўзводзілася шмат праваслаўных храмаў), але паступова ён знайшоў прыхільнікаў і ў грамадзянскім буд-ве *(Магілёўскай жаночай гімназіі будынак, Магілёўскага рэальнага вучылішча будынак, Клімавіцкі жылы дом* і інш.). Стылізатарства ў духу традыцый стараж.-рус. дойлідства з багатай арнаментацыяй і ўзорыстасцю цаглянай муроўкі найб. распаўсюдзілася ў архітэктуры Магілёва *(Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра будынак, Магілёўскай гарадской управы будынак).* Тут працавалі архітэктары М. Вошчын, П. Камбураў, У. Мільяноўскі, П. Кальнін, якія арыентаваліся на маскоўскую школу. Характэрна, што ў бел. прамысловай архітэктуры з найбольшай устойлівасцю вызначылася тэндэнцыя вырашэння фабрычна-заводскіх будынкаў не ў псеўдарускіх, а ў псеўдагатычных формах, якія ў пач. 20 ст. ўзбагаціліся элементамі стылю мадэрн.

Большасць бел. і запрошаных архітэктараў праблему нацыянальнай самабытнасці бел. архітэктуры вырашалі шляхам насычэння сваіх твораў шматлікімі этнаграфічнымі і археал. дэталямі: *Чырвонабярэжская сядзіба,* даходны дом па сучаснай вул. Савецкай у Гомелі, *Мінскай жаночай гімназіі будынак, Гродзенскія воданапорныя вежы,* вытворчы корпус дрожджа-вінакурнага з-да ў Мінску (цяпер з-д «Крышталь»), Холмскія вароты *Брэсцкай крэпасці* і інш. Некаторыя архітэктары спрабавалі рабіць толькі інтэрпрэтацыі асобных элементаў сярэдневяковых замкавых форм, кіруючыся кампазіцыйнымі метадамі іх пабудовы *(Мінскага царкоўна-археалагічнага музея будынак, Краскаўская сядзіба, Ляснянскі мемарыяльны комплекс* і інш.).



Жылы дом па вуліцы Савецкай, 13, у Нясвіжы. 1901.

У галіне форматворчасці бел. дойліды таксама звярталіся да традыцый нацыянальнай культуры. Для вонкавага аздаблення будынкаў многія з іх шырока выкарыстоўвалі элементы маст. кавальства (кранштэйны, краты, агароджы). Па эскізах і малюнках архітэктараў лепшыя мясц. майстры стваралі непаўторныя пластычныя кампазіцыі, якія значна ўзбагачалі архіт. тканіну твора *(Гомельская капліца, Слабодкаўскі касцёл Сэрца Ісуса,*дом купца Мураўёва ў Гродне і інш.). Для аздаблення будынкаў традыцыйна шырока выкарыстоўвалася дэкар. кераміка. Цікаўнасць да гэтага матэрыялу значна павялічылася ў перыяд засваення бел. архітэктурай стылю мадэрн. Вытворчасць буйных маёлікавых архіт. дэталей (пілястраў, карнізаў, кранштэйнаў, ліштваў) была разгорнута на керамічных з-дах у Копысі, Барысаве, Віцебску, Магілёве. Прыкладамі ўмелага выкарыстання паліхромнай керамікі ў бел. дойлідстве з'яўляюцца *Мірская капліца,* Успенская царква ў в. Пірэвічы Жлобінскага р-на, *Віцебскага пазямельна-сялянскага банка будынак, Магілёўскага пазямельна-сялянскага банка будынак,* будынак атэля «Еўропа» ў Мінску і інш. У дэкоры актыўна выкарыстоўвалася разьба па дрэве.

У канструкцыйным сэнсе мадэрн на Беларусі раз-



Пакроўская царква ў Гродне. Пачатак 20 ст.

віваўся 2 шляхамі: 1) з арыентацыяй на готыку, на асэнсаванне яе канструкцыйных і фарматворчых прынцыпаў; быў адносна раўнамерна распаўсюджаны па ўсёй тэр. Беларусі *(Галавічпольская сядзіба);* 2) з рамантычнай арыентацыяй на нацыянальныя традыцыі ранняга сярэднявечча; быў пашыраны пераважна ў паўн.-ўсх. рэгіёне *(Лужаснянскай земляробчай школы будынак).*

Адметнай рысай ранняга бел. мадэрна 1890—1907 з'яўлялася дэманстратыўнае адмаўленне ад механічных копій гіст. архіт. форм. На гэтым этапе асаблівая ўвага аддавалася не столькі аб'ёмна-прасторавай арганізацыі будынка, колькі яго дэкаратыўна-пластычнаму

афармленню (будынак крэдытнай канторы на сучаснай вул. Савецкай, 46; дом купца Касоўскага на сучаснай вул. Кірава, 32, у Гродне; дом камерсанта Грошыкава на сучаснай вул. Бялецкага 5, у Гомелі; *Мінскі гасціны двор).*

У 1907—17 гг., у перыяд сталага мадэрна, усталявалася больш трывалая сувязь паміж архітэктурай і функцыяй будынка (даходны дом К. Кастравецкай на сучаснай вул. Кірава, 11, у Мінску; гл. ў арт. *Мінскія жылыя дамы*). Інтуітыўна адчуваючы крызіс эклектыкі, некаторыя бел. дойліды пераасэнсоўвалі сваё стаўленне да архіт. спадчыны і будучыні архітэктуры. Паслядоўным прадстаўніком стылізатарства на Беларусі быў гомельскі арх. С. Шабунеўскі, творчы метад якога быў заснаваны на рацыянальным спалучэнні функцыі і маст.-эстэтычных якасцей будынка (*Гомельскай мужчынскай гімназіі будынак, Гомельскі дом урача,* будынак радзільнага дома ў Гомелі, 1916).

З 1890-х гг. многія архітэктары, імкнучыся надаць сваім творам самабытны нацыянальны характар, працавалі ў кірунку творчага пераасэнсавання архіт. спадчыны бел. сярэднявечча (*Брэсцкі чыгуначны вакзал,* будынак Мікалаеўскага чыгуначнага вакзала ў Полацку, *Расонская сядзіба*). Але нацыянальная самабытнасць выяўлялася пры гэтым не заўсёды адназначна. Не валодаючы належным запасам гіст.-маст. ведаў нацыянальнай культуры, некаторыя інтэрпрэтатары архіт.-гіст. спадчыны не праводзілі выразных межаў паміж бел., польскай і рус. культурамі.



Дом № 2 па вуліцы Каржа ў Пінску. Пачатак 20 ст. Рэканструкцыя 1983.



Будынак аддзялення Дзяржаўнага банка Расіі ў Мінску па вуліцы Падгорнай. Пачатак 20 ст.




Жылы дом па вуліцы Чкалава ў Гродне. 1912.

Адной з яркіх нацыянальных асаблівасцей бел. архітэктуры з'яўлялася выкарыстанне дзікага каменю дзеля дасягнення маст. выразнасці будынка. Найбольшай папулярнасцю гэты мясцовы будаўнічы матэрыял карыстаўся ў зах., цэнтр. і часткова паўн.-ўсх. рэгіёнах (*Лiтнішскі Казіміраўскі касцёл; Зарачаўскі вадзяны млын;* рэканструкцыя *Браслаўскага касцёла;* Пакроўская царква ў в. Краснае Маладзечанскага р-на, 1889; касцёл ў в. Стайкі Мінскага р-на, 1903; Пакроўская царква ў в. Тударава Карэліцкага р-на). На рубяжы стагоддзяў дзікі камень і валуны ў будаўнічай практыцы пачалі замяняць колатым каменем. Вялікія шчыліны-швы запаўняліся жвірам або галькай. Гэтую тэхніку спалучалі з цаглянай муроўкай, атынкаванай гладкай або фактурнай паверхняй, што давала магчымасць ствараць яркія каларыстычныя кампазіцыі.

З шматлікіх кірункаў маст.-стылявога развіцця архітэктуры ў рэчышчы мадэрна найб. пашыраным на Беларусі быў неакласіцызм. Прыкметны ўплыў на фарміраванне эстэтычнай канцэпцыі бел. неакласіцызму зрабіла творчасць мінскіх архітэктараў Г. Гая і С. Гайдукевіча (будынак с.-г. страхавой кампаніі, гл. *Мінскі адміністрацыйны будынак;* даходныя дамы на сучасных вуліцах К. Маркса, 30, Савецкай, 17 і 19, у Мінску). У стылі неакласіцызму выканана забудова сучаснай вул.



Жылы дом па вуліцы Тэльмана ў Гродне. 1909.



Будынак Упраўлення Лібава-Роменскай чыгункі ў Мінску. 1911.

Леніна ў Пінску, пабудаваны даходныя дамы на сучасных вуліцах Савецкай, 10, і Тэльмана, 9, у Гродне і інш. Уздзеянне эстэтыкі мадэрна выявілася таксама ў неараманскім і неагатычным стылях. Стылізацыяй на тэму раманскага стылю з'яўляецца *Мінскі касцёл Сімяона і Алены.* Абсалютная большасць касцёлаў, узведзеных у 1890—1917 на Беларусі, выканана ў неаготыцы (*Вілейскі крыжаўзвіжанскі касцёл, Івянецкі Аляксееўскі касцёл, Міёрскі Успенскі касцёл, Ракаўскі касцёл* і інш.).

На архіт. аблічча і агульны ўзровень добраўпарадкавання вял. гарадоў значны ўплыў зрабіла творчасць архітэктараў і грамадзянскіх інжынераў, якія звязалі сваю творчасць з асобнымі гарадамі: Віцебскам (Ц. Кібардзін, У. Коршыкаў, В. Вулканаў), Гомелем (К. Торлін, Шабунеўскі), Гродна (С. Гур'еў, П. Залатароў), Магілёвам (Камбураў, Мільяноўскі, Кальнін), Мінскам (В. Струеў, К. Увядзенскі, Гай, Гайдукевіч, К. Хршчановіч, О. Краснапольскі). Уклад у развіццё бел. архітэктуры зрабілі польскія (С. Шылер, Ю. Дзянькоўскі, К. Казлоўскі і інш.) і рус. дойліды (Д. Грым, А. Гаген, В. Касякоў, В. Кенель, Р. Марфельд, А. Муніц, К. Тон, К. Тарасаў, І. Фамін, Ф. Шэхтэль і інш.). У гэтым выявілася традыцыйнае ўзаемадзеянне на Беларусі зах. і ўсх. культур.

**Архітэктура савецкага перыяду.** Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі новыя сацыяльныя ўмовы стварылі магчымасць развіцця і ўдасканалення горадабудаўніцтва, стварэння новых тыпаў будынкаў і збудаванняў, якія забяспечылі б найлепшыя ўмовы для жыцця, працы і грамадскай дзейнасці людзей. Гісторыя бел. архітэктуры звязана з гісторыяй усяго сав. дойлідства. Асновай развіцця архітэктуры Беларусі стала індустрыялізацыя нар. гаспадаркі і звязаны з ёй рост аб'ёму буд-ва. Рэканструкцыя гарадоў праводзілася па навукова абгрунтаваных генеральных планах з улікам эканамічнага і культ. прагрэсу, наяўнай планіроўкі і перспектывы росту. На працягу 1930-х гг. складзены генпланы Мінска, Віцебска, Гомеля, Магілёва, Оршы, Мазыра, Полацка і інш. У 1935 створаны Саюз архітэктараў БССР, у 1933 — ін-т «Белдзяржпраект», у 1936 — «Белпрампраект».

У 1-ю сусветную і грамадзянскую войны гарады і вёскі Беларусі былі значна разбураны. Да сярэдзіны 1920-х гг. вялося ўпарадкаванне нар. гаспадаркі, аднаўляліся разбураныя, рэканструяваліся старыя дамы і збудаванні. У першую чаргу аднаўляліся вытв. памяшканні, на базе аб'яднання саматужных і паўсаматужных узнікалі дзярж. прамысловыя прадпрыемствы. Канфіскаваныя ў прыватных асоб будынкі прыстасоўваліся для грамадскіх патрэб, а былыя даходныя дамы перайтвараліся ў Дамы Саветаў і засяляліся сем'ямі рабочых. Жыллёвая праблема ў той час вырашалася галоўным чынам за кошт індывідуальнага буд-ва, а з 1924 і за кошт арганізацыі жыллёвых кааператываў. Пасля заканчэння аднаўленчага перыяду (1921—25) разам з рэканструкцыяй старых прадпрыемстваў (з-ды «Пралетарый» і «Чырвоная зара» ў Мінску, «Чырвоны металіст» і ф-ка «Дзвіна» ў Віцебску, «Чырвоная Бярэзіна» ў Барысаве і інш.) пачалося буд-ва новых прадпрыемстваў. На працягу 1928—32 у БССР уведзены ў эксплуатацыю больш за 300 прамысл. прадпрыемстваў, у т. л. БелДРЭС, з-д «Гомсельмаш», Бабруйскі і Гомельскі дрэваапрацоўчыя камбінаты, шэраг станкабудаўнічых з-даў у Мінску, Магілёве, Віцебску. Побач з прадпрыемствамі ўзнікалі рабочыя пасёлкі з 1—2-павярховых дамоў на 2—16 кватэр. У гэтыя гады пачалося буд-ва буйных грамадскіх будынкаў, у т. л. кантора Дзярж. банка СССР па вул. Савецкай (1927—29, арх. Г. Гольц, М. Паруснікаў), *Універсітэцкі гарадок,* комплекс 1-й Усебел. с.-г. і прамысл. выстаўкі ў раёне сучаснага парку Чэ-

люскінцаў (1930—31, арх. А. П. Воінаў, І. Валадзько, М. Гіляроў, А. Крылоў, Г. Лаўроў) у Мінску. Народны дом (1927—29, арх. Г. Оль) у Бабруйску, клубы металістаў (1927—30, арх. А. Васільеў) у Мінску і Віцебску, клуб чыгуначніка (1928—30, арх. К. Кірылаў) у Гомелі, а таксама шэраг шматпавярховых жылых дамоў у цэнтрах буйных гарадоў. Для знешняга выгляду гэтых будынкаў характэрны лаканічнасць і прастата архіт.-маст. вырашэння фасадаў. Праектаванне і буд-ва *Дома ўрада БССР* супала з развіццём новых тэндэнцый у архітэктуры Беларусі. Яго аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя заснавана на сіметрычным нарастанні да цэнтра аб'ёмаў і вышыні, аднаматыўнай (без дадатковых архіт. дэталей) трактоўцы вертыкальных члянення па ўсім перыметры будынка; кампазіцыйным і сэнсавым цэнтрам ансамбля стаў помнік У. І. Леніну (скульп. М. Манізер, арх. І. Лангбард). У гады 2-й пяцігодкі (1932—37) далейшае развіццё атрымала жыллёвае буд-ва. Разам з малапавярховым, індывідуальным і пасялковым буд-вам павялічваліся аб'ёмы буд-ва жылых дамоў вышэй за 4 паверхі (звычайна размяшчаліся на гал. вуліцах у цэнтрах гарадоў). Вял. ўвага аддавалася аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі і пластыцы фасадаў, планіроўцы і добраўпарадкаванню кватэр. Характэрнымі прыкладамі ў гэтых адносінах могуць служыць пабудаваныя ў 1932—36 дамы спецыялістаў, у т. л. *Мінскі жылы дом спецыялістаў, Віцебскі жылы дом спецыялістаў,* дом інж.-тэхн. работнікаў (арх. А. П. Воінаў) і 3-і Дом Саветаў (арх. А. Дзянісаў, У. Вараксін) у Мінску, жылыя дамы Саветаў (арх. А. П. Воінаў, А. Брэгман) у Магілёве, гарсавета (арх. Н. Макляцова) у Гомелі. З 1936 пачаўся інтэнсіўны пошук рацыянальных тыпаў жылых дамоў, секцый і кватэр, укараняліся прагрэсіўныя метады буд-ва. Архітэктары А. П. Воінаў, Макляцова, В. Батоева распрацавалі тыпавыя праекты жылых дамоў на 8, 12, 24, 36 кватэр для масавага буд-ва. Выкарыстоўваліся ў жыллёвым буд-ве і тыпавыя секцыі, распрацаваныя Акадэміяй архітэктуры СССР (напрыклад, у жылых дамах на 115 і 127 кватэр, арх. Р. Столяр, на пл. Перамогі і на 130 кватэр, арх. А. Брэгман, на праспекце Ф. Скарыны ў Мінску). У першых паверхах многіх шматпавярховых жылых дамоў прадугледжваліся памяшканні для прадпрыемстваў быт. абслугоўвання, гандлю, дзіцячых дашкольных устаноў і інш. Шырока выкарыстоўваліся тыпавыя праекты школ на 880, 400 і 280 вучняў. У 1930-я гг. ў цэнтрах гарадоў узведзены буйныя грамадскія будынкі: *Акруговы Дом афіцэраў, Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР будынак, Акадэмічны гарадок,* гасцініца «Беларусь» (з 1985 *«Свіслач»*), будынак ЦК КПБ (1939—41, завершаны ў 1947, арх. Воінаў, Вараксін), ін-т фізкультуры (1936—39, арх. А. Воінаў, Брэгман), Дзяржаўная бібліятэка (1932, арх. Г. Лаўроў), *Беларускага політэхнічнага інстытута будынкі* ў Мінску, *Магілёўскі Дом Саветаў, Магілёўскі адміністрацыйны будынак,* кінатэатр «Радзіма» (1938—40, арх. Вараксін) у Магілёве і інш. Разам з удалай функцыянальнай арганізацыяй гэтыя будынкі вызначаюцца высокімі архіт.-маст. якасцямі і адыгралі значную ролю ў змяненні аблічча бел. гарадоў. Для бел. архітэктуры 1930-х гг. адметнай была плённая творчая дзейнасць І. Лангбарда і А. П. Воінава. Іх пабудовы садзейнічалі фарміраванню пэўнай стылістычнай накіраванасці дойлідства ў рэспубліцы, якая не супярэчыла агульным прынцыпам сав. архітэктуры, але адрознівалася ад прынцыпаў інш. нацыянальных рэгіёнаў краіны, для якіх у той час быў характэрны зварот да форм класічнай архітэктуры. Наватарства бел. архітэктараў было цесна звязана з развіццём традыцый был. дойлідства: стрыманасць маст. сродкаў, выразнасць



Жылы дом Саветаў па вуліцы Горкага ў Мінску. 1936.



Будынак канторы Дзяржаўнага банка СССР па вуліцы Савецкай у Мінску. 1927—29.



Жылы дом па вуліцы Інтэрнацыянальнай, 25, у Бабруйску. 1912.

прасторавай кампазіцыі, чысціня прыёмаў, умелае выкарыстанне будаўнічых матэрыялаў.

У гады Вял. Айч. вайны ням.-фаш. захопнікі разбурылі і спустошылі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, спалілі 9200 вёсак, знішчылі больш за 8 млн. $м^2$ (74% жылога фонду, 1,2 млн. дамоў, разбурылі ці вывезлі ў Германію больш за 10 тыс. прамысл. прадпрыемстваў, большасць грамадскіх будынкаў і збудаванняў. Цэлыя раёны Беларусі, у т. л. Асвейскі, Бягомльскі, Дубровенскі, Лельчыцкі, Мехаўскі, Плешчаніцкі, Расонскі, Суражскі, былі поўнасцю спустошаны.

Пасля вызвалення Беларусі за кароткі час былі адноўлены і створаны тысячы фабрычна-заводскіх, жылых і грамадскіх збудаванняў. У 1946—49 ін-там «Белдзяржпраект» і інш. праектнымі арг-цыямі распрацаваны праекты генпланаў для ўсіх абласных і большасці раённых цэнтраў БССР, у т. л. Мінска (1946, арх. М. Андросаў, М. Трахтэнберг, пры ўдзеле Ю. Ягорава), Брэста (1948, арх. А. Хегай, Л. Федчанка), Віцебска (1947, арх. А. Касьянаў і інш.), Гомеля (1947, арх. І. Сяргееў і інш.), Гродна (1949, арх. А. Кліменка), Магілёва (1947, арх. Андросаў, М. Парсаданаў), Оршы (1948, арх. Л. Мацкевіч), Полацка (1949, арх. Г. Заборскі, Мацкевіч, Хегай), Рагачова (1949, арх. Г. Мішчанка), Слуцка (1947, арх. Парсаданаў) і інш. У пераважнай большасці праекты былі створаны з улікам планіроўкі гарадоў, што склалася гістарычна, прадугледжвалі ўдасканаленне планіровачнай структуры, закладвалі прынцыпы функцыянальнага заніравання, добраўпарадкавання і азелянення, што садзейнічала комплекснаму вырашэнню сацыяльных, эканамічных, тэхнічных, гігіенічных і архіт.-маст. задач. Але многія з гэтых праектаў прадугледжвалі карэнную рэканструкцыю ці нават поўнае знішчэнне гістарычнай архітэктурнай спадчыны, не ашчадна ставіліся да помнікаў архітэктуры. Да пач. 1950-х гг. была поўнасцю адноўлена асн. вытв. база рэспублікі, пабудаваны новыя буйныя прадпрыемствы, у т. л. аўтамабільны і трактарны з-ды ў Мінску, лакамабільны ў Гомелі, дарожных машын і механізмаў у Магілёве, шоўкаткацкая ф-ка ў Віцебску, з-д швейных машын у Оршы і інш. Індустрыяльнае развіццё гарадоў Беларусі суправаджалася павелічэннем аб'ёмаў масавага жыллёвага буд-ва. Паралельна з аднаўленнем разбураных будынкаў і ўзвядзеннем індывідуальных жылых дамоў, вялося і дзярж. жыллёвае буд-ва паводле тыпавых праектаў 1—3-павярховых жылых дамоў на 4—24 кватэры. Імі забудоўваліся вуліцы, кварталы і цэлыя пасёлкі (напрыклад, трактарнага і аўтазавода ў Мінску, з-да «Гомсельмаш» у Гомелі, ільнокамбіната ў Оршы і інш.). У шырокіх маштабах вялося аднаўленне старых і буд-ва новых грамадскіх будынкаў. Была аднаўлена сетка школ, пабудавана значная колькасць дашкольных, лячэбна-прафілактычных і культ.-асветных устаноў. Яскравай старонкай сав. горадабудаўніцтва стала рэалізацыя ген. плана Мінска, які прадвызначыў выраўноўванне і расшырэнне гал. магістралей, стварэнне новых архіт. ансамбляў. Выдатным дасягненнем сав. горадабудаўніцтва 1-га пасляваеннага дзесяцігоддзя стала забудова *Ленінскага праспекта* (цяпер праспект Ф. Скарыны) ў Мінску (арх. М. Парусңікаў, Г. Баданаў, М. Баршч і інш.). Вопыт, набыты ў працэсе стварэння гал. магістралі Мінска, шырока выкарыстаны пры рэканструкцыі і забудове цэнтраў інш. буйных гарадоў Беларусі — *Кірава вуліцы* ў Віцебску (1950—57, арх. В. Гусеў, В. Данілаў і інш.), *Першамайскай вуліцы* (1950—56, арх. Л. Рымінскі, М. Семяненка) у Магілёве, *Леніна праспекта* ў Гомелі і інш. У 1-е пасляваеннае дзесяцігоддзе гарады і вёскі рэспублікі былі не толькі адроджаны, але і закладзены асновы іх далейшага развіцця. У працэсе аднаўлення выпраўляліся недахопы іх функцыянальнай і прасторавай арганізацыі, вырашаліся задачы транспартных сувязей, узніклі першыя ўзбуйненыя масівы з развітой сістэмай культ.-быт. абслугоўвання, праводзіліся работы па добраўпарадкаванні і азеляненні, ствараліся новыя магістралі і грамадскія цэнтры — сістэмы развітых прасторавых кампазіцый, якія вызначаюць асн. рысы гарадской структуры. Удасканальваліся ўсе віды і тыпы будынкаў і збудаванняў, шырока ўкараняўся метад тыпавога праектавання, развіваліся новыя формы буд-ва. Для вырашэння фасадаў было характэрным выкарыстанне матываў архітэктуры класікі. Аднак празмернае аздабленне фасадаў і інтэр'ераў адмоўна адбілася на вырашэнні функцыянальных, тэхн. і эканамічных пытанняў і тэмпах росту буд-ва. У той час створана значная колькасць грамадскіх будынкаў: *Мінскі адміністрацыйны будынак, Мінскі гарадскі універмаг, Мінскі цырк, Мінскі галоўны паштамт,* Дзяржбанк (1953, арх. М. Парусңікаў) у Мінску, Палацы культуры на пл. Леніна ў Віцебску і на вул. Першамайскай у Магілёве, Палац культуры энергетыкаў у Светлагорскуі і інш.



Будынак электратэхнікума сувязі ў Віцебску. 1957.



Плошча Леніна ў Гродне. 1988.



Грамадска-гандлёвы цэнтр па вуліцы Леніна ў Салігорску. 1983.



Плошча Леніна ў Бабруйску. 1970-я гады.

З сярэдзіны 1950-х гг. пачаўся новы этап развіцця горадабудаўніцтва і архітэктуры Беларусі, які характарызаваўся масавым укараненнем індустрыяльных метадаў буд-ва. Асаблівая ўвага аддавалася эканоміцы буд-ва, выкарыстанню зборнага жалезабетону, максімальнай уніфікацыі і тыпізацыі. Адначасова рэзка крытыкавалася архіт. творчасць папярэдніх гадоў. Архітэктуру перасталі разглядаць як галіну духоўнай культуры, над ёй устанавіўся жорсткі дыктат будаўнічай вытворчасці. Забудова гарадоў, у першую чаргу буд-ва жылых дамоў і грамадскіх збудаванняў, пастунова ператваралася ў зборку гатовых элементаў і дэталей заводскага вырабу, што патрабавала перагляду і шырокага развіцця методыкі тыпавога праектавання. Па тыпавых праектах узводзілася 60 % усіх аб'ектаў вытворчага прызначэння, 90—95 % жылых дамоў і 90% збудаванняў культ.-быт. прызначэння. Рэалізацыя новых прынцыпаў з'явілася даволі складаным працэсам, патрабавала часу для перабудовы архіт. дзейнасці і набыцця вопыту. Асноўным кірункам стала забудова вял. жылых масіваў пераважна на вольных тэрыторыях. Шырокая сетка домабудаўнічых камбінатаў і інш. прадпрыемстваў будаўнічай індустрыі дала магчымасць на аснове тыпавых праектаў разгарнуць буйнаблочнае і буйнапанельнае домабудаванне. Створаны ўзбуйненыя кварталы па вул. К. Лібкнехта, Чырваназорнай, Арлоўскай у Мінску. З канца 1950-х гг. пачалася рэалізацыя шырокай праграмы паляпшэння жыллёвых умоў. Укараняліся новыя прынцыпы планіроўкі і забудовы— жылыя раёны і мікрараёны, якія сталі асн. структурнымі элементамі жылых зон гарадоў. Упершыню новыя прынцыпы арганізацыі сялібных тэр. ажыццёўлены ў мікрараёнах па вул. Валгаградскай (1958—61, арх. Г. Парсаданаў, Г. Булдаў, П. Громаў і інш.), дзе разам з прасторавапланіровачнымі прыёмамі забудовы жылых масіваў эксперыментальную праверку атрымала і сістэма прадпрыемстваў культ.-быт. абслугоўвання і функцыянальнае, канструкцыйна-тэхн. вырашэнне комплексаў жылых дамоў і грамадскіх будынкаў. У пач. 1960-х гг. забудаваны мікрараёны Зялёны Луг 1 і 2 (арх. А. Шалякін, Э. Левіна, Л. Сакалова), па вул. Харкаўскай (арх. В. Варской, М. Мызнікаў, Л. Есьман, І. Люблінскі) у Мінску, Мір 1 і 2 (арх. І. Фралоў і інш.) у Магілёве, па вул. Фрунзе і Смаленскай шашы (арх. Я. Лінэвіч, А. і В. Данілавы, А. Бельскі) у Віцебску, па Рэчыцкай шашы (арх. І. Бурлака) у Гомелі, па вул. Горкага (арх. В. Бажко, І. Мазнічка) у Гродне, а таксама ў новых гарадах — Салігорску (арх. Г. Парсаданаў, А. Сідзельнікаў), Наваполацку (арх. Я. Лінэвіч і інш.), Светлагорску (арх. В. Анікін, Г. Булдаў, Г. Трушнікава) і інш. Мікрараёны звычайна размяшчаліся на свабодных тэр. і забудоўваліся па тыпавых праектах жылымі дамамі з эканамічнымі кватэрамі з традыцыйных матэрыялаў (арх. І. Елісееў, В. Аладаў, Г. Бенядзіктаў, А. Духан і інш.) і буйнапанельнымі дамамі (арх. М. Розанаў, Ю. Шпіт, Н. Шпігельман і інш.). Вялікія змены адбыліся ў праектаванні і буд-ве масавых тыпаў грамадскіх будынкаў, у першую чаргу устаноў культ.-быт. абслугоўвання насельніцтва. У фарміраванні сялібных тэр. пануючай стала тэндэнцыя ўзбуйнення структурных элементаў горада — мікрараёнаў і жылых раёнаў з укараненнем ступеньчатай сістэмы культ.-быт. абслугоўвання. Створаны буйныя жылыя раёны *Чыжоўка, Серабранка,* Курасоўшчына, Захад, Паўднёвы Захад у Мінску, Усходні ў Брэсце, па вул. Савецкай і Валатава ў Гомелі, па вул. Савецкіх пагранічнікаў у Гродне, па праспектах Пушкіна і Міру ў Магілёве, буйныя жылыя масівы ў Баранавічах, Бабруйску, Мазыры, Маладзечне, Оршы і інш. З сярэдзіны 1960-х гг. удасканальваліся архітэктурнапланіровачная арганізацыя і кампазіцыйныя прыёмы забудовы. Створаны комплекс жылых і грамадскіх будынкаў на *Талбухіна вуліцы* ў Мінску (1966, арх. Ю. Шпіт, Я. Саманчук), 9-паверховы жылы дом на *Перамогі плошчы* ў Віцебску (1967, арх. А. Расейкін). Расшыраецца наменклатура тыпавых праектаў жылых дамоў з павелічэннем колькасці тыпаў кватэр (арх. І. Жураўлёў, Э. Левіна, І. Папова, У. Пушкін, Г. Сысоеў, Ю. Шпіт, Н. Шпігельман і інш.). Разам з тым засяроджванне ўвагі на утылітарна-тэхн. і эканамічных пытаннях прывяло да аднастайнасці жылой забудовы, гарады рэспублікі пачалі страчваць своеасаблівасць. З пач. 1970-х гг. у архітэктуры Беларусі пачалося паступовае пераадоленне жорсткага рацыяналізму, распрацоўваюцца і ўкараняюцца новыя серыі тыпавых праектаў, ускладняецца комплекс горадабудаўнічых работ. Паслядоўна ўся тэр. БССР была забяспечана схемамі раённай планіроўкі, удасканальваўся комплекс работ, звязаных з тэрытарыяльнай арганізацыяй, размяшчэннем вытворчасці і рассяленнем (арх. І. Сянкевіч, Н. Ідальчык, Л. Мызнікава, Д. Юдзіна,

В. Кудраўцава, І. Іода, Ю. Шпіт і інш.). Гэта прадвызначыла пераход ад буд-ва адасобленых прадпрыемстваў да стварэння буйных комплексаў — прамысловых вузлоў — спачатку ў Віцебску і Брэсце, потым у Мінску, Асіповічах, Бабруйску, Жодзіне, Магілёве, Наваполацку і інш. (гл. ў раздзеле Архітэктура прамысловых будынкаў і комплексаў). У апошнія 10—15 гадоў для горадабудаўнічай практыкі характэрна хуткае прамысловае развіццё сярэдніх і малых гарадоў, у т. л. Асіповіч, Барысава, Вілейкі, Глыбокага, Жлобіна, Крычава, Ліды, Мазыра, Маладзечна, Рагачова, Слуцка і інш. Аднак недасканальнасць тэхналогіі вытворчасці і



Маладзёжны цэнтр «Мінск» у Наваполацку. 1980-я гады.



Жылы дом па вуліцы В. Харужай у Мінску. 1983.




Праспект Машэрава ў Мінску. 1980-я гады.



Дэкаратыўныя басейны ў мікрараёне Зялёны Луг-5 у Мінску. 1980-я гады.



Бульвар Касманаўтаў у Брэсце. 1980-я гады.

недастатковасць прыродаахоўных мерапрыемствах прывялі да ўскладнення экалагічнага становішча амаль ва ўсіх буйных гарадах. Побач з праблемай далейшага развіцця вытв. базы ў горадабудаўніцтве рэспублікі востра паўстала пытанне жыллёвага буд-ва, што патрабавала карэкціроўкі, а ў многіх выпадках і складання новых ген. планаў, распрацоўкі праектаў планіроўкі асобных раёнаў і грамадскіх цэнтраў, праектаў рэканструкцыі гіст. зон гарадоў. У 1970—80-я гг. на аснове індустрыяльнай базы буйнапанельнага домабудавання створаны новыя жылыя раёны з высокімі архіт.-планіровачнымі і кампазіцыйна-маст. якасцямі, у т. л. Усход, Зялёны Луг 5 (арх. Э. Левіна, І. Сітнікава, С. Богін, А. Воўк), па *Машэрава праспекце* ў Мінску, Фарты 1 (арх. В. Давыдзёнак, В. Бажко, А. Ягошын) і Фарты 2 (арх. І. Мазнічка, Г. Фядосенка) у Гродне, мікрараёны № 3 (арх. В. Гапіенка, Л. Валахановіч, Г. Будзько, О. Ляшук, В. Арсеньеў, Р. Шылай) і № 4 (арх. В. Арсеньеў, І. Карват, Л. Валахановіч) у Брэсце, па *Савецкай вуліцы* і Валатава (арх. Я. Казлоў, А. Лебедзеў) у Гомелі, жылы раён Поўдзень (арх. А. Бельскі, А. і В. Данілавы, Р. Махмутаў і інш.), мікрараёны ў Наваполацку (арх. Шпіт, В. Караткоў, М. Шляймовіч) і інш. Важную ролю ў паляпшэнні якасці забудовы жылых масіваў 1970—80-х гг. адыгралі новыя серыі тыпавых праектаў, распрацаваных на аснове блок-секцыйнага метаду (арх. І. Жураўлёў, Э. Левіна, А. Навумаў, У. Пушкін, Г. Сысоеў, І. Папова, Н. Шпігельман, Ю. Шпіт і інш.), што дазволіла ўзводзіць будынкі рознай паверхавасці, працягласці і канфігурацыі ў залежнасці ад горадабудаўнічай сітуацыі і рэльефу мясцовасці, адмовіцца ад паўтарэння аднатыпных дамоў і шаблонных прыёмаў забудовы папярэдніх гадоў. У жылых раёнах ствараюцца сувязі сялібных зон з вытворчымі, павышаецца ўзровень добраўпарадкавання і азелянення. Вял. ўвага аддаецца развіццю сеткі прадпрыемстваў культ.-быт. абслугоўвання, удасканаленню грамадскіх будынкаў, дзіцячых дашкольных устаноў, школ, устаноў аховы здароўя, грамадскага харчавання і інш. Будуюцца гандлёвыя і грамадска-гандл. цэнтры, у т. л. «Зялёны Луг» (арх. Э. Левіна і інш.) у Мінску, «Вясёлка» (арх. Н. Асадаў, В. Давыдзёнак) у мікрараёне Фарты 1 у Гродне, па вул. Маскоўскай (арх. С. Неумывкін, Г. Кісялёва, А. Фядорчанка) у Брэсце і інш. Вял. ўплыў на архіт.-

Гарадскі Дом культуры на праспекце Рэвалюцыі ў Барысаве. 1980-я гады.



Будынак Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі ў Мінску. 1981.



Павільён міжнародных выставак у Мінску. 1989.

маст. аблічча гарадоў робяць буйныя грамадскія будынкі, сярод якіх кінатэатры *«Кастрычнік»* і *«Масква»* ў Мінску, «Беларусь» (1977, арх. Р. Шылай) у Брэсце, «Кастрычнік» (1977, арх. Р. Грынкевіч) у Баранавічах, «Зорка Венера» (1984, арх. Ф. Іванчанка) у Салігорску, Палац культуры Белсаўпрофа (1981, арх. Г. Чысцякоў) у Брэсце, Палац культуры (1976, арх. Г. Чысцякоў) у Пінску, Палац мастацтваў (1974, арх. С. Мусінскі, Н. Краўкова) і *Дом літаратара* (1976, арх. Ю. Грыгор'еў, В Шубіна) у Мінску, *Гомельскі цырк* ў Гомелі, *Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР будынак, Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра будынак,* комплексы ВНУ, у т. л. вучэбныя карпусы ун-та (1972, арх. С. Пеўны) у Гомелі, ін-т культуры (1973, арх. Ю. Грыгор'еў, Г. Ласкавая, Л. Маскалевіч), карпусы медыцынскага ін-та (1979, арх. Ю. Бічан, Л. Гальдштэйн), комплекс будынкаў архіт. і буд. факультэтаў БПІ (1982, арх. І. Есьман, В. Анікін), новыя карпусы ін-та фізкультуры (1986, арх. У. Афанасьеў і інш.) у Мінску, спарт. збудаванні — крыты каток (1976, арх. Ю. Грыгор'еў, В. Бабашкін), крытыя тэнісныя корты (1978, арх. С. Баткоўскі, Л. Гельфанд), рэканструкцыя стадыёна *«Дынама»* ў Мінску, *Гомельскі лёгкаатлетычны манеж,* спарт. комплексы *«Стайкі»* і *«Раўбічы»*, гасцініцы *«Планета»*, *«Кастрычніцкая»*, *«Беларусь»* у Мінску, *«Віцебск»* у Віцебску, «Інтурыст» у Брэсце, *«Магілёў»* у Магілёве. Высокімі архіт.-планіровачнымі і кампазіцыйнымі якасцямі вылучаюцца *Брэсцкі аэравакзал, Мінскі Палац піянераў і школьнікаў, Беларускага рэспубліканскага знешнеэканамічнага банка СССР будынак* у Мінску. Прыкладам фарміравання буйнога горадабудаўнічага комплексу адм. будынкаў можа служыць забудова галаўной часткі праспекта Машэрава ў Мінску, *Дом прафесіянальных саюзаў, Дом праектных арганізацый*



Фізкультурна-аздараўленчы камбінат у Мінску. 1985.



Аэравакзал у Брэсце. 1986.

Дзяржбуда Беларусі ў Мінску. Новай цікавай тэмай для бел. дойлідаў стала праца над *Мінскім метрапалітэнам.* У апошняе дзесяцігоддзе архітэктуру грамадскіх будынкаў вызначаюць функцыянальная і канструкцыйная логіка, прапарцыянальнасць аб'ёмаў і чляненняў, пластыка фасадаў, выкарыстанне разнастайных матэрыялаў і колеру, прыроднага асяроддзя, узбуйненне маштабаў, удасканаленне прыёмаў аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Вял. значэнне для іх вобразнай характарыстыкі мае ўзаемадзеянне архітэктуры з выяўленчым мастацтвам. Важную ролю ў фарміраванні горадабудаўнічых структур адыгрывае манум. мастацтва. Найбольш удалымі прыкладамі кампазіцыйнай сувязі з прасторавым асяроддзем могуць служыць помнікі Я. Купалу (1972, скульпт. А. Анікейчык, Л. Гумілеўскі, А. Заспіцкі, арх. Ю. Градаў, Л. Левін), комплекс *«Мінск — горад-герой»* у Мінску, *Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі,* помнікі Я. Коласу ў Мінску (1972, скульпт. З. Азгур, арх. Ю. Градаў, Г. Заборскі, Л. Левін), Ф. Скарыне ў Полацку (1974, скульпт. А. і І. Глебавы), мемар. комплексы *«Хатынь», «Брэсцкая крэпасць-герой», Манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі* (у Жодзіне). Значныя поспехі дасягнуты бел. майстрамі ў галіне сельскай архітэктуры (гл. ў раздзеле Сельская архітэктура).

Вял. ўвага аддаецца рэканструкцыі цэнтраў, рэгенерацыі гіст. забудовы, рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры. Праводзяцца работы па ахове прыроднага асяроддзя і паляпшэнні экалагічнага становішча гарадоў, па стварэнні водна-паркавых дыяметраў, азеляненні гарадоў і прыгарадных зон. Буйным дасягненнем у гэтай галіне з'явілася стварэнне Вілейска-Мінскай воднай сістэмы і *Сляпянскага водна-паркавага паўкальца.* Інтэнсіўна развіваюцца гарады сярэдняй велічыні і малыя, у т. л. Рэчыца, Слуцк, Жлобін, Ліда, Крычаў, Вілейка, Люба́нь, Браслаў і інш. Перад сучасным горадабудаўніцтвам стаіць шэраг складаных і актуальных праблем: рэгуляванне росту буйных гарадоў рэспублікі, удакладненне іх планіроўкі з адначасовым захаваннем гіст. структуры, выкарыстанне прыродных умоў, пераадоленне аднастайнасці забудовы і павышэнне маст. якасцей аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, рацыянальнае заніраванне тэрыторый, інж. абсталяванне і добраўпарадкаванне, транспартнае абслугоўванне і інш., якія вырашаюцца горадабудаўнікамі пры вызначэнні будучыні вял. і малых гарадоў. Галаўная арганізацыя, якая займаецца



Комплекс дзіцячай бальніцы па вуліцы Інтэрнацыянальнай у Пінску. 1984.

праблемамі горадабудаўніцтва,— Беларускі дзяржаўны навукова-даследчы і праектны інстытут (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

**Архітэктура прамысловых будынкаў і комплексаў.** У першыя гады Сав. улады разгарнулася вял. праца па рэканструкцыі і расшырэнню існаваўшых прамысловых аб'ектаў. Да 1925 у БССР пераабсталявана 97 прадпрыемстваў. Сярод іх металаапрацоўчыя з-ды «Энергія» (б. «Гігант»), «Метал» (б. Кашарскі) у Мінску, імя Камінтэрна (б. Грынберга), «Чырвоны металіст» (б. артылерыйскія майстэрні) у Віцебску і інш. З-за адсутнасці ў БССР праектных арганізацый і кваліфікаваных кадраў работы па рэканструкцыі вяліся без тэхн. дакументацыі, забудова пляцоўкі не была падпарадкавана адзінаму плану, архітэктурныя пошукі гал. чынам зводзіліся да вырашэння асобных будынкаў. У 1930-я гг. пачалося інтэнсіўнае буд-ва новых прамысл. прадпрыемстваў. Да 1941 узведзена каля 500 аб'ектаў, у т. л. ф-ка штучнага шоўку ў Магілёве, панчошна-трыкатажная ф-ка імя КІМ у Віцебску, фанерна-дрэваапрацоўчы камбінат у Бабруйску, ільнокамбінат у Оршы і інш. Закладваўся фундамент для машынабудавання, якое пазней стала вядучай галіной нар. гаспадаркі Беларусі. Пабудаваны з-ды с.-г. машын і падшыпнікаў у Гомелі, вагавы ў Мінску, аўтарамонтны ў Магілёве і інш. Змяняўся падыход да размяшчэння прадпрыемстваў у горадзе, якія пачалі ставіць у спец. прамысл. зонах, аддзеленых ад жылых тэрыторый ахоўнымі зялёнымі палосамі. Звычайна прамысл. зоны фарміраваліся вакол аднаго буйнога аб'екта (напр., паўд.-зах. зона ў Магілёве вакол з-да штучнага шоўку, паўн.-зах. зона ў Гомелі вакол з-да с.-г. машын). Буд-ва новых прадпрыемстваў вялося пераважна па індывідуальных праектах (арх. А. Дрозд, А. Дзянісаў, П. Кірык, А. Мазгалеўскі і інш.). У планіровачнай арганізацыі прадпрыемстваў найб. пашыраны былі прыёмы перыметральнай забудовы (для прадпрыемстваў лёгкай, харчовай, мясцовай прамысловасці) і забудовы ўздоўж унутранай магістралі (машынабудаванне). На тэр. прадпрыемстваў пачалі прадугледжваць спец. участкі для зялёных насаджэнняў. Асн. вытворчыя карпусы рабіліся шматпралётныя, больш увагі аддавалася арганізацыі харчавання, мед. абслугоўвання, адпачынку работнікаў (прадугледжваліся памяшканні для сталовых, амбулаторый, быт. і клубных пакояў). Будынкі ўзводзіліся ў жалезабетонным каркасе з цаглянымі сценамі, пілястры якіх выяўлялі каркасную будову аб'ёму і звычайна з'яўляліся адзіным дэкар. элементам фасада. Архітэктурныя задачы вызначаліся функцыянальным прызначэннем аб'ектаў, таму знешняе аблічча фабрычна-заводскіх збудаванняў часта мела рысы падкрэсленага тэхніцызму з выкарыстаннем простых геаметрычных форм. У час Вял. Айч. вайны большасць прамысл. прадпрыемстваў была разбурана. Таму адразу пасля вызвалення тэр. рэспублікі ад ням.-фаш. захопнікаў пачалося аднаўленне разбураных і эвакуіраваных на час вайны на У прадпрыемстваў. За кароткі час амаль усе даваенныя прадпрыемствы былі адноўлены. Будаваліся буйныя заводы-гіганты саюзнага значэння (аўтамабільны, трактарны, веласіпедны), а таксама рэспубліканскага значэння: дарожных машын, рысорны, падшыпнікаў, шасцерняў і маторны ў Мінску, трактарных запчастак у Віцебску, пускавых рухавікоў і тарфяных машын у Гомелі, с.-г. машын, электрарухавікоў і аўтамабільны ў Магілёве, карданных валоў, аўтамабільных агрэгатаў у Гродне, с.-г. машын у Брэсце. Пазней пабудаваны з-ды аўтаматычных ліній, інструментальны, тэхналагічнай аснасткі ў Мінску, заточных станкоў імя XXII з'езда КПСС у Віцебску і інш. Інтэнсіўна вялося буд-ва прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці (камвольнага камбіната у Мінску, панчошна-трыкатажнай ф-кі ў Гомелі, *Брэсцкага дыванова-га вытворчага аб'яднання будынак* і інш.). Прамысл. аб'екты па-ранейшаму канцэнтраваліся ў буйных і сярэдніх гарадах, іх буд-ва вялося адпаведна зацверджаным да 1950 ген. планам гарадоў. Акрамя існаваўшых, ствараліся і новыя прамысл. зоны, якія размяшчаліся на перыферыі гарадоў з улікам прыродаахоўных аспектаў, каштоўнасці кампанентаў ландшафту, перспектыў расшырэння, строгай дыферэнцыяцыі транспартных магістралей. Вял. з-ды станавіліся фарміруючым ядром для прылеглых тэр. горада. Нярэдка яны ўзводзіліся разам з буд-вам жылых кварталаў для рабочых (напрыклад, Мінскі трактарны з-д). Прамысл. аб'екты, фасады якіх выходзілі на гал. вуліцы, ігралі важную ролю ў агульнай кампазіцыі забудовы, дзякуючы памерам і маштабу чляненняў (гл. *Мінскіх паліграфічнага камбіната і завода электронных вылічальных машын будынкі*). Нягледзячы на тое, што праектаванне ажыццяўлялася індывідуальна для кожнага аб'ёму, закладваліся асновы для уніфікацыі і тыпізацыі планіровачных і канструкцыйных параметраў, вяліся работы па ўкараненні зборнага буд-ва. Першым на Беларусі вытв. шматпавярховым будынкам, узведзеным такім метадам, стаў гал. корпус гадзіннікавага з-да ў Мінску (гл. *Мінскага гадзіннікавага завода будынкі*). У аб'ёмна-планіровачным вырашэнні прадпрыемстваў распрацоўваліся новыя тыпы прамысл. будынкаў, якія дазвалялі б варыянтна выкарыстоўваць унутраную прастору, злучаць у адзіным аб'ёме рознахарактарныя тэхналагічныя працэсы, ствараць лепшыя ўмовы працы. У якасці будаўнічых матэрыялаў выкарыстоўвалі цэглу, сілікатныя і шлакабетонныя блокі для вонкавых сцен, жалезабетон і метал для ўнутранага каркаса. Знешняе аблічча прамысл. пабудоў адлюстроўвала агульныя стылістычныя тэндэнцыі тагачаснай архітэктуры: засваенне класічнай спадчыны ў спрошчаных, лаканічных формах. З 1-й пал. 1960-х гадоў пачаўся найбольш значны перыяд у развіцці архітэктуры прамысл. будынкаў і комплексаў. Уведзены ў эксплуатацыю *Мінскага завода халадзільнікаў будынкі*, з-да газавай апаратуры і тэхналагічнага абсталявання ў Брэсце, *Беларускага аўтамабільнага завода будынкі* ў Жодзіне, а таксама будынкі прадпрыемстваў новых галін прам-сці, у т. л. хімічнай, здабыўной, прыладабудаўнічай, электроннай: буйныя аб'екты вытв. аб'яднанняў «Палімір» імя 50-годдзя БССР у Наваполацку, «Хімвалакно» імя У. І. Леніна ў Магілёве, «Азот» імя С. В. Прытыцкага ў Гродне, «Беларуськалій» імя 50-годдзя СССР у Салігорску, «Бабруйскшына» ў Бабруйску, «Аршанскі льнокамбінат» у Оршы, «Гідрааўтаматыка» ў Гомелі, радыё- і электрамеханічны з-ды ў Мінску і інш. Для сучаснай прамысл. архітэктуры характэрна стварэнне прамысл. вузлоў, якія ўяўляюць сабой некалькі прад-



Карпусы электралямпавага завода ў Брэсце (усходні прамысловы вузел). 1960-я гады.

прыемстваў, скааперываных на аснове сумеснага выкарыстання чыг. ветак, складской і санітарна-тэхн. гаспадаркі, будынкаў адм. і культ.-быт. абслугоўвання. Такі прынцып размяшчэння прамысл. прадпрыемстваў дазволіў знізіць патрэбы ў тэрыторыях пад прамысл. забудову, зменшыць эканамічныя выдаткі, комплексна вырашаць архіт.-маст. задачы. Сярод буйных прамысл. вузлоў — *Брэсцкі ўсходні прамысловы вузел*, Гродзенскі паўночны прамысловы вузел, Брэсцкі паўд. прамысловы вузел, комплекс харч. прадпрыемстваў у раёне Дражні ў Мінску, а таксама Віцебскі, Бабруйскі, Барысаўскі, Пінскі і інш. Буд-ва прадпрыемстваў у складзе прамвузлоў зрабіла эканамічна мэтазгодным іх размяшчэнне ў малых гарадах, што садзейнічае інтэнсіўнаму развіццю такіх гарадоў (Барысаў, Пінск, Стоўбцы). Захоўваецца і адзінкавае размяшчэнне прамысл. аб'ектаў у горадзе, як правіла, бясшкодных прадпрыемстваў, якія размяшчаюцца непасрэдна сярод жылых кварталаў, актыўна ўключаюцца ў агульную архіт.-кампазіцыйную структуру гарадской забудовы (напрыклад, ф-ка каляровага друку ў Мінску, *Мінскага аўтатранспартнага прадпрыемства комплекс*). Планіровачная арганізацыя пляцоўкі сучаснага прадпрыемства заснавана на дакладным функцыянальным заніраванні, аб'яднанні асобных карпусоў у адзін будынак і стварэнні так званых карпусоў-заводаў, арыентацыі вытворчых і адм.-быт. будынкаў на гал. магістралі, максімальным набліжэнні да іх, фарміраванні развітай перадзаводскай пляцоўкі. Аб'ёмна-планіровачная структура вытв. будынка характарызуецца высокай ступенню блакіроўкі асобных цэхаў, узбуйненнем планіровачных параметраў, поўнай зборнасцю буд-ва. Шырока распаўсюджаны 1- і шматпавярховыя універсальныя прамысл. будынкі, унутраную прастору якіх можна выкарыстоўваць для розных вытворчасцей, хутка мадэрнізаваць і поўнасцю замяняць тэхналагічнае абсталяванне. Каркас вытворчых карпусоў робіцца звычайна са зборнага жалезабетону, засцерагальныя канструкцыі — з жалезабетонных і металічных сценавых панелей рознай фактуры і колеру. Архіт.-маст. выразнасць дасягаецца за кошт выкарыстання разнастайных кампазіцыйных прыёмаў, сярод якіх найбольш пашыраны прыём кантраснага супастаўлення нізкіх шматпралётных аб'ёмаў вытв. карпусоў з вертыкалямі адм., інж.-гасп. будынкаў і тэхнічных збудаванняў (трубы, градзірні і інш.). Большасць прамысл. прадпрыемстваў арганічна ўключаецца ў гар. асяроддзе, не парушае прыродны ландшафт. Многія з іх узведзены на складаным рэльефе, пойменных, лагчынных тэрыторыях (напрыклад, механічны з-д, *Мінскага навукова-вытворчага аб'яднання «Цэнтр» будынкі*, з-д карданных валоў у Гродне і інш.). Гал. арганізацыі па праектаванні прамысл. будаўніцтва — Беларускі дзяржаўны інстытут прамысловага праектавання, ін-т «Белмясцпрампраект» і інш. Сярод вядучых дойлідаў, якія працуюць у галіне прамысл. праектавання — Л. Афанасьева, Э. Бацян, І. Боўт, Н. Буйлава, І. Бярозкіна, Я. Гляцэвіч, А. Ганчароў, М. Гроднікаў, Л. Кітаева, С. Корчык, А. Малашка, Л. Сагалаў, Н. Шыдлоўская, М. Шуміхін і інш.

**Сельская архітэктура.** Пасля Кастр. рэвалюцыі ў сельскім буд-ве адбыліся значныя змены. Пачалося буд-ва культ.-быт. і вытв. будынкаў (клубы, жывёлагадоўчыя фермы, збожжасховішчы і інш.), жылых дамоў з 2—3 пакоямі і кухняй-сталовай. Для сельскага буд-ва часцей сталі выкарыстоўваць цэглу, аднак асн. будаўнічым матэрыялам заставалася дрэва. У Айч. вайну сельская гаспадарка Беларусі панесла вял. страты ад ням.-фаш. захопнікаў — было знішчана і разбурана 9200 вёсак. У першыя пасляваенныя гады разгарнулася вял. работа па іх аднаўленні. За 1946—50 у вёсках Беларусі пабудавана каля 300 тыс. жылых дамоў, шмат школ, устаноў аховы здароўя, клубаў і інш. Развіццё грамадскай вытворчасці і добраўпарадкаванасці стрымлівала тое, што ў большасці сельскія населеныя пункты былі вельмі малыя (у 1959 76 % з іх мелі не больш як па 200 жыхароў). З ростам эканомікі калгасаў-саўгасаў, узбуйненнем гаспадарак важнай задачай стала распрацоўка аптымальнай сістэмы рассялення, комплекснага вырашэння многіх эканамічных, сацыяльна-палітычных і інж.-тэхн. задач. Важную ролю ў развіцці сельскай архітэктуры адыграла пастанова ЦК КПБ і СМ БССР «Аб мерах па далейшаму паляпшэнню жыллёвага і культурна-бытавога будаўніцтва на вёсцы» (1967) і інш., у якіх падкрэслівалася неабходнасць пераадолення сацыяльна-эканам. і культ.-быт. адрозненняў паміж горадам і вёскай, паляпшэння архіт. выразнасці будынкаў, арганізацыі комплекснага эксперыментальнага буд-ва. У асобных гаспадарках эксперыментаваліся розныя варыянты і прыёмы архіт.-планіровачнай арганізацыі жылых пасёлкаў, вытв. комплексаў, інж. абсталявання, тыпаў жылых дамоў, кватэр і аб'ектаў культ.-быт. прызначэння. Паводле эксперыментальных праектаў забудаваны цэнтральныя сядзібы калгасаў «Прагрэс» (в. *Верцялішкі*) Гродзенскага р-на (арх. В. Емяльянаў, Г. Заборскі і інш.; Дзярж. прэмія СССР 1971), «Аснежыцкі» (в. *Аснежыцы*) Пінскага р-на (арх. Н. Нядзелька, В. Хандогін і інш.), «Чырвоная змена» (в. *Сарачы*) Любанскага р-на (арх. Заборскі і інш.), імя Калініна (в. *Сноў*) Нясвіжскага р-на (арх. З. Озерава), саўгасаў імя 60-годдзя КПБ (в. *Малеч*) Бярозаўскага р-на (арх. Нядзелька, У. Сакалоўскі і інш.), «Камуніст» (в. Зашыр'е) Ельскага р-на (арх. Емяльянаў, П. Рудзік і інш.), «Леніна» (в. *Леніна*) Горацкага р-на (арх. Г. Бяганская, А. Калнінш і інш.), «Сялюты» (в. *Акцябрская*) Віцебскага р-на (арх. А. Бельскі, інж. М. Іваноў, Т. Піпкіна) і інш. Сельскія пасёлкі маюць архіт.-планіровачнае вырашэнне, выгоды і добраўпарадкаванне як пасёлкі гарадскога тыпу. Жылую забудову складаюць 2—4-павярховыя шматкватэрныя дамы і дамы 1-кватэрныя сядзібнага тыпу ў 2 узроўнях (пас. *Жамчужны* Баранавіцкага, в. *Мышкавічы* Кіраўскага р-наў і інш.). Характэрным для ўсіх тыпаў жылых дамоў з'яўляецца наяўнасць агульнага жылога пакоя (не менш за 18 $м^2$, кухні павялічанай плошчы (10—12 $м^2$), пярэдняй з шафамі для адзення (6—8 $м^2$), падвалаў для хавання садавіны і гародніны. У працэсе эксперыментальна-паказальнага буд-ва значна павысіўся архіт.-маст. ўзровень жылых дамоў усіх тыпаў за кошт стварэння лоджый,



Фрагмент забудовы цэнтра в. Верцялішкі. 1970-я гады.



Забудова вёскі Мышкавічы Кіраўскага раёна 1980-я гады.

карнізаў, уваходаў, выкарыстання новых будаўнічых матэрыялаў (абліцовачнай керамічнай пліткі, прыроднага каменю, дрэва, актыўнага ўвядзення колеру). У 1960—70-я гг. значна палепшаны тыпавыя праекты сельскіх жылых дамоў і грамадскіх будынкаў. Па індывідуальных праектах пабудаваны многія клубныя будынкі (Палац культуры ў в. Мышкавічы, Палац культуры і спорту ў в. Сарачы, Дом культуры ў пас. Малеч і інш.), прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання (гандл. цэнтры ў вёсках *Расна* Камянецкага і Сарачы Любанскага р-наў і інш.), дзіцячых дашкольных устаноў (дзіцячыя яслі-сады ў вёсках Сарачы, Верцялішкі, Малеч і Замасточча Бярэзінскага р-на і інш.), школьных будынкаў, камбінатаў быт. абслугоўвання і інш. Да 1971 была завершана праца па складанню с-г. схем раённай планіроўкі. На іх аснове распрацоўваліся генеральныя планы альбо схемы планіроўкі і забудовы многіх пасёлкаў. Паводле ген. планаў тэр. пасёлкаў падзялялася на жылую і вытв. зоны, звязаныя паміж сабой транспартнымі і пешаходнымі камунікацыямі. У жылой зоне размяшчаліся жылыя дамы, грамадскія будынкі, спарт. і культ.-быт. збудаванні, плошчы, паркі; у вытворчай — с.-г. комплексы, прадпрыемствы для перапрацоўкі с.-г. прадукцыі і інш. Жылыя зоны аддзелены ад вытворчых санітарна-ахоўнай зялёнай палосай. Пры забудове пасёлкаў выпрацавана значная колькасць прыёмаў добраўпарадкавання і азелянення вуліц, плошчаў, участкаў, прылеглых да грамадскіх будынкаў, сквераў і паркаў, унутрыдваровай прасторы, а таксама вытв. зон. Многія пасёлкі ператварыліся ў своеасаблівыя цэнтры мясц. сістэм, дзе жыхары прылеглых вёсак могуць карыстацца паслугамі спецыялізаваных магазінаў, камбінатаў быт. абслугоўвання, медыцынскімі ўстановамі і інш. З ліку такіх пасёлкаў у якасці апорных вылучаны 433, з іх 240 вёсак і 193 малыя і сярэднія гарады. У іх прадугледжваецца буд-ва ўстаноў абслугоўвання эпізадычнага характару, буйных с.-г. вытв. комплексаў па перапрацоўцы сыравіны і прадуктаў, арганізацый сельгастэхнікі, будаўнічых баз. Радыус абслугоўвання такога пасёлка 15—16 км, колькасць насельніцтва — 6—9 тыс. чал. Такія населеныя пункты маюць транспартную сувязь з усімі прылеглымі вёскамі. У 1980-я гг. асаблівая ўвага была засяроджана на распрацоўцы праектаў для індывідуальнай забудовы. Усё шырэй укараняецца ў сельскім буд-ве серыя 210 буйнаэлементных жылых дамоў з керамзітабетонных панелей, развіваецца і маналітнае домабудаванне. Усе масавыя грамадскія будынкі (школы, дзіцячыя дашкольныя ўстановы, бані і інш.) будуюцца толькі па-

водле тыпавых праектаў БелНДІдзіпрасельбуда. Распрацаваны эксперыментальныя праекты школы мастацтваў, фізкультурна-аздараўленчага комплексу, Дома тэхнічнай творчасці. Грамадскія цэнтры населеных пунктаў забудоўваюцца пераважна па індывідуальных і эксперыментальных праектах, што разам з удалым выкарыстаннем прыроднага мясцовага асяроддзя дае магчымасць надаваць кожнай вёсцы сваё архіт.-маст. аблічча. З сярэдзіны 1960-х гг. у выніку ўзбуйнення гаспадарак, выкарыстання разнастайных будаўнічых матэрыялаў, канструкцый, прагрэсіўных тэхналагічных працэсаў, паляпшэння ўмоў працы вядзецца буд-ва аб'ектаў вытв. с.-г. прызначэння (жывёлагадоўчыя і птушкагадоўчыя фермы, карпусы кармацэхаў, майстэрні, склады, збожжасховішчы, сянажныя і воданапорныя вежы і інш.). Узаемасувязь вытв. і сялібнай зон ажыццяўляецца на аснове адзінага маштабу, суразмернага з ландшафтнымі элементамі тэрыторыі. Кантраст вертыкальных вышынных аб'ёмаў (сянажныя і воданапорныя вежы) і гарызантальных падоўжаных будынкаў для ўтрымання жывёлы стварае выразнае архіт. аблічча забудовы вытв. зоны (жывёлагадоўчы комплекс саўгаса-камбіната «Мір» Баранавіцкага р-на). Буйное чляненне фасадаў сценавымі панелямі, выкарыстанне стужачнага шклення надаюць будынкам выгляд прамысл. збудаванняў. З 1970-х гг. распрацоўваюцца і будуюцца буйныя жывёлагадоўчыя комплексы з адм.быт. карпусамі і добраўпарадкаванай тэрыторыяй, ствараюцца буйнагабарытныя блакіраваныя памяшканні (жывёлагадоўчы комплекс у саўгасе «Парахонскі» Пінскага р-на, свінагадоўчы комплекс саўгаса «Новы» Мінскага р-на). У аснове планіроўкі комплексаў — прынцып функцыянальнага заніравання. Цэнтральнае месца адводзіцца жывёлагадоўчым будынкам, на перыферыі ўчастка размяшчаюцца дапаможныя службы. Архіт. акцэнтам з'яўляецца адм.-быт. корпус, аб'ёмна-прасторавае вырашэнне якога актыўна арганізуе кампазіцыю вытв. зоны (адм.-быт. блок Смалявіцкай птушкафабрыкі Мінскай вобл.). Для сучаснай сельскай архітэктуры характэрна буд-ва аграпрамысл. комплексаў і аб'яднанняў. Ствараюцца буйныя шматфункцыянальныя зоны вытв. прызначэння, аналагічныя прамысл. вузлам у гарадах (свінаводчы саўгас-камбінат «Барысаўскі», аб'яднаны інж. і транспартнымі камунікацыямі з Лошніцкім камбікармавым і рамонтным заводамі ў Барысаўскім р-не). У практыцы сучаснага сельскага буд-ва шырока ўжываюцца разнастайныя будаўнічыя матэрыялы (прыродны камень, керамічная плітка, шкло, пластмасы), пашырана выкарыстанне індустрыяльных канструкцый. Працаёмкія працэсы механізаваны. Вядучая арганізацыя па праектаванні сельскага буд-ва — Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут па будаўніцтву ў вёсцы.

*Ю. А. Якімовіч* (архітэктура да 9 ст.; 9—13 ст.; 14 — сярэдзіна 18 ст.), *А. М. Кулагін* (сярэдзіна 18—2-я пал. 18 ст.), *Т. В. Габрусь* (культавае дойлідства 15—18 ст.), *В. Ф. Марозаў* (канец 18 ст. — 1-я пал. 19 ст.), *В. М. Чарнатаў* (2-я пал. 19 — пач. 20 ст.), *В. І. Анікін, А. А. Воінаў, Ю. В. Шпіт* (1917—41; 1944—55; 1955—90), *А. Б. Марозава* (прамысловыя будынкі і комплексы 1917—90), *Р. І. Белагорцаў, У. Э. Сакалоўскі* (сельская архітэктура 1917—90).







Архітэктура жылых
і грамадскіх будынкаў

Прамысловая і сельская
архітэктура

Замкавае і абарончае
будаўніцтва

Палацавая і сядзібна-
паркавая архітэктура

Культавае дойлідства

Мемарыяльныя комплексы

Горадабудаўнічыя
ансамблі

Гарады, гарадскія пасёлкі,
вёскі

# А

**АДАМАВІЦКІ КАСЦЁЛ ТЭКЛІ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны з цэглы ў 1854 у в. Адамавічы (Гродзенскі р-н). Будынак прамавугольны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Над асн. аб'ёмам квадратная ў плане 2-ярусная званіца, завершаная 4-гранным шатром. Над цэнтр. уваходам скульпт. выява св. Тэклі. Сцены храма атынкаваны, дэкарыраваны пілястрамі, аконныя праёмы арачныя ў ліштвах. Інтэр'ер зальны, столь плоская. Прэсбітэрый і хоры аддзелены ад асн. прасторы сценамі з арачнымі праёмамі. У храме 3 алтары. Касцёл дзейнічае.
*І. С. Мельнік.*


Адамавіцкі касцёл Тэклі.

**АДЭЛЬСКІ КАСЦЁЛ УШЭСЦЯ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст. ў в. Адэльск (Гродзенскі р-н), мае рысы стылю барока. У 1898 адноўлены. Схема 3-нефавая базілікальная з трансептам, 5-граннай апсідай з 2 бакавымі сакрысціямі. У кампазіцыі дамінуе аб'ём цэнтр. нефа, перакрыты высокім вальмавым дахам, вільчык якога з боку гал. фасада завершаны ярусным фігурным купалам на 8-гранным барабане. Вертыкальна ашаляваныя фасады расчлянёны падвойнымі арачнымі вокнамі з брусамі-сцяжкамі па баках і аперазаны шырокім карнізам. Ва ўнутранай прасторы дамінуе высокі цэнтр. неф, адмежаваны ад бакавых высокімі аркадамі на 5 парах слупоў і расчынены ў апсіду і крылы трансепта шырокімі арачнымі прасветамі. Над вузкім нартэксам на 2 слупах галерэя хораў з арганам. Нефы і тарцы трансепта завершаны высокамастацкімі драўлянымі алтарамі, выкананымі ў 18 ст. ў стылі ракако: пілястры і каланады нясуць моцна крапаваныя антабламенты, на якіх узвышаюцца фігурныя шчыты з бакавымі валютамі, фігуркамі пуцці і дэкар. вазамі. У алтарах творы жывапісу 18 ст. Перад касцёлам 3-арачная стральчатая брама і 2-ярусная чацверыковая шатровая званіца з бутавага каменю. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*


Адэльскі касцёл Ушэсця.

**АЖЭШКІ ВУЛІЦА** ў Гродне. Адна з цэнтр. вуліц горада, звязвае Прывакзальную пл. з пл. Леніна. Першапачаткова ў 14 ст. тут праходзіў шлях з Гродна праз княжацкую вёску Гарадніцу ў Верцяліш-кі — радавы маёнтак каштэляна гродзенскага замка Давыда Гарадзенскага. У 1760—80-я гады забудоўвалася як гал. вуліца каралеўскага прадмесця *Гарадніцы.* У гэты час вуліца наз. Раскоша (ад назвы адной з *Гродзенскіх корчмаў).* Іншыя назвы: Верцяліска, Езерска, Садовая, Басяцкая, Мураў'ёўская. У 1920 названа ў гонар польскай пісьменніцы Элізы Ажэшкі, якая жыла тут з 1894 да 1910. У часы праўлення гродзенскага старосты А. Тызенгаўза тут былі пабудаваны першыя на Беларусі 20 тыпавых драўляных з мураванымі фасадамі жылых дамоў для рабочых каралеўскіх мануфактур, захаваўся адзін з іх — дом № 37 (так званая «хатка майстра», 1771, гл. *Гродзенскі «домік майстра»*). У 1802 Гарадніца была падпарадкавана гарадской юрысдыкцыі, але інтэнсіўна вуліца пачала забудоўвацца ў 1860—80-я гады пасля пракладкі ў 1862 чыгункі Пецярбург — Варшава (звязала вакзал з цэнтрам і стала важнай гар. магістраллю). У час Вял. Айч. вайны многія будынкі былі пашкоджаны. Значныя змены ў архітэктурным абліччы вуліцы адбыліся ў 1960—80-я


Ажэшкі вуліца ў Гродне. Дом № 15.

гады, калі былі разбураны помнікі архітэктуры — будынкі кантрольнай палаты (пач. 19 ст.), чыг. вакзала (1864), шэраг пабудоў з часоў Тызенгаўза. Узведзеныя на іх месцы 9-павярховы будынак аблвыканкома, 9—12-павярховыя жылыя дамы ўнеслі дысананс у архіт. ансамбль вуліцы. Захаваліся помнікі архітэктуры 18—пач. 20 ст.: *Гродзенскай медыцынскай школы будынак, Гродзенскага паштовага ведамства будынак, Гродзенскага акруговага шпіталя будынак, Гродзенскі дом віцэ-губернатара, Гродзенскай жаночай гімназіі будынак, Гродзенская Пакроўская царква,* жылыя дамы (канец 19 — пач. 20 ст.). *І. Г. Трусаў.*

**АКАДЭМІЧНЫ ГАРАДОК** у Мінску. У 1931—32 праведзены конкурс на праект комплексу АН БССР. Лепшым прызнаны праект арх. Г. Лаўрова, і паводле праекта пачата буд-ва ў паўн.-ўсх. частцы горада. У аснове кампазіцыйнага вырашэння сістэма паасобных павільёнаў і карпусоў для НДІ. Першым пабудаваны 3-павярховы лабараторны корпус, павернуты гал. фасадам да магі-

стралі. У 1934—35 праектаванне і назіранне за буд-вам даручана арх. І. Лангбарду, які, пакінуўшы першапачатковую планіроўку карпусоў, змяніў іх аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Разгорнутыя пад прамым вуглом паасобныя аб'ёмы ён аб'яднаў агульным вестыбюлем з параднай 3-маршавай лесвіцай і ўвёў велічную 2-радовую каланаду, што надало гал. корпусу (завершаны ў 1939) урачыстую манументальнасць. У Вял. Айч. вайну будынак разбураны, у 1949 адноўлены; стаў адным з планіровачных вузлоў у забудове *Ленінскага праспекта.* У 1960—70-я гады створаны комплекс будынкаў АН Беларусі ў квартале паміж вуліцамі Сурганава і Скарыны: 4—5-павярховыя карпусы ін-таў фізікі і фізіка-арганічнай хіміі (арх. А. Іваноў), матэматыкі (арх. А. А. Воінаў), агульнай і неарганічнай хіміі (арх. Г. Бенядзіктаў), фотабіялогіі, заалогіі, СКБ Ін-та фізікі (арх. А. А. Воінаў), Цэнтр. навук. б-кі імя Я. Коласа (арх. Э. Гальдштэйн). На сумежных вуліцах узведзены будынкі Аддзела фізікі неразбуральнага кантролю і Ін-та праблем надзейнасці і даўгавечнасці машын (арх. І. Боўт, Н. Шпігельман), ін-таў тэхнічнай кібернетыкі (арх. А. Беразоўскі, Ю. Грыгор'еў), цепла- і масаабмену (арх. Н. Замараева, Л. Сагалаў, А. Шчусеў), фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў (арх. Шчусеў) і інш. Да гал. корпуса з боку вул. Скарыны прыбудаваны корпус Ін-та гісторыі (арх. Н. Аладава, В. Ладыгіна). У 1977 закончана буд-ва двух 14-павярховых корпусаў уздоўж вуліц Сурганава і Скарыны, павернутых пад вуглом адзін да аднаго і аб'ядназных аб'ёмам канферэнц-залаў і Музеем стараж.-бел. культуры Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі (арх. А. Духан, А. Красоўскі, Л. Хаюцін).



**Акадэмічны гарадок.** Галоўны корпус АН Беларусі.



Макет Акадэмгарадка па вуліцы Жодзінскай.

У 1972 пачата буд-ва новага А. г. ў паўн.-ўсх. частцы Мінска на вул. Жодзінскай (спраектаваны ін-там «Белдзяржпраект») на тэр. 310 га. Новы А. г. будзе складацца з адм.-грамадскага цэнтра, навукова-вытворчай і жылой зон. Комплексы ўключаюць 2—3 групы, у кожнай па 4 будынкі, аб'яднаныя паміж сабой пераходамі. Пабудаваны карпусы ін-таў фізіка-тэхнічнага і мікрабіялогіі (арх. В. Малышаў, А. Пецярбуржцаў, Я. Яснагародскі), геафізікі і геахіміі (арх. М. Вінаградаў, Г. Гераўкер, Б. Папоў), біяарганічнай хіміі (арх. Вінаградаў) і інш.

*А. А. Воінаў.*

**АКРУГОВЫ ДОМ АФІЦЭРАЎ** у Мінску. Пабудаваны ў 1934—39 (перабудова сабора б. архірэйскага падвор'я; арх. І. Лангбард). Да 1946 Дом Чырвонай Арміі. Будынак з трох бакоў абмежаваны праспектам Ф. Скарыны, вуліцамі Чырвонаармейскай і К. Маркса. Для яго архітэктуры характэрны лаканізм і прастата кампазіцыйнай пабудовы. Гал. фасад арыентаваны на цэнтральны сквер. Трохчвэртныя калоны на вышыню 4 паверхаў падтрымліваюць велічны атык. Збудаванне ўключае развітую тэатральную частку (глядзельная зала на 1005 месцаў, кінаканцэртная на 531 месца), шматлікія клубныя памяшканні, пакоі вучэбныя і для адпачынку, выставачную і інш. залы, б-ку, рэстаран, развіты спарткомплекс з плавальным басейнам і заламі для заняткаў рознымі відамі спорту. У афармленні інтэр'ераў выкарыстаны сродкі манум.-дэкар. мастацтва (барэльефы на партале сцэны, асвятляльных галерэях, у фае, плавальным басейне; скульпт. А. Бембель, А. Глебаў і інш.). У 1974 рэканструяваны інтэр'еры тэатральнай часткі (аўтарскі калектыў пад кіраўніцтвам арх. Г. Сысоева). Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Воінаў.*

**«АКСАКАЎШЧЫНА»**, клініка навукова-даследчага інстытута радыя-



**Акругoвы Дом афіцэраў** у Мінску.



«Аксакаўшчына», клініка навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны.

цыйнай медыцыны (з 1 студзеня 1989, да 1988 — кліматычна-бальнеалагічны санаторый). Знаходзіцца паблізу пас. Аксакаўшчына (Валожынскі р-н), за 30 км на З ад Мінска. Створаны для аказання дапамогі пацярпеўшым у выніку Чарнобыльскай аварыі. Размешчана на добраўпарадкаванай лесапаркавай тэрыторыі пл. каля 100 га у сутоках рэк Ісдач і Чарнаруч. Корпус санаторыя пабудаваны ў 1972 (арх. С. Ульянава) з цэглы і маналітнага жалезабетону. Комплекс складаецца з 4 корпусаў, звязаных паміж сабой крытымі пераходамі. Да асн. 6-павярховага выцягнутага ў плане прамавугольнага аб'ёму гал. жылога корпуса з ПдУ прымыкае 2-павярховы аб'ём клуба-сталовай, з ПнЗ — 4-павярховы лячэбны корпус. Кампазіцыя комплексу асіметрычная. Лячэбны корпус і клуб-сталовая зрокава ўраўнаважваюць кампазіцыю гал. корпуса. У вырашэнні інтэр'ераў клуба-сталовай, басейна, гасцінай гал. корпуса выкарыстаны прынцып раскрыцця прасторы ў знешняе прыроднае асяроддзе. Інтэр'ер пакоя адпачынку ўпрыгожвае размалёўка «Юнацтва» (1975—76; маст. Я. Кузняцоў), выкананая падглазурнымі фарбамі па плітцы з шамоту.

*В. Ф. Валошын.*

**АКЦЯБРСКАЯ,** вёска ў Віцебскім р-не, цэнтр Акцябрскага с/с і саўгаса «Сялюты» імя 50-годдзя СССР, за 4 км ад Віцебска, на аўтамагістралі Ленінград — Адэса. У выніку эксперыментальна - паказальнага



**Акцябрская.** Грамадскі цэнтр саўгаса «Сялюты».

буд-ва, якое вялося ў вёсцы з 1968, створаны новы пасёлак — цэнтр. сядзіба саўгаса. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў ін-це «Віцебскграмадзянпраект» (арх. А. Бельскі, М. Іваноў, Т. Піпкіна). У аснове планіроўкі — падзел тэр. на жылую і вытворчую зоны, стварэнне кампазіцыйнага адзінства забудовы з улікам асаблівасцей рэльефу. Дамінуючым у забудове пасёлка стаў грамадска-гандл. цэнтр (кампазіцыйна раскрыты на аўтамагістраль), дзе ў адзіным аб'ёме зблакіраваны будынкі культ.-быт. і адм. устаноў: Дом культуры на 400 месцаў, б-ка, муз. школа, магазіна, кантора саўгаса, выканком сельскага Савета, паштовае аддзяленне, АТС, камбінат быт. абслугоўвання і інш. Цэнтр пасёлка аб'ядноўвае 2 жылыя зоны. Першая жылая зона забудавана блакіраванымі дамамі з кватэрамі ў 2 узроўнях і з прысядзібнымі ўчасткамі, другая — 2—3-павярховымі секцыйнымі дамамі без сядзібных участкаў, дамамі для маласямейных і інш. З усх. боку да жылога масіву прымыкае лесапарк, дзе размешчаны сярэдняя школа з інтэрнатам і спарткомплекс з плавальным басейнам. Распрацоўка праекта і забудова цэнтр. сядзібы адзначаны прэміяй СМ СССР (1976), 2 дыпломамі ВДНГ СССР. *М. С. Іваноў.*

**АКЦЯБРСКІ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Акцябрскага р-на, на р. Нератоўка. Створаны ў 1954 у выніку аб'яднання вёсак Карпілаўка, Рудобелка, Рудня. Галоўная архіт.-планіровачная вось — вул. Савецкая, якая праходзіць з Пн на Пд паралельна чыгунцы. На ёй 2 плошчы: Цэнтральная (адм.-грамадскі і культурны цэнтр) на перакрыжаванні з вул. Бумажкова і Партызанская (у паўд. частцы) з адм. і культ.-быт. аб'ектамі, гандл. прадпрыемствамі. У 1985 Цэнтральная пл. рэканструявана, на ёй устаноўлены помнікі: «Змагарам за Савецкую ўладу»



**Альбінская альтанка.** Праект.

(арх. В. Кузьменка, скульпт. А. Палякоў) і Герою Сав. Саюза Ц. П. Бумажкову. Жылая забудова квартальная (у цэнтр. частцы жылы квартал № 1 забудаваны 2—5-павярховымі жылымі дамамі). На Пн ад вул. Бумажкова забудоўваецца жылы квартал 4-га мікрараёна. Паводле генплана 1975 (ін-т «Гомельграмадзянпраект») прадугледжана асн. тэрытарыяльнае развіццё на Пн і ПнУ, упарадкаванне архіт.-планіровачнай структуры. *М. А. Найшулер.*

**АЛЬБІНСКАЯ АЛЬТАНКА,** паркавы павільён. Знаходзілася ў італьянскім садзе летняй рэзідэнцыі Радзівілаў Альба (гл. *Альбінскі палацава-паркавы комплекс*). Збудавана з дрэва ў 1780 у стылі ракако паводле праекта арх. Л. Лютніцкага. Цэнтрычная, 3-ярусная, круглая ў плане, з балдахінным дахам, завершаная карынфскай каннеліраванай калонай. У аснове альтанкі і на 1-м ярусе — вежы ў выглядзе мінарэтаў з шатровымі завяршэннямі, увянчаныя маладзікамі. 2-і і 3-і ярусы — адкрытыя тэрасы з агароджай у выглядзе балюстрады (адтуль глядзелі вячэрнія феерверкі). Альтанка дэкаратыўна аздоблена барэльефнымі пано на антычную тэматыку, руставанымі лапаткамі, паясамі гірлянд, трыгліфамі. Прамавугольныя праёмы абрамлялі фігурныя нішы. Архіт. рашэнне альтанкі адпавядала агульнай экзатычнай трактоўцы паркавых павільёнаў Альбы.
*А. М. Кулагін.*

**АЛЬБІНСКАЯ ГЕОРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1790 у в. Альба (Івацэвіцкі р-н) з брусоў на цагляным падмурку. У 1904 перабудавана. Царква трохзрубная, асіметрычнай падоўжна-восевай кампазіцыі. Да гал. выцягнутага па падоўжнай восі прамавугольнага аб'ёму з Пн прылягае 5-гранная алтарная апсіда, з Пд — 2-ярусная чацверыковая званіца, завершаная высокім шатровым васьмерыковым дахам. Гал. аб'ём і алтарная апсіда, да якой з У прылягае рызніца, накрыты агульным шматсхільным гонтавым дахам з застрэшкамі і хвалямі ў месцы злучэння гал. і алтарнага зрубаў. Будынак звонку ашаляваны, вуглы аздоблены руставанымі нашчыльнікамі. Аконныя праёмы арачныя. Гал. ўваход вылучаны крытым слупавым ганкам. Алтарная апсіда і шацёр званіцы ўвянчаны галоўкамі з крыжамі. У ніжнім ярусе званіцы — хоры, злучаныя з нефам арачным праёмам. Алтар аддзелены іканастасам з разнымі пазалочанымі царскімі варотамі. На архітэктуру помніка паўплывала мураванае дойлідства Беларусі 16—17 ст. (прасочваюцца аналагі з готыка-рэнесансавымі абарончымі храмамі). Царква не дзейнічае.



Альбінская Георгіеўская царква.

**АЛЬБІНСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ КОМПЛЕКС.** Закладзены ў 2-й пал. 16 ст. ў прыгарадзе Нясвіжа Альба. Пл. больш за 200 га. У пач. 17 ст. пабудаваны эрмітаж, драўляны палац «кансаляцыя», персіярня. Асн. планіровачныя восі — узаемна перпендыкулярныя гал. алея (даўж. больш за 2 км) і вял. канал. Цэнтрам кампазіцыі гал. (паўн.-ўсх.) часткі комплексу быў 2-павярховы мураваны палац анфіладнай планіроўкі, накрыты дахоўкай і завершаны 2 вежачкамі з ляпнымі гербамі Радзівілаў. Уключаў прыхожую, хол, 2 залы, 8 жылых пакояў, 3 альковы, 2 кабінеты, 4 гардэробы. Сцены былі аздоблены тонкімі атласнымі шпалерамі з арабескамі, столь мела гіпсавую лепку, падлога — з наборнага паркету. Інтэр'еры ўпрыгожвалі печы з паліхромнай кафлі, каміны з чорнага штучнага мармуру, скульптура, партрэты, абразы. За палацам размяшчаўся вял. «італьянскі» сад, гал. галерэя якога была абсаджана самшытавым дрэвам, злучала палац са «звярынцам». Мелася некалькі кветнікаў і «ценявых» алей — біндажоў, абсаджаных шпалерамі з грабу і ліп. Непадалёк ад палаца размяшчаўся шпалерны сад у выглядзе 7-прамянёвай зоркі, утворанай шэрагамі грабавых шпалер з круглай ў плане 8-слуповай мураванай купальнай альтанкай у цэнтры (столь аздоблена лепкай, сцены — размалёўкай). Паміж шпалерамі размяшчаліся 7 аднатыпных драўляных будынкаў.

Ад шпалернага саду грэбля вяла да «галандскай» фермы, дзе стаяў 2-павярховы будынак. Непадалёк ад фермы знаходзілася *Альбінская альтанка.* Ад яе ва ўсе бакі разыходзіліся 8 бярозавых алей, аздобленых драўлянымі слупамі са скульптурнымі выявамі жывёл. Адна з алей вяла да эрмітажа (пабудаваны з цэглы ў сярэдзіне 18 ст. на месцы будынка 17 ст.). Складаўся з аддзеленых сцяной гал. і гасп. карпусоў, уваходы ў якія былі аформленыя драўлянымі скульптурамі св. Крыштофа і Мікалая. Гал. корпус уключаў 3 пакоі, гардэроб, сталовую, кухню і капліцу, сцены былі аздобленыя размалёўкай на рэлігійныя сюжэты, у пакоях стаялі кафляныя печы і каміны са скульптурнымі выявамі, у капліцы — 6 фаянсавых алтароў, зробленых на мануфактуры ў в. Новы Свержань (Стаўбцоўскі р-н), статуі св. Мікалая і Яна Непамука са слановай косці, абразы. Непадалёк ад эрмітажа знаходзіліся драўляны 1-павярховы палац «кансаляцыя» і 2-і «італьянскі» сад, дзе былі грабавыя і ліпавыя шпалеры, альтанка і аранжарэя, за садам — персіярня. У паўн.-зах. частцы комплексу размяшчаліся «звярынец» (пл. каля 90 га) і фазанавае поле (пл. каля 65 га). Цэнтр кампазіцыі — круглы вадаём (з востравам і паляўнічым павільёнам, да якога зыходзіліся 8 каналаў). Пры рэканструкцыі комплексу ў 1780-я гады (арх. Л. Лутніцкі, К. Спампані) уздоўж каналаў зроблены добраўпарадкаваныя набярэжныя, на якіх пастаўлена 180 драўляных катэджаў. На набярэжнай вял. канала пабудаваны з дрэва касцёл св. Тройцы з трыма пазалочанымі меднымі купаламі, 12 разнымі алтарамі і званіца. Пабудовы комплексу не збераглiся, часткова захаваліся паркавыя насаджэнні. *Ю. А. Якімовіч.*

**«АЛЬБЯРЦІН»,** сядзібна-паркавы комплекс 19 ст. Гл. *Слонімская сядзіба «Альбярцін».*

**АЛЬКОВІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1897—1902 у цэнтры в. Альковічы (Вілейскі р-н). Трохнефавы аднавежавы храм сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з трохграннай высокай апсідай, да якой прымыкаюць невысокія сакрысціі. Апсіда і бакавыя фасады па вуглах умацаваны ступеньчатымі контрфорсамі. Вежа шмат'ярусная (завяршэнне не захавалася). Ніжні ярус вылучаны стральчатым парталам гал. ўвахода з вімпергам, над якім вял. акно-ружа. Другі ярус аддзелены ад ніжняга цагляным накладным арнаментам паміж 2 карнізамі. Тарэц алтарнай часткі завершаны трохвугольным шчытом з невял. вежачкай. Вокны касцёла стральчатыя, розныя па шырыні і вышыні. Сцены дэкарыраваны аркатурнымі паясамі су-



**Альковіцкі касцёл.** Выгляд з боку апсіды.

харыкаў, нішамі. Унутраная прастора перакрыта стральчатым скляпеннем (захавалася часткова), якое падтрымліваюць шматслойныя калоны і пілястры. Калоны завершаны керамічнымі плітамі з выявамі лісця і пладоў вінаграду. На хорах — арган, упрыгожаны драўлянай разьбой з гатычнымі матывамі ў кампазіцыі і дэкоры. У 1969 згарэў дах касцёла, рамантуецца. Аддадзены веруючым. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. Ю. Пятросава.*

**АЛЯКСАНДРАЎШЧЫНСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ,** помнік архітэктуры неакласіцызму. Пабудаваны ў канцы 19 ст. на паўн.-зах. ускраіне в. Аляксандраўшчына (Зэльвенскі р-н) у эклектычных формах. 1-павярховы мураваны прамавугольны ў плане будынак складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, накрыты 2-схільным дахам. Да ўваходнага фасада прыбудаваны ўваходны службовы эркер. Цэнтр. частка гал. фасада вылучана высокім ганкам з верандай і мансардай. Гал. ўваходны праём і бакавыя вокны ствараюць аркаду, размежаваную паўкалонамі. Сіметрыя фасада падкрэслена бакавымі 3-граннымі эркерамі з лучковымі аконнымі праёмамі, якія дэкарыраваны прафіляванымі ліштвамі, паўкалонамі. Фасады раскрапаваны плоскімі вуглавымі пілястрамі, рустам, прафіляваным карнізам з сухарыкамі. Цэнтр. частка дваровага фасада вылучана неглыбокім рызалітам. Першапачатковая анфіладная планіроўка зменена пры рэканструкцыі будынка пад школу.

*А. М. Кулагін.*



**Аляксандраўшчынскі сядзібны дом.**

**АНТОПАЛЬ,** гарадскі пасёлак у Драгічынскім р-не. Цэнтр калгаса «1 Мая». За 27 км ад Драгічына. Вядомы з 1718 як мястэчка Кобрынскага пав. У 1897 у А. 3867 жыхароў, 1262 будынкі, у т. л. нар. вучылішча (пабудавана ў 1863, пры ім з 1884 працавала б-ка). У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы. З канца 1939 у БССР. З 1940 гар. пасёлак, у 1940—59 цэнтр раёна. Арх.-планіровачную структуру вызначаюць 2 узаемна-перпендыкулярныя вуліцы Савецкая (магістраль Брэст—Гомель) і Шыша, на скрыжаванні якіх фарміруецца грамадска-культурны і гандлёвы цэнтр. Сетка вуліц рэгулярная. Пераважае драўляная аднапавярховая жылая забудова сядзібнага тыпу, якая размешчана ў асн. уздоўж гал. вуліц. Лесапаркавая зона займае паўн.-зах. і паўн.-ўсх. часткі. Зберagліся помнікі архітэктуры 19 ст.: Васкрасенская царква (драўляная, мае рысы стылю класіцызму) і гандлёвыя рады. Пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1975 (Мінскі філіял Цэнтр. НДІ горадабудаўніцтва).

*Г. Я. Булдаў.*

**АНУФРЫЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры барока. Пабудавана ў 2-й пал. 18 ст. ў в. Ануфрыева (Мсціслаўскі р-н) як уніяцкая на месцы, дзе раней быў праваслаўны манастыр (засн. ў 14 ст. князем Юрыем Смаленскім). Мураваны аднанефавы храм з паўцыркульнай алтарнай апсідай і высокай 5-яруснай вежай-званіцай. Неф і апсіда накрыты высокім 2-схільным дахам. Квадратная ў плане вежа завершана невял. шатром. Усе ярусы (чацверыкі) падзелены развітымі прафіляванымі

карнізамі, на вуглах аздоблены пілястрамі. Будынак пастаўлены на высокі цокаль. Сцены расчлянёны падвойнымі пілястрамі і завершаны развітым прафіляваным карнізам. Аконныя праёмы з лучковымі, на вежы з паўцыркульнымі завяршэннямі. У інтэр'еры скляпенне цыліндрычнае з распалубкамі. Царква не дзейнічае, у аварыйным стане. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*

**АРАХАЎНЯНСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму. Пабудавана ў 1840 на паўн. ускраіне в. Арэхаўна (Ушацкі р-н). Належала Грамніцкім, пазней В. Забелу. Уключае парк рэгулярнай планіроўкі (растуць кедр, лістоўніца, таполя і інш.) з возерам, сядзібны дом, флігель, гасп. пабудовы. Гал. вось — цэнтр. алея ад уязной брамы да параднага двара-курданёра. Мураваны с я д з і б н ы  д о м — П-падобны ў плане 1-павярховы будынак з 2-павярховай цэнтр. часткай, вылучанай балконам і завершанай 3-вугольным франтонам. Сіметрычная кампазіцыя гал. фасада парушана бакавым размяшчэннем увахода, афармлена га 4-калонным атыкавым порцікам. Дваровы фасад вырашаны сіметрычна: у цэнтры выступае 2-павярховы круглаваты эркер і кароткія бакавыя крылы. У аздабленні фасадаў выкарыстаны рустыка, дэнтыкулы, прафіляваныя карнізы, ліштвы і сандрыкі ў абрамленні акон. Планіроўка анфіладная. У цэнтры вылучаецца вял. авальная зала з вітымі ўсходамі. Выкарыстоўваецца навучальнай установай. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*



Ануфрыеўская царква.

**АРШАНСКАГА РЭАЛЬНАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры. Пабудаваны з чырвонай цэглы ў 1906 у цэнтры Оршы (вул. Леніна, 41). У вучылішчы ў 1907—09 працаваў дзеяч рэвалюцыйнага руху, публіцыст П. М. Лепяшынскі. Двухпавярховы П-падобны ў плане мураваны аб'ём бакавымі крыламі арыентаваны ў двор. Гал. ўваход у цэнтры будынка мае прыхожую, невял. вестыбюль, адкуль трохмаршавыя парадныя ўсходы вядуць на 2-і паверх, дзе цэнтр. месца займае актавая зала. Архітэктурна-маст. вырашэнне будынка сціплае, дэкор вырашаны сродкамі цаглянай муроўкі. Гал. фасад расчлянёны 3 рызалітамі. Сярэдні, які выступае больш за бакавыя, вылучаны высокімі арачнымі вокнамі 2-га паверха, гал. уваходам і невял. арыгінальным балкончыкам. Арх. выразнасць аб'ёму ўзмацняецца яго каларыстычным вырашэннем, вылучэннем на фоне чырвона-карычневай муроўкі ліштваў, карнізных цяг, абрамленняў вуглоў і інш. У будынку размешчана сярэдняя школа № 1.

*В. М. Чарнатаў.*

**АРШАНСКАЯ ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана з цэглы ў 1880 (на месцы царквы 1460), на левым беразе Дняпра. Тэрыторыя царквы абнесена муравай агароджай, вуглы якой умацаваны контрфорсамі, дэкар. вежачкамі. З боку вул. 2-й Лагернай манументальная брама. Храм падоўжнавосевай 4-частковай кампазіцыі: званіца, кароткая трапезная, кубападобны асн. аб'ём з бакавымі прыдзеламі, 5-гранная апсіда з нізкімі рызніцамі. Асноўны аб'ём накрыты шатровым дахам з поясам какошнікаў па перыметры і 8-гранным барабанам з цыбулепадобным купалам у завяршэнні. Такой жа формы купалкі на стройных шыйках завяршаюць 3-ярусную шатровую званіцу і дах апсіды. Размешчаныя ярусна як і рознавялікія аб'ёмы царквы, яны надаюць кампазіцыі вертыкальную дынамічнасць. Фасады насычаны актыўнай архіт. пластыкай, запазычанай у старажытнарускім дойлідстве: какошнікі, кілепадобныя і арачныя з вытанчанымі калонкамі ліштвы адзінарных прамавугольных і строеных арачных праёмаў, філёнгавыя вуглавыя лапаткі і фрызы. Зала перакрыта паўсферычным купалам. Драўляны разны іканастас мае царскія вароты высокамастацкай работы ў стылі ракако. Царква дзейнічае.

*А. М. Кулагін.*

**АРШАНСКІ ВАДЗЯНЫ МЛЫН,** помнік вытворчай архітэктуры. Пабудаваны ў 1902 з чырвонай цэглы на бутавым падмурку ў цэнтры Оршы на канале, які злучае р. Аршыцу з Дняпром. Архітэктура будынка вырашана з элементамі несапраўднай готыкі і псеўдарускага стылю. Асн. прамавугольны ў плане 3-павярховы аб'ём завершаны 2-схільным дахам, да яго прылягала аднапавярховае рабочае памяшканне з вадзяным колам (не збераглося). Сцены асн. аб'ёму прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, раскрапаваны лапаткамі, гарызантальнымі паясамі (плоскімі і «парэбрыкам»). Гал. (паўд.-ўсх.) фасад завершаны франтонам



**Аршанскага рэальнага вучылішча будынак.**



**Арахаўнянская сядзіба.** Сядзібны дом.



Аршанская Ільінская царква.

з круглым акном у тымпане. У комплексе з млыном вырашаны мост праз канал — аднапралётная арачная канструкцыя з чырвонай цэглы на бутавым падмурку — аздоблены парапетам са спічастымі праёмамі, картушавымі шчытамі па баках аркі. Млын не дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

**АРШАНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—16 стагоддзях. Размяшчаўся ў сутоках Дняпра і Аршыцы на месцы гарадзішча 11 ст. Мураваны 5-вежавы замак узводзіўся з 1398 па 1407 мясц. насельніцтвам пры ўдзеле майстра-муляра з Крулеўца (цяпер Калінінград). Па прычынах эканам. і паліт. характару не да канца быў змураваны і ў 15 ст. звершаны з дрэва. Падмурак сцен і вежаў замка размяшчаўся на вапнавай падушцы, меў вышыню каля 1 м і быў складзены з валуноў сярэдніх памераў. Сцены ўзведзены ў тэхніцы «паласатай муроўкі», дзе рады падагнаных валуноў выраўнены радамі буйнапамернай цэглы. Сістэма цаглянай муроўкі «балтыйская» — чаргаванне 2 лажкоў і 1 тычка, што дазваляе датаваць замак канцом 14 — пач. 15 ст. і пацвярджае пісьмовыя сведчанні пра тагачасныя будаўнічыя работы. Паводле пісьмовых крыніц, да замакавага ўвахода, які размяшчаўся з зах. боку, вёў мост, перакінуты цераз роў, што жывіўся вадою р. Аршыцы. У 1560 драўляная замкавая брама на мураваным падмурку мела выгляд 2-яруснага збудавання з сістэмай запорных канструкцый. Унізе брамы стаяла вял. бронзавая гармата, другая невял. гармата знаходзілася на 2-м паверсе. Брамны праём закрываўся «ўзводам» (пад'ёмным мостам). Праслам сцяны брама была звязана з 2-яруснай, напалавіну «мурам абмураванай» вежай, што стаяла злева. Далей мур ішоў на У і ўпіраўся ў трэцюю вежу, мураваную да ўзроўню 2-га яруса і вышэй зробленую з дрэва. Ніжнюю частку яе займаў цэйхгауз, дзе было 33 гакаўніцы, 20 аркебузаў, 3 невял. жалезныя гарматы, старасвецкі жалезны «кій ку стрелбе», запас гарматных ядраў, куль, свінец, порах, салетра, сера, кнаты і інш. амуніцыя. На беразе Дняпра размяшчалася чацвёртая 2-павярховая вежа з гарматай. Пад мураванай сцяной знаходзіўся «тайнік деревянный фундованный для воды у Днепр». Па краі высокага правага берага Дняпра ішла сцяна да 5-й вежы. На версе праслаў замкавых сцен на кансольных бэльках была зроблена баявая галерэя — «обланки», дзе знаходзіліся гарматы. Тут жа бліжэй да брамы вісеў «звон великий з клепалом», у які званілі «на трывогу». Унутры замка ўшчыльную да мураваных сцен прымыкала 101 драўляная гародня, дзе ў ваенны час гараджане, шляхта і сяляне замкавай воласці мелі клеці «на своё схованье часу потребы» і захаванне свайго скарбу. Перыметр мураванага замка складаў 354 м. У канцы 16 ст. А. з. яшчэ не быў дабудаваны. Маскоўскі дзяк Трыфан Карабейнікаў, праязджаючы ў студзені 1593 праз Оршу, адзначаў: «Городок Орша каменный, стоит на реке Непре на берегу с Литовской стороны, а верхней бой на стене и на башнях деревяной». У 1594 кароль Жыгімонт III абавязаў аршанцаў драўляныя «бланкі на стене замковой оправлять и знову заробити, кгды опадуть». Замак даглядалі сяляне замкавай воласці і гараджане, якія рамантавалі мураваныя і драўляныя сцены, папраўлялі мост і замкавы стаў. Пасля 1620 А. з. быў цалкам дабудаваны з каменю («камень дич до зубцов»). Зубцы, відаць, таксама былі зроблены з цэглы. Вышыня замкавых муроў да зубцоў не была аднолькавая: з «прыступнага» (небяспечнага) боку з Пн і З — да 8 м, з бакоў, абароненых рэкамі і высокім берагам — 5,3 м. Шырынёю сцяна замка была «в сажень» (каля 2 м). А. з. неаднойчы трапляў у варожую аблогу. У 1500 яго захапілі і 3 гады ўтрымлівалі войскі Маскоўскай дзяржавы. Замак вытрымаў аблогу 1507, а ў 1514 пад яго сценамі адбылася буйная бітва, у якой рус. войскі былі разбіты. Доўгую аблогу ён паспяхова вытрымаў у 1562—64. Восенню 1654 замак, які незадоўга да гэтага перажыў два пажары, быў узяты рус. войскамі. У снежні 1654 войска Радзівіла вярнула замак і ўтрымлівала яго да 11.5.1655. Пазней рус. стольнік З. Ф. Ляонцьеў зноў заняў яго і ўтрымліваў да канца руска-польскай вайны 1654—67. Пасля гэтых падзей замак прыйшоў у поўны заняпад і пазней ужо не выконваў сваіх абарончых функцыяў.

*М. А. Ткачоў.*

**АРШАНСКІ КУЦЕІНСКІ БОГАЯЎЛЕНСКІ МАНАСТЫР,** помнік архітэктуры барока. Заснаваны ў 1623 на р. Куцеінка як праваслаўны мужчынскі манастыр пасля скасавання ў Магілёве шэрагу праваслаўных цэркваў і Спаскага манастыра на сродкі і па хадайніцтву Магілёўскага праваслаўнага брацтва. Размешчаны ў паўн.-зах. ускраіне Оршы ў сутоках Дняпра і Ку-



**Аршанскі вадзяны млын.** Фота пачатку 1970-х гадоў.

ценкі. У 1630 бел. асветнік і кнігадрукар Спірыдон Собаль заснаваў пры манастыры друкарню, у 1632 яе ўзначаліў ігумен Іоіль Труцэвіч. Да 1654 тут надрукавана каля 20 выданняў, якія былі шырока вядомы на Беларусі, Украіне, у Расіі. У 1655 абсталяванне друкарні вывезена ў Іверскі манастыр пад Ноўгарадам. Манастыр складаўся з гал. Богаяўленскага сабора, Святадухаўскай царквы, званіцы, манастырскіх і гасп. пабудоў, быў з трох бакоў абнесены мураванай сцяной. Захаваліся Святадухаўская царква, манастырскі будынак, частка сцяны. Драўляны Богаяўленскі сабор (пабудаваны ў 1623—35, гарэў у 1885 і 1888) — 4-зрубны крыжовакупальны храм быў крыты гонтай, з 1880 — бляхай. Тры зрубы 5-гранныя, заходні прамавугольны ў плане, накрыты шматсхільнымі дахамі з галоўкамі ў месцы схілаў. Над сяродкрыжжам узвышаўся светлавы васьмярык з гранёным купалам. Пры ўваходзе ў сабор адкрытая галерэя. У інтэр'еры ў 1639 зроблена 38 насценных размалёвак. У 1778 быў падрыхтаваны і зацверджаны ў кансісторыі праект рэканструкцыі храма. У 1885 рамантаваўся. Мураваная Святадухаўская (з 1762 Троіцкая) царква пабудавана ў 1-й пал. 17 ст. У канцы 18 ст. было зроблена драўлянае перакрыцце, якое падзяліла храм на 2 ярусы: унізе быў прастол у імя Раства Багародзіцы, наверсе — святога Апостала Андрэя Першазваннага. У 2-й пал. 19 ст. рэканструяваны (перакрыцце дэманціравана), у 1870 спічасты дах заменены на вальмавы (крыты бляхай) з купалам на барабане, у 1885 царква ўпрыгожана перадалтарным плафонам і новым іканастасам. Да асн. прамавугольнага ў плане аб'ёму па восі У—З прылягаюць 5-гранная апсіда і квадратная ў плане 2-ярусная вежа-званіца, з паўд. боку — невял. рызніца. Сцены апрацаваны пілястрамі, ляпнымі абрамленнямі аконных праёмаў, плоскімі арачнымі нішамі і завершаны развітым прафіляваным карнізам. Не захаваліся першапачатковыя вальмавыя дахі з галоўкамі, якія завяршалі аб'ём царквы, скляпенні, 6-ярусны разны іканастас і фрэскі работы майстра Рыгора. 2-павярховы мураваны манастырскі будынак складаецца з 2 частак — б. духоўнага вучылішча з вял. трапезнай і ўсх. крыла галерэйнага тыпу з жылымі памяшканнямі (келлі). Цагляны 1-ы паверх рэканструяваны, амаль поўнасцю перабудаваны драўляны 2-і паверх (захавалася ў першапачатковым выглядзе толькі мураваная тарцовая сцяна з плоскімі паўцыркульнымі нішамі). Першапачатковы дэкор 17 ст. (рэшткі фігурных паліхромных франтонаў) захаваўся на абодвух тарцах корпуса. Манастырскі комплекс — помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*

**АРШАНСКІ КУЦЕІНСКІ УСПЕНСКІ МАНАСТЫР.** Засн. як жаночы манастыр у 1631 на паўд.-зах. ускраіне Оршы Багданам Сцянкевічам. У комплекс уваходзіла некалькі драўляных цэркваў, жылыя і гасп. пабудовы. Гал. драўляны сабор згарэў у 1635. Да 1655 пабудаваны мураваны Успенскі сабор. Меў рысы стылю барока. Крыжова-купальны трохапсідны храм. Асн. неф і крылы трансепта аднолькавай вышыні былі



**Аршанскі Куцеінскі Богаяўленскі манастыр.** Святадухаўская царква. 17 ст. З малюнка Д. Струкава. 19 ст.



**Аршанскі Куцеінскі Успенскі манастыр.**

накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі высокімі двухсхільнымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі на тарцах. Сяродкрыжжа было ўвянчана 8-гранным глухім барабанам і масіўным грушападобным купалам з галоўкай. Паўкруглыя апсіды (алтарная вышэйшая за бакавыя) накрыты шатровымі дахамі. Сцены апрацаваны прафіляванымі карнізамі, пілястрамі на вуглах. Высокія вокны з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі. Франтоны мелі пластычны абрыс, завершаны галоўкамі і аздоблены патройнымі плоскімі арачнымі нішамі. Комплекс існаваў у 17—19 ст., не збярогся. *Т. В. Габрусь.*

**АРШАНСКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН,** помнік архітэктуры позняга барока. Узведзены ў 1758—74 з цэглы ў цэнтры Оршы на правым беразе р. Аршыца. У 1842 ператвораны ў праваслаўны мужчынскі Пакроўскі манастыр і духоўнае вучылішча. Складаўся з аб'яднаных у адзіны асіметрычны архіт. комплекс касцёла Апекі Маткі Боскай (3-нефавая крыжова-купальная 2-вежавая базіліка; знішчаны ў 1967) і жылога корпуса. Жылы корпус — 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам. Фасады расчлянёны прамавугольнымі вокнамі і плоскімі нішамі, вязкамі пілястраў у прасценках, руставанымі лапаткамі, міжпаверхавымі цягамі. Будынак галерэйнай паэтажнай планіроўкі з цыліндрычнымі і крыжовымі скляпеннямі памяшканняў падвальнага і 1-га паверхаў. У паўд.-ўсх. крыле размешчаны міжпаверхавая лесвіца, трапезная і актавая зала. Жылы корпус выкарыстоўваецца пад жыллё. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*


**Аршанскі манастыр базыльян.** Жылы будынак.

**АРШАНСКІ МАНАСТЫР ТРЫНІТАРЫЯЎ.** Заснаваны ў 1714 г. ў Оршы. Уключаў цагляныя касцёл (не захаваўся) і жылы корпус (вул. Камсамольская, 21). Жылы корпус — помнік архітэктуры барока. Г-падобны ў плане 2-павярховы будынак, накрыты вальмавым дахам. Фасады вырашаны плоскасна, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі (унутры лучковымі), завершаны буйным карнізам нескладанага профілю з паўкруглым валікам унізе. На гал. фасадзе, дзякуючы нахілу рэльефу, адкрыты моцны цокальны паверх. Гал. вуглавы ўваход з шырокай драўлянай унутранай 2-маршавай лесвіцай. Кароткае крыло будынка са знешняга боку фланкіравана невял. прыбудовамі лесвічных клетак. Планіроўка галерэйная, калідор і жылыя пакоі на абодвух паверхах перакрыты крыжовымі і цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, склепы — цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Цяпер частку будынка займае філіял Дзярж. архіва Віцебскай вобл., другая частка выкарыстоўваецца як жылы дом. *А. М. Кулагін.*

**АРЭХАЎСК,** гарадскі пасёлак у Аршанскім р-не, на беразе Вял. Арэхаўскага воз. пры вытоку з яго р. Аршыцы. За 27 км ад Оршы. Узнік у пач. 20 ст. як заводскі пас. Выдрыца Аршанскага пав. ў сувязі з буд-вам з-да сухой перагонкі драўніны. У склад пасёлка ўвайшла в. Арэхі. Пасля закрыцця з-да (1917) пасёлак сельскага тыпу. З пачаткам буд-ва (1927) БелДРЭС пасёлак вырас, зліўся з в. Арэхі і ў 1938 ператвораны ў рабочы пас. Арэхі-Выдрыца. У 1939 было 3,7 тыс. жыхароў. З 1924 у Аршанскім р-не. У 1946 пераўтвораны ў г. п. Арэхаўск. У 1946—56 цэнтр Арэхаўскага р-на. Архітэктурна-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Ленінская і БелДРЭС. У месцы іх перасячэння — плошча — грамадскі цэнтр. З У да цэнтра прымыкае паркавая зона. Збярогся помнік архітэктуры 19 ст.— *Арэхаўская Троіцкая царква.* Пасёлак развіваецца паводле генплана 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). *В. М. Дутлава.*

**АРЭХАЎСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў пач. 19 ст. ў в. Арэхі (цяпер г. п. Арэхаўск Аршанскага р-на) у стылі класіцызму. Паводле царкоўнага падання, аднаўленне храма звязана з перамогай рускай арміі над французамі ў бітве пры Вял. Арэхаўскім воз. ў 1812. Адназдальны прамавугольны ў плане храм з паўкруглай апсідай (выканана з вертыкальна пастаўленых брусоў). Вузкі прытвор каркаснай канструкцыі з 2-схільным дахам. На плоскім перакрыцці асн. аб'ёма надбудаваны нізкі і шырокі круглы барабан з паўсферычным купалам. Больш нізкая апсіда накрыта бляшаным дахам конхавай формы. Вертыкальна ашаляваныя сцены цэнтр. аб'ёму аперазаны простым карнізам на дэнтыкулах і прарэзаны паўкруглымі люкарнамі. У інтэр'еры барабан купала падтрымліваецца 4 шырокімі аркамі і буйнымі вуглавымі апорамі. Конхавая апсіда аддзелена аркай на 2 іанічных калонах і драўляным 1-ярусным іканастасам. Над уваходам вузкі балкон хораў на 2 каваных кранштэйнах, на які вядуць бакавыя вітыя ўсходы. У баку перад царквой стаіць драўляная 2-ярусная шатровая званіца каркаснай канструкцыі з вертыкальнай шалёўкай. Царква дзейнічае. *А. М. Кулагін.*


**Арэхаўская Троіцкая царква** і званіца.

**АСВЕЙСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік палацава-паркавай архітэктуры класіцызму. Створана ў г. п. Асвея (Верхнядзвінскі р-н) на паўд. беразе воз. Асвейскае. Пабудавана ў 1782 у маёнтку мінскага ваяводы А. Гільзена. З 1786 належала Шадурскім. У сядзібе размяшчалася семінарыя езуітаў-місіянераў. Ансамбль уключаў палац (зруйнаваны ў 1-ю сусветную вайну), капліцу, пейзажны парк (пл. 15 га) з аранжарэямі, ставамі, брамай. Цэнтр. частка кампазіцыі — 2-павярховы мураваны палац з паўкруглымі бакавымі крыламі, злучанымі з гал. аб'ёмам аркадамі, якія ўтваралі авальны партэр перад гал. зах. фасадам (вядомы па акварэлі Н. Орды 1875—76). Манументальнасць архітэктуры будынка ўзмацнялася буйным маштабам чляненняў і канструкцый. Рытм фасадаў стварауся чаргаваннем высокіх арачных і прамавугольных праёмаў і здвоеных калон тасканскага ордэра ў прасценках; пластыку сцен узбагачалі антабленменты, рустоўка, філёнгі. У адным з крылаў два паверхі займаў зімовы сад. Палац абкружаў пейзажны парк з сістэмай аб'ядна-



Асвейская сядзіба. З малюнка Н. Орды.

ных з возерам ставоў і каналаў з дэкар. масткамі і штучнымі выспамі. Аснову кампазіцыі парку складалі курціны на адкрытых палянах, якія пераходзілі ў натуральны лясны масіў. Пераважаюць мясцовыя пароды дрэў. *А. М. Кулагін.*

**АСВЕЙСКІ МАНАСТЫРСКІ ШПІТАЛЬ,** помнік архітэктуры 18 ст. Пабудаваны ў 1759 у г. п. Асвея (Верхнядзвінскі р-н) пры манастыры міласэрных сясцёр. П-падобны ў плане аднапавярховы мураваны будынак накрыты двухсхільным дахам. Планіроўка ў сярэдняй частцы калідорная, у крылах галерэйная. Першапачатковая планіроўка зменена ў 1928—29, часткова збераглася ў левым крыле, над якім знаходзіцца паўпадвальны паверх. Калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках, паўпадвал — цыліндрычнымі скляпеннямі, у астатніх памяшканнях столь плоская. У будынку знаходзіцца бальніца. *У. В. Алісейчык.*

**АСВЕЯ,** гарадскі пасёлак у Верхнядзвінскім р-не, на паўд. беразе Асвейскага воз. Цэнтр сельсавета саўгаса «Асвейскі». За 40 км ад Верхнядзвінска. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1503 як прыватнаўласніцкае мястэчка ў Вял. кн. Літоўскім. З 1695 горад Полацкага ваяводства. З 1772 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Дрысенскага пав. (да пач. 19 ст. наз. А с в е й). У 1897—2,8 тыс. жыхароў, нар. вучылішча. З 1938 гар. пасёлак. У 1924—59 цэнтр раёна, з 1959 у Верхнядзвінскім р-не. Асн. планіровачная вось — вул. Савецкая, забудаваная 2-павярховымі жылымі дамамі, уздоўж яе сфарміраваўся адм.-грамадскі цэнтр. Сетка вуліц прамавугольная з уключэннем радыяльных напрамкаў дарог. Жылая забудова пераважна аднапавярховая сядзібнага тыпу. У паўд.-ўсх. частцы парк *Асвейскай сядзібы.* Зберогся помнік архітэктуры 18 ст.— *Асвейскі манастырскі шпіталь.* Пасёлак развіваецца паводле генплана 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). *Д. С. Паташнікаў.*

**АСІПОВІЧЫ,** горад, цэнтр Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл., на р. Сіняя. За 136 км ад Магілёва. З 1872 А.— чыг. станцыя (назва ад суседняй вёскі Бабруйскага пав.) на Лібава-Роменскай чыгунцы. У 1897 было 0,5 тыс. жыхароў. З 1924 мястэчка, цэнтр раёна. З 1935 горад (з 1938 раённага падпарадкавання). 13,7 тыс. жыхароў у 1939. У 1962—65 А. ў складзе Бабруйскага р-на. З 1963 горад абл. падпарадкавання. Горад мае прамавугольную квартальную планіроўку, падзелены чыгункай на 2 часткі. Асн. частка — паўночная. Яе гал. вось — вул. Сумчанкі — звязана з аўтадарогай Мінск — Бабруйск, забудавана 4—5-павярховымі жылымі дамамі. На перакрыжаванні вуліц Сумчанкі і Каралёва створаны грамадска-адм. цэнтр — пл. Леніна. Вуліцы Інтэрнацыянальная і Юбілейная забудаваны 2—5-павярховымі жылымі дамамі. У паўн. частцы горада — мікрараён, прамысловы раён з заводамі кардонна-рубероідавым, жалезабетонных канструкцый, «Аўтаагрэгат» і інш. Асн. планіровачныя восі паўднёвай часткі — вуліцы Сацыялістычная, Рабоча-Сялянская, Камуністычная, на якіх сканцэнтраваны культ.-быт. аб'екты, пабудаваны 2—5-павярховыя жылыя дамы. Большасць тэр. горада забудавана аднапавярховымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу. Забудоўваецца паводле генпланаў 1964 (ін-т «Белдзяржпраект»), 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). *Р. Дз. Шэліхава.*

**АСНЕЖЫЦЫ,** вёска ў Пінскім р-не, цэнтр Аснежыцкага сельсавета, калгаса «Аснежыцкі». За 18 км на Пн ад Пінска. Вядомы з 16 ст. З 1880-х г. пад назвай А. ў Пінскім пав. былі 2 вёскі (36 і 16 двароў). У сав. час абедзве вёскі аб'яднаны і ператвораны ў буйны добраўпарадкаваны аграпрамысл. пасёлак. Забудоўваюцца паводле праекта планіроўкі 1968 (БелНДІдзіпрасельбуд; карэкціроўка 1980, аўтар забудовы арх. Н. Нядзелька, інж. В. Хандогін). Гал. вось кампазіцыі — шырокі бульвар, які звязвае асн. ўезд у вёску з боку Пінска з грамадскім і культ. цэнтрам (фарміруецца паводле праекта дэталёвай планіроўкі 1980) — плошчай, дзе знаходзяцца адм. будынак і гандл. цэнтр, будуецца (1990) Дом культуры з залай на 600 месцаў. На У ад плошчы створаны парк з зонамі адпачынку і спорту. Побач — школа і дзіцячы камбінат на 90 месцаў (у перспектыве — 230). Цэнтр вёскі забудоўваецца 2—3-павярховымі 8—12-кватэрнымі секцыйнымі і 2—4-кватэрнымі жылымі дамамі ў 2 узроўнях. Іх фасады апрацаваны светлай керамічнай пліткай з устаўкамі з залацістай глазураванай пліткі ў выглядзе стылізаваных каласоў. Унутрыквартальная прастора азялененая і добраўпарадкаваная, мае малыя архіт. формы — пляцоўкі для адпачынку (пергалы) і інш. У паўн. частцы вёскі сканцэнтравана індывідуальная забудова сядзібнага тыпу, на ПнЗ — вытворчая зона. Прадугледжана буд-ва 2—3-павярховых жылых дамоў на У і Пд, стварэнне штучнага вадаёма на Пд, арганізацыя ўезда (з боку Брэста), які злучыцца з бульварам. *Н. М. Нядзелька.*



Асвейскі манастырскі шпіталь.

**АСТАШЫНСКІ КАЛЬВІНСКІ ЗБОР.** Існаваў у 16—1-й пал. 20 ст. у в. Асташына (Навагрудскі р-н).

Узведзены на сродкі Яна Швыкоўскага ў гатычна-рэнесансным стылі. Гэта было мураванае 1-нефавае збудаванне, прамавугольнае ў плане, заканчвалася гранёнай апсідай, сцены былі прарэзаны 7 вокнамі. Да гал. фасаду прымыкала шмат'ярусная вежа, завершаная 4-схільным шатром. Першы ярус у шырыню адпавядаў памерам асн. аб'ёму. З кожным ярусам памеры вежы памяншаліся, што надало знешняму вобліку дынамічную кампазіцыю. Унутраную прастору перакрывала паўцыркульнае скляпенне з распалубкамі. Знішчаны ў 1940-я гады.

*А. М. Кушнярэвіч.*



Астравецкі Казьмадзям'янаўскі касцёл.

**АСТРАВЕЦ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Астравецкага р-на, на р. Лоша. За 250 км ад Гродна. Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1468, з 1546 мястэчка ў Віленскім ваяводстве. У 1474 заснаваны касцёл і кляштар дамініканцаў (у 1886 кляштар зруйнаваны), у 1787 пабудаваны *Астравецкі Казьмадзям'янаўскі касцёл.* У 1880-я гг. 22 двары, 176 жыхароў. Конная чыг. ветка злучала А. з чыг. станцыяй Слабодка. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, у Ашмянскім пав. З канца 1939 у БССР, з 1940 вёска, цэнтр раёна. З 1958 гар. пасёлак. У 1962—65 у Ашмянскім р-не. Размешчаны на плоскай раўніне абапал р. Лоша. Цэнтр сфарміраваны ў левабярэжнай частцы. Гал. восъ — вул. Ленінская — перасякае А. з З на ПнУ. На перасячэнні вуліц Ленінскай, Валадарскага, Кастрычніцкай, К. Маркса ўтворана прамавугольная ў плане цэнтр. плошча. Сетка вуліц прамавугольная, квартальная, у цэнтры дамы 2—3-павярховыя, на ўскраінах аднапавярховая забудова сядзібнага тыпу. Пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1970 (Гродзенскі філіял ін-та «Белдзяржпраект»).



**Аснежыцы.** Жылая забудова цэнтральнай сядзібы калгаса «Аснежыцкі».



**Асташынскі кальвінскі збор.**

**АСТРАВЕЦКІ КАЗЬМАДЗЯМ'ЯНАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны з цэглы ў 1785—87 у г. п. Астравец (вул. Камсамольская, 1) на месцы старажытнага касцёла і кляштара дамініканцаў, узведзенага магнатамі Корсакамі ў 1616—18. Вырашаны адзіным прамавугольным у плане аб'ёмам пад 2-схільным дахам. Архіт.-дэкар. акцэнт створаны на гал. фасадзе. Яго 2-ярусная сіметрычна-восевая кампазіцыя вылучана па цэнтры 4-калонным порцікам з 3-вугольным франтонам. Другі ярус — высокі парапет з 2-гранным шчытом па цэнтры і крапоўкай арачнымі нішамі па баках (надбудаваны ў 2-й пал. 19 ст.). Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высока ўзнятымі арачнымі аконнымі праёмамі, шырокімі лапаткамі ў прасценках і завершаны развітым карнізам. Унутраная прастора храма падзелена 4 слупамі на 3 нефы і 2 сакрысціі, якія ў цэнтр. нефе вылучаюць алтарнае памяшканне, асветленае 2 высокімі арачнымі вокнамі на тарцовай сцяне. Цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і падпруж-



**Астрашыцка-Гарадоцкія замкава-палацавыя комплексы.** Палацы. З малюнка Н. Орды.

ными аркамі, больш вузкія бакавыя нефы — крыжовымі. Над нартэксам хоры. Касцёл дзейнічае.

*А. М. Кулагін.*

**АСТРАМЕЧАВА,** вёска ў Лышчыцкім с/с Брэсцкага р-на, цэнтр калгаса-камбіната «Памяць Ільіча». За 22 км на ПнЗ ад Брэста. У 1905 у ёй на сродкі кнігавыдаўца Ф. Ф. Паўленкава заснавана адна з першых на Беларусі бясплатных нар. бібліятэк. З 1982 паводле праекта ін-та «Брэстсельбудпраект» (арх. Р. Будзько, М. Алексяюк) вядзецца рэканструкцыя вёскі, у выніку якой створаны новы пасёлак для працаўнікоў жывёлагадоўчага комплексу. Новая забудова пасёлка арганічна ўпісваецца ў існуючую, не парушае прыроднай гармоніі зялёных насаджэнняў і рэльефу мясцовасці. Ядро планіроўкі пасёлка — грамадскі цэнтр, які фарміруюць Дом культуры, адм. будынак, гандл. цэнтр, школа, дзіцячы сад-яслі з плавальным басейнам і зімовым садам, фельчарска-акушэрскі пункт. Тыпавыя праекты грамадскіх будынкаў для забудовы цэнтра значна перапрацаваны (Дом культуры ў блакіроўцы з адм. будынкам). Для жылой забудовы выкарыстана 12 тыпаў жылых дамоў: 1- і 2-кватэрныя буйнапанельныя, каркасна-шчытавыя, з маналітнага керамзітабетону, цагляныя. У афармленні фасадаў выкарыстаны абліцовачная цэгла, керамічная плітка, у аддзелцы франтонаў, ліштваў акон і дзвярэй — разьба па дрэве. Усё гэта дазволіла пазбегнуць манатоннасці і аднастайнасці ў забудове, надаць кожнай вуліцы індывідуальнасць і архіт. выразнасць. Шматкватэрныя дамы секцыйнага тыпу прызначаны для маласямейных і пад інтэрнаты. Сілуэт гэтых будынкаў фарміруе ўезд у пасёлак. Для кожнай сям'і прадугледжаны прысядзібны ўчастак (800—1000 м²) з жылым домам і гасп. пабудовамі. У планіроўцы жылых кварталаў дакладна вылучана гасп. зона, якая мае ізаляваныя праезды. Для асвятлення вуліц выкарыстаны індывідуальныя распрацаваныя свяцільнікі. Забудову пасёлка дапаўняе зона адпачынку са штучным вадасховішчам, спарт. і паркавая зоны. *Р. Р. Будзько.*



**Астрамечава.** Забудова па вуліцы Леніна.

**АСТРАШЫЦКА - ГАРАДОЦКІЯ ЗАМКАВА-ПАЛАЦАВЫЯ КОМПЛЕКСЫ.** Існавалі ў 17—19 стагоддзях у в. Астрашыцкі Гарадок (Мінскі р-н). 1) У інвентары 1650 апісаны драўляны замак. Меў абарончыя сцены і 4 вуглавыя вежы, быў абкружаны штучным ровам і сажалкамі. Да замка вёў мост, уваход праз 3-ярусную фланкіраваную з 2 бакоў вежамі і завершаную высокім шатровым дахам браму-вежу «прускага муру», унутры якой былі жылыя, гасп. і абарончыя памяшканні. Злева ад брамы стаяў аднапавярховы драўляны палац. Жылыя памяшканні палаца мелі размаляваныя дзверы і столь, печы і каміны з каляровай кафлі. За палацам уздоўж абарон-

чай сцяны размяшчаліся варыўня, кузня, пякарня, лазня, бровар. Справа ад брамы стаялі дом «прускага муру» з жылымі пакоямі, каморай, вазоўняй, стайняй і свіран. Перад замкам знаходзіліся стайня, вадзяны млын і тартак. 2) У інвентары 1745 апісана сядзіба, у якую ўваходзілі драўляны палац (меў шэраг жылых, гасп., парадных пакояў з выхадам у бок звярынца), некалькі гасп. пабудоў побач з палацам, фальварак з 2 жылымі будынкамі, пякарняй, стайняй, аборай, броварамі і інш. За сядзібай былі ставы з млынамі і рыбныя сажалкі. 3) У 1-й пал. 19 ст. за 1 км ад вёскі пабудаваны мураваны 2-павярховы палац у стылі несапраўднай готыкі з 4-яруснай квадратнай у плане вежай, завершанай 4 шчытамі і 4 вуглавымі дэкаратыўнымі вежачкамі. У ім знаходзілася каштоўная калекцыя твораў выяўленчага і дэкар.-прыкладнога мастацтва, сабраная М. Тышкевічам. Згарэў у 1860. Да 1876 каля яго пастаўлены новы мураваны атынкаваны знадворку палац, які складаўся з 2-павярховых прамавугольных у плане цэнтр. і 2 бакавых аб'ёмаў, злучаных паміж сабой аднапавярховымі часткамі. На гал. фасадзе аб'ёмы ўтваралі рызаліты, да цэнтр. рызаліта прыбудавана прамавугольная ў плане прыхожая з вял. тэрасай наверсе, што злучалася з парадной залай 2-га паверха. Палацы абкружаў вял. парк, у якім быў звярынец.

*Ю. А. Якімовіч.*

**АСТРЫНА,** гарадскі пасёлак у Шчучынскім р-не на р. Астрынка. За 22 км ад Шчучына. Вядома з пач. 16 ст. як дзярж. ўладанне, цэнтр староства Лідскага пав. Вял. кн. Літоўскага. У 1666 пабудаваны касцёл (не збярогся). З 1795 у складзе Расіі, мястэчка Лідскага пав. У 1859 у А. 170 дамоў, 970 жыхароў, у 1882 было 1984 жыхары. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы. З канца 1939 у БССР. У 1960—62 у Скідзельскім, з 1962 у Шчучынскім р-нах. Архіт.-планіровачную структуру вызначае шаша Гродна — Вільнюс (вуліцы Станкевіча і Гродзенская) — асн. вось пасёлка, яе перасякае рака і вул. Шчучынская (дарога на Шчучын — другая вось пасёлка). У месцы злучэння вуліц Станкевіча і Гродзенскай — стары цэнтр з б. гандлёвай плошчай (на яе месцы сквер) і радыяльнай сістэмай вуліц. Тут асталіся мураваныя і драўляныя дамы 19 — пач. 20 ст., царква, пабудаваная ў 2-й пал. 19 ст. з каменю і цэглы (крыжовая ў плане пабудова з яруснай шатровай званіцай, мае рысы псеўдарускага стылю). На ПдЗ ад старога цэнтра фарміруецца новы грамадскі цэнтр. Пасёлак забудоўваецца паводле праекта планіроўкі 1979 (БелНДІдзіпрасельбуд).

**«АЎРОРА»,** кінатэатр у Мінску. Пабудаваны ў 1987 (арх. Б. Ларчанка, Н. Цямнова, Т. Кузміна, В. Клюковіч) на перакрыжаванні пр. Пушкіна і вул. Прытыцкага, уваходзіць у грамадскі цэнтр жылога раёна. Блакіруецца з новай 14-павярховай гасцініцай і ўтварае разам з ёй ураўнаважаную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Трохзальны (на 496, 300 і 205 месцаў) кінатэатр размешчаны на ўчастку з перападам рэльефу ў 6,5 м. Усе залы стаяць адзін за адным адпаведна рэльефу. Фае-тэрасы вырашаны



**Астрына.** Царква па вуліцы Гродзенскай. Канец 19 ст.




Кінатэатр **«Аўрора».**

ў 3 узроўнях (з верхняга прадугледжаны ўваходы ў летнія дворыкі) і звязаны паміж сабой лесвіцамі. Сучасныя архіт. формы (схілы даху, ліхтары верхняга асвятлення), прапарцыянальныя і рытмічна размешчаныя на складаным рэльефе аб'ёмы ствараюць дынамічную кампазіцыю. *С. Дз. Філімонаў.*

**АШМЯНЫ,** горад, цэнтр Ашмянскага р-на, на р. Ашмянка. За 220 км на ПнУ ад Гродна. Вядомы з 1340-х гадоў як горад у складзе Вял. кн. Літоўскага. Узніклі як княжацкі замак, вакол якога развіўся гандл.-рамесніцкі пасад. У 14 ст. пабудаваны касцёл, у 1484 — калегіята (касцёл, пры якім быў збор канонікаў). У пач. 16 ст. горад перанесены на новае месца (утварылася паселішча Новыя А.), стараж. частка (Старыя А.) у 1505 аддадзена францысканцам (пабудаваны касцёл і драўляны кляштар). У 2-й пал. 16 ст. пабудаваны кальвінскі збор (не збярогся), у 1667 — Троіцкі касцёл (згарэў, адноўлены ў 1797) і драўляны кляштар дамініканцаў (знесены ў 1850). Паводле плана 1798 горад размяшчаўся на левым беразе р. Ашмянка. На тэр. былога замка стаяў двор старосты, злучаны вул. Замкавай з гал. плошчай, дзе знаходзіліся невял. драўляная ратуша, крамы, карчма, паштовы двор. Ад гал. плошчы разыходзіліся вуліцы-дарогі на Жупраны (У), Вільню (ПнЗ), Гальшаны (ПдЗ), Баруны (ПдУ). У зах. частцы горада (на вул. Віленскай) існавала другая гандл. плошча. У 19 ст. забудаваўся правы берег Ашмянкі. У 1822 тут пабудаваны мураваны францысканскі кляштар у стылі класіцызму (захаваліся сцены касцёла). У пач. 20 ст. ў цэнтры пастаўлены прыватнаўласніцкія мураваныя жылыя дамы (вул. Барунская). У 1811 было 1830, у 1914—8200 жыхароў. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр павета. З канца 1939 у складзе БССР. З 1940 раённы цэнтр Віленскай, з 1944 — Маладзечанскай, з 1960 — Гродзенскай абласцей. Тэр. сучаснага горада падзелена р. Ашмянкай на 2 часткі: галоўную левабярэжную (з гіст. цэнтрам) і правабярэжную (раён малапавярховай індывідуальнай забудовы). У адпаведнасці з генпланам 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. С. Смірнова, Г. Паўлоўская, інж. Л. Ушакова, Н. Галавацкая) горад развіваецца ўздоўж ракі з паслядоўным асваеннем тэр. ў межах аўтамагістралі Мінск — Вільнюс і ў межах горада. Цэнтр. месца ў планіровачнай структуры займае агульнагарадскі цэнтр (на перасячэнні гал. кампазіцыйнай восі — вул. Савецкай з вул. Барунскай і Чырвонаармейскай). У аснове праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра (1977, арх. Паўлоўская, інж. В. Зуева) — стварэнне прасторава развітога комплексу з вылучэннем гал. плошчы. Лінейная кампазіцыя цэнтра развіваецца ўздоўж вул. Савецкай, уключае сістэму плошчаў і групу жылых комплексаў, арыентаваных на прыродная асяроддзе — паркавую зону ўздоўж ракі. Зберагліся помнікі 2-й пал. 19 ст.— царква і карчма, жылыя будынкі канца 19 — пач. 20 ст.

*Ю. А. Якімовіч, С. Ф. Самбук.*





**Ашмяны.** Забудова цэнтра. Канец 19 — пач. 20 ст. (злева). Мікраён па вуліцы Савецкай.

# Б

**БАБРУЙСК,** горад, цэнтр Бабруйскага р-на, порт на р. Бярэзіна. За 110 км ад Магілёва. Узнік у часы Кіеўскай Русі ў сутоках рэк Бярэзіна і Бабруйка як вёска (летапісны Бобровск, Бобруеск, Бобрусек), жыхары якой займаліся рыбалоўствам і бабровым промыслам. Паводле інвентара 1638, Б. меў плошчу 6,75 га, быў вакол абнесены валам і драўляным астрогам, займаў правабярэжную частку Бярэзіны, на ўзвышшы размяшчаўся *Бабруйскі замак.* Аснову кампактнай планіроўкі складалі гандл. плошча (з 75 крамамі), 15 вуліц і 2 завулкі. Магістральнымі з'яўляліся вуліцы Падольная, Слуцкая, Свіслацкая, Пру-



**Бабруйск.** Агульны выгляд. Малюнак 19 ст.



**Бабруйск.** Гасцініца «Юбілейная».

довая. Яны пачыналіся ад плошчы, разыходзіліся радыяльна і заканчваліся брамамі ў знешніх гарадскіх умацаваннях. Рынак размяшчаўся над Бярэзінай, меў падоўжаную форму плана (пл. каля 0,18 га). Каля ракі стаялі касцёл Пятра і Паўла і царква Мікалая, на вул. Падольнай размяшчаўся *Бабруйскі «каралеўскі двор»*, на вул. Свіслацкай — дом езуітаў, каралеўскі сад, паміж вуліцамі Прудовай і Кісялёўскай — царква Прачыстай Багародзіцы, на вул. Ільінскай — царква Ільі Прарока, на вул. Капыльнічвай — замкавы гасціны дом. Забудова была пераважна драўляная, вельмі шчыльная. У 1793 уключаны ў склад Расіі. З 1796 горад, цэнтр павета (было каля 200 дамоў). Першы праектны план Б. складзены ў 1800, паводле яго горад забудоўваўся да 1810. Ён прадугледжваў рэгулярнасць квартальнай забудовы, спрамленне вулічнай сеткі, стварэнне новых прамавугольных кварталаў з захаваннем асн. планіровачных восяў — Слуцкай і Мінскай дарог, якія сыходзіліся ў цэнтры пад прамым вуглом. Далейшае развіццё архіт.-планіровачнай структуры звязана з буд-вам у Б. (1807—36) на месцы гіст. цэнтра адной з самых моцных у Расіі *Бабруйскай крэпасці.* Паводле плана 1810 у крэпасці аставаліся мураваныя дамы, адм. будынкі горада. Драўляная забудова выносілася на 4 запланаваныя фарштаты: Мінскі, Слуцкі, Бярэзінскі, Парыцкі (існаваў да 1829), якія абкружалі крэпасць з ПнЗ, З, ПдЗ, забудоўваліся да сярэдзіны 19 ст. У канцы 19 — пач. 20 ст. цэнтр. частка горада забудавана мураванымі жылымі і грамадскімі будынкамі (Аляксандраўская жаночая гімназія, *Бабруйскіх банкаў будынкі, Бабруйскія асабнякі, Бабруйскія жылыя дамы*), у якіх выявіліся рысы стыляў несапраўднай готыкі, псеўдарускага, неабарока, неакласіцызму, мадэрн.

Да Вял. Айч. вайны горад развіваўся па традыцыйнай радыяльна-паўкальцавой схеме на тэр. былых фарштатаў вакол крэпасці і ўздоўж асн. магістралей — вуліц Мінскай, Бахарава, Рагачоўскай. Грамадскі цэнтр сфарміраваўся ў старой частцы горада, на перакрыжаванні вуліц Сацыялістычнай і М. Горкага. У 1930-я гады пабудаваны дом-камуна, «Дом калектыву», адм. будынак па вул. Савецкай і інш., у якіх выявіліся рысы стылю канструктывізму, выкарыстаны элементы класічнай спадчыны. У 1960—70-я гады Б. забудоўваўся паводле генплана 1966 («Белдзяржпраект»). Кампазіцыйным ядром застаецца крэпасць, вакол якой размешчаны цэнтр горада — паўкальцавыя вуліцы Сацыялістычная, Урыцкага, Пушкіна, Савецкая, Кастрычніцкая і радыяльныя Горкага, Інтэрнацыянальная, Мінская, Гогаля, Маркса, якія ўтвараюць дробныя кварталы, забудоўваюцца шматпавярховымі жылымі дамамі. На перакрыжаванні вуліц Савецкай і Горкага створана пл. Леніна — адм. цэнтр горада з Домам Саветаў. На вул. Мінскай (Пн) і Інтэрнацыянальнай (звязвае Прывакзальную пл. з цэнтрам) вядзецца комплекснае буд-ва мікрараёнаў з 5—9-павярховымі жылымі дамамі. У паўн. частцы горада, дзе на 2 узаемна перпендыкулярных вуліцах Ульянаўскай і 50 гадоў ВЛКСМ фарміруецца буйны жылы раён з 4 мікрараёнаў з 5—9-павярховымі жылымі дамамі, размешчаны студэнцкі гарадок, бальнічны комплекс, спарт. збудаванні. Паводле генплана 1978 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) кампазіцыйнай воссю горада стане р. Бярэзіна, галоўнай — вул. Горкага з новым грамадскім цэнтрам, якая злучыцца на Пн з Мінскай шашой. Вызначаны планіровачныя раёны: цэнтральны, паўночны, паўднёвы і новы ўсходні (Цітаўка на левым беразе р. Бярэзіна); прадугледжана інтэнсіўнае жыллёвае буд-ва, стварэнне паркаў і сквераў уздоўж р. Бярэзіна, у паўн. планіровачным раёне. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*Р. Дз. Шэліхава, Ю. А. Якімовіч.*

**БАБРУЙСКАЯ КРЭПАСЦЬ,** помнік абарончай архітэктуры 1-й пал. 19 ст. Пабудаваная ў 1807—36 у гіст. цэнтры Бабруйска, на месцы стараж. горада ў сутоках рэк Бярэзіна і Бабруйка. У 1807—10 былі насыпаны валы і зроблены шэраг земляных умацаванняў. Далейшае будаўніцтва вялося ў 2 этапы. Першы звязаны з падрыхтоўкай да вайны 1812. У 1807—10 насыпаны валы і зроблены шэраг земляных умацаванняў. У 1810—12 паводле праекта інж. генерала К. Опермана (склаў планы ўсіх крапасных умацаванняў і абарончых збудаванняў) пабудаваны 5 бастыёнаў, валы дадаткова ўмацаваны глыбокімі равамі. Забудова крэпасці вялася на ас-




**Бабруйская крэпасць.** План.



**Бабруйская крэпасць.** З карціны маста-ка Залескага.

нове рэканструкцыі наяўных *(Бабруйскі кляштар езуітаў)* і стварэння новых (казармы, шпіталь, склады) будынкаў. Уваход у крэпасць быў праз Мінскую, Слуцкую і Вадзяную брамы. 2-і этап (1812—36) характарызуецца шырокім размахам буд-ва: павялічана тэр. крэпасці, узведзены 17 дадатковых бастыёнаў (да 1820), вежы, форт «Фрыдрых Вільгельм» (1822). Паводле плана 1818 (арх. А. Штаўберт) планіроўку комплексу вызначыла сетка ўзаемна перпендыкулярных вуліц, забудаваных муравамымі 2—3-павярховымі дамамі. На перакрыжаванні 2 гал. вуліц (адна з іх вяла ад Мінскай да Вадзяной брамы, другая — да Слуцкай брамы) знаходзілася парадная Саборная пл. з домам каменданта (1818), будынкамі шпіталя (1822) і штаба (1824), саборам А. Неўскага (1827, арх. А. Штраўберт, размалёўка інтэр'ераў маст. П. Урандзіна). У зах. частцы крэпасці размяшчаліся казармы, ва ўсходняй — склады, артылерыйскі і інж. паркі. У аздабленні будынкаў крэпасці выкарыстаны элементы архітэктуры класіцызму — рызаліты, рустоўка, абрамленне аконных праёмаў. Помнік рэспубліканскага значэння. *В. Ф. Марозаў.*

**БАБРУЙСКІ ЗАМАК.** Узнік у 16 ст. на высокім правым беразе р. Бярэзіны непадалёку ад зліцця з р. Бабруйкай. Займаў частку берагавога плато ў выглядзе пагорка з круглай вяршыняй (памеры 53×66 м), якому пазней надалі 4-вугольную форму. З боку Бярэзіны замак ахоўваўся высокім і стромкім схілам, з астатніх бакоў быў умацаваны абарончым ровам шыр. да 15 м. Паводле «Уставы» за 1626 замак быў абкружаны земляным валам, на якім стаялі абарончыя драўляныя вежы і сцены (дубовы штыкетнік). Згадваюцца 2 вежы з абламамі (невысокімі пагруднымі брустверамі ў завяршэнні), існавала ўязная вежа-брама. Не выключана, што з боку Бярэзіны таксама былі вежы, колькасць якіх невядома. Інвентар 1671 паведамляе пра драўляны мост, што быў перакінуты цераз абарончы роў і падводзіў да 2-яруснай уязной брамы, ніжні ярус якой меў выгляд прамавугольнага збудавання з падвойнымі варотамі, спец. форткаю для праходу і сістэмай жал. запораў. Верхні ярус у выглядзе вежы на дзесяцерыку меў байніцы для стральбы з гакаўніц (ручная агнястрэльная зброя). Дзве астатнія, амаль аднолькавыя 2-ярусныя вежы з «дольным схованьем» (глухім 1-м ярусам-сховішчам) былі накрыты драніцамі і абмазаны глінаю па самае бланкаванне (галерэю насценнага бою), што рабілася з проціпажарнымі мэтамі і прадухіляла ад гніення. З боку Бярэзіны замак ахоўваўся 2 рэдутамі — (драўляна-землянымі збудаваннямі бастыённага тыпу, перакрытымі гонтавымі стрэшкамі). Рэдуты абаранялі подступы да гарадской брамы Падольнай, якая ўваходзіла ў склад Бабруйскіх гарадскіх умацаванняў. Паміж вежамі і рэдутамі размяшчаліся рубленыя з тоўстых дубовых бярвён сцены-гародні, якія мелі бланкаванне. На замкавым дзядзінцы размяшчаўся цэйхгауз для зброі. Замак даглядаўся і рамантаваўся насельніцтвам горада і воласці. Мяшчане былі абавязаны будаваць 2 замкавыя вежы «з кгрунту аж до обламку» і рэгулярна абмазваць глінай, сяляне воласці «водлуг старой уставы і давнего звычаю свойго» хадзілі ў замак «на замковую патрэбу» для рамонту ўмацаванняў. Паводле інвентара 1684, планіровачная структура замка не змянілася. За час свайго існавання ён пераджыў шмат аблог і разбурэнняў. У 1502 і 1503 замак спустошылі крымскія татары, у 1506 «перад Тройцыным днём» яго неаднаразова асаджаў мяцежны князь М. Глінскі. У студзені 1649 замак згарэў у час аблогі Бабруйска войскам гетмана Ю. Радзівіла, які выбіваў паўстанцаў-казакоў на чале з Паддубным і гараджан, што далучыліся да паўстанцаў. У сакавіку 1655 казакі гетмана І. Залатарэнкі спалілі замак, акцыя паўтарылася ў 1665 пасля чарговай казацкай аблогі. Інвентар 1692 сведчыць аб паступовым заняпадзе і разбурэнні ўмацаванняў. Замак перастаў існаваць у канцы 18 ст., аднак на плане Бабруйска 1794 яго сляды яшчэ выразна захаваліся. *М. А. Ткачоў.*

**БАБРУЙСКІ «КАРАЛЕЎСКІ ДВОР».** Існаваў у Бабруйску з 2-й пал. 16 ст. да 1649 як адм. цэнтр Бабруйскага староства. Размяшчаўся непадалёк ад *Бабруйскага замка,* на беразе р. Бярэзіна. Цэнтр кампазіцыі — вял. драўляны дом на 7 падклецціх (у іх размяшчаліся службовыя памяшканні). На галерэю жылой часткі вяла 2-маршавая вонкавая лесвіца, накрытая 2-схільным дахам. Двор быў абнесены астрогам. За дваром над Бярэзінай знаходзіліся стайня з вазоўняй і бровар, на р. Бабруйка стаяў млын. *Ю. А. Якімовіч.*

**БАБРУЙСКІ КЛЯШТАР ЕЗУІТАЎ.** Пабудаваны ў 1-й пал. 18 ст. Уключаў касцёл, калегіум, школу, гасп. пабудовы. Касцёл пабудаваны пад кіраўніцтвам арх. Т. Жаброўскага ў 1747 у стылі барока. Храм — 3-нефавая базіліка, прамавугольны ў плане, з плоскім гал. фасадам, паўкруглай алтарнай

апсідай, да якой прылягаюць 2 сакрысціі, накрыты 2-схільным гонтавым дахам. На гал. фасадзе цэнтр. неф завяршаўся фігурным франтонам з валютамі, бакавыя — 2 сіметрычнымі 3-яруснымі вежамі, на адной з якіх былі званы, на другой — гадзіннік. Вежы накрыты бляхай, завяршаліся шатрамі з пазалочанымі крыжамі. Сцены касцёла былі аздоблены падвойнымі пілястрамі, расчлянёны аконнымі праёмамі з паўцыркульнымі завяршэннямі, нішамі. У нішах, што былі ў вежах, стаялі драўляныя статуі святых. У касцёле было 7 алтароў, галоўны драўляны, разны, з 8 скульптурамі (таксама драўляныя). Калегіум — мураваны 2-павярховы будынак, Г-падобны ў плане, накрыты гонтам, з калідорнай сістэмай планіроўкі, скляпенні і сцены з манументальнай размалёўкай. Будынак школы — драўляны, пры школе дзейнічаў тэатр (вядома пра яго існаванне ў 1760—68). Гасп. пабудовы ўключалі піўніцу, свіран, стайню з вазоўняй, сталярныя майстэрні, бровар. На тэр. кляштара быў таксама агарод з фруктовымі дрэвамі. У 1773 кляштар закрыты. Пасля буры ў 1798 будынкі моцна пашкоджаны. Пры ўзвядзенні *Бабруйскай крэпасці* былі выкарыстаны пабудовы кляштара. У адноўленым будынку калегіума знаходзіліся дзяржаўныя ўстановы. Касцёл быў перабудаваны пад цэйхгауз, цяпер у ім знаходзіцца гаўптвахта.

*В. Р. Кукуня.*

**БАБРУЙСКІХ БАНКАЎ БУДЫНКІ,** помнікі грамадзянскай архітэктуры пач. 20 ст. Будынак на рагу вуліц Маскоўскай і Савецкай пабудаваны з элементамі стылю мадэрн. Мураваны, 2-павярховы, Г-падобны ў плане. Кожнае крыло ў цэнтры мае неглыбокі рызаліт, сцены расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Рызаліт з боку вул. Савецкай з вял. прамавугольным акном, якое аб'ядноўвае верхні і палавіну ніжняга паверхаў; рызаліт з боку вул. Маскоўскай вылучаны прамавугольнымі вокнамі ў верхнім і ніжнім спараным паверхах. Месца злучэння крылаў падкрэслена ўваходным арачным парталам і эркерам над ім, умацаваным на 2 кансолях і завершаным невял. усечанай вежай. Планіроўка калідорная. У цэнтр. частцы вестыбюль з двухмаршавай лесвіцай. У будынку размешчана адм. ўстанова. Будынак на вул. Камсамольскай, 41, пабудаваны ў 1902 у стылі неакласіцызму. Кампактны прамавугольны ў плане мураваны аднапавярховы будынак пад пакатым 2-схільным дахам. Гал. фасад сіметрычна-восевы з бакавымі рызалітамі, завершанымі прамавугольнымі атыкамі. У дэкоры будынка выкарыстаны паўкалоны, франтоны, разеткі, атыкі. Планіроўка будынка анфіладная. У цэнтры вял. аперацыйная зала са склепам пад ёй. У інтэр'еры захаваліся 2 прамавугольныя кафляныя печы, складзеныя на цокалях і завершаныя фігурнымі франтонамі. Плітка ўпрыгожана арнаментальным малюнкам з кветак і пялёсткаў светлазялёных і светла-блакітных колераў. У будынку размешчана адм. ўстанова.

*Ю. А. Якімовіч, А. М. Кулагін.*





**Бабруйскіх банкаў будынкі.** На рагу вуліц Маскоўскай і Савецкай (уверсе) і па вуліцы Камсамольскай, 41.

**БАБРУЙСКІЯ АСАБНЯКІ,** помнікі жыллёвай архітэктуры. Асабняк (вул. Пушкіна, 211) пабудаваны ў 1912 у Бабруйску, мае



**Бабруйскія асабнякі.** Асабняк па вуліцы Савецкай, 45.



**Бабруйскія асабнякі.** Асабняк па вуліцы Пушкіна, 211.

элементы стыляў класіцызму, ампіру і мадэрн. Аднапавярховы прамавугольны ў плане цагляны будынак на высокім цокалі, накрыты вальмавым металічным дахам. На атынкаваным гал. фасадзе засяроджана гал. архіт. аздоба. Кампазіцыя фасада сіметрычная: у цэнтры ганак з порцікам на 2 канеліраваных калонах кампазітнага ордэра, завершаны складаным па форме франтонам. Абодва бакі фланкіраваны несапраўднымі рызалітамі, утворанымі 2 пілястрамі з антаблементам і прамавугольным атыкам над імі. У дэкар. аздабленні інтэр'ера гал. роля належыць 6 маёлікавым з раслінным арнаментам камінам, завершаным складанымі карнізамі і франтонамі. 3 каміны светлазялёныя, 2 — белыя з размалёўкай золатам; дэкар. насычанасцю маст. формы вылучаецца камін з кафлі цёмна-кававага колеру, упрыгожаны раслiннымі 3-кветкавымі сюжэтамі. Ён мае завяршэнне ў выглядзе цэнтральных і бакавых акратэрыяў, антаблемент з раслінным фрызам.



**Бабруйскія жылыя дамы.** Дом па вуліцы Інтэрнацыянальнай, 25.

Камінны праём фланкіруюць 2 карыятыды, над імі — развіты пояс фрыза з нішамі і прамавугольнымі ўстаўкамі з выявамі матылькоў, раслiннымі матывамі і інш. Дом — адзін з лепшых узораў бел. жыллёвай архітэктуры і дэкар.-прыкладнога мастацтва пач. 20 ст. Асабняк (вул. Савецкая, 45) пабудаваны ў 1914 у Бабруйску з элементамі стылю позняга класіцызму і мадэрна. 2-павярховы мураваны Г-падобны ў плане будынак. Планіроўка калідорная, з парадняй лесвіцай у цэнтры крыла, арыентаванага на вул. Савецкую. У кампазіцыі гал. атынкаванага знадворку фасада спалучаюцца прыёмы сіметрыі і асіметрыі. Сіметрыю гал. фасада падкрэсліваюць партал цэнтр. ўвахода і 2 паўкруглыя эркеры з калонамі іанічнага ордэра на балконах, якія фланкіруюць цэнтр. частку. Асіметрыю будынка падкрэслівае рызаліт у месцы злучэння крылаў. Сцены гал. фасада расчлянёны высокімі прамавугольнымі вокнамі (2-і паверх рызаліта мае спаранае арачнае акно). Ніжні паверх, аддзелены ад верхняга антаблементам з плоскім фрызам і карнізам, аздоблены рустоўкай, міжкалонныя прасценкі вырашаны ў выглядзе пілястраў. Цэнтр. частка пабудовы і рызаліт завершаны глухімі 3-вугольнымі, а эркеры — сферычнымі складанай формы шчытамі з вокнамі.

*Ю. А. Якімовіч.*

**БАБРУЙСКІЯ ЖЫЛЫЯ ДАМЫ,** помнікі грамадзянскай архітэктуры пач. 20 ст. Дом (вул. Інтэрнацыянальная, 25) пабудаваны ў 1912 у стылі мадэрн. Драўляны 1-павярховы Г-падобны ў плане будынак з мезанінам. Планіроўка асн. паверха калідорная. Гал. фасад з 2 бакавымі рызалітамі, вырашанымі ў выглядзе 2-ярусных вежаў



**Бабруйскія жылыя дамы.** Дом па вуліцы Савецкай, 79.

з шатровымі пакрыццямі складанай формы і завершанымі нізкімі чацверыкамі, дзеліцца на 3 часткі. Над цэнтр. часткай паўавальны аб'ём з круглым акном у цэнтры шчыта. Рызаліты і цэнтр гал. фасада вылучаны арачнымі вокнамі, афармленымі ліштвамі з сандрыкамі, астатнія вокны прамавугольныя з 3-вугольнымі шчытамі ў завяршэнні. Сцены знадворку ашаляваны гарызантальна і вертыкальна, афармлены панелямі і ўстаўкамі з геаметрычным дэкорам (крыжавіны, прамавугольнікі, квадраты). Дэкар. характар маюць металічныя каваныя краты балкона мезаніна (на гал. фасадзе) і завяршэння ў рызалітаў. У будынку размешчана раённая б-ка і інш. грамадскія ўстановы. Іл. гл. таксама ў нарысе. Дом (вул. Савецкая, 79) пабудаваны ў пач. 20 ст. ў стылі неакласіцызму. Цагляны 1-павярховы П-падобны ў плане будынак пад вальмавым дахам. Сіметрычна-восевая кампазіцыя гал. атынкаванага фасада падкрэслена 3 рызалітамі. Цэнтр. рызаліт, уваходны праём якога вылучаны лучковай навіссю на вітых жалезных кранштэйнах, завершаны фігурным атыкам, дэкарыраваны ляпным картушам, бакавыя — камбінаваным (трохвугольны франтон і прамавугольны атык). Строеныя прамавугольныя вокны гал. фасада дэкарыраваны пластычнымі ліштвамі з ляпнымі гірляндамі і валютамі. Вулічны фасад апрацаваны рустыкай, аконтураны філёнгавым цокалем і карнізам на дэнтыкулах. У будынку размешчана дзіцячая стаматалагічная паліклініка. *А. М. Кулагін.*

**БАГУШЭВІЦКАЯ КАПЛІЦА-ПАХАВАЛЬНЯ,** помнік архітэктуры несапраўднай готыкі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. да 1863 з цэглы як фамільная пахавальня ўладальнікаў сядзібы Свентаржэцкіх у цэнтры в. Багушэвічы Бярэзінскага р-на, на левым беразе р. Уса (тэр. старажытнага гарадзішча). Уваходзіла ў склад сядзібна-паркавага ансамбля. 6-гранны ў плане будынак мае цэнтрычную кампазіцыю. З зах. боку да яго прымыкае прамавугольная ў плане апсіда, з усходняга — прытвор (бабінец) з стральчатым уваходным парталам. Па вуглах будынка масіўныя контрфорсы, якія завяршаюцца фіяламі. У цэнтры ўзвышаецца 6-гранная шатровая вежа, увянчаная шпілем. Сцены і грані вежы прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі і нішамі, апяразаны аркатурнымі фрызамі. Унутраная прастора капліцы перакрыта зорчатым скляпеннем з ляпнымі нервюрамі. Вузкая лесвіца вядзе на хоры (ва ўсх. частцы асн. аб'ёму) з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Філёнгавыя ўваходныя дзверы стральчатага абрысу дэкарыраваны арнаментальнай разьбой з выявамі мудрагеліста сплеценых паміж сабой вензеляў, віньетак, лістоў і галінак. У капліцы быў склеп (крыпта) — пахавальня. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**БАГУШЭЎСК,** гарадскі пасёлак у Сенненскім р-не. За 38 км ад г. Сянно. У 19 ст. вядомы як фальварак Багушэўка, дзе ў 1854—84 працаваў бровар. З пабудовай чыгункі Віцебск — Жлобін (1903) вакол чыг. ст. Багушэўская вырасла мястэчка Багушэўск Аршанскага пав. З 1938 гар. пасёлак, у 1939 было 3,3 тыс. жыхароў. У 1924—31 і 1935—60 цэнтр Багушэўскага р-на; з 1960 у Сенненскім р-не. Чыгунка падзяляе Б. на ўсх. і зах. часткі. Ва ўсх. частцы асн. кампазіцыйныя восі — вуліцы Леніна, Гарбунова, Паркавая. Паводле генплана 1975 (Мінскі філіял Цэнтр. н.-д. і праектнага ін-та горадабудаўніцтва) пакінута існуючая кампактная планіровачная структура. *В. С. Жаўняк.*

**БАРАНАВІЦКІ ПАКРОЎСКІ САБОР,** помнік архітэктуры неакласіцызму. Пабудаваны ў 1924—31 на вул. Куйбышава. Мураваны крыжова-купальны храм з 3 паўкруглымі апсідамі. Асн. квадратны ў плане аб'ём перакрыты вял. купалам, які мае 2 абалонкі і асвятляецца люкарнамі. Да асн. аб'ёму прымыкае 3-ярусная вежа-званіца, завершаная шлемам са шпілем. Бакавыя фасады вылучаны ўваходамі, з 3-калон-



**Баранавіцкі Пакроўскі сабор.**



**Багушэвіцкая капліца-пахавальня.**



**Баранавічы.** Вуліца Марынская. Пачатак 20 ст.



**Баранавічы.** Плошча Леніна.



**Баранавічы.** Чыгуначны вакзал. Фота пачатку 20 ст.

нымі порцікамі, увянчаны 3-вугольнымі франтонамі. Вокны і нішы разнастайнай формы з прафіляванымі абрамленнямі. У саборы знаходзяцца 7 з 16 мазаічных кампазіцый, якія да 1923 упрыгожвалі сабор Аляксандра Неўскага ў Варшаве. Былі выкананы ў 1902—11 у прыватнай майстэрні У. Фралова ў Пецярбургу на кардонах мастакоў В. Васняцова, М. Бруні, М. Кошалева, В. Думітрашкі шляхам простага і адваротнага набору шліфаванай смальты. Мазаіка «Маці Боская з дзіцем» (маст. Васняцоў) размешчана ў консе апсіды і з'яўляецца фрагментам кампазіцыі «Аб табе радуецца». Паплечныя выявы Маці Боскай у цёмна-вішнёвым і блакітным і дзіцяці ў светла-вохрыстым адзенні сілуэтна вылучаюцца на фоне залатых німбаў. Кампазіцыі «Сабор архістратыга Міхаіла» размешчаны ў тымпане франтонна на паўн. фасадзе, «Маці Боская з анёламі» (маст. Бруні) — у інтэр'еры над паўд. уваходам. Вял. частка смальты тут страчана. Каларыстычная гама будуецца на спалучэнні разнастайных адценняў светлых блакітных, зялёных, ружовых і глухіх сініх, чырвоных колераў з золатам смальты. Німбы запоўнены стылізаваным раслінным арнаментам. Кампазіцыі «Спас з данатарам» і «Дэісус» (маст. Кошалеў) размешчаны ў тымпане на паўд. фасадзе і над паўн. уваходам у інтэр'еры. У вобразе данатара — архітэктар Л. Бенуа з мадэллю Варшаўскага сабора ў руках, які атрымлівае благаславенне на будаўніцтва храма ад Спаса і Аляксандра Неўскага ў вобразе архангела. У колернай гаме пераважаюць насычаныя таны. На апорных слупах у інтэр'еры знаходзяцца партрэтныя выявы Іосіфа Волацкага і мітрапаліта Алексія (маст. Думітрашка). Сабор дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Г. М. Ярмоленка.*



**Баранавіцкі Пакроўскі сабор.** Фрагмент іканастаса.

**БАРАНАВІЧЫ,** горад, цэнтр Баранавіцкага р-на. За 206 км ад Брэста. Узнікненне звязана з буд-вам чыгунак у 2-й пал. 19 ст. З адкрыццём у 1871 руху на ўчастку Мінск — Брэст Маскоўска-Брэсцкай чыгункі пачаўся хуткі рост пасёлка пры станцыі. У сярэдзіне 1880-х гадоў было каля 1,5 тыс. жыхароў, 120 дамоў. Уладальнікі маёнтка Развадоўскія дамагліся ў 1884 надання пасёлку статуса мястэчка (наз. Развадова) з увядзеннем у 1888 мяшчанскага кіравання. Пасля здачы ў эксплуатацыю ў снежні 1884 участка Вільня — Лунінец — Пінск Палескіх чыгунак пачаў расці 2-і пасёлак на землях дзярж. маёнтка Каўпеніца і вёсак Свяцілавічы, Дубава і Каўпеніца. У 1890-я гады пасёлкі зліліся і ўтварылі Б. У 1889—8718 жыхароў, 834 будынкі. У 1931—39 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр павета. З 1954 у Брэсцкай вобл., цэнтр Навамышскага, з 1957 Баранавіцкага р-наў. Чыг. лініі з ПнУ на ПдЗ Мінск — Брэст, з ПнЗ на ПдУ Ліда — Лунінец падзяляюць

горад на 4 адасобленыя раёны: паўднёвы (Цэнтральны), усходні (Палескі), паўночны і паўночна-ўсходні (прамысловыя). У паўд. частцы на перакрыжаванні асн. магістралей горада вуліц Савецкай, Камсамольскай (яны з вуліцамі Брэсцкай і Куйбышава ўтвараюць старую частку горада), Леніна сфарміравалася пл. Леніна — адм.-грамадскі цэнтр горада. Сетка вуліц прамавугольная з высокай шчыльнасцю 3—5-павярховай забудовы. Усх. раён фарміруюць асн. яго вуліцы Тэльмана (будуецца мікрараён Усходні), Кірава, бульвар Касманаўтаў (забудаваны 5—9-павярховымі жылымі дамамі). У раёне вуліц Крошынскай, Фабрычнай сфарміраваўся мікрараён Тэкстыльшчыкаў з 5—9-павярховымі жылымі дамамі). У паўн. раёне асн. вуліцы — Вільчкоўскага, Пралетарская з 2—3-павярховымі грамадскімі жылымі будынкамі. Жылая забудова пераважна 1-павярховая сядзібнага тыпу. Побач з будынкамі завода аўтаматычных ліній ствараецца мікрараён Паўночны 1 з 5—9-павярховымі дамамі. Жылыя раёны горада звязваюцца з прамысл. зонамі, цэнтрам, вакзаламі сістэмай пешаходных эспланад, добраўпарадкаваны зялёнымі насаджэннямі. Помнік архітэктуры — *Баранавіцкі Пакроўскі сабор.* Паводле генплана ў 1967, 1975 (БелНДІ горадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё горада ў паўночным (да аўтамагістралі Мінск — Брэст) і ўсходнім (уздоўж чыгункі Мінск — Брэст да ўрочышча Гай), цэнтра — у заходнім (уздоўж вул. Чарнышэўскага) і ўсходнім (па вуліцах Тэльмана і Гаевай) напрамках, стварэнне гарадскога парку ва ўсх. частцы.

*С. Ф. Самбук.*

**БАРАНСКАЯ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1704 у в. Барань (Аршанскі р-н), перабудавана ў 2-й пал. 19 ст. У помніку адлюстраваліся кампазіцыйныя прыёмы, характэрныя для ярусных драўляных культавых пабудоў Беларусі. Царква 2-зрубная. Высокі, амаль квадратны ў плане асн. зруб накрыты 4-схільным дахам, завершаным 8-граннай вежачкай з купалком. Ніжэйшая 5-гранная апсіда накрыта шматсхільным дахам. Зрубы з 3 бакоў абкружаны невысокай закрытай абходнай галерэяй. Гал. ўваход вылучаны ганкам у выглядзе 4-калоннага порціка. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя, на бакавых фасадах асн. аб'ёму патройныя, арачныя. Унутры асн. аб'ём перакрыты самкнутым скляпеннем, астатнія памяшканні маюць



Баранская Спаса-Праабражэнская царква.

плоскія столі. Помнік рэспубліканскага значэння. У 1989 царква перавезена ў Бел. дзярж. музей народнай архітэктуры і побыту.

*Т. В. Габрусь.*

**БАРАНЬ,** горад у Аршанскім р-не, на р. Адроў. За 9 км ад Оршы. Вядома з 1598 як мястэчка Аршанскага пав. ў Вял. кн. Літоўскім. У сярэдзіне 17 ст. ў мястэчку 6 вуліц, 135 пляцаў, 37 «дымоў», была гандлёвая плошча, на якой размяшчалася царква і крамы. З 1772 у складзе Расіі, сяло, цэнтр воласці Аршанскага пав. З ліп. 1924 цэнтр сельсавета (да 1960) у Аршанскім р-не. З ліп. 1935 рабочы пасёлак. З 1972 горад. Падпарадкоўваецца Аршанскаму гарвыканкаму Савета нар. дэпутатаў. Арх.-планіровачную структуру фарміруюць вуліцы Аршанская, Першамайская, Паркавая, забудаваныя 3—4-павярховымі жылымі дамамі. Грамадскі цэнтр размешчаны на вул. Аршанскай, да якой з Пд прымыкае парк, на вуліцах Паркавая і Народная (ПдУ) — скверы. Горад забудоўваецца паводле генплана 1975 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). *Л. М. Смірнова.*

**БАРАЎЛЯНСКАЯ ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ,** помнік архітэктуры 1-й пал. 19 ст. Мураваны станцыйны дом 3-га разраду пабудаваны паводле «ўзорнага» праекта 1843 непадалёку ад в. Бараўляны (Віцебскі р-н), на 1067-м км аўтамагістралі Кіеў — Ленінград. Знаходзіцца за 35 м ад дарогі і павернута да яе гал. фасадам. Будынак прамавугольны ў плане, з боку двара невял. прыбудова. На гал. фасадзе 4 акны з ліштвамі. Над уваходам невял. франтончык. Абапал сенцаў, выцягнутых уздоўж папярочнай восі будынка, размяшчаліся на левым баку 3 пакоі для прыезджых і ямшчыкоў, на правым — пакоі даглядчыка. Гаспадарчыя пабудовы на станцыйным двары (хлявы, стайні, флігель для ямшчыкоў) часткова перабудаваныя. Будынак станцыі выкарыстоўваецца як дом дарожнага майстра. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. С. Сардараў.*

**БАРБАРОЎСКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 19—1-й пал. 20 ст. ў в. Барбароў (Мазырскі р-н). Была заснавана ў пач. 19 ст. ў маёнтку І. Горвата на месцы стараж. замка на высокім правым беразе р. Прыпяць. З 1875 належала рус. купцу Бакуненку. Сядзібны ансамбль уключаў палац, флігелі (не зберагліся), дом аканома і пейзажны парк. Палац быў узведзены ў стылі класіцызму паводле праекта рыжскага архітэктара Лунэбурга. Уяўляў сабой прамавугольны ў плане 2-павярховы аб'ём з 4-калонным порцікам у цэнтры фасада. Быў накрыты вальмавым дахам. З тарцовага боку да будынка далучалася 1-павярховая аранжарэя. Да месца, дзе знаходзіўся палац, вядзе ліпавая алея, якая пачынаецца мураванай брамай у стылі ампір у выглядзе 2 пілонаў, аб'яднаных каванымі вясніцамі і завершаных дэкар. вазамі. Алея праходзіць праз арачны мост і завяршаецца авальным партэрам. Дом аканома — 1-павярховы мураваны прамавугольны ў плане будынак з 4-калонным порцікам. Парк (пл. каля 5 га) складаецца з 2 частак. На больш нізкім паўднёвым участку, дзе стаяў палац, які з бакавымі флігелямі абмяжоўваў парадны двор, пасадкі мелі рэгулярную планіроўку. Больш высокі зах. ўчастак аддзяляецца ад яго лагчынай, па якой праходзіла алея, абсаджаная конскім каштанам звычайным. На берагавым адхоне знаходзіліся мураваная альтанка і капліца-пахавальня (1833, не захавалася). У доме аканома размешчана Барбароўская 8-гадовая школа.

*А. М. Кулагін*

**БАРУНСКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН,** помнік архітэктуры 2-й пал. 18 ст. Комплекс створаны ў в. Баруны (Ашмянскі р-н). Складаецца з царквы і манастырскага корпуса, якія разам з мураванай агароджай і вежай-званіцай ствараe ўнутраны квадратны ў плане двор. У 1692 пабудавана уніяцкая драўляная царква па фундацыі Мікалая Песьлака, у 1700—07 на яе месцы ўзведзена мураваная (знішчана пажарам), у 1715 адбудавана Львом Кішкай. Новая мураваная царква пабудавана ў 1747—57 паводле праекта арх. А. Асікевіча ў стылі віленскага барока, дабудавана ў 1760—70. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з паўкруглай апсідай накрыта 2-схільным дахам. На бакавых фасадах аконныя праёмы



Галоўны алтар царквы Барунскага манастыра базыльян.

з лучковымі завяршэннямі. Дэкар. аздабленне сканцэнтравана на пластычна вырашаным гал. фасадзе. Сярэдняя частка фасада мае паўкруглы выгін з вял. акном у цэнтры і завершана атыкавым франтонам з валютамі. Уваход падкрэслены масіўным парталам з фігурным франтонам. У інтэр'еры цэнтральны неф, алтарная апсіда і сакрысціі перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, бакавыя нефы — крыжовымі. Галоўны мураваны алтар вырашаны ў выглядзе складанага па малюнку порціка з калонамі карынфскага ордэра, разарваным антаблементам і скульптурным навершам у тэхніцы стука. Бакавыя стукавыя алтары выкананы парознаму. Скульптурнае стукавае аздабленне амбона мае рысы стылю ракако. Вежы пастаўлены пад вуглом да бакавых нефаў. Паўд. 3-ярусная квадратная ў плане вежа завершана гранёным купалам. Ад 2-й вежы застаўся ніжні ярус, накрыты 4-схільным купалам. З абодвух бакоў да вежаў прылягаюць брамы з пластычнымі абрысамі. Паўн. брама злучае царкву з 2-яруснай вежай-званіцай. Манастырскі корпус пабудаваны ў 1778—93 з цэглы. У выніку аднаўленчых работ у канцы 19 ст. архітэктура корпуса набыла рысы класіцызму. Будынак Т-падобны ў плане, 2-павярховы. Падоўжныя плоскасці сцен раўнамерна расчлянёны лапаткамі і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Планіроўка галерэйная. Памяшканні перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, калідор — крыжовымі. У пач. 19 ст. тут працавала публічная 6-класная школа базыльян. На плошчы перад царквой у 2-й пал. 18 ст. была пабудавана капліца — цэнтрычны 2-ярусны аб'ём (чацвярык на васьмерыку). Другі ярус — скразная вежачка з 4 лучковымі праёмамі. Збудаванне завершана невял. цыліндрычнай галоўкай. Вакол капліцы — мураваная агароджа з брамай. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.



**Барунскі манастыр базыльян.** Царква.

**БАРЫСАЎ**, горад, цэнтр Барысаўскага р-на, прыстань на р. Бярэзіна (басейн Дняпра). За 71 км ад Мінска. Упершыню ўпамінаецца ў Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1127 (у Іпацьеўскім пад 1128) як умацаваны горад Полацкага княства. Археалагічныя даследаванні паказалі, што Б. заснаваны ў пач. 12 ст. на месцы пас. Стара-Барысаў (за 4 км ад сучаснага горада) і складаўся з дзядзінца, рамешчанага на левым беразе Бярэзіны, навакольнага горада і курганнага могільніка. Пазней перанесены на новае месца — у сутокі рэк Бярэзіны і Схі. На беразе каля зліцця р. Бярэзіна з былой р. Пралля пабудаваны драўляны замак (гл. *Барысаўскі замак*). Горад размяшчаўся на левабярэжжы Бя-



Слабодка ў **Барысаве.** Пачатак 20 ст.

рэзіны і злучаўся з замкам драўляным мостам. У 1680 акрамя замка горад меў гандлёвую плошчу, у цэнтры якой знаходзіліся царква Спаса (вядома з 16 ст.). У паўд. частцы на Мінскай вуліцы ў 1642 пабудаваны касцёл Дзевы Марыі (драўляны, крыжова-купальны, з вежай-званіцай над уваходам, у 1806—23 на яго месцы пастаўлены мураваны 3-нефавы касцёл з порцікам на гал. фасадзе). У 2-й пал. 17—18 ст. горад тэрытарыяльна не развіваўся. Замак, у якім размяшчалася адміністрацыя староства, занепаў (у пач. 19 ст. разбураны, на яго месцы ў 1861 пабудавана мураваная турма). Паводле плана канца 18 ст. горад меў памеры каля 1,5 км з З на У і каля 1 км з Пн на Пд, займаў левабярэжжа Бярэзіны, быў падзелены на дробныя прамавугольныя кварталы. У цэнтры — гандл. плошча з 3 уніяцкімі цэрквамі і крамамі. У 1807 на плошчы пабудавалі мураваны дом дваранскага сходу (зруйнаваны ў 1812). Напярэдадні Айч. вайны 1812 на правым беразе Бярэзіны пабудаваны так званыя «батарэі» — земляныя фартыфікацыйныя збудаванні для абароны горада. У 1834 на гандл. плошчы паставілі драўляную праваслаўную царкву, на падмурках будынка дваранскага сходу — павятовае казначэйства. Пасля буд-ва чыгункі Масква — Брэст (1871) на правабярэжжы Бярэзіны каля чыг. вакзала ўзнік пасёлак Нова-Барысаў, які ў 1900 злучыўся з Б. доўгім (больш за 1 км) драўляным мостам на па́лях. У 1910 у Б. было 19 вуліц, 2 плошчы, 4 завулкі, 1105 двароў. На цэнтр. плошчы ў 1908 пабудаваны 4 карпусы гандлёвых радоў (112 крам), на месцы драўлянай царквы ў 1874 — мураваны *Барысаўскі Васкрасенскі сабор.* У Нова-Барысаве 20 вуліц, 2 завулкі, 3 праспекты, 418 двароў, каля вакзала — Юльеўская царква (1893, не збераглася). З усіх дамоў у Б. і Нова-Барысаве 72 былі мураваныя. У далейшым большае развіццё атрымаў Нова-Барысаў. Сучасны горад развіваецца паводле генплана 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва), падзелены ракой на 2 часткі: Нова-Барысаў (на Пд, кампазіцыйнае ядро горада) і Стара-Барысаў (на Пн), звязаныя паміж сабой аўтамабільным мостам. Архіт.-планіровачную структуру горада фарміруюць вуліцы Гагарына (гал. вось, шаша Мінск — Смаленск у межах горада, забудавана 9—13-павярховымі жылымі дамамі), Чапаева, праспект Рэвалюцыі. На перасячэнні вул. Чапаева і праспекта Рэвалюцыі ўтварылася цэнтр. плошча — грамадска-адм. і культ.-гандл. цэнтр. Цэнтр горада, а таксама вуліцы М. Горкага, Будаўнікоў у Нова-Барысаве, вуліцы Нармандыя — Нёман, 3-га Інтэрнацыянала, Лапаціна (асн. восі Стара-Барысава) забудоўваюцца 9-павярховымі жылымі дамамі. На ПдЗ (пры ўездзе ў горад з боку Мінска) створаны мікраraёны № 1 і 2, забудоўваюцца мікраёны № 3 і 6. Сетка вуліц мяшаная. Вытворчая зона на ПдЗ. У паўн. частцы Стара-Барысава фарміруецца паўночны прамысл. вузел. Паводле генплана прадугледжана фарміраванне і аб'яднанне 2 планіровачных раёнаў — правабярэжнай і левабярэжнай частак з развіццём апошняй у паўд.-ўсх. напрамку, буд-ва цераз р. Бярэзіна аўтамабільнага моста, аб'язной дарогі на ПдУ Б. з арганізацыяй новага ўезда ў горад па вул. Горкага. Іл. гл. таксама ў нарысе. *Ю. А. Якімовіч, В. П. Мусіенка.*

**БАРЫСАЎСКІ ВАСКРАСЕНСКІ САБОР**, помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. Пабудаваны ў 1874 з чырвонай цэглы (арх. П. Меркулаў) у Барысаве на месцы сабора, узведзенага ў 1620—48 з дрэва і знішчанага пажарам у 1865. Крыжовы ў плане 9-купальны 3-апсідны храм (даўж. 27 м, шыр. 23 м, выш. 12 м). Цэнтр. квадратны ў плане аб'ём завершаны 4-схільным дахам з цыліндрычным светлавым барабанам і цыбулепадобным купалам. Па вуглах даху дэкаратыўныя вежачкі з макаўкамі. Над апсідай і бакавымі прыбудовамі цыбулепадобныя галоўкі. Фасады багата аздоблены дэкаратыўнымі элементамі: какошнікамі, ліштвамі арачных аконных праёмаў з 3-вугольнымі і паўкруглымі франтонамі, вуглавымі круглымі руставанымі пілястрамі, прафіляванымі карнізамі, філёнгамі, якія кантрастна вылучаюцца на чырвоным фоне муроўкі. Гал. арачны ўваход падкрэслены вял. парталам у выглядзе прафіляванай аркі на 4 бочкападобных слупах. У інтэр'еры цэнтральная, найбольш высокая частка расшырана светлавым барабанам са сферычным купалам, што падтрымліваецца пры дапамозе ветразяў 4 магутнымі слупамі. Сцены апрацаваны лапаткамі. Перакрыцці з рытмам крыжовых скляпенняў чаргуюцца з падпружнымі аркамі, аздобленымі арнаментальнай размалёўкай. У апсідзе конха з фрэскавай выявай Хрыста. Над уваходам адкрытыя арачным праёмам хоры, на якія вядзе лесвіца з тамбура. Перад саборам размешчана ярусная шатровая званіца (1907; арх. В.



**Барысаў.** Цэнтральная плошча.

Струеў). У 1-м ярусе званіцы ўваходная брама. З 1945 царква перададзена веруючым. Помнік рэспубліканскага значэння. *В. М. Чарнатаў.*

**БАРЫСАЎСКІ ЗАМАК.** Узнік у 13 — пач. 14 ст. пасля пераносу паселішча з першапачатковага месца на 4 км ніжэй па р. Бярэзіна. Размяшчаўся на левым беразе, каля зліцця з былой р. Пралля, займаў пляцоўку пл. каля 2 га, абкружаную ровам і высокім земляным валам з драўлянымі сценамі і вежамі. Меў асаблівае стратэгічнае значэнне, бо кантраляваў суднаходны шлях з басейна Балтыйскага ў Чорнае мора і сухапутны шлях у цэнтр Беларусі. Паводле звестак польскага гісторыка А. Гваньіні, у 16 ст. замак быў умацаваны вежамі і парканам з гароднямі, запоўненых зямлёй і каменнем. Меў высокія сцены з абламамі (невысокімі пагруднымі брустверамі ў завяршэнні). Існавала сістэма забеспячэння вадой на час аблогі. У 1514 Барысаў асаджалі войскі маскоўскіх ваявод, аднак узяць яго не змаглі. У 1519 замак згадваецца ў ліку гарадоў, «повоеванных» маскоўскімі войскамі. Спробы рус. ваявод захапіць замак паўтараліся ў 1535, а таксама ў час Лівонскай вайны 1558—83, кварталы горада, якія не мелі аўтаномных умацаванняў, палілі і знішчалі. У 1-й пал. 17 ст. замак перабудаваны ў 5-бастыённую фартэцыю, умацаваную вял. ровам з вадою.




**Барысаўскі замак.** План.

З усх. боку да яго прымыкала падзамча (умацаваныя подступы), якое таксама мела лінію абароны. Паблізу ўмацаванняў знаходзіўся драўляны мост на палях цераз Бярэзіну. У час руска-польскай вайны 1654—67 пад сценамі замка 10.6. 1655 войскамі ваяводы Ю. Барацінскага быў разбіты атрад рус. войск пад камандаваннем К. Паклонскага, але 19.6.1655 гэты ж атрад, значна ўмацаваны сіламі рус. ваяводы Б. Хітраво, захапіў і спаліў замак. Рэшткі гарнізона адступілі на правы бераг Бярэзіны, спаліўшы за сабой мост. Паводле загаду рус. цара праз некалькі месяцаў «острог на Берёзе реке» і мост былі адноўлены, на левым беразе для аховы моста быў зроблены «земляной город» (бастыённы шанец). У 1658 замак двойчы пераходзіў з рук у рукі і моцна пацярпеў. У 1659 рус. войскі зноў адбудавалі замак. На вале былі пастаўлены сасновыя зрубы — тарасы з падвойнымі сценкамі вышынёй 3,5 аршына і байніцамі з шырокім сектарам абстрэлу, адноўлены і дадаткова ўмацаваны тайнік для вады, на тэр. падзамча насыпаныя «выводы» (бастыёны). Каб злучыць вал замка і падзамча, раздзеленых ровам з вадой, у яго дно былі ўбітыя палі, на якія з брускоў і жалезных «связей» пастаўлены каркас, што ўтрымліваў астрожную сцяну. У замку і на падзамчы стаяла 145 дамоў і жытніц, існавалі зброевыя майстэрні, якія рамантавалі ў т. л. гарматы. У канцы 1660 — пач. 1661 вайскова-абарончыя работы былі працягнуты рус. ваяводам К. Хлопавым. З чэрвеня 1661 замак пастаянна знаходзіўся ў аблозе, нешматлікі рус. гарнізон, які не мог трымаць абарону па ўсім перыметры ўмацаванняў, на 2/3 спаліў падзамча і знішчыў гарадскі пасад. Дзякуючы запасам хлеба і зброі замак год вытрымліваў аблогу атрадаў С. Чарнецкага, В. Валовіча, А. Русецкага і пяхотнага палка П. Сапегі. 9.7.1662 знясілены гарнізон пакінуў замак і адступіў. У канцы 17 ст. замак і падзамча былі адноўлены, іх бастыённыя ўмацаванні захоўваліся ў добрым стане да канца 18 ст. Засталіся сляды рова. *М. А. Ткачоў.*



**Барысаўскі Васкрасенскі сабор.**

**БАРЫСАЎСКІ ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ,** помнік архітэктуры пач. 20 ст. Пабудаваны на Прывакзальнай пл., завяршае перспектыву пр. Рэвалюцыі. Мае элементы стылю мадэрн. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак з сіметрычнавосевымі франтальнымі фасадамі. Гал. фасад расчлянёны глыбокімі ўваходнымі рызалітамі з фігурнымі прафіляванымі шчытамі ў завяршэнні. Перонны фасад мае ідэнтычную кампазіцыю з неглыбокімі рызалітамі, паміж якімі выхад з будынка. Аконныя праёмы лучковыя, з клінападобнымі аркамі і замковым каменем. На зялёным фоне сцен будынка вылучаюцца пабеленыя элементы архіт. дэкору: ліштвы праёмаў, міжпаверхавыя цягі, карніз з крэмальерамі.Тарцовыя фасады глухія. *А. М. Кулагін.*

**БАРЫСАЎСКІЯ ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ,** помнік грамадзянскай архітэктуры неакласіцызму. Пабудаваны ў 1908 у цэнтры Стара-Барысава (вул. Лапаціна, 38). Маст. выразнасць будынка дасягаецца сродкамі майстэрскай цаглянай муроўкі. Складаліся з 4 корпусаў з 112 крамамі. Захаваўся адзін корпус. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты 2-схіль-



Барысаўскі чыгуначны вакзал.



Барысаўскія гандлёвыя рады.

ным дахам. Франтальныя фасады (часткова атынкаваныя) былі расчлянёны рызалітамі, трохвугольнымі франтонамі, арачнымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі, адпаведна ўнутранай секцыйнай планіроўцы. Над прафіляваным карнізам рытмічна размешчаны пінаклі (захаваліся 2). У дэкоры выкарыстаны руставаныя лапаткі, падкарнізныя кранштэйны, цягі. Унутраная прастора будынка падзелена на 2 падоўжаныя палавіны з асобнымі выхадамі. У памяшканнях плоская столь. Выкарыстоўваюцца сучаснымі гандлёвымі прадпрыемствамі.

*А. М. Кулагін.*

**БЕЗДЗЕЖСКАЯ ТРОЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1784 у в. Бездзеж (Драгічынскі р-н) на фундаменце царквы 1-й пал. 17 ст. Мае рысы стылю барока. Прамавугольны ў плане асн. і алтарны зрубы аб'яднаны 2-схільным дахам з вальмай над алтаром і трохвугольнымі навісямі ў месцы злучэння зрубаў. Гал. фасад завершаны трохвугольным зрубам, які спалучаецца з паўвальмай, і 2 чацверыковымі вежамі з фігурнымі галоўкамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены разнымі ліштвамі. Інтэр'ер зальны, з 4 слупамі ў сярэдзіне, над уваходам хоры; захаваліся абразы 17—18 стагоддзяў. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. Перад царквой — прамавугольная ў плане званіца-брама, накрытая 2-схільным дахам.

*Т. В. Габрусь.*

**БЕЛААЗЕРСК,** горад у Бярозаўскім р-не. За 27 км ад Бярозы. Узнік у 1958 як пасёлак у сувязі з буд-вам Бярозаўскай ДРЭС. З 1960 р. п. Бярозаўскі. 25.6.1960



Бездзежская Троіцкая царква.

перайменаваны ў Белаазерск. З 1970 горад раённага падпарадкавання. Архіт.-планіровачную структуру горада вызначаюць узаемна перпендыкулярныя вул. Леніна (з Пн) і праспект Міру (з З), на якіх размешчаны грамадскія і культ.-быт. установы. Цэнтр. частка горада забудавана 5—9-павярховымі, астатняя тэрыторыя — 2—5-павярховымі жылымі дамамі. Горад забудоўваецца паводле генплана 1975 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*Т. П. Станішэўская.*

**БЕЛАГРУДСКІ МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1900—05 гады ў паўн.-зах. частцы в. Белагрудка (Лідскі р-н), на берагавым узвышшы р. Дзітва. Трохнефавая 2-вежавая базіліка з трансептам і 5-граннай апсідай з бакавымі сакрысціямі. Сіметрыя гал. фасада вылучана высокім арачным парталам увахода, галерэяй і акном-ружай над ім. Яго вертыкальнымі дамінантамі з'яўляюцца шмат'ярусныя вежы з шатровымі завяршэннямі. Цаглянай муроўкай выкананы элементы архітэктурнага дэкору: лапаткі, аркатурныя фрызы, ліштвы адзіночных і здвоеных аконных праёмаў, профілі і раскрапоўкі. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі з падпружнымі аркамі і люнетамі, упрыгожанымі фрэскавай арнаментальнай размалёўкай. У завяршэнні нефа — манументальны на высокім цокалі 2-ярусны шматкалонны алтар у стылі неакласіцызму, над уваходам — арганныя хоры. Касцёл дзейнічае.

*А. М. Кулагін.*

**БЕЛАРУСКАГА АЎТАМАБІЛЬНАГА ЗАВОДА БУДЫНКІ** ў Ж о д з і н е. Узведзены ў 1958, у 1976 пабудаваны новыя вытворчыя, адм.-быт. і інж. карпусы. Тэрыторыя завода функцыянальна заніравана з улікам асаблівасцей тэхналогіі, сістэмай адм.-быт. абслугоўвання і транспарту, санітарных і пажарных



Карпусы Беларускага аўтамабільнага завода ў Жодзіне.

патрабаванняў. Зоны планіровачна аб'яднаны транспартнымі і пешаходнымі сувязямі. Гал. вытворчую зону фарміруюць карпусы цэхаў — сучасных прамысл. будынкаў з прагрэсіўнымі аб'ёмна-планіровачнымі і канструкцыйнымі вырашэннямі. Асн. цэхі — вял. вытворчыя аб'ёмы з натуральным асвятленнем і кандыцыяніраваным паветрам. Вентыляцыйныя ўстаноўкі вынесены ў спец. галерэі на дахі корпусаў. Працяглыя гарызантальныя плоскасці вытворчых корпусаў раўнамерна падзелены 4-павярховымі быт. прыбудовамі, што стварае своеасаблівую і выразную кампазіцыю гал. фасадаў, перад якімі размешчана зона адпачынку. Перадзаводская зона — буйны комплекс адм., лабараторных і грамадскіх будынкаў, прамежкавае звяно паміж вытворчымі і жылымі тэрыторыямі. Яе гал. элементамі з'яўляюцца карпусы канструктарска-даследчай базы і заводакіраўніцтва, якія вылучаюцца цікавай і выразнай кампазіцыяй. У аб'ёмна-планіровачнай арганізацыі комплексу выкарыстаны прагрэсіўныя вырашэнні, што дало магчымасць стварыць выразную архітэктуру і камфортныя ўмовы працы.

*І. І. Бойт.*

**БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА БУДЫНАК** у Віцебску. Пабудаваны ў 1958 (арх. А. Максімаў, І. Рыскіна) на левым беразе Р. Зах. Дзвіны (каля Кіраўскага моста). Гал. фасадам арыентаваны на пл. Тысячагоддзя Віцебска. Уяўляе сабой 4-павярховы (з выступаючым 5-м паверхам над цэнтр. часткай) прамавугольны ў плане будынак з шырокім рызалітам на гал. тарцовым фасадзе, абкружаны 8-калонным (па 3 калоны па баках рызаліта) порцікам, пастаўленым на ступеньчаты стылабат і завершаным 3-вугольным франтонам. Шырокія бакавыя фасады (арыентаваны да ракі і на вул. Пушкіна) маюць асіметрычную кампазіцыю, якую стварае частка каланады порціка і плоскасць сцяны, расчлянёная шырокімі і вузкімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Прасценкі паміж вокнамі дэкарыраваны шырокімі пілястрамі і трыма паясамі ляпных гірлянд (лаўровы вянок з картушамі і разеткамі). Дваровы фасад вылучаны 4-калонным дарычным порцікам. У інтэр'еры — вестыбюль з білетнымі касамі, шырокая лесвіца, якая вядзе ў фае перад глядзельнай трох'яруснай залай на 758 месцаў.

*Т. І. Чарняўская.*



Белагрудскі Міхайлаўскі касцёл.



Будынак Беларускага інстытута фізічнай культуры на плошчы Я. Коласа.



Будынак Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра ў Віцебску.

**БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТА ФІЗІЧНАЙ КУЛЬТУРЫ БУДЫНКІ** ў Мінску. 1) Будынак на плошчы Я. Коласа. Першапачаткова прызначаўся для Дома партыйнага актыву. Пасля буд-ва (1939, арх. А. П. Воінаў, А. Брэгман) у ім размясціўся ін-т фізкультуры. З'яўляецца кампазіцыйнай дамінантай на плошчы ў месцы злучэння яе з праспектам Ф. Скарыны і вул. Я. Коласа. Будынак скла-



Галоўны корпус Беларускага інстытута фізічнай культуры.

даецца з цэнтр. 6-павярховай часткі і двух 4-павярховых бакавых крылаў, да якіх у 1953 па вул. Я. Коласа прыбудавалі корпус басейна (арх. С. Баткоўскі), у 1963 па праспекце Ф. Скарыны — корпус спартыўна-трэніровачных залаў (арх. С. Мусінскі, Г. Сысоеў). Гал. фасад вылучаны сваеасаблівым крывалінейным у плане порцікам з 6 слупамі квадратнага сячэння на вышыні 4 паверхаў, над ім 2-павярховы атык. 2) Новы вучэбны комплекс пабудаваны ў 1987 на праспекце Машэрава (арх. У. Афанасьеў, С. Анікін, Г. Фядосенка, С. Канавалаў). У яго склад (участак 47-га) уваходзяць гал. вучэбны корпус, актавая зала на 1500 месцаў і сталовая, студэнцкі інтэрнат на 895 месцаў, вучэбна-спарт. корпус, легкаатлетычны манеж, плавальны басейн, б-ка. Усе будынкі зблакіраваны ў адзіную кампазіцыю вакол унутранага двара, дзе размясцілася спарт. ядро з футбольным полем, сектарамі для лёгкай атлетыкі. Гал. корпус — 7-павярховы аб'ём у выглядзе «трылісніка» у плане, што надае яму запамінальнае аблічча; інтэрнат — 16-павярховы корпус — архіт. дамінанта комплексу. Архітэктура будынкаў адметна геаметрычнасцю форм, лаканізмам архіт. дэталей. *В. І. Анікін, А. А. Воінаў.*

**БЕЛАРУСКАГА ПОЛІТЭХНІЧНАГА ІНСТЫТУТА БУДЫНКІ** ў Мінску (праспект Ф. Скарыны). Будаўніцтва карпусоў і інтэрната пачалося ў 1932 (арх. Г, Лаўроў). У выніку перапрацоўкі праекта арх. Н. Макляцовай паасобныя навучальныя карпусы аб'яднаны цэнтр. павышаным аб'ёмам. Пасля Айч. вайны разбураныя будынкі адноўлены. У гал. навучальным корпусе пры захаванні планіровачнай схемы зменена вестыбюльная група памяшканняў, па-новаму вырашаны фасады (1946—52, арх. Л. Рымінскі, Л. Усава). Будынак упрыгожаны манум. 6-калонным порцікам, пастаўленым на цокалі з цэнтр. уваходам. У 1952—56 пабудаваны тры 5-павярховыя карпусы інтэрнатаў, на фасадах, якіх выкарыстаны элементы класіцыстычнага дэкору (арх. С. Мусінскі, Г. Сысоеў). У 1950—60-я гады да гал. навучальнага корпуса прыбудаваны аб'ём б-кі з чытальнымі заламі і кнігасховішчам і спарт. корпус (арх. Н. Шпігельман і інш.), па тыпавых праектах створаны будынкі навучальных карпусоў і сталовая на 500 месцаў. У 1976 пабудаваны навучальны корпус аўтатрактарнага факультэта (арх. І. Боўт, Ж. Сахарава), які складаецца з 12-павярховага аб'ёму з аўдыторыямі і кабінетамі, чарцёжнымі заламі, 5 паточнымі аўдыторыямі на 250—300 месцаў кожная, актавай залай на 800 месцаў і інш. У 1979 пабудаваны навучальны корпус № 11 (арх. Л. Пагарэлаў) з паточнымі аўдыторыямі, кабінетамі, заламі і плавальным басейнам. Створаны (арх. Мусінскі, Ю. Грыгор'еў) гарадок студэнцкіх інтэрнатаў па вул. Сурганава. У 1982 у паўн.-ўсх. частцы горада на скрыжаванні праспекта Ф. Скарыны і кальцавой аўтамагістралі пабудаваны гал. навучальна-лабараторны корпус і інтэрнат архітэктурнага і будаўнічых факультэтаў (арх. І. Есьман, В. Анікін). Будынкі вырашаны ў буйных дынамічных формах. Гал. корпус 8-павярховы, у плане — выцягнуты прамавугольнік, на 1-м паверсе з трох бакоў выступаюць аб'ёмы паточных аўдыторый, што ствapae выразны ансамбль з трохвосевым у плане блокам інтэрната. *В. Б. Ангелаў, А. А. Воінаў.*

**БЕЛАРУСКАГА РЭСПУБЛІКАНСКАГА БАНКА БУДЫНАК** у Мінску. Пабудаваны ў 1947—52 (арх. М. Паруснікаў) на праспекце Ф. Скарыны. 4-павярховы Г-падобны ў плане будынак. У архіт. вырашэнні ўдала інтэрпрэтаваны матывы класіцызму і рэнесансу, якія надаюць будынку манументальнасць і парадн асць. Важную ролю ў пластыцы арыентаваных на магістралі гал. і бакавога фасадаў адыгрываюць рытм пілястраў карынфскага ордэра і буйных арачных аконных праёмаў, антаблемент, расчлянёны паміж пілястрамі паўкруглымі аркамі. Будынак завершаны складаным карнізам і атыкам-парапетам. Дах аднасхільны.

**БЕЛАРУСКАГА РЭСПУБЛІКАНСКАГА ЗНЕШНЕЭКАНАМІЧНАГА БАНКА СССР БУДЫНАК** у Мінску. Пабудаваны ў 1987 (арх. А. Вераб'ёў) па вул. Заслаўскай на складаным (з перападам рэльефу да 10 м) участку паміж масавай жылой забудовай і Домам праектных арганізацый. Будынак — кампактны аб'ём, упісваецца ў плане



Галоўны корпус Беларускага політэхнічнага інстытута.



**Беларускага політэхнічнага інстытута будынкі.** Галоўны корпус архітэктурнага і будаўнічага факультэтаў.

ў квадрат (31×31 м). Невял. збудаванне характарызуецца выразнасцю архітэктуры сваіх фасадаў з кантрастным спалучэннем белых паверхняў сцен і цёмных плоскасцей вітражоў, кансольна навіслымі канструкцыямі над гал. уваходам. Ураўнаважанасць дынамічнасці і статычнасці фасадаў адлюстроўвае вобразную і тыпалагічную характарыстыкі будынка, адпавядае яго функцыянальному прызначэнню. Інтэр'еры з перацякаючай прасторай, прымыкаюць да атрыума, які завяршаецца светлавым ліхтаром. У будынку адлюстраваны некаторыя прагрэсіўныя тэндэнцыі развіцця сучаснай архітэктуры ў рэчышчы пошукаў структурнай і эмацыянальнай выразнасці. *С. Дз. Філімонаў.*

**БЕЛАРУСКАЙ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ АКАДЭМІІ БУДЫНКІ.** Комплекс размешчаны ў паўн. частцы г. Горкі (Магілёўская вобл.). 24.4.1836 сенат зацвердзіў Указ аб адкрыцці ў казённым маёнтку Горы-Горкі (больш за 55 тыс. дзесяцін зямельных і лясных угоддзяў) земляробчай школы. Яна стала асновай для стварэння адной з першых у Расіі і за мяжой вышэйшых сельскагаспадарчых навучальных устаноў. У 1837 адбылася ўрачыстая закладка будынка школы (цяпер корпус № 4). Да 1840 пастаўлена 35 будынкаў. Архіт. комплекс акадэміі ўключае рэканструяваныя



Будынак Беларускага рэспубліканскага знешнеэканамічнага банка ў Мінску.



Будынак Беларускага рэспубліканскага банка.

пасля Вял. Айч. вайны старыя будынкі (корпус № 4, б-ка, адм., прафесарскі, фізіка-хімічны, таксатарскі карпусы, дзіцячы сад) і пабудаваныя ў 1960—80-я гады новыя карпусы (гал. вучэбны, жылыя, спартыўны, інтэрнаты, Палац культуры). Будынкі знаходзяцца ў маляўнічым пейзажным парку, злучаны добраўпарадкаванымі і азеленымі вуліцамі. З У парк агінае р. Капылка, якая ўтварае ў паўн. частцы комплексу сажалку («Ніжняе возера») з маляўнічым бярозавым гаем на беразе. На паўн.-ўсх. ускраіне размешчаны рэгулярны, радыяльнай планіроўкі пладовы сад вучэбнай гаспадаркі акадэміі. Корпус № 4 пабудаваны ў цэнтр. частцы ў стылі класіцызму. Гал. фасад 3-павярховага прамавугольнага ў плане аб'ёму вылучаны порцікам з 8 трохчвэртнымі калонамі дарычнага ордэра. Будынак бібліятэкі перабудаваны ў 1930-я гады з былой царквы ў паўд.-ўсх. частцы ў стылі канструктывізму. 2-павярховы, складанай у плане формы. Адм. корпус пабудаваны ў цэнтры ў пач. 20 ст. 3-павярховы, прамавугольны ў плане. Прафесарскі, таксатарскі і фізіка-хімічны карпусы, дзіцячы сад пабудаваны ў паўн. частцы ў пач. 20 ст. 2-павярховыя будынкі. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

**БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ НАРОДНАЙ АРХІТЭКТУРЫ І ПОБЫТУ,** навукова-даследчая і культурна-асветніцкая ўстанова, якая вывучае, збірае, даследуе, зберагае, экспануе, прапагандуе і папулярызуе калекцыі рэліквій канца 17 — пач. 20 ст. (помнікі народнага дойлідства, прадметы побыту, творы дэкар.-прыкладнога мастацтва і інш.), якія характарызуюць матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў. Заснаваны паводле пастановы СМ БССР ад 9.12.1976. Размешчаны за 12 км на ПдЗ ад Мінска, каля Воўчкавіцкага вадасховішча, на абалонах вярхоўяў рэк Пціч і Менка, паміж вёскамі Азярцо, Воўчкавічы, Гарадзішча і Строчыца (Мінскі р-н). Пл. каля 210 га. Зямельны ўчастак музея з'яўляецца ландшафтным помнікам прыроды. На яго тэрыторыі знаходзяцца курганныя могільнікі — стараж. валатоўкі. Навукова-метадычныя рэкамендацыі па буд-ве распрацаваны сектарам этнаграфіі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі і Рабочай групай па стварэнні музея. Тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне выдадзена Ін-там БелНДІПгорадабудаўніцтва. Архіт.-планіровачнае рашэнне на падставе канцэпцыі нацыянальна-этнаграфічнага парку-запаведніка прадстаўлена Ін-там «Белспецпраектрэстаўрацыя». Гал. прынцып стварэння музея — этнічны. З улікам асн. этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі запланаваны падзел экспазіцыі на 7 сектараў: «Цэнтральная Беларусь», «Паазер'е», «Падняпроўе», «Панямонне», «Усходняе Палессе», «Заходняе Палессе» і «Мястэчка» (народная архітэктура і побыт бел. гарадоў 16—19 стагоддзяў). Запланаваныя таксама сектары «Унікальныя помнікі» і «Хутар». У асобную запаведную зону вылучаны в. Строчыца, раннеславянскае гарадзішча на р. Менцы і прыродныя помнікі. Ландшафт зямельных участкаў сектараў музея адпавядае прыродна-ландшафтным асаблівасцям адпаведных рэгіёнаў Беларусі. Экскурсійны маршрут працягласцю каля 3 км звяжа сектары ў адзінае цэлае і дазволіць прасачыць адзінства і этнічныя адметнасці кожнага з іх. Структурнай адзінкай экспазіцыйных сектараў і музея ў цэлым з'яўляецца сядзіба селяніна (двор) з поўным наборам пабудоў і адпаведным інтэр'ерам. 5—6 такіх двароў, дапоўненых малымі архіт. формамі, кампануюцца ў паселішчы (або іх фрагменты), у планіровачную структуру якіх арганічна ўключаюцца культавыя і грамадскія пабудовы. З ліпеня 1987 дзейнічае сезонная экспазіцыя першай чаргі музея (адрэстаўрыравана 18 помнікаў, 16 аб'ектаў знаходзяцца ў стадыі завяршэння). У сектары «Цэнтральная Беларусь» грамадскія будынкі (Пакроўская царква 17—18 стагоддзяў з в. Логнавічы Клецкага р-на; грамадскі свіран пач. 19 ст. з в. Касарычы Глускага р-на; карчма пач. 19 ст. з в. Хвоева Нясвіжскага р-на; школа пач. 1930-х гадоў з в. Калодчына Вілейскага р-на) размешчаны побач з сядзібнай забудовай, што з'яўляецца этнаграфічнай адметнасцю рэгіёна. Сядзібная забудова — тып вясковай вуліцы з аднабаковым размяшчэннем пабудоў. Структура сядзіб ілюструе развіццё лінейнай (пагоннай) планіроўкі двароў. Пагонны двор з двух асобных пабудоў утвараюць хата (хата—сені—клець) пач. 20 ст. з в. Ісерна Слуцкага р-на і хлеў з в. Солан Старадарожскага р-на; сядзібу завяршае 8-вугольнае гумно. Тып пагоннага двара з пабудовамі пад адным дахам (хата — сені—камора—сенечкі—кладоўка — клець — адрына — хлявы — птушнік) ілюструе сядзіба пач. 20 ст. з в. Садавічы Капыльскага р-на. Дваром з незвязанай забудовай (хата — сені — варыўня, хлявы з птушнікам, насупраць—свіран, алейня, гумно) з'яўляецца сядзіба з в. Заброддзе Стаўбцоўскага р-на. У канцы сектара размешчана кузня з в. Клачкова Маладзечанскага р-на. На пагорку — вятрак-казлоўка з в. Даматканавічы Клецкага р-на. Сектар дапаўняюць 3 тыпы агароджы: тын з яловага галля, плот з жэрдак, паркан вакол царквы, а таксама канавяз, лаўка каля прызбы і 2 студні — адна з калаўротам пад навесам, другая з жураўлём. Забудова сектара «Падняпроўе» — тып вясковай вуліцы з двухбаковым размяшчэннем двароў. Пры ўваходзе ў сектар знаходзяцца брама-калаўрот і пограб з в. Бракава Слабада Чавускага р-на. Развіццё вянковай планіроўкі сядзіб ілюструе размяшчэнне вянковых двароў з в. Волева Дубровенскага р-на і в. Бракава Слабада Чавускага р-на. Сярод грамадскіх пабудоў — царква з в. Барань Аршанскага р-на (гл. *Баранская Спаса-*





**Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі будынкі.** Карпусы № 4 (злева) і фізіка-хімічны.

*Праабражэнская царква*) і вятрак з в. Зелянец Хоцімскага р-на. У сектары «Паазер'е» пабудовы размешчаны свабодна, ілюструюць бессістэмную планіроўку вёскі. Сядзіба пач. 19 ст. з в. Будзічы Докшыцкага р-на — тып вянковага двара з чыстым дваром і гаспадарчым дваром з загарадай. Сядзіба з в. Варашылкі Мядзельскага р-на — тып круглага двара з агульным чыстым і гасп. дварамі. Царква са званіцай 18 ст. з в. Вялец Глыбоцкага р-на выканана ў традыцыях народнага дойлідства. Сярод гасп. пабудоў: адрына пач. 20 ст. з в. Логнавічы Пастаўскага р-на, гумно з алейняй пач. 20 ст. з в. Кемянцы Браслаўскага р-на, пуня з в. Воўкаўшчына Міёрскага р-на, вятрак з в. Янушоўка Мядзельскага р-на. Сектар дапаўняюць двор-хутар (хаты на 2 бакі, свіран, хлявы, лазня) і плот з жэрдак. Вёска Строчыца мае тыповую аднабаковую вулічную забудову 19 — пач. 20 ст. Размяшчэнне вуліцы і пабудоў вызначана прыродным ландшафтам — берагамі Пцічы, хаты пастаўлены ўздоўж рэчкі тарцовымі сценамі да вады. Апрача калекцыі помнікаў народнага дойлідства ў музеі яшчэ 22 калекцыі (знаходзяцца ў экспазіцыі, дэманструюцца на выстаўках, захоўваюцца ў фондах), у т. л. тканіны, адзенне, абутак, галаўныя ўборы, хатняе начынне, сельскагаспадарчы інвентар і траспартныя сродкі, музычныя інструменты і гадзіннікі, кераміка, дакументы, кнігі. На 1.3.1990 сабрана каля 17 тыс. музейных прадметаў, з іх больш за 13 тыс. адзінак асн. захавання і звыш 3 тыс. навукова-дапаможнага фонду. На тэр. музея і вакол яго знаходзіцца шмат дробных і буйных ледавіковых валуноў. Буйныя валуны мяркуецца абвясціць помнікамі прыроды. *Г. А. Ткацэвіч.*





**Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту.** Экспазіцыйны сектар «Цэнтральная Беларусь». Панарама (уверсе) і фрагмент.

**«БЕЛАРУСЬ»**, гасцініца ў Мінску. Размешчана на вул. Старажоўскай, на ўзгорку левага берага р. Свіслач. Добра ўпісваецца ў ансамбль забудовы праспекта Машэрава. Пабудавана ў 1987 (арх. Л. Пагарэлаў). Вышынны 22-павярховы 3-пялёсткавы ў сячэнні будынак, разлічаны на 1000 гасцінічных месцаў. Архітэктура заснавана на рытме прамавугольных аконных праёмаў і навясных тонкіх пілонаў. Тарцы крылаў маюць пластычнае У-падобнае завяршэнне і вертыкальную стужку балконаў. З боку гал. ўвахода выступае 1-павярховы аб'ём вестыбюля і фае. Планіроўка тыпавога паверха радыяльная: ад цэнтр. ліфтавай групы разыходзяцца 3 калідоры з 2-баковым размяшчэннем



Гасцініца **«Беларусь»** у Мінску.

нумароў. Каля ліфтавай групы і ў тарцах 2 крылаў міжпаверхавыя лесвіцы. На 22-м паверсе — кафэ. Ад гасціннага корпуса ў бок праспекта Машэрава выступае самастойнае 2-павярховае крыло з круглым у плане блокам рэстарана, завершаным цыліндрычным светлавым ліхтаром. *А. М. Кулагін.*

**«БЕЛАРУСЬ»,** універсальны магазін у Мінску. Пабудаваны ў 1978 (арх. Я. Розанаў, Г. Аквілаў). 6-павярховы прамавугольны ў плане будынак мае сіметрычнае аб'ёмна-планіровачнае вырашэнне. Кампазіцыя выразных лаканічных фасадаў створана мерным рытмам вертыкальных лапатак на вышыні 2—3-га паверхаў. У апрацоўцы будынка выкарыстаны мармур, шкло, прафіляваны алюміній і інш. На 1—4-м паверхах размешчаны гандл. залы (пл. 7050 м$^2$), злучаныя паміж сабой па цэнтры эскалатарамі і 2 бакавымі лесвіцамі, адм., быт., складскія памяшкані, кафэ, на 5—6-м паверхах — сталовая, медпункт, цырульня, канферэнцзала, адм., складскія і інш. памяшканні. *С. Дз. Філімонаў.*



Універмаг **«Беларусь»** у Мінску.

**БЕЛАЦАРКОЎСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры ранняга барока. Пабудавана ў пач. 17 ст. ў в. Белая Царква (Чашніцкі р-н) на месцы драўлянай царквы 16 ст. пры базыльянскім манастыры. Мураваны аднанефавы храм з масіўнай вежай (таўшчыня сцен 1,75—2 м) і паўкруглай алтарнай апсідай (не збераглася). Асн. аб'ём перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках. Сцены ўмацаваны контрфорсамі, 2 сярэднія злучаны перспектыўнай аркай і ўтвараюць вял. партал. Аконныя праёмы вузкія, з паўцыркуульным завяршэннем. Квадратная ў плане 3-ярусная вежа-званіца завершана шматгранным купалам з 4 люкарнамі, сцены апрацаваны пілястрамі і прафіляванымі карнізамі. Царква збераглася часткова. Разбурана ў 1930-я гг. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Міцянін.*

**БЕЛІЦКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 1-й пал. 17 ст. ў в. Беліца (Лідскі р-н) на месцы страж. замка. Комплекс складаўся з вял. Панскага двара і гасп. часткі, размяшчаўся на беразе Нёмана, быў абнесены частаколам і звязваўся з мястэчкам пад'ёмным мостам. У двор вяла 2-ярусная брама з праездам у ніжнім і залай у верхнім ярусе, завершаная металічным купальным дахам з флюгерам над ім. Каля яе размяшчаліся 4 флігелі з жылымі і гасп. памяшканнямі. Цэнтр падвор'я займаў вял. драўляны палац на каменным падмурку, пабудаваны ў пач. 17 ст. ў стылі рэнесансу. Кампазіцыя палаца была пабудавана на кантрасным спалучэнні 1-павярховай жылой і 2-павярховай параднай (аформленай ганкам у ніжнім і галерэяй у верхнім паверсе) частак. Сілуэт будынка ўзбагачаўся з дэкар. вежачкамі, якія завяршалі гонтавы дах. За палацам размяшчаліся жылыя і гасп. будынкі (лазня, скляпы, дамы чэлядзі, стайня і інш.). Сярод іх манументальным выглядам вылучаўся дом з 5 жылымі пакоямі, фланкіраваны па баках 2 вежападобнымі шатровымі алькежамі, і 2-павярховы крыжовы ў плане жылы будынак (пры рэканструкцыі 1649 да яго прыбудаваны 2-павярховы алькеж, аформлены балюстраднай галерэяй на 2-м паверсе і завершаны шатровым дахам з купалам і флюгерам). Комплекс адлюстраваў тэндэнцыі развіцця сядзібна-палацавай архітэктуры Беларусі 17 ст. *Ю. А. Якімовіч.*

**«БЕЛЫ КОВЕЛЬ»,** гл. *Смалянскі замак.*

**БЕЛЬЧЫЦКІ БАРЫСАГЛЕБСКІ МАНАСТЫР.** Існаваў у 12—1-й пал. 20 ст. Заснаваны на месцы б. рэзідэнцыі полацкіх князеў у прадмесці Полацка Бельчыцы, на левым беразе р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Бяльчанка, за 2 км ад полацкага Верхняга замка (сучасны раён вул. Юбілейнай і Юбілейнага завулка ў Полацку). Уключаў 4 мураваныя храмы (збе-



**Белацаркоўская Троіцкая царква.**

раглісь фундаменты 3 цэркваў), пабудаваныя ў 12 ст. ў тэхніцы муроўкі сцен з плінфы са схаваным радам, характэрнай для *Полацкай школы дойлідства.* Манастыр — унікальны культурны комплекс 12 ст., выключная з'ява ў дойлідстве і манументальным жывапісе Старажытнай Русі (не збярогся). Самы вялікі — крыжова-купальны 3-апсідны храм (1120—30-я гады, назва невядома) быў падзелены 6 стаўпамі на 3 нефы, меў 3 прытворы. Фасады дэкарыраваны плоскімі лапаткамі. Фундамент храма закладзены ў пясчаным грунце на глыбіні 1,63 м. Падлога была выкладзена паліванымі пліткамі, сцены аздоблены фрэскамі. Другі храм — аднанефавая Пятніцкая царква памерамі каля 5,1×8 м (верагодны дойлід Іаан) мела прамавугольную апсіду, прытвор, падземную камеру (крыпту; магчыма, пахавальня князя Барыса Усяславіча). Унутры была размалявана фрэскамі на сюжэты евангельскага цыкла. На паўн. сцяне кампазіцыі «Таямніцы» і «Распяцце», на паўд.— «Аплакванне». Ніжні ярус — фігуры святых. На зах. баку перадалтарных слупоў — выявы князёў Барыса і Глеба. Трэці храм — крыжова-купальная 6-стаўповая Барысаглебская царква мела вузкія бакавыя нефы, прытвор, своеасаблівы падкупальны пастамент і 3 апсіды (2 бакавыя ў тоўшчы ўсх. сцяны). У 1911 абследаваў І. І. Далгоў. Унутры сцены былі размаляваны фрэскамі з выявамі святых, арнаментам. Чацвёрты храм крыжападобны ў плане, з 3 паўкруглымі апсідамі (трыконх) сведчыць аб культурных сувязях з балканскімі краінамі, дзе выкарыстоўваўся такі тып пабудовы. Іл. гл. таксама ў нарысе. *Г. В. Штыхаў.*

**БЕНІЦКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 2-й пал. 18—19 ст. ў в. Беніца (Маладзечанскі р-н). Належала Коцелам, Абрамовічам, Швыкоўскім. У комплекс уваходзілі сядзібны дом, гасп. пабудовы, парк, сад, ставы. Сядзібны дом пабудаваны ў 1779—81 паводле праекта італьянскага арх. К. Спампані. Драўляны 1-павярховы Н-падобны будынак на высокім падмурку. Вертыкальна ашаляваныя сцены былі прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі з простымі ліштвамі. Гал. і дваравыя фасады вылучаліся порцікамі з 3-вугольнымі франтонамі. Высокі вальмавы дах быў крыты гонтай. Бакавыя крылы вылучаліся асобнымі ўваходамі з ганкамі, мураванымі з камянёў. Планіроўка сярэдняй часткі будынка мела анфіладны характар (зала баляў, гасцёўня, сталовая і інш.). Інтэр'еры пакояў былі багата аздоблены (фігурны паркет, філёнгавыя сцены, лепка). Сцены ўпрыгожвалі шматлікія карціны, абразы, гравюры. У бакавых крылах знаходзіліся жылыя і гасп. памяшканні, інтэр'еры якіх былі больш сціплыя. З ліку гасп. пабудоў вызначаўся драўляны лямус, у архітэктуры якога спалучаліся рысы стылю класіцызму і нар. дойлідства (арх. Спампані). Сядзібны дом размяшчаўся ў невял. парку.
*В. В. Гліннік, У. М. Пярвышын.*



**Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр.** Руіны Барысаглебскай царквы.

**БЕНІЦКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ.** Пабудаваны ў пач. 18 ст. ў в. Беніца (Маладзечанскі р-н) у стылі барока. Комплекс складаўся з касцёла, кляштарнага корпуса (не захаваўся) і мураванай агароджы (захавалася часткова) з брамай. Фарміраванне комплексу пачалося ў 1701 з фундацыі Троіцкага касцёла троцкім кашталянам Міхалам Казімірам Коцелам. Пасля збудавання ён быў перададзены бернардзінцам, якія па фундацыі таго ж Коцела змуравалі побач 2-павярховы кляштарны



**Беніцкая сядзіба.** З малюнка Н. Орды.



**Беніцкі Троіцкі касцёл і кляштар бернардзінцаў.** Касцёл.

корпус. Буд-ва комплексу было скончана да 1704. На працягу 18—1-й пал. 19 ст. пры кляштары існавала школка. У 1851 кляштар быў скасаваны, а ў канцы 19 ст. разабраны.

Троіцкі касцёл пабудаваны ў 1701—04. З канца 18 ст.— парафіяльны. У 1866 перароблены на царкву. З 1919 — касцёл. Аднанефавы крыжова-купальны храм з 2-вежавым гал. фасадам. Неф касцёла завершаны 5-граннай апсідай і перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Аналагічнае перакрыцце маюць апсіда і крылы трансепта. Сяродкрыжжа перакрыта купалам на 8-гранным барабане. Купал завершаны гранёным ліхтаром. У выніку грунтоўных рэканструкцый і рамонтаў 19—20 стагоддзяў пачатковы выгляд гал. фасада помніка значна скажоны (зменена форма франтона, надбудаваны вежы). У інтер'еры касцёла знаходзіліся алтары ў стылі ракако (знішчаны ў час рэканструкцыі 1866), партрэт фундатара (у 2-й пал. 19ст. перанесены ў палац *Беніцкай сядзібы*) і 3 стукавыя надмагіллі рода Коцелаў (захаваліся часткова). У сутарэннях былі сямейныя склепы Коцелаў і Швыкоўскіх. Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. В. Гліннік, У. М. Пярвышын.*

**БЕРАЖНОЎСКАЯ ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў 19 ст. ў в. Бeражное (Столінскі р-н). Спачатку была трохзрубная. Да квадратнага ў плане асн. аб'ёму, завершанага вял. светлавым чацверыком, прылягаюць прамавугольны ў плане бабінец і 5-гранная алтарная апсіда. Зрубы аб'яднаны шматсхільным дахам. У канцы 19 — пач. 20 ст. да царквы прыбудаваны з З 2-ярусная званіца, з Пд прамавугольны ў плане аб'ём, завершаны светлавым васьмерыком. Аб'ём накрыты шатровымі дахамі. Сцены гарызантальна ашаляваны, вокны прамавугольныя. Унутры ўсе памяшканні злучаны шырокімі праё-



**Бeражноўская царква Параскевы Пятніцы.**

мамі. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

**БЕРАЗВЕЦКІ КЛЯШТАР БАЗЫЛЬЯН,** архітэктурны комплекс позняга барока. У 1643 на паўн. беразе воз. Глыбокае каля в. Беразвечча (Глыбоцкі р-н) паводле фундацыі ваяводы і старосты мсціслаўскага Язэпа Корсака быў збудаваны драўляны кляштар. У 17 ст. пры ім дзейнічала школка, у якой выкладаліся фізіка, матэматыка, малюнак, франц. і ням. мовы. Паміж 1756 і 1763(64— ?) на месцы ранейшых драўляных пабудоў былі змураваны новы кляштар з царквой. Царква, пабудаваная ў стылістыцы віленскага барока, была 3-нефавая базіліка з трансептам і 2-вежавым гал. фасадам, знакамітым сваёй дынамічнай святлоценявой кампазіцыяй. Храм меў нетрадыцыйную арыентацыю на Пн, быў нібы звернуты тварам да сонца, якое, высвятляючы хвалістую паверхню гал. фасада, раскрывала якасці яго пласт. формы. У гал. фасадзе царквы рэалізаваны формаўтваральныя прынцыпы ракако. Гэта дасягалася ўжываннем пераважна архітэктанічнага, а не ляпнога дэкору, што стылістычна не характэрна. Існуюць меркаванні, заснаваныя на фармальна-стылістычным аналізе будынка, што аўтарам праекта царквы быў віленскі дойлід Ян Крыштаф Глаўбіц (дакументальна не пацверджана). Вядома, што з 1753 у рабоце над дэкорам прымаў удзел архітэктар і лепшчык Ян Табіяш Дыдрыштэн (Дыдрыхштэн). У канцы 18 ст. комплекс складаўся з царквы з араторыумам (зімовая капліца, прыбудавана да царквы ў 1766—76), жылых і гасп. корпусаў і сада, абнесеных мураванай агароджай з брамай, а таксама школкі, размешчанай непадалёку ад асн. пабудоў. Пасля скасавання Брэсцкай царкоў-



**Беразвецкі кляштар базыльян.** Галоўны фасад царквы.

най уніі (1839) кляштар быў перададзены праваслаўнаму мужчынскаму манастыру, якому належаў і ў 1930 (у ім размяшчаўся польскі Корпус аховы сумежжа) будынкі рэстаўрыравалі. Каля 1970 царква разбурана, у астатніх пабудовах кляштара — турма. *В. В. Гліннік.*

**БЕРАЗІНО,** горад, цэнтр Бярэзінскага р-на, прыстань на р. Бярэзіна. За 101 км ад Мінска. Вядома з сярэдзіны 16 ст. як мястэчка Мінскага пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка Ігуменскага пав. У 2-й пал. 19 ст. працавалі бровар, млын, канатная ф-ка, прыстань на р. Бярэзіна, шко-


**Беразіно.** Вуліца Кастрычніцкая.

ла, 4,9 тыс. жыхароў (1897). З 1924 цэнтр раёна. З 1938 гар. пасёлак, 4,8 тыс. жыхароў (1939). У 1962—65 у Чэрвеньскім р-не. З 1968 горад. Сетка вуліц прамавугольная. Арх.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Кастрычніцкая (гал. вось, праходзіць паралельна рацэ), Мультана, Горкага, Перамогі (мікраараён з 2—5-павярховымі жылымі дамамі), Мінская. На вул. Кастрычніцкай сфарміравалася цэнтр. плошча — грамадскі цэнтр горада. Мостам звязана з левым берагам ракі. Помнік архітэктуры 19 ст.— *Бярэзінскі сядзібны дом.* Паводле генпланаў 1969 і 1981 (БелНДІП горадабудаўніцтва) прадугледжана фарміраванне Цэнтральнага (капітальнае буд-ва), Паўночнага, Паўднёвага (мяшаная забудова) планіровачных раёнаў, запраектаваны парк, які ў пойме ракі злучыцца з цэнтрам горада. *Л. І. Комава.*

**БЕРАСТАВІЦКАЯ РАТУША.** Існавала ў 18—19 стагоддзях у г. п. Вялікая Бераставіца (Бераставіцкі р-н) на гандлёвай плошчы. Прадаўгаваты прамавугольны ў плане 1-павярховы будынак. Цэнтр. частка, дзе размяшчаліся зала пасяджэнняў магістрата, архіў, скарб і інш. памяшканні, была вылучана самастойным 2-схільным гонтавым дахам з 3-вугольным франтонам, аформленым авальным акном. У ніжніх мураваных паверхах бакавых частак, аформленых на гал. фасадзе аркаднымі галерэямі, размяшчаліся крамы, у верхніх драўляных надбудовах з кансольна-бэлечнымі галерэямі і 2-схільнымі дахамі — жылыя памяшканні і склады. Не збераглася. *Ю. А. Якімовіч.*


**Берастаўіцкая ратуша.** З малюнка 19 ст.

**БЕРАСТАВІЦКІ КАСЦЁЛ ВІЗІТАЦЫІ ДЗЕВЫ МАРЫІ,** помнік архітэктуры ранняга барока. Пабудаваны каля 1615 у г. п. Вялікая Бераставіца па фундацыі Геранімa Хадкевіча пад уплывам касцёльнай архітэктуры Д. Трэвана, з улікам мясцовага будаўніцтва. З дакументаў, якія захаваліся, ні адзін не ўказвае на існаванне кармеліцкага касцёла ў Бераставіцы, і таму можна меркаваць, што ў час заснавання касцёла ролю капеланаў у ім выконвала духавенства, якое прадстаўляла ордэн кармелітаў. Але сам касцёл з моманту асвячэння вядомы як касцёл Наведвання Дзевы Марыі. У 1741 праведзены рамонт касцёла (фундатар — кракаўскі каштэлян Юрый Мнішак). У 1794 пры касцёле існаваў шпіталь, які быў пабудаваны па фундацыі Ю. Патоцкай, у 2-й пал. 18 — першай пал. 19 ст.— дзейнічала школа. У 1855 праведзены рамонт. З 1866 праваслаўная царква. З 1920—40 мураваная 3-нефавая базіліка з трансептам, паўкруглай апсідай і 2 нізкімі сакрысціямі па баках алтарнай часткі. Галоўны зах. фасад бязвежавы, падзелены пілястрамі на 3 часткі і завершаны ступеньчатым атыкам. Сярэдняя ўзвышаная частка ўвянчана франтонам з авальнай нішай у цэнтры. Сцены цэнтр.


**Берастаўіцкі касцёл Візітацыі Дзевы Марыі.**

нефа расчлянёны пілястрамі, бакавых нефаў — лапаткамі. Аконныя праёмы з лучковымі арачнымі завяршэннямі. Інтэр'ер падзелены 4 масіўнымі слупамі на 3 нефы. Цэнтральны павышаны неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках, бакавыя — крыжовымі. Пры ўваходзе — хоры. Важнейшай рэліквіяй касцёла быў абраз ангелаў-захавальнікаў, які напісаў Францішак Смуглевіч (1797—1807). Пад будынкам крыпта — 9 памяшканняў, злучаных пераходамі. Распрацаваны праект рэканструкцыі касцёла (арх. А. Бабіцын, С. Шэйко). У 1990 перададзены вернікам. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Крук, Т. Т. Маліноўская.*

**БЕШАНКОВІЦКАЯ ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры візантыйскага кірунку рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 1870 з цэглы ў цэнтры г. п. Бешанковічы (вул. Інтэрнацыянальная, 1). Цэнтрычны крыжова-купальны пяцігаловы храм. Сяродкрыжжа ў



**Бешанковіцкая Ільінская царква.**

прасторавай кампазіцыі вылучана буйнамаштабным 8-гранным светлавым барабанам з шатровым пакрыццём і макаўкай у завяршэнні. Ідэнтычныя, меншых маштабаў барабаны ўздымаюцца над вуглавымі квадратнымі ў сячэнні аб'ёмамі. Вертыкальная накіраванасць архіт. кампазіцыі ўзмацняецца адсутнасцю гарызантальных чляненняў, вертыкальнай выцягнутасцю фасадных плоскасцяў, выкарыстаннем лапатак на ўсю вышыню фасадаў, высока ўзнятых вузкіх арачных аконных праёмаў і ніш, буйнога цокальнага аснавання. Тарцы крылаў царквы завершаны кілепадобнымі шчытамі, форма якіх абумоўлівае малюнак бочкавых дахаў. У архіт. дэкоры выкарыстаны элементы стараж.-рус. дойлідства: кілепадобныя завяршэнні плоскасцей, «вісячыя» аркі, слаёныя філёнгі, перспектыўныя нішы. Унутраная прастора дынамічна расчынена ў светлавы барабан, моцная канструкцыя якога трымаецца на ветразях і 4 масіўных слупах. Бакавыя крылы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Царква дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**БЕШАНКОВІЦКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ,** помнік палацава-паркавай архітэктуры класіцызму. Створаны ў 1770-я гады ў г. п. Бешанковічы. Належаў Агінскім, з 1786 Храптовічам. У ансамбль уваходзяць палац, парк з вадаёмамі, гасп. пабудовы. Палац — мураваны П-падобны ў плане будынак. Складаецца з 2-павярховага цэнтр. корпуса (тут былі залы і жылыя пакоі) і 1-павярховых бакавых крылаў. Гал. фасад мае сіметрычна-восевую кампазіцыю, вырашаны плоскасна з невял. рызалітам у цэнтры, завершаным 3-вугольным франтонам. Рытміку франтальных фасадаў ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы, дэкарыраваныя сандрыкамі і падаконнымі плітамі. Асновай нізкага 2-схільнага даху служыць філёнгавы фрыз па перыметры будынка. Дэкор сціплы: ажурны балкон у стылі ампір (чыгуннае ліццё), простыя карнізы, неглыбокія нішы. Унутраная планіроўка сіметрычна-восевая, анфіладная з 2-маршавай міжпаверхавай лесвіцай у цэнтры. Парк — першапачаткова рэгулярнага тыпу. Перад палацам пасадкі тэрасамі спускаліся да р. Зах. Дзвіна. За палацам парк абмяжоўваўся геаметрычнай сеткай алей. Пейзажныя куткі арганізаваны вакол 2 ставоў, адзін з якіх круглы ў плане (дыяметр 40 м) з выспай пасярэдзіне, другі — у канцы цэнтр. алей, з невял. паўвыспай, на якой стаяла альтанка. У канцы 18 — пач. 19 ст. за палацам пабудавана аранжарэя, пасаджаны сад, разбіты кветнікі. У 1820 узведзены помнік рус. імператару Аляксандру I. У парку мясц. пароды дрэў (дуб, ліпа, клён) і шэраг экзотаў. Пасадкі пашкоджаны ў Вял. Айч. вайну. У палацы размешчана навучальная ўстанова. Ансамбль — помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**БЕШАНКОВІЧЫ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Бешанковіцкага р-на, прыстань на левым беразе Зах. Дзвіны. За 51 км ад Віцебска. Упершыню ўпамінаецца пад 1447 як невял. паселішча, дзе была пабудавана царква Ільі-прарока. У 1650 пабудаваны касцёл Казіміра і Рафаіла (перабудаваны ў 1785, адноўлены ў 1876, не збярогся). З 18 ст. горад. У канцы 17 — пач. 18 ст. Б. належалі Агінскім (у памяць аб знаходжанні ў 1708 у Б. Пятра I Казімір Агінскі паставіў драўляную царкву). У 2-й пал. 18—19 ст. створаны *Бешанковіцкі палацава-паркавы ансамбль.* У цэнтры гандл. плошчы пастаўлены мураваны гасціны двор з 60 крамамі, да сярэдзіны 19 ст. гал. вуліцы былі забрукаваны, дзейнічалі прыстань на р. Зах. Дзвіна, паром. У 2-й пал. 19 ст. пабудаваны паштовая станцыя, нар. вучылішча, *Бешанковіцкая Ільінская царква;* больш за 2 тыс. жыхароў. З 1924 цэнтр раёна, з 1938 гар. пасёлак. Архіт.—планіровачную структуру сучаснага пасёлка вызначаюць Віцебская шаша, вуліцы Камуністычная, Свабоды, Чарняхоўскага, Раманава, Урыцкага, Валадарскага, Ткачэнкі, Савецкая, якія разам з інш. вуліцамі ўтвараюць прамавугольную рэгу-



**Бешанковіцкі палацава-паркавы ансамбль.** З малюнка Н. Орды.



**Бешанковіцкі палацава-паркавы ансамбль.** Палац.

лярную сетку з дробнымі кварталамі, забудаванымі пераважна 1-павярховымі драўлянымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскі цэнтр — пл. Леніна (на вул. Камуністычнай). Цэнтр. частка забудавана 2—3-павярховымі жылымі дамамі. Прамысловыя прадпрыемствы на ПнЗ, ПдУ, а таксама сярод жылой забудовы. Пасёлак развіваецца паводле генпланаў забудовы Б. 1968 («Віцебскграмадзянпраект») і 1979 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*Ю. А. Якімовіч, Л. І. Комава.*

**БІБЛІЯТЭКІ ДЗЯРЖАЎНАЙ ІМЯ У. І. ЛЕНІНА БУДЫНАК.** Узведзены ў 1932 (арх. Г. Лаўроў) у Мінску па вул. Чырвонаармейскай. Размешчаны на ўчастку са складаным рэльефам, з рэзкім перападам вышынь у бок поймы р. Свіслач. Праектам прадугледжвалася стварыць кампазіцыю, пабудаваную на кантрастным процiпастаўленні 3-павярховага корпуса з чытальнымі заламі і лаканічнага па форме вышыннага аб'ёму кнігасховішча. Чытальныя залы і навуковыя аддзелы пры дапамозе спец. аўтаматычных транспарцёраў павінны быць звязаны з кнігасховішчам. У працэсе буд-ва адмовіліся ад кнігасховішча і ад стварэння саду з чытальнымі павільёнамі. У выніку сховішча фондаў было перанесена ў гал. корпус, што парушыла функцыянальную схему. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя 4-павярховага гал. корпуса заснавана на спалучэнні простых геаметрычных форм, пазбаўленых дэкору. 4-гранныя слупы падтрымліваюць навіслы паўкруглы аб'ём, утвараючы своеасаблівы порцік гал. ўвахода з зашклёным эркерам вестыбюля, дзе знаходзіцца скульптура У. І. Леніна (скульпт. А. Бембель). У канцы 1950-х гадоў да бібліятэкі прыбудаваны 4-павярховы прамавугольны ў плане корпус, у якім размешчаны кнігасховішчы, абанементны аддзел і шэраг службовых памяшканняў. У бібліятэцы 12 чытальных залаў, сярод якіх вылучаецца агульная зала на 500 чал. Па функцыянальна-прасторавай арганізацыі будынак з'яўляецца прыкладам архітэктуры канструктывізму. Помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння.

*А. А. Воінаў.*

**БІГОСАЎСКІ ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ,** помнік архітэктуры мадэрна. Пабудаваны ў 1926 на ст. Бігосава (Верхнядзвінскі р-н) на чыг. лініі Полацк — Даўгаўпілс. Мураваны будынак падоўжанай сіметрычнай кампазіцыі. Вуглы цэнтр. аб'ёму (зала чакання) вырашаны ў выглядзе вежаў, якія накрыты высокімі 4-схільнымі шатровымі дахамі. Выкарыстанне элементаў абарончага дойлідства (байніцы, зубчастыя завяршэнні вежаў) абумоўлена месцазнаходжаннем вакзала ў некалі прыгранічным раёне. Бакавыя крылы (рэстаран, службовыя памяшканні) створаны 1- і 2-павярховымі аб'ёмамі з маляўнічымі ламанымі дахамі, маюць вял. прамавугольныя вокны з драўлянымі ліштвамі. Помнік рэспубліканскага значэння.

*У. В. Алісейчык.*

**БЛОНСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў в. Блонь (Пухавіцкі р-н). Сіметрычны прамавугольны ў плане з 5-granнай апсідай будынак. Кампазіцыя заснавана на чаргаванні рознавысокіх аб'ёмаў: над бабінцам званіца (васьмярык на чацверыку) з высокім шпілем, над сяродкрыжжам 8-гранны светлавы барабан са шлемападобным купалам. Гал. і бакавыя фасады з высокай цэнтр. часткай і фланкіруючымі нізкімі аб'ёмамі. На гал. фасадзе 3-вугольны франтон падтрымліваюць 4 мураваныя калонкі, якія ўтвараюць манументальны ўваходны порцік. Сцены гарызантальна ашаляваны, завершаны карнізам з поясам «сухарыкаў», разным фрызам геаметрычнага арнаменту, прарэзаны прамавугольнымі і 8-граннымі аконнымі праёмамі, у барабане праёмы паўцыркульныя. У інтэр'еры асн. частка падзелена 2 радамі невысокіх цагляных калон на 3 нефы. Бакавыя нефы значна ніжэйшыя за астатнія часткі царквы. Над бабінцам на такіх жа калонах хоры. Столь плоская, падшыўная,



Галоўны корпус Дзяржаўнай бібліятэкі Беларусі імя У. І. Леніна.



Бігосаўскі чыгуначны вакзал.



Блонская Троіцкая царква.

у барабане пірамідальная, гранёная. Царква дзейнічае. *А. А. Міцянін.*

**БРАГІН,** гарадскі пасёлак, цэнтр Брагінскага раёна, на р. Брагінка. За 130 км ад Гомеля. У пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1147 як горад Кіеўскага княства. Меў умацаваны замак і пасад, на месцы якога ў 14—17 ст. існаваў *Брагінскі замак.* З 1360-х гг. у складзе Вял. кн. Літоўскага, уласнасць вял. кн. Вішнявецкіх, Канецпольскіх. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Рэчыцкага пав. У 1897 было 4,3 тыс. жыхароў. З 1926 цэнтр раёна. З 1938 гар. пасёлак. Арх.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Савецкая (гал. вось), Кастрычніцкая, Кірава, Чэлідзе. На перакрыжаванні вуліц Савецкай і Кастрычніцкай сфарміраваны грамадскі цэнтр. Паблізу пабудаваны 2 мікрараёны з 2—5-павярховымі жылымі дамамі. Пераважае індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. У паўн.-зах. частцы будуюцца 3—5-павярховыя жылыя дамы. Пасёлак развіваецца паводле генплана 1973 і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). *Р. Дз. Шэліхава.*

**БРАГІНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14 — сярэдзіне 17 ст. ў Брагіне. Належаў князям Вішнявецкім. Пабудаваны на месцы дзядзінца 11—13 стагоддзяў. Займаў пясчаны пагорак сярод балот на правым беразе р. Брагінка пры ўпадзенні ў яе ручая. Быў абнесены ровам і земляным валам з драўлянымі ўмацаваннямі. Паводле інвентару 1574 на вале сталі 2-ярусныя сцены-гародні са сходамі на бланкаванне, абарончая вежа з боку р. Брагінка, 2-ярусная вежа-брама з вял. святліцай наверсе. Злева ад уваходу ў лініі гародняў стаяла царква св. Тройцы «зо всим нарядом, разным церковным золотом и серебром и книгами и зо всим тым, што в той церкви». Апрача таго на дзядзінцы знаходзіліся падклецці, склеп, спіжарні і «светлицы в стене». Замак з уязной брамай аддзяляўся ад гарадскога пасада ровам, праз які быў перакінуты пад'ёмны мост-узвод. У 1648 жыхары Брагіна адчынілі браму замка перад войскам Б. Хмяльніцкага, якое ўзначальвалі палкоўнікі Нябаба і Хвясько. Пазней за гэта горад быў разбураны войскамі Рэчы Паспалітай, а жыхары пакараны. Замак больш не аднаўляўся і ператварыўся ў гасп. двор кн. Вішнявецкіх. *М. А. Ткачоў.*

**БРАСЛАЎ,** горад, цэнтр Браслаўскага р-на, на паўн. беразе воз. Дрывяты. За 220 км ад Віцебска. Б. (летапісны Брячиславль, Брятислав) упершыню ўпамінаецца ў хроніцы М. Стрыйкоўскага пад 1065. На падставе археалагічных даследаванняў можна меркаваць, што Б. узнік у пач. 11 ст. на месцы спаленага паселішча латгалаў і крывічоў, якое існавала з 9 ст. На горадабудаўнічую сітуацыю наклала адбітак своеасаблівасць і унікальнасць становішча Б.— ён развіваўся на выцягнутым з У на З вузкім перашыйку паміж азёр, якія прыкрывалі яго з усіх бакоў. Першыя жылыя будынкі групаваліся вакол высокай (14 м) стромкай гары, дзе знаходзіўся замак. Паводле інвентара 1554, у горадзе было 5 вуліц (сярод іх — вул. Вялікая, на якой была больш палавіны са 120 дамоў), казармы, царква, касцёл, кляштар, рынак, бальніца, 40 корчмаў, сядзіба князёў Масальскіх. Інвентар 1649 змяшчае назвы 2 вуліц — Іказньскай і Радскай, апісвае замак (меў 7 вежаў, вял. браму з падвойнымі варотамі і вежай з 2 машыкулямі), дзядзінец, дзе знаходзіліся 3 вял. дамы, пякарня, стайня, турма, кухня, свірны і інш. гасп. пабудовы. У 19 ст. цэнтр перамясціўся на рыначную пл. (каля Замкавай гары на вул. Вялікай), дзе былі пабудаваны *Браслаўскі касцёл, Браслаўская Мікалаеўская царква,* шэраг грамадскіх будынкаў. У 1920-я гады, калі Б. стаў цэнтрам павета, быў ажыццёўлены планамерны перанос грамадскага цэнтра на зах. ўскраіну горада. Паводле праекта віленскага арх. Ю. Клоса тут былі пабудаваны комплекс грамадскіх і гасп. будынкаў, 2-павярховыя мураваныя жылыя дамы для чыноўнікаў, павятовай адміністрацыі. Пасля Вял. Айч. вайны пачалася рэканструкцыя Б. Яго архіт.-планіровачную структуру вызначаюць Замкавая гара і ўзгоркавы рэльеф мясцовасці вакол яе. Найбольш шчыльна забудавана старая частка горада, што прымыкае да Замкавай гары, тут фрагментарна захавалася забудова 19 — пач. 20 ст. Дамы стаяць на высокіх фундаментах з буйных бутавых камянёў, якія ў спалучэнні з украпаваннямі маленькіх рознакаляровых каменьчыкаў ствараюць маляўнічую паверхню муроў (т. зв. «разынкавая» муроўка), характэрную для мураваных будынкаў Віцебшчыны 19 — пач. 20 ст. Асноўныя вуліцы — Ленінская і Савецкая, якія ідуць уздоўж берага воз. Дрывяты і з розных бакоў абмінаюць Замкавую гару. Грамадскі цэнтр сфарміраваўся на захадзе Б. ў раёне цэнтр. плошчы, шматпавярховая забудова вядзецца ў раёне вуліц Садовай і Кастрычніка. Б.— адзін з самых азяленены гарадоў Беларусі. Аркамя царквы і касцёла захаваліся калодзежны шацёр — помнік драўлянага дойлідства (1920-я гады), будынак лячэбніцы (1907), стараж. планіроўка каля Замкавай гары. Паводле генплана 1972 і яго карэкціроўкі 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) развіццё Б. плануецца ў паўн.-ўсх. напрамку, паміж азёрамі Бярэжа і Навята. Грамадскі цэнтр горада атрымае шырокі выхад на набярэжную воз. Дрывяты. *С. Г. Багласаў, Т. П. Станішэўская.*

**БРАСЛАЎСКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 1897 у Браславе каля стараж. замчышча (сучасная вул. Ленінская, 72). У пабудове выкарыстана кананічная 4-часткавая схема праваслаўнага храма сіметрычнай падоўжна-восевай кампазіцыі — званіца, кароткі бабінец, кубападобны асн. аб'ём, пяцігранная апсіда з рызніцай. Стракаты сілуэт будынку надаюць цыбулепадобныя купалкі над шатром двух'яруснай званіцы (васьмярык на чацверыку) і пяць 8-гранных барабанаў на 4-схільным даху асн. аб'ёму. Гал. ўваход вылучаны перспектыўным аб'ёмным парталам у выглядзе кілепадобнай аркі на 2 кароткіх калонах, бакавыя — у выглядзе цыркульнай аркі. Сіметрыю падкрэсліваюць высокія арачныя вокны ў пластычных ліштвах з калонамі-бочкамі. Фасады насычаны архітэктурнай дэкаратыўнай пластыкай — арачныя нішы, кілепадобныя ліштвы, вуглавы руст, карнізы з сухарыкамі. У інтэр'еры плоская столь залы адчынена ў цэнтры шатровым драўляным скляпеннем са светлавым барабанам, якое падтрымліваецца 4 слупамі. Прастора апсіды адкрыта ў залу шырокім арачным прасветам, на фоне якога эфект



Браслаўская Мікалаеўская царква.

контражуру вылучае драўляны разны 3-ярусны іканастас. Сцены пакрыты арнаментальнай размалёўкай. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. Побач з царквой захаваўся аднапавярховы будынак царкоўнапрыходскай школы, пабудаваны ў той жа час, што і царква (зараз тут народны суд).

*А. М. Кулагін.*

**БРАСЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў Браславе ў 1824 каля стараж. замчышча, перабудаваны ў 1897. Пры перабудове старога касцёла выкарыстаны ўчасткі паўн. і ўсх. сцен, якія захавалі ўзорыстую каменную муроўку — так званую «разынкавую». Выкананы з бутавага каменю і чырвонай цэглы касцёл уяўляе трохнефавы 1-вежавы прамавугольны ў плане храм, накрыты 2-схільным дахам. 3-ярусная вежа завершана шатром. Элементы дэкору: пінаклі, стральчаты партал уваxода з вімпергам (над ім — трыфорыум), аркатура. Касцёл дзейнічае.

**БРЭСТ** (летапісны Бярэсце, у 17 — пач. 20 ст. Брэст-Літоўск, у 1921—39 Брэст-над-Бугам), горад, цэнтр Брэсцкай вобл., на р. Мухавец пры ўпадзенні яе ў р. Буг, за 349 км ад Мінска. Горад упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 1019. Узнік у пач. 11 ст. як гандл. цэнтр і крэпасць стараж.-рус. дзяржавы на мяжы з польскімі і літоўскімі ўладаннямі. Гарадзішча стараж. Бярэсця (выяўлена ў 1964, даследуецца археолагамі з 1968) размяшчалася на мысе, утвораным р. Буг і левым рукавом р. Мухавец (цяпер на тэр. Валынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці). Складалася з дзядзінца 3-вугольнай у плане формы, умацаванага з боку поля ровам, земляным валам і частаколам, і вакольнага горада, які размяшчаўся на востраве супраць дзядзінца. У 12 ст. ў Б. пабудаваны драўляны замак (адноўлены ў 2-й пал. 13 ст.), у 13 ст.— мураваная царква Св. Пятра. У 1276—88 на тэр. замка пастаўлена мураваная вежа-данжон (гл. *Брэсцкая вежа*). У 14 ст. былі гасціны двор, кафедральная праваслаўная Мікалаеўская царква (мураваная, крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі, с купалам над сяродкрыжжам); у 15 ст. пабудаваны драўляныя Міхайлаўская (ва ўрочышчы Пескі) і Крыжаўзвіжанская (за Мухаўцом) цэрквы. У 1411 за межамі горада (паміж рэкамі Угрынка і Мухавец) пабудаваны драўляны кляштар аўгусцінцаў з Троіцкім касцёлам. У 16 — 1-й пал. 17 ст. у Б. каля 8 тыс. жыхароў. Паводле інвентара 1566, Б. складаўся з 3 асн. частак: замка, «места» (асн. гарадская тэрыторыя) і «Замухавечча». *Брэсцкі замак* размяшчаўся на трохвугольным у плане востраве, утвораным Бугам і Мухаўцом, на месцы дзядзінца стараж. Бярэсця. «Места» авальнай у плане канфігурацыі размяшчалася на беразе Мухаўца і злучалася з замкам мостам. «Замухавечча» знаходзілася па другі бок Мухаўца, мела 2 вуліцы (адна з іх вяла на Луцкі гасцінец), на якіх пабудаваны касцёл Дароты, Спаса-Праабражэнская царква, Сімяонаўскі манастыр і манастыр Нараджэння Багародзіцы з 2 царквамі, каля 240 сядзіб. У 2-й пал. 16 ст.— 1-й пал. 17 ст. горад абнесены землянымі быстыёнамі, частка вуліц забрукавана. У 17—18 стагоддзях пабудаваны манетны двор (1659), касцёлы і кляштары бернардзінцаў і бернардзінак, аўгусцінцаў, дамініканцаў, трынітарыяў, брыгітак, касцёл і калегіум езуітаў, царква і манастыр базыльян (гл. адпаведныя артыкулы і інш.; у 16—17 стагоддзях існаваў кальвінскі збор. У 2-й пал. 17—18 ст. Б. перажываў эканамічны заняпад, тэрытарыяльна амаль не развіваўся, захоўваючы традыцыйную архіт.— планіровачную структуру. Наступны этап горадабудаўнічага развіцця Б. звязаны з буд-вам на тэр. старога горада ў 1830—42 *Брэсцкай крэпасці*. Жылая забудова перамясцілася на 2 км ад крэпасці, на 3 фарштаты: Кобрынскі (самы вялікі), Валынскі, Забугскі. У 1860 займаў каля 640 га, меў 6 плошчаў, 225 вуліц і завулкаў (з іх 5 брукаваных). Горад развіваўся пераважна на У ад крэпасці, на месцы б. Кобрынскага фарштата. Рэгулярная планіровачная сетка вуліц утварала дробныя прамавугольныя або трапецападобныя кварталы. У цэнтры горада забудова была мураваная, 1—3-павярховыя дамы ставіліся шчыльна адзін да аднаго, утвараючы суцэльны фронт вулічных фасадаў, якія мелі разнастайны дэкор з выкарыстаннем класіцыстычнай ордэрнай пластыкі (атыкі, канеліраваныя слупы, пілястры, лапаткі, нішы, філёнгі, рустыка, імпасты з замковымі камянямі, сандрыкі, антабламенты), элементаў архітэктуры несапраўднай готыкі, мадэрна і інш. стыляў.

Спалучэнне розных прыёмаў пластычнага вырашэння фасадаў дамоў надавала вуліцам маляўнічасць і дэкаратыўнасць. Шчыльнасць забудовы вызначыла развіццё будынкаў у глыбіню двароў, у выніку чаго яны нярэдка мелі складаную



**Браслаўскі касцёл.**



**Брэст.** Шашэйная вуліца. Пачатак 20 ст.



**Брэст.** Гандлёвы цэнтр па вуліцы Маскоўскай.



**Брэст.** Выгляд з боку р. Мухавец.

ў плане канфігурацыю. Дваровыя фасады, як правіла, не аздабляліся, а вырашаліся канструкцыйнымі сродкамі (захаваліся асобныя будынкі на вул. Савецкіх пагранічнікаў, К. Маркса, 17 Верасня, Пушкінскай, Леніна і інш.). Будаваліся і асабнякі, мураваныя, драўляныя, звычайна 1-павярховыя, з мансардамі і порцікамі на гал. фасадах (вул. Міцкевіча). У 1846 на гарадской плошчы (цяпер вул. Маскоўская) пабудаваны *Брэсцкія гандлёвыя рады*, у 1856 — кафедральны Крыжаўзвіжанскі касцёл (разбураны ў Айч. вайну, у 1950—57 адноўлены і прыстасаваны пад Брэсцкі абл. краязнаўчы музей), у 1862 — *Брэсцкая Сімяонаўская царква*, у пач. 20 ст.— *Брэсцкай мужчынскай гімназіі будынак, Брэсцкая брацкая царква*, Мікалаеўская царква і інш. У 1866 пабудаваны *Брэсцкі чыгуначны вакзал.* Пабудовам 1-й пал. 20 ст. уласцівы рысы стыляў мадэрн, неакласіцызму *(Брэсцкага банка будынак)*, канструктывізму (будынак ваяводскага ўпраўлення).

Адраджэнне горада з руін пасля Вял. Айч. вайны ажыццяўлялася ў 2 пасляваенныя 10-годдзі адпаведна генплану 1951 («Белдзяржпраект», арх. А. Хегай, Л. Федчанка), які прадугледжваў захаванне рэгулярнай сістэмы планіроўкі. Горад развіваўся ва ўсх. (раёны Кіеўка і Усходні), паўн. (Адамкава — Рэчыца — Граеўка) і часткова паўд. напрамках. У цэнтры будаваліся 4—5-павярховыя дамы (арх. А. Суvoraў, З. Леўчанка), рэканструяваны чыг. вакзал, пабудавана гасцініца «Буг» (1958). Паводле генплана 1965 («Белдзяржпраект», арх. Ю. Глінка, Я. Ліневіч, А. Гарбачоў) і скарэкціраванага ў 1976 да 2000 (Мінскі Філіял Цэнтр. н.-д. і праектнага ін-та горадабудаўніцтва; арх. Г. Булдаў, Р. Арцёмчык) Б. стане буйным горадам з насельніцтвам 300 тыс. жыхароў. Паводле праекта планіроўкі цэнтра 1968 (арх. В. Анікін, Г. Трушнікава) фарміруецца ансамбль грамадскіх будынкаў у раёне пл. Леніна, рэканструюцца вул. Леніна і *Савецкая вуліца,* забудоўваецца *Маскоўская вуліца.* У 1970-я гады ў цэнтр. частцы горада пабудаваны гандл. цэнтр (арх. С. Неўмывакін, Г. Кісялёва, А. Фядорчанка), тэлецэнтр, кінатэатр «Беларусь» (арх. Р. Шылай), Палац культуры прафсаюзаў (арх. Г. Чысцякоў), гасцініцы «Інтурыст» (арх. Г. Бенядзіктаў) і «Беларусь» (арх. З. Леўчанка), створаны ансамблі жылых дамоў на бульвары Касманаўтаў (арх. Шылай, А. Казюкоў, І. Карват, Р. Будзько) і вул. Набярэжнай (арх. Шылай). Буд-ва буйнога комплексу прамысл. прадпрыемстваў ва ўсх. частцы горада ў 1967 (гл. *Брэсцкі ўсходні прамысловы вузел*) выклікала неабходнасць забудовы прылеглага да яго жылога раёна (арх. Анікін, А. Кудзіенка, П. Лагуноўская; гл. ў арт. *Усход*). У зах. частцы горада на тэр. крэпасці створаны мемарыяльны комплекс *Брэсцкая крэпасць-герой.* Паводле праекта рэканструкцыі цэнтр. раёна 1977 уздоўж вул. Савецкай плануецца стварэнне пешаходнай зоны, у забудову ўключаецца рад шматпавярховых будынкаў (арх. А. Акенцьеў, Г. Булдаў). У 1985 праект скарэкціраваны з улікам задач рэгенерацыі гіст. ядра горада. У сувязі з буд-вам прадпрыемстваў паўд. прамысл. вузла ў 1980-я гады асвойваецца новы раён горада — паўднёва-ўсходні (з 1983 забудоўваецца мікрараён Паўднёвы Усход 3; арх. Карват, М. Козік). У паўд. прамысл. вузле размешчана машынабудаўнічае аб'яднанне. У 1987 пабудаваны *Брэсцкі аэравакзал* (Дзярж. прэмія БССР 1988). У прасторавай кампазіцыі горада важнае значэнне мае водна-зялёны дыяметр, яго фарміраванне звязана з рэканструкцыяй Мухаўца як часткі Дняпроўска-Бугскага канала. Паводле праекта дэталёвай планіроўкі водна-зялёнага дыяметра 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. І. Шпіт, Э. Басава) на тэр. больш за 1000 га прадугледжваецца стварэнне сістэмы паркаў, штучных вадаёмаў, каналаў. Гл. таксама арт. *Брэсцкі гістарычны цэнтр.* Іл. гл. таксама ў нарысе.

*В. І. Анікін, Ю. А. Якімовіч.*

**БРЭСЦКАГА БАНКА БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры. Пабудаваны ў 1926 (арх. С. Філасевіч) з выкарыстаннем элементаў позняга класіцызму і эклектычных элементаў архіт. стылістыкі пач. 20 ст. 3-павярховы будынак з высокім цокальным паверхам складаецца з 2 узаемна перпендыкулярных крылаў, злучаных аб'ёмам у выглядзе дамінуючай над усёй пабудовай ратонды са сферычным купалам. Цэнтр. частка крыла, што выходзіць на вул. Леніна, крыху выступае наперад і мае 2-павярховы аб'ём з высокімі вокнамі на 2-м паверсе. Архіт. акцэнт зроблены на арыентаваных на плошчу і вул. Леніна аб'ёмах, сцены якіх расчлянёны пілястрамі з іанічнымі капітэлямі і трохчвэртнымі калонамі. У дэкаратыўнай апрацоўцы фасадаў выкарыстаны сферычныя



**Брэсцкага банка будынак.**

нішы, сандрыкі на фігурных кранштэйнах, ляпныя элементы. Будынак завершаны развітым карнізам, над якім — парапет-балюстрада. Спалучэнне ордэрных элементаў з багатай прафіліроўкай дэталей надае будынку асаблівую ўрачыстасць. Планіроўка калідорная. Па перыметры круглага ў плане вестыбюля размешчаны гранёныя слупы. Сцены вестыбюля і яго парадныя вітыя ўсходы дэкарыраваны рустам. Сцены фае на 2-м паверсе ратонды і аперацыйная зала расчлянёны пілястрамі і ўпрыгожаны ляпнымі элементамі. Цяпер у будынку размешчана абл. кантора банка.

*В. М. Чарнатаў.*

**БРЭСЦКАГА ДЫВАНОВАГА ВЫТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ БУДЫНАК.** Узведзены ў 1965 (арх. І. Боўт, Н. Шпігельман) на тэр. *Брэсцкага ўсходняга прамысловага вузла.* У аснове праектнага вырашэння — ідэя стварэння максімальна кампактнага тэхналагічнага працэсу. Фарміруе архіт. аблічча забудовы вул. Я. Купалы. Планіровачная структура прамавугольнага ў плане будынка, у якім размешчаны вытворчыя, адм.-быт. і лабараторныя памяшканні, грунтуецца на функцыянальным заніраванні: вылучаны тэхналагічная, транспартная зона і месцы адпачынку. Каб прадухіліць перагрэў цэхаў сонечнымі прамянямі, у летні час плоскае дахавае пакрыццё заліваецца вадой. Своеасаблівасць кампазіцыі гал. фасада заснавана на кантрасце гарызантальных чляненняў, утвораных міжпаверхавымі керамзіта-бетоннымі панелямі, і вынесеных наперад з асн. аб'ёму зашклёных лесвічных клетак. Вялікая ўнутраная прастора цэхаў, падзеленая шклянымі перагародкамі, у спалучэнні з гладкімі сценамі, падвеснай асветленай столлю і каляровай бясшвовай падлогай стварае выразны інтэр'ер і камфортныя ўмовы для працы. Будынак камбіната — адно з першых у краіне прадпрыемстваў, дзе пакладзены прынцыпы максімальнай блакіроўкі, выкарыстаны новыя на той час аб'ёмна-планіровачныя, архіт.-мастацкія і інж. вырашэнні.

*І. І. Боўт.*



Будынкі Брэсцкага дывановага вытворчага аб'яднання.



**Брэсцкай мужчынскай гімназіі будынак.**

**БРЭСЦКАЙ МУЖЧЫНСКАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры. Пабудаваны ў 1905 па праекту ваеннага інж. А. А. Траццякова (сучасная вул. Міцкевіча, 28) з выкарыстаннем элементаў цаглянай архітэктуры, характэрнай для канца 19 — пач. 20 ст. Першапачаткова — П-падобны ў плане 2-павярховы аб'ём. Пазней надбудаваны трэці паверх. Гал. фасад на чырвонай лініі вуліцы мае трохчасткавую кампазіцыю, завяршаецца ў цэнтры і па краях 3-вугольнымі франтонамі над рызалітамі. Рознавялікія бакавыя фасады ўтвараюць унутраны двор. Фасады дэкарыраваны цаглянай муроўкай арак, франтонаў, нішаў, машыкуляў. Другі паверх завяршае магутны карніз на кранштэйнах. Планіроўка калідорная, вызначаецца функцыянальнай дакладнасцю, класныя пакоі маюць паўд. арыентацыю. Лесвічныя вестыбюлі — у цэнтры бакавых крылаў. Гал. лесвіца вынесена ў самастойны дваровы рызаліт. Цяпер у будынку размешчаны вучэбны корпус пед. ін-та.

*В. М. Чарнатаў.*



**Брэсцкая брацкая царква.** Галоўны фасад.

**БРЭСЦКАЯ БРАЦКАЯ ЦАРКВА.** Пабудавана ў 1906 на вул. Савецкай. Буйнамаштабны, узняты на высокі цокаль храм традыцыйнай чатырохчасткавай падоўжана-восевай кампазіцыі: званіца, трапезная, асн. аб'ём, 5-гранная апсіда з бакавымі рызніцамі. Для царквы харак-

тэрна розная па архіт.-дэкар. насычанасці трактоўка 2-яруснага асн. аб'ёму: плоскія сцены, расчлянёныя філёнгавымі лапаткамі з кілепадобнымі завяршэннямі, арачныя вокны на 1-м ярусе, у 2-м — званіца і 5-купалле. Архітэктура вытрымана ў формах маскоўскага дойлідства сярэдзіны 17 ст., якія атрымалі ўвасабленне ў дамінуючай шатровай званіцы з цыбулепадобнай галоўкай. Яе 8-гранны ярус-звон адкрыты арачнымі праёмамі з кілепадобнымі абрамленнямі. Над асн. кубічным аб'ёмам пануе 5-купалле. Гал. ўваход вылучаны аркадай. Царква дзейнічае. *Г. А. Лаўрэцкі.*

**БРЭСЦКАЯ ВЕЖА,** Берасцейская вежа. Існавала ў 2-й пал. 13—1-й пал. 19 ст. Размяшчалася на дзядзінцы стараж. Бярэсця (Брэста). Пабудавана з брусковай цэглы-пальчаткі на вапным растворы. Паводле планаў 18—19 ст. прамавугольная (5,9×6,3 м), таўшчыня сцен каля 1,3 м. Адносіцца да тыпу валынскіх вежаў. Іпацьеўскі летапіс паведамляе, што быў Берасцейскі «столп высотою яко Каменецкий», гэта значыць каля 30 м. Аднак аснова Камянецкай вежы намнога большая, чым у берасцейскай, і таму малаверагодна, каб яна мела такую вышыню. Б. в. разабрана ў 1831. Застаўся падмурак. *М. А. Ткачоў.*

**БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ,** помнік абарончай архітэктуры 19 ст. Пабудавана ў 1830—42 на месцы Брэсцкага замка як частка сістэмы ўмацаванняў, створаных на З Расійскай імперыі. Будавалася паводле праекта (зацверджаны ў 1830) генералаў Малецкага, К. Опермана і палкоўніка Фельдмана. Былі пакінуты некаторыя пабудовы старога горада. У будынку кляштара езуітаў (узведзены ў 1623, адноўлены ў 1679) размяшчалася канцылярыя каменданта крэпасці. Будынак кляштара базыльян (1629, пазней вядомы пад назвай Белы палац) быў перабудаваны пад афіцэрскае казіно. У б. кляштары бернардзінцаў (1781) у 1841—60 размяшчаўся Брэсцкі Аляксандраўскі кадэцкі корпус, пазней — вайсковы шпіталь. Першапачаткова былі зроблены часовыя ўмацаванні, якія ў 1833—42 ператвораны ў доўгатэрміновыя. Размешчана на 4 астравах, утвораных рукавамі рэк Мухавец і Зах. Буг і сістэмай каналаў. Складалася з Цэнтр. ўмацавання (Цытадэль) і Цярэспальскага, Валынскага, Кобрынскага перадмаставых умацаванняў. Цытадэль — крывалінейная ў плане замкнёная 2-павярховая абарончая казарма (даўж. 1,8 км) з 4 брамамі — Цярэспальскай, Холмскай, Беластоцкай і Брэсцкай, якія праз масты злучалі цэнтр. востраў



**Брэсцкая крэпасць.** З карціны мастака М. Залескага. 1840.

з перадмаставымі ўмацаваннямі. Мураваныя сцены казармы 2-метровай таўшчыні, з байніцамі і амбразурамі для вядзення агню са стралковай зброі і гармат; у 500 казематах маглі размясціцца больш за 12 тыс. салдат. Архітэктурны цэнтр Цытадэлі — пабудаваная на самым высокім месцы гарнізонная Мікалаеўская царква (1856—79, арх. Д. Грым). Перадмаставыя ўмацаванні прыкрываліся землянымі валамі (выш. 10 м) з каменнымі казематамі ўнутры. Крэпасць неаднаразова ўдасканальвалася, за 3,5—4 і 6—7 км ад гал. умацаванняў будаваліся 2 паясы фартоў. У 1911—14 рэканструкцыяй 7-га форта кіраваў ваен. інжынер капітан Дз. М. Карбышаў (пазней буйны вучоны, генерал-лейтэнант інж. войск, доктар ваенных навук, прафесар, закатаваны фашыстамі ў канцлагеры Маўтхаўзен, Герой Сав. Саюза). У 1-ю сусветную вайну Б. к. сваёй ролі не адыграла. Рус. камандаванне, каб пазбегнуць акружэння, эвакуіравала з крэпасці гарнізон і ўзарвала (жнівень 1915) некаторыя яе ўмацаванні. У 1918 на тэр. Цытадэлі ў Белым палацы падпісаны Брэсцкі мір. 22.6.1941 гарнізон крэпасці першым прыняў удар ням.-фаш. арміі, больш месяца геранчна трымаў абарону. У час вайны крэпасць моцна разбурана. Знішчаны або пашкоджаны амаль усе будынкі, якія мелі гіст. і маст. каштоўнасць. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 8.5.1965 Б. к. прысвоена ганаровае званне «Крэпасць-герой». 25.9. 1971 адкрыты мемарыяльны комплекс *Брэсцкая крэпасць-герой.* На тэр. Валынскага ўмацавання размяшчаюцца рэшткі гарадзішча старaж. Бярэсця 11—13 стагоддзяў. Яны закансерваваны, з'яўляюцца філіялам Брэсцкага абл. краязнаўчага музея. *В. І. Анікін, Я. К. Габец.*

**БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ-ГЕРОЙ,** мемарыяльны комплекс у Брэсце, створаны ў 1969—71 на тэр. Брэсцкай крэпасці на ўвекавечанне подзвігу яе абаронцаў.



**Брэсцкая крэпасць-герой.** Галоўны ўваход.

Мемарыял аб'ядноўвае скульптурна-архіт. ансамбль, уцалелыя збудаванні і руіны б. крэпасці. Урачыста адкрыты 25.9.1971. Аўтарскі калектыў: скульптары А. Кібальнікаў (гал. маст. кіраўнік), А. Бембель, У. Бабыль, архітэктары У. Кароль, В. Волчак, В. Занковіч, Ю. Казакоў, А. Стаховіч, Г. Сысоеў. Комплекс размешчаны ва ўсх. частцы Цэнтральнага вострава. Уключае манументальны цэнтр. ўваход. Гал. манумент — абагульнены вобраз сав. воіна-пераможца, скульпт. кампазіцыя «Смага», штык-абеліск, пл. Цырыманіялаў, тэрасы-трыбуны, некропаль-калумбарый, пад'езды і плошчы. Цэнтр. ўваход — урэзаны ў вал маналітны жалезабетонны масіў з праёмам у цэнтры, які мае выгляд своеасаблівай пяціканцовай зоркі. Яе сколы перакрыжоўваюцца ў складанай дынамічнай форме, што стварае светлавыя кантрасты, ураджанне напружанасці і імклівасці. Бетонны масіў гал. ўвахода падтрымліваецца адхонамі вала і апіраецца на цагляныя сцены казематаў, на паўн. сцяне прымацавана металічная дошка з тэкстам Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні Брэсцкай крэпасці ганаровага звання «Крэпасць-герой». Ад цэнтр. ўвахода ўрачыстая алея, акаймаваная



Брэсцкая крэпасць-герой. Від на плошчу Цырыманіялаў.

кустамі руж, вядзе да моста і на пл. Цырыманіялаў. Паступова раскрываюцца элементы ансамбля, у якіх атрымлівае развіццё ідэя мужнасці і стойкасці сав. людзей, што сталі на абарону Радзімы. Злева ад моста — скульпт. кампазіцыя «Смага». Фігура савецкага воіна, які, апіраючыся на аўтамат, цягнецца да вады, прасякнута драматызмам і напружанасцю. Кампазіцыйным цэнтрам комплексу з'яўляюцца Гал. манумент — пагрудная скульптура сав. салдата, нібыта высечаная са скалы (бетон, выш. 33,5 м) і штык-абеліск (абліцаваны тытанам, выш. 100 м). На адваротным баку гал. манумента — рэльефныя кампазіцыі, якія адлюстроўваюць эпізоды абароны крэпасці: «Атака», «Партыйны сход», «Апошняя грамата», «Подзвіг артылерыстаў», «Кулямётчыкі». З манументам арганічна звязаны трыбуна і некропаль — 3 галерэі-калумбарыі, дзе пахаваны урны з прахам загінуўшых абаронцаў. Некропаль, абліцаваны плітамі лабрадарыту, з уступамі ўзнімаецца да пляцоўкі каля Гал. манумента. У планіровачным і вобразным вырашэнні ансамбля важная роля належыць пл. Цырыманіялаў, на якой адбываюцца ўрачыстасці. Плошчу з боку р. Мухавец замыкаюць уцалелыя будынкі казарм з казематамі, з процілеглага — будынак музея і руіны Белага палаца. Перад руінамі будынка былога інж. ўпраўлення гарыць Вечны агонь. Перад плітой — адлітыя з бронзы словы: «Стаялі насмерць, слава героям!». «Мемарыяльны каляндар» — памятныя дошкі, устаноўленыя на месцах канкрэтных падзей,— расказвае пра асн. этапы абароны крэпасці. На месцы будынка 9-й пагранзаставы — каменная глыба з уманціраванай у яе бронзавай зоркай і мемарыяльнай дошкай. Дэкаратыўнае асвятленне ўвечары (чырвонае зарыва за Гал. манументам, барвовая падсветка руін, светлыя пункціры нізкіх паўкруглых свяцільняў, зеленаватае свячэнне манумента «Смага»), разам з гукавым афармленнем (прыглушанае гучанне мелодый «Летуценняў» Р. Шумана і «Свяшчэннай вайны» А. В. Аляксандрава) надаюць асаблівую вастрыню ўспрыманню комплексу.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**БРЭСЦКАЯ СІМЯОНАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 1865 (вул. К. Маркса). Храм цэнтрычнай 5-купальнай кампазіцыі: да кубападобнага асн. аб'ёму па восі захад — усход прымыкаюць прытвор з лесвіцай на хоры і званіцу і паўкруглая апсіда. У кампазіцыйнай структуры і дэкар. пластыцы асн. аб'ёму выкарыстаны прыёмы класіцызму (ордэрная сістэма, трохвугольныя франтоны, высокі прафіляваны карніз і філёнгавы фрыз, гранітны цокаль), у завяршэнні — формы маскоўскага дойлідства сярэдзіны 17 ст. (кілепадобныя какошнікі ў аздабленні праёмаў, цэнтр. і вуглавыя 8-гранныя барабаны, цыбулепадобныя галоўкі, шатры). Дробныя формы завяршэння кантрастуюць з буйнымі прапорцыямі асн. аб'ёму, прастора інтэр'ера падзелена слупамі на 3 нефы з цыліндрычнымі і крыжовымі скляпеннямі, размаляванымі паліхромным арнаментам. Галерэя хораў злучана з нефам шырокім арачным праёмам. Царква дзейнічае.



Брэсцкая Сімяонаўская царква.

*Г. А. Лаўрэцкі.*

**БРЭСЦКАЯ ЦАРКВА І МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН.** Існавалі ў 18 ст. ў Брэсце на правым беразе р. Мухавец, на месцы драўлянага манастыра 1-й пал. 17 ст. Комплекс уключаў мураваныя Петрапаўлаўскую царкву і вучылішча, драўляны манастыр. Ц а р к в а пабудавана ў канцы 18 ст. ў стылі позняга барока. 3-нефавая 6-слуповая базіліка з авальнай алтарнай апсідай. Бязвежавы гал. фасад меў пластычную хвалістую паверхню, аздобленую вязкамі пілястраў з вокнамі і нішамі паміж імі. Руставаная ніжняя частка была вырашана ў выглядзе цокаля,



**Брэсцкая царква і манастыр базыльян.** Галоўны фасад царквы. Чарцёж 19 ст.

тарэц цэнтр. павышанага нефа завяршаў 3-вугольны франтон з лучковым акном у цэнтры, расчлянёны вертыкальнымі цягамі на 5 плоскасцей. Унутры гал. неф і апсіда былі перакрыты цыліндрычнымі, бакавыя нефы крыжовымі на падпружных арках скляпеннямі. Слупы мелі ў сячэнні складаную форму, кожны з іх быў афармлены 8 пілястрамі. Драўляны на каменным падмурку будынак м а н а с т ы р а пабудаваны ў 18 ст.— 1-павярховы, П-падобны ў плане, галерэйнай планіроўкі, накрыты высокім паўвальмавым дахам, аздобленым у тарцах 3-вугольнымі дэкаратыўна ашаляванымі невял. шчытамі. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак в у ч ы л і ш ч а (2-я пал. 18 ст.) анфіладнай планіроўкі, з лесвіцай у цэнтры быў накрыты высокім вальмавым дахам з нізкай дэкар. вежачкай у цэнтры, завершанай шпілем з флюгерам.

**БРЭСЦКІ АЭРАВАКЗАЛ.** Пабудаваны ў 1986 (арх. В. Арсеньеў, А. Ляшук, В. Кескевіч, Р. Шылай, В. Гапіенка) за 18 км на ўсх. ад Брэста з боку Маскоўскай шашы. Складаецца з трох квадратных у плане аб'ёмаў, злучаных паміж сабой. У цэнтр. аб'ёме аперацыйная зала, перакрытая металічнай канструкцыяй (структурай), што надае своеасаблівасць інтэр'еру, у другім — рэстаран, сталовая, у трэцім — адм. памяшканні, багажнае аддзяленне, пошта і інш. Фасады вылучаюцца выразнай пластыкай, своеасаблівай архіт.-маст. кампазіцыяй, у якой дамінуюць цэнтральна размешчаная дыспетчарская вежа і вуглавыя лесвіцы. У аддзелцы выкарыстаны мармур і граніт (абліцоўка падлогі і лесвічных маршаў), пліткі «акмігран» і гіпсавыя для столі, шклопакеты для вітражоў, высакаякасная тынкоўка. Аўтарам праекта прысуджана Дзярж. прэмія БССР 1988. Іл. гл. таксама ў нарысе. *В. І. Анікін.*

**БРЭСЦКІ ГІСТАРЫЧНЫ ЦЭНТР,** помнік горадабудаўніцтва 19—20 стагоддзяў. Уключае фрагменты муразанай забудовы — помнікі гісторыі і архітэктуры. Займае тэр., абмежаваную вуліцамі Арджанікідзе (б. Садовая), Герояў абароны Брэсцкай крэпасці (б. Каштанавая алея, вул. Каштанавая), Наганава (б. Станевіча, Стаханава), Маскоўскай (б. Цярэспальская, Фаміна) і Куйбышава (б. Мікалаеўская, Доўгая). Як горадабудаўнічая структура закладзена ў 1830-я гады з узвядзеннем на тэр. стараж. горада *Брэсцкай крэпасці*, фарміравалася за 2 км на У ад яе. Складалася з 3 фарштатаў. Найбольшае развіццё атрымаў Кобрынскі фарштат, які меў амаль прамавугольную планіровачную структуру. Прадугледжаны асаблівы рэжым яго рэканструкцыі, захавання і строгай забудовы, стварэнне ахоўных тэрыторый.

К о б р ы н с к і ф а р ш т а т займае групу кварталаў, абмежаваны вуліцамі Гогаля (б. Сярэдняя, Касцюшкі) і Маскоўскай. Першапачаткова быў забудаваны 1—3-павярховымі жылымі дамамі, большасць якіх разбурана ў 1915—18, аднаўлены




**Брэсцкі гістарычны цэнтр.**



**Брэсцкі аэравакзал.**



**Брэсцкі аэравакзал.** Фрагмент.

ў 1921—39. У 1950—80 сярод ранейшай гіст. забудовы ўзводзіліся асобныя шматпавярховыя будынкі. Гал. вуліца — Савецкая (б. Мільённая, Паліцэйская, Дамброўскага). Паралельныя ёй вуліцы 17 Верасня (б. Тапалёўская, Перэца) і Савецкіх пагранічнікаў (б. Беластоцкая) выходзяцца на пл. Свабоды (былыя плошчы Думская, Ратушная, Пілсудскага) і ўтвараюць аснову веернай планіроўкі. Паралельна ім праходзяць таксама вуліцы Карла Маркса (б. Мядовая, Славянская, Зыгмунтоўская) і частка вул. Леніна (б. Бульварны праспект, вул. Люблінскай уніі, пр. 17 Верасня). Папярочна размешчаны вуліцы Будзённага (б. Збірагоўская, Лістоўскага), Дзяржынскага (б. Крывая) і Астроўскага (б. Кароткая). Найбольш дэталёва захавалася першапачатковая планіроўка па вуліцах Гогаля і Маскоўскай. У 1985 распрацаваны праект «Складанне гісторыка архітэктурных і інжынерных абгрунтаванняў рэгенерацыі гістарычнай забудовы г. Брэста» БелНДІПгорадабудаўніцтва (арх. А. Акенцьеў, А. Дубініна) разам са Спец. навукова-рэстаўрацыйнымі і вытв. майстэрнямі Міністэрства культуры Беларусі (арх. А. Курто, У. Дзянісаў і інш.), ін-там «Белжылпраект» (інж. Л. Галкін, У. Скакун), гал. архітэктарам Брэста В. Гапіенкам.

*Т. І. Чарняўская.*

**БРЭСЦКІ ЗАМАК.** Існаваў у 15—1-й пал. 19 ст. ў Брэсце. Пабудаваны з каменю і дрэва на востраве ў сутоку рэк Мухавец і Зах. Буг, на месцы дзядзінца стараж. Бярэсця. Быў умацаваны ровам і валам, на якім стаялі абарончыя сцены — гародні і 5 вежаў. Адна з іх, мураваная, узведзена ў 13 ст. (гл. *Брэсцкая вежа*), пры буд-ве замка ўключана ў яго абарончую сістэму. Вежа-брама, якая злучала замак з гандлёвай плошчай горада, мела гадзіннік, на адной з вежаў быў звон. На тэр. замка стаялі 5 жылых будынкаў, 2 кухні, 3 скляпы. У ніжнім ярусе абарончых сцен размяшчаліся склады. Асобна ад замка на беразе Мухаўца стаялі лазня, стайня, млын і інш. пабудовы. У 1500 замак вытрымаў асаду татар. У 1-й пал. 17 ст. дадаткова быў умацаваны бастыёнамі. У 1657 захоплены шведамі. У 1661 адноўлены, у 1706 зноў захоплены шведамі. У 1830—42 на яа месцы замка пабудавана *Брэсцкая крэпасць.* Вядома паводле інвентара 1566 і малюнка 1657.

*М. А. Ткачоў.*

**БРЭСЦКІ КАСЦЁЛ І КАЛЕГІУМ ЕЗУІТАЎ.** Пабудаваны ў стылі барока ў 2-й пал. 17 — сяр. 18 ст. ў Брэсце. Касцёл (змураваны ў 1656—1713, не збярогся) — 3-нефавая базіліка з трансептам і 2-вежавым гал. фасадам, цэнтр. частка якога завяршалася масіўным франтонам з валютамі, бакавыя часткі невял. вежачкамі. З ПдЗ да гал. фасада прылягала квадратная ў плане вежаванціца. Пластыка фасада ўзбагачалася шматлікімі ордэрнымі элементамі, абрамленнямі праёмаў, лепкай і інш. З Пн да касцёла прылягаў 2-павярховы мураваны будынак калегіума, пабудаваны да 1750. Складаўся з 2 корпусаў, злучаных светлым калідорам. Корпус, дзе размяшчаліся аптэка і школа, паўтараў у плане паварот вуліцы і закончваўся будынкам тэатра. Уваход у калегіум вылучаўся рызалітам, які меў багатую дэкар. пластыку ў стылі позняга барока і завяршаўся фігурным франтонам. Пры буд-ве *Брэсцкай крэпасці* прыстасаваны пад дом каменданта.

*Т. В. Габрусь.*



**Брэсцкі касцёл і калегіум езуітаў.** Галоўны фасад. Чарцёж.



**Брэсцкі касцёл і кляштар аўгусцінцаў.** Галоўны фасад. Чарцёж 19 ст.

**БРЭСЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР АЎГУСЦІНЦАЎ.** Комплекс існаваў у 17—19 стагоддзях у Брэсце. Першы драўляны кляштар аўгусцінцаў пабудаваны пасля 1380 за межамі Брэста, паміж рэкамі Угрынка і Мухавец. Быў спалены татарамі ў 1666. У 1672 перанесены ў цэнтр горада, на гандлёвую плошчу. Касцёл (1683—86), перабудаваўся пасля пажару 1801 і 1808) у стылі барока — 1-нефавы храм з вежай-званіцай на гал. фасадзе, завершанай высокім шатром. Прылеглыя да вежы часткі гал. фасада касцёла былі завершаны валютамі і пінаклямі. У інтэр'еры, перакрытым драўлянымі скляпеннямі, на алтарнай і бакавых сценах намаляваны алтары. У 1856—79 касцёл быў перабудаваны пад Мікалаеўскую царкву (арх. Д. Грыса). У 1920—30-я гады рэстаўрыраваны. Захаваўся часткова. Будынак 1- і 2-павярховы, калідорнай планіроўкі, прылягаў да касцёла, уключаў трапезную, кухню, пякарню, келлі. Да яго былі прыбудаваны 3 крамы. Пры кляштары быў вялікі сад з агародамі. Уся тэрыторыя была абнесена мураванай сцяной.

**БРЭСЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНАК.** Комплекс існаваў у 18—19 стагоддзях у Брэсце. Мураваны касцёл пабудаваны ў 1750 у стылі позняга барока на месцы драўлянага, пастаўленага ў 1624. Будынак 1-нефавы, з унутранымі контрфорсамі і больш вузкай прамавугольнай алтарнай апсідай. Гал. фасад падзелены на 2 ярусы раскрапаваным антаблементам, быў фланкіраваны 2 нізкімі чацверыковымі вежамі з купальнымі завяршэннямі. Паміж імі размяшчаўся складанай формы франтон. Сцены расчлянялі арачныя аконныя праёмы, аздобленыя ліштвамі. У інтэр'еры паўцыркульныя скляпенні на падпружных арках. Гал. 2-ярусны драўляны пазалочаны алтар замыкаў



Брэсцкі касцёл і кляштар бернардзінак. Галоўны фасад. Чарцёж 19 ст.



Брэсцкі касцёл і кляштар брыгітак. Галоўны фасад касцёла. Чарцёж 19 ст.



Брэсцкі касцёл і кляштар бернардзінцаў. Галоўны фасад. Чарцёж 19 ст.



Брэсцкі касцёл і кляштар дамініканцаў. Галоўны фасад комплексу. Чарцёж 19 ст.

прастору нефа ў прэсбітэрыі, бакавыя размяшчаліся каля ўнутраных контрфорсаў, апрацаваных вязкамі пілястраў. У 1781 да касцёла прыбудаваны П-падобны 2-павярховы кляштар, які ўтвараў квадратны ў плане ўнутраны дворык. Планіроўка галерэйная. У 19 ст. перабудаваны пад вайсковы шпіталь. Пашкоджаны ў Вял. Айч. вайну.

*Ю. А. Якімовіч.*

**БРЭСЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ.** Комплекс існаваў у 17—19 стагоддзях. Мураваныя будынкі створаны ў 1623 у стылі барока на тэр. Валынскага прадмесця Брэста на месцы драўляных, пастаўленых у 1605. Касцёл Іаана Хрысціцеля — 3-нефавая базіліка з павышаным цэнтр. нефам (быў перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках) і больш нізкімі бакавымі (завяршаліся купальнымі скляпеннямі). Цэнтр. неф пераходзіў у выцягнуты прэсбітэрый, завершаны паўцыркульнай алтарнай апсідай. З Пд да бакавога нефа была прыбудавана квадратная ў плане капліца. Бязвежавы гал. фасад, падзелены карнізамі на 4 ярусы, вертыкальна быў расчлянёны вязкамі пілястраў на 3 часткі: сярэдняя завяршалася 3-вугольным франтонам, бакавыя мелі стылізаваныя валюты. Над франтонамі і вязкамі пілястраў узвышаліся скульптуры. Сцены касцёла расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі. Гал. алтар у апсідзе і 8 у бакавых нефах былі вырашаны ў стылі барока. Да паўн. сцяны касцёла прымыкала закрытая галерэя. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак кляштара з рызалітам у паўн. частцы прылягаў да прэсбітэрыя. Рызаліт і тарэц кляштара, умацаваныя контрфорсамі, завяршаліся барочнымі атыкавымі франтонамі з валютамі.

**БРЭСЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БРЫГІТАК.** Комплекс існаваў у 18—19 стагоддзях у прадмесці Брэста Пескі. Мураваны касцёл пабудаваны ў стылі барока ў 1751 на месцы драўлянага храма, узведзенага ў 1623. Да авальнага ў плане гал. аб'ёму, завершанага купалам на васьмерыку, прылягалі прамавугольныя ў плане алтарная апсіда з 2 сакрысціямі па баках і бабінец з 2 вежамі. Гал. фасад меў багатую пластычную апрацоўку ў стылі позняга барока: вязкі пілястраў і раскрапаваны антаблемент, над якім разарваны франтон з фігурным шчытом, завершаным драўлянымі вазамі і статуямі. Інтэр'ер храма быў упрыгожаны стукавай лепкай. Каля кожнага з 8 слупоў стаялі драўляныя пазалочаныя скульптуры святых. Акрамя галоўнага было яшчэ 10 бакавых драўляных разных алтароў. Праз сакрысцію і капліцу касцёл злучаўся з 2-павярховым П-падобным у плане кляштарным корпусам.

**БРЭСЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ.** Комплекс існаваў у 17—19 стагоддзях у Брэсце. Касцёл засн. ў 1635, пабудаваны ў 1696 у стылі барока. Прамавугольны ў плане аб'ём з 2 капліцамі па баках, якія мелі купальныя завяршэнні. Неф пераходзіў у крыху вузейшы за яго прэсбітэрый з прамавугольнай алтарнай апсідай: з Пн да яго прыбудаваны сакрысцыя і скарбніца. Гал. фасад, расчлянёны пілястрамі, развітым антаблементам, падзяляўся на 2 ярусы. Верхні ярус — складанай канфігурацыі шчыт з валютамі па баках. Інтэр'ер упрыгожвалі 7 драўляных пазалочаных алтароў. Перакрыцці былі цыліндрычныя з распалубкамі. 2-павярховы прамавугольны ў плане кляштар пабудаваны ў канцы 18 ст. Ён быў накрыты вальмавым дахам, меў калідорную планіроўку, злучаўся з касцёлам пераходам. Памяшканні былі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Фасады расчляняліся прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Пры кляштары быў сад.

**БРЭСЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ТРЫНІТАРЫЯЎ.** Комплекс існаваў у Кобрынскім прадмесці Брэста ў 17—19 стагоддзях. Пабудаваны з цэглы ў 1730—60-я гады ў стылі



Брэсцкі ўсходні прамысловы вузел. Будынкі электрамеханічнага завода.



**Брэсцкі касцёл і кляштар трынітарыяў.** Галоўны фасад. Чарцёж 19 ст.

позняга барока. Мураваны 2-павярховы П-падобны ў плане кляштар з убудаваным у яго цэнтр касцёлам св. Барбары быў агароджаны мураванай сцяной з нішамі з боку двара. Касцёл — прамавугольны ў плане будынак з амаль квадратнай алтарнай апсідай. У яго інтэр'еры ўнутранымі контрфорсамі вылучана 8-граннае выцягнутае па даўжыні восі асн. памяшканне з капліцамі па баках. Гал. фасад падзяляўся антабламентамі на 3 ярусы: ніжні з уваходным парталам і акном, што асвятляла хоры, быў рытмічна расчлянёны пілястрамі, меў масіўны цокаль, сярэдні — у выглядзе прамавугольнага атыка з разарваным франтонам і круглым акном у цэнтры, верхні — складаны па форме атыкавы франтон з паўцыркульным завяршэннем (у яго цэнтры была фрэска з сімвалічнай выявай эмблемы ордэна трынітарыяў, пазней заменены выявай крыжа). У інтэр'еры было 7 разных алтароў, упрыгожаных скульптурай.

**БРЭСЦКІ ЎСХОДНІ ПРАМЫСЛОВЫ ВУЗЕЛ.** Створаны ў сярэдзіне 1960-х гадоў (арх. І. Боўт, Э. Бацян, інж. Л. Кацько, Ю. Нікольскі, В. Сачкоў). Размешчаны ва ўсх. частцы горада. Комплекс аб'ядноўвае дывановы і панчошны камбінаты, з-ды электралямпавы, электрамеханічны, прадпрыемствы агульнага гасп. комплексу (аб'екты энергічнага, складскога і інш. забеспячэння), звязаных адзінай архіт. задумай з улікам перспектыўнага развіцця. Пры буд-ве прадпрыемстваў прамвузла выкарыстаны прагрэсіўныя аб'ёмна-планіровачныя і інж. прынцыпы. Будынкі маюць дакладную форму плана і лаканічную архітэктуру. Рацыянальная арганізацыя прасторы інтэр'ераў забяспечвае камфортныя ўмовы для працы. Архітэктура прамысл. прадпрыемстваў гарманічна спалучаецца з агульным ансамблем забудовы раёна. Буйныя аб'екты адм.-быт., лабараторных карпусоў фарміруюць архіт. аблічча вуліц Маскоўскай, Піянерскай, Я. Купалы. Адзін з першых у СССР комплексаў, дзе выкарыстана тэрытарыяльнае аб'яднанне некалькіх прадпрыемстваў пры максімальным кааператыванні іх асн. і дапаможных вытворчасцей. Прэмія СМ СССР 1977.



Будынак Брэсцкага чыгуначнага вакзала. Пачатак 20 ст.

**БРЭСЦКІ ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ.** Пабудаваны ў 1886 у псеўдарускім стылі (арх. Я. Гарбуноў, В. Лорберг, Л. Нікалаі). Быў адным з буйнейшых вакзалаў у Расіі. У Вял. Айч. вайну разбураны. У 1956 адноўлены ў старых параметрах са зменай планіроўкі (набліжана да новых патрабаванняў) і кампазіцыі. Цэнтр. аб'ём з 2-светлавым вестыбюлем, заламі чакання, службовымі і дапаможнымі памяшканнямі вылучаны вежай са спічаком. Бакавыя флігелі аб'яднаны з асн. будынкам агульным верхнім поясам і радам квадратных у плане пілонаў. Зала чакання ўпрыгожана смальтавай мазаікай, прысвечанай мужнасці абаронцаў Брэсцкай крэпасці (1973). Абапал вакзала праходзяць чыг. пуці, пад якімі для сувязі з горадам пабудаваны віядукі. Помнік рэспубліканскага значэння.

**БРЭСЦКІЯ ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ.** Існавалі ў Брэсце ў 19—2-й пал. 20 ст. Былі пабудаваны ў 1842 у стылі класіцызму на Гандлёвай пл. (сучасная вул. Маскоўская). 1-павярховы, прамавугольны ў плане, накрыты паўвальмавым дахам будынак з вял. унутраным дваром. Па-



**Брэсцкі чыгуначны вакзал.**

сярэдзіне ўсіх 4 фасадаў — праезныя брамы, завершаныя атыкамі. Сцены рытмічна чляніліся прамавугольнымі вокнамі і пілястрамі, якія па вуглах і баках арачных праездаў былі аздоблены рустоўкай. Па перыметры будынак падзяляўся на шэраг гандлёвых секцый — крам, якія мелі ўваходы з гал. фасада і на ўнутраны двор. Будынак знесены ў 1970-я гады ў сувязі з будаўніцтвам новага гандлёвага цэнтра. *Т. І. Чарняўская.*

**БРЭСЦКІЯ ГАРАДСКІЯ АСАБНЯКІ,** помнікі архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1-й пал. 19 ст. ў Брэсце па адным праекце. Асабняк на рагу сучасных вуліц А. Міцкевіча і Камсамольскай, 22/20, мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю; да цэнтр. 2-павярховай часткі з 2-схільным дахам далучаны два 1-павярховыя кароткія бакавыя крылы з вальмавымі дахамі. Гал. фасад, арыентаваны на вул. Міцкевіча, вылучаны 4-калонным дарычным порцікам, які завершаны 3-кутным франтонам над уваходам. На 2-м паверсе на ўсю шырыню порціка балкон з драўлянай балюстрадай. Дваровы фасад аформлены 4 паўкалонамі, якія адпавядаюць кампазіцыі порціка гал. фасада. Вонкавы дэкор: руставаны цокаль, прафіляваны карніз і сандрыкі над прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Унутраная планіроўка часткова зменена. Пад усім будынкам — цокальны паверх. Першапачатковая планіроўка зменена. Асабняк на рагу сучасных вуліц Камсамольскай і Савецкай, 26/13, мае аналагічную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю і аналагічную планіроўку. Уваход у будынак з тарцовага фасада. У асабняках размешчаны адміністрацыйныя ўстановы. *Т. І. Чарняўская.*



**Брэсцкія гарадскія асабнякі.** Асабняк на рагу вуліц А. Міцкевіча і Савецкай, 26/13.

**БРЭСЦКІЯ ЖЫЛЫЯ ДАМЫ,** помнікі архітэктуры канца 19 — сярэдзіны 20 ст. Уваходзяць у *Брэсцкі гістарычны цэнтр.* Вылучаюцца жыллёвая забудова вуліц Савецкай, 17 Верасня і Савецкіх пагранічнікаў. У забудову вул. Савецкай уваходзяць дамы № 72, 74, 76, 80, 82, 90, 98, 100, 102, 104, 108, 110, 112, 114, 116 (цотны бок) і 53, 55, 85, 87, 89, 91, 93, 95, 97, 99, 101, 103, 105 (няцотны бок). Дамы № 72, 74, 76 мураваныя, 2-павярховыя, складанай у плане формы. Узведзены ў 1920 і 1930. Гал. фасадамі выходзяць на вуліцу, утвараюць адзіны комплекс. На першых паверхах дамоў № 72, 74 размешчаны гандл. ўстановы. Сцены дэкарыраваны лапаткамі, вокны прамавугольныя, на другіх паверхах балконы. У доме № 74 асіметрычна размешчаная прамавугольная арка, у цэнтры дома № 76 лучковая арка. Дамы № 80, 82 мураваныя, 1-павярховыя, з мансардай. Узведзены ў 1890. Дом № 90 мураваны, 1-павярховы, Г-падобны ў плане. Узведзены ў 1-й чвэрці 20 ст. Гал. фасад расчлянёны руставанымі пілястрамі, прамавугольныя вокны дэкарыраваны сандрыкамі і падаконнымі плітамі, карніз складанага профілю, на 2-м паверсе балкон з ажурнай металічнай агароджай. Дом № 98 мураваны, 1-павярховы; дамы № 100, 102, 104 мураваныя, 2-павярховыя. Узведзены ў 1923 і 1925. Маюць складаную ў плане форму і дваровыя прыбудовы. У дэкар. аздобе выкарыстаны міжпаверхавыя паясы, сандрыкі, аконныя нішы, ажурныя балконы. У доме № 104 лучковая праезная арка. Дамы № 108, 110, 112, 114 мураваныя, 2-павярховыя; дом № 116 мураваны, 1-павярховы. Узведзены ў 1929 і 1930. Утвараюць адзіны складаны ў плане комплекс з дваровымі прыбудовамі. У дэкар. аздобе выкарыстаны міжпаверхавыя паясы, сандрыкі, аконныя нішы. Аналагічная архітэктура дамоў і на няцотным баку вуліцы. Дом № 53 мураваны, 3-павярховы; дом № 55 мураваны, 1-павярховы. Узведзены ў пачатку 20 ст. Утвараюць адзіны комплекс. Фасады дэкарыраваныя рустам, вуглавымі лапаткамі, пілястрамі, балконамі. Дамы № 85, 87, 89, 93, 95 мураваныя, 2-павярховыя; дом № 91 мураваны, 1-павярховы. Узведзены ў 1-й чвэрці 20 ст. Маюць у плане складаную форму. Дамы № 97, 99, 103, 105 мураваныя, 2-павярховыя; дамы № 101 мураваны, 4-павярховы. Узведзены ў 1923 і 1925. Утвараюць адзіны складаны ў плане комплекс з дваровымі прыбудовамі. Архіт. акцэнтам з'яўляецца дом № 101, арыентаваны на вуліцу гал. фасад якога вылучаны эркерам на вышыню 2—3-га паверхаў і завершаны 3-вугольным франтонам. У забудову вул. 17 Верасня ўваходзяць дамы № 2, 8, 10, 12, 18, 20, 22, 24 (цотны бок) і 9, 31, 33, 35, 37 (няцотны бок). Дамы № 8, 10, 12 мураваныя, 2-павярховыя, Т-падобныя ў плане. Узведзены ў 1-й чвэрці 20 ст. З боку двара маюць драўляныя прыбудовы. У дэкоры ляпныя абрамленні аконных праёмаў і балконы з ажурнай агароджай (№ 8), лучковая праезная арка (№ 10). Дамы № 18, 20, 22, 24 мураваныя, 2-павярховыя, Г-падобнай формы ў плане, з дваровымі прыбудовамі. Узведзены ў 1925. Утвараюць адзіны комплекс. Дом № 20 з'яўляецца цэнтрам кампазіцыі. Яго фасад вылучаны цэнтральным рызалітам з атыкам, аконныя праёмы над карнізам дэкарыраваны сандрыкамі, на 2-м паверсе балкон з ажурнай агароджай, прафіляваны карніз і фрыз з вокнамі-прадухамі. Аналагічная архітэктура дамоў № 2, 9, 31, 33 (адзіны комплекс) і 35, 37 (адзіны комплекс), узведзеных у 1-й чвэрці 20 ст. Забудова вул. Савецкіх пагранічнікаў уключае дамы № 24, 26, 30, 32, 34. Дом № 24 мураваны, 1-павярховы; дом № 26 мураваны, 2-павярховы. Узведзены





**Брэсцкія жылыя дамы.** Дом па вуліцы Леніна, 39 (уверсе), і па вуліцы Леванеўскага, 3.

ў 1925. Утвараюць адзіны складаны ў плане комплекс з дваровымі прыбудовамі. Фасад дома № 24 дэкарыраваны руставанымі пілястрамі, гал. ўваход размешчаны асіметрычна. У цэнтры фасада дома № 26 дзве злучаныя прамавугольныя аркі, пад прафіляваным карнізам пояс з вокнамі-прадухамі. Дамы № 30, 32, 34 мураваныя, 2-павярховыя. Узведзены ў 1-й чвэрці 20 ст. Гал. фасадамі арыентаваныя на чырвоную лінію вуліцы. У цэнтры фасада дома № 32 рызаліт з лучковай аркай, завершаны карнізам з 3-вугольным франтонам. Будынак выкарыстоўваецца як адміністрацыйны. Дом № 34 мае ў цэнтры лучковую арку, якая замыкаецца масіўнымі чыгуннымі дзвярамі, дэкарыраванымі літымі арнаментальнымі дэталямі. У будынку размешчаны Цэнтр. архіў Брэсцкай вобл. *Т. І. Чарняўская.*

**БУДА-КАШАЛЁВА,** горад, цэнтр Буда-Кашалёўскага р-на. За 48 км ад Гомеля. Да 1861 вёска дзярж. сялян Кашалёўскай воласці Рагачоўскага пав. Пачала расці пасля пабудовы Лібава-Роменскай чыгункі, з 1877 чыг. станцыя, з 1938 гар. пасёлак, з 1971 горад. Арх.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Савецкая, Леніна, 50 гадоў Кастрычніка, Галавачова. На перакрыжаванні вуліц Леніна і Горкага ўтварылася цэнтр. плошча — грамадскі цэнтр горада. Побач знаходзіцца Прывакзальная пл. На Пн (вул. Лугавая) будуюцца 3—5-павярховыя жылыя дамы. Горад развіваецца паводле генплана 1973, праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). *С. Л. Смірнова.*

**БУДСЛАЎСКІ КАСЦЁЛ БЕРНАРДЗІНЦАЎ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1767—83 у в. Будслаў (Мядзельскі р-н). Пры буд-ве выкарыстаны муры бакавой капліцы касцёла 17 ст. Мураваная 3-нефавая базіліка з прамавугольным прэсбітэрыям і трансептам каля ўвахода. Сяродкрыжжа ўнутры перакрыта сферычным купалам, схаваным пад 2-схільным дахам. Тарцы нефа і трансепта завершаны фігурнымі франтонамі. Гал. фасад з 2 шмат'ярусными вежамі па баках аздоблены багатай дэкар. пластыкай: пілястрамі, паўкалонамі, складанымі раскрапоўкамі. Інтэр'ер перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Сцены падзелены шматслойнымі пілястрамі і размаляваны. На высокіх хорах знаходзіцца арган, упрыгожаны драўлянай пазалочанай разьбой. Акцэнт кампазіцыі маст. ансамбля інтэр'ера — гал. драўляны алтар (1784—90). У бакавой капліцы захаваўся ўнікальны драўляны алтар (каля 1643). Цэнтр. яго частка — 2-ярусная, плоская; бакавыя, размешчаныя пад вуглом да цэнтральнай, вырашаны ў выглядзе каланад з развітымі антаблементамі. У алтары 20 скульптур (8 у нішах паміж калонамі бакавых крылаў, астатнія на карнізах), адметных вытанчанай мадэліроўкай і багатымі святлоценявымі эфектамі. Пазалочаная накладная разьба (гарызантальныя дэкар. паясы) і скульптура кантрастна вылучаецца на чорным фоне алтарных плоскасцей. Рэнесансавая строгасць кампазіцыі алтара спалучаецца з выразнымі барочнымі рысамі (распрацоўка антаблемента, кантрастная паліхромія, тэатральнасць скульпт. ансамбля). Сярод твораў жывапісу вылучаюцца парадныя пагрудныя партрэты рымскіх пап Сікста IV, Сікста V, Мікалая IV, Аляксандра V, выкананыя ў 17 ст. і абраз Маці Боскай (канец 16 ст.). Партрэты вызначаюцца багатым вытанчаным каларытам, выразнай кампазіцыйнай будовай, яркім псіхалагізмам характарыстык. Побач з касцёлам знаходзіцца плябанія. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы з рысамі эклектыкі. Аднапавярховы атынкаваны і пабелены будынак прамавугольнай у плане формы, накрыты 2-схільным дахам. Кампазіцыя галоўнага фасада сіметрычная. Над цэнтр. уваходам мансардавы паверх, упрыгожаны ступенчатым атыкам. Да касцёла прымыкаў 2-павярховы кляштар (1750—54), у ансамбль уваходзілі таксама мураваныя і драўляныя гасп. пабудовы 2-й пал. 18 ст. Касцёл — помнік рэспубліканскага значэння.

*Э. І. Вецер, А. А. Ярашэвіч.*

**БУСЯЖСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудавана ў 1779 з цэглы ў в. Бусяж (Івацэвіцкі р-н); у 19 ст. пераўтво-



Будслаўскі касцёл бернардзінцаў.



Будслаўскі касцёл бернардзінцаў. Алтар «Ушэсце Марыі».



Бусяжская царква.

рана ў праваслаўную Успенскую царкву. Выpашана кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам, накрытым высокім 2-схільным дахам. У 19 ст. да алтарнай сцяны прыбудавана нізкая прамавугольная рызніца. Барочнай пластыкай насычаны гал. 3-ярусны фасад, завершаны фігурным шчытом з бакавымі валютамі і 4-граннай вежай-званіцай з купальным пакрыццём (аднолькавым шчытом завершана і алтарная сцяна). Плоскасць фасада расчлянёна слаістымі пілястрамі і завершана шырокім прафіляваным і крапаваным карнізным поясам. Вось сіметрыі падкрэслена арачным парталам гал. ўвахода, лучковым акном хораў над ім, фланкіраваным арачнымі нішамі са скульптурамі евангелістаў (не захаваліся). Плоскасна вырашаныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і слаістымі пілястрамі ў прасценках. У зальную прастору храма, перакрытую цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, выступае галерэя хораў, расчыненая шырокай 3-лопасцевай аркай. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**БУХАВІЦКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры барока. Пабудавана ў 1676 як касцёл дамініканцаў у в. Бухавічы (Кобрынскі р-н), у 1832 пераўтвораны ў Пакроўскую царкву, у 1881 абнаўлялася. Першапачаткова прамавугольны ў плане выцягнуты па падоўжанай восі аб'ём, да якога з усходняга боку далучалася прамавугольная апсіда, з заходняга — вежа-званіца. Архітэктура вырашана ў буйных формах, масіўнай пластыцы. Вуглы аб'ёмаў умацаваны магутнымі контрфорсамі. Фасады вырашаны плоскасна, расчлянёны высока ўзнятымі лучковымі вокнамі, апяразаны карнізам простага профілю. У час рэканструкцыі (1889) надбудаваны 3-і ярус званіцы — драўляны васьмярык з шатровым верхам і цыбулепадобнай галоўкай; над 2-схільным дахам узведзены 8-гранны драўляны барабан з цыбулепадобным купалам. З паўднёвага бакавога фасада створаны дадатковы ўваход, аформлены драўляным прытворам. Унутраная прастора падзелена драўляным іканастасам (2-я пал. 19 ст.) на алтарную частку і залу. Па перыметры сцен пад плоскай драўлянай столлю праходзіць арнаментальны фрыз. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**БЫСТРЫЦКІ КРЫЖАЎЗВІЖАНСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры ранняга барока. Пабудаваны ў сярэдзіне 16 ст. па загаду польскага караля Жыгімонта I у в. Быстрыца (Астравецкага р-на). У 1760 перабудаваны ў стылі ракако. Аднанефавы 2-вежавы з 5-граннай апсідай (да яе з Пн прыбудавана сакрысція) мураваны храм мае сіметрычна-восевую падоўжаную кампазіцыю. У сілуэце будынка дамінуюць дзве 4-ярусныя вежы гал. фасада, лёгкія і струменістыя па архіт. трактоўцы (вязкі пілястраў, скразная аркатура вежаў, высокія нішы). Вежы аб'яднаны 3-вугольным шчытом, за якім схаваны 2-схільны (вальмавы над апсідай) дах. Вертыкальнасць фасада з увагнута-пукатымі хвалістымі плоскасцямі сцен і карнізнымі паясамі падкрэслівае гарызантальная рустоўка цоколя. Бакавыя фасады і апсіда вырашаны плоскасна, сіметрычна расчлянёны парамі арачных акон і тонкімі падвойнымі лапаткамі ў прасценках, апяразаны прафіляваным антаблементам. Зала касцёла перакрыта цыліндрычным на падпружных арках скляпеннем, якое пераходзіць у конху апсіды, сакрысція — цыліндрычным з распалубкамі. Скляпенні дэкарыраваны арнаментальнай размалёўкай 19 ст. Сцены крапаваны падвойнымі канеліраванымі пілястрамі, завершаны моцным прафіляваным антаблементам. Пластыка-дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — архітэктанічны гал. алтар, разгорнуты па гранях апсіды і падзелены крапаваным антаблементам на 2 ярусы. Скла-



Бухавіцкая Пакроўская царква.



**Быстрыцкі Крыжаўзвіжанскі касцёл.** Галоўны фасад.



**Быхаў.** Вуліца Леніна.

даная калонна-пілястравая кампазіцыя 1-га яруса, выкананая з карычневага стука і з пазалотай на капітэлях, фланкіравана 2 драўлянымі скульптурамі апосталаў. У адным барочна-ракайльным стылі зроблены і 2 меншыя па маштабе кулісныя алтары. Над уваходам хоры абмежаваныя крывалінейным філёнгавым парапетам. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**БЫХАЎ,** горад, цэнтр Быхаўскага р-на, прыстань на правым беразе Дняпра. За 51 км ад Магілёва. Вядомы з 14 ст. як горад пад назвай С т а р ы  Б ы х а ў. У 1430 упамінаецца як уладанне князя Вял. кн. Літоўскага Свідрыгайлы. У 1556 падараваны кіеўскаму ваяводу Рыгору Хадкевічу. У 1628 перайшоў да Сапегаў. Першыя абарончыя збудаванні Б. ўзніклі ў 14 ст. У пач. 17 ст. горад ператвораны ў магутную крэпасць, умацаваную землянымі валамі, равамі, бастыёнамі (лічылася ў той час адной з найлепшых ваен. крэпасцей Беларусі). У сістэму ўмацаванняў увайшоў *Быхаўскі замак* на крутым беразе Дняпра, які стаў кампазіцыйным цэнтрам паселішча. Гандлёвая плошча перад замкам падзяляла горад, рэгулярна забудаваны прамавугольнымі жылымі кварталамі, на 2 часткі, ад яе пачыналіся 2 гал. вуліцы (дарогі на Магілёў і Рагачоў), перспектыва якіх у лініі вонкавых умацаванняў замыкалася 2 брамамі. Паводле генплана 1778 старaж. ўмацаваная частка горада з замкам і гандл. плошчай захавана як цэнтр. планіровачнае ядро, вакол якога з Пн і Пд створаны новыя рэгулярныя спланаваныя раёны з сеткай амаль прамавугольных кварталаў. У 1796—1802 заштатны горад. У 1897 у Б. 6381 жыхар, 816 дамоў, у 1913—8100 жыхароў, З 1924 цэнтр раёна. Гал. кампазіцыйная вось сучаснага Б.— вул. Леніна, перпендыкулярная Дняпру, разам з вуліцамі Чырвонаармейскай, Аскаленкі, Пралетарскай і інш. вызначае архіт.-планіровачную структуру горада. Пры ўездзе ў Б. на перасячэнні вуліц Леніна і Дарахава ўтварылася Кастрычніцкая плошча. Зберагліся помнікі архітэктуры — *Быхаўская сінагога, Быхаўская Троіцкая царква.* Паводле генплана 1986 («Белдзяржпраект») і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1974 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжаны фарміраванне на перасячэнні вуліц Леніна і Пралетарскай новага грамадскага цэнтра горада, буд-ва 6 жылых раёнаў з 5—9-павярховымі жылымі дамамі з увядзеннем у іх 12-павярховых, стварэнне ў пойме ракі гар. парку.

*Р. П. Стральцоў, У. А. Чантурыя.*

**БЫХАЎСКАЯ СІНАГОГА,** помнік архітэктуры позняга рэнесансу. Пабудавана ў г. Быхаў з цэглы ў сярэдзіне 17 ст. Цэнтрычнае мураванае збудаванне (20×21 м у плане) мае элементы абарончага дойлідства: круглую баявую вежу на паўн.-зах. рагу, дэкаратыўна-абарончы атык (байніцы пазней замураваны). Будынак пад пакатым 4-схільным дахам. Дэкор фасадаў стрыманы: простыя карнізы, неглыбокія прамавугольныя нішы. Аконныя праёмы аб'яднаны агульнай на ўсю сцяну нішай, якая злучана падугамі з вуглавымі пілястрамі, апрацаванымі рустам. Галоўны зах. фасад з левага боку фланкіраваны круглай абарончай вежай. У інтэр'еры цэнтр. месца займае 2-ярусная трыбуна-біма, пляцоўка якой абмежавана 4 магутнымі 8-products граннымі слупамі, злучанымі паміж сабой аркамі, якія з'яўляюцца канструкцыйнай асновай для цыліндрычных скляпенняў з распалубкамі. Вуглавыя часткі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Ніжні ярус бімы мае паўсферычнае перакрыццё, апрацаванае стукавым шматкаляровым раслінным арнаментам, верхні прарэзаны паўцыркульнымі праёмамі. Сцены расчлянёны пілястрамі, прасценкі і вуглавыя часткі на 2/3 вышыні аконных праёмаў апрацаваны плоскімі нішамі. У цэнтры ўсх. сцяны паміж пілястрамі знаходзіцца алтар-ніша, акаймаваны стукавай лепкай. Будынак сінагогі, асабліва яго верхняя частка, неаднаразова перарабляўся. Раней да яго паўн., зах. і паўд. фасадаў былі далучаны 1-павярховыя прыбудовы (не зберагліся) рознага рэлігійнага


Быхаўская сінагога.


Быхаўская Троіцкая царква.

і грамадскага прызначэння. Зараз у будынку склад. Помнік рэспубліканскага значэння.

**БЫХАЎСКАЯ ТРОЦКАЯ ЦАРКВА**, помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. ў г. Быхаў (Магілёўская вобл.) на вул. Куйбышава, 2. Будынак цэнтрычны, крыжападобны ў плане, на цагляным атынкаваным фундаменце. Крылы трансепта і алтарная частка 5-гранныя. У месцы іх перасячэння з усх. боку зроблены 2 невял. рызніцы з 1-схільнымі дахамі. Над апсідай і бакавымі часткамі дахі вальмавыя. З трох бакоў будынка зроблены ўваходы ў выглядзе шырокіх мураваных ганкаў з казыркамі на драўляных калонах. Над гал. уваходам — высокая 8-гранная ў плане 3-ярусная званіца, над сяродкрыжжам — вялікі светлавы барабан (дыяметр 8 м, вышыня 12,5 м) з купалам, завершаным галоўкай на 8-граннай аснове. Сцены другога яруса званіцы прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, трэцяга — прамавугольнымі. Па перыметры будынка праходзіць карніз. Фасады вертыкальна ашаляваны. Вокны паўцыркульныя. У інтэр'еры цэнтральная 2-светлавая частка перакрыта самкнёным скляпеннем на ветразях. У астатніх частках столь плоская, падшыўная. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.
*А. А. Міцянін.*

**БЫХАЎСКІ ЗАМАК**, помнік палацава-замкавай архітэктуры. Пабудаваны ў канцы 16 — пач. 17 ст. ў г. Быхаў як цэнтр сістэмы ўмацаванняў горада. У 1590 гетман К. Хадкевіч атрымаў грамату на пабудову замкавых умацаванняў і да 1619 амаль скончыў узвядзенне на высокім правым беразе Дняпра замка (77×100 м у плане), які стаў адным з наймагутнейшых на Беларусі. З трох бакоў — Пн, З, Пд — замак аддзелены ад горада шырокім (22—27 м) і глыбокім ровам. Будаўніцтва было канчаткова завершана новым уладальнікам Л. Сапегам (з 1621). Традыцыйныя дрэваземляныя ўмацаванні (вал з гароднямі і вежамі, уязная вежа-брама з пад'ёмным мостам цераз роў) дапаўняліся бастыёнамі, якія фланкіравалі падыход да брамы. Тады ж Сапега ўмацаваў горад бастыённай фартыфікацыяй, якую ў 1648 не здолела ўзяць казацкае войска Ф. Гаркушы. У руска-польскую вайну 1654—67 замак вытрамаў доўгатэрміновую (1655) аблогу войск наказнога гетмана І. Залатарэнкі, 30-днёвую аблогу рускіх войск (1659). Мураваны палацава-замкавы ансамбль створаны ў 2-й пал. 17—18 ст. ў стылі барока. Складаўся з арыентаванага на Дняпро 2-павярховага палаца, з гадзіннікавай вежай, і групы дапаможных збудаванняў. Планіроўка палаца анфіладная. Па перыметры замкавага двара размяшчаліся казармы з 8-граннымі вуглавымі вежамі. Ансамбль збярогся часткова. Помнік рэспубліканскага значэння.
*М. А. Ткачоў.*


**Быхаўскі замак.** Разрэз палацавага будынка і план замка.

**БЫЦЕНСКАЯ КАПЛІЦА**, помнік рэнесансна-раннебарочнай архітэктуры. Пабудавана ў 1654 у в. Быцень (Івацэвіцкі р-н) пры базыльянскім кляштары. У 1845 пераўтворана ва Успенскую царкву. Кампактны прамавугольны ў плане мураваны будынак, накрыты вальмавым дахам з драўляным 8-гранным купальным барабанам у цэнтры (надбудаваны ў 2-й пал. 19 с.). Плоскасныя фасады лаканічна крапаваны шырокімі лапаткамі, прарэзаны арачнымі вокнамі. Сіметрычна-восевая пабудова гал. фасада падкрэслена прамавугольным уваходным праёмам і вял. арачным акном над ім. Па перыметры будынак апяразаны ўступам нізкага цоколя і прафіляваным карнізам у завяршэнні. Унутраная зальная прастора 3 парамі слупоў падзелена на 3 нефы — цэнтральны (значна шырэйшы за бакавыя) перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі.
*А. М. Кулагін.*


Быценская капліца.

**БЫЦЕНСКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН.** Заснаваны як уніяцкі ў 1607 Грыгорыем Трызнай у б. мястэчку Быцень Навагрудскага ваяводства (цяпер вёска ў Івацэвіцкім р-не). Мураваны манастыр пабудаваны ў 1640 па фундацыі падскарбія Вял. кн. Літ. Мікалая Трызны ў стылі ранняга барока. У комплекс манастыра ўваходзіла вял. мураваная царква Раства Багародзіцы, узведзеная ў 1708—10 па фундацыі Іозефа Пяткевіча. Мела рысы сталага барока. Уяўляла сабой трохнефавую 2-вежавую крыжова-купальную базіліку. Алтарная апсіда і крылы трансепта мелі паўкруглы



Царква Раства Багародзіцы **Быценскага манастыра базыльян.** Папярочны разрэз.

абрыс і конхавыя завяршэнні. Сяродкрыжжа перакрывалася васьмігранным самкнёным скляпеннем, якое звонку было закрыта паўсферычным купалам, са светлавым ліхтаром. Будынкі часткова разбураны ў 1-ю сусветную вайну ў 1915, у 1929 часткова рэканструяваны, пазней разабраны. Ад комплексу захавалася малая Успенская царква, пабудаваная ў 1673 як капліца. Невялікі прамавугольны ў плане мураваны храм накрыты вальмавым дахам з галоўкай у цэнтры вільчыка на 8-гранным барабане. Фасады рытмічна расчлянёны шырокімі пілястрамі і прарэзаны вокнамі з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі. Па баках гал. фасада плоскія прамавугольныя нішы. Інтэр'ер падзелены 6 слупамі на 3 нефы. Цэнтральны неф значна шырэйшы за бакавыя і перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі.

*Т. В. Габрусь.*

**БЯГОМЛЬСКІ ПРАМЫСЛОВЫ КОМПЛЕКС,** помнік вытворчай архітэктуры. Пабудаваны ў г. п. Бягомль (Докшыцкі р-н) у 1870—74. Належаў Булгакам. Уключае 3 пабудовы, якія гал. фасадамі выходзяць на вул. Савецкую: будынак спіртасарціроўкі (д. № 17; цяпер тут размешчаны Бягомльскі музей народнай славы), складоў-спіртасховішча (д. № 19; цяпер у ім спецкамендатура), жылога дома вартаўніка (д. № 21). Будынак спіртасарціроўкі 2-павярховы, прамавугольны ў плане, з цэглы, неатынкаваны. У цэнтры гал. фасада рызаліт з гал. уваходам, над якім балкон з металічнай ажурнай агароджай. Рызаліт завершаны прамавугольным шчытом з поясам сухарыкаў. Сцены фасадаў рытмічна прарэзаны прамавугольнымі праёмамі з падаконнымі нішамі. Дэкар. дэталі (карнізы, нішы, сандрыкі) пафарбаваны ў белы колер. Будынак спіртасховішча 1-павярховы, Г-падобны ў плане. Сцены выкананы з буйных валуноў светлашэрага колеру з устаўкай дробных каменьчыкаў чорнага колеру. Дэкар. афармленне гал. фасада пабудавана на кантрасце муроўкі з бутавага каменю і цэглы (вуглавыя лапаткі, аконныя ліштвы і інш.). Жылы дом вартаўніка 1-павярховы, прамавугольны ў плане, пабудаваны з цэглы, неатынкаваны. Яго гал. тарцавы фасад завершаны трохвугольным шчытом з акномлюнетай у цэнтры (выкарыстоўваецца як жылы дом).



**Бягомльскі прамысловы комплекс.** Будынак спіртасарціроўкі.

*Т. І. Чарняўская.*

**БЯЛАВІЦКАЯ ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1772 у в. Бялавічы (Івацэвіцкі р-н) на месцы старой уніяцкай царквы, якая вядома з 1599, калі была перададзена ў трыманне Ф. Гурскаму ваяводай брэсцкім Андрэем Ляшчынскім. Выцягнуты прамавугольны ў плане зруб з 2-граннай алтарнай часткай накрыты 2-схільным дахам з вальмамі над алтаром. На галоўным зах. фасадзе над франтонам чацверыковая вежа з 8-гранным купалам і галоўкай. Пры ўваходзе каркасны тамбур. Сцены вертыкальна ашаляваны і ўмацаваны руставанымі лапаткамі. Памяшканне мае плоскую столь, над уваходам — кансольнабэлечныя хоры, алтарная частка агароджана нізкім іканастасам. Унутры сцены апрацаваны вузкімі пілястрамі з капітэлямі. Па восі царквы ў 1885 пабудавана 3-ярусная мураваная чацверыковая званіца-брама, накрытая пакатым шатром. Ніжні ярус з арачным праёмам уваход выкладзены з буту і ўмацаваны контрфорсамі. Верхнія ярусы цагляныя, атынкаваныя, маюць элементы ордэрнага дэкору. Трэці ярус прарэзаны лучковымі арачнымі праёмамі. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.



**Бялавіцкая Ільінская царква.**

*Т. В. Габрусь.*

**БЯЛЫНІЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР КАРМЕЛІТАЎ.** Заснаваны ў 1624 канцлерам Вял. кн. Літоўскага Львом Іванавічам Сапегам у г. п. Бялынічы. Пазней уладальнікамі Бялыніч і апекунамі кляштара былі Агінскія. Першапачатковыя драўляныя будынкі заменены каменнымі ў сярэдзіне 18 ст. Успенскі касцёл пабудаваны ў 1742—63 у стылі позняга барока. Трохнефавая крыжова-купальная базіліка з трансептам, даўжынёй 43 м, шырынёй 22, вышыня да скляпення 18 м. Багата дэкарыраваны ордэрнымі элементамі і скульптурамі фасад падзяляўся па гарызанталі на 3 ярусы раскрапаванымі антаблементамі, па вертыкалі — на 5 частак вязкамі пілястраў. Сярэдняя частка завяршалася фігурным франтонам, бакавыя — масіўнымі валютамі, прамежкавыя — вежамі, накрытымі гранёнымі купалкамі. Над уваходам з вял. арачным парталам быў балкон з балюстрадай і акно ў ляпным абрамленні. Інтэр'ер касцёла быў багата аздоблены драўлянай і стукавай скульптурай, а таксама сюжэтнымі размалёўкамі. У комплекс уваходзілі мураваны Т-падобны ў плане корпус кляштара (размаляваны фрэскамі), мураваная агароджа з уваходнай брамай, званіца, вежа з гадзіннікамі. У 1534 невядомы мастак намаляваў тут абраз Маці Боскай (знік у Магілёве ў Вял. Айч. вайну). Кляштар закрыты ў 1832, касцёл стаў парафіяльным, а ў 1876 перароблены пад царкву; у 1930-я



**Бялыніцкі касцёл і кляштар кармелітаў.** З гравюры 19 ст.

гады ператвораны ў клуб, пры гэтым разбураны купал і фасад. Пасля вайны выкарыстоўваўся як кінатэатр, потым — склад, узарваны ў 1960-я гады. У корпусе кляштара некаторы час была школа, узарваны ў 1970-я гады, каб пабудаваць на яго месцы гандлёвы цэнтр.

*А. А. Ярашэвіч.*

**БЯЛЫНІЧЫ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Бялыніцкага р-на. На р. Друць. За 44 км ад Магілёва. Вядомы з 16 ст. як мястэчка Аршанскага пав. Вял. кн. Літоўскага, належалі Сапегам, Агінскім, Радзівілам. У 1756—61 пабудаваны *Бялыніцкі касцёл і кляштар кармелітаў.* З 1772 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Магілёўскага пав. Галоўная арх.-планіровачная вось сучасных Б.— вул. Савецкая, забудаваная 2—3 — павярховымі жылымі дамамі. На ёй сфарміраваліся 2 плошчы: грамадска-адм. (на Пн) і плошча з культ.-асветнымі ўстановамі (на Пд). Планіровачная структура — радыяльная і прамавугольная сетка вуліц. Па вул. Мічурына пабудаваны мікрараён з 3—5-павярховымі жылымі дамамі. Горад развіваецца паводле генплана 1968, праектаў дэталёвай планіроўкі цэнтра 1974, 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*В. М. Кашырын.*

**БЯРОЗА,** горад, цэнтр Бярозаўскага р-на, на р. Ясельда. За 102 км ад Брэста. Паводле пісьмовых крыніц Б. (да 1940 Бяроза-Картузская, Картуз-Бяроза) вядома з 1477 як прыватнаўласніцкая вёска Слонімскага, з 1521 Кобрынскага пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1629 мястэчка. З 1795 у складзе Расіі, мястэчка Пружанскага пав. Больш хутка развівалася з адкрыццём руху па Маскоўска-Брэсцкай чыгунцы ў 1870-я гады. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, мястэчка Пружанскага пав. З 1939 у БССР. З 1940 горад, цэнтр раёна. Арх.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Леніна (гал. вось), 17 Верасня, Савецкая, Свярдлова. Яны разам з інш. вуліцамі ўтвараюць некалькі невял. кварталаў. У месцы злучэння вуліц Леніна і 17 Верасня ўтварылася пл. Леніна — грамадскі цэнтр горада. Горад развіваецца паводле генплана 1974 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). Помнікі архітэктуры — *Бярозаўскі касцёл і кляштар картэзіянцаў, Бярозаўская Петрапаўлаўская царква.*

*Р. Л. Арцёмчык.*

**БЯРОЗАЎСКАЯ ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры 2-й пал. 18 — 1-й пал. 19 ст. Пабудавана ў 1772 з цэглы ў г. Бяроза. У выніку перабудовы напярэдадні сусветнай вайны будынак набыў традыцыйную 4-часткавую кампазіцыю: 3-ярусная званіца, трапезная, асн. аб'ём і апсіда з рызніцамі. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі 1-нефавага бесслуповага храма дамінуе званіца. Будынак мае рысы класіцызму (3-вугольны прафіляваны франтон, падвоеныя пілястры тасканскага ордэра, руставаныя ліштвы паўцыркульных акон) і рэтраспектыўна-рускага стылю (несапраўдныя закамары, шатровы дах званіцы, канструкцыйная схема васьмярык на чацверыку галоўнага барабана і інш.). Царква дзейнічае.

*Г. А. Лаўрэцкі.*

**БЯРОЗАЎСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР КАРТЭЗІЯНЦАЎ,** помнік архітэктуры сталага барока. Пабудаваны ў 1648—89 у г. Бяроза. У будаўніцтве прымалі ўдзел італьянскія архітэктары. У час Паўночнай вайны 1700—21 і Барскай канфедэрацыі (1772) часткова разбураны. У 1831 закрыты за ўдзел манахаў у паўстанні 1830—31. 1866 часткова разабраны, цэгла выкарыстана для буд-ва казарм.



**Бялынічы.** Вуліца Калініна.



**Бярозаўская Петрапаўлаўская царква.**



**Бярозаўскі касцёл і кляштар картэзіянцаў.** Чарцяжы 19 ст.

У комплекс уваходзілі мураваны будынак касцёла, аднатыпныя групы жылых карпусоў з маленькімі ўнутранымі дворыкамі, трапезная, б-ка, шпіталь, аптэка, гасп. пабудовы, разам з прылеглым садам з вадаёмам былі абнесены крапаснай сцяной з вежамі і каплічкай. Галоўным уваходам у кляштар служыла магутная брама з байніцамі. Яна вяла ў двор, прызначаны для гаспадарчых патрэб і абслугоўвання наведвальнікаў, яго ўтваралі карпусы келляў радавых манахаў, дапаможных і гасп. службаў. Другі, замкнёны прамавугольны двор, утваралі калідоры-галерэі, што злучалі 2-павярховыя карпусы келляў манахаў-самотнікаў з касцёлам. Келлі вылучаліся ў самастойныя жылыя ячэйкі з маленькімі ўнутранымі дворыкамі. Дэкар. аздабленне — пілястры, раскрапоўкі, глыбокія нішы, фігурныя франтоны. Касцёл — 3-нефавая базіліка з трыма гранёнымі апсідамі і гранёным тамбурам пры ўваходзе. Да сярэдняй апсіды прылягала 8-гранная шмат'ярусная вежа-званіца з купалам, якая фарміравала сілуэт ансамбля. Яна стаяла ўнутры прамавугольнага двара, прымыкала да сярэдняй апсіды касцёла і з'ялялася абарончӑй вежай з магутнымі сценамі і вузкімі вокнамі-байніцамі. Ярусы, прыстасаваныя для гармат, звязвала вітая лесвіца ў тоўшчы сцяны. Захаваліся рэшткі паўд. і зах. частак кляштара. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*У. А. Чантурыя, Т. В. Габрусь.*

**БЯРЭЗІНСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1-й пал. 19 ст. ў Беразіне на ўмацаваным бутавай падпорнай сценкай правым крутым беразе р. Бярэзіне (сучасная вул. Набярэжная, 1). Належаў Патоцкім. Мураваны, прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак накрыты вальмавым дахам. У цэнтры гал. фасада на 4 пілонах мезанін, завершаны 3-вугольным франтонам. Дом аперазаны прафіляваным карнізам з дэнтыкуламі. Цэнтр, акцэнтам дваровага фасада з'яўляецца паўкруглы эркер, які накрыты сферычным купалам і члянёны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Міжпаверхавы плоскі пояс падзяляе фасады на 2 ярусы. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены руставанымі лучковымі броўкамі. Сіметрыя будынка парушана 2-павярховай прыбудовай да паўднёвай тарцовай часткі. У калідорнай планіроўцы дома вылучаны цэнтр. вестыбюль і круглая парадная зала. Міжпаверхавая лесвіца размешчана асіметрычна ў паўночным канцы калідора. У будынку — школа. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**«БЯРЭСЦЕ»,** кліматa-бальнеалагічны санаторый у Брэсцкім р-не. Размешчаны ў хваёвым лесе на беразе воз. Рагазнянскае, паблізу воз. Белае, за 45 км ад Брэста. Комплекс пабудаваны ў 1976 (арх. Г. Чысцякоў, В. Андрэеў, Т. Андрэева). Уключае спальныя карпусы, лячэбна-дыягнастычны і культ.-масавы блокі, зону адкрытых пляцовак для спарт. гульняў і прагулак. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя комплексу ўлічвае цэласнасць архіт.



Бярэзінскі сядзібны дом.



Санаторый «Бярэсце».

ансамбля, кааперованне асобных памяшканняў і аб'ектаў, максімальнае выкарыстанне ландшафту для раскрыцця комплексу. Дамінантай з'яўляецца 12-павярховы гал. корпус, які надае ўсяму комплексу запамінальны сілуэт. У гал. корпусе 1 і 2-месныя пакоі з лоджыямі; пераходнай галерэяй з алюмінію і шкла спальныя карпусы звязаны з плавальным басейнам. Спалучэнне светлых аддзелачных матэрыялаў, белай тынкоўкі з глазураванай пліткай надае выразнасць усяму ансамблю. Для агароджы лоджый выкарыстана арміраванае шкло. У аддзелцы інтэр'ераў выкарыстаны глазураваная плітка, шклопакеты ў алюмініевых пераплётах, рэльефная гіпсавая плітка і інш.

# В

**ВАВУЛІЦКАЯ ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1737 у в. Вавулічы (Драгічынскі р-н) як уніяцкая. Перабудавана пасля 1845. Будынак складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага і 5-граннага алтарнага зрубаў, аб'яднаных агульным 2-схільным дахам, які мае 3 вальмы над апсідай і навісі ў месцы злучэння зрубаў. Над цэнтр. часткай царквы — 8-гранны барабан на пастаменце, завершаны цыбулепадобнай галоўкай. Да апсіды з У прыбудавана нізкая рызніца з аднасхільным дахам. Галоўны паўд. фасад завершаны франтонам з гонтавым прычолкам. Уваходны тамбур каркаснай канструкцыі далучаны да гал. фасада пазней. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны сцяжкамі. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. Над уваходам — хоры, якія апіраюцца на 2 слупы. З паўд.-ўсх. боку асобна ад царквы пабудавана 2-ярусная чацверыковая зрубна-каркасная званіца. Аднолькавыя па памерах чацверыкі аддзелены прычолкам і накрыты шатровым гонтавым дахам. Царква разам са званіцай складае выразны архіт. ансамбль, у якім адлюстраваны рысы мясцовага народнага дойлідства. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*


Вавуліцкая царква Раства Багародзіцы.

**ВАЛАВЕЛЬСКАЯ ЮР'ЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1766 у в. Валавель (Драгічынскі р-н) як уніяцкая. Мае рысы стылю барока. Прамавугольны асн. зруб і выцягнутая 5-гранная апсіда накрыты агульным гонтавым дахам з хвалямі над трохвугольнымі навісямі ў месцы злучэння зрубаў. На гал. фасадзе тарэц даху вырашаны як спалучэнне крывалінейнага франтона з паўвальмай і 2 чацверыковымі вежамі па баках, завершанымі 6-граннымі шыйкамі і галоўкамі над імі. Падобная галоўка прарэзвае вільчык даху над алтаром. Складаныя формы завяршэнняў маюць шматлікія заломы і выгіны. Па баках апсіды прыбудаваны сіметрычныя нізкія рызніцы, пры ўваходзе — тамбур. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя, на гал. фасадзе ў выглядзе паўцыркульных імпастаў. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю. Над уваходам трапецападобныя ў плане хоры. Каля царквы 2-ярусная чацверыковая званіца каркаснай канструкцыі, накрыта нізкім шатровым дахам. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*


Валавельская Юр'еўская царква.

**ВАЛАСАТКАЎСКАЯ КАПЛІЦА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1848 у в. Валасатка (Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.) пры дарозе Валасатка — Докшыцы. Уяўляе сабой невял. 6-граннае ў плане збудаванне з драўлянага бруса, каркаснай канструкцыі. Аснова капліцы — невысокі цокаль (зруб), устаноўлены на валунах. Нясучую каструкцыю складаюць 6 вуглавых брусоў, якія апіраюцца на цокаль, а ўверсе злучаны гарызантальнымі бэлькамі. Паміж брусамі — сцены з гарызантальных дошак з нашчыльнікамі. Завершана капліца невысокім гонтавым шатром з макаўкай, у інтэр'еры шацёр апіраецца на крыжавіну. На адной з граняў капліцы — дзвярны праём, на дзвюх процілеглых — вузкія аконныя праёмы ўверсе на шырыню грані. У інтэр'еры ўстаноўлена драўляная скульптура 18 ст. «Укрыжаванне з перадстаячымі», выкананая нар. майстрамі. У цэнтры кампазіцыі ўкрыжаваны Хрыстос, па баках ад яго Дзева Марыя і Іаан Прадцеча.

*Т. І. Чарняўская.*

**ВАЛГАГРАДСКАЯ,** адзін з першых мікрараёнаў у Мінску. Пабудаваны ў 1958—63 як эксперыментальны паміж вуліцамі Валгаградскай, Кедышка, Кнорына, Талбўхіна паводле праекта, распрацаванага на аснове праведзенага ў рэспубліцы конкурсу (арх. Г. Парсаданаў, Г. Булдаў, П. Громаў, М. Кудзінаў, В. Ладыгіна, Г. Раманенка, Ю. Шпіт). Аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю жылой забудовы ствараюць групы 4—5-павярховых буйнаблочных і буйнапанельных дамоў, якія прымыкаюць да вуліц, што абмяжоўваюць тэр. мікрараёна. У цэнтры зялёны масіў (мікраённы сад), з якім злучаюцца ўчасткі школ і дашкольных устаноў. 2-па-


Схема планіроўкі мікрараёна па вуліцы Валгаградскай у Мінску.

вярховыя прадпрыемствы гандлю і быт. абслугоўвання размешчаны ўздоўж вул. Валгаградскай. У 1966 па вул. Талбухіна пабудаваны 9-павярховыя жылыя дамы з прадпрыемствамі абслугоўвання (гл. *Талбухіна вуліца*). Буд-ва мікрараёна дало магчымасць эксперыментальна праверыць індустрыяльныя метады стварэння буйнаблочных (з сілікатных блокаў) і буйнапанельных жылых дамоў, асобных грамадскіх будынкаў розных тыпаў, функцыянальныя і канструкцыйныя вырашэнні, прынцыпы арганізацыі жылой тэрыторыі, яе добраўпарадкавання і азелянення, укараніць у горадабудаўнічую практыку прагрэсіўныя метады планіроўкі. Недахопамі першых тыпавых серый праектаў з'яўляюцца аднастайнасць і спрошчанасць забудовы, недастатковая камфартабельнасць жылля. У канцы 1980-х гадоў распрацаваны праекты рэканструкцыі жылых дамоў і вядуцца работы па іх ажыццяўленню. *В. І. Анікін.*



Валеўская Петрапаўлаўская царква.

**ВАЛЕЎСКАЯ ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1685 у в. Валеўка (Навагрудскі р-н) як Троіцкі касцёл кляштара дамініканцаў па фундацыі брэсцкага ваяводы Стэфана Курча. Будынак меў рысы стылю барока. З 19 ст. праваслаўная царква; у 1840-я гады перабудаваны галоўны фасад (зняты вежы), у 1870-я гады над цэнтр. часткай зроблена галоўка. У 1930-я гады да асн. аб'ёму прыбудавана трох'ярусная чацверыковая званіца каркаснай канструкцыі, што значна змяніла выгляд помніка. Першапачатковую аснову будынка складаюць квадратны ў плане асн. аб'ём, 5-гранная алтарная апсіда і прамавугольны бабінец з 2 чацверыковымі аб'ёмамі па баках гал. фасада, якія накрыты агульным шматсхільным гонтавым дахам. Да апсіды прымыкаюць квадратныя ў плане сакрысціі з самастойнымі дахамі. Раней галоўны фасад завяршаўся 2 чацверыковымі вежамі з галоўкамі і франтонам з трохпралётнай аркадай званіцы ў тымпане. Пасля перабудоў франтон набыў трохвугольны ламаны абрыс і гарызантальную шалёўку. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Аконныя праёмы з лучковымі арачнымі завяршэннямі. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю. Над бабінцам хоры. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*

**ВАЛОЖЫН,** горад, цэнтр Валожынскага р-на, на р. Валожынка. За 75 км ад Мінска. Па дакументах вядомы з 14 ст. З 16 ст. ў Навагрудскім ваяводстве. Горадам валодалі Слушкі, якія заснавалі тут бернардзінскі кляштар і пры ім школу (1681), потым Радзівілы, Чартарыйскія, Тышкевічы. З 1793 у Ашмянскім пав. У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. З 1939 у складзе БССР, з 1940 цэнтр раёна. У 1962—65 у Маладзечанскім р-не. Структура сучаснага горада сфарміравалася ў канцы 18 — пач. 19 ст. ў выніку рэканструкцыі пад уплывам класіцызму, пры якой выкарыстана рэгулярная геаметрычная схема планіроўкі з сеткай дробных прамавугольных кварталаў. Гал. планіровачная вось — вул. Савецкая (старая дарога з Мінска ў Вільню), якая перасякае горад з У на З. У яе сярэдняй частцы, на высокім узгорку, які крута спускаецца да ракі, утворана гал. плошча Свабоды — гіст. і сучасны цэнтр горада. З Пд яе замыкае палацава-паркавы комплекс (гл. *Валожынскі палац*), з У — касцёл з брамай-званіцай (гл. *Валожынскі касцёл святога Юзафа*). У паўн. частцы ў 1806 пабудавана сінагога. Цэнтр. частка горада забудоўваецца 3—5-павярховымі жылымі дамамі. У паўн.-зах. частцы па вул. Савецкай помнік драўлянага дойлідства — царква (1866). Паводле генплана 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана захаванне існуючай планіровачнай структуры з функцыянальным заніраваннем тэрыторыі, развіццё грамадскага цэнтра ўздоўж вул. Савецкай у бок паўн.-зах. часткі горада, буд-ва жылых шматпавярховых дамоў на зах. і ўсх. яго ўскраінах. *В. Я. Токарава, У. А. Чантурыя.*

**ВАЛОЖЫНСКІ КАСЦЁЛ СВЯТОГА ЮЗАФА.** 1) Драўляны касцёл пабудаваны ў 1690 у комплексе з кляштарам бернардзінцаў, заснаваным Слушкамі ў 1681. Меў рысы стылю барока. 1-нефавы прамавугольны ў плане будынак, завершаны 2-схільным дахам, з прыбудаваным да яго гранёным алтарным зрубам з вальмавым пакрыццём. Сцены знадворку былі ўмацаваны лапаткамі, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Цэнтр даху завяршаў барочны цыбулепадобны купал на светлавым васьмерыку, гал. фасад меў шчыт складанай формы. Перад гал. уваходам у храм — паўкруглы ў плане цвінтар, агароджаны драўлянай абарончай сцяной з 2 вежамі (званіца і брама). Згарэў у 1815. 2) У 1816 пабудаваны мураваны касцёл у стылі класіцызму. У 1864 перабудаваны пад царкву. Манументальны цагляны прамавугольны ў плане будынак, завершаны 2-схільным дахам. На гал. фасадзе — порцік дарычнага ордэра з 6 пастаўленымі на кубічныя цокалі калонамі і 3-вугольным франтонам, 4 нішы, завершаныя конхамі (раней у іх стаялі скульптуры еван-



Валожынскі касцёл святога Юзафа.



**Валожынскі палац.** З малюнка Н. Орды.

гелістаў). Сцены знадворку падзелены на 2 часткі: ніжнюю цокальную, аздобленую рустам, і верхнюю з высокімі прамавугольнымі вокнамі, абрамленымі плоскімі ліштвамі і завершанымі 3-вугольнымі франтонамі. Па ўсім перыметры будынка праходзіць антаблемент, які ўключае фрыз з трыгліфамі і карніз на дэнтыкулах. Першапачатковы інтэр'ер не збярогся. З Пд ад касцёла знаходзіцца брама-званіца — 3-пралётная арачная канструкцыя на высокім цокалі, афармленая на гал. фасадзе 4-калонным порцікам дарычнага ордэра. Помнік рэспубліканскага значэння.

**ВАЛОЖЫНСКІ ПАЛАЦ**, помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1806 у Валожыне, на ўзвышаным беразе р. Валожынка. Фундатар і ўладальнік граф Ю. Тышкевіч. Архітэктар А. Касакоўскі. Уваходзіў у ансамбль колішняй Рыначнай плошчы. Палацавы комплекс арганізаваны па традыцыйнай схеме: 1-павярховы мураваны палац, бакавыя флігелі (афіцына і аранжарэя) утвараюць прамавугольны парадны двор. Палац, накрыты 2-схільным вальмавым дахам са сферычным купалам у цэнтры, мае сіметрычную кампазіцыю. Франтальныя фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі вокнамі, у цэнтры вылучаны рызалітамі з 3-вугольнымі франтонамі і завершаны развітым антаблементам. У дэкоры выкарыстаны прафіляваныя сандрыкі, пілястры. Да ўвахода вядзе вял. каменная лесвіца. Гал. месца ва ўнутранай калідорнай планіроўцы адводзілася 2-светлавой параднай («паляўнічай») зале 2-га паверха. Флігелі — прамавугольныя ў плане 1-павярховыя будынкі з калідорнай планіроўкай, іх цэнтр. часткі з мансардамі вылучаны 4-калоннымі дарычнымі порцікамі. Будынкі пастаўлены на высокім цокальным паверсе, апрацаваным рустам. Перад палацам быў разбіты рэгулярны парк, які спускаўся да ракі. Выкарыстоўваецца як адм. будынак. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*



**Валожынскі палац.**

**ВАЛЫНЕЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ.** Знаходзіўся ў фальварку Забелы (сучасная в. Валынцы Верхнядзвінскага р-на). Створаны па заказу абата Рэгінальда Ленартовіча. Буд-ва распачата майстрам Лаўбе ў 1749 пад кіраўніцтвам аўтара праекта арх. Я. К. Глаўбіца. У 1756 касцёл асвечаны, у 1764—66 надбудаваны вежы; у 1756—59 узведзены 2-павярховы корпус кляштара пад вальмавым дахам, аб'яднаны з касцёлам галерэяй. Буд-ва кляштара пачата пад кіраўніцтвам арх. Я. Вішнеўскага, закончана арх. Ядлкоўскім. Тэрыторыя архіт. комплексу абнесена мураванай агароджай з брамай перад касцёлам. Комплекс вядомы па акварэлі мастака Н. Орды 1875—76. 2-вежавы гал. фасад касцёла і скруглены нізкі прытвор мелі багатую пластыку: выцанчаныя слаістыя пілястры, выгнутыя тонкапрафіляваныя карнізы, арачныя нішы. У дэкоры шырока выкарыстаны ракайльныя вазы, прафіляваныя ліштвы арачных акон, філёнгі. Паміж вежамі гал. фасада фігурны шчыт, такія ж шчыты завяршалі алтарны аб'ём касцёла і цэнтр. рызаліт кляштара. У 1759 і 1764—66 віленскімі майстрамі зроблена дэкар. апрацоўка інтэр'ера, пабудаваны алтары. Дынаміка ўнутранай прасторы дасягалася гал. алтаром і 10 бакавымі алтарамі. Пры кляштары ў 1786—1811 існавала калегія, дзейнічаў школьны тэатр. Касцёл значна пашкоджаны ў гады Вял. Айч. вайны, зруйнаваны ў канцы 1940-х гадоў. *А. М. Кулагін.*

**ВАРАНЧАНСКАЯ СЯДЗІБА.** Створана ў 2-й пал. 18 ст. ў в. Варонча (Карэліцкі р-н). У комплекс уваходзілі два палацы, касцёл, скарбніца, флігелі, гасп. пабудовы, невял. парк. Першы палац быў пабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. Прамавугольны ў плане 1-павярховы драўляны будынак на каменным падмурку быў завершаны высокім 2-ярусным вальмавым дахам. Меў рысы стыляў позняга барока і класіцызму. Сцены знадворку былі гарызантальна ашаляваны. Рытм фасадаў ствараўся прамавугольнымі акон-

нымі праёмамі і пілястрамі ў прасценках. Кампазіцыя заснавана на кантрасце сцен і пластычнага даху, ніжняя частка якога была дэкарыравана круглымі люкарнамі. Уваходы ў парадную і жылую часткі былі вылучаны двума 4-калоннымі порцікамі з мансардамі над імі, накрытымі 2-схільнымі дахамі. Не збярогся. Другі палац пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы. У 1898 перабудаваны пад бровар. Неаднаразова перабудоўваўся ў 1940 — 70-я гады. Мае асобныя рысы неаготыкі. Асіметрычны ў плане 2-павярховы будынак франтальнай кампазіцыі. Складаецца з некалькіх рознавялікіх квадратных і прамавугольных памяшканняў. Асноўны кампазіцыйны акцэнт — цэнтр. больш высокая частка з мезанінам і шчытом на гал. фасадзе. Прамавугольныя і арачныя праёмы аздоблены цаглянымі аблямоўкамі. Касцёл — мураваная 3-нефавая базіліка. Меў рысы стыляў позняга барока і ампіру. Гал. фасад з 6-калонным порцікам, завершаным антаблементам, быў фланкіраваны двума 3-яруснымі вежамі з 3-вугольным франтонам паміж імі. Збярогся часткова. Скарбніца — 1-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак з паўвальмавым гонтавым дахам. Вокны прамавугольныя, дэкарыраваны шырокімі руставанымі лапаткамі. Сцены па вуглах умацаваны контрфорсамі. Цэнтр. частка была вылучана рызалітам, завершаным 3-вугольным франтонам з паўцыркульным акном у тымпане і квадратнай у плане гадзіннікавай вежай над дахам, увянчанай шпілем на прыступкавым пастаменце.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ВАРАНЧАНСКІ КАСЦЁЛ ГАННЫ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1773 у в. Варонча (Карэліцкі р-н). Трохнефавы 2-вежавы безапсідны храм. Дамінуюць 2 трох'ярусныя вежы з паўцыркульнымі праёмамі (завяршэнне не захавалася). Гал. фасад вылучаны дарычным порцікам з 3-чвэртнымі калонамі, аздоблены рустам, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, бакавыя фасады — стральчатымі, бакавыя паўкруглыя прыбудовы — лучковымі і круглымі. У інтэр'еры часткова зберагліся цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі. У алтарнай частцы — насценная размалёўка. Не дзейнічае.

*А. Ю. Пятросава.*

**ВАРНЯНСКІ АРХІТЭКТУРНЫ АНСАМБЛЬ,** помнік горадабудаўніцтва барока. Сфарміраваўся ў 1760—70-я гады ў в. Варняны (Астравецкі р-н). Арганізаваны па рэгулярнай планіровачнай схеме вакол вял. выцягнутай прамавугольнай у плане плошчы. Дамінанта ансамбля — Георгіеўскі касцёл, які замыкае плошчу з усх. боку. Два фланкіруючыя дамы (дом аптэкара і плябанія) ствараюць перад касцёлам раскрыты на плошчу курданёр з акруглай па абрысу агароджай. На зах. баку плошчы быў палацава-паркавы комплекс (не збярогся). Паўд. і паўн. бакі плошчы фарміруюць 2 рады тыпавой жылой забудовы, аб'яднанай у адзіны фронт каменнымі прасценкамі з арачнымі праездамі. У забудову ўваходзілі карчма і гандлёвыя рады. Георгіеўскі касцёл пабудаваны ў 1767—69 у стылі позняга барока (дабудаваны ў 1880, 1909). Фундатарка — уладальніца Варнян М. Абрамовіч, архітэктар — А. Казакоўскі. 2-вежавы 1-нефавы мураваны храм з трансептам. Архіт. пластыка (прафіляваныя цягі, ліштвы, вязкі пілястраў, раскрапоўкі, фігурныя завяршэнні вежаў і шчыта) сканцэнтравана на гал. фасадзе. Бакавыя фасады расчлянёны арачнымі вокнамі і падвойнымі пілястрамі ў прасценках. Унутры неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках. Над уваходам хоры з крывалінейным парапетам. Касцёл не дзейнічае. Мураваныя 2-павярховыя плябанія і дом аптэкара (1770) — прамавугольныя ў плане будынкі з высокімі вальмавымі дахамі. Фасады рытмічна расчлянёны шырокімі лапаткамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Планіроўка анфіладная з вестыбюлем і лес-



**Валынецкі касцёл і кляштар дамініканцаў.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.



**Варанчанская сядзіба.** З гравюры 19 ст.





**Варнянскі архітэктурны ансамбль.** Георгіеўскі касцёл.



**Варнянскі архітэктурны ансамбль.** Від на касцёл, дом аптэкара і плябанію. Генеральны план цэнтра ў 18 ст.: 1 — палац; 2 — флігелі; 3 — вежа-альтанка на востраве; 4 — касцёл; 5 — карчма і крамы; 6 — жылыя дамы; 7 — дом аптэкара; 8 — плябанія.

віцай у цэнтры. Памяшканні першых паверхаў перакрыты крыжовымі скляпеннямі. На 2 падоўжаных баках плошчы размяшчаліся па 8 аднатыпных драўляных 1-павярховых жылых дамоў, накрытых вальмавымі дахамі (зберагліся часткова). Мураваныя сцены іх фасадаў, злучаныя паміж сабой арачнымі праездамі, утваралі суцэльны фронт вулічнай забудовы. У палацава-паркавы комплекс, створаны ў 2-й пал. 18—1-й пал. 19 ст., уваходзілі 2-павярховы мураваны палац, 2 сіметрычныя драўляныя флігелі, якія ўтваралі паўадкрыты двор, і парк з вадаёмам. Тэрыторыя парку аддзялялася ад плошчы мураванай агароджай з брамай, ад яе да касцёла вяла ліпавая алея. У парку засталіся асобныя гасп. пабудовы (млын, свірны), неагатычная вежа (пач. 20 ст.) на востраве, якія звязаны з паркам драўляным мастком. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ВАРОНСКІ ГЕОРГІЕЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў в. Варона (Астравецкі р-н) у сярэдзіне 18 ст. Будынак прамавугольны ў плане, накрыты высокім 2-схільным дахам. З паўн.-ус. боку да касцёла прымыкае квадратная ў плане сакрысція (пабудавана ў канцы 19 — пач. 20 ст.). Гал. фасад касцёла завершаны 3-ярусным атыкавым франтонам. Ніжні прамавугольны ярус з'яўляецца асновай фігурнага шчыта і вежачкі, якія ўзвышаюцца над вільчыкам даху. Плоскасць гал. фасада прарэзана лучковым уваходным праёмам і невял. прамавугольным акном у ніжнім ярусе франтона. Бакавыя сцены расчлянёны пілонамі, вырашанымі накшталт контрфорсаў, вуглы будынка апрацаваны шырокімі пілястрамі. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю. Сцены расчлянёны пілястрамі, над імі — фрэскавыя выявы апосталаў. У алтарнай сцяне невял. ніша і фрэскавая выява перспектыўнага алтара з калона-



**Варнянскі архітэктурны ансамбль.** З малюнка Н. Орды.



**Варонскі Георгіеўскі касцёл.**

мі іанічнага ордэра, антаблементам і конхай над ім. Размалёўка столі імітуе купал. Пры ўваходзе — хоры. Драўляная агароджа хораў размалявана (нішы з разеткамі). Касцёл у дрэнным стане, патрабуе рамонту і рэстаўрацыі. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Міцянін.*

**ВАСІЛІШКАЎСКІ КАСЦЁЛ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1769 з цэглы па вул. Савецкай у цэнтры в. Васілішкі (Шчучынскі р-н) пры кляштары базыльян. У 1832 пераасвечаны пад царкву, з 1919 — зноў касцёл. 3-нефавая базіліка з паўкруглай апсідай і сакрысціяй з паўд. боку. Архіт.— пластычны акцэнт — на гал. зах. фа-



**Васілішкаўскі касцёл Іаана Хрысціцеля.**

садзе, фланкіраваным 3-яруснымі вежамі (чацвёрты ярус з фігурным шлемам разабраны ў 1832) з паўцыркульным шчытом паміж імі. Пластыка ствараецца ўвагнутасцю і акругласцю граняў вежаў, слаістымі лапаткамі, пілястрамі з валютамі ў аснаванні, плаўна выгнутымі цягамі і карнізамі, прамавугольнымі філёнгамі. Сіметрычна-восевая трохчасткавая кампазіцыя фасада падкрэслена лучковымі ўваходнымі і аконнымі праёмамі, нішамі, круглымі люкарнамі. Бакавыя фасады маюць лучковыя праёмы і расчлянёны плоскімі лапаткамі. Касцёл накрыты 2-схільным дахам, скругленым над апсідай. Асн. памяшканне 6-стоўпнага храма перакрыта плоскай бэлечнай столлю (замест страчаных скляпеністых перакрыццяў). У цэнтр. неф шырокай аркай адкрываецца галерэя хораў з увагнутапукатым парапетам. Мастацкі эфект дэкар. вырашэння інтэр'ера заснаваны на кантрасце яго плоскаснай архітэктуры і каларыстычна насы-



**Васілішкаўскі касцёл Іаана Хрысціцеля.** Інтэр'ер.

чаных і пластычна вырашаных алтароў (галоўны, 2 бакавыя, 4 кулісныя). Алтары выкананы ў стылі ракако ў тэхніцы стука пад ружовы і блакітны мармур, упрыгожаны пазалочанай лепкай — ракайлі, валюты, пуці, дэкар. вазы, мудрагелістыя спляценні S-падобных завіткоў. Перад касцёлам — мураваная 3-арачная брама, абрыс якой адпавядае пластыцы яго гал. фасада. Касцёл дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**ВАЎКАВЫСК**, горад, цэнтр Ваўкавыскага р-на, на р. Рось, пры ўпадзенні ў яе р. Ваўкавыя. За 98 км ад Гродна. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252. Планіровачная першаснова горада — стараж. дзядзінец круглай формы (Шведская гара; гл. *Ваўкавыскія замкі*). У 1-й пал. 12 ст. набыў рысы горада, меў гандл. сувязі з Прыдняпроўем і Валынню. У час раскопак 1956—58 знойдзены рэшткі царквы канца 12 ст. (адносіцца да *Гродзенскай школы дойлідства).* З пач. 14 ст. ў складзе Вял. кн. Літоўскага. З 1507 цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. З 1795 у складзе Расіі, цэнтр павета. У 1-й пал. 19 ст. пабудаваны *Ваўкавыскі Вацлаваўскі касцёл.* У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета Беластоцкага ваяводства. З 1939 у складзе БССР, з 1940 цэнтр раёна. З 1963 горад абл. падпарадкавання. Гістарычна склаліся 2 падзеленыя чыгункай часткі В.— паўночная і паўднёвая. Цэнтр кампазіцыі — пл. Леніна (грамадскі



**Ваўкавыск.** Аляксандраўская вуліца. Канец 19 ст.

цэнтр горада на месцы гіст. цэнтра). Ад плошчы разыходзяцца вуліцы Леніна (былая Шырокая), Першамайская, Панковай, Савецкая (былая Слонімская). Яны разам з вуліцамі Сацыялістычнай (тут вядзецца асн. жыллёвае буд-ва горада — мікрараёны з 5—9-павярховымі жылымі дамамі), Жолудзева, Гарбунова, Баграціёна з *Ваўкавыскім сядзібным домам*, К. Маркса, Кутузава ўтвараюць архіт.-планіровачную структуру цэнтр. часткі горада. Паводле генплана 1978 (БелНДІП горадабудаўніцтва) прадугледжваецца развіццё горада, грамадскага цэнтра ў паўн. і зах. напрамках з вылучэннем 4 жылых (цэнтр., зах., усх., паўд.) і 3 прамысл. раёнаў, стварэнне зоны адпачынку са штучнымі вадаёмамі на р. Ваўкавыя. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*С. Л. Смірнова.*

**ВАЎКАВЫСКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА**, помнік архітэктуры позняга класіцызму з элементамі псеўдарускага стылю. Пабудавана ў 1874 з цэглы ў цэнтры горада (вул. Леніна). 8-гранны асн. аб'ём з прамавугольнай апсідай і прытворам. На гал. фасадзе — 2-ярусная вежа-званіца, першы яе ярус прамавугольны ў плане, другі — 8-гранны, накрыты шатром. Гал. ўваход вылучаны кілепадобным франтонам. Асн. аб'ём мае паўцыркульныя вокны з кілепадобнымі сандрыкамі, прытвор і апсіда — прамавугольныя з ліштвамі, завершаны шырокім карнізам і фрызам з арачным поясам. Цэнтр. грань апсіды фланкіравана пілястрамі, завершана 3-вугольным франтонам і дэкарыравана арачнай нішай у цэнтры. Інтэр'ер зальны, перакрыцце драўлянае, плоскае. У храме драўляны 2-ярусны іканастас, дэкарыраваны накладной разьбой, пакрыты пазалотай. Царква дзейнічае.

*Т. І. Чарняўская.*

**ВАЎКАВЫСКІ ВАЦЛАЎСКІ КАСЦЁЛ**, помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1846—48 у г. Ваўкавыск. Тэрыторыя абнесена агароджай з бутавага каменю і металічнай рашоткі. Гал. ўваход вылучаны 3-пралётнай мураванай брамай. Храм у плане прамавугольнай формы. Усходняя частка з прамавугольнай апсідай і 2 сакрысціямі. У заходняй частцы абапал гал. ўвахода — 2 невял. памяшканні, над якімі размешчаны хоры. Гал. (заходні) фасад 2-вежавы. Цэнтр. яго частка вылучана 4 пілястрамі, бакавыя вырашаны як асновы аднаярусных 4-гранных вежаў, фланкіраваны пілястрамі і завершаны трыгліфным фрызам і карнізам з сухарыкамі. Паміж вежамі атык крывалінейнага абрысу. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны пілястрамі і дэкарыраваны арачнымі паяскамі, якія абрамляюць паўцыркульныя аконныя праёмы. У інтэр'еры 2 рады калон (па 3 у кожным) утвараюць 3 нефы (бакавыя ў 2 разы вузейшыя за цэнтральны). Перакрыцце бэлечнае, над апсідай — цыліндрычнае скляпенне з распалубкай. Пры ўваходзе 2 невял. памяшканні, пад якімі размешчаны хоры. Цэнтр. алтар вылучаны 4 калонкамі і дэкарыраваны скульптурай (св. Пётр і Павел, 19 ст., дрэва), ляпным арнаментам і размалёўкай. 2 бакавыя алтары па канструкцыйным вырашэнні паўтараюць цэнтральны, які аздоблены вітражамі.

*В. В. Церашчатава, Т. І. Чарняўская.*



Ваўкавыская Мікалаеўская царква.



Ваўкавыскі Вацлаваўскі касцёл.



Ваўкавыскі Вацлаваўскі касцёл. Інтэр'ер.

лекс горада. Узнік у 2-й пал. 10 ст. на высокім (28—32,5 м), круглым у плане ўзвышшы (дыяметр у аснове каля 350 м, памеры пляцоўкі паселішча 55×50 м). Першапачаткова быў умацаваны драўлянымі сценамі. У канцы 10 ст. па знешнім перыметры насыпаны кальцавы вал (выш. больш за 5 м) з праездам у паўд. частцы. Вал унутры быў умацаваны драўлянымі канструкцыямі, знешнія схілы — глінай. Сярод жылых будынкаў — паўзямлянкі слупавой і зрубнай канструкцыі і наземныя зрубныя дамы з печамі-каменкамі ўнутры. У пач. 14 ст. комплекс страціў сваё стратэгічнае значэнне і быў пакінуты. Замчышча — цэнтр стараж. Ваўкавыска. Узнікла ў канцы 10 ст. на З ад Шведскай гары на трапецаідальным у плане ўзвышшы памерам 81×123 м (перыметр у аснове 510 м). У пач. 12 ст. ўмацавана валам (рэканструяваны ў 2-й пал. 13 — пач. 14 ст., выш. да 5 м). Было забудавана паўзямлян-



Ваўкавыскі сядзібны дом.



Ваўкавыскія замкі. Гарадзішча Шведская гара.

**ВАЎКАВЫСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ**, Дом Баграціёна, помнік сядзібнай архітэктуры пач. 19 ст. Пабудаваны ў 1805 на ўскраіне Ваўкавыска (сучасная вул. Баграціёна). Аднапавярховы прамавугольны ў плане драўляны будынак накрыты высокім вальмавым дахам. Цэнтр. частка з мезанінам вылучана 4-калонным мураваным порцікам з выгнутым крывалінейным франтонам. Над уваходам у межах порціка — балкон, на які выходзяць памяшканні мезаніна. Фасады атынкаваныя. Планіроўка анфіладная, у цэнтры — вестыбюль з лесвіцай. У пач. 19 ст. ў будынку размяшчалася штаб-кватэра 2-й Зах. арміі пад камандаваннем Баграціёна, у 2-й пал. 19 ст. — гарадскі шпіталь, потым прытулак для састарэлых; у пач. 20 ст. належаў прыватным уладальнікам. Часткова разбураны ў перыяд 2-й сусветнай вайны. З 1949 у будынку размешчаны Ваўкавыскі ваенна-гіст. музей імя. П. І. Баграціёна (засн. ў 1935 як краязнаўчы, у Айч. вайну разрабаваны, у 1948 адноўлены). Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**ВАЎКАВЫСКІЯ ЗАМКІ**, тры ўмацаваныя паселішчы, якія існавалі на тэр. Ваўкавыска ў 10—14 стагоддзях. Шведская гара — найбольш стараж. абарончы комп-

камі і наземнымі дамамі (апошнія з 12 ст. пераважалі) зрубнай канструкцыі, прамавугольнымі і квадратнымі ў плане (даўж. да 5—6 м), з печамі-каменкамі ўнутры. Паўзямлянкі заглыбляліся ў зямлю на 0,1—1 м, мелі прыступкі каля ўвахода; некаторыя дамы звонку абмазваліся глінай. У 12 ст. закладзены мураваны храм (зроблены толькі падмуркі, нарыхтавана для будаўніцтва плінфа, некаторыя цаглінымелі рэльефныя знакі, таксама ад-

шліфаваныя па фасаднай паверхні камяні розных колераў і маёлікавыя пліткі для аздаблення сцен. Паводле канструкцыі падмуркаў і формы плана намячалася будаўніцтва 6-слуповага 3-нефавага крыжова-купальнага храма з паўкруглай апсідай і квадратнай у плане вежай з ПдЗ. Збудаванне адносіцца да *Гродзенскай школы дойлідства.* У 2-й пал. 14 ст. паселішча на замчышчы перастала існаваць. Муравельня — авальнае ў плане ўмацаванне (60×120 м) на забалочанай мясцовасці, за 0,5 км ад Шведскай гары. Паселішча ўзнікла на рубяжы 10—11 стагоддзяў, было абкружана па перыметры валам з праездам у паўд.-зах. частцы. Забудаваны перыферыйныя часткі (пераважна каля валоў) паўзямлянкамі зрубнай канструкцыі. Пры раскопках замкаў знойдзены маст. вырабы: прадметы ювелірнай вытворчасці, арнаментаваныя керамічныя вырабы, фігуркі з рогу і косці, вырабы з каменю. *Я. Г. Звяруга.*

**ВЕЙНАЎСКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА**, помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудавана ў 1-й пал. 19 ст. ў в. Вейна (Магілёўскі р-н). Цэнтрычны, блізкі ў плане да квадрата будынак са скругленымі вугламі. У сілуэце дамінуе цыліндрычны барабан са сферычным купалам. Вуглавыя часткі гал. фасада завершаны круглымі ў сячэнні вежамі з купальнымі пакрыццямі. Фасады вырашаны плоскасна, прарэзаны ў скругленых вуглавых частках аб'яднанымі па вертыкалі прамавугольнымі і квадратнымі аконнымі праёмамі. Бакавыя ўваходы вылучаны рызалітамі, завершанымі 3-вугольнымі франтонамі. Уваходныя прамавугольныя праёмы заглыблены ў прамавугольныя нішы, аформлены калонамі, завершаны стральчатымі люкарнамі. Да гал. ўвахода прыбудаваны вял. драўляны прытвор. Інтэр'ер раскрыты ў падкупальную прастору барабана, асветленую 4 буйнымі круглымі люкарнамі. Складаная скляпеністая канструкцыя перакрыцця трымаецца на 4 буйных слупах, аб'яднаных са сценавымі пілястрамі падпружнымі аркамі. У дэкоры выкарыстана фрэскавая размалёўка ў стылі класіцызму. У прасценках светлавога барабана ў медальёнах размешчаны выявы 4 евангелістаў, ніжэй — у абрамленнях 4 шматфігурныя кампазіцыі на біблейскія сюжэты. Малюнак выразны, выкананы колераценявой мадэліроўкай. Каларыстычная гама цёплая, мяккая, прыглушаных пастэльных таноў. Размаляваны таксама скляпенні, сцены апсіды (падноўлены ў 19 ст.). Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін, В. В. Церашчатава.*



Вейнаўская Пакроўская царква.

**ВЕЛЯМІЦКАЯ ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА**, помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1881 у пас. Велямічы (Столінскі р-н) на месцы царквы 1724. Квадратны ў плане асн. аб'ём, бабінец і 5-гранная алтарная апсіда з 2 невял. рызніцамі абапал алтара ўтвараюць 3-зрубную глыбінна-прасторавую кампазіцыю. Асн. аб'ём пры дапамозе ветразяў пераходзіць у 2-ярусны верх (васьмярык на чацверыку), апсіда і бабінец увянчаны 8-траннымі вярхамі з гранёнымі барочнымі купалкамі складанай формы. У 1888 да асн. аб'ёму далучаны бакавыя прыбудовы з васьмерыковымі вярхамі. У выніку царква атрымала 5-купальную крыжова-цэнтрычную кампазіцыю. Сцены вертыкальна ашаляваны, умацаваны лапаткамі, вокны прамавугольныя (у апсідзе ў форме крыжа). З боку гал. фасада 3 тамбуры ўваходаў у бабінец і бакавыя прыбудовы накрыты 2-схільнымі дахамі з франтонамі. Цэнтр. месца ў інтэр'еры займае гал. 3-ярусны аб'ём, злучаны шырокімі праёмамі з 2-ярусным бабінцам, апсідай і бакавымі прыбудовамі. Царква адлюстравала традыцыі мясцовай школы дойлідства барочнага кірунку канца 18 ст. ў 2-й пал. 19 ст. Помнік рэспубліканскага значэння. Царква дзейнічае. *Ю. А. Якімовіч.*

**ВЕРХНЯДЗВІНСК** (да 25.12.1962 Дрыса), горад, цэнтр Верхнядзвінскага р-на, у сутоку Зах. Дзвіны і Дрысы. В. (летапісныя назвы Дрысь, Дриза, Дриса) узнік як ваеннае ўмацаванне полацкіх князёў. У Вял. кн. Літоўскім уваходзіў у Полацкае ваяводства. У 1386 спалены Андрэем Полацкім. З 16 ст. гандл. цэнтр на Зах. Дзвіне. У 1563—82 заняты войскамі Івана Грознага. З 1772 у складзе Расіі, цэнтр павета. У 1797 было 1310 жыхароў, у 1897—4238. З 1924 цэнтр Дрысенскага, з 1962 Верхнядзвінскага р-наў. Прамавугольная сетка вуліц, што склалася ў 16—17 стагоддзях, пакладзена ў аснову праектаў планіроўкі 1778 і 1838. Гал. кампазіцыйная вось сучаснага горада — вул. Савецкая. У паўд. частцы вуліцы забудоўваецца мікрараён з 5-павярховымі жылымі дамамі, паблізу створаны гарадскі парк. Грамадскі цэнтр сфар-

міраваўся на плошчы Юбілейнай і бліжэйшых да яе ўчастках вул. Савецкай і Ленінградскай. Побач з прамысл. прадпрыемствамі (Пн, ПнУ) пабудаваны групы 2—3-павярховых жылых дамоў. Помнікі архітэктуры 19—20 ст.— *Верхнядзвінская Мікалаеўская царква,* касцёл бернардзінцаў, б. жылы дом (вул. Савецкая, 43). Паводле генплана 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжаны развіццё горада на Пн і У, стварэнне на Пн прамыслова-складской зоны. Гал. воссю стане р. Дрыса. *Г. Ф. Пальчэўская.*

**ВЕРХНЯДЗВІНСКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 1819 з цэглы ў г. Верхнядзвінск. Храм падоўжна-восевай 4-частка-вай кампазіцыі: званіца, трапезная, асн. аб'ём, апсіда. Квадратны ў плане асн. аб'ём завершаны высокім буйнамаштабным цыліндрычным барабанам са сферычным купалам і галоўкай у завяршэнні. У сілуэце храма дамінуе 3-ярусная чацверыковая званіца з шатровым пакрыццём. Плоскасныя фасады расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі, крапаваны вуглавымі лапаткамі і апяразаны прафіляваным карнізам. Стрыманы архіт. дэкор абмежаваны простымі ліштвамі акон і сандрыкамі з замковым каменем, поясам сухарыкаў на барабане, балюстраднай нішай званіцы. У інтэр'еры пануе падкупальная прастора светлавога барабана ветразевай апорнай канструкцыі. Скляпеністая трапезная і апсіда з конхай расчынены ў залу шырокімі арачнымі прасветамі. Інтэр'ер быў аздоблены арнаментальнай размалёўкай (не захаваўся). Царква дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**ВЕРЦЯЛІШКІ,** вёска ў Гродзенскім р-не. Цэнтр сельсавета і калгаса-камбіната «Прагрэс». За 13 км ад Гродна. Вядомы з 14 ст. як фамільны маёнтак гродзенскага кашталяна Давыда Гарадзенскага. Мяркуюць, што маёнтак быў разбураны крыжакамі ў 1324. В. ўпамінаюцца ў 1506. Паводле пісьма князя Аляксандра, у 1559 у В. каралевай Бонай быў абсталяваны каралеўскі двор. У 1588 у складзе гродзенскай эканоміі. У 1-й пал. 19 ст. В. былі валоданнем паноў Свечыных. У канцы 1830-х гадоў меркавалася перабудаваць, а потым і пабудаваць новую драўляную царкву. Да сярэдзіны 1850-х гадоў была пабудавана асн. частка новай каменнай царквы. У 2-й пал. 19 ст. В. валодаў пан Біспінг. У гэты час існавала каталіцкая капліца. Сучасныя В.— адзін з буйных у рэспубліцы добраўпарадкаваных аграрна-прамысл. пасёлкаў. Забудоўваецца паводле генплана 1967 (БелНДІПдзіпрасельбуд; карэкціроўка 1980, арх. В. Емяльянаў, Г. Заборскі і інш.). Распрацоўка праекта і забудова вёскі адзначаны Дзярж. прэміяй СССР 1971, дыпломамі ВДНГ СССР (1970, 1975). Архіт.-планіровачную структуру вызнача-



**Верхнядзвінская Мікалаеўская царква.**



**Веляміцкая Ільінская царква.**



**Верцялішкі.** Фрагмент забудовы цэнтра.

юць вуліцы Маладзёжная (уздоўж шашы Гродна — Астрына) і Юбілейная (злучае цэнтр вёскі з зонай індывідуальных жылых дамоў), якія з прылеглымі да іх вуліцамі ўтвараюць некалькі невял. кварталаў. Цэнтр кампазіцыі — прамавугольная ў плане плошча на ўзгорку, раскрытая на шашу. З'яўляецца грамадска-адм. і культ.-гандл. цэнтрам вёскі. Яе ўтвараюць 2-павярховы адм. будынак, Дом культуры. Бакавая частка плошчы — гандл. цэнтр, які складаецца з 3 блокаў: 2-павярховага (магазіны, сталовая-рэстаран), 1-павярховага (Дом быту) і 3-павярховага (гасцініца на 15 месцаў). Ансамбль цэнтра завяршае эксперыментальны 4-павярховы 16-кватэрны 1-секцыйны жылы дом для маладых спецыялістаў. Упрыгожваюць плошчу дэкар. вадаём з фантанам і танцавальная пляцоўка з эстрадай, кветнікі, газоны. З ПнУ да яе прымыкае парк з азяленёнымі ўчасткамі, 2-павярховы фельчарскі пункт з кватэрамі для медыцынскага персаналу на 2-м паверсе, дзіцячы камбінат, музычная школа. Вёска забудавана 4 тыпамі дамоў: 2-павярховымі 4- і 8-кватэрнымі (вул. Маладзёжная, прасторавы эфект вуліцы стварае чаргаванне 8-кватэрных дамоў і размешчаных у азяленёных курданёрах 4-кватэрных), 1—2-кватэрнымі дамамі з кватэрамі ў 2 узроўнях з прыкватэрнымі ўчасткамі (вул. Юбілейная), 2-павярховымі 4- і 8-кватэрнымі з асобнымі ўваходамі, а таксама секцыйнымі 8-кватэрнымі палепшанай планіроўкі. Сілуэт забудовы, яе рытмічнасць дасягаюцца ўключэннем у кампазіцыю жылых груп 4—5-павярховых жылых дамоў. Пры добраўпарадкаванні шырока выкарыстаны малыя архіт. формы, веранды, тэрасы, групы дэкар. дрэў, адкрытыя лужкі, алеі ніцых вербаў, газоны, кветнікі і інш. Усе грамадскія і жылыя будынкі выкананы па эксперыментальных і палепшаных тыпавых праектах. Вытворчая зона (дапаможныя прадпрыемствы па вытворчасці мэблі, жалезабетонных вырабаў, маст.-дэкар. элементаў) размешчана ў паўн.-зах. частцы. Паводле генплана 1988 (арх. Емяльянаў, Т. Галіёта) прадугледжана развіццё вёскі (да 10 тыс. ж.) на новым участку — з процілеглага боку дарогі Гродна — Астрына.

*Ю. Ю. Гардзееў, В. Н. Емяльянаў.*

**ВЕТКА**, горад, цэнтр Веткаўскага р-на. За 22 км ад Гомеля, на левым беразе р. Сож. Заснавана ў 1682 як слабада ў Вял. кн. Літоўскім рускімі старaверамі, якія ўцякалі сюды ад праследаванняў царскіх улад. У 1695 — цэнтр стараввераў. Належала памешчыкам Халецкім. З 1772 у складзе Расійскай імперыі, з 1784 мястэчка Беліцкага, з 1852 Гомельскага павета ў Магілёўскай губ. У 1880 — 6 тыс. жыхароў, 11 мураваных і 994 драўляныя будынкі, у 1897 — 7,2 тыс. жыхароў. З 1919 у Гомельскай губ. РСФСР, з 1925 горад, з 1926 у БССР, цэнтр раёна. У 1926—25 у Гомельскім р-не. В.— цэнтр мастацкага рамяства раёна, у 1978 створаны Веткаўскі Дзяржаўны музей народнай творчасці. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Леніна, Пралетарская (гал. вось), Савецкая, Інтэрнацыянальная, Чапаева, Луначарскага, Батракова, якія разам з інш. вуліцамі ўтвараюць невял. кварталы. У цэнтры горада (забудаваны 2—5-павярховымі жылымі дамамі) паміж вуліцамі Леніна і Пралетарскай утварылася Чырвоная пл. са скверам — адм.-грамадскі і культ.-гандл. цэнтр. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Для знадворнага дэкарыравання жылых дамоў шырока выкарыстоўваецца разьба па дрэве, т. зв. Веткаўская разьба. Яна вядома з 17—18 стагоддзяў, спалучае рус. і мясцовыя бел. традыцыі нар. архіт. дэкору, вызначаецца павышанай дэкаратыўнасцю, шматпланавасцю кампазіцыі, у якой пераважаюць стылізаваныя раслінныя матывы. Зона адпачынку гараджан — парк і берагі р. Сож. Паводле генплана 1974 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё горада ў паўн. і паўд. напрамках, гал. стане вул. Інтэрнацыянальная і яе працяг вул. Кастрычніцкая. *В. М. Кашырын.*

**ВІДЗАЛАЎЧЫНСКАЯ СЯДЗІБА**, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Ансамбль склаўся ў канцы 18 — пач. 19 ст. ў в. Відзы Лаўчынскія (Браслаўскі р-н) на беразе воз. Дворнае. Належала Ваўжэцкім (1775—1804), Мінейкам (1804—1930-я гады). Кампазіцыйны цэнтр — 1-павярховы драўляны сядзібны дом, пастаўлены на мураваны цокальны паверх і накрыты вальмавым дахам. Цэнтр. частка з мансардай вылучана на гал. атынкаваным фасадзе 4-калонным драўляным порцікам з 3-вугольным франтонам, на дваровым фасадзе — мураванай арачнай галерэяй, раскрапаванай падвойнымі пілястрамі і завершанай атыкам. Прамавугольныя вокны аздоблены ліштвамі. Планіроўка анфіладна-калідорная, у цэнтры размешчана прамавугольная зала з выхадам на галерэю. Пад будынкам знаходзяцца падвалы. Перад домам парадны прамавугольны партэр, да якога з У прымыкае аддзелены агароджай з брамай гасп. двор з мураванымі будынкамі, з З — невял. парк пейзажнага тыпу (пл. каля 5 га). У сядзібным доме размешчана школа. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**ВІДЗАЎСКАЯ ЦАРКВА**, помнік архітэктуры мадэрна. Пабудавана ў



Ветка. Фасад дома.



Відзалаўчынская сядзіба. Сядзібны дом.

1910 з цэглы ў г. п. Відзы (Браслаўскі р-н). Прамавугольны ў плане будынак з 5-граннай апсідай. Вільчык 2-схільнага даху над гал. фасадам завершаны 3-яруснай (васьмярык на 2 чацверыках) званіцай з цыбулепадобным купалам; над алтарнай часткай — драўляны 8-гранны барабан з цыбулепадобнай галоўкай. Гал. фасад завершаны 2-гранным шчытом, вылучаны па цэнтры высокім уваходным парталам, дэкарыраваны бакавымі лучковымі нішамі з выявамі праваслаўных крыжоў. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны лучковымі вокнамі і лапаткамі ў прасценках. Архіт. дэкор выкананы сродкамі фігурнай цаглянай муроўкі — пластычныя ліштвы акон з лучковымі броўкамі, крыжовыя нішы на лапатках, прафіляваныя карнізы, падаконныя філёнгі. Царква дзейнічае.

*А. М. Кулагін.*



Відзаўскі Троіцкі касцёл.



Відзаўская царква.

**ВІДЗАЎСКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1914 з чырвонай цэглы ў г. п. Відзы (Браслаўскі р-н). У канцы 1915 лінія фронту паміж рус. і ням. войскамі некалькі гадоў была побач з Відзамі. У выніку баявых дзеянняў касцёл быў пашкоджаны, адноўлены ў 1920-я гады. У памяць аб падзеях 1-й сусветнай вайны ў сцены касцёла ў некалькіх месцах умураваны снарады. Мураваны 3-нефавы храм з трансептам і гранёнай алтарнай апсідай, абапал якой 2 сакрысціі. Сцены звонку ўмацаваны контрфорсамі.



**Відзы.** Агульны выгляд. Здымак канца 1960-х гадоў.

вокны спічастыя. 2-вежавы гал. фасад з 3-вугольным франтонам завершаны высокімі зубцамі. Такія ж франтоны ўпрыгожваюць тарцы трансептаў. Гал. ўваход вылучае перспектыўны партал з вімпергам і круглым акном-ружай над ім. Вежы на гал. фасадзе (выш. 59 м) завершаны вострымі васьміграннымі шатрамі і значна ўзвышаюцца над астатнімі аб'ёмамі. Касцёл адзін з самых высокіх на Беларусі. У інтэр'еры калоны і пілястры складанага профілю пераходзяць у высокія падпружныя спічастыя аркі скляпенняў, што надае яму маналітнасць, узмацняе дынаміку. У 1940-я гады касцёл закрыты, у 1960—70-я гады тут размяшчалася Відзаўскае СПТВ, у 1989 перададзены веруючым. Помнік рэспубліканскага значэння.
*А. Ю. Пятросава, К. С. Шыдлоўскі.*

**ВІДЗЫ,** гарадскі пасёлак у Браслаўскім р-не. За 40 км ад Браслава. Вядомы з сярэдзіны 15 ст. З 1481 прыватнае ўладанне, з 1524 частка зямель належала віленскаму ваяводу А. Гаштольду, мястэчкам В. ён валодаў разам з магнатам Нарушэвічам, з 1629 Відзы сталі ўладаннем Пацаў, з 1675 — віленскага біскупа. У 16—19 стагоддзях уваходзілі ў склад Браслаўскага пав. Віленскага ваяводства. З 1794 — цэнтр Браслаўскага павета, з 1843 — заштатны горад Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ. У 1890 у горадзе 6417 жыхароў. У 1-ю сусветную вайну амаль поўнасцю разбураны. У 1921—39 заштатны горад Віленскага ваяводства. З 1939 у складзе БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З 1960 у Браслаўскім р-не. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Леніна, Чырвонаармейская, Браслаўская, Кірава. На вул. Леніна размешчаны грамадска-адм. і гандл.-культ. цэнтр. Пераважае 1-павярховая жылая забудова сядзібнага тыпу з дробнымі кварталамі. На былой цэнтр. плошчы (цяпер ператворана ў сквер) захаваліся фрагменты гіст. забудовы — 2-павярховыя мураваныя жылыя дамы пач. 20 ст., *Відзаўскі Троіцкі касцёл,* непадалёку стаяць *Відзаўская царква,* млын. Генпланам 1975 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё пасёлка ў існуючых межах за кошт павелічэння шчыльнасці забудовы і ўзвядзення шматпавярховых будынкаў, з захаваннем гістарычнай планіроўкі.
*В. С. Жаўняк.*

**ВІЛЕЙКА,** горад, цэнтр Вілейскага р-на на р. Вілія. Вядома з 1599 як мястэчка, цэнтр Вілейскага староства ў Ашмянскім пав. З 1795 цэнтр павета. У 1897—3560 жыхароў, 2 навучальныя ўстановы, шпіталь. У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета. З 1939 у БССР, з 1940 цэнтр Вілейскай вобл., з 1944 горад абл. падпарадкавання. У канцы 18 ст. тэрыторыя В. ў плане нагадвала трохвугольнік, адметных будынкаў і ўмацаванняў не было. У 19 ст. набыла стройнасць забудовы, роўныя вуліцы дзялілі горад на невял. кварталы, у цэнтры быў разбіты парк. У кампазіцыйным і планіровачным вырашэнні В. захавала прамавугольную планіроўку 19 ст. Архіт.-планіровачную структуру сучаснага горада фарміруюць вуліцы 17 Верасня, Першамайская, Вадапьянава, якія ўтвараюць прамавугольную сетку дробных кварталаў сядзібнай, пераважна драўлянай забудовы. Якасны ўзровень пабудоў, азеляненне і добраўпарадкаванне вуліц ствараюць своеасаблівы камерны інтэр'ер невял. горада, утульнае гарадское асяроддзе. Адм.-грамадскі і культурны цэнтр — прамавугольная ў плане пл. Леніна. Яе асн. вышыннымі дамінантамі з'яўляюцца *Вілейскі Крыжаўзвіжанскі касцёл* (у ім у 1988—89 быў Дом мастацтваў імя Н. Ю. Сілівановіча) і *Вілейская царква* — помнікі архітэктуры 19—20 стагоддзяў. У зах. частцы будуюцца шматпавярховыя дамы, на Пн і З фарміруецца індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Зберагліся помнікі архітэктуры 19 — пач. 20 ст.: будынкі гімназіі, турмы, бальніцы, жылы дом па вул. Чырвонаармейскай, 28. Паводле генплана 1979 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё горада ў паўд. напрамку ўздоўж р. Вілія, рэканструкцыя і забудова цэнтр. часткі 3—6-павярховымі жылымі дамамі з захаваннем існуючай сеткі вуліц, стварэнне на левабярэжжы буйнога шматпавярховага жылога раёна.
*М. І. Пракалей.*

**ВІЛЕЙСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 1916 з цэглы ў г. Вілейка. Храм падоўжна-восевай 4-часткавай кампазіцыі: званіца, трапезная, асн. аб'ём з бакавымі прыдзеламі, паўкруглая апсіда. 4-схільны дах асн. аб'ёму завершаны пяцігалоўем. Цыбулепадобнай галоўкай завершаны і 8-гранны шацёр 2-яруснай званіцы (чацвярык на прамавугольным прытворы). Гал. ўваход вырашаны лучковым праёмам з круглым акном над ім. Атынкаваныя сцены расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі (падвоенымі ў прыдзелах) і лапаткамі. У дэкоры выкарыстаны формы старажытнарускага дойлідства (бочкападобнае перакрыцце прыдзелаў, кілепадобныя ліштвы акон, аркатура, парэбрык, філёнгі). У залу храма, перакрытую плоскай столлю, арачнымі прасветамі расчыняюцца апсіда з конхай і вузкія памяшканні трапезнай і прыдзелаў. У прытворы авальныя памяшканні прасвірні і дзякоўскай з лесвіцай на званіцу. Царква дзейнічае. Іл. гл. таксама ў арт. *Вілейка.*
*А. М. Кулагін.*

**ВІЛЕЙСКІ КРЫЖАЎЗВІЖАНСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры пач. 20 ст. Пабудаваны ў г. Вілейка ў 1906—13 паводле праекта арх. Аўгуста Клейна. Спалучае рысы раманскай і гатычнай архітэктуры. Мураваная 3-нефавая базіліка з развітым трансептам і 5-граннай апсідай. Мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Аб'ёмы



**Вілейка.** Плошча Леніна.

ўскладнены ступеньчатымі гатычнымі контрфорсамі (выконваюць дэкар. функцыю), «падрэзкай» невысокім руставаным цокалем з шэрага абчасанага каменю. Дамінантай кампазіцыі з'яўляецца вежа. Яе 4 бакі завершаны 3-вугольнымі шчытамі з круглымі і стральчатымі аконнымі праёмамі, вуглы фланкіраваны маленькімі іголчастымі вежачкамі. Пяціграння апсіда прарэзана паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, па баках мае асіметрычныя прыбудовы. Тарцы трансепта завершаны высокімі 3-вугольнымі франтонамі са стральчатымі нішамі і здвоенымі аконнымі праёмамі. Усе дэкар. элементы фасада — прафіляваныя цягі, карнізы, раскрапоўкі — выкананы з лякальнай цэглы. Партал вылучаны шматслойнымі арачкамі. У інтэр'еры паверхні сцен, арак, скляпенняў размаляваны пад мазаічныя арабескі. У 1988—89 пасля рэстаўрацыі (арх. Л. Паўлава) выкарыстоўваўся як Дом мастацтваў імя. Н. Ю. Сілівановіча. У 1990 перададзены рэлігійнаму таварыству рымска-каталіцкай царквы. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. ў арт. *Вілейка.*

**ВІСТЫЦКАЯ КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры сталага барока. Пабудавана ў 1678 у в. Вістычы (Брэсцкі р-н) як касцёл цыстэрцыянцаў па фундацыі Тышкевічаў. З 1866 праваслаўная Крыжаўзвіжанская царква. Трохнефавая базіліка з паўцыркульным апсідным завяршэннем цэнтр. нефа. Бакавыя нефы абапал віма алтара завершаны прамавугольнымі сакрысціямі. Нартэкс з бакавымі памяшканнямі вырашаны больш шырокім за базіліку, таму гал. фасад выступае за межы бакавых нефаў і трактаваны як шырма для ўсёй кампазіцыі храма. Сіметрычны бязвежавы фасад падзелены развітым антаблементам на ніжнюю частку і атыкавы франтон з валютамі. Вось сіметрыі вызначана ўваходным



Вілейская царква.



Вістыцкая Крыжаўзвіжанская царква.

арачным парталам, акном над ім, нішай і люнетай у тымпане франтона. У дэкар. аздабленні фасада выкарыстаны падвойныя паўкалоны, раскрапаваныя прафіляваныя цягі, плоскія нішы разнастайных форм. Сцены бакавых фасадаў апрацаваны падвойнымі пілястрамі, вокны вырашаны ў выглядзе паўцыркульных імпастаў. У інтэр'еры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі скляпеннямі. Пры ўваходзе — хоры, куды вядуць вітыя ўсходы ў тоўшчы сцяны. Перад касцёлам пастаўлена 2-ярусная драўляная чацверыковая званіца, накрытая пакатым шатром. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*

**ВІЦЕБСК,** горад, цэнтр Віцебскай вобл., порт на Зах. Дзвіне пры ўпадзенні ў яе Віцьбы і Лучосы. В. (летапісны Видбеск, Видебск, Витепеск, Витьбеск) названы ад р. Віцьба, на беразе якой узнік. Як паселішча крывічоў існаваў з 9 ст. Паводле рукапісу Міхаіла Панцырнага (1760), В. заснаваны ў 974. Першаасновай горада было гарадзішча (Замкавая гара) на высокім узгорку, вакол якога ў 9 — пач. 10 ст. ўзніклі 3 паселішчы. У 10—13 стагоддзях горад фарміраваўся паводле прынцыпаў старажытнарускага горадабудаўніцтва: уяўляў сабой умацаваны замак (дзядзінец), да якога далучаўся навакольны горад (пасад). У 12 ст. цэнтр Віцебскага княства. Са збудаваннямў таго часу вядомы гасціны двор, *Віцебская Благавешчанская царква.* У 2-й пал. 13 — пач. 14 ст. планіровачная структура В. складалася з 2 умацаваных замкаў: Верхні (б. дзядзінец) і Ніжні (б. пасад), да якіх далучаліся неўмацаваныя слабоды — Узгорская (Пн), Заручаўская (Пд), Задунаўская (У), Задзвінская (З). З пач. 16 ст. Узгорская слабада была абкружана драўлянымі сценамі, пераўтварылася ў трэці замак — Узгорскі. Кожны замак меў замкнёную планіровачную структуру са сваім кампазіцыйным цэнтрам, усе 3 замкі былі цесна звязаны паміж сабой (гл. *Віцебскія замкі).* Уяўленне аб планіроўцы і забудове горада дае унікальны графічны дакумент — «Чарцёж» 1664. Сярод будынкаў 17 ст. вядомы *Віцебскі гасціны двор, Віцебская Святадухаўская царква, Віцебская Міхайлаўская царква, Віцебская Сімяонаўская царква, Віцебская Спаса-Праабражэнская царква, Віцебская Увядзенская царква, Віцебскі палац Агінскага* і інш. У драўляным грамадзянскім і культавым дойлідстве сфарміравалася *Віцебская школа дойлідства.* Рэгулярныя планы для В. распрацоўваліся ў канцы 18 — пач. 19 ст., да канца 19 ст. былі часткова рэалізаваны. Планіровачна горад падзяляўся на 3 часткі: Узгорскую (паміж Зах. Дзвіной і Віцьбай), Заручаўскую (паміж Віцьбай і Ручаём), Задзвінскую (на процілеглым правым беразе Зах. Дзвіны). Сфарміраваўся развіты грамадскі цэнтр горада, які складаўся з 2 плошчаў: Рыначнай і Саборнай (гл. арт. *Віцебскія плошчы).* У ансамбль Саборнай пл. ўваходзілі касцёл і калегіум езуітаў, *Віцебскага акруговага суда будынак.* Рыначную пл. фарміравалі *Віцебская ратуша,* Васкрасенская царква, *Віцебскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.* На высокім беразе Зах. Дзвіны ў стылі класіцызму пабудаваны Віцебскі палац губернатара. У розных частках горада знаходзіліся *Віцебская Мікалаеўская царква, Віцебская Троіцкая царква, Віцебская Успенская царква і манастыр базыльян, Віцебская Казанская царква, Віцебскі Варварынскі касцёл.*

З пракладкай лініі чыгункі была створана Прывакзальная пл., дзе ўзведзены будынак чыгуначнага вакзала (1866) і пракладзена новая Вакзальная вул. (сучасная вул. Кірава), якая падыходзіла да моста (першапачаткова драўляны, з 1867 — мураваны) цераз Зах. Дзвіну і звязала левабярэжную і правабярэжную часткі горада. У 1897 пабудавана электрастанцыя, у 1898 у цэнтры пракладзены 2 лініі трамвая на электрычнай цязе (першы на Беларусі). Новая жылая забудова ўзнікала за лініяй чыгункі, што значна пашырыла Задзвінскую частку. У горадзе былі ўзведзены будынкі чыгуналіцейных майстэрняў (1877), фабрык тытунёвай (1878), акулярнай (1892), кардоннай (1898), ільнопрадзільнай «Дзвіна» (1900, пабудаваная Бельгійскім акцыянерным таварыствам у слабадзе Маркаўшчына). У 1890 быў распрацаваны новы праектны план В. (пад кіраўніцтвам гал. арх. горада Ц. В. Кібардзіна). Сярод грамадскіх будынкаў вылучаліся: Мужчынская гімназія (1880, разбурана ў 1975), *Віцебскага жаночага епархіяльнага вучылішча будынак, Віцебскага пазямельна-сялянскага банка будынак, Віцебскага духоўнага вучылішча будынак.* У цэнтр. частцы горада ў 1912 пастаўлены *Віцебскі помнік героям Айчыннай вайны 1812.*

Першы генплан рэканструкцыі В., распрацаваны ў 1938 (Дзіпраград УССР пад кіраўніцтвам арх. А. Касьянава), вызначыў перспектывы далейшага развіцця горада з улікам яго гіст. асаблівасцей. З пач. 1930-х гадоў вядзецца комплекснае мураванае будаўніцтва — ствараюцца жылыя пасёлкі каля буйных прамысл. прадпрыемстваў (пас. Пралетарская слабада — б. Маркаўшчына, каля ф-кі імя «КІМ» па вул. Горкага). На гал. магістралях горада ўзведзены 4-павярховыя жылыя дамы камунальнага тыпу



«Чарцёж» Віцебска 1664.



**Віцебск.** Від горада. З акварэлі Ю. Пешкі. 1-я палавіна 19 ст.



**Віцебск.** Выгляд з боку р. Віцьба.

дзе ў адным будынку аб'ядноўваліся жылыя і грамадскія памяшканні. Для вядучых спецыялістаў горада пабудаваны *Віцебскі жылы дом спецыялістаў, Віцебскі дом-камуна* — пошук новага ў адносінах тыпу жылля. Новым тыпам грамадскіх будынкаў з'явіўся *Віцебскі клуб металістаў.* У 1-я пасляваенныя дзесяцігоддзі горад аднаўляўся і развіваўся па генпланах 1946 (аблпраект, г. Харкаў), яго карэкціроўкі 1956 (Віцебскі філіял ін-та «Белдзяржпраект»), новым генплане 1966 («Віцебскграмадзянпраект»). Былі адноўлены і ўзведзены новыя прамысл. прадпрыемствы (станкабудаўнічы з-д імя Кірава, ф-кі панчошна-трыкатажная імя «КІМ», абутковая «Чырвоны Кастрычнік», швейная «Сцяг індустрыялізацыі», хлебазавод, маслазавод, дывановы камбінат, дрэваапрацоўчы камбінат і інш.). Праводзілася рэканструкцыя гарадскога цэнтра — вул. Кірава з Прывакзальнай пл.; вул. Леніна з плошчамі Леніна, Свабоды, Перамогі. У гэты перыяд узведзены: *Віцебскі чыгуначны вакзал,* гасцініца «Дзвіна» (арх. В. Ладыгіна, Я. Заслаўскі), Палац культуры на пл. Леніна (арх. А. Ефрамянак), *Беларускага Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра будынак,* Усх. прамысл. вузел на пр. Фрунзе і інш. У 1970—80-я гады развіццё горада ажыццяўлялася па генпланам 1975 і 1982 (Мінскі філіял ЦНДІгорадабудаўніцтва). Архіт.-планіровачную структуру фарміруюць 7 планіровачных раёнаў. Асноўным раёнам жылога буд-ва з'яўляецца Паўднёва-Усходні (з 1980 узводзяцца 5—9—12-павярховыя жылыя дамы і грамадскія будынкі ў мікрараёнах Поўдзень-1, Поўдзень-2, Поўдзень-3 і інш.). У 1974 завершаны ансамбль *Перамогі плошчы*, створана пл. Тысячагоддзя Віцебска (б. Тэатральная). У 1970—80-я гады ўзведзены жылыя дамы: 16-павярховы (арх. У. Зубкоў, З. Конаш) з кінатэатрам «Беларусь», 9-павярховы з магазінам «Дзіцячы мір», 10-павярховы з рэстаранам «Аўрора» (арх. А. Бельскі, А. Расейкін), 8—9-павярховы (арх. З. Озерава, Г. Махмутаў) і 5-павярховы 500-кватэрны (арх. Махмутаў, П. Панамароў), 14-павярховы (арх. В. Данілаў, З. Даўгяла) па Маскоўскім праспекце. Сярод грамадскіх будынкаў: новыя карпусы інстытутаў — медыцынскага (арх. Данілаў), педагагічнага (арх. Зубкоў, Конаш), ветэрынарнага (арх. А. Грачышнікаў), 12-павярховая гасцініца «*Віцебск*», корпус праектна-канструктарскага бюро АСУ (арх. Махмутаў, Л. Ільінаў), будынак філіяла «Белдзяржпраекта» (арх. Бельскі, Данілаў), 17-павярховы інтэрнат абутковай ф-кі «Чырвоны Кастрычнік» (арх. Грачышнікаў), Палац культуры прафсаюзаў (арх. В. Кірылаў, Бельскі), комплекс вышынных будынкаў інтэрнатаў па праспекце Перамогі (арх. А. Асяненка, В. Лукомскі), кінатэатр «Брыганціна» і летні амфітэатр (арх. В. Бабашкін) і інш. У комплекс грамадскага цэнтра ўваходзіць парк



**Віцебск.** Кіраўскі мост цераз Заходнюю Дзвіну.

імя М. В. Фрунзе на берагах р. Віцьба (арх. М. Жлабо, Л. Кузняцова, Л. Нардштэйн). Цераз Віцьбу ўзведзены пешаходныя новыя масты (Пушкінскі, Баўманскі, Юбілейны), цераз Зах. Дзвіну — транспартныя (Блахіна і Новы Мост). У цэнтр. частцы захавалася гіст. планіроўка 16—17 стагоддзяў, мураваная забудова і асобныя помнікі гісторыі і архітэктуры 18 — пач. 20 ст. (гл. арт. *Віцебскі гістарычны цэнтр*). Іл. гл. таксама ў нарысе.

*Т. І. Чарняўская.*

**«ВІЦЕБСК»**, гасцініца ў Віцебску. Пабудавана ў 1973 (арх. В. Данілаў, З. Даўгяла), разлічана на 500 месцаў. Вышынная дамінанта плошчы 1000-годдзя. 12-павярховы лаканічны па архітэктуры корпус гал. фасадам арыентаваны ў бок р. Зах. Дзвіна, вузкім тарцовым выходзіць на вул. Замкавую. Сцены 1-га і 2-га паверхаў — з бетонных блокаў і цэглы, 3—12-га — з цэглы. На гал. фасадзе шырокія палосы аконных праёмаў рытмічна чаргуюцца з палосамі прасценкаў, аб'яднаны вертыкальнымі рэбрамі на вышыню 10 паверхаў. Суцэльнае зашкленне 1-га і 2-га паверхаў надае будынку лёгкасць. 10 паверхаў маюць аднатыпную планіроўку з цэнтр. ліфтавым холам і 2-баковым калідорам, абапал якога размешчаны жылыя пакоі.

*В. І. Анікін.*

**ВІЦЕБСКАГА АКРУГОВАГА СУДА БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1883 (арх. І. Камінскі) у гіст. цэнтры горада (сучасная вул. Леніна, 32). Разам з *Віцебскай Мікалаеўскай царквой* завяршаў кампазіцыю Сабornай пл. (сучасная пл. Свабоды). 2-павярховы П-падобны асіметрычны ў плане будынак вызначаецца манументальнасцю і маштабнасцю формаў. Планіроўка калідорная з 2-баковым размяшчэннем памяшканняў. Пры гал. уваходзе вестыбюль з парадншай лесвіцай. Арыентаваны на плошчу фасад мае сіметрычную кампазіцыю, цэнтр якой вылучаны 3-павярховым рызалітам, завершаным атыкавай сценкай з трохвугольным франтонам. Пластыка фасадаў ствараецца рытмам пілястраў, дэкарыраваных ліштвамі прамавугольных аконных праёмаў 1—3-га, арачных 2-га паверхаў. Фасады на вуглах і ў рызаліце апрацаваны рустам. Інтэр'еры памяшканняў упрыгожаны багатай дэкар. аздобай (ляпныя плафоны, разеткі, карнізы, пілястры і інш.). Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. М. Чарнатаў.*



**Віцебскага акругоВага суда будынак.**




Гасцініца **«Віцебск»**.



Віцебскага духоўнага вучылішча будынак.

**ВІЦЕБСКАГА ДУХОЎНАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры неакласіцызму. Пабудаваны ў 1890 (арх. А. Каляменцьеў) на рагу вуліц Узгорскай і Ветранай (сучасныя вуліцы Суворава і Чэхава, 11/44). Мураваны 3-павярховы на цокальным паверсе Г-падобны ў плане будынак. Гал. і бакавыя фасады вылучаныя 3 рызалітамі з 3-вугольнымі франтонамі ў завяршэнні. Паверхні на фасадах размежаваны прафіляванымі паяскамі, дэкарыраваны рустыкай, канеліраванымі калонкамі, паўцыркульнымі нішамі, шырокімі лапаткамі, ляпнымі накладнымі элементамі. Планіроўка калідорная з парадным вестыбюлем і цэнтр. лесвіцай з боку гал. фасада. У 1918 у будынку знаходзіўся мастацкі тэхнікум. Цяпер у будынку размешчаны мастацка-графічны факультэт Віцебскага пед. інстытута і інш. ўстановы.

*Т. І. Чарняўская.*

**ВІЦЕБСКАГА ЖАНОЧАГА ЕПАРХІЯЛЬНАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры пач. 20 ст. Пабудаваны ў 1902 на Духаўскай узбярэжнай (сучасная вул. Гогаля, 6) паводле праекта арх. А. Паўлоўскага і П. Віаградава. Мураваны 3-павярховы Е-падобны ў плане будынак. Гал. фасад вылучаны цэнтр. рызалітам з балконам актавай залы на 2-м паверсе, які падтрымліваюць 4 слупы. Сцены аздоблены рустам, ліштвамі і завершаны развітым прафіляваным карнізам. Афарбоўка фасадаў 2-колерная. Планіроўка галерэйная. У цэнтры былі парадны вестыбюль і 3-маршавая лесвіца, на 1-м і 2-м паверхах — класы, на 3-м — спальныя пакоі, у цокальным паверсе — сталоўка і кухня. У будынку размешчаны Віцебскі аблвыканком. Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. М. Чарнатаў.*



Віцебскага жаночага епархіяльнага вучылішча будынак.



Віцебскай бальніцы будынак. Галоўны фасад. Чарцёж.

**ВІЦЕБСКАГА ПАЗЯМЕЛЬНА-СЯЛЯНСКАГА БАНКА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры мадэрна (рамантычны кірунак). Пабудаваны ў 1917 (арх. К. Тарасаў) на рагу вуліц Нікольскай і Аляксееўскай (сучасныя вуліцы Даватара і Баўмана, 7/11). Мураваны 2-павярховы Е-падобны ў плане будынак на цокальным паверсе з 3 бакоў фланкіраваны на вуглах вежамі. У дэкар. аздабленні выкарыстаны элементы псеўдарускай архітэктуры (ліштвы акон у выглядзе какошнікаў, «дынькі» і інш.). Вежа на рагу вуліц падзелена паясамі несапраўдных машыкуляў і завершана 3-ярусным шатром з галоўкай. Гал. ўваход вылучаны кілепадобным франтонам з мазаічным маёлікавым пано, у цэнтры якога — герб Віцебска «Пагоня». Планіроўка калідорная. Па восі гал. фасада — прасторны вестыбюль з парадная лесвіцай. На 2-м паверсе былі службовыя памяшканні, зала пасяджэнняў, кватэра кіраўніка банка, у цокальным — гасп. памяшканні і архіў. У будынку размешчаны Віцебскі ветэрынарны ін-т. Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. М. Чарнатаў.*

**ВІЦЕБСКАЙ БАЛЬНІЦЫ БУДЫНАК.** Існаваў у 19—1-й пал. 20 ст. ў Віцебску (вул. Смаленская). Пабудаваны ў 1820 (арх. В. Стасаў) у стылі класіцызму. Мураваны 2-павярховы Т-падобны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам. На 1-м паверсе размяшчаліся аптэка, пакоі дазорца, сталовая, лазня,



Віцебскага пазямельна-сялянскага банка будынак.

на 2-м — бальнічныя палаты. Сіметрычны гал. фасад быў раскрапаваны 3 рызалітамі, цэнтр. рызаліт завершаны 3-вугольным франтонам з прамавугольным атыкам над ім. Бакавыя рызаліты мелі ў цэнтры прамавугольныя парталы, завершаныя паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Па баках ад парталаў размяшчаліся праёмы (у левым рызаліце несапраўдныя), якія мелі плоскія 3-вугольныя франтоны ў завяршэнні і паўкруглыя ў плане прыступкі ў ніжняй частцы. Цэнтр. частка гал. фасада падзелена карнізным поясам на 2 ярусы: ніжні, трактаваны як цокальны, расчляняўся невял. квадратнымі аконнымі праёмамі, завершанымі перамычкамі з клінападобнымі камянямі, 2-і ярус вылучалі высокія прамавугольныя вокны з сандрыкамі. Будынак не збярогся.

*В. Ф. Марозаў.*

**ВІЦЕБСКАЯ БЛАГАВЕШЧАНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік стараж.-рус. дойлідства. Пабудавана на левым беразе Зах. Дзвіны на месцы б. рамесніцка-гандл. пасада Ніжняга Замка ў сярэдзіне 12 ст. Першая дакладная выява помніка — на «Чарцяжы» Віцебска 1664. Спосаб разбіўкі плана і першапачатковае канструкцыйнае вырашэнне даюць падставу сцвярджаць, што царква была пабудавана балканскімі дойлідамі. У 1129 пяцёра полацкіх князёў былі сасланы ў Візантыю. Праз 10 гадоў яны вярнуліся і прывезлі з сабой балканскіх майстроў у Полацкую зямлю, дзе да таго часу ўжо пачала складвацца самастойная *Полацкая школа дойлідства.* Царква шмат разоў перабудоўвалася. У 1619, калі яна стала уніяцкай, заменены барабан, а да зах. фасада была прыбудавана званіца. У 1759 храм быў перабудаваны ў барочных формах: ён стаў 2-вежавы з сігнатурай замест барабана. У 1862 у час русіфікатарскай палітыкі царызму набыла рысы рэтраспектыўна-рускага стылю. Царква — 6-стаўповы 3-апсідны храм, узведзены з часаных блокаў вапнавага каменю. Гарызантальныя рады блокаў чаргуюцца з 2—4 радамі тонкіх плінфаў. Сцены былі замацаваны 2 радамі бярвён. Будынак меў высокі цокаль. У плане — выцягнуты па падоўжнай восі прамавугольнік, завершаны на У паўкруглай апсідай, якая мае трапецападобную віму (адзіны прыклад у стараж.-рус. дойлідстве). Меншыя бакавыя апсіды размяшчаюцца ў тоўшчы ўсх. сцяны і не выяўлены звонку. Агульныя памеры царквы 28×54 локця (1 локаць=0,40 м). Асаблівасцю планіроўкі з'яўляецца змяшчэнне гал. ўвахода адносна падоўжнай восі ў правы бок. Гэта звязана з тым, што ў левай частцы зах. сцяны была зроблена лесвіца на хоры. Каб пазбегнуць дысанансу ва ўспрыняцці ўнутранай прасторы, цэнтр. акно апсіды адсунута на такую ж адлегласць. Бакавыя фасады былі падзелены лапаткамі на амаль роўныя часткі, пры гэтым унутраныя чляненні не супадалі з вонкавымі. Да паўд. і паўн. фасадаў былі прыбудаваны невял. прытворы. Усе сцены царквы звонку былі атынкаваны і падзелены на квадры. В. Б. ц. аказала значны ўплыў на полацкае дойлідства ў 12 ст., асабліва на планіровачную схему і выкарыстанне дадатковых невял. алтароў на хорах (Спаса-Праабражэнская царква ў Полацку). Аднак прынцыпы, пакладзеныя ў аснову будаўніцтва Благавешчанскай царквы, не знайшлі развіцця ў полацкім дойлідстве і ў дойлідстве інш. рускіх зямель. Царква была багата ўпрыгожана фрэскамі, вытрыманымі ў карычнева-чырвонай, ружова-жоўтай, зялёна-блакітнай каляровай гаме.



**Віцебская Благавешчанская царква.** Здымак пачатку 20 ст.



**Віцебская Благавешчанская царква.** Здымак 1950-х гадоў.

Збераглісе: выява анёла, геаметрычны ўзор вакол праёмаў і ўздоўж сцен каля падлогі, 3 графіці, якія пакрывалі сцены царквы, на партале выявы крыжа з манаграмай Хрыста і выява воіна (захоўваецца ў Віцебскім краязнаўчым музеі). У 1962 царква разбурана, у 1977 праведзена кансервацыя яе рэштак паводле праекта спецыялізаваных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Мін-ва культуры Беларусі. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*Г. А. Лаўрэцкі.*

**ВІЦЕБСКАЯ ІЛЬЫНСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў 18(17?) — пач. 20 ст. Пабудавана з дрэва ў 1746 (паводле інш. звестак у 1643) у Віцебску. 4-зрубны храм крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі з 3 бакоў быў абкружаны галерэяй. Зрубы (тры 5-гранныя і прамавугольны ў плане бабінец) завяршалі высокія шатры з галоўкамі. Сяродкрыжжа было накрыта 4-схільным шатром з невял. прагінам кожнага схілу ўверсе і завершана 2-яруснай вежачкай з васьмерыковым барабанам і барочнымі купалкамі. Уваходы былі аформлены ганкамі. Сцены былі вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, аздоблены разным карнізам, вокны прамавугольныя, у галерэі — рамбічныя. У інтэр'еры зрубы перакрываліся самкнутымі скляпеннямі, сяродкрыжжа — 8-гранным скляпеннем, павернутым адносна шатровага пакрыцця на 22,5°. Над уваходам вузкія хоры. Побач з царквой размяшчалася 3-ярусная зрубна-каркасная званіца,



**Віцебская Ільынская царква.**

накрытая пакатым шатром. Згарэла ў 1904. *Т. В. Габрусь.*

**ВІЦЕБСКАЯ КАЗАНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры 18 ст. Пабудавана ў 1760 на правым беразе р. Зах. Дзвіна як Пакроўская царква праваслаўнага Маркавага манастыра, які існаваў тут з 15 ст. Мае рысы стылю ранняга класіцызму, у якім прасочваюцца элементы барока. У 1847 да царквы з захаду зроблена прыбудоўка — Мітрафанаўская царква. Спачатку храм быў крыжова-купальны. Да асн. прамавугольнага ў плане аб'ёму з трыма паўцыліндрычнымі апсідамі прылягае развіты прытвор. Сцены прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і раскрапаваны пілястрамі. Бакавыя часткі царквы і прытвора маюць 3-вугольныя франтоны з паўцыркульнымі праёмамі. На цэнтр. апсідзе размешчана ляпная дэкар. рама штучнага акна — бленды. Інтэр'ер царквы 2 сценамі з арачнымі праёмамі падзелены на



Віцебская Казанская царква.

3 нефы: цэнтр. завяршаецца апсідай, якая значна выступае наперад, бакавыя — невял. апсідамі. У цэнтры гал. нефа — драўляны светлавы ліхтар. Перакрыцце драўлянае, бэлечнае. *Т. І. Чарняўская.*

**ВІЦЕБСКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў Віцебску ў 2-й пал. 18 — пач. 20 ст. Пабудавана ў 1799, перабудавана ў 1853. У архітэктуры будынка спалучаліся традыцыйныя рысы культавага драўлянага дойлідства ПнЗ Беларусі і асобныя элементы архітэктуры класіцызму. Драўляны крыжова-купальны храм з 5-граннай апсідай з 2 прыбудоўкамі па баках. Над сяродкрыжжам — купал на 6-гранным барабане з вял. цыбулепадобнай галоўкай. Пры ўваходзе прамавугольны ў плане бабінец, над якім узвышалася 2-ярусная вежа-званіца, завершаная купалам са шпілем. З паўд. боку да царквы далучаўся другі аб'ём («цёплая» царква) з 3-граннай апсідай. Згарэла ў 1904.

**ВІЦЕБСКАЯ МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў 17 ст. ў Віцебску, на тэр. Верхняга замка. Складалася з 2 прамавугольных у плане асн. і алтарнага зрубаў, накрытых 2-схільнымі дахамі. Асн. зруб завяршаўся чацверыковай вежачкай з шатровым пакрыццём. Гал. фасад быў упрыгожаны невял. адкрытай галерэяй з балясавай агароджай. Выява змешчана на «Чарцяжы» Віцебска 1664.

**ВІЦЕБСКАЯ РАТУША,** помнік архітэктуры 18 ст. з элементамі позняга барока і класіцызму. Пабудавана ў Віцебску на былой Рыначнй пл. (сучасная вул. Леніна, 36). Першапачаткова, пасля атрымання горадам магдэбургскага права ў 1597, на тэр. Узгорскага замка (гл. *Віцебскія замкі*) была ўзведзена драўляная ратуша з арыентаваным на Зах. Дзвіну фасадам. За ўдзел віцебскіх мяшчан у паўстанні і забойства уніяцкага архіепіскапа І. Кунцэвіча «рашэннем камісарскага суда... ад 22 студзеня 1624 года» ратушу было загадана «зараз жа разбурыць, а замест яе дазваляем мець гасціны двор, як было і раней». Пасля вяртання гораду магдэбургскага права ў 1644 ратуша была адноўлена. Верагодна, менавіта яе выява была змешчана на «Чарцяжы» Віцебска. Прамавугольны ў плане будынак завяршаўся 4-скатным шатровым дахам, на якім знаходзілася дазорная вежа з галоўкай і шпілем. Цокальны і 1-ы паверхі, рэшткі якіх выяўлены ў падвале ратушы, былі выкананы з цэглы ў рэнесанснай муроўцы. Характар арыентацыі будынка дазваляе меркаваць, што ўцалеў фрагмент яго гал. фасада з аконнымі і дзвярнымі праёмамі 1-га паверха і цокаля. Да ратушы далучаліся *Віцебскі гасціны двор* і крамы, якія размяшчаліся па перыметры невял. гандлёвай плошчы. Будынак ратушы неаднойчы знішчалі пажары (1708, 1733, 1752). У 1775 была ўзведзена мураваная ратуша, якая стала кампазіцыйным цэнтрам Рыначнай плошчы (гл. *Віцебскія плошчы*). Пасля далучэння горада да Расійскай імперыі і скасавання магдэбургскага права ў будынку размяшчаліся паліцэйская ўправа, галоўны суд, 2-і дэпартамент, гаўптвахта, пажарны двор; з 2-й пал. 19 ст.— гарадская дума. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак, у цэнтры якога ўзвышалася 4-ярусная вежа, завершаная шатром са шпілем. Гал. фасад арыентаваны на р. Віцьбу. Архітэктурнае аблічча было вырашана ў пэўным проціпастаўленні розных частак будынка: вежы з выразнымі рысамі барока і асн. корпуса з элементамі



**Віцебская Мікалаеўская царква.** Чарцёж бакавога фасада.



**Віцебская Міхайлаўская царква.** З «Чарцяжа» Віцебска 1664.



Віцебская ратуша.

дэкору, характэрнага класіцызму. У канцы 18 — пач. 19 ст. з боку тарцовых фасадаў да ратушы былі прыбудаваны 2 мураваныя 2-павярховыя з крамамі на 1-м паверсе жылыя дамы, якія ўтварылі ўнутраны дворык. У 1873—75 праведзена значная ўнутраная перапланіроўка, звязаная з перамяшчэннем гарадской думы на 2-і паверх і паліцэйскай управы на 1-ы. У 1883 на вежы ўстаноўлены гадзіннік, замест шатровага даху была ўзведзена вежа-ратонда. У 1911 над ратушай надбудаваны 3-і паверх, у выніку чаго быў закрыты ніжні ярус вежы, парушыліся прапорцыі і будынак набыў пэўную масіўнасць. Да гал. ўвахода прыбудаваны тамбур. Будынак неаднойчы перабудоўваўся і рэстаўрыраваўся (1913, 1944, 1970-я і 1980-я гады). Пад час перабудоў вокны 2-га і 3-га паверхаў набылі паўцыркульныя завяршэнні. Зараз гэта 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак, над якім у цэнтры гал. фасада ўзвышаецца 3-ярусная вежа. Тарцовыя фасады завершаны 3-вугольнымі шчытамі з 2 вокнамі-люкарнамі. Сцяна гал. фасада дэкарыравана пілястрамі на вышыню двух паверхаў, паміж 2-м і 3-м паверхамі — прафіляваны карніз (18 ст.). Новыя элементы дэкору, выкарыстаныя ў афармленні корпуса, у пэўнай ступені пераклікаюцца з дэкорам вежы (верагодна, гэта было зроблена з мэтай зрокавага памяншэння масіўнасці шляхам дапасавання архіт. дэталей абедзвюх частак будынка). Тамбур у цэнтры гал. фасада вылучаны 2 паўкалонкамі і завершаны атыкам. На 2-м паверсе сіметрычна размешчаны 2 балконы з ажурнай металічнай агароджай. Ярусы вежы маюць крывалінейныя абрысы, падзелены прафіляванымі карнізамі. У інтэр'еры па ярусах вежы праходзяць вітыя ўсходы, якія вядуць да вежы-ратонды. У будынку размешчаны Віцебскі абл. краязнаўчы музей. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*Т. І. Чарняўская, І. М. Чарняўскі.*

**ВІЦЕБСКАЯ СВЯТАДУХАЎСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў Віцебску ў 16—17 стагоддзях на тэр. Заручаўскай слабады. Складаны па кампазіцыі мураваны будынак, увянчаны 5 шатровымі вярхамі з галоўкамі на светлавых барабанах. Бабінец унутры чляніўся на 2 ярусы: у верхнім размяшчаліся хоры,якія з боку гал. фасада асвятляліся вокнамі — 3 высокімі прамавугольнымі і 1 круглым. Вядома паводле «Чарцяжа» Віцебска 1664.



**Віцебская Святадухаўская царква.** З «Чарцяжа» Віцебска 1664.

**ВІЦЕБСКАЯ СІМЯОНАЎСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў 17 ст. ў Віцебску ў Задзвінскай слабадзе. 2-зрубны драўляны будынак складаўся з прамавугольнага ў плане асн. аб'ёму і алтарнай часткі, завершаных 2-схільнымі дахамі. Цэнтр асн. аб'ёму быў увянчаны высокай складанай па форме купальнай вежачкай з дэкар. крыжам. Вядома паводле «Чарцяжа» Віцебска 1664.



**Віцебская Сімяонаўская царква.** З «Чарцяжа» Віцебска 1664.

**ВІЦЕБСКАЯ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў 17 ст. ў Віцебску на тэр. Узгорскага замка. Пабудавана з дрэва ў традыцыі *Віцебскай школы дойлідства.* Драўляная пабудова складалася з высокіх прамавугольных у плане асн. аб'ёму і гранёнай апсіды, накрытых 2-схільнымі дахамі, і 3-яруснай званіцы (2 ніжнія ярусы чацверыковыя, верхні з высокімі вузкімі вокнамі ўвянчаны васьмерыковым купалам). Асн. аб'ём завяршаўся галоўкай на высокім барабане. Фасады расчляняліся высока размешчанымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Вядома паводле «Чарцяжа» Віцебска 1664.

**ВІЦЕБСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** Маркава манастыра. Існавала ў Віцебску ў 17 — пач. 20 ст. Пабудавана з дрэва ў 1691 на правым беразе Зах. Дзвіны ў традыцыях *Віцебскай школы дойлідства.* Пастаўлена на фундаменце крыжовага



**Віцебская Спаса-Праабражэнская царква.** З «Чарцяжа» Віцебска 1664.



**Віцебская Троіцкая царква** Маркава манастыра. Малюнак.

драўлянага храма (засн. ў 1633), знішчанага пажарам. Царква 4-зрубная, крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі, тры зрубы 5-гранныя, заходні прамавугольны ў плане, паміж крыламі трансепта і алтарным зрубам — шматгранныя рызніцы. Зрубы і сяродкрыжжа былі перакрыты самкнутымі купаламі і накрыты невысокімі шатрамі з галоўкамі. Увесь будынак абкружаўся вялікай абходнай галерэяй на разьбяных слупках з ганкам пры ўваходзе, накрытым шатровым дахам. Сцены былі вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны падвойныя, з паўцыркульнымі завяршэннямі. У інтэр'еры вузкія хоры размяшчаліся па перыметры зруба бабінца і пераходзілі ў крылы трансепта. Знесена ў 1920-я гады.

*Т. В. Габрусь.*

**ВІЦЕБСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** на Пескаватыку. Існавала ў Віцебску ў 18 — пач. 20 ст. Пабудавана з дрэва ў 1761 па фундацыі Тадэвуша Агінскага на месцы старой царквы, вядомай па інвентарам з 1618. Належала цэху цаніннікаў. Вырашана ў традыцыях *Віцебскай школы дойлідства.* 5-зрубны храм крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі. Цэнтральны 8-гранны зруб быў завершаны светлавым васьмерыком і накрыты пакатым шатром, які пераходзіў у невял. купалок з галоўкай, 4 прамавугольныя ў плане зрубы, арыентаваныя па баках свету, былі накрыты 2-схільнымі дахамі з 3-вугольнымі франтонамі на тарцах. Да царквы прылягалі вял. шматгранная ў плане абходная галерэя, 2-ярусная званіца з пакатым шатром пры ўваходзе (з З) і невял. прыбудовы рызніц па баках алтарнага зруба (з У). Сцены былі вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Знесена ў 1920-я гады.

*Т. В. Габрусь.*



**Віцебская Увядзенская царква.** З «Чарцяжа» Віцебска 1664.

**ВІЦЕБСКАЯ УВЯДЗЕНСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў 17 ст. ў Віцебску на тэр. Узгорскага замка. У збудаванні адлюстраваны традыцыі *Віцебскай школы дойлідства.* Драўляная пабудова складалася з 3 аб'ёмаў: 2-яруснага цэнтральнага чацверыковага, завершанага 4-схільным дахам, гранёнай апсіды з шатровым дахам, чацверыковай званіцы, завершанай ізбіцай і шатровым дахам з купалам (фланкіравала гал. фасад з ПнЗ і мела самастойны ўваход). Усе дахі ўвянчаны купальнымі галоўкамі на светлавых барабанах. Яе выява змешчана на «Чарцяжы» Віцебска 1664.

**ВІЦЕБСКАЯ УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА І МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН.** Пабудаваны ў Віцебску на высокім беразе Зах. Дзвіны. Вядомы з 1682, калі па фундацыі падкаморыя віцебскага Я. Кіселя былі заснаваны драўляныя уніяцкая Успенская царква (існавала да 1708) і манастыр пры ёй. Мураваная царква (з 1799 Успенскі сабор) была пабудавана ў 1715—43 (арх. І. Фантана III) у стылі сталага барока па фундацыі Мірона Галузы. Мела надзвычай развітую аб'ёмна-прасторавую структуру 5-нефавай крыжова-купальнай базілікі з 2-вежавым гал. фасадам. Паўкруглае апсіднае завяршэнне цэнтр. нефа было абкружана абходнай галерэяй — працягам сярэдніх нефаў. Крайнія нефы падзяляліся на шэраг капэл, якія разам з крыламі трансепта і сакрысціямі былі ўкампанаваны ў агульны прамавугольны план. Гал. фасад адпаведна нефам меў 5-часткавае чляненне, падкрэсленае групоўкай пілястраў. Сярэдняя выгнутая ўперад частка завяршалася 3-вугольным франтонам, 4-ярусныя вежы па баках — фігурнымі купалкамі. Сяродкрыжжа ўвенчваў магутны светлавы 8-гранны барабан са сферычным купалам. У дэкоры фасадаў выкарыстана ордэрная архіт. пластыка, філёнгавыя рамы, разнастайныя абрамленні праёмаў і інш. Інтэр'ер меў 3 ярусы асвятлення. Цэнтр. неф і трансепт былі перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, сярэднія нефы — крыжовымі, капэлы — сферычнымі купаламі. Храм разбураны ў Вял. Айч. вайну. У 1775 было завершана буд-ва 2 мураваных манастырскіх корпусаў, якія размяшчаліся паабапал Успенскай царквы і разам утваралі ўнутраны двор. Манастырскі корпус № 1 (вул. Політэхнічная, 2, цяпер тут станкаінструментальны тэхнікум) — 3-павярховы, Т-падобны ў плане, гал. фасадам арыентаваны на Зах. Дзвіну. Мае калідорную сістэму планіроўкі: уздоўж аднабаковага калідора, перакрытага цыліндрычнымі скляпеннямі, першапачаткова размяшчаліся келлі і розныя службовыя памяшканні. З боку дваровага фасада прыбудавана 2-павярховае крыло, дзе на 1-м паверсе знаходзілася трапезная, на 2-м — бібліятэка. Гал. фасад аздоблены пілястрамі на ўсю вышыню будынка, паміж якімі размешчаны прамавугольныя аконныя праёмы з простымі ліштвамі і падаконнымі нішамі, будынак завершаны тонкапрафіляваным карнізам. Манастырскі корпус № 2 (вул. Крылова, 7, цяпер тут філіял Віцебскага краязнаўчага музея) — 2-павярховы, Г-падобны ў плане. У закругленай вуглавой частцы будынка знаходзілася «цёплая» царква. Корпус мае калідорную сістэму планіроўкі з крыжовымі (у памяшканнях) і цыліндрычнымі (у калідоры) скляпеннямі. Плоскасць сцяны гал. фасада падзелена міжпаверхавым пояскам, мае прамавугольныя аконныя праёмы і завершана па цэнтры 3-вугольным франтонам. У закругленай вуглавой частцы аконныя праёмы лучковыя з ліштвамі і простымі сандрыкамі, цокаль дэкарыраваны філёнгамі з прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Манастырскія карпусы — помнікі рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь, Т. І. Чарняўская.*

**ВІЦЕБСКАЯ ШКОЛА ДОЙЛІДСТВА,** самабытная архіт. школа, якая склалася ў драўляным грамадзянскім і культавым дойлідстве Віцебска. Сфарміравалася пад уплывам рэнесансу і атрымала новае



**Віцебская Успенская царква і манастыр базыльян.** Галоўны фасад царквы (чарцёж).

развіццё ў 18 ст. пад уплывам стылю барока. Спецыфічныя рысы школы — развіццё ярусных асіметрычных (потым і сіметрычных) кампазіцый, дзе кожны аб'ём трактаваўся як самастойнае архіт. цэлае, супадпарадкаванае агульнай кампазіцыі будынка. Такі характар кампазіцый вызначаўся складаным жывапісным рэльефам і шчыльнасцю тэр. забудовы горада. Першапачаткова традыцыі школы скласліся ў абаронным будаўніцтве — вежах Верхняга, Ніжняга і Узгорскага замкаў (гл. арт. *Віцебскія замкі)*, сярод якіх вылучаліся сваёй выразнасцю і манументальнасцю «круглікі»: Мяшчанскі, Шарамецеў, Духаўскі, Валконскі. Такая ж кампазіцыя была пакладзена ў аснову *Віцебскай ратушы.* Дынамічную асіметрыю мелі палацавыя будынкі 1-й пал. 17 ст.: т. зв. дом Шапкіна, *Віцебскі палац Агінскага.* У культавым дойлідстве таксама развіваліся пераважна асіметрычныя дынамічныя кампазіцыі, якія складаліся з гал. аб'ёму, алтарнай апсіды і званіцы (Увядзенская, Праабражэнская, Васкрасенская цэрквы). У 2-й пал. 17—18 ст. будавалі крыжова-цэнтрычныя храмы з 4 або 5 зрубаў, з 1 верхам, размешчаным у цэнтры, і званіцай на гал. фасадзе *(Віцебская Троіцкая царква* на Пескаватыку) або з 5-яруснымі вярхамі; абносіліся па перыметры ці з боку бабінца галерэямі *(Віцебская Троіцкая царква* Маркава манастыра, *Віцебская Ільінская царква).* У вырашэнні агульнай кампазіцыі і асобных частак прасочваюцца сувязі В. ш. д. з рус. і ўкраінскай (асабліва гуцульскай) архітэктурай. Помнікі школы не зберагліся, вядомы паводле абмераў замалёвак і фатаграфій 19— пач. 20 ст. *Ю. А. Якімовіч.*

**ВІЦЕБСКІ ВАРВАРЫНСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры эклектыкі. Першапачаткова мураваны касцёл быў пабудаваны ў 1785 на каталіцкіх могілках, уздоўж гасцінца Віцебск — Гарадок. Побач былі ўзведзены мураваная капліца (у 1800 пабудавана новая) і драўляны домплябанія. У 1884 касцёл значна перабудаваны (інж. В. Піятроўскі), стаў 3-нефавай 2-вежавай базілікай. Усе пабудовы былі абкружаны мураванай агароджай з трохпралётнай уязной брамай, размешчанай каля гасцінца. У дэкаратыўнай аздобе неатынкаванага фасадаў касцёла шырока выкарыстаны дэталі, выкананыя з лякальнай цэглы: карнізы з зубчастым поясам, аркатурны пояс, пілястры, калонкі, нішы і інш. У цэнтры гал. фасада размешчаны арачны партал з 3-вугольным франтонам, над ім 3 арачныя нішы. 2-ярусныя вежы завершаны высокімі шатрамі. Першы ярус вежаў 4-гранны, прарэзаны 3 арачнымі праёмамі на кожнай грані, другі — 6-гранны, мае па адным арачным праёме, кожная грань скошаная і завершана 2-вугольным франтонам. Ярусы аддзяляюцца карнізам з шырокім арнаментальным поясам. Бакавыя фасады расчлянёны 2 ярусамі паўцыркульных аконных праёмаў (па 3 у кожным радзе). Нефы касцёла перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках з распалубкамі. У Вял. Айч. вайну будынкі і агароджа былі часткова разбураны. У 1990 рэстаўрыраваны касцёл, капліца і агароджа. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. І. Чарняўская.*



**Віцебскі Варварынскі касцёл.**

**ВІЦЕБСКІ ГАРАДСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 2-й пал. 19 ст. на левым беразе р. Віцьба (вул. Пушкіна, 2), гал. фасадам арыентаваны да ракі. Уяўляе сабой 2-павярховы Е-падобны ў плане цагляны будынак з паўпадвальным паверхам. Гал. фасад вылучаюць тры шырокія рызаліты — цэнтральны і бакавыя. У цэнтр. рызаліце размешчаны гал. ўваход, акцэнтаваны 2-калонным порцікам, які падтрымлівае на 2-м паверсе балкон з ажурнай металічнай агароджай. Завершаны рызаліт трохвугольным франтонам з акном-люкарнай. Бакавыя рызаліты завершаны трохвугольнымі франтонамі з лучковымі нішамі ў цэнтры. Паміж рызалітамі на 1-м паверсе па баках вонкавыя лесвіцы з ажурнай металічнай агароджай. У цэнтры дваровага фасада — лучковы рызаліт з лесвіцай на 2-і паверх. Па перыметры будынак абкружаны тонкапрафіляваным карнізам. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Унутраная планіроўка анфіладна-калідорная. У 1930-я гг. ў будынку размяшчаўся яўрэйскі пед. тэхнікум. *Т. І. Чарняўская.*

**ВІЦЕБСКІ ГАСЦІНЫ ДВОР.** Існаваў у Віцебску ў 17 ст. Вядомы і пад назвай Віцебская ратуша (у 1624 ратушу было загадана разбурыць; гл. *Віцебская ратуша).* Пабудаваны з дрэва на тэр. Узгорскага замка ў комплексе з 89 крамамі і складамі, якія ўтваралі прамавугольную ў плане гандлёвую плошчу, забудаваную з чатырох бакоў і злучаную з Верхнім замкам мостам цераз р. Віцьба. Гал. квадратны ў плане будынак быў завершаны высокім вальмавым дахам з бельведэрам і балюстрадай вакол яго. Бельведэр быў накрыты купалам, завершаным галоўкай на васьмерыку, увянчаны шпілем з гарадскім гербам. Будынак уключаў 2 «гасціныя» пакоі, якія ацяпляліся «па-чорнаму», і памяшканне для гарадскога суда. Каля яго размяшчалася важніца, дзе захоўваліся га-



**Віцебскі гасціны двор.** З «Чарцяжа» Віцебска 1664.

радскія вагі, 7 камор для тавараў, стайня. Выява двара адлюстравана на «Чарцяжы» Віцебска 1664. Будынкі апісаны ў інвентары Віцебска сярэдзіны 17 ст.

**ВІЦЕБСКІ ГІСТАРЫЧНЫ ЦЭНТР,** помнік горадабудаўніцтва 12 — пач. 20 ст. Уключае мураваныя грамадскія і жылыя будынкі — помнікі гісторыі і архітэктуры. Займае тэр. па берагах р. Зах. Дзвіна, складаецца з 3 частак: Узгорскай, Заручаўскай і Задзвінскай. Першапачаткова фарміраваўся як сістэма віцебскіх замкаў (Верхняга, Ніжняга, Узгорскага) і прылеглых да іх слабод (Узгорскай, Заручаўскай, Задунайскай, Задзвінскай). К канцу 19 ст. паводле рэгулярных планаў 18 ст. сфарміраваліся Узгорская, Заручаўская і Задзвінская часткі з рэгулярнай сеткай вуліц, сістэмай плошчаў, капітальнай забудовай. **Узгорская частка** (**Узгор'е**) — у паўн.-ўсх. частцы Віцебска, паміж левым берагам р. Зах. Дзвіна і правым берагам р. Віцьба (былыя Узгорскі замак і Узгорская слабада). Тут сфарміравалася 2-прамянёвая сістэма планіроўкі з 2 гал. вуліцамі — Леніна (б. Пецярбургская, Смаленская) і Суворава (б. Узгорская), якія сыходзіліся на плошчы каля гарадской ратушы. Вул. Леніна на Пн завяршаецца Смаленскай пл. (б. Конная, Смаленскі рынак). З іншых гіст. планіроўку і мураваную забудову захавалі вуліцы: Гараўца (б. Бальнічная), Грыбаедава (б. Ветраная 2-я), Даватара 1-я (б. Мікольская), Крылова (б. Успенская), Маякоўскага (б. Упраўская), Путна (б. Спаская), Савецкая (б. Дварцовая), Талстога (б. Падзвінская), Урыцкага (б. Афіцэрская, Варапаеўская), Чэхава (б. Ветраная) і Янкі Купалы (б. Бібкін зав., Хайкіна зав.). Зберагліся помнікі архітэктуры: *Віцебская ратуша,* базыльянскі манастыр (гл. *Віцебская Успенская царква і манастыр базыльян), **Віцебскі палац губернатара, Віцебскага духоўнага вучылішча будынак, Віцебскага пазямельна-сялянскага банка будынак, Віцебскі помнік героям Айчыннай вайны 1812.*** **Заручаўская частка** (**Заручаўе**) — у паўд.-ўсх. частцы Віцебска, паміж левымі берагамі рэк Зах. Дзвіна і Віцьба (былыя Верхні і Ніжні замкі, Заручаўская і Задунаўская слабоды). Асновай планіровачнай структуры яе з'яўляюцца 2 узаемна перпендыкулярныя дыяметры: вуліцы Леніна (б. Трынітарская, Вял. Магілёўская, Гогалеўская) і Замкавая (б. Вялікая, Дамініканская) з працягам яе — пр. Фрунзе (б. Задунаўская, Руская). У месцы іх скрыжавання захавалася пл. Свабоды (б. Гандлёвая, Саборная; гл. *Віцебскія плошчы*) — грамадскі цэнтр Віцебска. Вул. Леніна на Пд завяршаецца пл. Перамогі (б. Магілёўскі рынак). З іншых гіст. планіроўку і мураваную забудову захавалі вуліцы: Хмяльніцкага (б. Сянная пл., Пралетарскі бульвар), Гогаля (б. Духаўская набярэжная), праезд Гогаля (б. Раждзественская, Гогалеўская), Калініна (б. Заручаўская, Магілёўская) і Пушкіна (б. Пушкінская, Тэатральная). Зберагліся архіт. помнікі: ***Віцебскага акруговага суда будынак, Віцебскага жаночага епархіяльнага вучылішча будынак, Віцебская Благавешчанская царква*** (рэшткі). **Задзвінская частка** (**Задзвінне**) — у зах. частцы Віцебска, уздоўж правага берага р. Зах. Дзвіна (б. Задзвінская слабада). Планіровачная структура сфарміравалася ў канцы 19 ст. пасля пракладкі лініі чыгункі, складаецца з невял. кварталаў. Галоўная — вул. Кірава (б. Вакзальная) з Прывакзальнай пл. З іншых гіст. планіроўку і мураваную жылую забудову захавалі вуліцы: Будзённага (б. Стараманастырская, Арлоўская), Дзімітрава (б. Канатная), Дзяржынскага (б. Пакроўская, Рынычная), Зяньковай (б.




**Віцебскі гістарычны цэнтр.**

Папярочна-Пятроўская, Металістаў), Ільінскага (б. Верхненабярэжная), Камсамольская (б. Ніжнепятроўская), Кандрацьева (б. Мішунічаў зав.), Касманаўтаў (б. Кавальская, Кальцавая), Кастрычніцкая (б. Верхнепятроўская), Красіна (б. Кантанічная), Рэвалюцыйная (б. Вял. Ільінская, Ялагская), Савецкай Арміі (б. Шашэйная, Мікольская), Чайкоўскага (б. Ніжненабярэжная) і Энгельса (б. Багаяўленская). Збярогся архіт. помнік — *Віцебскія лабазы.* У 1986 распрацаваны праект «Складанне гісторыка-архітэктурных і інжынерных абгрунтаванняў рэгенерацыі гістарычнай забудовы г. Віцебска» БелНДІПгорадабудаўніцтва (арх. Л. Смірнова, В. Жаўняк, Ю. Чантурыя) з вытв. аб'яднаннем «Белрэстаўрацыя» (арх. А. Шчэрба, І. Фёдарава, Н. Рудак), ін-тамі «Віцебскграмадзянпраект» (арх. А. Бельскі, В. Бабашкін, В. Лукомскі) і «Белжылпраект» (інж. В. Лычкоў, У. Плавінскі).

*Т. І. Чарняўская.*

**ВІЦЕБСКІ ДОМ-КАМУНА.** Пабудаваны ў 1927—29 (арх. А. Вышалескі) на вул. Горкага. Задуманы як зручнае эканамічнае жыллё для працоўных. Першая на Беларусі пабудова падобнага тыпу. 4-павярховы будынак са складанай канфігурацыяй плана мае цэнтр. аб'ём і бакавыя крылы. На фоне гладкай паверхні сцен з пілястрамі нязначнага выступу кантрастна вылучаюцца 2 вынесеныя за план дома і закругленыя аб'ёмы лесвічных клетак. Быў разлічаны на засяленне 280—300 чал. Для несямейных прадугледжваліся пакоі пл. 24 кв. м (на 4 чал.), для маласямейных — пакоі пл. 12—15 кв. м (на 2—3 чал.). Кожная ізаляваная група пакояў на 18—24 чал. была аб'яднана холам для заняткаў і адпачынку, мела кухню, прыбіральні. На 1-м паверсе цэнтр. часткі размяшчаліся грамадскія памяшканні (зала, хол, чытальня), у цокальным — камунальна-бытавыя (душ, пральня, сушылка). У тарцах бакавых крылаў знаходзіліся восем 2-пакаёвых кватэр (па адной на кожным паверсе). У час Вял. Айч. вайны будынак згарэў. Пасля вайны рэканструяваны ў звычайны секцыйны дом з 2-, 3-пакаёвымі кватэрамі. *А. А. Воінаў.*

**ВІЦЕБСКІ ЖЫЛЫ ДОМ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ.** Пабудаваны ў 1932—35 (арх. С. Прэзьма) на вул. Даватара як жылы дом для вядучых спецыялістаў горада. Дамы спецыялістаў у СССР (усяго 66, з іх 3 у БССР) створаны па спец. праектах у адпаведнасці з правіламі 1932, якія прадугледжвалі павелічэнне плошчы пакояў, паляпшэнне абсталявання быт. памяшканняў. У кампазіцыі будынка выкарыстаны прыём вылучэння вуглавой 5-павярховай часткі, якой проціластаўляецца прадаўгаваты 4-павярховы аб'ём. Выразнасць фасадаў дасягаецца рытмічнай групоўкай акон, балконаў з глухімі агароджамі, лоджый, эркераў. Дом складаецца з секцый, створаных паводле індывідуальнага праекта: на лесвічную пляцоўку выходзяць дзве кватэры, пакоі маюць убудаванае абсталяванне, скразное або вуглавое праветрыванне, натуральнае асвятленне ванных пакояў. Дом спецыялістаў — помнік архітэктуры 1930-х гадоў — перыяду сацыялістычнай рэканструкцыі гарадоў, характэрны прыклад жылых дамоў магістральнага тыпу. *А. А. Воінаў.*

**ВІЦЕБСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ.** Існаваў у Віцебску ў 18 — пач. 20 ст. Заснаваны ў 1685. Пабудаваны ў 1737—68 на ратушнай плошчы з цэглы ў стылі позняга барока па фундацыі Казіміра і Тэклі Саковічаў. Комплекс складаўся з касцёла св. Антонія і 3-павярховага П-падобнага ў плане манастырскага корпуса, якія ўтваралі замкнёны ўнутраны двор. Касцёл — 3-нефавая базіліка з паўкруглым апсідным завяршэннем цэнтральнага нефа і 2-вежавым гал. фасадам, які былі арыентаваны на плошчу. Гал. фасад касцёла быў падзелены развітым антаблементам на 2 ярусы, аздобленыя паўкалонамі і пілястрамі. Верхні ярус завяршаны франтонам і 2 вежамі з валютамі і фігурнымі купалкамі. Аконныя праёмы мелі лучковыя і паўцыркульныя арачныя завяршэнні. Ін-



**Віцебскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.** Галоўны фасад касцёла. Здымак пачатку 20 ст.

тэр'ер базілікальнага тыпу, двухсветлавы, быў аздоблены ордэрнай архіт. пластыкай і лепкай. Па баках прэсбітэрыя размяшчаліся сіметрычныя прамавугольныя сакрысціі, у нартэксе — службовыя памяшканні і хоры над уваходам. Манастырскі корпус меў галерэйную планіроўку і размяшчаўся ніжэй па рэльефу адносна касцёла на цэлы паверх. З Пд да яго прылягалі аднапавярховыя гаспадарчыя пабудовы, арганізаваныя вакол адкрытага трапецападобнага двара. Комплекс разбураны ў 1930-я гады. *Т. В. Габрусь.*

**ВІЦЕБСКІ КЛУБ МЕТАЛІСТАЎ.** Пабудаваны ў 1932 (арх. А. Васільеў) па вул. Энгельса, на набярэжнай Зах. Дзвіны. Прыклад грамадскіх



Віцебскі дом-камуна.



Віцебскі жылы дом спецыялістаў.



Віцебскі клуб металістаў.

будынкаў новага тыпу ў савецкай архітэктуры 1930-х гадоў. Мае складаную канфігурацыю плана. Вонкавы выгляд і інтэр'еры вызначаюцца строгасцю архіт. форм. Складаецца з 2 груп памяшканняў, якія маюць самастойныя ўваходы і аб'яднаны вестыбюлем. Першая — відовішчная, уключае вестыбюль, фае, універсальную глядзельную залу (для спектакляў, кінафільмаў, грамадска-палітычных мерапрыемстваў), спарт. залу (прыбудавана ў 1940-я гады), дапаможныя памяшканні, 2-я група — клубная, размешчана ў 2-павярховай частцы, якая пад прамым вуглом прылягае да асн. аб'ёму.

*А. А. Воінаў.*

**ВІЦЕБСКІ ПАЛАЦ АГІНСКАГА.** Існаваў у сярэдзіне 17—1-й пал. 19 ст. ў Віцебску на тэр. Ніжняга замка (гл. *Віцебскія замкі*). Быў пабудаваны ў стылі рэнесанс. Адзін з найбуйнейшых мураваных манументальных будынкаў Віцебска, як сімвал горада адлюстраваны ў пач. 18 ст. на чарцяжы Зах. Дзвіны, яго выява змешчана на «Чарцяжы» Віцебска 1664. У 18 ст. ў доме размяшчалася базыльянская школа. У 1-й пал. 19 ст. вядомы як «дом з купалам». Меў складаную асіметрычную кампазіцыю. Асн. 2-павярховы прамавугольны ў плане аб'ём завяршаўся 2-схільным дахам са ступеньчатым шчытом у тарцы. З аднаго боку да яго прылягала высокая гранёная вежа, завершаная складаным па малюнку купалам, з другога — невял. аб'ём, накрыты 2-схільным дахам і аформлены ў 2-м ярусе кансольна-бэлечнай галерэяй з разьбянай балюстрадай. Гал. ўваход вырашаўся ў выглядзе 8-граннага данжона з шатровым пакрыццём і цыбулькай-макаўкай у завяршэнні. На



Віцебскі палац Агінскага. З «Чарцяжа» Віцебска 1664.

2-і ярус вяла парадная вонкавая лесвіца. Не збярогся.

*А. М. Кулагін.*

**ВІЦЕБСКІ ПАЛАЦ ГУБЕРНАТАРА,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў Віцебску да 1772 на вул. Дварцовай (сучасная вул. Савецкая, 18). Асноўны 3-павярховы будынак пастаўлены на высокім беразе Зах. Дзвіны памешчыкамі Кудзіновічамі, у 1806 куплены для перабудовы пад палац генерал-губернатара. У 1811 да паўн. боку асн. корпуса прыбудаваны 2-павярховы П-падобны ў плане службовы корпус (арх. Ф. Санкоўскі) з парараднай залай і царквой на 2-м паверсе. Аб'ядноўваў службовыя памяшканні і жылыя пакоі, меў унутраны двор складанай канфігурацыі. Гал. фасад, арыентаваны на невял. плошчу з *Віцебскім помнікам героям Айчыннай вайны 1812*, вылучаны рызалітам, завершаным атыкам, і ўпрыгожаны порцікам з 4 паўкалонамі дарычнага ордэра, якія падтрымліваюць балкон. Такі самы порцік аздабляе бакавы фасад, арыентаваны на Зах. Дзвіну, і замыкае фасад 2-павярховага корпуса. Фасады апрацаваны рустам, завершаны карнізам і атыкамі. Быў рэзідэнцыяй генерал-губернатараў і губернатараў.



Віцебскі палац губернатара.

У 1853—54 Віцебскім віцэ-губернатарам быў рускі пісьменнік І. І. Лажэчнікаў. У 1812 палац — штаб-кватэра Напалеона. У 1917 у палацы размяшчаўся Віцебскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт. У Вял. Айч. вайну палац спалены. Адноўлены пасля вайны. Першапачатковая планіроўка зменена. У будынку размешчана адм. ўстанова. Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. Ф. Марозаў.*

**ВІЦЕБСКІ ПОМНІК ГЕРОЯМ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ 1812.** Пабудаваны ў 1911—12 (арх. І. Фамін), адкрыты 6.12.1912. Пастаўлены на ўшанаванне памяці рускіх воінаў, якія ў баях пад Віцебскам 13—15.7 і 26.10.1812 праявілі мужнасць і стойкасць у барацьбе з захопнікамі. Будаўнічымі работамі кіраваў віцебскі гарадскі арх. Ц. Кібардзін. Уяўляе сабой 4-гранны суцэльны абеліск з чырвонага граніту (выш. 26 м),



Віцебскі помнік героям Айчыннай вайны 1812.




Віцебскі чыгуначны вакзал.

пастаўлены на часткова расчлянёны прамавугольны п'едэстал і завершаны 2-галовым арлом на шары. Абеліск ад п'едэстала аддзяляюць 4 маленькія вуглавыя блокі з прасветамі паміж імі. На вертыкальнай плоскасці п'едэстала — пліта з надпісам. Па вуглах пліты-асновы ўмацаваны 4 чыгунныя гарматы. Помнік меў горадабудаўнічае значэнне: яго вертыкаль замыкала перспектыву вул. Дварцовай (сучасная вул. Савецкая). *В. М. Чарнатаў.*

**ВІЦЕБСКІ ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ.** Пабудаваны ў 1866, калі праз горад была пракладзена Рыга-Арлоўская чыгунка. У гады Вял. Айчыннай вайны пашкоджаны. У 1954 зроблены новы будынак вакзала (арх. Б. Мезенцаў). Размешчаны на цэнтр. восі Прывакзальнай пл., замыкае перспектыву *Кірава вуліцы.* Дамінуючым у аб'ёмна-прасторавым вырашэнні сіметрычнага прамавугольнага ў плане цаглянага будынка з'яўляецца цэнтр. аб'ём з 2—4-павярховымі бакавымі крыламі. Кампазіцыя гал. фасада цэнтр. аб'ёму заснавана на рытме 3 буйных арачных праёмаў на ўсю вышыню. У архітэктуры фасадаў і інтэр'ераў выкарыстаны дэкар. элементы класічнай спадчыны (пілястры, капітэлі, паўкалоны і інш.). Інтэр'еры апрацаваны мармурам, тынкам, гіпсам. У цэнтр. аб'ёме размешчаны вестыбюль, які аб'ядноўвае 1-ы і 2-і паверхі, касавыя залы, у крылах — службовыя і дапаможныя памяшканні, касавыя залы, рэстаран і інш. *А. А. Бельскі.*

**ВІЦЕБСКІЯ ВАСКРАСЕНСКІЯ ЦЭРКВЫ.** Існавалі ў Віцебску ў 16—19 стагоддзях. Драўляная царква на ратушнай плошчы Віцебска, пабудаваная ў 16 ст. (паказана на «Чарцяжы» Віцебска 1664). Складалася з 3 зрубаў: асноўнага, алтарнага і бабінца з вежай над ім, накрытых асобнымі шатровымі дахамі з галоўкамі. На яе месцы, побач з крамамі, у 1772 па фундацыі Мікалая Смыка пабудавана ў стылі позняга віленскага барока муравая уніяцкая царква (рынначная); арыентацыя алтара зменена з У на Пн. Аднанефавы храм меў паўкруглую алтарную апсіду з рызніцамі па баках, якія надавалі будынку прамавугольны план, 2-вежавы гал. фасад меў складаную хвалістую паверхню. Тарцы высокага даху на гал. фасадзе і над апсідай закрываліся фігурнымі атыкавымі франтонамі. Сцены былі аздоблены плоскімі пілястрамі і завершаны прафіляванымі карнізамі, скразныя ярусы вежаў і франтон упрыгожаны стылізаванымі валютамі. Вежы завяршаліся фігурнымі купалкамі. З 1865 праваслаўная царква. Разбурана ў 1930-я гады. Іл. гл. таксама ў арт. *Віцебскія плошчы.* *Т. В. Габрусь.*



Віцебскія Васкрасенскія цэрквы. Рыначная царква (справа). Малюнак Ю. Пешкі. Пачатак 19 ст.

**ВІЦЕБСКІЯ ЖЫЛЫЯ ДАМЫ,** помнікі грамадзянскай архітэктуры 18 — сярэдзіна 20 ст., у якіх увасобіліся мясцовыя асаблівасці стыляў барока, класіцызму, неакласіцызму. Вылучаюцца забудовы вуліц Суворава, Камісара Крылова, Маякоўскага, Талстога. Усе дамы ўваходзяць у *Віцебскі гістарычны цэнтр* і знаходзяцца пад ахоўвай дзяржавы. Забудова вул. Суворава ўключае дамы № 2, 4, 6, 8, 10, 12,



**Віцебскія жылыя дамы** па вуліцы Суворава.

якія шчыльна прылягаюць адзін да аднаго і з'яўляюцца адзіным ансамблем сярэдзіны — канца 19 ст. з рысамі класіцызму. Дом № 2 — мураваны 2-павярховы будынак. Узведзены ў канцы 18 ст. як гандлёвыя рады (першапачатковы выгляд адлюстраваны на акварэлі І. Пешкі 19 ст.). У канцы 19 ст. дом рэканструяваны, да яго прыбудаваны невял. 3-павярховы жылы дом з вузкім (на 3 акны) фасадам і скошаным вуглом, дзе размешчаны ўваход. Зараз 1-ы паверх будынка выкарыстоўваецца гандл. установай (фасад зменены), 2-і — жылы. На 2-м паверсе захаваліся арачныя аконныя праёмы і сплаістыя пілястры дарычнага ордэра паміж імі. Дом № 4 — 2-павярховы мураваны будынак. Гал. фасад вырашаны асіметрычна, што падкрэслівае лучковая арка-праезд у двор. Прамавугольныя аконныя праёмы аформлены ліштвамі, на 2-м паверсе — балкон з ажурнай агароджай. Уваходны партал аформлены паўкалонамі, завершаны карнізам і фрызам з філёнгамі. Дом № 6 — 2-павярховы мураваны будынак. У дэкоры гал. фасада выкарыстаны прафіляваныя карнізы, ліштвы арачных



**Віцебскі жылы дом** на рагу вуліц Крылова і Суворава.

і лучковых акон. Сіметрыю фасада парушае бакавое размяшчэнне гал. ўвахода. Дом № 8 — мураваны 3-павярховы будынак. Гал. фасад вылучаны ў цэнтры неглыбокім рызалітам і завершаны 3-вугольным франтонам з сухарыкамі. На 1-м паверсе (у рызаліце) — уваходны партал з металічнай агароджай (першапачаткова арачны праезд), на 2-м — тры паўцыркульныя аконныя праёмы з арачнымі сандрыкамі і пілястрамі, на 3-м — прамавугольныя вокны. Дом № 10 (на рагу вуліц Суворава і Камісара Крылова) — мураваны 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак. Вугал на рагу вуліц скошаны і вылучаны на 2-м паверсе балконам з металічнай ажурнай агароджай і казырком на тонкіх калонках. Цэнтр. частка фасада вылучана неглыбокім рызалітам і франтонам з сухарыкамі. 1-ы паверх расчлянёны прамавугольнымі, 2-і — арачнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі і пілястрамі. З боку вул. Крылова арачны праезд у двор. Дом № 12 — мураваны 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак. Узведзены ў 1799, рэстаўрыраваны ў 1848. Вуглавая частка дома закруглена і вылучалася балконам з металічнай агароджай (не збераглася). Архітэктура гал. фасада нагадвае дом № 10, размешчаны на процілеглым баку вуліцы. Помнік рэспубліканскага значэння. Забудова вул. Талстога ўключае дамы № 2, 4, 8, 1, 3, 5, 7, 13, 15, узведзеныя ў 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. Дом № 2 — мураваны П-падобны ў плане 3-павярховы будынак. Гал. фасад завершаны 3-вугольным франтонам, прамавугольныя аконныя праёмы аформлены ліштвамі, у дэкоры — руст, філёнгі. Дом № 4 — мураваны 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак. 1-ы паверх руставаны, 2-і і 3-і — вылучаны прафіляваным філёнгавым поясам, прамавугольныя аконныя праёмы аформлены ліштвамі. Выкарыстоўваецца як адм. будынак. № 8 — мураваны 5-вугольны ў плане будынак. Фасады раскрапаваны арачнымі нішамі з прамавугольнымі вокнамі. У цэнтры дома вестыбюль з лесвіцай, вакол якога групуюцца памяшканні. Выкарыстоўваецца навучальнай установай. Дом № 1 — мураваны 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак. Гал. фасад фланкіраваны плоскім рызалітам з руставанымі лапаткамі, лучковыя аконныя праёмы аформлены ліштвамі. Выкарыстоўваецца як адм. будынак. Дом № 3 — мураваны 2-павярховы прамавугольны будынак. Збудаваны ў традыцыях так званай «цаглянай архітэктуры». Дом № 5 — мураваны 3-павярховы блізкі ў плане да трохвугольніка будынак. У цэнтры гал. і дваровага фасадаў — уваходы, з тарцовага боку — арачны праезд у двор. Дом № 7 — мураваны 2-павярховы будынак. На вуліцу выходзіць невял. фасадам. Дом № 13 — мураваны 1-павярховы будынак. Гал. фасад прарэзаны 4 прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Дом № 15 — мураваны складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынак. Складаецца з трох рознай вышыні крылаў, якія ўтвараюць унутраны двор. Забудова вул. Камісара Крылова ўключае дамы № 4, 6, 8, 10, якія ўзведзены ў канцы 19 — пач. 20 ст. і ўтвараюць адзін комплекс. Дом № 4 — мураваны 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак. Уваход і арачны праезд у двор размешчаны асімет-

рычна на гал. фасадзе. У дэкоры фасада выкарыстаны пілястры, прафіляваныя міжпаверхавыя паясы, атык з люкарнай. Дом № 6 (злучаны з домам № 4 праезнай аркай) — мураваны 1-павярховы будынак з паўпадвальным паверхам. Пабудаваны для гал. архітэктара горада Ц. Кібардзіна. У архітэктуры будынка прасочваюцца рысы неакласіцызму і мадэрна. Гал. ўваход размешчаны асіметрычна на гал. фасадзе і вылучаны люкарнай. Фасад расчлянёны вял. арачнымі аконнымі праёмамі. У дэкоры — руст, прафіляваны карніз, арачныя абрамленні акон. Дом № 8 — мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак. Гал. фасад вылучаны двума бакавымі рызалітамі і падзелены міжпаверхавым поясам. 1-ы паверх прарэзаны лучковымі, 2-і — паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Уваход з лучковым завяршэннем размешчаны асіметрычна. Дом № 10 — мураваны 1-павярховы будынак з цокальным паверхам. Гал. фасад расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі з ліштвамі, дэкарыраваны пілястрамі, філёнгавымі нішамі пад вокнамі, завершаны фрызам з нішамі і прафіляваным карнізам. У з а б у д о в е  в у л.  М а я к о ў с к а г а вылучаецца дом № 3, узведзены ў сярэдзіне 19 ст. ў стылі класіцызму. Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак. Працяглы гал. фасад, які выходзіць на чырвоную лінію вуліцы, мае сіметрычную кампазіцыю. У цэнтры — арачны праезд, над якім размешчаны шырокі балкон на літых металічных кранштэйнах з ажурнай агароджай. Гал. фасад падзелены міжпаверхавым поясам з філёнгамі і завершаны шырокім прафіляваным карнізам. Вуглавыя часткі фасада вылучаны плоскімі рызалітамі і завершаны 3-вугольнымі франтонамі. Аконныя праёмы прамавугольныя, на 2-м паверсе аформлены ліштвамі.

*Т. І. Чарняўская.*

**ВІЦЕБСКІЯ ЗАМКІ.** Існавалі ў 10—18 стагоддзях Верхні (Горны), Ніжні (Дольны) і Узгорскі замкі. В е р х н і  з а м а к быў пабудаваны на стараж. дзядзінцы горада на левым беразе Зах. Дзвіны, у сутоку з р. Віцьба. У 12 ст. тэр. замка была абнесена магутным земляным валам (шыр. ў аснове 36 м, выш. каля 8 м), які меў запоўнены вязкай глінай унутраны каркас з 7 радоў хваёвых бярвёнаў, пакладзеных перпендыкулярна адно да аднаго. З боку Зах. Дзвіны вал быў укрыты тоўстым пластом гліны, наверсе стаялі драўляныя сцены і вежы, замененыя ў першай пал. 14 ст. мураванымі (шыр. 3 м, выш. каля 7 м). Сцены былі завершаны прамавугольнымі зубцамі і накрыты стрэшкай, пад




**Схема віцебскіх замкаў** 17 ст. *I.* В е р х н і  з а м а к: 1 — дом Горскага; 2 — вязніца; 3 — прыказ; 4 — Міхайлаўская царква; 5 — двор ваяводы. *II.* Н і ж н і  з а м а к: 6 — царква Звеставання; 7 — дом Шапкіна; 8 — Аляксееўскі манастыр; 9 — дом Агінскага. *III.* У з г о р с к і  з а м а к: 10 — магазіны; 11 — ратуша; 12 — Увядзенская царква; 13 — Васкрасенская царква; 14 — Праабражэнская царква.

якой на кансольных бэльках размяшчалася галерэя насценнага бою. Мураваныя 3—4-ярусныя вежы мелі ў аснове памеры ад 8,5×8,5 м да 10,5×10,5 м. У 17 ст. ўмацаванні Верхняга замка складаліся з драўляных абарончых сцен, зробленых па тыпу гародняў з 2 ярусамі баёў; засталіся рэшткі мураваных сцен, дзе былі Вялікая праезная брама, 3 чатырохгранныя ў плане вежы (Веставая, Танкавая, Храпавіцкая), 2 васьмівугольныя ў плане вежы-круглікі (Шарамецьеў, Бабарыкін), раскат (спец. памост для адкрытага размяшчэння гармат) і брамка — выхад да р. Віцьба. 2-х і 3-ярусныя вежы мелі байніцы. У розныя часы даўж. лініі абароны складала ад 753 да 836 м. Ад вял. праезнай брамы да брамкі вяла гал. замкавая вуліца, што падзяляла тэр. замка на 2 часткі (усх. і зах.) з свабоднай планіроўкай, падпарадкаванай рэльефу. Ва ўсх. частцы знаходзіліся драўляныя прыказ, двор ваяводы, *Віцебская Міхайлаўская царква*, т. зв. дом Горскага, у зах.— турма, калодзеж. Н і ж н і  з а м а к быў выцягнуты па восі З — У. Яго агіналі рэкі Зах. Дзвіны і Ручай. З Пн прымыкаў да сцен Верхняга замка. У 1-й пал. 14 ст. ўмацаваны земляным абарончым валам з унутранай драўлянай канструкцыяй, драўлянымі сценамі і вежамі. У 17 ст. меў 3 праезныя брамы, 8 вежаў (Сярэдняя, Старасельская, Швыкоўская, Дамініканская, Тарапецкая, Княжая, Напрудная, Падзвінская), 2 круглікі (Духаўскі, Мяшчанскі), Задунаўскую брамку. Даўж. лініі абароны 1256 м. Гал. планіровачная вось — Вялікая вул. (шыр. 4—5 м) — праходзіла праз усю тэр. замка ад Заручаўскай праезнай брамы да Задунаўскай брамкі, мела драўляны мост з круглых бярвёнаў. На тэр. Ніжняга замка знаходзілася *Віцебская Благавешчанская царква*, Аляксееўскі манастыр, *Віцебскі палац Агінскага*, дом Шапкіна, 2 калодзежы. У з г о р с к і  з а м а к быў блізкі ад чатырохвугольніка, з усх. і паўд. бакоў яго агінала р. Віцьба, з зах.— Зах. Дзвіна, паўн. бок не меў абарончых сцен (менавіта ў гэтым напрамку ішло далейшае развіццё горада). Умацаванні замка ўзніклі, відаць, у часы Кіеўскай

Русі. У 17 ст. выконваў ролю ўмацаванага пасада (вядомы як Узгорскі горад або Астрог). Меў драўляныя сцены, 3 брамы (Падзвінская, Суражская, Кстоўская), 6 вежаў (Прачысценская, Рагавая, 2 Сярэднія, Навугольная, Узгорская), 2 раскаты (Прачысценскі, Мікольскі), Мяшчанскі круглік. Планіровачная структура развітая. Гал. вуліца — Вялікая Узгорская, звязала Узгорскі і Ніжні замкі. Другая вуліца пачыналася ад Суражскай брамы, трэцяя — ад Падзвінскай. На іх скрыжаванні (каля моста цераз Віцьбу) сфарміраваўся адм.-гандл. цэнтр з *Віцебскім гасціным дваром* і крамамі, якія ўтваралі гандл. плошчу. На тэр. замка былі цэрквы Увядзенская, Праабражэнская, *Віцебскія Васкрасенскія цэрквы*, млын. Даўж. лініі абароны 1111 м. Перад валамі і брамамі ўсіх замкаў былі дадатковыя ўмацаванні, 4 брамы з пад'ёмнымі мастамі. В. з. разбураны ў 18 ст.

*М. А. Ткачоў, Т. І. Чарняўская.*

**ВІЦЕБСКІЯ КАСЦЁЛЫ І КАЛЕГІУМЫ ЕЗУІТАЎ,** назва двух комплексаў, якія існавалі ў 17 — пач. 20 ст. ў Віцебску на тэр. Ніжняга замка. 1) У 1640—44 па фундацыі слонімскага ваяводы Корвін-Гансеўскага пабудаваны драўляныя касцёл і калегіум, у 1654 перабудаваны пад праваслаўны Аляксееўскі манастыр. На «Чарцяжы» Віцебска 1664 у цэнтры комплексу паказаны 1-нефавы крыжападобны ў плане будынак касцёла з 3-яруснай вежай пры ўваходзе. Неф накрыты 2-схільным, крылы трансепта і вежа — шатровымі дахамі з цыбулепадобнымі галоўкамі. Існаваў яшчэ ў 1704, пасля быў разбураны шведамі. 2) У 1716—51 на месцы драўлянага храма пабудаваны мураваны касцёл у стылі позняга барока — 3-нефавая крыжовакупальная базіліка з 2-вежавым гал. фасадам. Цэнтральны неф меў паўцыркульнае апсіднае завяршэнне з больш нізкімі прамавугольнымі сакрысціямі па баках. Вежы і светлавы барабан на сяродкрыжжы завяршаліся паўсферычнымі купаламі. Дэкор фасадаў вызначаўся насычанай ордэрнай пластыкай і развітымі паясамі антаблементаў, шматлікімі пілястрамі і фігурнымі абрамленнямі праёмаў. У інтэр'еры быў вылучаны нартэкс з крывалінейнымі ў плане хорамі над уваходам. Нефы і трансепт былі перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Перабудаваны ў 1843 і 1872. 2-павярховы П-падобны ў плане мураваны калегіум (буд-ва закончана ў 1799) разам з касцёлам утвараў прамавугольны ўнутраны двор. Зах. крыло калегіума, якое не даходзіла да гал. фасада касцёла, завяршалася 3-яруснай вежай з гадзіннікам. Фігурныя завяршэнні вежаў зменены ў 1843. Комплекс разбураны ў 1930-я гады.

*Т. В. Габрусь.*



**Віцебскія касцёлы і калегіумы езуітаў.** Галоўны фасад (чарцёж) касцёла 18 ст.



**Віцебскія касцёлы і калегіумы езуітаў.** Будынак касцёла на «Чарцяжы» Віцебска 1664.

**ВІЦЕБСКІЯ ЛАБАЗЫ,** помнік архітэктуры класіцызму. Збудаванне для гандлю і захавання зерня, мукі і інш. Узведзена з цэглы ў 1774 паводле ўзорнага праекта на правым беразе р. Зах. Дзвіна (цяпер на вул. Чайкоўскага).Цэнтральны і 2 бакавыя будынкі прамавугольныя ў плане, злучаны праезнымі аркамі, гал. фасадамі арыентаваны на параходную прыстань, адкуль дастаўляліся тавары (захаваліся як асобныя будынкі цэнтральны і правы бакавы). Цэнтральны корпус — 2-павярховы, на гал. восях сіметрычна вылучаны 2 арачныя праёмы, паміж якімі — пілястры на ўсю вышыню будынка. Бакавыя карпусы — 1-павярховыя, кампазіцыя гал. фасадаў такая ж: сіметрычна размешчаны 3 шырокія аркі, фланкіраваныя пілястрамі, паміж аркамі невял. квадратныя аконныя праёмы. Дваровыя фасады карпусоў рытмічна расчлянёны пілястрамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У 19 ст. ў будынку захоўваліся саляныя запасы для аптовага гандлю, зараз у ім знаходзяцца ваенныя медыцынскія склады. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**ВІЦЕБСКІЯ ПЛОШЧЫ** (Рыначная і Саборная), горадабудаўнічыя ансамблі 16 — пач. 20 ст. У цэнтры сучаснага Віцебска, па берагах р. Віцьба. Былыя Рыначная перад будынкам ратушы (цяпер безыменная плошча перад абл. краязнаўчым музеем, на перакрыжаванні вуліц Леніна і Суворава) і Саборная (цяпер пл. Свабоды, на скрыжаванні вуліц Леніна і Замкавай) плошчы фарміраваліся ў 2 этапы. На 1-м у 16 — сярэдзіне 17 ст. скламіся 2 ізаляваныя плошчы з драўлянымі забудовамі. Рыначная пл. — на тэр. Узгорскага замка як гандлёвы цэнтр; на ёй знаходзіліся *Віцебская ратуша, Віцебскі гасціны двор* і крамы, пастаўленыя па перыметры прамавугольнага двара. Саборная пл. — на тэр. Ніжняга замка як культавы цэнтр; знаходзілася перад Аляксееўскім манастыром (пабудаваны ў 1654, спачатку тут была царква Параскевы, з 1644 касцёл і калегіум езуітаў, гл. *Віцебскія касцёлы і калегіумы езуітаў*). Плошчы аддзяляліся адна ад адной драўлянымі абарончымі ўмацаваннямі, злучаліся праезной брамай Валконскі круглік, што стаяла каля моста цераз Віцьбу. На 2-м этапе ў канцы 18 — пач. 20 ст. ў выніку ажыццяўлення рэгулярных планаў Віцебска набылі адзіную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю з мураванымі збудаваннямі. У ансамбль Рыначнай пл., акрамя будынкаў ратушы ў цэнтры і гандлёвых радоў па баках яе, уваходзілі Васкрасенская царква (зах. частка, з 1772, гл. ў арт. *Віцебскія Васкрасенскія цэрквы*) і *Віцебскі касцёл і кляштар бернардзінцаў* (усх. частка, з 1685 драўляны, з 1755 мураваны). Саборная пл. склалася як адм. цэнтр. У ансамбль яе ўваходзілі комплекс езуіцкага касцёла (пабудаваны ў 1751) і калегіума (пабудаваны ў 1799; усх. частка) і *Віцебскага акруговага суда будынак* (усх. частка). Плошчы былі раскрытыя да р. Віцьба, цераз якую ў 1811—14 пабудаваны мураваны мост (спачатку быў драўляны), а ў канцы 19 ст. з пракладкай па вул. Пецярбургскай (сучасная Леніна) трамвайнай лініі — і трамвайны (з 1957 наз. Кастрычніцкі мост).

*Т.І. Чарняўская.*



Рыначная плошча (злева — касцёл бернардзінцаў, справа — Васкрасенская царква). З гравюры 1-й палавіны 19 ст.

**ВІШНЕЎСКІ КАСЦЁЛ МАРЫІ,** помнік архітэктуры ранняга барока з элементамі рэнесансу. Пабудаваны ў 1637—41 у в. Вішнева (Валожынскі р-н). Перабудаваны ў 1771 у стылі ракако (да нефа прыбудаваны 2 прамавугольныя ў плане бакавыя капліцы, зменены інтэр'ер) і ў 1906 (дабудаваны 2-вежавы гал. фасад) 1-нефавы мураваны храм з больш нізкай паўцыркульнай і бакавымі сакрысціямі апсідай. Накрыты 2-схільным дахам з франтонам на гал. фасадзе. 3-ярусныя чацверыковыя вежы завершаны плаўна выгнутымі карнізамі, фігурнымі купалкамі. Бакавыя сцены рытмічна расчлянёны вузкімі высока ўзнятымі арачнымі вокнамі і ўмацаваны контрфорсамі ў прасценках. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках і люнетамі, паўночная капліца — сферычным купалам на ветразях, паўднёвая — плоскай столлю. У нартэксе хоры на трохпралётнай аркадзе і 2 кранштэйнах, дзе ўстаноўлены арган. Сцены нефа крапаваны арачнымі нішамі, слаістымі пілястрамі, пілонамі, упрыгожаны паліхромнай арнаментальнай размалёўкай (мастак Ф. Рушчыц), скляпенні — геаметрычным ляпным арнаментам 17 ст. Галоўны драўляны алтар выкананы ў сярэдзіне 18 ст. ў барочна-ракайльных формах. Двух'ярусны, на фігурным пастаменце, дэкарыраваны лісцем аканта, накладнымі разнымі ракайлямі. 1-ы ярус вырашаны 2 парамі размешчаных уступам канеліраваных слупоў, што нясуць крывалінейны шматпрафіляваны і крапаваны антаблемент, у завяршэнні яго — гербавы картуш. 2-і ярус — шчыт з загнутымі ў валюты гранямі і разной кампазіцыяй «Глорыя» ў цэнтры. Алтар дэкарыраваны драўлянымі скульптурамі евангелістаў, анёлаў, вазамі, С-падобнымі завіткамі. У аналагічнай стылявой трактоўцы выкананы 2 бакавыя алтары. Сярод твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва каваныя дзверы 17 ст. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ВІШНЯВЕЦКАЯ ЦАРКВА ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ,** помнік архітэктуры барока. Пабудавана ў 1742 у в. Вішнявец (Стаўбцоўскі р-н) як уніяцкая, перабудавана ў 1852. Мураваная 3-нефавая базіліка з паўцыркульнымі апсідай і 2-вежавым гал. фасадам, вырашаным як самастойны аб'ём. Цэнтр. кампазіцыйная вось гал. фасада вылучана какошнікам. Па баках будынак увянчаны цыбулепадобнымі галоўкамі на высокіх цыліндрычных барабанах. Сцены звонку і ўнутры расчлянёны пілястрамі, завершаны развітымі прафіляванымі карнізамі. Аконныя праёмы з лучковымі, на гал. фасадзе з паўцыркульнымі завяршэннямі. У інтэр'еры 4 масіўныя слупы вылучаюць цэнтр. неф, перакрыты цыліндрычным скляпеннем. Бакавыя нефы, значна ніжэйшыя і вузейшыя за галоўны, разам з нартэксам перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У проціглеглай ад алтара частцы будынка вылучаны бабінец, дзе размешчаны хоры, звязаныя з асн. памяшканнем вітымі лесвіцамі. Пластыка інтэр'ера захавалася ў першапачатковым выглядзе. Пілоны з боку цэнтр. нефа апрацаваны пілястрамі і стылізаванымі іанічнымі капітэлямі. Глухая агароджа хораў увязана ў агульную кампазіцыю з цыліндрычнымі аб'ёмамі лесвіц. Лесвічныя шахты ўзвышаюцца да ўзроўню парапета хораў і абмежаваны агульным прафіляваным карнізам. Пара-



**Вішнеўскі касцёл Марыі.**



Вішнявецкая царква Іаана Хрысціцеля.

дало магчымасць перакрыць вял. прастору збудавання. Кампазіцыя фасада, арыентаванага на вул. Сурганава, заснавана на рытме жалезабетонных пілонаў пераменнага сячэння. На добраўпарадкаванай тэрыторыі спарт. пляцоўкі месцы для адпачынку. *С. Дз. Філімонаў.*

**ВОЙСКАЎСКАЯ ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1751—75 у в. Войская (Камянецкі р-н) з элементамі народнага дойлідства і барока. Прамавугольны зруб са зрэзанымі ў алтарнай частцы вугламі, да якога з ПнУ прылягае аднолькавы з ім па вышыні бабінец. Гал. фасад завершаны франтонам, схілы якога адпавядаюць схілам асн. даху. Сцены вертыкальна ашаляваны і ўмацаваны сцяжкамі. Вуглы аздоблены разнымі накладкамі. Дах у сярэдзіне прарэзаны гранёнай вежачкай з галоўкай. Інтэр'ер зальны, перакрыцце бэлечнае. У алтарнай частцы зруба ўбудаваны 2 рызніцы з балконамі. У аб'ёме бабінца — хоры. Захаваліся багата аздобленыя царскія вароты. Перад царквой стаіць 2-ярусная званіца-брама — чацвярык на чацверыку. Першы ярус мураваны, з 3 лучковымі арачнымі праёмамі, другі — драўляны, завершаны шатровым дахам з галоўкай. Помнік рэспубліканскага значэння. *І. К. Філатаў.*

пет у цэнтр. частцы мае выгнутую паверхню. Царква дзейнічае. Калісьці тут знаходзіўся цудатворны абраз Маці Боскай (вядомы з канца 17 ст., лёс невядомы). Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Ярашэвіч.*

**ВОДНА-СПАРТЫЎНЫ КАМБІНАТ** рэспубліканскі імя 50-годдзя камсамола Беларусі. Пабудаваны ў 1967 (арх. В. Ладыгіна) у Мінску. Адзін з найбольшых комплексаў падобнага тыпу ў краіне. Уключае Палац воднага спорту з 3 басейнамі (агульная пл. 1650 м$^2$) і трыбунамі на 1,2 тыс. гледачоў, 2 адкрытыя басейны (агульная пл. 3600 м$^2$), аздараўленчы комплекс, які мае лазні з парыльнямі і адкрыты басейн (пл. 900 м$^2$). Архітэктура ансамбля сведчыць аб імкненні аўтара адысці ад кампазіцыйных канонаў, вылучаецца кантрастным супастаўленнем аб'ёмаў і адкрытай прасторы, выкарыстаннем колеру, раскрыццём інтэр'ераў Палаца і злучэннем іх з вонкавым асяроддзем. Палац воднага спорту (аб'ём каля 70 тыс. м$^3$) — прамавугольнае ў плане збудаванне, вырашана ў лаканічных



**Воднаспартыўны камбінат.** Палац воднага спорту.

архіт. формах, гарманічна спалучаецца з крывалінейным абрысам адкрытых басейнаў і прылеглым паркам імя Чэлюскінцаў. Аб'ёмна-прасторавая структура адпавядае функцыянальнаму прызначэнню аб'екта. Выкарыстанне металічных зварных крывалінейных бэлек пралётам 34 м



**Войскаўская царква Раства Багародзіцы.**

**ВОЛЬНАЎСКАЯ ТРОЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры ракако. Пабудавана ў 1768 у в. Вольна (Баранавіцкі р-н) як уніяцкі касцёл базыльян на ўзгорку сярод парку б. сядзібы. У 1895 прыстасавана пад праваслаўную царкву. Мураваная 3-нефавая, 2-вежавая базіліка з паўкруглай апсідай, бакавымі сакрысціямі і трансептам. Галоўны фасад

вырашаны ўвагнута-пукатай хвалістай плоскасцю, завершанай тонкапрафіляваным карнізам, умацаванай па вуглах і цэнтры ступеньчатымі контрфорсамі, крапаванай тонкімі пілястрамі, лучковымі нішамі. У цэнтры размешчаны ляпны картуш з лісця аканта, з каронай і воінскай атрыбутыкай. Завяршэнне фасада стварае маляўнічы сілуэт будынка. Яго фланкіруюць дзве 8-гранныя вежы з круглымі люкарнамі — 2-яруснымі фігурнымі ківарыямі. Па цэнтры пукаты шчыт з плаўна выгнутым «разарваным» прафіляваным карнізам. Крывалінейнай формы шчыты завяршаюць і тарцы крылаў трансепта. У архіт. дэкоры — плоскія фігурнага абрысу нішы, валюты, вазы, вытанчаныя капітэлі. Унутраная прастора рознавялікіх нефаў перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках з люнетамі над арачнымі бакавымі вокнамі. Цэнтр. неф аддзелены ад апсіды мураванай перагародкай, вырашанай у выглядзе плаўна выгнутага антаблемента, часткі якога выступаюць з бакавых сцен апсіды і апіраюцца на 2 калоны і прысценныя пілястры. У завяршэнні перагародкі — скульптурная група анёлаў і пуці, упрыгожаная вазамі, ляпнымі гірляндамі. Насценны алтар вырашаны фігурнай нішай, абрамленай здвоенымі калонамі і пілястрамі, крапаванай антаблементам і завершанай у консе кампазіцыяй «Глорыя». Перад алтаром пастаўлены драўляны 2-ярусны іканастас, выкананы ў 1895 у «рускім» стылі. На паўн. сцяне трансепта навісае амбон з балдахінам, завершаным скульптурай евангеліста. Над скляпеністым нартэксам — хоры. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*



**Вольнаўская Троіцкая царква.**

**ВОПЫТНАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму. Створана ў 2-й пал. 19 ст. ў в. Вопытная (Верхнядзвінскі р-н). Належала Лапацінскім. Сядзібны ансамбль арганізаваны вакол сажалкі са штучным возерам, уключае сядзібны дом з парадным партэрам перад ім, капліцу, гасп. пабудовы і невял. парк пейзажнага тыпу. С я д з і б н ы  д о м — мураваны 1-павярховы прамавугольны ў плане, з 2-павярховай цэнтр. часткай. Аб'ёмы накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі 2-схільнымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі ў тарцах. Па баках будынка рызаліты з 4-калоннымі порцікамі пры ўваходах. Сцены дэкарыраваны пілястрамі, рустоўкай, філёнгамі і завершаны развітымі карнізамі. Аконныя праёмы прамавугольныя. У сядзібе размешчаны ветэрынарны тэхнікум. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*



**Вопытнаўская сядзіба.** Сядзібны дом.

**ВОРАНАВА,** гарадскі пасёлак, цэнтр Воранаўскага р-на. За 133 км ад Гродна. Да канца 18 ст. ў Вял. кн. Літоўскім, належала магнатам Гаштольдам, Сцыпіёнам, Зарэцкім. З 1795 у складзе Расіі, мястэчка Лідскага пав. У 1897—1574 жыхары. У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы. З 1939 у складзе БССР, з 1940 цэнтр раёна. Размешчана на ўзгорку ўздоўж стараж. тракту Ліда — Вільнюс (сучасная гал. вул. Савецкая). На вяршыні ўзгорка на рагу вуліц Савецкай і Юбілейнай на месцы гіст. цэнтра сфарміравалася цэнтр. плошча. Цэнтр. кварталы забудаваны 4—5-павярховымі жылымі дамамі. У паўд.-зах. частцы вырас новы шматпавярховы жылы раён, на астатняй тэрыторыі — мураваныя і драўляныя дамы сядзібнага тыпу. У паўд. частцы размешчаны вучэбны гарадок сярэдняга прафесіянальна-тэхн. вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Пасёлак развіваецца паводле генплана 1976 БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*Л. А. Вільчко.*

**ВОЎПАЎСКІ КАСЦЁЛ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ,** помнік драўлянага дойлідства позняга барока. Пабудаваны ў 1773 у в. Воўпа (Ваўкавыскі р-н) біскупам інфлянцкім Янам Непамукам Касакоўскім на месцы касцёла 16 ст. Рэстаўрыраваны ў канцы 19 ст. Падоўжаны 1-нефавы аб'ём з трансептам у сярэдняй частцы, утвораны дзвюма 5-граннымі больш нізкімі бакавымі прыбудовамі-капліцамі. У канцы алтарнай часткі нефа (з ПнЗ) вылучаны перагародкамі 3 сакрысціі. Гал. фасад 3-часткавы: цэнтр. частка ў выглядзе неглыбокага рызаліту завершана атыкам і трохвугольным франтонам, бакавыя ўтвораны двума 2-яруснымі вежамі з нізкімі шатровымі дахамі і фігурнымі шпілямі над імі. Неф накрыты ламаным гонтавым дахам з вежачкай над алтарнай апсідай, бакавыя прыбудовы — вальмавымі. Сцены ашаляваны гарызантальна, расчлянёны высокімі прамавугольнымі і лучковымі аконнымі праёмамі, умацаваны вертыкальнымі брусамі-лапаткамі. У інтэр'еры неф — вял. прамавугольнае ў плане памяшканне з падшыўной бэлечнай плоскай столлю, аформленай філёнгамі ў выглядзе несапраўдных кесонаў. З ім арачнымі праёмамі злучаны бакавыя прыбудовы. У паўд.-ўсх. частцы нефа над уваходам хоры з простай шчытавой агароджай. Прастору нефа замыкае драўляны разьбяны гал. алтар — помнік манум.-дэкар. мастацтва 1-й пал. 17 ст., які спалучае рысы маньерызму і ранняга барока (майстар невядомы). Устаноўлены на масіўным высокім цокалі, алтар мае характэрную для 17 ст. структуру 3-восевай аркі з 2-яруснай цэнтр. часткай. Ніжні ярус падзелены па вертыкалі 4 калонамі карынфскага ордэра на 3 часткі: у цэнтры — абраз «Укрыжаванне», у бакавых — скульпт. св. Казіміра і Іаана Хрысціцеля (выш. больш за 2 м). Вонкавыя калоны яруса пазалочаныя, унутраныя ўпрыгожаны разьбой у выглядзе стылізаванай вінаграднай лазы. У тымпане франтона 1-га яруса рэльефная выява Саваофа на воблаку і постаці 2 анёлаў па баках. У верхнім ярусе знаходзіцца абраз «Благавешчанне», фланкіраваны пазалочанымі калонамі карынфскага ордэра, і скульпт. выявы св. Елізаветы і Екацярыны. Алтар багата дэкарыраваны накладной і скразной разьбой у выглядзе арабескавых паясоў, ракавін, картушаў, галовак херувімаў. Кантраст паміж чорным колерам паверхні алтарных плоскасцей і пазалотай разьбы і скульптуры характэрны для ранняга барока. Фундатарам алтара з'яўляецца падканцлер Казімір Леон Сапега, сын Льва Сапегі. У прыбудове размешчаны алтар Маці Боскай Ружанцовай 1-й пал. 17 ст., упрыгожаны скульпт. выявамі і разьбой, аднатыпнай з дэкорам галоўнага алтара. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч, А. А. Ярашэвіч.*



**Воўпаўскі касцёл Іаана Хрысціцеля.**

**ВОЎЧЫНСКІ ТРОЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1733 па фундацыі падскарбія Вял. кн. Літоўскага Ст. Панятоўскага ў в. Воўчын (Камянецкі р-н) пры парадным уездзе ў палацава-паркавую рэзідэнцыю князя К. Чартарыйскага. У аснову праекта італьянскі архітэктар (імя невядома) паклаў вобраз рымскай царквы Санта-Марыя Маджоре. Значна рэстаўрыраваны ў 1780-я гады (арх. Іахім Хемпл, маст. Пташынскі). Месца пахавання польскага караля Ст. А. Панятоўскага (1798). У 1866 касцёл пераасвечаны ў праваслаўную царкву, з 1918 — прыходскі касцёл. Цэнтрычны 8-гранны ў плане мураваны будынак накрыты гранёным шатровым дахам. У яго завяршэнні бельведэр, які прызначаўся для гадзінніка-курантаў (знішчаны ў 1939). Уваход вылучаны нізкім прытворам, не парушаючым цэнтрычнасці агульнай кампазіцыі. Шырокія грані фасадаў крапаваны падвойнымі пілястрамі карынфскага ордэра, завершаны лучковымі франтонамі, увянчанымі скульптурнымі выявамі евангелістаў, ракайльнымі вазамі (не захаваліся). Аконныя праёмы размешчаны ў 3 ярусы: лучковыя ўнізе і на 2-м ярусе вузкіх граней; высокія арачныя на шырокіх гранях, круглыя і авальныя люкарны ў верхнім ярусе. Ліштвы акон насычаны прафіліроўкай, арнаментальнай лепкай, дэкарыраваны ляпнымі гірляндамі. Зала храма мае форму грэчаскага крыжа, перакрыта плоскай столлю. Вуглы зрэзаны 4-авальнымі ў плане памяшканнямі з лоджыямі на 2-м ярусе, на якія вядуць вітыя ўсходы. 2 ярусы абмежаваны шырокім антаблементам з прафіляваным карнізам і арнаментальным фрызам. 1-ы ярус сцен раскрапаваны карынфскімі канеліраванымі пілястрамі, 2-і — тонкімі лапаткамі з гірляндамі ў прасценках. У дэкоры шырока выкарыстана стукавая лепка: картушы, гірлянды, букеты кветак, акантавы арнамент, гарэльефы пуцці і херувімаў. Асн. пластыка-дэкар. акцэнтамі інтэр'ера

з'яўляліся 3 алтары — гал. і 2 бакавыя. Побач з касцёлам (з усх. боку) захаваўся будынак плябаніі — 1-павярховы прамавугольны ў плане аб'ём пад вальмавым дахам з мансардай. Касцёл не дзейнічае. Часткова пашкоджаны. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ВУЙВІЦКАЯ ІЛЬІНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1788 у в. Вуйвічы (Пінскі р-н) з рысамі стылю барока. Храм мае шматпланавую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, якую фарміруюць зрубы званіцы, цэнтр аб'ёму з 5-граннымі прыдзеламі і апсіда з квадратнай рызніцай. Вертыкальнай дамінантай з'яўляецца 4-ярусная чацверыковая званіца з гранёным сферычным купалам і макаўкай у завяршэнні. Квадратны ў плане асн. аб'ём мае 2-ярусную пабудову з 4-схільнымі перакрыццямі і цыбулепадобнай галоўкай на 2-ярусным васьмерыковым барабане ў завяршэнні. Плоскасныя фасады гарызантальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. У інтэр'еры дамінуе прастора цэнтр. аб'ёму, перакрытая шатровым скляпеннем на ветразях з «верхнім святлом» і расчыненая шырокімі прасветамі ў апсіду; бакавыя прыдзелы і бабінец аб'яднаны агульным зрубам з прытворам. Пры ўваходзе на шырыню бабінца галерэя хораў з бакавой лесвіцай. Царква дзейнічае.

*А. М. Кулагін.*



**Воўчынскі Троіцкі касцёл.**



**Вуйвіцкая Ільінская царква.** Выгляд з боку алтарнай апсіды.



**Выдранкоўская царква Дзмітрыя Растоўскага.**

**ВЫДРАНКОЎСКАЯ ЦАРКВА ДЗМІТРЫЯ РАСТОЎСКАГА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў пач. 20 ст. ў в. Выдранка (Краснапольскі р-н) з матывамі мадэрна. Храм падоўжна-восевай 4-частковай кампазіцыі: званіца, бабінец, крыжападобны асн. аб'ём і 5-гранная апсіда з квадратнай бакавой рызніцай. У сілуэце будынка дамінуюць гранёныя шатровыя пакрыцці з цыбулепадобнымі галоўкамі 8-граннага барабана асн. аб'ёму і 2-яруснай (васьмярык на чацверыку) званіцы, надбудаванай над прамавугольным прытворам. Стракатасць агульнай кампазіцыі ўзбагачаюць рознавялікія 2-гранныя шчыты зрубаў з разнымі падзорамі. Гарызантальна ашаляваныя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў пластычных ліштвах з разнымі падаконнікамі і прафіляванымі сандрыкамі з замковым каменем (імітацыя элементаў мураванага дойлідства). Галоўны і 2 бакавыя ўваходы вылучаны бочкападобнымі пакрыццямі на фігурных разных слупах, умацаваны бэлечнымі перавязкамі, дэкарыраваны авальнымі медальёнамі з абразамі. У інтэр'еры дамінуе прастора сяродкрыжжа, перакрытая шатровым скляпеннем на ветразях і асветленая верхнімі вокнамі барабана. Дзве галерэі хораў арыгінальна ўбудаваны ў бакавых прыдзелах, асветлены парамі арачных акон у шчытах. Царква дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**ВЫСОКАЕ,** горад у Камянецкім р-не на р. Пульва. За 40 км ад г. п. Камянец. Вядома з 14 ст. пад назвай Высокі горад. З 1647 належала Сапегам, якія пабудавалі замак, стварылі парк. З 1795 у складзе Расіі, мястэчка Брэсцкага пав. У 1897—3434 жыхары, 370 дамоў. У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка Брэсцкага пав. Палескага ваяводства. З 1939 у складзе БССР, з 1940 цэнтр Высокаўскага р-на. З 1962 у Камянецкім р-не. Горад падзелены ракой на 2 часткі. Архіт.-планіровачную структуру фарміруюць вуліцы Савецкая, Леніна, Сацыялістычная, Савецкіх Пагранічнікаў. У месцы перасячэння вуліц Савецкай і Савецкіх Пагранічнікаў утварыліся 2 плошчы — грамадскі і культ.-гандл. цэнтр горада. Паблізу размешчаны парк 19 ст. (створаны на месцы старога замка Сапегаў; гл. ў арт. *Высокаўская сядзіба).* Цэнтр., усх. і зах. часткі горада (прамысл. зона) забудаваны 2—3-павярховымі жылымі дамамі, астатняя тэрыторыя — індывідуальнымі дамамі сядзібнага тыпу. Помнік архітэктуры — *Высокаўская Варварынская капліца.* Паводле генплана 1975 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжаны буд-ва 3—5-павярховых жылых дамоў у паўн.-зах. і цэнтр. частках, 2-павярховай катэджавай — у паўд. частцы горада, стварэнне паркавай спарт. зоны ўздоўж ракі. *А. А. Васільеў.*

**ВЫСОКАЎСКАЯ ВАРВАРЫНСКАЯ КАПЛІЦА,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў г. Высокае (Камянецкі р-н) у 1772 на ўзвышаным правым беразе р. Пульва. Невялікі цэнтрычны 8-гранны аб'ём накрыты шатровым дахам, які завершаны скразным фігурным ліхтаром (чыгуннае ліццё). Грані аб'ёмаў раскрапаваны плоскімі лучковымі вокнамі і нішамі ў прафіляваных ліштвах, вуглавымі лапаткамі, гарызантальнымі цягамі цокаля і карніза. Унутры сцены аздоблены ляпным раслінным арнаментам, рэльефнымі выявамі воінскіх даспехаў. Над уваходам на 2 слупах размешчаны невял. хоры з ажурнай агароджай і бакавой лесвіцай. Выкарыстоўваецца як склад. *А. М. Кулагін.*



Высокаўская Варварынская капліца.



**Высокаўская сядзіба** (Камянецкі раён). З малюнка Н. Орды.



**Высокаўская сядзіба** (Аршанскі раён). Сядзібны дом.

**ВЫСОКАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры неакласіцызму. Комплекс створаны на мяжы 19—20 стагоддзяў у в. Высокае (Аршанскі р-н). Належала Макшыцкім. Мае сіметрычна-восевую схему, падкрэсленую ўязной алеяй. На папярочнай планіровачнай восі (у цэнтры) знаходзіцца 2-павярховы мураваны будынак сядзібнага дома, да якога прылягае 1-павярховае драўлянае крыло. У цэнтры паўн. фасада сядзібнага дома 5-гранны эркер. Будынак аздоблены рустам, вуглавымі лапаткамі, прафіляванымі ліштвамі стральчатых акон, карнізамі. Планіроўка анфіладная. Перад домам прамавугольны двор, на якім з паўд. боку размешчаны мураваны флігель (пабудаваны ў 1912) з мансардавым паверхам і 2-павярховым 5-гранным эркерам у цэнтры гал. фасада. З паўн. боку двара драўляны флігель, накрыты вальмавым дахам, уваход на гал. фасадзе вылучаны ганкам. У паўн. частцы сядзібы вакол невял. возера і ручая пейзажны парк. У сядзібе размешчана школа-інтэрнат. *А. М. Кулагін.*

**ВЫСОКАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік палацава-паркавай архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 1-й пал. 19 ст. ў в. Высокае (Камянецкі р-н) на зах. беразе р. Пульва, на месцы старога замка Сапегаў (17 ст., зруйнаваны ў 1794), ад якога засталіся фрагменты сцен і валоў. Належала Патоцкім. Размешчана ў парку пейзажнага тыпу, пл. 14,2 га. Парк перапланаваны ў 1895 В. Кроненбергам, ставам і каналам падзелены на 2 часткі. У цэнтры паўн.-зах. часткі размешчаны палац (1816) — прамавугольны ў плане 1-павярховы мураваны будынак сіметрычнай кампазіцыі. Цэнтр. частка вылучана мансардай з 4-калонным порцікам на гал. фасадзе, на дваровым — рызалітам і тэрасай. Цэнтр. група памяшканняў уключае вестыбюль з вітымі ўсходамі і прамавугольную залу з выхадам у парк. Планіроўка крылаў калідорная. Абапал палаца размешчаны Г-падобныя ў плане 1-павярховыя флігелі з порцікамі на тарцах, якія ўтвараюць перад палацам курданёр. Гал. ўезд у сядзібу па восі палаца афармлены ў выглядзе 2 пар пілонаў з дэкар. вазамі і каванай брамай. Асн. прагулачны маршрут парка — прамая каштанавая алея. У сядзібе размешчана школа-інтэрнат. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ВЯЛІКАМАЖЭЙКАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай



**Вялікамажэйкаўская сядзіба.** З малюнка Н. Орды.



**Вялікасяхновіцкая Мікалаеўская царква.**

архітэктуры класіцызму. Створана ў канцы 18 — пач. 19 ст. на паўн. ускраіне в. Вялікае Мажэйкава (Шчучынскі р-н). Уключала сядзібны дом (згарэў у 1914), парк, абкружаны з трох бакоў пладовым садам і муравaнай агароджай, флігель, гаспадарчыя пабудовы, бровар (1890). Перад гал. фасадам сядзібнага дома быў парадны партэр, абмежаваны мураванай агароджай з брамай, за якой былі зроблены 2 прамавугольныя ставы. Парк закладзены ў 1787 на пл. каля 7 га. Мае сіметрычную рэгулярна-восевую планіроўку. Апрача параднага партэра, мае за домам сістэму баскетаў, падзеленых сеткай грабавых, ліпавых і кляновых алей. Кампазіцыйную вось парку завяршала мураваная капліца, на ПнУ знаходзілася мураваная альтанка-ратонда (не захаваліся). Сярод насаджэнняў маюцца экзоты: лістоўніца еўрапейская, белая акацыя, ліпа амерыканская і інш. Прамавугольны ў плане мураваны 1-павярховы флігель вырашаны ў формах класіцызму. Лямус, які знаходзіцца ў паўн. частцы сядзібы, выкананы ў традыцыях драўлянага народнага дойлідства — 2-павярховы (1-ы паверх мураваны, 2-і — драўляны) квадратны ў плане будынак. Сядзіба належыць саўгасу «Вялікае Мажэйкава». Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ВЯЛІКАСВАРОТВАЎСКІЯ ТРОЦКІЯ ЦЭРКВЫ.** Пабудаваны ў 18—19 стагоддзях у в. Вялікая Сваротва (Баранавіцкі р-н). 1) Драўляная царква была пабудавана ў 1750-я гады. Мела 3-вугольны план з уваходамі з трох бакоў. На вуглах былі зроблены сакрысціі, што надавала асн. памяшканню 6-гранную форму плана. Шатровы гонтавы дах завяршаўся невял. вежай, па вуглах даху стаялі 3 маленькія вежачкі. Трохвугольны, аздоблены разьбой і пазалотай, алтар займаў цэнтр залы. Хоры мелі выгляд круглага ў плане балкона з агароджай з балясін, на сценах абразы 12 апосталаў. Столь мела форму скляпення і была размалявана. 2) Каменная царква пабудавана ў 1823 на месцы драўлянай. 3-вугольная ў плане з уваходамі з трох бакоў. Сцены царквы складзены з бутавага каменю на вапнавым растворы. Архіт. дэталі (абрамленні акон і дзвярэй, руставаныя вуглавыя пілястры і калоны дарычнага ордэру, карніз) выкладзены з цэглы і атынкаваны. Сцены ўсіх фасадаў маюць уверсе па 3 акны з арачнымі праёмамі. На гал. фасадзе паабапал дзвярэй зроблены паўкруглыя арачныя нішы. Царква мела плоскую столь і шатровы дах з 3-вугольнай вежай пад невял. шатровым дахам. Інтэр'ер быў атынкаваны і пабелены. Збераглася часткова, не дзейнічае. *С. А. Сергачоў.*

**ВЯЛІКАСЯХНОВІЦКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана да 1727 у в. Вял. Сяхновічы (Жабінкаўскі р-н), перабудавана ў 1860-я гады. Асн. прамавугольны зруб з алтарнай часткай уверсе трохграннай, унізе прамавугольнай, з рызніцамі па баках. З захаду да асн. зруба прымыкае квадратны ў плане бабінец, завершаны чацверыковай званіцай, накрытай шатром з галоўкай. Дах двухсхільны, над алтарнай часткай, дзе размешчана невысокая фігурная галоўка,— трохсхільны. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Аконныя праёмы з лучковымі завяршэннямі і каляровымі вітражамі. Інтэр'ер падзелены 4 слупамі. Хоры ў зах. частцы ў выглядзе арачнай галерэі, якую падтрымліваюць 4 калонкі. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. І. Чарняўская.*

**ВЯЛІКАЧУЧАВІЦКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1846—51 у в. Вял. Чучавічы (Лунінецкі р-н). У 1908 перабудавана (з З прыбудавана 3-ярусная званіца



**Вялікачучавіцкая Пакроўская царква.** Выгляд з боку алтарнай апсіды.

з шатровым дахам). 3-зрубны развіты па падоўжнай восі будынак з прамавугольным у плане бабінцам, квадратным цэнтр. аб'ёмам, завершаным васьмерыком на ветразях і 5-граннай апсідай. Апсіда накрыта вальмавым, бабінец — 2-схільным дахамі, над цэнтр. аб'ёмам — дах складанай формы, які ўтварае на 4 фасадах трохвугольныя шчыты і завершаны дэкар. пяцігалоўем. Звонку сцены ашаляваны, прарэзаны высокімі арачнымі (у цэнтры васьмерыка спаранымі) праёмамі. Галоўны і 2 бакавыя фасады акцэнтуюць уваходы з 3 ганкамі на парных разных слупах. У кампазіцыйным вырашэнні царквы адчуваецца ўплыў паўн.-рус. драўлянай архітэктуры.

**ВЯЛІКАЯ БЕРАСТАВІЦА,** гарадскі пасёлак, цэнтр Бераставіцкага р-на, на р. Бераставічанка. За 63 км ад Гродна. У 16 ст. належала вял. князю Вял. кн. Літоўскага Аляксандру, пазней — магнатам Хадкевічам, Лменішкам, Патоцкім, Касакоўскім. З 1795 у складзе Расіі, мястэчка Гродзенскага пав. Слонімскай, з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губерняў. У 18 ст. існавала *Бераставіцкая ратуша.* У сярэдзіне 19 ст. было 1037 жыхароў, 179 будынкаў, прыходскае вучылішча, 15 крам, у 1900—1768 жыхароў, 396 будынкаў (229 жылых). У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка, цэнтр гміны Гродзенскага пав. З 1939 у складзе БССР, вёска ў Крынкаўскім р-не. З 1944 цэнтр Бераставіцкага р-на, з 1947 гарадскі пасёлак. У 1962—66 у Свіслацкім р-не. Гал. кампазіцыйнай воссю з'яўляецца вул. Леніна, у паўд. частцы завяршаецца цэнтр. плошчай са скверам — грамадска-адм. і культ.-гандл. цэнтрам гарадскога пасёлка. З захаду да яе прымыкае вул. Савецкая, з У — вуліцы Чырвонаармейская і Дзяржынскага, звязаныя з дарогамі на Гродна, Ваўкавыск. Цэнтр. частка В. Б. забудавана 2—5-павярховымі жылымі дамамі, новы жылы раён будуецца ў паўн.-зарэчнай частцы. Астатнюю тэр. займаюць 1-павярховыя індывідуальныя дамы сядзібнага тыпу. На Пд, У і З размешчаны прамысл. прадпрыемствы, на Пн (уздоўж ракі) — зона адпачынку з сажалкай і паркам. Збярогся помнік архітэктуры 17 ст. — *Бераставіцкі касцёл Візітацыі Дзевы Марыі.* Пасёлак развіваецца паводле генплана 1979 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*І. М. Мазнічка.*



Забудова жылога раёна **Вяснянка.**

**ВЯСНЯНКА,** жылы раён у Мінску. Забудоўваецца з 1985 (праект забудовы ажыццявілі Я. Сап'янік, Г. Белікаў, В. Анікін, Л. Красіева, жылых дамоў і грамадскіх будынкаў — арх. Ю. Іваноў, С. Замараеў, В. Крусь, В. Сокал, В. Барташэвіч). Размешчаны ў паўн.-зах. частцы горада на міжмагістральнай тэр. (пл. 51 га) паміж вул. Ціміразева і праспектам Машэрава, фарміруе забудову ўздоўж водна-зялёнага дыяметра горада. Разлічаны на 24 тыс. жыхароў. Забудоўваецца буйнапанельнымі жылымі дамамі на аснове блок-секцый М-464 (9 паверхаў), М-111-90 (10—14 паверхаў), а таксама цаглянымі і з маналітнага жалезабетону (20 паверхаў). Архіт.-планіровачная структура раёна заснавана на дакладным раздзяленні яго на 3 буйныя жылыя ўтварэнні і размешчаных паміж імі ўчасткаў школ і дзіцячых садоў-ясляў, што стварае зручныя пешаходныя сувязі з імі, з грамадскім цэнтрам і зонай адпачынку. Кампазіцыя забудовы запраектавана з улікам маляўнічага прыроднага ландшафту, блізкасці паркавай зоны ў даліне р. Свіслач. На дамінуючым у цэнтры раёна ўзгорку стаяць 9—12-павярховыя, а таксама 20-павярховыя вежавага тыпу жылыя дамы, якія ствараюць запамінальны сілуэт. Каля падножжа ўзгорка з боку праспекта Машэрава — грамадскі цэнтр. Веерна пастаўленыя 9-павярховыя жылыя дамы абкружаюць другі ўзгорак з размешчанымі на ім 12-павярховымі дамамі. На рагу вул. Ціміразева і 3-га гарадскога кальца знаходзіцца другі гандл. цэнтр. Тут будзе ажыццёўлена сувязь з раёнам Масюкоўшчына праз падземны пераход цераз чыгунку.

*Н. А. Воінава.*

# Г

**ГАДЗІЧАЎСКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 1-й пал. 19 ст. з цэглы ў в. Гадзічава (Гомельскі р-н). Цэнтрычны квадратны ў плане аб'ём завершаны драўляным 4-гранным плоскім барабанам. Гал. і бакавыя фасады вылучаны 4-калоннымі порцікамі дарычнага ордэра, алтарны — рызалітам. Плоскасныя атынкаваныя фасады расчлянёны 2 ярусамі лучковых аконных праёмаў з замковым каменем у ліштвах, апeразаны міжпаверхавай цягай і прафіляваным карнізам з сухарыкамі. У цэнтр. залу з плоскай столлю 4 шырокімі аркамі расчыняюцца вузкія памяшканні прытвора, прыдзелаў з самастойнымі ўваходамі і апсіды, па баках якой вылучаны невял. рызніцы. Царква не дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*



Гадзічаўская Пакроўская царква.

**ГАЙЦЮНІШСКАЯ КАПЛІЦА,** помнік архітэктуры барока з элементамі абарончага дойлідства. Пабудавана ў 1614 (па іншых звестках у 1633) у в. Гайцюнішкі (Воранаўскі р-н) каля *Гайцюнішскага дома-крэпасці* як кальвінская капліца па фундацыі дачкі ўладальніка Гайцюнішак П. Нонхарта Зузаны. Стала сямейнай пахавальняй Нонхартаў, а пазней — Стэцкевічаў і інш. уладальнікаў Гайцюнішак кальвінскай веры. Кампактны прамавугольны ў плане мураваны будынак з развітай алтарнай часткай быў накрыты вальмавым дахам з дахоўкі, з трох бакоў умацаваны магутнымі крытымі дахоўкай контрфорсамі, якія стваралі своеасаблівую кампазіцыю гал. фасада. Тоўстыя сцены завяршаліся прафіляваным карнізам. Гал. фасад не меў шчыта, а над уваходам на даху ўзвышалася вежачка-сігнатурка. Тарэц алтарнай апсіды быў завершаны 3-вугольным франтонам. Дэкор на фасадах амаль адсутнічаў. Аконныя праёмы мелі лучковыя завяршэнні. Будынак быў перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У інтэр'еры капліцы вызначаліся алтар і амбон 17 ст. У сутарэннях знаходзіліся труны з муміфікаванымі целамі пахаваных. Засталіся руіны, часткі паўн. і зах. сцен. Помнік рэспубліканскага значэння. *У. М. Пярвышын.*



**Гайцюнішская капліца.** Фота пачатку 20 ст.

**ГАЙЦЮНІШСКІ ДОМ-КРЭПАСЦЬ,** «замачак», помнік грамадзянскай архітэктуры. Пабудаваны ў 1613 у в. Гайцюнішкі (Воранаўскі р-н). «Замачак» змураваў для сябе ўладальнік Гайцюнішак, «каралеўскі будаўнічы», выходзец з Нідэрландаў П. Нонхарт разам з інж. Ван Дадэнам. Пазней будынак належаў Храптовічам, Корфам, Штрэтэрам, Путкамерам, Остэн-Сакенам, Рымшам. Сіметрычны прамавугольны ў плане (15× 34 м) 2-павярховы будынак накрыты вальмавым дахам, фланкіраваны па вуглах 4 круглымі вежамі, завершанымі шатрамі. Першапачаткова быў абкружаны вадзяным ровам (захаваліся сляды абваднення). Цэнтр гал. фасада вылучаны 3-ярусная прамавугольнай вежай-брамай. Да яе прылягае мураваны ганак на слупах (пабудаваны ў канцы 19 ст.). Фасады амаль не маюць архіт. дэкору. Тоўстыя (каля 1,5 м)



Гайцюнішскі дом-крэпасць.

сцены фасадаў прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, вежаў — вокнамі-байніцамі. Планіроўка 3-частковая: вял. сенцы пасярэдзіне аддзяляюць адну групу пакояў ад другой. Адзін з пакояў 1-га паверха перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, астатнія — плоскай драўлянай столлю. На 1-м паверсе знаходзіліся службы і казарма для невял. гарнізона, наверсе — «панскія» пакоі і сталовая. У памяшканнях стаялі рознакаляровыя печкі і каміны, сцены мелі маляўнічую размалёўку, былі ўпрыгожаны лепкай, аздоблены ліхтарамі і інш. Пад будынкам знаходзяцца сутарэнні са студняй, якой карысталіся былыя абаронцы «замачка». Захаваліся некаторыя гасп. пабудовы 19—1-й пал. 20 ст. У 1970-я гады да ганка зроблена мураваная лесвіца, да дваровага фасада дабудаваны 1-павярховы цагляны корпус. Выкарыстоўваецца лячэбнай установай. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе. *У. М. Пярвышын.*



**Галавічпольская сядзіба.** Сядзібны дом.

**ГАЛАВІЧПОЛЬСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры мадэрна з элементамі неаготыкі. Створана ў пач. 20 ст. ў в. Галавічполле (Шчучынскі р-н). Сядзібны дом (1909) — мураваны Г-падобны ў плане будынак. Складаную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю ўтвараюць 1- і 2-павярховыя аб'ёмы, накрытыя дахоўкай высокія стрэхі з фігурнымі люкарнамі, спічастымі фіяламі і шчытамі, гранёныя эркеры з шатровымі завяршэннямі. Дэкар. вырашэнне фасадаў заснавана на спалучэнні чырвонага колеру цаглянай муроўкі з атынкаванымі ліштвамі, карнізамі і рустоўкай, паліхромнай муроўкай цокаля з вапнавых блокаў. Паўкруглыя тымпаны над вокнамі запоўнены дэкар. арнаментальнымі ўстаўкамі з паліванай керамікі. Элементы архіт. дэкору ствараюць на фасадах геаметрычны малюнак. Планіроўка калідорная з выхадам на тэрасу з каванай агароджай. Пад будынкам скляпеністыя падвалы. Дом размешчаны ў пейзажным парку (пл. 18 га), ад якога зберагліся фрагменты. Уязная алея абсаджана грабам, прамавугольныя баскеты абмежаваны алеямі. На ўскраіне парку шэраг ставоў. У дэндраскладзе больш за 50 відаў дрэў. У сядзібе размешчаны Васілішкаўскі дом-інтэрнат. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ГАЛЬШАНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры 16—18 стагоддзяў. Пабудаваны ў в. Гальшаны (Ашмянскі р-н). Уключае мураваныя касцёл і жылы корпус. Першы будынак касцёла пабудаваны ў пач. 16 ст., перабудаваны пад кальвінскі збор у сярэдзіне 16 ст. У 1618 на сродкі Паўла Сапегі касцёл зноў перабудаваны, узведзены жылы корпус кляштара. Касцёл — прамавугольны ў плане 3-купальны храм з паўкруглай апсідай і капліцамі па баках (у адной з іх знаходзілася надмагілле Сапегі і яго трох жонак — 3-ярусная кампазіцыя ў стылі рэнесансу; цяпер захоўваецца ў Музеі стараж.-бел. культуры Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі). У пач. 1770-х гадоў (верагодна, у 1774) будынак касцёла быў разабраны амаль да муроў і на яго месцы з выкарыстаннем фундамента і часткі сцен пабудаваны новы, які захаваўся да нашага часу. Сучасны будынак касцёла прамавугольны ў плане. Гал. фасад і апсідная частка маюць рысы стылю барока — фігурны франтон, раскрапоўка пілястрамі, валюты. Вертыкальнае чляненне гал. фасада пілястрамі на 3 часткі адпавядае падзелу ўнутранай прасторы на 3 нефы. Цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і падпружнымі аркамі, бакавыя нефы маюць крыжовыя скляпенні. Эмацыянальны акцэнт інтэр'ера касцёла — жывапіс на сцяне 3-яруснага гал. алтара (выкананы ў 1790-я гады). У 1-м ярусе паміж архіт. кулісамі размешчана 2-фігурная кампазіцыя «Хрышчэнне». 2-і ярус уяўляе сабой надкартушную прастору з выявамі анёлаў. На атыку намалявана фігура пішучага Іаана Евангеліста з яго сімвалам — арлом. У 3-м ярусе адлюстравана падкупальная прастора, запоўненая святлом блакітнага неба, у якім 2 анёлы нясуць у руках герб. Акрамя галоўнага, у касцёле было 7 бакавых алтароў. Жылы корпус кляштара 2-павярховы, прамавугольны ў плане, прымыкае да будынка касцёла з ПнЗ. Першапачаткова па перыметры ўнутранага дворыка (клуатра) ішла мураваная галерэя, частка якой (разбурана ў 1832) злучала касцёл з жылым корпусам (рэшткі галерэі ў месцы прымыкання да касцёла выяўлены аўтарам праекта рэстаўрацыі касцёла В. С. Маскалёвым). Да паўн. вугла жылога корпуса прымыкае 6-гранная вежа (у час археал. даследванняў на чале з А. Кушнярэвічам выяўлены фундамент другой такой жа вежы з процілеглага боку). У 1-м паверсе будынка размяшчаліся кухня, кладоўкі, васкоўня, трапезная, у 2-м — келлі і б-ка. У 1832 кляштар быў закрыты, жылы будынак перададзены ваеннаму ведамству. Планіроўка захавалася част-



**Гальшанскі касцёл і кляштар францысканцаў.** Жылы корпус.

кова. Цяпер у будынку размешчаны філіял Дзярж. мастацкага музея Беларусі. Мураваная квадратная ў плане званіца пабудавана ў 1810-я гады, мела 3 званы, завяршалася жалезным крыжам. Тэрыторыя кляштара абнесена муравапай агароджай. Вядзецца яго рэстаўрацыя. Помнік рэспубліканскага значэння.
*В. Р. Кукуня.*

**ГАЛЬШАНСКІ ПАЛАЦ,** Гальшанскі замак, помнік палацава-паркавай архітэктуры. Пабудаваны П. Сапегам на мяжы 16—17 стагоддзяў у в. Гальшаны (Ашмянскі р-н). Асноўную абарончую функцыю выконвалі земляныя валы і бастыёны з сістэмай абваднення, якія знаходзіліся на значнай адлегласці ад палаца. Мураваны прамавугольны ў плане (88,6×95,6 м) 3-павярховы будынак з вял. квадратным унутраным дваром (каля 60×60 м). Меў вял. падвалы, перакрытыя скляпеннямі. Вуглы палаца былі фланкіраваны 6-граннымі вежамі. У сярэдзіне прадаўгаватага паўн.-ўсх. крыла знаходзіцца ўязная брама, якая ў 17—1-й пал. 18 ст. завяршалася гранёнай вежай. У тоўшчах зах. грані рэштках яе муроў выяўлены вітыя ўсходы. Насупраць брамы размяшчалася 1-нефавая капліца (18,6×6,3 м), убудаваная ў паўд.-зах. крыло палаца, па ўсім перыметры будынка прамавугольныя і арачныя вокны. Сцены мелі фігурную муроўку, аздобленую лепкай. На ўзроўні 2-га паверха паўн.-зах. крыла з боку двара праходзіла адкрытая галерэя. На 1-м паверсе паўн.-зах. вугла палаца была размешчана вял. амаль квадратная зала з 4 слупамі ў цэнтры, перакрытая крыжовымі скляпеннямі. Інтэр'еры палаца былі багата аздоблены. Значную дэкар. ролю выконвалі кафляныя грубкі, абрамленні камінаў і столі ў тэхніцы стука, падлога памяшканняў з керамічных тэракотавых і паліваных зялёных крыжа-, зоркападобных, квадратных і прамавугольных плітак. Палац перабудоўваўся ў 18—20 стагоддзях, што змяніла яго аблічча і аб'ёмна-планіровачную кампазіцыю (страчаны галерэі, вежа над брамай, дэкар. аздабленні сцен, у сярэдзіне паўд.-ўсх. і паўн.-зах. крылаў палаца пабудаваны два 5-гранныя рызаліты). Збярогся часткова. Побач з замкам знаходзіцца малочная ферма мясцовага саўгаса «Гальшаны». Гноевыя сцёкі з фермы перыядычна запаўняюць унутраны двор замка, адходамі сельскагасп. вытворчасці засыпаюцца падвалы.
*І. М. Чарняўскі, Дз. С. Бубноўскі.*

**ГАНЦАВІЧЫ,** горад, цэнтр Ганцавіцкага р-на, на р. Цна. За 250 км ад Брэста. У 2-й пал. 19 ст. вёска Слуцкага пав., уладанне графа С. Чапскага. У 1897 у Г. 633 жыхары. Буд-ва Палескіх чыгунак садзейнічала ўзнікненню лесаперапрацоўчых прадпрыемстваў, што абумовіла перарастанне невял. вёскі ў мястэчка. У 1909 у Г. 157 двароў і 1026 жыхароў. У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка Лунінецкага пав. З 1939 у складзе БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У 1961—66 у Ляхавіцкім р-не, з 1973 горад. Падзелены чыгункай на 2 раёны — заходні і ўсходні. Зах. раён — галоўны. Яго фарміруюць вуліцы Кастрычніцкая і Гагарына, на перакрыжаванні якіх утварылася прамавугольная ў плане Кастрычніцкая пл. — грамадскі і адм. цэнтр горада. Цэнтр забудоўваецца 3—5-павярховымі жылымі дамамі. З захаду ад цэнтра — прамысл. раён, будуецца мікрараён. Усх. частка мае 1-павярховую забудову сядзібнага тыпу. Генплан 1975, праект дэталёвай планіроўкі цэнтра 1978 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжваюць развіццё горада ў паўд.-зах. і ўсх. напрамках, буд-ва ў зах. частцы шматпавярховых жылых дамоў, стварэнне зялёнага дыяметра, які звяжа сістэму сквераў цэнтр. часткі з зонай адпачынку.
*В. Я. Токарава.*

**ГАРАДЗЕЦКІ «КАРАЛЕЎСКІ ДВОР».** Існаваў у 2-й пал. 16 ст. ў в. Гарадзец (Кобрынскі р-н). Належаў каралю Зыгмунту III. У цэнтры размяшчаўся гал. жылы будынак, які меў 3 пакоі абапал сенцаў і 6 камор, завяршаўся дахам з драніцы, уваход быў вылучаны вял. ганкам. Паблізу знаходзіліся дом для чэлядзі (курная хата з каморай і сенцамі), 2 стайні, злучаныя вазоўняй, адрына, хлявы, сыраварня на 6 слупах з галерэяй наверсе, каля ўязных варот — 2 вял. свірны, кухня. Да двара прымыкала гумно са стадолай і клецяю. Усе будынкі былі драўляныя. Двор абнесены парканам з дыляў у шулах. Комплекс адлюстроўваў традыцыі бел. сядзібнага дойлідства 16 ст. Вядомы паводле інвентара 1597. Не збярогся.
*Ю. А. Якімовіч.*

**ГАРАДЗІШЧА,** гарадскі пасёлак у Баранавіцкім р-не, на р. Сэрвач. За 25 км на Пн ад Баранавіч. З сярэдзіны 13 ст. ў Вял. кн. Літоўскім, у 16 ст. ўваходзіла ў Навагрудскі пав. З 1793 у складзе Расіі. У 1640 пабудаваны мураваны касцёл (дзейнічаў да 1864), у 18 ст. — уніяцкая царква (з 1839 праваслаўная). На левым беразе ракі быў пабудаваны палац з вял. паркам, ставамі, каналамі, млынамі (не захаваліся). У 1893—747 жыхароў. Пасёлак перасякае рака, якая дзеліць яго на паўн.-зах. і паўд.-ўсх. (асн. тэрыторыя) часткі. Планіроўка квартальная. У цэнтры на ўзгорку — прамавугольная ў плане плошча (былая гандлёвая), ад якой разыходзяцца 4 магістральныя вуліцы, што ўтвараюць аснову планіровачнага каркаса пасёлка: Навагрудская, Вежнаўца, 17 Верасня, Кастрычніка. На ПнУ ад цэнтра — мураваны будынак царквы (18 ст.), на Пд — драўляная царква ў стылі мадэрн са званіцай (пач. 20 ст.). Забудова пераважна малапавярховая. На вул. Навагрудскай захаваліся 1-павярховыя дамы 19 — пач. 20 ст., шчыльна пастаўленыя адзін да аднаго. У паўд. частцы пасёлка фарміруецца мікрараён. Пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1982 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).
*Ю. А. Якімовіч.*

**ГАРАДНІЦА,** помнік горадабудаўніцтва 2-й пал. 18 ст. Комплекс пабудаваны па ініцыятыве падскарбія Вял. кн. Літоўскага А. Тызенгаўза ў 1765—85 у в. Гарадніца (сучасная пл. Леніна, *Ажэшкі вуліца* і інш.) з мэтай стварэння буйнога культ.-прамысл. цэнтра на 1500 жыхароў (арх. І. Мезёр у



**Гальшанскі палац.** З малюнка Н. Орды.




Гарадніца (з плана 1780): 1 — палац Тызенгаўза; 2 — музычная школа; 3 — палац адміністратара; 4 — гаспадарчы двор; 5 — карчма «Галеча»; 6 — харчэўні; 7 — дамы для іншаземных рабочых; 8 — карчма «Раскоша»; 9 — ветэрынарная школа; 10 — будаўнічая школа; 11 — мануфактуры; 12 — фальварак; 13 — сталоўка для рабочых; — 14 — кузні.

1765—74; Ю. Сака ў 1774—85). Уключала 85 будынкаў рознага прызначэння, згрупаваных вакол плошчаў, абапал вуліц і завулкаў. Пры забудове ўпершыню ў гісторыі горадабудаўніцтва Беларусі былі выкарыстаны новыя метады праектавання і буд-ва (тыпавыя праекты, уніфікаваныя канструкцыйныя прыёмы), вытрыманы высокія на той час тэмпы будаўнічых работ (за 15 гадоў пабудавана і ўведзена ў эксплуатацыю 85 будынкаў). У аснову праектнага плана Г. былі пакладзены планіровачныя прынцыпы барока. Большасць будынкаў мела фахверкавую канструкцыю, т. зв. «прускі мур». Забудова складалася з трох асобных рэгулярна спланаваных зон: адм.-культ., навучальнай, вытворча-жылой, якія адпаведна размяшчаліся ў зах., цэнтр. і ўсх. частках тэрыторыі. Найбольш захавалася забудова адм.-культ. зоны (6 будынкаў). У яе ўваходзілі *Гродзенскі палац Тызенгаўза, Гродзенскі дом віцэ-адміністратара* і размешчаны насупраць яго флігель (цяпер абл. дзіцячая б-ка, пл. Леніна, 5), *Гродзенскай медыцынскай школы будынак, Гродзенскі палац адміністратара, Гродзенскага тэатра Тызенгаўза будынак, Гродзенскі дом лясной адміністрацыі*, лямус. У навучальную зону ўваходзілі батанічны сад, *Гродзенскай медыцынскай школы будынак*. Вытворчая зона складалася з будынкаў суконнай, шаўковай, зброевай, фарбавальнай і інш. (не захаваліся) мануфактур і 20 тыпавых жылых дамоў (захаваўся дом на вул. Ажэшкі, 37, гл. *Гродзенскі «домік майстра»*). З У на З на паўд. ускраіне Г. праходзіла транспартная магістраль — вул. Раскоша (Басняцкая, Язерская, Верцялішская, сучасная вул. Ажэшкі), дзе знаходзіліся дамы Тызенгаўза, *гродзенскія корчмы*. Яна злучала ўсе зоны і да цяперашняга часу захавала свой напрамак і шырыню, як і ў 18 ст. з'яўляецца гал. вуліцай пры ўездзе ў горад. Частка ўцалелых пабудоў Г. знаходзіцца ў працэсе рэстаўрацыі, якую ажыццяўляе спец. навукова-рэстаўрацыйная вытворчая майстэрня вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя».

*В. В. Калнін, Л. П. Матусевіч, І. Г. Трусаў.*

**ГАРАДОК,** горад, цэнтр Гарадоцкага р-на, на р. Гаражанка. За 30 км ад Віцебска. Узнік на месцы стараж. ўмацаванага паселішча. Першы генплан распрацаваны ў 1778, меў характэрныя для горадабудаўніцтва таго часу рысы класіцызму. Планавалася спрамленне вуліц і фарміраванне прамавугольных і квадратных кварталаў. Уся тэрыторыя ўпісвалася ў прамавугольнік, абносілася абарончым валам і ровам. У зах., усх. і паўд. частках фарміраваліся плошчы. З У і Пд валы прарэзвалі 2 гарадскія брамы, якія вялі на дарогі на Усвяты і ў Віцебск. Сучасны горад падзяляецца ракой на паўн.-зах. і паўд.-ўсх. (цэнтр горада) часткі. Тут на пл. Леніна і прылеглых да яе вуліц Савецкай і Краснаармейскай размешчаны цэнтр з адм.-грамадскімі і культ.-быт. ўстановамі. Генплан 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжвае развіццё горада ў паўд.-зах. напрамку, фарміраванне на перакрыжаванні асн. вуліц К. Маркса, Камсамольскай і Чырвонаармейскай новага ядра грамадскага цэнтра. *Л. М. Смірнова.*



Гарадок. План 1778.



Гарадок. Вуліца Савецкая.

**ГАРАДОЦКАЯ КАЗЬМАДЗЯМ'ЯНАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1814 у в. Гарадок (Глускі р-н) з выкарыстаннем стылізаваных элементаў класіцызму. Будынак (выш. 22 м) складаецца з прамавугольнага асн. аб'ёму (32×12 м), пяціграннай апсіды, трох'ярусанай званіцы і бабінца. Накрыта двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. З боку гал. фасада званіца (васьмярык на чацверыку), завершаная паўсферычным купалам. Над асн. аб'ёмам — васьмігранны самкнуты купал на гранёным светлавым барабане. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, якія абрамлены ліштвамі з сандрыкамі. Вуглавыя часткі будынка ўмацаваны драўля-



Гарадоцкая Казьмадзям'янаўская царква.

ымі лапаткамі. Галоўны ўваход вырашаны ў выглядзе стылізаванага порціка. Унутраная прастора царквы развіта па падоўжнай восі. Светлавы барабан з васьмігранным самкнутым скляпеннем падтрымліваецца 8 слупамі. У дэкоры інтэр'ера шырока выкарыстана разьба па дрэве. Царква рамантавалася ў 1970-я гады, зараз дзейнічае. *В. М. Ладзіс.*

**ГАРАДОЦКІ ЗАМАК,** помнік абарончага дойлідства 14—18 стагоддзяў. Размешчаны ў паўн. частцы в. Гарадок (Маладзечанскі р-н). Авальны ў плане дзядзінец (60×40 м), абкружаны з Пд вадзяным ровам (шыр. 25—30 м), З і Пн — магутным земляным валам (выш. да 10 м). З усходу ў разрыве вала стаяла вежа (засталася круглая пляцоўка дыяметрам каля 7 м), якая ахоўвала ўезд у замак. Да ўвахода ў замак цераз роў быў перакінуты драўляны мост. На дзядзінцы знаходзіліся мураваныя і драўляныя жылыя і гасп. пабудовы. Пры раскопках знойдзена кераміка 14—18 стагоддзяў, сярод якой вылучаецца паліваная кафля з раслінным арнаментам і выявай арла. Комплекс збярогся часткова (засталіся валы, роў, падмуркі асобных будынкаў).

*М. А. Ткачоў.*

**ГАРНАСТАЕВІЦКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 2-й пал. 19 ст. ў в. Гарнастаевічы (Свіслацкі р-н). Уключае жылы дом, гасп. пабудовы, невял. парк з садам і сажалкай, касцёл. Ж ы л ы д о м — Т-падобны ў плане будынак. Складаецца з падоўжанага 1-павярховага і кароткага 2-павярховага прамавугольных аб'ёмаў. Планіроўка анфіладна-калідорная. Гал. ўваход аформлены 4-калонным порцікам. Фасады дэкарыраваны лапаткамі, рустам, пластычнымі ліштвамі акон, прафіляванымі цягамі. У інтэр'еры кафляныя грубкі, паркетная падлога, каваная і літая фарнітура, прафіляваныя бэлькі перакрыцця. Выкарыстоўваецца адм. установай. К а с ц ё л — прамавугольны ў плане, з сакрысціямі абапал алтарнай часткі, накрыты 2-схільным дахам з дахоўкі. Сцены з бутавага каменю, антаблемент, ліштвы акон, пілястры, порцік з цэглы. Гал. фасад вылучаны 6-калонным порцікам дарычнага ордэра. У інтэр'еры над уваходам хоры.

*А. М. Кулагін.*

**ГАРОДЗЕНСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры 2-й пал. 18 ст. Пабудавана ў в. Гародна (Воранаўскі р-н) для Л. Тышкевіча (арх. Ф. Эйсен). Належала Тышкевічам, з 1853 — Патоцкім, у канцы 19 ст.— Ігнаткевічам, у пач. 20 ст.— Кандратовічам. Уключала сядзібны дом, гасп. пабудовы, парк. Цэнтр кампазіцыі — драўляны на высокім мураваным цокалі 1-павярховы прамавугольны ў плане с я д з і б н ы д о м у стылі класіцызму (1780, арх. Ш. Цуг, разбураны пасля 1939). Цэнтр. частка была вылучана рызалітам, які на гал. і паркавым фасадах меў порцікі дарычнага ордэра з картушамі ў тымпанах франтонаў. Да гал. ўвахода вялі пандус і шырокая парадная лесвіца. Сцены былі звонку ашаляваны дошкамі, апрацаванымі рустам. Высокія прамавугольныя вокны мелі ліштвы з сандрыкамі ў завяршэнні, у цокалі вокны квадратныя. Планіроўка анфіладная з парадней залай у цэнтры, у бакавых частках — сталовая, кабінеты, гасціныя, спальні. Сцены памяшканняў былі аздоблены размаляванымі палатнянымі шпалерамі, падзеленымі на панелі пазалочанымі драўлянымі ліштвамі. Дзвярныя праёмы і каміны ўпрыгожвалі ляпныя пазалочаныя барэльефы ў выглядзе медальёнаў, гірляндаў, кветак, ваз і інш. У цокалі, куды вялі лесвіцы ў тарцах будынка, размяшчаліся гасп. памяшканні і жыллё прыслугі. П а р к, закладзены ў канцы 18 ст.,— рэгулярнай планіроўкі, сіметрычны, крыжападобны ў плане. На падоўжнай восі У—З размешчаны ўязная брама ў выглядзе 2 мураваных пілонаў, алея і квадратная плошча перад сядзібным домам, за ёй — прамавугольны партэр і вузкі выцягнуты штучны вадаём, густа абсаджаны дрэвамі мясцовых парод. Перспектыву алеі завяршала мураваная капліца — прамавугольнае ў плане збудаванне з 2-схільным дахам і вежай-званіцай на гал. фасадзе (збераглася часткова). Да яе ад партэра вяла кругавая дарожка. Да партэра прымыкаюць 4 падзеленыя алеямі баскеты, па 2 з кожнага боку. Парк збярогся часткова, месца адпачынку працоўных.

*В. Р. Анціпаў, В. Ф. Марозаў.*

**ГЕРАНЁНСКІ ЗАМАК,** помнік палацава-замкавай архітэктуры канца 15—пач. 16 ст. Пабудаваны каля в. Геранёны (Іўеўскі р-н). Стаяў на штучнай выспе, быў абкружаны абарончым валам (выш. 9—10 м, шыр. ў аснове 15 м), умацаваным



**Гарнастаевіцкая сядзіба.** Сядзібны дом.



**Гародзенская сядзіба.** З гравюры 19 ст.

з унутранага боку мураванай сцяной (таўшчыня 1,25 м, выш. 4,5 м) і 2 равамі (вонкавы даўж. 700 м) з вадою. Уваход у замак праз пад'ёмны мост. Мураваныя сцены (таўшчыня 2 м) утваралі квадратнае ў плане збудаванне (27×27 м) на высокім падмурку з цыліндрычнымі вежамі на вуглах (дыяметр 8 м). Сцены і вежы былі з каменю на вапнавым растворы, звонку — цагляная абліцоўка з гатычнай муроўкай. Каля паўд. сцяны замка размяшчаўся 2-павярховы мураваны палац, пабудаваны ў канцы 16 ст. на месцы драўлянага. Усе 12 акон палаца выходзілі на дзядзінец. Шатровыя дахі вежаў, дахі над баявым ходам сцен і ў палацы былі чарапічныя. Асталіся руіны. Помнік рэспубліканскага значэння.


**Геранёнскі замак.** З малюнка Н. Орды.

**ГЕРАНЁНСКІ МІКАЛАЕЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1529 у в. Геранёны (Іўеўскі р-н) па заказу віленскага ваяводы Альбрэхта Гаштальда. У 1779 пасля пажару адрамантаваны на сродкі Яна Пробача. У 1859 да прэсбітэрыя прыбудаваны сакрысція і капліца, у 1883 да зах. фасада — прытвор. Складаецца з прамавугольных у плане вялікіх асн. аб'ёму, алтарнай апсіды і больш нізкіх сіметрычных сакрысцій і тамбура. Усе аб'ёмы маюць асобныя дахі. Тарцы дахаў на гал. фасадзе і над сакрысціямі закрыты высокімі атыкавымі франтонамі. Фасады сціпла дэкарыраваны пілястрамі і прафіляванымі карнізамі. Вокны з лучковымі завяршэннямі. Унутры асн. аб'ём і апсіда злучаны вял. арачнымі праёмамі і перакрыты лучковымі скляпеннямі. Сакрысціі маюць плоскія перакрыцці. Пры ўваходзе крывалінейныя ў плане хоры. У выніку значных перабудоў архітэктура помніка набыла своеасаблівы рознастылявы характар. У 2-й пал. 19 ст. рэканструявана аздоба інтэр'ера. Мураваныя алтары (цэнтральны і 2 бакавыя) выкананы ў стылі класіцызму. Цэнтр. алтар 2-ярусны, афармлены калонамі карынфскага ордэра і драўлянай паліхромнай скульптурай, гарэльефнай кампазіцыяй і жывапісам. Бакавыя алтары вырашаны аналагічна цэнтральнаму. Дэкор аргана мае рысы стылю ракако. Сюжэтная і арнаментальная размалёўка сцен і арачных праёмаў выканана ў 1934. У 1891 побач з касцёлам узведзена званіца. У 19 ст. ўнутраная прастора была перакрыта драўлянай столлю паўцыркульнай формы. У сакрысціі былі мураваныя скляпенні. У 2-й пал. 19 ст. ў асн. частцы пакладзена падлога з цэглы, у сакрысціі і капліцы драўляная. У 1928—29 праводзілася рэстаўрацыя храма. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь, А. М. Кушнярэвіч.*

**ГЕРВЯЦКІ ТРОЩКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1903 у в. Гервяты (Астравецкі р-н) з чырвонай цэглы. 3-нефавая 1-вежавая базіліка з трансептам у зах. частцы накрыта 2-схільным крыжовым дахам з чырвонай чарапіцы, сяродкрыжжа якога завершана металічнай вежачкай, а грэбень — керамічнымі трылісьнікамі. З У да гал. нефа прыбудавана высокая 2-ярусная вежа-званіца, завершаная шпілем (яе бакавыя грані ў чацверыковым ніжнім ярусе аздоблены аркатурай і нішамі, верхні васьмерыковы ярус з 4 ба-


**Геранёнскі Мікалаеўскі касцёл.**

коў фланкіраваны дэкар. пілонамі, астатнія расчлянёны высокімі стральчатымі спаранымі вокнамі). Сярэдні павышаны неф з нізкімі стральчатымі вокнамі ўмацаваны знешнімі 4-ступеньчатымі, завершанымі шпілямі-пінаклямі контрфорсамі з аркбутанамі, якія ствараюць актыўны рытм бакавых фасадаў. Паміж кожнай парай контрфорсаў на сценах бакавых нефаў размешчаны па 2 высокія спараныя стральчатыя акны з дэкар. «ружамі» ў завяршэнні. Бакавыя фасады храма ўпрыгожаны аркатурназубчастым поясам, антаблемент мае фрыз са стылізаваным арнаментам у выглядзе 3-ступеньчатых зубцоў і карніз. Ідэнтычна вырашаныя алтарны фасад і тарцы трансепта маюць 4-ярусную кампазіцыю з вылучэннем павышанай цэнтр. часткі, завершанай гатычным атыкам з 3 вежачкамі, фланкіраваным 2 контрфорсамі з аркбутанамі, якія злучаюць атык з контрфорсамі. Гал. уваход афармляе перспектыўны партал, завершаны вімпергам і «ружай». Унутры нефы перакрыты крыжовымі нервюрнымі скляпеннямі на стральчатых падпружных арках. Калоны маюць складаную прафіліроўку і нагадваюць гурты калон стараж. гатычных сабораў. У алтары зберагліся фрагменты каляровых вітражоў. Касцёл дзейнічае.

*А. Ю. Пятросава.*

**ГЕРМАНАВІЦКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Створана ў канцы 18 ст. (пасля 1782) у в. Германавічы (Шаркоўшчынскі р-н) на правым беразе р. Дзісна. Належала І. Зрыня-Шырыну, які набыў маёнтак у графа І. Гільзена. Сядзіба мае рэгулярную планіроўку з геаметрычна правільнымі ўчасткамі пладовага саду, агарода і шэрагам прамавугольных ставоў. Да ракі спускаецца невял. парк пейзажнага тыпу. У цэнтры кампазіцыі мураваны с я д з і б н ы  д о м — прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак з пакатым вальмавым дахам. Планіроўка анфіладная. У тарцах будынка знаходзяцца 3-маршавыя лесвіцы. Вось сіметрыі падкрэслена на гал. фасадзе атыкам, на дваровым — рызалітам з 3-вугольным франтонам. Вуглы фланкіраваны плоскімі рызалітамі, у якіх зроблены ўваходы, аформленыя прысценнымі порцікамі. Сцены аздоблены на 1-м паверсе рустоўкай, на 2-м — каланадай. Гасп. пабудовы знаходзяцца ў паўн.-ўсх. частцы сядзібы. У сядзібным доме размешчана школа. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.



**Германавіцкая сядзіба.** Сядзібны дом.

*А. М. Кулагін.*

**ГЕРМАНАВІЦКІ БЛАГАВЕШЧАНСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры «віленскага барока». Пабудаваны ў 1787 з цэглы на паўн.-зах. ускраіне в. Германавічы (Шаркоўшчынскі р-н), на маляўнічым узгорку левага берага р. Дзісна. Храм падоўжанай сіметрычна-восевай кампазіцыі, якую фарміруюць прамавугольны ў плане неф, акруглая апсіда з нізкімі бакавымі сакрысціямі. Галоўны 2-вежавы пластычна вырашаны фасад мае вертыкальна накіраваную кампазіцыю. Ажурнасць 5-ярусных чацверыковых вежаў дасягаецца выкарыстаннем скразных лучковых і арачных праёмаў, круглых люкарнаў, вуглавых лапатак, увагнутасцю граней верхніх ярусаў. Асноўная плоскасць гал. фасада паміж вежамі завершана шчытом, дэкарыравана пілястрамі. У архітэктуры храма выкарыстаны характэрны прыём «віленскага барока» — кантрастнае спалучэнне пластычна насычанага гал. фасада і плоскаснага вырашэння асн. аб'ёму. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма мае ярусную пабудову: ад нізкіх сакрысцій і апсіды са шматлікім пакрыццём да суцэльнага асн. аб'ёму пад высокім 2-схільным дахам і вежаў (дамінанты кампазіцыі). У архіт. дэкоры выкарыстаны сандрыкі, рустыка, фігурныя філёнгі, тонкапрафіляваныя карнізы. Унутры неф храма перакрыты цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках з люнетамі высока ўзнятых лучковых акон, пераходзіць у прастору 5-граннай алтарнай часткі. Па перыметры залы праходзіць прафіляваны антаблемент, дэкарыраваны ляпнымі выявамі галовак пуці, раслінным ар-



**Гервяцкі Троіцкі касцёл.**



Германавіцкі Благавешчанскі касцёл. Галоўны фасад.

ментам. Над вузкім нартэксам на 2 слупах, аркадзе і крыжовых скляпеннях хоры, дэкарыраваныя канеліраванымі пілястрамі, паміж якімі ракайльны картуш з ляпнымі выявамі музычных інструментаў. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**ГЛУСК,** гарадскі пасёлак, цэнтр Глускага р-на, на р. Пціч. За 170 км ад Магілёва. Вядомы з 15 ст. як вотчына князёў Гальшанскіх, з 1525 мястэчка Навагрудскага пав. ў Вял. кн. Літоўскім. У сярэдзіне 18 ст. складаўся з асн. часткі і прадмесця Карпілаўка, было 320 двароў (1758). Цэнтрам кампазіцыі з'яўлялася 12-вугольная ў плане гандл. плошча. На ёй стаялі 47 крам, 25 камор, якія ўтваралі гандл. рады, драўляныя Васкрасенская і Троіцкая цэрквы, шпіталь, школа, мураваны Троіцкі касцёл (пабудаваны разам з кляштарам бернардзінцаў у 1667). Плошча звязвалася дарогай з *Глускім замкам.* Тэрытарыяльна



**Глуск.** План 19 ст.

падзяляецца на паўн. жылы і паўд. прамысл. раёны. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Кірава (гал. вось), Горкага, Маркса. Грамадскі цэнтр сфарміраваўся на вул. Кірава. Паблізу размешчаны гарадскі сквер. Паводле генплана 1974 (БелНДІгорадабудаўніцтва) прадугледжана чляненне тэрыторыі на прамысл. і 2 жылыя раёны.

*В. М. Кашырын.*

**ГЛУСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 15—19 стагоддзях у Глуску на правым беразе р. Пціч. Вуліцай злучаўся з гандл. плошчай. Неаднаразова перабудаваны. У 2-й пал. 16 ст. ўмацаваны землянымі бастыёнамі. У 1667 на тэр. замка пабудаваны касцёл і кляштар бернардзінцаў. У пач. 18 ст. замак быў 5-гран-



**Глускі замак.** План.

ны ў плане, абкружаны вадзяным ровам, умацаваны валам з 5 бастыёнамі і драўлянымі абарончымі сценамі. Меў галоўную (з боку гандл. плошчы) і «вадзяную» (з боку ракі) брамы. Галоўная брама мела пад'ёмны мост цераз роў. У яе ніжнім ярусе размяшчаліся скляпы, памяшканне для каравула і турма, у верхнім — жылыя пакоі, замкавая капліца з хорамі, аздобленымі разнымі ліштвамі, кафлянай грубкай з арлом на гербе. У «вадзяной» браме былі 2 жылыя памяшканні з каморамі ў ніжнім і залай у верхнім ярусах. У сярэдзіне 18 ст. рэканструяваны замак набыў рысы барочнай замкава-палацавай рэзідэнцыі. Пабудавана манументальная 3-ярусная брама з драўлянай тэрасай. У цэнтры дзядзінца стаяў вял. драўляны 4-павярховы на каменным падмурку прамавугольны ў плане палац, які складаўся з цэнтр. часткі (з параднай залай, што выходзіла на галерэю на дваровым фасадзе) і 2 бакавых крылаў (па 4 жылыя пакоі ў кожным). Будынак быў накрыты высокім ламаным гонтавым дахам, афармленым разнымі карнізамі і 14 люкарнамі. У цэнтры даху мансарда са шчытом, аздобленым разным картушам з геральдычнымі выявамі арла і лебедзя. Ад комплексу ўцалелі рэшткі земляных умацаванняў.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ГЛЫБОКАЕ,** горад, цэнтр Глыбоцкага р-на. За 200 км ад Віцебска. Упершыню ўпамінаецца пад 1514 як мястэчка. Падзялялася ракой на 2 няроўныя часткі: паўд.-зах. з маёнткам Зяновічаў (большая), паўд.-ўсх. з маёнткам Корсакаў. Цэнтрам паўд.-зах. часткі была гандл. плошча з крамамі і свірнамі, уніяцкай царквой Тройцы з плябаніяй, шпіталем. У радыяльных напрамках ад плошчы адыходзілі вуліцы Віленская, Друйская, Замкавая, Дворная, пазней узніклі вуліцы Кісялёўская, Дуброва, Докшыцкая (на ёй была арганізавана спец. плошча пад назвай «конскі торг»). У 16—18 стагоддзях існавалі замак і сядзіба Радзівілаў. У канцы 16 ст. пабудаваны кальвінскі збор (у пач. 17 ст. на яго месцы пастаўлены касцёл Міхаіла, які існаваў да 1650-х гадоў), у сярэдзіне 17 ст.—царква Тройцы (аднаўлена пасля пажару 1838, зноў згарэла ў 1880). У сярэдзіне 17 ст. паселішча абнесена «астрогам». Паўд.-ўсх. частка была мястэчкам з гандл. плошчай у цэнтры. У 1639 падаравана кармеліцкаму кляштару, пабудаванаму тут у 1640-я гады (гл. *Глыбоцкі касцёл і кляштар кармелітаў*). У 1743 пабудаваны драўляны, у 1782 — мураваны касцёл Тройцы (гл. *Глыбоцкі Троіцкі касцёл*). У 1775 у мястэчку каля 110 двароў. З 1793 г. ў складзе Расіі. У 1842 паўд.-ўсх. частка стала дзяржаўнай, паўд.-зах. заставалася прыватнаўласніцкай. У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр гміны Дзісенскага пав. З 1939 у складзе БССР, з 1940 цэнтр



**Глыбокае.** Вуліца Леніна.

р-на. З 1944 цэнтр р-на Полацкай, з 1954 Маладзечанскай, з 1960 Віцебскай абл. Архіт. аблічча сучаснага горада вызначаюць маляўнічы ўзгоркавы рэльеф мясцовасці і азёры, якія падзяляюць яго на зах. і ўсх. часткі. Вось кампазіцыі — вул. Леніна. На перасячэнні яе з вул. Савецкай размешчана трапецападобная ў плане пл. 17 Верасня — стары адм. і гандл. цэнтр горада. На перасячэнні гал. восі з вул. Маскоўскай сфарміравалася пл. Леніна — сучасны адм.-культ. і гандл. цэнтр. Горад захаваў радыяльную планіроўку 17—18 стагоддзяў. На пл. 17 Верасня захаваліся буйнейшыя архіт. комплексы: касцёл і кляштар кармелітаў, Троіцкі касцёл. Сярод мураваных будынкаў вылучаецца пабудаваная ў стылі класіцызму Ільінская капліца на могілках «Копцеўка» (там жа ўзведзена мемарыяльная калона ў памяць аб Канстытуцыі 3 мая 1791). Фрагменты гіст. жылой забудовы захаваліся на вуліцах Леніна і Маскоўскай. Паводле генплана 1979 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжаны развіццё горада ў паўн. напрамку ўздоўж азёр, функцыя-



**Глыбоцкі касцёл і кляштар кармелітаў.**



**Глыбоцкі касцёл і кляштар кармелітаў.** Фрагмент скляпенняў.



**Глыбоцкі касцёл і кляштар кармелітаў.** Здымак пачатку 20 ст.



**Глыбоцкі Троіцкі касцёл.**

..альнае заніраванне тэрыторыі, ..уд-ва 2—3- і 5—9-павярховых жы..ых дамоў, у паўд.-зах. частцы — ..ндывідуальныя забудовы.

*Ю. А. Якімовіч, Л. Г. Зайцава.*

**ГЛЫБОЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР КАРМЕЛІТАЎ,** помнік архітэктуры ..нняга барока. Размешчаны ў старым цэнтры г. Глыбокае, на паўн. ..разе воз. Вялікае. Мураваны касцёл пабудаваны ў 1639—54 па фундацыі Іосіфа Корсака, ваяводы мсціслаўскага, які пахаваны ў крыпце. Перабудаваны паводле праекта арх. .. К. Глаўбіца ў 1735 (зменены ..ал. фасад і інтэр'ер), першы ўзор ..іленскага барока на Беларусі. ..днproblemaчасова з перабудовай пастаўлены мураваны кляштар і брама. Касцёл — 3-нефавая 4-вежавая базіліка з трансептам і прамавугольнай у плане алтарнай апсідай. Спачатку вежы на гал. заходнім фасадзе і каля алтарнай часткі былі аднолькавыя — 2-ярусныя, аднолькавага квадратнага сячэння, накрытыя невысокімі шатровымі дахамі. У 1735 гал. фасад багата аздоблены ордэрнай пластыкай (вязкамі пілястраў, раскрапоўкамі, хвалістымі прафіляванымі цягамі, глыбокімі нішамі і інш.) і завершаны 2 скразнымі 4-яруснымі чацверыковымі вежамі і фігурным франтонам паміж імі. Праёмы з лучковымі і паўцыркульнымі завяршэннямі. У 1895 над сяродкрыжжам пабудаваны драўляны псеўдавізантыйскі купал (згарэў у 1944). Унутры скляпенні нефаў дэкарыраваны ляпным геаметрычным арнаментам. Інтэр'ер аздоблены пілястрамі, антаблементам з каванай агароджай над ім, лепкай у тэхніцы стука і інш. (зберагліся разныя з пазалотай дзверы 17 ст.). З ПнЗ да касцёла прымыкаў 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак кляштара з унутр. двором, зберагліся ўсх. крыло, два разабраны ў 1892. На восі касцёла размешчана 3-пралётная брама ў стылі позняга барока. Пры кляштары былі конвікт, б-ка, шпіталь, аптэка і цэлы комплекс гаспадарчых і складскіх памяшканняў. У 1865 зачынены, з 1875 праваслаўная царква Раства Багародзіцы, дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*

**ГЛЫБОЦКІ ТРОЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры 18—пач. 20 ст. Размешчаны ў старым цэнтры г. Глыбокае. Пабудаваны ў 1764—82 у стылі позняга барока. Мураваны 1-нефавы храм з выцягнутай паўкруглай апсідай і 2-вежавым фасадам, аздобленым ордэрнай пластыкай: вязкамі пілястраў, хвалістымі крапаванымі карнізамі, фігурнымі праёмамі, высокім атыкавым франтонам з валютамі. У 1902—08 (арх. Ю. Заро) прыбудаваны трансепт, бакавыя нефы і сакрысціі, што надало касцёлу аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю 3-нефавай крыжовай базілікі. 2-ярусныя вежы павялічаны на 2 ярусы, якія, як і цэнтральны фігурны франтон, маюць выцягнутыя вертыкальныя прапорцыі. Дэкар. аздабленне стылізавана пад першапачатковае. У інтэр'еры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі. Падлога выкладзена каляровымі керамічнымі плітамі. Сцены раскрапаваны пілястрамі і развітым антаблементам. Над бакавымі нефамі размешчаны невял. арнаментальныя ўстаўкі ў вохрыста-аліўкавай гаме. З драўляныя разныя алтары і амбон выкананы ў пач. 20 ст. Цэнтральны алтар упрыгожаны паліхромнай круглай драўлянай скульптурай (св. Павел і Пётр у першым ярусе, група анёлаў на вяршыні). У касцёле знаходзіцца абклад іконы «Маці Боская Адзігітрыя» 18 ст., захавалася каваная рашотка амбона. Над бабінцам хоры з арганам у стылі неаготыкі. Помнік рэспубліканскага значэння.

*С. Г. Багласаў.*

**ГНЕЗНАЎСКІ КАСЦЁЛ МІХАІЛА АРХАНГЕЛА,** помнік архітэктуры позняй готыкі з элементамі рэнесансу. Пабудаваны каля 1524 у в. Гнезна (Ваўкавыскі р-н) уладальнікамі Шамятовічамі. З 2-й пал. 16 ст. да 1643 быў заняты пратэстантамі. Рамантаваўся ў 1678, 1728 і 1844, рэстаўрыраваны ў 1931—32 паводле праекта арх. Тадэвуша Плюцынскага. Мураваны 1-нефавы 1-вежавы храм з 3-граннай алтарнай апсідай накрыты 2-схільным чарапічным дахам з вальмамі над алтаром. Тарэц даху на гал. фасадзе закрыты ступеньчатым атыкам. 2-ярусная вежа (васьмярык на чацверыку) накрыта высокім шатром з прагібам. Ніжні ярус вежы роўны па вышыні нефу, прамавугольны ў плане. У 1787 з паўд. боку да нефа была прыбудавана рызніца, пазнейшая — у 1876. Бакавыя сцены і апсіда ўмацаваны гранёнымі контрфорсамі, завершанымі ступеньчатымі кансолямі. Такія ж кансолі завяршаюць своеасаблівыя архіт. элементы, якія аздабляюць верхні ярус вежы. Уваход афармлены арачным парталам, абапал якога 2 плоскія стральчатыя аркі. Такія



Гнезнаўскі касцёл Міхаіла Архангела.



**Гнезнаўскі касцёл Міхаіла Архангела.** З малюнка Н. Орды.

ж 3 аркі над парталам. Верхняя частка прытвора і сцены асноўнага аб'ёму прарэзаны 2 радамі невял. квадратных аб'ёмаў — прадухаў. У дэкар. аздабленні спалучаюцца формы позняй готыкі (плоскія нішы ў выглядзе кілепадобных і вісячых арак, стральчатыя аркі парталаў і аконных праёмаў) і элементы рэнесансу (прафіляваныя карнізы, паўцыркульныя завяршэнні праёмаў верхняга яруса вежы). Унутры перакрыцце нефа бэлечнае з плоскай столлю. У заходняй частцы над уваходам размешчаны хоры на 2 круглых калонках. У тоўшчы паўн. сцяны лесвіца, якая вядзе на хоры. У касцёле былі абразы і скульптура 17—18 стагоддзяў. Тэрыторыя касцёла апяразана мураванай агароджай з брамай. На тэрыторыі захаваліся надмагільныя помнікі 19—1-й пал. 20 ст. У 1968 касцёл перададзены мясцоваму саўгасу пад склад, з 1989 дзейнічае як касцёл. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*А. А. Ярашэвіч.*

**ГОМЕЛЬ,** горад, цэнтр Гомельскай вобл., порт на р. Сож. За 301 км ад Мінска. Старажытны Г. (летапісны Гомей, Гомій, Гомін, Гомь, Гомье) узнік у 1-й пал. 12 ст. з радавога радзіміцкага паселішча на правым высокім беразе р. Сож пры ўпадзенні ў яго р. Гамеюкі. Упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1142. У 14 ст. аснову горада складаў драўляны замак, пабудаваны на месцы дзядзінца. У 16—17 стагоддзях Гомель — гандл.-рамесніцкі цэнтр з замкам і нерэгулярна спланаванай тэрыторыяй, асн. вуліцы былі арыентаваны на замак. У 2-й пал. 18 ст.



**Гомель.** Від на горад з боку р. Сож. З гравюры 19 ст.

не меў яснай планіровачнай схемы, забудоўваўся хаатычна, уяўляў сабой шэраг слабод і вёсак, якія групаваліся вакол замка. У канцы 18 ст. пачалася перапланіроўка горада — на месцы стараж. драўлянага замка быў пабудаваны палац П. А. Румянцава з вял. карціннай галерэяй і б-кай (гл. *Гомельскі палацава-паркавы ансамбль*), пазней побач пабудаваны *Гомельскі Петрапаўлаўскі сабор.* На тэр. Спасавай слабады пабудавана *Гомельская Ільінская царква.* 2-прамянёвая сістэма планіроўкі прадугледжвала арыентацыю гал. магістралей — вуліц Румянцаўскай (сучасная Савецкая) і Замкавай (сучасная пр. Леніна) — на цэнтр. частку палаца з купалам. Гэты прынцып захаваўся і развіваўся пры ўсіх наступных рэканструкцыях. Румянцаўская вул. была асн. воссю кампазіцыі плана горада, усе пабудовы на ёй былі выкананы ў стылі класіцызму (*Гомельскай ланкастарскай школы будынак* і інш.). У процілеглы бок ад палаца адкрывалася 3-прамянёвая перспектыва вуліц. На адной з іх (вул. Мільённай, сучасная Білецкага) размяшчаліся *Гомельскі «паляўнічы домік»,* летні дом Румянцава (у 1819 перабудаваны ў *Гомельскага духоўнага вучылішча будынак*), *Гомельскага «рускага тракціра» будынак.* Буйнымі пабудовамі Г. канца 19— пач. 20 ст. былі *Гомельскай гарадской думы будынак,* будынак Арлоўскага камерцыйнага банка (цяпер адм. будынак на вул. Першамайскай), *Гомельскага камерцыйнага банка будынак, Гомельскага руска-азіяцкага банка будынак,* будынкі мужчынскай і жаночай гімназій (гл. адпаведныя артыкулы), *Гомельскі дом урача,* жылыя дамы №№ 4, 8, 10, 12, 20, 28 на вул. Румянцаўскай, *Гомельскага тэхнічнага вучылішча будынак.* У разнастайным маст. вырашэнні фасадаў гэтых будынкаў выкарыстаны элементы стылізатарска-эклектычнага напрамку і стылю мадэрн. У культавых пабудовах панаваў псеўдарускі стыль: Георгіеўская (ваенная) царква (1904, не захавалася), Праабражэнская царква (захавалася часткова, вул. Пралетарская, 18), *Гомельская капліца.* Значны ўклад у забудову Гомеля ўнёс гарадскі арх. С. Шабунеўскі. У савецкі час горад актыўна развіваецца. У 2-й пал. 1920 — пач. 1930-х гадоў пачалося масавае жылёвае і прамысл. буд-ва: пабудаваны

**Гомель.** Праспект Леніна.

[п]ершыя секцыйныя шматкватэр[н]ыя жылыя дамы на вул. Пушкі[н]а для рабочых чыгункі, *Гомельскі дом-камуна* для рабочых вагонарамонтнага з-да, *Гомельскі жылы дом спецыялістаў, Гомельскі Палац культуры чыгуначнікаў* імя Леніна з кінатэатрам, настаўніцкі інстытут і інш. Паблізу прамысл. прадпрыемстваў узніклі рабочыя пасёлкі: Залінейны, Сельмашаўскі, Касцюкоўка. Першы генплан сацыялістычнай рэканструкцыі 1935 (Маскоўскае аддзяленне Дзіпрагора, арх. І. Сяргееў, удакладненні 1937, 1938, 1940) прадугледжваўператварэнне прамянёвай сістэмы планіроўкі горада ў радыяльна-кальцавую з занальным размяшчэннем галін прам-сці, упарадкаванне вуліц і плошчаў (яго ажыццяўленню перашкодзіла Айч. вайна). У 1946 распрацаваны праект аднаўлення і рэканструкцыі Г. («Белдзяржпраект»; арх. І. Сяргееў, Т. Сяргеева, інж. Г. Мішчанка, І. Дзесятнікаў, І. Бардукоў; удакладненні 1952, 1962) з захаваннем асн. прамянёвых магістралей, якія гіст. склалі планіровачную структуру горада: вул. Савецкая, праспект Леніна, вул. Кірава, вул.



**Гомель.** Базарная вуліца. Здымак 1911.

Пралетарская і перпендыкулярныя да іх вуліцы Камунараў, Працоўная, Сялянская, Першамайская, Палеская, Перамогі. Вул. Перамогі і злучаныя з ёй праспект Леніна і вул. Савецкая ўтварылі трохвугольнік цэнтра з плошчамі імя Леніна, Працы, Прывакзальнай, Перамогі, Паўстання. Паводле генплана 1964 (Гомельскі філіял «Белдзяржпраекта»; арх. М. Сундукоў, К. Усцюгоў, Б. Барысаў, А. Касякоў і інш.) радыяльныя напрамкі вуліц паступова ператвараюцца ў лінейныя, на гал. магістралях пабудаваны Дом спорту (арх. М. Спі-

рын), рэстаран «Беларусь» (арх. Л. Тамкоў), будынак абл. бібліятэкі імя У. І. Леніна (арх. В. Бурлака), *Гомельскага абласнога драматычнага тэатра будынак,* пешаходны мост цераз Сож і інш. У канцы 1970-х гадоў пачалася забудова буйнога жылога масіву Валатава на гідранамыўных поймавых тэр. Сажа. На пл. Леніна ўзведзены будынкі аблвыканкома, Дома сувязі (арх. Г. Ціхаў), на пл. Працы — праектнага ін-та «Дзіпражыўмаш» (арх. С. Пеўны), на пл. Перамогі — 12-павярховага інтэрната ін-та інжынераў чыг. транспарту. У 1970—80-я гады пабудаваны важныя ў горадабудаўнічых адносінах аб'екты, якія пераўтварылі архіт. аблічча агульнагарадскога цэнтра і горада ў цэлым: *Гомельскі цырк,* Ін-т механікі металапалімерных сістэм АН Беларусі (арх. Тамкоў), *Гомельскі лёгкаатлетычны манеж, Гомельскага канструктарскага бюро будынак,* галоўны корпус універсітэта, будынкі трэста «Гомельсаўгасбуд» і цэнтра навукова-тэхнічнай інфармацыі (усе арх. Пеўны), кінатэатр «Юбілейны» (арх. В. Ціхава), аэравакзальны комплекс, гасцініца «Турыст», шпіталь для інвалідаў Вял. Айч. вайны, комплекс фізкультурна-аздараўленчага камбіната (усе арх. В. Бяспалаў), комплекс 12-павярховых інтэрнатаў на вул. Савецкай (арх. Ф. Хайрулін) і інш. Асн. жыллёвае буд-ва вядзецца ў раёнах «Аэрадром» на вул. Савецкай (праект забудовы — арх. Я. Казлоў; індывідуальныя праекты асобных аб'ектаў — арх. Бяспалаў, В. Калюжны, В. Калінічэнка, В. Саенка, В. Свічэнскі, Тамкоў, Ш. Хінчын, Ціхава і інш.) і Валатава (арх. Казлоў, А. Лебедзеў). У пaўд.-зах. частцы Г. на намыўных тэрыторыях прадугледжваецца забудова раёна Асаўцы. Паводле праекта дэталёвай планіроўкі (арх. Казлоў, С. Крывашэеў) ён складаецца з 4 мікрараёнаў, якія аб'ядноўваюцца грамадскім цэнтрам. Паводле генплана 1977 («Гомельграмадзянпраект», арх. С. Паўлаў, Крывашэеў, А. Падабедаў; інж. І. Дубаў, Л. Калашнікаў, М. Найшулер) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра (арх. Крывашэеў, В. Рак; інж. Калашнікаў, Найшулер, Дубаў) планіровачная структура горада фарміруецца з 5 комплексных планіровачных раёнаў (Цэнтральнага, Паўночна-Усходняга, Паўднёва-Заходняга, Сельмашаўскага, Навабеліцкага) і развіваецца ў паўд.-зах. напрамку. Агульнагарадскі цэнтр развіваецца ўздоўж р. Сож і парку з выхадам да водна-зялёнага дыяметра.

*Ю. А. Якімовіч, С. Ф. Самбук.*

**ГОМЕЛЬСКАГА АБЛАСНОГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1956 (праект 1941, арх. А. Тарасенка, кансультант І. Жалтоўскі) на пл. Леніна. Прамавугольны ў плане аб'ём мае сіметрычную кампазіцыю. Па гал. восі размешчаны цэнтр. ўваход, вестыбюльная група памяшканняў, глядзельная зала партэрна-яруснага тыпу на 800 месцаў, развітая сцэнічная каробка. На гал. фасадзе 6-калонны порцік з франтонам, багата дэкарыраваны скульптурай, шматлікімі элементамі класічнай архітэктуры (складанапрафіляваны карніз, цягі, паяскі, ляпныя ўстаноўкі). Калонам карынфскага ордэра адпавядаюць пілястры па перыметры будынка. Інтэр'еры асн. памяшканняў аздоблены лепкай.

*А. А. Воінаў.*



Абласны драматычны тэатр у Гомелі.



**Гомельскага канструктарскага бюро будынак.**

**ГОМЕЛЬСКАГА ДУХОЎНАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1799—1819 у Гомелі на вуліцы Мільённай (сучасная вул. Білецкага, 11) як летні дом М. П. Румянцава. Архітэктар Дж. Кларк. З 1880 у будынку размяшчалася духоўная семінарыя. Складаўся з трох аб'ёмаў, пастаўленых на адной лініі: 2-павярховага драўлянага корпуса і злучаных з ім галерэямі 2-павярховых флігеляў. Корпус — прамавугольны ў плане будынак, на 1-м паверсе знаходзіліся 2 парадныя залы, на 2-м — жылыя пакоі. Галоўны фасад, быў вылучаны рызалітам з 6-калонным порцікам дарычнага ордэра і аздоблены балконам. Вокны 1-га паверха афармляліся паўкруглымі нішамі. Рызаліт, прасценкі 1-га паверха корпуса і сцэны флігеляў былі апрацаваны гарызантальнай рустоўкай. У 2-й пал. 19 ст. перабудаваны. Мураваны 2-павярховы П-падобны ў плане будынак (бакавыя крылы пабудаваны ў 1960-я гады). Цэнтр гал. прамавугольнага ў плане аб'ёму вылучаны магутнымі рызалітамі на гал. і дваровых фасадах. Цэнтр. ўваход з казырком на 2 слупах падкрэслены фігурным атыкам. Гал. фасад дэкарыраваны сандрыкамі, лепкай (на атыку), падзелены гарызантальнай цягай на 2 часткі. Дваровыя фасады бакавых карпусоў апрацаваны рустам, завершаны карнізам. Унутраная планіроўка калідорная. На 2-м паверсе знаходзілася семінарская царква (цяпер актавая зала). Зараз у будынку размешчаны міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат № 3. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*



**Гомельскага духоўнага вучылішча будынак.** З чарцяжа 19 ст.

**ГОМЕЛЬСКАГА КАМЕРЦЫЙНАГА БАНКА БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры гістарызму. Пабудаваны ў 190 (арх. С. Шабунеўскі) на рагу вуліц Румянцаўскай і Троіцкай (сучасныя вуліцы Савецкая і Сялянская, 17/10). У архітэктуры будынка прасочваецца ўплыў стылю ракако. Рэканструяваны ў 1947. Мураваны 3-павярховы Г-падобны ў плане будынак. Фасады падзелены прафіляваным карнізным поясам на 2 ярусы: ніжні (1-ы паверх, у якім размяшчаліся канторскія памяшканні) вырашаны ў выглядзе цокаля,



**Гомельскага камерцыйнага банка будынак.** Дэкор фасада.

руставаныя прасценкі паміж прамавугольнымі аконнымі праёмамі; верхні аб'ядноўвае 2-і і 3-і паверхі, дзе знаходзіліся жылыя пакоі. Кампазіцыю верхняга яруса ўтварае рытм завершаных маскаронамі ў складаных па форме картушах пілястраў, паміж якімі размешчаны нішы з 2 парамі прамавугольных аконных праёмаў. Прасценкі паміж вокнамі афармлены пілястрамі (у 2-м паверсе завершаны мадульёнамі, у 3-м вырашаны ў выглядзе гермы на канеліраваным плоскім пастаменце). Паміж 2-м і 3-м паверхамі скульптурныя ўстаўкі з насычаным раслінным арнаментам. Высокі антаблемент з арнаментаваным лепкай фрызам і вынесеным наперад прафіляваным карнізам на дэкар. мадульёнах у асобных частках завершаны нізкім крапаваным атыкам. На 3-м паверсе размешчаны балконы, упрыгожаныя кованай агароджай. Цэнтр гал. фасада (на вул. Сялянскай) вылучаны рызалітам, гал. ўваход — паўкалонамі іанічнага ордэра. У будынку размешчаўся Гомельскі абком камсамола.

*В. М. Чарнатаў.*

**ГОМЕЛЬСКАГА КАНСТРУКТАРСКАГА БЮРО БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1982 (арх. С. Пеўны) на вул. Фядзюнінскага. Складаецца з вышыннага 12-павярховага корпуса і круглага ў плане аб'ёму канферэнц-залы на 550 месцаў, размешчаных на 2-павярховым прамавугольным у плане развітым стылабаце. Кампазіцыя 12-павярховага корпуса заснавана на спалучэнні 2 злучаных аб'ёмаў, вырашаных у выглядзе пласцін. У аснове маст. вырашэння фасадаў — кантраст глухіх і зашклёных паверхняў сцен. Стылабат мае стужкавае зашкленне, падоўжную кампазіцыю ўзмацняюць гарызантальныя цягі парапетаў. Пластычны круглы ў плане аб'ём канферэнц-залы і пласціны вышыннага корпуса ствараюць кантраст у архітэктуры будынка. Фасады аб'ёму канферэнц-залы апрацаваны дэкар. тынкоўкай, гранітнымі і мармуровымі плітамі, стэмалітам. У аздабленні інтэр'ераў выкарыстаны мармур, траверцін, ракушачнік, гіпс, алюміній.

**ГОМЕЛЬСКАГА РУСКА-АЗІЯЦКАГА БАНКА БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры неакласіцызму. Пабудаваны ў 1910—12 (арх. О. Мунц) на рагу вуліц Румянцаўскай і Барона Нолькена (сучасныя вуліцы Савецкая і Ланге, 9/14). Мураваны 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак. Вуглавая частка скругленая, вылучана цыліндрычнай вежай з купалам. Фасады падзелены карнізнай цягай на 2 ярусы, ніжні ярус апрацаваны рустам. На плоскасці сцен — тонкія ліштвы, маскароны, гірлянды. На вежы, па баках круглага дахавага акна, алегарычныя выявы 2 жаночых фігур у антычным адзенні. Унутраная планіроўка 1-га паверха анфіладная, 2-га — калідорная. У будынку размешчана Гомельская абл. кантора банка.

*В. М. Чарнатаў.*



**Гомельскага руска-азіяцкага банка будынак.**



Гомельскага «рускага тракціра» будынак.

**ГОМЕЛЬСКАГА «РУСКАГА ТРАКЦІРА» БУДЫНАК,** помнік архітэтуры класіцызму. Пабудаваны ў 1822 (арх. І. Дзячкоў з удзелам арх. Дж. Кларка) на вул. Мільённай (сучасная вул. Білецкага, 10). Перабудоўваўся ў сярэдзіне 19 ст. і ў 1950-я гады. У першапачатковым выглядзе захаваўся 1-ы паверх. 2-і цалкам зменены пры рэканструкцыях. Паводле чарцяжоў 1844 меў П-падобны план. 1-ы паверх гал. фасада рытмічна чляніцца паўкалонамі дарычнага ордэра, прасценкі руставаныя, над прамавугольнымі вокнамі — клінападобныя перамычкі. Цэнтр драўлянага 2-га паверха будынка акцэнтаваны паўкруглым акном з руставаным архівольтам. Пасля рэканструкцыі 2-і паверх узбагаціўся архіт. дэкорам: вокны афармлены ліштвамі, балюстрадай, філёнгамі, сандрыкамі і 3-вугольнымі франтончыкамі. Будынак завершаны магутным 3-вугольным франтонам. На 1-м паверсе знаходзіліся сталоўка, пакоі для рамізнікаў і гаспадара, на 2-м — атэль. Цяпер у будынку размешчана адм. ўстанова. Помнік рэспубліканскага значэння. *В. Ф. Марозаў.*

**ГОМЕЛЬСКАГА ТЭХНІЧНАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры мадэрна. Пабудаваны ў пач. 20 ст. на вул. Магілёўскай (сучасная вул. Кісялёва, 2). Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак. Кампазіцыю гал. фасада ствараюць 2 бакавыя рызаліты і павышаная цэнтр. частка. Актыўнымі элементамі фасада з'яўляюцца вял. лучковыя вокны і цэнтр. ўваход, дэкарыраваны круглым вітражом. Ліштвы падкрэсліваюць крывалінейную форму аконных праёмаў, у 1-м і 2-м паверхах бакавых рызалітаў, аб'яднаны ў агульную дэкар. раму з перакрыжаваных гарызантальных і вертыкальных чляненняў. Планіроўка 1-га паверха калідорная, 2-га — анфіладная. У будынку размешчана тэхнічная школа машыністаў лакаматываў. *У. В. Алісейчык.*

**ГОМЕЛЬСКАЙ ГАРАДСКОЙ ДУМЫ БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры. Пабудаваны ў 1880-я гады (арх. Я. Тарлін) на вул. Румянцаўскай (сучасная вул. Савецкая, 1). У архітэктуры будынка выявіліся рысы стылізатарска-эклектычнай плыні. Мураваны 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак падзелены зубчастым поясам (3-і паверх дабудаваны ў 1935). 1-ы глухі масіўны паверх, расчлянёны блендамі, кантрастуе з 2-м і 3-м паверхамі. Гал. фасад вылучаны 2 нізкімі рызалітамі, апрацаваны лапаткамі, быў завершаны паўкруглым франтонам. Фасады аздоблены тонкімі пілястрамі, ліштвамі з франтончыкамі і інш. Планіроўка анфіладная. У будынку размешчана ф-ка «Палесдрук». У гады Вял. Айч. вайны на фабрыцы дзейнічала падпольная група Ц. С. Барадзіна. *У. В. Алісейчык.*



Гомельскага тэхнічнага вучылішча будынак.

**ГОМЕЛЬСКАЙ ЖАНОЧАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1844 на вул. Мільённай (сучасная вул. Білецкага, 6); разбураны ў Вял. Айч. вайну і рэканструяваны ў канцы 1940 — пач. 1950-х гадоў (часткова перабудаваны гал. фасад, зменена ўнутраная планіроўка). Складаецца з 2 выцягнутых у плане аб'ёмаў. На вул. выходзіць невял. 2-павярховым гал. фасадам сіметрычнай кампазіцыі. У дэкоры выкарыстаны руст, шырокі пояс з ляпнымі элементамі, 3-вугольны франтон і высокі атык. Гал. ўваход вылучаны 2 пілонамі і трохчвэртнымі калонамі. У будынку размешчаны Гомельскі палітэхнікум. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Міцянін.*

**ГОМЕЛЬСКАЙ ЛАНКАСТЭРСКАЙ ШКОЛЫ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1818 (арх. І. Дзячкоў



Гомельскай гарадской думы будынак.

з удзелам арх. Дж. Кларка) на вул. Румянцаўскай (сучасная вул. Савецкая, 39). Быў гал. будынкам комплексу пачатковай школы (арганізавана па ініцыятыве графа М. П. Румянцава), дзе выкладанне вялося па сістэме ўзаемнага навучання, распрацаванай англійскім пе-

дагогам Дж. Ланкастэрам. Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак. Сярэдняя частка гал. фасада вылучана 8-калонным на 2 паверхі порцікам іанічнага ордэра, завершаным 3-вугольным франтонам. Бакавыя часткі гал. фасада мелі невял. рызаліты, сцены якіх на 1-м паверсе былі апрацаваны рустоўкай. Вокны 1-га паверха знаходзіліся ў неглыбокіх нішах з паўцыркульнымі завяршэннямі.



Гомельскай жаночай гімназіі будынак.

мадзянскай архітэктуры гістарызму. Архіт. стылістыка будынка арыентавана на рус. класіцызм. Будынак класічнай гімназіі закладзены ў чэрвені 1897 у памяць аб расійскім імператары Аляксандры III. Пабудаваны ў 1898 (арх. С. Шабунеўскі) на рагу вуліц Навікоўскай і Магілёўскай (сучасныя Карповіча і Кірава). Мураваны 2-павярховы П-падобны ў плане будынак. Буйныя члянённі гал. фасада і бакавых рызалітаў (больш высокія памяшканні на 2-м паверсе) надаюць будынку манументальнасць. Парадны ўваход гал. фасада вылучаны порцікам з элементамі карынфскага і дарычнага ордэраў і завершаны 3-вугольным франтонам. Сцены, аздобленыя ліштвамі, ляпнымі ўстаўкамі, цягамі, меандрам, завершаны багата дэкарыраваным фрызам і развітым прафіляваным карнізам. Вокны 1-га паверха прамавугольныя, 2-га — арачныя. Планіроўка калідорная з аднабаковым размяшчэннем класных памяшканняў. У цэнтр. частцы па гал. восі парадны вестыбюль з 3-маршавай лесвіцай, абапал якой класныя і адм. памяшканні. У крыле, арыентаваным на вул. Кірава, размяшчаліся актавая і гімнастычная залы. У гады Вял. Айч. вайны часткова разбураны. Пры рэканструкцыі ў бакавых крылах надбудаваны 3-і паверх (інж. Р. Ханін). У будынку размешчаны адм.-навучальны корпус Беларускага ін-та інжынераў чыг. транспарту. *В. М. Чарнатаў.*

**ГОМЕЛЬСКАЯ ІЛЬЫНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства канца 18 ст. Пабудавана ў Гомелі на беразе р. Сож, на перасячэнні вул. Камісарава і Ільынскага спуску (названы ў гонар царквы). Знаходзіцца ў гіст. раёне горада. Раней тут у стараабрадцаў быў храм пад назвай Спасаў, раён называлі таксама Спасавай слабадой (пазней Слабада). Да 1737 Спасаў храм быў разбураны, на яго месцы пабудавана царква з дрэва, без купала, у гонар прарока Ільі. У 1793 царква разбурана, на яе месцы пабудавана новая, асвечаная 28.9. 1794. Побач з храмам існаваў мяшаны мужчынскі і жаночы скіт стараабрадцаў (у пач. 19 ст.— 50 чалавек). Да 1840-х гадоў стаў жаночы (у 1839—29 келій, 23 манашкі). У 1850 скіт і царква закрыты; іконы і рэдкія кнігі былі перададзены на захаванне протаіерэю львоўскаму ў *Гомельскую Петрапаўлаўскую царкву.* 29.6.1852 Ільынская царква зноў стала дзейнічаць, з чэрв. 1853 пры ёй заснаваны аднаверскі прыход. Царква складаецца з трох зру-



Гомельскай ланкастэрскай школы будынак. З чарцяжа 19 ст.

Уваходы з тарцоў будынка падкрэсліваліся 4-калоннымі порцікамі тасканскага ордэра, што падтрымлівалі балконы. У сярэдняй частцы будынка знаходзіўся вестыбюль з лесвіцамі на 2-і паверх. Па баках вестыбюля размяшчаліся вял. залы для заняткаў, якія мелі пасярэдзіне шэраг калон. Уваходы з тарцоў будынка мелі сенцы з лесвіцамі на 2-і паверх. Акрамя гал. будынка, у комплекс школы ўваходзілі чатыры 2-павярховыя флігелі для пражывання настаўнікаў і вучняў (1-ы паверх мураваны, 2-і — драўляны), а таксама драўляныя пабудовы для лазні, свірна і стайні. У 1840-я гады ў сувязі з размяшчэннем у Гомелі ваеннага гарнізона комплекс выкарыстоўваўся пад казармы. Зараз будынак выкарыстоўваецца як корпус абутковага вытворчага аб'яднання «Праца». Помнік рэспубліканскага значэння. *В. Ф. Марозаў.*

**ГОМЕЛЬСКАЙ МУЖЧЫНСКАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК,** помнік гра-



**Гомельскай мужчынскай гімназіі будынак.** Цэнтральная частка галоўнага фасада.



Гомельская Ільінская царква.

баў, пастаўленых адзін за адным па падоўжнай восі. Зрубы нефа і бабінца прамавугольныя ў плане, алтарнай апсіды—5-гранны. Гал. ўваход праз зашклёную галерэю (раней была адкрытая). Над бабінцам надбудавана шмат'ярусная вежа-званіца, васьмярык на чацверыку. Сярэдні зруб у плане квадратны, вышэйшы за астатнія, завершаны 2 светлавымі васьмерыкамі. Аб'ёмы накрыты выгнутымі дахамі і гранёнымі купаламі. Над алтаром—шматсхільны дах. Сцены гарызантальна ашаляваны. У інтэр'еры прастора нефа развіта па вертыкалі. Вышыня да асновы купала складае агульную даўжыню нефа і алтара (прыём старажытнарускага манументальнага дойлідства). Бабінец і алтарнае памяшканне з рызніцай значна меншай вышыні (каля палавіны ніжняга яруса нефа), перакрыты плоскай столлю на бэльках. Алтар ад нефа аддзелены іканастасам. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. Ф. Рогалеў.*

**ГОМЕЛЬСКАЯ КАПЛІЦА,** помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.



**Гомельская капліца.** Папярочны разрэз.

Пабудавана ў 1870—89 у Гомелі паводле праекта арх. Я. Чарвінскага. Дэкар. работы выкананы мясцовымі майстрамі пад кіраўніцтвам мастака С. Садзікава. Размешчана ў *Гомельскім палацава-паркавым ансамблі.* Квадратнае ў плане мураванае збудаванне (пл. каля 30 м²) накрыта высокім 8-гранным шатром з люкарнамі і цыбулепадобнай галоўкай (агульная выш. 18 м). Такія ж галоўкі завяршаюць вуглы асн. аб'ёму. Фасады абліцаваны светлай цэглай, аздоблены керамічнымі дэталямі і каляровай маёлікай. На паўд. фасадзе ўваход з лесвіцай і арачным парталам. Інтэр'ер зальны. Побач з капліцай уваход у фамільную пахавальню Паскевічаў. Пахавальня складаецца з надземнай і падземнай частак. Надземная частка — невял. мураваная пабудова, увянчаная маленькім барабанам з галоўкай, звязана лесвіцай са склепам (падземная частка, даўж. 28 м). Сцены склепа абліцаваны колатым каменем, пакрытым палівай. Каля сцяны ўстаноўлены мемарыяльныя пліты, на тарцовай — мазаічнае пано. Г. к. і пахавальня рэстаўрыраваны ў 1971—75. Помнік рэспубліканскага значэння.

**ГОМЕЛЬСКІ ДОМ УРАЧА,** помнік грамадзянскай архітэктуры гістарызму. Пабудаваны ў 1903 (арх. С. Шабунеўскі) на вул. Ірынінскай (сучасная Першамайская, 13). У архітэктуры будынка прасочваецца ўплыў стылю ракако (характэрная рыса творчасці Шабунеўскага таго перыяду). Да мураванага 1-паверховага ў плане будынка з боку двара прымыкае невял. гасп. прыбудова. Кампазіцыя гал. фасада, што выходзіць на чырвоную лінію забудовы вуліцы, сіметрычная. Гал. ўваход вырашаны ў выглядзе прамавугольнага ганка, завершанага фігурным атыкам, які падтрымліваюць 2 квадратныя калоны. Плоскасці калон упрыгожаны ляпным дэкорам. Дэкаратыўныя ляпныя дэталі аздабляюць прасценкі паміж 6 высокімі вокнамі і карнізы. На атыку — ляпны вензель былых уладальнікаў дома. Унутраная планіроўка калідорная. Цяпер у будынку размешчаны Дом грамадзянскіх абрадаў.

*В. М. Чарнатаў.*

**ГОМЕЛЬСКІ ДОМ-КАМУНА.** Пабудаваны ў 1929—31 (арх. С. Шабунеўскі, інж. Р. Ханін) для рабочых вагонарамонтнага з-да. Прыклад по-



Гомельская капліца.



Гомельскі дом урача.



Гомельскі дом-камуна.

шукаў у сав. архітэктуры 1920 — пач. 1930-х гадоў новых форм арганізацыі жылля і быту працоўных. П-падобны ў плане мураваны будынак размешчаны ўздоўж чырвонай лініі праспекта Леніна, займае па даўжыні квартал. Выразнасць аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дасягнута спалучэннем вертыкальных 7-павярховых аб'ёмаў, якія фланкіруюць цэнтр. 6-павярховы аб'ём з бакавымі крыламі. Пластыка гал. і бакавых фасадаў, пазбаўленых архіт. дэкору, ствараецца мерным рытмам аконных праёмаў, чаргаваннем лоджый і балконаў. Планіроўка калідорная. На 2—6-м паверхах уздоўж калідора размешчаны жылыя ячэйкі, якія маюць па 2—3 пакоі і кухню-нішу. На кожным паверсе прадугледжаны пакоі адпачынку, агульныя кухні, кубавыя і санвузлы. 1-ы паверх прызначаўся пад агульныя памяшканні для жыхароў усяго дома (сталовая, бібліятэка-чытальня, дзіцячае дашкольная ўстанова). У Вял. Айч. вайну будынак быў разбураны. Пры аднаўленні (1946—49) пакінута старая планіровачная структура. Цяпер жылы будынак.

*А. А. Воінаў.*

**ГОМЕЛЬСКІ ЖЫЛЫ ДОМ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ.** Пабудаваны ў 1932—35 (арх. М. Салін) на вул. Кірава. Г-падобны ў плане 4—5-павярховы будынак на 50 кватэр. У кампазіцыі вылучана 5-павярховая вуглавая частка, якая мае на фасадзе лапаткі простага профілю і вертыкальнае стужачнае зашкленне лесвічных клетак. Фасады 4-павярховых бакавых аб'ёмаў вырашаны без пластычных дэталей. Планіровачная схема заснавана на выкарыстанні аднатыпных секцый з выхадам на лесвічную пляцоўку 2 ква-



Гомельскі жылы дом спецыялістаў.

тэр (3- і 4-пакаёвых). На 1-м паверсе вуглавой часткі размешчаны магазін. У гады Айч. вайны будынак пашкоджаны, у 1949 адноўлены з нязначнымі зменамі. *А. А. Воінаў.*

**ГОМЕЛЬСКІ ЛЁГКААТЛЕТЫЧНЫ МАНЕЖ,** крытае спарт. збудаванне для правядзення спаборніцтваў і трэніровак па лёгкай атлетыцы, іграых відаў спорту, барацьбе, цяжкай атлетыцы і інш. Пабудаваны ў 1980 у Гомелі (інж. Б. Максімовіч, арх. В. Саенка). Адно з першых збудаванняў на Беларусі, перакрытае клеедраўлянымі 3-шарнірнымі аркамі пралётам 49 метраў. Мае простую і лаканічную архітэктуру, абумоўленую планіровачным і канструкцыйным вырашэннем. Прамавугольны ў плане (126×49 м) будынак з прыбудаваным 1-павярховым блокам адм. і дапаможных памяшканняў. Зала манежа абсталявана 200-метровай 4-раднай кругавой і 110-метровай 6-раднай прамой бегавымі дарожкамі са спец. пакрыццём і стацыянарнымі падковападобнымі трыбунамі на 2 тыс. месцаў. Вышыня залы больш за 15 м, аб'ём каля 98 тыс. м$^3$. У інтэр'еры асн. акцэнт зроблены на пластычную форму і натуральную фактуру матэрыялу нясучых элементаў.

*С. Дз. Філімонаў.*



Гомельскі лёгкаатлетычны манеж.

**ГОМЕЛЬСКІ ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ І ТЭХНІКІ ЧЫГУНАЧНІКАЎ** імя У. І. Леніна. Пабудаваны ў 1930 (арх. А. Кірылаў) у простых лаканічных формах канструктывізму. Разбураны ў Айч. вайну. Пры аднаўленні ў 1950 (арх. І. Пестракоў) у асноўным пакінута першапачатковая планіроўка, але зменена аздоба фасадаў. Складаецца з 3 аб'ёмаў: тэатральна-канцэртнай залы, кінатэатра і вуглавога 3-павярховага аб'ёму з 6-кай, рабочым і адм.-гасп. памяшканнямі, якія ўтвараюць прамавугольны ўнутраны двор. Аб'ём тэатральна-канцэртнай залы выступае за плоскасць гал. фасада, аформленага класіцыстычным порцікам. Інтэр'ер залы вырашаны ў бела-блакітнай каляровай гаме, з каланадай бакавых галерэй. Вуглавы аб'ём звонку аформлены калонамі іанічнага ордэра. *А. А. Воінаў.*

**ГОМЕЛЬСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ,** помнік палацава-паркавай архітэктуры 2-й пал. 18 — сярэдзіны 19 ст. Створаны ў цэнтры Гомеля, на высокім правым беразе р. Сож. Уключае палац, парк, *Гомельскі Петрапаўлаўскі сабор* і *Гомельскую капліцу* (размешчаны ў парку). Этапы фарміравання ансамбля адлюстроўваюць эвалюцыю архітэктуры Беларусі канца 18—19 ст. Палац (Гомельскі палац, Палац Румянцавых-Паскевічаў) пабудаваны ў стылі класіцызму, з'яўляецца кампазіцыйным цэнтрам ансамбля. Закладзены ў 1777 генерал-фельдмаршалам П. А. Румянцавым на месцы земляных умацаванняў і драўлянага замка кн. М. Чартарыйскага. Да 1834 належаў Румянцавым, у 1835—1917 — Паскевічам. Будаўніцтва вялося ў некалькі этапаў. Гал. корпус пабудаваны ў 1777—96 (арх. Я. М. Аляксееў з удзелам арх. К. І. Бланка). У 1800—05 пабудаваны 2 службовыя флігелі (аформлены 4-калоннымі порцікамі іанічнага ордэра), якія фланкіруюць гал. корпус, праведзены рамонт (арх. Дж. Кларк). Пасля набыцця палаца І. Ф. Паскевічам у 1837—51 адбылася рэканструкцыя і дабудова (арх. А. Ідзкоўскі): гал. корпус і бакавыя флігелі былі злучаны галерэямі, якія фланкіруюцца квадратнымі ў плане павільёнамі; надбудаваны 3-і паверх паўн. флігеля, разабраны яго іанічны порцік і зменена ўнутраная планіроўка; на падмурку разабранага паўд. флігеля пастаўлены масіўная 4-ярусная вежа ў стылі несапраўднай готыкі і



Гомельскі Палац культуры і тэхнікі чыгуначнікаў.



Гомельскі палацава-паркавы ансамбль. З малюнка Н. Орды.





**Гомельскі палацава-паркавы ансамбль.** Галоўны корпус (злева) і інтэр'ер палаца.

павільён з верхнім светам; зменены франтон 4-калоннага порціка гал. корпуса, з боку ракі дабудавана веранда; на дахах гал. корпуса і галерэй устаноўлены статуі і чыгунныя балюстрады. Палац рэканструяваны ў 1856 і 1919—20, разбураны і спалены ў 1941—43, адноўлены і рэканструяваны ў 1969. Гал. корпус — адзін з першых на Беларусі прыкладаў класічнай «паладыянскай» пабудовы з кампактнай, блізкай да квадрата формай плана і купальным завяршэннем. Мураваны 2-павярховы будынак з бельведэрам мае цокальны паверх, уязны пандус і прасторную паўкруглую тэрасу, якая выходзіць у бок ракі. Гал. фасад мае 3-часткавую сіметрычную кампазіцыю, афармлены магутным 4-калонным порцікам карынфскага ордэра. Сярэдняя частка звернутага да ракі фасада афармлена 6-калонным порцікам. Сцены аздоблены пілястрамі карынфскага ордэра. Бакавыя часткі вылучаюцца вял. аконнымі праёмамі. Планіроўка анфіладная. Цэнтрам аб'ёмна-планіровачнай кампазіцыі з'яўляецца высокі накрыты купалам квадратны ў плане зал (з нішамі і антрэсолямі), афармлены радамі апрацаваных штучным мармурам калон карынфскага ордэра. Інтэр'еры былі аздоблены ляпным арнаментам і жывапісам (майстар Вінцэнта Вінцэнці). У канструкцыі купала і скляпенняў залы выкарыстаны кароткія лёгкія керамічныя гафрыраваныя трубкі, што надае лёгкасць канструкцыям. Тры вял. праёмы злучалі залу з вестыбюлем, па баках ад якога знаходзіліся лесвіцы, што вялі на 2-і паверх у жылыя пакоі. Былыя парадныя памяшканні на 1-м паверсе (чырвоная, белая і малая гасцёўні, сталовая, кабінет, спальня) захавалі некаторыя элементы дэкору сярэдзіны 19 ст.: аздоба дзвярэй, ліштвы і інш. Галерэі—12-пралётныя каланады іанічнага ордэра (у іх размяшчаліся калекцыі жывапісу і мінералаў). Павільёны—мануметальныя аб'ёмы, маюць складаныя трайныя вокны з каляровымі вітражамі (у паўн. павільёне знаходзілася партрэтная, з 1856—царква). Інтэр'еры паўд. павільёна аздоблены пілястрамі іанічнага ордэра, дэкарыраванымі лепкай у выглядзе масак і гірлянд. Высотнай дамінантай ансамбля з'яўляецца 4-ярусная вежа, фасады якой расчлянёны пілястрамі, ярусы вылучаны шырокімі стужкамі карнізаў. Высокія вузкія вокны вежы згрупаваны па 3, на 4-м ярусе — чыгунныя балконы і завяршэнне ў выглядзе зубчастага парапета. У інтэр'еры памяшканняў уключаны 3-маршавыя лесвіцы. З Пд да вежы прымыкае зашклёная веранда, перад якой знаходзіцца шырокая тэраса з парапетам і паўцыркульнай нішай у падпорнай сцяне, з Пн — павільён, завершаны высокім круглым светлавым барабанам. Інтэр'ер павільёна багата дэкарыраваны пілястрамі карынфскага ордэра, ляпнымі карнізамі і разеткамі. У палацы захоўваліся унікальныя калекцыі дэкар.-прыкладнога і выяўленчага мастацтва (шкло, зброя, дываны і габелены, жывапіс, скульптура, мэбля, мастацкае ліццё). Зараз у палацы размешчаны Гомельскі абл. краязнаўчы музей і абл. Палац піянераў і школьнікаў. П а р к закладзены ў канцы 18 ст. З'яўляецца найбольш захаваным у рэспубліцы пейзажным паркам з элементамі рамантызму. Цягнецца на 800 м уздоўж правага берага Сажа (пл. 25 га). Першапачаткова перад палацам быў разбіты парадны партэр, які займаў усю цэнтр. частку парку і разам з прылеглымі тэрыторыямі меў пэўныя элементы рэгулярнасці. Перад арыентаваным на раку фасадам знаходзіўся курданёр з падстрыжанымі кустамі і газонам. Астатнія пасадкі каля палаца (пл. каля 10 га) мелі ландшафтную арганізацыю. За ярам Гамяюк знаходзіўся пладовы сад з багатай аранжарэяй («зімовы сад»). З 1834 у паркавых кампазіцыях значна ўзмацніўся рамантычны кірунак (арх. Ідзкоўскі). На тэрасе каля вежы была ўстаноўлена конная статуя кн. І. Панятоўскага (скульпт. Торвальдсен), па баках ад яе — 2 трафейныя гарматы руска-турэцкай вайны (1828—29) на каменных пастаментах, на пляцоўцы курданёра—манумент кн. Паскевіча ў адзенні рымскага палкаводца (скульпт. У. І. Дэмут-Маліноўскі); дэкар. мармуровыя скульптуры аздаблялі парк перад фасадам палаца і на гал. алеях. Элементамі рамантызму з'яўляюцца ставок «Ле-

бядзінае возера» ў яры Гамяюк, вял. і малы гроты, Верхні (лёгкі падвесны) і Ніжні (масіўны, выкладзены бутавым каменем у форме архаічнай аркі) масты, інш. паркавыя пабудовы. Пладовы сад з насычэннем яго паркавымі элементамі і дэкар. пасадкамі набывае усё большую сувязь з паркам. Апрача аранжарэі, у ім знаходзілася альтанка са скіфскай каменнай бабай, памятныя камяні. У пач. 20 ст. пад краявідную вежу (маяк) пераабсталяваны комін б. цукровага з-да, а ў яго будынку размешчаны «зімовы сад». У парку больш за 9 тыс. дрэў мясцовых і экзатычных парод (кедр сібірскі, лістоўніца японская, хвоя чорная, конскі каштан звычайны, піхта бальзамічная, туя заходняя, дуб звычайны пірамідальны, хвоя веймутава і інш.). Моцна пашкоджаны ў перыяд Вял. Айч. вайны. Цяпер парк культуры і адпачынку імя А. В. Луначарскага. Ансамбль—помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*В. Ф. Марозаў, В. Р. Анціпаў.*

**ГОМЕЛЬСКІ «ПАЛЯЎНІЧЫ ДОМІК»**, помнік архітэктуры стылю ампір. Пабудаваны ў Гомелі ў 1820 (сучасная вул. Пушкіна, 32). Узводзіўся як зімовая рэзідэнцыя уладальнікаў горада Румянцавых. Паводле падання, у 1830-я гады граф С. Румянцаў прайграў у карты частку сваіх гомельскіх уладанняў (у т. л. і «Паляўнічы домік») князю І. Паскевічу. Апошні ў 1850-я гады падараваў домік свайму сябру, польскаму арыстакрату В. Крушэўскаму. Кампактны прамавугольны ў плане 1-павярхо//вы будынак накрыты пакатым 4-схільным дахам. Канструкцыя мяшаная: драўляны зруб з вонкавым слоем атынкаванай цаглянай муроўкі. Да асн. аб'ёму па



Гомельскі «паляўнічы домік».

баках прыбудаваны невял. мураваныя аб'ёмы, завершаныя ступеньчатымі атыкамі. У цэнтры гал. фасада 6-калонны дарычны порцік з тэрасай над ім. Архіт. акцэнт кампазіцыі — мансарда з вял. паўцыркульным праёмам і атыкавым завяршэннем. У дэкоры фасада выкарыстаны рустоўка, барэльефы. У інтэр'еры зберагліся 3 кафляныя печы. У будынку размешчаны абл. савет Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Помнік рэспубліканскага значэння.

**ГОМЕЛЬСКІ ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ САБОР**, помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны па ініцыятыве і на сродкі графа М. П. Румянцава. Узведзены ў 1809—24 (арх. Дж. Кларк) непадалёку ад Гомельскага палаца (гл. *Гомельскі палацава-паркавы ансамбль*). Закладзены 18.10. 1809 протаіерэем Іаанам Грыгаровічам. 9.5.1824 сабор быў асвячоны. Дзейнічаў да 1935 і з 1941 да 30.10.1960 (у 1935—41 у будынку размяшчаўся гіст. музей, 1960—88 планетарый). З 1.8.1988 будынак знаходзіўся на рэстаўрацыі, у верасні 1989 перададзены вернікам. Дзейнічае. Вышыня сабора каля



Гомельскі Петрапаўлаўскі сабор.

25 м. Будынак мае цэнтрычную кампазіцыю. У плане — выцягнуты крыж з развітым трансептам, кароткім сярэднім нефам і невял. рызніцамі абапал алтарнай часткі. Сяродкрыжжа завершана купалам на высокім светлавым барабане, які ў інтэр'еры апіраецца на 4 слупы. Крылы трансепта і неф накрыты пакатымі 2-схільнымі дахамі. На тарцах 4 дарычныя 6-калонныя порцікі; па баках нефа рады паўкалон. У афармленні фасадаў выкарыстаны асн. класіцыстычныя элементы дэкору: трыгліфы на фрызе, сухарыкі, што падтрымліваюць карніз, паўкруглыя сандрыкі аконных праёмаў барабана. У левай частцы трансепта знаходзіцца магіла графа Румянцава, на якой устаноўлена копія скульптуры італьянскага майстра А. Кановы «Багіня міру» (выканана рус. скульптарам В. Дземут-Маліноўскім), сцены над магілай у абразах, сярод якіх і копія з карціны італьянскага мастака Карэджа. Помнік рэспубліканскага значэння.

*С. Дз. Грэкаў, У. А. Чантурыя.*

**ГОМЕЛЬСКІ ЦЫРК**. Пабудаваны ў 1972 па паўторна выкарыстаным праекце (арх. М. Шульмейстэр, Ю. Маторын і А. Кудраўцаў — Масква, Ш. Хінчын — Гомель). Кампазіцыя будынка вырашана ў выглядзе чаш, павернутых адна да адной (амфітэатр і купал). Відовішчная частка складаецца з залы (на 1856 месцаў) з манежам, эстрадай і аркестравай пляцоўкай. Асн. аб'ём размешчаны на прамавугольным у плане стылабаце, дзе знаходзяцца касавы вестыбюль, гардэробы, парадныя лесвіцы, развіты блок службовых, артыстычных і дапаможных памяшканняў. Амфітэатр абкружаны зашклёным фае з выхадам на тэрасу, зробленую на даху стылабата. Тэрыторыя забудовы ўдала дапаўняецца малымі формамі архітэктуры і дэкар. басейнам. Манум. вобраз будынка ствараецца лаканічнымі архіт. формамі, маштабам,



Гомельскі цырк.

пластыкай асн. аб'ёму, яго кантрастам з зашклёнай ніжняй часткай (стылабатам). У будынку выступаюць цыркавыя калектывы.

*А. А. Воі...*

**ГОРКАГА ВУЛІЦА** ў Гродне. У паўн.-зах. частцы горада. З'яўляецца гал. магістраллю паўн.-зах. планіровачнага раёна, якая звязвае яго з цэнтрам горада, і часткай агульнагарадскога дыяметра, што перасякае Гродна з Пн на Пд. Арганізацыйна ўплывае на архіт.-планіровачную структуру і характар забудовы ўсяго горада. Г. в. пачала фарміравацца ў 2-й пал. 19 ст., да 1940 наз. Гарадніцкай заставай. На ўчастку паміж пл. Леніна і вул. Астроўскага захавалася забудова

канца 19 ст.— 1930-х гадоў. Дом № 2 (б. *Гродзенскі палац адміністратара*) уваходзіў у архіт. ансамбль *Гарадніцы.* Пасля Вял. Айч. вайны вуліца пашырана і набыла далейшае развіццё. Значную ролю ў фарміраванні архіт.-маст. аблічча адыгрываюць групы 5—12-павярховых жылых дамоў з убудаванымі і прыбудаванымі 2-павярховымі прадпрыемствамі абслугоўвання і гандлю (арх. В. Давыдзёнак, М. Жучко, В. Клепікаў, І. Мазнічка, М. Чуйко), гал. корпус медыцынскага ін-та (арх. Л. Вільчко), будынкі аграпрамысловага комплексу (1985, арх. Жучко, Н. Скачкова, Л. Баланюк), фізкультурна-аздараўленчага комплексу «Юбілейны» (1983, арх. Давыдзёнак, А. Сарокін), гасцініца «Беларусь» (арх. Вільчко), *Гродзенскі Дом тэхнікі,* Дом «Саюздруку» (1981, арх. Давыдзёнак) і прылеглыя мікрараёны № 1, Пярэселка 4, Фарты 2, і інш. У канцы



Вуліца Горкага ў Гродне.

вуліцы размешчаны прадпрыемствы паўн. прамысловага вузла.

**ГОРКІ** (Горы-Горкі), горад, цэнтр Горацкага р-на, на р. Проня. За 86 км ад Магілёва. Вядомыя з 16 ст. ў складзе Вял. кн. Літоўскага. У 17 ст. належалі Сапегам, Мірскім, Салагубам. З 1772 у складзе Расіі, мястэчка Аршанскага павета, з 1861 цэнтр павета. У 1840 адкрыта земляробчая школа, вышэйшы разрад якой у 1848 пераўтвораны ў Горы-Горацкі земляробчы ін-т (цяпер с.-г. акадэмія). У 1857 атрымалі герб (на залатым полі 3 чорныя горкі, з іх вырастае па адным зялёным коласе). У 1897 у Г. 6737 жыхароў. З 1919 у Гомельскай, з 1922 у Магілёўскай губ. З 1924 цэнтр раёна. 12,5 тыс. жыхароў у 1939.

Тэрыторыя расчляняецца рэкамі Проня, Капылка, Парасіца і чыгункай на 3 жылыя раёны: Слабада (індывідуальная забудова), Зарэчны, раён Бел. с.-г. акадэміі (БСГА) і прамысловы, які прылягае да чыгункі з Пд. Архітэктурна-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Якубоўскага (гал. кампазіцыйная вось), Леніна, Савецкая, Заслонава, Калініна, Вакзальная. Грамадскі цэнтр з сістэмай плошчаў размешчаны на вул. Якубоўскага. Новы грамадскі цэнтр створаны паміж вуліцамі Заслонава і Калініна. У паўн. частцы горада размешчаны *Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі будынкі.* Капітальная забудова размешчана ў цэнтр. частцы горада (1—2 і 3—5-павярховыя жылыя дамы), у мікрараёне на вул. Вакзальнай і ў паўн. частцы (3—5-павярховыя), у раёне БСГА (3—9-павярховыя). На астатняй тэрыторыі — індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Захаваліся помнікі

Горкі. Дом культуры.



эклектычнай архітэктуры канца 19— пач. 20 ст.: будынкі на вул. Горкага (Дом піянераў, будынак вузла сувязі), вул. Крупскай, 3, будынак стаматалагічнай паліклінікі на вул. Леніна, 22, Горацкая царква Ушэсця. Паводле генплана 1972 і праекта дэталёвай планіроўкі 1973 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана функцыянальнае заніраванне тэрыторыі, стварэнне водназялёнага ядра горада.

*Р. Дз. Шэліхава.*

**ГОШЧАЎСКАЯ КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА**, помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1838 у в. Гошчава (Івацэвіцкі р-н). Мае глыбінна-прасторавую кампазіцыю. Трохзрубная пабудова з квадратным у плане аб'ёмам, 3-граннай алтарнай апсідай і бабінцам з тамбурам. Аднолькавыя па вышыні зрубы накрыты агульным 2-схільным дахам, які пад апсідай пераходзіць у паўшатровы. Прысадзісты аб'ём будынка ўзбагачаюць васьмерыковая вежа-званіца, накрытая шатром, 2 чацверыковыя вежачкі над бабінцам і купал на 8-гранным барабане над асн. зрубам. Гал. ўваход вылучаны порцікам на 2 падвойных фігурных калонах. Сцены ашаляваны, прарэзаны прамавугольнымі і паўцыркульнымі вокнамі з разнымі ліштвамі. У інтэр'еры над уваходам хоры, іканастас аздоблены разьбой. Царква дзейнічае.

*У. А. Чантурыя.*

**ГРАМЯЧАЎСКАЯ СЯДЗІБА**, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры сярэдзіны 19 ст. Пабудавана ў в. Грамяча (Камянецкі р-н) на беразе р. Пульва ў стылі позняга класіцызму. Належала Пузынам, якія набылі маёнтак у Пуслоўскіх. Уключае сядзібны парк, гасп. пабудовы. На самым высокім месцы размешчаны мураваны сядзібны дом — прамавугольны ў плане 1-павярховы будынак сіметрычнай кампазіцыі, накрыты вальмавым дахам. Вось кампазіцыі падкрэслена на гал. фасадзе 4-калонным порцікам, на дваровым — рызалітам з тэрасай. Ба-



Гошчаўская Крыжаўзвіжанская царква.



**Грамячаўская сядзіба.** Сядзібны дом.

кавыя крылы вылучаны рызалітамі з прамавугольнымі атыкамі ў завяршэнні. Сцены апрацаваны пілястрамі, нішамі, філёнгамі, прафіляванымі ліштвамі і сандрыкамі, арнаментальнымі разеткамі і вісячымі гірляндамі. Планіроўка анфіладная. У цэнтр. частцы вестыбюль і парадная зала з выхадам на тэрасу. У інтэр'еры зберагліся кафляныя печы, вітыя ўсходы (чыгуннае ліццё канца 19 ст.). Галоўны ўезд і партэр перад домам аформлены шпалерамі з елкі і лістоўніцы. На схілах узгорка быў пейзажны парк (асталіся фрагменты). У сядзібным доме размешчана школа. *А. М. Кулагін.*

**ГРОДЗЕНСКАГА АБЛАСНОГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА БУДЫНАК.** Узведзены ў 1977—84 (арх. Г. Мачульскі) з цэглы і зборнага жалезабетону. Складаецца з асн. аб'ёму (з гал. глядзельнай залай, вестыбюлем і фае) і П-падобнага ў плане 3-павярховага адм.-службовага корпуса. У агульнай кампазіцыі дамінуе 6-гранны асн. аб'ём, вуглы якога вылучаны ўвагнутымі вертыкальнымі пілонамі, што выступаюць над дахам. Рытм вузкіх вертыкальных рэбраў паміж пілонамі кантрастуе з паўкруглымі лініямі буйных зашклёных канструкцый фасадаў на ўзроўні 1-га і 2-га паверхаў, што надае дынамічнасць будынку. У завяршэнні па перыметры будынка праходзіць хвалістая стужка парапета. Цэнтр. ўваход вылучаны пластычна выгнутымі сценкамі і каскадам лесвіц; над ім размешчана 3-фігурная кампазіцыя «Пегас» (скульпт. Л. Зільбер; медзь, выбіванне, выш. 8 м). Спрошчаны аб'ём службовага корпуса ўзбагачаны вуглавымі лесвічнымі клеткамі. Фасады абліцаваны светлай пліткай, цагляная муроўка нішаў і баразён ствараюць уражанне лёгкасці. Архітэктуру будынка дапаўняюць басейн з фантанам, дэкар. ліхтары, падпорныя сценкі, каскады лесвіц.

Гал. глядзельная зала (на 700 месцаў) выраўшана амфітэатрам з балконам, аздоблена драўлянымі панелямі, кесанціраванай акустычнай падвеснай столлю, дэкар. тынкоўкай. Беламармуровыя бакавыя лесвіцы злучаюць вестыбюль з 2-светлавым фае і бакавымі кулуарамі. Сцены вестыбюля абліцаваны светла-шэрым мармурам. Сцены фае апрацаваны светлай рыфлёнай тынкоўкай, са столі звісае вял. люстра з рыфлёнага белага нёманскага шкла. На франтальнай сцяне аб'ёмнае скульптурнае пано (мастакі І. Пчэльнікаў, І. Лаўрова), прысвечанае тэатральнаму мастацтву. У яго верхняй частцы кампазіцыі з гісторыі развіцця тэатра: «Народны тэатр», «Класіка», «Тэатр рэвалюцыі», «Новы тэатр» і «Тэатр, які аб'ядноўвае ўсе мастацтвы». Ніжэй на пастаментах устаноўлены бюсты А. Пушкіна, У. Шэкспіра і Мальера, паміж імі — плакеткі з выявамі дзеячаў бел. культуры — М. Гусоўскага, Ф. Скарыны, Я. Купалы і Я. Коласа. На сценах кулуараў і над уваходамі ў партэр — скульптурна-жывапісныя кампазіцыі «Антычная трагедыя», «Дыянісава шэсце», «Батлейка», «Скамарохі». Малая глядзельная зала (на 200 месцаў) размешчана на 1-м паверсе адм.-службовага корпуса, мае кулуары з буфетам, вестыбюль і фае. У цокальным паверсе — рэпетыцыйная зала, артыстычныя пакоі, апаратная, склады аб'ёмных дэкарацый. Будынак — узор арганічнага сінтэзу архітэктуры з манументальна-выяўленчым мастацтвам. *А. М. Кулагін.*

**ГРОДЗЕНСКАГА АКРУГОВАГА СУДА БУДЫНАК**, помнік экле-



Будынак Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра.

тычнай архітэктуры. Пабудаваны ў 1884 з цэглы ў Гродне (сучасная вул. Савецкая, 31). Выцягнуты ўздоўж чырвонай лініі вуліцы 3-павярховы будынак на высокім цокалі, да якога з паўд. боку прымыкае 2-павярховае крыло. Першапачатковую сіметрычную кампазіцыю будынка парушыла надбудова 3-га паверха ў 1910. Паўн. частка будынка ўяўляе сабой перабудаванае крыло б. палаца Масальскіх (гл. *Гродзенскага паштовага ведамства будынак*). Фасад рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў разнастайных ліштвах з замковым каменем на 1-м, лучковымі франтонамі на 2-м і сандрыкамі на 3-м паверхах. Насычаны архітэктурна-пластычны дэкор уключае руст, прафіляваныя філёнгі з гірляндамі, лучковыя сандрыкі, арнаментальныя паясы меандра і дубовых галінак. Па баках фасада над прафіляваным карнізам з сухарыкамі пастаўлены лучковы і прамавугольны атыкі. Бакавы ўваход вылучаны неглыбокім рызалітам з балконам. На дваровым фасадзе выступаюць глыбокія рызаліты лесвічнай клеткі і тарцовых залаў, аб'яднаных з памяшканнямі калідорнай планіроўкай. Пад значнай часткай будынка выяўлены крыжовыя скляпенні 18 ст. У будынку размешчана адм. ўстанова. У 1987 Гродзенская абл. комплексная праектная майстэрня ін-та «Белспецпраектрэстаўрацыя» распрацавала праект рэстаўрацыі фасадаў будынка (С. Шэйко, І. Трусаў).

*А. М. Кулагін, І. Г. Трусаў.*


Гродзенскага акруговага суда будынак.


Гродзенскага акруговага шпіталя будынак.

**ГРОДЗЕНСКАГА АКРУГОВАГА ШПІТАЛЯ БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры 19 ст. Узнікненне шпіталя ў Гродне звязана з дзейнасцю ордэна ксяндзоў Баніфратараў, які ў канцы 18 ст. меў драўляны будынак шпіталю на вул. Баніфратарскай (сучасная вул. Свярдлова). У пач. 1840-х г. шпіталь размяшчаўся ў мураваным 2-павярховым будынку бровара Баніфратараў па вул. Верцялішскай (сучасная вул. Ажэшкі, 9). Пасля скасавання ордэна гэты будынак перададзены Прыказу грамадскага апекавання для размяшчэння акруговага шпіталя (лячэбніцы). У 1857 пад наглядам губернскага арх. В. Міхаэліса будынак адрамантаваў і перабудаваў купец Я. Фрумкін, стаў яго ўладальнікам і заключыў кантракт на 30 гадоў пра здачу будынка ў арэнду пад акруговы шпіталь. У 1891 Гродзенская гар. ўправа зацвердзіла план перабудовы будынка. У такім выглядзе ён захаваўся да нашага часу. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак з цокальным паверхам. Сіметрычна-восевая кампазіцыя гал. фасада падкрэслена 3 рызалітамі, завершанымі фігурнымі атыкамі. 2-ярусная арганізацыя фасада падкрэслена міжпаверхавым і завяршальным карнізамі з фігурнымі арнаментаванымі кранштэйнамі. Прамавугольныя і паўцыркульныя аконныя праёмы ўпрыгожаны ліштвамі з сандрыкамі, франтончыкамі і філёнгамі. Цокаль і 1-ы паверх апрацаваныя рустам. Гал. фасад меў на 2-м паверсе 3 літыя балконы. У аперацыйнай зале ў сярэдзіне асн. аб'ёму быў купал. Да будынка дабудаваны два 1-павярховыя флігелі. Са снежня 1902 у будынку б. акруговага шпіталя размяшчаліся акруговая ўправа і паштова-тэлеграфная кантора з кватэрамі для службоўцаў. У 2-й палове 20 ст. з гал. фасада зняты балконы, ліквідаваны купал, зменена ўнутраная планіроўка, люкарна на цэнтр. атыку закрыта абстрактнай выявай.

*Р. М. Акінчыц.*

**ГРОДЗЕНСКАГА ПАЗЯМЕЛЬНА-СЯЛЯНСКАГА БАНКА БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры пач. 20 ст. Пабудаваны ў 1913 у цэнтр. частцы Гродна (на рагу сучасных вул. Леніна і Карбышава) паводле праекта арх. Б. Астравумава. Мае рысы стылю мадэрн. 2-павярховы Г-падобны ў плане мураваны будынак накрыты высокім 2-схільным чарапічным дахам з купалам у месцы злучэння аб'ёмаў. У дэкар. вырашэнні фасадаў выкарыстана спалучэнне адкрытага муру з жоўтай цэглы і белых ляпных дэталей. Будынак аздабляюць каваныя агароджы балконаў, унутранай лесвіцы, навес над уваходам. Першапачатковая калідорная планіроўка зменена. У цокальным паверсе размяшчаліся архіў і службовыя памяшканні, на 1-м — вестыбюль і службовыя пакоі, на 2-м — аперацыйная зала і кватэры адміністрацыі. Выкарыстоўваецца як адм. будынак. *В. М. Чарнатаў.*

**ГРОДЗЕНСКАГА ПАШТОВАГА ВЕДАМСТВА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры 18—19 стагоддзяў. Пабудаваны ў Гродне (сучасная вул. Ажэшкі, 1) як палац князёў Масальскіх. Моцна пашкоджаны пажарамі ў 1753 і 1782. Каля 1795 перабудаваны ў стылі класіцызму. Паміж 1831—43 выкуплены купцом Фрумкіным, сям'і якога належаў да 1939. У 1843—1903 арэндатарам будынка было паштовае ведамства (адсюль назва). Спачатку 2-павярховы П-падобны будынак з сутарэннямі, накрыты 2-схільным дахам з марсэльскай дахоўкі. Сіметрычная кампазіцыя гал. фасада чляніласа на 3 ярусы, аддзеленыя карнізамі. Вокны верхняга яруса, якія завяршаўся прафіляваным карнізам, былі багата дэкарыраваныя сандрыкамі, ліштвамі і франтонамі. У цэнтр. частцы будынка знаходзіўся арачны праезд, вылучаны 3-вугольным франтонам і 4 пілястрамі. У 19 ст. будынак неаднаразова рамантаваўся, у 1860-х гадах марсельская дахоўка была зменена на бляху, на фасадзе зроблены 2 балконы — адзін над праездам, другі на рагу будынка (не захаваўся). У 1884 да крыла пошты з боку вул. Саборнай (сучасная вул.



Гродзенскага паштовага ведамства будынак.



Гродзенскага рэальнага вучылішча будынак.



Гродзенскага тэатра Тызенгаўза будынак.

Савецкая) быў дабудаваны *Гродзенскага акруговага суда будынак,* пры гэтым частка будынка ўвайшла ў агульную кампазіцыю і атрымала эклектычны дэкор. У 1987 распрацаваны праект рэстаўрацыі будынка (арх. С. Шэйко).

*І. Г. Трусаў.*

**ГРОДЗЕНСКАГА РЭАЛЬНАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры пач. 20 ст. Пабудаваны ў Гродне (сучасная вул. 1 Мая, 3) у 1907 у стылі неакласіцызму. У 1920—30-я гады ў будынку размяшчалася гімназія імя А. Міцкевіча. Мураваны 2-павярховы атынкаваны будынак мае ў плане складаную, блізкую да Г-падобнай форму. Падзелены на блокі: вучэбны і грамадскага прызначэння. Вучэбны блок — выцягнуты ўздоўж вул. 1 Мая аб'ём. Выразнасць гал. фасада дасягаецца строгім рытмам аконных праёмаў. Размяшчэнне класных пакояў аднабаковае. Шырокі светлы калідор, у тарцах якога знаходзяцца 2-лесвічныя клеткі, выконвае ролю аб'яднальнага звяна. Перпендыкулярна да вучэбнага пастаўлены блок грамадскага прызначэння. На яго 1-м паверсе размешчаны прасторны вестыбюль, гардэроб, адм.-гасп. памяшканні, на 2-м — актавая зала, б-ка, сталовая, настаўніцкія пакоі. Пры агульнай з вучэбным блокам сіметрычнай кампазіцыі архіт. выразнасць тут дасягаецца выкарыстаннем розных па прапорцыі і маштабу арачных акон. Да тарца блока грамадскага прызначэння прымыкае аб'ём, вырашаны ў адным з ім стылявым ключы, дзе размяшчалася гімнастычная зала. Будынак выкарыстоўваецца як корпус с.-г. ін-та.

*В. М. Чарнатаў.*

**ГРОДЗЕНСКАГА ТЭАТРА ТЫЗЕНГАЎЗА БУДЫНАК.** Закладзены ў 1772 па ініцыятыве А. Тызенгаўза для яго тэатра, узведзены ў 1780-я гады з цэглы (арх. І. М. Мёзер, Дж. Сака). Задуманы як працяг *Гродзенскага палаца Тызенгаўза* — злучаўся з яго левым флангам крытым пераходам. Тэатральная зала сфарміравана па «італьянскай крывой», уяўляла сабой паўкруглае памяшканне з амфітэатрам і яруснымі галерэямі па перыметры; мела 22 ложы ў 2 ярусах, партэр і сцэну з 5 планамі кулісных машын для перамяшчэння дэкарацый. У 1859 пасля рэканструкцыі аб'ём будынка павялічаны, план набыў асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У 1940 надбудаваны 3-і паверх, што павялічыла аб'ём залы, у 1975 рэканструяваны, расшырана сцэнічная каробка і глядзельная зала. 3-павярховы будынак складанай канфігурацыі ў плане пастаўлены на высокі руставаны цокаль, накрыты 4-схільным дахам. Гал. фасад асіметрычны, падзелены карнізам на 2 часткі, апрацаваны пілястрамі. Над уваходам у левым крыле — вял. балкон, які падтрымліваюць 4 калоны, апрацаваныя рустам. Бакавы фасад аформлены пілястрамі, з высокімі прамавугольнымі вокнамі з сандрыкамі і 3-вугольнымі франтонамі, на ўзроўні 3-га паверха — дэкар. люкарны. Завяршаюць сцены карнізы з сухарыкамі. Правая частка

будынка — прамавугольны ў плане аб'ём сцэнічнай каробкі. Глядзельная зала знаходзіцца на ўзроўні 1-га і 2-га паверхаў, асвятляецца з аднаго боку натуральным святлом. На 1-м паверсе таксама размешчаны невял. фае і службовыя памяшканні, на 2-м — рэпетыцыйны пакой, грымёрныя. З партэра і фае на балкон вядуць лесвіцы. Будынак выкарыстоўваецца як тэатральнае памяшканне. У ім працавалі: у 1778—80 тэатр Тызенгаўза (па звестках І. Бернулі), гродзенскія тэатры — С. Дэшнер (у 1802—09), пастаянны дырэкцыйны руска-польскі (1846—54), польскі імя Э. Ажэшкі (з 1921 наз. гарадскі польскі; у 1928—39 імя Ажэшкі), Дзярж. польскі тэатр БССР пад кіраўніцтвам А. Вянгерскі і вандроўны Дзярж. польскі тэатр



Гродзенскай аптэкі будынак.

лялек БССР (1940—41), Дзярж. рус. драматычны тэатр БССР (1945—47), з 1947 абл. драматычны тэатр, з 1984 працуе Гродзенскі абл. тэатр лялек. У будынку праходзілі 1-е пасяджэнне Гродзенскага Савета рабочых дэпутатаў 26.1.1919 і 1-я сесія Гродзенскага гар. Савета дэпутатаў працоўных 25.1.1940.

*С. Я. Сільверстава, А. Ю. Пятросава.*

**ГРОДЗЕНСКАЙ АПТЭКІ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры барока. Узведзены ў Гродне на пл. Рынак (цяпер Савецкая пл.), уваходзіць у комплекс *Гродзенскага касцёла і кляштара езуітаў.* У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 1687 (верагодна, знаходзілася ў адным з пакояў старога калегіума езуітаў). У 1709 на набытым у магістрата пляцы езуіты збудавалі асобны 1-павярховы аптэкарскі дом. У 1763 на сродкі езуіта Эдэра да яго надбудаваны 2-і паверх. Калідоры на ўзроўні 1-га і 2-га паверхаў звязвалі аптэку з комплексам калегіума. Унутраны дворык і вузкі праезд аддзялялі яе ад касцёла. З боку плошчы праезд паміж касцёлам і аптэкай быў аформлены брамай з дубовымі веснічамі. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак з мансардай накрыты вальмавым 2-ярусным дахам (ніжні ярус — «гнуты») з хвалістай дахоўкі. Гал. фасад завяршаўся 5-вугольным франтонам. Карніз 2-га паверха меў упрыгожанне накшталт паўцыркульнай аркі (верагодна, рэшткі франтона або шчыта 1-павярховай аптэкі 1709). Аконныя праёмы 1-га паверха былі ўпрыгожаны сандрыкамі. Вуглы 2-га паверха аздоблены лапаткамі. З левага боку гал. фасада быў ганак з 4 гранітнымі прыступкамі і параднымі 2-створкавымі дзвярамі на 6 завесах. Франтон меў 3 прамавугольныя аконныя праёмы і люкарну ў верхняй частцы. На 1-м паверсе размяшчаліся 4 пакоі, кухня і калідор, перакрытыя цыліндрычнымі і крыжовымі скляпеннямі. Падлога гал. залы была выкладзена мармуровай пліткай, у астатніх — паркетам або дошкамі. У сценах былі нішы, якія выкарыстоўваліся як шафы (т. зв. «гачкі»). Сходы з 1-га паверха вялі ў склеп. На 2-м паверсе былі: 7 пакояў, сені, малая кухня, пакой для захавання «заморскіх лекаў». Столі 2-га паверха плоскія, атынкаваныя, аздобленыя лепкай і фрэскавай размалёўкай. Печы былі выкананы ў т. зв. «гродзенскім стылі», распрацаваным майстрам Якубам Роўфам. З боку двара на ўзроўні 2-га паверха будынак меў драўляную галерэю, тыповую для архітэктуры Гродна 18—19 ст. У 1773 будынак перададзены пад нагляд прабошча касцёла. У 1796, пасля далучэння горада да Расійскай імперыі, адабраны ў казну. У пач. 19 ст. аптэкай валодаў правізар Адамовіч. З 1870 прыбытак ад яе належаў лютэранскай абшчыне. У 1885 будынак пашкоджаны пажарам і перабудаваны: з левага боку ўзведзены новы аб'ём з уваходам і лесвічным маршам на 2-і паверх, ліквідаваны франтон (замест яго зроблены складаны нізкі атыкавы дах, накрыты бляхай), зменена планіроўка. У выніку будынак набыў асіметрычную кампазіцыю і стаў тыповым прыкладам архітэктуры эклектыкі канца 19 ст. Гал. фасад сучаснага будынка падзелены карнізнай цягай на 2 ярусы: ніжні з руставанымі лапаткамі і сандрыкавымі завяршэннямі акон, верхні з ажурным балконам і складаным атыкам у цэнтры, фігурнымі ліштвамі, фрызам і карнізам. У будынку размешчаны салон мэблі і Дом настаўніка, часткова выкарыстоўваецца як жылы. З пункта гледжання рэгенерацыі гіст. цэнтра горада, з'яўляецца адным з найбольш каштоўных аб'ектаў для правядзення рэстаўрацыі. Помнік рэспубліканскага значэння.

*І. Г. Трусаў.*

**ГРОДЗЕНСКАЙ ЖАНОЧАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры неакласіцызму. Узведзены ў Гродне ў 1893. Уваходзіць у комплекс гіст. забудовы *Гарадніцы* (сучасная вул. Ажэшкі, 22; да 1940-х гадоў побач з ім знаходзіўся будынак канторы А. Тызенгаўза). Пляц пад гімназію быў выкуплены ў кн. Святаполк-Чацвярцінскага. У 1894 у будынку была ўладкавана гімназійная царква: 3-павярховы Г-падобны ў плане мураваны будынак накрыты 2-схільным дахам. Гал. фасад вылучаны цэнтр. і 2 бакавымі рызалітамі. У цэнтры размешчаны чыгунны партал, адліты паводле ўзору з тагачаснага будаўнічага каталога. Сцены змураваны з дэкар. жоўтай цэглы. Выразны рытм аконных праёмаў надае будынку строгі характар. Планіроўка галерэйная, з аднабаковым размяшчэннем класных пакояў. Паверхні злучаны парадней і службовай лесвіцамі. Вакол 2 лесвічных клетак — лабараторныя і тэхн. памяшканні. У бу-



Гродзенскай жаночай гімназіі будынак.

дынку захаваліся разныя дзверы і вокны з масянжовымі прыладамі. У 1969 да 3-павярховага корпуса прыбудаваны 4-павярховы. У будынку размешчаны Гродзенскі дзярж. ун-т. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. М. Гардзееў.*

**ГРОДЗЕНСКАЙ МЕДЫЦЫНСКАЙ ШКОЛЫ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1770-я гады ў Гродне на тэр. *Гарадніцы* (сучасная вул. Ажэшкі, 20). Мураваны будынак мае сіметрычную кампазіцыю. Цэнтр. 3-павярховая частка накрыта вальмавым дахам. Гал. фасад, арыентаваны на Гарадніцу, раскрапаваны па вуглах 2 вял. гранёнымі эркерамі, якія раней былі накрыты самкнутымі ўвагнутымі купаламі. Фасады аздоблены ордэрнай пластыкай, 2 ніжнія паверхі аб'яднаны пілястрамі. Па баках да асн. аб'ёму прылягаюць 1-павярховыя прыбудовы з 3-схільнымі дахамі. Планіроўка калідорная, у цэнтр. частцы з 1-баковым, у прыбудовах з 2-баковым размяшчэннем памяшканняў. Часткова перабудаваны ў канцы 19 ст. Выкарыстоўваецца як адм. будынак. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. Ю. Пятросава.*

**ГРОДЗЕНСКАЙ МУЗЫЧНАЙ ШКОЛЫ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1760-я гады ў Гродне на *Гарадніцы* [у 1774—80 (па іншых крыніцах да 1769) тут працавала муз. школа, створаная А. Тызенгаўзам]. Кампазіцыйна завяршыў б. Палацавую пл. (сучасная пл. Леніна). Мураваны, крывалінейны ў плане, што было абумоўлена своеасаблівасцю архіт. ансамбля плошчы (адсюль назва «крывая афіцына»), накрыты складаным 2-ярусным дахам. Спачатку 2-павярховы з мансардай; 1-ы паверх на гал. фасадзе з увагнутага боку меў адкрытую галерэю з аркадай, з якой 3 уваходы вялі ў класы на 1-м і 2-м паверхах. У мансардзе аналагічнай планіроўкі жылі навучэнцы і настаўнікі. Сцены будынка былі падзелены шырокімі лапаткамі, філёнгамі над вокнамі і завершаны карнізамі. Захаваўся ў перабудаваным (2-я пал. 19 — часткова 1-я пал. 20 ст.) варыянце: зменена планіроўка, мансардавы паверх перароблены ў звычайны, замуравана галерэя 1-га паверха, зроблены балконы. Пры перабудове мансарды ў 3-і паверх у пластычным афармленні былі выкарыстаны элементы першых 2 паверхаў, што дало магчымасць стварыць адзіную кампазіцыю фасада. Будынак прызначаўся таксама для адкрытых канцэртаў, наз. «музычны флігель». Выкарыстоўваецца як жылы будынак. Помнік рэспубліканскага значэння.



**Гродзенскай музычнай школы будынак.**

**ГРОДЗЕНСКАЯ АЎГУСТОЎСКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 2-й пал. 18— пач. 20 ст. Была пабудавана (арх. Дж. Сака) у 1770-я г. У паўд. занёманскім прыгарадзе Гродна як загарадная рэзідэнцыя караля Ст. А. Панятоўскага. У канцы 19 ст. належала роду О'Браен дэ Ласэй. Мела традыцыйную планіровачную арганізацыю параднага двара, абмежаванага гал. корпусам, бакавымі флігелямі і брамай. З усх. боку існавала службова-гасп. карэ. У архітэктуры палаца спалучаліся рысы барока і класіцызму. 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з бакавымі алькежамі быў накрыты высокім вальмавым дахам з люкарнамі. 2-павярховая цэнтр. частка выступала на гал. фасадзе рызалітам, завершаным лучковым франтонам, з боку двара — трохгранным эркерам. У дэкар. аздабленні фасадаў выкарыстаны руст, паўкалоны, ляпныя гірлянды, нішы. Аконныя праёмы прамавугольныя, у цэнтр. частцы — арачныя. Будынак стаяў у парку, які меў перад гал. фасадам палаца рэгулярную, а за палацам пейзажную планіроўку. У парку знаходзілася квадратная ў плане купальная капліца з каланадай дарычнага ордэра (узведзена побач з домам у 1802). *А. М. Кулагін.*

**ГРОДЗЕНСКАЯ БАРЫСАГЛЕБСКАЯ ЦАРКВА,** Каложская царква, помнік мураванай стараж.-рус. архітэктуры. Адзін з помнікаў *Гродзенскай школы дойлідства.* Пабудавана ў 2-й пал. 12 ст. ў Гродне на высокім правым беразе Нёмана, побач з замкавай гарой, на тэр. былога Каложскага пасада. У пач. 16 ст. аднаўлялася Богушам Багутовічам і ў 17 ст., часткова разбурана ў 1853 у выніку апоўзня, абвалілася ў 1889 (паўд. апсіда). Работы на кансервацыі праведзены ў 1910 і 1935, кансервацыйна-рамонтныя — у 1970, 1985 — 87. Захаваліся паўночная і частка зах.



**Гродзенскай медыцынскай школы будынак.** Галоўны фасад.



**Гродзенская Аўгустоўская сядзіба.** Чарцёж галоўнага фасада палаца.



Гродзенская Барысаглебская царква.



Гродзенская Барысаглебская царква. З акварэлі Н. Орды. 19 ст.

сцяны, 3 апсіды і 2 зах. падкупальныя слупы. Цагляны 6-слуповы 3-апсідны крыжова-купальны храм. Даўжыня каля 21,5 м, шыр. 13,5 м. Таўшчыня сцен каля 1,2 м. Слупы круглыя (дыяметр каля 1,2 м), на прамавугольных цокалях, уверсе паступова набываюць крыжападобную форму. Знешнія пілястры 3-ступеньчатыя, сярэднія выемкі скругленыя. Вуглавыя пілястры зах. боку скошаны. Сцены кладзены з плінфы памерам 3,5—4 × 16—16,5 × 26—28 см у тэхніцы роўнаслаёвай муроўкі. Выкарыстана лякальная цэгла са скругленым вуглом, з паўкруглым шырокім бокам, падобная да трапецыі. На тарцах нек-рых цаглін ёсць знакі. У верхняй частцы сцен і ў скляпенні ўмураваны галаснікі. Фасады ўпрыгожаны лапаткамі ступеньчатага профілю, устаўкамі з гранітных і гнейсавых камянёў розных адценняў са шліфаванай знешняй паверхняй, рознакаляровымі паліванымі керамічнымі пліткамі. У верхняй частцы сцен вузкія аконныя праёмы з арачнымі перамычкамі. У час рэстаўрацыйных работ 1985—86 знойдзены фрагменты фрэсак на ўнутранай сцяне, якія былі выяўлены яшчэ ў 1870 пры пабудове алтарнай перагародкі. Пад слоем грунту былі раскрыты выявы 2 анёлаў. Пры рэканструкцыі размалёўка часткова знішчана, часткова атынкавана. У 1894 У. Гразноў знайшоў у правай частцы алтара сілуэты кампазіцыі «Святая тройца», у сярэдняй частцы — крыж карсунскай формы, уверсе паміж алтарнымі аркамі — выявы сонца і месяца, а таксама звярнуў увагу на наяўнасць галаснікоў у муроўцы царквы і выявіў знакі на цэгле. У 1985—87 рэстаўратарам В. Р. Слюнчанкам на паўн. сцяне раскрыта шмат арачных праёмаў, выяўлена фрэскавая размалёўка: на праёмах — геаметрычны арнамент (карычнева-чырвоны, фон светла-шэра-ружаваты). Падлога храма першапачаткова была выкладзена з паліваных квадратных, трохвугольных і фігурных плітак, у 13 ст. (?) — з паліваных рэльефных плітак, у 18 ст. — з мармуровых пліт. Фрагмент падлогі 12 ст. захаваўся ў бакавой апсідзе. Фундамент храма складзены з валуноў сярэдняй велічыні і заглыблены на 1,5 м. Каля царквы выяўлены сляды манастыра 15—18 стагоддзяў. Царкву даследавалі ў 19 ст. У. Гразноў, у пач. 20 ст. П. Пакрышкін (прапанаваў рэканструкцыю храма), у 1935 Ю. Ядкоўскі, у 1946 І. Хозераў, у 1983—84 А. Трусаў, П. Рапапорт. У царкве размяшчаецца філіял Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі. Помнік рэспублікан-

скага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе. *А. А. Трусаў.*

**ГРОДЗЕНСКАЯ ВЕРХНЯЯ ЦАРКВА,** помнік мураванага дойлідства 14 — пач. 15 ст. Пабудавана на месцы *Гродзенскай Ніжняй царквы.* Часткі пабудовы выяўлены Ю. Ядкоўскім у 1931—37 у час археалагічных раскопак на тэр. *Гродзенскага Старога замка,* у 1939 перанесены ў асобны павільён. Захаваліся: усх. частка сцен (выш. 1—1,5 м), частка паўд. сцяны з паўн.-зах. вуглом, унутраны слуп. Рэшткі царквы даюць падставу меркаваць, што гэта быў квадратны ў плане (8,8 × 8,8 м) са зрэзанымі вугламі бесстаўповы храм з паўкруглай апсідай. У муроўцы сцен выкарыстоўваліся тонкая і «брусковая» цэглы (сярэдзіна сцен запаўнялася каменнем). Унутры бакавых частак апсіды выяўлены аркі таўшчынёй у 1—2 цагліны. Звязачным матэрыялам была белая вапна з дабаўленнем драблёнай цэглы і дробнага пяску. Муроўка пераважна старчаковая. Падлога была з цэглы. Першапачатковае перакрыцце царквы было драўлянае, пазней — скляпеністае на нервюрах. Пасля перабудовы храм накрыты чырвонай чарапіцай у форме плоскіх пласцін. Верхняя частка сцен упрыгожана крыжападобнай цэглай. Рэканструкцыю царквы выканалі: у 1938 Т. Андрыёнчык, у 1965 Абрамаўскас, у 1987 Ф. Селязнёў, Р. Сташкевіч, А. Трусаў. Помнік рэспубліканскага значэння.
*А. А. Трусаў.*

**ГРОДЗЕНСКАЯ ЗАЛА СЕЙМАЎ.** Існавала ў Гродне ў 18—19 стагоддзях. Была пабудавана ў 1726 у двары *Гродзенскага Каралеўскага палаца* і злучалася з ім 2-павярховымі П-падобнымі ў плане драўлянымі карпусамі, якія абкружалі вял. двор. Пры буд-ве залы былі выкарыстаны мураваныя сцены жылога дома Сапегаў, размешчанага ў тыльнай частцы двара. Пабудова ўключала вял. базілікальную залу, раздзеленую ў падоўжным і папярочным напрамках на 2 нефы, уваходны вестыбюль з лесвіцай і памяшканне для кур'ераў. Сярэдні, найбольш шырокі неф меў большую вышыню і асвятляўся праз размешчаныя над бакавымі нефамі вокны. У глыбіні залы на ўзвышэнні знаходзілася крэсла караля. Бакавыя нефы, у якіх знаходзіліся балконы, былі злучаны з цэнтральным вял. праёмамі, перакрытымі пакатымі аркамі. Унутраная аздоба залы характэрная для архітэктуры ракако — сцены чляніліся высокімі пілястрамі, філёнгамі, былі ўпрыгожаны размалёўкай і скульптурнымі рэльефамі ў мудрагеліста выгнутых рамах, вокны афармлены ліштвамі складанай формы. Фасад з боку ўнутранага двара меў 3 ярусы аконных праёмаў. Першы ярус хаваўся за аркадамі абходнай галерэі. Другі складаўся са шчыльна згрупаваных і афармленых ліштвамі з сандрыкамі вял. акон, якія засталіся ад старой пабудовы Сапегаў (некаторыя былі замураваны). Трэці ярус складаўся з праёмаў верхняга святла цэнтр. нефа, раздзеленых на фасадзе пілястрамі. На 1-м паверсе размешчаных навокал двара П-падобных карпусоў знаходзіліся дэкарыраваная аркамі абходная галерэя, памяшканні абслугі і варты.
*В. Ф. Марозаў.*

**ГРОДЗЕНСКАЯ КІРХА,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудавана як лютэранская царква ў пач. 20 ст. на Якаўлеўскім праспекце (цяпер вул. 1 Мая). Аднанефавая 1-вежавая пабудова з пяціграннай апсідай і сакрысціямі. Галоўны фасад мае выцягнутую сіметрычную па вертыкалі дынамічную кампазіцыю. Квадратная ў плане высокая манументальная вежа-званіца выступае з асн. аб'ёму. Гал. ўваход (праз вежу) аформлены вял. стральчатым парталам, над ім — акно-ружа. Вежа завершана высокім ламаным па форме вострым шатром. Сцены бакавых фасадаў абведзены шырокім карнізным паяском, умацаваны контрфорсамі. У вокнах бакавых сцен каляровы вітраж з гатычным па характары малюнкам. Інтэр'ер храма мае выцягнутую па падоўжнай восі сіметрычную кампазіцыю. Асн. прамавугольны ў плане аб'ём перакрыты арыгінальным па форме фігурным скляпеннем: цыліндрычнае перакрыцце пераходзіць каля бакавых сцен у плоскую столь на драўляных кранштэйнах. Апсіда раскрываецца ў асноўны аб'ём арачным праёмам. На 2-м паверсе вежы — маленькія хоры. Цяпер у будынку Дзярж. архіў Гродзенскай вобл.
*С. Г. Багласаў.*

**ГРОДЗЕНСКАЯ НІЖНЯЯ ЦАРКВА,** помнік стараж. дойлідства. Належыць да перыяду станаўлення *Гродзенскай школы дойлідства,* майстрамі якой і пабудавана ў 12 ст. Знаходзілася на тэр. *Гродзенскага Старога замка.* К сярэдзіне 13 ст. разбурылася (у выніку пажару 1183 і з-за недасканалай канструкцыі фундаментаў). У працэсе археалагічных раскопак 1931—37 і 1949 (вяліся Ю. Ядкоўскім і М. Варонiным) выяўлены яе руіны пад фрагментамі больш позняй *Гродзенскай Верхняй царквы.* Часткова захаваліся рэшткі сцен (месцамі выш. да 3,5 м), фрагменты падкупальных слупоў і элементы дэкар. ўпрыгожання. Сцены прамавугольнай у



**Гродзенская Верхняя царква.** Рэканструкцыя.



**Гродзенская зала сеймаў.**



Гродзенская кірха.



**Гродзенская Пакроўская царква.** Бакавы фасад.

плане пабудовы (16,8×11,6 м, без апсіды) выкладзены з адносна тонкай плінфы на вапнавым растворы ў тэхніцы роўнаслаёвай мурoўкі з выкарыстаннем вял. камянёў. У верхнія часткі сцен і скляпенняў умураваны збаны-галаснікі (іх гарлавіны павернуты да інтэр'ера), што рабіла лягчэйшымі сцены і адначасова паляпшала акустыку. Паводле плана гэта быў 4-стаўповы храм тыпу ўпісанага крыжа без нартэкса з развітай алтарнай часткай. У арганізацыі ўнутранай прасторы дакладна працістаялі алтарная частка і наос, увянчаны купалам; у зах. частцы наоса знаходзіліся хоры (да іх вялі ўсходы, што былі ў паўд.-зах. вугле храма). Вонкавы сегментападобны контур цэнтр. апсіды (паўцыркульная ў інтэр'еры) нязначна выступаў за межы прамавугольнага плана; бакавыя апсіды звонку не выяўлены. Сцены знадворку і ўнутры расчлянёны лапаткамі, па вуглах яны зрэзаны (як і падкупальныя слупы), вуглы знадворных лапатак скруглены. Фасады аздоблены паліраванымі і неапрацаванымі рознакаляровымі камянямі, маёлікавымі квадратнымі пліткамі і паліванай чашападобнай кафляй. Сцены ўнутры не мелі размалёўкі. Гал. ўпрыгожанне інтэр'ера — маёлікавая узорыстая падлога і алтарная перагародка. Для падлогі выкарыстоўваліся пліткі 17 відаў рознага фармату і 3 колераў (жоўтая, зялёная і карычневая). Падлога мела пераважна шахматны малюнак, месцамі ўводзіўся ўзор у выглядзе хваста ластаўкі з жоўтых і карычневых плітак. Найбольш складаным быў узор цэнтр. часткі наоса: упісаныя ў квадраты кругі з арнаментальнымі крыжамі ўсярэдзіне абрамлялі перакрыжаваныя шырокія жоўта-зялёныя плеценыя стужкі (палоскі). Захаваліся дэталі багата ўпрыгожанай драўлянай алтарнай перагародкі: пазалочаныя медныя лісты з выгравіраванымі выявамі апосталаў і святых у абрамленні кругоў са складаным раслінным і плеценым арнаментам. Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. Р. Слюнчанка.*



**Гродзенская Ніжняя царква.** Фрагмент маёлікавай падлогі.

**ГРОДЗЕНСКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры пач. 20 ст. Пабудавана ў Гродне (вул. Ажэшкі, 23) у псеўдарускім стылі на ўшанаванне памяці афіцэраў і ніжніх чыноў 26-й артылерыйскай брыгады, якія загінулі ў руска-японскую вайну 1904—05. Мураваная 12-калонная 3-нефавая базіліка. Над прытворам 10-метровая 8-гранная званіца, накрытая шатром, завершаным цыбулепадобным купалком на барабане. Абапал званіцы — невял. шатры з купаламі. Над алтарнай апсідай 5 цыбулепадобных купалоў на 8-гранных барабанах з несапраўднымі вокнамі (блендамі), завершанымі какошнікамі. Над рызніцай — 2 шатры з макаўкамі. Гал. фасад храма сіметрычны. Вокны паўцыркульныя з какошнікамі. Перад уваходамі — высокія ганкі, упрыгожаныя разнымі 3-вугольнымі навісямі і калонкамі. Бабінец перакрыты высокімі крыжовымі скляпеннямі, мае мазаічную падлогу. Плоская столь асн. аб'ёму ўпрыгожана 3 размаляванымі плафонамі, сцены — магутным карнізам з сухарыкамі. Інтэр'ер аздоблены разным

драўляным алтаром, размалёўкай. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе. *А. Ю. Пятросава.*

**ГРОДЗЕНСКАЯ ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік стараж.-рус. дойлідства 12 ст. Пабудавана майстрамі *Гродзенскай школы дойлідства.* 6-слуповы 3-нефавы храм (20 × 12,7 м) меў 3 прамавугольныя ў плане са зрэзанымі вугламі апсіды. Сцены (таўшчынёй 1—1,1 м) былі складзены з плінфы ў тэхніцы роўнаслаёвай муроўкі. У верхнія часткі сцен і скляпенні былі ўмураваны керамічныя збаны-галаснікі. Фасады былі аздоблены лапаткамі, маёлікавымі пліткамі квадратнай і трапецападобнай формы, устаўкамі з абчасаных паліраваных валуноў. Падлога была выкладзена маёлікавай пліткай жоўтага, зялёнага і карычневага колераў разнастайных форм. Па сваім малюнку маёлікавая падлога царквы мае вял. падабенства з падлогай *Гродзенскай Ніжняй царквы.* Слупы квадратнага сячэння са скошанымі вугламі. Фундамент складзены з невял. валуноў і заглыблены на 0,6 м. Царква значна пашкоджана пажарам у 1654. Рэшткі яе выяўлены ў 1980 археолагамі на тэр *Гродзенскага манастыра базыльянак.*

*І. М. Чарняўскі.*



**Гродзенская Прачысценская царква.** План.

**ГРОДЗЕНСКАЯ СІНАГОГА,** помнік архітэктуры неарускага стылю. Пабудавана на мяжы 19—20 стагоддзяў у гіст. цэнтры Гродна (вул. Кашавога, 59) на месцы стараж. драўлянай сінагогі 18 ст. Цагляны 3-павярховы квадратны ў плане будынак накрыты 2-схільным дахам. Гал. фасад фланкіраваны квадратнымі ў сячэнні вежамі (паміж імі на 1-м паверсе тэраса), кілепадобнымі завяршэннямі і 4-схільнымі самкнутымі купаламі. Фасады багата дэкарыраваны прафілёўкай, крапоўкамі, кілепадобнымі ліштвамі лучковых і арачных аконных праёмаў, рустам. Гал. зала з бакавымі нізкімі нефамі займае ўсю вышыню аб'ёму. У цэнтры стаіць біма, слупы якой падтрымліваюць крыжовыя скляпенні з нервюрамі. Ва ўсх. сцяне ў неглыбокай 5-граннай нішы — алтар, уздоўж заходняй — галерэя для жанчын. Інтэр'ер дэкарыраваны ляпным акантавым арнаментам у гатычнай трактоўцы. Выкарыстоўваецца пад маст. майстэрні. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*



**Гродзенская сінагога.**

**ГРОДЗЕНСКАЯ УЛАДЗІМІРСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рус. стылю. Пабудавана з цэглы ў 1896 (вул. Перамогі, 5) паводле праекта інж. І. К. Плотнікава. У плане мае 4-частковую кампазіцыю: званіца, трапезная, асн. аб'ём, 5-гранная апсіда. Вышынная дамінанта пабудовы — 10-метровая 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) званіца з шатровым дахам, які завяршаецца цыбулепадобнай галоўкай. У дэкар. аздабленні прасочваюцца формы маскоўскага дойлідства 17 ст. (кілепадобныя франтончыкі на бакавых фасадах, вуглавыя калонкі, ліштвы акон, шматлікія прафіліроўкі, арачныя нішы, закамары). Сцены царквы прарэзаны арачнымі і лучковымі аконнымі праёмамі. Філёнгавы фрыз і зубчасты пояс апяразваюць па перыметры ўвесь будынак. Архітэктура інтэр'ера вытрымана ў простых сціплых формах, гал. кампазіцыйным акцэнтам з'яўляецца разны драўляны іканастас. Унутраная прастора перакрыта плоскай столлю. Царква дзейнічае.

*Г. А. Лаўрэцкі.*



**Гродзенская Уладзімірская царква.**

**ГРОДЗЕНСКАЯ ШКОЛА ДОЙЛІДСТВА,** самабытная архіт. школа, якая склалася ў 12 ст. ў Гродне. Будынкі Г. ш. д. вызначаліся арыгінальнымі сродкамі выразнасці — выкарыстаннем у роўнаслаёвай муроўцы з плоскай цэглы (плінфы) дэкар. прыроднага каменю (абчасаных, паліраваных валуноў), геаметрычных кампазіцый з каляровых паліваных кафляў, наборнай маёлікавай падлогі з плітак разнастайных форм. Для аб'ёмна-прасторавых кампазіцый характэрна адносна невял. таўшчыня апорных канструкцый, круглая і гранёная форма ўнутр. слупоў. Каб палепшыць акустыку, у верхнія часткі сцен умуроўваліся керамічныя збаны (галаснікі). Узоры Г. ш. д. — *Гродзенская Ніжняя царква, Гродзенская Барысаглебская царква, Гродзенская Прачысценская царква, Гродзенскі княжацкі харам,* царква ў Ваўкавыску (сярэдзіна 12 ст.; у 1956 выяўлены рэшткі падмурка на замчышчы).

**ГРОДЗЕНСКІ ГАРАДСКІ АСАБНЯК,** помнік архітэктуры эклектыкі. Пабудаваны ў канцы 19 ст. ў Гродне (Друкарскі зав., 15а). Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак завершаны 2-схільным дахам. Гал. фасад вылучаны ў цэнтры шырокім рызалітам з высокім 2-схільным шчытом. Сцены раскрапаваны лапаткамі, карнізамі, авальнымі і прамавугольнымі нішамі, філёнгамі. Аконныя праёмы дэкарыраваны прафіляванымі ліштвамі, на тарцовых фасадах — сандрыкамі і 3-вугольнымі франтонамі. На 2-м

паверсе дваровага і тарцовых фасадаў вокны гатычнай стральчатай формы. Цокальны паверх мае самастойны ўваход з боку дваровага фасада. Планіроўка дома калідорная, з цэнтр. міжпаверхавай лесвіцай. Выкарыстоўваецца медыцынскай установай. *А. М. Кулагін.*

**ГРОДЗЕНСКІ ГІСТАРЫЧНЫ ЦЭНТР,** помнік горадабудаўніцтва 12—20 стагоддзяў. Уключае помнікі гісторыі і архітэктуры. Займае тэр. па берагах р. Нёман, паміж чыгункай і р. Гараднічанка. Складаецца з 3 частак: Старога горада, *Гарадніцы* і Занёманскага пасада. Стары горад — тэрыторыя, абмежаваная правым берагам р. Нёман (Пд), чыгункай (У), вуліцамі Віленскай і Ажэшкі (Пн), р. Гараднічанка (З); уключае Каложскую гару. Планіроўка і забудова сфарміравалася ў 12—17 стагоддзях. У 12—14 стагоддзях склалася веерная сістэма планіроўкі. Цэнтрам яе былі замкі Верхні (б. дзядзінец) і Ніжні (б. вакольны горад), да якіх радыяльна сыходзіліся вуліцы Замкавая, Алега Кашавога (б. Перэца, Вялікая Троіцкая) і Навазамкавая. У 15—17 стагоддзях сфарміравалася няправільная радыяльна-кальцавая сістэма планіроўкі, цэнтрам якой стала Савецкая пл. (б. Рынак ці Рыначная пл., Ратушная, Парадная, Саборная, Стэфана Баторыя). Да яе сыходзіліся асн. радыяльныя вуліцы: Савецкая (б. Віленская, Саборная, Дамініканская), Замкавая, Кастрычніцкая (б. Рыначны зав.), Пасіянарыі (б. Калючынская, Каложанская), Карла Маркса (б. Язерская, Скідальская, Брыгіцкая, Кутузаўская, Купецкая), Крупскай (б. Вялікая, Мяшчанская) і Маставая. Паралельна і перпендыкулярна да іх ішлі вуліцы Урыцкага, Энгельса (б. Містшоўская, Гараднічанская), 8 Красавіка (б. Малая Троіцкая), Тэльмана (б. Іванаўская, Гувера), Клары Цэткін (б. Званавы зав., Магістрацкая вул.), Кірава (б. Мірніцкая, Рэзніцкая, Паліцэйская, Лістоўскага), Паўлоўскага (б. Жандарскі зав., Пясочная). Да 19 ст. ва ўсх. частцы ўздоўж чыгункі склаўся шэраг прамавугольных кварталаў, узніклі новыя вуліцы мерыдыянальныя: Сацыялістычная (паўн. частка вуліцы ад скрыжавання з вул. Карла Маркса — б. Паштовая, Гарохавая, Вітальдава), Тэлеграфная (б. Паштовая, Басняцкая), Маладзёжная (б. Новая), Чапаева (б. Банкавая, Пясочная, Рыдза-Сміглы), Леніна (б. Сафійская, Пілсудскага) і Будзённага (б. Наваўдзельная, Аляксандраўская, Ягелонаўская, Шашэйная). Перпендыкулярна да іх сфарміраваліся вуліцы Карбышава, Студэнцкая, Свярдлова (б. Дзям'янаўская, Татарская, Баніфратарская), Парыжскай камуны (б. Курганная, Бернардзінская, Карэтны зав.) і Падольная (б. Падол). Гал. планіровачная вось — вул. Маставая — вул. Савецкая, у паўн.-зах. частцы выходзіла на гасцінец Варшава — Вільня. Захаваліся помнікі архітэктуры: *Гродзенскі Стары замак,* Новы замак (гл. *Гродзенскі Каралеўскі палац), Гродзенскі касцёл і кляштар бернардзінцаў,* касцёл езуітаў (гл. *Гродзенскі касцёл і кляштар езуітаў), Гродзенскі касцёл і кляштар брыгітак, Гродзенскі манастыр базыльянак, Гродзенскі кляштар дамініканцаў, Гродзенская Барысаглебская царква, Гродзенская Уладзімірская царква, Гродзенская сінагога, Гродзенскага акруговага суда будынак, Гродзенскія воданапорныя вежы,* броварны з-д.



Гродзенскі гарадскі асабняк.

Гарадніца — тэрыторыя, абмежаваная вуліцамі Віленскай (З), Ажэшкі (Пд), 17 Верасня, Астроўскага, Пушкіна і Міцкевіча (Пн). Створана паводле адзінага праекта 1765—85 (арх. І. Мёзер, Дж. Сака) паводле загаду А. Тызенгаўза як новы культ.-прамысл. цэнтр горада на месцы б. вёскі Гарадніца. Гал. планіровачная вось — вул. Ажэшкі (б. Раскоша, Мураўёўская, Садовая). Кампазіцыйны цэнтр сучаснага раёна — пл. Леніна (б. Тызенгаўза, Тэатральная, Дварцовая, Вальнасці), да якой падыходзяць вуліцы Максіма Горкага (б. Гарадніцкая застава) і Дзяржынскага (б. Сапёрная, Нарутовіча), злучаныя паміж сабой вуліцы Міцкевіча, Пушкіна і Астроўскага (б. Панятоўскага). У 19 ст. ў паўн.-ўсх. частцы Гарадніцы сфарміраваліся новыя вуліцы — 17 Верасня, 1 Мая (б. Якаўлеўскі праспект, алея 3 Мая), Багдановіча, Акадэмічная і Валковіча, якія ўтварылі шэраг прамавугольных кварталаў. Захаваліся помнікі архітэктуры: *Гродзенскага тэатра Тызенгаўза будынак, Гродзенскі дом лясной адміністрацыі, Гродзенскі дом віцэ-адміністратара, Гродзенскі дом віцэ-губернатара, Гродзенскай медыцынскай школы будынак, Гродзенскі Палац адміністратара, Гродзенская Пакроўская царква, Гродзенскага рэальнага вучылішча будынак, Гродзенскай жаночай гімназіі будынак.*

Занёманскі пасад — уздоўж левага берага р. Нёман, абмежаваны чыгункай (У), вуліцамі Дарвіна, Гагарына і Міра (Пд). Галоўная — вул. Гарнавых (б. Ліпавая) злучае мостам цераз р. Нёман раён з цэнтрам Старога горада. Захаваўся помнік архітэктуры — *Гродзенскі касцёл і кляштар францысканцаў.*

У 1989 распрацаваны праект рэгенерацыі гістарычнага ядра цэнтра Гродна ў межах вуліц Алега Кашавога, Урыцкага, Ажэшкі і Савецкай пл. (1-ы этап рэгенерацыі; «Гроднапраектрэстаўрацыя», аўтарскі калектыў С. Шэйко, І. Казлоўскі, В. і Ю. Мацко, В. Краўчанка, А. Пархута, У. Лытаў). У 1990 пачаліся рэстаўрацыйныя работы

*Т. І. Чарняўская.*



Гродзенскі дом Агінскага. Чарцёж галоўнага фасада.

**ГРОДЗЕНСКІ ДОМ АГІНСКАГА.** Існаваў у канцы 18—сярэдзіне 19 ст. ў Гродне. Пабудаваны ў 1790 (арх. К. Шыльдгаўз) у стылі класіцызму з элементамі нар. дойлідства. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак з развітымі рызалітамі ў цэнтры гал. і дваровага фасадаў і 4 алькежамі па вуглах. У мураваным 1-м паверсе знаходзіліся каморы і парадная 2-маршавая лесвіца. Драўляны 2-і паверх уключаў жылыя пакоі, залы, кухні. Асн. аб'ём накрыты высокім 4-схільным чарапічным дахам. Фасады дома мелі 4-яруснае вырашэнне. Ніжні ярус (1-ы паверх) масіўны, з невял. гладкімі прамаву-

гольнымі аконнымі праёмамі, верхні (2-і паверх) — больш высокі, ажурны, прарэзаны рытмічным радам шырокіх акон з ліштвамі. Рызаліт на гал. фасадзе быў завершаны невял. атыкам, гал. ўваход аформлены стылізаваным порцікам. Не збярогся.

**ГРОДЗЕНСКІ ДОМ ВІЦЭ-АДМІНІСТРАТАРА,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў Гродне (сучасная пл. Ленана, 2) у 2-й пал. 18 ст. Мае рысы стыляў барока і класіцызму. Уваходзіў у архіт. ансамбль *Гарадніцы.* 2-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак з вальмавым дахам. Гал. фасад аздоблены лапаткамі, філёнгамі і нішамі, па баках раскрапаваны плоскімі рызалітамі. Больш нізкі верхні паверх аддзелены карнізным поясам і багата дэкарыраваны. Архітэктурная выразнасць дасягаецца рэгулярным рытмам прамавугольных аконных праёмаў. Пачатковая планіроўка і аздабленне інтэр'ераў не зберagліся. У будынку размешчаны філіял Цэнтр. дзярж. гіст. архіва Беларусі. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ГРОДЗЕНСКІ ДОМ ВІЦЭ-ГУБЕРНАТАРА,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў Гродне (сучасная вул. Э. Ажэшкі, 3) на мяжы 18—19 ст. (каля 1800) для гродзенскага віцэ-губернатара Максімовіча. У 1920-я гады выкарыстоўваўся Гродзенскім староствам. 2-павярховы Г-падобны ў плане мураваны будынак накрыты 2-схільным дахам. Сіметрыя гал. фасада падкрэслена 4-калонным порцікам дарычнага ордэра з трохвугольным франтонам. Бакавыя часткі вылучаны рызалітамі, якія выступаюць за межы верхняга карніза. Унізе 3 паўцыркульныя праезды. 1-ы паверх аддзелены ад астатніх 2 гарызантальнымі цягамі. Фасад раскрапаваны філёнгамі, рустам, завершаны развітым прафіляваным карнізам. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены фігурнымі ліштвамі і сандрыкамі. Планіроўка калідорная з 2-баковым размяшчэннем памяшканняў. Пры гал. ўваходзе вял. вестыбюль з парадкай лесвіцай. Інтэр'еры былі ўпрыгожаны фрэскавай размалёўкай. У невял. садзе за домам стаяла каменная альтанка-ратонда ў стылі класіцызму (не збераглася). Выкарыстоўваецца як адм. будынак. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ГРОДЗЕНСКІ ДОМ ЛЯСНОЙ АДМІНІСТРАЦЫІ,** помнік грамадзянскай архітэктуры 18 ст. Пабудаваны ў Гродне (сучасная вул. Леніна, 4б) ў 1760—80 у стылі барока. Уваходзіў у архітэктурны комплекс *Гарадніцы.* Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак. Вальмавы дах з мансардамі на тарцовых фасадах з'яўляецца асн. элементам кампазіцыі. 1-ы паверх аддзелены ад 2-га гарызантальным пояском. Цэнтр. часткі падоўжаных фасадаў вылучаны рызалітамі. Вокны прамавугольныя, завяршальны карніз прафіляваны, з невял. вынасам. Унутраная планіроўка калідорная, пакоі размешчаны па перыметры будынка. Выкарыстоўваецца як жылы. Помнік рэспубліканскага значэння. *І. С. Мельнік.*

**ГРОДЗЕНСКІ ДОМ ТЭХНІКІ.** Пабудаваны ў 1984 (арх. В. Бажко, У. Праабражэнскі) на вул. Горкага на рэльефе з перападам вышынь, што адбілася на аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынка. Прамавугольны ў плане, 3-павярховы з боку галоўнага і 5-павярховы з боку дваровага фасадаў. Да яго прыбудавана 2-павярховае крыло на слупахапорах, паміж якімі праезд на ўзроўні 2—4 паверхаў. Выразнасць кампазіцыі гал. фасада дасягаецца кантрастным проціпастаўленнем 2 першых зашклёных паверхаў і глухой сцяны 3-га паверха, апрацаванай рэльефнымі бетоннымі пліткамі. Пластыку ўзбагачаюць вертыкальныя рэбры, падвойныя пілястры, кранштэйны. У крыле малы выставачны і канферэнц-залы. Інтэр'ер фае вял. выставачнай залы аформлены размалёўкай «Касманаўты» (1986, тэмпера, мастак У. Коўзусь).

**ГРОДЗЕНСКІ «ДОМІК МАЙСТРА»,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1768—73 у Гродне на тэр. *Гарадніцы* (сучасная вул. Ажэшкі, 37). З'яўляецца адзіным уцалелым будынкам з 20 т. зв. «Басняцкіх дамоў» («баснякі» — вайсковая варта Гродзенскай каралеўскай эканоміі), узведзеных па двух тыпавых праектах арх. І. Г. Мёзера сіметрычна абапал вул. Раскоша (сучасная Ажэшкі) для жылля запрошаных на мануфактуры А. Тызенгаўза замежных майстроў і «баснякоў». Домік — прыклад першай на Беларусі тыпавой жылой забудовы. Мае мураваную фасадную сцяну з сіметрычна размешчанымі невял. вокнамі 1-га паверха і акном мансарды. Франтон складанай канфігурацыі накрыты дахоўкай. Фа-



Гродзенскі дом віцэ-адміністратара.



Гродзенскі дом лясной адміністрацыі.



Гродзенскі дом віцэ-губернатара.

сад падзелены накрытым дахоўкай карнізам. Да фасаднай сцяны прыбудаваны асн. драўляны аб'ём. 2-схільны дах з мансардай накрыты дахоўкай. На 1-м паверсе будынка жылы пакой, кухня і сені, з якіх лесвіца вядзе на мансарду. Гродзенскія «басняцкія дамы» паводле праектнага вырашэння блізкія да пастаўскіх і шаўляйскіх, але некалькі меншыя і прасцейшыя па дэкоры і планіроўцы. У 1987 распрацаваны праект рэстаўрацыі будынка (арх. У. Барсукоў, аўтар гіст. даследаванняў В. Калнін). Праект рэалізаваны ў 1990. Помнік рэспубліканскага значэння. *З. П. Раманава.*

**ГРОДЗЕНСКІ ЖЫЛЫ ДОМ,** помнік архітэктуры мадэрна. Пабудаваны ў 1914 у Гродне (сучасная вул. Савецкая, 17) як жылы дом купца Мураўёва. У 1919 у будынку на працягу 3 месяцаў працаваў першы Гродзенскі Савет рабочых дэпутатаў. Трохпавярховы неатынкаваны Г-падобны ў плане будынак. Цэнтральную частку сіметрычнага гал. фасада займае вял. балкон з літой чыгуннай агароджай. На 3-м паверсе крайнія арачныя праёмы з невял. балконамі. Плоскасць фасада крапаваная пілястрамі з чыгуннымі вензелямі ў завяршэнні, да ўзроўню 2-га паверха руставаная. У абрысах акон, франтонаў, афармленні бакавых частак гал. фасада прасочваюцца рысы стылю мадэрн. Паўкалонкі ў нішах, ліштвы аконных праёмаў, арнамент карнізаў выраШаны ў псеўдарускім стылі. На 2-м паверсе — вял. зала, побач з якой знаходзіўся пакой для гульняў. Паверхам вышэй размяшчаліся жылыя пакоі, сталовая. У афармленні цэнтр. залы шырока выкарыстаны дэкар. размалёўка і лепка. Залу асвятляюць 5 вял. прамавугольных акон, у 2 вуглах — печы з ляпнымі картушамі. Былы пакой для гульняў падзелены на 2 часткі праёмам, акаймаваным драўлянай разной ліштвай. На столі ляпныя разеткі. У вуглах каміны, абкладзеныя карычневымі кафлянымі пліткамі. У памяшканнях 3-га паверха захаваліся печы і ляпныя разеткі на столі. Цяпер у будынку размешчана абл. б-ка імя Я. Ф. Карскага. *А. Ю. Пятросава.*



Гродзенскі жылы дом.



Дом тэхнікі ў Гродне.



Гродзенскі «домік майстра».

**ГРОДЗЕНСКІ КАРАЛЕЎСКІ ПАЛАЦ,** Гродзенскі Новы замак, помнік архітэктуры ракако. Пабудаваны ў 1734—51 у Гродне каралём Аўгустам III на месцы Гродзенскага Ніжняга замка (сучасная вул. Замкавая, 20). Асн. праект К. Ф. Пёпельмана, у стварэнні палаца ўдзельнічалі арх. І. Х. Яўх і І. Ф. Кнобель (апошні дабудоўваў капліцу-капэлу). У 1789 рэканструяваны арх. Дж. Сака. Выкарыстоўваўся як месца пасяджэнняў Генеральных сеймаў Рэчы Паспалітай, як палац Станіслава-

Аўгуста Панятоўскага, пазней як шпіталь і адм. будынак. П-падобны ў плане 2-павярховы аб'ём пад мансардавым дахам утвараў парадны двор, які з боку *Гродзенскага Старога замка* заканчваўся 1-павярховымі флігелямі і брамай. З левага боку размяшчаліся службовыя карпусы (канцылярыя, стайня і інш.), якія ўтваралі ўнутраны двор. Фасады члянілiся адзінарнымі і падвойнымі лапаткамі, прамавугольнымі нішамі, згрупаванымі аконнымі праёмамі. Рызаліт у цэнтр. частцы быў аздоблены падвойнымі пілястрамі, картушамі ў прасценках і на тымпане трохвугольнага франтона. З боку дваровага фасада да паўкруглага эркера была прыбудавана палацавая капліца, накрытая вальмавым дахам з шатровай званіцай з тарцовага фасада. У яе дэкоры выкарыстаны ракайльныя вазы, кветкавыя гірлянды, каралеўская карона, валюты, штучная драпіроўка, гірлянда званоў. Маляўнічае вырашэнне палаца дасягалася спалучэннем чырвонай дахоўкі, зялёнага колеру сцен і белых элементаў архіт. пластыкі і ляпнога дэкору. Планіроўка калідорная з авальнай у плане цэнтральнай купальнай залай, ад якой адыходзілі парадныя памяшканні, вял. вестыбюль, капліца. Жылыя памяшканні размяшчаліся на 2-м паверсе і ў мансардзе, службовыя памяшканні ў скляпеністых падвалах. Інтэр'еры капліцы, Сенатарскай, Пасольскай і Круглай залаў былі ўпрыгожаны жывапісам, размаляванымі плафонамі, панелямі, стукавай залачонай лепкай у стылі ракако, скульптурай, паркетнай падлогай. У 1780-я гады інтэр'ер размаляваны сюжэтнымі сцэнамі (дэкаратар Манькоўскі). У першапачатковым выглядзе захавалася ўязная брама, фланкіраваная манум. пілонамі са скульптурамі сфінксаў, дэкаратыўнай вайсковай арматурай (створана пад уплывам творчасці франц. арх. Ф. Бландэля). У 1944 палац значна разбураны. Пасля перабудовы (1952, арх. У. Вараксін) у ім размяшчаўся Гродзенскі абком КПБ. Помнік рэспубліканскага значэння.

*У. А. Чантурыя, А. М. Кулагін.*

**ГРОДЗЕНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНАК.** Існавалі ў 17—1-й пал. 20 ст. ў гіст. цэнтры Гродна. Пабудаваны ў 1621 (па фундацыі К. Сапегі) у стылі барока. У 1854 перабудаваны пад праваслаўны Барысаглебскі манастыр. Касцёл — 1-нефавы будынак з паўкруглай апсідай, завершаны 2-схільным (над апсідай паўканічным) дахам. Сцены былі расчлянёны арачнымі аконнымі праёмамі. Гал. фасад утварала 2-ярусная вежа-званіца, завершаная складаным па малюнку купалам. Ярусы вежы і тарцовай часткі нефа былі аформлены пілястрамі, падзелены антаблементам. Бакавыя часткі франтона нефа вырашаны як стылізаваныя валюты і фланкіраваліся па вуглах шатровымі вежачкамі-пінаклямі. У 19 ст. пры перабудове касцёла пад праваслаўны храм зменена завяршэнне гал. фасада, над цэнтр. часткай нефа зроблены купал на 8-гранным барабане ў псеўдарускім стылі. 2-павярховы будынак кляштара стаяў перад гал. фасадам касцёла, меў складаную канфігурацыю плана. Аб'ёмы завяршаліся 2-схільнымі дахамі. Комплекс быў абнесены агароджай з прамавугольнай у плане 2-яруснай брамай-званіцай пад 2-схільным дахам. На месцы былога Барысаглебскага манастыра, які быў разбураны ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у 1984 пабудаваны абласны драматычны тэатр.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ГРОДЗЕНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ,** помнік архітэктуры 16—18 стагоддзяў, у якім спалучаюцца прыёмы і формы готыкі, рэнесансу і барока. Драўляны кляштар заснаваны ў 1494 (фундатар Аляксандр Ягелончык). Будаўніцтва мураванага касцёла пачалося ў 1602. Вуглавы камень у падмурак быў закладзены епіскапам віленскім Бенедыктам Война. Касцёл пад назвай Адшукання Св. Крыжа быў асвячоны 13.5.1618 епіскапам Яўстахіем Валовічам. У 1656 будынкі касцёла і кляштара моцна пашкоджаны пажарам. У 1680 перакрыта страха касцёла, рэстаўрыраваны алтар св. Антонія, пабудавана капліца св. Барбары. У 1736 па ініцыятыве гвардыяна Францішка Бараноўскага будуецца 3 алтары капліцы св. Міхаіла. У гэты час перабудаваны алтары св. Міхаіла, св. Банавентуры, св. Ануфрыя, св. Пятра з Алькантары. У 1738 праведзена рэстаўрацыя званіцы. У 1853 Гродзенскі кляштар бернардзінцаў ліквідаваны. Уключае касцёл, жылы корпус, вежу-званіцу, якія звязаны ў адзін комплекс і ўтвараюць замкнёны ўнутраны двор. Размешчаны на высокім правым беразе Нёмана, з'яўляецца дамінантай сілуэта забудовы цэнтра горада. К а с ц ё л — 3-нефавая 6-стаўповая базіліка з моцна выступаючай і паніжанай адносна цэнтр. нефа паўцыркульнай апсідай, з прытворам і 2 капітэлямі. Цэнтр. неф накрыты двухсхільнымі дахамі. У архітэктуры касцёла спалучаюцца стылявыя элементы готыкі (стральчатыя праёмы і ступеньчатыя контрфорсы апсіды, нервюры скляпенняў), рэнесансу і барока (дынамічная групоўка ордэрных форм на гал. фасадзе і крывалінейны сілуэт верхняга яруса). Гал. фасад дэкарыраваны развітым антаблементам, пілястрамі карынфскага ордэра, арачнымі нішамі і завершаны трохвугольным франтонам. Сцены бакавых фасадаў члянёны пілястрамі і спаранымі арачнымі вокнамі. Цэнтр. неф аддзелены ад бакавых 6 апорнымі слупамі. Нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У 1788 аздоба інтэр'ера дапоўнена жывапісам (мастакі А. Грушэцкі і Ф. Міхалкевіч), разьбой па дрэве, чыгунным і бронзавым ліццём, стукавым арнаментам, скульптурай. Скляпенні крыжовыя на падпружных арках, размаляваных у тэхніцы грызайль (гербы заказчыкаў, раслінны арнамент). Плафоны з фрэска-



**Гродзенскі каралеўскі палац.**



Гродзенскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.

вымі кампазіцыямі. У нішах аркатурнага пояса на паўд. сцяне цэнтр. нефа выявы 12 апосталаў, на поўначы — 12 дзеячаў Вял. кн. Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Кампазіцыя «Ушэсце Хрыста» размешчана на тымпане арачнага перакрыцця цэнтр. нефа. Каля паўн. нефа — амбон у стылі класіцызму, дэкарыраваны лісцем аканта і авальнымі медальёнамі з выявамі евангелістаў (дрэва, накладная разьба). Дзверы і сцены прытвора, што выходзяць у цэнтр. неф, выкананы з ажурнага кованага металу (17 ст.). Над прытворам хоры з арганам, устаноўленым у 1680-я гады пры гвардыяне Антоніі Гладавіцкім і дэкарыраваным разьбой па дрэве. У кампазіцыі ўсіх 14 алтароў (за выключэннем аднаго алтара, зробленага ў 20 ст. мясцовым рэзчыкам І. Болдакам) выкарыстаны элементы карынфскага ордэра, скульптура, алтарныя карціны. Асаблівую маст. каштоўнасць маюць скульптурныя і гарэльефныя стукавыя кампазіцыі Ларэтанскай капэлы «Чатыры евангелісты», «Святое сямейства», «Маленне аб чашы», якія выкананы ў стылі рэнесансу. Трох'ярусны гал. алтар драўляны, аздоблены стукавай скульптурай і арнаментам. У яго кампазіцыі арганічна ўключаны высокія спараныя вокны апсіды, у якіх захаваліся вітражы. Ярусы алтара вылучаны ступеньчатым пастаментам і раскрапаваным антаблементам, завершаны прамавугольным атыкам. Сцены прэсбітэрыя да ўзроўню акон пакрыты дубовымі панелямі, на іх — драўляныя прамавугольныя пано. Дэкаратыўнае афармленне гал. алтара, прэсбітэрыя цэнтр. нефа (спалучэнне элементаў рэнесансу, барока і класіцыстычных матываў) дае падставу датаваць інтэр'ер 17 — канцом 18 ст. Ж ы л ы к о р п у с далучаны да паўд. сцяны касцёла. Двухпавярховы аб'ём у плане складанай канфігурацыі. Сцены чляпёны прамавугольнымі вокнамі, пілястрамі, контрфорсамі. Усходняе і паўд. крылы вылучаны буйнымі рызалітамі з трохвугольнымі шчытамі, завершаны двухсхільным дахам. Планіроўка галерэйная. Вежа-званіца прымыкае да гал. фасада касцёла з паўд. боку. Мае самастойны ўваход і звязана з касцёлам і жылым корпусам. 2 верхнія ярусы званіцы, перабудаваныя ў 1788, выкананы ў стылі позняга барока. Яны маюць складаную фігурную пабудову і маляўнічы сілуэт. У іх пластычным афармленні выкарыстаны выцягнутыя паверхні сцен, рэльефныя чляненні, вуглавыя калонкі і валюты. Вежа завершана фігурнай галоўкай са шпілем. У будынках кляштара размешчаны: судова-гісталагічная лабараторыя, бюро судова-медыцынскай экспертызы, абл. дом санітарнай асветы, санэпідэмстанцыя, памяшканні для служак касцёла. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*С. Г. Багласаў, М. М. Яніцкая.*

**ГРОДЗЕНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БРЫГІТАК,** помнік архітэктуры ранняга барока. Комплекс пабудаваны ў 1634—42 па фундацыі К. і А. Весялоўскіх. Уключаў Благавешчанскі касцёл, жылы корпус, мураваную агароджу з брамамі (захавалася часткова), гасп. пабудовы (збярогся толькі драўляны лямус; гл. ў арт. *Гродзенскія лямусы*), сад, агарод, званіцу-капэлу, якая стаяла асобна, па другі бок вуліцы (знішчана ў 1960-я гады). К а с ц ё л размешчаны ў паўн. частцы комплексу. Аднанефавы 2-вежавы храм з паўцыркульнай апсідай, якая пераходзіць у асн. аб'ём і мае агульны з ім высокі дах, накрыты дахоўкай. Гал. фасад мае стройную сіметрычную кампазіцыю з 3-часткавым дзяленнем па вертыкалі на цэнтр. плоскасць і 2 вуглавыя вежы. Ніжні ярус гал. фасада члянёны плоскімі пілястрамі з карынфскімі капітэлямі, прарэзаны дзвярным і аконным праёмамі (у бакавых частках аформлены арачнымі нішамі для скульптур). Над пілястрамі праходзіць магутны раскрапаваны антаблемент, фрыз якога аформлены манум.-дэкар. жывапісам у



Гродзенскі касцёл і кляштар бернардзінцаў. Інтэр'ер касцёла.

тэхніцы сграфіта. Гал. фасад завершаны аднолькавымі па вышыні атыкам, 3-вугольным франтонам і 2-яруснымі дэкар. вежачкамі. Інтэр'ер храма вырашаны як адзіны аб'ём, перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках. Паўцыркульная апсіда мае аднолькавую з нефам шырыню і вышыню, аддзелена ад яго выступамі-лапаткамі з падпружнай аркай. Над уваходам размешчаны хоры, якія апіраюцца на два 8-гранныя слупы. Лапаткі аздоблены рэшткамі паліхромнага расліннага арнаменту з матывамі вазонаў і гірлянд. Да паўн.-зах. сцяны касцёла прымыкае ж ы л ы к о р п у с — прамавугольны ў плане 2-павярховы аб'ём з вял. унутраным дваром. На паўн. фасадзе захаваўся партал, аздоблены мастацкай тынкоўкай. Фасады члянёны маленькімі прамавугольнымі вокнамі ў простых ліштвах, завершаны шырокім карнізам. Па перыметры будынка (з боку двара) праходзіць светлавы калідор з келлямі. У паўд.-ўсх. вуглу корпуса размешчаны вялікі аб'ём, на 1-м паверсе якога была трапезная, на 2-м — бібліятэка. А г а р о д ж а з б р а м а й уяўляе сабой глухую цагляную атынкаваную сцяну, па вуглах якой былі невял. 6-гранныя вежы (захаваўся 1-ы ярус вежы на перакрыжаванні вуліц К. Маркса і Маладзёжнай). Агароджа была прарэзана 4 брамамі (захаваліся 3, найбольш манументальная знаходзіцца перад касцёлам). Захаваліся таксама брамы для пешага люду, уцалела праезная брама гасп. двара. Касцёл на рэстаўрацыі, у будынках манастыра размешчана медыцынская ўстанова. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*С. Г. Багласаў, Т. Р. Маліноўская.*

**ГРОДЗЕНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ЕЗУІТАЎ,** помнік архітэктуры барока. Пачаў фарміравацца пасля 1622 у цэнтры Гродна, на ўсх. баку Старога рынку (сучасная Савецкая пл.). У комплекс уваходзілі касцёл, стары і новы будынкі калегіума, б-ка, *Гродзенскай аптэкі будынак,* друкарня, жылыя карпусы і гасп. пабудовы. Першы езуіцкі «касцёльчык» Пятра і Паўла быў узведзены з дрэва і існаваў з 2-й чвэрці 17 ст. да 1700. Буд-ва езуіцкай рэзідэнцыі пачалося пасля 1664, калі яна атрымала статус калегіума, мураванага касцёла — у 1678 (фундатары Самуэль і Канстанцыя Лозы). Першае набажэнства ў касцёле адбылося ў 1700, асвячэнне ў імя Ксаверыя, на якім прысутнічалі Аўгуст II і рус. цар Пётр I,— у 1705. У 1707 рэзчык з Каралеўца (цяпер Калінінград) К. Пойкер (?) распрацаваў праекты ўсіх алтароў (кулісныя і бакавыя былі выкананы ў 1709—16, галоўны — разьбяром Я. Шмідтам з Рэшэля ў 1736—37). У 1725 на вежузваніцу касцёла быў перанесены гадзіннік (помнік тэхнікі сярэднявечча), які выконваў ролю гарадскога і знаходзіўся раней на вежы калегіума. У 1744 у Каралеўцы закуплены арган, у 1745 у Рэшэлі — цыборыум (балдахін над алтаром). У 1750—52 муляр К. Бурман надбудаваў вежы. У гэты ж час быў зроблены новы амбон і выкананы фрэскавы цыкл. Стары мураваны калегіум будавалі ў 1677—83. 1-ы паверх новага калегіума ўзведзены ў 1691, 2-і і 3-і — у 1740—44. Аптэка пабудавана ў 1700—09, 2-і паверх надбудаваны ў 1763.



**Гродзенскі касцёл і кляштар брыгітак.** Галоўны фасад касцёла.



**Гродзенскі касцёл і кляштар езуітаў.** Галоўны фасад касцёла.

Касцёл (з 1783 наз. фарны) — 3-нефавая крыжова-купальная базіліка (выш. 53,6 м, у плане 30×60 м). Трансепт і цэнтр. неф маюць аднолькавую вышыню і вышэйшыя за бакавыя нефы. На ветразях сяродкрыжжа ўстаноўлены светлавы барабан, сферычны купал і ліхтар. Па баках паўцыркульнай апсіды прыбудаваны 2 капліцы са сферычнымі купаламі — архангела Міхаіла і Маці Боскай Студэнцкай. 2-вежавы амаль плоскі фасад падзелены паясамі антаблементаў на 3 ярусы, 2 ніжнія раскрапаваны падвойнымі карынфскімі пілястрамі. У арачных нішах драўляныя выявы апосталаў Пятра і Паўла, св. Ксаверыя (разбяр Г. Гіс, 1768). У цэнтры фасада — вял. акно і балкон для аркестра. Сілуэт ажыўляюць увагнутыя сцены і 2 вазы мураваных барочных купалаў над вежамі. Двухмаршавая лесвіца, упрыгожаная фігурай Хрыста з крыжам перад гал. уваходам, была пабудавана ў пач. 20 ст. Каваныя жалезныя дзверы гал. ўвахода зроблены кавалём Я. Біршам (1744). Бакавыя фасады выкананы ў стрыманых формах ранняга барока: раскрапаваны падвойнымі пілястрамі і тонкімі карнізнымі паясамі. Бакавыя нефы высокія (10,5 м), без крытых галерэй, асветлены вял. лучковымі і арачнымі аконнымі праёмамі. Пліточная падлога выкладзена «шведскім» (гатляндскім) каменем. Нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі, гурты якіх упрыгожаны раслінным арнаментам. Па перыметры гал. нефа над антаблементам размешчана галерэя з балюстрадай; яго сцены раскрапаваны адзіночнымі карынфскімі пілястрамі (капітэлі выкананы з дрэва). Пры ўваходзе — хоры з арганам, да якіх вядуць вітыя ўсходы ў тоўшчы сцен. Высокамастацкі багаты і ўрачысты інтэр'ер насычаны скульптурай, архіт. пластыкай і фрэскамі. Гал. драўляны алтар (выш. 21 м) зроблены ў 1736 з дрэва ў стылі позняга барока. Мае 3-ярусную кампазіцыю. Запаўняе ўсю прастору апсіды, аздоблены шматлікімі калонамі і пілястрамі. У ніжнім ярусе размешчаны 13 скульптурных выяў — Ксаверыя, 10 апосталаў і патронаў-фундатараў, у другім — Хрыстоса, 4 евангелістаў і 4 айцоў царквы. Алтар завершаны глорыяй, якая абрамляе акно апсіды. Перад ёй схіляюць галовы 4 бакі свету, увасобленыя ў жаночых вобразах. Таніраваны пад светлы мармур у 1752, перафарбаваны пад цёмны ў 1900. У касцёле 12 бакавых алтароў: 2 у капліцах, 4 у трансепце і 6 куценных. Адзін мураваны алтар у капліцы Маці Боскай Студэнцкай выкананы ў тэхніцы стука ў стылі класіцызму. Алтар св. Міхаіла ў паўн.



**Гродзенскі касцёл і кляштар езуітаў.** З акварэлі Н. Орды. 19 ст.



**Гродзенскі касцёл і кляштар езуітаў.** Галоўны алтар касцёла.



**родзенскі касцёл і кляштар францы-сканцаў.** Галоўны фасад касцёла.



**Гродзенскі касцёл і кляштар францы-сканцаў.** Інтэр'ер касцёла.



**родзенскі кляштар дамініканцаў.**

Вял. Айч. вайны выкарыстоўваец- як жылы будынак. Помнік рэс-бліканскага значэння. У 1780-я ды на вул. Званіц (цяпер вул. Кла- Цэткін) на месцы старой драўля- пабудовы паводле праекта Грынцэвіча быў узведзены другі раваны корпус кляштара (цяпер карыстоўваецца пад установы льтуры). *Т. Р. Маліноўская.*

**РОДЗЕНСКІ КНЯЖАЦКІ ХО-РАМ,** княжацкі палац, помнік хітэктуры 12 ст. Быў пабудаваны Гродне на дзядзінцы (гл. *Гродзенскі Стары замак*). Рэшткі выяўлены Ю. Ядкоўскім у 1932—33. Зберагла-ся паўн. частка даўж. 9,72 м і выш. да 2 м. Гэта быў 2-павярховы на каменным падмурку будынак з драў-лянымі бэлечнымі перакрыццямі. Змураваны з плінфы ў тэхніцы роў-наслаёвай муроўкі. На кароткіх тар-цах цаглін рэльефныя мулярскія знакі. Дэкаратыўная муроўка звон-ку была аздоблена радамі амаль неапрацаваных камянёў. Падму-рак — рад камянёў (таўшчыня 35—40 см), пад якімі знаходзіцца пра-слойка бітай цэглы. Унутраныя сце-ны былі аформлены арачнымі ні-шамі, падлогі аздаблялі разнастай-ныя па форме і колеры паліваныя керамічныя пліткі. Быў накрыты свінцовымі лістамі. У канцы 14 — пач. 15 ст. да ўвахода прыбудаваны новы ганак з вялікапамернай цэглы, будынак прыстасаваны да абароны. Разбураны ў 16 ст. ў час перабудовы Старога замка С. Баторыем.

*А. А. Трусаў.*

**ГРОДЗЕНСКІ МАНАСТЫР БА-ЗЫЛЬЯНАК,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1720—51 у цэнтр. частцы Гродна (вул. Навазам-кавая), на месцы сярэдневяковага пасада замест згарэлага драўлянага манастыра. Комплекс уключае му-раваныя царкву Раства Багародзі-цы, манастырскі і гасп. карпусы, капліцу, дом ігуменні. Ц а р к в а (1726, арх. І. Фантана III) — кры-жовакупальны храм з выцягнутай прамавугольнай алтарнай часткай і 2 чацверыковымі вежамі з фігурнымі галоўкамі над крыламі трансепта. Гал. фасад дэкарыраваны пілястра-мі, раскрапоўкамі, завяршаецца раз-вітым карнізам і 3-вугольным фран-тонам. Купал на высокім барабане завершаны ліхтаром і цыбулепадоб-най галоўкай. У інтэр'еры аб'ёмы перакрыты цыліндрычнымі скляпен-нямі на падпружных арках, якія пераходзяць у падвойныя пілястры. Пры ўваходзе з боку алтара абапал асн. нефа вітыя ўсходы, у паўн. кры-ле трансепта хоры, злучаныя з калі-дорам 2-га паверха манастырскага корпуса. Б у д ы н а к м а н а с т ы р а (1751, арх. Фантана) 2-павярховы, Г-падобны ў плане, завершаны высо-кім 2-схільным дахам. Падоўжаным крылом ён прыбудаваны да царквы і ўтварае перад апсідай невял. паў-адкрыты дворык. Прамавугольныя вокны размешчаны нерэгулярна.

Планіроўка галерэйная, памяшканні перакрыты крыжовымі, калідоры — цыліндрычнымі скляпеннямі. Да ўсх. тарца манастыра ў 19 ст. прыбудавана прамавугольная ў плане капліца з 2-колерным вырашэннем фасадаў. Сцены раўнамерна расчляnёны лапаткамі, падзелены на 2 ярусы шырокім прафіляваным поясам і завершаны стылізаваным антаблементам з трыгліфамі на фрызе і зубчыкамі на карнізе. Усходні тарцовы фасад завершаны франтонам. Вуглы аб'ёму апрацаваны магутнымі руставанымі пілястрамі. Вокны прамавугольныя, размешчаны ў ніжнім ярусе сцен паміж лапаткамі. На паўднёвым, павернутым да ўвахода ў царкву фасадзе вокны апрацаваны ліштвамі. Інтэр'ер зальны з люстраным скляпеннем. Сцены завершаны прафіляваным карнізам. Асн. гаспадарчы корпус (1891) 2-павярховы, прамавугольны ў плане, размешчаны ва ўсх. частцы комплексу. У 1979—85 паводле праекта спецыялізаваных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры БССР (арх. Г. Жаровіна) праведзены рэстаўрацыйныя работы. У 1980 на тэр. комплексу выяўлены рэшткі Гродзенскай Прачысценскай царквы. У Г. м. б. размешчаны Беларускі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі. Помнік рэспубліканскага значэння.

*У. В. Алісейчык, Г. П. Жаровіна.*

**ГРОДЗЕНСКІ НАРОДНЫ ДОМ,** помнік грамадзянскай архітэктуры пач. 20 ст. Пабудаваны ў Гродне (сучасная вул. Дзяржынскага) у 1904 паводле праекта інж. Л. Лангада і арх. М. Раманава. Цагляны 1-павярховы сіметрычны будынак з крыху вынесенымі наперад бакавымі крыламі мае складаную канфігурацыю плана, дзе частка больш высокага аб'ёму з глядзельнай залай на 350 месцаў адсунута ўглыбіню. Трохвугольны франтон, фігурныя карнізы і атыкі, багацце дэкар. пластыкі (гарызантальны руст, абрамленні аконных і дзвярнога праёмаў разнастайных форм, пілястры па вуглах) надаюць пабудове маляўнічасць. Унутраная планіроўка адпавядала прызначэнню: тут была б-ка з чытальнай залай, пакоі для заняткаў гурткоў. У будынку размешчаны гарадскі Дом культуры.

*В. М. Чарнатаў.*



Гродзенскі манастыр базыльянак.

**ГРОДЗЕНСКІ ПАЛАЦ АДМІНІСТРАТАРА,** помнік архітэктуры ранняга класіцызму. Пабудаваны ў 1770—80-я гады ў цэнтры Гродна (сучасная вул. Горкага), перабудаваны ў 19 ст. Належаў графу М. Валіцкаму, у 1842 куплены праваслаўнай кансісторыяй (у сувязі з чым атрымаў назву «архірэйскі дом»). Уваходзіў у архіт. ансамбль *Гарадніцы*, быў абкружаны рэгулярным паркам (збярогся часткова). Па баках палаца сіметрычна пастаўлены



Гродзенскі народны дом.



Гродзенскі палац адміністратара.

1-павярховыя мураваныя флігел
якія ўтвараюць перад ім паўадкры
двор. Трохпавярховы прамавуголь
ны ў плане мураваны будынак
крыты пакатым вальмавым дах
1-паверх цокальны, 2-і і 3-і аб'яд
ны на фасадах лапаткамі. Цэнтр
паўд.-ўсх. фасада падкрэслены
залітам (раней быў вылучаны
лястрамі іанічнага ордэра і тр

вугольным франтонам). Прамавугольныя аконныя праёмы рызаліта аздоблены 3-вугольнымі і лучковымі франтонамі. Планіроўка калідорная. Памяшканні на 1-м паверсе перакрыты цыліндрычнымі з распалубкамі скляпеннямі. У палацы размешчана навучальная ўстанова.

*А. М. Кулагін.*

**ГРОДЗЕНСКІ ПАЛАЦ ПІЯНЕРАЎ І ШКОЛЬНІКАЎ.** Будынак Палаца пабудаваны ў 1975 па тыпавым праекце, перапрацаваным з улікам асаблівасцей рэльефу мясцовасці (арх. У. Еўдакімаў). Маляўнічы рэльеф, перапад вышынь і суседства р. Гараднічанка абумовілі складанае аб'ёмна-прасторавае вырашэнне 3-павярховага будынка. Кампазіцыя фасадаў заснавана на кантрасце глухіх паверхняў сцен і вял. зашклёных аконных праёмаў, рытмічна падзеленых вертыкальнымі рэбрамі. Фасады атынкаваны ў светлыя тоны. На гал. фасадзе дэкар. пано «Гімн сонцу» (1976, скульпт. У. Церабун, А. Салітыцкі), выкананае ў тэхніцы чаканкі. Цэнтр. месца ў будынку займае актавая зала, вакол якой на 1—3-м паверхах размешчаны пакоі для заняткаў гурткоў. Спарт. блок з залай і плавальным басейнам знаходзіцца на 1-м паверсе сумежна з фае актавай залы і буфетам. На 2-м паверсе размешчана б-ка, на 3-м — музей «Піянерская слава», у цокалі — стралковы ціp. Фае аформлена манум. рэльефнай кампазіцыяй «Шчаслівае дзяцінства». У добраўпарадкаванні тэрыторыі важную ролю адыгрываюць падпорныя сценкі пляцовак, лесвіцы, апрацаваныя каменем у месцах перападу вышынь рэльефу. Цераз Гараднічанку пабудаваны дэкар. арачны мост.



**Гродзенскі палац піянераў і школьнікаў.**

**ГРОДЗЕНСКІ ПАЛАЦ ТЫЗЕНГАЎЗА.** Пабудаваны ў 1760—70-я гады ў Гродне (арх. Ю. Мёзер, Дж. Сака, маст. П. Гежыдовіч, А. Грушэцкі і інш.). Выкарыстоўваўся як палац старосты Гродзенскай эканоміі А. Тызенгаўза, пасля далучэння Беларусі да Расіі належаў рус. генералу Я. Сіверсу, затым князю Рэпніну, з пачатку 19 ст. быў рэзідэнцыяй губернатара. З'яўляўся кампазіцыйным цэнтрам ансамбля *Гарадніцы*, размяшчаўся на плошчы, да якой быў павернуты гал. фасадам і вял. трапецападобным курданёрам. 1-павярховы П-падобны ў плане мураваны будынак быў накрыты высокім вальмавым дахам з невял. мансардамі ў цэнтры бакавых крылаў і завяршаўся авальным у плане бельведэрам з купалам і скульптурнай выявай Цэрэры над гал. уваходам. Аздабленне фасадаў мела элементы ракако (руставаныя падвойныя лапаткі, гірлянды, картушы, абрамленні прамавугольных і арачных аконных праёмаў). У каларыстычным вырашэнні фасадаў выкарыстана спалучэнне зялёнага колеру сцен, белых ляпных дэталей, чырвонай дахоўкі. Планіроўка мяшаная: у цэнтр. частцы анфіладная, у крылах калідорная. Парадныя залы былі аздоблены плафонамі з размалёўкай і мармуровымі разнымі камінамі з карскага мармуру. У ансамбль уваходзіў *Гродзенскага тэатра Тызенгаўза будынак*, які размяшчаўся ў самастойным аб'ёме, прыбудаваным да паўн.-ўсх. боку палаца. Разбураны ў 1915. З паўн.-ўсх. боку палаца прафесарам Ж. Э. Жылібeрам з Ліёна быў створаны рэгулярны батанічны сад, які па разнастайнасці, рэдкасці і колькасці відаў раслін не саступаў лепшым садам Еўропы. Калекцыя камплектавалася з рэліктаў, атрыманых па абмену з Эдынбургскага і Страсбургскага садоў. Цяпер на месцы сада гар. парк.

*А. М. Кулагін.*



**Гродзенскі палац Тызенгаўза.** Здымак пачатку 20 ст.

**ГРОДЗЕНСКІ СТАРЫ ЗАМАК,** комплекс абарончых пабудоў, культавых і свецкіх будынкаў 11—19 стагоддзяў. Узнік як умацаваны дзядзінец на высокім берагавым мысе каля ўпадзення р. Гараднічанкі ў р. Нёман, на месцы паселішча 11 ст. Стаў умацаваным цэнтрам стараж. Гародні. Па краях замкавага пагорка быў узведзены шырокі (да 15 м) і высокі абарончы вал з пяску, культ. слоя і суглінку. У сярэдзіне для трываласці былі закладзены дубовыя і сасновыя бярвёны, а вонкавы схіл выкладзены камянямі. Па версе вала праходзілі драўляныя сцены-гародні з баявой галерэяй. Ад узвышша з боку поля замак аддзяляў глыбокі яр. У пач. 12 ст. крэпасць ператварылася ў княжацкую рэзідэнцыю (замак), цэнтр удзельнага княства. На беразе Нёмана быў пабудаваны 2-павярховы *Гродзенскі княжацкі харам*, у цэнтры замка ўзведзена вялікая багата аздобленая *Гродзенская Ніжняя царква.* Тэрыторыя вакол царквы забудоўвалася драўлянымі будынкамі. Месцазнаходжанне царквы вызначала арыентацыю вуліц: адна праходзіла з Пн на Пд,

другая — з З на У. Брама знаходзілася ва ўсх. частцы замка. Як сведчыць Іпацьеўскі летапіс, у 2-й пал. 13 ст. замак меў рубленыя сцены з бярвён з прыкрытымі брустверамі баявымі пляцоўкамі. Подступы да брамы абараняла высокая круглая ў плане каменная вежа т. зв. валынскага тыпу («столп»). У 14 ст. на руінах згарэлай у 1183 Ніжняй царквы пабудаваны невял. квадратны ў плане храм з адной апсідай — *Гродзенская Верхняя царква*. Пасля пажару ў 1398 вял. князь Вітаўт пабудаваў з каменю і цэглы (цэглай выраўноўваліся рады валуноў і абмуроўваліся вежы) гатычны 5-вежавы Верхні замак (пазней названы Старым). Па перыметры замкавай гары былі ўзведзены сцены шыр. 2,5—3 м і 4 квадратныя вежы (пятай вежай замка з'яўляўся, напэўна, «столп»). Над ровам, які аддзяляў замак ад горада, стаяла ўязная вежа з пад'ёмным драўляным мостам, які злучаў замак з Гродзенскім ніжнім замкам. Другая вежа знаходзілася на беразе Нёмана, 3-я — на мысе Гараднічанкі, 4-я — у паўн.-ўсх. куце. Паміж паўн.-ўсх. і круглай вежамі знаходзіўся 2-павярховы палац, сцяна якога адначасова з'яўлялася і сцяной замка. У 1580 палац перабудаваны для караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя па праекце італьянскага арх. Скота з Пармы. Рэнесансны палац (60×21 м) быў увянчаны дэкар. абарончым атыкам, упрыгожаным аркамі з фігурнымі завяршэннямі і тонкай аздобай акон. Фасады палаца і асабліва плоскасці франтонаў былі арнаментаваныя сграфіта і разьбой. 1-ы паверх меў скляпеністыя перакрыцці, тут знаходзілася канцылярыя, архіў, скарбніца, кладоўка і вартоўня. Тронная зала і каралеўскія пакоі на 2-м паверсе былі аздоблены шліфаваным гіпсам, кафляй і разьбой; падлога выкладзена керамічнымі пліткамі і мармурам. У сярэдзіне 17 ст. разбураны, адноўлены да 1678. У 18—19 стагоддзях была зроблена надбудова 3-га паверха, павялічаны аконныя праёмы, што змяніла аблічча палаца. У 1920—30-я гады ў замку знаходзіўся музей. На тэр. комплексу неаднаразова праводзіліся архіт.-археал. даследаванні, выкананы шэраг работ па кансервацыі і рэстаўрацыі яго розных элементаў 14—16 стагоддзяў. Цяпер у будынку размешчаны Гродзенскі гісторыка-археал. музей. Гродзенская міжгаліновая спецыялізаваная навукова-рэстаўрацыйная майстэрня рэспубліканскага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» распрацоўвае праект комплекснай рэстаўрацыі помніка.

*Я. Г. Звяруга, А. А. Трусаў.*

**ГРОДЗЕНСКІ ФАРНЫ КАСЦЁЛ,** касцёл Прачыстай Маці Боскай, фара Вітаўта. Упершыню ўпамінаецца ў 1389 у грамаце Вял. кн. Літоўскага Вітаўта, які яго заснаваў. Першы каталіцкі храм у Гродне. Знаходзіўся на зах. баку Старога рынка (сучасная Савецкая пл.). Спачатку быў драўляны. На гравюры М. Цюнда 1-нефавы прамавугольны ў плане будынак, накрыты 2-схільным дахам. На паўд.-ўсх. вугле знаходзілася высокая круглая


Гродзенскі Стары замак у 14—16 стагоддзях. Рэканструкцыя.


Гродзенскі Стары замак.


Гродзенскі Стары замак у 16—18 стагоддзях. Рэканструкцыя.

шмат'ярусная вежа. У 1584—87 на месцы драўлянага быў пабудаваны мураваны касцёл на сродкі караля Стэфана Баторыя, які хацеў быць у ім пахаваны. Вядома, што ў буд-ве касцёла прымаў удзел муляр з Італіі Антоні Дзігрэп. У выніку перабудовы храм атрымаў гатычна-рэнесансны выгляд, які зафіксаваны на гравюры Т. Макоўскага (1600). Гэта быў 3-нефавы прамавугольны ў плане будынак. Цэнтр. неф пераходзіў у больш нізкі прэсбітэрый, завершаны 3-граннай алтарнай апсідай. Гал. фасад быў вылучаны прамавугольнай у плане 4-ярускай вежай-званіцай, завершанай фігурным купалам. Па баках да яе прымыкалі 2 баявыя вежы з вітымі ўсходамі, што вялі на хоры. З Пн да прэсбітэрыя прылягала сакрысцыя, з Пд — капліца. Бакавыя сцены былі ўмацаваны контрфорсамі ў выглядзе пілястраў, аб'яднаных уверсе аркамі, і прарэзаны вузкімі стральчатымі аконнымі праёмамі. Па сваіх памерах гэта быў самы вялікі храм сярод аналагічных яму на Беларусі (даўж. каля 58,6 м, шыр. каля 23 м). Касцёл шматразова перабудоўваўся (пажары 1753, 1782, 1892), у 1804 храм быў перададзены праваслаўнай царкве, адрамантаваны і ў 1807 асвячоны ў імя св. Сафіі. Пасля пажару 1892 перабудаваны (1896—99) у псеўдарускім стылі паводле праекта акадэміка архітэктуры М. Чагіна. Храм меў 5 цыбулепадобных купалоў на высокіх барабанах, ніжэй якіх пабудову апяразвалі какошнікі. З Пн быў дабудаваны яшчэ адзін прыдзел, з У да алтарнага выступу — апсіда. Вежа стала значна вышэйшай. З 1919 храм вернуты католікам і выкарыстоўваўся як гарнізонны касцёл. Дзве перабудовы пасля пажару 1923 (арх. В. Генеберг) і ў 1935 (арх. А. Сасноўскі) надалі яму рысы раманска-гатычнага храма. Пасля 2-й сусветнай вайны касцёл не дзейнічаў. 29.11.1961 быў узарваны, на гэтым месцы цяпер сквер і дошка гонару.

*А. М. Кушнярэвіч, А. У. Мілінкевіч, Е. Пашэнда.*



Гродзенскія воданапорныя вежы.



**Гродзенскі чыгуначны вакзал.** Здымак пачатку 20 ст.



**Гродзенскі фарны касцёл.** Выгляд з боку апсіды. Фота 1950-х гадоў.



**Гродзенскі чыгуначны вакзал.** Будынак новага вакзала.

**ГРОДЗЕНСКІ ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ.** Пабудаваны да 1867. Меў элементы стылю класіцызму. Строга сіметрычная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя прамавугольнага ў плане будынка складалася з цэнтр. 2-павярховай часткі, злучанай 1-павярховымі галерэямі з 2 бакавымі 1-павярховымі крыламі. Кампазіцыя фасадаў засн. на рытме паўкалон, пілястраў тасканскага ордэра, прамавугольных і арачных акон. Прасценкі паміж буйнымі арачнымі вокнамі бакавых крылаў дэкарыраваны рустам. У гады Вял. Айч. вайны будынак разбураны, у 1948 адноўлены. Над галерэямі пабудаваны 2-і паверх. Да бакавога крыла прыбудаваны 2-павярховы корпус са службовымі і дапаможнымі памяшканнямі. Атык цэнтр. часткі быў заменены на франтон. У 1986 будынак быў разбураны ў сувязі з буд-вам новага вакзала.

**ГРОДЗЕНСКІЯ ВОДАНАПОРНЫЯ ВЕЖЫ,** помнікі вытворчай архітэктуры. 2 вежы пабудаваны ў канцы 19 — пач. 20 ст. ў Гродне (су-

часная вул. Свярдлова, 2) Усерасійскім акцыянерным водным таварыствам. Выкананы ў эклектычным стылі. Мураваныя васьміграннныя ў плане збудаванні (выш. 22 м) падзелены па вышыні на 6 частак. Кожная частка мае звязаныя паміж сабой 4 адсекі (размешчаны інж. абсталяванне і службовыя памяшканні). У цэнтры — трубы для падачы вады ў рэзервуар у верхняй частцы вежы. Паўн. вежа пабудавана ў 1910-я гады. Фасады багата дэкарыраваны. Сцены ўпрыгожаны пілястрамі, лапаткамі, сухарыкамі, фігурнымі ліштвамі, люкарнамі. Карнізы з арнаментамі, паясы, дэнтыкулы падзяляюць будынак знадворку на 4 ярусы. 3-і ярус расчлянёны высокімі падвойнымі з паўцыркульнымі завяршэннямі вокнамі ў неглыбокіх нішах з какошнікамі. Перакрыцці драўляныя. Спалучэнне чырвонай цэглы і белай тынкоўкі надае пабудове маляўнічасць. Паўднёвая вежа, пабудаваная ў 19 ст., падобнай структуры. Фасады мелі больш стрыманы дэкор. Ліштвы акон і дзвярэй складанай формы, пафарбаваны ў белы колер. Першыя 2 ярусы падзелены карнізам. Грані раскрапаваныя арачнымі і лучковымі вокнамі і нішамі, вуглы вылучаны лапаткамі. У вежы размешчаны майстэрні Маст. фонда Беларусі. Помнікі рэспубліканскага значэння.

**ГРОДЗЕНСКІЯ ДАМЫ ЎРАЧОЎ,** помнікі архітэктуры мадэрна. Будаваліся па індывідуальных праектах з улікам спецыфікі ўрачэбнай работы. Схема планіроўкі: 1-ы паверх — прыёмныя і ўрачэбна-працэдурныя кабінеты, санітарна-тэхн. і гасп. памяшканні, 2-і — жылыя пакоі. Дом (сучасная вул. Леніна, 22) пабудаваны ў 1911. Мураваны 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак складаецца з трох аб'ёмаў. Сярэдні — вуглавы, вежападобны, накрыты шатровым дахам. У дэкар. афармленні выкарыстоўваюцца керамічныя ўстаўкі, каляровае шкло, фактурная тынкоўка. Два ўваходы вялі ў жылую частку (з боку сучаснай вул. Карбышава) і ў прыёмны пакой (з боку вул. Леніна). Планіроўка зменена, дом выкарыстоўваецца як жылы. Дом (сучасная вул. Студэнцкая, 6) пабудаваны ў 1906. Мураваны строга сіметрычны 2-павярховы аб'ём з парадным уваходам у цэнтры. Выразнасць дэкар. афармлення фасадаў дасягнута спалучэннем неатынкаваных плоскасцей сцен, выкладзеных з цэглы, і пафарбаваных у белы колер карнізных цяг, пілястраў, аконных ліштваў, а таксама выкарыстаннем каваных, вырашаных у выглядзе перавітых змей, кратаў парапета. Для прыватнай урачэбнай практыкі былі адведзены памяшканні 1-га паверха правага крыла з самастойным тарцовым уваходам, астатнія — пад жыллё. *В. М. Чарнатаў.*

**ГРОДЗЕНСКІЯ КОРЧМЫ.** Пабудаваны ў 1770-я гады ў Гродне абапал гал. магістралі *Гараднійцы* (арх. Ю. Мёзер, Д. Сака). Карчма «Галеча» складалася з кампактнага 2-павярховага мураванага будынка гасцініцы і выцягнутай прамавугольнай у плане драўлянай стайні з цагляным каркасам, якая прылягала да дваровага фасада гасцініцы. Будынкі былі накрыты высокімі 2-схільнымі дахамі. Уваход у гасцініцу вылучаўся цэнтр. рызалітам з фігурным франтонам. Карчма «Раскоша» мела сіметрычную кампазіцыю, складалася з трох 1-павярховых квадратных у плане аб'ёмаў, якія прылягалі адзін да аднаго вугламі і ўтваралі паўадкрыты двор. У цэнтр. аб'ёме размяшчалася гасцініца, у бакавых — стайні. Фасад гасцініцы быў аздоблены плоскімі лапаткамі і завяршаўся лучковым





**Гродзенскія дамы ўрачоў:** па вуліцы Леніна, 22 (злева), па вуліцы Студэнцкай, 6.





**Гродзенскія корчмы** «Галеча» (злева) і «Раскоша».

атыкавым франтонам, які закрываў тарэц 2-схільнага даху з мансардай. Стайні былі накрыты пакатымі 4-схільнымі дахамі, сцены аздоблены руставанымі лапаткамі. Карчма «Выгода» складалася з кампактнага 2-павярховага накрытага дахоўкай мураванага будынка гасцініцы з балконамі на ўзроўні 2-га паверха і прамавугольнай у плане гаспадарчай прыбудовы, у якой размяшчаліся стайня, кладавыя і вял. саладоўня. «Галеча» і «Выгода» знесены ў канцы 19 ст., «Раскоша» знішчана пад час рэканструкцыі вул. Ажэшкі. *Т. В. Габрусь.*

**ГРОДЗЕНСКІЯ ЛЯМУСЫ,** помнікі гасп. і жыллёвай архітэктуры. Лямус у двары *Гродзенскага касцёла і кляштара брыгітак* пабудаваны ў 1630-я гады ў стылі ранняга барока, помнік драўлянага дойлідства. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак з масіўных драўляных брусоў на бутавым падмурку накрыты высокім вальмавым гонтавым дахам (спачатку, магчыма, дахоўкай). Галоўны паўн. фасад аздоблены 2-яруснай галерэяй з балюстрадай на 2-м паверсе. Матыў аркады ствараюць слупы з падкосамі. Усе канструкцыйныя элементы звязаны ўрубкамі і драўлянымі клінамі. 1-ы паверх прызначаўся для гасп. мэт, 2-і — для жылля (цяпер планіроўка зменена). У будынку размешчана медыцынская ўстанова. Лямус (вул. Дзяржынскага, 1а) пабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты высокім вальмавым дахам. На гал. (усх.) і бакавых фасадах — мансарды. Гал. фасад сіметрычны, з невял. рызалітамі ў цэнтры. Вокны 2-га паверха маленькія, квадратныя, паглыбленыя. Цэнтр. часткі зах., паўн. і паўд. фасадаў гладкія, з сіметрычна размеркаванымі вокнамі. Цагляныя коміны высокія, шматпрыступкавыя. Унутраныя перагародкі ў асноўным драўляныя. Лесвіца 2-маршавая вузкая, драўляная, з высокімі прыступкамі. У 1939 перабудаваны пад жылы дом. Інтэр'ер зменены. Р-

стаўрыруецца (1990). Лямусы — помнікі рэспубліканскага значэння.

**ГРОДЗЕНСКІЯ РАТУШЫ**, назва 2 помнікаў грамадзянскай архітэктуры Гродна, якія існавалі ў канцы 15—1-й пал. 20 ст. Драўляная ратуша пабудавана ў 1496 на гандл. плошчы. Мела рысы стылю рэнесансу. Была 2-павярховая, асіметрычнай кампазіцыі (у ніжнім паверсе крамы і склады, у верхнім — зала пасяджэнняў магістрата), з адкрытай абходнай галерэяй на 2-м паверсе, завяршалася 2 вежамі (высокай яруснай з дазорнай пляцоўкай у цэнтры і больш нізкай у тарцы корпуса). Не збераглася. Мураваны комплекс ратушы і гандлёвых радоў пабудаваны ў 1807 на Параднай пл. ў стылі класіцызму. 1-павярховыя гандлёвыя рады замкнёнай кампазіцыі ўтваралі ў цэнтры прамавугольную ў плане плошчу. Па папярочнай восі комплексу ўзвышаліся два 2-павярховыя аб'ёмы ратушы (адзін арыентаваны на Парадную пл., другі — на Нёман). Фасады аб'ёмаў вылучаны 6-калоннымі порцікамі дарычнага ордэра з круглымі канеліраванымі калонамі на прамавугольным у плане цокалі, антаблементамі з трыгліфамі і карнізамі на сухарыках, трохвугольнымі франтонамі ў завяршэнні. Комплекс разбураны пасля 1945. *Ю. А. Якімовіч.*



**Гродзенскія лямусы.** Лямус 17 ст.



**Гродзенскія ратушы.** Мураваны комплекс ратушы і гандлёвых радоў. Здымак пачатку 20 ст.



**Гродна.** З гравюры 2-й палавіны 16 ст.

**ГРОДНА**, горад на р. Нёман, цэнтр Гродзенскай вобл. Паводле археал. раскопак старажытны Г. (летапісны Гарадзень, Гарадня, Гародна) узнік у канцы 10—1-й пал. 11 ст. на крутым узгорку правага берага Нёмана каля вусця р. Гараднічанка. Тут знаходзіліся ўмацаваныя стараж. дзядзінец, непадалёк на ўзгорку (так званая Замкавая гара) вакольны горад, каля яго гандл.-рамесніцкі пасад. Умацаваным цэнтрам горада была крэпасць, пераўтвораная ў 12 ст. ў замак — рэзідэнцыю князёў. У 12 ст. на беразе Нёмана пабудаваны *Гродзенскі княжацкі хорам,* у цэнтры замка (гл. *Гродзенскі Стары замак*) узведзена *Гродзенская Ніжняя царква,* на руінах яе ў 14 ст.— *Гродзенская Верхняя царква,* на мысе — абарончая Каменная сцяна; у 12 ст. пабудаваны таксама *Гродзенская Барысаглебская царква* (Каложская), *Гродзенская Прачысценская царква,* у канцы 12 ст.— Васкрасенская і так званая Малая цэрквы. У 12 ст. склалася самабытная *Гродзенская школа дойлідства.* Г. ўпершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1128 як цэнтр княства, удзел гарадзенскага кн. Усевалада Давыдавіча і яго сыноў Барыса і Глеба, Юрыя Глебавіча (1-я пал. 13 ст.). З 1240-х гадоў ў складзе Вял. кн. Літоўскага, з 1376 уладанне кн. Вітаўта, пры ім Г. стаў 2-й сталіцай княства. З 1413 павятовы горад, з сярэдзіны 16 ст. цэнтр павета Трокскага ваяводства. У 1391 горад атрымаў няпоўнае (малое), у 1496 — поўнае магдэбургскае права (існавала да 1795), з 16 ст. меў гарадскі герб: на блакітным полі выява бягучага аленя св. Губерта (з 1802 выявы ўзброенага рыцара на кані, так званая «Пагоня», і зубра). У 14 ст. тэр. горада пашыраецца: на месцы вакольнага горада пабудаваны Ніжні замак, злучаны мостам цераз роў з Верхнім. Замак быў умацаваны паўкальцом праваслаўных цэркваў-крэпасцей, Каложскімі Вялікім і Малым манастырамі. У горадзе меліся таксама драўляныя касцёл (1389) і сінагога, гандл. рады, рынак. У 15 ст. Г. развіваўся ўздоўж рэк. Цэнтр горада змясціўся з дзядзінца на рыначную плошчу (былыя назвы: Гандлёвая, Ратушная, Парадная, Саборная, Стэфана Баторыя, з 1940 Савецкая), дзе былі дамы заможных гараджан і гандляроў. У 1494 на ёй



**Гродна.** Панарама горада з боку Нёмана.

пабудавана драўляная ратуша (гл. *Гродзенскія ратушы*), закладзены *Гродзенскі фарны касцёл.* Да плошчы сыходзіліся 7 вуліц. Асн. магістралямі былі ўзаемна перпендыкулярныя вуліцы Вялікая і Віленская (ад Нёманскай пераправы на Вільню) і *Замкавая вуліца* (злучала замкі з Смаленскім трактам). Сярод збудаванняў таго часу вядомыя цэрквы Васкрасенская, Мікалаеўская, Сімяонаўская, Троіцкая, Крыжаўзвіжанская (Чэснага крыжа; не зберагліся), а таксама Прачысценская (у 18 ст. на яе месцы ўзведзена царква Раства Багародзіцы), касцёл Святога Духа, капліца на могілках. У 2-й пал. 15 ст. пачалося забудоўвацца Занёманскае прадмесце (уздоўж дарогі на Варшаву). У 1541 пабудаваны водаправод. У 2-й пал. 16 ст. Г. складаўся з 2 частак: Старога горада на правым беразе Нёмана з 2 рынкамі (на тэр. сучасных пл. Савецкай і вул. Алега Кашавога — рыбны), 27 вуліцамі і невял. Новым горадам на левабярэжжы з 4 вуліцамі і аптовым рынкам. Пераважалі драўляныя 1-павярховыя жылыя дамы, будавалі таксама дамы фахверкавай канструкцыі; брукаваліся вуліцы. У 1588 было больш за 700 дамоў, каля 4 тыс. жыхароў. У 1579—86 Г.— рэзідэнцыя караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя. У 2-й пал. 15—16 ст. цэнтр Гродзенскага староства, у 1589—1795 — Гродзенскай эканоміі. Своеасаблівае аблічча горада ўтваралі касцёлы, праваслаўныя храмы, замкі, размешчаныя на ўзгорках, плошчах, лепшых месцах гал. вуліц, якія будаваліся пераважна ў стылі барока. Узведзена *Гродзенская зала сеймаў* (18 ст.), створаны комплексы архіт. культавых забудоў: у 17—18 стагоддзях *Гродзенскі касцёл і кляштар бернардзінцаў, Гродзенскі касцёл і кляштар езуітаў* з *Гродзенскай аптэкі будынкам, Гродзенскі касцёл і кляштар бернардзінак, Гродзенскі касцёл і кляштар брыгітак* з драўляным лямусам (на тэр. апошняга, гл. *Гродзенскія лямусы*), *Гродзенскі касцёл і кляштар францысканцаў, Гродзенскі манастыр базыльянак, Гродзенскі кляштар дамініканцаў.* У 2-й пал. 18 ст. будаваліся загарадныя палацы, ствараліся сядзібна-паркавыя ансамблі. На месцы Верхняга замка пабудаваны новы, на тэр. Ніжняга замка — Дом караля, на месцы якога ў 1751 узведзены *Гродзенскі Каралеўскі палац,* у прадмесці Аўгустова — *Гродзенская Аўгустоўская сядзіба,* на ўсх. ускраіне горада — сядзіба *«Паняцкі*



**Гродна.** Дамы рабочых мануфактуры Тызенгаўза.

*монь»*, на ПнУ — *Станіславаўская сядзіба.* З заснаваннем у Г. і яго ваколіцах гродзенскім старастам А. Тызенгаўзам каралеўскіх мануфактур пашырыліся межы горада: у яго паўн.-ўсх. часткі забудоўвалася прадмесце *Гарадніца* (раён сучаснай пл. Леніна); узведзена больш як 80 будынкаў, зберaглося 20, у т. л. *Гродзенскі палац адміністратара, Гродзенскі палац Тызенгаўза, Гродзенскі дом віцэ-адміністратара, Гродзенскі дом лясной адміністрацыі, Гродзенскія корчмы,* драўляны кляштар баніфратаў (1729), а таксама *Гродзенскай медыцынскай школы будынак* (1770-я гады), *Гродзенскай музычнай школы будынак* (1765, пры школе батанічны сад), *Гродзенскага тэатра Тызенгаўза будынак* (1780-я гады). У 1793—95 Г.— цэнтр ваяводства. З 1795 у складзе Расіі, цэнтр павета Слонімскай, з 1797 Літоўскай, у 1801—

1921 у Гродзенскай губ. У 2-й пал. 18—19 ст. будаваліся жылыя і адм. будынкі ў стылі класіцызму: кантрольная палата (1750), *Гродзенскі дом Агінскага,* ратуша з гандл. радамі (1807, усе не зберагліся), *Гродзенскі дом віцэ-губернатара, Гродзенскі гарадскі асабняк,* будынак мужской гімназіі (1735) і інш. У 1-й пал. 19 ст. фарміруецца шэраг новых вуліц (сучасныя вуліцы Леніна, Паўлоўскага, Сацыялістычная, Карбышава, Чапаева і інш.). Пасля пракладкі чыгункі Пецярбург — Варшава (1862), якая перасекла Г. з ПнУ на ПдЗ, горад развіваўся ўздоўж дарогі на г. Ліда і на правабярэжжы Нёмана за чыгункай. Вуліцы, што прылягалі да гэтага квартала (сучасныя вуліцы Ажэшкі, Савецкая і Маставая), сталі важнымі гарадскімі магістралямі; сфарміравалася Прывакзальная пл. з будынкам *Гродзенскага чыгуначнага вакзала.* У 2-й пал. 19 ст. горад развіваўся ў паўн.-ўсх. і паўн.-зах. напрамках, дзе ўзніклі новыя вуліцы — Паўночная, Загарадная, Гарадніцкая застава і інш. (так званы Новы свет). Цэнтр быў забудаваны пераважна 3-павярховымі дамамі з цэглы. Шчыльна пастаўленыя, яны ўтваралі адзіны фронт вулічных фасадаў. Паявіліся новыя тыпы будынкаў: вял. даходныя дамы, *Гродзенскі Народны дом* (сучасная вул. Дзяржынскага). У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ўзведзены будынкі самых розных архіт. стыляў: эклектыкі — *Гродзенская сінагога,* жылы дом купца Мураўёва (1914, зараз абл. б-ка імя Карскага, гл. ў арт. *Гродзенскі жылы дом),* тытунёвая ф-ка Шарашэўскага (1862), *Гродзенскага рэальнага вучылішча будынак* і *Гродзенскага акруговага суда будынак;* у стылі мадэрн — *Гродзенскага пазямельнасялянскага банка будынак, Гродзенскія дамы ўрачоў* і жылыя дамы па вуліцах Ажэшкі, Замкавай, Савецкай, Энгельса і Кірава; у псеўдарус. стылі — *Гродзенская Уладзімірская царква, Гродзенская Пакроўская царква;* з элементамі псеўдаготыкі і псеўдарус. стылю — б. лютэранская *Гродзенская кірха.* Існавалі таксама збудаванні прамысл. архітэктуры — вежа пажарнага дэпо (на Замкавай вул.), *Гродзенскія воданапорныя вежы* і будынак піваварнага з-да (1877). У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр павета Беластоцкага ваяводства. Узведзены шэраг жылых (па вуліцах Цаглянай і Славацкага) і адм. (Дзяржбанк) будынкаў у стылі канструктывізму. З 1939 у складзе БССР. З 15.1.1940 цэнтр раёна ў Беластоцкай вобл., з 20.9. 1944 цэнтр Гродзенскай вобл. У 1939 горад складаўся з Цэнтральнага (паміж Нёманам, Гараднічанкай і чыгункай) і Занёманскага р-наў, злучаных паміж сабой мостам. Асн. восямі Цэнтр. р-на былі сучасныя *Ажэшкі вуліца, Савецкая вуліца* і Замкавая вуліца, шчыльна забудаваныя 2—3-павярховымі дамамі, Занёманскага р-на — сучасная вул. Савецкіх пагранічнікаў і перпендыкулярныя ёй Гарнавых і Суворава з 1-павярховымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу.

Пасля Айч. вайны горад развіваўся паводле генплана 1949 (Гродзенскі філіял ін-та «Белдзяржпраект») ва ўсх., часткова паўн.-зах. і паўд. напрамках з захаваннем радыяльнай сістэмы планіроўкі, якая склалася гістарычна. Цэнтр прадаўжаў фарміравацца вакол гіст. ядра і па берагах р. Нёман. На перакрыжаванні асн. дыяметраў горада: вуліц Гарнавых, Маставой, Савецкай, М. Горкага (з Пд на Пн), К. Маркса, праспекта Касманаўтаў (з З на У),— фарміраваўся грамадскі цэнтр горада — пл. Савецкая. Цэнтр. частка горада забудоўвалася 3—4-павярховымі, ускраінная (прабабярэжная) — 1—2-павярховымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу. Прамысл. зоны фарміраваліся ў паўн., паўн.-ўсх. і паўд.-зах. частках горада. Паводле генплана 1963 (ін-т «Белдзяржпраект») і карэкціроўкі 1963 (Гродзенскі філіял ін-та «Белдзяржпраект», арх. К. Басаў, Ю. Глінка, І. Мазнічка і інш.) шырокае распаўсюджанне атрымала буд-ва мікрараёнаў. Першыя створаны ў канцы 1950 — пач. 1960-х гадоў па *Горкага вуліцы* і вул. Савецкіх пагранічнікаў; забудоўваліся буйнапанельнымі 5-і і 9-павярховымі дамамі. Пры ўзвядзенні мікрараёнаў Фарты-2 (1965) і Фарты-1 (1968—78), Пярэселка 3 і 4, Прынёманскі 2, 3 і інш. разам з тыпавымі выкарыстоўваліся індывід. праекты жылых і грамадскіх будынкаў. Узніклі жылыя кварталы па пр. Касманаўтаў, вуліцах Дзяржынскага, Каліноўскага, Ажэшкі, Крупскай, Парыжскай камуны, Сацыялістычнай. У 1870—80-я гады працягваецца інтэнсіўнае жыллёвае буд-ва ў Занёманскай частцы горада — па вул. Гая, бульвары 60-годдзя Кастрычніка. Прамысл. зона сфарміравалася на Пн, Пд і У горада. Зона адпачынку знаходзіцца ў лесапарках «Пышкі» і Румлёва на беразе Нёмана, воз. Юбілейнае. Паводле генплана 1973 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Глінка, С. Смірнова і інш.) прадугледжана развіццё горада ў паўн.-ўсх. і паўд.-ўсх. напрамках, масавае будаўніцтва жылых раёнаў (Паўночна-заходні, Паўднёва-заходні, *Прынёманскі жылы раён,* Усходні). У 1970—80-я гады ўзведзены новыя адм. і грамадскія будынкі: *Гродзенскі Палац піянераў*



**Гродна.** Панарама горада.

*і школьнікаў, Гродзенскі дом тэхнікі,* гасцініцы «Беларусь» (арх. Л. Вільчко), *«Гродна»* і «Турыст» (арх. У. Лытаў, І. Абухаў), кінатэатр *«Кастрычнік», Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра будынак,* гал. корпус медінстытута (арх. Вільчко, У. Давыдзёнак), Ін-т біяхіміі АН БССР (І. Мазнічка), будынак абл. аграпрамысловага камітэта (М. Жучко, Н. Скачкова, Л. Баланюк) і аблвыканкома (У. Еўдакімаў, У. Праабражэнскі, М. Бярэзін), будуецца аэравакзал (арх. Еўдакімаў, Л. Маскалевіч, М. Куняўскі, У. Васілюк, Бярэзін, В. Чубіч.). Гл. таксама арт. *Гродзенскі гістарычны цэнтр.* Іл. гл. таксама ў нарысе. *А. К. Краўцэвіч, С. Ф. Самбук.*

**«ГРОДНА»,** гасцініца ў Гродне. Пабудавана ў 1985 (арх. Ю. Патапаў, У. Папоў, У. Еўдакімаў, Ю. Раманаў). Разлічана на 500 месцаў. Размешчана па вул. Паповіча ў грамадскім цэнтры, які ўключае таксама рэстаран «Гродна» і кінатэатр «Кастрычнік». Кампазіцыйны цэнтр забудовы часткі вуліцы. Сілуэт ступеньчатага 16-павярховага будынка актыўна ўспрымаецца з розных пунктаў горада. Жылы корпус складанай канфігурацыі і злучаны з ім будынак кінатэатра ўтвараюць адзіны комплекс, кампазіцыя якога заснавана на кантрасце вышыннай жылой часткі і гарызантальнай пластыкі вынесенага 2-павярховага аб'ёму і будынка кінатэатра. Вакол цэнтр. восі будынка гасцініцы — лесвічна-ліфтавага ядра — згрупаваны жылыя нумары. Засцерагальныя і нясучыя сцены будынка зроблены з цэглы і абліцаваны керамічнай пліткай. У памяшканнях грамадскага прызначэння для афармлення інтэр'ераў выкарыстаны маналітныя жалезабетонныя дэкар. элементы, абліцоўка з граніту і мармуру, дэкар. свяцільні. Для добраўпарадкавання тэрыторыі выкарыстаны дэкар. бетонныя пліты, каскадны фантан, кветнікі.



Гасцініца **«Гродна».**

**ГРОЗАЎСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў в. Грозаў (Капыльскі р-н). Да 1863 належаў Мержыеўскім, пазней — Вітгінштэйнам. Мураваны 2-павярховы будынак з вальмавым дахам. Цэнтр сіметрычнавосевай кампазіцыі падкрэслены 4-калонным порцікам з пандусам на гал. і глыбокім рызалітам на дваровым фасадах (на акварэлі Н. Орды 1864—76 таксама меў 4-калонны порцік). Да зах. тарца палаца далучана 1-павярховая службовая прыбудова. Пластыка фасадаў ствараецца прафіляванымі цягамі, ліштвамі прамавугольных акон і дзвярэй, лапаткамі і рустам па вуглах будынка. Планіроўка анфіладна-калідорная з цэнтр. групай парадных памяшканняў і вял. вестыбюлем з 2-баковай лесвіцай. Пад будынкам скляпеністыя падвалы. З боку дваровага фасада на схіле ўзгорка быў разбіты парк (не захаваўся). У палацы размешчана школа. *А. М. Кулагін.*

**ГРУДЗІНАЎСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Створаны ў 1-й пал. 19 ст. ў в. Грудзінаўка (Быхаўскі р-н) у маёнтку магілёўскага губернскага графа Д. Таўстога. Цэнтр кампазіцыі — палац, размешчаны на вяршыні ўзгорка, на паўн.-ўсх. схіле якога пладовы сад, на паўн.-зах.— парк. Мураваны будынак палаца мае цэнтрычную кампазіцыю, 2-павярховы квадратны ў плане асн. аб'ём на цокальным паверсе накрыты пакатым 4-схільным дахам і ўвянчаны купалам. Да тарцоў далучаны вузкія 1-павярховыя прыбудовы. У цэнтры гал. фасада выступае паўкруглая 6-калонная дарычнага ордэра тэраса; рызаліт завершаны 2-ступенчатым атыкам. Планіроўка калідорная, у цэнтр. частцы шырокі вестыбюль з лесвіцай, над якім размешчана парадная зала. Пачатковая планіроўка зменена. У будынку размешчаны дзіцячы дом. Парк (плошча каля 6 га) пейзажнага тыпу з рэгулярнай партэрнай часткай перад палацам. Перад паўд.-зах. фасадам палаца партэр з глыбокім штучным прамавугольным у плане вадаёмам з фантанамі (збярогся часткова) і дэкар. пасадкамі елкі калючай блакітнай, дуба звычайнага пірамідальнага, ліпы крымскай. У ландшафтнай частцы парку ў групаў і асобных пасадках выкарыстана больш за 60 відаў дрэў і кустарнікаў. Парк абмежаваны вадаёмам у нізіне, з ПнЗ — масівам лістоўніцы еўрапейскай, з ПнУ — шпалерамі туі заходняй і пасадкамі піхты сібірскай і вольхі шэрай разрэзаналістай.



**Грозаўскі сядзібны дом.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.



**Грушаўская сядзіба.** Сядзібны дом канца 18 ст. З малюнка Н. Орды.

Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ГРУШАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры канца 18 — пач. 20 ст. Пабудавана ў в. Грушаўка (Ляхавіцкі р-н). Займае амаль прамавугольны ў плане ўчастак, пл. каля 14 га. Уключае драўляны сядзібны дом, 2 мураваныя флігелі, капліцу-пахавальню, гасп. пабудовы, невял. парк рэгулярнай планіроўкі з сажалкай і пладовы сад. Комплекс арганізаваны вакол прамавугольнага двара, вось сіметрыі якога паралельна гал. алеі парку. Сядзібны дом пабудаваны ў канцы 19 — пач. 20 ст. на месцы мураванага класіцыстычнага палаца канца 18 ст (вядомы па акварэлі Н. Орды). 1-павярховы, прамавугольны ў плане, накрыты вальмавым дахам, мае рысы стылю мадэрн. Цэнтр. частка вылучана мансардавым паверхам і вял. тэрасай на 4 тонкіх разных слупах. Абапал гал. ўвахода — крывалінейныя лесвіцы. Планіроўка анфіладная з парадный залай у цэнтры. Інтэр'еры былі аздоблены размалёўкай, разьбой, кафлянымі грубкамі. Пад будынкам скляпеністыя падвалы. Мураваная прамавугольная ў плане з трохграннай алтарнай часткай капліца-пахавальня і агароджа з брамай пабудаваны ў 2-й пал. 19 ст. ў формах рэтраспектыўнай готыкі. Гал. ўваход аформлены перспектыўным парталам. Вокны-вітражы са спічастымі завяршэннямі. У інтэр'еры ажурнае нервюрнае скляпенне. *А. М. Кулагін.*

**ГРЫНЕВІЦКІ КАСЦЁЛ ФРАНЦЫСКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1792 у в. Грыневічы (Свіслацкі р-н). Мураваная 3-нефавая базіліка з бязвежавым фасадам і прамавугольнай алтарнай апсідай накрыта пакатым (раней высокім) 2-схільным дахам. Кароткія бакавыя нефы завершаны невысокімі аб'ёмамі сакрысцій. Сцены бакавых фасадаў рытмічна расчлянёны плоскімі пілястрамі. Вокны з лучковымі завяршэннямі. Выгнуты гал. фасад падзелены на 2 ярусы на ўзроўні карнізаў нефаў і завершаны фігурным франтонам. Дэкор гал. фасада і інтэр'ер зменены пры перабудове касцёла пад праваслаўную царкву ў 1870. Захаваліся дзверы з кованымі накладкамі, фрагменты муравано агароджы і брама 18 ст. Касцёл не дзейнічае. Засталіся толькі сцены. *Л. В. Трэпет.*



**Грыневіцкі касцёл францысканцаў.** Галоўны фасад.

**ГУДАГАЙСКІ КАСЦЁЛ МАЦІ БОСКАЙ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў 1764 у в. Гудагай (Астравецкі р-н) пры кляштары кармелітаў (не збярогся) у стылі барока. Асн. прамавугольны ў плане зруб накрыты агульным дахам з пластычна выгнутымі вальмамі над 5-граннай апсідай і шатровымі вежачкамі па краях вільчыка. Раней касцёл быў 2-вежавы — па баках 3-вугольнага франтона ўзвышаліся 2 чацверыкі з гранёнымі купалкамі. Да гал. фасада прыбудаваны ўваходны тамбур, па баках апсіды — нізкія сакрысціі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, прарэзаны лучковымі вокнамі ў плоскіх ліштвах, умацаваны брусамі-сцяжкамі, завершаны прафіляваным карнізам. Уваходныя дзверы аформлены дэкар. укладкай шалёўкі складанага малюнка. На тарцовай сцяне апсіды кансольна размешчана скульптура «Распяцце» пад 3-вугольнай навіссю. Зала храма перакрыта плоскай столлю. Над уваходам на 2 слупах хоры з арганам ракайльна-класіцыстычнай трактоўкі. Інтэр'ер упрыгожваюць 3 драўляныя алтары канца 18 ст., выкананыя ў стылі ранняга класіцызму. У іх дэкоры выкарыстана іанічная каланада, драўляная скульптура, разны арнамент, пазалота, чаканныя апраў алтарных абразоў. З боку ад гал. фасада размешчана 1-ярусная каркасная квадратная ў сячэнні званіца з шатровым завяршэннем. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Міцянін, А. М. Кулагін.*



Гудагайскі касцёл Маці Боскай.



**ДАБРАСЛАЎСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства 18 ст. Пабудавана ў 1758 у в. Дабраслаўка (Пінскі р-н). Асн. памяшканне і вузкі бабінец аб'яднаны ў адным прамавугольным зрубе над 2-схільным (раней 3-схільным) дахам, 5-гранная алтарная апсіда мае самастойны шматсхільны дах. У сяр. 19 ст. з захаду да царквы прыбудавана 3-ярусная чацверыковая званіца. У цэнтры даху



Дабраслаўская Троіцкая царква.

пастаўлены васьмерыковы барабан з шатром. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю. Над бабінцам — хоры. Царква дзейнічае.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ДАВЫД-ГАРАДОК,** горад ў Столінскім р-не, прыстань на р. Гарынь. За 35 км ад Століна, 280 км ад Брэста. Паводле падання засн. ятвяжскім князем, які пры хрышчэнні прыняў імя Давыд. Паводле археалагічных звестак горад існаваў у 12 ст. ў складзе Кіеўскай Русі. Мяркуюць, што засн. ўнукам Яраслава Мудрага валынскім кн. Давыд Ігаравічам у сутоках рэк Гарынь і Няпраўда (перасохла). Стараж. гарадзішча было ўмацавана ровам і валам з драўлянымі абарончымі сценамі. Мела шчыльную забудову рэгулярнай планіроўкі. З ПнЗ на ПдУ і з ПнУ на ПдЗ ішлі вуліцы з драўлянымі маставымі. Жылыя і гасп. пабудовы — 1-камерныя, прамавугольныя ў плане (пл. да 20 м$^2$), з хваёвых бярвён і тэхнікай рубкі ў верхняе абло з астаткам. Сярод жылой забудовы стаяла драўляная царква (складалася з прамавугольных у плане большага асн. зруба і меншага алтарнага; каля яе выяўлены пахаванні ў драўляных калодах). У гіст. дакументах Д.-Г. упамінаецца ў канцы 14 ст. як горад Вял. кн. Літоўскага: уласнасць вял. князя, з 1523 каралевы Боны, з 1551 магнатаў Радзівілаў. Паводле некаторых звестак, горад меў магдэбургскае права. У 1579—86 і з канца 19 ст. — цэнтр ардынацыі (з 1586 у Клецкай, з 1875 у Нясвіжскай ардынацыях). У 1655 у час рус.-польскай вайны разбураны і спалены. У 17—18 стагоддзях цэнтрам горада быў драўляны *Давыд-Гарадоцкі замак* на месцы стараж. гарадзішча, перад ім знаходзіліся сад і драўляны касцёл (пабудаваны ў 1649, аднаўлены ў 1811, у 1839 згарэў). Замак мостам цераз канал злучаўся з гандл. плошчай (забудавана храмамі, каморамі, дамамі рамеснікаў і гандляроў), у цэнтры якой стаяла драўляная Васкрасенская царква. У сярэдзіне 18 ст. на плошчы пабудаваны гасціны двор — квадратны ў плане гандл. комплекс з 75 крамамі і 4 брамамі. Ад замка і плошчы ў радыяльных напрамках разыходзіліся асн. вуліцы, якія перасякаліся паўкальцавымі (у 17 ст. — 12 вуліц, 365 двароў у 1631, 277 — у 1675). Самыя доўгія вуліцы Нагорная і Узбалотная; у горадзе было 5 мастоў. У 17 ст. на паўн. ускраіне пабудавана *Давыд-Гарадоцкая Георгіеўская царква.* На Пд ад асн. гарадской тэр. на левым беразе р. Няпраўда быў сядзібны комплекс — фальварак, вял. жылы дом, гасп. пабудовы, пры ўездзе стаяла 2-ярусная брама. З 1793 у складзе Расіі, з 1795 цэнтр павета Мінскай губ., з 1796 мястэчка Мазырскага пав. У 1796 атрымаў герб (на чорным полі выява залатога судна з таварамі, сярэбранай прыстані з 2 брамамі). У 1897 было 7815 жыхароў. У 19 ст. рэканструявана гарадская планіроўка. Горад займаў правабярэжжа Гарыні, развіваўся на Пн і У ад стараж. замчышча. Яго цэнтрам была гандл. плошча. У выніку рэканструкцыі спрамлены вуліцы, якія ўтварылі прамавугольныя кварталы. Гал. восі — 2 вуліцы, што вялі на У ад гандл. плошы, і вуліца на Пн, якая злучалася з дарогамі на Тураў і Слуцк. Мост цераз Гарынь на З злучаў горад з дарогамі на Пінск і Лахву. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, мястэчка Столінскага пав. Палескага ваяводства. З 1939 у складзе БССР. З 1940 горад, цэнтр раёна Пінскай, з 1954 Брэсцкай абласцей. З 1961 у Столінскім р-не.

Сучасны Д.-Г. займае абодва берагі р. Гарыні, якая падзяляе яго на левабярэжную (заходнюю) і правабярэжную (усходнюю) часткі. У архіт. структуры Д.-Г. вылучаюцца 3 планіровачныя раёны — заходні, цэнтральны і ўсходні, звязаныя паміж сабой мастамі. Асаблівасць планіроўкі вызначаюць таксама пратокі Гарыні Хорст і Седка. Гал. вось горада — вул. Савецкая (магістраль Пінск — Тураў у правабярэжнай частцы). На ёй сфарміраваўся адм.-грамадскі цэнтр з адм., сацыяльна-быт. прызначэння будынкамі, 2-павярховымі жылымі дамамі. У цэнтр. раёне знаходзяцца таксама вуліцы Лермантава, К. Цэткін. Тут, на правым беразе Гарыні (гіст. цэнтр) — гарадзішча 12 ст., вакол якога асталася радыяльна-кальцавая планіроўка. Горад забудоўваецца паводле генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Г. Пальчэўская, Д. Паташнікаў, М. Пракалей) і 1985 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Паташнікаў).

*Ю. А. Якімовіч.*

**ДАВЫД-ГАРАДОЦКАЯ ГЕОРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 2-й пал. 17 ст. ў г. Давыд-Гарадок (Столінскі р-н) майстрамі Усходнепалескай школы дойлідства (гл. ў арт. *Палескія школы дойлідства*), перабудавана ў 1724. Трохзрубны храм глыбінна-восевай кампазіцыі ўключае прамавугольныя ў плане бабінец, асн. аб'ём і алтарную апсіду, накрытыя 4-граннымі шатровымі дахамі з галоўкамі на 8-гранных барабанах. Да апсіды з Пн прыбудавана рызніца, да бабінца з З — тамбур, завершаныя 2-схільнымі дахамі. Асн. аб'ём мае дадатковы чацверыковы ярус, які апіраецца на бэлькі паміж зрубамі бабінца і алтара. Ярусы падзяляе прычолак. Сцены знадворку ашаляваны гарызантальна ў верхняй частцы, вертыкальна і ў «елку» ў ніжняй частцы, умацаваны шырокімі лапаткамі. Вокны з 3-гранным завяршэннем і крыжападобныя (у верхнім ярусе асн. аб'ёму). Дахі пад бабінцам і апсідай крыху ссунуты на З і У і злучаны з цэнтр. аб'ёмам (2-схільнымі стрэшкамі паміж асобнымі вярхамі). У кампазіцыйнай будове царквы выкарыстана стараж.-рус. сістэма прапорцый, пры якой дыяганаль цэнтр. аб'ёму ў плане вызначае яго вышыню да асновы барабана купальнай галоўкі. У інтэр'еры дамінуе цэнтр. 2-светлавы аб'ём, злучаны з бабінцам арачным праёмам і аддзелены ад апсіды іканастасам. Усе памяшканні маюць плоскія бэлечныя перакрыцці. Мяркуюць, што раней шатровыя вярхі былі адкрыты ў інтэр'ер. Драўляны разны іканастас створаны ў 1751 у стылі барока (майстар невядомы), устаноўлены на высокім цокалі з жывапіснымі кампазіцыямі «Хрыстос Пастар», «Пейзаж з гарой», «Архістратыг Міхаіл». Мае 4 радыі. Першы знізу (мясцовы) падзелены разнымі залачонымі калонкамі на 7 праёмаў: у цэнтр. знаходзіліся царскія вароты (цяпер у Заслаўскім

музеі рамёстваў і народных промыслаў), паабапал размешчаны абразы «Маці Боская Адзігітрыя» ў абкладзе 1752, выкананым майстрамі Мікітай і Пархомам, і «Хрыстос Уседзяржыцель» у абкладзе 1767 работы Д. Ткачука і С. Грэчкі. Другі рад святочны, складаецца з 12 кампазіцый на тэмы жыцця Маці Боскай і Ісуса Хрыста. У трэцім (апостальскім) радзе — выявы 12 апосталаў. Завяршае іканастас чацвёрты (прарочы) рад з 6 абразоў. Вертыкальную вось іканастаса складаюць размешчаныя над царскімі варотамі абразы «Тайная вячэра», «Спас Архірэй» і «Саваоф». Адзінства кампазіцыйнай будовы твораў і іх колеравага вырашэння садзейнічаюць стварэнню суцэльнага вобраза, адпаведнага архітэктуры царквы. У іканастасе дамінуе апостальскі рад, абразы якога вылучаюцца манументальнасцю кампазіцыі, урачыстасцю эмацыянальнага ладу, характэрным тыпажом. Іканастас багата размаляваны і аздоблены асобнымі залачонымі разнымі накладкамі. У 1990 царква перададзена веруючым, вядуцца рэстаўрацыйныя работы. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў арысе. *Ю. А. Якімовіч, Э. І. Вецер.*

**ДАВЫД-ГАРАДОЦКІ ЗАМАК.** Існаваў у 16—1-й пал. 18 ст. ў г. Давыд-Гарадок (Столінскі р-н). Пабудаваны на месцы стараж.-рус. дзядзінца ў сутоках рэк Гарынь і Няпраўда. Стаяў на штучным востраве, умацаваным палямі і хмызняком. Быў абкружаны вадзяным ровам, узровень вады ў якім рэгуляваўся сістэмай шлюзаў, умацаваны земляным валам з драўлянай абарончай сцяной з 3 вежамі. У час рускапольскай вайны (1654—67) знішчаны. Адноўлены і рэканструяваны ў 1670—90-я гады. Комплекс складаўся з Верхняга («горнага») і Ніжняга («перадзамачча») замкаў (агульная даўж. сцен каля 1 км), злучаных мостам. Ніжні замак, абкружаны вадзяным ровам і ўмацаваны земляным валам, ахоўваў Верхні замак з боку горада і мостам злучаўся з гандл. плошчай горада. Перад валам верхняга замка стаяла дубовая 2-ярусная брама з залай у 2-м ярусе. За брамай была лесвіца, якая вяла з вала на замкавы дзядзінец. У цэнтры дзядзінца знаходзілася дубовая студня, па баках ад яе стаялі гасп. будынак і жылы дом з 2 алькежамі і ганкам, накрытыя гонтавым дахам. У 1690-я гады ў цэнтры Верхняга замка пабудаваны прамавугольны ў плане драўляны палац, які меў рысы стылю барока. Палац накрыты гонтавым дахам, з ганкам перад уваходам. Дубовыя дзверы вялі ў прасторную прыхо-



**Давыд-Гарадоцкая Георгіеўская царква**



**Давыд-Гарадоцкая Георгіеўская царква.** Іканастас.

жую, злева ад якой размяшчаліся сталовая з 8 вокнамі ў алавяных пераплётах, грубкай з зялёнай паліванай кафлі і камінам і 5 жылых пакояў. У процілеглай частцы палаца было 5 жылых пакояў і алькеж. Планіроўка анфіладная. Комплекс не збярогся.
*Ю. А. Якімовіч.*

**ДАМАЧАВА,** гарадскі пасёлак у Брэсцкім р-не. За 52 км на Пд ад Брэста. У 19 ст. мястэчка, цэнтр воласці Брэсцкага пав. У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы. З 1939 у складзе БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З 1956 у Брэсцкім р-не. Гал. вось —. вул. Акцябрская, на якой размешчана плошча — грамадскі цэнтр Д. Вул. Камсамольская злучае цэнтр з чыг. станцыяй і цэнтр. сядзібай саўгаса «Дамачаўскі». Архіт.-планіровачную структуру Д. вызначаюць вуліцы Акцябрская, Леніна і Камсамольская. Пераважае 1-павярховая жылая забудова сядзібнага тыпу. Зона адпачынку знаходзіцца на беразе сажалкі (ПнЗ). Прамысл. зона на ПдУ. Збярогся помнік архітэктуры пач. 20 ст.— драўляная царква св. Лукі (1905), у інтэр'еры якой ёсць творы бел. іканапісу 17—18 стагоддзяў. Паводле генплана 1982 (БелНДІгіпрасельбуд) прадугледжана развіццё пасёлка ва ўсх. напрамку, буд-ва 2—3-павярховых жылых дамоў.
*М. У. Банчук, Р. А. Шылай.*

**ДАРАПЕЕВІЦКАЯ ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў 1671 у в. Дарапеевічы (Маларыцкі р-н). Адносіцца да тыпу 1-вежавых культавых будынкаў, яе архітэктура блізкая да абарончых готыка-рэнесансавых мураваных храмаў 16—17 стагоддзяў. Спачатку царква ўключала прамавугольны асн. аб'ём, завершаны квадратным у плане верхам, і вежу-званіцу з З, у ніжнім ярусе якой знаходзіліся бабінец і хоры. Унутраную прастору храма замыкаў з У вял. разны алтар. Увесь будынак па перыметры абкружала адкрытая слупавая галерэя — «кружганак». У 1902 царква рэканструявана. 3-зрубную падоўжна-восевую кампазіцыю (на невысокім бутавым падмурку) утвараюць прамавугольныя ў плане асн. аб'ём, званіца і алтарная апсіда. Асн. аб'ём і больш нізкая за яго апсіда накрыты вальмавымі дахамі, завершанымі цыбулепадобнымі купалкамі на глухіх васьмерыках. 2-ярусная чацверыковая званіца з шатровым дахам з галоўкай. Сцены знадворку гарызантальна ашаляваны, умацаваны лапаткамі, расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, аформленымі плоскімі ліштвамі. Верхні ярус званіцы дэкарыраваны 2-пралётнымі арачнымі вокнамі. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.
*Ю. А. Якімовіч.*

**ДАСТОЕЎСКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 18 ст. ў в. Дастоева (Іванаўскі р-н). Уключала панскі двор, абкружаны ровам з вадой і драўлянай агароджай, гасп. пабудовы, 2 вял. сады, сажалкі. Па восі гал. ўезда ў глыбіні двара стаяў накрыты высокім гонтавым дахам вял. 1-павярховы сядзібны дом, падзелены



Дарапеевіцкая Прачысценская царква.



Даўбуцкая мячэць.

сенцамі на 2 часткі: жылую (уключала 5 пакояў і невял. капліцу) і сталовую. Побач з домам былі кухня, 2-павярховы лямус з галерэямі, стайня, вазоўня і інш. пабудовы. Гал. ўезд быў вырашаны манум. 2-яруснай брамай-вежай, завершанай высокім гонтавым шатром (у ніжнім ярусе знаходзіліся гасп. памяшканні, у верхнім — вял. зала з адкрытай галерэяй). Панскі двор мостам быў злучаны з гасп. часткай, дзе жыла прыслуга, знаходзіліся хлявы, стайні, свірны, адрыны, павеці, гумны, бровар, млын і 2-павярховы драўляны дом аканома. Сядзіба належала продкам Ф. М. Дастаеўскага.
*Ю. А. Якімовіч.*

**ДАЎБУЦКАЯ МЯЧЭЦЬ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 18 ст. ў в. Даўбучкі (Смаргонскі р-н). Асн. прамавугольны ў плане зруб падзелены на 2 часткі з асобнымі ўваходамі і накрыты 12-гранным гонтавым купалам. Уваходы злучаны арачнай галерэяй на так званых кручаных слупах. З паўн.-зах. боку 2-ярусны чацверыковы мінарэт, завершаны шатровым дахам. Сцены гарызантальна ашаляваны дошкамі. Вокны прамавугольныя. Інтэр'ер зальны, з плоскай столлю. Амаль квадратная ў плане зала ва ўсх. частцы мае 5-гранную нішу — міхраб, насупраць якой размешчаны балкон, упрыгожаны точанымі балясінамі. У Д. м. спалучаецца архітэктура, уласцівая культавым збудаванням Усходу (цэнтрычнасць асн. аб'ёму і сіметрычная кампазіцыя пабудовы), з традыцыямі маст. драўлянага дойлідства.
*С. А. Сергачоў.*

**ДАЎГІНАЎСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рус. стылю. Пабудавана ў 2 пал. 19 ст. (да 1886) з цэглы ў в. Даўгінава (Вілейскі р-н). Храм 4-часткавай падоўжна-восевай кампазіцыі: званіца, трапезная, асн. аб'ём з прыдзеламі, апсіда. Прыдзелы і апсіда вырашаны паўратондамі. 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) шатровая званіца надбудавана над прытворам і завершана цыбулепадобнай галоўкай. Над сяродкрыжжам буйны 8-гранны светлавы барабан накрыты самкнутым сферычным купалам і цыбулепадобнай галоўкай. Грані барабана і званіцы маюць кілепадобныя завяршэнні. Гал. і бакавыя ўваходы вылучаны 2-слуповымі порцікамі з 3-вугольнымі франтонамі. Фасады прарэзаны адзінарнымі і падвойнымі арачнымі вокнамі ў плоскіх ліштвах, дэкарыраваны паясамі парэбрыка і зубцоў, лапаткамі. Унутраная прастора храма перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі, сферычным купалам на ветразях у сяродкрыжжы, конхамі ў апсідзе і прыдзелах, расчыненых у залу шырокімі арачнымі прасветамі. Апсіда аддзелена драўляным пазалочаным іканастасам. Царква дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**ДАЎГІНАЎСКІ СТАНІСЛАВАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. ў в. Даўгінава (Вілейскі р-н). Трохнефавая бязвежавая базіліка з высокай паўкруглай апсідай, прарэзанай вял. паўцыркульнымі вокнамі. Кампазіцыя будынка сіметрычная. Гал. фасад вылучаны магутным порцікам з 4 калонамі дарычнага ордэра, за-

вершаны трохвугольным франтонам. Аб'ёмы бакавых нефаў ніжэй асноўнага, з боку гал. фасада і апсіды з атыкамі. Паверхні сцен чляняцца плоскімі лапаткамі па вуглах, завершаны развітым шматслойным карнізам, які праходзіць па перыметры будынка. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены прафіляванымі ліштвамі. Цэнтральны і бакавыя ўваходныя парталы маюць лучковае завяршэнне, дзверы філёнгавыя. У інтэр'еры сцены дэкарыраваны пілястрамі з капітэлямі. Столь плоская, падшыўная. У дэкоры выкарыстаны элементы ракако — ірваныя франтоны, пазалота, скульптура і разьба. Побач з касцёлам квадратная ў плане аднаярусная драўляная званіца пад пакатым чатырохсхільным дахам, завершаным літым чыгунным крыжам. Касцёл дзейнічае.

*Ю. А. Пятросава.*



Даўгінаўская Троіцкая царква.

**ДВОРНІЗГАЛАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібнай архітэктуры 2-й паловы 19 ст. Створана на ўскраіне в. Двор Нізгалава (Бешанковіцкі р-н), на беразе р. Ула, у стылі позняга класіцызму. Комплекс уключае: сядзібны дом (пашкоджаны ў 1944, адноўлены ў 1970), флігель, кухню, вяндлярню, 2 гасп. корпусы. С я д з і б н ы д о м — прамавугольны ў плане 1-павярховы мураваны аб'ём, накрыты вальмавым дахам. У пластыцы фасадаў выкарыстаны элементы класіцызму з характэрнай для 2-й паловы 19 ст. адвольнай трактоўкай ордэра. Ад сядзібнага дома да поймы ракі спускаюцца 4 тэрасы, абсаджаныя шпалерамі з елкі звычайнай. Тэрыторыя сядзібнай забудовы злучаецца з паркавай зонай невял. курцінамі з елак, хвояў і клёнаў. Кампазіцыя п а р к у (пл. 4 га) — прыклад перабудовы рэгулярнага парку (элементы якога зберагліся) у пейзажны. Рэгулярны парк складаўся з 9 аднолькавых баскетаў, якія дзяліліся 4 падоўжанымі і 4 папярочнымі алеямі з круглымі пляцоўкамі на перакрыжаваннях. Пры перабудове парку ў пейзажны высаджаны экзоты і дэкар. кусты, на месцы падоўжаных алей зроблены маляўнічыя палянкі. Сярод насаджэнняў парку лепшы ў рэспубліцы экземпляр бярозы далекарлійскай (выш. 17 м, дыяметр ствала 58 см), рэдкі на Беларусі кедр еўрапейскі калонападобны (выш. 12 м, дыяметр ствала 48 см). На тэр. б. сядзібы размешчана школа. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Міцянін.*



Даўгінаўскі Станіслаўскі касцёл.

**ДЗЕДЗІНСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Створана ў 1810—20 у в. Дзедзіна (Мёрскі р-н) па заказе дваранскага суддзі А. Рудніцкага. Архітэктар Віткоўскі. Апошні ўладальнік Вішнявецкі. Кампазіцыйны цэнтр комплексу — мураваны сядзібны дом, перад якім быў разбіты пейзажны парк (захаваліся фрагменты). Дом — прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак, накрыты вальмавым дахам. Цэнтр гал. фасада вылучаны 4-калонным порцікам з 3-вугольным франтонам. У аздобе фасадаў выкарыстаны пілястры, рустоўка, прафіляваныя карнізы. Планіроўка анфіладна-калідорная. Пад будынкам скляпеністыя падвалы. Гасп. пабудовы з каменю (1849) размешчаны ва ўсх. частцы сядзібы. Сядзібны дом выкарыстоўваецца як адм. будынак. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*



Дзедзінская сядзіба. Сядзібны дом.



Дзераўноўскі касцёл Благавешчання.

**ДЗЕРАЎНОЎСКІ КАСЦЁЛ БЛАГАВЕШЧАННЯ,** помнік архітэктуры готыкі і рэнесансу. Заснаваны ў 1590 згодна волі Эўфеміі Вярбіцкай (жонка валынскага ваяводы Андрэя Вішнявецкага), яе спадкаемцамі Мікалаем Крыштофам Радзівілам і Гальшкай Эўфеміяй Вішнявецкай. Пабудаваны ў 1-й пал. 17 ст. ў в. Дзераўная (Стаўбцоўскі р-н) на царкоўным пляцы (пазней на ім жыў кальвінскі міністр); ёсць звесткі, што мураваны касцёл будаваў віленскі канонік і дзераўноўскі пробашч Войцех Сялява. Рэстаўрыраваўся ў пач. 18 ст., у 2-й пал. 17 ст. была прыбудавана вежа з цэглы, у 18 ст. збудавана новая вежа. Сцены храма складзены з цэглы, якая мае канаўкі на адной з шырокіх паверхняў.

Мураваны зальны храм з паніжанай 5-граннай апсідай, абапал якой 2 вузкія прамавугольныя сакрысціі. Сцены ўмацаваны высокімі (да карніза) контрфорсамі. Акцэнт гал. фасада — 3-ярусная вежа (ніжнія ярусы чацверыковыя, верхні — 8-гранны) накрыта высокім шатром, грані аздоблены плоскімі нішамі. Сцены ўверсе рытмічна расчлянёны вокнамі з паўцыркульнымі завяршэннямі. Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на пад-

пружных арках, з глыбокімі распалубкамі над аконнымі праёмамі; бабінец і сакрысціі з крыжовымі скляпеннямі. Асноўнае памяшканне і апсіда злучаны шырокім арачным праёмам. Храм вызначаецца рацыянальнасцю кампазіцыі і строгасцю сілуэта. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Ярашэвіч.*

**ДЗЕТКАВІЦКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1740 у в. Дзеткавічы (Драгічынскі р-н). Складаецца з прамавугольных у плане асн. і алтарнага зрубаў, накрытых агульным дахам з 3-вугольнымі навісямі ў месцы злучэння зрубаў і невял. гранёнай галоўкай над гал. фасадам. Па падоўжнай восі да алтарнага зруба прыбудавана нізкая рызніца з 1-схільным



**Дзеткавіцкая Пакроўская царква** і званіца (злева).

дахам, што надае кампазіцыі храма ступеньчаты абрыс. Сцены гарызантальна ашаляваны і завершаны развітым прафіляваным карнізам. Гал. фасад аздоблены 4 лапаткамі рознай вышыні, завершаны шчытом з франтончыкам над ім і рамбічным акном у цэнтры. 2-ярусная чацверыковая званіца-брама размешчана асобна на восі царквы. Канструкцыі верхняга скразнога яруса званіцы маюць таксама малюнак у выглядзе ромбаў. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*

**ДЗІВІНСКАЯ ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1740 у в. Дзівін (Кобрынскі р-н). Мае рысы стылю барока. Асн. прамавугольны зруб і 5-гранная алтарная апсіда, ад якой па баках прыбудаваны нізкія рызніцы, накрыты агульным дахам з навісямі ў месцы злучэння зрубаў. На гал. фасадзе тарэц 2-схільнага даху вырашаны як спалучэнне франтона і атыкавай устаўкі з паўвальмай паміж 2 чацверыковымі вежамі. Вежы завершаны гранёнымі галоўкамі, такая ж галоўка і над алтаром. Гал. фасад на ўзроўні хораў аформлены галерэяй з балюстрадай. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя з разнымі ліштвамі. У 19 ст. да гал. фасада прыбудаваны тамбур з 2-схільным дахам. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю. З боку ад царквы ў 2-й пал. 19 ст. ўзведзена званіца (васьмярык на чацвярыку), накрытая высокім шатром. Царква не дзейнічае, знаходзіцца ў аварыйным стане. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*

**ДЗІСНА,** горад у Міёрскім р-не, пры ўпадзенні р. Дзісна ў Зах. Дзвіну. За 45 км на У ад Міёраў. Паводле некаторых звестак, засн. ў пач. 11 ст. полацкімі крывічамі як невял. крэпасць Капец-гарадок. З 1301 у Вял. кн. Літоўскім. Да 2-й пал. 16 ст. невял. паселішча, з 1563 мястэчка (дзярж. ўладанне)



**Дзівінская царква Параскевы Пятніцы.**

Полацкага ваяводства. У 1567 атрымала герб з выявай 3 мураваных вежаў. У 1569 з наданнем Дз. магдэбургскага права і новага герба (выява ладдзі з разгорнутым ветразем на блакітным полі) — горад. У 1554 на востраве ў сутоках рэк Зах. Дзвіна і Дзісна на ПнУ ад паселішча пабудаваны замак, які складаўся з Ніжняга (меў 9 вежаў у 1661) і Верхняга замкаў, умацаваных высокімі землянымі валамі, драўлянымі сценамі (у 18 ст. ўмацаванні замка разбураны, захаваліся валы Ніжняга замка). На тэр. замка знаходзіліся гандл. плошча, жылыя дамы гараджан, арсенал, паміж валоў — сажалка. У 17 ст. Дз. — цэнтр староства. Існавалі праваслаўныя Васкрасенская (16 ст.), Спаса-Праабражэнская (каля 1669), Увядзенская і уніяцкая Міхайлаўская цэрквы, парафіяльны касцёл (1581), францысканскі кляштар (1630, спачатку драўляны, мураваны будынак касцёла ўзведзены ў 1733, кляштара — у 1818; збераглісся часткова). У Паўночную вайну 1700—21 Дз. разбурана. З 1793 у складзе Расіі, з 1795 цэнтр павета Мінскай, з 1842 — Віленскай губ. Паводле плана канца 18 ст. горад размяшчаўся на мысе ў сутоку Зах. Дзвіны і Дзісны, куды былі скіраваны 2 асн. магістральныя вуліцы — Замкавая (сучасная Юбілейная) і Васкрасенская (сучасная вул. Кірава). Меў квартальную прамавугольную планіроўку. У цэнтры на скрыжаванні вуліц размяшчаліся гандл. плошча з крамамі, ратуша і праваслаўны манастыр з царквой, парафіяльны касцёл. Адна з вуліц ішла ўздоўж Зах. Дзвіны і злучала цэнтр з дарогай на Друю. На правым беразе Дзвіны размяшчалася слабада Дз. Забудова была амаль цалкам драўляная (знішчана ў час пажару 1882). У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы, цэнтр павета Віленскага ваяводства. З 1939 у складзе БССР, з 16.1.1940 цэнтр раёна. З 1959 у Міёрскім р-не. У горадзе захавалася архіт.-планіровачная пабудова 16—18 стагоддзяў. Сетка вуліц прамавугольная з невял. кварталамі. Гал. вось — вул. Леніна, якая перасякае горад з З на У; забудавана 2—3-павярховымі і 1-павярховымі цаглянымі жылымі дамамі. Да яе прылягае цэнтр. плошча (фарміруецца, пабудаваны універмаг, разбіты сквер). Грамадскі і культ. цэнтр размешчаны на вуліцах Леніна і Юбілейнай. Пераважае індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Паўд. частка горада забудоўваецца 2-павярховымі жылымі дамамі. Пры ўпадзенні Дзісны ў Зах. Дзвіну — парк. Прамысл. зона на Пд. Захаваліся паблізу плошчы група 1—3-павярховых жылых дамоў (канец 19 — пач. 20 ст.), царква Адзігітрыі на могілках (у ёй знаходзіцца адліты з бронзы ў 1751 звон — помнік ліцейнага мастацтва). Паводле генпланаў 1976 і 1987 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Л. Пілатовіч) горад развіваецца ў паўд. напрамку ўздоўж вул. Леніна.

*Ю. А. Якімовіч, Т. А. Альхімовіч, Л. М. Пілатовіч.*

**ДЗІЎНАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік палацава-паркавай архітэктуры 18—19 стагоддзяў. Створана ў в. Дзіўная (на б. хутары Гарадзец, Шаркоўшчынскі р-н). Уключае палац, парк, жылыя і гасп. пабудовы, капліцу. Кампазіцыйным цэнтрам сядзібы з'яўляецца палац. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы ў стылі класіцызму. У пач. 20 ст. часткова перабудаваны, зменены аздабленне

фасадаў і ўнутраная планіроўка, але захавана агульная кампазіцыя. Выцягнуты 1-павярховы будынак мае 2-павярховую цэнтр. частку, вылучаную 4-калонным порцікам. Фасады аздоблены прафіляванымі ліштвамі аконных праёмаў, на 2-м паверсе — дадаткова пілястрамі і сандрыкамі. У цэнтр. частцы 1-га паверха размяшчаліся вестыбюлі і парадная зала з выхадам на тэрасу, на 2-м — жылыя пакоі. Бакавыя часткі мелі калідорную планіроўку. Тры крутыя выгіны ракі Мнюта ўдала выкарыстаны для стварэння пейзажнай кампазіцыі парку і штучных вадаёмаў. За ракой па восі палаца — паляна з маляўнічымі групамі бяроз. Парк абсаджаны дрэвамі лісцевых парод з паасобнымі елкамі. У дэндралагічным складзе



**Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Рэспублікі Беларусь будынак.** Партал галоўнага ўвахода.



Палац Дзіўнаўскай сядзібы.



Будынак Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

трапляюцца елка калючая блакітная, вярба белая ніцая, лістоўніца еўрапейская і дэкар. кусты — спірэя, шыпшына, бэз і інш. Гаспадарчыя будынкі зроблены ў 2-й пал. 19 ст. з бутавага каменю, аздоблены цаглянымі лапаткамі, ліштвамі. Арнаментальныя ўстаўкі з бутавага каменю ўпрыгожваюць уязную браму. *У. В. Алісейчык.*

**ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА ВЯЛІКАГА ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ БУДЫНАК.** Закладзены ў 1933, пабудаваны ў 1936—37 (арх. І. Лангбард). Быў задуманы як універсальны са звышмеханізаванай сцэнай і глядзельнай залай на 3 тыс. месцаў. Адкрыты ў 1939. Асн. кампазіцыю ствараюць размешчаныя адзін над адным 3 цыліндрычныя аб'ёмы рознага дыяметра і вышыні, да якіх з тылу прылягае развітая сцэнічная каробка і дапаможныя памяшканні. Адзіны рытм і прафілёўка вертыкальных чляненняў надаюць будынку цэласны характар і маштабнасць. Ядро тэатра спачатку ўтварала глядзельная зала на 1500 месцаў, вырашаная амфітэатрам з балконам, якую паўкальцом абкружалі на 1-м паверсе вестыбюль з гардэробамі, на 2-м — прасторныя фае. У гады Вял. Айч. вайны тэатр значна пашкоджаны. Адноўлены ў 1948 паводле праекта аўтара. Глядзельная зала цалкам рэканструявана па традыцыйнай яруснай схеме з месцамі на 1200 гледачоў у партэры і 3 неглыбокіх ярусах. У афармленні вестыбюляў, фае і глядзельнай залы выкарыстаны скульптура і маст. ляпныя дэталі (асабліва багата дэкарыраваны партал сцэны; скульпт. А. Бембель). У 1967 тэатр тэхнічна пераабсталяваны, у 1978 значна зменена афармленне інтэр'ераў. Вонкавае аблічча будынка амаль цалкам захавана, толькі на пач. 1960-х гадоў плоскія пакрыцці заменены нахільнымі дахамі, што адбілася на сілуэтным вырашэнні. Будынак арганічна ўвайшоў у сістэму ансамбляў цэнтра Мінска, асабліва значная роля яго ў фарміраванні шматпланавай горадабудаўнічай кампазіцыі на перакрыжаванні праспекта Ф. Скарыны і водна-зялёнага дыяметра ўздоўж р. Свіслач. Сілуэт будынка, размешчанага на адносна высокім месцы (б. Троіцкая гара), добра ўспрымаецца з розных пунктаў горада. *А. А. Воінаў.*

**ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРА МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1981 (арх. А. Ткачук, У. Тарноўскі). Мае асіметрычную кампазіцыю з раўназначнымі фасадамі, абумоўленую яго размяшчэннем у сістэме гістарычна складзенай забудовы і ўключэннем у аб'ём будынка б. клуба тонкасуконнага камбіната. Гэтая частка пасля рэканструкцыі выкарыстоўваецца для касавага і размеркавальнага вестыбюляў, фае, гардэробаў і службовых памяшканняў, у прыбудаваным новым аб'ёме размешчаны амфітэатральная зала

на 800 месцаў і развітая сцэнічная група памяшканняў. Гал. ўваход акцэнтаваны парадным парталам са скульптурнай групай «Музы» (бронза, скульпт. Л. Зільбер). Інтэр'ер багата дэкарыраваны: выкарыстаны светлы мармур, гіпсавыя ўстаўкі, залацістае шкло, латунь. У глядзельнай частцы вылучаюцца габеленавая заслона (маст. А. Кішчанка і А. Бельцюкова), дэкар. рэльефы на партальнай сцяне і калонах фае (арх. Ткачук, скульпт. Ю. Якубовіч). Іл. гл. таксама ў нарысе.

*А. А. Воінаў.*

**ДЗЯРЖЫНСК** (да 1932 Койданава), горад, цэнтр Дзяржынскага р-на, на р. Няцеча. За 38 км ад Мінска. Вядомы з 12 ст. як в. Крутагор'е ў Полацкім, потым Мінскім княствах. З 1329 у Вял. кн. Літоўскім. У канцы 15 ст. ўласнасць прыватных асоб, з 1539 — Вял. кн. Літоўскага і караля польскага Жыгімонта І, у 1550—1831 — Радзівілаў (утварылі Койданаўскае графства; мела герб з выявамі дуба і алівы), потым дзярж. ўладанне. З 1566 у Мінскім пав. Мінскага ваяводства. З 1588 мястэчка, у ім было 120 «дымоў». У 16 ст. рэзідэнцыя кальвінізму на Беларусі, пабудаваны драўляны кальвінскі збор (1564) і плябанія, у пач. 17 ст. на месцы стараж. гарадзішча на Гаштольдавай гары ўзведзены новы мураваны *Койданаўскі кальвінскі збор* (вядомы як Койданаўскі замак), умацаваны мураванай сцяной, вежамі і бастыёнамі. Непадалёк ад збору былі фарны касцёл (засн. ў 1439) і Койданаўскія сядзібы (17—19 стагоддзі). У 1620-я гады цэнтр мястэчка — гандлёвая плошча з 5 крамамі і 1-павярховым будынкам карчмы з мансардай, забудаваная дамамі рамеснікаў і гандляроў. Ад плошчы ў радыяльных напрамках разыходзіліся 6 вуліц. Асн. планіровачныя восі — вуліцы Віленская і Мінская (на кожнай больш за 30 двароў). Забудова была вельмі шчыльная. У 1655 у час руска-польскай вайны мястэчка спалена. У 1668 было 139 сядзіб, 60 пляцаў пуставала. У 1670-я гады мястэчка адноўлена з захаваннем традыцыйнай планіровачнай схемы. Было 6 вуліц, 3 завулкі, 218 сядзібных пляцаў (170 «дымоў») і кальвінская юрыдыка з 23 «дымамі». З 1793 у складзе Расіі. Пабудаваны: драўляны касцёл апекі боскай (зараз дзіцячая муз. школа па вул. Першамайскай), у 19 ст.— мураваная царква на месцы драўлянай (1850), чыгуначны вакзал (у 1871 каля мястэчка пракладзена чыгунка), паравы млын, гасціны двор на цэнтр. плошчы. У 1883 было 400 будынкаў, у 1897 — 4744 жыхары. У кастр. 1920 у час акупацыі войскамі буржуазнай Польшчы большая частка мястэчка спалена. У 1920-я гады ў мястэчку 11 вуліц, 14 завулкаў, да яго далучыліся вёскі Агароднікі, Загароддзе і Макаўчыцы. Склалася квартальная рэгулярная планіроўка. Цэнтрам была гандлёвая плошча — Чырвоны пляц. У 1924 на левым беразе р. Няцеча (паўн.-ўсх. ўскраіна) пабудавана электрастанцыя, драўляны Народны дом у стылі мадэрн (1-павярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам). У 1626 было 5475 жыхароў, 750 дамоў (амаль усе драўляныя). У 1924—37 і з 1939 цэнтр раёна. З 3.5.1932 горад, 29.6.1932 перайменаваны ў гонар Ф. Э. Дзяржынскага.

Сучасны горад займае абодва берагі р. Няцеча, якая падзяляе яго на зах. (асноўная) і ўсх. часткі. Гал. вось горада вул. Ленінская, на якой сфарміравалася плошча — грамадскі цэнтр з адм. будынкамі. Бульварам плошча злучана з жылымі раёнамі горада. Гіст. цэнтр Дз. знаходзіцца на стыку вуліц К. Маркса і Ленінскай. Жылая забудова сканцэнтравана пераважна ў мікрараёнах па вуліцах Мінскай (уздоўж б. аўтамагістралі) і Энгельса, таксама ў паўн.-зах. частцы горада, у мікрараёне па вул. Пратасава. Мае 2 прамысл. зоны: больш развітую ўсходнюю і невял. заходнюю. Зона адпачынку — уздоўж ракі, дзе пабудавана вадасховішча. Забудоўваецца паводле генплана 1962 (ін-т «Белдзяржпраект», арх. В. Чэпік) і яго карэкціровак 1977 (арх. Х. Хасьянаў, Р. Арцёмчык) і 1989 (арх. Л. Сабалеўская; абодвух БелНДІПгорадабудаўніцтва). Прадугледжана стварэнне 3 планіровачных раёнаў з грамадскімі цэнтрамі, жылымі і прамысл. зонамі, развіццё агульнагарадскога цэнтра па вуліцах Ленінскай і К. Маркса.

*Ю. А. Якімовіч, Р. Л. Арцёмчык.*

**ДЗЯРЭЧЫНСКАЯ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. ў в. Дзярэчын (Зэльвенскі р-н). Кампазіцыя будынка складаецца з асн. квадратнага ў плане аб'ёму, прамавугольнай (звонку, унутры паўкруг-

Дзярэчынская Спаса-Праабражэнская царква.



**Дзяржынск.** Вуліца Мінская.



лай) апсіды і бабінца. Асн. аб'ём накрыты 4-схільным дахам з купалам на драўляным светлавым 8-гранным барабане ў цэнтры і 4 галоўкамі па вуглах. Сцены будынка завершаны развітым карнізам з сухарыкамі. Паўцыркульныя аконныя праёмы размешчаны ў верхняй частцы, дэкарыраваны броўкамі ў выглядзе какошнікаў. У інтэр'еры 4 слупы падтрымліваюць канструкцыю сферычнага купала на ветразях. Над уваходам размешчаны хоры, якія адкрываюцца ў зальнае памяшканне арачным праёмам. Вуглавыя часткі перакрыты крыжовымі скляпеннямі (астатнія падшыты плоскай столлю). Алтарная і падкупальная часткі ўпрыгожаны фрэскавай размалёўкай. Царква дзейнічае.

*А. Ю. Пятросава.*

**ДЗЯРЭЧЫНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ.** Комплекс існаваў у 17 — пач. 20 ст. ў в. Дзярэчын (Зэльвенскі р-н). Мураваны касцёл пабудаваны ў 1690 у стылі барока на месцы драўлянага храма 1618. Прамавугольнае ў плане 3-нефавае базілікальнае збудаванне з 5 прыбудаванымі да гал. нефа капліцамі (2 з іх завяршаліся купаламі). Гал. фасад быў упрыгожаны вязкамі пілястраў, якія падзялялі яго на 3 часткі і завершаны трохвугольным франтонам. Сцены расчлянялі арачныя аконныя праёмы. У інтэр'еры былі фрэскі на біблейскія сюжэты, надмагіллі з разнымі картушамі і скульптурамі. Касцёл згарэў у сярэдзіне 19 ст. Перад касцёлам знаходзіліся злева



Дзярэчынскі касцёл і кляштар дамініканцаў. З малюнка Н. Орды. 1877.

вежа-званіца, справа гадзіннікавая вежа — квадратнае ў плане 2-яруснае збудаванне з рысамі стылю барока, завершанае складаным па малюнку купальным дахам з 4 люкарнымі і высокім шпілем. Да касцёла прылягаў пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст. складаны па канфігурацыі плана 2—3-павярховы кляштарны будынак. Рытм фасадаў кляштара стварала сетка аконных прамавугольных праёмаў. З гандлёвай плошчай Дзярэчына комплекс злучаўся складанай па малюнку 3-часткавай барочнай брамай. Комплекс не збярогся.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ДЗЯРЭЧЫНСКІ ПАЛАЦ.** Быў пабудаваны ў 1786 у в. Дзярэчын (Зэльвенскі р-н) у стылі класіцызму паводле праекта арх. Я. С. Бекера і Л. С. Гуцэвіча як ваенная навучальная ўстанова («Акадэмія»). Фундатар — канцлер Вял. кн. Літоўскага А. Сапега. У пач. 19 ст. яго сын Францішак перарабіў будынак на палац і абкружыў яго паркам. За ўдзел Ф. Сапегі ў паўстанні 1831 палац секвестраваны царскімі ўладамі. У пач. 20 ст. перароблены ў вайсковыя казармы (да 1906). Палац — 1-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак. Цэнтр. частка з мансардай на гал. фасадзе была вылучана 8-калонным дарычным порцікам з 3-вугольным франтонам, аздобленым ляпным геральдычным картушам. Пакаты вальмавы дах быў схаваны парапетам. У дэкоры фасадаў выкарыстоўваліся рытмічна размешчаныя прамавугольныя філёнгі і вокны. Планіроўка калідорная з квадратнай залай у цэнтры. Сярод памяшканняў вызначаліся карцінная галерэя, археалагічны кабінет і б-ка (пасля секвестрацыі маст. каштоўнасці вывезены ў Пецярбург). Палац размяшчаўся ў парку рэгулярна-тэраснага тыпу («Малы Версаль») з сістэмай ставоў. Палацава-паркавы комплекс знішчаны ў 1920—30-я гады.

*А. М. Кулагін.*

**ДЗЯТЛАВА,** гарадскі пасёлак,



Дзярэчынскі палац. Фота Я. Булгака. 1930-я гады.

цэнтр Дзятлаўскага р-на, на р. Дзятлаўка. За 165 км ад Гродна. Вядома з 1498 як уладанне князёў Астрожскіх, падараванае ім пад наз. «Двор Здзечола» за ваенныя заслугі вял. кн. літоўскім Аляксандрам на вечнае ўладанне з правам заснаваць тут горад. У пач. 16 ст. пабудаваны драўляны замак-крэпасць, вакол якога ўзнікла новае паселішча (так званае «мястэчка»), што дало пачатак развіццю пасёлка як гандл.-рамеснаму, адм. і рэлігійнаму цэнтру (на сродкі кн. Астрожскага была пабудавана першая царква, не захавалася). У 1646 новы ўладар мястэчка Леў Сапега пабудаваў *Дзятлаўскі касцёл Успення Багародзіцы.* У перыяд Паўн. вайны 1700—21 у Дз. ў 1707—08 былі раскватараваны на зімовых кватэрах гал. сілы рус. арміі, якія ўзначальваў А. Меншыкаў, а ў сярэдзіне студзеня 1708 на працягу тыдня тут знаходзіўся Пётр І. Пасля таго, як рус. войскі пакінулі Дз., яно было занята, разрабавана і спалена шведамі. У 1751 на месцы спаленага замка Радзівіламі пабудавана *Дзятлаўская сядзіба.* Апошнім уладальнікам Дз. быў маршалак літ. С. Солтан. З 1795 у складзе Расіі, мястэчка Слонімскага пав. У 1893 у Дз. 3233 жыхары, прыватная бальніца на 6 ложкаў (працавалі 2 лекары), аптэка, народная школа, невял. майстэрня па вырабу так званага «дзятлаўскага паркету» (з мясцовага дубу), які карыстаўся вял. попытам, 2 вадзяныя млыны, медаварня і інш.; 2 кірмашы на год. У 1897 — 3979 жыхароў. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, мястэчка Навагрудскага пав. З 1939 у складзе БССР, з 15.1.1940 гар. пасёлак, цэнтр раёна. У 1962—65 у Слонімскім р-не. Тэрыторыя сучаснага Дз. характарызуецца спакойным рэльефам, які паніжаецца да поймы ракі. Найбольш высокія адзнакі рэльефу ў паўд.-зах., найбольш нізкія — у паўн.-зах. частках. Пераважна захавалася радыяльна-кальцавая планіровачная структура, якая склалася ў 17—19 стагоддзях на аснове 3 вуліц — дарог на Ліду, Навагрудак, Слонім (сучасныя асн. вуліцы Савецкая, Леніна, Міцкевіча, Кірава, Слонімская, Навагрудская, забудаваныя грамадскімі і 2-павярховымі жылымі дамамі). Цэнтр кампазіцыі — прамавугольная ў плане пл. 17 Верасня (б. гандлёвая), ад якой у радыяльных напрамках ідуць асн. вуліцы. Усх. бок плошчы займаюць 2-павярховыя мураваныя дамы 17—19 стагоддзяў (б. дамы рамеснікаў і гандляроў), заходні — 2-павярховыя гасцініца і універмаг, паўднёвы — 4-павярховы будынак камбіната быт. абслугоўвання. Кампазіцыя забудовы цэнтра фарміруецца ўздоўж асн. восей — вуліц Савецкай (заснавана на чаргаванні 2—3- і 4—5-павярховых жылых дамоў у спалучэнні з аб'ектамі сацыяльна-культ. і быт. абслугоўвання; на ўчастку ад пл. 17 Верасня да вул. Камсамольскай прадугледжана стварэнне бульвара), Кірава і Міцкевіча. Вуліцы Школьная, Першамайская, Чапаева, Кастрычніцкая, Перамогі і Чырвонаармейская забудаваны пераважна 2—5-павярховымі жылымі дамамі, астатняя тэрыторыя—індывідуальнымі дамамі сядзібнага ты-

пу. Прамысл. зона пераважна на Пн. Зона адпачынку—парк па вул. Міцкевіча, сквер перад будынкам б. райкома КПБ, зялёныя насаджэнні па вул. Савецкай, Слонімскай і ў пойме ракі, зарэгуляванай некалькімі сажалкамі, якія ўваходзілі ў паркавую зону б. Радзівілаўскага замка.Паводле генплана 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) і праекта дэталёвай планіроўкі прадугледжана аб'яднанне жылой забудовы ў 7 узбуйненых кварталаў, забудаваных 2—5-павярховымі капітальнымі жылымі дамамі, рэканструкцыя квартала, што прылягае да пл. 17 Верасня, і рэстаўрацыя ўключаных у яго будынкаў 18—19 стагоддзяў; развіццё гарадскога пасёлка ў паўд.-ўсх. напрамку, фарміраванне 5-павярховай жылой забудовы ва ўсх., індывідуальнай—у паўд.-ўсх. частках. *В. М. Кашырын, П. У. Залейскі.*

**ДЗЯТЛАВІЦКАЯ СПАСА-ПРАБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1823 у в. Дзятлавічы (Лунінецкі р-н) пры манастыры. Будынак адлюстроўвае сінтэз традыцый народнага дойлідства і асобных прыёмаў стыляў барока і класіцызму. Перабудоўвалася ў 1871 і 1896. Да квадратнага ў плане асн. аб'ёму, завершанага 2-ярусным васьмерыком на ветразях, прылягаюць прамавугольны бабінец з 2 прыбудовамі абапал яго і 5-гранны, падзелены 2 падоўжнымі сценкамі на 3 апсіды алтарны зруб. Над бакавымі апсідамі і прыбудовамі бабінца—чацверыковыя вежачкі з барочнымі галоўкамі на глухіх васьмерыках. На гал. фасадзе паміж вежамі — невял. 3-вугольны франтон, цэнтр. ўваход вылучаны дугападобным казырком. Сцены завершаны аркатурным фрызам, вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, падзелены тонкім карнізным поясам на 2 ярусы. У царкве быў разны 6-ярусны іканастас з 50 абразамі, рукапіснае евангелле 16 ст. (не зберагліся). Пад будынкам пахавальня (выш. 2,5 м). На ПдЗ ад царквы драўляная 2-ярусная званіца (васьмярык на чацверыку), накрытая шатровым дахам. У 1960-я гады ад удару маланкі цэнтральны купал царквы загарэўся і зваліўся ўнутр храма. Царква пасля пажару не аднаўлялася, зараз у аварыйным стане. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*

**ДЗЯТЛАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік архітэктуры ракако. Створана ў 1751 па фундацыі Мікалая Радзівіла ў г. п. Дзятлава на стромкім левым беразе р. Дзятлаўка. З канца 18 ст. належала Солтанам. За ўдзел Солтанаў у паўстанні 1831 сядзіба секвестравана царскімі ўладамі (1836). У 2-й пал. 19 ст. выкарыстоўвалася кавалерыйскімі часцямі ў якасці казарм. У пач. 20 ст. ў палацы была размешчана школа. Комплекс складаўся з мураванага сядзібнага дома, пейзажнага парку з круглым вадаёмам і творамі архітэктуры малых форм (масткі, павільёны), якія з У паўкальцом агінаў палац. Гасп. пабудовы размяшчаліся пры ўездзе з Пд у сядзібу. Ад ансамбля збярогся мураваны палац. Першапачаткова гэта быў накрыты высокім вальмавым дахам 2-павярховы прамавугольны ў плане аб'ём з 2 вуглавымі вежападобнымі алькежамі на цокальным паверсе, накрытымі ўвагнутымі шатрамі з заломамі (не збераглiся). Цэнтр кампазіцыі падкрэслены на фасадах рызалітамі: на дваровым глыбокім 4-восевым, на галоўным плоскім 3-восевым, завершаны крывалінейным франтонам. Фасады рытмічна расчлянёны канеліраванымі пілястрамі. У дэкар. аздабленні фасадаў выкарыстана лепка ў стылі ракако: раслінны арнамент, гірлянды, геральдычныя знакі, медальёны. Вокны прамавугольныя з сандрыкамі разнастайных форм. Планіроўка анфіладная з параднай залай у цэнтры. Помнік рэспубліканскага значэння. У будынку размешчаны раённы шпіталь. *А. М. Кулагін.*

**ДЗЯТЛАЎСКІ КАСЦЁЛ УСПЕННЯ БАГАРОДЗІЦЫ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1624—46 у г. п. Дзятлава па фундацыі Сапегаў, аб чым сведчыць мемарыяльная дошка ў партале. Пасля пажару ў 1743 гал. фасад і інтэр'ер перабудаваны (да 1751) паводле праекта арх. А. Асікевіча па фундацыі М. Ф. Радзівіла. Мураваны 1-нефавы 2-вежавы храм з масіўнай алтарнай апсідай накрыты агульным 2-схільным (над апсідай конусападобным) дахам. Сцены рытмічна расчлянёны вертыкальнымі контрфорсамі. Вял. вокны з паўцыркульнымі завяршэннямі. Гал. фасад падзелены развітымі гарызантальнымі цягамі на 3 часткі. 2-ярусныя скразныя вежы з купалкамі і фігурны франтон паміж імі вырашаны ў стылі позняга барока. У аздабленні фасада выкарыстаны плоскія пілястры, хвалістыя карнізы, глыбокія нішы. Унутры сцены расчлянёны шырокімі неглыбокімі пілястрамі і магутным карнізам. Скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі, у апсідзе — крыжовыя. Унутры 7 алтароў у стылі позняга барока. Гал. алтар 2-ярусны, расчлянёны пілястрамі і калонамі карынфскага ордэра, завершаны раскрапаваным антаблементам. Асн. дэкор сканцэнтраваны на сярэдняй частцы алтара, дзе размешчана 6 скульптур святых (дрэва, таніроўка). Карнізны пояс упрыгожваюць дэкар. вазы і картушы. Завяршае алтар ляпны картуш. Амбон вырашаны ў стылі ракако. Сярод арнаментальных матываў — акантавы ліст, геральдычныя знакі, ракавіны. На хорах устаноўлены арган.



**Дзятлава.** Плошча 17 Верасня.



**Дзятлаўская сядзіба.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.


Дзятлаўскі касцёл Успення Багародзіцы.


Гасцініца «Днепр».

упрыгожаны накладной разьбой па дрэве, пазалотай. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*

**«ДНЕПР»**, гасцініца ў Магілёве. Пабудавана ў 1940 (арх. А. Брэгман, А. П. Воінаў) на месцы *Магілёўскага Іосіфаўскага сабора.* Рэканструявана ў 1983. Разлічана на 305 месцаў. Будынак 5-павярховы, у плане складанай канфігурацыі. Гал. фасад падкрэслены 2 бакавымі несіметрычнымі рызалітамі і гал. уваходам па цэнтры. Пластычная выразнасць дасягнута за кошт вертыкальных рэбраў на сцяне фасада, паміж якімі размешчаны лоджыі. Унутраная планіроўка калідорная, у цэнтры 2-га — 5-га паверхаў — холы, да якіх прымыкаюць жылыя пакоі. На 1-м паверсе вестыбюль, адм. і быт. памяшканні, рэстаран «Дняпро». Будынак — прыклад савецкай архітэктуры даваеннага часу.

**ДОБРУШ**, горад, цэнтр Добрушскага р-на, на р. Іпуць. За 25 км на У ад Гомеля. Вядомы з 16 ст. як вёска Гомельскага староства Рэчыцкага пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1772 у складзе Расіі, сяло Вылеўскай воласці Беліцкага, з 1852 Гомельскага пав., цэнтр Добрушскай эканоміі, Гомельскага маёнтка. У 1886 у Д. 185 двароў, 1057 жыхароў. З 1887 чыг. станцыя Палескіх чыгунак. У пач. 20 ст. ў Д. больш за 2,5 тыс. жыхароў. З красавіка 1919 у Гомельскай губ., з 1923 цэнтр Добрушскай воласці Гомельскага пав. У снежні 1926 — жніўні 1927 і з лютага 1935 цэнтр Добрушскага р-на, у 1927—35 у складзе Гомельскага р-на, горад. З 1931 да 1935 падпарадкаваны Гомельскаму гарсавету. З 7.3.1963 горад абл. падпарадкавання. Тэрыторыя падзелена на асобныя раёны ракой, чыгункай, шашой. Асн. частка — паўночная (глыбіня расчлянення рэльефу 20—25 м), з У і Пд яе агінае рака. На перакрыжаванні асн. восей горада — вул. К. Маркса і праспекта Міру (забудаваны 2—5-павярховымі жылымі дамамі) сфарміравалася пл. Леніна — грамадска-адм. і культ.-гандл. цэнтр. Сярэдняя, нізінная частка горада размешчана паміж ракой і чыгункай. Тут знаходзяцца папяровая ф-ка «Герой працы» (гл. *Добрушскай папяровай фабрыкі будынкі*), 2-павярховыя жылыя дамы прадпрыемства (пас. «Антонаўка»). Каля чыгункі ў паўд.-ўсх. частцы фарфоравы з-д. Паблізу (уздоўж дарогі Гомель — Бранск) пабудаваны


Добрушскай папяровай фабрыкі будынкі.

2-павярховыя жылыя дамы. У паўд. частцы забудова пераважна драўляная. Паводле генплана 1973, праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана стварэнне паўд. і паўн. прамысл. раёнаў, развіццё грамадскага цэнтра на вул. К. Маркса, стварэнне паркаў, спарт. зоны, буд-ва ў зах. частцы горада моста цераз раку.

*Р. Дз. Шэліхава.*

**ДОБРУШСКАЙ ПАПЯРОВАЙ ФАБРЫКІ БУДЫНКІ**, помнік архі-

тэктуры эклектыкі. Пабудаваны ў левабярэжнай частцы Добруша (сучасны праспект Луначарскага, 8) у 1870. Фабрыка заснавана нашчадкамі кн. І. Ф. Паскевіча як з-д драўніннай масы, з 1871 г. папяровая ф-ка. У 1913 па аб'ёму вытворчасці і тэхнічнаму абсталяванню лічылася адным з лепшых прадпрыемстваў у Еўропе. Фабрычны комплекс— значная па плошчы замкнёная тэрыторыя з 1- і 2-павярховымі будынкамі. Цэнтральны, у якім размешчаны адм. службы, мае нерэгулярную сістэму планіроўкі і асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Сцены будынка ўмацаваны плоскімі лапаткамі, па вуглах — невял. зубчастыя вежы (матыў, тыповы для прамысловай архітэктуры 2-й пал. 19 ст.). Астатнія пабудовы кампазіцыйна падпарадкаваны цэнтр. будынку. Аднапавярховыя карпусы, пастаўленыя па перыметры тэрыторыі ф-кі,— своеасаблівая агароджа комплексу, дамінантай кампазіцыі якога з'яўляецца высокая вуглавая вежа з паўцыркульнымі вокнамі. Фасады пабудоў лаканічныя паводле дэкору, расчлянёны плоскімі лапаткамі, пад карнізамі праходзяць паясы сухарыкаў. Дэкаратыўнае афармленне прахадной, размешчанай у адным з такіх будынкаў, больш насычанае (рэльефны арнамент, лучковыя аконныя праёмы з ліштвамі і замковым каменем). З 1976 г. папяровая ф-ка «Герой працы».

*А. Ю. Пятросава.*

**ДОКШЫЦЫ**, горад, цэнтр Докшыцкага р-на, у вярхоўі р. Бярэзіна (басейн Дняпра). За 200 км ад Віцебска. Вядомы з 15 ст. як мястэчка ў Віленскім ваяводстве Вял. кн. Літоўскага. У 16 ст. належалі роду Кішкаў. У Паўночную вайну 1700—21 спалены (1708). З 1793 у складзе Расіі, спачатку горад, цэнтр павета, пазней мястэчка Барысаўскага пав. Герб атрымалі 22.1.1796 (у зялёным полі 2 узгоркі, на якіх ляжаць збаны, з іх гарлавін цякуць сярэбраныя крыніцы). У 19 ст. мястэчка размяшчалася на абодвух берагах р. Бярэзіна. Асн. частка — правабярэжная — мела 4 узаемна перпендыкулярныя вуліцы (дарога з Даўгінава на Ушачы перасякала мястэчка з ПдЗ на ПнУ, на ПнЗ ад яе адыходзіла дарога на Глыбокае, на ПдУ — на Барысаў). У месцы іх перасячэння была ўтворана прамавугольная ў плане гандл. плошча з драўляным касцёлам, карчмой, крамамі. На ўсх. ускраіне стаяла драўляная уніяцкая царква. На ПдУ мястэчка было вылучана месца для гумнаў. У левабярэжнай частцы, уздоўж дарогі на Глыбокае, сфарміравалася слабада з панскім дваром і фальваркам. У 1897 у Д. 3642 жыхары. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы. З 1939 у складзе БССР, з 15.1.1940 цэнтр раёна. У Айч. вайну акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, разбураны. Сучасны горад з ПдЗ на ПдУ перасякае рака. Асн. тэрыторыя — правабярэжная частка. Гал. вось — вул. Леніна (з ПдУ на ПнЗ), на якой пры ўездзе ў горад з ПдЗ знаходзяцца аўтастанцыя, 2—3-павярховыя жылыя дамы. На перакрыжаванні вуліц Ленінскай і Піянерскай забудоўваецца адм.-грамадскі цэнтр горада. Каля ракі на вул. І. С. Палявога прамавугольная ў плане пл. І. С. Палявога (б. гандлёвая). Грамадскія будынкі таксама на вул. Савецкай (на ПдУ ад плошчы). Другая вось горада — вул. Горкага (уздоўж ракі) з гандл. і іншымі ўстановамі. Забудова цэнтра і левабярэжнай часткі 1-павярховая, драўляная, мураваная сядзібнага тыпу і групы 2—3-павярховых секцыйных дамоў (вул. Школьная і інш.). Прамысл. зона на ПнЗ і ПнУ. У горадзе 2 паркі (вуліцы Набярэжная і Піянерская), 6 сквераў. Створана зона адпачынку з вадасховішчам (непадалёку ад плошчы). Збярогся помнік архітэктуры 2-й пал. 19 ст.— царква ў неарускім стылі. Паводле карэкціроўкі генплана 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана стварэнне прамысл. зоны на Пн і У, буд-ва аб'язной дарогі на З горада, стварэнне ў цэнтры гарадскога парку.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ДОМ ЛІТАРАТАРА** ў Мінску. Пабудаваны ў 1976 (арх. Ю. Грыгор'еў, В. Шубіна). Асіметрычны складанай канфігурацыі ў плане будынак. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя заснавана на кантрасце глухіх паверхняў сцен (крываліненйныя ў плане), абліцаваных светлым туфам, з вузкімі вертыкальнымі праёмамі, упрыгожанымі вітражамі (мастак У. Стальмашонак). Унутраная планіроўка мае дакладнае размежаванне на 2 функцыянальныя зоны: парадная ўключае на 1-м паверсе вестыбюльную групу памяшканняў, бар, холы, камінную залу, на 2-м паверсе глядзельную залу (на 336 месцаў), прасторнае фае, канферэнц-залу, кафэ, кулуары, дзелавая — рабочыя пакоі, кабінеты, б-ку, групу дапаможных памяшканняў. Шэраг асн. і службовых памяшканняў выходзіць ва ўнутраны дворык. У апрацоўцы інтэр'ераў выкарыстаны прыродны камень, дрэва, чаканка, мармур, туф, дэкар. тынкоўка.

*А. А. Воінаў.*

**ДОМ ПАЛІТЫЧНАЙ АСВЕТЫ** ў Мінску. Пабудаваны ў 1987 (арх. Л. Пагарэлаў, Ю. Кустоў, Л. Кустова, А. Чадовіч) на вул. Кастрычніцкай, на беразе р. Свіслач. Прамавугольны ў плане будынак (з унутраным дворыкам) гал. фасадам арыентаваны да поймы ракі і вул. Ульянаўскай. Аб'ём будынка звыш 60 тыс. $м^3$, пл. забудовы 3,6 тыс. $м^2$. У асіметрычнай кампазіцыі вылучаны гал. ўваход з шырокай лесвіцай. Сцены будынка абліцаваны светлым даламітам. Унутры вял. актавая зала на 1500 месцаў (вырашана амфітэатрам з балконам), лекцыйная зала на 300 месцаў, 6 малых залаў на 80—120 месцаў, б-ка. Для апрацоўкі інтэр'ераў выкарыстаны мармур, граніт, фільзіт, 3-светлавое фае ўпрыгожваюць люстры (мастакі У. Стальмашонак, В. Даўгяла). Архіт.-маст. вырашэнне забудовы дапаўняюць элементы добраўпарадкавання (сквер партэрнага тыпу з лесвіцамі і падпорнымі сценкамі, пляцоўкамі для адпачынку). З 1991 наз. грамадска-палітычным цэнтрам.

*В. І. Анікін.*

**ДОМ ПРАЕКТНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ** Дзяржбуда Беларусі. Пабудаваны ў 1978 (арх. В. Малышаў) у Мінску для ін-та «Белдзяржпраект» і інш. праектных арганізацый. Размешчаны з водступам ад чырвонай лініі праспекта Машэрава на маляўнічым схіле ўзгорка. Будынак арганічна ўпісваецца ў ансамбль забудовы праспекта, з'яўляецца важным горадабудаўнічым акцэнтам у яго кампазіцыі. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя заснавана па перакрыжаванні пад прамым вуглом



Дом літаратара ў Мінску.



Дом палітычнай асветы ў Мінску.



**Дом праектных арганізацый** у Мінску.

асн. 7-павярховага (часткова пастаўлены на жалезабетонныя рамы) і 2-павярховага прамавугольнага ў плане аб'ёмаў. Злом формы плана асн. аб'ёму ў сярэдняй частцы архітэктурна падкрэслівае ламаную лінію трасы праспекта Машэрава. Строгі рытм фасадаў, утвораны панелямі ў выглядзе кесонаў, узмацняе буйнамаштабную кампазіцыю збудавання. *А. А. Воінаў.*

**ДОМ ПРАФЕСІЯНАЛЬНЫХ САЮЗАЎ** у Мінску. Пабудаваны ў 1982 (арх. Г. Бенядзіктаў, А. Фрыдман) на праспекце Машэрава. Кампазіцыйна завяршае рытм вышынных грамадскіх будынкаў. Складаецца з 12- і 16-павярховых зблакіраваных аб'ёмаў і прамавугольнага ў плане аб'ёму канферэнц-залы на 400 месцаў, размешчаных на 2-павярховым складанай канфігурацыі стылабаце. Кампазіцыя вышыннага корпуса заснавана на спалучэнні злучаных аб'ёмаў, вырашаных у выглядзе пласцін. Лаканічны аб'ём канферэнц-залы падкрэслівае гал. ўваход у будынак. Фасады вышыннага корпуса апрацаваны вертыкальнымі алюмініевымі цягамі, шклокерамічнай пліткай ружовага колеру, канферэнц-залы і стылабата — пліткай з натуральнага каменю шэрага колеру. У аддзелцы інтэр'ераў выкарыстаны гранітныя і мармуровыя пліты.

**ДОМ РАБОТНІКАЎ МАСТАЦТВАЎ** у Мінску, гл. *Мінскага царкоўна-археалагічнага музея будынак.*

**ДОМ УРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** Пабудаваны ў 1930—34 (арх. І. Лангбард) у Мінску на плошчы Незалежнасці (да 1991 пл. Леніна). Праект, адобраны ў выніку Усесаюзнага конкурсу (1929), прадугледжваў узвядзенне ансамбля будынкаў Дома ўрада і наркаматаў вакол плошчы, прызначанай для парадаў і дэманстрацый. Ідэя ансамбля не ажыццёўлена. У працэсе буд-ва аўтар адмовіўся ад злучальнай галерэі на ўзроўні 3-га паверха паміж бакавымі крыламі і прапанаваў паставіць перад Домам урада помнік У. І. Леніну (1933, скульпт. М. Манізер, арх. Лангбард). Стварэнне Дома ўрада было пачаткам ажыццяўлення рэканструкцыі сталіцы. Ідэйна-маст. і горадабудаўнічыя прынцыпы вырашэння ў многім прадвызначалі развіццё бел. сав. архітэктуры ў 1930-я гады. Дом урада — самае буйное на Беларусі збудаванне грамадзянскай архітэктуры даваеннага часу (аб'ём будынка 240 тыс. м$^3$). Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя пабудавана на сіметрычных рознавышынных аб'ёмах, што надае сілуэту будынка дынамічнасць. 9-павярховая цэнтр. частка адсунута ў глыбіню і фланкіравана бакавымі крыламі, што ўтвараюць плошчу ($100 \times 50$ м). У строгім, стрыманым вонкавым дэкоры па ўсім перыметры выкарыстаны вертыкальныя чляненні — лапаткі, якія надаюць збудаванню адзінства, манументальнасць і энергічную накіраванасць уверх. Да тыльнага фасада цэнтральнай часткі прымыкае аб'ём залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, перакрыты паўсферычным купалам на барабане. Унутраная планіроўка і вырашэнне інтэр'ераў будынка вылучаецца яснасцю і прастатой задумы, лаканізмам архіт. афармлення. Увесь складаны комплекс атрымаў зручную функцыянальную арганізацыю ўнутранай прасторы, падпарадкаваную строгай канструкцыйнай сістэме. Зала пасяджэнняў Вярхоўнага Савета, канферэнц-залы, кулуары і іншыя памяшканні афармлены размалёўкамі (мастакі М. Лебедзева, І. Фрэнк, кіраўнік І. Бродскі) і шматфігурнымі рэльефамі (скульпт. А. Бембель, Р. Ізмайлаў, У. Рытэр, кіраўнікі М. Манізер, М. Керзін, Лангбард). Была створана галерэя скульпт. партрэтаў К. Маркса і Ф. Энгельса (М. Керзін), Г. Бабёфа, Ф. Э. Дзяржынскага і А. Ф. Мяснікова (З. Азгур), М. Ф. Фрунзе (А. Глебаў), М. Г. Чарнышэўскага (А. Арлоў), К. Лібкнехта (Ізмайлаў). Дом урада — адзін з першых і найбольш значных прыкладаў сінтэзу архітэктуры і манум. мастацтва ў Сав. Беларусі. У Вял. Айч. вайну ў 1944 ням.-фаш. акупанты перад адступленнем падрыхтавалі будынак да ўзрыву, але імклівае наступленне сав. войск, рашучыя дзеянні падпольшчыкаў і партызан сарвалі гэты план. Будынак — помнік архітэктуры рэспубліканскага значэння. *А. А. Воінаў.*

**ДОМЖАРЫЦЫ,** вёска ў Лепельскім р-не. Цэнтр сельсавета і адм. цэнтра Бярэзінскага біясфернага запаведніка. За 35 км на ПдЗ ад Лепеля, 150 км ад Віцебска. Адзін з добраўпарадкаваных пасёлкаў рэспублікі. Забудоўваецца паводле генплана 1966 (праектны ін-т лясной гаспадаркі СССР) і яго карэкціроўкі 1973, 1976 і 1987 БелНДІдзі-



Дом прафесіянальных саюзаў у Мінску.



**Дом урада Рэспублікі Беларусь.**



**Домжарыцы.** Забудова цэнтра.

прасельбуд). Цэнтрам кампазіцыі з'яўляецца вял. прамавугольная ў плане плошча — грамадска-адм. і культ.-гандл. цэнтр (3-павярховы адм.-лабараторны корпус запаведніка, зблакіраваны з 2-павярховым будынкам музея прыроды, 4-павярховая гасцініца з сталовай і рэстаранам на 1-м паверсе, сярэдняя школа з інтэрнатам і сталовай, дзіцячы сад, гандл. цэнтр у блоку з Домам культуры). На зах. баку плошчы пабудаваны 2-павярховыя 8- і 16-кватэрныя жылыя дамы. Упрыгожваюць плошчу дэкар. вадаём, кветнікі, газоны. Паблізу плошчы знаходзіцца 2-павярховы медпункт. Вёска забудавана пераважна 2-павярховымі 8- і 16-кватэрнымі жылымі дамамі. У паўд. частцы — 1-павярховая забудова сядзібнага тыпу. Пры добраўпарадкаванні шырока выкарыстаны малыя архіт. формы, групы дэкар. дрэў, газоны, кветнікі і інш. Усе грамадскія і жылыя будынкі выкананы па індывідуальных праектах. На У вёскі спарт. зона са стадыёнам, адкрытым плавальным басейнам, на З і Пд — вытв. зона. Распрацоўка праекта і забудова вёскі адзначаны дыпломам ВДНГ СССР (1981).

*А. М. Белахвостаў.*

**ДРАГІЧЫН**, горад, цэнтр Драгічынскага р-на. За 110 км ад Брэста. Вядомы з 1452 як в. Давячоравічы ў Вял. кн. Літоўскім, з 1623— мястэчка. Паводле інвентара 1778 лічыўся горадам, цэнтрам якога была прамавугольная ў плане гандлёвая плошча з драўлянай ратушай (завяршалася альтанкай, увянчанай металічным купалам з гербам горада), каля якой стаяла драўляная карчма, і гандл. радамі з вежападобнай брамай. Ад плошчы ў радыяльных напрамках адыходзілі вуліцы Пірковіцкая, Пінская, Хомская і Пірлуніцкая, уздоўж якіх і канцэнтравалася забудова (усе будынкі былі драўляныя). У склад Д. ўваходзіла прадмесце Зарэчча. З 1795 у складзе Расіі, мястэчка Кобрынскага пав. Слонімскай, з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губерняў. У 1-й пал. 19 ст. 167 жыхароў, 98 будынкаў, у 2-й пал. (1897) — 2258 жыхароў, 280 дамоў. У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка, цэнтр павета Палескага ваяводства; каля 4 тыс. жыхароў. З 1939 у складзе БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Пінскай вобл., з 1954 у Брэсцкай вобл. З 1967 горад.

Тэрыторыя Д. падзелена аўтамагістраллю Брэст — Пінск на 2 планіровачныя раёны: паўднёвы і паўночны. Квартальная планіроўка з нерэгулярнай сеткай вуліц склалася гістарычна. У месцы перасячэння цэнтр. вуліц Леніна (з З на У), Савецкай, 17 Верасня ўтворана пл. Леніна (б. гандлёвая) з адм. будынкамі, 2- і 5-павярховымі жылымі дамамі. У цэнтр., паўд. і зах. частках горада ўзведзены мікрараёны з 4—5 і 9-павярховымі жылымі дамамі (вуліцы 17 Верасня, К. Маркса, Леніна, 9 Мая, Кастрычніцкая, Меліярацыйная), новы мікрараён будуецца ў зах. частцы горада. На астатняй тэрыторыі індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Прамысл. зона размешчана на У, паркавая — па вул. Леніна (каля Дома культуры), зона адпачынку — на Пн на р. Ясельда і на Пд на Дняпроўска-Бугскім канале. Паводле генплана 1982 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Арцёмчык, Л. Комава) прадугледжана развіццё горада ў паўн.-зах. напрамку.

*Ю. А. Якімовіч, Л. І. Комава.*

**ДРУЖЫЛАВІЦКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА**, помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1777 у в. Дружылавічы (Іванаўскі р-н). Прамавугольныя ў плане асн. зруб і алтарная апсіда накрыты агульным шматсхільным дахам з 3-вугольнымі навісямі ў месцы злучэння зрубаў. Па баках алтара размешчаны больш нізкія прамавугольныя рызніцы. У 2-й пал. 19 ст. да царквы з захаду прыбудавана 3-ярусная чацверыковая вежа-званіца, у пач. 20 ст. да асн. зруба — прамавугольныя бакавыя аб'ёмы, у выніку чаго план набыў форму крыжа. Сцены гарызантальна ашаляваны і завершаны ў старой частцы прафіляваным карнізам. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю, бакавыя прыбудовы перакрыты паўцыліндрычнымі драўлянымі скляпеннямі. Зберагліся фрагменты першапачатковай дэкар. аздобы інтэр'ера і разны іканастас. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*

**ДРУЙСКІ КАСЦЁЛ ДАМІНІКАНЦАЎ.** Існаваў у 2-й пал. 18— пач. 20 ст. Пабудаваны ў 1765—73 паводле праекта арх. А. Паракко ў стылі позняга барока. Уваходзіў у комплекс манастыра дамініканцаў. У 1839 перададзены ўладам для перабудовы пад царкву. Уяўляў сабой 3-нефавую 2-вежавую базіліку з трансептам і прэсбітэрыем, завершаным паўкруглай апсідай. Выш. касцёла 35 м, шыр. сярэдняга нефа 9,5 м. Трансепт і сярэдні неф мелі аднолькавую вышыню і значна большыя памеры, чым бакавыя нефы, былі перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках. Над сяродкрыжжам — купал. Бакавыя фасады чляніны лапаткамі. Гал. фасад дэкарыраваны пілястрамі, масіўнымі карнізамі, фігурнымі валютамі. У дэкоры ўваходнага партала і інтэр'ераў выкарыстаны арнамент стылю ракако. На восі гал. ўвахода была фігурная каменная брама. Касцёл узарваны ў 1909.

*В. Ф. Марозаў.*

**ДРУЙСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ**, помнік архі-



**Дружылавіцкая Мікалаеўская царква.**



**Друйскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.** Галоўны фасад касцёла.

тэктуры барока. Пабудаваны ў 1643—46 у г. п. Друя (Браслаўскі р-н) па фундацыі падканцлера Вял. кн. Літоўскага Казіміра Льва Сапегі. Троіцкі касцёл — мураваная 3-нефавая 1-вежавая базіліка з апсідным завяршэннем цэнтр. нефа (унутры гранёны, звонку паўцыркульны). Да выцягнутага прэсбітэрыя з Пд прылягае прамавугольнае ў плане сакрысція. На гал. фасадзе тарцы бакавых нефаў закрыты невял. аб'ёмамі з пластычнымі абагульненымі валютамі над імі, тарцы цэнтр. нефа — масіўнай 4-яруснай чацверыковай вежай-званіцай, завершанай купалам (дабудавана ў 1772). Бакавыя сцены і апсіда рытмічна расчлянёны вертыкальнымі контрфорсамі. Аконныя праёмы з паўцыркульнымі завяршэннямі. Інтэр'ер аздоблены ордэрнай пластыкай, лепкай у тэхніцы стука. Скляпенні захавалі першапачатковы дэкор 17 ст. ў выглядзе ляпных геаметрычных кесонаў. Галоўны 2-ярусны алтар з прасторавай групоўкай калон і пілястраў, разарваным антаблементам і дынамічнай аб'ёмнай скульптурай у стылі позняга барока выкананы ў 1764—67, амбон і 4 бакавыя алтары з элементамі стылю ракако — 1779. З Пн да касцёла прылягае 2-павярховы будынак кляштара, які ўтварае прамавугольны замкнёны двор, з З бакоў абкружаны калідорам. Фасады фланкіраваны вял. квадратнымі ў плане памяшканнямі на вуглах. Вокны прамавугольныя. Ансамбль дапоўнены мураванай арачнай агароджай з брамай (узведзена ў 1778). З 1852 касцёл стаў прыхадскім. У 1923—28 у кляштары размясціліся манахі-беларусы ордэна марыянаў. У 1924 тут была арганізавана школа (з 1930 гімназія), у якой вучыліся А. Цыкота, Ч. Сіповіч, У. Падзявы, У. Чарняўскі, пісьменнік Я. Германовіч, мастак эмігрант В. Жаўня і інш. Каля 1947 закрыты. Касцёл і кляштар выкарыстоўваліся для патрэб Друйскага СПТВ меліярацыі, у 1949—53 тут знаходзіўся Полацкі будаўнічы тэхнікум, у 1954— 56 — тэхнічнае вучылішча, з 1956 — вучылішча меліярацыі. У 1989 перададзены абшчыне. На рамонце. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь, К. С. Шыдлоўскі.*

**ДРУЯ,** гарадскі пасёлак у Браслаўскім р-не, на левым беразе Зах. Дзвіны пры ўпадзенні ў яе р. Друйка. За 30 км ад Браслава, за 205 км ад Віцебска. Упершыню ўпамінаецца ў «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага пад 1386. З 1566 у Браслаўскім пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1496 належала князям Масальскім, з 1611 — Сапегам. У 1618 атрымала магдэбургскае права (да 1825), у 1620— герб (выява віціны з разгорнутым ветразем на блакітным полі). У старажытнасці Д.— адзін з цікавых у архіт. адносінах гарадоў Беларусі. У дакументах, пісьмовых крыніцах 16 ст. ўпамінаецца стары замак («Полацкая рэвізія 1552», «Хроніка» А. Гваньіні), на яго тэрыторыі знаходзілася найбольш стараж. культавае збудаванне Д.— царква св. Пятра (ёсць у вопісе 16 ст.). У 17 ст. Ян Сапега пабудаваў новы замак на высокім беразе Зах. Дзвіны каля вострава. Паводле інвентару 1643 замак быў з валам і брамамі Рыжскай і Полацкай (захаваліся сядзібны дом і рэшткі парку). У 17 ст. Д. складалася з 3 частак: Старога горада, новага—Сапежын (засн. Сапегам каля 1620) і прадмесця Прыдруйск (зараз Піедруя ў Латвіі). Галоўную ролю адыгрываў Сапежын, дзе знаходзіліся замак Сапегаў, ад якога да вусця р. Друйка ішла гал. вуліца Вялікая, яна фарміравала і цэнтр. плошчу — рынак з ратушай (драўляная, з гадзіннікам на вежы) і дамамі Сапегаў. У горадзе пабудаваны: праваслаўная царква Спаса (мяркуюць, што ў 16 ст., упамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1609); уніяцкая царква св. Духа (1621), касцёл і кляштар св. Яна (ёсць у інвентары 1643), *Друйскі касцёл і кляштар бернардзінцаў* (1643—46), праваслаўны Благавешчанскі манастыр, сінагога, уніяцкая царква св. Пятра і Паўла, комплекс дамініканскага кляштара, які ўключаў *Друйскі касцёл дамініканцаў* (1765—73), жылыя карпусы, званіцу і браму. У Прыдруйску існавалі: праваслаўная Барысаглебская царква, Успенскі касцёл (18 ст.), уніяцкая царква Міхаіла Архангела, Нікольская царква (19 ст.). З пач. 17 ст. горад ператварыўся ў значны рамесны і гандлёвы цэнтр, што спрыяла развіццю буд-ва, у т. л. мураванага (у канцы 18 ст. на цэнтр. плошчы было 13 камяніц). У пач. 19 ст. закладзены парк рэгулярнага тыпу, выцягнуты з У на З, у цэнтры яго быў замак. Замалёўкі архіт. помнікаў Д. зроблены мастакамі Дз. Струкавым (у 1864, 14 малюнкаў) і Н. Ордай (бернардзінскі кляштар). З 1793 Д. ў складзе Расіі, горад Дзісенскага пав. Мінскай, з 1843 Віленскай губерняў. У 1921 — 39 у складзе бурж. Польшчы, у Браслаўскім пав. Віленскага ваяводства. З 1939 у БССР, з 15.1.1940 гарадскі пасёлак у Браслаўскім р-не, з 1944 у Полацкай, з 1954 у Маладзечанскай, з 1960 у Віцебскай абласцях.

Узгоркавы рэльеф вызначыў планіровачную структуру пасёлка. Падзелены на 4 часткі: цэнтральную (Сапежын, паміж Друйкай і Зах. Дзвіной, забудаваны 2-павярховымі жылымі дамамі, індывідуальнымі дамамі сядзібнага тыпу), заходнюю (старая Д., за р. Друйка, пераважае індывідуальная забудова сядзібнага тыпу), усходнюю (паміж Зах. Дзвіной, Друйкай і чыгункай) і раён чыгункі (вытворчая і складская зона). Вось кампазіцыі — вул. Леніна, на ёй пры ўпадзенні Друйкі ў Зах. Дзвіну размешчана гал. плошча пасёлка з паркам. У цэнтр. частцы пасёлка найбольш мураваных дамоў 1-й пал. 20 ст. Паводле генплана 1976 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Л. Зайцава) прадугледжана развіццё пасёлка ўздоўж Зах. Дзвіны, буд-ва ў цэнтры 2—5-павярховых жылых дамоў, моста цераз Друйку, стварэнне адзінай сістэмы азелянення са спарт. зонай. Захаваліся помнікі архітэктуры: кляштар бернардзінцаў, драўляная капліца на могілках, сядзібны дом і парк, руіны цэркваў Благавешчанскай і Пятра і Паўла; у б. Прыдруйску — Успенскі касцёл і Нікольская царква.

*К. С. Шыдлоўскі, Л. Г. Зайцава.*



**Друя.** Выгляд з боку Заходняй Дзвіны.



Дрысвяцкая царква.



Дрысвяцкі Петрапаўлаўскі касцёл.

**ДРЫСВЯЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рус. стылю. Пабудавана ў 1908 на паўд. ускраіне в. Дрысвяты (Браслаўскі р-н). У плане мае традыцыйную падоўжаную па восі ўсход—захад 4-часткавую кампазіцыю: званіца, трапезная, 5-галовы асн. аб'ём, 5-гранная апсіда. Да званіцы прымыкае гал. ўваход з калонкамі-бочкамі, на якія апіраюцца паўкруглыя аркі. У мастацкім афармленні фасадаў важную ролю адыгрываюць пластычныя элементы дэкору, пазычаныя са старажытнарус. дойлідства. Ступеньчатая форма званіцы з паўкруглымі закамарамі, якімі завяршаецца верхні ярус, філёнгавыя пілястры асн. аб'ёму, актыўна прафіляваныя карнізы ствараюць цікавы архітэктурны вобраз. Каларыстычнае вырашэнне пабудовы заснавана на выкарыстанні неатынкаванай цаглянай муроўкі, як натуральнай каларыстычнай насычанасці, якая кантрастуе з пабеленымі дэталямі дэкору. Царква дзейнічае. *Г. А. Лаўрэцкі.*

**ДРЫСВЯЦКІ ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў 1929 (арх. Лявон Вітан-Дубейкаўскі) у в. Дрысвяты (Браслаўскі р-н). Мае рысы стылю мадэрн. Прамавугольны ў плане будынак з 5-граннай алтарнай апсідай, бабінцам і сакрысціямі накрыты дахам складанай формы. Гал. фасад вылучае высокая 5-ярусная вежа-званіца (1-ы і 2-і ярусы чацверыковыя, 3-і — васьмерыковы, 4-ы і 5-ы — цыліндрычныя, уваход афармляюць падчэні на 4 мураваных слупах. Сцены ашаляваны дошкамі, прарэзаны прамавугольнымі арачнымі і круглымі вокнамі. Інтэр'ер падзелены 8 слупамі на 3 нефы. Столь кесаніраваная, з арнаментальнай размалёўкай. Над бабінцам — хоры. Касцёл закрыты ў 1970-я гады. Помнік рэспубліканскага значэння.

**ДУБАЙСКАЯ ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 1811 па фундацыі памешчыцы Клацільды Куржанецкай у в. Дубае (Пінскі р-н). Мае цэнтрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Мураваны 8-гранны ў плане асн. аб'ём увянчаны купалам з дэкар. галоўкай. Прамавугольныя ў плане алтарная апсіда і бабінец з хорамі накрыты 2-схільнымі дахамі з франтонамі на тарцах. Сцены бакавых фасадаў завершаны невысокімі атыкамі. Гал. ўваход аздоблены дэкар. франтонам з сухарыкамі. Сцены прарэзаны паўцыркульнымі вокнамі з ажурнымі кратамі, завершаны прафіляваным карнізам з трыгліфным фрызам. Вуглы будынка апрацаваны рустам. Прафіляваныя цягі, карніз, фрыз, франтон і інш. элементы дэкору фасадаў афарбаваны ў белы колер. У інтэр'еры зберагліся фрагменты фрэсак 1885, выкананыя Зданевічам. Алтарная частка і асн. аб'ём размаляваны архіт. кампазіцыямі. У 1903—73 царква была зачынена, зараз дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Г. М. Ярмоленка.*

**ДУБНАЎСКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рус. стылю. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. ў в. Дубна (Мастоўскі р-н) з цэглы. Па аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі — цэнтральна-сіметрычны 4-стоўпны 5-купальны храм. Асн. кубападобны аб'ём накрыты 4-схільным дахам і завершаны цыбулепадобнымі купаламі. Асноўны аб'ём па вуглах фланкіруюць 4 вежы-званіцы. Дамінуючы элемент кампазіцыі — гал. светлавы барабан. Адметная рыса інтэр'ера — вузкая галерэя хораў, якая апяразвае ўсх., паўд. і паўн. сцены. Значна павышаная салея (узвышэнне падлогі перад іканастасам) у алтарнай частцы ўтварае 2 кліраса, злучаных з усх. парай вежаў-званіц. У пластыцы храма выкарыстаны рысы класіцызму (ордэрная сістэма, 3-вугольныя франтоны на ўсіх фасадах, парапеты і інш.) і старaж.-рус. дойлідства (кілепадобныя нішы, цыбулепадобныя купалы). Царква дзейнічае. *Г. А.Лаўрэцкі.*

**ДУБРОВЕНСКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры 1-й пал. 19 ст. Пабудавана ў г. Дуброўна. У архітэктуры выявіўся сінтэз традыцыйных прыёмаў



Дубайская царква Раства Багародзіцы.

мясцовага дойлідства і рыс класіцызму. Да прамавугольнага ў плане мураванага завершанага купалам 2-яруснага асн. аб'ёму (ніжні ярус квадратны ў плане, верхні — круглы на 4 слупах і падпружных арках) прылягаюць больш нізкія бабінец і алтарная апсіда. Да царквы прыбудавана 2-ярусная (ніжні ярус глухі, верхні з высокімі арачнымі праёмамі) чацверыковая званіца пад шатровым дахам. Сцены аздоблены сандрыкамі, дэкарыраваны руставанымі пілястрамі. Царква дзейнічае.

**ДУБРОВЕНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 16—18 стагоддзях у г. Дуброўна на беразе Дняпра. Неаднаразова перабудоўваўся. У 1-й пал. 18 ст. драўляны замкава-палацавы комплекс абкружаны вадзяным ровам, умацаваны земляным валам, на якім былі драўляныя абарончыя сцены. Завершаная гонтавым шатром 2-ярусная брама з мостам цераз роў злучала замак з горадам. У яе ніжнім ярусе па баках ад праезда размяшчаліся турма і кардэгарда, у верхнім — зала з галерэяй. У цэнтры замка стаялі стары і новы палацы, злучаныя дарожкай з брусоў з невял. мостам цераз сажалку (у цэнтры моста была відавая пляцоўка ў форме балкончыка, агароджанага ажурным парапетам з точанымі балясамі). Стары палац (пабудаваны ў 17 ст.) — 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты гонтавым дахам. Абапал размешчанай у яго цэнтры прыхожай групаваліся 4 жылыя пакоі і 2 алькежы. Фасад з боку Дняпра афармляла галерэя з балюстрадай. Новы палац (пабудаваны ў 1720-я гады — 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак, складаўся з цэнтр. часткі) з прыхожай на 1-м паверсе і вял. залай на 2-м, завершанай самастойным гонтавым дахам) і 2 бакавых крылаў (у правым — 4 жылыя пакоі і кабінет, у левым — сталовая і 2 жылыя пакоі). Быў накрыты складаным гонтавым дахам з 6 люкарнамі. Планіроўка анфіладная. У пакоях стаялі грубкі з белай і зялёнай паліванай кафлі. Вокны ў алавяных пераплётах. Комплекс не збярогся.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ДУБРОВЕНСКІЯ КАСЦЁЛЫ І КЛЯШТАРЫ БЕРНАРДЗІНЦАЎ.** 1) Драўляныя касцёл і кляштар у г. Дуброўна, пабудаваны ў 1630 у стылі барока. Касцёл — прамавугольны ў плане будынак, завершаны 2-схільным дахам. Гал. фасад фланкіравалі дзве 3-ярусныя чацверыковыя вежы з купальнымі завяршэннямі і 3-вугольным франтонам паміж імі. Да бакавога фасада касцёла прылягаў П-падобны ў плане 2-павярховы будынак кляштара (разам з касцёлам утвараў закрыты ўнутраны двор). Комплекс не збярогся. 2) У 1809 на іх месцы пабудаваны кляштар з касцёлам (не збярогся) бернардзінцаў. Кляштар — 2-павярховае мураванае збудаванне з узаемна перпендыкулярнымі аб'ёмамі, накрыты 2-схільнымі дахамі. Тарцы дахаў завяршаюцца 3-вугольнымі франтонамі з круглымі вокнамі ў цэнтры. Планіроўка галерэйна-калідорная, у месцы злучэння аб'ёмаў вітыя ўсходы. Фасады расчлянёны тонкімі пілястрамі, карнізамі, паяскамі. У архітэктуры кляштара выявіліся асобныя рысы стылю барока. У будынку размешчаны адм. ўстановы.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ДУБРОЎНА,** горад, цэнтр Дубровенскага р-на, на Дняпры, пры ўпадзенні ў яго рэк Задубровенка (Дубровенка) і Свінка. За 107 км ад Віцебска. Паводле археал. даследаванняў, у 12 ст. ў сутоках рэк Дняпро і Задубровенка на ўзгорку засн. паселішча (асталося гарадзішча). У пісьмовых крыніцах Д. вядома з пач. 16 ст. як горад Аршанскага пав. Віцебскага ваяводства Вял. кн. Літоўскага (велікакняжацкае ўладанне, потым прыватнаўласніцкі горад і маёнтак). З сярэдзіны 16 ст. належала бел. магнацкаму роду Глябовічаў, з 1669—Сапегам (у 1711—19 у закладзе ў А. Д. Меншыкава), з 1774—Р. А. Пацёмкіну, з 1783—кн. Ф. Любамірскаму. У 16—17 стагоддзях горад размяшчаўся на левым беразе Дняпра пры ўпадзенні ў яго Задубровенкі і Свінкі. У 16—18 стагоддзях існавалі на беразе Дняпра драўляныя *Дубровенскі замак* і сядзібны комплекс. Цэнтр. частка горада была ўмацавана астрогам, перыферыйныя часткі — валам з брамай. Цэнтрам горада была прамавугольная ў плане гандл. плошча, забудаваная крамамі і каморамі. Ад яе ў радыяльных напрамках разыходзіліся 7 вуліц (да Дняпра, Свінкі, Задубровенкі, гарадскога вала, астрога і вул. Кавальскай). Адна з вуліц злучала замак з р. Свінка, сядзібны комплекс быў звязаны 2 вуліцамі з берагам Дняпра і млынамі. У 1670-я гады ў Д. 15 вуліц і 2 завулкі, больш як 130 сядзіб. Існавалі царква Спаса (у 1750—4 праваслаўныя царквы), *Дубровенскія касцёлы і кляштары бернардзінцаў* (па вул. Аршанскай на ПдЗ, на ўзвышаным беразе р. Дубровенкі). У 2-й пал. 17 ст. створаны 2 пасады: за р. Задубровенка і на правым беразе Дняпра. Цэнтрам Задубровенскага пасада была гандл. плошча з Георгіеўскай царквой, ад яе адыходзілі 4 вуліцы (2 з іх уздоўж Дняпра). Былі таксама вуліцы Аршанская, Горная (адыходзіла ад Аршанскай) і Сярэдняя (вяла да Дняпра і старога горада). У 1731 у старым горадзе было 14 вуліц, больш за 170 двароў, у Задняпроўскім пасадзе — 5 вуліц і 80 двароў; у Задубровенскім — 2 вуліцы і 23 двары. З 1772 у складзе Расіі, у 1773—75 мястэчка, цэнтр павета Аршанскай правінцыі, з 1777 мястэчка Аршанскага, з 1861 — Горацкага пав. Магілёўскай губ. Заха-



Дубнаўская Мікалаеўская царква.



Дубровенская Пакроўская царква.

валася традыцыйная планіроўка, якая склалася гістарычна. Асн. тэрыторыя горада ўключала гандл. плошчу, 17 вуліц, 196 двароў, акрамя таго 6 двароў знаходзіліся ўздоўж замкавага, 83 двары — каля гарадскога валоў (1775). Задняпроўская частка мела 2 вуліцы з 79 дварамі, каля яе забудоўвалася слабада з 24 дварамі. Задубровенская частка мела 35 двароў, вуліцы невялікія, шчыльна забудаваныя, цераз Дняпро быў паромны перавоз. У пач. 19 ст. ва ўсх. частцы горада па вул. Чырвонаслабодскай пабудавана *Дубровенская Пакроўская царква.* У 1846—3441 жыхар, у 1867—4522 жыхары, у 1909—9469 жыхароў, 869 дамоў (з іх 10 мураваных, астатнія драўляныя), 5 млыноў. З 1924 цэнтр раёна. З 3.7.1925 горад, у 1962—65 у Аршанскім р-не.

Рэльеф сучаснай Д. ўзгоркавы, Дняпро падзяляе тэр. горада на паўн. (Задняпроўскую, меншую частку; пераважае індывідуальная забудова сядзібнага тыпу з некалькімі кварталамі рэгулярнай планіроўкі) і паўд. часткі. На У горад абмяжоўвае р. Свінка з прытокам, на ПдЗ — р. Задубровенка. Радыяльна-кальцавая сетка вуліц у цэнтры і радыяльна-веерная на перыферыі склалася ў 17—18 стагоддзях. На месцы старога цэнтра (б. гандл. плошча і частка вул. Камсамольскай) сфарміраваўся новы адм. і грамадскі цэнтр. Пераважае індывідуальная забудова сядзібнага тыпу, 2—3-павярховыя жылыя дамы ўзведзены на вуліцах Камсамольскай, Кандрацьева, Г. Нікандравай і інш. Прамысл. зона размешчана на Пн і У. Зона адпачынку — на ПдЗ уздоўж р. Задубровенка. Паводле генплана 1973 (Віцебскі філіял ін-та «Белдзяржпраект» прадугледжана функцыянальнае заніраванне тэрыторыі, стварэнне зоны адпачынку ва ўрочышчы Лугаўцы. У 1985 распрацаваны новы генплан горада (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Якаўлеў).

*Ю. А. Якімовіч, І. С. Мельнік.*

**ДУБЯНЕЦКАЯ ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1718 у в. Дубянец (Столінскі р-н). Адносіцца да ўсходнепалескай школы дойлідства (гл. ў арт. *Палескія школы дойлідства*). Мае рысы стылю барока. У 19 ст. да бабінца прыбудавана званіца (васьмярык на 2 чацверыках), завершаная шатром складанай формы. Трохзрубны аб'ём глыбінна-прасторавай кампазіцыі складаецца з прамавугольнага бабінца і квадратных у плане нефа і алтара з рызніцай. Неф завершаны масіўным светлавым васьмерыковым барабанам, накрытым шматгранным купалам, дахі над алтаром, рызніцай і бабінцам вальмавыя. Сцены гарызантальна ашаляваны, вокны прамавугольныя і з 3-гранным завяршэннем. У інтэр'еры ветразі барабана аздоблены размалёўкай. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ДУДАЎСКІ КАСЦЁЛ МАРЫІ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў 1772 у цэнтры в. Дуды (Іўеўскі р-н). Аднанефавы 2-вежавы храм з 5-граннай апсідай, да якой прыбудаваны сакрысціі. Вежы выступаюць за межы сцен асн. аб'ёму, паміж імі бабінец. Касцёл накрыты 2-схільным дахам, які над апсідай пераходзіць у вальмавы. Вежы маюць высокія шатровыя дахі з 3-вугольнымі франтонамі. Першапачаткова дахі на вежах былі ламанымі. Сцены касцёла вертыкальна ашаляваны дошкамі з вузкімі нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя. Інтэр'ер зальнага тыпу. Асн. памяшканне і апсіда маюць аднолькавую вышыню і перакрыты корабавым скляпеннем. Хор над бабінцам выступае ў асн. памяшканне, яго агароджа зроблена з точаных балясін. Таксама балясінамі аздоблены вузкія шчыліны, якімі адкрываюцца ў бок асн. памяшкання храма ніжні і другі ярусы вежаў. Сцены ў інтэр'еры ашаляваны гарызантальна. Столь пакрыта размалёўкай, у якой выкарыстаны геаметрычныя і раслінныя матывы. Цэнтр. алтар 2-ярусны, з калонамі карынфскага ордэра, багата аздоблены разьбой і пазалотай. Кампазіцыя і дэкор бакавых алтароў таксама маюць барочны характар і блізкія цэнтр. алтару. Амбон драўляны, аздоблены пазалочанай разьбой. Асоб-



Дудаўскі касцёл Марыі.



Дубянецкая Прачысценская царква.

на ў куце двара стаіць 2-ярусная званіца, накрытая шатровым дахам. Сцены маюць рубленую канструкцыю. Касцёл дзейнічае.

*С. А. Сергачоў.*

**ДУДЗІЦКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 1-й пал. 19 ст. з дрэва ў в. Дудзічы (Чачэрскі р-н). Царква трохзрубная, складаецца з квадратнага ў плане двух'яруснага асн. аб'ёму, бабінца і пяціграннага алтарнага зруба. Сцены завершаны суцэльным поясам антаблемента. Над асн. аб'ёмам васьміграння купал з макаўкай, над бабінцам двух'ярусная званіца (васьмярык на чацверыку). Сцены будынка гарызантальна ашаляваны, вуглы дэкарыраваны дашчанымі накладкамі, якія імітуюць мураваны руст, шэраг вертыкальных дошчачак на фрызе ствараюць трыгліфы. Прамавугольныя вокны ў спрошчаных ліштвах з філёнгамі над імі. Інтэр'ер царквы зальны. Асн. памяшканне перакрыта васьмігранным скляпеннем. Столь бабінца і алтарнай часткі плоская. Царква дзейнічае.



Дудзіцкая Мікалаеўская царква.

*У. В. Алісейчык.*

**ДУКОРСКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 19 — пач. 20 ст. Створана на паўн. ускраіне в. Дукора (Пухавіцкі р-н) у стылі класіцызму. Належала Оштарпам, з 1874 — Гартынгам. У комплекс уваходзілі палац, касцёл, гасп. пабудовы, парк. Палац збудаваны ў 19 ст. Л. Оштарпам. Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак. Паверхі падзяляў карнізны пояс, сцены завяршаў развіты антаблемент. Прамавугольныя вокны абрамлены ліштвамі. Гал. фасад аформлены манум. 4-калонным порцікам на вышыню абодвух паверхаў з 3-вугольным франтонам у завяршэнні і прасторным балконам у 2-м паверсе. Да абодвух тарцоў палаца прыбудаваны 1-павярховыя прамавугольныя ў плане аранжарэі з шырокімі аконнымі праёмамі. Усе аб'ёмы накрыты 2-схільнымі дахамі. У палацы было шмат жылых і парадных пакояў, б-ка на некалькі тысяч тамоў, архіў і інш. памяшканні. Мелася вял. калекцыя твораў выяўленчага і дэкар.-прыкладнога мастацтва (у т. л. карціны Ф. Смуглевіча, Я. Дамеля). Л. Оштарп трымаў аркестр. Каля палаца існаваў касцёл 18 ст. У 1918 палац перабудоўваўся пад школу. Зруйнаваны ў гады Вял. Айч. вайны. Засталіся флігель, уязная брама, фрагменты парку. Флігель — амаль квадратны ў плане 2-павярховы мураваны будынак, завершаны нізкім 4-схільным пакрыццём. Падзелены на 2 ярусы (ніжні аздоблены гарызантальнай рустыкай, верхні гладкі з руставанымі лапаткамі па вуглах. Планіроўка анфіладная. У будынку размешчаны школьны музей. Брама — мураванае 2-яруснае вежападобнае збудаванне. Ніжні ярус, у якім абапал праезда знаходзіцца вартоўня, мае круглыя вокны і арачныя парталы. Верхні асн. ярус — квадратная ў плане вежа, пастаўленая на ніжні чацвярык і завершаная 4-франтонным дахам са шпілем. Мае рысы несапраўднай готыкі і класіцызму. У верхняй частцы знаходзіўся гадзіннік. Парк пейзажнага тыпу ўключае гал. алею, ручай, курціны з таполяў, ліп, піхтаў і лістоўніц. У парку захаваліся гасп. пабудовы: лядоўня, свіран, бровар, стайні.



Дукорская сядзіба. Палац. З малюнка Н. Орды. 19 ст.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ДУНІЛАВІЦКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга барока. Заснаваны ў 1683 па фундацыі Елізаветы Белазор. Да 1766 існаваў драўляны касцёл. Мураваны ўзведзены ў канцы 1769—73 у в. Дунілавічы (Пастаўскі р-н) пры 2-павярховым кляштары дамініканцаў (не збярогся). У 1866 перададзены пад праваслаўную царкву (з 1919 зноў касцёл). Мураваная 3-нефавая 2-вежавая базіліка. Трансепт і прамавугольны ў плане прэсбітэрый маюць аднолькавую вышыню з цэнтр. нефам і накрыты 2-схільнымі ўзаемна перпендыкулярнымі дахамі з фігурнымі атыкавымі франтонамі на тарцах. Роўныя па вышыні сакрысціі і бакавыя нефы накрыты аднасхільнымі дахамі. Тарцы крылаў трансепта маюць лучковы абрыс. Гал. фасад падзелены развітым антаблементам на ніжнюю статычную частку і 2 чацверыковыя са скошанымі вугламі 2-ярусныя вежы, накрыты купаламі з галоўкамі. У аздабленні фасадаў выкарыстаны плоскія пілястры (на галоўным — падвойныя ўвагнутыя), прафіляваныя цягі, раскрапоўкі, валюты і інш. Аконныя праёмы і плоскія нішы маюць лучковыя завяршэнні. Уваход вылучаны прамавугольным парталам (перабудаваны ў 19 ст. ў стылі класіцызму). У інтэр'еры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках, бакавыя — крыжовымі. Скляпенні аздоблены фрэскавай размалёўкай у выглядзе расліннага арнаменту і картушаў. Частка прэсбітэрыя вылучана 2-яруснай ступеньчатай алтарнай перагародкай. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.



Дунілавіцкі Троіцкі касцёл.

*Т. В. Габрусь.*

**«ДЫНАМА»,** спартыўны комплекс усесаюзнага фізкультурна-спарт. таварыства ў Мінску. Пабудаваны ў 1978 (1-я чарга, арх. С. Філімонаў) на беразе Камсамольскага воз.



Спартыўны комплекс «Дынама» ў Мінску.



Стадыён «Дынама» ў Мінску.

Складаецца з лёгкаатлетычнага манежа, 2 зблакіраваных спарт. залаў (для гімнастыкі і фехтавання) і блока дапаможных і тэхн. памяшканняў, спарт. пляцовак. Манеж — прамавугольны ў плане (34×124 м) будынак з чатырохрадовай кругавой 200-метровай і 2-радовай прамой 100-метровай бегавымі дарожкамі са спец. спартанавым пакрыццём і аднабаковымі трыбунамі на 400 месцаў. Спарт. залы прамавугольныя ў плане (24×42 м кожная). Агульны аб'ём збудавання 80 тыс. м$^3$. Архітэктура будынкаў вылучаецца строгімі лаканічнымі лініямі і формамі. Вял. зашклёныя плоскасці кантрастуюць з глухімі бетоннымі часткамі фасадаў. З пабудовай у бліжэйшай перспектыве скачковага і плавальнага басейнаў, спецыялізаваных спарт. залаў па асобных відах спорту, медыка-аднаўленчага цэнтра і інш. дапаможных збудаванняў (2-я чарга) спарт. комплекс будзе ўяўляць сабою цэласны архіт. ансамбль у складзе водна-зялёнага дыяметра Мінска. *С. Дз. Філімонаў.*

**«ДЫНАМА»**, стадыён у Мінску. Адкрыты ў 1934, рэканструяваны ў 1939. Асн. збудаванні ў час Айч. вайны разбураны. Новы стадыён пабудаваны ў 1947—54 (арх. М. Колі, М. Парус👈нікаў і інш.). Спачатку гэта была футбольная арэна з 8 бегавымі дарожкамі, сектарамі для скачкоў, кідання молата, кап'я, дыска і штурхання ядра і аднабаковымі трыбунамі. Плошча разам з паркавай часткай 12 га. Потым зроблены кальцавыя трыбуны на 35 тыс. месцаў, на тэр. парку — пляцоўкі ўсесаюзнага фізкультурна-спарт. таварыства «Спартак» з комплексам дапаможных памяшканняў. Рэканструяваны ў 1978—80 (арх. С. Баткоўскі, М. Гаўхфельд, Л. Гельфанд, Ю. Спясіўцаў) да Алімпійскіх гульняў 1980 для спаборніцтваў па футболе. Дабудавана зах. трыбуна, павялічана колькасць месцаў на трыбунах (больш за 50 тыс.). Вакол футбольнага поля — 8 бегавых дарожак. Пляцоўкі валейбольныя, баскетбольныя, для гульні ў гарадкі, тэнісныя корты, сектары для скачкоў і кіданняў. Пад трыбунамі залы для лёгкай атлетыкі, барацьбы, бокса, а таксама лёгкаатлетычны цэнтр са спец. трэнажорнымі ўстаноўкамі. Узведзены асобны будынак для стралковага ціра. У архітэктуры комплексу спалучаюцца сучасныя дынамічныя формы зах. тырбун з аркадамі ўсх., паўн., паўд. трыбун 1950-х гадоў і аркай гал. ўвахода, вырашаных у класічных формах. Па восі ўвахода на тэр. стадыёна з боку вул. Ульянаўскай размешчана дэкар. скульптура «Бег» (1980, скульпт. В. Занковіч). Новы сілуэт у гарадской забудове надаюць комплексу 4 асвятляльныя мачты, размешчаныя звонку па перыметры трыбуны. На стадыёне праводзяцца рэспубліканскія і міжнародныя спаборніцтвы.

*А. А. Воінаў, С. Дз. Філімонаў.*

# Е

**ЕЗЯРЫШЧА,** гарадскі пасёлак у Гарадоцкім р-не, на беразе воз. Езярышча. За 41 км ад Гарадка, 80 км ад Віцебска. Вядома з 1377, цэнтр воласці. Уваходзіла ў склад Вял. кн. Літоўскага (прыватнае ўладанне). З 1580 належала Грахольскім, Сакалінскім, Агінскім, Панятоўскім, Салагубам. З 1772 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Гарадоцкага пав. У пач. 19 ст. ва ўладанні бел. генерал-губернатара герцага Вюртэмбергскага. У 1924—29 і 1958—62 цэнтр раёна. З 1929 у Гарадоцкім, з 1935 у Мехаўскім р-нах. З 4.10.1957 гарадскі пасёлак, з 1962 у Гарадоцкім р-не. Аўтадарога Віцебск — Невель (у межах гарадскога пасёлка гал. вул. Ленінская) падзяляе Е. на зах. і ўсх. часткі. Грамадскі цэнтр сфарміраваўся на стыку вул. Леніна і Анціпава (б. Водаправодная). У паўн. часткі пасёлка жылая забудова пераважна 1-павярховая, сядзібнага тыпу. Прамысл. зона размешчана на Пн і Пд, зона адпачынку — на беразе возера.

На востраве воз. Езярышча, за 3 км на У ад Е., знаходзіцца замчышча, дзе ў 14—18 стагоддзях існаваў *Езярышчанскі замак* (захаваліся рэшткі). Пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Т. Станішэўская).

*Т. П. Станішэўская.*

**ЕЗЯРЫШЧАНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—18 стагоддзях як парубежны замак Віцебскага ваяводства. Засн. ў 14 ст. на зах. баку вострава на воз. Езярышча (Гарадоцкі р-н). У плане няправільны чатырохвугольнік, меў дрэваземляныя ўмацаванні па перыметры даўж. 550 м. З паўн. і ўсх. бакоў быў абкружаны вадзяным ровам, з паўд. і зах. бакоў — возерам і высокімі стромымі адхонамі пагорка. Замак не раз разбураны і адноўлены. У сярэдзіне 16 ст. нанава адбудаваны, аднак у 1564 спалены рус. войскамі. Пазней адноўлены, зноў згарэў у час пажару ў пач. 17 ст. Як важны парубежны пункт адноўлены ў 1616. Па замкавых валах былі насыпаны земляныя бастыёны, пабудаваны вежы і драўляныя сцены. Існавалі вежы-брамы (адна з іх называлася Вадзяная). Для раптоўных і патаемных вылазак былі спец. падлазы.

*М. А. Ткачоў.*

**ЕЛЬСК,** горад, цэнтр Ельскага р-на. За 177 км ад Гомеля. Чыг. станцыя на лініі Калінкавічы — Оўруч. Вядомы з 16 ст. ў Мазырскім пав. Вял. кн. Літоўскага, меў таксама назву К а р а л і н. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка Міхалкаўскай воласці Мазырскага пав. З ліпеня 1924 цэнтр Каралінскага, з лютага 1931 Ельскага р-наў. З 27.9.1938 гарадскі пасёлак. З 5.7.1971 горад раённага падпарадкавання. Сетка вуліц прамавугольная. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Ленінская (гал. кампазіцыйная вось, на ёй размешчаны культ.-асветныя ўстановы), Гагарына (пры ўездзе ў горад з У забудоўваецца мікрараён з 3—5-павярховымі жылымі дамамі; размешчаны сквер), Дзяржынскага (з адм. ўстановамі). На вул. Ленінскай утвораны грамадскі цэнтр — пл. Леніна. Збярогся помнік драўлянага дойлідства — *Ельская Троіцкая царква.* Паводле генплана 1979 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё горада на Пд і ПдУ, заніраванне грамадскага цэнтра, стварэнне паўн., зах., паўд.-зах. і ўсх. прамысл. вузлоў, зоны адпачынку са спарт. комплексам у цэнтр. частцы горада.

*В. М. Кашырын.*



Ельская Троіцкая царква.

**ЕЛЬСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1769—80 у г. Ельск (вул. Ленінская, 3). Мае рысы стылю класіцызму. У 1870—71 да бабінца прыбудавана званіца (васьмярык на 2 чацверыках), завершаная высокім шатром. 5-зрубны крыжова-купальны храм. Цэнтр. 8-гранны зруб (даўж. 23 м, шыр. 14 м, выш. 11,8 м) завершаны масіўным светлавым васьмерыком з купальным пакрыццём. Прамавугольны бабінец, гранёныя алтарныя і бакавыя зрубы накрыты пакатымі 2-схільнымі дахамі з вальмамі на тарцах. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і прарэзаны вокнамі з паўцыркульнымі завяршэннямі. У інтэр'еры дамінуе цэнтр. 2-светлавое памяшканне. Над бабінцамі хоры. У 1939—41 царква была зачынена, зараз дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

# Ж

**ЖАБЕРСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 17 — пач. 18 ст. За 3 км на ПнЗ ад в. Жабер (Драгічынскі р-н), на правым беразе р. Ясельда. Належаў кн. Вішнявецкім. Прамавугольнае ў плане ўмацаванне абкружана з трох бакоў вадзяным ровам (шыр. да 20 м, глыбіня 5 м), з захаду — ракой. Быў умацаваны высокім земляным валам з бастыёнамі на вуглах (пл. каля 1,5 га) і дубовым частаколам. З наваколлем злучаўся брамай і мостам. Замак разбураны ў час Паўночнай вайны 1700—21. Збярогся фундамент брамы. *М. А. Ткачоў.*

**ЖАБІНКА,** горад, цэнтр Жабінкаўскага р-на, пры ўпадзенні р. Жабінка ў Мухавец. За 30 км ад Брэста. Чыг. вузел (напрамкі на Брэст, Лунінец, Баранавічы). Узнікла ў канцы 19 ст. як станцыя на скрыжаванні Маскоўска-Брэсцкай і Палескіх чыгунак. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, вёска ў Кобрынскім пав. З 1939 у складзе БССР, з 15.1.1940 цэнтр раёна. У 1959—62 у Камянецкім, у 1962—66 у Кобрынскім р-нах.

З 23.12.1970 горад. Развіваецца ўздоўж чыгункі, якая падзяляе горад на 2 часткі: паўднёвую (жылую) і паўночную (прамысловую). Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Кірава (з З да яе прымыкае новы мікрараён), Свабоды, Шашэйная (забудоўваюцца 3—5-павярховымі жылымі дамамі), Піянерская, Камсамольская, якія разам з інш. вуліцамі ўтвараюць невял. кварталы. Вось кампазіцыі — вул. Кірава (з З на У), у цэнтр. частцы якой размешчаны грамадскія, культ.-асветныя і гандл. ўстановы. Да цэнтра прымыкае парк. Збярогся помнік культавай архітэктуры канца 19 ст.— Пакроўская царква (мае выразныя рысы неакласіцызму). Горад забудоўваецца паводле генплана 1978 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*Л. С. Патапаў.*



**Жалудок.** Касцёл Ушэсця. 1854. З малюнка Н. Орды.

**ЖАЛУДОК,** гарадскі пасёлак у Шчучынскім р-не. За 22 км ад Шчучына, 90 км ад Гродна. Вядомы з 1529 як вялікакняжацкае ўладанне. Уваходзіў у склад Вял. кн. Літоўскага. З 1530-х гадоў належаў прыватным асобам. З 1795 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Лідскага пав. У 1921—39 у складзе буржуазнай Польшчы, мястэчка Лідскага пав. З 1939 у складзе БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Баранавіцкай, з 1944 Гродзенскай абласцей. З 1962 у Шчучынскім р-не. Кампазіцыйнае ядро — плошча ў цэнтры Ж., дзе сфарміраваўся грамадскі цэнтр, разбіты сквер. Ад плошчы ў радыяльных напрамках адыходзяць 6 вуліц, у т. л. галоўныя — Чырвонаармейская, Кастрычніцкая, Камуністычная (ёсць 3-павярховыя будынкі), забудаваныя 1—2-павярховымі жылымі дамамі. Пераважае 1-павярховая жылая забудова сядзібнага тыпу. У паўд. частцы ўзведзены квартал (вул. Чырвонапартызанская пры ўездзе са Шчучына) 2-павярховай жылой забудовы з дзіцячым садам. Зберагліся помнікі архітэктуры 19— пач. 20 ст.— *Жалудоцкі касцёл Ушэсця,* палац і парк *Жалудоцкай сядзібы.* Пасёлак забудоўваецца паводле генпланаў 1973 (Гродзенскі філіял ін-та «Белдзяржпраект») і 1989 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Ю. Градаў, С. Смірнова, У. Бусілевіч).

*М. П. Каравайскі.*

**ЖАЛУДОЦКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры пач. 20 ст. Створана кн. Л. Святаполк-Чацвярцінскім за 1 км на зах. ад г. п. Жалудок (Шчучынскі р-н). Уключае мураваны палац, флігель, млын, якія аб'яднаны сеткаю ўзаемна перпендыкулярных алей рэгулярнага парку. Палац пабудаваны ў 1908 у стылі неабарока паводле праекта арх. У. Марконі. Манументальны 2-павярховы будынак накрыты мансардавым дахам з авальнымі люкарнамі. Гал. і дваровы франтальныя фасады вылучаны ў цэнтры акруглымі і па баках прамавугольнымі рызалітамі, накрытымі самастойнымі шатровымі дахамі з заломамі. Дваровы цэнтр. рызаліт прарэзаны высокімі парабалічнымі аконнымі праёмамі-вітражамі і авальнымі люкарнамі, якія асвятляюць парадную лесвіцу. Рызаліт завершаны балюстрадай і скульптурна-геральдычнай кампазіцыяй з дэкар. вазамі. Паміж дваровымі рызалітамі па фронту фасада тэраса з балюстраднай агароджай і цыркульнымі сходамі. Гал. ўваход вы-



Жалудоцкі касцёл Ушэсця.

лучаны балконам. У дэкоры фасадаў выкарыстаны высокія панелі, фігурныя і спрошчаныя ліштвы, сандрыкі, картушы, гірлянды, рустоўка. У цэнтры будынка размешчана парадная зала, вестыбюль з лесвіцай. Пад будынкам скляпеністыя падвалы. Ф л і г е л ь вырашаны ў стылі неаготыкі — 1-павярховы, прамавугольны ў плане аб'ём з круглай у сячэнні шатровай вежай, прыбудаванай да тарцовага фасада. Сцены з бутавага каменю, члянёны стральчатымі аконнымі праёмамі. Гал. ўваход вырашаны ў выглядзе гатычнага партала. Комплекс належыць ваеннаму ведамству. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ЖАЛУДОЦКІ КАСЦЁЛ УШЭСЦЯ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны з бутавага каменю і цэглы ў 1854 у г. п. Жалудок (Шчучынскі р-н). Храм прамавугольны ў плане, накрыты 2-схільным дахам з трохвугольным франтонам на гал. фасадзе, увенчаны скульптурнымі кампазіцыямі. Сцены завершаны развітым антаблементам. Да асн. аб'ёму далучаны паўкруглая апсіда з сакрысціямі па баках і крылы трансепта. Уваход аформлены масіўным 4-калонным порцікам, да якога вядзе шырокая лесвіца. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны шырокімі пілястрамі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Дэкаратыўныя дэталі на фасадах атынкаваны і кантрастуюць з адкрытай муроўкай сцен. Інтэр'ер зальны. Касцёл дзейнічае.

*Т. В. Габрусь.*



Пасёлак **Жамчужны.** Фрагмент забудовы.

**ЖАМЧУЖНЫ,** пасёлак у Баранавіцкім р-не. За 8 км на З ад Баранавіч. Узнік як жылая зона 2 буйнейшых у рэспубліцы с.-г. прадпрыемстваў — птушкафабрыкі «Дружба» і свінагадоўчага комплексу «Усходняе». Забудоўваецца паводле генплана 1979 (БелНДІдзіпрасельбуд, карэкціроўка 1982) і праекта забудовы жылой зоны комплексу «Усходняе» (1980, «Белкалгаспраект»). Пасёлак вызначаецца кампактнасцю забудовы, высокім узроўнем добраўпарадкаванасці (азеляненне, ізаляванасць жылой зоны ад гаспадарчай, забяспечанасць усімі відамі інжынернага абсталявання). Адна з асн. кампазіцыйных восей — праспект Будаўнікоў — перасякае пасёлак з Пн на Пд. На З ад яго ідуць 6 вуліц (Грыцаўца і інш.). Жылая зона складаецца з раёна малапавярховай секцыйнай (3—4-павярховыя шматкватэрныя дамы) і сядзібнай забудовы (2-павярховыя 1—2-кватэрныя жылыя дамы з керамзітабетонных панелей, дамы з маналітнага керамзітабетону, мансардавыя 1-кватэрныя дамы драўляна-панельнай канструкцыі, 3 тыпы дамоў з цэглы). У раёне 3—4-павярховай забудовы, пры ўездзе ў пасёлак, фарміруецца грамадскі цэнтр. Удалае спалучэнне кантрастных колераў у афарбоўцы дамоў (чырвоны і белы дамоў з цэглы, зялёны і тэракотавы — панельных, жоўты і чорны — драўляных) стварае выразны сілуэт забудовы. Шырока выкарыстаны тэрасы, веранды, лоджыі, малыя архіт. формы, групы дэкар. дрэў. У буд-ве ўжываюцца прагрэсіўныя індустрыяльна-паточныя метады. Акрамя зборных жылых дамоў, у зоне сядзібнай забудовы ўпершыню ў рэспубліцы выкарыстаны зборныя гасп. пабудовы, якія разам з гасп. праездамі вылучаны ў асобныя комплексы, размешчаныя непадалёку ад кожнага дома. Вуліцы з бульварамі і малымі архіт. формамі з'яўляюцца адначасова і зонамі адпачынку, кожная з іх адметная сваім аб'ёмна-прасторавым і каляровым вырашэннем. Вытв. зона размешчана на ПнЗ і З ад пасёлка. Зона адпачынку — сквер са стадыёнам і спарт. пляцоўкамі побач з грамадскім цэнтрам, сквер з малымі архіт. формамі, які прымыкае да ляснога масіву. Плануецца развіццё пасёлка на У, далейшае расшырэнне грамадскага цэнтра.

*І. І. Некрашэвіч.*



**Жамыслаўская сядзіба.** З малюнка Н. Орды.

**ЖАМЫСЛАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры 18—19 стагоддзяў. Створана ў в. Жамыслаўль (Іўеўскі р-н) на левым беразе р. Гаўя. Фарміраванне сядзібы пачалося з 2-й пал. 18 ст. З 1805 маёмасць роду Умястоўскіх. У 1828 К. Умястоўскі па баках набытага 1-павярховага драўлянага сядзібнага дома, збудаванага ў стылі барока, ставіць 2 мураваныя афіцыны з калоннымі порцікамі ў стылі класіцызму (захаваўся адзін), лядоўню, аранжарэю і манеж. Яго жонка пабудавала палац (да 1877), які існуе і цяпер. У канцы 19 ст. ўладальнік Ул. Умястоўскі аддае сядзібу пад навуковую базу Віленскаму універсітэту. У час 1-й сусветнай вайны (1914) у сядзібе немцы стварылі курорт. Захаваліся палац, гасп. пабудовы, вінакурня (1885), парк. Зараз у сядзібе размешчаны культ. і адм. цэнтр саўгаса «Жамыслаўскі». Планіровачнае ядро ансамбля — мураваны палац і 2 сіметрычна пастаўленыя флігелі, якія ўтвараюць парадны партэр з круглым газонам. Цэнтр. алею перад палацам замыкае мураваная альтанка са скульптурай Маткі Боскай (1883). Палац пабудаваны па аналогіі з варшаўскай каралеўскай рэзідэнцы-

яй 18 ст. «Лазенкі», верагодна, паводле праекта архітэктара Л. Маркові. Т-падобны ў плане 2-павярховы будынак строга сіметрычнай кампазіцыі завершаны масіўным кубічным бельведэрам з шырокімі арачнымі вітражамі. У цэнтры гал. фасада лоджыя з каланадай і бакавымі антамі, у цэнтры двароваго — 4-калонны порцік з 3-вугольным франтонам і трыгліфным фрызам. Па баках лоджыі гал. фасада прамавугольныя ўваходныя праёмы з балконамі над імі. З тарцовых бакоў выступаюць нізкія прыбудовы з адкрытымі тэрасамі. У вырашэнні фасадаў выкарыстаны карынфскі ордэр, канеліраваныя пілястры якога крапуюць прасценкі прамавугольных аконных праёмаў у прафіляваных ліштвах. Аб'ём апяразаны балюстрадамі. Планіроўка анфіладна-калідорная з квадратнай залай у цэнтры, у якой захавалася кафельная печ 18 ст. Інтэр'еры мелі паркетную падлогу, мармуровыя каміны, сценавыя панелі. Палац быў абстаўлены мэбляй, створанай мясцовымі майстрамі. Пад будынкам скляпеністыя падвалы. З гасп. пабудоў захаваліся мураваныя склеп, стайня, млын, свіран (пабудаваны ў пач. 19 ст. ў традыцыях народнага дойлідства) — 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з арачнай галерэяй на гал. фасадзе, накрыты 2-схільным дахам. Парк пейзажнага тыпу (пл. каля 7 га) высаджаны ў 1883 французскім садоўнікам Джэймсам, запрошаным з маёнтка Тышкевічаў у Верках з-пад Вільна. Падзелены ракой на 2 часткі: рэгулярна-парадную вакол палаца і пейзажную на зарэчным баку. Растуць ліпа звычайная, кедр сібірскі, клён вастралісты Шведлера, бяроза далекарлійская, ясень пенсільванскі і інш. *А. М. Кулагін.*



**Жамыслаўская сядзіба.** Галоўны фасад палаца.

**ЖЛОБІН,** горад, цэнтр Жлобінскага р-на, прыстань на Дняпры. За 93 км ад Гомеля. Вядомы з 1492 як невял. паселішча ў Вял. кн. Літоўскім, належала Хадкевічам. З 1566 у Рэчыцкім пав. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка Рагачоўскага пав. У 1897 было 2100 жыхароў. У канцы 19 ст. праз Ж. пракладзена Лібава-Роменская чыгунка, у 1902 чыгунка Пецярбург — Адэса. З 17.7.1924 цэнтр раёна. У 1939 19,3 тыс. жыхароў. З 7.3.1963 горад абл. падпарадкавання. Горад падзелены чыгункай Мінск — Гомель на паўн. (цэнтральную) і паўд. часткі. Гал. вось — вул. Першамайская (з З на У, забудавана 3—5-павярховымі жылымі дамамі, грамадскімі будынкамі). Адм.-грамадскі і культ.-гандл. цэнтр горада знаходзіцца на Прывакзальнай пл. У паўн. частцы горада ствараюцца 2 мікрараёны (вуліцы К. Маркса з гандлёвым цэнтрам, Міжнародная, Вайкова), забудоўваюцца 5—9-павярховымі жылымі дамамі. Прамысл. зона размешчана на Пн і Пд. Узор сучаснай прамысл. архітэктуры — Жлобінскага перапрацоўчага металургічнага завода будынкі. Зона адпачынку знаходзіцца на беразе ракі з прыбярэжным паркам па вул. Савецкай. Горад забудоўваецца паводле генпланаў 1974 і 1988 (абодвух БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. С. Смірнова).

*Л. С. Патапаў, С. Л. Смірнова.*

**ЖОДЗІНА,** горад у Мінскай вобл., на р. Пліса. За 55 км ад Мінска.



**Жодзіна.** Праспект Міру.

Вядомы ў Вял. кн. Літоўскім з 17 ст. як в. Жодзіна Слабада ў Мінскім ваяводстве на р. Паджодзінка. Належала Радзівілам. З 1793 у складзе Расіі, сяло Смалявіцкай воласці Барысаўскага пав. З пракладкай Маскоўска-Брэсцкай чыгункі (1871) — чыг. станцыя. У 1886 у Ж. 48 двароў, 470 жыхароў. З 1924 цэнтр сельсавета Смалявіцкага р-на. З буд-вам Смалявіцкай ДРЭС (1951) побач з Ж. выраслі 2 пасёлкі — ДРЭС і з-да дарожных і меліярацыйных машын (з 1958 на базе яго створаны Бел. аўтазавод). Пазней у суседніх вёсках Зарэчча і Крушынікі размясціліся ін-ты Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР. 21.1.1958 пасёлкі і вёскі аб'яднаны з Ж. ў гар. пасёлак. У 1962—65 у Барысаўскім р-не, з 7.3.1963 горад абл. падпарадкавання. Сучасны горад складаецца з 3 асобных раёнаў, расчлянёных чыгункай і аўтамагістраллю Мінск — Масква: раён БелАЗа (на З, размешчаны асн. вуліцы горада — праспекты Леніна і Міру, вуліцы 40 гадоў Кастрычніка і 50 гадоў Кастрычніка, забудаваны 5—9-павярховымі жылымі дамамі), які ўключае мікрараёны Бел. НДІ земляробства, забудаваныя 3—5-павярховымі жылымі дамамі; Зарэчча (на У, складаецца з мікрараёнаў Жодзінскай ЦЭЦ, БелНДІ жывёла-

адоўлі, конезавода «Зарэчча», забудаваных 2—4- і 5—9-паверховымі жылымі дамамі, і індывідуальнай жылой забудовы па вул. Маскоўскай); Судабаўка (на Пд, пераважае 1—2-павярховая забудова сядзібнага тыпу). На перасячэнні праспекта Леніна і вул. 50 гадоў Кастрычніка фарміруецца плошча — грамадскі цэнтр горада з адм. будынкамі. Прамысл. зона размешчана на Пд і З. Зона адпачынку ствараецца ў паўн. лесапарку і на Пліскім вадасховішчы (на Пд). Загарадная зона адпачынку знаходзіцца на р. Бярэзіна. Горад забудоўваецца паводле генплана 1961 (ін-т «Белдзяржпраект», арх. Э. Дзямідаў) і яго карэкціроўкі 1983 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Л. Зайцава), генплана 1988 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*Л. Г. Зайцава.*

**ЖОДЗІШКАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры. Створана на працягу 18—19 стагоддзяў у в. Жодзішкі (Смаргонскі р-н), на правым стромым беразе р. Вілія. Пад сядзібны дом прыстасаваны буйнамаштабны будынак б. езуіцкага калегіума, пабудаванага ў 1757—66 у стылі барока ў маёнтку Міцкевічаў (падорана ордэну ў 1708). Архітэктар — прафесар Віленскай акадэміі Т. Жаброўскі. З канца 18 ст. частка калегіума была ператворана ў палац, у розны час належала Патоцкім, Ласкарысам, Мішашэўскім. Прамавугольны ў плане 2-павярховы мураваны будынак (таўшчыня сцен каля 1 м) накрыты вальмавым дахам. У цэнтры гал. фасада трохвосевы рызаліт з мансардай, па баках рытмічна размешчаны лучковыя вокны (на дваровым фасадзе прамавугольныя) і лапаткі ў прасценках. Планіроўка галерэйная, памяшканні перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Мае скляпеністы падвальны паверх. За домам невял. парк пейзажнага тыпу (ліпа, клён, таполя і інш.). Зараз у будынку размешчана медыцынская ўстанова. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**ЖОДЗІШКАЎСКІ КАЛЬВІНСКІ ЗБОР,** помнік архітэктуры рэнесансу. Пабудаваны ў 1612 у в. Жодзішкі (Смаргонскі р-н), у пач. 19 ст. перабудаваны пад Троіцкі касцёл. Спачатку быў 1-нефавы прамавугольны ў плане храм без апсіды, з 2-ярусный чацверыковай вежай-званіцай на гал. фасадзе. Пры перабудове да нефа прыбудаваны вял. прамавугольныя ў плане бакавыя капліцы з 3-вугольнымі шчытамі ў завяршэнні тарцовых сцен, зменена арыентацыя храма на процілеглую (вежа апынулася над прэсбітэрыем, зруйнавана ў 1-ю сусветную вайну). Цяпер — мураваны крыжападобны ў плане 1-нефавы будынак з больш нізкай квадратнай у плане алтарнай апсідай з сакрысціем з Пн і вуглавымі контрфорсамі. Неф і капліца накрыты 2-схільнымі дахамі. Гал. фасад вырашаны плоскасна, завершаны шчытом, партал увахода аформлены рустыкай. Сцены расчлянёны плоскімі лапаткамі, прарэзаны лучковымі вокнамі і нішамі, завершаны прафіляваным карнізам. Унутры неф перакрыты цыліндрычным, капліцы — крыжовымі скляпеннямі. Над уваходам — хоры. Скляпенні капліц упрыгожаны размалёўкай (1-я пал. 20 ст., маст. П. Сергіевіч). Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Міцянін, А. А. Ярашэвіч.*

**ЖУПРАНСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры 2-й пал. 19 ст. Пабудаваны ў в. Жупраны (Ашмянскі р-н)



Жодзішкаўскі кальвінскі збор.



Жупранскі касцёл.

у стылі несапраўднай готыкі. Мураваны прамавугольны ў плане 3-нефавы з вежай-званіцай на гал. фасадзе храм. Маляўнічасць фасадам надае мяшаная тэхніка муроўкі: асн. ўчасткі сцен з буту з украпінамі маленькіх каменьчыкаў, пілоны, якія ўмацоўваюць вуглы асн. аб'ёму і званіцы, абрамленні аконных, дзвярных праёмаў і блендаў з цэглы. Накрыты 2-схільным дахам з 3-вугольным атыкам на алтарным і прамавугольным на гал. фасадах, завершаных дэкар. вежачкамі. Карнізны пояс з высокім складаным па малюнку аркатурным фрызам падзяляе будынак на 2 часткі: ніжнюю амаль глухую і верхнюю, расчлянёную спічастымі праёмамі (у атыках і верхнім ярусе званіцы аконныя праёмы рытмічна чаргуюцца з блендамі). Пілоны аформлены нішамі са спічастымі завяршэннямі. Званіца 3-ярусная : ніжнія ярусы 4-гранныя, верхні — 8-гранны, завершаны шатровым дахам. У інтэр'еры нефы падзелены гранёнымі слупамі з вузкімі высокімі нішамі, падпружныя аркі аздоблены кесонамі, скляпенні — арнаментальным жывапісам. Над уваходам — хоры з арганам. Касцёл дзейнічае. Побач з касцёлам на могілках — магіла Ф. Багушэвіча і яго сям'і. *Ю. А. Якімовіч.*

**ЖЫЛІЦКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ,** помнік палацавапаркавай архітэктуры 18—19 стагоддзяў. Створаны ў в. Жылічы (Кіраўскі р-н). У ансамбль уваходзяць палац, парк, 3 штучныя вадаёмы (рыбная гаспадарка). П а л а ц пабудаваны ў 1830-я гады (арх. К. Падчашынскі) у стылі класіцызму. Спачатку ўзведзены гал. П-падобны 2-павярховы корпус, аздоблены порцікамі карынфскага ордэра: 6-калонным у цэнтры і 4-калоннымі на бакавых фасадах. Цэнтр. частка падкрэслена бельведэрам над лесвічнай клеткай. Да паўн.-зах. тарца гал. корпуса пазней дабудавана доўгае 2-павярховае крыло з палацавай царквой, якое замыкалася 2-павярховым корпусам з праезнай брамай. Фасады насычаны класіцыстычным архіт. дэкорам. Інтэр'еры палаца вызначаліся багатым убраннем (знішчана ў Вял. Айч. вайну). Залы і пакоі былі аздоблены пазалочанай лепкай, размалёўкай, дэкар. тканінамі і карцінамі. Планіроўка мяшаная, анфіладна-калідорная. У будынку размешчаны саўгас-тэхнікум. П а р к створаны ў 18—19 стагоддзях. Пл. 18 га (разам з пладовымі садамі і рыбнай гаспадаркай каля 100 га). Размешчаны на раўнінным рэльефе, у плане выцягнуты прамавугольнік, абмежаваны алеямі. Тэрыторыю парку з Пн на Пд перасякае р. Дабасна, якая ўтварае 3 маляўнічыя вадаёмы з астраўкамі (асталіся рэшткі масткоў і альтанак). Перад паўн. корпусам палаца ўцалелі фрагменты рэгулярнага парку пач. 18 ст.— круглая пляцоўка і 2 кляновыя алеі. У 1830-я гады створаны пейзажны парк, кампазіцыя якога падпарадкавана палацаваму ансамблю. Перад усх. порцікам размешчаны партэр у выглядзе эліпса. Астатняя тэр. парку падзелена на асобныя ўчасткі, злучаныя дарожкамі. У кампазіцыях парку выкарыстаны дэкар. формы дрэў (дуб звычайны пірамідальны, клён вастралісты Шведлера) і экзоты (хвоя веймутава, клён серабрысты, арэх шэры, ліпа еўрапейская і інш.). Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.

*У. А. Чантурыя, В. Р. Анціпаў.*



**Жыліцкі палацава-паркавы ансамбль.** Палац. Выгляд з боку двара.

**ЖЫРОВІЦКАЯ ГЕОРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў стылі барока ў канцы 18 ст. ў в. Жыровічы (Слонімскі р-н) на могілках. Уваходзіць у склад манастырскага комплексу, але планіровачна з ім не звязана. Адназрубны прамавугольны ў плане храм з 5-граннай алтарнай прыбудовай, арыентаванай на З. Накрыты агульным 2-схільным дахам з застрэшкам пры пераходзе да вальмавага пакрыцця апсіды. Трохвугольны франтон гал. фасада завяршае фігурная барочная вежачка на чацверыковым барабане. Гарызантальна ашаляваныя фасады расчлянёны прамавугольнымі вокнамі і вертыкальнымі сцяжкамі-брусамі ў прасценках. Апсіда вылучана невял. уступам, шырока раскрываецца ў залу. Дэкаратыўны акцэнт інтэр'ера — накладны іканастас, дэкарыраваны разнымі ракайлямі, касічкамі; у завяршэнні круглая люкарна. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулаг...*



**Жыровіцкая Георгіеўская царква.**

**ЖЫРОВІЦКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН,** помнік архітэктуры 17—18 ст. Размешчаны ў в. Жыровічы (Слонімскі р-н), на ўзвышаным беразе р. Шчара. Засн. ў 1470, з 161... уніяцкі. Спачатку быў драўляны (згарэў у 1655). У 1672—1829 на месцы яго базыльянамі пабудаваны мураваныя Успенскі сабор, Крыжаўзвіжанская і Богаяўленская царквы, званіца, будынак семінарыі (новы будынак узведзены ў 1956), жылы манастырскі корпус, гасп. пабудовы, высаджаны пладовы сад, агарод, выкапана сажалка, комплекс часткова абнесены мураванай сцяной з брамамі. У 1839 стаў цэнтрам кіравання праваслаўнай царкоўнай епархіі і кафедрай літоўскага архіепіскапа. Архіт. ансамбль мае нер...




Жыровіцкі манастыр базыльян. Схема планіроўкі: 1 — Успенскі сабор; 2 — званіца; 3 — Крыжаўзвіжанская царква; 4 — Богаяўленская царква; 5 — семінарыя; 6 — жылы корпус; 7 — гаспадарчыя пабудовы.

гулярную планіроўку, маляўнічую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю і выразны шматпланавы сілуэт, у архітэктуры спалучаюцца рысы стыляў барока, ракако і класіцызму. Ядро кампазіцыі — Успенскі сабор, злучаны крытымі пераходамі з будынкам семінарыі (на Пн) і з жылым корпусам (на Пд), у 1-м паверсе якога зроблены арачны праезд на тэр. манастыра. Будынак семінарыі фарміруе парадны двор перад апсідай сабора. Каля ўсх. крыла семінарыі вял. прамавугольны гасп. двор, абкружаны 1-павярховымі карпусамі. На ПдУ ад сабора Богаяўленская царква. Ва ўсх. частцы манастыра на самым высокім месцы пабудавана Крыжаўзвіжанская царква, якая з'яўляецца вертыкальнай дамінантай ансамбля. Успенскі сабор закладзены як гал. храм манастыра базыльян у 1613 (закончаны ў 1650). Мураваная 3-нефавая крыжова-купальная базіліка (даўж. больш за 55 м, выш. каля 40 м) з паўкруглай апсідай. З паўн. і паўд. бакоў да сабора прымыкаюць 3 цёплыя прыдзелы Пакрова Прасвятой Маці Боскай, Раства Іаана Хрысціцеля і св. Цудатворца Мікалая. Спачатку сабор пабудаваны ў стылі барока з 2-вежавым гал. фасадам.



Жыровіцкі манастыр базыльян. Агульны выгляд комплексу. З гравюры 19 ст.

Пасля рэканструкцыі 1828 храм набыў рысы класіцызму: вежы разабраны, зменена форма светлавога барабана і купала, у дэкоры выкарыстаны дарычны ордэр (4-калонны порцік з 3-вугольным франтонам, фрыз з трыгліфамі). Інтэр'ер сабора захаваў барочны характар. Прастора трансепта павялічана кесанíраваным купалам паўн. крыла і скляпеннем на ветразях паўднёвага. 2-светлавы цэнтр. неф асветлены арачнымі вокнамі, аддзелены высокімі аркадамі і перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, апяразанымі шырокапрафіляваным і інтэнсіўна крапаваным карнізным поясам. Скляпенні ўпрыгожаны стукавым арнаментам, іх падпружныя аркі — фрэскавымі філёнгамі ў стылі ракако. Манументальная конха апсіды прарэзана люнетамі і запоўнена фрэскай «Спас Пантакратар», на сцяне апсіды захаваўся ляпны каталіцкі алтар у стылі ракако. Авальны цэнтр. купал пры дапамозе ветразяў падтрымліваюць масіўныя слупы крыжовага сячэння. У паўн.-зах. частцы храма на манументальнай 3-пралётнай аркадзе размешчаны шырокія хоры, парапет якіх дэкарыраваны дарычным фрызам. Пад апсідай размешчана крыпта з цыліндрычным скляпеннем. Гал. дэкаратыўны элемент інтэр'ера — драўляны разны 3-ярусны іканастас у стылі барока (ракавіны, гірлянды, херувімы, арнамент у выглядзе вінаграднай лазы і лістоў аканта). Яго структурную аснову складаюць паярусныя каланады карынфскага ордэра з крапаванымі антаблементамі і фігурнымі франтонамі. Барочнай трактоўкай вызначаецца алтарны абраз Жыровіцкай Маці Боскай у сярэбраным абкладзе. Бакавыя 2-ярусныя алтары больш позняй работы (19 ст.). Іх кампазіцыя пабудавана на аснове карынфскага ордэра з абмежаваннем дэкар. арнаментыкі. Квадратная ў плане 2-ярусная званіца, звязаная з саборам адзінай падоўжнай планіровачнай воссю, фарміруе перад ім плошчу. Па аналогіі з саборам завяршаецца паўсферычным купалам. Архітэктура заснавана на класічнай ордэрнай сістэме: калоны, антаблементы, 3-вугольныя франтоны, дарычны фрыз. Крыжаўзвіжанская царква пабудавана ў 1769 як уніяцкі храм-кальварыя ў стылі ракако. Аднавальная, са званіцай над уваходам, без вылучэння апсіды ў самастойны аб'ём. Галоўны паўн.-зах. фасад вызначаецца стройнасцю і лёгкасцю 3-яруснай кампазіцыі.

Плаўны пераход ярусаў забяспечваецца бакавымі валютамі. Трэці ярус — 4-гранная вежачка з фігурнай барочнай галоўкай. Падобная меншага памеру вежачка над алтарнай часткай. Зала храма перакрыта цыліндрычным скляпеннем на распалубках і асветлена бакавымі лучковымі вежачкамі. Над уваходам на 3-пралётнай лучковай аркадзе хоры з плаўна хвалістай лініяй парапета. Шматступеньчатая аднамаршавая мае палавіну будынка, мела ілюзорны працяг на перспектыўнай фрэскавай сюжэтнай размалёўцы алтарнай сцяны, што пашырала прастору інтэр'ера. Богаяўленская царква пабудавана ў 1796 у стылі барока ў цэнтры манастырскай тэрыторыі. Адносіцца да тыпу бязвежавых адназальных храмаў. Гал. 2-ярусны фасад выходзіць за межы асн. аб'ёму. Уражанне вертыкальнай накіраванасці стварaецца паўкалонамі, вязкамі лапатак, крапаваным фігурным франтонам з бакавымі валютамі. Бакавыя фасады вырашаны плоскасна, расчлянёны арачнымі вокнамі ў простых ліштвах. Унутры ў залу храма выступаюць хоры, абмежаваныя ўвагнута-выпуклым парапетам. Пад царквой скляпеністая крыпта. Семінарыя пабудавана з паўн.-ўсх. боку сабора ў 17—18 ст. у стылі барока. Выкарыстоўвалася як вучэбны корпус саўгаса-тэхнікума, з верасня 1989 — Мінская духоўная семінарыя. П-падобны трохпавярховы будынак з мансардавым дахам вырашаны ў манументальных формах, мае сіметрычнае планіровачнае і аб'ёмна-прасторавае вырашэнне. Архіт. дэкор абмежаваны карнізам з прафіляванай цягай, простымі ліштвамі аконных праёмаў з лучковымі броўкамі. Пластыку будынка ствараюць згрупаваныя ў вуглавых частках лапаткі, высокі цокаль, на якім лапаткі пераходзяць у контрфорсы. Планіроўка галерэйная, калідоры і падвалы перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У цэнтры ў асобным крыле — зала трапезнай, перакрытая цыліндрычным скляпеннем на распалубках. Жылы корпус прымыкае да сабора з паўд.-зах. боку пры дапамозе надбрамнага пераxода. Выцягнуты 2-павярховы аб'ём галерэйнай планіроўкі. Перакрыцці скляпеністыя: цыліндрычнае з распалубкамі ў калідоры, крыжовыя ў келлях. Архітэктура будынка лаканічная: аконныя праёмы фасадаў дэкарыраваны прафіляванымі ліштвамі і франтончыкамі. Гаспадарчы корпус — 1-павярховае П-падобнае ў плане збудаванне, з паўн.-зах. фасада семінарыі ўтварае вял. гаспадарчы двор. Утылітарнае прызначэнне корпуса абумовіла яго спрошчанае архіт.-дэкар. вырашэнне, у якім прасочваюцца матывы барока (фігурны тарцовы шчыт) і класіцызму (карнізныя сухарыкі, франтоны). Манастыр дзейнічае. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*А. М. Кулагін.*

**ЖЫТАМЛЯНСКАЯ БЛАГАВЕШЧАНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў канцы 17 — пач. 18 ст. ў в. Жытомля (Гродзенскі р-н). Царква трохзрубная, складаецца з прамавугольных асн. і алтарных зрубаў, накрытых агульным 2-схільным дахам з вальмамі над алтаром, і бабінца, завершанага васьмерыковай званіцай з шатровым дахам. Сцены гарызантальна ашаляваны (шалёўка позняя). Прамавугольныя вокны аздоблены прафіляванымі ліштвамі. Інтэр'ер падзелены 6 слупамі на 3 не-



**Жытамлянская Благавешчанская царква.**



**Жыровіцкі манастыр базыльян.**
Успенскі сабор.



**Жыровіцкі манастыр базыльян.**
Будынак семінарыі.





**Жыровіцкі манастыр базыльян.** З малюнка Н. Орды. На пярэднім плане Богаяўленская царква.

**Жыровіцкі манастыр базыльян.** Крыжаўзвіжанская царква.

фы (бакавыя значна вузейшыя за цэнтральны). Столь плоская. Абапал алтара ўнутры асн. зруба вылучаны дапаможныя памяшканні. У 19 ст. сцены гарызантальна ашаляваны, перабудаваны верхнія часткі апсіды і званіцы, устаноўлены іканастас. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. Р. Слюнчанка.*

**ЖЫТКАВІЧЫ,** горад, цэнтр Жыткавіцкага р-на. За 233 км ад Гомеля. У Вял. кн. Літоўскім вёска Слуцкага княства. З 1793 у складзе Расіі, вёска (наз. таксама Убярэжжа), цэнтр воласці Мазырскага пав. З пабудовай Палескіх чыгунак з 1886 чыг. станцыя. У 1897 1,2 тыс. жыхароў. З ліпеня 1924 мястэчка, цэнтр раёна. З 27.9.1938 гарадскі пасёлак, 4,3 тыс. жыхароў у 1939. З 19.11. 1971 горад.

Забудова квартальная. Асн. планіровачныя восі — гал. вуліцы Ф. Энгельса, Сацыялістычная, а таксама вул. К. Маркса, Чкалава (забудаваны 2—3-павярховымі жылымі дамамі, будынкамі грамадскіх устаноў). На скрыжаванні вул. К. Маркса, Ф. Энгельса і Чкалава размешчана пл. Леніна — грамадскі і культ.-асветны цэнтр. Прамысл. зоны на Пд, Пн, З. Уздоўж р. Бобрык зона адпачынку са спарт. комплексам. Горад забудоўваецца паводле генплана 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*Л. С. Патапаў.*

# З

**ЗАВОСЕЎСКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 2-й пал. 18 — пач. 20 ст. каля хутара Завоссе (Баранавіцкі р-н). Уключала сядзібны дом, флігелі, гасп. пабудовы. Была вырашана ў традыцыях нар. дойлідства. Сядзібны дом — 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты высокім паўвальмавым саламяным дахам, які на тарцах утвараў невысокія трапецападобныя ашаляваныя шчыты. Вокны прамавугольныя. Гал. ўваход быў аформлены ганкам пад 2-схільным дахам з трохвугольным шчытом на 2 слупах. Насупраць сядзібнага дома знаходзіўся лямус — 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак (на 1-м паверсе была камора, на 2-м — летні жылы пакой), завершаны вальмавым саламяным дахам. Гал. фасад быў аформлены 2-яруснай галерэйкай. У З. с. ў 1798 нарадзіўся А. Міцкевіч. Комплекс вядомы паводле малюнкаў Н. Орды і Э. Паўловіча.

*Ю. А. Якімовіч.*



**Завосеўская сядзіба.** З малюнка Е. Паўловіча. 19 ст.

**ЗАКОЗЕЛЬСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры 19 ст. Пабудавана ў в. Закозель (Драгічынскі р-н). У ансамбль уваходзяць сядзібны дом (збярогся часткова), капліца-пахавальня, бровар і парк. Звязана з імем пісьменніцы-дэмакраткі Э. Ажэшкі і паўстаннем 1863. Пасля 1865 сядзіба ад Ажэшкаў перайшла да графіні Бабрынскай, якая збудавала парадную ўязную браму і стайню. Пасля 1-й сусветнай вайны належала Вясялоўскаму, які надбудаваў над домам 2-і паверх і дваровую тэрасу. Апошні ўладальнік (да 1939) К. Талочка. Пашкоджана ў гады Вял. Айч. вайны. Мураваны с я д з і б н ы д о м (вядомы па акварэлі Н. Орды 1863) пабудаваны ў 1820-я гады ў стылі ампір. Уяўляў сабой пастаўлены на нізкі цокаль 1-павярховы прамавугольны ў плане 5-восевы будынак, накрыты вальмавым дахам з паўкруглымі дахавымі вокнамі. Па папярочнай восі да яго прылягалі ніжэйшыя з самастойнымі ўваходамі бакавыя крылы, аздобленыя па фронту прысценнымі каланадамі. Цэнтр сіметрычна-восевага гал. фасада падкрэслены 4-калонным порцікам са ступеньчатым прамавугольным атыкам. Высокія прамавугольныя вокны ў цэнтр. корпусе з аканіцамі. Цэнтр. месца ў доме займала калонная зала-ратонда. Апартаменты мелі паркетную падлогу, масіўныя дзверы з маронага дубу ў бронзавай акоўцы. Выкарыстоўваецца як жылы. К а п л і ц а пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. (да 1853) на ўскраіне парку як фамільная пахавальня Ажэшкаў і наступных уладальнікаў. Вырашана ў формах архітэктуры рэтраспектыўнай готыкі. Паводле мясцовага падання ў высокім шпілі капліцы, дзе была невял. камора, хаваўся адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64 Р. Траўгут. Цэнтрычнае квадратнае ў плане збудаванне накрыта востравугольнымі 2-схільнымі дахамі, скрыжаванне якіх адзначана высокім 4-гранным шатром з гранёным шпілем і гатычным крыжом у завяршэнні. Стракатасць сілуэта і вертыкальную накіраванасць прасторавай кампазіцыі надаюць вуглавыя падвойныя пінаклі, паміж якімі ў гатычных парталах (чыгуннае мастацкае ліццё) размешчаны скульптуры евангелістаў. Фасады насычана крапаваны згрупаванымі па вуглах контрфорсамі, слаістымі стральчатымі і 3-лопасцевымі нішамі. Стральчаты ўваходны партал дэкарыраваны ўверсе круглымі гербамі Ажэшкаў (мастацкае чыгуннае ліццё). Каларыстычнае багацце будынка стварала высокаякасная «адкрытая» цагляная муроўка, медная бляха дахаў, пабелка элементаў дэкору.



**Закозельская сядзіба.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.

Зала перакрыта люстраным скляпеннем, насычана арнаментаванымі тонкімі ляпнымі нервюрамі. У вуглавых стральчатых нішах знаходзіліся скульптурныя выявы евангелістаў (не захаваліся). Стральчатыя вокны і люкарны з пераплётамі геаметрычнага малюнка, якія запаўняліся каляровымі вітражамі. Пад капліцай — склеп-пахавальня, куды вядуць сходы ў цэнтры залы. У аснове планіроўкі п е й з а ж н а - р э г у л я р н а г а п а р к у прамая ліпавая алея, якая завершана авальным партэрам перад домам і прадоўжана за ім. Пейзажная частка арганізавана на ўзгорыстай мясцовасці вакол капліцы з магілкамі і па берагах сажалак. На паўд.-зах. ускраіне парку пастаўлены прыдарожны мураваны слуп-абеліск (1842), на паўднёвай — мураваны будынак б р о в а р а, вырашаны ў формах архітэктуры позняга класіцызму. На тэрыторыі ансамбля размешчана цэнтр. сядзіба калгаса. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**ЗАЛЕСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ КОМПЛЕКС,** помнік палацава-паркавай архітэктуры 18—19 ст. Створаны ў в. Залессе (Смаргонскі р-н). Належаў роду князёў Агінскіх, з 1802 яго ўладальнікам стаў вядомы кампазітар, дыпламат і грамадскі дзеяч М. К. Агінскі. У комплекс уваходзілі 2 часткі — старая сядзіба 1-й пал. 18 ст. ў стылі барока (не захавалася, мяркуецца яе аднаўленне) і новы палацава-паркавы ансамбль у стылі класіцызму, узведзены для М. К. Агінскага ў пач. 19 ст. Сядзіба 18 ст. складалася з сядзібнага дома, невял. парку, гасп. двара і пладовага сада. Сядзібны дом — 1-павярховы прамавугольны ў плане з 4 алькежамі па вуглах драўляны будынак, накрыты высокім вальмавым дахам. Цэнтр. частка дома была выдзелена 2-павярховым аб'ёмам. З боку гал. фасада знаходзіўся парадны ганак, з боку дваровага — галерэя. У доме былі жылыя пакоі, спальні, капліца, кабінет, вял. зала. З аднаго боку побач з домам знаходзіўся парк у выглядзе зялёнага партэра, абкружанага алеямі, з другога — 2-павярховая драўляная брама вяла ў гасп. двор, па перыметры якога размяшчаліся кухня, 2-павярховы свіран, лядоўня. На тэрыторыі сядзібы знаходзіўся стаў з млынам, за ім — гасп. пабудовы і сад. Н о в ы п а л а ц а в а - п а р к а в ы а н с а м б л ь быў узведзены ў 1802—05 на свабоднай тэрыторыі паміж абалонай ракі Вілія і старой сядзібай паводле праекта арх. М. Шульца з удзелам арх. І. Пусэ і садоўніка Пеўзнера. Палац — 1—2-павярховы мураваны Г-падобны будынак. Гал. прамавугольны ў плане корпус мае сіметрычна-восевую кампазіцыю з 2-павярховымі бакавымі павільёнамі і цэнтр. мансардавай часткай, вылучанай 4-калонным дарычным порцікам і вежачкай з гадзіннікам, якая мела завяршэнне ў выглядзе шара з гадзіннікавым звонам. Першапачатковая планіроўка не захавалася. У інтэр'еры вестыбюля зберагліся арнаментальны фрэскавы



**Залескі палацава-паркавы ансамбль.** З малюнка Л. Ходзькі. 1822.

роспіс і кафляныя грубкі. Зах. крыло гал. фасада завяршалася 2-павярховым павільёнам, да якога прымыкалі 2 аранжарэі. Фасад першай быў расчлянён паўкалонамі і высокімі арачнымі вокнамі. Другая аранжарэя, т. зв. «амерыканская», размяшчалася перпендыкулярна першай і мела на адным з фасадаў суцэльныя нахіленыя вокны. Паміж аранжарэямі ўтвараўся невял. сад. Каля става быў узведзены новы 2-павярховы млын, які злучаўся з аранжарэяй драўлянай агароджай на мураваных слупах (не захаваўся, аднаўляецца). Побач з палацам была ўзведзена 8-гранная капліца з шатровым дахам і драўлянай вежачкай. Інтэр'еры капліцы былі багата аздоблены архітэктурным жывапісам. Каля палаца знаходзіўся шпацырны звярынец з дарожкамі, абсаджанымі дрэвамі і кветнікамі. У звярынцы знаходзіліся 2 альтанкі — мураваная паўкруглая з 4-калонным порцікам, высокімі шклянымі дзвярыма і авальнымі вокнамі ўверсе гал. фасада (адноўлена) і мураваная круглая 2-павярховая «к-

айская» з драўляным бельведэрам і завяршэннем у выглядзе трох кветак (мяркуецца яе аднаўленне). Пейзажны парк у рамантычным стылі быў разбіты на абалонах ракі, за шпацырным звярынцам. Там былі ўстаноўлены памятныя камяні ў гонар Т. Касцюшкі і першага гувернёра Агінскага. Парк значна пашкоджаны ў гады 1-й сусветнай вайны. За ракой знаходзіўся абкружаны магутнай драўлянай агароджай звярынец з дзікімі звярыма. Вядуцца работы па рэстаўрацыі і аднаўленні архітэктурнага аблічча комплекса. *Л. В. Іванова.*

**ЗАЛЕСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры сярэдзіны 19 ст. Створана ў в. Залессе (Глыбоцкі р-н) на месцы стараж. замка, уздоўж выцягнутага з У на З перашыйку паміж азёрамі Мураўшчына і Белае. Належала графу Мозе. Уключае сядзібны дом (часткова разбураны ў гады Вял. Айч. вайны, збераглася ўсх. частка), гасп. пабудовы і парк пейзажнага тыпу. Дом — мураваны прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, мае рысы стылю рэтраспектыўнай готыкі. Спачатку да яго прылягала высокая 3-ярусная вежа (зруйнавана ў 1982). У архіт. дэкоры фасада выкарыстаны пінаклі, стральчатыя праёмы ў прафіляваных ліштвах. З боку гал. фасада зроблены парадны партэр, з дваровага — насыпная відавая тэраса. У аснове парку (пл. каля 8 га) кальцавы прагулачны маршрут праз яго густы масіў і ўздоўж паўн. ускраіны. У парку 2 ставы, сажалкі, 48 дрэўных парод. Сярод насаджэнняў пераважаюць елка звычайная, хвоі веймутава і чорная, лістоўніцы еўрапейская, сібірская і японская, ліпы амерыканская і буйналістая. Сядзіба выкарыстоўваецца пад жыллё і гаспадаркай калгаса. *А. М. Кулагін.*

**ЗАМКАВАЯ ВУЛІЦА** ў Гродне. У цэнтры горада. Назва гістарычная. Даўж. 360 м, ад Савецкай пл. да тэр. *Гродзенскага Старага замка*, ад якіх пайшла назва вуліцы. З 12 ст. Замкавая вул.— шлях ад дзядзінца да гандл.-рамесніцкага пасада, у 14—15 стагоддзях звязвала Верхні і Ніжні замкі з Рынкам (цяпер пл. Савецкая) і Смаленскім трактам. У 17—18 стагоддзях шчыльна забудаваная і брукаваная, тут знаходзіўся рыбацкі цэх. Забудавана ў асноўным 2—3-павярховымі дамамі, сярод якіх вылучаюцца жылыя будынкі 19 ст. (дамы № 9, 11, 12, 13, 14, 16, 17) з элементамі стыляў позняга класіцызму, ампір, мадэрн і башня пажарнага дэпо (канец 19 — пач. 20 ст.). Ансамбль вулічнай забудовы 19 ст.— помнік архітэктуры і горадабудаўніцтва рэспубліканскага значэння.



Замкавая вуліца ў Гродне.



Дом № 16 па вуліцы Замкавай.

**ЗАМОСЦЕНСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры рэнесансу. Пабудаваны каля 1620 (па іншых звестках у 1649) Андрэем Самуілам Вінкаю-Ратомскім у в. Замосце (Слуцкі р-н). Пры касцёле ў 17 ст. была місія езуітаў. У 1865 забраны пад царкву. Мураваны 1-нефавы храм складаецца з квадратнага ў плане асн. аб'ёму, 5-граннай алтарнай апсіды і вежападобнага бабінца. Касцёл накрыты агульным 2-схільным дахам, які над апсідай пераходзіць у вальмавы. Сцены нефа аздоблены тонкімі пілястрамі і завершаны прафіляваным карнізам. Вокны высокія, з паўцыркульным завяршэннем. Бабінец з 3-вугольным франтонам і руставаным арачным уваходам, пэўна, перабудаваны ў 19 ст. Над ніжнім ярусам крыжовае скляпенне, вокны з лучковымі завяршэннямі. Над асн. памяшканнем плоская драўляная столь (першапачатковае перакрыцце не захавалася). Грані апсіды прымыкаюць да нефа пад косым вуглом, нібы будаўнік імкнуўся надаць паўцыркульны абрыс. Па баках прылягаюць выцягнутыя ўпоперак сакрысціі (рызніцы). Калісьці ў гал. алтары знаходзілася карціна «Укрыжаванне» вядомага мастака Шымана Чаховіча. Пасля 1917 касцёл выкарыстоўваўся для культурных і гасп. патрэб. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Ярашэвіч.*



Замосценскі касцёл.

**ЗАПОЛЬСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў 1920-я гады ў в. Заполле (Пінскі р-н). Архітэктура дома мае рысы стыляў барока і класіцызму. П-падобны ў плане 1-павярховы драўляны будынак накрыты лама-



Запольскі сядзібны дом.

ным вальмавым дахам, на гал. фасадзе 2 алькежы. Вось сіметрыі кампазіцыі падкрэсліваюць 2 муравания 4-калонныя порцікі тасканскага ордэра з трохвугольнымі франтонамі, якія афармляюць уваходы. Сцены гарызантальна ашаляваны. Вокны прамавугольныя. Група памяшканняў у цэнтр. частцы (залы і кабінеты) мае анфіладную планіроўку, бакавыя крылы з жылымі і гасп. пакоямі — калідорную. Выкарыстоўваецца як адм. будынак. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ЗАПРУДСКІ ЗАМАК,** помнік абарончага дойлідства 14—17 ст. Размешчаны каля в. Запруды (Кобрынскі р-н). У склад замка ўваходзілі сядзіба феадала (не збераглася) і абарончыя ўмацаванні: земляныя валы з частаколам наверсе і вадзяныя равы. У плане равы і валы нагадваюць упісаныя адзін у адзін прамавугольнікі, якія з У мелі бакі ў выглядзе паўдуг, што зыходзіліся ў месцы ўезда ў замак. Валы з гэтага боку зладжаны. Асталіся валы выш. 1,5—2 м і шыр. у аснове да 4 м. Равы маюць глыбіню да 2,5 м і шыр. каля 5 м. *М. А. Ткачоў.*

**ЗАРАЧАЎСКІ ВАДЗЯНЫ МЛЫН,** помнік прамысл. архітэктуры канца 18 — 1-й пал. 19 ст. Пабудаваны ў цэнтр. частцы в. Зарачча (Браслаўскі р-н). Будынак быў разбураны, пазней адноўлены і накрыты двухсхільным дахам. Запруда не захавалася. Аднаколавы механізм млына ацалеў часткова. Ад пачатковай пабудовы засталася толькі частка мураваных сцен з буйных бутавых камянёў на вапнавым растворы. Між імі з маленькіх каменьчыкаў з вострымі краямі выкладзены выявы людзей, кветак, птушак, якія арганічна ўпісваюцца ў просты адвольны ўзор з такіх жа маленькіх каменьчыкаў. Дэкаратыўна вырашаныя сцены — адзіны з уцалелых на Браслаўшчыне помнікаў народнай творчасці падобнага тыпу. Помнік рэспубліканскага значэння.

*С. Г. Багласаў.*

**ЗАСВІРСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР КАРМЕЛІТАЎ,** помнік архітэктуры пач. 18 ст. Пабудаваны ў



Зарачаўскі вадзяны млын.

1713—14 Крыштофам і Ядзвігай Зяновічамі ў в. Засвір (Мядзельскі р-н) у стылі барока. Касцёл — мураваны 1-нефавы храм з 2-вежавым гал. фасадам і паўкруглай алтарнай апсідай, накрыты высокім 2-схільным дахам (над апсідай паніжаны і пераходзіць у конусападобны). У цэнтры да гал. фасада прылягае невял. паўкруглая прыбудова, якая мае рысы абарончага збудавання. Дэкар. аздоба сканцэнтравана на гал. фасадзе: плоскія прамавугольныя і паўцыркульныя нішы, 3-вугольны атыкавы франтон і фігурныя завяршэнні вежаў. Аконныя праёмы з лучковымі завяршэннямі. Неф перакрыты драўляным карабавым скляпеннем. З Пн да касцёла прылягае мураваны П-падобны ў плане 1-павярховы будынак кляштара, які ўтварае замкнёны ўнутраны двор. Планіроўка калідорная, памяшканні перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У баку ад касцёла стаіць невял. мураваная брама і вежа-званіца — квадратны ў плане будынак на бутавым цокалі, накрыты 4-схільным шатром. У 1865—1920 касцёл перабудаваны пад царкву. Пасля вайны не функцыяніруе. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Ярашэвіч.*

**ЗАСЛАЎЕ,** горад у Мінскім р-не, на р. Свіслач. За 22 км ад Мінска, чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск — Маладзечна. Паводле летапіснага падання (1128), З. заснавана кіеўскім кн. Уладзімірам Святаславічам для яго апальнай жонкі Рагнеды і сына Ізяслава, у гонар якога і быў названы (стараж. Ізяславль). Паводле археал. даследаванняў, у 10 ст. на месцы горада, на правым беразе Свіслачы, узнікла паселішча крывічоў (тэрыторыя 2—3,5 га) з вял. курганным могільнікам за 0,8—1 км ад яго, за р. Чарніца (прыток Свіслачы). У сярэдзіне — 2-й пал. 10 ст. на левым беразе Свіслачы ўзнікла другое неўмацаванае паселішча з асобным курганным могільнікам. Мяркуюць, што гэта быў пагост — цэнтр збору даніны і месца знаходжання велікакняжацкай адміністрацыі. У канцы 10 ст. (каля 985) за 1 км на ПдЗ ад неўмацаванага паселішча (1-га) пабудавана парубежная крэпасць-горад, захаваліся рэшткі яго — гарадзішча Замэчак. Гэта садзейнічала развіццю неўмацаванага паселішча, тэрыторыя якога да канца 11 ст. пашырылася (да 9—9,5 га). Горад меў так званую разгрупаваную планіроўку: адм.-ваенны цэнтр знаходзіўся на адлегласці ад пасада. Шляхі, што ўзніклі паміж часткамі горада, паселішчамі і могільнікамі, сталі асновай вулічнай сеткі. Складаны рэльеф з узвышшамі, перарэзанымі поймамі рэчак і раўчукоў, балоцістымі нізінамі абумоўліваў устойлівасць яе трасіроўкі. У канцы 11 ст. на тэр. пасада, на беразе Свіслачы, узведзена новае ўмацаванне — дзядзінец. З. стаў цэнтрам удзельнага Ізяслаўскага княства Полацкай зямлі (упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад



Засвірскі касцёл і кляштар кармелітаў. Галоўны фасад касцёла.

1127—28). Цэнтрам планіровачнай структуры горада быў дзядзінец (падчас раскопак выяўлены рэшткі драўляных дамоў, частаколаў, насцілаў і вымастак). Пасад займаў частку тэрыторыі паміж р. Свіслач і лукавінай р. Чарніца. Левабярэжнае паселішча трансфармавалася ў зарэчную частку пасада. Агульная плошча горада ў 12 — 1-й пал. 13 ст. складала 12—13 га. З 2-й пал. 13 ст. З. ў складзе Вял. кн. Літоўскага. Горад заняпаў, да канца 15 ст. жыццё ў ім было сканцэнтравана пераважна ва ўмацаванай частцы (у дзядзінцы, потым замку), пасад засе-

лены рэдка і спарадычна. З 1345 З. (у пісьмовых крыніцах Ижеславль, Жеславль, Жаславль, Зеслав) — прыватная ўласнасць Яўнута Гедымінавіча і яго нашчадкаў (князёў Заслаўскіх), з 1539 належаў Глябовічам, з 1678 — Сапегам, з 1753 — Пшаздзецкім. З 1569 у Мінскім пав. Мінскага ваяводства. У 1433 падчас вайны быў спалены Свідрыгайлам. У канцы 15 — пач. 16 ст. тэр. горада пашырылася (на 1—1,5 га), забудова пасада зрабілася больш шчыльнай. У 16 ст. былы дзядзінец (гарадскі замак) ператварыўся ў рэзідэнцыю ўладальнікаў З. (гл. *Заслаўскі замак*). У канцы 16 ст. ён быў умацаваны бастыёнамі, мураванымі ўязнымі брамамі, абвадняўся штучным возерам. Асновай планіровачнай структуры З. з 16 ст. становіцца рыначная плошча, ад яе разыходзіліся гал. вуліцы ў напрамках на Мінск, Вільню, Радашковічы, Ракаў, адна з іх вяла да замка. К канцу 17 ст. тэр. горада павялічылася да 20 га; узніклі першыя пабудовы на правым беразе р. Чарніца. У 17 ст. рэзідэнцыя ўладальнікаў З. была перанесена ў загарадную сядзібу. Дарога на Ракаў падзяляла яе на 2 часткі: паркава-палацавую і гаспадарчую. Сядзіба мела пераважна драўляную забудову, 2 паркі — верхні і ніжні (апошні з сажалкамі і ставамі на р. Княгінька, якая перасякала яго); у 2-й пал. 18 ст. ўзведзены мураваныя палац (не захаваўся) і 2 флігелі.

Архіт. аблічча горада ў 17 ст. вызначалі 3 дамінанты: высокая вежа (35 м) кальвінскага збору (у далейшым касцёл св. архангела Міхаіла, праваслаўная *Заслаўская Спаса-Праабражэнская царква*), драўляны касцёл Дзевы Марыі на ўзгорку на Пд ад рыначнай плошчы (1625, у 1774—79 на яго месцы пабудаваны мураваны, у 1868 пасля перабудовы пераасвячоны ў праваслаўную царкву Раства Багародзіцы) і 2 вежы драўлянай уніяцкай царквы Праабражэння гасподня (1619, у 1862 як старая разбурана). У 1678 засн. дамініканскі кляштар (яму перададзена зах. частка замка з касцёлам св. архангела Міхаіла). Пабудаваная пасля 1793 драўляная праваслаўная Свята-Мікалаеўская царква (не захавалася) стала яшчэ адной дамінантай З. У канцы 17—18 ст. цэнтр Заслаўскага графства, з 1793 у складзе Расіі, мястэчка Мінскага пав., цэнтр воласці. У канцы 19 ст. на развіццё З. зрабіла ўплыў пабудова Лібава-Роменскай чыгункі (1873); намецілася злучэнне мястэчка з сядзібай (канец 19 — пач. 20 ст.). У 1924—59 З.— цэнтр Мінскага раёна (у 1924—30 і 1935—38 у складзе Мінскай акругі, у 1939—59 у Мінскай вобл.), з 1938 гарадскі пасёлак, з 14.8.1985 горад абл. падпарадкавання.

Горад развіваўся ўздоўж пагоркаў на Пд, ПнЗ і ПдЗ. Гал. вось — вул. Савецкая, забудаваная культ. і гандл. ўстановамі, жылымі дамамі. Ва ўсх. частцы вуліцы гістарычна склалася плошча — адм.-грамадскі цэнтр горада. У зах. частцы З. створаны мікрараён 1, забудаваны 3—9-павярховымі жылымі дамамі; у паўд.-зах. частцы ўзводзіцца мікраён 2 з забудовай катэджавага тыпу. Прамысл. зона размешчана на ПнУ, ПдЗ і ПнЗ. Забудовай значна пашкоджаны гіст. ландшафт, многія помнікі археалогіі. 31.12.1986 створаны гіст.-культ. запаведнік «Заслаўе», які мае на мэце ахову, рэстаўрацыю помнікаў старажытнасці.

*Ю. А. Заяц, Р. Л. Арцёмчык.*

**ЗАСЛАЎСКАЯ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры 2-й паловы 16 — пач. 17 ст. Пабудавана ў г. Заслаўе (Мінскі р-н) як кальвінскі збор, пазней вядома як касцёл св. архангела Міхаіла, з 1840 Спаса-Праабражэнская царква. Размешчана на высокім узгорку, абкружаным ровам і высокім валам з 4 землянымі бастыёнамі па вуглах (гарадзішча «Вал»). Мае рысы стылю рэнесансу. Мураваная 1-нефавая прамавугольная ў плане царква пад высокім 2-схільным дахам. З З да яе прыбудавана 35-метровая вежа-званіца. Развіты атык, знадворны і ўнутраны парталы, гарызантальнае і вертыкальнае чляненні франтона і інш. надаюць манументальнасць параўнаўча невял. будынку. Сцены знадворку дэкарыраваны пілястрамі і руставанымі вугламі-выступамі. У інтэр'еры самкнутыя скляпенні на падпружных арках пераходзяць у пілястры з прафіляванымі капітэлямі і базамі. Над уваходам драўляныя хоры. Пад царквой 2-часткавая крыпта (пахавальня) з цыліндрычнымі скляпеннямі. Храм перабудаваны ў 1678 і 1865, сведчаннем чаго з'яўляецца living рознахарактарная апрацоўка асобных частак фасадаў і таўшчыня сцен. Рэстаўрыравана ў 1968—72. Уваходзіць у Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік. У будынку царквы размешчаны (з 1978) Зас-



**Заслаўская Спаса-Праабражэнская царква.**

лаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў. Мае ахоўную зону.
*В. В. Калнін.*

**ЗАСЛАЎСКІ ЗАМАК,** помнік абарончай архітэктуры канца 16—17 ст. Пабудаваны ў г. Заслаўе (Мінскі р-н) у пойме р. Свіслач. Магчыма, як умацаваная рэзідэнцыя ўладальніка Заслаўя І. Глябовіча адначасова з *Заслаўскай Спаса-Праабражэнскай царквой.* Замак — адно з першых бастыённых умацаванняў на тэр. Беларусі, мае рысы стараітальянскай фартыфікацыйнай сістэмы. У плане няправільны 4-вугольнік, абкружаны ровам; бастыёны і валы першапачаткова былі абмураваны каменем, роў абвадняўся праз сістэму сажалак на прытоках Свіслачы. На паўд. вале замак меў пад'ёмны мост і 2-ярусную ўязную браму (зберагліся ніжнія часткі сцен). У 1678—1833 у замку размяшчаўся дамініканскі кляштар. Археалагічнае вывучэнне З. з. вядзецца з сярэдзіны 19 ст. Знаходкі на тэр. замка датуюцца 10—18 стагоддзямі. Вядзецца кансервацыя і частковая рэстаўрацыя замка. Уваходзіць у Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік.
*В. В. Калнін.*

**ЗАСЛАЎСКІ ФАРНЫ КАСЦЁЛ,** касцёл Марыі, помнік архітэктуры стылю барока. Пабудаваны ў 1774 у цэнтры г. Заслаўе (Мінскі р-н) на месцы драўлянага храма (вул. Луначарскага). Мураваны 1-нефавы прамавугольны ў плане асн. аб'ём з паўцыркульнай апсідай і 2 бакавымі сакрысціямі. Гал. фасад аздоблены вязкамі пілястраў, прамавугольнымі з паўцыркульным закругленнем і круглымі блендамі, завяршаўся франтонам. Касцёл перабудаваны ў 1868 пад царкву Раства Багародзіцы. Быў разбураны франтон, у цэнтры гал. фасада пабудавана невял. чацверыковая вежа-званіца, над гал. аб'ёмам узведзены вял. купал на светлавым барабане. Сцены гал. і бакавых фасадаў на 2 узроўнях прарэзаны вял. аконнымі праёмамі з паўцыркульным завяршэннем. Да гал. ўвахода вядзе мураваная лесвіца з тэрасай паміж 2 маршамі. Інтэр'ер зальны, сцены ўпрыгожаны пілястрамі карынфскага ордэра. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера не захавалася. Да 1941 дзейнічаў. Пашкоджаны ў час Вял. Айч. вайны. З 1989 касцёл на рэстаўрацыі. Помнік рэспубліканскага значэння.



**Заслаўскі замак.** План. Сярэдзіна 19 ст.



**Заслаўскі фарны касцёл.** Здымак пачатку 20 ст.



**Заслаўскі замак.** Рэканструкцыя В. Сташчанюка.

**ЗБІРОЖСКАЯ ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1610 у в. Збірогі (Брэсцкі р-н), перабудавана ў 18 ст. Складаецца з выцягнутага прамавугольнага ў плане асн. зруба і квадратнага ў плане алтарнага з невысокімі прыбудовамі рызніц па баках. У зах. частцы царквы — бабінец з хорамі над ім, пры ўваходзе — тамбур. Асн. зруб накрыты 3-схільным дахам з вальмай над гал. фасадам і гранёнай галоўкай каля алтарнай часткі. Алтарны зруб мае

таксама 3-схільны дах з вальмай з У. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя. На восі гал. ўвахода царквы квадратная ў плане 1-ярусная каркасная званіца, на $^{3}/_{4}$ вышыні вертыкальна ашалявана дошкамі, верхняя частка — скразная галерэйка з лучковым завяршэннем праёмаў; накрыта 4-схільным



**Збірожская царква Параскевы Пятніцы.**

гонтавым дахам. Царква дзейнічае з 1920. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. Я. Міцянін.*

**ЗДЗІТАЎСКАЯ МІКІТАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1502 у в. Здзітава (Жабінкаўскі р-н) на правым беразе р. Мухавец у традыцыях заходнепалескага дойлідства (гл. ў арт. *Палескія школы дойлідства).* Неаднаразова перабудоўвалася, у т. л. ў 1787. Памеры царквы: шыр.— 9,40 м, даўж.—15,65 м, выш.— 6 м. Складаецца з 3 прамавугольных у плане зрубаў — асноўнага, бабінца і апсіды, накрытых агульным шматсхільным гонтавым дахам (над бабінцам увянчаны галоўкай). Абапал апсіды прыбудаваны вузкія невысокія рызніцы, накрытыя аднасхільнымі дахамі. Каля ўвахода каркасны тамбур (прыбудаваны ў 19 ст.), над бабінцам хоры. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны сцяжкамі і прарэзаны высока размешчанымі прамавугольнымі вокнамі. Асобна з ПдУ ад царквы стаіць 2-ярусная каркасная квадратная ў плане званіца (чацвярык на чацверыку), накрытая шатром. Комплекс вызначаецца манументальнасцю аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, удалым прапарцыянальным вырашэннем, архіт.-маст. выразнасцю. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

**ЗЕЛАЎСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1842 у в. Зёлава (Драгічынскі р-н) у стылі позняга класіцызму. Мае крыжова-цэнтрычную кампазіцыю. Складаецца з 5 зрубаў. Цэнтр. квадратны ў плане зруб завершаны масіўным гранёным купалам, яго вуглы фланкіраваны чацверыковымі вежачкамі, увянчанымі галоўкамі. Па восях сіметрыі да асн. аб'ёму прылягаюць зрубы бабінца, алтара і бакавыя, утвараючы крыжападобную кампазіцыю. Яны накрыты 2-схільнымі дахамі з франтонамі на тарцах. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з на-



**Здзітаўская Мікітаўская царква.**



**Зёлаўская Троіцкая царква.**

шчыльнікамі і гарызантальнай панеллю ўнізе, завершаны карнізам на мадульёнах. Вокны прамавугольныя, размешчаны ў 2 ярусы. Чацверыковы аб'ём над асн. зрубам і хоры над бабінцам асвятляюцца паўцыркульнымі вокнамі. Інтэр'ер 2-светлавы. Зрубы бабінца і алтара маюць аднолькавую вышыню столі з асн. аб'ёмам, бакавыя зрубы больш нізкія. Перамычкі праёмаў і хоры над уваходам падтрымліваюць калоны карынфскага ордэра. Па восі царквы размешчана 3-ярусная званіца-брама (васьмярык на 2 чацверыках), накрытая купалам. У 1960-я гады зачынена, у 1990 аддадзена вернікам, вядзецца рамонт. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т.В. Габрусь.*

**ЗЕМБІНСКІ КАСЦЁЛ ДАМІНІКАНЦАЎ,** помнік барочна-класіцыстычнай архітэктуры. Пабудаваны з цэглы ў 1790—1809 у в. Зембін (Барысаўскі р-н) на месцы драўлянага кляштара дамініканцаў, заснаванага ў 1640 (згарэў у 1790) ашмянскім падкаморым Адамам Мацеем Саковічам і яго жонкай Марцыянай Тышкевіч. Храм прамавугольны ў



**Зембінскі касцёл дамініканцаў.** Галоўны фасад.

плане, 3-нефавы, з паўцыркульнай апсідай і 2 бакавымі сакрысціямі. Бязвежавы гал. фасад, цэнтр. вось якога вылучана арачнымі дзвярным і аконным праёмамі, завершаны камбінацыяй прамавугольнага атыка з барочным фігурным шчытом, тымпан якога ўпрыгожаны скульптурай Маткі Боскай у арачнай нішы. Бакавыя сцены рытмічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і шырокімі лапаткамі ў прасценках. Па перыметры будынак апяразаны карнізам простага профілю з сухарыкамі. Унутры нефы размежаваны 4 слупамі і аркадамі паміж імі, перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках (не захаваліся). Над нартэксам хоры на 2 слупах. У апсідзе — алтар штучнага мармуру (не захаваўся). У 19 ст. інтэр'ер касцёла быў размаляваны фрэскамі (маст. Вебер з Варшавы; не зберагліся). Касцёл зачынены ў 1833, зараз паўзруйнаваны, у аварыйным стане. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**«ЗМАГАРАМ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ»,** мемарыяльны комплекс у гонар устанаўлення Савецкай улады на Магілёўшчыне. Створаны ў 1982 у Магілёве на высокім беразе Дняпра (скульпт. Л. Гумілеўскі, арх. К. Аляксееў, А. Іваноў). Сэнсавай і пластычнай дамінантай мемарыяла з'яўляецца бронзавая



Мемарыяльны комплекс ў Магілёве «Змагарам за Савецкую ўладу».

фігура жанчыны (выш. 7 м) на гранітным пастаменце (выш. 13 м) — сімвал Перамогі, аднаўлення жыцця, вечнага руху наперад. На пляцоўцы перад манументам — абліцаваныя гранітам стэлы з 5 бронзавымі барэльефамі на тэмы Кастрычніцкай рэвалюцыі, калектывізацыі, абароны Магілёва ў 1941, партыз. руху, мірнага будаўніцтва на Магілёўшчыне. Спалучэнне ў барэльефах выяў у розных ракурсах стварае своеасаблівы эфект адлюстравання ў пластыцы падзей мінулых часоў і сучаснасці. Каля падножжа манумента — вечны агонь. У мемарыяльны комплекс уключаны магілы чырвонаармейцаў часоў грамадзянскай вайны.

**ЗЭЛЬВА,** гарадскі пасёлак, цэнтр Зэльвенскага р-на, на р. Зальвянка. За 132 км ад Гродна. Чыг. станцыя на лініі Баранавічы — Ваўкавыск. Вядома з 16 ст. як мястэчка ў Вял. кн. Літоўскім, належала Сапегам. Паводле ўскосных звестак, мела магдэбургскае права. З 1795 у складзе Расіі, у Ваўкавыскім пав. У 1816 адкрыты Зэльвенскі (Анненскі) кірмаш, які меў важнае эканамічнае значэнне для Гродзенскай і Віленскай губ. У 1831 З. за ўдзел Сапегаў у паўстанні 1830—31 канфіскавана і перададзена ў казну. У той час у З. было 1126 жыхароў, 19 цагляных і 122 драўляныя будынкі, 84 мураваныя крамы. У 1897—2803 жыхары, 938 (з іх 298 жылых) дамоў, піваварня, медаварня, свечачная майстэрня, народнае вучылішча, сельская лячэбніца. У пач. 20 ст. адкрыты лесапільна-габлявальны з-д. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, мястэчка Ваўкавыскага пав. З 1939 у складзе БССР, з 15.1.1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У 1962—66 у Ваўкавыскім р-не.

Планіровачная структура рэгулярная з прамавугольнай сеткай кварталаў. На Пд праходзіць аўтамагістраль Баранавічы — Ваўкавыск, на ПдУ на р. Зальвянка пабудавана вадасховішча (1983, пл. 1190 га), на Пн — чыгунка. Асн. восі — вуліцы Пушкіна (з Пд на Пн, гал. ўезд з аўтамагістралі, забудавана 3—5-павярховымі жылымі дамамі) і Перамогі (з Пд на Пн, звязвае цэнтр з паркавай зонай каля ракі, забудавана 3—5-павярховымі жылымі дамамі). Цэнтр кампазіцыі — цэнтр. плошча са скверам, абмежаваная вуліцамі 17 Верасня, Перамогі, Савецкай, Паркавай. Жылая зона складаецца з цэнтр. раёна (на Пн ад плошчы, вуліцы Шапавалава, 60 гадоў Кастрычніка, К. Маркса, Булака, у зах. частцы вуліцы Камарова, Дзяржынскага, Першамайская, у паўднёвай — вуліцы Пушкіна, Кутузава, 40 гадоў Перамогі і інш. з 1-павярховай індывідуальнай забудовай сядзібнага тыпу), мікрараёнаў на Пд (у межах вуліц Перамогі, Пушкіна, Савецкай, Шашэйнай) і Пн (у межах вуліц Чапаева, Шапавалава, Матросава, забудаваных 4—5-павярховымі жылымі дамамі), цэнтр. плошчы. Прамысл. зона размешчана ў асноўным у паўн. і зах. частках пасёлка. Зона адпачынку ўключае прыбярэжную (з паркам і спарт. ядром) тэр. ракі і на ПдУ бераг вадасховішча ( з пляжам і лодачнай станцыяй). Зберагліся помнікі архітэктуры — *Зэльвенская Троіцкая царква* (19 ст., дзейнічае) і *Зэльвенскі касцёл Дзевы Марыі* (пач. 20 ст., дзейнічае). Паводле генплана 1972 (Гродзенскі філіял ін-та «Белдзяржпраект» і БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана паралельнае развіццё жылой і прамысл. зон на З.

*В. М. Юркевіч.*

**ЗЭЛЬВЕНСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы (на фундаменце драўлянай царквы 1443) у г. п. Зэльва (Зэльвенскі р-н). Царква аднанефавая, з прамавугольным у плане асноўным аб'ёмам, квадратнай званіцай і паўкруглай апсідай. Дах двухсхільны. Пад ім па перыметры праходзіць карніз. Аконныя праёмы прамавугольныя. Званіца невысокая, двух'ярусная, з паўцыркульнымі вокнамі і шатровым дахам, пад якім узвышаецца невял. купал на круглым барабане. Унутраная планіроўка амаль поўнасцю зменена. Над уваходам размешчаны хоры з драўлянай агароджай, упрыгожанай разным геаметрычным арнаментам. Алтарная частка вылучана 2 выступамі-пілонамі ў форме порцікаў на 3 калонах. Столь плоская, падшыўная. Царква дзейнічае. *А. Ю. Пятросава.*

**ЗЭЛЬВЕНСКІ КАСЦЁЛ ДЗЕВЫ МАРЫІ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1913 (арх. Іосіф Піус Дзяконскі) у г. п. Зэльва. 3-нефавы 1-апсідны 2-вежавы мураваны будынак мае сіметрычна-восевую кампазіцыю, у якой дамінуюць 2-ярусныя масіўныя вежы, завершаныя складанымі па малюнку канічнымі шпілямі (1-ы ярус квадратны ў плане, 2-і — 8-гранны з вузкімі паўцыркульнымі праёмамі). Асн. аб'ём накрыты высокім вальмавым дахам з 2-ступеньчатай навіссю на гал. фасадзе. Уваход вырашаны ў выглядзе адкрытай галерэі з шырокімі паўцыркульнымі і вузкімі стральчатымі праёмамі, партал увахода з 3-вугольным завяршэннем. Сцены асн. аб'ёму і 5-граннай алтарнай апсіды ўмацаваны контрфорсамі, прарэзаны стральчатымі вокнамі. У 1960-я гады касцёл быў перададзены калгасу імя Леніна, тут было сховішча збожжа, з 1988 — склад райспажыўсаюза. У 1989 касцёл перададзены веруючым, з 1990 дзейнічае.

*А. Ю. Пятросава.*

**ЗЯЛЁНЫ ЛУГ,** жылы раён у Мінску. Размешчаны ў паўн.-ўсх. частцы горада побач з хваёвымі масівамі, уздоўж Слепянскага канала, абапал вул. Я. Коласа. Разлічаны на 92 тыс. жыхароў, складаецца з 7 мікрараёнаў. Вылучаецца дасканалай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй, функцыянальна-планіровачным і тэхналагічным вырашэннем, добрай архіт.-маст. якасцю забудовы, высокім узроўнем добраўпарадкавання і азелянення тэрыторыі. Архіт.-планіровачная структура за-



Зэльвенская Троіцкая царква.



**Зэльвенскі касцёл Дзевы Марыі.** Галоўны фасад.

і Зялёны Луг 3 (арх. Ю. Грыгор'еў, Л. Кліцунова). Жылыя зоны гэтых мікрараёнаў утвораны групамі будынкаў, аб'яднаных гандл.-грамадскімі цэнтрамі і школьнымі комплексамі. Забудаваны пераважна 5-павярховымі жылымі дамамі. Уздоўж вуліц Я. Коласа і Каліноўскага рытмічна пастаўлены індывідуальна запраектаваныя 9-павярховыя дамы, іх дапаўняюць дамы вежавага тыпу ўнутры мікрараёнаў. Мікрараёны 4 і 5 (арх. Э. Левіна, І. Сітнікава, С. Богін, А. Воўк) размешчаны ўздоўж Сляпянскай воднапаркавай сістэмы на 2 тэрасах: на ніжняй пастаўлена група будынкаў інтэрнатаў кропкавага тыпу з блокамі абслугоўвання (арх. С. Мусінскі, Н. Краўкова), на верхняй — жылыя дамы складанай канфігурацыі, планы якіх адпавядаюць пластыцы рэльефу. Новыя мікрараёны адрозніваюцца ад раней пабудаваных больш буйным маштабам забудовы; у кампазіцыі дваровай прасторы вял. ролю адыгрывае раскрыццё ўнутранай прасторы ў навакольнае асяроддзе. Працягам забудовы жылога раёна за вул. Я. Коласа з'яўляюцца мікрараёны



Жылы раён **«Зялёны Луг».** Набярэжная штучнага вадаёма.

снавана на максімальным выкарыстанні маляўнічага рэльефу з ярка акрэсленымі перападамі вышынь і штучнымі вадаёмамі. Траса канала (уключае вадаспады, паркавыя басейны, фантаны, падпорныя сценкі, добраўпарадкаваную набярэжную) фарміруе садова-паркавую вось. Забудаваны буйнапанельнымі і з цэглы жылымі дамамі (5-, 9-, 12-павярховыя), асобныя маюць каскадную пасадку (9—7—5 павярхаў). Дэкор фасадаў складаецца з разнастайных па малюнку і фактуры аддзелак (на тарцах), пластычных экранаў лоджый, дэкар. сценак, каляровых панелей. Забудоўваецца з 1962. На свабоднай тэрыторыі, прылеглай да вуліц Каліноўскага і Шырокай, размясціліся мікрараёны Зялёны Луг 1 і 2 (арх. А. Шалякін, Э. Левіна, Л. Сакалова) 6 і 7 (арх. Грыгор'еў, Кліцунова, П. Кракалёў, Левіна, С. Богін, А. Воўк, І. Грышчынскі). Аўтарамі добра выкарыстаны маляўнічы рэльеф для пастаноўкі ўздоўж гарызанталей працяглых крывалінейных у плане 9-павярховых дамоў, якія кантрастуюць з дамамі вежавага тыпу. Эфект узмацняецца таксама і іх каляровым вырашэннем. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*Н. А. Воінава.*

# І

**ІВАНАВА,** Я н а в а, горад, цэнтр Іванаўскага р-на, на р. Самаранка. За 132 км на У ад Брэста. Вядома з 15 ст. як мястэчка, належала Шуйскім, Ажэшкам. Да канца 18 ст. ў Вял. кн. Літоўскім, з 1795 у складзе Расіі, мястэчка Кобрынскага пав. Слонімскай, з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губ. У 1897 у І. 3041 жыхар, 2768 будынкаў, сукнавальная ф-ка, гарбарны і цагельны з-ды, маслабойня, 5 млыноў, народнае вучылішча, школа. У 1914 было 11 дробных прамысл. прадпрыемстваў. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, мястэчка ў Пінскім пав. З 1939 у складзе БССР, з 15.1.1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У 1962—65 у Драгічынскім р-не. З 11.3.1971 горад. Яго тэрыторыя падзелена р. Самаранкай на 2 часткі. На У ад ракі размешчана асн. частка горада, дзе вядзецца інтэнсіўнае буд-ва. Галоўныя восі горада — вуліцы Леніна і Савецкая. У месцы іх перасячэння — пл. Кастрычніка — грамадска-адм. і культ. гандл. цэнтр. У 1987—89 актыўна забудоўваецца. Уведзены ў эксплуатацыю гарадскі Дом культуры, дзіцячая кансультацыя, будуюцца гасцініца, універмаг, фізкультурна-аздараўленчы комплекс, новая школа з плавальным басейнам. Прылеглыя да цэнтра раёны і кварталы па вуліцах Леніна і Савецкай забудоўваюцца 2—5-павярховымі жылымі дамамі. На астатняй тэрыторыі пераважаюць 1-павярховыя цагляныя і драўляныя дамы сядзібнага тыпу. На ПнУ у пойме ракі і каля сажалак ствараецца зона адпачынку, на У — прамысл. зона. Збярогся помнік архітэктуры пач. 20 ст.— *Іванаўская царква.* Горад забудоўваецца паводле генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва) і яго карэкціроўкі 1983 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). *Р. Л. Арцемчык.*

**ІВАНАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 2-й пал. 19 ст. ў г. Іванава (Брэсцкая вобл.). Храм 4-часткавай падоўжна-восевай кампазіцыі: званіца, трапезная, асн. аб'ём з бакавымі прыдзеламі, апсіда з рызніцамі. 2-ярусная (васьмярык на чацверыку) званіца, надбудаваная над шырокім 2-павярховым прытворам, і 8-гранны шатровы барабан над асн. кубападобным аб'ёмам завершаны цыбулепадобнымі



**Іванаўская царква.** Бакавы фасад.

купалкамі. Макаўкамі завершаны 2-схільныя дахі ганка гал. ўвахода і прыдзелаў. Фасады прарэзаны адзінарнымі і падвойнымі арачнымі вокнамі з броўкамі, крапаваны вуглавымі лапаткамі і прамавугольнымі нішамі, апяразаны прафіляванымі карнізамі з зубчастымі фрызамі. Царква дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**ІВАЦЭВІЧЫ,** горад, цэнтр Івацэвіцкага р-на, на правым беразе р. Грыўда. За 136 км на ПнУ ад Брэста. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1519. Належалі Юндзілам. З 1654 вядомы як маёнтак. У 2-й пал. 16 ст. вёска ў Слонімскім пав. Навагрудскага ваяводства Вял. кн. Літоўскага. З 1795 у складзе Расіі. Вырасла ў сувязі з пабудовай чыгункі Масква — Брэст (1871). У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, у Касаўскім пав. З 1939 у складзе БССР, з 1940 у Косаўскім р-не. З 1947 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У 1962—65 у Бярозаўскім р-не. З 28.5.1966 горад. Падзелены чыгункай на жылую (паўночную і прамысловую (паўднёвую) зоны. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Леніна (з ПдЗ на ПнУ, шаша Брэст — Баранавічы, забудавана 2—5-павярховымі жылымі дамамі), Клютко (злучае паўн. і паўд. часткі), Чарткова, Камуністычная, Дэпутацкая, Дзяржынскага, якія ўтвараюць невял. кварталы. Грамадскі і культ.-гандл. цэнтр сфарміраваўся на перасячэнні вуліц Леніна, Чарткова і Камсамольскай, забудаваны пераважна 2—5-павярховымі жылымі дамамі. Паміж вуліцамі Леніна і Камуністычнай пабудаваны мікрараёны Паўночны і Будаўнічы з 5—9-павярховымі жылымі дамамі (вуліцы Чарткова, Шаўчэнкі, Дзяржынскага). Пераважае 2—5-павярховая жылая забудова. Горад забудоўваецца паводле генплана 1968 («Белдзяржпраект»). *Дз. С. Пташнікаў.*

**ІВЯНЕЦ,** гарадскі пасёлак у Валожынскім р-не, на р. Волма. За 31 км на ПдУ ад Валожына, 65 км ад Мінска. Вядомы з 14 ст. ў Вял. кн. Літоўскім. Належаў вял. кн. Вітаўту, пазней кн. Андрэю Уладзіміравічу, Салагубам. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Мінскага пав. Вядомы вырабамі керамікі. У 1897 было 2670 жыхароў. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, у Валожынскім пав. З 1939 у складзе БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З крас. 1962 у Валожынскім, з снеж. 1962 у Стаўбцоўскім, з 1965 зноў у Валожынскім р-не. Рэльеф мясцовасці ўзгорысты. Рака, на якой створана вадасховішча, падзяляе пасёлак на паўн. і паўд. часткі. Пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва). Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Леніна (гал. вось, забудоўваецца 2-павярховымі жылымі дамамі), 17 Верасня, 1 Мая, Дзяржынскага, Прамысловая, якія разам з інш. вуліцамі ўтвараюць некалькі невял. кварталаў. На правым беразе ракі на месцы гіст. цэнтра (перасячэнне вуліц Камсамольскай і 17 Верасня) сфарміравалася пл. Свабоды — грамадскі і культ.-гандл. цэнтр. Паблізу размешчаны сквер (1,2 га) і парк (3 га) са стадыёнам. Пераважае 1-павярховая забудова сядзібнага тыпу. Прамысл. зона на Пд і Пн. Зберагліся помнікі архітэктуры — *Івянецкі касцёл і кляштар фра-*

цысканцаў, *Івянецкі Аляксееўскі касцёл,* на левым беразе ракі — сядзіба (пач. 20 ст.). Прадугледжана развіццё пасёлка ў паўд.-ўсх. напрамку, стварэнне грамадскага цэнтра ўздоўж вул. Леніна.

*К. Л. Пятрэнка.*

**ІВЯНЕЦКІ АЛЯКСЕЕЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1905—07 з цэглы па фундацыі Э. Каверскага ў г. п. Івянец (Валожынскі р-н) на могілках. Аднанефавы храм з 5-граннай апсідай і квадратнымі сакрысціямі. На гал. фасадзе выступае 2-ярусная шатровая званіца са стральчатым уваходным парталам у ніжнім ярусе і акном-ружай над ім; над апсідай 4-гранная шатровая вежа-ліхтар. Сцены расчлянёны лапаткамі, завершанымі пінаклямі, падвойнымі стральчатымі аконнымі праёмамі і нішамі. Цокаль выкладзены вапнавымі блокамі. Апсіда і сакрысціі адкрываюцца ў асн. памяшканне стральчатымі арачнымі праёмамі. Прастора нефа перакрыта нервюрнымі скляпеннямі на падпружных арках, упрыгожанымі паліхромнай арнаментальнай размалёўкай. У ніжнім ярусе званіцы вылучаны нартэкс з хорамі. Перад касцёлам 3-арачная мураваная брама ў стылі неаготыкі. Касцёл дзейнічае. *А. М. Кулагін.*



**Івянецкі Аляксееўскі касцёл.**

**ІВЯНЕЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры сталага барока. Комплекс пабудаваны ў 1702—05 у г. п. Івянец (Валожынскі р-н) пад кіраўніцтвам мясцовага майстра А. Чаховіча, рэстаўрыраваны ў 1856—60 (арх. В. Бяляўскі, маст. Я. Кураткевіч). Уключае касцёл, кляштар і браму. У 1880—85 касцёл перабудаваны пад праваслаўную царкву. К а с ц ё л — мураваная 3-нефавая крыжовая базіліка з 3-вежавым гал. фасадам. Цэнтр. неф і трансепт накрыты 2-схільнымі дахамі з фігурнымі франтонамі на тарцах. Ярусы вежаў угору значна памяншаюцца. Фасады багата аздоблены ордэрнай пластыкай і лепкай. Вокны з лучковымі і фігурнымі завяршэннямі. Унутры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі скляпеннямі. Інтэр'ер спачатку быў упрыгожаны разьбой, лепкай, скульптурай. Над уваходам у асн. памяшканне размешчаны крывалінейныя ў плане хоры, якія падтрымліваюцца 2 слупамі. У алтарнай частцы 3 стукавыя алтары — цэнтр. і 2 бакавыя, вырашаны ў архіт. пластыцы з калонамі, упрыгожанымі ракайльнымі капітэлямі. Да зах. боку касцёла прымыкае Г-падобны ў плане мураваны 2—3-павярховы будынак к л я ш т а р а пад вальмавым дахам. Сцены з боку двара раўнамерна расчлянёны шырокімі пілястрамі. Вокны лучковыя з простымі ліштвамі. Прамавугольны праём былога гал. ўвахода (цяпер акно) дэкарыраваны крывалінейным тонкапрафіляваным сандрыкам. Планіроўка калідорная, з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў. За выключэннем калідора 1-га паверха, перакрытага цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, столь плоская. Па восі касцёла размешчана б р а м а, якая з'яўляецца архіт.-мастацкім акцэнтам агароджы кляштара. Уяўляе сабой трохчасткавую кампазіцыю з 4 руставаных слупоў з арачным лучковым праёмам, завершаным крывалінейным франтонам. З усх. боку сцяны захавалася 8-гранная



**Івянецкі касцёл і кляштар францысканцаў.**

вежа, паўд. частка сцяны ўмацавана масіўнымі контрфорсамі. Цяпер у памяшканнях манастыра размешчана эксперыментальная база Мінскага праектна-тэхналагічнага ін-та. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння. *Л. В. Трэпет.*

**ІЗАБЕЛІНСКАЯ МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры барока. Пабудавана ў 2-й пал. 18 ст. як касцёл (з 1863 царква) у в. Ізабелін (Ваўкавыскі р-н). Прамавугольны ў плане мураваны аб'ём накрыты 2-схільным дахам. У 3-вугольны франтон гал. фасада «ўрэзана» 1-ярусная чацверыковая званіца з шатровым верхам і цыбулепадобнай галоўкай у завяршэнні. Пазбаўленыя дэкору плоскасныя фасады рытмічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і буйнымі лапаткамі, апяразаны нескладанага профілю карнізам. Уваход арганізаваны праз нізкі драўляны прытвор (1924), які парушае архіт.-стылявое адзінства будынка. У сцяне вузкага скляпеністага ўвахода сходы на другі ярус — памяшканне хораў, якія



Ізабелінская Міхайлаўская царква.

расчынены ў залу лучковай аркай з балюстрадай. Алтарнае памяшканне вылучана ў агульнай прасторы зала дугамі бакавых капітальных сцен. Царква дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**ІЗАБЕЛІНСКІ ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны з цэглы ў 1778 у в. Ізабелін (Ваўкавыскі р-н) графам Грабоўскім як кальвінскі. Касцёл вырашаны кампактным прамавугольным у плане аб'ёмам з паўкруглай апсідай, накрытымі агульным 2-схільным дахам. Архітэктура прадстаўлена масіўнымі формамі, спрошчанымі прапорцыямі. У сілуэце дамінуе 1-ярусная чацверыковая званіца са зрэзанымі вугламі і пакатым шатровым пакрыццём. Сіметрыя гал. фасада падкрэслена нізкім прамавугольным уваходным праёмам і высокім арачным акном над ім (асвятляе хоры). Плоскасныя фасады амаль пазбаўлены дэкору, элементы якога (філёнгі, разетка, крыжовыя і прамавугольныя нішы, абломы) сканцэнтраваны на франтоне гал. фасада. Рэгулярную рытміку сцен бакавых фасадаў ствараюць арачныя вокны і буйныя лапаткі ў прасценках і па вуглах. Будынак апяразаны па перыметры карнізам спрошчанага профілю з цягай, адлівам нізкага цокаля. У адназальнай прасторы храма пры ўваходзе вылучаны невялікі нартэкс, на 2 гранёных слупах і крыжовым скляпенні якога размешчана галерэя хораў. Касцёл не дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**ІНДУРАЎСКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1825 у в. Індура (Гродзенскі р-н). У 1901—04 да паўн. і паўд. фасадаў пры-



Ізабелінскі Петрапаўлаўскі касцёл.

будаваны вежы, з усх. боку зроблена прыбудова, якая ўключае трансепт, апсіду і сакрысціі. Пры перабудове выкарыстаны элементы стылізатарскіх плыняў пач. 20 ст. Касцёл складаецца з 3-нефавага асн. аб'ёму з нізкім 2-схільным дахам, шырокага трансепта, маленькай паўцыркульнай апсіды з бакавымі прыбудовамі і 2 рознавялікіх вежаў. Яны завершаны фігурнымі шлемамі з шатровымі ліхтарамі. Асн. аб'ём захаваў пластычнае афармленне пач. 19 ст. Гал. фасад з магутным 4-калонным порцікам з атыкам і вял. паўцыркульным праёмам. Сцены па ўсім перыметры апяразаны дарычным антаблементам і члянёны пілястрамі. Вокны паўцыркульныя, вялікія, у тонкіх прафіляваных ліштвах. Інтэр'ер касцёла мае выцягнутую па падоўжнай восі крыжападобную ў плане кампазіцыю. Скляпенні ў асн. аб'ёме крыжовыя, у трансепце столь плоская. Сцены расчлянёны пілястрамі. У апсідзе і каля ўсх. сцяны трансепта ўстаноўлены 3 алтары, выкананыя ў стылі позняга класіцызму. Касцёл дзейнічае. *В. Р. Слюнчанка.*

**ІЎЕ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Іўеўскага р-на, на р. Іўянка. За 158 км ад Гродна. Вядома з 1444 як маёнтак П. Мандзігерда. З 16 ст. мястэчка Ашмянскага пав. Віленскага ваяв. Вял. кн. Літоўскага. У 16—18 стагоддзях ім валодалі Забжэзінскія, Кішкі, Сапегі, з 1752 — Агінскія, у 19 ст.— Тызенгаўзы і Замойскія. У 16—17 стагоддзях, архіт.-планіровачную структуру вызначалі вуліцы Віленская (дарога на Вільню), Навагрудская (дарога на Навагрудак, на ёй былі пабудаваны корчмы) і Крывая, якія сыходзіліся да 4-вугольнай у плане гандл. плошчы ў цэнтры мястэчка. На плошчы стаялі дамы гандляроў і рамеснікаў, корчмы, мураваны дом цырульніка. У 1598 у І. было 150, у 1634 — 170 сядзіб. Забудова драўляная, надзвычай шчыльная. У 2-й пал. 16 ст. пабудаваны кальвінскі збор, у пач. 17 ст.— мураваны *Іўеўскі касцёл і кляштар бернардзінцаў* (па вул. К. Маркса), драўляны парафіяльны касцёл (не збярогся), у 1765 — шпіталь. У 17—19 стагоддзях з гандл. плошчай дарогай злучаліся сядзібы. Сядзіба 1-й пал. 17 ст. ўключала драўляны 2-павярховы палац на цагляным падмурку з мезанінам і гасп. комплекс, сады пладовы і так званы «італьянскі» з лабірынтамі і мураваным гротам; з боку гал. ўезда ў сядзібу стаяла 4-ярусная брама-вежа з гадзіннікам, завершаная 3 купаламі, праезд зачыняўся пад'ёмнай рашоткай-герсай. З 1752 існавала сядзіба Агінскіх: уключала мураваны палац у стылі барока, побач з якім на высокім слупе знаходзіліся герб Агінскіх і флюгер, парк (за палацам) з аранжарэямі, рыбнай сажалкай, млынам, мураванай скарбніцай, афармленай на гал. фасадзе галерэяй. З 1795 у складзе Расіі, цэнтр воласці Ашмянскага пав. У 1897 у І. 3653 жыхары. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, мястэчка Валожынскага пав. Навагрудскага ваяводства. З 1939 у БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна.

Тэр. сучаснага пасёлка падзелена ракой на зах. і ўсх. часткі. Забудоўваецца паводле генплана 1975 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. А. І. Агафонава) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). У зах. частцы гістарычна склаліся вуліцы К. Маркса, 1 Мая, Леніна (дарогі на Мінск, Ліду, Нава-


Індураўскі Троіцкі касцёл.


Іўеўская мячэць.

грудак) з пераважна 1-павярховай жылой забудовай сядзібнага тыпу. У месцы злучэння гал. вуліц размешчана пл. Камсамольская (б. Гандлёвая) — адм. і гандл. цэнтр пасёлка. На плошчы таксама знаходзяцца 1—2-павярховыя мураваныя жылыя дамы пач. 20 ст. з багата аздобленымі фасадамі, сквер. На ПнЗ па вул. 50 гадоў Кастрычніка створаны мікрараён, забудаваны 3—5-павярховымі жылымі дамамі. Прамысл. зона размешчана на Пн пасёлка. Зона адпачынку ўключае штучнае возера ў пойме ракі (паблізу цэнтра). На левабярэжжы (ПнУ) стары парк з сажалкамі. Збярогся помнік архітэктуры 19 ст.— *Іўеўская мячэць* па вул. Савецкай.

*Ю. А. Якімовіч, С. Ф. Самбук.*

**ІЎЕЎСКАЯ МЯЧЭЦЬ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1884 у г. п. Іўе. Прамавугольны ў плане будынак з 5-граннай прыбудовай-міхрабам (невял. апсіда), накрыты шатровым дахам, у цэнтры якога 8-гранны мінарэт, абнесены балконам і завершаны высокім шпілем. Спачатку гал. фасад быў аформлены галерэяй на 4 слупах з выгнутымі падкосамі (у 1970-я гады заменена невысокім тамбурам). Сцены гарызантальна ашаляваныя, вокны прамавугольныя. Інтэр'ер падзелены на мужчынскую і жаночую палавіны з асобнымі ўваходамі з боку гал. фасада. Вялікае памяшканне для мужчын (у плане амаль квадратнае) уздоўж унутранай сцяны мае балкон на 4 калонах. Памяшканне для жанчын — 2-яруснае. Мячэць дзейнічае. *С. А. Сергачоў.*

**ІЎЕЎСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ,** помнік архітэктуры пач. 17 ст. Мае рысы ранняга барока. Пабудаваны каля 1600 у г. п. Іўе Станіславам Кішкам на ўзгорку. У 1631 мсціслаўскі ваявода Мікалай Кішка заснаваў пры касцёле з дазволу віленскага біскупа Абрама Войны кляштар бернардзінцаў. Будынкі былі спалены ў час вайны 1656. Бернардзінцы былі далучаны да каталіцкай царквы мясцовых пратэстантаў і мусульман. Складаецца з Петрапаўлаўскага касцёла і жылога корпуса (зберагліся зах. і часткова ўсх. крылы будынка). Кляштар аддзелены ад вуліцы насыпам, які меў абарончае значэнне. Касцёл — трохнефавы


Іўеўскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.

двухвежавы храм. Асноўны аб'ём накрыты двухсхільным дахам, больш нізкая пяціграннная апсіда — шматсхільным. Пластыка фасадаў простая і строгая. Галоўны фасад мае сіметрычную кампазіцыю, падзелены карнізам на 2 часткі: ніжнюю, аздобленую тонкімі пілястрамі, і 2 чацверыковыя вежы і фігурны атыкавы франтон паміж імі. У 2-й палове 18 ст. на галоўным заходнім фасадзе часткова зме-

нены франтон і пабудаваны вежы, якія набылі выцягнутыя вертыкальныя прапорцыі і ўвянчаны фігурнымі галоўкамі. У 1787 касцёл асвячаўся. У 19 ст. да паўночнай сцяны касцёла прыбудавана капліца. Цэнтральны ўваход вырашаны лучковым праёмам, над ім — вялікае паўцыркульнае акно. Абапал увахода размешчаны маленькія прамавугольныя вокны. Бакавыя сцены касцёла гладкія, прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і завершаны тонкім карнізам. Апсіда і вуглы асноўнага аб'ёму ўмацаваны магутнымі контрфорсамі. Інтэр'ер асноўнага памяшкання падзелены 4 слупамі на 3 нефы. Над уваходнай часткай выгнутыя ў плане хоры (пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст.). Нефы і апсіда аднолькавай вышыні, перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У інтэр'еры 6 алтароў (галоўны і 5 бакавых) 2-й паловы 18 ст. Галоўны алтар мураваны, двух'ярусны, раскрапаваны калонамі і пілястрамі, размаляваны пад мармур, завершаны шырокім карнізным поясам з лучковым франтонам. У алтарных праёмах размешчаны скульптуры св. Пятра і св. Паўла, у цэнтры — «Распяцце» (гіпс, паліхромія). Бакавыя алтары драўляныя, дэкарыраваны арнаментальнай разьбой і скульптурамі. Сцены і скляпенні размаляваны ў 1-й палове 20 ст. Каларыстычная гама — карычневата-чырвоная і шэра-блакітная. Жылы корпус, двухпавярховы будынак пабудаваны каля 1633, накрыты вальмавым дахам, утвараў прамавугольны ў плане ўнутраны двор, па перыметры якога з трох бакоў праходзіў калідор, злучаны з апсідай. Вуглавыя памяшканні выступалі з агульнага прамавугольнага абрысу плана. Ва ўнутраны двор вёў арачны праезд каля паўночна-заходняга вугла касцёла. Сцены корпуса прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і завершаны карнізам. У інтэр'еры ўсходняга крыла будынка мастацкую каштоўнасць мае абліцоўка печы тэракотавай кафляй 17 ст. з раслінным і геаметрычным арнаментам. У 1858 кляштар зачынены. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Ярашэвіч, В. В. Герашчатава.*

**ШКАЛДСКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры готыкі. Пабудаваны перад 1472 у в. Ішкалдзь (Баранавіцкі р-н) Мікалаем Неміровічам. Мураваны храм зальнага тыпу. Кампактны асн. прамавугольны ў плане аб'ём накрыты высокім 2-схільным дахам з стромкімі шчытамі на тарцах. Выцягнутая 5-гранная алтарная апсіда накрыта ніжэйшым шматсхільным дахам. З паўн. боку да апсіды прылягаюць невысокія сакрысцея і паўкруглы аб'ём з вітымі ўсходамі. Масіўныя сцены ў ніжняй частцы арнаментаваны сеткавай муроўкай (пазней атынкаваны) і ўмацаваны на бакавых фасадах вертыкальнымі, а на вуглах ступеньчатымі контрфорсамі. Пластычныя ступеньчатыя



**Ішкалдскі Троіцкі касцёл.** Выгляд з боку апсіды.



**Ішчалнаўскі Троіцкі касцёл.**

шчыт і контрфорсы на гал. зах. фасадзе аздоблены сіметрычна размешчанымі плоскімі нішамі (круглымі і з паўцыркульнымі завяршэннямі). Аконныя праёмы маюць таксама паўцыркульныя завяршэнні, праём увахода — стральчатае. Унутры асн. аб'ём падзелены 4 слупамі на 3 нефы (бакавыя значна вузейшыя за цэнтральны), перакрытыя крыжовымі скляпеннямі. У апсідзе зорчатае нервюрнае скляпенне (у канцы 15—1-й пал. 16 ст. скляпенні касцёла і слупы былі размаляваны). У 2-й пал. 16 ст. касцёл перайшоў да кальвіністаў, у 1641 Радзівіламі вернуты каталікам. У час вайны 1654—60 быў пашкоджаны, у 1866—1919 служыў царквой. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*У. А. Чантурыя, А. А. Ярашэвіч.*

**ІШЧАЛНАЎСКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1758 у в. Ішчална (Шчучынскі р-н). Аднанефавы 2-вежавы з 5-products граннай апсідай і сакрысціямі храм. Дамінуючае становішча ў аб'ёмнай кампазіцыі займае гал. фасад. Яго вузкую цэнтр. плоскасць фланкіруюць квадратныя ў плане вежы, якія рэльефна выступаюць з асн. аб'ёму, маюць нізкае шлемападобнае завяршэнне. Фасадныя і бакавыя плоскасці вежаў апяразаны карнізамі, расчлянёны плоскімі прамавугольнымі філёнгамі і прарэзаны прамавугольнымі, лучковымі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Бакавыя фасады будынка завершаны карнізам і расчлянёны ў верхняй частцы 2 радамі лучковых акон. Інтэр'ер касцёла зальны, выцягнуты па падоўжнай восі. Асн. аб'ём і апсіда перакрыты драўляным лучковым скляпеннем. Сцены дэкарыраваны тонкімі спаранымі лапаткамі, завершаны шырокім карнізам. Над бабінцам паміж аб'ёмамі вежаў ступеньчатыя ў плане хоры. 3 алтары і амбон выкананы ў стылі ракако. Гал. алтар двух'ярусны. Першы ярус, устаноўлены на высокім цокалі, падзелены калонамі карынфскага ордэра на 3 часткі, аддзелены ад другога яруса хвалепадобным антаблементам з ляпным дэкорам. У цэнтры другога яруса — картуш з люнетай, па баках жывапісныя панелі і дэкар. вазы. 2 бакавыя алтары формай і дэкорам нагадваюць галоўны, але крыху меншыя за яго, увянчаны скульптурнымі кампазіцыямі. Амбон хвалепадобнай формы, дэкарыраваны ляпнымі ракайлямі, пуцці, скульптурнай кампазіцыяй на біблейскія тэмы. Побач з касцёлам у 19 ст. пабудавана 1-ярусная званіца. Касцёл дзейнічае.

*С. Г. Багласаў, Л. Г. Лапцэвіч.*

К

**КАЖАН-ГАРАДОЦКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1818 у в. Кажан-Гарадок (Лунінецкі р-н). У архітэктуры выявіліся рысы мясцовай школы дойлідства барочнага кірунку. 5-зрубная крыжова-цэнтрычная кампазіцыя. Мае рысы стылю позняга барока. У канцы 19 — пач. 20 ст. да яе прыбудавана 3-ярусная шатровая званіца (васьмярык на 2 чацверыках) з тамбурам. Да цэнтр. васьмерыка з 2-ярусным верхам (васьмярык на чацверыку) прыбудаваны прамавугольныя ў плане аб'ёмы (бабінец, алтарная апсіда з рызніцай і 2 бакавыя прыбудовы) з чацверыковымі 1-яруснымі вярхамі. Кожны верх упрыгожаны фігурнай дэкар. вежачкай — глухім васьмерыкам на купальнай аснове, аздобленым аркатурай, завершаным складаным карнізам і цыбулепадобным купалкам з ажурным каваным крыжам. Сцены звонку гарызантальна ашаляваны, умацаваны лапаткамі, аконныя праёмы лучковыя ў простых ліштвах, у званіцы прамавугольныя і рамбічныя. У інтэр'еры дамінуе цэнтр. 3-светлавы аб'ём, у які арачнымі



Кажан-Гарадоцкая Мікалаеўская царква.

праёмамі раскрываюцца 2-светлавыя памяшканні. Верх цэнтр. аб'ёму ўмацаваны гарызантальнай дыяганальнай крыжавінай на 4 слупах. Унутры храм багата аздоблены паліхромнай драўлянай скульптурай і разьбой у стылі ампір (майстар І. Астапчык, пач. 19 ст.). 2-ярусны пазалочаны іканастас, гал. алтар завершаны скульптурай Іаана Хрысціцеля, бакавыя алтары ў прыбудовах аформлены ракайлямі, пальметамі, фрызамі з раслінных гірлянд, карнізамі з іонікамі і сухарыкамі, капітэлямі накшталт тасканскіх. Рэалістычна трактаваны скульптуры Пятра і Паўла, размешчаныя ў 1-м ярусе цэнтр. аб'ёму. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч.*

**КАЗЬЯНСКІ ЗАМАК,** Казьянская крэпасць. Існаваў у 16 ст. на Пн ад в. Казьяны (Шумілінскі р-н). Пабудаваны ў 1563 у час Лівонскай вайны паводле загаду Івана Грознага як парубежная крэпасць. Планіроўку і памеры замка вызначыў мыс лукавіны р. Обаль. Будынак драўляны, трохвугольны ў плане (50×120×110 м), з трыма чацверыковымі вежамі (былі падзелены ўнутры на 3 баявыя ярусы), накрытымі 2-схільнымі дахамі па вуглах. Вежа, размешчаная ў перашыйку лукавіны ракі, мела арачны праезд, астатнія — «глухія», стаялі на паўкруглых у плане падмурках, прарэзаных круглымі байніцамі. Вежы злучаліся абарончымі сценамі (пад 2-схільным пакрыццём) з прамавугольнымі байніцамі ў верхняй частцы. Цэнтр. частку ўнутранай прасторы замка займала жылая забудова. Замак, разбураны ў 1579 войскамі Рэчы Паспалітай, адлюстраваны на малюнку С. Пахалавіцкага (1579).

*Ю. А. Якімовіч.*

**КАЛІНІНА ПЛОШЧА** ў Мінску. Знаходзіцца на гал. дыяметры горада — праспекце Ф. Скарыны. Стварэнне плошчы ў раёне парку імя Чэлюскінцаў (створаны ў даваенны час на аснове б. Камароўскага ляснога масіву) прадугледжвалася генпланам сацыялістычнай рэканструкцыі і развіцця Мінска 1932—36 (арх. Ю. Кілаватаў), намячалася размясціць яе насупраць цэнтр. ўвахода на Усебеларускі стадыён (зараз тут знаходзіцца спарт. база Бел. ін-та фізкультуры). Плошча трактавалася як грамадскі цэнтр раёна пры ўездзе ў горад. У генплане аднаўлення і развіцця Мінска 1946 было вырашана арганізаваць плошчу насупраць увахода ў батанічны сад. Праект планіровачнага і кампазіцыйнага вырашэння плошчы (1953) уваходзіў у праект планіроўкі і забудовы другой чаргі праспекта Ф. Скарыны (арх. С. Мусінскі, Г. Сысоеў, С. Бяляеў, Я. Печкін). У наступныя гады ў першапачатковы варыянт былі ўнесены ўдакладненні і дапаўненні. У забудове плошчы дамінуе 8-павярховы дом з магазінам «1000 дробязей» (1961, арх. Сысоеў, Дз. Кудраўцаў). Перад ім разбіты зялёны газон, у цэнтры якога помнік М. І. Калініну (1978, скульптары В. Палійчук, І. Глебаў, арх. Ю. Грыгор'еў, А. Няўзораў). Зах. і ўсх. бакі плошчы ўтвораны тарцамі жылых дамоў, што выходзяць гал. фасадамі на праспект Ф. Скарыны: на рагу з завулкам К. Чорнага (1962, арх. М. Драздоў) і на рагу з вул. Калініна, насупраць парку імя Чэлюскінцаў (1941; побач з ім 1-ы ў БССР буйнапанельны жылы дом, 1957, арх. Мусінскі). Асобнае месца ў



Калініна плошча ў Мінску.



Камайскі касцёл.




Казьянскі замак. Малюнак С. Пахалавіцкага. 1579.

кампазіцыйным вырашэнні плошчы займае 9-павярховы жылы дом з магазінам «Кветкі» (1963, арх. Мусінскі, Сысоеў) на процілеглым баку праспекта. Пастаўлены перпендыкулярна да магістралі, якая мае тут выгін, ён замыкае перспектыву з боку Маскоўскай шашы. Побач з яго гал. фасадам, вырашаным у сучасных архіт. формах, размешчана лёгкая каланада іанічнага ордэра — гал. ўваход у Цэнтр. батанічны сад АН Беларусі (1957, арх. Л. Каджар, Сысоеў). Гэты бок плошчы і прастору ўздоўж праспекта арганізуюць высокія дрэвы парку імя Чэлюскінцаў. *А. А. Воінаў.*

**КАЛІНКАВІЧЫ,** горад, цэнтр Калінкавіцкага р-на. За 122 км ад Гомеля. У пісьмовых крыніцах вядомы з 18 ст. Уваходзіў у Вял. кн. Літоўскае, з 1793 у складзе Расіі, мястэчка Рэчыцкага пав., да 1805 належалі кн. Шахаўскім. З 1882 чыг. станцыя, з 1910 чыг. вузел. У 1897 было 1,3 тыс. жыхароў. З 1926 горад, у 1924—30 і з 1939 цэнтр раёна. 9,3 тыс. жыхароў у 1939. З 7.3.1963 горад абл. падпарадкавання. Горад чыгункай і ручаём расчлянёны на некалькі невял. частак. У цэнтр. частцы размешчаны асн. вуліцы — Савецкая, Фрунзе, Камсамольская, Кірава, Дзяржынскага, забудаваныя 2—5-павярховымі жылымі дамамі. Кампазіцыйнае ядро горада — пл. Леніна. У паўн. частцы вул. Савецкай і ўсх. частцы вул. 50 гадоў Кастрычніка створаны 2 мікраёны, забудаваныя 5- і 9-павярховымі жылымі дамамі. 1-павярховая жылая забудова сядзібнага тыпу знаходзіцца ў асноўным у паўд. частцы, за ракой. Прамысл. зоны размешчаны на Пн, З, У. З У да горада прылягае лясны масіў — зона адпачынку. «Схемай раённай планіроўкі Гомельскай вобласці» 1974 К. і Мазыр разглядаюцца як адзіная сістэма з прамыслова-транспартным цэнтрам у К. Таму паводле генплана 1975 К. (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва), генплана 1987 (арх. В. Мусіенка, І. Ром) прадугледжана развіццё горада ў паўд.-зах. напрамку (у бок Мазыра), стварэнне гарадскога парку ва ўсх. частцы горада.

*Ю. М. Гарчак, Р. Дз. Шэліхава.*

**КАМАЙСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры пач. 17—18 ст. Пабудаваны ў 1603—06 у в. Камаі (Пастаўскі р-н). У стылявой трактоўцы касцёла спалучаны прыёмы і формы абарончага дойлідства, архітэктуры готыкі і рэнесансу. Спачатку меў падоўжна-восевую кампазіцыю, быў 3-нефавы, 4-слуповы, перакрываўся крыжовымі і зорчатымі скляпеннямі (зберагліся ў апсідзе). У сярэдзіне 17 ст. пасля пажару слупы разабраны, асн. памяшканне перакрыта драўляным люстраным скляпеннем. У 1778 да паўд. сцяны касцёла прыбудавана вял. прамавугольная ў плане капліца з крыптай, перакрытай цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Мураваны 2-вежавы квадратны ў плане храм з вял. паўцыркульнай алтарнай апсідай, сакрысціяй і хорамі над бабінцам. Дахі над асн. аб'ёмам і капліцай 2-схільныя, над апсідай — конусападобны. Сцены (таўшчыня 2 м) прарэзаны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі, паглыбленымі ў нішах. Партал увахода са спічастым завяршэннем. Гал. фасад асн. аб'ёму завершаны 3-вугольным шчытом, раскрапаваны ў верхняй частцы 4 плоскімі арачнымі нішамі з байніцамі, фланкіраваны 2 магутнымі цыліндрычнымі вежамі (выш. 16, дыяметр 6 м) з байніцамі. Паўн. сцяна праёмаў не мае. Сцены дэкарыраваны тонкімі карнізамі, фасады капліцы — пілястрамі. У інтэр'еры асн. зала і капліца злучаны мураванымі лесвіцамі, размешчанымі паміж пілонаў. Апсіда адкрываецца ў асн. памяшканне арачным праёмам. Усе скляпенні касцёла размаляваны арнаментамі ў тэхніцы грызайль. Зберагліся арган, аздоблены разьбой і скульптурай 17—18 стагоддзяў, 4 разныя драўляныя алтары. Найбольш цікавы ў дэкар. афармленні цэнтр. 2-ярусны алтар 2-й пал. 18 ст. Аснову яго 1-га яруса складаюць 4 калоны карынфскага ордэра. Паміж імі ў нішах — драўляныя паліхромныя скульптуры апосталаў Пятра і Паўла. У цэнтры — алтарны абраз «Маці Боская з дзіцем» (17 ст.) у сярэбраным чаканным абкладзе. Крапаваны карніз з разарваным франтонам аддзяляе 2-і ярус карніза ў 8-граннай разной пазалочанай раме. Алтар завершаны гарэльефнай кампазіцыяй з выявай Саваофа ў воблаках. Ордэрныя элементы алтара размаляваны пад ружовы мармур, арнаментальная разьба пазалочаная, што ў спалучэнні з пазалотай арнаментальнай разьбы і паліхромнай скульптурай стварае інтэнсіўную па каларыце ўрачыстую кампазіцыю. Арган канца 18 ст. ўстаноўлены на хорах, яго афармленне складаецца з разных па дрэве гірлянд кветак, скульптурных выяў анёлаў і музычных інструментаў. Абапал аргана — арнаментальныя валюты з галоўкамі херувімаў. Філёнгі парапета хораў дэкарыраваны накладной скразной арнаментальнай разьбой. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе. *У. А. Чантурыя, Г. М. Ярмоленка.*

**КАМЕНКАЎСКІ АНТОНІЕЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1908 у в. Каменка (Шчучынскі р-н). Асн. прамавугольны ў плане аб'ём накрыты 2-схільным дахам. Цэнтр. неф пераходзіць у 5-гранную апсіду з самастойным дахам, па баках якой невялікія гранёныя сакрысціі. Двух'ярусная чацверыковая вежа на гал. фасадзе завершана стромкім шатром з люкарнамі. Верхні чацверык вежы на ўсіх фасадах выразна вылучаны высокімі патройнымі арачнымі вокнамі (трыфорыумам). Гал. ўваход афармлены парталам, над якім размешчаны акно-ружа і ніша са скульптурай. Дзверы аздоблены мастацкай коўкай. Астатнія фасады рытмічна расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі і стральчатымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры асн. аб'ём падзелены на 3 нефы, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі. Над уваходам — хоры з арганам. Сцены і скляпенні атынкаваныя, пабеленыя, астатнія канструкцыйныя элементы падкрэслены чырвоным колерам муроўкі. Касцёл дзейнічае. *Т. В. Габрусь.*

**КАМУНАР,** пасёлак у Буда-Кашалёўскім р-не. Цэнтр сельсавета і саўгаса «Асобіна». За 19 км на ПдУ ад Буда-Кашалёва, 29 км ад Гомеля. Створаны ў 1961 як цэнтр. сядзіба саўгаса «Камунар» у складзе Блюдніцкага с/с. У 1967 прысвоена назва К. З 1973 цэнтр Камунараўскага с/с; жылы пасёлак Гомельскай бройлернай птушкафабрыкі і цэнтр. сядзіба спецыялізаванага авечкагадоўчага комплексу «Асобіна». Забудоўваецца паводле праекта планіроўкі 1968 (Гомельскія абл. праектныя майстэрні ін-та «Белдзяржпраект»). Мае дакладнае функцыянальнае заніраванне тэрыторыі. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Савецкая (з ПдУ на ПнЗ, гал. ўезд) і Леніна (з ПнУ на ПдЗ), на месцы злучэння якіх утворана плошча з грамадскім цэнтрам. Жылая забудова вырашана асобнымі групамі 2—5-павярховых дамоў у раёне вуліц Савецкай і Леніна, 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу сканцэнтравана ў зах. частцы. Вытворчая зона ў паўн.-ўсх., паўд.-ўсх. частках і за 2 км на З ад пасёлка. Бярозавы гай, стадыён ва ўсх. частцы. Пасёлак забяспечаны ўсімі відамі інжынернага абсталявання. Прадугледжана развіццё К. ў паўд.-ўсх. напрамку, пераважная забудова групамі 4—5-павярховых жылых дамоў з аб'ектамі абслугоўвання, фарміраванне зоны адпачынку, стварэнне парку, спарт. зоны. Забудова і



Каменкаўскі Антоніеўскі касцёл.

добраўпарадкаванне К. адзначаны дыпломам ВДНГ СССР (1981).
*М. А. Найшулер.*

**КАМЯНЕЦ,** горад, цэнтр раёна, на р. Лясная. За 39 км ад Брэста. Засн. ў 1276 па загаду валынскага кн. Уладзіміра Васількавіча дойлідам Алексай на месцы невял. паселішча (10—11 стагоддзі). Паводле летапісу, атрымаў назву ад камяністай зямлі. Помнікам абарончага дойлідства канца 13 ст. з'яўляецца мураваны стоўп *Камянецкая вежа,* узведзены на ўзгорку, абнесеным валам з драўлянымі ўмацаваннямі. У 1289 захоплены і разбураны драгічынскім кн. Юрыем Львовічам. З 1366 у Вял. кн. Літоўскім, належаў кн. Кейстуту, з 1383 кн. Я. Мазавецкаму, з 1392 (і ў 1384) кн. Вітаўту. У 1378 дашчэнту спалены войскамі Тэўтонскага ордэна. З 1413 цэнтр павета Трокскага, з 1520 — Падляшскага, з 1566 — Берасцейскага (Брэсцкага) ваяводстваў. У пач. 16 ст. (да 1506) атрымаў магдэбургскае права (меў да 1776) і герб (выява сярэбранай вежы на блакітным полі); вядомыя вуліцы Брэсцкая, Літоўская, Васкрасенская і інш. У рус.-польскую вайну 1654—67 разбураны. У 17—18 стагоддзях пабудаваны *Камянецкія замкава-палацавыя комплексы.* З 1795 у складзе Расіі, у Брэсцкім пав. Гродзенскай губ.; да 1940 наз. Камянец-Літоўскі. У Айч. вайну 1812 заняты і разрабаваны французамі. У 1897 было 4,6 тыс. жыхароў, 1186 будынкаў (з іх 678 жылых). У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, мястэчка Брэсцкага пав. Палескага ваяводства, у 1921—2348 жыхароў. З 1939 у БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З 24.6.1983 горад.



Камянецкая вежа. З малюнка Н. Орды.

Тэрыторыя сучаснага горада падзелена р. Лясная на 2 часткі: усходнюю (раён асн. забудовы з адм.-грамадскім цэнтрам) і заходнюю (былая в. Замасты, забудавана індывідуальнымі дамамі сядзібнага тыпу). Забудоўваецца паводле генпланаў 1963 (Брэсцкія абл. праектныя майстэрні) і 1977 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Жаўняк, А. Васільеў). Развіваецца пераважна ў паўд. напрамку ўздоўж шашы Камянец—Брэст, часткова ў зах. і ўсх. напрамках. Планіровачная структура ўсх. раёна — няправільная радыяльная схема. На месцы скрыжавання вуліц Брэсцкай, Чкалава, Гогаля, Першамайскай і інш. утворана пл. Леніна — адм.-грамадскі цэнтр; тут сканцэнтравана ў асн. 2—4-павярховая забудова. У паўд. частцы горада па вул. Брэсцкай (пры ўездзе з боку Брэста) створаны мікраараён з 4—5-павярховых дамоў. Шматпавярховымі дамамі забудоўваюцца асн. вуліцы — Пагранічная і 8 Сакавіка. На астатняй тэрыторыі пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова. Вуліцы Леванеўскага і Пагранічная звязваюць грамадскі цэнтр з зонай адпачынку (парк уключаны ў водна-зялёны дыяметр горада). На вул. Чкалава ў цэнтры горада захаваўся помнік архітэктуры пач. 20 ст. — *Камянецкая Сімяонаўская царква. С. Ф. Самбук.*

**КАМЯНЕЦКАЯ ВЕЖА,** Камянецкі стоўп, помнік абарончага дойлідства. Пабудавана ў г. Камянец паміж 1276—88 дойлідам Алексам (?) паводле загаду валынскага князя Уладзіміра Васількавіча як парубежны апорны пункт. Рэстаўрыравана ў 1903 (арх. В. Суслаў). Круглае ў плане мураванае збудаванне (выш. каля 30 м, вонкавы дыяметр 13,5, таўшчыня сцен 2,5 м) перакрыта нервюрным скляпеннем з кранштэйнамі, над якім узвышаецца баявая галерэя з 14 прамавугольнымі масіўнымі зубцамі са скразнымі адтулінамі. Унутры вежа падзялялася драўлянымі памостамі на 5 ярусаў. Будынак складзены з цёмна-чырвонай і жоўтай брусчатай цэглы (26,5×13,5×8 см) з канаўкамі на адной з плоскасцей. Муроўка балтыйская. Сцяна дэкарыравана атынкаванымі плоскімі арачнымі нішамі, прарэзана байніцамі (у 1—4-м ярусах — вузкія шчылінападобныя, у 5-м — стральчатыя). У тоўшчы сцяны на баявую галерэю вядуць (з 5-га яруса) цагляныя ўсходы, асветленыя 2 вузкімі акенцамі. Мастацкая выразнасць пабудовы дасягаецца манолітнасцю аб'ёму, лаканічнасцю архіт. вырашэння, удалым размяшчэннем вежы на ўзгорку, які быў абнесены валам з драўлянымі сценамі наверсе (не зберагліся). З 1960 у К. в. філіял Брэсцкага абл. краязнаўча-

га музея. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.
*У. А. Чантурыя.*

**КАМЯНЕЦКАЯ СІМЯОНАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 1912—14 з цэглы (вул. Гогаля) у цэнтры горада. Мае традыцыйную 4-часткавую кампазіцыю, выцягнутую па восі ўсход-захад: трох'ярусная званіца, трапезная, квадратны трохнефавы асноўны аб'ём і пяцігранная апсіда. У аб'ёмна-пластычнай структуры храма выкарыстаны формы маскоўскай архітэктуры 17 ст.: кампазіцыя званіцы (васьмярык на чацверыку), якая завершана васьміграным шатром, прарэзаным люкарнамі, з цыбулепадобнай галоўкай, какошнікі, броўкі, закамары асноўнага аб'ёму, пяцікупалле і інш. Асн. кубападобны аб'ём пастаўлены на высокі цокаль і завершаны светлавым цыліндрычным барабанам. Над арачным парталам гал. ўвахода зроблена ніша такой самай формы з размалёўкай. У дэкоры фасадаў выкарыстаны какошнікі, сухарыкі, броўкі, закамары і інш. Унутры нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на падпружных арках і сферычным купалам барабана ў цэнтры. Асноўны кампазіцыйны і дэкар. элемент інтэр'ера — трох'ярусны іканастас, які адмяжоўвае акруглую апсіду. Царква дзейнічае.
*Г. А. Лаўрэцкі.*

**КАМЯНЕЦКІЯ ЗАМКАВА-ПАЛАЦАВЫЯ КОМПЛЕКСЫ.** Існавалі ў 17—19 стагоддзях. Былі пабудаваны ў г. п. Камянец непадалёку ад *Камянецкай вежы* на беразе р. Лясная. 1) Комплекс драўляных збудаванняў 1-й пал. 17 ст. быў умацаваны земляным валам і абкружаны вадзяным ровам, праз які з боку Камянца быў мост. У цэнтры дзядзінца стаяў 2-павярховы палац у стылі рэнесансу з аркаднай галерэяй на гал. фасадзе. Уваход на дзядзінец быў праз 2-ярусную браму, накрытую шатровым дахам (у ніжнім ярусе — гасп. памяшканні, у верхнім — зала, абкружаная адкрытай галерэяй з балюстрадай). Паблізу брамы знаходзіліся 2 жылыя флігелі, кухня, гасп. пабудовы. За межамі ўмацаванняў на беразе ракі стаялі бровар і вял. 2-павярховы свіран. У 2-й пал. 17 — пач. 18 ст. комплекс перабудаваны. 2) Комплекс 2-й пал. 17 — сярэдзіны 18 ст. складаўся з дзядзінца і ўмацаванага драўлянай абарончай сцяной «перадзамачча». Дзядзінец быў умацаваны земляным валам і астрогам. У цэнтры знаходзіўся невял. 1-павярховы анфіладнай планіроўкі палац, гал. ўваход якога афармляў слупавы ганак, завершаны купалам. За ім размяшчаліся жылыя флігелі, гасп. пабудовы. «Перадзамачча», дзе размяшчалася больш за 40 двароў заможных гараджан, злучалася з дзядзінцам праз вадзяны роў мостам з 2 брамамі. У замкавай браме ў ніжнім ярусе па баках ад праезда была турма, у верхнім — лямус з адкрытай галерэяй. У 18 ст. комплекс перабудаваны. 3) Парадны барочны палацавы комплекс сярэдзіны 18—19 ст. захаваў ранейшыя знешнія ўмацаванні (вадзяны роў, вал і драўляную сцяну), 2-ярусную браму. Насупраць брамы стаяў 2-павярховы драўляны палац, накрыты 2-схільным дахам, з ганкам, завершаным 3 вежамі. Дзверы палаца былі ўпрыгожаны арнаментальнай разьбой,сцены — шпалерамі, падзеленымі рознымі ліштвамі на асобныя панелі. Паблізу ад брамы размяшчаліся дом аканома, кухня, гасп. пабудовы. У канцы 18—пач. 19 ст. комплекс прыйшоў у заняпад.
*Ю. А. Якімовіч.*

**КАМЯНПОЛЬСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 19 — пач. 20 ст. ў в. Камянполле (Міёрскі р-н). Уключае сядзібны дом, парк, пладовы сад і гасп. зону. Сядзібны дом (пабудаваны ў 1873, перабудаваны ў 1970-я гады) — 2-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак, накрыты 2-схільным дахам з мансардай у цэнтры. Пры ўваходзе 6-калонны ганак. Планіроўка калідорная. У інтэр'еры зберагліся 2 кафляныя печы 19 ст. ў стылі класіцызму, аздобленыя барэльефнымі медальёнамі. Гасп. пабудовы (стайня, кузня і інш.) з элементамі архітэктуры неаготыкі размешчаны абапал пад'язной дарогі. Невял. парк рэгулярнага тыпу з сістэмай прамавугольных каналаў размешчаны на раўніннай тэрыторыі з ПнЗ ад сядзібнага дома. У цэнтры кампазіцыі парку прамавугольны партэр (пл. 1 га), абмежаваны па перыметры ліпавымі алеямі і абкружаны фруктовым са-



**Камянпольская сядзіба.** Сядзібны дом.



**Камянецкая Сімяонаўская царква.**

дам. У сядзібе размешчана школа. *А. М. Кулагін.*

**КАНСТАНЦІНАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 2-й пал. 19 ст. ў в. Канстанцінава (Мядзельскі р-н). Прамавугольны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам. З усходняга боку далучаны кубападобны аб'ём апсіды з нізкай бакавой сакрысціяй. Цэнтр гал. атынкаванага фасада вылучаны рызалітам з трохвугольным франтонам у завяршэнні, прамавугольным уваходным парталам з лучковым франтонам і фігурнай люкарнай над ім. Над дахам з боку гал. фасада гранёная вежа-званіца з арачнымі праёмамі і шатровым завяршэннем, над алтарным аб'ёмам ліхтар. На фоне бутавай муроўкі бакавых сцен вылучаюцца простыя атынкаваныя лішты арачных акон і люкарнаў, руставаныя вуглавыя пілястры. Унутраная прастора падзелена ар-



Канстанцінаўскі касцёл.

кадамі на 3 нефы, якія перакрыты плоскай столлю. У высокі цэнтральны неф выступае на 2 слупах галерэя хораў з арганам; прамавугольнае алтарнае памяшканне раскрываецца шырокім арачным парталам з 2 калонамі. У інтэр'еры драўляны амбон. Вакол касцёла бутавая агароджа з арачнай брамай. Касцёл дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**КАПАТКЕВІЧЫ,** гарадскі пасёлак у Петрыкаўскім р-не, на р. Пціч. За 35 км ад Петрыкава, 179 км ад Гомеля. З сярэдзіны 16 ст. ў Мінскім ваяводстве Вял. кн. Літоўскага, належалі Яланскім. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Мазырскага пав. 1768 жыхароў у 1897. У 1924—30, 1935—62 цэнтр раёна. З 27.9.1938 гарадскі пасёлак. З 1962 у Петрыкаўскім р-не. Архіт.-планіровачная структура вызначаецца лінейнай сістэмай планіроўкі з прамавугольнай сеткай квартальнай забудовы. На стыку асн. вуліц Інтэрнацыянальнай, Калініна (забудоўваюцца адм.-грамадскімі і гандл. ўстановамі, 2—3-павярховымі жылымі дамамі) і Камсамольскай утварылася цэнтр. плошча. З У да плошчы прымыкае парк са спарт. зонай. У паўд.-зах. частцы пасёлка ствараецца мікраараён (вуліцы Ленінская, Меліярацыйная, Партызанская, забудоўваюцца 3—5-павярховымі жылымі дамамі). Прамысл. зона сфарміравалася ў паўн. частцы пасёлка. Зона адпачынку ствараецца на р. Пціч. Паводле генплана 1987 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё пасёлка ў паўн., паўн.-зах. і зах. напрамках. *М. А. Найшулер.*

**КАПЫЛЬ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Капыльскага р-на, на р. Мажа. За 125 км ад Мінска. У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў Галіцка-Валынскім летапісе пад 1274. З 1320-х гадоў у Вял. кн. Літоўскім. З 1395 належаў Уладзіміру Альгердавічу і яго нашчадкам Алелькавічам, з 1612 — Радзівілам, з 1832 — Вітгенштэйну. У 14—15 стагоддзях цэнтр княства. Стараж. цэнтр К.— гарадзішча на р. Мажа, авальнай формы, умацаванае валам, з У і Пд — глыбокім ровам. У 14—16 стагоддзях на тэр. гарадзішча існаваў замак, у 2-й пал. 17 ст. на яго месцы быў невял. драўляны сядзібны комплекс, які ўключаў панскі дом (складаўся з 3 жылых пакояў, 2 алькежаў, 2 камор і варыўні) і гасп. пабудовы. У 16 ст. пабудаваны кальвінскі збор і касцёл. У 1652 атрымаў магдэбургскае права і герб (выява чорнага паляўнічага рога на залатым полі). З 1793 у складзе Расіі, мястэчка Слуцкага пав. У 18—19 стагоддзях цэнтрам мястэчка была чатырохвугольная ў плане гандл. плошча, на якой у 1744 стаялі крамы, фарны касцёл з плябаніяй, кальвінскі збор, 32 жылыя дамы, 12 шынкоў. Ад плошчы радыяльна адыходзілі 4 асн. вуліцы-дарогі на Слуцк (злучала цэнтр з сядзібай), Клецк (на ёй былі 2 заезныя корчмы і шынок), Нясвіж і б. мястэчка Пясочнае (на ёй знаходзіліся праваслаўная царква і шпіталь). Астатнія 8 вуліц злучалі асн. вуліцы паміж сабой, з тэрыторыяй б. замка і вадзянымі млынамі на р. Мажа. У 1744 было 256 дамоў. У 1815 у К. 11 вуліц і завулкаў, 328 дамоў. У канцы 19 ст. ў К. 4463 жыхары (1897), 2 млыны. З 1924 цэнтр раёна. З 27.9.1938 гарадскі пасёлак.

Тэр. сучаснага К. падзелена р. Мажа на 2 часткі. Асн. частка — паўночная, на высокім беразе ракі. Тут сфарміравалася кампазіцыйнае ядро пасёлка — пл. Леніна. Ад плошчы радыяльна адыходзяць вуліцы: Савецкая (на Пн, забудавана 1-павярховымі жылымі дамамі) і Партызанская (на Пд) — гал. восі, Я. Купалы (на ПдЗ), на якіх ствараюцца мікраараёны з 2—5-павярховых жылых дамоў. Забудова паўн. часткі пераважна 1-павярховая, цагляная, сядзібнага тыпу (вуліцы Маладзёжная, Загорная, Ц. Гартнага, Юбілейная, Рамашкі, Энгельса, А. Астрэйкі). У паўд. частцы размешчана прамысл. зона. Паблізу прадпрыемстваў знаходзяцца 2—5-павярховыя жылыя дамы, гандл.-быт. ўстановы (вуліцы 50 гадоў БССР, М. Багдановіча, Цімкавіцкая). Зона адпачынку ствараецца на вадасховішчах у пойме ракі. Захаваліся стараж. помнікі: гарадзішча Замак (па вул. Партызанскай, непадалёку ад цэнтра), 2 курганныя могільнікі (каля могілак і на рагу вуліц Цімкавіцкай і Трактарнай), царква 2-й пал. 19 ст. (на вул. К. Маркса). Паводле генпланаў 1971 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. І. Люблінскі, Р. Арцёмчык) і 1988 (БелНДІПгорадабудаўніцтва), прадугледжана развіццё жылой забудовы ў паўн. напрамку, стварэнне культ.-быт. цэнтра на стыку вуліц Савецкай і Партызанскай. *Ю. А. Якімовіч.*

**КАРМА,** гарадскі пасёлак, цэнтр Кармянскага р-на, прыстань на р. Сож пры ўпадзенні ў яе р. Кармянка. За 110 км на Пн ад Гомеля. Вядома з 17 ст. як мястэчка Рэчыцкага пав. Мінскага ваяводства Вял. кн. Літоўскага. З 1772 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Рагачоўскага пав. Магілёўскай, Беларускай губерняў. Належала дваранскаму роду Быкоўскіх. У 1880 было 149 драўляных дамоў. 36 крам, мураваная царква (пабудавана ў 1832), 3 сінагогі, вадзяны млын. У 1897 было 2649 жыхароў. З 1924 цэнтр раёна. З 27.9.1938 гарадскі пасёлак. У 1962—65 у Рагачоўскім, у 1965—66 у Чачэрскім р-нах. Сетка вуліц прамавугольная. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Ільюшчанкі (з Пд на ПнЗ, гал. вось, звязана з дарогамі на Доўск, Чачэрск, Слаўгарад), Кастрычніцкая, Школьная (на іх 2—5-павярховыя жылыя дамы), Абатурава, Новы праспект. На вул. Ільюшчанкі, пры ўездзе ў пасёлак з З, сфарміравалася цэнтр. плошча — адм. і культ.-гандл. цэнтр. З захаду да плошчы прымыкае парк. У цэнтр. частцы вул. Ільюшчанкі на перасячэнні з

вуліцамі Леніна і Кастрычніцкай размешчана трохвугольная ў плане плошча. На Пд пасёлка (пры злучэнні вуліц Ільюшчанкі, Абатурава, Гомельскай, Школьнай, Новы праспект, Малайчука) знаходзіцца стары цэнтр — пл. Свабоды (б. гандлёвая). Паміж вуліцамі Леніна і Ільюшчанкі забудоўваецца новы мікрараён з 5-павярховымі жылымі дамамі, культ.-гандл. цэнтрам. Пераважае ў пасёлку 1-павярховая забудова сядзібнага тыпу. З ПдЗ і Пд пасёлак агінае р. Кармянка з сажалкамі. Прамысл. зона на Пн і ПнУ. Паводле генплана 1976 і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё пасёлка на Пн і ПнУ з функцыянальным заніраваннем тэрыторыі, стварэнне новай плошчы на перасячэнні вуліц Абатурава і Кастрычніцкай, зялёнай зоны ўздоўж р. Кармянка.

*Р. Дз. Шэліхава.*

**КАРМЯНСКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА**, помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. Пабудавана ў 2-й пал. 19 ст. ў в. Карма (Добрушскі р-н). Крыжападобная ў плане, трохапсідная. Над сяродкрыжжам невял. галоўка на чацверыку. Дамінантай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з'яўляецца высокая двух'ярусная званіца, якая прымыкае да бабінца. Паверхня сцен гарызантальна руставана. Аконныя і дзвярныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі з кілепадобнымі завяршэннямі франтончыкаў, аркамі з паўкалонамі. Неф і трансепт храма перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, бабінец — крыжовым, апсіды — конхамі. Царква дзейнічае.

*А. Ю. Пятросава.*

**КАРЭЛІЦКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 17—18 стагоддзях у г. п. Карэлічы. Належала Радзівілам. 1) У 1640 сядзіба складалася з драўляных пабудоў княжацкага двара (гал. дом, дом аканома, 2-павярховыя свірны з балюстраднымі галерэямі, кухня) і гасп. часткі (дом парабкаў, стайні, бровар, сыраварня, свірны, гумно і інш.), якая злучалася з княжацкім дваром праз браму з назіральнай пляцоўкай, з боку мястэчка ў двор вяла 2-ярусная брама, атынкаваная звонку глінай, з 3 жылымі пакоямі ў верхнім ярусе. Гал. дом — 1-павярховы будынак з 2 алькежамі, накрыты гонтавым дахам з 2 дэкар. флюгерамі, уключаў прыхожую, 3 жылыя пакоі, сталовую, кухню, камору. Гал. уваход вылучаны слупавым ганкам, завершаным купалам. Каля гал. дома быў сад. Сядзіба разбурана ў 1655. 2) Комплекс 2-й пал. 17 — пач. 18 ст. складаўся з 2 драўляных 1-павярховых дамоў, накрытых саломай, кухні, сыраварні, варыўні, стайняў, свірнаў, 2 млыноў і інш. гасп. пабудоў. Разбураны ў 1706. 3) У 1730-я гады пабудаваны новы сядзібна-палацавы комплекс: палац у стылі барока, флігель, гасп. пабудовы, 2 брамы з боку мястэчка і з дарогі на Навагрудак, вял. сад. Палац — 2-павярховы прамавугольны ў плане драўляны будынак, завершаны вальмавым гонтавым дахам з мансардай. На 1-м паверсе — прыхожая, гардэроб, зала, 3 жылыя пакоі, парадная лесвіца на 2-і паверх, 3 жылыя пакоі якога аздоблены палатнянымі шпалерамі з выявамі кветак, размалёўкай, творамі дэкар.-прыкладнога мастацтва (каляровая кафля, разная мэбля). Перад палацам былі кветнікі, за ім — «італьянскі» сад на 3 тэрасах з прамавугольнымі ўчасткамі пладовых дрэў і кустоў. У садзе былі лабірынты, аранжарэя. Комплекс не збярогся.

*Ю. А. Якімовіч.*

**КАРЭЛІЧЫ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Карэліцкага р-на, на р. Рутка. За 185 км ад Гродна. Вядомы з 14 ст. З 16 ст. ў Навагрудскім ваяводстве. У 1505 спалены крымскімі татарамі, у 1655 і 1706 — шведамі. У 2-й пал. 17—1-й пал. 19 ст. вядомы вырабам шпалер. З 1795 мястэчка, цэнтр воласці Навагрудскага пав. У 17—18 стагоддзях існавала *Карэліцкая сядзіба,* у 18 ст. пабудавана ратуша. У 1-ю сусветную вайну праз К. праходзіла лінія фронту. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр гміны Навагрудскага пав. З 1939 у БССР, з 15.1.1940 цэнтр раёна. У 1962—65 у Навагрудскім р-не. З 30.4.1958 гарадскі пасёлак. Размешчаны абапал ракі, рэльеф мясцовасці ўзгорысты. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Савецкая, 8-га Сакавіка, Гагарына, Гастэлы, 1-га Мая, Кастрыч-



**Кармянская Пакроўская царква.**



**Карэлічы.** Вуліца Савецкая.

ніцкая, Арцюха, Жалезняковіча. На ўзгорку сфарміравалася цэнтр. плошча — грамадска-адм. і гандлёвы цэнтр пасёлка, ад якога бяруць пачатак вуліцы Савецкая, 8-га Сакавіка, 1-га Мая і 17 Верасня. Жылая зона падзяляецца на 3 часткі: цэнтральную з 2—5-павярховай забудовай, паўд.-ўсх. з 4—5-павярховымі жылымі дамамі (вул. Прытыцкага), паўн. і паўд.-зах. з індывідуальнай забудовай і прамавугольнай сеткай вуліц. На ПнУ аб'язная дарога, уздоўж якой размешчаны гасцініца, рэстаран, універмаг. Паміж аўтадарогай, вуліцамі Савецкай і Школьнай будуецца мікрараён з 3—5-павярховымі жылымі дамамі. На вул. Гагарына вядзецца забудова новага мікраёна. На ПнЗ пасёлка, на вул. 8-га Сакавіка, пабудаваны бальнічны комплекс на 250 ложкаў з паліклінікай на 375 наведванняў за змену. Зона адпачынку з маляўнічым паркам, стадыёнам, 2 сажалкамі сфарміравалася ў пойме ракі. Прамысл. зона на ПдУ і Пн. Паводле генплана 1976 і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё пасёлка ў зах. напрамку з функцыянальным заніраваннем тэрыторыі, буд-ва аб'язной дарогі ў паўд. частцы.

*Р. Дз. Шэліхава.*

**«КАСТРЫЧНІК»**, шырокаэкранны кінатэатр у Гродне. Пабудаваны ў 1987 па індывідуальным праекце (арх. У. Еўдакімаў, Л. Вільчко, У. Шапавалаў). Мае 3 залы. Будынкі кінатэатра, гасцініцы «Гродна» і рэстарана «Гродна» ўтвараюць адзіны архіт. ансамбль. Дынамічны сілуэт кінатэатра, вонкавыя галерэі і лесвіцы, кансольны казырок надаюць будынку відовішчную выразнасць. Пры будаўніцтве выкарыстаны жалезабетонны каркас, індывідуальныя кесонныя пліты перакрыццяў, маналітныя канструкцыі і цэгла. Фасады аздоблены жалезабетоннымі плітамі, тынкоўкай з афарбоўкай. У 1-м паверсе размешчаны касавая зала, вестыбюль з дэкар. басейнам, буфет. Глядзельныя залы на 565, 247 і 211 месцаў згрупаваны вакол фае з асвятленнем у двух узроўнях, на антрэсолях якога прадугледжана выставачная галерэя з верхнім натуральным асвятленнем. У аздабленні інтэр'ераў выкарыстаны алюміній, мармур, граніт, дрэва і інш. Залы пафарбаваныя ў блакітны, бэжавы і тэракотавы колеры. У добраўпарадкаванні тэрыторыі прадугледжаны дэкар. фантан, кветнікі, свяцільні.

**«КАСТРЫЧНІК»**, кінатэатр у Мінску. Пабудаваны ў 1975 (арх. В. Малышаў). Размешчаны ў глы-




Кінатэатр **«Кастрычнік»** у Мінску.

біні ад чырвонай лініі забудовы праспекта Ф. Скарыны (на месцы б. кінатэатра «Зорка»), замыкае перспектыву з вул. Ф. Скарыны. У сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі 2-павярховага будынка дамінуе аб'ём авальнай формы на прамавугольным стылабаце (з лесвічнымі клеткамі). У апрацоўцы фасадаў выкарыстаны натуральныя матэрыялы — пліты з мармуру і вапняку. У планіровачнай структуры будынка дакладна вылучаны функцыянальныя групы памяшканняў. Па гал. восі на 1-м паверсе размешчаны касавы вестыбюль, кафэ на 20 месцаў, малы экран. 2 шырокія лесвіцы вядуць на 2-і паверх, дзе знаходзіцца фае, якое выкарыстоўваецца пад перасоўныя выстаўкі. Глядзельная зала (на 1400 месцаў) вырашана амфітэатрам авальнай формы, у аздабленні сцен выкарыстаны перфараваныя элементы з алюмінію.

*А. А. Воінаў.*

**«КАСТРЫЧНІЦКАЯ»**, гасцініца ў Мінску. Пабудавана ў 1980 (арх. Л. Пагарэлаў, Ю. Івахнішын, Т. Лабінская). Складаецца з 8-павярховага прамавугольнага ў плане жылога корпуса і прылеглага да яго дваровага фасада 1—2-павярховага аб'ёму. Кампазіцыя гал. фасада асн. аб'ёму грунтуецца на вертыкальным рытме 3-вугольных эркераў. Гал. ўваход акцэнтаваны пано (мастакі А. Кішчанка, Т. Кіршчына). 1-ы паверх вырашаны ў выглядзе пастамента, абліцаваны гранітам і мармурам. Адкрытая мармуровая лесвіца надае параднасць падыходу да будынка. У афармленні інтэр'ераў выкарыстаны граніт, мармур, каштоўныя пароды дрэў, пластмасы, алюміній, шпалеры, інш. аддзелачныя матэрыялы. Гасцініца з камфартабельнымі жылымі нумарамі разлічана на 160 месцаў. На 1—2-м паверхах знаходзіцца вестыбюль, пакоі абслугоўвання, кіназала, банкетная зала, адм. памяшканні. Складаная канфігурацыя аб'ёму ўтварае адкрыты ўнутраны дворык.

**КАСТРЫЧНІЦКАЯ ПЛОШЧА** ў Мінску (да 1984 наз. Цэнтральная). Размешчана на паўн. баку цэнтр. часткі асн. дыяметра горада — праспекта Ф. Скарыны на ўчастку, абмежаваным вуліцамі Энгельса, Інтэрнацыянальнай і Чырвонаармейскай. Мае прамавугольную форму (220×170 м). З Пд да плошчы прылягае Цэнтральны сквер (б. Аляксандраўскі сад), які зрокава павялічвае яе. У сучасным выглядзе пачала фарміравацца на месцы разбуранага ў час Айч. вайны квартала паводле праекта 1949 (арх. М. Парусінкаў, Г. Баданаў, У. Кароль, Л. Мацкевіч, М. Асмалоўскі), адпаведна якому асн. сэнсавая і кампазіцыйная роля адводзілася манум. адм. будынку (арх. Парусінкаў), што павінен быў фарміраваць паўн. бок плошчы. Аднак праект не быў рэалізаваны, і ў далейшым плошча забудоўвалася без пэўнай маст. задумы. Усх. бок плошчы фарміруюць *Мінскі Палац культуры Белсаўпрофа* і Бел. дзярж. музей гісторыі Вял. Айч. вайны (1964; арх. Г. Бенядзіктаў, Г. Заборскі). На зах. баку пабудаваны 123-кватэрны жылы дом (1949—54; арх. Парусінкаў, Заборскі), будынкі Цэнтральнага тэлеграфа (1962; арх. Кароль, А. Духан) і Мінскага аблвыканкома (1958, арх. В. Волчак). Паўд. бок плошчы, які мяжуе з Цэнтр. скверам, абрамлены гранітным парапетам з урадавай трыбунай (1957; арх. Я. Заслаўскі). У 1985 пачата буд-ва Рэспубліканскага Палаца культуры (арх.



Гасцініца **«Кастрычніцкая»** ў Мінску.

М. Пірагоў, У. Данілаў, Л. Зданевіч, Л. Маскалевіч, В. Новікаў, М. Турлюк, В. Усімаў, А. Шабалін з удзелам І. Бізюка, К. Філіповіча), які павінен стаць гал. кампазіцыйным акцэнтам плошчы і завяршыць яе забудову. Для агульнага кампазіцыйнага вырашэння плошчы пэўнае значэнне маюць таксама будынкі *Акруговага Дома афіцэраў*, *Цэнтральнага камітэта камуністычнай партыі Беларусі будынак*, Бел. т-ра імя. Я. Купалы (гл. *Мін-*

*скі гарадскі тэатр*), зялёны масіў сквера. У падземным узроўні плошчы функцыяніруе станцыя Мінскага метрапалітэна «Кастрычніцкая» з пераходам на ст. «Купалаўская». Прадугледжана добраўпарадкаванне плошчы, стварэнне пешаходнай зоны, падземнай аўтамабільнай стаянкі. *С. Ф. Самбук.*

**КАСЦЮКОВІЧЫ,** горад, цэнтр Касцюковіцкага р-на, на р. Жадунька. За 160 км ад Магілёва. Чыг. ст. Камунары. Вядомы з 16 ст. як дзярж. маёнтак у Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяводства. З 1772 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Клімавіцкага пав. Беларускай, з 1796 Магілёўскай губ. Маёнтак К. належаў У. Цеханавецкаму. Мястэчка было вядома конным кірмашом. Да 1864 існавала трохкласнае вучылішча, якое ўтрымлівалася за кошт мястэчка. У 1872 засн. вінакурны з-д. У 1886 у К. 620 жыхароў, 94 крамы, 122 двары, 2 царквы, сінагога, царкоўна-прыходскае вучылішча, бальніца, аптэка, 8 гарбарняў, млын; 2 кірмашы на год. 700 жыхароў у 1897. З 1924 цэнтр раёна. З 1938 горад. 6,1 тыс. жыхароў у 1939. Тэр. горада выцягнута з Пн на Пд. Сетка вуліц прамавугольная. Вось кампазіцыі — вул. Ленінская на правым беразе р. Жадунька, якая разам з вуліцамі Чырвонаармейскай, Інтэрнацыянальнай, Юнацкай утварае невял. кварталы. Грамадскі цэнтр сфарміраваўся на вул. Ленінскай. Кампазіцыйна-планіровачным цэнтрам горада з'яўляецца плошча на перакрыжаванні вуліц Ленінскай і Камсамольскай. Капітальная жылая забудова (2—5-павярховыя жылыя дамы) сканцэнтравана на вул. Ленінскай, Інтэрнацыянальнай, Чырвонаармейскай, Юнацкай. У 1989 у цэнтры горада на вул. Ленінскай паводле індывідуальнага праекта ўзведзены 3-павярховы будынак раённага краязнаўчага музея (арх. В. Гальдштэйн, Э. Гальдштэйн, С. Іваноў). Забудоўваецца вул. Зіньковіча. У паўн. частцы горада у 1970 пабудаваны жылы квартал з 2—4-павярховых жылых дамоў. Новы жылы раён сфарміраваны ў зах. частцы горада на вуліцах Чырвонаармейскай і Камсамольскай. На ПнЗ ад цэнтра, злева ад шашы Касцюковічы — Краснаполле, будуецца (1990) новы жылы мікраён з 5-павярховых дамоў. Узводзяцца паліклініка, бальніца, сярэдняя школа, дашкольныя дзіцячыя ўстановы. Прамысл. зона на ПдЗ і Пн (у раёне ст. Камунары). Горад забудоўваецца паводле генплана 1973 і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва).

**КАСЦЮКОЎКА,** рабочы пасёлак у прыгараднай зоне Гомеля, падпарадкоўваецца Чыгуначнаму раённаму савету горада. За 12 км на ПнЗ ад Гомеля, чыг. станцыя. З 1873 станцыя Лібава-Роменскай чыгункі, з 1929 пасёлак рабочых Гомельскага шклозавода, з 1935 рабочы пасёлак. Развіваецца паводле генплана 1958 (ін-т Дзіпрабудматэрыялы, Масква). Кампазіцыйная вось — вул. Гомельская (аўтадарога Гомель — Магілёў), на З ад якой размешчана жылая зона, на У — прамысловая. Цэнтр. плошча сфарміравалася ў месцы злучэння вуліц 9 Мая і Першамайскай. З У да плошчы прымыкае сквер. Забудова квартальная, пераважаюць 2—5-павярховыя жылыя дамы (вуліцы Кастрычніцкая, Басянкова, Бяляева, Лебядзінскага і інш.). З Пд да жылой забудовы прымыкае вял. паркавая зона, дзе пабудаваны спарт. комплекс з плавальным басейнам і штучнае возера. Працуе Гомельскі шклозавод імя М. В. Ламаносава. *М. А. Найшулер.*

**КАСЦЯНЕВІЦКІ КАСЦЁЛ МАЦІ БОСКАЙ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў сярэдзіне 18 ст. ў в. Касцяневічы (Вілейскі р-н). Прамавугольны ў плане будынак накрыты высокім двухсхільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Сцены апрацаваны плоскімі пілястрамі. Галоўны фасад завершаны атыкавым франтонам складанай формы з паўцыркульным аконным праёмам. Франтон упрыгожаны валютамі, пілястрамі, шматслаёвым карнізам. Уваходны партал і аконныя праёмы лучковыя. Да ўсх. фасада далучана прыбудова, накрытая стромкім двухсхільным дахам з атыкавым барочным франтонам над уваходам. Унутраная прастора перакрыта каробчатай столлю. Падлога выкладзена каляровай мазаікай. Сцены аздоблены двухслаёвымі пілястрамі. Алтар сіметрычнай кампазіцыі з вял. паўцыркульнай нішай у цэнтры, аздоблены 6 паўкруглымі калонамі з іанічнымі капітэ-



**Кастрычніцкая плошча.** Фота з макета.



**Касцяневіцкі касцёл Маці Боскай.**

лямі, якія падтрымліваюць шматслойны карніз. Паміж калонамі гіпсавая пафарбаваная скульптура. На невысокія драўляныя хоры вядзе бакавая лесвіца. Касцёл дзейнічае.

*А. Ю. Пятросава.*

**«КАЦЮША»**, мемарыяльны комплекс у Оршы ў гонар першага залпа «кацюш» (неафіцыйная назва бясствольных сістэм палявой рэактыўнай артылерыі), які быў зроблены па ням.-фаш. захопніках 14.7.1941 батарэяй рэактыўных мінамётаў пад камандаваннем капітана І. А. Флёрава. Створаны ў 1966 (арх. Ю. Градаў, В. Занковіч, Л. Левін). Помнік удала ўпісаны ў навакольную прастору (мост цераз Дняпро і 17-метровы адхон, на розных узроўнях якога размешчана гал. частка комплексу). Справа пры ўваходзе на тэр. комплексу невял. куб з мемарыяльным надпісам. На ўзвышшы злева на 7 тумбах рытмічна ўстаноўлены 8-метровыя жалезабетонныя элементы, якія сімвалізуюць мінамётны залп з 7 установак. У цэнтры



Мемарыяльны комплекс «Кацюша».

самай высокай пляцоўкі на масіўным прамавугольным у плане жалезабетонным пастаменце рэактыўная ўстаноўка «БМ-13» на аўтамашыне. Аб'ядноўвае кампазіцыю бетонны стылабат.

*М. М. Яніцкая.*

**КАШЭВІЦКАЯ УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1642 у в. Кашэвічы (Петрыкаўскі р-н). Спачатку мела глыбінна-прасторавую кампазіцыю, складалася з квадратнага ў плане асн. аб'ёму і 5-граннай алтарнай апсіды. У 2-й пал. 19 ст. да асн. аб'ёму з З прыбудавана 2-ярусная чацверыковая вежа-званіца з дахам складанай канфігурацыі. Над асн. аб'ёмам 2-ярусны васьмерыковы верх (у інтэр'еры пераход да яго ад ніжняга чацверыка на ветразях, у якіх прарэзаны дэкар. галаснікі), завершаны цыбулепадобным купалам. Алтарная апсіда накрыта шатровым дахам з купалком на глухім барабане. Дахі злучаны прамежкавай 2-схільнай стрэшкай. Сцены звонку гарызантальна ашаляваны, прамавугольныя вокны аздоблены плоскімі ліштвамі. У інтэр'еры асн. аб'ём злучаны з алтарнай часткай праёмам у выглядзе стылізаванай 2-пралётнай аркі, мае кансольна-бэлечныя хоры, агароджаныя балюстрадай. Помнік адметны своеасаблівай сістэмай прапорцый, звязанай са стараж.-рус. архітэктурай. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч.*

**КЕМЕЛІШКАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў 1900 у в. Кемелішкі (Астравецкі р-н). Мае рысы стыляў мадэрн, неакласіцызму, несапраўднай готыкі. Крыжовы ў плане 6-слуповы храм зальнага тыпу з 5-граннай алтарнай апсідай, да якой з Пн прымыкае сакрысція. Асн. аб'ём



Кашэвіцкая Успенская царква.

і трансепт завершаны 2-схільным дахам, 5-гранная алтарная апсіда — вальмавым. Гал. фасад завершаны дзвюма 2-яруснымі вежамі (васьмярык на чацверыку), накрытымі спічастымі шатрамі (кожны мае 4 дэкар. франтончыкі са шпілем). Гал. ўваход вылучаны 4-слуповым ганкам пад 2-схільным дахам. Франтоны тарцоў трансепта завершаны невял. чацверыковымі шатровымі вежачкамі. Сцены знадворку гарызантальна ашаляваны. Вокны прамавугольныя з лучковымі завяршэннямі і рамбічныя (у трансептах). Побач з касцёлам — 3-ярусная чацверыковая званіца, завершаная шатровым дахам. Касцёл дзейнічае.

*Ю. А. Якімовіч.*

**КІРАВА ВУЛІЦА** ў Віцебску. Адна з гал. магістралей горада. Узнікла ў 2-й пал. 19 ст., наз. Вакзальнай (звязвала цэнтр горада з вакзалам). У час Вял. Айч. вайны зруйнавана. Пасляваеннае будаўніцтва К. в. пачалося ў 1951, у 1952 распрацаваны праект яе забудовы (арх. В. Гусеў, В. Данілаў, А. Данілава), забудоўвалася да канца 1950-х гадоў. Значная ўвага аддаецца развіццю ансамблевых прынцыпаў арганізацыі забудовы. У адпаведнасці з генпланам аднаўлення і развіцця Віцебска (1946—47, арх. А. Касьянаў і інш.) вуліца і яе працяг сталі важным гар. дыяметрам, перпендыкулярным гал. кампазіцыйным восям у структуры горада — вуліцы Леніна і р. Зах. Дзвіна. Вуліца (даўж. каля 600 м, шырыня 66 м, у т. л. бульвар 24 м, 2 праезныя часткі па 12 м і 2 тратуары па 9 м) пачынаецца з Прывакзальнай пл., дзе цэнтрам кампазіцыі з'яўляецца *Віцебскі чыгуначны вакзал,* які замыкае перспектыву бульвара пасярэдзіне вуліцы. Перад Кіраўскім мостам (1955, арх. В. Ладыгіна, Я. Заслаўскі) вуліцу завяршаюць вежавыя аб'ёмы будынкаў гасцініцы «Дзвіна» і інтэрната (абодва 1957, арх. А. і В. Данілавы), якія адыгрываюць важную ролю ў сілуэце горада. У забудове пераважаюць 4—5-павярховыя жылыя дамы з убудаванымі ў першых паверхах памяшканнямі для магазінаў, рэстарана, сталовай і іншых прадпрыемстваў культ.-быт. абслугоўвання. Кампазіцыя К. в. заснавана на стылявым адзінстве пластычнага вырашэння фасадаў з выкарыстаннем элементаў класічнай спадчыны. Цэласнаму ўражанню садзейнічаюць прыкладна аднолькавая працягласць і вышыня будынкаў, падабенства гарызантальных і вертыкальных чляненняў (карнізы, цягі, пілястры і інш.). Балконы, эркеры і інш. архіт. элементы ўзба-



Кемелішкаўскі касцёл.

гачаюць фасадныя плоскасці. Ансамбль вуліцы дапаўняе бульвар з пасадак ліпы і каштана.

**КІРАЎСК,** гарадскі пасёлак, цэнтр Кіраўскага р-на, на р. Ала. За 87 км на ПдЗ ад Магілёва. Пасля ўтварэння Кіраўскага р-на (12.2.1935, названы ў гонар С. М. Кірава, часовы цэнтр — в. Старцы, у 1939 перайменавана ў в. Кірава) каля в. Кірава быў пабудаваны новы пас. Кіраўск. У лістападзе 1955 пасёлак зліўся з в. Кірава, куды перанесены раённы цэнтр. З 17.11.1959 гарадскі пасёлак. Сетка вуліц прамавугольная з невял. кварталамі 1-павярховай жылой забудовы сядзібнага тыпу. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Кірава (гал. вось), Камсамольская, Валадарскага (забудавана 2—3-павярховымі жылымі дамамі), Ленінская, Гагарына, Царашковай. На вул. Кірава сфарміравалася цэнтр. плошча — грамадскі цэнтр пасёлка. Прамысл. зона размешчана ў паўд.-зах. і паўн.-ўсх. частках пасёлка. Захаваўся помнік садова-паркавага мастацтва пач. 20 ст.— парк. Зона адпачынку — сквер, берагі р. Ала. Паводле генпланаў 1972 (Магілёўскі філіял ін-та «Белдзяржпраект») і 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё гарадскога пасёлка ў паўн. і ўсх. напрамках, буд-ва 2—5-павярховых жылых дамоў у паўн.-зах. частцы, стварэнне зах., паўн.-ўсх. і паўд. прамысл. вузлоў, зоны адпачынку на беразе р. Ала. *В. М. Кашырын.*

**КІШЧЫЦКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры з элементамі класіцызму і псеўдарускага стылю. Пабудавана ў 1845 у в. Кішчыцы (Шклоўскі р-н). Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма развіта па падоўжнай восі. Цэнтральны квадратны ў плане аб'ём накрыты пакатым шатровым дахам з цыбулепадобнай галоўкай. Яго фасады завершаны кілепадобнымі франтонамі. Трох'ярусная вежа-званіца, прыбудаваная з боку гал. фасада, накрыта шатровым дахам з галоўкай. Прамавугольныя аб'ёмы бабінца і апсіды накрыты двухсхільнымі дахамі. Сцены будынка прарэзаны вял. паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. У дэкаратыўным аздабленні фасадаў выкарыстаны пілястры, франтоны, сандрыкі, нішы, прафіляваныя карнізы і інш. Ва ўнутраной прасторы царквы дамінуе зала, якая перакрыта самкнутым скляпеннем на падпружных арках. Пакрыцці астатніх аб'ёмаў цыліндрычныя. Аб'ём ніжняга яруса званіцы падзелены сценамі на 3 памяшканні: у левым зроблена двухмаршавая лесвіца, якая вядзе на верхнія ярусы, сярэдняе — тамбур-прытвор, правае прыстасавана для гасп. патрэб. Царква дзейнічае. *А. А. Міцянін.*



Кішчыцкая Пакроўская царква.



Вуліца Кірава ў Віцебску.

**КЛЕЦК,** горад, цэнтр Клецкага р-на, на р. Лань. За 140 км ад Мінска. К. (летапісны Клеческ, Клечьск, ад клечь — бярозавы зараснік) упершыню ўпамінаецца пад 1128 як цэнтр удзельнага княства ў складзе Тураўскага княства. У 1142—46 і з 1149 належаў чарнігаўскаму кн. Святаславу Ольгавічу. З 13 ст. ў Вял. кн.Літоўскім. З 1445 уладанне кн. Міхаіла Жыгімонтавіча, з 1452 — Казіміра IV, з 1456 — Івана Васілевіча Яраславіча і яго сына Фёдара Іванавіча. У 1503 спалены татарамі. З 1507 у Навагрудскім, з 1791 Случарэцкім пав. Навагрудскага ваяводства. Належаў кн. Жыгімонту I Старому (з 1520), каралеве Боне (з 1524), Радзівілам (з 1588; у 1586—1874 існавала Клецкая ардынацыя Радзівілаў). У 1652 горад атрымаў магдэбургскае права і герб — выява княжацкай кароны і паляўнічага рога на блакітным полі. Ядром стараж. горада быў замак на ўзгорку. У 1552 частка горада абнесена драўляным парканам. Цэнтрам з'яўляўся прамавугольны ў плане рынак, шчыльна забудаваны з усіх бакоў. Ад яго радыяльна разыходзіліся магістральныя вуліцы Нясвіжская, Віленская і Пінская, вуліцы да ракі і балота. Утворана новае прадмесце Слабада — ад Віленскай вул. ўздоўж курганоў да р. Лань. Існавалі Троіцкі касцёл, царква Мікалая і шпіталь (па вул. Віленскай), а таксама цэрквы Васкрасенская, Прачысценская і Успення Багародзіцы. Заснаваны кальвінскі збор (гл. *Клецкі фарны Троіцкі касцёл).* Былыя дзядзінец і вакольны горад пераўтвораны ў Верхні і Ніжні замкі, агароджаныя астрогам і аддзеленыя адзін ад аднаго вадзяным ровам. Архіт.-планіровачная структура горада ў 17 ст. была радыяльна-паўкальцавая, К. развіваўся на У ад замкаў і ракі. Сфарміраваўся агульнагарадскі грамадскі цэнтр — гандлёвая плошча з ратушай (пабудавана з вежай, завершанай адкрытай галерэяй і купалам). Ад плошчы промнямі разыходзіліся вуліцы (па інвентары 1626 было 11), паўкальцавая вуліца апяразвала замкі з У. Непадалёк ад замка знаходзіўся мураваны Троіцкі касцёл, на рынку — праваслаўная царква, па-за межамі горада — царква Ушэсця. Дамы на плошчы стаялі шчыльна, утвараўся адзіны фронт фасадаў, рытмізаваны шчытамі 2-схільных дахаў, аздобленых уверсе адзінарнымі гатычнымі вільчыкамі. На беразе ракі, у канцы пракладзенай праз яе грэблі, зна-




**Клецк.** Гравюра пачатку 17 ст.



**Клецкі фарны Троіцкі касцёл.** Фота 1930-х гадоў.

ходзіўся вадзяны млын. У 1653 было 376 двароў. У 1897 — 4,7 тыс. жыхароў. З 1793 К. у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Слуцкага пав. У 2-й пал. 17 ст. пабудаваны *Клецкі Благавешчанскі касцёл і кляштар дамініканцаў* (па вул. Я. Купалы), у 18 ст.— драўляная ў стылі барока 3-ярусная званіца (завяршалася шатровым гонтавым дахам са шпілем і крыжам), у 2-й пал. 19 ст.— з цэглы царква з 3-яруснай званіцай (вул. Леніна, на могілках), на мяжы 19—20 стагоддзяў — сінагога з цэглы (вул. Гагарына), у пач. 20 ст.— у стылі мадэрн шпіталь з цэглы (1909, вул. Школьная), казармы з дрэва, цэглы і бутавага каменю (вул. Казарменная). У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, горад Нясвіжскага пав. Мінскай губ. З 1939 у БССР, 17,9 тыс. жыхароў, з 1940 цэнтр раёна Баранавіцкай вобл., у 1954—62 і з 30.6.1966 — Мінскай вобл. (у 1962—66 у Нясвіжскім р-не).

Сучасны горад размешчаны на 2 пагорках: на адным — жылая зона з агульнагарадскім цэнтрам, на другім — прамысловая (на Пн). Планіроўка радыяльная. Асн. транспартныя магістралі і кампазіцыйныя вузлы — вуліцы Леніна, Гагарына і Савецкая (на перакрыжаванні іх размешчана гал. плошча горада — Маякоўскага са скверам у цэнтры яе), а таксама вуліцы Перамогі (звязвае аўта- і чыгуначны вакзалы з цэнтрам) і 17 Верасня. Пераважна 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу, на гал. вуліцах узводзяцца 2—3 і 5-павярховыя жылыя дамы. К. забудоўваўся паводле праекта 1947 аднаўлення і развіцця цэнтр. часткі і генплана 1970 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. І. Люблінскі). На паўд.-зах. ускраіне зберaглося гарадзішча стараж. горада, якое складалася з дзядзінца і вакольнага горада, умацаваных валамі і равамі. Зона адпачынку фарміруецца на р. Лань. Паводле генплана 1985 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Арцёмчык, А. Дубініна) прадугледжана развіццё горада ў паўд. і паўн.-ўсх. напрамках (уключэнне ў межы горада пас. Пабеданосны і в. Панкратавічы), рэканструкцыя цэнтр. часткі.

*Ю. А. Якімовіч, С. Ф. Самбук.*

**КЛЕЦКІ БЛАГАВЕШЧАНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры сталага барока. Касцёл пабудаваны з цэглы ў 1683 у Клецку па фундацыі С. К. Радзівіла, Ю. Булгака і А. Сангушкі (каштэлян мінскі). Неф (у плане выцягнуты прамавугольнік) і алтарная апсіда з паўцыркульным завяршэннем накрыты высокім агульным дахам. З Пн — невял. сакрысція. Гал. фасад вырашаны як аб'ёмная 2-вежавая пласціна і падзелены карнізам (ніжэй узроўню карніза нефа) на 2 роўныя па вышыні часткі. Масіўныя чацверыковыя вежы спачатку завяршаліся пакатымі, потым высокімі 4-схільнымі шатрамі (вярхі разбураны), тарэц даху закрываўся 3-вугольным франтонам, па вышыні амаль роўным з вежамі. Фасады рытмічна расчлянё-



**Клецк.** Рыначная плошча. Справа Благавешчанскі касцёл. Фота 1930-х гадоў.

ны шырокімі пілястрамі, пластыка гал. фасада ўзбагачана нішамі, франтончыкамі, скульптурай і лепкай. Помнік значна пашкоджаны перабудовамі ў сав. час. (зараз у ім размешчаны філіял механічнага з-да). На У за касцёлам пастаўлены 2-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак кляштара, накрыты вальмавым дахам. Фасады рытмічна расчлянёны шырокімі лапаткамі і прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Планіроўка галерэйная з тарцовай двухмаршавай лесвіцай. Перакрыцці памяшканняў, галерэй і падвалаў скляпеністыя. З 1795 пры кляштары існавала школа на 10 студэнтаў шляхецкага паходжання і шпіталь (засн. М. Адахоўскім). Цяпер у кляштары размешчаны інтэрнат. Касцёл і кляштар — помнікі рэспубліканскага значэння. Іл. гл. ў арт. *Клецк.* *Т. В. Габрусь.*

**КЛЕЦКІ ФАРНЫ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ.** Існаваў у 16 ст.— 1-й пал. 20 ст. Пабудаваны ў сярэдзіне 16 ст. У 1560-я гады Мікалай Радзівіл Чорны перадаў храм кальвіністам, тут з пратэстанцкімі пропаведзямі выступаў бел. гуманіст Сымон Будны. Пры Альбрыхце II Радзівіле (маршалак Вял. кн. Літоўскага і ўладальнік Клецка) зноў перададзены католікам. У 1607 асвячоны біскупам віленскім Юрыем Радзівілам. Касцёл аднанефавы, прамавугольны ў плане асн. аб'ём і 5-гранная апсіда завяршаліся агульным дахам (2-схільным над асн. аб'ёмам і шматгранным над алтаром). Да паўн. сцяны прэсбітэрыя прылягала невял. 2-павярховая сакрысція, на другім паверсе якой была скарбніца. Сцены былі ўмацаваны контрфорсамі і завершаны прафіляваным карнізам. Аконныя праёмы арачныя. Да гал. фасада была прыбудавана 3-ярусная вежа-званіца (ніжні ярус чацверыковы, астатнія васьмерыковыя) з арачнымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, упрыгожаная нішамі, філёнгамі, завершаная купалам. Скляпенне асн. аб'ёму цыліндрычнае з распалубкамі, у інтэр'еры багата аздобленыя разныя алтары, скульптура. Падлога была цагляная, у асн. аб'ёме ў ёй было пакладзена некалькі каменных пліт. Пад алтарнай часткай былі сутарэнні. Над уваходам размяшчаліся драўляныя хоры. Сцены касцёла былі ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы (26—27×12,5—13×6,5—7 см). Касцёл быў пашкоджаны ў Вял. Айч. вайну, узарваны ў 1950-я гады (засталася частка зах. сцяны). *Т. В. Габрусь, А. М. Кушнярэвіч.*

**КЛІМАВІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудавана з цэглы ў сярэдзіне 19 ст. ў г. Клімавічы. Царква складаецца з крыжовага ў плане асн. аб'ёму і прыбудаваных да яго паўкруглай апсіды з усходу і квадратнага бабінца з захаду. Над сяродкрыжжам на чацверыку ўзвышаецца вял. светлавы васьмігранны барабан з купалам. Бабінец завершаны 3-ярусна́й вежай-званіцай (2 чацверыкі і васьмярык з граненым купалам). Купал і званіца ўвянчаны галоўкамі. Сцены атынкаваныя, завершаныя развітым прафіляваным карнізам. Вуглы аб'ёмаў апрацаваны буйным рустам, вокны аздоблены ляпнымі арачкамі. У дэкоры выкарыстаны плоскія нішы, сухарыкі, раскрапоўкі ў выглядзе трохвугольных франтонаў, двухколерная тынкоўка. Інтэр'ер двухсветлавы, сяродкрыжжа перакрыта самкнёным скляпеннем. Царква дзейнічае. *Т. В. Габрусь.*

**КЛІМАВІЦКІ ЖЫЛЫ ДОМ,** помнік драўлянага дойлідства 19 ст. Пабудаваны ў Клімавічах у 1867 у псеўдарускім стылі. Драўляны 1-павярховы амаль квадратны ў плане будынак з прыбудовай у паўн.-зах. частцы. Кампазіцыя гал. фасада 3-частказая. Цэнтр. частка вылучана мансардай з кілепадобным франтонам, поле якога падзелена крыж-накрыж прафіляванымі сцяжкамі, упрыгожана разнымі накладнымі дэталямі, ламанымі лесвічнымі стужкамі. Бакавыя часткі завершаны 3-вугольнымі франтонамі. Шы-

Клімавіцкі жылы дом.



Клімавіцкая царква.



рокая паласа фрыза дэкарыравана разьбой у выглядзе карункаў. Вокны лучковыя, на гал. і паўд. фасадах упрыгожаны разнымі ліштвамі. Планіроўка калідорная. З паўн. боку размешчаны вестыбюль з лесвіцай у мансарду. *У. В. Алісейчык.*

**КЛІМАВІЧЫ,** горад, цэнтр Клімавіцкага р-на. За 124 км ад Магілёва. Вядомы з пач. 17 ст. як паселішча ў Мсціслаўскім ваяводстве Вял. кн. Літоўскага. З 1720 належалі Бяляцкім, з 1758 — Галынскім. З 1772 у складзе Расіі. З 1777 горад, цэнтр павета. З 1781 мелі герб з выявай залатой пчалы на блакітным полі. З 1778 забудоўваліся паводле рэгулярнага плана. У 1897 было 4706 жыхароў. У пач. 20 ст. сярод драўлянай забудовы вылучаліся мураваныя дамы купцоў, кляштар дамініканцаў (засн. ў 1626, не захаваўся), 2 царквы (1 мураваная), парк (на яго месцы гарадскі сквер). З ліп. 1924 цэнтр раёна Калінінскай акругі (да 1927). Горад размешчаны абапал ручая Калініца. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Камуністычная і Сацыялістычная (гал. магістралі, праходзяць уздоўж чыгункі), Савецкая, Інтэрнацыянальная, Парыжскай камуны, Болдзіна. К. характэрна правільная сетка дробных квадратных кварталаў пл. 0,8—1 га. Грамадскі і культ. цэнтр — пл. Вял. Кастрычніка — размешчаны на скрыжаванні вуліц Савецкай і Інтэрнацыянальнай. Пераважае жылая забудова сядзібнага тыпу. 2—4-павярховы жылы масіў узведзены па вул. 50 гадоў Кастрычніка, у раёне вул. Кірава — мікрараён з 4—5-павярховай забудовай. Зона адпачынку — ручай Калініца з зялёным дыяметрам уздоўж яго і вадасховішчам. Каля К. выяўлены бескурганныя могільнікі з трупапаленнем, 5 паселішчаў 2—5 стагоддзяў і раннефеадальнага часу. Захаваліся помнікі архітэктуры 19 ст.— драўляны *Клімавіцкі жылы дом* (зараз краязнаўчы музей) і мураваная *Клімавіцкая царква.* Паводле генплана 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. А. Агафонава) прадугледжана далейшае развіццё гарадскога цэнтра ў напрамку вул. Камуністычнай, фарміраванне гал. плошчы горада, пабудова гандл. і спарт. комплексаў, стварэнне шматпавярховай жылой забудовы. *Л. С. Патапаў.*

**КЛІЧАЎ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Клічаўскага р-на, на р. Ольса. За 91 км ад Магілёва. Вядомы з 1592 як в. Клічава Віцебскага ваяводства. У канцы 19 ст. ў Ігуменскім пав. Мінскай губ.; школа, млын, царква. У 1897 было 608 жыхароў. З 1924 цэнтр раёна, з 27.9.1938 гарадскі пасёлак. З 1944 цэнтр раёна Бабруйскай, у 1954—62 і з 1965— Магілёўскай абласцей. У 1962—65 у Кіраўскім р-не. Архіт.-планіровачная структура вызначаецца прамавугольнай сеткай кварталаў, дзе пераважаюць 1-павярховыя драўляныя жылыя дамы сядзібнага тыпу. Асн. восі горада — галоўная вул. Ленінская (2—3-павярховыя жылыя дамы, сквер), вуліцы Крываноса, Савецкая (забудаваны 2—5-павярховымі жылымі дамамі). Цэнтр кампазіцыі — плошча, якая ўтварылася на перакрыжаванні вуліц Ленінскай і Крываноса. На З ад цэнтра размешчана вучэбная база Магілёўскага саўгаса-тэхнікума са стадыёнам. Прамысл.-складскія зоны на Пн і Пд. Зона адпачынку — лесапарк імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, сквер. Генплан 1979 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжвае развіццё гарадскога пасёлка ў паўд.-зах. напрамку, функцыянальнае заніраванне тэрыторыі, стварэнне ў цэнтр. часткі мемарыяльнай зоны. *В. М. Кашырын.*

**КНЯЖЫЦКІ КАСЦЁЛ ДАМІНІКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1681 у в. Княжыцы (Магілёўскі р-н) як уніяцкая царква. Аб'ёмна прасторавая кампазіцыя храма складаецца з прамавугольнага ў плане асн. аб'ёму з невял. трансептам у цэнтры і квадратнай апсіды, якія накрыты двухсхільнымі дахамі. Нізкія рознавялікія прыбудовы каля алтарнай часткі не парушаюць агульнай сіметрычнавосевай кампаноўкі аб'ёмаў. Галоўны фасад расчлянёны магутнымі крапаванымі карнізамі, раскрапаваны пучкамі пілястраў і лучковымі нішамі. Трохчасткавая з выцягутымі прапорцыямі кампазіцыя гал. фасада завершана чацверыковымі вежамі з цыбулепадобнымі галоўкамі. Па баках гал. фасада — сцены-прапілеі, якія ўтвараюць перад уваходам у храм парадны дворык-курданёр. Уваходны партал вылучаны нізкім рызалітам з трохвугольным завяршэннем і насычанай архіт. пластыкай. Бакавыя фасады аздоблены магутнай аркатурай на вышыню будынка і здвоенымі пілястрамі ў прасценках паміж лучковымі аконнымі праёмамі. Унутры перакрыцце цыліндрычнае, з распалубкамі і падпружнымі аркамі. Асаблівасць інтэр'ера — адсутнасць прамых вуглоў пры скрыжаванні сцен. Фрагменты алтара (якія захаваліся) сведчаць аб яго вырашэнні ў выглядзе каланад са стылізаванымі карынфскімі капітэлямі і выгнутымі антаблементамі. Над уваходам — хоры. Касцёл не дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*



**Клічаў.** Вуліца Ленінская.



**Княжыцкі касцёл дамініканцаў.**

**КОБРЫН,** горад, цэнтр Кобрынскага р-на, на р. Мухавец у сутоках з Дняпроўска-Бугскім каналам. За 50 км ад Брэста. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1287 у складзе Уладзіміра-Валынскага княства. Пры ўпадзенні р. Кобрынка ў р. Мухавец у старажытнасці закладзена першае ўмацаванне, на якім пазней пабудаваны Верхні і Ніжні замкі (гл. *Кобрынскія замкі*). Непадалёку ад замкаў на колішнім пасадзе на глыбіні 1,5—2 м выяўлены рэшткі старадаўняй маставой з бярвён. З 1-й пал. 14 ст. ў Вял. кн. Літоўскім, у 1404—1519 цэнтр Кобрынскага княства, потым староства, якое ў 1532 як павет далучана да Падляшскага ваяводства, з 1566 у Брэсцкім пав. Брэсцкага ваяводства. К. забудоўваўся з У на З паралельна Мухаўцу, які падзяліў яго на 2 часткі. У 1563 на левым беразе 5 вуліц і рыначная пл., на правым — 2 вуліцы. У 1597—304 двары. У 1589 К. атрымаў магдэбургскае права і герб — выявы Маці Боскай з дзіцем і святой Ганны на сярэбраным полі



**Кобрын.** Новы будынак Ваенна-гістарычнага музея імя А. В. Суворава.



**Кобрынская Мікалаеўская царква.**

У 16—18 стагоддзях цэнтр Кобрынскай эканоміі. У сярэдзіне 17 ст. каля 500 дамоў. Горад моцна пацярпеў у час войнаў сярэдзіны 17 — пач. 18 ст. Да канца 18 ст. адноўлены; у 1790-я гады 2160 жыхароў, 360 дамоў. З 1795 у складзе Расіі, павятовы горад Слонімскай, Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губерняў. У 1795 маёнтак Кобрынскі Ключ з сядзібай у К. падараваны Кацярынай II А. В. Сувораву. У 1798 распрацаваны першы генплан горада. У Айч. вайну 1812 у К. згарэла 548 дамоў з 630. Паводле генплана 1846 горад забудоўваўся пераважна драўлянымі дамамі, у цэнтры ставіліся 2-павярховыя жылыя дамы з крамамі і майстэрнямі на ніжніх паверхах. У 1846 праз К. прайшла шаша Масква — Варшава. У 1897 было 10 355 жыхароў. У пач. 20 ст. ў К. пабудаваны гасціны двор, гандлёвыя рады, сфарміраваўся гарадскі цэнтр. У 1921—39 К. у складзе бурж. Польшчы, цэнтр павета Палескага ваяводства. З 1939 у Брэсцкай вобл. БССР (15,3 тыс. жыхароў). З 1940 цэнтр раёна.

Галоўнай кампазіцыйнай воссю сучаснага К. з'яўляецца р. Мухавец, якая падзяляе горад на паўд. і паўн. планіровачныя раёны. Адм.-грамадска-культ. цэнтр — пл. Леніна на скрыжаванні вуліц Леніна і Пушкіна. Шматпавярховыя дамы пабудаваны на вуліцах Савецкай, Леніна, Пушкіна, Дзяржынскага, Піянерскай. Новыя мікрараёны забудоўваюцца ў паўд. (вуліцы Дзяржынскага і Мікалаева), у зах. (раён вул. Савецкай) і паўн. (раён вул. Набярэжнай) частках горада. Сфарміраваліся 3 прамысл. раёны: паўночны, усходні, заходні. Зона адпачынку — парк імя А. В. Суворава (засн. ў 1768 пры сядзібе, меў рэгулярную сістэму планіроўкі) і пойма р. Мухавец. Захаваліся: забудова пл. Свабоды на месцы былой цэнтр. рыначнай плошчы — жылыя дамы на яе паўд. баку і аптэка (з 18 ст.), гандлёвыя рады; паштовая станцыя на вул. Савецкай (1846), Дом Суворава (ваенна-гіст. музей) — *Кобрынскі сядзібны дом, Кобрынскі помнік перамогі 1812, Кобрынскі Спаскі манастыр* і *Кобрынская Мікалаеўская царква, Кобрынскі сабор Аляксандра Неўскага,* па вул. Першамайскай касцёл (1843) і драўляная Петрапаўлаўская царква (пач. 20 ст.) на могілках. У 1989 побач са старым узведзены новы будынак ваенна-гіст. музея імя Суворава (арх. В. Тэртэль, А. Анішчанка). К. забудоўваўся паводле генплана 1956 (ін-т «Белдзяржпраект», карэкціроўкі 1962, 1965). Генплан 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Арцёмчык) прадугледжвае развіццё К. ў паўд. і зах. напрамках.

*А. М. Мартынаў, Л. С. Патапаў.*

**КОБРЫНСКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1750-я гады за межамі Кобрына, на беразе р. Мухавец, у 1841 перавезена ў горад (вул. Камуністычная, 2), перабудавана з элементамі позняга класіцызму. Складаецца з асн. зруба, 5-граннай алтарнай апсіды і 4 чацверыковых аб'ёмаў, размешчаных па вуглах асн. зруба. Усе аб'ёмы накрыты агульным шматсхільным дахам, у сярэдзіне якога на чацверыковым пастаменце ўзвышаецца вял. 8-гранны светлавы барабан з купалам. Гал. фасад раскрапаваны па баках выступамі і аздоблены 2 калонкамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя. У інтэр'еры барабан купала з дапамогай ветразяў апіраецца на 4 калонкі ў цэнтры залы. Над уваходам хоры. У 1970-я гады супрацоўнікамі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР былі знойдзены драўляныя скульптуры, у т. л. Святы Мікалай (перададзены ў музей стараж.-бел. культуры Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі). У 1960-я гады царква закрыта, выкарыстоўвалася музеем імя Суворава як складское памяшканне, у 1989 вернута веруючым, адрамантавана. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь, А. М. Мартынаў.*

**КОБРЫНСКАЯ ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Упершыню ўпамінаецца ў 1465. Спачатку знаходзілася ў цэнтры Кобрына на Базарнай пл. У пач. 1800 яе наведваў А. В. Суворaў, дом якога знаходзіўся паблізу. Да 100-годдзя гадавіны смерці Суворава ў 1900 было прынята рашэнне на месцы гэтай царквы пабудаваць цагляны храм, на які збіраліся ахвяраванні па ўсёй краіне. У сувязі з гэтым старая царква была перанесена на могілкі (сучасная вул. Першамайская) і перабудавана. Да 1-й сусветнай вайны быў закладзены фундамент новай царк-

вы і сабраны будаўнічы матэрыял, але буд-ву храма перашкодзіла акупацыя Кобрына немцамі ў 1915. Царква (даўж. 25 м, шыр. 19,4, выш. 5,25 м) складаецца з 2-яруснай шатровай званіцы, асн. аб'ёму і прамавугольнай у плане апсіды. Квадратны ў плане асн. аб'ём завершаны цыбулепадобнай галоўкай. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Мартынаў.*

**КОБРЫНСКІ ПОМНІК ПЕРАМОГІ 1812** (вул. Леніна). Закладзены ў 1912 у Кобрыне (арх. Д. Маркаў) у дзень 100-годдзя першай перамогі рус. зброі ў Айч. вайне 1812. На пастаменце з гранітных валуноў, які нагадвае скалу, устаноўлены бронзавы арол з распасцёртымі крыламі і лаўровым вянком у кіпцюрах, абапал — марціры з пірамідкамі ядраў. На фасаднай і бакавых гранях пастамента — 3 мармуровыя дошкі. На пярэдняй дошцы (шэра-зялёнага колеру) надпіс: «Рускім воінам, якія атрымалі першую перамогу над войскамі Напалеона ў межах Расіі 15 ліпеня 1812 г.», на бакавых (белага колеру) пералічаны палкі, часці рус. арміі, што ўдзельнічалі ў кобрынскай бітве, і фундатары помніка. У час 1-й сусветнай вайны былі зняты і згублены арол і бакавыя дошкі. Помнік адноўлены ў 1951 (скульпт. М. Керзін).

*А. М. Мартынаў.*

**КОБРЫНСКІ САБОР АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны на брацкай магіле некалькі соцень рускіх салдат, якія загінулі ў час Айчыннай вайны 1812. Сабор пабудаваны на сродкі, сабраныя ў выглядзе кантрыбуцыі з удзельнікаў паўстання 1863—64. Да закрыцця храма ў 1963 на фасадзе былі ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі з надпісам: «Под сенью сего святого храма покоятся кости русских воинов-героев, павших в Кобринском бою 15 июля 1812 года; Сей святой храм сооружен в память освобождения крестьян от крепостной зависимости 19 февраля 1861 года».

**КОБРЫНСКІ СПАСКІ МАНАСТЫР,** помнік архітэктуры барока. Засн. ў 1497 у г. Кобрын пры драўлянай царкве Спаса. У пач. 16 ст. манастыр меў мураваныя жылы і службовыя карпусы, капліцу. Пасля Брэсцкай уніі 1596 належаў базыльянам. У 1629 тут праходзіў сабор уніяцкіх епіскапаў. У 17—18 стагоддзях неаднаразова перабудоўваўся. Захаваўся мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане, накрыты высокім ламаным дахам будынак (даўж. 30 м, шыр. 10 м). Сіметрычны гал. фасад вылучаны цэнтр. рызалітам, завершаным фігурным атыкавым франтонам. Фасады раскрапаваны пілястрамі і фігурнымі філёнгамі вакол прамавугольных аконных праёмаў. Па верху сцен праходзіць развіты карніз. У інтэр'еры пры ўваходзе шырокая аднамаршавая лесвіца. Пачатковая планіроўка зменена. У інтэр'еры зберагліся элементы барочнага дэкору. Таўшчыня сцен 1,2 м, у падвале больш за 2 м. Перакрыцці над паверхамі плоскія бэлечныя, над падваламі — цыліндрычныя скляпенні. Пасля скасавання уніі ў 1839 у будынку размяшчалася духоўнае вучылішча, пасля пажару ў 2-й пал. 19 ст. не аднаўляўся. У 1920-я гады рэстаўрыраваны, у ім быў павятовы суд. Пачатковая планіроўка зменена, у левым крыле частка акон за-



Кобрынскі помнік перамогі 1812.



Кобрынскі сабор Аляксандра Неўскага.

мурована. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь, А. М. Мартынаў.*

**КОБРЫНСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ,** Дом Суворава, помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны да 1794 у Кобрыне. З 1797 у ім жыў рус. палкаводзец А. Суворaў. У 1860 у доме жыў адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 Р. Траўгут. Разбураны ў гады Вял. Айч. вайны. Адноўлены ў 1948 і прыстасаваны пад ваенна-гістарычны музей імя Суворава. Рэстаўрыраваны ў 1980. Прамавугольны ў плане 1-павярхо-



Кобрынскі сядзібны дом.



**Кобрынскі Спаскі манастыр.** Дваровы фасад жылога корпуса.

вы драўляны будынак накрыты гонтавым вальмавым дахам. Сіметрычна-восевая кампазіцыя гал. і дваровага фасадаў вылучана ў цэнтры ганкамі (на 4 слупах), завершанымі 3-вугольнымі франтонамі. Сцены атынкаваныя, з прамавугольнымі вокнамі і акаванымі аканіцамі. Планіроўка анфіладная. Абапал гал. ўвахода 2 гарматы 1812. Перад домам у 1848 устаноўлены бронзавы бюст Суворава (скульпт. П. Кюферле). Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**КОБРЫНСКІЯ ЗАМКІ.** Існавалі ў 14—18 стагоддзях на месцы дзядзінца і пасада Кобрына. Комплекс складаўся з драўляных Верхняга («Высокага») і Ніжняга («прыгародак») замкаў, якія размяшчаліся на 2 узвышшах у міжрэччы Мухаўца і Кобрынкі. Замкі не зберагліся.

Верхні замак круглы ў плане (дыяметр каля 56 м). У 16 ст. быў умацаваны глыбокім дугападобным ровам, кальцавым валам, клецевымі канструкцыямі, якія ў ніжніх частках мелі каморы, у верхніх — бланкаванне з баявым ходам, завершаным 2-схільнымі дахамі з драніц. Меў 4 баявыя вежы, накрытыя шатровымі гонтавымі дахамі, 2 брамы. Праз вежу, браму і пад'ёмны мост праз роў злучаўся з «прыгародкам». Ніжні замак выцягнуты з ПнЗ на ПдУ, быў абкружаны земляным валам. Меў 2 брамы і выхад да Мухаўца. Асн. тып абарончых канструкцый — гародні, накрытыя дахам з драніц. Сцены былі ўмацаваны 5 вежамі (у адной з іх размяшчаўся млын). На тэр. замка былі крыжовы ў плане жылы будынак, гасп. пабудовы, сад, агароджаны парканам з дыляў.

*М. А. Ткачоў.*



**Койданаўскі кальвінскі збор.** З малюнка Н. Орды. 1876.

**КОЙДАНАЎСКІ КАЛЬВІНСКІ ЗБОР.** Існаваў у пач. 17 — 1-й пал. 20 ст. ў б. мястэчку Койданава (з 1932 г. Дзяржынск). Пабудаваны ў 1613 у стылі готыкі Крыштофам Мікалаем Радзівілам (Бяруном) на месцы стараж. гарадзішча (вядомы пад назвай Койданаўскага замка). Пры будаўніцтве выкарыстоўвалі цэглу (27 × 13 × 7 см) на вапнава-пясчанай рошчыне. Перабудаваны ў 1884. Мураваны прамавугольны ў плане храм зальнага тыпу з 5-граннай алтарнай апсідай (абапал мела 2 сакрысціі) і 4-яруснай (2 ніжнія ярусы — чацверыкі, астатнія — васьмерыкі) вежай-званіцай. Асн. аб'ём, бакавыя сцены якога былі ўмацаваны контрфорсамі і прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі, быў накрыты высокім 2-схільным гонтавым дахам, на якім узвышаўся купал з пазалочанымі флюгерамі. Вежа-званіца з гадзіннікам у верхнім ярусе завяршалася шатром, сцены праразалі высокія арачныя вокны і круглыя байніцы. Асн. аб'ём падзяляўся 4 васьміграннымі слупамі на 3 нефы, якія былі перакрыты зорчатымі скляпеннямі. Каля алтара размяшчалася разная дубовая кафедра. У 2-м ярусе вежы былі хоры (выходзілі ў гал. неф храма балконам з размаляванай балюстрадай), арган (перавезены ў 1866 з Мінскага касцёла бернардзінак). Захоўвалася Брэсцкая біблія 1563. Тэрыторыя збору, абкружаная валамі і вадзяным ровам, была ўмацавана мураванай сцяной з 2-схільным гонтавым пакрыццём і 9 круглымі ў плане 2-яруснымі абарончымі вежамі (мелі па 6 байніц), завершанымі конусападобнымі дахамі. Праз роў да брамы быў пракладзены драўляны мост вянковай канструкцыі з размаляванай балюстрадай. На тэр. збору знаходзіўся 1-павярховы мураваны будынак плябаніі, накрыты гонтавым дахам, на асобным падвор'і — драўляныя бу-

дынкі 2-класнай кальвінскай школы (існавала да сярэдзіны 19 ст.), шпіталя, жылыя і гасп. пабудовы. Комплекс моцна быў пашкоджаны ў Вял. Айч. вайну, пазней разабраны. *Ю. А. Якімовіч.*

**КОЛАСА ЯКУБА ПЛОШЧА** ў Мінску (да 1956 Камароўская плошча), важны транспартны і кампазіцыйны вузел на праспекце Ф. Скарыны. Фарміраванне плошчы пачалося з рэканструкцыі т. зв. Камароўскіх віл (на стыку былых Лагойскага і Барысаўскага трактаў) і буд-ва ін-та фізкультуры (1936—39; арх. А. П. Воінаў, А. П. Брэгман). У сучасным выглядзе забудавана паводле праекта 1952 (арх. М. Баршч, Л. Аранаўскас, Л. Мацкевіч), дзе ўлічаны прапановы праектаў 1939 (арх. У. Мураўёў) і 1940 (арх. А. Клімаў). Плошча прамавугольная (400×130 м), перыметр забудаваны па чырвонай лініі, за выключэннем будынка Белдзяржфілармоніі (1963, арх. Г. Бенядзіктаў), пастаўленага ў глыбіні зялёнай пляцоўкі ў пачатку бульвара Луначарскага. Па баках філармоніі размешчаны жылыя дамы з убудаванымі прадпрыемствамі гандлю і быт. абслугоўвання (1960, арх. В. Ладыгіна), будынак ЦУМа (1964, перапрацаваны тыпавы праект), на паўн.-зах. баку — *Мінскіх паліграфічнага камбіната і завода электронных вылічальных машын будынкі.* Разрыў паміж вытворчымі карпусамі (утвораны вул. В. Харужай) акцэнтуецца вежамі, якія падкрэсліваюць значэнне папярочнай восі плошчы. На тарцовых частках плошчы пастаўлены манум. аб'ёмы ін-та фізкультуры і 8-павярховага жылога дома (1957, арх. С. Баткоўскі, Н. Шпігельман, Н. Макляцова). У цэнтры плошчы — сквер партэрнага тыпу з помнікам Я. Коласу (1972, скульпт. З. Азгур, арх. Ю. Градаў, Г. Заборскі, Л. Левін). У 1984 адкрыта станцыя метрапалітэна «Плошча Якуба Коласа» (гл. ў арт. Мінскі метрапалітэн). *А. А. Воінаў.*

**КОПЫСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—18 ст. у г. п. Копысь (Аршанскі р-н), на высокім беразе Дняпра, на месцы стараж. дзядзінца. Належаў Радзівілам. У 16—17 ст. неаднаразова разбураны і адноўлены. У 2-й палове 17 ст. невял. 4-вугольны ў плане абарончы комплекс, пабудаваны з дрэва, быў абнесены земляным валам і астрогам, абведзены вадзяным ровам з сажалкай, на якой стаяў млын. З гандл. плошчай горада злучаўся мостам і брамай. У канцы 17 ст. на тэр. замка стаялі 4 драўляныя дамы (гасп. пабудовы), паблізу брамы — свірны, арсенал, турма, мураваны склеп. У 1-й пал. 18 ст. замак рэканструяваны, набыў выгляд сядзібнага комплексу, цэнтрам кампазіцыі якога стаў 1-павярховы прамавугольны ў плане драўляны будынак з 2 алькежамі, завершаны гонтавым дахам. Яго гал. ўваход быў вылучаны вял. ганкам, над якім размяшчаўся мезанін. З гандл. плошчай сядзіба злучалася 2-яруснай брамай-вежай, завершанай шатровым дахам з металічным гербам (у 2-м ярусе размяшчалася замкавая капліца). Каля брамы знаходзіліся кардэгарда з турмой, вазоўня, 2-павярховы свіран, дом аканома, кухня, лядоўня, псярня. Сядзібны комплекс быў абнесены частаколам. Не збярогся. Вядомы паводле інвентароў 17—18 стагоддзяў. *Ю. А. Якімовіч.*

**КОПЫСЬ,** гарадскі пасёлак у Аршанскім р-не, прыстань, на левым беразе Дняпра. За 30 км ад Оршы, за 110 км ад Віцебска. Стараж. гарадзішча (т. зв. «Пятроўскі вал») узнікла ў 11 ст. на левым беразе Дняпра пры вусці р. Сморкаўка, умацавана валам; да яго прылягала селішча «Пасадскае». Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1059 як горад у складзе Полацкага, потым Смаленскага княстваў. З 16 ст. ў Віцебскім ваяводстве Вял. кн. Літоўскага. Належала князям Астрожскім, Радзівілам (у 1594—1695 і з 1744), у 1695—1744 ва ўладанні прынцэс Нейбургскіх. Мела магдэбургскае права. На тэр. гарадзішча ў 14—18 стагоддзях існаваў *Копыскі замак.* У 1781 зацверджаны герб — чорны заяц на зялёным полі. Мела радыяльна-паўкальцавую сістэму планіроўкі. У сярэдзіне 17 ст. цэнтрам быў замак, звязаны з гандл. плошчай (на З), на якой стаялі 80 крам, важніца, 2-павярховы крыжовы ў плане жылы дом. Непадалёку ад замка знаходзілася драўляная сядзіба, умацаваная земляным валам і астрогам. Сядзіба ўключала 3-павярховы палац (абарончага прызначэння), 3 жылыя флігелі, 2-павярховую скарбніцу, мела 2 уезды: вароты з форткай з боку паселішча і браму-вежу з боку Дняпра. Гал. вуліцы — Аршанская (злучала гандл. плошчу з дарогай на Оршу; на ёй знаходзіліся кальвінскі збор з плябаніяй, пабудаваны ў 16 ст., Святадухаўская царква, карчма), Шклоўская (ад цэнтра да дарогі на Шклоў), Горацкая (злучалася з дарогай на Горкі). Горад быў абнесены астрогам, які прарэзвалі 6 брам, і ўмацаваны гароднямі. За межамі горада знаходзіліся прадмесці Аршанскае і Шклоўскае (10 двароў). У Аршанскім прадмесці былі 3 вуліцы, 103 двары; на гандл. плошчы стаялі ў 2 рады крамы, 2 Святадухаўскія царквы, адна з якіх мела званіцу з гар. гадзіннікам, шпіталь і інш. У 1651 у К. было 384 двары (з іх 113 у прадмесцях), у 1663—17 вуліц, у 1759—22 вуліцы, 369 двароў; у Аршанскім прадмесці 135 двароў. На Шклоўскай вул. ўзведзены 2 Спаскія царквы. У 18 ст. пабудаваны ў стылі барока драўляны 1-павярховы жылы дом з мезанінам у цэнтр. частцы, завершаны высокім вальмавым дахам, 2 алькежамі з шатровымі дахамі на тарцах; гал. фасад меў 2-ярусную аркадную галерэю. З 1772 у складзе Расіі, горад, цэнтр павета Магілёўскай губ. (1776—96, 1802—61), заштатны горад (у 1796—1802, з 1861) Горацкага пав. У 1924—30 цэнтр раёна. З 1930 у Аршанскім р-не. Тэр. сучаснага пасёлка выцягнута вузкай паласой уздоўж левага берага Дня-



Плошча Якуба Коласа ў Мінску.

пра. Вось кампазіцыі — вул. Ленінская, на якой гістарычна сфарміравалася плошча — грамадскі цэнтр К., і яе працяг вул. Кастрычніцкая. З ПдЗ да плошчы прымыкае «Пятроўскі вал». Пераважае 1-павярховая жылая забудова сядзібнага тыпу. Зона адпачынку размешчана ўздоўж Дняпра. Паводле генплана 1978 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Якаўлеў) прадугледжана функцыянальнае заніраванне пасёлка, далейшае развіццё грамадскага цэнтра, буд-ва 2—5-павярховых жылых дамоў, добраўпарадкаванне набярэжнай ракі.

*Ю. А. Якімовіч, Л. С. Патапаў.*

**КОСАВА,** Косаў, горад у Івацэвіцкім р-не. За 15 км на ПнЗ ад Івацэвіч, за 151 км на ПнУ ад Брэста. Узнікла на гандл. шляху (захавалася гарадзішча 10—11 стагоддзяў). У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1494, калі вял. кн. літоўскі Аляксандр падараваў яго маршалку І. Храптовічу. Потым належала Сангушкам, Пуслоўскім. У 1597 у К. былі 2 вуліцы: адна (галоўная) злучала феадальны двор з гандл. плошчай, дзе размяшчаўся рынак, другая вяла ад плошчы да дарогі на Ружаны; 80 двароў, 27 корчмаў і шынкоў, царква, касцёл. У 18 ст. пабудаваны *Косаўскі сядзібны дом.* З 1795 у складзе Расіі, мястэчка Слонімскага пав. Слонімскай, з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губерняў. У 1897 у К. 3092 жыхары, 64 цагляныя і 807 драўляных будынкаў, з іх 643 жылыя, 4 паравыя млыны, народнае вучылішча, прыёмны пакой, аптэка. У 1-й пал. 19 ст. адкрыты 2 суконныя мануфактуры, што спрыяла развіццю К. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр павета Палескага ваяводства. З 1939 у БССР, у Брэсцкай вобл. 3,7 тыс. жыхароў у 1939. З 1940 горад, цэнтр раёна. З 1949 у Івацэвіцкім р-не, 2,6 тыс. жыхароў у 1959. Планіровачная структура К.— прамавугольная сетка вуліц з дробнымі кварталамі пераважна 1-павярховай індывідуальнай забудовы сядзібнага тыпу. У адпаведнасці з генпланам 1972 і праектам планіроўкі і забудовы 1982 (БелНДІдзіпрасельбуд, арх. Л. Фамін, В. Бараноўская) развіваецца на свабодных тэрыторыях ва ўсх. і паўд.-зах. напрамках. Асн. кампазіцыйныя восі — вуліцы 3-га Лютага (з ПнУ на ПдЗ; сфарміраваны грамадскі цэнтр) і Леніна (з ПдУ на ПнЗ), на перакрыжаванні якіх разбіты сквер (раней знаходзілася гандл. плошча). Прамысл. зона размешчана на У горада. Сялібная тэр. ўключае зоны шматкватэрнай (запраектавана на ўездзе ў горад з боку г. Івацэвічы, а таксама па вуліцах Леніна і 3-га Лютага), блакіраванай (уздоўж р. Мутвіца і паралельна аб'язной дарозе Івацэвічы — Ружаны) і індывідуальнай (у паўн.-ўсх., паўн.-зах. і паўд.-зах. частках горада) забудовы. Фарміраванне агульнагарадскога цэнтра прадугледжана на свабодным участку вул. Леніна на беразе ракі (у складзе цэнтра Дом культуры з глядзельнай залай на 700 месцаў, адм. будынак, спарт. комплекс, гандл. цэнтр). Прадугледжана таксама стварэнне зялёнага бульвара, які звяжа цэнтр з зонай адпачынку на беразе сажалкі ў паўд.-ўсх. частцы горада. Захаваліся помнікі архітэктуры 19 — пач. 20 ст.— *Косаўскі Троіцкі касцёл, Косаўскі палац,* царква і фрагменты мураванай забудовы канца 19 — пач. 20 ст. на вуліцах 3-га Лютага і Леніна, а таксама драўляная капліца на могілках на паўд.-зах. ускраіне горада.

*Ю. А. Якімовіч, С. Ф. Самбук.*

**КОСАЎСКІ ПАЛАЦ,** помнік архітэктуры сярэдзіны 19 ст. Пабудаваны за 1,5 км ад г. Косава (Івацэвіцкі р-н) паводле праекта арх. Яшчолда (1838), буд-ва завершана пад кіраўніцтвам У. Марконі. Размешчаны ў пейзажным парку (канец 18 ст.) і з'яўляецца цэнтрам кампазіцыі. Мураваны палац з элементамі класіцызму мае сіметрычную кампазіцыю. Галоўны (у цэнтры 2-павярховы, па баках 1-павярховы) і 2 бакавыя 2-павярховыя аб'ёмы, размешчаныя ніжэй, злучаны вузкімі пераходамі з высокімі стральчатымі аркамі. Вуглы гал. аб'ёму корпуса фланкіраваны гранёнымі вежамі, а бакавых — контрфорсамі, падобнымі да вежаў. У дэкар. аздабленні шырока выкарыстаны матывы несапраўднай готыкі: зубчастыя завяршэнні аб'ёмаў, стральчатыя аркі праёмаў і нішаў, машыкулі і інш. У гал. аб'ёме памяшканні згрупаваны вакол цэнтр. вестыбюля і параднай залы на 2-м паверсе, упрыгожанай размалёўкай мастака Жмуркі. У бакавых былі службовыя памяшканні. Збярогся часткова. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Л. В. Трэпет.*



Косаўскі сядзібны дом. З малюнка 1906.

**КОСАЎСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ.** Існаваў у 18—1-й пал. 20 ст. ў в. Мерачоўшчына (б. прадмесце г. Косава Івацэвіцкага р-на). Аднапавярховы прамавугольны ў плане драўляны будынак, завершаны высокім 2-ярусным дахам, меў рысы стылю барока. Цэнтр гал. фасада быў вылучаны слупавым ганкам і трохвугольным шчытом з парнымі вільчакамі. У 1746 у доме нарадзіўся кіраўнік нацыянальна-вызваленчага руху паўстання 1794 Т. Касцюшка.

**КОСАЎСКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1878 у г. Косава (Івацэвіцкі р-н) у цэнтры горада на сродкі Вандаліна Пуслаўскага і парафіян. Складаецца з аднанефавага прамавугольнага ў плане асн. аб'ёму і больш нізкай 5-граннай алтарнай апсіды з 2 сакрысціямі. Асн. аб'ём завершаны вежай званіцы з высокім шатровым пакрыццём. Галоўны (паўд.-зах.) фасад аздоблены плоскімі нішамі разнастайных форм і акном-ружай у складаным прафіляваным стральчатым абрамленні. Партал увахода адзначаны вімпергам. Сцены бакавых фасадаў маюць вертыкальныя чляненні ў выглядзе ступеньчатых контрфорсаў. У будынку вузкія стральчатыя вокны з вітражамі. Неф перакрыты цыліндрычным



Косаўскі палац.



Косаўскі Троіцкі касцёл.

скляпеннем з распалубкамі і падпружнымі аркамі, якія аздоблены арнаментальнай размалёўкай. Над уваходам — хоры на 2 калонках. Раней у архіве касцёла знаходзілася метрыка хрышчэння Тадэвуша Касцюшкі, які нарадзіўся ў фальварку Мерачоўшчына каля Косава. Касцёл дзейнічае. *А. А. Ярашэвіч.*

**КОХАНАВА,** гарадскі пасёлак у Талачынскім р-не. За 24 км ад Талачына, 106 км ад Віцебска. З сярэдзіны 16 ст. ў Аршанскім пав. Віцебскага ваяводства Вял. кн. Літоўскага. З 1772 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Аршанскага пав. Магілёўскай губ. У 1880 у К. 449 жыхароў, 60 дамоў. У пач. 20. ст. — 1,2 тыс. жыхароў, нар. вучылішча, лячэбніца, царква, пошта. У 1924—31 і ў 1946—56 цэнтр раёна, у 1931—46 і з 1956 у Талачынскім р-не. З 19.2.1947 гарадскі пасёлак. Гал. кампазіцыйная вось К. — вул. Аршанская. На ёй склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр. У паўд. частцы (раён вул. Старасельскай) ствараецца мікрараён, які забудоўваецца 5-павярховымі жылымі дамамі. Вытворчая зона размешчана ў паўд.-ўсх. частцы пасёлка. Зона адпачынку — р. Сакалянка з вадаёмам, да якога прылягае лясны масіў. Паводле генплана 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё грамадскага цэнтра ў напрамку вул. Старасельскай, буд-ва 3—5-павярховых жылых дамоў, стварэнне парку, спарт. комплексу. *Л. С. Патапаў.*

**КРАМЯНІЦА-ДОЛЬНАЎСКІ ГЕОРГІЕЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры 17 ст. Пабудаваны ў 1617 у в. Крамяніца-Дольная (Зэльвенскі р-н) віцебскім кашталянам Мікалаем Вольскім у стылі рэнесансу. У канцы 18 ст. прыбудаваны бабінец у стылі класіцызму. Мураваны 1-нефавы прамавугольны ў плане асн. аб'ём і алтарная апсіда з паўкруглым завяршэннем зараз накрыты дахамі з агульным вільчыкам (першапачаткова дах над нефам быў значна вышэй). Сцены ўмацаваны вертыкальнымі контрфорсамі і прарэзаны вокнамі з паўцыркульнымі завяршэннямі ў глыбокіх парталах. Карніз прафіляваны. Гал. фасад завершаны ступеньчатым франтонам, аздобленым плоскімі арачнымі нішамі і пілястрамі. Унутры неф перакрыты цыліндрычнымі, прэсбітэрый — конхавым скляпеннямі з вял. распалубкамі. Ляпныя рэбры ўтвараюць на скляпеннях зорчаты малюнак. У інтэр'еры скульптурнае надмагілле фундатараў касцёла Вольскіх і разны алтар 1-й пал. 17 ст. Надмагілле выканана з мармуру ў стылі рэнесансу. У нішу ўстаўлены 2 гарэльефныя фігуры Вольскіх (Мікалая ў рыцарскім адзенні і яго жонкі Барбары ў манаскім уборы), пастаўленыя адна супраць адной на каленях у малітоўных позах. Твары іх маюць партрэтнае падабенства і дадзены без усякай ідэалізацыі. Маналітнасць застылых фігур, лаканізм іх абагульненых контураў не парушаюцца складкамі адзення ў выглядзе невысокіх рэльефаў або графічных урэзаў. Архітэктурная аблямоўка (калоны з простым антаблементам, валюты над бакавымі нішамі, картуш з гербамі) арганічна спалучаецца з пластычнымі матывамі і падкрэслівае строгую ўраўнаважанасць кампазіцыі. Пляц касцёла абнесены каменнай агароджай, за якой знаходзіцца званіца 2-й пал. 18 ст. з барочным дахам. Перад касцёлам стаяў мураваны корпус кляштара латэранскіх у выглядзе рэнесансавага палаца. Прамавугольны ў плане, 2-павярховы, з высокім 4-схільным дахам. З зах. боку ў цэнтры выступаў рызаліт, вуглы былі ўмацаваны 6-граннымі вежамі. Ніжні паверх меў складаную планіроўку і перакрыцці крыжовымі і цыліндрычнымі скляпеннямі, планіроўка другога паверха калідорная. Пасля закрыцця кляштара ў 1832 касцёл стаў парафіяльным; помнік рэспубліканскага значэння; будынак кляштара аддадзены ваеннаму ведамству, разбураны ў 1940-я гады. Іл. касцёла гл. таксама ў нарысе.

*А. А. Ярашэвіч, А. К. Лявонава.*

**КРАСКАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік палацава-паркавай архітэктуры. Сфарміравалася ў 19—20 ст. у в. Краскі (Ваўкавыскі р-н) на левым



Крамяніца-Дольнаўскі Георгіеўскі касцёл.

беразе р. Зэльвянка. Уключае палац у рэтраспектыўна-замкавым стылі, шэраг драўляных і мураваных пабудоў і пейзажны парк са ставам. Палац складаецца з драўлянага 1-павярховага корпуса (1839) і прыбудаванага да яго 2-павярховага мураванага аб'ёму (1905). Дамінантамі кампазіцыі 2-павярховага аб'ёму з'яўляюцца круглая і квадратная ў сячэнні вежы з зубчастымі парапетамі і флюгерамі. Гал. ўваход афармлены высокім ганкам і стральчатым парталам з 4 вуглавымі пінаклямі. У дэкоры выкарыстаны разнастайныя абрамленні аконных праёмаў са стральчатымі і паўцыркульнымі завяршэннямі, прафіляваныя карнізы з сухарыкамі, балюстрада, філёнгі, разеткі, ліштвы і цягі. Планіроўка палаца анфіладная. Парк — пейзажнага тыпу (пл. 3 га). Складаецца з трох частак: партэрнай перад палацам, пейзажнай на паўд.-усх. схіле ўзгорка і хваёвага лесапарку на ўзгорку. У планіроўцы — адкрытыя паляны з курцінамі і прагулачныя алеі. У парку расце больш за 30 відаў дрэў і кустоў, у т. л. хвоя веймутава, лістоўніца еўрапейская, акацыя, конскі каштан звычайны, воцатнае дрэва і інш. Сядзіба выкарыстоўваецца дзіцячым санаторыем. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**КРАСНАПОЛЛЕ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Краснапольскага р-на, у вярхоўі р. Тур'я. За 109 км на ПдУ ад Магілёва. З 1784 вядома як мястэчка Маластоўка Чэрыкаўскага пав., цэнтр Краснапольскай воласці. Назву атрымала ад маёнтка за 1 км ад мястэчка. У канцы 19 ст. ў К. 3248 жыхароў (1897), 421 дом, 3 гарбарныя з-ды, бровар, 60 крам, школа, лячэбніца, царква, 4 кірмашы на год. Належала графам Бенкендорфам. З 1924 цэнтр раёна. З 27.9.1938 гарадскі пасёлак. Архіт.-планіровачная структура К. ў асноўным прамавугольная, з дробнымі кварталамі. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Капітальная забудова сканцэнтравана ўздоўж асн. вуліц Ленінскай і Калініна. Фарміруюцца 4 прамысл. раёны: паўночны, заходні, паўднёвы і на Пн ад пасёлка, уздоўж шашы Краснаполле — Чэрыкаў. Забудоўваецца пасёлак паводле генплана 1971 (Магілёўскі філіял ін-та «Белдзяржпраект»). Генплан 1982 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. В. Кашырын) і праект дэталёвай планіроўкі 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. Кашырын, Л. Матухнава, інж. В. Пузік) прадугледжваюць развіццё К. ў зах. напрамку, буд-ва 2—5-павярховых жылых дамоў у цэнтры і індывідуальных сядзібнага тыпу ў паўд. і паўн. частках. Грамадскі цэнтр, які склаўся ў раёне вуліц Ленінскай, Савецкай і Калініна, фарміруецца на базе існуючых будынкаў адм.-грамадскага і культ.-асветнага прызначэння. Гал. плошча знаходзіцца на перакрыжаванні вуліц Ленінскай і Савецкай. Зона адпачынку — парк Перамогі, закладзены ў паўд.-зах. частцы пасёлка, скверы — цэнтральны каля плошчы і па вул. Савецкай, бульвар па вул. Гагарына.

*С. Ф. Самбук.*

**КРАСНЫ ЗАМАК.** Існаваў у 1563—79 на беразе Павульскага воз. (Ушацкі р-н). Быў пабудаваны з дрэва і каменю. 3-вугольная ў плане крэпасць з вежамі па вуглах (2 чацверыковыя з 2-схільнымі дахамі, 1 васьмерыковая з шатровым) і прамавугольнай у плане брамай, была накрыта 2-схільным дахам, абкружана вадзяным ровам з мостам. Абарончыя сцены мелі ў верхніх частках баявыя галерэі з абламамі і байніцамі. На дзядзінцы размяшчаліся 1-павярховыя жылыя дамы. Вядомы паводле гравюры С. Пахалавіцкага 1579.



**Краснянскі касцёл.**



**Краскаўская сядзіба.** Сядзібны дом.



**Красны замак.** З гравюры С. Пахалавіцкага. 1579.

**КРАСНЯНСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1912 у в. Краснае (Маладзечанскі р-н). Трохнефавая аднавежавая базіліка з пяціграннай апсідай і бакавымі сакрысціямі. У цэнтры гал. фасада трох'ярусная чацверыковая званіца, умацаваная вуглавымі ступеньчатымі контрфорсамі з пінаклямі і завершаная высокім шпілем. Галоўны ўваход афармлены

стральчатым парталам, над якім размешчана круглае акно-ружа. Бакавыя фасады рытмічна члянёны здвоенымі вузкімі стральчатымі вокнамі, нішамі і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках. Двухсхільны дах над алтарнай часткай з невял. вежачкай. Перакрыцце ўнутранай прасторы скляпеністае на 4 слупах. У 1988—90 касцёл рэстаўрыраваны, дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**КРУГЛАЕ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Круглянскага р-на, на р. Друць. За 78 км ад Магілёва. У Вял. кн. Літоўскім вядома як вёска ў Аршанскім пав. У 16 ст. мела замак, на месцы якога ў 2-й пал. 17 ст. пабудаваны сядзібны комплекс. У 1660-я гады мястэчка складалася з асн. часткі (яе цэнтр — 4-вугольная ў плане гандл. плошча, забудаваная дамамі рамеснікаў і гандляроў) і Зарэчча. Усяго было 74 двары, 6 вуліц, у т. л. Віленская, Талачынская, Аршанская (дарогі на Вільню, Талачын, Оршу), Замкавая. З 1772 К. ў складзе Расіі, цэнтр воласці Магілёўскага пав. Маёнтак К. належаў кн. К. С. Крапоткіну. У канцы 18 ст. дзейнічала прыгонная палатняная мануфактура. У пач. 20 ст. ў К. было 1,6 тыс. жыхароў, крухмальны з-д, 22 гандл. прадпрыемствы, нар. вучылішча. У ліпені 1924 — ліпені 1931 і з лютага 1935 цэнтр раёна. З верасня 1959 вёска ў Бялыніцкім р-не, з ліпеня 1966 цэнтр раёна. З 11.8.1967 гарадскі пасёлак. Архіт.-планіровачную структуру пасёлка вызначае прамавугольная сетка вуліц з невял. кварталамі 1-павярховых жылых дамоў сядзібнага тыпу на левабярэжжы ракі. Паводле генплана 1975 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Т. Кузняцова, І. Гапонаў, інж. І. Уцехін, В. Падліпская) пасёлак развіваецца ў паўн.-ўсх. напрамку ўздоўж шашы на Талачын. Вось кампазіцыі — вул. Савецкая, у яе паўд.-зах. частцы, пры ўездзе з боку Магілёва, сфарміравалася плошча са скверам. На перасячэнні вуліц Савецкай і Перамогі ўтворана другая плошча — грамадскі цэнтр пасёлка. З Пн да плошчы прымыкае парк імя 50-годдзя Кастрычніка, у якім створаны спарт. цэнтр. Жылая забудова сканцэнтравана ў цэнтры і ў паўд. частцы: вуліцы Савецкая, Будаўнікоў, Гагарына забудоўваюцца 4—5-павярховымі, 50 гадоў Кастрычніка, Перамогі, Партызанская, Пралетарская, Лугавая — 1—2-павярховымі, вуліцы Магілёўская, Суворава — 2—4-павярховымі жылымі дамамі. У праекце дэталёвай планіроўкі цэнтра 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва: арх. Т. Спірына, інж. Н. Галавацкая) у аснову планіровачнага і кампазіцыйнага вырашэння пакладзены прынцып раскрыцця забудовы ў бок р. Друць і парку, які ствараецца ўздоўж яе. Прамысл. зона фарміруецца ў паўн. частцы. Зона адпачынку ўключае паўд. частку Цяцерынскага вадасховішча і паўн. частку левабярэжжа Друці.

*Ю. А. Якімовіч, С. Ф. Самбук.*



**Крупкі.** Былы сядзібны дом па вуліцы Савецкай. Пачатак 20 ст.

**КРУПКІ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Крупскага р-на, на р. Бобр. За 118 км ад Мінска. У сярэдзіне 16 ст. мястэчка ў Аршанскім пав. Віцебскага ваяводства Вял. кн. Літоўскага, належалі князям Сангушкам. З 1793 у складзе Расіі — у Бобрскай воласці Сенненскага пав. Магілёўскай губ. У 1859 у К. пабудаваны млын з сукнавальняй. У 1871 каля мястэчка прайшла лінія Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. У 1896 засн. запалкавая ф-ка, у 1900 пабудаваны лесапільны з-д. У 1897 у К. 1523 жыхары, больш за 166 дамоў, царква, паштова-тэлеграфнае аддзяленне, царкоўнапрыходская школа, 24 крамы. З 11.7.1919 К. ў складзе Віцебскай губ., з 15.2. 1923 перададзены з Сенненскага ў Аршанскі павет. З 17.7.1924 цэнтр раёна ў Барысаўскай, з 9.6.1927 — у Аршанскай акругах. У 1926 у К. 2097 жыхароў, лесапільны з-д, швейная арцель, саўгас «Крупкі», МТС. З 15.1.1938 у Мінскай вобл., з 27.9.1938 гарадскі пасёлак. У 1939 — 3455 жыхароў. Тэрыторыя сучаснага пасёлка абмежавана з Пн аўтамагістраллю, з Пд чыгункай, з У р. Бобр, з З ляснымі масівамі, падзелена ручаём Безыменным на ўсх. (асн. масіў забудовы, гарадскі цэнтр, вытворча-складскія прадпрыемствы) і зах. (раён індывідуальнай забудовы) часткі. Архіт.-планіровачная структура пасёлка (дробная сетка прамавугольных кварталаў з перавагай 1-павярховай забудовы сядзібнага тыпу) падпарадкавана развіццю двух асн. напрамкаў — вуліц Савецкай (галоўная, з Пн на Пд) і Ленінскай (з З на У). Першы генплан К. распрацаваны ў 1948—49 (Маскоўскія планіровачныя майстэрні). У далейшым развіццё пасёлка ажыццяўлялася паводле генплана 1970 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва; аўтары арх. В. Ладыгіна, Р. Шэліхава, інж. Б. Пісарчык). Адм.-грамадскі і культ. цэнтр пасёлка склаўся ўздоўж вул. Савецкай. На перакрыжаванні вуліц Савецкай і Ленінскай сфарміравалася гандлёвая (універмаг, рэстаран, сталовая, камбінат быт. абслугоўвання, прамтаварныя і прадуктовыя магазіны, Дом культуры з б-кай і вузел сувязі), а на Пн ад яе адміністрацыйна-дзелавая (гар- і райвыканкомы, банк, кінатэатр, музычная школа, Дом піянераў) зоны цэнтра. Жылая зона цэнтра фарміруецца ўздоўж вуліц Савецкай, Ленінскай, Інтэрнацыянальнай, Кірава і аўтамагістралі Мінск — Масква. Новая 2-, 5-, 9-павярховая забудова прадугледжана ў цэнтры ўздоўж вул. Савецкай і на свабодных тэрыторыях у раёне в. Новыя Крупкі. Захаваўся помнік архітэктуры стылю мадэрн — Крупскі сядзібны дом. Цэнтр. частка пасёлка, абмежаваная вул. Ленінскай, аўтамагістраллю

Мінск — Масква, р. Бобр і ручаём Безыменным, забудоўваецца паводле праекта дэталёвай планіроўкі 1986 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. В. Дутлава, К. Шулаева і інш.). У ім прадугледжаны рэканструкцыя вул. Савецкай з буд-вам 3—4-павярховых жылых дамоў і грамадскіх збудаванняў, буд-ва шматпавярховых жылых дамоў у зах. частцы, 1—2-павярховых дамоў катэджавага тыпу каля аўтамагістралі, стварэнне прамысл. раёнаў, агульнапасялковага цэнтра, які атрымае выхад у паркавую зону на беразе р. Бобр, з выкарыстаннем існуючых культ. і гандл. устаноў, дзіцячага парку на беразе ракі, далейшае развіццё спарт. зоны. *С. Ф. Самбук.*

**КРЫВІЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ТРЫНІТАРЫЯЎ,** помнік архітэктуры 18 ст. Пабудаваны ў 1776 у в. Крывічы (Мядзельскі р-н) у стылі позняга барока. Складаецца з Андрэеўскага касцёла і жылога будынка. К а с ц ё л — 1-нефавы 1-вежавы храм з прамавугольнай апсідай, накрыты высокім 2-схільным дахам. Высокая вежа мае 3-ярусную кампазіцыю з характэрнымі ў стылявых адносінах заломамі карніза, скосамі вуглоў. Першы ярус крапаваны плоскімі лапаткамі па вуглах граней, прарэзаны лучковымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі. Другі ярус ідэнтычны першаму па кампазіцыі і дэкоры, але меншы ў сячэнні, трэці прарэзаны круглымі вокнамі, завершаны вял. купалам з каваным узорыстым крыжам. Аналагічны крыж на даху над апсідай. Архітэктурны дэкор пабудовы стрыманы і лаканічны. Высока размешчаныя ў тоўшчы сцен вокны набліжаюць храм да абарончых збудаванняў, унутраная прастора зальнага тыпу перакрыта цыліндрычным з распалубкамі скляпеннем на падпружных арках. Сцены крапаваны здвоенымі пілястрамі з капітэлямі іанічнага ордэра. Агароджа высокіх хораў мае плаўны залом у цэнтр. частцы, падтрымліваецца 2 слупамі. Амбон аздоблены пазалочанай драўлянай разьбой. Падлога мазаічная, з геаметрычным арнаментам. Алтар храма багата ўпрыгожаны лепкай, скульптурамі святых. Ж ы л ы б у д ы н а к прымыкае да паўд.-ўсх. сцяны касцёла. Двухпавярховы, прамавугольны ў плане. Сцены ўмацаваны плоскімі лапаткамі, члянены невял. прамавугольнымі вокнамі. У будынку жыве ксёндз. Касцёл дзейнічае. *А. Ю. Пятросава.*

**КРЫВІЧЫ,** гарадскі пасёлак у Мядзельскім р-не, на р. Сэрвач. За 39 км ад Мядзела, 139 км ад Мінска. Вядомы з сярэдзіны 16 ст. як мястэчка Ашмянскага пав. Вял. кн.



**Крывіцкі касцёл і кляштар трынітарыяў.** Галоўны фасад касцёла.



**Крывіцкі касцёл і кляштар трынітарыяў.** Алтар.



**Крывічы.** Царква па вуліцы 17 Верасня. 2-я палавіна 19 ст.



**Крывошынскі касцёл езуітаў.**

Літоўскага. Належала магнацкаму роду Кішкаў (да 1653), потым Швыкоўскім. У пач. 17 ст. невял. паселішча (38 двароў у 1606) з вуліцамі Дворнай (галоўная, 25 двароў, карчма, шынок) і Куранецкай (да мяст. Куранец). Дворную замыкаў сядзібны комплекс, у склад якога ўваходзілі двор (вял. панскі дом, дом аканома, пякарня, зблакіраваная з кухняй, 4 свірны), гасп. падвор'е (3-камерны жылы дом, 5 свірнаў) і гумнішча. У 1620—30-я гады К. перабудаваны, у 1639 мелі 61 двор. Цэнтрам паселішча была квадратная ў плане гандл. плошча з царквой, гасціным домам і 11 дварамі. Ад яе разыходзіліся 3 вуліцы — Дворная (6 двароў), Данюшаўская і Мядзельская (па 22 двары). Існаваў фальварак: уключаў 3 жылыя дамы, стайню, варыўню, сыраварню, клеці і свірны, вял. абору і гумнішча з 2 такамі, вазоўню. Каля ракі была ўзведзена царква, знаходзілася гумнішча з токам, пуня і смалакурня. У 1776 у цэнтры пасёлка (па вул. 17 Верасня) пабудаваны *Крывіцкі касцёл* і *кляштар трынітарыяў,* у 2-й пал. 19 ст.— царква з 3-яруснай шатровай званіцай. З 1793 К. ў складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Вілейскага пав. У 1866 было 40 двароў, 200 жыхароў, у 1883—625 жыхароў, фальварак каля мястэчка з вінакурняй і 2 вадзянымі млынамі. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы. З 1939 у БССР, у 1940—62 цэнтр раёна. З 28.6.1958 гарадскі пасёлак. З 1962 у Мядзельскім р-не.

Архіт.-планіровачная структура пасёлка — дробная сетка кварталаў, пераважае 1-павярховая забудова сядзібнага тыпу. Паводле генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Жаўняк, С. Алёхіна) К. развіваецца ў зах. і паўн. напрамках. Асн. кампазіцыйнае ядро — грамадскі цэнтр, размешчаны ўздоўж гал. вуліцы — 17 Верасня. Прадугледжана развіццё зоны адпачынку — павелічэнне тэр.парку, які прылягае да грамадскага цэнтра, пабудова вадасховішча. *Ю. А. Якімовіч, С. Ф. Самбук.*

**КРЫВОШЫНСКІ КАСЦЁЛ ЕЗУІТАЎ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны каля 1740 у в. Крывошын (Ляхавіцкі р-н) у 1863 перабудаваны пад Пакроўскую царкву. Мураваная 2-вежавая 3-нефавая базіліка з паўкруглай апсідай і невял. сакрысціяй з Пд (даўж. 35 м, шыр. 16 м). Рэканструкцыя касцёла пад царкву надала архітэктуры будынка рэтраспектыўна-рускі стылявы характар. У 1963 у час перабудовы над цэнтр. нефам на 2-ступеньчатым квадратным у плане цастаменце ўзведзены 12-гранны барабан з купалам, завершаным цыбулепадобнай галоўкай. Над гал. фасадам надбудавана 8-гранная званіца, завершаная шатром з цыбулепадобнай галоўкай. Гал. фасад фланкіруюць 2 двух'ярусныя вежы, дэкарыраваныя 3-вугольнымі франтонамі і завершаныя купаламі на шматгранных барабанах. У аздабленні фасадаў выкарыстаны дэкар. элементы старажытна-рускага дойлідства: кілепадобныя аркі і ліштвы акон, аркатурныя паясы, гіркі. У інтэр'еры збераглiся першапачатковыя манум. формы барочнага храма. Цэнтр. і меншыя бакавыя нефы, размежаваныя 8 слупамі, перакрыты крыжовымі і цыліндрычнымі на падпружных арках скляпеннямі. Пры ўваходзе на 2 слупах галерэя хораў. Сцены аздоблены вязкай пілястраў, прафіляванымі цягамі, лепкай. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**КРЫЎЛЯНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 17 — пач. 18 ст. каля в. Крыўляны (Жабінкаўскі р-н). Пабудаваны ў забалочанай мясцовасці. Належаў князям Чартарыйскім. Меў блізкі да прамавугольніка план (пл. каля 11 га), быў умацаваны земляным валам (шыр. 7—8 м, выш. каля 4 м), бастыёнамі, ровам (шыр. 13—15, глыб. да 4 м). З паўн.-зах. боку быў абведзены дадатковым вадзяным

ровам. Уезд у замак размяшчаўся з ПдУ. У паўн.-зах. частцы на ўзвышэнні стаяла драўляная вежа, каля якой была сажалка, абнесеная высокім земляным валам і злучаная з рэчкай. У комплекс уваходзілі таксама драўляны палац, жылыя і гасп. пабудовы. Не збярогся.

*М. А. Ткачоў.*

**КРЫЧАЎ,** горад, цэнтр Крычаўскага р-на, на правым беразе р. Сож. За 104 км ад Магілёва. На тэрыторыі К. выяўлены гарадзішчы Гарадзец (5—7 і 10—12 стагоддзі) і Замкавая Гара (Замак, Нікольская Гара, з 12 ст.). У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1136 пад назвай К р э ч у т. У 1-й пал. 14 ст. далучаны кн. Альгердам да Мсціслаўскага княства. З 2-й пал. 14 ст. ў Вял. кн. Літоўскім. У 1633 атрымаў герб (выявы залатога крыжа і сярэбранага мяча на чырвоным полі), у 1653 — магдэбургскае права. У 17—18 стагоддзях цэнтр Крычаўскага староства, належаў магнатам Шалухам, Саламярэцкаму-Лукомскаму, Весялоўскім, Радзівілам, Мнішкам. Стараж. цэнтр К. да 1778 складаўся з умацаванага замка ў сутоках рэк Ставок і Сож і плошчаў Гандлёвай (з ратушай), злучанай з гасціным дваром, і Саборнай, на якой стаялі 3 драўляныя царквы 15 і 17 стагоддзяў, касцёл (не збярогліся). Плошчы, размешчаныя на высокім узгорку, былі абкружаны 1-павярховымі драўлянымі жылымі дамамі. З 1772 у складзе Расіі, мястэчка Магілёўскай губ., належала графу Р. А. Пацёмкіну. У 18 ст. пабудаваны *Крычаўскі палац,* каля якога закладзены парк. У 1897 у К. 3,7 тыс. жыхароў. У пач. 20 ст. 7,5 тыс. ж., 906 дамоў. З 1924 цэнтр раёна. З 17.12.1931 горад. У 1939—16 тыс. жыхароў. У 1962—65 у Мсціслаўскім р-не. З 7.3.1963 горад абл. падпарадкавання.

Горад мае лінейную планіровачную структуру, падзелены шашой Падольск — Слуцк — Івацэвічы на 2 адасобленыя раёны. У найбольш старым паўд. раёне (прылягае да Сожа, падзелены ярамі) размешчаны гал. вуліцы — Ленінская (з Пн на Пд, на ёй знаходзяцца палац, раённы краязнаўчы музей, гандл.-быт. ўстановы, сквер) і Савецкая (з У на З, на ёй гандл. ўстановы, адм. цэнтр — будынкі б. Дома Саветаў і гаркома партыі). У месцы іх перасячэння ўтварылася плошча — грамадскі цэнтр горада з Домам культуры, кінатэатрам «Радзіма». Забудова паўд. раёна пераважна 1-павярховая сядзібнага тыпу. Гал. вось паўн. раёна — вул. Камсамольская — злучае раён з цэнтрам горада, да яе прылягаюць мікраёны Сож (з ПнУ) і Камсамольскі (з ПнЗ), забудаваныя 3—5-павярховымі жылымі дамамі з культ. і гандл. ўстановамі. З Пн на ПнУ раён перасякае чыгунка Орша — Унеча, у яго паўд.-ўсх. частцы знаходзяцца чыгуначны вакзал, 2—3-павярховыя жылыя дамы пасёлка чыгуначнікаў; у паўд. яго частцы фарміруецца прамысл.-складская зона. Зона адпачынку размешчана ўздоўж ракі. Захаваліся помнікі архітэктуры: палац, *Крычаўская паштовая станцыя* (сярэдзіна 19 ст.), драўляная Мікалаеўская царква (канец 19 — пач. 20 ст.), у краязнаўчым музеі зберагаецца звон (адліты з бронзы ў 1748 для царквы Параскевы Пятніцы). Паводле генплана 1979 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. С. Смірнова, М. Шумячар; карэкціроўка 1982) і праекта дэталёвай планіроўкі 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё горада ў паўд. напрамку ўздоўж ракі. *Н. М. Бабарыкіна, Г. С. Ларкін.*

**КРЫЧАЎСКАЯ ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ,** помнік грамадзянскай архітэктуры сярэдзіны 19 ст. Пабудавана ў Крычаве (сучасная вул. Ленінская, 76), у стылі неаготыкі. Абслугоўвала дарогу Масква — Брэст — Варшава. Станцыя — комплекс будынкаў, размешчаных вакол прамавугольнага ў плане двара. Гал. будынак мураваны, прамавугольны ў плане, аднапавярховы, з дваровай і пазнейшай тарцовай прыбудовамі. Павернуты гал. фасадам да дарогі, яго цэнтр. частка і вуглы вылучаны пілястрамі з гатычнымі арачнымі нішамі. Прамавугольныя вокны ў ліштвах з прафіляванымі сандрыкамі ў выглядзе стральчатых арак. Планіроўка будынка сіметрычная. Сцены памяшканняў апяразаны прафіляванымі карнізамі. У будынках станцыі размешчана база дарожна-эксплуатацыйнай службы. *У. В. Алісейчык.*

**КРЫЧАЎСКІ ПАЛАЦ,** помнік архітэктуры канца 18 ст. Пабудаваны ў 1778—87 у г. Крычаў для кн. Р. А. Пацёмкіна, у 1840-я гады рэканструяваны. Мураваны П-падобны ў плане 2-павярховы будынак, накрыты пакатым 2-схільным дахам. Кампазіцыйны цэнтр абодвух паверхаў — вял. круглыя залы, якія выступаюць з асн. аб'ёму будынка ў бок двара. Архіт. вырашэнне гал. фасада мае рысы несапраўднай готыкі: цэнтр вылучаны рызалітам, раскрапаваным гранёнымі пілонамі, вуглавыя пілоны завершаны зубцамі і нагадваюць вежы, вокны стральчатай формы. Астатнія фасады расчлянёны пілястрамі, вокны на 1-м паверсе прамавугольныя, на 2-м — паўцыркульныя. Тарцы бакавых крылаў вырашаны ў строгіх класіцыстычных формах, завершаны трохвугольнымі франтонамі. Вокны аздоблены сандрыкамі: лучковымі на 1-м і трохвугольнымі на 2-м паверсе. Інтэр'еры залаў і пакояў мелі багатую ляпную аздобу, мармуровыя каміны, кафляныя печы. Першапачатковая анфіладная планіроўка зменена ў 1950-я гады. Перад палацам быў пейзажны парк (збярогся часткова), за палацам — П-падобны ў плане будынак стайні і пладовы сад. У будынку размешчана школа-інтэрнат. Помнік рэспубліканскага значэння.



Крычаўскі палац.

*Т. В. Габрусь, Ю. Н. Кішык.*

**КРЭЎСКІ ЗАМАК.** Пабудаваны пасля 1338 у Крэве (Смаргонскі р-н) на насыпным узгорку, абкружаным ровам з вадою. У плане няправільны чатырохвугольнік (85 × 108, 5 × 71, 6 × 97,2 м), абнесены мураванымі сценамі (таўшчыня 2,5—2,7 м, выш. 12—13 м) на 2-метровым падмурку. Унізе складзены з каменю, уверсе з вонкавага боку абмураваны цэглай, у паўд. сцяне запасны ход, заходнюю праразае ўваход-праём спічастай формы. Абарону замка ўзмацняюць 2 вуглавыя вежы, размешчаныя па дыяганалі. На вышыні 10 м па перыметры сцен на драўляных бэльках была баявая галерэя-памост з байніцамі ў сценах на адлегласці 2,4 м адна ад адной. Паўн.-зах. княжацкая вежа («вежа Кейстута»), амаль квадратная ў плане (18,65 × 17 м), выступае за перыметр сцен. Прызначалася для жылля князя і чэлядзі, мела, як мяркуюць, 4 паверхі (кожны выш. 4,8—5 м) са склепам-турмою ўнізе. Муроўка вежы да выш. 3 м з каменю, вышэй — 3-слаёвая з таўшчынёй вонкавых слаёў каля 0,7 м. У жылых пакоях была фрэскавая размалёўка. Паўд.-ўсх. вежа (таксама 4-павярховая; у плане 11 × 10, 65 м) прыбудавана да замкавых сцен унутры двара пазней. Уязная брама была ў паўн. сцяне. Вокны вежаў і байніцы сцен стральчатыя. Зберагліся руіны замка, у



Руіны **Крэўскага замка.**



**Крэўскі замак.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.

1929 праведзена кансервацыя. Помнік рэспубліканскага значэння. Архіт.-археалагічныя даследаванні вялі М. А. Ткачоў, А. А. Трусаў, І. М. Чарняўскі. *М. А. Ткачоў.*

**КУРГАН СЛАВЫ САВЕЦКАЙ АРМІІ — ВЫЗВАЛІЦЕЛЬНІЦЫ БЕЛАРУСІ,** помнік у гонар подзвігу воінаў 1, 2, 3-га Бел. і 1-га Прыбалтыйскага франтоў у Бел. аперацыі 1944. Знаходзіцца на 21-м км шашы Мінск — Масква. Філіял Бел. дзярж. музея гісторыі Вял. Айч. вайны. Урачыста адкрыты 5.7.1969. Аўтары — скульптар А. Бембель, арх. А. Стаховіч (Дзярж. прэмія БССР 1970), скульптар А. Арцімовіч, арх. Л. Міцкевіч, інж. В. Лапцэвіч. Закладзены 30.9.1966 прадстаўнікамі гарадоў-герояў Масквы, Ленінграда, Валгаграда, Севастопаля, Адэсы, Кіева, Брэсцкай крэпасці-героя, працоўных, навучэнцаў, вайсковых часцей Мінска і Мінскай вобл. Курган Славы — складанае інж.-архіт. збудаванне. Вышыня кургана 35 м, на вяршыні яго 4 абліцаваныя тытанам штыкі-абеліскі (35,6 м кожны), якія сімвалізуюць франты — удзельнікі вызвалення Беларусі. У іх ніжняй частцы мазаічныя выявы ордэнаў Айч. вайны і Славы. Аснову штыкоў акружае шырокае кальцо, унутры якога мазаічны надпіс «Арміі Савецкай, Арміі-вызваліцельніцы — слава!» На вонкавай паверхні кальца абліцаваныя залацістай смальтай барэльефныя выявы воінаў усіх



**Курган Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі.**

родаў войск і партызан. Да агляднай пляцоўкі на вяршыні вядуць 2 бетанаваныя лесвіцы (241 прыступка ў кожнай). На падыходзе да помніка з боку шашы гранітная пліта з інфармацыйным надпісам, вакол якога мемарыяльны парк з штучным басейнам. Курган Славы з'яўляецца ідэйна-маст. дамінантай наваколля. *А. Г. Ванькевіч.*

**КУХЧЫЦКАЯ СЯДЗІБА,** П е р ш а м а й с к а я с я д з і б а, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Сфарміравалася ў 1-й пал. 19 ст. ў в. Кухчыцы (сучасны пас. Першамайскі Уздзенскага р-на). У комплекс уваходзілі палац, флігелі і парк з капліцай-пахавальняй Завішаў. П а л а ц (захаваліся бакавыя флігелі) уяўляў сабой разгорнутую па фронту 3-частковую кампазіцыю, цэнтрам якой з'яўляўся накрыты вальмавым дахам 1-павярховы П-падобны ў плане аб'ём з 4-калонным порцікам на гал. фасадзе. Бакавыя крылы цэнтр. аб'ёму франтальнымі каланадамі-галерэямі злучаліся з 1-павярховымі прамавугольнымі ў плане флігелямі, накрытымі вальмавымі дахамі. Ф л і г е л і — лаканічныя па архітэктуры 1-павярховыя прамавугольныя ў плане будынкі, ядром сіметрычнай кампазіцыі якіх з'яўляюцца масіўныя 4-калонныя порцікі дарычнага ордэра з трохвугольнымі франтонамі. Бутавая муроўка сцен дэкарыравана атынкаванымі пілястрамі, вуглы раскрапаваны руставанымі цаглянымі лапаткамі, пад карнізамі дахаў праходзяць паясы сухарыкаў. Гал. фасады дэкарыраваны фрызамі з трыгліфамі. Уваходы ў будынкі — цэнтральны і 2 бакавыя — вылучаны высокімі ганкамі. Унутраная прастора распланавана сіметрычна адносна падоўжнай восі, мае анфіладнае размяшчэнне пакояў. Палац знаходзіўся ў маляўнічым парку, на шырокім лузе, акаймаваным ліпавымі алеямі. К а п л і ц а - п а х а в а л ь н я — у паўн.-ўсх. частцы парку. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. па тыпу сярэдневяковых кальвінскіх збораў (імітацыя *Смаргонскага кальвінскага збору*). Мураванае кампактнае 12-граннае ў плане збудаванне (таўшчыня сцен дасягае 1,5 м) з конусным шатровым дахам і кубападобнай алтарнай часткай. Гал. фасад фланкіраваны круглымі ў сячэнні вежамі з шатровымі завяршэннямі. Паміж вежамі размешчаны аб'ём тамбура, вылучаны пілястравым порцікам з трохвугольным франтонам. У дэкоры будынка выкарыстаны ляпныя гірлянды, вузкія байніцы, геральдыка. Вуглавыя сучляненні гал. аб'ёму прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі, сцены апсіды — круглымі люкарнамі. Тамбур перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, зала — плоскай столлю. Алтарнае памяшканне адкрыта ў залу шырокай лучковай аркай. Таксама аркай адкрываюцца ў залу хоры, размешчаныя на 2-м ярусе тамбура. Інтэр'ер дэкарыраваны карнізам на дэнтыкулах, канеліраванымі пілястрамі. Пад алтаром — крыпта. Ва ўцалелых флігелях сядзібы размешчана прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Капліца-пахавальня —



Палац **Кухчыцкай сядзібы.** З малюнка Н. Орды. 1876.

помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**КУШЛЯНСКАЯ СЯДЗІБА,** Дом Багушэвіча, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры канца 19 ст. Створана ў в. Кушляны (Смаргонскі р-н). Гісторыя сядзібы ўзыходзіць да 18 ст., калі ў 1749 за 450 злотых маёнтак набыў А. Багушэвіч (прапрадзед бел. паэта Ф. Багушэвіча). У сядзібе Ф. Багушэвіч правёў апошнія гады жыцця. Ансамбль уключае сядзібны дом, парк эканамічнага тыпу, гасп. пабудовы, альтанку. Сядзібны дом — прамавугольная ў плане 1-павярховая зрубная пабудова пад высокім 2-схільным дахам. Па фронту гал. фасада адкрытая слупавая галерэя-навес з дашчаным парапетам. Планіроўка дома анфіладная, уваходы з боку гал. і бакавога фасадаў. Парк з пладовым садам расчлянёны прамавугольнай сеткай алей. Сярод насаджэнняў пераважаюць ліпа, клён, елка, трапляюцца асобныя экземпляры лістоўніцы. Пры ўездзе ў парк — маляўнічая паляна з курцінамі. З малых архіт. форм асталася драўляная альтанка — цэнтрычнае ў плане збудаванне каркаснай канструкцыі з шатровым дахам-навесам. Народная назва альтанкі «Распятая воля». Паводле падання, альтанка была зроблена рукамі Багушэвіча і яго сяброў у памяць ахвяр нац.-вызваленчага паўстання 1863—64. Драўляная скульптура «Укрыжаванне», якая да 1939 знаходзілася ў альтанцы, не захавалася. Гасп. пабудовы сканцэнтраваны на ПдЗ ад сядзібнага дома. Недалёка ад сядзібы знаходзіцца камень Мацея Бурачка (псеўданім Ф. Багушэвіча), устаноўлены сялянамі ў гонар паэта ў пач. 20 ст. У пасляваенныя гады сядзібны дом захаваўся дзякуючы рупнасці М. Ляпехі — шчырага прыхільніка творчасці Багушэвіча, захавальніка і вартаўніка сядзібы. Да 1988 у доме была размешчана Кушлянская сельская б-ка імя Багушэвіча. Да 150-годдзя з дня нараджэння паэта рэалізаваны праект рэстаўрацыі сядзібы. Адноўлены падмурак, франтоны, дах і першапачатковая планіроўка, перабрана галерэя-навес. Адноўлены таксама адрына, свіран, студні з «жураўлямі». У садзе зроблены падсадкі маладых пладовых дрэваў. У 1990 пад час святкавання ў будынку сядзібнага дома адкрыта літаратурна-мастацкая кампазіцыя, прысвечаная творчасці паэта.

*А. М. Кулагін.*



**ЛАГІШЫН,** гарадскі пасёлак у Пінскім р-не. За 28 км ад Пінска, 203 км ад Брэста. Вядомы з 1552 у Пінскім пав. Вял. кн. Літоўскага. У 17 ст. мястэчка, цэнтр старства, належаў Радзівілам, потым Агінскім і Любецкім. У 1634 пабудаваны мураваны касцёл. Меў магдэбургскае права (з 1643 да 1776) і герб (выява воўка на ласіных нагах у блакітным полі, пацверджаны ў 1633). З 1795 у складзе Расіі, мястэчка Пінскага пав. Мінскай губ. У канцы 19 ст. цэнтр воласці, каля 250 жыхароў, больш за 40 двароў, царква, школа. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр гміны Пінскага пав. Палескага ваяв. З 1939 у складзе Пінскай вобл. БССР, у 1940—62 цэнтр раёна, з 1954 у Брэсцкай вобл. З 22.12.1959 гарадскі пасёлак, з 1962 у Пінскім р-не.

Сучасны Л. забудоўваецца паводле генпланаў 1958 і 1973 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Л. Пілатовіч, М. Пракалей). Развіваецца ў зах. і паўд. напрамках. Планіровачная структура — прамавугольная сетка вуліц; пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Асноўныя кампазіцыйныя восі — вуліцы Ленінская (галоўная, праходзіць з Пн на Пд) і Тамілава — падзяляюць пасёлак на 4 жылыя раёны. Новая 2-павярховая забудова размешчана па вул. Ленінскай, катэджавая — у раёне парку, 1-павярховая — на свабодных тэрыторыях. У цэнтр. частцы вул. Ленінскай склаўся культ.-гіст. грамадскі цэнтр. На скрыжаванні вуліц Ленінскай і Савецкай фарміруецца цэнтр. плошча. У паўд. частцы знаходзіцца мі-





**Лагойск.** Вуліца Савецкая.

**Лагішынская Святапраабражэнская царква.**



**Лагішынскі Петрапаўлаўскі касцёл.**

крараён меліяратараў, які аддзяляе прамысл. зону (размешчана ў паўн.-зах. частцы) ад пасёлка. Зона адпачынку — парк са спарт. комплексам, тэрыторыя ўздоўж берагоў р. Ясельда. У цэнтры пасёлка захаваліся помнікі архітэктуры канца 19—пач. 20 ст.—*Лагішынская Святапраабражэнская царква* і *Лагішынскі Петрапаўлаўскі касцёл*, а таксама гіст. мураваная жылая забудова па вул. Тамілава. Генпланам 1990 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) разам з праектам дэталёвай планіроўкі Л. прадугледжаны рэгенерацыя цэнтр. часткі пасёлка, вывядзенне з яго транзітнага аўтатранспарту, развіццё новага будаўніцтва ў паўд.-зах. напрамку. *С. Ф. Самбук.*

**ЛАГІШЫНСКАЯ СВЯТАПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры 2-й пал. 19 ст. Пабудавана ў г. п. Лагішын (Пінскі р-н) у скверы на вул. Камсамольскай. Да асн. квадратнага ў плане аб'ёму, які завершаны 5 галоўкамі, далучаны чатырохгранная апсіда і праз невялікі пераходны аб'ём трох'ярусная званіца. Агульная кампазіцыя і дэкаратыўная аздоба помніка выкананы ў псеўдарускім стылі. Царква дзейнічае.

**ЛАГІШЫНСКІ ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1907—09 у г. п. Лагішын (Пінскі р-н). Да асн. прамавугольнага аб'ёму па падоўжнай восі прылягаюць пяціграная апсіда прэсбітэрыя і чатырох'ярусная званіца, з боку апсіды — некалькі дапаможных памяшканняў. Усе аб'ёмы маюць стромкія высокія дахі. Сцены расчлянёны контрфорсамі, вокны стральчатыя. Касцёл дзейнічае.

**ЛАГОЙСК,** гарадскі пасёлак, цэнтр Лагойскага р-на, на р. Гайна. За 40 км ад Мінска. На правым беразе Гайны ў парку захаваліся рэшткі дзядзінца 11—13 стагоддзяў, непадалёк ад яго, за 0,5 і 1,5 км, знаходзяцца 2 гарадзішчы — Паненская Гара і Замак (Замкавая Гара, Замкавішча). У пісьмовых крыніцах упершыню Л. (летапісны Л о г о ж с к, Л о г о ж е с к) упамінаецца ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха пад 1078. У канцы 11 ст. горад-крэпасць Полацкай зямлі. З 1180 цэнтр удзельнага Лагожскага княства. З 14 ст. ў Мінскім ваяводстве Вял. кн. Літоўскага. Належаў кн. Ізяславу Мсціславічу (з 1128), дынастыі полацкіх князёў (з 1132), потым Скіргайлу (у 1387 падараваны брату Ягайлам), Вітаўту (з 1392), князям Чартарыйскім (аддадзены Казімірам IV у 1413), Тышкевічам (з 1528). У 1505 разбураны татарамі, у 1706 у Паўночную вайну спалены. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Барысаўскага пав. Мінскай губ. З 1924 цэнтр раёна, з 27.9.1938 гарадскі пасёлак.

Ядром стараж. горада быў замак (спалены ў 1505, адноўлены ў 1531—32), у 1765 на яго месцы пабудаваны базыльянскі манастыр (будынак існаваў да 1856) і храм. У 1609 быў засн. мураваны касцёл. У канцы 18 ст. існавалі 2 уніяцкія і 2 праваслаўныя (Богаяўленская пабудавана ў 1531—32) царквы. У 1-й пал. 19 ст. на месцы стараж. замчышча (уздоўж вул. Камсамольскай) створаны парк пейзажнага тыпу, на паўн. участку якога пабудаваны 2-павярховы мураваны палац у стылі класіцызму (1814—19); у 1824 на высокім правым беразе р. Гайна (па вул. Савецкай) пабудавана *Лагойская Мікалаеўская царква.* У 1897—2296 жыхароў.

Л. размешчаны на згладжаных узгорках у лукавіне р. Гайна, абкружаны ляснымі масівамі. Архіт.-планіровачная структура вызначана вуліцамі Савецкай (галоўная, з З на У, пабудаваны 2-, 3- і 5-павярховыя жылыя дамы), Камсамольскай (з ПнЗ) і Я. Купалы (з ПдУ); на месцы злучэння іх размешчана плошча, на якой склаўся адм.-грамадскі цэнтр. У раёне зліцця ву-

ліц Перамогі (з Пн на ПдУ, у паўн. частцы мікрараён з грамадскім падцэнтрам), Цімчука (з У на З) і Савецкай фарміруецца плошча з будынкамі адм., сацыяльна-быт. прызначэння. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Прамысл. зона размешчана ў паўн., усх. і паўд.-ўсх. частках. Зоны адпачынку — «Гайна», «Янушкавіцкая» — фарміруюцца на ПнЗ ад Л., штучны вадаём знаходзіцца ў зах. частцы пасёлка. Паводле генпланаў 1969, 1979 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Г. Пальчэўская) і праекта дэталёвай планіроўкі 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё Л. як цэнтра адпачынку і турызму: стварэнне турыстычнага цэнтра па вул. Савецкай, буд-ва гандл. і фізкультурна-спарт. комплексаў, фарміраванне прыроднага парку «Белая Русь» (да мемарыяльнага комплексу «Хатынь»).

*А. П. Грыцкевіч, Г. С. Ларкін.*

**ЛАГОЙСКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана з цэглы ў 1866 у Лагойску (вул. Савецкая) на правым беразе р. Гайна, перабудавана ў 2-й пал. 19 ст. У плане мае традыцыйную 4-часткавую працяглую па восі ўсход — захад кампазіцыю: 4-ярусная званіца, трапезная, асн. аб'ём, 5-гранная апсіда з бакавымі рызніцамі. Стрыманы дэкор помніка ўключае ордэрную пластыку, прафіляваныя карнізы. Сцены раскрапаваны вуглавымі лапаткамі і арачнымі аконнымі праёмамі. Гал. дамінанты — 8-гранная званіца і барабан, якім завершаны асн. аб'ём, маюць аднолькавую архіт.-канструкцыйную схему (васьмярык на чацверыку), а таксама шатровыя дахі, што надае суцэльнасць агульнаму архіт. вобразу. У інтэр'еры цэнтр. аб'ём перакрыты ветразевымі скляпеннямі на 4 слупах.

*Г. А. Лаўрэцкі.*

**ЛАЗДУНОЎСКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у 19—1-й пал. 20 ст. ў в. Лаздуны (Іўеўскі р-н). Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак быў пастаўлены на бутавы цокаль і завяршаўся вальмавым гонтавым дахам. Атынкаваныя звонку сцены прарэзвалі прамавугольныя аконныя праёмы, у 1-м паверсе завершаныя трохвугольнымі франтончыкамі, у 2-м — плоскімі сандрыкамі. Гал. ўваход вылучала аркадная галерэя, над якой была тэраса з 3 драўлянымі калонамі, што падтрымлівалі трохвугольны шчыт з 2 прамавугольнымі вокнамі. Планіроўка анфіладная. Да палаца прылягаў парк, у якім стаялі разнастайныя гасп. збудаванні, у т. л. 2-



Лагойская Мікалаеўская царква.



Лаздуноўскі палац. Здымак 1930-х гадоў.

павярховы драўляны лямус, вырашаны ў выглядзе 8-граннай вежы з галерэйкай на 2-м паверсе і шатровым гонтавым пакрыццём.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ЛАПУШНЕНСКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у 19—1-й пал. 20 ст. ў в. Лапушна (Дзятлаўскі р-н). Мураваны 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак, пастаўлены на высокі цокаль, быў накрыты вальмавым гонтавым дахам. Меў рысы стылю ампір. Сцены (гладкая тынкоўка чаргуецца з гарызантальным рустам) завершаны антаблементам з плоскім фрызам і карнізам на дэнтыкулах. Прамавугольныя вокны завяршаліся трохвугольнымі і лучковымі франтончыкамі, плоскімі сандрыкамі. Цэнтр. частку гал. фасада вылучаў манументальны 6-калонны порцік дарычнага ордэра з антаблементам (плоская абака, фрыз з трygліфамі, карніз на дэнтыкулах) і трохвугольным франтонам з паўцыркульным акном у тымпане. На паркавым фасадзе слупавая галерэя з 1-схільным пакрыццём. Порцік га-



Лапушненскі палац. Фрагмент галоўнага фасада. Здымак 1930-х гадоў.



Латыгольская Мікалаеўская царква.

лоўнага і галерэя паркавага фасадаў мелі тэрасы, агароджаныя балюстрадамі. Планіроўка анфіладная з параднай залай у цэнтры.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ЛАТЫГОЛЬСКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1771 у в. Латыголь (Вілейскі р-н) па фундацыі графа Салагуба як уніяцкая. Складаецца з 2 амаль квадратных у плане зрубаў, накрытых агульным шматсхільным дахам, які ўтварае невял. 3-вугольныя навісі ў месцы прымыкання зрубаў. Гал. фасад завершаны трапецападобным франтонам з дэкар. шалёўкай і вял. лучковым акном у цэнтры. Франтон увянчаны чацверыковай вежачкай з галоўкай. Такая ж галоўка над алтаром. Па баках алтар-

нага зруба невысокія квадратныя сакрысціі, накрытыя аднасхільнымі дахамі. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя, аздоблены нішамі. У інтэр'еры пры ўваходзе — вузкі бабінец і дапаможныя памяшканні. Столь плоская. У архітэктуры збудавання спалучаюцца рысы традыцыйнага нар. дойлідства і стылю барока. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*

**ЛЕЛЬЧЫЦЫ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Лельчыцкага р-на, на р. Убарць. За 215 км ад Гомеля. Вядомы з 16 ст. як мястэчка ў Мазырскім пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1793 у складзе Расіі, цэнтр воласці Мазырскага пав. Мінскай губ. У 1897 у Л. 800 жыхароў, млын, школа, сінагога, царква. З ліпеня 1924 цэнтр раёна. З 27.9.1938 гарадскі пасёлак у Палескай вобл., у 1962—65 у Мазырскім р-не.

Архіт.-планіровачную структуру пасёлка вызначаюць вуліцы Савецкая і Чырвонаармейская (гал. восі, на іх ствараюцца мікрараёны, забудаваныя 3—5-павярховымі жылымі дамамі). Яны разам з вуліцамі Садовай, Астроўскага, Пушкіна, Налепкі, Меншыкава, Піянерскай і Камсамольскай утвараюць прамавугольныя кварталы пераважна 1-павярховых драўляных жылых дамоў. На перакрыжаванні вуліц Савецкай і Чырвонаармейскай утварылася цэнтр. плошча — грамадскі цэнтр пасёлка. Прамысл. зона ў зах. частцы пасёлка. Зона адпачынку ўключае паркі на левабярэжжы ракі і па вуліцах Чырвонаармейскай і Савецкай. Пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1978 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*Л. С. Патапаў.*

**ЛЕНІНА** (да 1922 Раманава), вёска ў Горацкім р-не, на р. Мярэя. Цэнтр сельсавета і саўгаса «Леніна». За 17 км на ПнУ ад Горак, 112 км ад Магілёва. Мястэчка Раманава ўваходзіла ў Вял. кн. Літоўскае, у Аршанскі пав. Віцебскага ваяводства. Належала кн. Дандукову-Корсакаву. З 1772 у складзе Расіі. У 18 ст. існаваў драўляны Раманаўскі замак. Цэнтрам мястэчка была гандл. плошча, звязаная з замкам, з трох бакоў забудаваная жылымі дамамі. Тут стаялі касцёл з плябаніяй, важніца і інш. (1759). Ад плошчы радыяльна адыходзілі 4 вуліцы. Усяго было 115 сядзіб. У пач. 20 ст. больш за 1 тыс. жыхароў, мураваная царква, 2 нар. вучылішчы, валасное праўленне, пошта. У 1943 вёску спалілі ням.-фаш. захопнікі. 12—13.10.1943 у баі пад Л. разам з воінамі Чырвонай Арміі ўпершыню ўдзельнічалі воіны 1-й Польскай пяхотнай дывізіі



**Леніна.** Забудова цэнтра саўгаса.

імя Т. Касцюшкі. У гонар гэтых падзей у 1968 створаны *Мемарыяльны комплекс Музея савецка-польскай баявой садружнасці.* Забудоўваецца паводле генплана 1969 (БелНДІдзіпрасельбуд, карэкціроўка 1978). Аўтары праекта планіроўкі і забудовы цэнтра арх. Г. Бяганская, А. Калніньш. У аснове архіт.-планіровачнай кампазіцыі — адзінства забудовы пасёлка, мемар. комплексу і навакольнага ландшафту. Важнымі планіровачнымі восямі з'яўляюцца вуліцы Леніна (галоўная), Пятрова, Кжывань, Юркова. Цэнтральная пл. і пл. Зоркі складаюць грамадска-культ. цэнтр. Яго фарміруюць 6-павярховая гасцініца з Домам быту, Дом культуры з сельсаветам і поштай, гандл. цэнтр, педвучылішча. Жылая зона, размешчаная на Пд, з боку гал. ўезда ў вёску, складаецца з 2 планіровачных раёнаў — паўночнага і паўднёвага. Паблізу ад мемарыяльнага комплексу склаўся ансамбль набярэжнай з 5-павярховымі 15-кватэрнымі дамамі. Вёска забудоўваецца 2-павярховымі 4—12-кватэрнымі секцыйнымі жылымі дамамі. Вызначаецца высокім узроўнем добраўпарадкаванасці (цэнтралізаванае цеплазабеспячэнне, водаправод, каналізацыя, асфальтавае пакрыццё дарог і тратуараў усіх вуліц). Вытворчая зона размешчана на паўд. ускраіне вёскі. Пабудавана аб'язная транспартна-гасп. дарога. Зона адпачынку — пойма р. Мярэя. 2 штучныя вадасховішчы, паркі. Прадугледжаны развіццё грамадскага цэнтра ў напрамку вул. Леніна, забудова паўд. часткі жылой зоны дамамі з кватэрамі ў 2 узроўнях, ПдУ — індывідуальнымі 1-кватэрнымі дамамі, стварэнне парку з спарт. комплексам.

**ЛЕНІНА ПЛОШЧА** ў Магілёве. Створана ў 1940 паводле генплана 1936—39 (арх. М. Андросаў, Н. Трахтэнберг) на перакрыжаванні асн. дыяметраў горада — вул. Першамайскай і праспекта Міру. У планіровачным і аб'ёмна-прасторавым вырашэнні была закладзена ідэя стварэння новага адм.-грамадскага цэнтра. Кампазіцыйны цэнтр прамавугольнай у плане плошчы — *Дом Саветаў,* займае яе паўн. бок. Насупраць яго ў паўд. частцы — гал. корпус машынабудаўнічага ін-та (да 1961 адм. будынак). У ансамбль плошчы арганічна ўпісваюцца два 5-павярховыя жылыя дамы (1938, арх. А. Воінаў, А. Брэгман; 1940, арх. В. Батоева, В. Мураўёў), акцэнтаваныя вуглавымі вежамі і афармленыя пілястрамі; ствараюць уражанне своеасаблівых прапілеяў пры ўездзе на плошчу з праспекта Міру. У пасляваенныя гады паводле генплана 1947—50 завершаны праект рэканструкцыі плошчы (арх. Д. Саннікаў), закончана яе добраўпарадкаванне, у 1957 перад Домам Саветаў адкрыты помнік У. І. Леніну (скульпт. П. Сабсай, арх. В. Волчак), побач з будынкам машынабудаўнічага ін-та ўзведзены 5-павярховы жылы дом з магазінам у 1-м паверсе. Важную ролю ў аб'яднанні і дапаўненні архіт. ансамбля адыгрывае азеляненне. Два скверы, разбітыя па тарцах плошчы, вылучаюць цэнтр. частку, вырашаную ў выглядзе шырокага



Плошча Леніна ў Магілёве.

зялёнага партэра з нізкімі насаджэннямі і кветнікамі, а таксама кветнік і газоны ў курданёры Дома Саветаў. Паўд. бок плошчы перад корпусам машынабудаўнічага ін-та і жылым домам засаджаны высокімі дрэвамі. У 1988 пачата новая рэканструкцыя плошчы: буд-ва падземных пераходаў на перакрыжаванні вуліц Першамайскай і Ленінскай з праспектам Міру і рэканструкцыя прылеглых сквераў.

**ЛЕНІНА ПРАСПЕКТ** у Гомелі. У гіст. цэнтры горада (былыя назвы вуліцы Замкавая, Камсамольская). Даўж. 1460 м, ад пл. Прывакзальнай да пл. Леніна. Адна са старэйшых вуліц, пазначана на плане Гомеля 1783. Назву Замкавай атрымала ад размешчанага на ёй да 1785 княжацкага замка. Была больш працяглай на ПнЗ і праходзіла за тэр. сучаснай Прывакзальнай плошчы. У сувязі з будаўніцтвам у 1873 Лібава-Роменскай чыгункі частка вуліцы была адрэзана і атрымала інш. назву. Буд-ва чыгункі абумовіла інтэнсіўную забудову прылеглых тэрыторый, у выніку чаго вуліцы Замкавая і Румянцаўская (цяпер вул. Савецкая), якія звязвалі Гомельскі палац і Базарную пл. (цяпер пл. Леніна) з інш. раёнамі, утварылі 2-прамянёвую планіровачную структуру горада, што стала асновай яго далейшага развіцця. Да рэвалюцыі на вуліцы знаходзіліся рымска-каталіцкі сабор (не захаваўся), пажарнае дэпо з высокай каланчой, мноства магазінаў, майстэрняў, рэстаранаў, гасцініц. На скрыжаванні з Ірынінскай вул. (цяпер вул. Першамайская) былі пабудаваны Праабражэнская царква (не захавалася) і Фёдара-Ірынінская вочная лячэбніца. У гады Айч. вайны праспект быў амаль поўнасцю разбураны. Цяпер праспект — адна з гал. транспартных магістралей горада. Яго сучасны выгляд склаўся ў асноўным у 1949—68. У архітэктурна-мастацкім плане праспект уяўляе сабой адзіны горадабудаўнічы ансамбль, у забудове якога прасочваюцца элементы класічнай спадчыны. На ім размешчаны: Дом-камуна, пабудаваны для рабочых вагонарамонтнага з-да ў 1929—31 (арх. С. Шабунеўскі); Дом сувязі (1981, арх. Г. Ціхаў); будынак ін-та «Дзіпражыўмаш» (1974, арх. С. Пеўны); 12-павярховы жылы дом (на скрыжаванні з вул. Жаркоўскага; 1981, арх. Пеўны), у першым паверсе якога знаходзіцца абл. арганізацыя Саюза мастакоў Беларусі, Салон-магазін маст. фонду і выставачная зала; 3-павярховы жылы дом — помнік грамадзянскай архітэктуры (1930-я гады, арх. Шабунеўскі; у час вайны разбураны, адноўлены ў 1950) і інш. У рабоце па ажыццяўленні забудовы праспекта ўдзельнічалі таксама архітэктары У. Кароль, Г. Гура, Ш. Хінчын і інш.


Праспект Леніна ў Гомелі.


**Лепель.** Плошча Свабоды.

**ЛЕПЕЛЬ,** горад, цэнтр раёна, на беразе Лепельскага воз., паміж рэкамі Ула і Эса. За 115 км ад Віцебска. Паселішча Л. (Лепля) атаясамліваюць з селішчам і замчышчам, што знаходзяцца ў цэнтр. і паўн. частках на Лепельскім воз., насупраць в. Стары Л. Паводле пісьмовых крыніц, вядомы з 1439 у складзе Вял. кн. Літоўскага. Належаў віцебскаму касцёлу (падараваны сынам Жыгімонта Кейстутавіча кн. Міхаілам), з 1541 Віленскай капітуле (перададзены Жыгімонтам Казіміравічам). Тут пабудаваны замак (у 1563 спалены), у 1568 пачата буд-ва новага драўлянага замка з 4 вугла-вымі вежамі (не збярогся). Горад складаўся з 2 частак: замка і «места» (засн. ў 1563 на Пн ад замка, у 1580 было 300 двароў, размешчаных на востраве і зах. беразе Лепельскага воз.), якія злучаліся мостам цераз вадзяны роў; каля замка знаходзіўся гандл. порт. З 1586 Стары Л. належаў Л. Сапегу, які перанёс горад за 5 км у в. Белае (належала Сапегам з 1548), пабудаваў тут замак, царкву, касцёл, крамы. Узнікла мястэчка Белы Л., або Новы Л. (пазней Л.), а Стары Л. ператварыўся ў вёску. У 1609 Л. перададзены Сапегам віленскаму кляштару бернардзінак, ад якога ў 1805 перададзены ў казну. У 1772—76 адм. цэнтр Полацкага ваяводства. З 1793 у складзе Расіі, горад, цэнтр павета Полацкай, з 1802 Віцебскай губ. У 1852 зацверджаны герб Л.— так званая «Пагоня». З пабудовай Бярэзінскага канала горад упрыгожылі масты, набярэжныя. Л. панёс вял. страты ў Айч. вайну 1812, моцна пацярпеў ад пажару 1833. У 1835 распрацаваны генплан забудовы Л., паводле якога горад падзяляўся на 26 кварталаў і цэнтр, дзе сканцэнтраваны асн. грамадскія, культавыя і гандл. пабудовы. У 1860 план быў адкарэкціраваны: горад падзелены на 30 кварталаў і 4 плошчы. У 1841—44 пабудаваны мураваны праваслаўны сабор, у 1857—76 у цэнтры горада — мураваны касцёл св. Казіміра (на скрыжаванні вуліц Дзяржынскага і Ленінскай). У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Л. таксама 4 капліцы, 8 яўрэйскіх малітоўных дамоў. Налічвалася 6284 жыхары (1897), 10 мураваных дамоў, 800 драўляных. З 1924 цэнтр раёна, у 1935—38 цэнтр акругі. З 1925 чыг. станцыя. У 1939—13,8 тыс. жыхароў. З 7.3. 1963 горад абл. падпарадкавання.

У сучасным горадзе захавалася рэгулярная планіроўка 19 ст. Асн. кампазіцыйныя восі: вул. М. Горкага і яе працяг — вул. Ленінская (з Пд на Пн), вул. Войкава (з У на З),

яны падзяляюць горад на 4 прамавугольныя часткі. На перакрыжаванні вуліц М. Горкага (галоўная) і К. Маркса склаўся агульнагар. цэнтр з пл. Свабоды. Прамысл. зона размешчана ў паўд. частцы горада. Зона адпачынку — па берагах азёр Лепельскае і Проша. Цэнтр. і паўд.-ўсх. часткі горада забудоўваліся паводле генпланаў 1964 (Віцебскі філіял «Белдзяржпраекта») і 1976 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Жаўняк, К. Пятрэнка). Асн. жыллёвае будаўніцтва (2-, 3- і 5-павярховыя дамы) ажыццяўлялася ў раёне вуліц Інтэрнацыянальнай і Чуйкова (б. Чыгуначная), 2-павярховымі жылымі дамамі забудавана невял. тэрыторыя, што прылягае да плошчы Свабоды. Паводле праекта дэталёвай планіроўкі ўсх. жылога раёна (1980, БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Дутлова, Пятрэнка) прадугледжана ператварыць гал. гар. магістраль — вул. М. Горкага — у пешаходную зону з невысокай жылой забудовай і ўкрапінамі аб'ектаў культ.-быт. прызначэння, акцэнтаваную групамі 9-павярховых жылых дамоў на вузлах перакрыжаванняў з вуліцамі Чуйкова, Калініна (б. Мопраўская) і Войкава. Прадугледжана таксама развіццё агульнагарадскога цэнтра ва ўсх. напрамку ўздоўж вул. Валадарскага з раскрыццём архіт.-прасторавай кампазіцыі горада да ракі і Лепельскага возера. У 1989 распрацаваны праект («Мінскархпраект» пры Саюзе архітэктараў Беларусі, арх. А. Малашка, С. Амельчанка, М. Давыдзік) добраўпарадкавання цэнтр. парку і тэрыторыі Л., прадугледжана рэканструкцыя ўсёй паркавай зоны, усх. часткі горада, плошчаў Свабоды і Прывакзальнай.

*А. П. Грыцкевіч, С. Ф. Самбук.*

**ЛЁЗНА,** гарадскі пасёлак, цэнтр Лёзненскага р-на, на р. Мошна. Чыг. станцыя на лініі Віцебск—Смаленск. За 40 км на ПнУ ад Віцебска. Заснавана ў 1-й пал. 17 ст. Агінскімі. З 1772 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Аршанскага пав. У 19 — пач. 20 ст. прыватнаўласніцкае мястэчка, 2474 жыхары (1897), 11 цагляных і больш за 1100 драўляных будынкаў, 2 млыны, 2 вучылішчы, прыёмны пакой, 4 кірмашы на год. Паводле гарадскога перапісу 1917 у Л. 351 гаспадарка, 2055 жыхароў. У 1939—4111 жыхароў. З 1924 цэнтр раёна, з 27.9.1938 гарадскі пасёлак. Тэр. пасёлка з ПнЗ на ПдУ перасякае рака і дзеліць яго на 2 часткі. Асн. масіў жылой забудовы і грамадскі цэнтр на левым беразе ракі. Рэгулярная сетка вуліц захавалася з 19 ст. Першы генплан распрацаваны ў 1972 (Віцебскі філіял ін-та «Белдзяржпраект»). Архіт.-планіровачную структуру Л. вызначаюць вуліцы Леніна (галоўная, забудавана 3—5-павярховымі дамамі), Камсамольская, Валадарскага. На іх скрыжаванні, на месцы старога гіст. цэнтра, сфарміраваўся новы адм.-грамадскі і культ. цэнтр. Ва ўсх. частцы ствараецца мікрараён з 3—5-павярховых жылых дамоў. Прамысл. зона размешчана ў паўд. частцы пасёлка. Зона адпачынку — урочышчы Адаменскі гай і Лясныя сажалкі. Пераважае драўляная індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1983 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*Л. С. Патапаў.*

**ЛІДА,** горад, цэнтр Лідскага р-на, на р. Лідзея. За 110 км ад Гродна. Вузел чыгунак і аўтамабільных дарог на Гродна, Вільнюс, Маладзечна, Баранавічы. Упершыню ўпамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў...», складзеным паміж 1387 і 1406 у першапачатковай, найбольш стараж. частцы «Летапісца вялікіх князёў літоўскіх», напісанай у 1390-я гады. У Вял. кн. Літоўскім стараж. горад складаўся з замка (гл. *Лідскі замак*), княжацкага двара або замкавага фальварка (размяшчаўся на р. Каменка на ПдЗ ад замка, пры ім былі млыны, вінакурня і іншыя гасп. пабудовы), уласна горада (на Пн ад замка, ад яго гіст. цэнтра — рынка — адыходзілі 4 вуліцы: Віленская, Замкавая, Каменская і Крывая) і Зарэчча (некалькі дзесяткаў хат). З 1560-х гадоў цэнтр павета Віленскага ваяводства. У 1587 Л. атрымала магдэбургскае права, мела герб (выявы льва на чырвоным і двух ключоў на блакітным фоне). У 17 ст. пабудаваны кляштар кармелітаў. У руска-польскую 1654—67 і Паўночную 1700—21 войны разрабавана і спустошана. У 18 ст. на рыначнай плошчы пабудавана ратуша. У 2-й пал. 18 ст. каля 1,5 тыс. жыхароў. З 1795 у складзе Расіі, цэнтр павета. У 1797—1825 пабудаваны *Лідскі Іосіфаўскі касцёл піяраў*. З сярэдзіны 19 ст. будуюцца 1—2-павярховыя мураваныя дамы, арнаментаваныя фігурнай муроўкай. У канцы 19 ст. ў сувязі з буд-вам Палескіх чыгунак пачаўся хуткі рост горада; у 1897—8626 жыхароў, півамедаварнае, тытунёвае, цагельнае і інш. прадпрыемствы, 3 пачатковыя навучальныя ўстановы, 2 бальніцы, аптэка. У пач. 20 ст. каля 1000 жылых дамоў (з іх каля 270 мураваных). З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр павета. З 1939 у БССР, горад абл. падпарадкавання, 33,4 тыс. жыхароў. З 15.1.1940 цэнтр раёна ў Баранавіцкай вобл. З вер. 1944 у складзе Гродзенскай вобл. Генпланы Л. распрацаваны ў 1955, 1963 («Белдзяржпраект»), забудоўваецца паводле генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. С. Смірнова, А. Галякоў, А. Пархута, інж. К. Лапіцкая, І. Уцехін) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Смірнова). Сетка вуліц прамавугольная. Асн. кампазіцыйныя восі — вуліцы Савецкая, Энгельса, Свярдлова, Ленінская, Перамогі. На вул. Савецкай (праходзіць з Пн на Пд, забудавана пераважна 4—5-павярховымі дамамі) і перпендыкулярных да яе вуліцах Ленінскай, Кірава, Міцкевіча склаўся гіст. агульнагарадскі цэнтр. На вул. Савецкай утвораны 2 плошчы: пл. Леніна (галоўная, б. рыначная, размешчана ў цэнтр. частцы вуліцы) і Плошча 600-годдзя горада (у пачатку вуліцы, перад замкам, яе фарміруюць шматпавярховы будынак гасцініцы «Ліда», *Лідскі Крыжаўзвіжанскі касцёл*, 5-павярховыя жылыя дамы). Новы грамадскі цэнтр ствараецца на вул. Перамогі (на ўчастку ад вул. Ленінскай да вул. Кірава). Ва ўсх. частцы горада створаны мікрараён Расляні, забудаваны 5—9-павярховымі жылымі дамамі, мікрараёны са шматпавярховай забудовай таксама ў цэнтр. (Касманаўтаў), паўн. (Індустрыяльны) частках горада, на ПдЗ ствараецца мікрараён Слабадскі, на ПнЗ завершана буд-ва 1-й чаргі (на 8 тыс. жыхароў) жылога мікрараёна «Паўночна-заходні», пачата буд-ва 2-й яго чаргі (на 11 тыс. жыхароў), плануецца забудова 3-й чаргі, стварэнне грамадскага цэнтра. У Л. 5 прамысл. раёнаў: паўночны, цэнтральны, усходні, паўднёва-заходні і паўднёвы. Зона адпачынку — р. Лідзея з вадаёмамі ў пойме, гарадскі парк з плавальным басейнам, кінатэатрам, канцэртнай залай, дзіцячым гарадком і новы парк на ўсх. ускраіне горада каля шашы Ліда — Мінск. Далейшае развіццё горада і грамадскага цэнтра ажыццяўляецца ў паўн. напрамку ў кампазіцыйным



**Ліда.** Плошча 600-годдзя горада.

адзінстве з водна-зялёным дыяметрам р. Лідзеі. *С. Ф. Самбук.*

**ЛІДСКІ ЗАМАК,** помнік абарончага дойлідства 14—15 стагоддзяў. Пабудаваны ў 1330-я гады ў Лідзе. Уваходзіў у лінію крапасных умацаванняў Навагрудак — Крэва — Мядзінінкай — Тракай. У замкавых збудаваннях спалучаюцца рысы раманскай архітэктуры і ранняй готыкі (характар суадносін аб'ёмаў, паўцыркульныя і стральчатыя праёмы брам і байніц). Пастаўлены на насыпным пясчаным узгорку (выш. 5—6 м), быў абкружаны балоцістымі берагамі рэк Лідзея і Каменка і ровам з Пн (шыр. каля 20 м), які злучаў рэкі і аддзяляў замак ад горада. Пазней (відаць, у 16—17 стагоддзях) у сістэму перадзамкавых умацаванняў з У уключана штучнае возера. Замак у плане — няправільны чатырохвугольнік (бакі каля 80 м) з 2 вуглавымі вежамі. Асн. абарончае значэнне мелі пастаўленыя на невысокім падмурку (70—80 см) сцены (таўшчынёй унізе 2 м, зверху — 1,5, выш. да 15 м). Верхняя частка сцен з баявой галерэяй і байніцамі (3,3 м адна ад адной) вымуравана з цэглы. Вонкавыя паверхні сцен з вял. валуноў, прамежкі паміж якімі запоўнены каменнымі клінамі, забутоўка з дробных камянёў, муроўка арміравана драўлянымі бэлькамі. Адначасова са сценамі ў 1-й пал. 14 ст. пабудавана квадратная ў плане (9×9 м) паўд.-зах. вежа. Паўн.-ўсх. вежа, пабудаваная ў канцы 14 — пач. 15 ст., мела арачны ўваход з двара і лесвіцу шыр. 1 м. Вежы накрыты шатровымі дахамі і не выступаюць за перыметр сцен. У канцы 14 ст. абедзве вежы былі накрыты паўцыркульнай дахоўкай. У замак вялі 3 уваходы: 2 ва ўсходняй і 1 у паўднёвай сценах. На тэр. замка знаходзіліся праваслаўная царква (у 1533 перанесена ў горад), жылыя і гасп. пабудовы. Жылыя памяшканні былі на верхніх паверхах вежаў. На працягу 14—18 стагоддзяў у выніку шматлікіх аблогаў разбураны вежы і ўнутраныя пабудовы, захаваліся рэшткі абарончых сцен і вежаў (у 1-й чвэрці 20 ст. зроблена частковая кансервацыя, у 1982 — поўная). Культурны слой замкавага двара амаль цалкам ускрыты археолагамі. Высветлілася, што з трох бакоў (акрамя паўднёвага) да замкавых муроў у 14—17 стагоддзях былі прыбудаваны 1-павярховыя драўляныя будынкі, ад якіх захаваліся рэшткі падмуркаў і кафляных печаў. Шыр. будынкаў каля 4 м. Будынак каля зах. сцяны вызначаўся большымі памерамі (каля 24 м²) і меў неглыбокі каменны падмурак, зроблены на гліне. Дзве студні знаходзіліся ва ўсх. частцы двара, сярэдзіна якога была забрукавана. Забудова замкавага двара была канчаткова знішчана ў час руска-польскай вайны 1654—67. Праводзяцца работы па рэстаўрацыі сцен і вежаў (арх. С. Багласаў, 1977). Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*С. Г. Багласаў, А. А. Трусаў.*



**Лідскі замак.**



**Лідскі замак.** Акварэль І. Пешкі канца 18 ст.

**ЛІДСКІ ІОСІФАЎСКІ КАСЦЁЛ ПІЯРАЎ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1797—1825 у Лідзе (вул. Савецкая). На пабудову храма 5000 руб. ахвяраваў Павел І. Мураваны храм-ратонда накрыты

паўсферычным купалам, завершаны 8-гранным ліхтаром. Да асн. круглага ў плане аб'ёму прылягаюць больш нізкія прамавугольныя ў плане аб'ёмы: прытвор з 4-калонным порцікам на гал. фасадзе і 2-павярховая сакрысція па восі ўсход — захад, невял. рызаліты з Пд і Пн. У дэкоры фасадаў выкарыстаны дарычны ордэр. Порцік і рызаліты ўвянчаны 3-вугольнымі франтонамі. Вокны прамавугольныя. Унутры па перыметры залы размешчаны 8 пар дарычных калон. Побач з касцёлам размешчаны мураваныя 1-павярховы корпус кляштара і 1-ярусная званіца. Кляштар зачынены ў 1832. Касцёл у 1842 гарэў, у 1863 перароблены на праваслаўную царкву Міхаіла Архангела, пасля Вял. Айч. вайны быў абсталяваны пад планетарый. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Ярашэвіч.*

**ЛІДСКІ КРЫЖАЎЗВІЖАНСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры сталага барока. Пабудаваны ў 1770 у Лідзе (вул. Савецкая, 2). Касцёл Т-падобны ў плане, трохнефавы, з прамавугольнай алтарнай часткай, якая прадаўжае цэнтр. неф, і 2 квадратнымі ў плане сакрысціямі. Будынак завершаны высокім двухсхільным чарапічным дахам з вальмамі над алтарнай часткай. Кампазіцыя гал. фасада 2-ярусная, завершана фігурным франтонам. Плоскасці гал. і бакавых фасадаў расчлянёны пілястрамі. Цэнтр. неф касцёла перакрыты разам з алтарнай часткай цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя — цыліндрычнымі на падпружных арках. Сакрысціі перакрыты плоскай столлю на падугах. Над уваходам — хоры. Інтэр'ер упрыгожаны фрэскавай размалёўкай, скульптурай і арнаментальнай лепкай, выкананай у стылі сталага барока. На скляпеннях у барочным арнаментальна-дэкаратыўным абрамленні размешчаны манум. жывапісныя кампазіцыі: «Узвіжанне крыжа», «Маці Боская», «Благавешчанне». Скляпенні дэкарыраваны арнаментальнымі матывамі (лісце аканта, картушы, ракушкі, завіткі, рэлігійная сімволіка). На зах. сцяне размешчаны кампазіцыі: «Уручэнне ключоў Пятру», «Хрыстос і апосталы». У інтэр'еры касцёла 3 мураваныя алтары — цэнтральны (галоўны) і 2 бакавыя. Цэнтральны раскрапаваны 4 калонамі карынфскага ордэра, размаляванымі пад мармур, і спаранымі пілястрамі таго ж ордэра. У цэнтры алтара знаходзіцца гіпсавая скульптура «Распяцце», паабапал драўляныя скульптуры «Іван», «Марыя», «Пётр і Павел». Антаблемент з моцнымі раскрапоўкамі і развітым карнізам. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*В.В. Церашчатава.*

**ЛІПНІШСКІ КАЗІМІРАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1890 з цэглы і граніту ў в. Ліпнішкі (Іўеўскі р-н). Прамавугольны ў плане будынак з 3-граннай апсідай і квадратным у плане бабінцам, над якім узвышаецца высокая 2-ярусная вежа (васьмярык на чацверыку), завершаная спічастым шатром з люкарнамі. Па баках асн. аб'ёму сіметрычна прыбудаваны невялікія сакрысціі, якія звонку нагадваюць крылы трансепта. Сцены абліцаваны гранітам, умацаваны плоскімі контрфорсамі. Праёмы стральчатыя. Гал. ўваход акцэнтаваны парталам. Унутры будынак падзелены слупамі на 3 нефы. Сцены атынкаваны і раскрапаваны падвойнымі пілястрамі. Скляпенні крыжовыя. Над уваходам — хоры з арганам. Касцёл дзейнічае.

*Т. В. Габрусь.*

**ЛОЕЎ,** гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, прыстань на Дняпры ў вусці р. Сож. За 92 км на Пд ад Гомеля. Вядомы з 15 ст. У 1505 разбураны татарамі. У канцы 16 ст. мястэчка і крэпасць, цэнтр староства ў Рэчы Паспалітай. У 1646 далучаны да Старадубскага пав. Смаленскага ваяводства. У вызваленчую вайну ўкр. і бел. народаў 1648—54 моцна разбураны. Пасля руска-польскай вайны 1654—67 у складзе Рэчыцкага пав. Мінскага ваяводства. З 1676 уласнасць войта рэчыцкага М. С. Юдзіцкага, да 2-й пал. 19 ст. належаў яго нашчадкам, потым пераходзіў у спадчыну да Лашчаў, Нарушэвічаў. З 1793 у складзе Расіі, цэнтр воласці Рэчыцкага пав. У пачатку 19 ст. пабудаваны *Лоеўскі палац.* У канцы 19 ст. ў Л. каля 250 двароў, 7 ветракоў і 2 вадзяныя млыны, 24 крамы, гандл. канторы, школа, паштовая станцыя, 2 царквы, касцёл, 4667 жыхароў у 1897. У пач. 20 ст. дзейнічалі верф, завод па вырабу вохры. З 1926 цэнтр раёна. З 27.9.1938 гарадскі пасёлак. У 1962—66 у Рэчыцкім р-не. Тэрыторыя выцягнута ўздоўж Дняпра, у зах. частцы перасякаецца ручаём Вітач. Планіроўка квартальная, з дробнай сеткай вуліц, пераважна з 1-павярховай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Сучасны Л. забудоўваецца паводле генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва). Асн. вуліцы — Леніна (галоўная, праходзіць з У на З), Савецкая (з Пд на Пн, забудавана 2—3-павярховымі жылымі дамамі, захаваліся помнікі архітэктуры з элементамі неакласіцызму — 2 жылыя дамы канца 19 — пач. 20 ст.) і паралельныя ёй Шавялёва, Першамайская. На вул. Леніна склаўся адм.-грамадскі цэнтр, у яе цэнтр. частцы — плошча (раскрываецца на ра-



Лідскі Іосіфаўскі касцёл піяраў.

ку). Цэнтр. частка Л. забудоўваецца 3—5-павярховымі дамамі. Парк на высокім беразе Дняпра. Прамысл. зона на З і ПдЗ. Зона адпачынку на берагах рэк Дняпро і Сож. Прадугледжана развіццё прамысл. зоны ў паўн.-зах. частцы гарадскога пасёлка, вуліц Савецкай і Леніна як галоўных, буд-ва новага жылога квартала на 1,5 тыс. жыхароў на паўд.-зах. ускраіне. *Л. С. Патапаў.*

**ЛОСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—17 стагоддзях у в. Лоск (Валожынскі р-н). Быў пабудаваны з дрэва, умацаваны земляным валам і вадзяным ровам, абарончымі сценамі-гароднямі з 3-яруснымі вежамі і 2-яруснай вежай-брамай, якая зачынялася герсай. Сцены мелі ў верхняй частцы баявую галерэю з байніцамі і абламамі, накрытую 2-схільным гонтавым дахам. У цэнтры дзядзінца сталі два 2-павярховыя палацы. Адзін з іх быў пабудаваны ў стылі рэнесансу, завяршаўся вежай з гадзіннікам і меў гонтавы дах. На 1-м паверсе вакол прыхожай было 9 жылых пакояў з узорыстымі кафлянымі грубкамі і 2 каморы, на 2-м, абкружаным адкрытай галерэяй, вакол гасцінай — 2 святліцы, жылы пакой, 3 каморы. Другі палац меў 42 розныя памяшканні (у т. л. вял. залу на 2-м паверсе). Непадалёку ад вежы-брамы стаяла кухня. За сценамі замка знаходзіліся лазня і бровар. Замак не зберогся. Вядомы паводле інвентару 1621. *Ю. А. Якімовіч.*

**ЛОШЫЦКІ СЯДЗІБНА-ПАРКАВЫ КОМПЛЕКС,** помнік сядзібна-паркавага мастацтва 2-й пал. 19 ст. Створаны на паўд. ускраіне Мінска ў сутоках рэк Свіслач і Лошыца, каля б. в. Лошыца 1 (вул. Чыжэўскіх). У комплекс уваходзіць сядзібны дом, капліца, дом аканома, вадзяны млын, спіртзавод, гасп. пабудовы, пейзажны парк. Цэнтр кампазіцыі — сядзібны дом на грэбені каля пойменнай тэрасы. Мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, якая складаецца з драўлянага 1-павярховага і прыбудаванага да яго тарца мураванага 2-павярховага аб'ёмаў. У дэкар. афармленні фасадаў выкарыстаны драўляныя разныя дэталі (слупы гал. ўвахода, аконныя ліштвы, карнізныя паясы і інш.). У інтэр'еры зберагліся ляпныя дэталі, абліцоўка сцен панелямі з дубу, каляровая кафля. Перад гал. фасадам парадны партэр у форме няправільнага эліпса, абмежаваны пад'язнымі дарогамі; з процілеглага боку — пакаты прыбярэжны спуск да лукавіны р. Лошыца. Асн. паркавы ўчастак з кальцавымі дарожкамі



**Лошыцкі сядзібна-паркавы комплекс.** Капліца. Здымак 1920-х гадоў.



**Лідскі Крыжаўзвіжанскі касцёл.** Бакавы фасад.



**Лошыцкі сядзібна-паркавы комплекс.** Сядзібны дом.



**Ліпнішскі Казіміраўскі касцёл.**

знаходзіцца перад паўн. тарцовым фасадам. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская, В. Р. Анціпаў.*

**ЛУЖАСНЯНСКАЙ ЗЕМЛЯРОБЧАЙ ШКОЛЫ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры мадэрн. Узведзены ў пас. Лужасна Віцебскага р-на ў пач. 20 ст. Мураваны 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі вылучаецца 3-павярховая вуглавая частка з уваходам, сіметрычнай групоўкай праёмаў, складанымі шчытамі. Паміж імі размешчаны высокі спічасты шацёр, які надае выразнасць сілуэту будынка. Фасады вырашаны ў 2 колерах. Вокны на 2-м паверсе з лучковым завяршэннем, на 1-м — прамавугольныя. Планіроўка калідорная. 15.11.1909 у будынку адкрыта землярobчая школа, пасля Айч. вайны там знаходзілася сярэдняя школа, з 1954 — с.-г. тэхнікум. Помнік рэспубліканскага значэння.

**ЛУЖАСНЯНСКАЯ ЦАРКВА УШЭСЦЯ,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 1908 з цэглы ў в. Лужасна (Віцебскі р-н) на правым беразе Зах. Дзвіны. Храм кананічнай 4-часткавай падоўжна-восевай кампазіцыі: званіца, трапезная, асн. аб'ём, апсіда. Планіровачная асаблівасць царквы — прыбудова нізкай 5-граннай рызніцы да тарцовай усх. сцяны апсіды. У сілуэце будынка 2 дамінанты — асн. 2-ярусны кубавідны аб'ём з цыбулепадобным купалам на 8-гранным барабане і 3-ярусная (васьмярык на 2 чацверыках) шатровая званіца з макаўкай ў завяршэнні. Фасады прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі падвойнымі ў цэнтр. аб'ёме і строенымі ў званіцы. На фоне адкрытай цаглянай муроўкі вылучаюцца пабеленыя элементы дэкору, пазычаныя з арсенала старажытнарускага дойлідства: кілепадобныя калонныя ліштвы акон, аркатурныя паясы, філёнгавыя лапаткі, зубчастыя фрызы. У інтэр'еры пануе прастора галоўнай 2-светлавой залы, у якую шырокімі арачнымі прасветамі расчыняюцца апсіда, бакавыя прыдзелы і трапезная. Царква не дзейнічае, знаходзіцца ў дрэнным стане.

*А. М. Кулагін.*

**ЛУЖКОЎСКІ ВАДЗЯНЫ МЛЫН,** помнік прамысловай архітэктуры 19 — пач. 20 ст. Пабудаваны ў в. Лужкі (Шаркоўшчынскі р-н) каля запруды на правым беразе р. Мнюта. Прамавугольны ў плане 3-павярховы будынак пад высокім 2-схільным дахам. Цокальны паверх з бутавага каменю. Прафіляваны карніз аддзяляе 2 верхнія паверхі, надбудаваныя ў 1912 з цэглы. Унутры на кожным паверсе вылучаны 3 памяшканні: вялікае цэнтральнае і 2 вузкія тарцовыя. Унізе зах. часткі будынка (у камеры) устаноўлены 2 турбіны. У цэнтр. памяшканні цокальнага паверха зманціраваны механізмы перадачы і рэгулявання руху турбін. На 2-м паверсе ўстаноўлены жорны і прыстасаванні для сарціроўкі мукі. Адсюль па транспарцёры мука падаецца на 3-і паверх. Помнік рэспубліканскага значэння.

*У. В. Алісейчык.*



Лужаснянскай земляробчай школы будынак.



Лужаснянская царква Ушэсця.



Лужкоўскі Міхайлаўскі касцёл.

**ЛУЖКОЎСКІ МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры ракако. Пабудаваны ў 1744—56 з цэглы ў в. Лужкі (Шаркоўшчынскі р-н) пры кляштары піяраў, якія пасяліліся тут у 1741 пад апякунствам кашталяна полацкага Антона Жабы; перабудаваны ў 1843 пад праваслаўную царкву. Аднанефавы 2-вежавы храм з акруглай апсідай і бакавымі сакрысціямі. 4-ярусныя чацверыковыя вежы пастаўлены вуглом да плоскасці гал. фасада, які ўвагнуты па акруглым абрысе, расчлянёны на 3 ярусы карнізнымі паясамі і крапаваны пілястрамі. Фасады прарэзаны разнастайнымі па канфігурацыі і памерах аконнымі праёмамі: лучковымі, з фігурнымі перамычкамі, арачнымі, круглымі. У завяршэнні гал. фасада фігурны шчыт. Зала храма перакрыта цыліндрычным скляпеннем на распалубках, сцены расчлянёны паўкалонамі. Алтары былі ўпрыгожаны круглай драўлянай пазалочанай скульптурай ў стылі ракако (скульптура св. Пятра экспануецца ў Полацкім гісторыка-археал. запаведніку). Над уваходам хоры, абмежаваныя хвалістым парапетам. Касцёл не дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ЛУКОНІЦКІ МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў в. Луконіца (Зэльвенскі р-н). Захаваўся часткова. Касцёл аднанефавы, з пяцігранная апсідай і сакрысціяй з паўн. боку. Галоўны фасад завершаны вял. шмат'ярусным франтонам, які аздоблены магутным карнізам, здвоенымі пілястрамі з капітэлямі карынфскага ордэра. Плоскасці сцен прарэзаны невялікімі паўцыркульнымі вокнамі, уваходны партал лучковы. Тарэц апсіды з плоскімі пілястрамі па вуглах завершаны атыкам, дабудаваным у пач. 20 ст. Побач з касцёлам 3-ярусная званіца. Ніжні і верхні ярусы ўпрыгожаны плоскімі пілястрамі па вуглах, завершаны карнізамі. Дах шатровы, крывалінейнага абрысу. Касцёл не дзейнічае. *А. Ю. Пятросава.*

**ЛУНІНЕЦ,** горад, цэнтр Лунінецкага р-на. За 240 км ад Брэста. Вядомы з 1540 як сяло Лулінец полацкага ваяводы Станіслава Давойны ў Вял. кн. Літоўскім. У 1588 484 жыхары, 74 дамы, драўляная царква. У 1622 уладальнік Л. Канстанцін Долмат падараваў яго Дзятлавіцкаму мужчынскаму манастыру. З 1793 Л. у складзе Расіі, у Пінскім пав. Мінскай губ. У 1795 у Л. 624 жыхары, 75 дамоў. У 1842 перададзены ў дзярж. казну. Вырас з

буд-вам Палескіх чыгунак. У 1897 3167 жыхароў, 855 двароў. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, горад, цэнтр павета Палескага ваяводства. З 1939 у БССР (8,3 тыс. жыхароў). З 1940 цэнтр раёна Пінскай вобл., з 1954 у Брэсцкай вобл. З 7.3.1963 горад абл. падпарадкавання.

Горад размешчаны ўздоўж чыгункі, якая падзяляе яго на 2 жылыя раёны — зах. і ўсходні. У заходнім размешчаны асн. прамысл. прадпрыемствы, большасць жылога фонду, чыг. станцыя, аўтавакзал; усх. раён — зона індывідуальнай жылой забудовы. Планіроўка сфарміравалася ў канцы 19 ст.: дробная сетка жылых кварталаў з хаатычнай сістэмай вуліц. Пераважае драўляная індывідуальная забудова сядзібнага тыпу, у цэнтры — шматпавярховая. Паводле генплана 1973 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Токарава) горад развіваецца ў зах. напрамку. Архіт.-планіровачную структуру яго вызначаюць вуліцы Савецкая (з Пн на Пд), Чырвоная (з ПнЗ на Пд) і Гагарына (з З на У). Адм.-грамадскі цэнтр склаўся на пл. Леніна, утворанай на скрыжаванні вуліц Савецкай і Чырвонай; на Прывакзальнай пл. знаходзіцца гандл. цэнтр. Прамысл. зона фарміруецца ў паўн. і паўн.-усх. частках горада. Зона адпачынку — лесапарк ва ўсх. жылым раёне; прадугледжана стварыць гарадскі парк у зах. жылым раёне. У горадзе захаваўся помнік архітэктуры пач. 20 ст.— *Лунінецкая Крыжаўзвіжанская царква.* *С. Ф. Самбук.*

**ЛУНІНЕЦКАЯ КРЫЖАЎЗВІЖАНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў пач. 20 ст. ў зах. частцы г. Лунінец (на скрыжаванні вуліц Піянерскай і Гагарына). Да асн. кубічнага аб'ёму з усходу далучана паўкруглая апсіда з бакавымі рызніцамі, з захаду — шырокая трапезная і шатровая званіца, з бакоў — вузкія прыдзелы. Асн. аб'ём завершаны 5 купаламі. Неатынкаваныя фасады маюць багаты дэкор (аркатурны фрыз, плоскія фігурныя і конхавыя нішы, 3-вугольныя франтоны). У інтэр'еры пануе падкупальная прастора цэнтр. залы. Царква дзейнічае. *Г. А. Лаўрэцкі.*

**ЛУННАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1782 у цэнтры в. Лунна (Мастоўскі р-н), у 1895 рэканструяваны (без змен пакінута толькі апсіда). Складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму і пяціграннай апсіды. Сцены фасадаў абліцаваны бутавым каменем, архітэктурныя дэталі (ліштвы, карнізы, вуглы пілястраў) пабелены. Інтэр'ер мае выцягнутую па падоўжнай восі кампазіцыю. Зала расчлянёна 2 радамі слупоў на 3 нефы. Цэнтральны неф перакрыты драўляным падвесным цыліндрычным скляпеннем, у бакавых нефах столь драўляная плоская, у апсідзе перакрыцце цаглянае — конха. Ва ўсх. частцы бакавых нефаў размешчаны на $^1/_2$ вышыні залы 2 сакрысціі з галерэямі. Уздоўж зах. сцяны — хоры. Інтэр'ер упрыгожваюць 7 драўляных неагатычных разных алтароў работы мясцовых майстроў, разныя разеткі і арнамен-



**Луннаўскі касцёл.**



**Луконіцкі Міхайлаўскі касцёл** і званіца (справа).



**Лунінецкая Крыжаўзвіжанская царква.**

тальна-геральдычны жывапіс. Касцёл дзейнічае.

*С. А. Друшчыц, Л. В. Трэпет.*

**ЛУЧАЙСКІ КАСЦЁЛ ЕЗУІТАЎ,** помнік архітэктуры позняга барока і класіцызму. Пабудаваны ў 1766—76 у в. Лучай (Пастаўскі р-н) па фундацыі Тадэвуша Агінскага. Часткова перабудаваны ў 1-й пал. 19 ст. (была зменена ордэрная пластыка і размаляваны інтэр'ер). Мураваная 3-нефавая 2-вежавая купальная базіліка з паўцыркульнай апсідай і трансептам. Гал. фасад фланкіруюць 3-ярусныя вежы, раскрапаваныя вуглавымі пілястрамі і нішамі,



**Лучайскі касцёл езуітаў.**

прарэзаныя прамавугольнымі аконнымі праёмамі (часткова замураваны). Пры перабудове вежы былі завершаны цыліндрычнымі аб'ёмамі з купаламі. Гал. фасад, апсіду і трансепт увенчваюць 3-вугольныя, лучковыя і фігурныя шчыты. Сцены касцёла раскрапаваны пілястрамі. Па ўсім перыметры будынка праходзіць карнізны пояс дарычнага ордэра. Інтэр'ер вырашаны ў насычанай архітэктурнай пластыцы. У цэнтр. нефе скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі, у бакавых — крыжовыя, над сяродкрыжжам — сферычны купал. Над уваходам — хоры. Ордэрную пластыку дапаўняюць размалёўкі ў тэхніцы грызайль. Аснова купала запоўнена ілюзорна-перспектыўнай архіт. кампазіцыяй. У распалубках цэнтр. нефа — чатыры размаляваныя 8-гранныя плафончыкі. На ветразях купала, тарцовых сценах трансептаў, консе апсіды — выявы скульптур евангелістаў, святых і анёлаў. Сцены бакавых нефаў дэкарыраваны размалёўкай, якая імітуе скульптурны рэльеф. Гэтак жа выканана размешчанае над уваходам пано-картуш з выявамі 2 воінаў са шчытамі воінскіх атрыбутаў. Разнастайным арнаментальным дэкорам запоўнены ўсе плоскасці сцен і перакрыццяў. Касцёл не дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*С. Г. Багласаў, Г. М. Ярмоленка.*



**Лынтупская сядзіба.** Галоўны фасад сядзібнага дома.

**ЛЫНТУПСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры пач. 20 ст. Створана на паўд.-зах. ускраіне г. п. Лынтупы (Пастаўскі р-н), фарміравалася ў канцы 18—20 ст. Першапачаткова належала Гільзенам. Сучасны выгляд набыла пры ўладальніку Ю. Бішэўскім. Ансамбль сядзібы падзяляецца на 2 зоны. Парадная зона перад сядзібным домам уключае партэр, мураваны арачны мост, капліцу, службовы флігель і бровар. За домам і ставам размешчана выцягнутая па папярочнай восі гасп. зона. Цэнтр ансамбля — 2-павярховы мураваны сядзібны дом (1907) неарэнесанснай архітэктуры. У асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дома дамінуе 3-ярусная чацверыковая вежа. Насычаная архітэктурная пластыка ўключае каніраваныя калоны, пілястры, анты, рустоўку, ракавіны, атык з балюстрадай і інш. Планіроўка калідорная. Парк пейзажна-рэгулярнага тыпу (пл. 6 га). Насаджэнні згрупаваны па перыметры чатырох ставоў і каналаў паміж імі на р. Лынтупка. Гал. прамавугольны выцягнуты па папярочнай восі стаў выдзелены каля дома гранітнай набярэжнай са сходамі (набярэжная мела дэкар. скульптуру). У парку растуць клён серабрысты, елка блакітная, арэх шэры, лістоўніца еўрапейская, піхта сібірская і інш. Сярод гасп. пабудоў вылучаецца вежа-вяндлярня з машыкулямі і вокнамі байніцамі ў рэтраспектыўна-замкавым стылі.

*А. М. Кулагін.*

**ЛЫНТУПСКІ АНДРЭЕЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры необарока. Пабудаваны ў 1908—14 у г. п. Лынтупы (Пастаўскі р-н) на цэнтр. плошчы. 2-вежавая 3-нефавая базіліка з паўцыліндрычнай апсідай. У дэкоры выкарыстаны ордэрныя элементы: пілястры, франтоны, прафіляваныя карнізы.

**ЛЫНТУПЫ,** гарадскі пасёлак у Пастаўскім р-не, на р. Лынтупка. Цэнтр пасялковага Савета і саўгаса імя У. І. Леніна. За 42 км на З ад Паставаў, 292 км ад Віцебска. Чыг. станцыя на лініі Пабрадзе — Крулеўшчына. Вядомы з 1459. У канцы 16 ст. мястэчка Ашмянскага пав. Віленскага ваяводства Вял. кн. Літоўскага. З 1795 у складзе Расіі, цэнтр воласці Свянцянскага пав. У канцы 19 ст. ў Л. школа, касцёл, 3 крамы, карчма, кірмаш; праз мястэчка праходзіла вузкакалейка Новасвянцяны — Глыбокае. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, у Свянцянскім пав. З 1939 у БССР, вёска ў Пастаўскім р-не. З 22.8.1967 гарадскі пасёлак. Сучасныя Л. забудоўваюцца паводле генплана 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. Л. Пілатовіч, інж. В. Асядоўская). Сістэма вуліц радыяльная. Асн.



Лынтупскі Андрэеўскі касцёл.



Лыскаўскі Троіцкі касцёл і кляштар місіянераў.

планіровачныя восі — вуліцы Красільнікава (праходзіць з ПнЗ на У), Галубкова (з ПдУ на Пн), М. Казея і Маркава (з ПнУ на ПдЗ), на месцы злучэння якіх утворана плошча з грамадскім цэнтрам. Вытворчая зона ў цэнтр. і паўн.-зах. частках. Захаваліся помнік архітэктуры пач. 20 ст.— *Лынтупскі Андрэеўскі касцёл* і помнік сядзібна-паркавай архітэктуры — *Лынтупская сядзіба* з пейзажным паркам і сістэмай сажалак на тэр. былога маёнтка ў паўн.-зах. частцы пасёлка. У парку размешчаны Дом культуры, сярэдняя школа (у б. сядзібным доме), адм. будынак саўгаса. Прадугледжана развіццё Л. у паўн.-ўсх. напрамку, забудова цэнтра шматпавярховымі жылымі дамамі, катэджамі, стварэнне сістэмы бульвараў, якія звяжуць грамадскі цэнтр і зону адпачынку. *С. Ф. Самбук.*

**ЛЫСКАЎСКІ ЗАМАК.** Пабудаваны ў 15—17 стагоддзях, каля в. Лыскава (Пружанскі р-н), на беразе рэчкі. Па перыметры квадратнага ў плане (68×68 м) замчышча насыпныя валы. За імі з захаду і поўдня быў вадзяны роў і яшчэ адзін меншы вал (шыр. ў аснове 4 м). На вуглах замчышча стаялі драўляныя вежы (дыяметр 8 м, не збярагліся). З поўначы і ўсходу замак абкружаны балотамі, з поўдня і захаду на адлегласці 90 м — дугападобным валам і ровам. Збярагліся зах. вал (шыр. ў аснове 10 м, у сярэдзіне ўезд у замак) і часткова паўднёвы.

*М. А. Ткачоў.*

**ЛЫСКАЎСКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР МІСІЯНЕРАЎ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў цэнтры в. Лыскава (Пружанскі р-н). Першы драўляны касцёл на гэтым месцы заснаваны ў 1527 па фундацыі Мацея Клачко, у 1751 Янам Быхаўцам перададзены місіянерам. Мураваны касцёл узведзены ў 1763—85, у 1818 перабудавана вежа. У 1866 перароблены ў праваслаўную царкву. У 1883—84 пад наглядам арх. П. Залатарова праводзіліся работы па аднаўленні храма, які абгарэў у 1881 (змураваны новыя скляпенні, заменены кроквенныя канструкцыі даху, пакрыццё і інш.). Касцёл — мураваны 1-нефавы, 1-вежавы крыжападобны ў плане будынак з 2 сакрысціямі абапал алтарнай апсіды. Неф, апсіда (крыху вузейшая ў плане) і квадратныя аб'ёмы трансепта накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі пакатымі дахамі. Дамінанта касцёла — шмат'ярусная вежа. Яе вуглы раскрапаваны слаістымі пілястрамі, бакавыя грані злучаны крывалінейнымі сценкамі з плоскасцю сцяны гал. фасада, насычанага дэкар. архіт. элементамі; раскрапоўкамі, абрамленнямі праёмаў, падвойнымі пілястрамі, нішамі. Развіты гарызантальны пояс падзяляе аб'ёмы (акрамя апсіды) на 2 часткі, больш нізкая трактавана як цокаль. Аконныя праёмы лучковыя. Інтэр'ер касцёла афармлены пілястрамі і калонамі іанічнага і кампазітнага ордэраў, размаляванымі пад мармур. Неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках, крылы трансепта і сакрысціі — крыжовымі. Над уваходам — вузкія хоры. У 2-й пал. 18 ст. перад касцёлам (па адзінай восі) узведзены 2-павярховы сіметрычны ў плане П-падобны мураваны будынак кляштара (цяпер у ім лячэбная ўстанова). Цэнтр гал. фасада кляштара вылучаны рызалітам. Сцены рытмічна расчлянёны пілястрамі: шырокімі руставанымі на 1-м паверсе, падвойнымі на 2-м. Планіроўка калідорная з 1-баковым размяшчэннем пакояў. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*

**ЛЮБАНЬ,** горад, цэнтр Любанскага р-на, на р. Арэса. За 160 км ад Мінска. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 16 ст. ў складзе Вял. кн. Літоўскага як прыватнае мястэчка Слуцкага княства, з канца 16 ст. ў Навагрудскім, з 1791 у Случарэцкім паветах Навагрудскага ваяводства. Належала кн. А. Ю. Алелькавічу (з 1582), Радзівілам, у 1589—1621 у закладзе ў слуцкіх мяшчан Тышэвічаў. У 17 ст. цэнтрам мястэчка была прамавугольная ў плане гандл. плошча (з карчмой у

цэнтры), ад якой у радыяльным напрамку адыходзілі 4 вуліцы: Урэцкая (да мяст. Урэчча), Старая, Паддубская і Новая, дзе ў 1668 было 75 драўляных дамоў, у 1682—100. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка (з 1808) у Бабруйскім пав. У канцы 19 ст. 766 жыхароў (1897), царква, 3 школы, 2 млыны, крама. Да сярэдзіны 19 ст. склалася рэгулярная планіроўка з узаемна перпендыкулярнымі вуліцамі, якія ўтваралі прамавугольныя кварталы. У 1924—27 і 1935—38 цэнтр раёна ў складзе Слуцкай акругі БССР (у 1927—30 у Бабруйскай акрузе). З 27.9.1938 гарадскі пасёлак (3048 жыхароў) Мінскай вобл. (з 20.9.1944 да 1954 у Бабруйскай вобл.). З 7.3.1968 горад раённага падпарадкавання.

Гал. кампазіцыйная вось горада — вул. Першамайская з шырокім бульварам, да якой прылягаюць дробныя кварталы. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся па вул. Першамайскай і ўтворанай на ёй пл. Леніна. Забудаваны пераважна 2—3-павярховымі жылымі дамамі, пашыраны і 1-павярховыя сядзібнага тыпу. Па вуліцах Калініна і Першамайскай будуюцца 2—5-павярховыя дамы. У паўн. частцы горада, у раёне вуліц Гагарына і Лышчэні ствараецца мікрараён з 2—5-павярховай забудовай. Прамысл. зона размешчана ў паўн.-ўсх. і паўд.-зах. частках горада. Зона адпачынку — р. Арэса і парк на яе ўзбярэжжы. Паводле генплана і праекта забудовы цэнтра 1972 («Белдзяржпраект») прадугледжана развіццё горада на З, расшырэнне грамадскага цэнтра ўздоўж вуліц Першамайскай і Калініна, забудова яго шматпавярховымі дамамі.

*Ю. А. Якімовіч, В. А. Крайко.*

**ЛЮБЧА,** гарадскі пасёлак у Навагрудскім р-не, на левым беразе Нёмана. За 26 км на ПнУ ад Навагрудка, 188 км ад Гродна. Вядома з 15 ст., у 16 ст. мястэчка ў Навагрудскім пав. Вял. кн. Літоўскага. Належала Ф. Храптовічу, М. Меляшковічу, Г. Ельмановічу, Альбрэхту Гаштольду, Я. Кішку, Радзівілам, Вітгенштэйнам, Гагенлоэ. Неаднойчы спусташалася. У 1590 атрымала магдэбургскае права і герб: на блакітным полі сярэбраная падкова з трыма крыжамі, у сярэдзіне падковы 2 ласосі. Паводле гіст. крыніц 17 ст., вядомы іншы герб горада з выявай 2 вежаў на муры. У 2-й пал. 16 ст. пабудаваны арыянскі збор, пазней ператвораны ў кальвініецкі (не збярогся). У канцы 16—1-й пал. 17 ст. пабудаваны *Любчанскі замак,* на тэр. якога ў 19 ст. пастаўлены мураваны *Любчанскі палац.* У 17 ст. працавала Любчанская друкарня; каля 140 дамоў. З 1795 Л. ў складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Навагрудскага пав. У канцы 19 ст. ў Л. больш за 200 двароў, 3374 жыхары (1897), царква, школа, 2 кірмашы на год. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр гміны Навагрудскага пав. З 1939 у БССР, гарадскі пасёлак у Баранавіцкай вобл., з 15.1.1940 цэнтр раёна. З 17.12.1956 у Навагрудскім р-не.

Архіт.-планіровачную структуру Л. вызначаюць вуліцы Савецкая (галоўная), Юбілейная, 1 Мая, Чырвонаармейская, якія ўтварылі прамавугольную сетку. Забудоўваецца паводле генплана 1986 (БелНДІПградабудаўніцтва). Адм.-грамадскі цэнтр — пл. Салабуціна, утвораная паміж вуліцамі Юбілейнай і Чайкоўскага, якія перакрыжоўваюцца з вуліцамі Савецкай і Леніна. Зона адпачынку — р. Нёман, парк. Збярогся помнік архітэктуры пач. 20 ст.— Ільінская царква ў неарускім стылі. Прадугледжваецца расшырэнне грамадскага цэнтра, шматпавярховая капітальная забудова ў цэнтры, сядзібная — у зах. і паўд. частках пасёлка.

*А. П. Грыцкевіч, А. М. Кулагін.*

**ЛЮБЧАНСКІ ЗАМАК,** помнік палацава-замкавай архітэктуры канца 16—1-й пал. 17 ст. Пабудаваны ў г. п. Любча (Навагрудскі р-н) на ўмацаваным валунамі высокім беразе Нёмана. У плане — прамавугольнік (64×87 мм), абведзены з трох бакоў ровам (шыр. да 30 м, глыб. 7—10 м), 4 вуглавыя вежы (асталіся 2), палац (не збярогся) і крапасныя сцены (таўшчыня 1,3 м) утваралі замкнёны ўнутраны двор. Збудаванні былі з цэглы і каменю. Паўд.-зах. вежа-брама — 3-ярусная (2 ніжнія ярусы чацверыкі, 3-і — васьмярык), накрытая шатровым дахам, мела пад'ёмны драўляны мост. Яе падмурак складзены з вял. камянёў. На сцяне, арыентаванай у бок двара, знаходзіўся гадзіннік. Паўд.-ўсх. вежа (пабудавана ў 17 ст.) 3-ярусная, квадратная ў плане (8,3×8,3 м), накрытая шатровым дахам. Вежы выкарыстоўваліся пад жыллё. Вокны 2—3-га ярусаў былі прыстасаваны для гарматнага бою, круглыя байніцы ўверсе — для ружэйнага. Перакрыцце 1-га яруса — скляпеністае, 2-га і 3-га — бэлечнае. Па перыметры замкавага дзядзінца размяшчаліся гасп. пабудовы. Ва ўсх. частцы крапаснай сцяны была фортка, якая выходзіла на другі мост. У 18 ст. замак страціў сваё абарончае значэнне. У 19 ст. на яго тэр. пабудаваны *Любчанскі палац.* Помнік рэспубліканскага значэння.

*М. А. Ткачоў.*

**ЛЮБЧАНСКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у 19 ст. Пабудаваны ў 1864—70 на тэр. *Любчанскага замка.* Мураваны палац з рысамі несапраўднай готыкі меў сіметрычную 3-часткавую кампазіцыю, якую стваралі прамавугольныя ў плане бакавыя 1-павярховыя накрытыя 2-схільнымі дахамі крылы (гал. 2-павярховы аб'ём з вальмавым дахам). Фасады гал. аб'ёму былі вылучаны рызалітамі: паўн.-ўсходнім (завяршаўся трохвугольным франтонам), паўд.-заходнім і цэнтральным (завяршаліся парапетам). У месцах раскрапоўкі і на вуглах размяшчаліся вежы, аформленыя зубцамі. Сцены тарцоў бакавых крылаў завяршалі ступеньчатыя франтоны з прамавугольнымі праёмамі. Прамавугольныя вокны палаца былі ўпрыгожаны сандрыкамі. У гал. аб'ёме (калідорная планіроўка) размяшчаліся залы і жылыя пакоі, у бакавых крылах — гасп. памяшканні. Інтэр'еры залаў і пакояў мелі багатую лепку, кафляныя печы. Тры лесвіцы, якія вялі з 1-га на 2-і паверх, былі ўпрыгожаны балясамі. Часткова разбураны ў гады 1-й сусветнай вайны. У 1947—49 з выкарыстаннем фундаментаў і фрагментаў сцен палаца пабудавана сярэдняя школа.

*С. П. Адамовіч.*



**Любча.** Выгляд замка ў пачатку 19 ст. Акварэль Ю. Пешкі.



**Любчанскі замак.** Паўднёва-заходняя вежа.

**ЛЮШНЕЎСКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у 2-й пал. 18 — пач. 20 ст. ў в. Люшнева Баранавіцкага р-на. Прамавугольны ў плане 1-павярховы драўляны будынак з мезанінам быў завершаны высокім ламаным гонтавым дахам. Меў рысы стыляў барока і класіцызму. Цэнтр гал. фасада быў вылучаны рызалітам, аформленым слупавым ганкам і за-



**Любчанскі палац.**



**Лявонпальская сядзіба.** Сядзібны дом.



**Люшнеўскі палац.** Здымак пачатку 20 ст.

вершаны трохвугольным франтонам з паўкруглай люкарнай у тымпане. Атынкаваныя знадворку сцены мелі прамавугольныя аконныя праёмы. Да аднаго з тарцоў палаца прылягала прамавугольная ў плане каркасная з суцэльным зашкленнем аранжарэя, завершаная высокім паўвальмавым дахам. *Ю. А. Якімовіч.*

**ЛЯВОНПАЛЬСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры барока. Створана ў 1750 у в. Лявонпаль (Міёрскі р-н) на левым беразе Зах. Дзвіны па заказу брэсцкага ваяводы М. Лапацінскага. Архітэктар А. Гену (магчыма, Т. Жаброўскі). За ўдзел Лапацінскіх у паўстанні 1831 разрабавана і разбурана казакамі. У 1842—45 секвестравана за пратэсты з боку ўладальнікаў і сялян супраць скасавання уніі. У 1919 сядзібны дом адрамантаваны і прыстасаваны пад касцёл (унутраная планіроўка зменена). Ансамбль мае сіметрычна-восевую кампазіцыю. На восі сядзібы была пастаўлена брама з элементамі дарычнага ордэра. С я д з і б н ы д о м — мураваны 1-павярховы будынак з сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай структурай і 2-павярховай цэнтр. часткай, накрытай 2-схільным дахам з фігурнымі франтонамі на тарцах. Бакавыя выцягнутыя крылы з 2-схільнымі дахамі выступаюць на гал. і дваровым фасадах глыбокімі рызалітамі, завершанымі 3-вугольнымі франтонамі. Будынак мае высокі цокаль, да гал. ўвахода вядзе шырокая лесвіца з тэрасай паміж 2 маршамі. У дэкар. аздобе дома выкарыстана ордэрная пластыка: каніліраваныя пілястры, прафіляваныя карнізы і абрамленні прамавугольных акон (мелі дэкор у стылі ракако), рустоўка і інш. За домам і паўадкрытым дваром, які ўтваралі 2 мураваныя 2-павярховыя флігелі (збярогся заходні), размешчаны прамавугольны фрагмент рэгулярнага тэраснага парку, абмежаванага каналамі. У 1791 у парку была пастаўлена мемарыяльная калона ў гонар Канстытуцыі 3 Мая. У 19 ст. насаджэнні набылі пейзажную арганізацыю. Сядзіба выкарыстоўваецца як прафілакторый Мінскага ін-та культуры. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.
*А. М. Кулагін.*

**ЛЯВОНПАЛЬСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1774—1782 у в. Лявонпаль (Міёрскі р-н) па фундацыі ваяводы брэсцкага Мікалая Лапяцінскага як уніяцкая, перабудавана ў 1950-я гады. Асн. прамавугольны ў плане зруб накрыты 2-схільным дахам, 5-гранны алтарны зруб — больш нізкім шматсхільным. Спачатку царква мела гал. фасад, завершаны 2 чацверыковымі вежамі і 3-вугольным франтонам з паўвальмавай паміж імі. Пасля перабудовы тарэц даху закрыты вял. 3-вугольным франтонам. Абапал алтара прыбудаваны нізкія рызніцы. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя па восі гал. фасада — 2 акны з паўцыркульным завяршэннем. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю, над уваходам — хоры. З Пд царквы стаіць 2-ярусная зрубна-каркасная чацверыковая званіца, накрытая пакатым шатром. Ярусы падзелены шырокім прычолкам. Ніжні ярус глухі, верхні — скразны. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.
*Т. В. Габрусь.*



**Лявонпальская Троіцкая царква.** Выгляд з боку апсіды.

**ЛЯДАЎСКІ БЛАГАВЕШЧАНСКІ МАНАСТЫР,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 2-й пал. 18—1-й пал. 19 ст. ў в. Ляды (Смалявіцкі р-н). Уключае царкву Благавешчання і жылы корпус. Царква пабудавана ў 1794 з цэглы. 3-нефавы храм з прамавугольнай апсідай, накрыты двухсхільным дахам. Да алтарнай часткі прыбудаваны 2 прамавугольныя сакрысціі. Гал. фасад па гарызанталі падзелены прафіляванымі карнізамі, па вертыкалі — пілястрамі і завершаны фігурным атыкавым франтонам з валютамі. Плоскасці паміж пілястрамі прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Цэнтр. частка вылучана парталам гал. ўвахода і здвоеным акном. Бакавыя фасады дэкарыраваны плоскімі пілястрамі, франтонамі і нішамі. Унутраная прастора падзелена на нефы 4-квадратнымі ў плане слупамі. Цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя нефы — крыжовымі скляпеннямі. Сцены раскрапаваны пілястрамі і паўкалонамі карынфскага ордэра ў барочнай інтэрпрэтацыі. Над уваходам — хоры на круглых слупах. Сцены бакавых нефаў і алтарнай часткі дэкарыраваны размалёўкай, выкананай у тэхніцы грызайль. Ж ы л ы к о р п у с пабудаваны з



**Лядаўскі Благавешчанскі манастыр.** Агульны выгляд царквы.



**Ляснянскі мемарыяльны комплекс.** Капліца (справа) і манумент.

цэглы ў 1811—50. Аднапавярховы будынак Г-падобны ў плане, накрыты двухсхільным дахам. Гал. ўваход абрамлены высокім мураваным ганкам. Цокальны паверх вылучаны гарызантальнай цягай, якая ідзе па ўсім перыметры будынка. Тоўстыя сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Фасады дэкарыраваны лапаткамі, філёнгавымі нішамі, рустам і завершаны карнізам. Планіроўка галерэйная. Памяшканні ў цокальным паверсе перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Царква не дзейнічае, у манастыры — школа. Помнік рэспубліканскага значэння. *В. М. Ладзіс.*

**ЛЯСНЯНСКІ МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС,** помнік архітэктуры пач. 20 ст. Створаны ў в. Лясная (Слаўгарадскі р-н) у гонар 200-годдзя перамогі рус. войск над шведскім корпусам генерала А. Левенгаўпта ў бітве 28.9.1708 пад Лясной. Уключае мемарыяльныя капліцу (1912, арх. А. Гаген), манумент у гонар перамогі рус. войск (1906, скульптар А. Обер) і мармуровы абеліск на брацкіх магілках рус. воінаў. Комплекс удала ўпісваецца ў ландшафт мясцовасці, архіт.-маст. ідэя яго падпарадкавана гераічнай тэме. Кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца цагляная к а п л і ц а цэнтрычнай шмат'яруснай кампазіцыі з рысамі рамантычнага кірунку рускага мадэрна. Завершана 8-гранным шатром з невял. барабанам і цыбулепадобнай галоўкай (агульная выш. 40,9 м). Квадратнае ў плане (15×15 м) збудаванне. 1-ы ярус пастаўлены на п'едэстал (выш. 2,1 м) з вял. гранітных блокаў, мае 3-арачныя парталы з белага каменю і завершаны поясам несапраўдных машыкуляў. 2-і ярус — кубічны аб'ём, прарэзаны з 4 бакоў высокімі арачнымі вокнамі і завершаны зубцамі ў выглядзе ластаўчынага хваста. Сцены абліцаваны залацістай керамічнай пліткай, уваходы, перамычкі, паяскі і карнізы аздоблены пераважна белым пясчанікам. Капліцу ўпрыгожваюць мазаічныя панаабразы: на гал. фасадзе (на выш. больш за 10 м) і ў нішы паміж вокнамі 1-га яруса ўсх. фасада (на выш. 3 м). Інтэр'ер зальны. Капліца з'яўляецца прыкладам арганічнага сінтэзу архітэктуры і мастацтва. У будынку размешчаны музей гісторыі бітвы пад Лясной. Помнік рэспубліканскага значэння. Манумент — дынамічная скульпт. кампазіцыя на пастаменце ў выглядзе скалы (граніт), на яе вяршыні павернутая на У выява арла (бронза), які рве кіпцюрамі шведскі сцяг з разламаным дрэўкам. На пастаменце — дошка з рэльефным надпісам: «У памяць бітвы пры Лясной. Маці Палтаўскай перамогі — 1708. 28 верасня 1908 г.». На процілеглым баку бронзавая дошка са спісам палкоў — удзельнікаў гіст. бітвы. У ансамбль уваходзіла таксама Пятроўская царква, пабудаваная воінамі рус. арміі ў 1708 адразу пасля бітвы па загаду Пятра І. Складалася з выцягнутага прамавугольнага ў плане асн. зруба, накрытага шатровым дахам з галоўкай у цэнтры, і квадратнага ў плане алтарнага (з невысокімі сакрысціямі па баках) зруба, завершанага таксама галоўкай. Сцены былі вертыкальна ашаляваны, вокны прамавугольныя. У інтэр'еры знаходзіліся медныя мемарыяльныя дошкі з графічнымі выявамі гіст. бітвы. Не збераглася. *В. М. Чарнатаў.*



**Ляхавіцкі замак.** Рэканструкцыя паводле гравюры 17 ст.

**ЛЯХАВІЦКІ ЗАМАК.** Існаваў у канцы 16—1-й пал. 18 ст. Пабудаваны ў канцы 16 ст. гетманам Я. Хадкевічам у Ляхавічах на беразе р. Ведзьма на ўзгорку, абкружаным ровам, узровень вады ў якім рэгуляваўся плацінай. Паказаны на гравюры 1660. Замак меў у плане форму правільнага чатырохвугольніка з 4 вял. бастыёнамі паліганальнай канфігурацыі і брустверамі. Земляныя ўмацаванні былі абмураваны каменем і цэглай. Да ўязной брамы з гадзіннікавай вежай, завершанай купалам, вёў рассоўны мост цераз роў. У глыбіні двара

стаяў 2-павярховы П-падобны ў плане мураваны палац у стылі рэнесансу, накрыты 2-схільным чарапічным дахам з высокімі 3-яруснымі шчытамі на тарцах. Не збярогся.

*М. А. Ткачоў.*

**ЛЯХАВІЧЫ**, горад, цэнтр Ляхавіцкага р-на, на р. Ведзьма. За 225 км на ПнУ ад Брэста, чыг. станцыя на лініі Баранавічы — Лунінец. Вядомы з 15 ст. ў Вял. кн. Літоўскім. Мелі драўляныя ўмацаванні. З 16 ст. ў Навагрудскім пав. Належалі Ходкевічам, Сапегам, віленскаму біскупу І. Масальскаму, магнату С. Касакоўскаму. У канцы 16 ст замест існаваўшага там невял. драўлянага замка пабудаваны бастыённы мураваны *Ляхавіцкі замак,* вядомы пад наз. «Ляхавіцкая фартэцыя» — адно з найбольш магутных умацаванняў не толькі ў Вял. кн. Літоўскім, але і ва ўсёй Рэчы Паспалітай. Горад 4 разы гарэў і быў зруйнаваны, у Паўночную вайну 1700—21 поўнасцю спустошаны. З 1791 у Случарэцкім пав. З 1793 у складзе Расіі. У канцы 19 ст. мястэчка, цэнтр воласці Слуцкага пав., 5016 жыхароў (1897), каля 150 двароў, мураваная царква ў неарускім стылі (не захавалася), школа, бальніца, ганчарныя майстэрні, 30 крам, бровар, 3 кірмашы на год. У 1907 пабудаваны цагляны касцёл у стылі неаготыкі (не захаваўся). З 1921 у складзе бурж. Польшчы, горад у Баранавіцкім пав. Навагрудскага ваяводства. З 1939 у БССР, у складзе Баранавіцкай вобл. 5,1 тыс. жыхароў. З 15.1.1940 цэнтр раёна. З 1954 у Брэсцкай вобл. У 1959 у Л. 4,5 тыс. жыхароў. Рака Ведзьма падзяляе тэр. горада на зах. і ўсх. часткі. Асн. сялібная зона склалася на левым (усх.) беразе ракі. У паўд.-зах. частцы сфарміраваўся прамысл. раён Л. Развіваюцца паводле генплана і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1973 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Жаўняк, В. Дутлава, Л. Комава, інж. Р. Ходас, Р. Шамес, І. Калеснік), карэкціроўкі генплана 1987 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Арцемчык, Дз. Паташнікаў, інж. Л. Каўчынскі). Архіт.-планіровачная структура радыяльна-прамянёвая, утворана магістральнымі вуліцамі Леніна (галоўная), Першамайскай, Я. Купалы, Арлоўскага, Камсамольскай, Мінскай, якія з'яўляюцца прадаўжэннем аўтамабільных дарог. Пераважае 1-павярховая драўляная забудова сядзібнага тыпу. Капітальная 4—5-павярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтры ўздоўж вул. Леніна, а таксама ў паўд. (вул. Будаўнікоў) і паўд.-ўсх. (вуліцы Южакова і Чкалава) частках горада. Адм.-грамадскі цэнтр склаўся на вул. Леніна. Прадугледжана яго развіццё ў бок ракі і ўтваранай уздоўж яе поймы паркавай зоны. У жылой зоне, якая прылягае да цэнтра, прадугледжана 5-павярховая забудова з асобнымі 9-павярховымі акцэнтамі. Зона адпачынку — рэкі Ведзьма і Шчара.

*С. Ф. Самбук.*

# М

**МАГІЛЁЎ**, горад на Дняпры, цэнтр Магілёўскай вобл. За 201 км ад Мінска. У Магілёўскай хроніцы горад упершыню ўпамінаецца пад 1267. Паводле археал. раскопак, на яго ўсх. ускраіне выяўлены стаянка позняга мезаліту (6—5-е тысячагоддзі да н. э.), стараж. гарадзішчы — Пелагееўскае (6 ст. да н. э.— 13 ст. н. э.) і Магіла (5 ст.). У 10 ст. тэрыторыя сучаснага М. ўваходзіла ў склад Кіеўскай Русі. Назва горада, паводле легенд, паходзіць ад імя асілка Машэкі, над магілай якога насыпаны курган — так званая Магіла льва; паводле іншых легенд, звязана з імёнамі заснавальніка замка Льва Данілавіча Могія (магутны леў) ці полацкага князя Льва Уладзіміравіча (Льва Магутнага). Ядром стараж. горада быў умацаваны драўляны замак на высокім узгорку з крутымі схіламі ў сутоках рэк Дубровенка і Дняпро. У дакументах упамінаецца пад 1320 як горад, залежны ад Віцебскага княства. З 14 ст. М. у складзе Вял. кн. Літоўскага (у 1496—1538 у Маскоўскім княстве). Належаў жонцы Ягайлы каралеве Ядвізе (канец 14 — пач. 15 ст.), жонцы Аляксандра каралеве Алене Іаанаўне, з 1514 Ю. Зяновічу. У 15 ст. М. складаўся з 3 частак: умацаванага замка (дзядзінец), Нагорскага рамесна-гандл. пасада (пазнейшы Стары горад; абмежаваны з З Дняпром, з У Дубровенкай, з Пн замкавым ровам) і гандл. плошчы паміж імі. Каля 1526 на месцы старога пабудаваны новы *Магілёўскі замак.* У 1561 М. атрымаў права на войтаўства (гарадское кіраванне), у 1577 — магдэбургскае права (да 1775) і герб з 1661 (на блакітным полі 3 вежы з выявамі рыцара ў адчыненай сярэдняй браме і над ім дзярж. герба «Пагоня»). У 1589—



**Магілёў.** З гравюры 18 ст.



**Магілёў.** Мост цераз Дняпро. Фота пачатку 20 ст.



**Магілёў.** Агульны выгляд горада. Фота пачатку 20 ст.

1772 цэнтр Магілёўскай эканоміі. У 16 ст. тэр. пасада значна пашырылася, на Пн ад яго пачала фарміравацца новая жылая забудова (пазнейшы Новы горад), узніклі паселішчы за Дняпром (Задняпроўскі пасад) і Дубровенкай (Задубровенскі пасад), паміж Дняпром і ручаём Дзебра (Пакроўскі пасад). У 1609—33 былі ўзведзены 3 паясы абарончых умацаванняў (земляныя валы з бастыёнамі і ровам): Замкавы вал вакол тэр. стараж. замка; Кругавы, ці Бліжні, вакол Старога горада з 4 брамамі (драўляная Ветраная і мураваныя Алейная, Дубровенская, ці Малая, Каралеўская — спачатку была драўляная і наз. Шклоўская); Палявы, ці Дальні, вакол Новага горада з 8 брамамі (Курдзянеўская, Ледзвяеўская, Шклоўская, Віленская, Уструшненская, Трыснёнская, Быхаўская і Папінская). У 17 ст. ў асноўным сфарміравалася планіровачная структура М. Цэнтрам горада была Гандлёвая пл. (зараз Савецкая, у 1604 тэрыторыя больш як 2 га), на якой размяшчаліся 26 радоў крам і *Магілёўская ратуша.* Ад плошчы адыходзілі 2 гал. вуліцы — Шклоўская (сучасная Першамайская) і Ветраная (сучасная Ленінская), якія разам з вуліцамі-дарогамі на Вільню (ПнЗ), Быхаў (З) і Мсціслаў (Пд) фарміравалі радыяльную сістэму планіроўкі горада. У 17—18 стагоддзях сфарміравалася *Магілёўская школа дойлідства.* Сярод збудаванняў гэтага часу вылучаліся: *Магілёўскай Мікалаеўскай царквы комплекс, Магілёўская Успенская царква* і *Магілёўская Пакроўская царква, Магілёўскі Богаяўленскі манастыр, Магілёўскі касцёл і калегіум езуітаў, Магілёўскі фарны касцёл.* У 1708 у час Паўночнай вайны М. быў спалены і разрабаваны, да сярэдзіны 18 ст. адноўлены. У 1604 было больш за 15 тыс. жыхароў, 2211 дамоў, у 1765—1872 дамы. З 1772 у складзе Расіі, цэнтр Магілёўскай правінцыі (да 1775) і губерні, з 1778 — намесніцтва, з 1796 — павета Беларускай, з 1802 Магілёўскай губ. У 1781 зацверджаны новы герб: «Пагоня» на чырвоным полі, дадаткова верхняя палавіна двухгаловага арла (герба Расійскай імперыі). У 1778 распрацаваны праектны план М., які меў на мэце ўпарадкаваць планіровачную структуру, надаць ёй рэгулярны характар. З пач. 19 ст. пачынаюць знішчаць абарончыя земляныя ўмацаванні, якія перашкаджалі далейшаму росту горада. У 1809 быў скапаны Кругавы вал і засыпаны роў, што падзяляў Стары і Новы горад. Да 1822 былі ўпарадкаваны 2 гал. вуліцы, праз якія праходзіў роў,— Дняпроўскі праспект (б. Шклоўская вул.) і Вял. Садовая (б. Ветраная вул.). На месцы Замкавага вала ў 1850 пракладзены Бабруйская шаша і Дняпроўскі пад'ём. Да сярэдзіны 19 ст. сфарміраваліся ансамблі *магілёўскай Губернатарскай плошчы* (б. Гандлёвая) з адм. будынкамі і *магілёўскай Саборнай плошчы* з Іосіфаўскім саборам у цэнтры, манум. брамай і будынкам манежа. Архіт.-маст. аблічча цэнтр. часткі горада ў 18—19 стагоддзях вызначалі культавыя, жылыя і адм. будынкі: *Магілёўскі Спаскі манастыр, Магілёўскі архірэйскі палац, Магілёўскай духоўнай семінарыі будынкі, Магілёўскі касцёл кармелітаў, Магілёўскі касцёл і кляштар бернардзінцаў, Магілёўскі архіепіскапскі палац, Магілёўскай мужчынскай гімназіі будынак,* 2-павярховыя *магілёўскія жылыя дамы.* Пры ўездзе ў горад на вуліцах Быхаўскай, Віленскай, Чарнігаўскай, Чавускай, Шклоўскай на месцы драўляных былі збудаваны мураваныя брамы. У 1878 у цэнтр. частцы горада пракладзены водаправод, тэлефон, пушчана конка. Праектны план 1899 намячаў далейшае развіццё М., вылучаліся асн. дыяметры: Дняпроўскі праспект (Пн), Віленская вул. (З), Новачарнігаўская вул. (Пд), Быхаўская (ПдЗ). На планіровачную структуру М. канца 19 — пач. 20 ст. значны ўплыў зрабіла буд-ва чыгункі (у 1902 пракладзена чыг. лінія). У паўн. частцы горада на Кацярынінскай вул. (праходзіла ўздоўж чыгункі, працяг Дняпроўскага праспекта) утворана Прывакзальная пл. з кампазіцыйным цэнтрам — будынкам *Магілёўскага чыгуначнага вакзала.* На скрыжаванні Дняпроўскага праспекта і вул. Дваранскай пасля ўзвядзення *Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра будынка* сфарміравалася Тэатральная пл. Тэрыторыя горада значна пашырылася, забудоўваліся прадмесці Шклоўскае, Быхаўскае, Віленскае, Карабанаўскае, Лупалаўскае; на правым беразе Дняпра створана *магілёўская сядзіба «Піпенберг».* Мураваныя жылыя і грамадскія будынкі размяшчаліся пераважна ў цэнтр. частцы. У канцы 19 — пач. 20 ст. ўзведзены: *Магілёўскага банка будынак, Магілёўскага пазямельна-сялянскага банка будынак, Магілёўскага крэдытнага таварыства будынак, Магілёўскага*



**Магілёў.** Вуліца Першамайская.

*губернскага праўлення будынак, Магілёўскага настаўніцкага інстытута будынак, Магілёўскага жаночага епархіяльнага вучылішча будынак, Магілёўскага рэальнага вучылішча будынак, Магілёўскай жаночай гімназіі будынак, Магілёўскага дваранскага сходу будынак, Магілёўскія Барысаглебскія цэрквы* і інш. З 26.4.1919 М.— цэнтр павета Гомельскай губ. РСФСР. З 1924 у складзе БССР: цэнтр Магілёўскага р-на, у 1924—30 — акругі, з 1938 — цэнтр вобласці.

За гады першых пяцігодак у горадзе рэканструяваліся старыя і будаваліся новыя прамысл. прадпрыемствы, вялося масавае жыллёвае і грамадскае буд-ва. На гал. вуліцах і незабудаваных тэрыторыях узводзіліся шматкватэрныя жылыя дамы, сярод першых — на вуліцах Першамайскай, Будзённага (1929—30). Пачалася комплексная забудова раёнаў горада, як рабочы пасёлак імя Кірава аўтарамонтнага з-да (1933—35, на Аршанскай шашы) і інш. 1-ы генплан сацыялістычнай рэканструкцыі М., распрацаваны ў 1936—39 (ін-т «Белдзяржпраект», арх. Н. Трахтэнберг, М. Андросаў), у асноўным захоўваў планіроўку, што склалася гістарычна. Пачалося развіццё горада ў шыротным напрамку. Структуру горада вызначалі 2 узаемна перпендыкулярныя дыяметры — *Першамайская вуліца* і праспект Міру, на скрыжаванні якіх сфарміраваўся новы адм.-грамадскі цэнтр — *Леніна плошча*. У 1938—40 тут пабудаваны *Магілёўскі Дом Саветаў, Магілёўскі адміністрацыйны будынак* (зараз гал. корпус машынабудаўнічага ін-та), 5-павярховыя жылыя дамы (арх. А. Брэгман, А. Воінаў); узведзены таксама гасцініца *«Днепр»*, кінатэатры «Радзіма» і *«Чырвоная Зорка»* і інш. Пасля Айч. вайны горад развіваўся паводле генплана аднаўлення і рэканструкцыі 1947—50 («Белдзяржпраект», арх. Андросаў, Г. Парсаданаў). Асн. ўвага аддавалася забудове цэнтральнай вул. Першамайскай з прылеглымі да яе кварталамі. У 1960—80-я гады М. забудоўваўся пераважна буйнымі жылымі масівамі — мікрараёнамі і жылымі раёнамі. Першыя мікрараёны стварыліся ў зах. частцы горада — Магілёў 2 (з 1962), Мір 1—2 (з 1964). Паводле генплана 1969 (« Белдзяржпраект», арх. Ю. Глінка, М. Трагубовіч, М. Семяненка) горад развіваўся пераважна ва ўсх. і паўд. напрамках. Пачалася комплексная шматпавярховая забудова б. ускраін — паўднёвай (б. Лупалаўскае прадмесце) і ўсходняй (б. Машэкаўка). У паўд. частцы горада фарміраваўся Задняпроўскі жылы раён. У цэнтр. частцы ўзведзены будынкі рознага сацыяльнага прызначэння: гасцініца *«Магілёў»*, Дом палітасветы (арх. В. Шаўчэнка, А. Кучарэнка), Палац піянераў і школьнікаў (арх. М. Семяненка, А. Мельнікаў), Палац культуры і тэхнікі вытв. аб'яднання «Хімвалакно» (Я. Смальгоўскі, В. Ладыгіна, В. Астаповіч), Магілёўскага абкома (Ю. Шпіт, Кучарэнка) і гаркома (К. Аляксееў) КПБ, кінатэатр «Кастрычнік» (Кучарэнка), карпусы ін-таў педагагічнага (І. Фралоў, Кучарэнка) і тэхналагічнага (Ю. Павалій, У. Начараў, С. Сень), навукова-вытв. аб'яднання па Ленінскай вул. (В. Кільчыцкі), школы прафтэхадукацыі (Мельнікаў) і базавага педвучылішча (У. Кузняцоў, Н. Кузняцова), абл. статыстычнага ўпраўлення і вяслярная база (І. Голубева), цір «Робін Гуд» (Ю. Іўжанка, Я. Бранцаў), 9—12-павярховыя жылыя дамы з прадпрыемствамі быт. абслугоўвання і гандлю на Ленінскай вул. (Фралоў, Г. Борахаў, Бранцаў, Іўжанка) і інш. На Савецкай пл. ўзведзены мемарыяльны комплекс *«Змагарам за Савецкую ўладу»*. Паводле карэкціроўкі генплана 1969 (1981, БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Глінка, А. Горб, М. Мызнікаў) горад развіваецца ў паўн.-ўсх. напрамку, ствараецца агульнагарадскі цэнтр уздоўж праспекта Міру. Генпланам 1988 (БелНДІПгорадабудаўніцтва) прадугледжана рэканструкцыя забудовы, запланаванай праектам рэканструкцыі цэнтра 1974 (арх. Фралоў, Н. Янчык), далейшае развіццё горада ў паўн.-ўсх. напрамку, стварэнне адзінай водна-зялёнай сістэмы. Зона адпачынку — лесапаркі Пячэрскі са штучным возерам і Любужскі, гарадскі Парк культуры і адпачынку імя М. Горкага. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*Т. І. Чарняўская.*

**«МАГІЛЁЎ»**, гасцініца ў Магілёве. Пабудавана ў 1972 (арх. В. Астаповіч, Г. Бенядзіктаў, А. Лукомская). Разлічана на 654 месцы. 14-павярховы будынак пастаўлены перпендыкулярна да праспекта Міру, з размешчаным побач 2-павярховым аб'ёмам Дома спорту ўтварае адзіны архіт. ансамбль, які з'яўляецца кампазіцыйнай дамінантай навакольнай забудовы. Ячэістая структура фасада жылога корпуса, утвораная лоджыямі па памерах нумароў, стварае строгі рытм вертыкальных і гарызантальных чляненняў. У архіт. дэкор гал. фасада ўведзены канструкцыйныя металічныя дэталі, якія ўзбагачаюць яго пластыку. 1-ы і 2-і паверхі маюць суцэльнае зашкленне, што надае будынку лёгкасць і стройнасць. У 1-м паверсе знаходзяцца вестыбюль, хол і адм. памяшканне, у 2-м — рэстаран, кафэ і памяшканні для абслугі, вышэй — жылыя нумары на 1, 2, 3 чалавек. Калоны ў інтэр'еры абліцаваны шлакасіталамі. Вестыбюль і холы дэкарыраваны чаканкай па метале (мастак Ю. Любімаў).

**МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. Узведзены ў



Гасцініца «Магілёў».

1886—88 у цэнтры горада паводле праекта арх. П. Камбурава і інж. У. Мільяноўскага; мае складаную кампазіцыю аб'ёмаў. Цэнтр. месца займае прамавугольная ў плане глядзельная зала (на 500 месцаў) з закругленай задняй сцяной. На гал. фасадзе выступаюць 2 вежападобныя чацверыковыя аб'ёмы і тамбур з тэрасай над ім пры ўваходзе, да якога вядзе двухбаковая крывалінейная ў плане лесвіца. Вакол глядзельнай залы згрупаваны вестыбюль, фае, кулуары, калідоры, службовыя памяшканні. У архіт. вырашэнні фасадаў спалучаецца адкрытая чырвоная муроўка з белымі атынкаванымі дэталямі псеўдарускага стылю (зубчыкі, сухарыкі, абрамленні аконных праёмаў і нішаў разнастайных форм). Інтэр'ер аздоблены разьбой па дрэве.

*Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАГА АБЛАСНОГА ТЭАТРА ДРАМЫ І КАМЕДЫІ БУДЫНАК** у Бабруйску. Узведзены ў 1978 (арх. В. Крамарэнка, у афармленні інтэр'ераў удзельнічалі арх. Б. Папоў і М. Пірагоў, мастакі В. Ананьеў і М. Макашвілі) у цэнтры горада. Пабудаваны на аснове конкурснага праекта, які прадугледжваў рэканструкцыю Дома культуры (1927—30, арх. А. Оль). Гал. фасад вырашаны ў выглядзе своеасаблівага порціка з вертыкальнымі рэбрамі і вял. паверхняй зашклення. На глухіх сценах бакавых фасадаў рельефныя кампазіцыі на тэмы мастацтва. Па восі будынка размешчаны вестыбюль, фае, глядзельная зала з балконам (на 700 месцаў) і развітая сцэнічная група памяшканняў, у бакавыў аб'ёмах — гардэробы, кулуары, буфеты. Памяшканні для абслугоўвання гледачоў ссунуты на паўпаверха адзін адносна аднаго і злучаны адкрытымі лесвіцамі. У аздобе фасадаў выкарыстаны вапняк і паліраванае шкло, інтэр'ераў — туф, розныя пароды дрэва, маст. шкло.

*А. А. Воінаў.*



Будынак Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі ў Бабруйску.

**МАГІЛЁЎСКАГА АКРУГОВАГА СУДА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры класіцызму. Узведзены ў 1770-я гады ў Магілёве на Губернатарскай пл. (сучасная Савецкая пл.) як будынак ніжняга земскага суда, урачэбнай управы і архіва. Мураваны прамавугольны ў плане будынак быў падзелены капітальнымі сценамі на 3 часткі (для кожнай установы). З боку дваровага фасада кожная з устаноў мела асобны дворык, абнесены мураванай сцяной (не захаваліся). У 1883 будынак часткова перабудаваны (надбудаваны 3-і паверх, дэкарыраваны гал. фасад, зменена ўнутраная планіроўка) і прыстасаваны пад акруговы суд. Гал. 3-павярховы (з паўпадвальным паверхам) фасад выходзіць на плошчу. Паверхі падзелены карнізнымі цягамі. У цэнтры гал. фасада — уваходны партал (спачатку



Магілёўскі абласны драматычны тэатр.



**Магілёўскага банка будынак.**



Магілёўскага акруговага суда будынак.

існавалі 3 асобныя ўваходы, адпаведна фасад быў аздоблены 3 рызалітамі, завершанымі атыкамі з франтонамі). Цэнтр. частка фасада завершана над карнізам прамавугольным прафіляваным атыкам і дэкарыравана плоскімі пілястрамі па 3 паабапал увахода. На 1-м паверсе пілястры руставаныя, на 2-м — парныя, на 3-м — гладкія. Падобныя пілястры захаваліся на бакавых частках будынка (абапал першапачатковых уваходаў) і на вуглах фасадаў. Прамавугольныя аконныя праёмы ў простых ліштвах на 1-м і 3-м паверхах аздоблены замковым каменем, на 2-м завершаны праз адно прамавугольнымі сандрыкамі або трохвугольнымі франтонамі. Будынак завершаны тонкапрафіляваным карнізам. Дэкаратыўныя дэталі (пілястры, паясы, ліштвы, сандрыкі) вылучаны асобным колерам. Разбураны ў гады Вял. Айч. вайны. У 1950-я гады аднаўлены і пераабсталяваны пад Магілёўскі абл. краязнаўчы музей. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАГА БАНКА БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры пач. 20 ст. Пабудаваны ў 1904—06 у эклектычным стылі (арх. П. Камбураў) у Магілёве (сучасная вул. Ленінская, 50) як аддзяленне Маскоўскага міжнароднага банка. Мураваны сіметрычны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак. Гал. фасад вылучаны разалітам з высокімі арачнымі вокнамі на 2-м паверсе і пілястрамі карынфскага ордэра паміж імі. 1-ы паверх руставаны, з прамавугольнымі вокнамі. Сцены рызаліта завяршае дэкарыраваны атык. Гал. ўваход, які знаходзіўся ў левай частцы будынка, быў падкрэслены магутным парталам з карынфскім пілястрам і 3-вугольным франтонам. Тэрыторыя банка была абкружана муравaнай сценкай (захавалася часткова). У комплекс уваходзілі таксама 2 жылыя будынкі і гасп. пабудовы (не захаваліся). Планіроўка традыцыйная для банкаўскіх устаноў. Па восі на 2-м паверсе размешчана аперацыйная зала. Абапал калідораў згрупаваны службовыя памяшканні.



Магілёўскага губернскага праўлення будынак. Галоўны фасад.

**МАГІЛЁЎСКАГА ГУБЕРНСКАГА ПРАЎЛЕННЯ БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1778 у Магілёве на Губернатарскай пл. (сучасная Савецкая пл.) у стылі класіцызму. Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак з прыбудовамі з боку дваровага фасада, злучаных з асн. аб'ёмам муравaнай сцяной. Шырокім гал. фасадам выходзіў на плошчу. Паверхні падзяляліся карнізным поясам. На гал. фасадзе вылучаліся 3 неглыбокія рызаліты: цэнтральны, завершаны прамавугольным атыкам, і бакавыя, завершаныя трохвугольнымі франтонамі. Сцены 1-га яруса рызалітаў былі аздоблены рустам і мелі паўцыркульныя аконныя праёмы. У цэнтр. рызаліце знаходзіўся гал. ўваход з шырокай вонкавай лесвіцай. Астатнія аконныя праёмы прамавугольныя, на 2-м ярусе рызалітаў былі аздоблены трохвугольнымі франтонамі. Будынак завяршаўся простым карнізам з сухарыкамі на рызалітах. На 1-м паверсе (планіроўка калідорнага тыпу) знаходзіліся кватэрная камісія, вылічальная экспедыцыя, паліцыя, скарб, грамадзянская апека, павятовы суд, на 2-м (планіроўка анфіладная) — дзярж. палата, губ. ўправа, 1-ы і 2-і дэпартаменты. Разбураны ў 1944. *Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАГА ДВАРАНСКАГА СХОДУ БУДЫНАК,** помнік грамадзянскай архітэктуры 2-й пал. 19 ст. Пабудаваны ў Магілёве (вул. Першамайская, 34) з элементамі стылю мадэрн. Спачатку існавалі 2 мураваныя будынкі; 3-павярховы і 2-павярховы, якія пазней былі аб'яднаны ў адзін Г-падобны корпус,



Магілёўскага дваранскага сходу будынак.

а да 2-павярховага будынка дабудаваны 3-і паверх. Падоўжаная частка аб'яднанага корпуса выходзіць на лінію забудовы вул. Першамайскай. Гал. фасад вылучаны 2 рызалітамі, дзе размешчаны ўваходы. Рызаліты завершаны дэкар. сцэнкамі з круглымі разеткамі. 1-ы паверх дэкарыраваны глыбокім рустам, члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. 2-і і 3-і паверхі ўпрыгожаны пілястрамі, паўкалонкамі, дэкар. ўстаўкамі з ляпным арнаментам. Дэталі дэкору пафарбаваны ў белы колер і кантрастна вылучаюцца на зялёным фоне сцяны. Аконныя праёмы 2 верхніх паверхаў лучковыя, у рызалітах балконы з металічнай агароджай. Падоўжаная частка мае калідорную сістэму планіроўкі: абапал 2-баковага калідора былі службовыя пакоі. *В. Р. Кукуня.*

**МАГІЛЁЎСКАГА ЖАНОЧАГА ЕПАРХІЯЛЬНАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры эклектызму. Узведзены ў 1889—92 (арх. П. Камбураў, М. Маркаў) у Магілёве на тэр. Задубровенскага пасада (сучасная вул. Вароўскага). Мураваны 3-павярховы Е-падобны ў плане будынак на высокім цокальным паверсе. Да цэнтр. часткі далучаны больш кароткія бакавыя карпусы, якія ўтвараюць унутраны дворык. У цэнтры па восі гал. ўвахода спачатку размяшчалася царква, злучаная з будынкам крытым пераходам. Цэнтр гал. фасада вылучаны неглыбокім рызалітам, завершаным атыкам з 3-вугольным шчытом, 1-ы паверх аддзелены гарызантальнымі цягамі, аздоблены рустам, сцены завершаны карнізным поясам з сухарыкамі. Вокны 1-га і



Магілёўскага жаночага епархіяльнага вучылішча будынак.



Магілёўскага настаўніцкага інстытута будынак.

2-га паверхаў прамавугольныя з плоскімі ліштвамі і замковымі камянямі, 3-га паверха — арачныя, упрыгожаныя сандрыкамі. Планіроўка калідорная, у цэнтр. частцы былі класныя, у бакавых крылах (маюць самастойныя ўваходы) — жылыя і дапаможныя памяшканні. У будынку размешчана школа-інтэрнат.

*Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАГА КРЭДЫТНАГА ТАВАРЫСТВА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры пач. 20 ст. Пабудаваны ў Магілёве (сучасная вул. Ленінская, 36) у стылі мадэрн. Мураваны Г-падобны ў плане 2-павярховы будынак са срэзаным вуглом, дзе размешчаны гал. ўваход. Фасады рытмічна расчлянёны неглыбокімі, рызалітамі, завершанымі атыкамі з сандрыкамі, люнетамі, арачнымі вокнамі, пілястрамі і лапаткамі. Вокны 1-га паверха прамавугольныя, 2-га — арачныя, аздобленыя замковымі камянямі. У дэкар. аздабленні вылучаюцца паўкруглы балкон над гал. уваходам, аформлены балюстрадай, з кансолямі ў выглядзе паўфігур атлантаў, разныя дзверы ўваходаў, гермы на пілястрах, эмблемы ў выглядзе жазла, іанічныя фрызы, нішы і інш., выкарыстаны элементы стылю ампір (руставаныя пілястры, фрызы са стылізаванымі сухарыкамі і інш.). Пачатковая планіроўка зменена. У будынку размешчана швейная ф-ка імя В. Валадарскага. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч.*

**МАГІЛЁЎСКАГА МАНЕЖА БУДЫНАК.** Узведзены ў 1815—31 на *Магілёўскай Саборнай плошчы* (арх. В. Стасаў) будынак экзерцыргаўза прызначаўся для правядзення ваенных вучэнняў. У 1846 перабудаваны для размяшчэння гарнізоннага батальёна. У 1870 згарэў. Мураваны прамавугольны ў плане будынак (больш за 100 м) у стылі класіцызму. Меў адзінае вял. зальнае памяшканне. працяглы з





Магілёўскага манежа будынак. Галоўны і тарцовы фасады.

2-схільным дахам і 3 вугольнымі шчытамі на тарцах, гал фасадам арыентаваны на плошчу. Карнізным поясам фасады падзяляліся на 2 ярусы: пластыку 1-га стваралі арачныя аконныя праёмы і прамавугольныя парталы ўваходаў, 2-га — паўкруглыя праёмы; завершаны тонкапрафіляваным карнізам з шырокім фрызам з трыгліфам.

*Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАГА НАСТАЎНІЦКАГА ІНСТЫТУТА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры эклектыкі. Узведзены ў 1853 па вул. Малая Садовая (сучасная Ленінская вул.). Спалучае рысы стыляў позняга класіцызму, псеўдарускага і мадэрн. Мураваны 3-павярховы Т-падобны ў плане будынак. Гал. фасад расчлянёны 3 неглыбокімі рызалітамі з парадньмі ўваходамі, балконамі 2-га і 3-га паверхаў з ажурнымі металічнымі агароджамі і невысокімі



Магілёўскага крэдытнага таварыства будынак.

атыкамі з паўцыркульнымі франтонамі ў цэнтры. Першапачаткова ўваходы ў будынак падкрэсліваліся 2 невял. вежачкамі над бакавымі і высокім шатровым завяршэннем над цэнтр. рызалітамі. Фасад карнізнымі паясамі падзелены на 3 ярусы. 1-ы ярус масіўны, вырашаны як цокаль, сцены аздоблены руставанымі пілястрамі. Рытм 2-га яруса ствараюць размешчаныя папарна

арачныя аконныя праёмы, падзеленыя пілястрамі, з геаметрычным скульптурным арнаментам архівольтаў паўцыркульных арак, падаконных уставак, міжаконных пілястраў і інш. 3-і ярус з прамавугольнымі аконнымі праёмамі кантрастна вылучаецца больш дробным маштабам архіт. дэталей: паўкалон кампазітнага ордэра ў міжаконных прасценках, аркатуры ў завяршэнні акон, падаконных уставак, фрыза і прафіляванага карніза. Планіроўка калідорная. У будынку размяшчалася жаночая гімназія, з 1913 — настаўніцкі ін-т, з 1919 — Ін-т нар. адукацыі, з 1930 — пединститут, зараз — корпус Магілёўскага педінстытута імя А. А. Куляшова. У гады Вял. Айч. вайны будынак быў пашкоджаны, адноўлены ў 1953. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*

**МАГІЛЁЎСКАГА ПАЗЯМЕЛЬНА-СЯЛЯНСКАГА БАНКА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры пач. 20 ст. Узведзены з цэглы ў 1903—14 па праекце арх. А. В. Друкера. Зберагліся эскізныя варыянты пабудовы. Мае рысы стыляў мадэрн, псеўдарускага і позняга класіцызму. 2-павярховы (з невысокім цокальным паверхам) Т-падобны асіметрычнай кампазіцыі ў плане будынак. Гал. фасад расчлянёны 2 рызалітамі. Адзін з іх мае шатровае завяршэнне, аздоблены шчытом у выглядзе какошніка з ляпной разеткай у цэнтры, другі вырашаны ў выглядзе 2-яруснай вежы (васьмярык на чацверыку), завершанай нізкім шатровым дахам. Вокны прамавугольныя і арачныя (на 2-м паверсе). У дэкар. афармленні выкарыстаны рустыка цоколя, прафіляваныя архівольты какошнікаў, несапраўдныя машыкулі, дэкар. ўстаўкі ў выглядзе разетак у прамавугольных рамках, паўкалонкі з ляпнымі кампазітнымі капітэлямі, паяскі, раслінны арнамент у аздабленні акон-трыфорыумаў, разныя драўляныя дзверы і інш. Планіроўка калідорная і галерэйная, з лесвіцамі ў тарцах. У савецкі час у будынку размяшчаліся рэдакцыі газет «Революционная ставка» (у 1917), з 1918 — «Известия Могилёвского Совета рабочих и солдатских депутатов» (у далейшым выдаваліся пад рознымі назвамі). Цяпер у будынку знаходзіцца рэдакцыя газ. «Магілёўская праўда» і карцінная галерэя. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*

**МАГІЛЁЎСКАГА РЭАЛЬНАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. На рагу вуліц Піянерскай і Камсамольскай, гал. фасадам арыентаваны ў бок Дняпра. 2-павярховы будынак Аляксандраўскага рэальнага вучылішча ўзведзены з чырвонай цэглы ў 1885 паводле праекта губернскага інж. У. С. Міляноўскага. Першапачаткова будынак быў 2-павярховы з паўпадвальным паверхам. У 1950-я гады надбудаваны 3-і паверх, часткова зменены гал. фасад. Зараз — 4-павярховы будынак (з паўпадвальным паверхам), у плане мае складаную форму: да гал. корпуса (выходзіць на пл. Арджанікідзе) прылягаюць 2 крылы — кароткае па вул. Піянерскай і падоўжанае па вул. Камсамольскай. Цэнтр. частка гал. фасада вылучана несапраўдным рызалітам, па баках якога знаходзяцца па 2 пілястры на вышыню 2 паверхаў. На фасадах — прамавугольныя аконныя праёмы з простымі ліштвамі, на рызаліце — з сухарыкамі. Планіроўка калідорная. У будынку знаходзіцца Магілёўскае педвучылішча імя Ушынскага. *Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАЙ ГАРАДСКОЙ УПРАВЫ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры эклектыкі. Узведзены ў 2-й пал. 19 ст. ў гіст. цэнтры горада (сучасная вул. Ленінская, 1), мае рысы стыляў позняга класіцызму і псеўдарускага. Муравны бу-



Магілёўскага пазямельна-сялянскага банка будынак.



Будынак былой гарадской управы ў Магілёве.

дынак складаецца са злучаных 2 прамавугольных у плане аб'ёмаў: 3-павярховага (гал. фасадам выходзіць на Савецкую пл.) і 2-павярховага (бакавым падоўжаным фасадам выходзіць на вул. Ленінскую). Гал. тарцовы фасад карнізнымі паясамі (цягамі) падзелены на 3 ярусы. 1-ы ярус больш масіўны, з 4 руставанымі пілонамі, мае невял. спараныя арачныя вокны абапал параднага ўвахода. 2-і ярус вылучае група парадных памяшканняў, вырашаны ён больш багата: паміж падвойнымі пілонамі — высокія арачныя спараныя вокны-біфорыумы, аздобленыя архівольтамі, калонамі, сандрыкамі. 3-і ярус рытмічна расчлянёны невял. прамавугольнымі вокнамі, згрупаванымі па 3. Сцены завершаны высокім складаным па форме прафіляваным карнізам. Бакавы 2-павярховы аб'ём рытмічна расчлянёны прамавугольнымі і арачнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі, падзелены карнізным поясам на 2 часткі. Планіроўка анфіладная (у 3-павярховай тарцовай частцы) і калідорная (у 2-павярховай частцы). 15(28).12.1917 у будынку гарадской управы адбыўся 2-і губернскі з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З 1956 у будынку знаходзіцца Дом культуры будтрэста № 12. *Т. І. Чарняўская.*



Комплекс духоўнай семінарыі і архірэйскага двара. Рэканструкцыя 1853.

**МАГІЛЁЎСКАЙ ДУХОЎНАЙ СЕМІНАРЫІ БУДЫНКІ,** архітэктурны комплекс канца 18 — сярэдзіны 19 ст. Духоўная семінарыя ў Магілёве створана архіепіскапам Георгіем Каніскім (пры ім распачата буд-ва асн. вучэбнага корпуса і дома-інтэрната). У 1780—85 узведзены вучэбны корпус семінарыі паводле праекта арх. М. Львова (не захаваўся). Размешчаны ўздоўж землянога вала, гал. фасадам павернуты да вул. Ветранай (сучасная Ленінская); уваходзіў у ансамбль *Магілёўскага Спаскага манастыра.* Мураваны 2-павярховы будынак у стылі класіцызму. У цэнтр. частцы — парадная лесвіца з вестыбюлем і круглае ў плане памяшканне, у якім знаходзілася на 1-м паверсе б-ка, на 2-м — зала для сходаў («круглая зала»), дэкарыраваная пілястрамі іанічнага ордэра. У бакавых частках былі класныя памяшканні. Гал. фасад вылучаў порцік дарычнага ордэра, завершаны франтонам, з 3 прамавугольнымі нішамі. Насупраць вучэбнага корпуса размешчаны 2-павярховы дом для настаўнікаў і казённых выхаванцаў (пабудаваны да 1795). Уяўляў сабой тып багатага гарадскога дома: асіметрычнае аб'ёмна-прасторавае вырашэнне, спалучэнне мураванага масіўнага каркаса з сістэмай драўляных галерэй, высокі дах. З 1797 буд-ва семінарыі працягваў архіепіскап Анастасій Братаноўскі. Ён набыў зямельны ўчастак з 2 драўлянымі 1-павярховымі жылымі корпусамі для выхаванцаў і 1-павярховы мураваны дом на вул. Ветранай — дом для рэктара і прэфекта. Уяўляў сабой тып гарадскога жылога дома, пабудаваны ў стылі ранняга класіцызму: плоскі, гарызантальна выцягнуты фасад раўнамерна прарэзаны вокнамі, тонкая графічная прарысоўка, дэкар. дэталі (руст, падаконныя нішы, ліштвы, ляпныя драпіроўкі, злучэнне франтона са ступеньчатым атыкам).

Да канца 1820-х гадоў будынкі семінарыі былі аб'яднаны ў асобны комплекс. Паводле архіўных чарцяжоў губернскага архітэктара Заржэўскага, ён быў аддзелены ад Спаскага манастыра і архірэйскага двара садам і службовымі пабудовамі; быў зроблены ўваход з боку Ветранай вул. На чарцяжы нанесены 2 невял. корпусы новага тыпу гарадской забудовы. Адзін з іх — драўляны П-падобны ў плане будынак у стылі ранняга ампіру, у ім знаходзіліся бальніца з лазняй і свіран. Да пач. 1850-х гадоў, паводле архіўных чарцяжоў губернскага



**Магілёўскай духоўнай семінарыі будынкі.** Дом для настаўнікаў і казённых выхаванцаў. Чарцёж.

архітэктара Пятрова, склалася новая забудова комплексу семінарыі. Уключаў 2 новыя 2-павярховыя мураваныя флігелі для жылля настаўнікаў і выхаванцаў, б. дом купца Кітаева (набыты для семінарыі, захаваўся па вул. Ленінскай, 15). Дом — невял. кампактны 2-павярховы будынак, прамавугольны ў плане, з высокім цокальным паверхам, у ім размяшчаўся семінарскі архіў; з боку дваровага фасада знаходзіцца галерэя — уваход у пакоі 2-га паверха, дзе былі кватэра аканома і кладоўка.

Паводле плана 1853 праведзена рэканструкцыя ансамбля семінарыі, які набыў замкнёную кампазіцыю. Цэнтрам яго па-ранейшаму заставаўся вучэбны корпус, перад ім сфарміравалася трапецападобная



**Магілёўскай духоўнай семінарыі будынкі.** Дом для рэктара і прэфекта. Чарцёж.

плошча, якая знаходзілася нібыта ў сярэдзіне квартала. Фарміраванне фронту забудовы вул. Малая Садовая (б. Ветраная) завяршылася пабудовай уязной брамы.

*В. Ф. Марозаў, І. М. Слюнькова.*

**МАГІЛЁЎСКАЙ ЖАНОЧАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Узведзены ў 1875 з цэглы на Дняпроўскім праспекце (сучасная вул. Першамайская, 24). 3-павярховы Г-падобны ў плане будынак са скошанай плоскасцю вуглавой часткі. Паверхі аддзелены прафіляванымі паяскамі. Сцены 1-га паверха пакрыты рустам, астатніх — гладкія, завершаны шырокім прафіляваным карнізам. Аконныя праёмы прамавугольныя ў простых ліштвах, на 2-м і 3-м паверхах дэкарыраваны сандрыкамі. Цяпер у будынку размешчана сярэдняя школа № 1.

*Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАЙ МІКАЛАЕЎСКАЙ ЦАРКВЫ КОМПЛЕКС,** помнік архітэктуры барока. Размешчаны ў пойме Дняпра (вул. 1-й Волі) на агароджанай тэрыторыі. Складаецца з шэрагу мураваных пабудоў: Мікалаеўскай і Ануфрыеўскай цэркваў, жылога дома (шпіталь), званіцы, агароджы з уязной брамай. Мікалаеўская царква. У 1636 кароль Уладзіслаў IV даў прывілей мітрапаліту Пятру Магіле на буд-ва ў Магілёве царквы св. Мікалая. Спачатку была ўзведзена драўляная царква і адначасова драўляныя манаскія келлі. Мураваная пабудавана на месцы драўлянай у 1669—72. Трохапсідная крыжова-купальная базіліка з 8-гранным светлавым барабанам і цыбулепадобным купалам над сяродкрыжжам. Гал. фасад падзелены карнізамі на 3 гарызантальныя ярусы і завершаны 2 вежамі з фігурным франтонам паміж імі. Першы (ніжні) ярус — масіўны, аздоблены 3 паўцыркульнымі нішамі, другі аздоблены «глухой» аркатурай з ляпным раслінным арнаментам і спаранымі нішамі з гіркамі, у трэцім — такі ж аркатурны матыў больш насычаны дэкар. аздобай. Гал. ўваход вылучаны 8-гранным тамбурам (позняя пабудова). Бакавыя фасады дэкарыраваны высокімі пілястрамі, крылы трансепта завершаны фігурнымі шчытамі. У інтэр'еры 2 рады калон падзяляюць прастору на 3 нефы. Цэнтр. неф і трансепт перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, бакавыя нефы — крыжовымі. Над уваходам размешчаны хоры. 4-ярусны іканастас (скразная разьба па дрэве, пазалота) выкананы мясцовымі майстрамі. Скляпенні купала ўпрыгожаны фрэскавай кампазіцыяй канца 17 ст. «Тройца новазапаветная», на ветразях выявы 4 евангелістаў з сімваламі. Сюжэтныя сцэны на біблейскія і евангельскія тэмы, размешчаны на 2 узроўнях паміж аконнымі праёмамі барабана (зберaглося 19 кампазіцый), створаны ў 1-й пал. 18 ст. У алтарнай частцы — сюжэтны і арнаментальны жывапіс канца 18 — пач. 19 ст. Размалёўкі зроблены ў тэхніцы фрэскі і клеявымі фарбамі. Колеравая гама стрыманая светлая,



**Магілёўскай Мікалаеўскай царквы комплекс.**



**Магілёўскай жаночай гімназіі будынак.**



**Магілёўскай Мікалаеўскай царквы комплекс.** Падоўжны разрэз Мікалаеўскай царквы.

цёплых тонаў; пераважаюць вохра з адценнямі, ружова-чорны, жоўта-карычневы колер з дамешкам зялёнага, блакітна-сіняга. Тыпаж простанародны, у сцены ўведзены скупы пейзаж. Размалёўкі сцен зберагліся часткова. **Ануфрыеўская царква** пабудавана ў 1798 побач з Мікалаеўскай, з'яўляецца «цёплай» (зімовай). Уяўляе сабой крыжова-купальны аб'ём, над сяродкрыжжам — светлавы цыліндрычны барабан, завершаны сферычным купалам. Крылы трансепта завершаны 3-вугольнымі франтонамі і дэкарыраваны пілястрамі. **Жылы дом** узведзены ў 17 ст. як шпіталь і царкоўны жылы дом. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак далучаны да паўд. боку агароджы. Тарцовы фасад завершаны шчытом фігурнага абрысу і дэкарыраваны 3 спаранымі арачнымі нішамі. **Агароджа з брамай** будавалася ў 17—18 стагоддзях. Уяўляе сабой мураваную глухую сцяну, якая абкружае трапецападобную тэрыторыю, дэкарыраваную аркатурным поясам, мае 2 ўваходы (з зах. і ўсх. бакоў). Заходні — гал. ўязная брама з лучковым праёмам. У паўд.-ўсх. баку агароджы ўбудавана аднапавярховая квадратная ў плане шатровая капліца. **Званіца** ўзведзена ў 17—18 стагоддзях у паўд.-зах. баку агароджы. Квадратнае ў плане двух'яруснае збудаванне з высокім шатровым дахам. Першы чацверыковы ярус — глухі, грані дэкарыраваны арачнымі нішамі, вуглы — пілястрамі, другі — 6-гранны, мае арачныя праёмы (праз адну на кожнай грані). Комплекс пашкоджаны ў Вял. Айч. вайну, у 1981 скончаны знешнія рэстаўрацыйныя работы, завяршаюцца работы па аднаўленні манум. жывапісу ў інтэр'еры Мікалаеўскай царквы. Цэрквы на рэстаўрацыі (1990). Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАЙ МУЖЧЫНСКАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры класіцызму. Узведзены ў 1809 на цэнтр. вуліцы горада Ветранай (сучасная вул. Ленінская, 41). 2-павярховы Г-падобны ў плане мураваны будынак, да прамавугольнага асн. аб'ёму з боку дваровага фасада прылягае кароткае крыло. Гал. фасад вылучаны 3 несапраўднымі рызалітамі (цэнтральны з уваходам і 2 бакавыя), пакрытыя рустам. Паверхі аддзелены карнізным пояскам. Сцены рытмічна расчлянёныя прамавугольнымі аконнымі праёмамі з простымі ліштвамі, завершаны тонкапрафіляваным карнізам. Планіроўка калідорная. У 19 ст. будынак быў пашкоджаны пажарам, неаднаразова перабудоўваўся. Цяпер у ім размешчана сярэдняя школа № 3. Помнік рэспубліканскага значэння.



Панарама забудовы **Магілёўскай Губернатарскай плошчы** з боку старажытнага замка. З акварэлі канца 18 ст.

**МАГІЛЁЎСКАЯ ГУБЕРНАТАРСКАЯ ПЛОШЧА** (сучасная **Савецкая плошча**), горадабудаўнічы ансамбль 18 — канца 19 ст. На высокім правым беразе Дняпра; ад плошчы адыходзіць *Першамайская вуліца* (б. Шклоўская, Дняпроўскі праспект), якая звязвае цэнтр горада з Прывакзальнай пл. Сфарміравалася да 1526 паміж *Магілёўскім замкам* і гандл.-рамесным пасадам як гандлёвая плошча. З 2-й пал. 17 ст., калі ў цэнтры яе была пабудавана мураваная *Магілёўская ратуша*, стала асн. адміністрацыйным і грамадскім цэнтрам горада. У канцы 18 — сярэдзіне 19 ст. на плошчы сфарміраваўся новы мураваны ансамбль грамадскіх будынкаў, з гэтага часу наз. Губернатарскай. Плошча ў плане мела форму няправільнага многавугольніка. Кампазіцыйным цэнтрам была ратуша, каля якой размяшчаліся ва ўсх. частцы *Магілёўскі дом губернатара* і *Магілёўскага губернскага праўлення будынак*, аб'яднаныя манументальнай брамай, у заходняй — *Магілёўскі дом віцэ-губернатара і двух саветнікаў*, будынак ніжняга суда, урачэбнай управы і архівы (з 1883 *Магілёўскага акруговага суда будынак*). У паўд. частцы на месцы стараж. замка быў разбіты гарадскі сквер (сфарміраваўся ў канцы 19 ст., цяпер парк культуры і адпачынку імя М. Горкага). У 2-й пал. 19 ст. на прылеглых вуліцах (Дняпроўскім праспекце і вул. Ветранай, сучасная Ленінская) пабудаваны 2 мураваныя 3-павярховыя жылыя дамы, якія тарцовымі фасадамі выходзілі на плошчу (захаваўся д. № 1 па вул. Ленінскай, б. *Магілёўскай гарадской управы будынак*). У гады Айч. вайны ансамбль плошчы разбураны (захаваліся будынкі гарадской управы і акруговага суда). Паводле 1-га пасляваеннага праекта рэканструкцыі плошчы 1956 («Белдзяржпраект») яна ўключана ў зону адпачынку, на плошчы спынены транспартны рух. У 1952—55 у паўн.-ўсх. частцы пабудаваны 5-павярховыя мураваныя жылыя дамы. У 1982 у цэнтры плошчы ўзведзены мемарыяльны комплекс *«Змагарам за Савецкую ўладу»*.

*Т. І. Чарняўская.*



**Магілёўскай мужчынскай гімназіі будынак.**

**МАГІЛЁЎСКАЯ МЕМАРЫЯЛЬНАЯ АРКА.** Узведзена ў 1780 на *Магілёўскай Саборнай плошчы* насупраць Іосіфаўскага сабора (цяпер па вул. Першамайскай у скверы імя І. С. Лазарэнкі). У 1950-я гады рэстаўрыравана. Прамавугольная ў плане сцяна з 2 выступамі-рызалітамі завершана шырокім прафіляваным карнізам і ламаным франтонам, па тарцах — 2 калоны карынфскага ордэра з антаблементамі. У 1964 на тарцы ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі ў гонар часцей



Магілёўская мемарыяльная арка.



Магілёўская Пакроўская царква. Чарцёж бакавога фасада.

2-га Бел. фронту, якія ўдзельнічалі ў вызваленні горада ад ням.-фаш. захопнікаў 28.6.1944.

**МАГІЛЁЎСКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў канцы 17 — пач. 20 ст. ў Магілёве. Пабудавана з цэглы ў традыцыях *Магілёўскай школы дойлідства.* Прамавугольны ў плане крыжова-купальны храм. Ва ўсх. частцы ён завяршаўся 3 паўцыліндрычнымі апсідамі, у заходняй — прытворам і 2 рызніцамі па баках асн. аб'ёму. Над сяродкрыжжам узвышаўся 8-гранны светлавы барабан, накрыты сферычным купалам з цыбулепадобнай галоўкай на высокай 8-граннай шыйцы. Тарцы асн. аб'ёму і крылы трансептаў завяршаліся 3-вугольнымі франтонамі з паўцыркульнымі нішамі ў цэнтры. Вуглы аб'ёмаў і сцены рызніц былі дэкарыраваны пілястрамі, аконныя праёмы мелі паўцыркульную форму. Па перыметры будынак быў апяразаны тонкапрафіляваным карнізам. У інтэр'еры 4 масіўныя слупы пры дапамозе ветразяў падтрымлівалі барабан купала.

*Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ РАТУША.** Існавала ў 17—20 стагоддзях на цэнтр. плошчы Магілёва — Гандлёвай (з 19 ст. наз. Губернатарская, сучасная Савецкая). У канцы 17 ст. ратуша — мураваны 2-павярховы будынак з 8-граннай 5-яруснай вежай пасярэдзіне гал. фасада. У 1679—81 пад кіраўніцтвам майстра Феські збудаваны прамавугольны ў плане (28×10,5) будынак ратушы. У 1682—86 майстрам Крузбергам з Быхава ўзведзена вежа на выш. каля 26 м, абвалілася. У чэрвені 1692 пасля разборкі муроў 1-й вежы майстрам Ігнатам з арцеллю ўзведзена новая вежа выш. да 38 м. Разам са званіцай Богаяўленскага сабора ратушная вежа з'яўлялася асн. вертыкальнай дамінантай горада. Як сведчаць гіст. і археал. матэрыялы, у ратушы знаходзіліся: на 1-м паверсе сені, вял. «ізба» (адбываліся суды пад кіраўніцтвам войта), канцылярыя і «ратушная святліца», дзе захоўваліся бягучыя справы магістрата; на 2-м паверсе сені, судовая «ізба» (магістрацкія суды), вял. зала (пасяджэнні магістрата) і дапаможныя памяшканні; у цокальным паўпадвальным паверсе скарбніца, склады і астрог. Памяшканні ацяпляліся кафлянымі печамі, аздобленымі тэракотавай і зялёнай паліванай кафляй. Верагодна, што 1-ы паверх быў перакрыты скляпеннямі. На 2-і паверх вялі лесвіцы, аздобленыя разнымі драўлянымі балясамі. Вокны з невял. круглаватымі шыбамі мелі прыгожыя алавяныя рамы-аканіцы. Падлога зроблена са спец. цэглы, сцены пабеленыя. Звонку ратуша была атынкаваная, былі 2 ганкі — нізкі і высокі парадны (з боку гал. і дваровага фасадаў). Вежа 5-ярусная, завяршалася гранёным купалам са шпілем, мела балкон з металічнымі кратамі, вял. гадзіннік (паводле архіўнага здымка пач. 20 ст., быў на вежы ў 2-й пал. 17 ст.). Стромкі дах ратушы накрыты плоскай чырвонай дахоўкай, аздоблены пазалочанымі флюгерамі-ветранікамі на франтоне, на дахах ганкаў і на вежавым шпілі.



Магілёўская ратуша. Фота пачатку 20 ст.

У 1773 ратуша капітальна перабудавана, дах накрыты бляхай. Архітэктура яе фасадаў стала адпавядаць узведзеным побач на плошчы ў стылі класіцызму дамам губернатара і віцэ-губернатара: шырокі гарызантальны пояс, які падзяляў паверхі будынкаў, рустоўка ніжняга паверха, ліштвы акон 2-га паверха. У такім выглядзе ратуша захавалася да Айч. вайны, у час якой была моцна пашкоджана; у 1957 знесена.

На месцы, дзе стаяла ратуша, праведзены археал. раскопкі. У 1979 А. Трусавым выяўлены падмуркі (глыб. 30—70 см) і рэшткі сцен (шыр. 105—115 см), зробленыя з тонкай (5—5,6 см) цэглы пальчаткі ў тэхніцы муроўкі (рад лажкоў, рад тычкоў). Падмуркі складзены з вял. камянёў, прамежкі закладзены цэглай на вапнавым растворы. Каля гал. фасада выяўлены рэшткі цаглянага ганка. Знойдзены таксама кафлі з раслінным і геаметрычным арнаментам, паліваныя куфлі з выявай стараж. герба Магілёва і вял. колькасць вырабаў са шкла 16—19 стагоддзяў. У 1984 І. Чарняўскім раскапаны рэшткі параднага ганка ратушы. Паводле архіўных і археал. матэрыялаў створаны праект адбудовы ратушы (у ёй плануецца размясціць Палац шлюбу).

*А. А. Трусаў.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ САБОРНАЯ ПЛОШЧА** (сучасная плошча перад гасцініцай «Днепр»), горадабудаўнічы ансамбль канца 18—1-й пал. 19 ст. Сфарміравалася па вул. Шклоўскай (цяпер Першамайская) паводле праектаў архітэктараў М. Львова і В. Стасава. Плошча ў плане мела форму эліпса. Кампазіцыйным цэнтрам яе быў *Магілёўскі Іосіфаўскі сабор*, па баках яго знаходзіліся 1-павярховыя флігелі з вежамі-ратондамі, злучаныя з саборам мураванай сцяной з мета-



Магілёўская Саборная плошча. З акварэлі 18 ст.



Магілёўская сядзіба «Піпенберг». Чарцёж галоўнага фасада сядзібнага дома.

лічнымі ажурнымі кратамі. На адной восі з саборам насупраць яго ў 1780 пабудавана манум. брама (гл. *Магілёўская мемарыяльная арка*) з 2 невял. флігелямі па баках (звязаны з брамай такой жа агароджай). У 1820—30-я гады ансамбль плошчы быў завершаны ўзвядзеннем *Магілёўскага манежа будынкам* (на процілеглым баку ад сабора), за ім былі знесены старыя драўляныя пабудовы і разбіты гарадскі сквер. Плошча атрымала замкнёную кампазіцыю, мела гал. кампазіцыйны цэнтр, што было характэрна для архітэктуры класіцызму. Ансамбль плошчы не захаваўся. *Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ СЯДЗІБА «ПІПЕНБЕРГ».** Існавала ў канцы 18—19 ст. на ўскраіне Магілёва. Належала ген.-губернатару Пасеку, затым куплена Янчыным, які пазней падараваў сядзібу для гал. штабкватэры рус. арміі. У канцы 19 ст. належала жаночаму пансіянату. Ансамбль сядзібы размяшчаўся на 2 тэрасах правага берага Дняпра. На верхняй тэрасе па-над прамавугольным ставам стаяў сядзібны дом у стылі класіцызму з элементамі несапраўднай готыкі, на ніжняй — натуральныя і штучныя пасадкі, творы архітэктуры малых форм (альтанкі, капліцы, статуі, амфітэатры і інш.). Цэнтр ансамбля — 3-павярховы мураваны прамавугольны ў плане сядзібны дом у стылі класіцызму (1780-я гады) з сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй (захаваліся падмуркі). Цэнтр гал. фасада, арыентаванага на раку, быў вылучаны плоскім рызалітам, 8-калонным порцікам і завяршаўся паўфрантонам. Вокны 1-га паверха прамавугольныя, 2-га і 3-га — стральчатыя. Планіроўка мяшаная, у цэнтры размяшчалася прамавугольная ў плане парадная зала з выхадам на балкон. Вестыбюль, лесвіцы і іншыя дапаможныя памяшканні згрупаваны ў частцы дваравога фасада. Сядзіба не збераглася. Уцалелі рэшткі падмуркаў, часткова збярогся парк. *В. Ф. Марозаў.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў 17 — пач. 20 ст. Пабудавана ў 1670 у стылі барока, на паўд.-ўсх. ускраіне Магілёва непадалёку ад Дняпра, у комплексе з невял. «цёплай» царквой і званіцай. У храме выявіліся рысы *Магілёўскай школы дойлідства.* Мураваны 3-апсідны крыжова-купальны храм (у плане лацінскі крыж). Асн. аб'ёмы былі пакрыты ўзаемна перпендыкулярнымі 2-схільнымі дахамі з 3-вугольнымі франтонамі на тарцах. На сяродкрыжжы на масіўным шматгранным барабане купал з галоўкай. Невял. паўцыркульныя апсіды, бакавыя ўваходныя тамбуры, якія прылягалі да крылаў трансепта, і гранёны тамбур гал. ўвахода дапаўнялі кампазіцыю і падкрэслівалі яе крыжова-цэнтрычны характар. Сцены былі расчлянёны пілястрамі і прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі ў арачных нішах. Асн. неф быў перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, крылы трансепта — крыжовымі скляпеннямі. Не збераглася. *Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ ШКОЛА ДОЙЛІДСТВА.** Склалася ў 17—18 стагоддзях у грамадскім і культавым дойлідстве Магілёва. Фарміраванне самастойнай школы ў Магілёве вызначалася высокім узроўнем эканамічнага развіцця, адноснай палітычнай незалежнасцю горада, наяўнасцю значных калектываў дойлідаў, жывапісцаў, сніцараў і інш. майстроў (акрамя архітэктурнай, сфарміраваліся таксама самабытныя жывапісная і гравёрная школы). У культурных адносінах Магілёў сінтэзаваў усх. і зах. плыні, якія спалучаліся з мясцовымі традыцыямі і спрыялі стварэнню своеасаблівасці мастацкай культуры. На фарміраванне архіт.-маст. вобразу збудаванняў М. ш. д. моцна ўплывалі ландшафтныя ўмовы забудовы горада, якія дыктавалі перавагу вышынных ярусных кампазіцый (вежы *Магілёўскага замка, Магілёўскай ратушы* і інш.). На першым этапе (17 ст.) вял. ўплыў на творчасць майстроў школы зрабіў стыль рэнесанс, на аснове якога выпрацаваны важнейшыя прыёмы стварэння кам-



Магілёўская Успенская царква. Чарцёж бакавога фасада.

пазіцый і ў дэкоры (багаты дэкор мелі не толькі буйныя грамадзянскія і культавыя збудаванні, але і многія жылыя дамы). У 18 ст. школа развівалася пад уплывам стылю барока, які ўзбагаціў сродкі выразнасці, яшчэ больш павысіў ролю дэкору ў аздабленні фасадаў і інтэр'ераў будынкаў. Найбольш значныя дасягненні школы — у мураваным культавым дойлідстве. Храмы звычайна будавалі крыжова-цэнтрычныя, з купалам над сяродкрыжжам (Пакроўская і Успенская цэрквы). Характэрная рыса культавых збудаванняў М. ш. д. — сінтэз структур стараж.-рус. 3-апсідных крыжова-купальных храмаў і зах.-еўрапейскіх 3-нефавых базілік. Найбольш выразна традыцыі школы ўвасоблены ў цэрквах Богаяўленскай, Мікалаеўскай і Спаса-Праабражэнскай, у якіх крыжова-цэнтрычная кампазіцыя спалучалася з асіметрычнай базілікальнай, а архіт. дамінанта — 2-вежавы гал. фасад, аздоблены сістэмай паярусна размешчаных рознай формы нішаў. Асн. маст. ролю ў інтэр'еры адыгрывалі разныя іканастасы, алтары,ківоты і інш. элементы, выразаныя ў традыцыях так званай бел. рэзі. У 2-й пал. 18 ст. школа заняпала і перастала існаваць. Збярогся помнік М. ш. д. — Мікалаеўская царква (гл. ў арт. *Ма-*



Магілёўскі адміністрацыйны будынак.

гілёўскай Мікалаеўскай царквы комплекс). *Ю. А. Якімовіч.*

**МАГІЛЁЎСКІ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1938—41 (арх. П. Абросімаў). Уваходзіць у ансамбль *Леніна плошчы.* Да Айч. вайны ў ім размяшчалася Магілёўская міжкраявая школа НКУС—НКДБ. 12.6.1941 у будынку школы сфарміраваны полк нар. апалчэння. З 1961 тут размешчаны гал. корпус машынабудаўнічага ін-та. 5-павярховы П-падобны ў плане будынак, у будаўніцтве якога выкарыстаны прыёмы класічнай ордэрнай архітэктуры. Гал. фасад, што выходзіць на плошчу, фланкіраваны 2 рызалітамі, вырашанымі ў выглядзе калонных порцікаў з 6 калонамі карынфскага ордэра (крайнія — падвойныя) на вышыню 4 паверхаў. 1-ы паверх, абліцаваны гранітам, трактуецца як цокаль. Шырокая частка фасада паміж рызалітамі рытмічна расчлянёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі, паміж якімі размешчаны пілястры карынфскага ордэра. Сцены завершаны прафіляваным карнізам і атыкам. Планіроўка калідорная, па цэнтры будынка 3-маршавая лесвіца. У 1970-я гады да галоўнага прыбудаваны спартыўна-клубны корпус (арх. М. Семяненка, А. Кучарэнка), фасады якога афармлены лапаткамі і завершаны карнізам. Помнік рэспубліканскага значэння. *В. Б. Ангелаў.*

**МАГІЛЁЎСКІ АЛЯКСАНДРАЎСКІ ПАЛАЦ,** дом Пасекавай. Існаваў у канцы 18—19 ст. Пабудаваны ў 1780 у стылі класіцызму як рэзідэнцыя Кацярыны II (у Магілёве адбылася яе сустрэча з аўстрыйскім імператарам Іосіфам II). Знаходзіўся ў глыбіні Саборнай пл. за Іосіфаўскім саборам, гал. фасадам выходзіў на вул. Шклоўскую (сучасная Першамайская). Драўляны 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з паўпадвальным паверхам, накрыты вальмавым дахам. Гал. фасад быў багата аздоблены: вял. прамавугольныя вокны з ліштвамі і сандрыкамі, яго вылучалі 3 рызаліты: цэнтральны завяршаўся франтонам, бакавыя — упрыгожаны пілястрамі дарычнага ордэра, прафіляваным карнізам з трыгліфным фрызам. Планіроўка анфіладная зараднымі памяшканнямі ў цэнтр. частцы. У 1808 палац занепаў. У 1815 зроблены яго чарцёж (з натуры) настаўнікам (у архіўных матэрыялах ёсць хадайніцтва аб перадачы будынка Віленскаму ун-ту і стварэнні ў ім губ. гімназіі). Палац адзначаны на генплане горада 1842. *В. Ф. Марозаў.*



**Магілёўскі Аляксандраўскі палац.** Чарцёж галоўнага фасада.

**МАГІЛЁЎСКІ АРХІЕПІСКАПСКІ ПАЛАЦ,** помнік архітэктуры класіцызму. Разам з архіт. ансамблем Магілёўскага Спаскага манастыра і *Магілёўскай духоўнай семінарыі будынкамі* складаў адзіны горадабудаўнічы комплекс. З'яўляўся рэзідэнцыяй каталіцкага архіепіскапа Станіслава Богуш-Сестранцэвіча (да. 1827). Пабудаваны ў 1780-я гады. Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак з 2 невял. бакавымі крыламі, накрыты вальмавым дахам. Гал. фасад (з 3 плоскімі рызалітамі) арыентаваны ў бок Дняпра, тарцовы фасад — на вул. Ветраную (сучасная вул. Ленінская, 25). Цэнтр. рызаліт за-



**Магілёўскі архіепіскапскі палац.** Тарцовы фасад.

вершаны прамавугольным атыкам, бакавыя — 3-вугольнымі франтонамі. Паверхі вылучаны развітымі гарызантальнымі цягамі, ніжні паверх аздоблены рустам, верхні — пілястрамі. Вокны прамавугольныя, з разнастайным абрамленнем. Планіроўка анфіладная з цэнтр. вестыбюлем і 3-маршавай лесвіцай (зменена). На 1-м паверсе знаходзіліся службовыя і гасп. памяшканні, на 2-м — пакоі архіепіскапа (спальня, гасціная, б-ка, кабінет, вял. зала), у зах. крыле — капліца (займала 2 паверхі). Дваровым фасадам будынак выходзіў у сад, дзе знаходзіліся карпусы духоўнай кансісторыі (не захаваліся). Цяпер у будынку размешчана спецыяльная дзіцяча-юнацкая спарт. школа № 6. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКІ АРХІРЭЙСКІ ПАЛАЦ,** помнік архітэктуры позняга барока. Уваходзіў у архіт. ансамбль *Магілёўскага Спаскага манастыра,* разам з якім і *Магілёўскай духоўнай семінарыі будынкамі* складаў адзіны горадабудаўнічы комплекс. З'яўляўся рэзідэнцыяй праваслаўнага архіепіскапа Георгія Каніскага ў 1785—95 (па ініцыятыве якога і быў пабудаваны), з 1797 Анастасія Братаноўскага. Узведзены на архірэйскім двары ў 1762—85 паводле праекта арх. І. К. Глаўбіца. Размяшчаўся ў глыбіні квартала на высокім беразе Дняпра, гал. фасадам быў арыентаваны ў бок вул. Ветранай (сучасная Ленінская). Мураваны 3-павярховы будынак (3-і паверх — атыкавы ў цэнтр. частцы), прамавугольны ў плане з сіметрычнымі 2-павярховымі рызалітамі па баках, накрыты высокім ламаным дахам. Гал. і дваровы фасады (з глыбокім гарызантальным рустам сцен, руставанымі пілястрамі на вуглах) маюць крывалінейныя пераходы да рызалітаў, прамавугольныя аконныя праёмы з ліштвамі, філянговыя нішы, тонкапрафіляваныя карнізы. Гал. ўваход (з боку архірэйскага двара) вылучаны арачным парталам з казырком на металічных калонках. У інтэр'еры цэнтр. месца займаў вестыбюль з 3-маршавай лесвіцай. На 1-м паверсе знаходзіліся парадная зала для прыёмаў і службовыя пакоі, на 2-м — пакоі архіепіскага (спальня, кабінет, б-ка), на 3-м — гасп. памяшканні. У 1918 у будынку размяшчалася Магілёўская губчэка. У далейшым унутраная планіроўка была часткова зменена. Палац выкарыстоўваецца як жылы дом. Помнік рэспубліканскага значэння. Пасля 1853 на тэр. архірэйскага двара (на вул. Ветранай, на гал. восі палаца) як гал. ўезд пабудавана мураваная брама: 2 масіўныя пілоны, аздобленыя 2 дарычнымі паўкалонамі і завершаныя франтонамі, накрыты 2-схільнымі дахамі; да іх паўкругам далучаны мураваныя слупы, аб'яднаныя ажурнай металічнай агароджай. Брама — помнік архітэктуры малых форм.

*Т. І. Чарняўская.*



Магілёўскі архірэйскі палац.

**МАГІЛЁЎСКІ БОГАЯЎЛЕНСКІ МАНАСТЫР.** Існаваў у Магілёве ў 17—20 стагоддзях. Адзін з буйнейшых праваслаўных манастыроў на Беларусі. З ім звязана дзейнасць магілёўскага праваслаўнага брацтва, пераведзенага з *Магілёўскага Спаскага манастыра.* У канцы 18 ст. манастырскі комплекс складалі мураваныя цэрквы Богаяўленская і «цёплая» (зімовая) Іаана Багаслова, пабудаваная ў канцы 1630-х гадоў, званіца, будынак брацкай друкарні, крамы, драўляныя будынкі шпіталя, дома настаяцеля, гасп. пабудовы. Буд-ва манастыра пачата ў 1618 на месцы дома з пляцам (на вул. Шклоўскай, цяпер Першамайская), купленага ў княгіні Саламярэцкай (фундатар кн. Ян Агінскі). Богаяўленская царква пабудавана Варламам Палоўкам і Арсеніем Азаровічам у 1633—36 у стылі ранняга барока паводле прывілея на новую забудову, падпісанага каралём Уладзіславам IV. Царква — мураваная 3-вежавая 3-апсідная 10-стаўповая крыжова-купальная базіліка з 8-гранным барабанам і купалам (пастаўлены ў 1700) над сяродкрыжжам. Гал. фасад (перабудаваны ў 18 ст.) меў ярусную кампазіцыю, завяршаўся 2 вежамі і фігурным франтонам паміж імі. Верхні ярус быў аздоблены плоскімі арачнымі нішамі з гіркамі. Інтэр'ер быў багата размаляваны, меў пазалочаны разны іканастас (17—18 стагоддзі) работы мясцовых майстроў з абразамі іканапісца Афанасія Пігарэвіча



**Магілёўскі Богаяўленскі манастыр.** Галоўны фасад сабора. Фота пачатку 20 ст.

і інш. у сярэбраных абкладах (1755) работы магілёўскага чаканшчыка Пятра Слізіка (Сліжыка). У 1657 побач з царквой пачата буд-ва 4-яруснай вежы-званіцы, на якой у 1686 устаноўлены гадзіннік, зроблены манахам Макарыем. Царква разбуралася ў 1708 і 1748, у 1750—60 праводзіліся аднаўленчыя работы, з 1812 была паўразбурана, у 1850 поўнасцю адноўлена, у 1866 адноўлены мураваная брама і званіца. Архітэктурна-прасторавая кампазіцыя царквы аказала значны ўплыў на архіт. аблічча шэрагу праваслаўных храмаў Беларусі. У 1928 абедзве царквы былі закрыты, у іх будынках размяшчаліся цэнтр. архівы БССР. Комплекс разбураны ў Вял. Айч. вайну. *Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКІ ГІСТАРЫЧНЫ ЦЭНТР,** помнік горадабудаўніцтва 16 — 20 стагоддзяў. Уключае мураваныя грамадскія і жылыя будынкі — помнікі гісторыі і архітэктуры. Складаецца з 2 частак: цэнтральнай, абмежаванай рэкамі Дняпро (Пд) і Дзебра (У), вуліцамі Заводскай, Мянжынскага, Садовай (З) і Ціміразеўскай (Пн), і паўночнай — т. зв. Карабанаўскае прадмесце. Цэнтральная частка сфарміравалася на аснове стараж. пасадаў, да якіх далучаны кварталы пазнейшай забудовы. Вылучаюцца пасады Нагорскі (Нагорны, Стары горад), Шклоўскі, Пакроўскі і Задубровенскі.

Нагорскі пасад займае тэ-

рыторыю б. Нагорнага пасада, стараж. *Магілёўскага замка* (сучасная тэр. Парку імя М. Горкага) і гандл. плошчы (гл. *Магілёўская Губернатарская плошча,* сучасная Савецкая пл.). Абмежаваны Дняпром (Пд), вуліцамі Лазарэнкі (былыя Вялікакняжацкая, Віленская) і Камсамольскай (б. Дваранская; Пн), Вал Чырвонай Зоркі (б. Архірэйскі Вал; У) і Левая Дубровенка (З). Найбольш стараж. частка горада згадваецца ў дакументах 16—18 стагоддзяў. Тэрыторыя была абнесена Кругавым (Блізкім) абарончым валам. Да 17 ст. сфарміравалася радыяльная 2-прамянёвая планіроўка пасада. Ад Савецкай пл. адыходзяць 2 вуліцы: Першамайская (былыя Шклоўская, Дняпроўскі праспект, Ульянавай-Крупскай) — гал. гарадская магістраль і Ленінская (былыя Ветраная, Вял. Садовая). Захаваліся помнікі архітэктуры: *Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра будынак, Магілёўскага акруговага суда будынак, Магілёўскай гарадской управы будынак, Магілёўскі архірэйскі палац, Магілёўскі фарны касцёл,* мураваныя жылыя дамы 18 — пач. 20 ст. (гл. *Магілёўскія жылыя дамы*), рэшткі езуіцкага калегіума (гл. *Магілёўскі касцёл і калегіум езуітаў*) і *Магілёўскага Богаяўленскага манастыра,* падмуркі *Магілёўскай ратушы.* Ш к л о ў с к і  п а с а д займае тэрыторыю б. Шклоўскага пасада і яго расшыраную частку ў складзе Новага горада. Абмежаваны вуліцамі Лазарэнкі, Камсамольскай і Боткіна (б. Вял. Гваздоўка; Пд), Ціміразеўскай (б. Варанцоўскі зав.; Пн), Дзябранскі Яр (У) і р. Дубровенка (З). Тэрыторыя знаходзіцца паміж 2 абарончымі валамі (да вул. Міронава, б. Афіцэрская) — Кругавым (Блізкім) і Палявым (Далёкім). У канцы 18 — сярэдзіне 19 ст. частка Новага горада забудавана; у 1938—40 тут створаны ансамбль *Леніна плошчы,* пракладзена новая магістраль у шыротным напрамку — вул. Міру (сучасны праспект Міру). Асн. вуліцы — Першамайская і Ленінская, паралельныя ім вуліцы Піянерская (б. Малая Садовая) і К. Маркса (б. Зялёная), папярочныя К. Лібкнехта (былыя Паштовая, Пажарная) і Міронава. Захаваліся помнікі архітэктуры: Станіславаўскі касцёл (гл. *Магілёўскі касцёл кармелітаў), Магілёўскі архіепіскапскі палац, Магілёўскага банка будынак, Магілёўскага дваранскага сходу будынак, Магілёўскага пазямельна-сялянскага банка будынак, Магілёўскага крэдытнага таварыства будынак, Магілёўскага настаўніцкага інстытута будынак, Магілёўскай мужчынскай гімназіі будынак, Магілёўскай жаночай гімназіі будынак,* жылы корпус Спаскага манастыра, царква Трох свяцціцеляў (вул. Першамайская), ансамбль пл. Леніна, жылыя дамы 18 — пач. 20 ст. П а к р о ў с к і  п а с а д займае тэрыторыю б. Пакроўскага пасада. Абмежаваны рэкамі Дняпро (Пд) і Дзебра (У), з Пн вызначаны Нагорскім і Шклоўскім пасадамі. Забудаваны ў 16 — пач. 18 ст. ў паўн. частцы, мае нерэгулярную планіроўку. Асн. вуліца — Вял. Грамадзянская (б. Вял. Мяшчанская), паралельна якой праходзяць вуліцы Волі 1-я (б. Пакроўская і 1-я Нікалаеўская), 2-я (2-я Нікалаеўская) і інш. Паўд. частка — пойма Дняпра. Захаваліся помнікі архітэктуры: комплекс *Магілёўскай Мікалаеўскай царквы,* гарадская лазня, «мытны дом», «гасціны дом», «дом брацііі кушнерскага цэха», сінагога, яўр. школа, драўляныя жылыя дамы 19—20 стагоддзяў. З а д у б р о в е н с к і  пасад займае тэрыторыю на З ад р. Дубровенка. Абмежаваны рэкамі Дняпро (Пд) і Дубровенка (У), вуліцамі Заводскай (б. Папінская), Чэлюскінцаў (б. Быхаўская шаша), Мянжынскага (б. Малое Завалле), Лазарэнкі (з б. польскімі могілкамі) і Садовай (былыя завулкі Садоўскі і Пушкаровічаў; З), згадваецца ў пісьмовых крыніцах 16—18 стагоддзяў. Тут праходзіла частка Палявога вала. У канцы 17 — пач. 18 ст. былі 3 пасады: Віленскі (у паўн. частцы), Задубровенскі (у цэнтры) і Папінскі (у паўд. частцы), да іх далучана невял. тэрыторыя ўздоўж левага берага Дняпра і па вул. Заводскай. Асн. вуліцы — Лазарэнкі і Чэлюскінцаў, іх злучаюць папярочныя вуліцы Мянжынскага, Вароўскага (былыя вуліцы Быхаўская, Салтанаўская і Белградская) і інш. Захаваліся помнікі архітэктуры: Барысаглебская і Крыжаўзвіжанская цэрквы (гл. *Магілёўскія Барысаглебскія цэрквы), Магілёўскага жаночага епархіяльнага вучылішча будынак,* 2 капліцы на польскіх могілках, драўляныя і мураваныя дамы 19 — пач. 20 ст. К а р а б а н а ў с к а е  п р а д м е с ц е займае тэрыторыю б. паўночнай ускраіны горада. Уключае 3 часткі: раён Прывакзальнай пл., тэрыторыі ўздоўж вуліц Ніжнекарабанаўскай і Першамайскай. Абмежавана вуліцамі Першамайскай (У) і Віцебскі тупік (Пн), Карабанаўскай (Пд) і Сурганава (б. Пячорская шаша). Тэрыторыя пачала фарміравацца ў 2-й пал. 19 ст. Як архіт.-планіровачная структура склалася ў пач. 20 ст., калі з пракладкай чыгункі была ўтворана Прывакзальная пл. на Кацярынінскім тракце (з'яўляўся працягам Дняпроўскага праспекта, сучасная вул. Першамайская). Асн. вуліца — Першамайская, звязвае Прывакзальную пл. з цэнтрам горада. Захаваліся помнікі архітэктуры: комплексы будынкаў чыгуначнага вакзала і б. ваеннага шпіталя (вул. Сурганава), артылерыйскія казармы (вул. Крупскай), драўляныя жылыя дамы 19—20 стагоддзяў. Тэрыторыя гіст. забудовы горада вызначана паводле праекта «Пашпартызацыя гістарычна каштоўнай забудовы Магілёва 17—19 ст.», распрацаванага ў 1990 Магілёўскай абл. комплекснай праектнай майстэрняй вытв. аб'яднання «Белрэстаўрацыя» (аўтары арх. А. Юркавец, У. Ратомскі) разам з «Белрэстаўрацыяй» (аўтар В. Кукуня).

*Т. І. Чарняўская.*



**Магілёўскі дом віцэ-губернатара і двух саветнікаў.** Чарцёж галоўнага фасада.

**МАГІЛЁЎСКІ ДОМ ВІЦЭ-ГУБЕРНАТАРА І ДВУХ САВЕТНІКАЎ.** Пабудаваны ў 1770-я гады на *Магілёўскай Губернатарскай плошчы* (цяпер Савецкая) у стылі класіцызму. З'яўляўся рэзідэнцыяй вышэйшых службовых асоб губерні — віцэ-губернатара і саветнікаў. Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак са скошанымі вугламі (з боку вул. Шклоўскай) на невял. цокалі, быў завершаны вальмавым дахам. Гал. фасад вылучалі 3 з нязначным выступам рызаліты (у цэнтральным быў арачны праезд у двор), завершаныя невысокімі атыкамі з франтонамі. Вокны прамавугольныя. Карнізны пояс падзяляў фасады на 2 ярусы. Унутры дом папярочнымі сценамі падзяляўся на 3 часткі: у цэнтральнай былі апартаменты віцэ-губернатара, у бакавых — саветнікаў. Планіроўка анфіладная. Меліся гасп. пабудовы. Адпаведна планіроўцы дома і двор каменнымі сценамі таксама падзяляўся на 3 часткі. У савецкі час да Вял. Айч. вайны ў будынку размяшчаўся Дзярж. архіў Магілёўскай вобл. У чэрвені 1944 узарваны



Магілёўскі дом губернатара. Чарцёж галоўнага фасада.

ням.-фаш. захопнікамі пры адступленні з горада. *Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКІ ДОМ ГУБЕРНАТАРА.** Пабудаваны ў 1778 на *Магілёўскай Губернатарскай плошчы* (цяпер Савецкая) у стылі класіцызму. З'яўляўся рэзідэнцыяй магілёўскіх губернатараў, у т. л. ў 1872—93 А. С. Дамбавецкага. Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак, завершаны вальмавым дахам. Гал. фасад вылучалі 3 з нязначным выступам рызаліты (цэнтральны быў завершаны 3-вугольным франтонам, бакавыя аздоблены вуглавымі пілястрамі), падзелены карнізным поясам на 2 ярусы. Сцяна 1-га яруса аздоблена рустам. Рытм фасадаў стварала сетка прамавугольных аконных праёмаў, завершаных у 2-м ярусе плоскімі сандрыкамі, на цэнтр. рызаліце 3-вугольнымі франтончыкамі. На 1-м паверсе размяшчаліся жылыя і службовыя памяшканні, на 2-м — парадная зала, гасціная, сталовая, кабінет. Двор быў абнесены каменнай сцяной, да якой прыбудаваны стайня, свірны і інш. гасп. пабудовы. Уваход у двор з боку плошчы афармляла манум. брама ў выглядзе плоскага 4-калоннага порціка з арачным праездам у цэнтры, яна злучала дом з *Магілёўскім губернскага праўлення будынкам,* утвараючы адзіны ансамбль. У сав. час да Айч. вайны ў будынку размяшчаўся гарадскі Палац піянераў. У чэрвені 1944 узарваны ням.-фаш. захопнікамі пры адступленні з горада. *Т. І. Чарняўская.*



Магілёўскі Дом Саветаў.

**МАГІЛЁЎСКІ ДОМ САВЕТАЎ.** Уваходзіць у архіт. ансамбль *Леніна плошчы,* з'яўляецца яго дамінантай. Пабудаваны ў 1937—39 (арх. І. Лангбард). Цэнтр кампазіцыі — 8-павярховы аб'ём, фланкіраваны 7-павярховымі прамавугольнымі ў плане часткамі, якія пераходзяць у паўкруг 5-павярховымі крыламі. Вертыкальныя члянені (лапаткі), размешчаныя па перыметры будынка, надаюць яму стройнасць і выразнасць. Планіроўка вызначаецца прастатой, службовыя памяшканні зручна злучаны паміж сабой светлымі калідорамі. Гал. ўваход — у цэнтры будынка, кожны корпус мае свой асобны ўваход. У 1958 перад будынкам пастаўлены помнік У. І. Леніну (арх. В. Волчак, скульпт. П. Сабсай). У будынку знаходзіцца Магілёўскі абл. Савет нар. дэпутатаў. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Воінаў.*



Магілёўскі замак. Земляны вал і Алейная брама. З акварэлі Ю. Пешкі. Канец 18 ст.

**МАГІЛЁЎСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 16—19 стагоддзях у Магілёве. Пабудаваны ў 1526 на месцы стараж. грунтавога магільніка эпохі Кіеўскай Русі на высокім узгорку са стромкімі схіламі пры ўпадзенні р. Дубровенкі ў Дняпро. Плошча больш за 1 га. Умацаваны па перыметры пясчана-гліняным абарончым валам (выш. 5 м, шыр. ў аснове каля 16 м), на якім (паводле інвентара 1604) стаялі 7 вежаў (з іх 2 вежы-брамы з пад'ёмнымі мастамі), злучаных сценамі-гароднямі, накрытымі гонтавымі стрэшкамі. Вежы (тры 5-ярусныя, чатыры 4-ярусныя; ніжнія ярусы 4-гранныя, верхнія — 8-гранныя) былі накрыты 4-схільнымі дахамі з драніц. На адной з вежаў быў бронзавы звон. З замка вялі патаемныя хады да Дняпра і Дубровенкі. У 1633 замак згарэў. У 1638 адноўлены, меў выгляд астрога з 2 брамамі. Пазней знішчаны і часткова адноўлены. У 18 ст. меў выгляд земляных бастыёнаў і курцін, якія ў 19 ст. скапаны амаль цалкам. *М. А. Ткачоў.*

**МАГІЛЁЎСКІ ІОСІФАЎСКІ САБОР.** Пабудаваны з цэглы ў 1780—98 паводле праекта арх. М. А. Львова ў стылі класіцызму. Спачатку дзейнічаў як царква, у 1802 перайменаваны ў сабор з нагоды сустрэчы ў Магілёве імператрыцы Кацярыны II з аўстрыйскім імператарам Іосіфам II. Уваходзіў у ансамбль

*Магілёўскай Саборнай плошчы.* Асноўны аб'ём квадратны ў плане, да якога далучаліся з У паўцыліндрычная апсіда, з З шырокі прытвор. Гал. фасад меў 6-калонны дарычны порцік, пастаўлены на ступеньчаты стылабат і завершаны 3-вугольным франтонам з шырокім трыгліфным фрызам. Бакавыя фасады былі дэкарыраваны 4-дарычнымі калонамі, пастаўленымі парамі каля дзвярных парталаў і завершанымі 3-вугольнымі франтонамі. Асноўны аб'ём у цэнтры меў на высокім круглым барабане сферычны купал, які складаўся з 2 абалонак (адлегласць паміж імі каля 3 м). Ва ўнутранай абалонцы было 12 арачных праёмаў, у цэнтры — круглая адтуліна. Вонкавая абалонка мела 12 круглых акон-люкарнаў, была ўпрыгожана жывапісам, які добра праглядаўся праз арачныя праёмы. Сцены фасадаў прарэзаны простымі прамавугольнымі аконнымі праёмамі, на галоўным фасадзе былі 2 паўцыркульныя нішы са скульптурай. У інтэр'еры купал пры дапамозе ветразяў апіраўся на 4 масіўныя пілоны, якія стваралі ўнутраны квадрат. Інтэр'ер быў багата аздоблены: парныя іанічныя калоны, светла-жоўты і зялёны мармур, размалёўка грызайлю, нішы са статуямі, рэльефныя медальёны, абразы на медных шчытах мастака У. Баравікоўскага (1797) і інш. Архітэктура сабора аказала значны ўплыў на развіццё культавага дойлідства Беларусі. У 1932—37 у саборы — музей гісторыі рэлігіі і атэізму, у 1937 будынак разбураны.

*Т. І. Чарняўская.*



**Магілёўскі Іосіфаўскі сабор.** Чарцёж бакавога фасада.

**МАГІЛЁЎСКІ КАСЦЁЛ І КАЛЕГІУМ ЕЗУІТАЎ.** Комплекс пабудаваны ў канцы 17 — пач. 18 ст. ў Магілёве ў стылі барока каля Каралёўскай брамы ў Старым горадзе (раён сучаснай Тэатральнай пл.). Уключаў мураваныя будынкі калегіума (закладзены каля 1686), школы (абодва закончаны ў 1699) і касцёла св. Ксаверыя (1699—1725, пасля 1833 праваслаўная Васкрасенская царква, у 1848 у цэнтры будынка пастаўлены несапраўдны шматгранны купал). Касцёл — 3-нефавая базіліка з паўкруглым завяршэннем цэнтр. нефа. Гал. фасад завяршаўся 2 вежамі з барочнымі купаламі. Інтэр'ер аздоблены карынфскімі пілястрамі, на сценах і скляпенні цэнтр. нефа была размалёўка. Будынак калегіума 2-павярховы, мураваны, прамавугольны ў плане. Гладкія сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Далучаўся да касцёла тарцовай сцяной. З 1820 тут была ваенна-афіцэрская школа. У 1826 у памяшканні калегіума следчая камісія вяла допыт дзекабрыстаў — членаў «Паўднёвага таварыства» С. І. і М. І. Мураўёвых-Апосталаў, М. П. Бястужава-Руміна і інш. Касцёл і часткова калегіум былі разабраны пасля Вял. Айч. вайны. У 1983 на гэтым месцы пабудаваны 9-павярховы жылы дом. Рэшткі калегіума (падвалы, паўд.-зах. дваровы фасад) былі выкарыстаны пры будаўніцтве філіяла абл. краязнаўчага музея — музея дзекабрыстаў.

*Т. І. Чарняўская.*



**Магілёўскі касцёл і калегіум езуітаў.** Агульны выгляд. Фота пачатку 20 ст.

**МАГІЛЁЎСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ.** Існавалі ў 17—20 стагоддзях у Магілёве. Засн. ў 1687 па фундацыі рэчыцкага лоўчага Фёдара Ржавускага на беразе Дняпра. Касцёл св. Андрэя 1-нефавы, прамавугольны ў плане. Неф пераходзіў у крыху вузейшы за яго выцягнуты прэсбітэрый, завершаны 3-граннай алтарнай апсідай. Гал. фасад фланкіравалі 2 невял. прамавугольныя ў плане вежы (у зах. вежы размяшчалася лесвіца). У 18 ст. з Пн да касцёла быў прыбудаваны прамавугольны ў плане аб'ём з дзвюма 2-ярускімі вежамі (ва ўсх. вежы была лесвіца), якія завяршаліся купаламі. Неф і прэсбітэрый былі накрыты адзіным дахам, тарэц якога з боку гал. фасада закрываў фігурны франтон. Рытм бакавых фасадаў ствараўся прамавугольнымі вокнамі і лучковымі завяршэннямі, лапаткамі. З У да касцёла быў прыбудаваны П-падобны ў плане 2-павярховы калідорнай планіроўкі корпус кляштара. У 1864 кляштар скасаваны, з 1872 тут знаходзіўся цэнтр. архіў судовых месцаў. Будынкі разбураны ў Вял. Айч. вайну.

*В. Р. Кукуня.*

**МАГІЛЁЎСКІ КАСЦЁЛ КАРМЕЛІТАЎ,** Магілёўскі Станіславаўскі касцёл, помнік архітэктуры стылю барока. Пабудаваны ў 1738—52 (да 1783 наз. Ушэсця) на месцы драўлянага касцёла 17 ст. У 1783 касцёл быў перададзены Магілёўскай архікафедры і з гэтага часу стаў вядомы як Станіславаўскі. Спачатку гал. фасад быў 2-вежавы, з фігурным франтонам пасярэдзіне. У 1788 па ініцыятыве архібіскупа Станіслава Богуш-Сестранцэвіча быў рэканструяваны гал. фасад. У выніку перабудовы разабраны завяршэнне барочных вежаў і частка фігурнага франтона паміж імі, а ўвесь першапачатковы фасад аказаўся закрыты класіцыстычным 4-калонным іанічным порцікам з 3-вугольным франтонам. Справа і злева ад порціка да першапачатковага аб'ёму былі прыбудаваны 3-ярусныя бакавыя крылы, завершаныя 8-граннымі ратондападобнымі вежачкамі (памяшканні семінарыі і друкарні). На працягу 19—20 стагоддзяў касцёл неаднаразова рамантаваўся, але яго архіт. воблік заставаўся нязменным. Пасля 1860 касцёл становіцца пры-



**Магілёўскі касцёл кармелітаў. Здымак 1980-х гадоў.**



**Магілёўскі касцёл кармелітаў.** Фрагмент размалёўкі скляпення галоўнага нефа.

ходскім і наз. Успенскім. У касцёле захаваўся адзін з найбольш разгорнутых фрэскавых цыклаў на тэр. Беларусі. Фрэскавая размалёўка выканана ў 1765—1767, 1780-я гады (мастакі Б. Піятроўскі, А. Главацкі, вучні-манахі Спаскай царквы Пётр, Лук'ян, Рыгор). У 1860-я гады размалёўка паднаўлялася мастаком Фёрстам, які выканаў шэраг кампазіцый, фрэскавай размалёўкай пакрыты ўсе сцены касцёла. На скляпеннях гал. нефа фрэскі на евангельскія сюжэты. Ад апсіды да хораў размешчаны 3 вял. кампазіцыі — «Ператварэнне», «Уручэнне ключоў Пятру», «Ушэсце Марыі», выкананыя з выкарыстаннем прынцыпу перспектыўнай прасторы, якія ілюзорна паднімаюць увышыню архіт. формы. У кампазіцыі ўведзены складаныя архіт. кулісы, выявы евангелістаў з сімваламі Ераніма, Аўгусціна, Клімента, алегарычныя выявы Веры, Надзеі, Любові і інш. сюжэты. Па перыметры сцен гал. нефа ў прамавугольных неглыбокіх нішах над аркамі паміж пілонамі размешчаны 8 сюжэтных кампазіцый. На паўд. сцяне кампазіцыі «Уваскрэсенне Лазара», «Цуд Тэрэзы», «Хрышчэнне», на паўднёвай — 3 кампазіцыі на гіст. тэмы, сярод якіх «Наданне граматы каралём Сігізмундам манахам-кармелітам» з панарамай Магілёва; у паўд.-зах. частцы фрэска з выявай манахамастака перад мальбертам. Скляпенні бакавых нефаў таксама размаляваны: на паўночным — кампазіцыі «Спас нерукатворны», «Святы Себасцьян», сцэна з «Страшнага суда», на паўднёвым — «Падарожжа», «Смерць Іосіфа» і «Аўтапартрэт». У бабінцы на скляпеннях захаваліся 2 кампазіцыі на біблейскую тэму: «Каін забівае Авеля» і «Ахвярапрынашэнне Аўраама». Каля алтара захаваліся 4 кампазіцыі, напісаныя Фёрстам. Стыль размалёвак разнастайны. Ніжні рэгістр манерай выканання адрозніваецца ад кампазіцый, размешчаных на скляпеннях гал. нефа. Размалёўка выконвалася рознымі майстрамі і неаднаразова паднаўлялася. Пераважаюць цёплыя залацістыя, ружовачырвоныя, карычневыя фарбы на скляпеннях — сіне-блакітныя, сінія і зялёныя. У касцёле размяшчаўся гістарычны (з 1935), пазней Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобл. (1964—86). Касёл закрыты на рэстаўрацыю (1986—90). Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. Гліннік, В. В. Герашчатава.*

**МАГІЛЁЎСКІ СПАСКІ МАНАСТЫР.** Комплекс, уключаў мураваныя будынкі ў стылі барока: Спаса-Праабражэнскаю царкву, агароджу з брамай і званіцай і манастырскі корпус. Разам з *Магілёўскім архірэйскім палацам* і *Магілёўскай духоўнай семінарыяй будынкамі* ўтвараў адзіны буйны горадабудаўнічы ансамбль, які займаў увесь квартал на вул. Ветранай (сучасная Ленінская). Драўляная Спаская царква вядома з 1478. У 1954 пабудавана новая, драўляная (згарэла ў 1708). З канца 15 ст. пры царкве існавалі драўляныя будынкі, дзе размяшчаліся манаскія келлі, у 1600 пры манастыры адкрылася школа. У 1588 пры Спаскім манастыры было зацверджана праваслаўнае брацтва, якое існавала тут да 1618. З 1618 да сярэдзіны 17 ст. манастыр перайшоў да уніятаў, з 2-й пал. 17 ст. зноў вярнуўся да праваслаўных. У 1740—42 магілёўскі епіскап Іосіф Ваўчанскі замест драўлянай пачаў будаваць мураваную С п а с а - П р а а б р а ж э н с к у ю ц а р к в у. Буд-ва царквы завершана (без даху) да 1748 пад кіраўніцтвам епіскапа Ераніма Ваўчанскага (будынак згарэў у 1748, асталіся муры і сцены). З 1756 буд-вам Спаса-Праабражэнскай царквы кіраваў архіепіскап Георгій Каніскі, які выклікаў з Вільні вядомага архітэктара І. К. Глаўбіца, паводле праекта якога ў 1762 яна была ўзведзена (да 1802 была кафедральным саборам Магілёва). Царква размяшчалася на высокім беразе Дняпра, у глыбіні квартала. Уяўляла сабой



**Магілёўскі Спаскі манастыр.** Агульны выгляд царквы.

крыжова-купальны храм з 2-вежавым гал. фасадам. Над сяродкрыжжам на высокім светлавым 8-гранным барабане ўзвышаўся сферычны купал, завершаны галоўкай. Да глухіх граней барабана далучаліся чатыры 2-ярусныя вежачкі з невысокімі купаламі, якія разам стваралі пяцігаловую кампазіцыю. Гал. фасад завяршалі 2-ярусныя вежы, паміж якімі размяшчаўся высокі ступеньчатага абрысу франтон. Сцены фасадаў завяршаліся шырокім тонкапрафіляваным карнізам, рытмічна чляніліся лучковымі аконнымі праёмамі з дэкар. ляпнымі дэталямі, паміж вокнамі — спараныя пілястры з дарычнымі капітэлямі. У інтэр'еры 4 цэнтр. слупы пры дапамозе падпружных арак падтрымлівалі купал на ветразях. Інтэр'ер быў багата аздоблены, тут знаходзіліся творы магілёўскіх майстроў: жывапісца Мірона Пігарэвіча і чаканшчыка Пятра Сліжыка. У 1785 было скончана буд-ва мураванай агароджы з брамай і 2-яруснай званіцай і манастырскага корпуса. Царква разбурана ў гады Вял. Айч. вайны. Г-падобны ў плане м а н а с т ы р с к і к о р п у с разам з агароджай абкружаў усю тэрыторыю манастыра і ўтвараў трапецападобны ў плане ўнутраны дворык. Да манастырскага корпуса далучаліся гандлёвыя рады з арачнымі ўваходамі, што вялі ў крамы. Манастырскі корпус складаўся з 2-паверховай часткі (дзе размяшчалася кансісторыя 1-паверховага крыла, (манаскія келлі, убудаваная царква, гасп. памяшканні). Захаваўся 2-паверховы корпус, які тарцовым фасадам выходзіў на вул. Ветраную (цяпер жылы дом на вул. Ленінскай, 11), і частка 1-паверховага крыла. Гал. фасад 2-паверховага (з падвалам) корпуса аздоблены на ўсю вышыню пілястрамі і іанічнымі

капітэлямі. Высокія прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі з замковым каменнем, падаконнымі прамавугольнымі нішамі. Фасады 1-павярховага крыла расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з простымі ліштвамі, міжаконнымі лапаткамі. Унутраная планіроўка зменена. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**МАГІЛЁЎСКІ ФАРНЫ КАСЦЁЛ,** касцёл Казіміра, помнік архітэктуры пач. 17—19 ст. Пабудаваны ў 1604 па фундацыі караля Сігізмунда III, які быў уладальнікам вёсак Аўданілавічы, Заходы, Цераховы, Пруды, Сястрын і гарадской зямлі ў Магілёве, у 1810 перабудаваны. Мураваны 1-нефавы прамавугольны ў плане храм з бакавымі прыбудовамі, 5-граннай алтарнай апсідай і 2-вежавым гал. фасадам. Перабудаваны ў 19 ст. ў стылі класіцызму. Усх. і зах. фасады вырашаны ў выглядзе класічных порцікаў. Аб'ём завершаны драўляным купалам на нізкім барабане. Хоры, дзе размяшчаўся 7-галосны арган, падтрымліваліся 4 драўлянымі слупамі. Тры алтары былі ўпрыгожаны драўлянай скульптурай. Захаваўся часткова, зараз тут складское памяшканне абл. аддзялення сувязі. Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. Р. Кукуня.*

**МАГІЛЁЎСКІ ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1902 з цэглы на Дняпроўскім праспекце (сучасная вул. Першамайская), у глыбіні ад чырвонай лініі забудовы, фарміруе Прывакзальную пл. з партэрам у цэнтры яе. Пасля Вял. Айч. вайны будынак рэканструяваны (часткова зменены ўнутраная планіроўка і знешні выгляд). Мураваны 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з 2 невял. прыбудовамі па тарцах. Гал. фасад вылучаны 3 рызалітамі (цэнтральны з гал. уваходам і 2 бакавыя), завершанымі атыкамі; ён прарэзаны вял. арачнымі аконнымі праёмамі (у прыбудовах — прамавугольныя), прасценкі паміж якімі дэкарыраваны руставанымі пілястрамі. Сцены завершаны прафіляваным карнізам з сухарыкамі. У цэнтры гал. фасада 8-гранны светлавы барабан, завершаны невысокай 4-граннай вежай, у інтэр'еры размешчаны вестыбюль, абапал якога знаходзяцца службовыя і адм. памяшканні.

*В. М. Чарнатаў.*

**МАГІЛЁЎСКІЯ БАРЫСАГЛЕБСКІЯ ЦЭРКВЫ,** помнікі архітэктуры 19 ст. Пабудаваны ў Магілёве (зав. Брусава, 2). Комплекс складаецца з 2 цагляных будынкаў. Першы ўзведзены ў 17 ст. як жылы дом, у 19 ст. перабудаваны пад царкву (у літаратуры вядомы як Барысаглебская, у сапраўднасці наз. Крыжаўзвіжанская). Першапачаткова — аднапавярховы квадратны ў плане будынак, падзелены сцяной на 2 featureнавялікія памяшканні, завяршаўся 4-схільным дахам. Меў рысы дэкору, характэрныя для 17 ст. (дэкар. раслінны арнамент, які нагадваў бел. матывы, фрэска на паўд. сцяне, шырокі карніз у верхняй частцы сцяны, які апяразвае па перыметры ўвесь будынак). У 19 ст. палавіна ўсх. сцяны была перароблена ў 3-гранную апсіду, да зах. сцяны была прыбудавана 2-ярусная званіца з шатровым дахам і цыбулепадобнай галоўкай. На вільчыку быў узведзены гал. драўляны барабан (васьмярык на чацверыку). Перабудова набыла рысы псеўдарускага стылю. Другая царква ўзведзена ў 1869. 6-стаўповы 3-нефавы крыжова-купальны храм. У архіт.-стылявой трактоўцы спалучаны рысы класіцызму (руставаныя пілястры па вуглах, прафіляваны карніз асн. аб'ёму) і маскоўскага культавага дойлідства 17 ст. (5-купалле, кілепадобныя завяршэнні закамараў і парталаў, абрыс ліштваў акон). Цэрквы дзейнічаюць. *Г. А. Лаўрэцкі.*

**МАГІЛЁЎСКІЯ ЖЫЛЫЯ ДАМЫ,** помнікі жыллёвай архітэктуры 18 ст. Дом (сучасная вул. Ленінская, 7) узведзены ў 1790 у стылі класіцызму. Будаваўся як жылы 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак з закругленай вуглавой часткай. З боку гал. фасада знаходзіцца арачны праезд ва ўнутраны двор. Цэнтр. частка гал. фасада з мансардай вылучана 3-вугольным франтонам і фрызам з трыгліфамі. Паверхі аддзелены карнізным паяском. Гладкія сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, якія на 2-м паверсе абрамлены ліштвамі з замковым каменем. У вуглавой частцы дваровага фасада размешчаны ўваход у будынак, невял. вестыбюль з лесвіцай на другі паверх, вакол якіх — жылыя памяшканні. Дом (сучасная вул. Ленінская, 37) узведзены ў 18 ст. ў стылі барока. 3-павярховы з паўпадвальным паверхам (3-і паверх мансардавы, надбудаваны ў час рэканструкцыі) прамавугольны ў плане будынак, накрыты ламаным дахам. Сцены расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з простымі ліштвамі. Паміж аконнымі праёмамі — простыя лапаткі. Па цэнтры фасада гал. ўваход вылучаны лучковай аркай, над якой аналагічнай формы праём і невял. балкон з металічнай ажурнай агароджай. Сцены з шырокім прафіляваным карнізам. Цэнтр. частка фасада завершана атыкам лучковага абрысу, у цэнтры атыка — квадратны аконны праём. Унутраная планіроў-



**Магілёўскі фарны касцёл.** Фота 1920-х гадоў.



Чыгуначны вакзал у Магілёве.





Магілёўскія Барысаглебскія цэрквы (злева — царква 1869).



Жылы дом па вуліцы Ленінскай, 7.



Дом на вуліцы Ленінскай, 37.

ка зменена пасля рэканструкцыі. 1-ы паверх і падвал перакрыты скляпеннямі, 2-і — мае бэлечныя перакрыцці. У 1970-я гады будынак рэстаўрыраваны. З 1982 у ім размешчаны мемарыяльны музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі (філіял Дзяржаўнага маст. музея Беларусі).

**МАЗАЛАЎСКАЯ ЦАРКВА УШЭСЦЯ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1827—32 у в. Мазалава (Мсціслаўскі р-н) паводле праекта арх. А. Мельнікава. Мураваны амаль квадратны ў плане 3-нефавы 4-стаўповы храм, да якога па восі У—З прымыкаюць паўкруглая апсіда, прытвор і 4-ярусная вежазваніца (над гал. уваходам) са шпілем. Сяродкрыжжа завершана купалам на круглым у плане светлавым барабане. Гал. і бакавыя ўваходы з 4-калоннымі порцікамі іанічнага ордэра завершаны трохвугольнымі франтонамі. У аздабленні фасадаў выкарыстаны гарызантальны руст, дэкар. скульптура. Нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках. Царква ў паўразбураным стане. *В. Ф. Марозаў.*

**МАЗЫР,** горад, цэнтр Мазырскага р-на. За 133 км на ПдЗ ад Гомеля. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах у 1155. Уваходзіў у Кіеўскае княства. Стараж. гарадзішча М. знаходзіцца на гары Камунараў (б. Спаская гара), на мысе паміж 2 ярамі, з ПдУ злучана з карэнным берагам. У 14 ст. тут на месцы дзядзінца 12 ст. пастаўлены ўмацаваны драўляны замак (у 1497 разбураны татарамі). З 14 ст. М. у Вял. кн. Літоўскім. У пач. 16 ст. горад складаўся з трох частак: цэнтральнай (умацаванай астрогам), пасада (не ўмацаваны) і гандл. плошчырынку. У 1516 у цэнтр. частцы 139 двароў і 2 карчмы, у пасадзе 69 двароў, сядзібны комплекс з жылымі і гасп. пабудовамі і садам, на рынку 44 крамы, 85 двароў рамеснікаў і гандляроў, бровар, саладоўня, «перавозны» дом (зберагалася начынне для паромнай пераправы цераз Прыпяць, служыў, відаць, і гасцініцай). Тры асн. вуліцы (Оўруцкая, Кіеўская і Слуцкая) заканчваліся брамамі. Каля 1543 на месцы замка 14 ст. пабудаваны драўляны *Мазырскі замак,* які злучаўся з гандл. плошчай мостам на палях. На тэр. замка знаходзіліся дамы заможных гараджан, Спаская царква. У цэнтр. частцы горада перад замкам была Мікалаеўская царква.



**Мазыр.** Касцёл Ушэсця Маці Боскай. Фота пачатку 20 ст.



**Мазалаўская царква Ушэсця.** Чарцёж бакавога фасада.

Горад быў умацаваны астрогам. З сярэдзіны 1560-х гадоў М.— цэнтр павета Кіеўскага, з 1569 Мінскага ваяводстваў. Паводле інвентароў 1576 у М. быў 371 жылы дом, 5 цэркваў і манастыр. У 1577 атрымаў магдэбургскае права. Меў герб (выява чорнага арла на блакітным фоне). У 16—19 стагоддзях горад развіваўся вакол умацаванага цэнтра ўздоўж правага берага Прыпяці. Яго радыяльна-кальцавую планіроўку вызначалі 3 асн. восі: адна ўздоўж Прыпяці (з ПдУ на ПнЗ), другая вяла ад гандл. плошчы на ПдЗ да дарогі на Петрыкаў, трэцяя злучала паўд.-ўсх. частку горада з дарогай на Оўруч. Гандл. плошча (на ёй былі ратуша, 3 корпусы гандл. радоў, царква) размяшчалася на ПнУ ад замка. На ПдУ ад цэнтра ў 1648 заснаваны *Мазырскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.* У 1616 закладзены касцёл Ушэсця Маці Боскай (крыжовы ў плане драўляны будынак з вял. купалам у цэнтры і асобна размешчанай 3-яруснай званіцай), адбудаваны пасля пажару 1757 (не збярогся). У 1745 пабудаваны *Мазырскі кляштар цыстэрцыянак.* У 1-й пал. 18 ст. пабудаваны базыльянскі манастыр, драўляная царква Параскевы Пятніцы. У 1744 ва ўрочышчы Кімбараўка засн. 2 манастыры ордэна цыстэрцыянцаў — у 1711 мужчынскі (існаваў да 1864), у 1745 жаночы (існаваў да 1883, з 1888 — праваслаўная Свята-Троіцкая царква). У 1752 у М. пабудаваны манастыр (касцёл і кляштар) марыявітак (існаваў да 1856), пры якім працавала акадэмічная пачатковая 3-класная школа. У канцы 17 ст. ў М. 5 драўляных праваслаўных культавых збудаванняў: цэрквы Саборная архангела Міхаіла, св. Міколы, Раства Багародзіцы, Праабражэння гасподняга (Спаская) і св. Параскевы Пятніцы; у 1861 у М. з праваслаўных храмаў засталіся драўляныя цэрквы Мікольская і Параскевы Пятніцы і мураваны Міхайлаўскі сабор; пастаўлены касцёл і кляштар марыявітак (не збераглісія). З 1793 М. у складзе Расіі, цэнтр павета. Росту горада садзейнічала буд-ва Палескіх чыгунак у 1880-я гады. У канцы 19 ст. ў М. 8067 жыхароў, з іх 60 % пісьменных (1897), 5 прамысл. прадпрыемстваў, 2 пачатковыя школы і 6-класная прагімназія, жаночая гімназія, бальніца, метэастанцыя, друкарня, 2 кнігарні. На пач. 20 ст. 3 прадпрыемствы (680 рабочых), каля 1210 дамоў, 16 майстэрняў, 5 навучальных устаноў (каля 430 навучэнцаў). З 1924 цэнтр раёна (у 1926—27 горад у Слабадскім р-не). У 1924—30 і 1935—38 цэнтр Мазырскай акругі, у 1938—54 цэнтр Палескай вобл. З 1938 горад абл. падпарадкавання. У 1939 у М. 17,5 тыс. жыхароў. З 1954 у Гомельскай вобл. У 1959 у М. 25,7 тыс. жыхароў, у 1970 — 48,8 тыс., у 1977 — 71,6 тыс. жыхароў. Архіт.-планіровачная структура сучаснага М. абумоўлена складаным рэльефам (р. Прыпяць з высокім і крутым правым берагам і нізкім плоскім левым, шматлікія яры з розніцай вышынных адзнак 25—30 м). Генпланы М. распрацаваны ў 1939, 1953, 1966 (карэкціроўка ў 1975 і 1976), 1981 («Гомельграмадзянпраект»). Гарадская тэр. фарміруецца ў 2 практычна самастойных зонах, абапал Прыпяці. Асноўны масіў жылой забудовы гістарычна склаўся на правым беразе, на левым — рачны вакзал, вытв. зона і жылы раён. Асн. кампазіцыйнымі восямі горада з'яўляюцца вуліцы Ленінская (галоўная, забудавана 2—5-павярховымі дамамі, праходзіць па адносна нізкіх адзнаках рэльефу), Савецкая (забудавана 3—5-павярховымі дамамі, захавалася забудова канца 19 — пач. 20 ст.), 17 Верасня, Чапаева, Пралетарская. На скрыжаванні вуліц Ленінскай і Савецкай размешчана



**Мазыр.** Рачны вакзал.



**Мазыр.** Вуліца Пралетарская.

пл. Леніна — адм.-грамадскі і культ. цэнтр (захаваўся помнік грамадзянскай архітэктуры — *Мазырскі клуб-тэатр).* Новы грамадскі цэнтр фарміруецца на верхнім плато каля Оўруцкай шашы, тут развіваецца і жылая зона. У раёне Бабры ствараецца навучальны цэнтр: навучальныя карпусы і інтэрнаты палітэхнікума і медвучылішча, ПТВ будаўнікоў і геолагаў. Забудоўваюцца новыя мікрараёны, найбольш значныя створаны ў раёне вуліц Савецкай і Пушкіна. Забудова ў асноўным 9-павярховая з высокімі дамінантамі (адна з іх будынак Мазырскага педагагічнага ін-та) на вышэйшых адзнаках рэльефу. Зона адпачынку — р. Прыпяць, на правым беразе — парк Перамогі з малымі архіт. формамі і атракцыёнамі, на левым — унікальны лесапарк, пясчаныя пляжы. Прадугледжваецца функцыянальнае заніраванне тэрыторыі, далейшае развіццё новага грамадскага цэнтра, удасканаленне транспартнай сеткі, стварэнне аб'язной дарогі.

*Э. М. Савіцкі, Ю. А. Якімовіч, Л. С. Патапаў.*

**МАЗЫРСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 16—18 стагоддзях у Мазыры. Пабудаваны каля 1543 на месцы стараж. ўмацаванага дзядзінца. Памеры паўавальнага ў плане драўлянага замка каля 120×60 м. Меў

абарончыя сцены — гародні з байніцамі і машыкулямі, 2 вежы і вежу-браму з пад'ёмным мостам цераз роў. Усе вежы былі чацверыковыя з шатровымі дахамі, унутры падзелены на 7 баявых ярусаў. У 1576 замак меў 5 вежаў, завершаных купаламі. У абарончую лінію ўваходзілі таксама 2 дамы паміж гароднямі. На тэр. замка знаходзіліся Спаская царква, дом гараднічага, скарбніца, свірны, скляпы і інш. пабудовы. Замак часта разбураўся (найбольш значна ў 1649 пры задушэнні паўстання жыхароў Мазыра войскамі гетмана Януша Радзівіла). У 18 ст. М. з.— парадны замкава-палацавы комплекс, які складаўся (паводле інвентара 1772) з драўлянага палаца ў цэнтры і гасп. зоны. 1-павярховы палац, накрыты высокім ламаным гонтавым дахам з круглымі люнетамі, уключаў вял. прыхожую, вакол якой размяшчаліся жылыя пакоі, алькеж, аптэчка, пакой ключніка, і залу для правядзення старосцінскіх судоў і павятовых сеймікаў. Гасп. зона (кухня, жылыя дамы прыслугі, свіран, хлявы і інш.) размяшчалася за палацам. Каля ўязной брамы знаходзілася канцылярыя старосты і стайня з вазоўняй. Пры раскопках замчышча сярод рэштак аднаго з пакояў 16 ст. выяўлена печ, складзеная з гаршковай кафлі з квадратным вусцем і каробчатай кафлі, упрыгожанай па баках геаметрычным арнаментам. Сярод знаходак шкляныя бранзалеты, прасліцы, унікальная кафля з вывай жанчыны (2-я пал. 16 ст.). *Ю. А. Якімовіч, Г. М. Залашка.*

**МАЗЫРСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны па фундацыі палкоўніка Стэфана Лозкі ў 1648 у Мазыры (сучасная вул. Камсамольская, 14—16), перабудаваны маршалкам мазырскім Казімірам Аскіркам ў 1760—75. У 1832 кляштар скасаваны, у 1839 пасля пажару кляштарны корпус (арх. Вісконці) прыстасаваны пад бальніцу (1-ы паверх) і прысутныя месцы (2-і паверх). У 1865 касцёл ператвораны ў Міхайлаўскі сабор, у 1876 адрамантаваны. 3-нефавая 2-вежавая мураваная базіліка з пяціграннай апсідай. Гал. 3-часткавы фасад — увагнута-пукатая архіт. плоскасць, раскрапаваная звязкамі пілястраў, тонкапрафіляванымі карнізамі. Партал увахода завершаны фігурным крапаваным шчытом з прамавугольнай нішай для іконы па цэнтры. Трох'ярусныя (васьмярык на 2 чацверыках) шатровыя вежы (надбудаваны ў 1829) аб'яднаны ў аснаванні 3-вугольным шчытом і маюць элементы класіцызму (трохвугольныя франтоны, арачныя праёмы з імпастамі ў прамавугольных нішах, карнізы з сухарыкамі). Рытм бакавых фасадаў ствараюць лучковыя аконныя праёмы і лапаткі ў прасценках. Унутраная прастора 6 масіўнымі слупамі падзелена на 3 нефы: цэнтральны перакрыты цыліндрычным, нізкія бакавыя — крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках. Алтарная частка з ляпным прысценным алтаром і глорыяй у завяршэнні аддзелена драўляным разным 3-ярусным іканастасам (2-я пал. 19 ст.). Над скляпеністым нартэксам хоры з пластычна выгнутым парапетам, дэкарыраваным аркатурай. Пад апсідай знаходзіцца скляпеністая крыпта. Да касцёла з усх. боку прымыкае кляштарны корпус — 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак калідорнай планіроўкі з аднабаковым размяшчэннем келляў і залаў-трапезнай у тарцы, перакрытых крыжовымі скляпеннямі. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*



**Мазырскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.** З гравюры 1865.



**Мазырскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.** Агульны выгляд касцёла.

**МАЗЫРСКІ КЛУБ-ТЭАТР,** помнік архітэктуры канструктывізму. Узведзены ў 1929—32 на цэнтр. вуліцы горада — Ленінскай. 2-павярховы асіметрычны П-падобны ў плане мураваны будынак; мае дакладна размежаваныя тэатральную і клубную часткі, кожная з асобным уваходам і вестыбюльнай групай, злучаныя паміж сабой папярочным крылом-пераходам. Тэатральная частка ўключае глядзельную залу (партэр, балкон і 7 невял. ложаў), сцэну і па баках службовыя памяшканні для акцёраў, мае паўкруглы вестыбюль. У клубнай частцы да вестыбюля на 1-м паверсе і да прасторнага хола на 2-м кампактна прымыкаюць памяшканні для клубнай работы. Паверхі звязаны паміж сабой парадцай 3-маршавай лесвіцай. Мастацкае аблічча будынка дасягаецца лаканічнымі сродкамі. На гал. фасадзе вылучаецца паў-



**Мазырскі клуб-тэатр.**



**Мазырскі кляштар цыстэрцыянак.** Агульны выгляд касцёла.

круглы з 6 калонамі аб'ём з увахо-дам у глядзельную частку. У бу-дынку працавалі Мазырскі трам (у 1935), Мазырскі калгасна-саўгас-ны тэатр (1935—38), Палескі абл. драматычны тэатр (1938—41 і ў 1944—46). Цяпер у ім размяшча-ецца гарадскі Дом культуры, пра-цуюць гарадскія калектывы маст. самадзейнасці. *А. А. Воінаў.*

**МАЗЫРСКІ КЛЯШТАР ЦЫСТЭР-ЦЫЯНАК,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1743—45 па фундацыі Бенядзікта Ражанскага, за 3 км на ПдУ ад Мазыра, на правым беразе р. Пры-пяць, у так званай «Анёльскай даліне». Уключае мураваны касцёл Міхаіла і жылы корпус, абнесеныя муравана агароджай. У 1883 кляш-тар закрыты, у 1888 перададзены праваслаўным, у 1893—94 касцёл рэканструяваны пад царкву, пры-будаваны драўляная званіца, бака-вая мураваная галерэя і інш. Касцёл — 1-нефавы храм, накрыты высокім 2-схільным дахам з увагну-тымі вальмамі над 3-граннай апсі-дай. Мае моцную канструкцыю (таўшчыня сцен 1,5 м). Архіт.-пластычны акцэнт прыпадае на



**Малaбераставіцкі сядзібны дом.**

гал. фасад, расчлянёны на 3 часткі высокімі пілястрамі і завершаны шырокім тонкапрафіляваным кар-нізным поясам. Бакавыя плоскасці фасада дэкарыраваны 3 ярусамі фігурных і арачных ніш з конхамі ў верхнім ярусе. Фасад завершаны ступеньчатым атыкам (надбудава-ны ў 1894). Гал. ўваход праз нізкі 5-гранны прытвор дэкарыраваны буйнымі вуглавымі лапаткамі. Ба-кавыя фасады вырашаны плоскас-на, рытмічна расчлянёны высокімі лучковымі вокнамі і шырокімі ла-паткамі ў прасценках. Прастора інтэр'ера рэканструявана: неф па-дзелены на 2 паверхі і перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з пад-войнымі падпружнымі аркамі і лю-нетамі, апсіда — самкнутай конхай. Скляпенні былі дэкарыраваны сю-жэтнай фрэскавай размалёўкай (скончана ў 1804, не захавалася). Сцены крапаваны арачнымі нішамі і падвойнымі пілястрамі, апяразаны буйным тонкапрафіляваным кар-нізам. Апсіда раскрыта ў залу шырокім арачным прасветам. Пер-шапачаткова з касцёлам з ПнУ злу-чаўся крыты бляхай і чарапіцай П-падобны ў плане 3-павярховы жылы корпус (1-ы паверх быў мура-ваны, 2-і і 3-і — фахверкавыя ці з «прускага муру»), які ствараў уну-траны двор. Захаваўся адзін прама-вугольны ў плане 2-павярховы аб'ём пад 2-схільным дахам. Фаса-ды рытмічна расчлянёны квадрат-нымі і прамавугольнымі вокнамі, у прасценках — шырокімі лапат-камі. Планіроўка галерэйная з адна-баковым размяшчэннем тыпавых келляў з цыліндрычнымі скляпені-стымі перакрыццямі. Цяпер у кляш-тары размешчана муз. вучылішча. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**МАЛАБЕРАСТАВІЦКІ СЯДЗІБ-НЫ ДОМ,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры 2-й пал. 18 ст. Пабу-даваны ў в. Малая Бераставіца (Бераставіцкі р-н). Размешчаны ў глыбіні двара, абмежаванага кана-лам і ставам. Прамавугольны ў плане 1-павярховы мураваны дом накрыты мансардавым дахам з люкарнамі ў абрамленні фігурных ліштваў. Па тарцах фланкірава-ны драўлянай прыбудовай (19 ст.) і рызалітам з паўвальмавым дахам. Гал. ўваход — асіметрычны, вылу-чаны ганкам з лучковай стрэшкай на 4 слупах. Фасады раскрапаваны лапаткамі і расчлянёны прамаву-гольнымі аконнымі праёмамі. Плані-роўка анфіладная. *А. М. Кулагін.*

**МАЛАДЗЕЧАНСКАЯ ПАКРОЎ-СКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэк-туры рэтраспектыўна-рускага сты-лю. Пабудавана ў 1867—71 з цэглы. У плане ўяўляе сабой традыцый-ную 4-часткавую схему: званіца, трапезная, 3-нефавы квадратны асн. аб'ём і 5-гранная апсіда, абапал якой прыбудаваны рызніца і ахвяр-нік. Над асн. аб'ёмам узвышаецца 8-гранны светлавы барабан. У дэ-коры царквы выкарыстаны формы маскоўскай архітэктуры 17 ст. (кіле-падобныя какошнікі, ліштвы акон, шатровыя з макаўкай завяршэнні і інш.). У адрозненне ад большасці помнікаў, створаных у рэтраспек-тыўна-рускім стылі, званіца і гал.



**Маладзечанская Пакроўская царква.**

светлавы барабан царквы маюць аднолькавую архіт.-пластычную структуру: 8-гранная ў сячэнні канструкцыя завяршаецца какошнікам і шатровым дахам з цыбулепадобнай галоўкай. Гэта надае кампазіцыі будынка цэласнасць і аб'ёмнае адзінства. Царква дзейнічае. *Г. А. Лаўрэцкі.*

**МАЛАДЗЕЧАНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 15—18 стагоддзях. Пабудаваны ў Маладзечне на правым дрыгвяністым беразе р. Уша, дзе бярвеннем быў вымашчаны прамавугольны ўчастак (120×80 м) са скругленай усх. часткай і насыпана пляцоўка выш. каля 4 м са жвіру і пяску. Замчышча было абнесена глініста-пясчанымі валамі (шыр. да 11 м, выш. да 3,5 м). На вяршыні валоў стаялі драўляныя сцены-гародні вянковай канструкцыі, на вуглах — драўляныя вежы. У зах. часткі замка размяшчалася брама (праезная частка 4 м). Да брамы цераз балота была пракладзена грэбля. У 17 ст. тры вонкавыя вуглы замка былі ўмацаваны бастыёнамі галандскага тыпу, што адпавядала тагачаснай тактыцы абароны і аблогі. Каб прадухіліць апаўзанне зямлі, бастыёны былі ўмацаваны загародкамі слупавой канструкцыі. Ва ўсх. частцы замкавага дзядзінца знаходзіліся мураваны палац (асталася паўн. сцяна даўж. 16,22 м), драўляныя жылыя і гасп. пабудовы. Не збярогся. *М. А. Ткачоў.*

**МАЛАДЗЕЧАНСКІ ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ,** помнік архітэктуры стылю мадэрн. Узведзены ў 1907 на месцы ранейшай драўлянай пабудовы (1873). 1-павярховы мураваны будынак, сіметрычны, прамавугольны ў плане. Цэнтр і бакавыя часткі вылучаны рызалітамі, расчлянёны пілястрамі, завершаны крывалінейнымі шчытамі. Высокія арачныя аконныя праёмы ў прафіляваным абрамленні; прасценкі апрацаваны лапаткамі. Цокальная частка будынка крапавана філёнгамі. Складаны па абрысу дах узбагачае пластычнае вырашэнне будынка. У тарцовых фасадах выкарыстаны тыя ж кампазіцыйныя прыёмы і элементы пластыкі, што і ў франтальных. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка падпарадкавана яго функцыянальнаму прызначэнню. Цэнтр. частку яго займае вестыбюль, у бакавых размешчаны службовыя памяшканні. *У. В. Алісейчык.*

**МАЛАДЗЕЧНА,** горад, цэнтр Маладзечанскага р-на, на р. Уша. За 68 км на ПнЗ ад Мінска. Вядома з 1388 у Вял. кн. Літоўскім. З 1413 у Віленскім ваяводстве, з канца 16 ст. мястэчка ў Мінскім пав. Належала магнатам Заслаўскім, Мсціслаўскім, Сангушкам, Агінскім



Будынак чыгуначнага вакзала ў Маладзечне.

і інш. У 15 ст. пабудаваны *Маладзечанскі замак.* У 1623 у М. 6 вуліц, дзе пражывала 150 сем'яў. У Паўн. вайну 1700—21 у 1708 захоплена шведскімі войскамі. З 1793 у складзе Расіі, цэнтр воласці, мястэчка Вілейскага пав. У 19 ст. ў мястэчку 4 вуліцы, якія крыжападобна разыходзіліся: Мінская, Віленская, Замкавая (пазней Вілейская), Гарадоцкая. У канцы апошняй знаходзілася вулачка-вёска Калюга. У 1864 у М. адкрыта настаўніцкая семінарыя. У 19 ст. ў сувязі з буд-вам Лібава-Роменскай чыгункі (1873) пачаўся хуткі рост М. У канцы 19 ст. цэнтр воласці, 648 жыхароў, 85 двароў, 3 царквы, паштовая станцыя, піваварня, 18 крам, штотыднёвы кірмаш. У пач. 20 ст. 2393 жыхары, 6 прадпрыемстваў. У 1907 змураваны *Маладзечанскі чыгуначны вакзал.* З 1921 у складзе бурж. Польшчы, горад, цэнтр павета Віленскага ваяводства. З 1939 у БССР, 6,6 тыс. жыхароў. З 1940 цэнтр раёна, педвучылішча, 3 б-кі, 2 клубы. З 1944 горад абл. падпарадкавання. У 1944—60 цэнтр Маладзечанскай вобл., 26,3 тыс. жыхароў у 1959. З 1960 у Мінскай вобл., 50,4 тыс. жыхароў у 1970, 87,1 тыс.— у 1987. Генпланы М. распрацаваны ў 1949 (арх. А. Хегай і інш.), 1965 («Белдзяржпраект»; арх. Г. Булдаў, інж. Р. Абласава, А. Носаў-Белякоў) і 1983 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. А. Акенцьеў, Г. Булдаў, інж. Р. Шамес, І. Калеснік); развіццё горада прадугледжана ў паўд. і ўсх. напрамках. Сетка вуліц прамавугольная. Чыгункі падзяляюць горад на 4 планіровачныя раёны: заходні (раён канцэнтрацыі большасці прамысл. прадпрыемстваў), паўночны (зона індывідуальнай жылой забудовы), усходні (прамысл. раён; старая частка горада з пл. Свабоды, б. гандлёвая, дзе захаваўся помнік архітэктуры — *Маладзечанская Пакроўская царква*), паўднёвы (зона шматпавярховай капітальнай жылой забудовы, грамадскі цэнтр). Галоўныя магістралі — праспект Леніна (участак шашы на Вільнюс; размешчаны 14-павярховая гасцініца «Маладзечна», цэнтр. б-ка, сярэдняя школа, паліклініка, магазіны), вул. Прытыцкага (банк, пошта-тэлеграф, рэстаран «Па-



**Маладзечна.** Плошча Леніна.

параць-кветка», кінатэатр «Радзіма», Дом быту, сталовая, магазіны), вуліцы Савецкая, Валынца, Я. Купалы (у 1980-я гады ўзбоч яе пабудаваны новы мікрараён Шырокая Дуброва з 5—9-павярховых жылых дамоў), Горкага (часткова захаваўся помнік архітэктуры 18 ст.— будынак б. Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, раней — манастыр антытрынітарыяў), Жданава. На скрыжаванні вуліц Прытыцкага і Савецкай утворана пл. Леніна. Капітальная жылая забудова склалася пераважна ў цэнтр. кварталах, якія прымыкаюць да праспекта Леніна, вуліц Жданава, Кірава, Касманаўтаў і 60 гадоў Кастрычніка. Забудова цэнтр. часткі горада 2—9-павярховая. Паўд. планіровачны раён уключае 4 мікрараёны, забудаваныя 5—9-павярховымі дамамі. Вышынныя дамінанты размяшчаюцца групамі на больш высокіх адзнаках рэльефу, што стварае выразны сілуэт забудовы. Вялікая ўвага аддаецца вырашэнню аб'ёмнапрасторавай кампазіцыі асн. уездаў у горад з боку Мінска, Вільнюса, Вілейкі, Валожына. Праектам дэталёвай планіроўкі цэнтра 1986 (БелНДІПградабудаўніцтва; арх. В. Сушчыц, А. Акенцьеў, А. Дубініна і інш.) прадугледжана яго развіццё ў паўн.-зах. напрамку на вул. Сухой і ў паўн.-ўсх. на вул. Савецкай, стварэнне пешаходнай зоны на вул. Прытыцкага з паслядоўным чляненнем яе на 4 планіровачныя комплексы рознага функцыянальнага прызначэння; актыўнае азеляненне, стварэнне спарт. і расшырэнне паркавай зон. Зона адпачынку — р. Уша са штучным вадаёмам, цэнтр. гарадскі парк Перамогі, парк у паўн. планіровачным раёне, сквер на вул. Калініна.

*Г. А. Каханоўскі, С. Ф. Самбук.*

**МАЛАМАЖЭЙКАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму. Створана ў 1-й пал. 19 ст. на ўсх. ускраіне в. Малое Мажэйкава (Лідскі р-н). Складаецца з сядзібнага дома, гасп. пабудоў і невял. парку. Дом — 1-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак накрыты паўвальмавым дахам. Цэнтр. частка з мансардай вылучана 4-калонным дарычным порцікам. Фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, аздобленымі сандрыкамі і руставанымі лапаткамі ў прасценках. Планіроўка мяшаная анфіладна-калідорная, у цэнтры вестыбюль з вітымі ўсходамі. На З ад сядзібнага дома 2 мураваныя гасп. корпусы з 2-калоннымі порцікамі і люкарнамі. Парк ва ўсх. частцы мае мяшаную рэгулярна-пейзажную планіроўку. Дзве ўзаемна перпендыкулярныя алеі абмяжоўваюць два ставы. У парку растуць дрэвы мясцовых парод. На тэрыторыі ансамбля размешчана цэнтр. сядзіба мясцовага саўгаса, Дом культуры.



**Маламажэйкаўская сядзіба.** Сядзібны дом.

*А. М. Кулагін.*

**МАЛАРЫТА,** горад, цэнтр раёна, на р. Маларыта. За 52 км на ПдУ ад Брэста. Вядома з 1566 як каралеўская вёска Малая Рыта Палескай воласці Берасцейскага пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1795 у складзе Расіі, сяло ў Брэсцкім пав. Слонімскай, з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губерняў. У 1897 у М. 1275 жыхароў, 203 двары, нар. вучылішча, 2 лесапільні, шпалапрапітны з-д, цагельня, вятрак. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр гміны Брэсцкага пав. З 1939 у БССР, у складзе Брэсцкай вобл. З 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. У 1959 было 3,4 тыс. жыхароў. З 1962 да 1965 у Брэсцкім р-не. З 1970 горад. Генпланы М. распрацаваны ў 1959 (Брэсцкія абл. праектныя майстэрні) і 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПградабудаўніцтва). Горад развіваецца ўздоўж чыгункі, якая перасякае яго з ПнЗ на ПдУ і дзеліць на 2 часткі: уласна горад і пас. Ласкі (у межах горада з 1967). Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Леніна, Савецкая, Чырвонаармейская, Энгельса, Кобрынская, Чкалава. У раёне асн. вуліц — Леніна і Савецкай і на цэнтр. плошчы, утворанай на іх скрыжаванні, склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр. Будуюцца 2—5-павярховыя жылыя дамы. Фарміруюцца паўн.-ўсх. і паўд.-зах. прамысловыя раёны. Зона адпачынку — р. Маларыта, на беразе якой закладзены парк. Збярогся помнік драўлянага дойлідства 2-й пал. 19 ст.— Мікалаеўская царква. Плануецца далейшае развіццё горада на ПнЗ, функцыянальнае заніраванне тэрыторыі, расшырэнне грамадскага цэнтра і стварэнне падцэнтраў на вуліцах Калініна (з боку ўезду з Кобрына) і Савецкай, расшырэнне зон спартыўнай і адпачынку.

*Л. С. Патапаў.*

**МАЛЕЧ,** вёска ў Бярозаўскім р-не. Цэнтр сельсавета і саўгаса імя 60-годдзя КПБ. Адзін з эксперыментальна-паказальных пасёлкаў Беларусі. За 20 км на З ад Бярозы, 89 км ад Брэста. У 16 ст. мястэчка ў Брэсцкім пав. Вял. кн. Літоўскага. У 1645 атрымала герб:



**Малеч.** Забудова грамадскага цэнтра.

на сярэбраным полі паясная выява мужчыны з ключамі ў руках. З 1795 у складзе Расіі. У канцы 19 ст. мястэчка, цэнтр воласці ў Пружанскім пав., каля 1,5 тыс. жыхароў, 70 двароў, 2 царквы, школа, сукнавальня, 16 крам, базар, 12 кірмашоў на год. З 1921 у складзе бурж. Польшчы. З 1939 у БССР. Сучасная вёска вызначаецца высокім узроўнем добраўпарадкаванасці, выразнасцю сілуэта забудовы, функцыянальным заніраваннем тэрыторыі. Генплан распрацаваны ў 1971 (БелНДІдзіпрасельбуд, карэкціроўка 1974; арх. Н. М. Нядзелька, інж. В. Хандогін). Архіт.-кампазіцыйны цэнтр вёскі — плошча, утвораная пры злучэнні 2 гал. вуліц — Савецкай і Спецыялістаў. Тут, побач са старым паркам, склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр, які фарміруюць адм. будынак дырэкцыі саўгаса і выканкома сельскага Савета нар. дэпутатаў, Палац культуры (з глядзельнай залай на 600 месцаў, муз. школай, б-кай, маладзёжным кафэ, пакоямі для работы гурткоў), школа, дзіцячы камбінат (пабудаваны па эксперыментальным праекце, у афармленні выкарыстаны дэкар. элементы на матывы нар. казак), гандл. цэнтр (камбінат быт. абслугоўвання, гасцініца з інтэрнатам, магазін, сталовая з банкетнай залай), тры 16-кватэрныя 5-павярховыя жылыя дамы, аб'яднаныя 1-павярховымі аб'ёмамі, дзе размешчаны магазіны і аптэка. Упрыгожваюць цэнтр дэкар. вадаём з добраўпарадкаванай набярэжнай, прагулачнай алеяй і пляжам, групы дэкар. дрэў, газоны, малыя архіт. формы. Асаблівасць архіт.-планіровачнага вырашэння цэнтра — размяшчэнне будынкаў на штучна створаным мікрарэльефе. Цэнтр кампазіцыйна аб'яднаў зону індывідуальнай жылой забудовы вёскі (на Пд ад цэнтра) з зонай новай 2-павярховай капітальнай жылой забудовы, што прылягае да цэнтра з Пн і ПнЗ. Будуюцца 1- і 4-кватэрныя жылыя дамы з кватэрамі ў 2 узроўнях, 8-кватэрныя жылыя дамы. У афармленні фасадаў выкарыстаны дэкар. тынкоўка, рознакаляровая керамічная плітка (залацісты, пясочны, белы і чырвоны колеры), што падкрэслівае выразнасць сілуэта забудовы. Жылыя дамы маюць зручную сувязь з групамі гасп. пабудоў. Вёска забяспечана ўсімі відамі інж. абсталявання, добраўпарадкавана. Вытв. зона размешчана ў паўн., паўн.-зах. і паўд.-зах. ч. вёскі. Прадугледжваецца далейшае развіццё грамадскага цэнтра, добраўпарадкаванне зоны індывідуальнай жылой забудовы.

*Н. М. Нядзелька.*

**МАЛІНОЎШЧЫНСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры эклектыкі. Сфарміравалася ў 2-й пал. 19 ст. (да 1891) у в. Маліноўшчына (Маладзечанскі р-н). Створана з выкарыстаннем элементаў архаікі, класіцызму, неаготыкі. Комплекс уключаў жылы дом, флігель, парк, абеліск, капліцу-пахавальню, бровар. Ж ы л ы д о м — першапачаткова драўляны 1-павярховы будынак з 4-калонным порцікам на гал. фасадзе (не захаваўся). Пазней мураваны, размешчаны ва ўсх. частцы парку каля абрывістага схілу поймы ручая. Прамавугольны ў плане на высокім руставаным цокалі будынак, накрыты паўвальмавым дахам. Фасады маюць строеныя стральчатыя вокны. На тарцовых шчытах даху па 3 люкарны. Ф л і г е л ь — 1-павярховы мураваны прамавугольны ў плане будынак пад вальмавым дахам з дахоўкі. Гал. фасад сіметрычна расчлянёны стральчатымі аконнымі і ўваходнымі праёмамі. Парк пейзажнага тыпу, з пладовым садам. Займае плошчу каля 8 га. Ручай падзяляе парк на 2 часткі і 2 пратокамі стварае выспу. З усх. боку абмежаваны алеяй (шыр. 12 м), абсаджанай каштанам конскім і хвояй веймутавай, з паўд.— групай лістоўніцы сібірскай, з зах.— алеяй з лістоўніцы сібірскай (дрэвы пасаджаны радамі праз 3 м). Сярод пасадак таполя белая, елка звычайная, піхта сібірская, дугласія шэрая. У цэнтры парку абеліск 19 ст. з чорнага лабрадарыту. У паўд. частцы бровар. К а п л і ц а-п а х а в а л ь н я знаходзіцца ў паўд.-зах. частцы парку. Цагляная 4-гранная піраміда, накрытая маленькім 4-схільным дахам. Гарызантальнай цягай падзелена на 2 ярусы. У капліцы — жалобная зала са стральчатымі ўваходамі і вокнамі. У сутарэннях — нішы-пахавальні. У ніжнюю частку сцен умураваны вапнавыя паліраваныя пліты з мемарыяльнымі надпісамі.



**Маліноўшчынская сядзіба.** Сядзібны дом. Фота пачатку 20 ст.



**Маліноўшчынская сядзіба.** Капліца.

**МАЛЯЦІЦКІ КАСЦЁЛ.** Існаваў у канцы 18 — 1-й пал. 20 ст. Пабудаваны ў 1787—94 па заказу Магілёўскага архіепіскапа Станіслава Богуш-Сестранцэвіча ў в. Маляціцы (Крычаўскі р-н) паводле праекта літоўскага арх. Л. Стуока-Гуцявічуса. Будаўніцтвам кіраваў яго вучань арх. Я. Падчашынскі. Касцёл — паменшаная копія сабора св. Пятра ў Рыме. Складаецца з асн. прамавугольнага ў плане аб'ёму і бакавых паўкруглых у плане каланад, якія ўтваралі невял. авальную плошчу перад будынкам. Асн. аб'ём завяршаўся купалам (на глухім шмат-



**Маляціцкі касцёл.** Галоўны фасад. Фота пачатку 20 ст.



**Мамайскі касцёл.**

гранным барабане), абапал яго былі 2 невял. купалы. Гал. фасад асн. аб'ёму меў ярусную кампазіцыю: ніжні (на ўзроўні 2-га паверха), раскрапаваны пілястрамі і 3-чвэртнымі калонамі, меў паўцыркульныя і прамавугольныя вокны і нішы, аформленыя франтончыкамі, і завяршаўся трохвугольным франтонам у цэнтры; верхні раскрапаваны пілястрамі, паміж якімі былі прамавугольныя вокны і нішы, завяршаўся пакатым франтонам. Касцёл не збярогся. *В. Ф. Марозаў.*

**МАМАЙСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры класіцызму з элементамі позняга барока. Пабудаваны ў канцы 18 ст. ў в. Мамаі (Глыбоцкі р-н). Прамавугольны ў плане мураваны будынак накрыты 2-схільным пакатым дахам з трохвугольнымі франтонамі на тарцах. У аснову архіт. пластыкі фасадаў пакладзены дарычны ордэр. Гал. фасад раскрапаваны паўкалонамі, прамавугольнымі плоскімі і глыбокімі паўкруглымі нішамі. Уваход аформлены вялікім парталам. Бакавыя фасады з высока размешчанымі прамавугольнымі вокнамі аздоблены пілястрамі. Сцены завершаны развітым дарычным антаблементам. Унутры будынка дапаможныя памяшканні па 4 вуглах прасторава вылучаюць з асн. памяшкання ўваходную і алтарную часткі. На сценах пілястры карынфскага ордэра, на плоскай столі — цыліндрычныя скляпенні. Па восі будынка стаіць двух'ярусная мураваная званіца-брама, завершаная трохвугольным франтонам, якая па стылістыцы адпавядае архітэктуры касцёла. З 1866 — царква, дзейнічае. *Т. В. Габрусь.*

**МАНУМЕНТ ПЕРАМОГІ** ў Мінску, помнік у гонар перамогі савецкага народа над фаш. Германіяй і на ўвекавечанне памяці воінаў Савецкай Арміі і партызан, якія загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. Устаноўлены ў 1954 на *Перамогі плошчы* (арх. Г. Заборскі, У. Король). Абеліск (выш. каля 40 м) абліцаваны шэрым гранітам і завершаны выявай ордэна Перамогі (бронза, смальта); яго грані рытмічна расчлянёны паласамі, стылізаванымі пад бел. арнамент. Па 4 гранях пастамента размешчаны бронзавыя гарэльефы: «9 мая 1945 г.» (скульпт. А. Бембель), «Савецкая Армія ў гады Вялікай Айчыннай вайны» (С. Селіханаў), «Слава загінуўшым героям» (З. Азгур), «Партызаны Беларусі» (А. Глебаў). Як сімвал перамогі на базе абеліска ляжыць абвіты лаўровай галінкай меч (бронза, С. Салтыкоў). Ступеньчаты стылабат (чорны лабрадарыт) з 4 бакоў фланкіраваны вянкамі (бронза, С. Адашкевіч).




**Манумент Перамогі ў Мінску.**



**Манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі** ў Жодзіне.

3.7.1961 каля падножжа манумента запалены Вечны агонь. *М. М. Яніцкая.*

**МАНУМЕНТ У ГОНАР САВЕЦКАЙ МАЦІ-ПАТРЫЁТКІ,** мемарыяльны комплекс у г. Жодзіна Мінскай вобл. Адкрыты каля шашы Мінск — Масква ў 1975 (скульпт. А. Заспіцкі, І. Міско, М. Рыжанкоў, арх. А. Трафімчук; Дзярж. прэмія СССР 1977). Шасціфігурная скульпт. кампазіцыя (з бронзы) выцягнута па гарызанталі. Фігура маці нібы застыла на 2-ступеньчатым пастаменце, а праз сімвалічную дарогу, засаджаную кветкамі,— фігуры яе 5 сыноў (пастаўлены на больш нізкі пастамент), што пайшлі на вайну. У помніку ўвасоблены драматычны лёс бел. маці, жыхаркі г. Жодзіна Н. Ф. Купрыянавай, усе 5 сыноў якой аддалі жыццё за вызваленне Радзімы ад ням.-фаш. захопнікаў. Мемарыяльны комплекс арганічна ўваходзіць у навакольнае асяроддзе. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**МАНЬКАВІЦКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў канцы 18 — 1-й пал. 20 ст. ў в. Манькавічы (Пастаўскі р-н). Належала Хлявінскай, потым Друц-

кім-Любецкім. Уключала сядзібны дом, гасп. пабудовы, парк, капліцу-пахавальню. Сядзібны дом — прамавугольны ў плане драўляны 1-павярховы будынак з мезанінам у цэнтры. Стаяў на каменным падмурку. Быў накрыты мансардавым ламаным дахам з круглымі люкарнамі. Меў рысы пераходнай архітэктуры — ад позняга барока да класіцызму. Гарызантальна ашаляваныя звонку сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Гал. фасад вылучаны 2-ярусным 4-калонным порцікам (у ніжнім ярусе калоны ў сячэнні круглыя, у верхнім, надбудаваным пазней,— квадратныя) з ажурнай агароджай галерэі ў 2-м ярусе і разным франтонам у завяршэнні. Планіроўка анфіладная. Сярод гасп. пабудоў манументальнасцю архітэктуры вылучаўся вырашаны ў стылі ампір


**Манькавіцкая сядзіба.** Сядзібны дом. Фота 1920-х гадоў.


**Масалянская царква Нараджэння Багародзіцы.**

мураваны свіран — прамавугольны ў плане на высокім бутавым цокалі цагляны будынак, накрыты 2-схільным дахам. Вуглы сцен аздоблены рустам, гал. падоўжаны фасад быў вырашаны галерэяй-каланадай тасканскага ордэра. Захаваліся: капліца-пахавальня ў стылі позняга класіцызму, размешчаная ў лесапаркавым масіве на супрацьлеглым ад дома ўзгорыстым беразе става; бутавы свіран; млын. *А. М. Кулагін.*

**«МАНЬКАВІЧЫ»**, сядзібна-паркавы комплекс. Гл. *Столінская сядзіба «Манькавічы».*

**МАР'ІНА ГОРКА**, горад, цэнтр Пухавіцкага р-на, на р. Цітаўка. За 63 км на ПдУ ад Мінска. Вядома з 16 ст., належала Радзівілам, Бужынскім, Ратынскім, Крупскім, пасля 1863 міністру ўнутраных спраў Л. С. Макаву. Назва ад горкі, на якой, паводле легенды, стаяў язычніцкі храм, дзе ў так званы «мар'ін дзень» адбываліся святкаванні (пазней там пабудавана царква). З 1793 у складзе Расіі, вёска ў Ігуменскім пав. Росту М. Г. садзейнічала буд-ва Лібава-Роменскай чыгункі (1872). У 1876 заснавана с.-г. школа (з 1921 с.-г. тэхнікум). У 1897 у М. Г. 2 тыс. жыхароў. З 1924 цэнтр Пухавіцкага р-на. З 1938 гарадскі пасёлак, 6,5 тыс. жыхароў у 1939. З 1955 горад. 9,3 тыс. жыхароў у 1959, 11,3 тыс.— у 1970. Планіровачная структура горада прамавугольная, з дробнай сеткай вуліц. Генплан М. Г. распрацаваны ў 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). У паўн. частцы з З на У горад перасякае рака і аддзяляе паўн. планіровачны раён (вул. Цэнтральная, забудаваная 1-павярховымі дамамі сядзібнага тыпу) ад астатняй тэрыторыі, якая чыгункай падзяляецца на цэнтральны і залінейны планіровачныя раёны. Цэнтр. раён — зона капітальнай жылой забудовы, тут склаўся і грамадскі цэнтр. На скрыжаванні вуліц Ленінскай і Савецкай — цэнтральная плошча. На вул. Кастрычніцкай, на Прывакзальнай пл. размешчаны будынкі чыг. вакзала, гасцініцы, універмага, аўтастанцыі. Забудова цэнтра ў асноўным 2—5-павярховая. У паўд. частцы цэнтр. раёна склалася прамыслова-складская зона. У залінейным раёне пераважная колькасць прамысл. прадпрыемстваў і жылы раён з індывідуальнай 1-павярховай забудовай. Зона адпачынку — р. Цітаўка і гарадскі парк на яе ўзбярэжжы. Збярогся б. сядзібны дом (19 ст.). Прадугледжваецца далейшае развіццё горада на Пд і З, расшырэнне існуючага і стварэнне новага грамадскага цэнтра, стварэнне 2 падцэнтраў, спарт. зоны. *Л. С. Патапаў.*

**МАСАЛЯНСКАЯ ЦАРКВА НАРАДЖЭННЯ БАГАРОДЗІЦЫ**, помнік архітэктуры позняга барока з элементамі класіцызму. Пабудавана ў 1796 Марыянай Біспінг у в. Масаляны (Бераставіцкі р-н) як уніяцкая. Мураваны 1-нефавы 1-вежавы прамавугольны ў плане храм накрыты высокім 2-схільным дахам. Гал. фасад з прамавугольнымі вокнамі падзелены развітым антаблементам на 2 ярусы. Ніжні ярус аздоблены ордэрнымі элементамі, яго сярэдняя частка-выступ завершана трохвугольным франтонам. Верхні ярус — квадратная ў плане вежа, накрытая высокім 8-гранным шатром з люкарнамі (у 2-й пал. 19 ст. перабудавана завяршэнне вежы, зроблены дэкар. галоўкі на даху), з рудыментамі валют па баках. Сцены вежы маюць вял. прамавугольныя вокны з паўцыркульнымі завяршэннямі. Бакавыя фасады з лучковымі вокнамі пазбаўлены аздобы. Інтэр'ер зальны,

перакрыты плоскай столлю. Сцены падзелены пілястрамі. Каля зах. сцяны хоры раскрыты ў залу 3 арачнымі праёмамі. Трох'ярусны іканастас зроблены ў 1892. Царква дзейнічае. *А. А. Ярашэвіч.*

**МАСАЛЯНСКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у 19 ст. ў в. Масаляны (Бераставіцкі р-н). Меў рысы стыляў ампір і несапраўднай готыкі. Мураваны 1-павярховы будынак складанай канфігурацыі ў плане, быў пастаўлены на высокі цокаль. Цэнтр. частка, накрытая вальмавым дахам, была вылучана 4-калоннай паўратондай, якая заканчвалася квадратным у плане бельведэрам са скульптурай у завяршэнні. Бакавыя крылы палаца на гал. фасадзе афармлялі слупавыя галерэі. Прамавугольныя і спічастыя вокны цэнтр. часткі і бакавых крылаў былі аздоблены абрамленнямі з сандрыкамі і архівольтамі. Палац вядомы паводле малюнка Н. Орды 1860—70-х гадоў, калі належаў Біспінгам. *Ю. А. Якімовіч.*



**Масалянскі палац.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.



Кінатэатр **«Масква»** ў Мінску.

**«МАСКВА»**, кінатэатр у Мінску. Пабудаваны ў 1980 (арх. В. Крамарэнка, У. Шчарбіна, М. Вінаградаў), уваходзіць у склад адм.-культ. і гандл. комплексу на *Машэрава праспекце.* Будынак вырашаны кампактным сіметрычным аб'ёмам. У кампазіцыі гал. фасада дамінуе тарцовая частка вял. глядзельнай залы (на 1070 месцаў), якая кансольна навісае над суцэльна зашклёнымі фае і вестыбюлем. Пластыку фасада ўзбагачаюць аддзелачныя матэрыялы (белы мармур, чырвоны граніт, светлы туф, анадзіраваны алюміній) і ўстаўкі з медзі. Процілеглы дваровы фасад сфарміраваны лаканічным па архітэктуры аб'ёмам малой залы (на 260 месцаў, тут працуе Тэатр-студыя кінаакцёра), фае якой упрыгожана вітражом «Масква — сталіца нашай Радзімы» (маст. Г. і М. Вашчанкі). Вакол вял. глядзельнай залы размешчаны фае — выставачная зала, лекцыйная зала на 120 месцаў (таксама і для паказу кароткаметражных фільмаў), кафэ. Перад кінатэатрам невял. плошча з фантанам. *А. А. Воінаў.*

**МАСКОЎСКАЯ ВУЛІЦА** ў Брэсце. Галоўны гарадскі дыяметр і асн. транспартная магістраль Брэста, перасякае яго з ПдЗ на У, паралельна р. Мухавец. Даўж. 8,5 км, на У пераходзіць у аўтамагістраль Брэст—Масква. У сучасных межах сфарміравалася да 1965. Звязвае Маскоўскі і Ленінскі раёны. Прастора звязвае мемарыяльны комплекс *Брэсцкая крэпасць-герой,* зону гарадскога цэнтра ў раёне вуліц Леніна і Савецкай з прамысл. раёнам на перасячэнні з вул. Піянерскай, жылым раёнам Усход і выходзіць на Мінскую шашу. Своеасаблівае архіт.-маст. аблічча вуліцы ствараюць маштабныя суадносіны шырыні і профілю магістралі, вышыні забудовы і рытмічнае чаргаванне будынкаў адм., культ.-быт., жылых, навучальных устаноў і прамысл. прадпрыемстваў. Складаецца з 4 участкаў, якія вылучаюцца гісторыяй узнікнення і архіт. абліччам: заходняга (ад Брэсцкай крэпасці да вул. Леніна; рэгулярнай забудовы не мае), цэнтральнага (ад вул. Леніна да Кобрынскага моста; гіст. цэнтр вуліцы), участка ад Кобрынскага моста да вул. Піянерскай (забудова пач. 20 ст., 1-павярховая сядзібнага тыпу) і ўсходняга (ад вул. Піянерскай да пераходу ў аўтамагістраль Брэст—Масква). Кампазіцыя забудовы зах. часткі, якую ўтвараюць 5-павярховыя жылыя дамы, завяршаецца на перасячэнні з вул. Леніна скверам з помнікам савецкім пагранічнікам (1972, скульпт. М. Альтшулер, арх. А. Гарбачоў, М. Мілавідаў). Архіт. ансамбль склаўся на перасячэнні з вуліцамі 17 Верасня і Савецкай, дзе пабудаваны гасцініца «Інтурыст», гандлёвы цэнтр, 8-павярховы будынак вытв.-тэхн. ўпраўлення сувязі. На перасячэнні з бульварамі Касманаўтаў і Шаўчэнкі створаны другі кампазіцыйны вузел з 9-павярховым жылым домам з магазінам «Адзенне», бюстам двойчы Героя Сав. Саюза П. І. Клімука (1978, скульпт. І. Міско, арх. С. Баткоўскі). У 1960—70-я гады на тэрыторыі, абмежаванай вуліцамі Маскоўскай, Я. Купалы і Піянерскай, пастаўлены будынкі *Брэсцкага ўсходняга прамысловага вузла.* З 1967 забудоўваецца новы жылы раён *Усход* (арх. В. Анікін, А. Кудзіненка, П. Лагуноўская), які ўключае 7 мікрараёнаў і грамадскі цэнтр. Забудову мікрараёнаў з паўн. боку вуліцы фарміруюць вышынныя акцэнты 20-павярховых жылых дамоў з маналітнага жалезабетону ў пачатку, сярэдзіне і канцы магістралі, 9-павярховыя жылыя дамы, пласты-



**Маскоўская вуліца** ў Брэсце. Гандлёвы цэнтр.

ку фасадаў якіх узбагачаюць вынесеныя наперад 2-паверхавыя аб'ёмы прадпрыемстваў культ.-быт. прызначэння (арх. Р. Шылай, Анікін, А. Ляшук). Важным кампазіцыйна-планіровачным элементам жылога раёна Усход з'яўляецца комплекс політэхнічнага ін-та, да якога з боку ракі прымыкае студэнцкі гарадок з водна-спарт. комплексам. На перасячэнні з Партызанскім праспектам пабудаваны 3-паверхавы Палац культуры аблсаўпрофа з заламі на 653 і 400 месцаў (1980, арх. Г. Чысцякоў). *Г. С. Ларкін.*

**МАСКОЎСКІ ПРАСПЕКТ** у Віцебску. Адна з гал. магістралей горада, перасякае яго з З на У, ад вул. Будзённага да ўсх. ускраіны горада. Створаны на месцы б. Смаленскай шашы (арх. А. Бельскі, А. Данілава, В. Данілаў, Я. Ліневіч, Ю. Патапаў, В. Чарнышоў, Ю. Шпіт і інш.). Даўж. каля 4 км, шыр. ад 72 да 100 м. Перасякае р. Зах. Дзвіну па мосце Блахіна, водна-зялёны дыяметр уздоўж ракі і транспартныя магістралі, якія звязваюць праспект з паўн. і паўд. раёнамі горада. Па цэнтры праспекта праходзіць адасобленае палатно для трамвайнага руху. Частка яго паміж вул. Будзённага і аднайменнай плошчай забудавана ў пач. 19 ст. На перасячэнні яго з вул. Леніна знаходзіцца пл. Перамогі. Своеасаблівае архіт.-маст. аблічча праспекта ствараецца чаргаваннем адм. будынкаў, карпусоў навучальных устаноў, прадпрыемстваў гандлю, жылых дамоў. Кампазіцыю забудовы паўн. боку ўтварае рытм 6-паверхавых жылых дамоў (1963—65, арх. А. Фрыдман, У. Брэдзіс) з гандл. прадпрыемствамі ў першых паверхах. На рагу М. п. і пл. Перамогі знаходзяцца будынак Галоўпаштамта (1966, арх. М. Алееў) і 9-паверхавы жылы дом з магазінам «Дзіцячы свет» (1968, арх. А. Расейкін). Пры забудове паўд. боку праспекта выкарыстаны натуральны перапад рэльефу: жылыя дамы падняты на вышыню пешаходнай тэрасы, якая аб'ядноўвае памяшканні першых паверхаў 6-павярховых жылых дамоў з магазінамі «1000 дробязей» (1969, арх. Алееў, З. Озерава) і «Цэнтральны» (1969, арх. Фрыдман). На рагу праспекта і вул. Чкалава пабудаваны блок 5-павярховых цагляных дамоў серыі 1—434 (1977, арх. Р. Махмутаў), пластыку фасадаў якіх узбагачае рытм выступаў — аб'ёмаў лесвічных клетак. Вышынная дамінантай праспекта з'яўляецца 14-паверхавы жылы дом (1978, арх. Данілаў, З. Даўгяла). У фарміраванні архіт.-маст. аблічча значную ролю адыгрывае комплекс будынкаў педінстытута імя С. М. Кірава (1973, арх. У. Зубкоў, Э. Конаш). Працягам забудовы паўд. боку праспекта з'яўляюцца 9-паверхавыя жылыя дамы (арх. Данілаў, В. Лукомскі, Даўгяла), завяршае забудову 9-паверхавы адм. корпус «Аблкалгасбуда» (1981, арх. У. Малахаў). Ва ўсх. частцы, у зоне мікрараёнаў Поўдзень 3 і Поўдзень 4, яго архіт. аблічча вызначае спалучэнне 5—9-паверхавых буйнапанельных жылых дамоў, 9-паверхавы корпус «Віцебсксельбудпраекта». *В. П. Андаралаў.*

**МАСТЫ,** горад, цэнтр Мастоўскага р-на, на р. Нёман пры ўпадзенні ў яе р. Зальвянка. За 60 км на ПдУ ад Гродна. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаюцца пад 1486, 1514. З 1551 мястэчка Гродзенскай эканоміі Вял. кн. Літоўскага. Паводле грамат 1601, 1633, 1653 і 1677 каралёў Рэчы Паспалітай жыхары М. атрымалі некаторыя прывілеі паводле магдэбургскага права, з 1633 тут праводзіліся штотыднёвыя базары і 2 кірмашы на год. У 1561 праведзена рэгуляванне забудовы М. У гэты час мястэчка падзялялася на старую і новую часткі. У старой размяшчаліся каралеўскі двор, гандл. плошча, вуліцы Віленская (асн. архіт.-планіровачная вось), Гродзенская і Касцёльная (можна меркаваць, назва ад драўлянага касцёла, пабудаванага ў 1539; не захаваўся). Ад апошняй да Нёмана створана новая вул. Водная. Каля каралеўскага двара было 10 двароў агароднікаў. Гуменны і агародныя пляцы размяшчаліся ўздоўж Віленскай дарогі і ў інш. месцах. Усяго ў старой частцы М. было 105 сядзіб. Новая частка ўзнікла на процілеглым беразе Нёмана — аўтаномнае рэгулярна спланаванае паселішча з гандл. плошчай і 5 вуліцамі: Панямунскай, Мінскай, Дзярэчынскай, Пескаўскай і Воўпінскай. Мела 95 сядзіб стандартных памераў (5 і 10 прэнтаў; 1 прэнт = 23,7 м$^2$) з агародамі, гуменнымі ўчасткамі. У сярэдзіне 17 ст. мястэчка значна рэгрэсіравала. У 1673 цэнтрам М. была рынкачная плошча, да якой прылягалі 22 двары, астатнія 90 знаходзіліся на вуліцах. Забудова была шчыльнай, некаторыя двары мелі плошчу каля 30 м$^2$. Асобна размяшчаўся сядзібны комплекс з жылымі і гасп. пабудовамі. На Нёмане былі вадзяны млын і паромная пераправа. З 1795 М. ў складзе Расіі, мястэчка Гродзенскага пав. Слонімскай, з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губерняў. Належалі з 1797 віленскаму віцэ-губернатару Волкаву і калежскаму саветніку Літку, пазней — правадзейнаму стацкаму саветніку Шэвальё Дальо, таможнаму інспектару Мураўёву і інш. У 1797 у М. 622 жыхары, у 1833—981 жыхар, 164 драўляныя дамы, у 1897—2633 жыхары, 601 дом, нар. вучылішча, ліманаднае прадпрыемства, прыстань. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр гміны Гродзенскага пав. Беластоцкага ваяводства. З 1939 у складзе БССР, 4,7 тыс. жыхароў. З 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З 1955 горад. 7,6 тыс. жыхароў у 1959. У 1962—65 у Ваўкавыскім р-не. 11,6 тыс. жыхароў у 1970. У паўн. частцы горада праходзіць чыгунка, у паўднёвай з З на У цячэ рака. Планіровачная структура ў асноўным прамавугольная, з дробнымі кварталамі. Генпланы М. распрацаваны ў 1971 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва) і ў 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). Пераважае драўляная 1-паверхавая забудова сядзібнага тыпу. Цэнтр. частка



**Маскоўскі праспект** у Віцебску.



Масты. Касцёл. Фота 1904.

горада забудавана капітальнымі 2—5-павярховымі дамамі. Асн. кампазіцыйная вось — вул. Савецкая (забудавана 2—5-павярховымі дамамі) з плошчай Леніна. Створаны 2 мікрараёны, сфарміраваны 3 прамысл. зоны: паўночна-заходняя, паўднёвая, усходняя. Зона адпачынку — на берагах Нёмана, парк, лесапарк. Прадугледжваецца развіццё горада на У (прамысл. буд-ва) і на Пд (жылая забудова сядзібнага тыпу), функцыянальнае заніраванне тэрыторыі, развіццё грамадскага цэнтра ў паўн.-зах. напрамку, стварэнне падцэнтраў на вул. 30-годдзя ВЛКСМ, размяшчэнне зоны камунальнай гаспадаркі ў паўн. частцы горада, буд-ва спарт. комплексу на правым беразе ракі.

*Ю. А. Якімовіч, Л. С. Патапай.*

**МАХРОЎСКАЯ ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1792 у в. Махро (Іванаўскі р-н) як уніяцкая. Складаецца з прамавугольнага ў плане асн. зруба і 5-граннай алтарнай апсіды, накрытых агульным дахам з трохвугольнымі навісямі ў месцы злучэння аб'ёмаў. Галоўны паўн. фасад вырашаны ў выглядзе шырокай пласціны, пры ўваходзе тамбур. Фасад падзелены на ярусы 2 развітымі карнізамі і завершаны 3 вежачкамі (бакавыя квадратныя ў плане, цэнтральная 8-гранная). Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Карнізы аздоблены разьбой. Вокны прамавугольныя. Інтэр'ер зальны з плоскім бэлечным перакрыццем. Над уваходам — вял. хоры. Дапаможныя памяшканні ўбудаваны ўнутры асн. зруба. У баку ад царквы стаіць 2-ярусная чацверыковая каркасная званіца, накрытая пакатым шатром. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*



Махроўская Петрапаўлаўская царква.

**МАЦІЕВІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1720 у в. Маціевічы (Жабінкаўскі р-н), часткова перабудавана ў 1860-я гады, тады ж узведзена і званіца. Будынак складаецца з прамавугольнага асн. зруба і невял. квадратнага ў плане бабінца аднолькавай з ім вышыні. Над бабінцам — чацвярык званіцы, аддзелены ад яго шырокім гонтавым сцёкам і завершаны шатром з галоўкай. Асн. зруб накрыты 2-схільным дахам з вільчыкам, над апсідай — невял. галоўка. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і ўмацаваны сцяжкамі. Аконныя праёмы з паўцыркульным завяршэннем размешчаны высока. Зальны інтэр'ер у зах. частцы падзелены 4 слупамі. Перад царквой захавалася асобная драўляная 2-ярусная каркасная званіца (чацвярык на чацверыку), першы ярус якой вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, другі — адкрыты. Для помніка характэрна цэласнасць архітэктурнага аблічча, дасканаласць прапорцый і маст. выразнасць форм. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**МАШЭРАВА ПРАСПЕКТ** у М і н с к у. Былая Паркавая магістраль, у 1980 названы ў гонар сав. партыйнага і дзярж. дзеяча Беларусі П. М. Машэрава. У 12—13 стагоддзях на гэтым месцы было стараж. паселішча, з 16 ст. — Татарская слабада (Татарскі канец, Пятніцкі канец). Забудова праспекта пачалася ў



Маціевіцкая царква.

1960-я гады. Фарміруецца як састаўная частка 2-га гарадскога дыяметра. Працягласць каля 9 км ад пуцеправода цераз вул. *Няміга* да кальцавой аўтадарогі. З паўн.-ўсх. боку праспекта працякае р. Свіслач. Жылыя і грамадскія комплексы з

глыбіннымі кампазіцыйнымі прыёмамі забудовы спалучаюцца з зялёнымі масівамі і вадаёмамі. На левым баку на пачатку праспекта будынак Дома мадэлей (1967, арх. С. Замараеў), комплекс вышынных грамадскіх будынкаў, аб'яднаных 2-павярховым стылабатам,— Бел. НДІ навукова-тэхн. інфармацыі і тэхніка-эканамічных даследаванняў, Дома кнігі, Белкаапсаюза (1969—79, арх. М. Вінаградаў, А. Духан, В. Крамарэнка, А. Красоўскі, У. Шчарбіна), гасцініц «Юбілейная» (1968, арх. Г. Бенядзіктаў, У. Начараў) і *«Планета»*, кінатэатра *«Масква»*. У ансамбль забудовы гэтага ўчастка ўключаны скульпт. групы «Вясна», «Лета», «Восень» і «Зіма» (1982, бронза, скульптары А. Шатэрнік, А. Давыдзенка, Ю. Палякоў, В. Занковіч). Вылучаюцца будынкі *Дом прафесіянальных саюзаў, Дом праектных арганізацый, Мінскага завода халадзільнікаў будынкі,* Палац тэніса (1978, С. Баткоўскі, Л. Гельфанд), павільён міжнародных выставак (1988, арх. Л. Маскалевіч, Г. Ласкавая).

У 1983 узведзены жылы раён, які складаецца з групы 9—16-павярховых дамоў блок-секцыйнага тыпу (арх. Н. Шпігельман, В. Крусь). Для маст. афармлення фасадаў і інтэр'ераў выкарыстоўваюцца мармур, туф, граніт, алюміній, шырока ўжываюцца чаканныя і керамічныя пано, вітражы, сграфіта, мазаіка. На правым баку праспекта ўздоўж Свіслачы знаходзяцца рэканструяваныя фундаменты храма 12 ст., *Мінскі Палац спорту,* спарт. комплекс *«Дынама»*, парк Перамогі (закладзены ў 1945); пасаджаны дэкар. дрэвы і кусты, добраўпарадкоўваецца набярэжная (арх. Баткоўскі, Ю. Градаў, Л. Левін). З 1985 паміж вул. Цім094разева і М. п. забудоўваецца жылы раён *Вяснянка.*

У раёне вадасховішча Драздын на пл. 47 га пабудаваны гал. і спарт. карпусы ін-та фізкультуры (арх. У. Афанасьеў). У 1985 у гонар 40-й гадавіны перамогі сав. народа ў Айч. вайне ўзведзены архіт.-скульпт. комплекс *«Мінск — горад-герой».*

Іл. гл. таксама ў нарысе. *А. А. Воінаў.*

**МЕЖАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры. Створана ў 1901 г. ў в. Межава (Аршанскі р-н) у былым маёнтку графа Дзержынскага. Комплекс сядзібы (пл. 8 га) размешчаны на схілах лагчыны, утворанай ручаем Варанец і р. Аршыца. Мураваны 2-павярховы сядзібны дом пабудаваны ў стылі неабарока. Мае складаную планіровачную канфігурацыю і шматпланавую прасторавую кампазіцыю. Асн. аб'ём накрыты паўвальмавым мансардавым дахам. Да асіметрычнага гал. фасада прыбудаваны высокі прамавугольны з 2-схільным пакрыццём лесвічны аб'ём, да якога па баках далучаны больш нізкія прыбудоўкі з вальмавым і пластычным шатровым пакрыццямі. Пяцігранная апсіда ўнутранай капліцы з гранёным пакрыццём выступае на бакавым фасадзе. У дэкоры выкарыстаны ляпныя гірлянды, чырвоная дахоўка. У 1953 дабудаваны працяглы 1-павярховы корпус, вылучаны на гал. фасадзе 6-слуповым порцікам. Перад домам партэр, за якім пладовы сад. З паўдн. боку дома парк пейзажнага



**Межаўская сядзіба.** Сядзібны дом.



**Мемарыял воінскай славы.**



Праспект Машэрава ў Мінску.

тыпу. У месцы перасячэння гал. алеі і ручая перакінуты мост. У сядзібным доме размешчана адм. ўстанова. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**МЕМАРЫЯЛ ВОІНСКАЙ СЛАВЫ** на Лудчыцкай вышыні. Адкрыты 24.6.1984 за 1,5 км ад в. Лудчыцы (Быхаўскі р-н), на месцы жорсткіх баёў за вызваленне Беларусі ў 1943 і 1944. Аўтары: скульптары П. Белавусаў і У. Лятун, архітэктары В. Бялянкін і М. Мызнікаў, інж. Б. Шчарбакоў. Дамінантай мемарыяла з'яўляецца пастаўленая на ўзгорку сімвалічная фігура Баяна (выш. 10 м, сілумін), які апявае подзвіг воінаў-герояў. Каля падножжа ўзгорка пляцоўка, па краі яе на авальнай сцяне змешчаны гарэльефныя партрэты Герояў Сав. Саюза, якім прысвоена гэта званне за баі на Быхаўшчыне: І. А. Барысевіча, П. Дз. Вінічэнкі, С. Ісkaлieвa, У. К. Мартынава, Г. С. Размадзе, Г. Якубава (выш. каля 3,5 м, бетон, мармуровая крошка); пад партрэтамі на абліцаванай чорным гранітам частцы сцяны імёны і званні герояў. На пляцоўцы размешчаны гранітная пліта з бронзавай пяціканцовай зоркай і чашай для запальвання рытуальнага агню і абліцаваная гранітам стэла (выш. каля 3 м) з інфармацыйным надпісам.

**МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС МУЗЕЯ САВЕЦКА-ПОЛЬСКАЙ БАЯВОЙ САДРУЖНАСЦІ.** Створаны ў 1968 у в. Леніна Горацкага р-на на месцы першага (12—13.10. 1943) сумеснага бою часцей Чырвонай Арміі і сфарміраванай у СССР 1-й Польскай пяхотнай дывізіі імя Т. Касцюшкі супраць ням.-фаш. захопнікаў. Адкрыты 15 кастрычніка ў 25-ю гадавіну бою, з якога вядзецца гісторыя Войска Польскага. Цэнтр кампазіцыі комплексу (арх. Я. Белапольскі, В. Хавін, скульпт. У. Цыгаль) — сіметрычны ў плане купальны будынак музея (з жалезабетону, шкла і алюмінію), зроблены ў форме каскі (дыяметр 34 м, выш. 11 м), накрыты невял. шчытамі з чорнай бляхі, пакладзенымі на каркас. Лесвічныя вузлы вылучаны блокамі, упрыгожаны звонку барэльефнымі выявамі пяціканцовай зоркі і арла — сімвалаў 2 краін. Экспанаты музея адлюстроўваюць гісторыю ўтварэння і фарміравання Войска Польскага. У цэнтр. частцы памяшкання дыярама «Бітва пад Леніна» (мастакі М. Авечкін і А. Інтазараў). Перад уваходам у музей устаноўлена стэла (бетон, выш. 8 м), увянчаная выявай сцяга, дрэўка якога трымаюць 2 моцныя рукі. У ніжняй частцы стэлы на польскай і рускай мовах надпіс «СССР — Польшча, 1943 год». На ПнУ ад музея 2 надмагільныя пліты з лабрадарыту на ўшанаванне памяці загінуўшых савецкіх і польскіх воінаў з надпісамі-прысвячэннямі на польскай, рус. і бел. мовах; помнік — 3-метровы з прабоінамі кавалак брані. Пляцоўка (9×12 м) вакол пліт выкладзена цёмна-чырвоным гранітам, перад імі запалены Вечны агонь. На тэр. вёскі на месцы б. баявых пазіцый, за 0,5 км адна ад адной, брацкія магілы сав. і польскіх воінаў. На магіле сав. воінаў устаноўлены блок з чырвонага граніту, сячэнне якога (дыяметр 2 м) уяўляе сабой пяціканцовую зорку з надпісам-прысвячэннем на рус. мове ў цэнтры. На магіле польскіх воінаў — сцяна (12×3 м) з шэрага граніту з надпісамі-прысвячэннямі на польскай і бел. мовах. У цэнтры сцяны на бронзавым картушы ў абрамленні прыспушчаных сцягоў даты бітвы пад Леніна і выявы 2 скрыжаваных лаўровых галінак.

*А. Ю. Пятросава. Г. М. Ярмоленка.*

**МІЁРСКІ УСПЕНСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1907 з чырвонай цэглы



**Мемарыяльны комплекс Музея савецка-польскай баявой садружнасці.** Будынак музея.

ў г. Міёры Віцебскай вобл., на беразе Міёрскага воз. Манументальны 3-нефавы двухвежавы храм з 5-граннай апсідай, да якой з паўд. боку далучана сакрысція. Фасады будынка з высокім цокалем рытмічна расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі і стральчатымі аконнымі праёмамі. Вось сіметрыі гал. фасада падкрэслена ўваходным парталам і акном-ружай. 3-ярусныя вежы завершаны высокімі шпілямі, раскрапаваны вузкімі нішамі. Вежа-ліхтар завяршае цэнтр. аркатурны шчыт. Нефы перакрыты стральчатымі скляпеннямі. Касцёл дзейнічае.

*А. М. Кулагін.*

**МІЁРЫ,** горад, цэнтр Міёрскага р-на, на беразе Міёрскага воз. За 190 км на ПнЗ ад Віцебска. Вядомы з 1567 як мястэчка Мёры (назва існавала да 19 ст.) у Браслаўскім пав. Віленскага ваяводства Вял. кн. Літоўскага. Належалі магнатам Мірскім, Перасвет-Солтанам, Бяліковічам, Клотам. У 17 ст. М.— невял. паселішча з царквой (закладзена ў 1621). З 1-й пал. 17 ст. існаваў праваслаўны манастыр (з 1689 уніяцкі). У 1691 пабудаваны касцёл (існаваў да 1862). З 1793 М. ў складзе Расіі; мястэчка, цэнтр воласці Дзісенскага пав. Мінскай, з 1842 Віленскай губ. У канцы 19 ст. 2 школы, 2 кірмашы на год. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр гміны Дзісенскага пав. Віленскага ваяводства. Да 1931 дзейнічала запалкавая ф-ка. З 1939 у БССР. З 1940 цэнтр раёна Вілейскай вобл. З 1957 гарадскі пасёлак. 1,9 тыс. жыхароў у 1959, 5,7 — у 1970. З 1972 горад. Архіт.-планіровачная структура горада кампактная, сетка вуліц прамавугольная з дробнымі кварталамі. Генпланы М. распрацаваны ў 1971 (Віцебскі філіял ін-та «Белдзяржпраект») і ў 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). Асн. кампазіцыйныя восі — вуліцы Камуністычная і Дзяржынскага. На іх перакрыжаванні ўтвораны адм.-грамадскі цэнтр



**Міёрскі Успенскі касцёл.**

горада — пл. Леніна. На скрыжаванні вуліц Кастрычніцкай і Леніна сфарміравана пл. Свабоды. Забудова горада пераважна 1-павярховая сядзібнага тыпу, будуюцца 2—5-павярховыя дамы. Сфарміраваліся паўн.-зах. і ўсх. прамысл. зоны. Зона адпачынку — воз. Міёрскае, парк на яго беразе. Збярогся помнік архітэктуры пач. 20 ст.— *Міёрскі Успенскі касцёл.* Прадугледжваецца функцыянальнае заніраванне тэрыторыі, расшырэнне грамадскага цэнтра і стварэнне 2 падцэнтраў, буд-ва 2—5-павярховых

капітальных і катэджавых дамоў у цэнтр. і паўн., 1-павярховых — у паўн.-ўсходняй частках горада, расшырэнне зоны адпачынку.
*Л. С. Патапаў.*

**МІЛАВІДСКАЯ МЕМАРЫЯЛЬНАЯ КАПЛІЦА,** помнік архітэктуры неакласіцызму. На Брэсцкай шашы, за 1,5 км ад в. Мілавіды (Баранавіцкі р-н). Пабудавана ў 1930—33 у памяць аб Мілавідскай бітве 22.5.1863 паўстанцкіх атрадаў з царскімі войскамі ў час паўстання 1863—64. Капліца — цэнтрычнае збудаванне: на квадратным у плане цокалі ўстаноўлены 4 калоны, якія нясуць пліту антаблемента; у завяршэнні сферычны гранёны купал з ажурным крыжам. Унутраная прастора абмежавана міжкалоннымі арачнымі прасценкамі. На цокалі



Мілавідская мемарыяльная капліца.

і пастаменце — памятныя надпісы.
*А. М. Кулагін.*

**МІЛАВІДСКАЯ ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана паводле ўзорнага праекта 1846 на ўскраіне в. Мілавіды (Баранавіцкі р-н), на шашы Івацэвічы — Слуцк. Складаецца з 3 мураваных прамавугольных, накрытых вальмавымі дахамі будынкаў, якія ўтвараюць цэласную сіметрычную П-падобную ў плане кампазіцыю. Цэнтр. будынак павернуты да шашы гал. падоўжаным фасадам; уваход падкрэслены рызалітам, які завершаны прафіляваным карнізам з сухарыкамі і 3-вугольным франтонам. Бакавыя будынкі пастаўлены да шашы тарцамі. У цэнтр. будынку знаходзіліся жылыя памяшканні для праезджых, кухня, кватэра наглядчыка, у бакавых — карэтная і пуня. Зараз станцыя выкарыстоўваецца як рамонтна-дарожная ўстанова.



Мілавідская паштовая станцыя.

**МІНСК,** сталіца Рэспублікі Беларусь, горад рэсп. падпарадкавання, цэнтр Мінскай вобл. Паліт., адм., эканам., навук. і культ. цэнтр рэспублікі, галоўны транспартны (чыг. і аўтамабільных дарог) вузел вобласці і рэспублікі. Насельніцтва 1612 тыс. жыхароў (на 1.1.1989). М. (летапісны М е н с к, М е н ь с к) упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067 як горад Полацкага княства. Стараж. цэнтр горада — дзядзінец узнік на правым беразе р. Свіслач, пры ўпадзенні ў яе р. Няміга (раён сучаснай пл. 8 Сакавіка і праспекта Машэрава), дзе ў 2-й пал. 11 ст. з мэтай абароны паўд. межаў Полацкага княства пабудаваны *Мінскі замак.* На тэр. замка выяўлены фундамент мураванага храма (па невядомых прычынах яго буд-ва не закончана, захаваліся падмуркі; гл. *Мінская замкавая царква*). У 12—13 стагоддзях на Пд, ПдЗ, ПдУ ад замчышча сфарміраваўся рамесны пасад з гандл. плошчай — Нямігскі рынак (з 16 ст. Ніжні рынак; сучасныя раён пл. 8 Сакавіка, частка праспекта Машэрава), вуліцы якога, вымашчаныя драўляным насцілам з дрэнажнымі прыстасаваннямі, шчыльна забудоўваліся зрубнымі дамамі. Да плошчы сыходзіліся ўсе знешнія гандл. шляхі; з З падыходзіў гасцінец з Ракава і Койданава, з Пд — з Лошыцы, на У цераз мост на р. Свіслач сыходзіліся дарогі з Вільні, Полацка, Лагойска, Барысава, Смаленска. Цэнтр. вуліца пасада Няміга (самая стараж. вуліца М., 12 ст.) ішла ўздоўж р. Няміга, з ПнЗ падыходзіла да Нямігскага рынку і далей да моста цераз Свіслач. У гэты час узніклі пасады на левым беразе Свіслачы каля Троіцкай гары і на ПнЗ ад замчышча Пятніцкі канец (сучасны раён праспекта Машэрава, некалі тут была Пятніцкая царква; у пач. 16 ст. стаў называцца Татарскай слабадой, заселенай палоннымі ў 1506 пад Клецкам крымскімі татарамі). У 15 ст. ў асноўным сфарміравалася забудова Траецкага і Ракаўскага прадмесцяў. Асвойвалася тэрыторыя, якая прылягала да замкавых сцен, а таксама суседняга з Нямігай узгорка, на якім у 16 ст. ўзнік новы гандл. цэнтр — Верхні рынак (сучасная пл. Свабоды). Тут пабудаваны 2-павярховая драўляная ратуша, культавыя і жылыя будынкі, паступова складваўся архіт. ансамбль плошчы, утварыўся новы гар. цэнтр — *Мінскі Верхні горад.* Стварэнне новага гарадскога цэнтра абазначыла канец старой феадальнай горадабудаўнічай структуры, дзе ўмацаваны замак — цэнтр горада і яго гал. архіт. дамінанта. Архіт. аблічча горада ў 16 ст. вызначалі прылеглыя да Верхняга, Ніжняга рынкаў і Троіцкай гары вуліцы, забудаваныя драўлянымі дамамі феадалаў, купцоў, багатых рамеснікаў, драўлянымі манастырамі з цэрквамі, кляштарамі з касцёламі манаскіх ордэнаў. Забудова была драўляная, таму часта ўзнікалі пажары, якія ў 1547, 1552, 1569 знішчылі амаль усе гарадскія збудаванні. Замест згарэлых драўляных узводзіліся новыя, мураваныя жылыя дамы, культавыя і грамадскія будынкі. У пачатку 17 ст. замак канчаткова страціў сваё значэнне як адм. так і планіровачны цэнтр М. Новым цэнтрам горада сталі плошчы Ніжняга і Верхняга рынкаў. На пл. Верхні рынак фарміраваўся барочны ансамбль, ён не меў адзінай дамінанты, а ўключаў асобныя маляўнічыя групы, у якія ўваходзілі найбольш значныя культавыя будынкі. Яны займалі гал. становішча ў кампазіцыі плошчы і стваралі раскрыты з усіх бакоў плошчы комплекс з своеасаблівым аблічнам і запамінальным сілуэтам. На паўд. баку плошчы знаходзіўся *Мінскі касцёл і кляштар дамініканцаў,* на ўсх. баку — комплекс *Мінскай царквы Святога духа і манастыра базыльян* і *Мінскага святадухаўскага манастыра базыльянак.* На паўн. баку групаваліся *Мінскі касцёл і кляштар бернардзінцаў, Мінскі касцёл і кляштар бернардзінак.* Фарміраванне ансамбля Верхняга горада было канчаткова завершана да сярэдзіны 18 ст. пасля пабудовы на зах. баку плошчы *Мінскага касцёла і кляштара езуітаў.* У 2-й пал. 17 ст. на Зборавай вул. (сучасная Інтэрнацыянальная) на месцы драўлянага кляштара 1633 пабудаваны мураваны *Мінскі касцёл і кляштар бенедыкцінак,* на



**Мінск.** Плошча Верхні рынак. Літаграфія з малюнка Б. Лаверня. 1840.

рагу вуліц Францысканскай (сучасная вул. Леніна) і Юр'еўскай узведзены *Мінскі касцёл і кляштар францысканцаў*. У раёне вул. Ракаўскай (сучасная вул. Астроўскага) у 1613 пабудавана праваслаўным брацтвам *Мінская Петрапаўлаўская царква*. На Троіцкай гары ў 1630 пры драўлянай Троіцкай царкве (вядома з 15 ст.) узведзены драўляны Троіцкі манастыр базыльянак.

У 18 ст. тут былі пабудаваны кляштары з касцёламі баніфратаў (1700), кармелітаў (1703), бенедыкцінцаў (1764), марыявітак (1771, усе не захаваліся). У 1799—1800 на месцы драўлянага Троіцкага манастыра базыльянак пабудаваны мураваны манастырскі будынак (гл. *Мінскі Троіцкі манастыр базыльянак*). Насупраць комплексу касцёла і кляштара езуітаў на месцы драўлянай ратушы ў 1-й пал. 17 ст. ўзведзена мураваная (гл. *Мінская ратуша*). У 18 ст. ў раёне пл. Верхні рынак і навакольных вуліц пабудаваны мураваныя ў стылі класіцызму дамы: 2-павярховы гарадскі асабняк (пл. Свабоды, 15), комплекс жылых дамоў на паўд. баку плошчы (пл. Свабоды, 19—21), 2-павярховы жылы дом (на рагу сучасных пл. Свабоды і вул. Рэвалюцыйнай). Важную ролю ў кампазіцыі плошчы атрымаў будынак *Мінскага гасцінага двара*.

Пасля ўз'яднання Расіі (1793) М. стаў губернскім цэнтрам. Першы праектны план горада быў складзены ў канцы 18 ст. пры ўдзеле губернскага арх. Ф. Крамера, які працаваў у Мінску ў 1790-я гады. Рэгулярныя планы забудовы горада былі распрацаваны ў 1800, 1809, 1817, 1858. Паводле іх вялася забудова і ўпарадкаванне тэр. горада. Узнікла новая вуліца — Захар'еўская (сучасны праспект Ф. Скарыны і частка вул. Савецкай), якая стала гал. гарадскім дыяметрам. Прадоўжаны старыя вуліцы, якія ішлі ад пл. Верхні рынак: Губернатарская (з 17 ст. наз. Францысканская, сучасная вул. Леніна), Багадзельная (ранейшая назва Феліцыянская, сучасная вул. Камсамольская), Петрапаўлаўская (ранейшая назва Дамініканская, сучасная вул. Ф. Энгельса), Праабражэнская (з 16 ст. Зборавая, частка сучаснай вул. Інтэрнацыянальнай) і інш. За час акупацыі напалеонаўскімі войскамі (з 8.7 да 16.11.1812) значна скарацілася насельніцтва горада: з 11,2 тыс. чал. у 1811 да амаль 3,5 тыс. чал. на канец 1812. Пасля пажару 1835 цэнтр горада забудоўваўся мураванымі 2- і 3-павярховымі дамамі. На ўскраінах горада (Камароўка, Ляхаўка, Кальварыя, Серабранка) захоўвалася драўляная жылая забудова і нерэгулярная планіроўка. Да сярэдзіны 19 ст. чвэрць будынкаў у М. мураваныя, забрукаваны 22 вуліцы, у т. л. Захар'еўская, Койданаўская, Замкавая. Забудова развівалася ў паўн.-ўсх. напрамку ўз-



**Мінск.** Касцёл і кляштар езуітаў. Малюнак Н. Орды. 1860-я гады.



**Мінск.** Петрапаўлаўскі кафедральны сабор. Фота пачатку 20 ст.



**Мінск.** Вуліца Петрапаўлаўская. Фота пачатку 20 ст.



**Мінск.** Будынак духоўнай семінарыі на Аляксандраўскай вуліцы. Фота пачатку 20 ст.



**Мінск.** Саборная плошча і сквер. Справа — аддзяленне Паўночнага банка (да 1884 — тэатр). Удалечыні — шпіль касцёла кляштара дамініканцаў. Фота пачатку 20 ст.



**Мінск.** Троіцкі Залатагорскі касцёл. Фота пачатку 20 ст.

доўж асн. транспартных магістралей: Віленскага, Лагойскага і Барысаўскага трактаў. У 19 ст. ансамбль Верхняга горада фарміравалі дом губернатара, кафедральны касцёл, *Мінскі адміністрацыйны будынак* на рагу пл. Свабоды і вул. Інтэрнацыянальнай, 23(19), дваранская школа, *Мінскага тэатра будынак,* Петрапаўлаўскі кафедральны сабор (да 1795 Святадухаўская царква базыльянскага манастыра) перабудаваны ў псеўдарускім стылі; пл. Верхні рынак з 1860-х гадоў стала наз. Саборнай. У Ніжнім горадзе асталася радыяльна-веерная планіровачная структура, якая склалася гістарычна. Зарэчная частка (б. Траецкае прадмесце) значна пашырылася ў паўн. напрамку. Тут на прамавугольнай у плане Троіцкай пл. пастаўлены мураваныя будынкі духоўнай семінарыі (перабудаваны ў 1950—53, цяпер Суvoраўскае ваеннае вучылішча па вул М. Багдановіча), жаночага епархіяльнага вучылішча. У 19 ст. вялася забудова так званага Новага места (цяпер раён Кастрычніцкай пл. і т-ра Я. Купалы), дзе квартал заняло *Мінскае архірэйскае падвор'е* (цяпер на гэтым месцы будынак Дома афіцэраў), быў узведзены будынак Дваранскага сходу (на рагу сучасных вул. Маркса і Энгельса), паміж гэтай забудовай у 1872 створаны Аляксандраўскі (цяпер Цэнтральны) сквер з фантанам, упрыгожаны дэкар. скульптурай. У кампазіцыю сквера пазней увайшоў *Мінскі гарадскі тэатр.* З пач. 19 ст. вядзецца сядзібна-паркавае буд-ва: у стылі класіцызму пабудаваны сядзібны комплекс (сучасная вул. Інтэрнацыянальная, 33), дзе жыў і працаваў вядомы мастак В. Ваньковіч. Яму ж належала сядзіба на паўн.-ўсх. ускраіне горада ў прыгарадзе Вялікая Сляпянка (сучасная вул. Парніковая, 26; гл. ў арт. *Мінскія сядзібы Ваньковічаў*). На паўд.-зах. ускраіне М. (сучасная вул. Казінца, 76) узведзена *Мінская гарадская сядзіба,* на паўд. ускраіне горада ў сутоках рэк Свіслач і Лошыца — *Лошыцкі сядзібна-паркавы комплекс.* У 2-й пал. 19 ст. на архіт.-планіровачную структуру горада зрабілі ўплыў 2 фактары: пракладка чыгункі і ўзнікненне новых прамысл. прадпрыемстваў. На свабодных тэрыторыях за 2—3 км ад гарадской забудовы ў паўд.-зах. частцы былі пракладзены 2 чыг. лініі з чыг. вакзаламі: Маскоўска-Брэсцкая (1871) з Брэсцкім вакзалам (зараз станцыя «Мінск-Таварны») і Лібава-Роменская (1873) з Віленскім вакзалам (цяпер пасажырская станцыя «Мінск», спачатку драўляная, з 1890 мураваная, разбурана ў Вял. Айч. вайну, адноўлена ў 1946). Вакол Віленскага вакзала склалася новая сетка вуліц, якія падыходзілі да Прывакзальнай пл.: Пецярбургская (сучасная Ленінградская), Бабруйская, Магазінная (сучасная Кірава), Падгорная (сучасная К. Маркса), Каломенская (сучасная Свярдлова). Брэсцкі вакзал злучыла з горадам новая вул. Маскоўская, якая злілася з Захар'еўскай. За чыгуначнымі лініямі ўзніклі новыя жылыя раёны — Грушаўскі і Чыгуначны. У канцы — 19 — пач. 20 ст. вял. тэмпамі развіваецца прамысл. буд-ва. На рабочай ускраіне Ляхаўка, каля р. Свіслач, сфарміраваўся прамысл. раён, дзе ўзведзены машынабудаўнічы (1881, цяпер з-д імя С. М. Кірава) і скураны з-ды (1885, цяпер «Бальшавік»), спіртзавод (1891, цяпер дражджавы камбінат), дрожджа-патачны з-д (1829, цяпер «Крышталь»), металаапрацоўчы з-д «Гігант» (1907, цяпер станкабудаўнічы імя Кастрычніцкай рэвалюцыі) і інш. У 1873 на беразе р. Свіслач пабудавана насосная станцыя, у 1874 пракладзены водаправод. У 1895 на вул. Захар'еўскай каля р. Свіслач узведзена электрастанцыя (высечана частка губернскага саду), у 1892 праведзена конка, у 1896 устаноўлена тэлефонная сувязь. У архітэктуры М. 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. панавалі стылізатарскія плыні — неаготыка, рэтраспектыўна-рускі стыль, неабарока, неакласіцызм і інш. кірункі, якія імітавалі

маст. стылі мінулых эпох. Помнікамі ранняга этапу неаготыкі з'яўляюцца *Мінскі Кальварыйскі касцёл і брама, Мінскі Пішчалаўскі замак,* потым — *Мінскі Троіцкі Златагорскі касцёл.* З рысамі неакласіцызму ўзведзены будынкі аддзялення Дзярж. банка Расіі па вул. Падгорнай (сучасны Дзярж. музей Беларусі на вул. К. Маркса), сельскагасп. страхавой кампаніі па вул. Захар'еўскай (сучасны *Мінскі адміністрацыйны будынак,* праспект Ф. Скарыны, 15). У раманскіх традыцыях пабудаваны *Мінскі касцёл Сімяона і Алены.* Рысы эклектыкі ўласцівы архітэктуры жылых і даходных дамоў, культавым пабудовам канца 19 — пач. 20 ст.: *Мінскі дом Гаўсмана,* жылы дом на рагу вул. Магазіннай (сучасная вул. Кірава) і Міхайлаўскага зав. (гл. *Мінскай жаночай гімназіі будынак*), дамы па вуліцах Захар'еўскай (вул. Савецкая, 17, 19) і Серпухаўскай (вул. Валадарскага, 12, гл. ў арт. *Мінскія жылыя дамы*), *Мінская царква Аляксандра Неўскага.* Развіццё мадэрна ў канцы 19 — пач. 20 ст. супала з інтэнсіўным буд-вам у горадзе. Дамы перабудоўваліся, набывалі рысы новага стылявога кірунку мадэрн. Гасцініца «Еўропа» (1906—09, не захавалася), якая стаяла на рагу сучасных вуліц Леніна і Інтэрнацыянальнай — яскравы прыклад мадэрна ў Мінску. Элементы мадэрна таксама выявіліся ў архітэктуры дома Кастравіцкай (на 1-м паверсе размяшчалася ўпраўленне Лібава-Роменскай чыгункі) па вул. Магазіннай (сучасная Кірава, 11), дамоў па вуліцах Праабражэнскай (сучасная Інтэрнацыянальная, 16), Падгорнай (сучасная К. Маркса, 30), *Мінскага царкоўнаархеалагічнага музея будынка.*

У 1926—27 складзена схема планіроўкі М. Значна змянілі выгляд горада пабудаваныя ў канцы 1920-х гадоў і за 1-ю пяцігодку мурававаныя шматпавярховыя жылыя дамы: дом энергетыкаў па вул. Кірава (1927—32), дом кааператыва «Дзяржбанкавец» па вул. Валадарскага (1928), дом Наркамлесу па вул. К. Маркса (1929—32), дом чыгуначнікаў па вул. Маскоўскай (1930—32) і інш. Сярод буйных грамадскіх будынкаў гэтага часу — Дзяржбанк па вул. Савецкай (1927—29, арх. Г. Гольц, М. Паруснікаў), Дом селяніна на рагу вуліц Чырвонаармейскай і К. Маркса (1929), клуб харчавікоў па вул. Інтэрнацыянальнай (1927—29, арх. А. Бураў) і металістаў па вул. Кірава (1929—32, арх. А. Васільеў), кінатэатр «Чырвоная зорка» па вул. Савецкай (1927—30), *Мінскай гідраметэаралагічнай абсерваторыі будынак.* Вылучаліся архіт. комплексы — Універсітэцкі гарадок (1928—31, арх. І. Запарожац, Г. Лаўроў), Клінічны гарадок (1928—31, арх. Г. Лаўроў, сучасная 1-я гарадская клінічная бальніца). У 1931 у раёне сучаснага парку Чэлюскінцаў быў пабудаваны комплекс 1-й Усебеларускай с.-г. і прамысловай выстаўкі (арх. А. П. Воінаў, А. Крылоў, М. Гіляраў, І. Валадзько). У гады 2-й і 3-й пяцігодак М. забудоўваўся ў паўд. і паўн.-усх. напрамках уздоўж Магілёўскай і Маскоўскай шашы, Лагойскага тракту. У 1932—36 Ленінградскае аддзяленне Дзіпрагара РСФСР распрацавала ген. план сацыялістычнай рэканструкцыі і развіцця Мінска (зацверджаны ў 1938, карэкціроўка ў 1939—41, ін-т «Белдзяржпраект»); ствараліся праекты рэканструкцыі асобных горадабудаўнічых вузлоў: плошчаў Леніна (сучасная *Незалежнасці плошча),*



**Мінск.** Будынак жаночай гімназіі на вул. Серпухоўскай (цяпер вул. Валадарскага, 24).



**Мінск.** Гасцініца «Еўропа». Фота пачатку 20 ст.



**Мінск.** Мячэць на Вялікай Татарскай вуліцы. Фота пачатку 20 ст.



**Мінск.** Жылы дом гарсавета (праспект Ф. Скарыны, 43).



Цэнтральная частка **Мінска,** разбураная нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941.



**Мінск.** Забудова па вуліцы Танкавай.

Свабоды, Круглай (сучасная *Перамогі плошча*), Парыжскай Камуны, Камароўскай (сучасная *Коласа Якуба плошча*), *Прывакзальнай плошчы*, вул. Савецкай. Большасць з гэтых работ да пачатку вайны не была ажыццёўлена. Да 1941 у М. былі ўзведзены значныя грамадскія будынкі; Дом урада БССР (гл. *Дом урада Рэспублікі Беларусь),* Дом Чырвонай Арміі (гл. *Акруговы Дом афіцэраў), бібліятэкі дзяржаўнай імя У. І. Леніна будынак, Рэспубліканскі Палац піянераў і школьнікаў, Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь будынак,* гал. корпус АН БССР (гл. ў арт. *Акадэмічны гарадок*), *Беларускага інстытута фізічнай культуры будынкі, Беларускага політэхнічнага інстытута будынкі, Мінскай сярэдняй школы № 4 будынак, Мінскай фабрыкі-кухні будынак,* гасцініца «Беларусь» (з 1987 — *«Свіслач»*). Вылучаліся новыя жылыя дамы — *Мінскі жылы дом спецыялістаў,* дом гарсавета. У 1941 амаль завершана буд-ва *Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі будынак,* жылыя 115-, 127-, 130-кватэрныя дамы ў раёне Круглай пл. (завершаны ў 1947). У гады Вял. Айч. вайны амаль дашчэнту разбураны цэнтр горада, 80 % жылога фонду (5975 дамоў). У кастрычніку 1944 распрацаваны «Эскіз планіроўкі Мінска» (арх. А. Шчусеў, У. Сямёнаў, А. Мардвінаў, М. Колі, Б. Рубаненка, І. Лангбард, Н. Трахтэнберг), які стаў асновай генплана аднаўлення і развіцця М. (1946; ін-т «Белдзяржпраект»; арх. М. Андросаў, Н. Трахтэнберг, інж. К. Іванаў, Р. Абразцова, В. Талмачоў пры кансультацыі прафесара У. Сямёнава, Н. Палякова). У 1951—52 генплан М. быў скарэкціраваны, удакладнены і паглыблены вырашэнні па найбольш складаных праблемах рэканструкцыі і далейшага развіцця горада. Адметнай рысай пасляваеннага буд-ва з'явілася шырокае развіццё архіт. ансамбляў, цэласнай забудовы вуліц, плошчаў, кварталаў. У гэты час быў створаны адзін з лепшых ансамбляў сталіцы — ансамбль Ленінскага праспекта (сучасны *Скарыны праспект)* з плошчамі Леніна (сучасная *Незалежнасці плошча),* Цэнтральнай (сучасная *Кастрычніцкая плошча*), Перамогі, Я. Коласа і зялёнымі масівамі ўздоўж р. Свіслач. Гал. вуліца горада забудоўвалася шматпавярховымі жылымі дамамі і грамадскімі будынкамі (адміністрацыйны будынак на рагу вуліц Камсамольскай і Ленінскага праспекта, гасцініца «Мінск», *Мінскі галоўны паштамт, Мінскі гарадскі універмаг, Беларускага рэспубліканскага банка будынак, Мінскі Палац культуры Белсаўпрофа, Мінскі цырк,* стадыён *«Дынама»*). У 1950-я гады ствараец-



**Мінск.** Праспект Машэрава. На пярэднім плане скульптура жанчыны архітэктурна-скульптурнага комплексу «Мінск — горад-герой».

ца ансамбль Круглай пл., кампазіцыйным цэнтрам якой стаў *манумент Перамогі.* З сярэдзіны 1950-х гадоў разгарнулася буд-ва індустрыяльнымі метадамі з выкарыстаннем тыпавых праектаў. Былі ўзведзены кварталы на вул. Арлоўскай і мікраraён на вул. *Валгаградскай,* кварталы на вуліцах Апанскага, В. Харужай і М. Горкага. У 1965 зацверджаны другі пасляваенны генплан М. (арх. Л. Гафо, Я. Заслаўскі, А. Наканечны, І. Люблінскі, Н. Кудзінаў, Н. Трахтэнберг), вызначаны і ўдакладнены зоны жыллёвага і прамысловага буд-ва і, у першую чаргу, такія буйныя жылыя раёны, як *Чыжоўка, Усход, Зялёны Луг, Серабранка.* У 1974 быў складзены праект дэталёвай планіроўкі цэнтр. раёна Мінска (арх. Я. Дзятлаў, Ю. Градаў, Л. Левін, Я. Заслаўскі, Г. Горына, У. Кароль і інш.), эскіз забудовы *Мінскага водна-зялёнага дыяметра.* Ствараюцца ансамблі грамадска-дзелавых комплексаў і жылых раёнаў на асн. радыяльных напрамках: па вуліцах Няміга, М. Горкага, Я. Коласа, Прытыцкага, праспектах Машэрава, Партызанскім. У 1960—70-я гады ўзведзены *Мінскі палац спорту, Мінскі палац культуры і спорту чыгуначнікаў,* кінатэатры «Піянер» (арх. Г. Заборскі), *«Кастрычнік»,* гал. корпус БДУ (арх. М. Бакланаў, А. Духан), *Воднаспартыўны камбінат* рэспубліканскі імя 50-годдзя Камсамола Беларусі, Ін-т тэхн. кібернетыкі АН БССР (арх. Ю. Грыгор'еў, А. Беразоўскі) і гал. корпус Ін-та нар. гаспадаркі (арх. А. Ткачук), Палац мастацтваў (арх. С. Мусінскі, Н. Краўкова), гасцініца «Турыст» (арх. Л. Пагарэлаў), комплекс жылых дамоў і прадпрыемстваў культ.-быт. абслугоўвання на *Талбухіна вуліцы* і інш. Пабудаваны прамысл. аб'екты, якія ўзбагацілі архіт. аблічча М.—*Мінскага гадзіннікавага завода будынкі, Мінскага завода халадзільнікаў будынкі* і інш. Арыгінальнае архіт.-мастацкае вырашэнне маюць пабудаваныя ў 1970—80-я гады адм.-грамадскія будынкі на *Машэрава праспекце,* карпусы медыцынскага ін-та на праспекце Газеты «Правда» (арх. Э. Гальдштэйн, Ю. Бічан), гал. корпус архіт. і будаўнічага факультэтаў БПІ (арх. І. Есьман, В. Анікін), *Мінскі крыты рынак «Камароўскі», Мінскі аўтавакзал «Усходні»,* кінатэатр *«Масква», Мінскай бібліятэкі № 11 будынак, Мінскі палац піянераў і школьнікаў* і інш. У 1984 здадзена ў эксплуатацыю 1-я чарга 1-й лініі *Мінскага метрапалітэна.* Выразным сілуэтам вызначаецца архіт.-скульпт. комплекс *«Мінск — горад-герой».* Водна-зялёны дыяметр дапаўняюць маляўнічыя дэкар. вадаёмы, каналы, набярэжныя, каскады Сляпянскай воднай сістэмы. За стварэнне архіт.-ландшафтных комплексаў усх. раёнаў горада аўтарскаму калектыву ін-та «Мінскпраект» (арх. М. Жлабо, Б. Юрцін, В. Шыльнікоўская, Л. Жлабо, Д. Герашчанка, Л. Белякова, інж. А. Самончык) прысуджана Дзярж. прэмія СССР 1989 (гл. ў арт. *Сляпянскае водна-паркавае паўкальцо*).

У 1982 у ін-це «Мінскпраект» завершаны новы генплан М., які прадугледжвае развіццё горада да



**Мінск.** Забудова па вуліцы Кірава. Будынак Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь.



**Мінск.** Траецкае прадмесце. Камунальная набярэжная.



**Мінск.** Траецкае прадмесце. Вуліца Старавіленская.

2000 года. Паводле плана М. будзе 58 жылых раёнаў, якія ўвойдуць у 21 планіровачны раён. Плошча зялёных насаджэнняў агульнага карыстання павялічыцца з 800 да 3600 га (ад 6,2 да 18 м² на 1 чал.). Асн. напрамкі развіцця горада — паўн.-заходні і заходні. Гл. таксама арт. *Мінскі гістарычны цэнтр.* Іл. гл. таксама ў нарысе.

*А. А. Воінаў, Т. І. Чарняўская.*

**«МІНСК» — ГОРАД-ГЕРОЙ»,** архітэктурна-скульптурны комплекс у Мінску. Адкрыты 8.5.1985 на *Машэрава праспекце* на невял. пагорку непадалёку ад парку Перамогі. Аўтарскі калектыў: скульпт.-арх. В. Занковіч, архітэктары В. Крамарэнка, В. Яўсееў, У. Раманенка. Кампазіцыйны акцэнт — абеліск (бетон, выш. 45 м), на грані якога ў верхняй частцы выявы зоркі і лаўровай галінкі (метал з пазалотай); у ніжняй частцы на выступе-блоку дошка з тэкстам Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 26.6.1974 аб прысваенні Мінску ганаровага звання «Горад-герой». Справа ад абеліска, на невысокім пастаменце, фігура жанчыны (бронза, выш. 5,5 м) — абагульнены вобраз маці-Радзімы, сімвал Перамогі і славы. Комплекс размешчаны на абліцаванай светла-шэрымі плітамі агляднай пляцоўцы, ад якой зроблены 3 лесвічныя бетонныя сходы. *Г. М. Ярмоленка.*

**МІНСКАГА АЎТАТРАНСПАРТНАГА ПРАДПРЫЕМСТВА КОМПЛЕКС.** Пабудаваны ў 1983—85 (арх. І. Боўт, М. Гроднікаў, А. Малашка) па вул. К. Цэткін. Актыўна ўдзельнічае ў фарміраванні фронту забудовы вуліцы і прасторавай арганізацыі прылеглай да яе тэрыторыі. Архіт. кампазіцыя заснавана



Архітэктурна-скульптурны комплекс «Мінск — горад-герой».

на кантрастным спалучэнні вышыннага 9-павярховага цыліндрычнага аб'ёму (у ім стаянка легкавых аўтамабіляў) з 2-павярховым падоўжаным аб'ёмам (у ім стаянка грузавога транспарту і рамонтныя службы). Вертыкальныя і гарызантальныя аб'ёмы аб'яднаны ўстаўкай, дзе размешчаны адм. памяшканні. Аб'ёмна-планіровачнае вырашэнне падпарадкавана ідэі рацыянальнага перамяшчэння аўтамабіляў унутры комплексу, іх аптымальнага тэхнічнага абслугоўвання і ўстаноўцы на месцы захоўвання, максімальнай блакіроўкі аб'ёмаў, стварэння камфортных умоў для працы. Канструкцыйная схема будынкаў — зборны жалезабетонны каркас, зборна-маналітнае вырашэнне ўнутраных вінтавых рампаў у цыліндрычным аб'ёме, саманясучыя вертыкальныя панелі сцен. У вонкавай аддзелцы выкарыстаны высакаякасная тынкоўка, гранітная і керамічная плітка. Лаканічныя аб'ёмы, пластычнае вырашэнне іх фасадаў ствараюць выразнае аблічча сучаснага прамысловага аб'екта. *А. Б. Марозава.*

**МІНСКАГА ВАЙСКОВАГА ШПІТАЛЯ БУДЫНКІ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1830-я гады па вул. Шпітальнай (сучасная вул. Фрунзе). У комплекс уваходзілі лячэбны корпус, 2 флігелі і гасп. пабудовы. Лячэбны корпус — мураваны 3-павярховы П-падобны ў плане будынак. Сіметрычны па кампазіцыі гал. фасад падзелены карнізным поясам на 2 ярусы, завершаны прамавугольным атыкам. Рытм фасадаў стваралі паўцыркульныя і прамавугольныя аконныя праёмы з простымі ліштвамі. Планіроўка калідорная. Абапал корпуса размешчаны два 2-павярховыя флігелі, прамавугольныя ў плане, іх гал. фасады завершаны 3-вугольнымі франтонамі. Тэр. шпіталя была абнесена мураванай сцяной з 2 брамамі. У канцы 1940-х гадоў будынкі рэканструяваны (арх. В. Гусеў). Гал. фасад лячэбнага корпуса і бакавыя фасады флігеляў афармлены

калоннымі порцікамі. Зменена планіроўка, разбураны брамы і агароджа. З ПнУ дабудаваны новы корпус. Выкарыстоўваецца як адм. будынак. *У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКАГА ГАДЗІННІКАВАГА ЗАВОДА БУДЫНКІ.** Пабудаваны ў 1956—61 (арх. С. Баткоўскі, І. Боўт, Н. Шпігельман). Комплекс займае плошчу каля 8 га, адыгрывае важную горадабудаўнічую ролю ў забудове праспекта Ф. Скарыны і вул. Талбухіна. Уключае гал. (зборачныя цэхі) і вытв. карпусы, якія злучаны паміж сабой пераходамі і ўтвараюць адзіную планіровачную структуру. У архіт.-прасторавай кампазіцыі дамінуе 8-павярховы гал. корпус — першае на Беларусі паўназборнае шматпавярховае збудаванне. Кампазіцыя гал.



**Мінскага аўтатранспартнага прадпрыемства комплекс.**

фасада заснавана на кантрасце атынкаваных частак сцен і буйнога зашклення на ўзроўні 2—7-га паверхаў. Вял. ўнутраная прастора залаў у спалучэнні з падвеснай асветленай столлю, каляровымі тарцовымі сценамі і падлогай стварае выразны інтэр'ер і камфортныя ўмовы для працы. Размешчаныя ўнутры тэрыторыі вытв. карпусы вырашаны ў лаканічных формах, канструкцыйнай асновай іх з'яўляецца металічны каркас з цаглянымі сценамі. У 1988 побач з гал. корпусам узведзены шматпавярховы 8-гранны ў плане інжынерны корпус (арх. У. Рогаў і інш.), які з'явіўся вышыннай дамінантай комплексу. Тэрыторыя паміж гал. корпусам і праспектам утворана ў зялёную зону адпачынку з прыскальнымі басейнамі і малымі архіт. формамі. *І. І. Боўт.*

**МІНСКАГА ДОМА МОД-2 І БЕЛАРУСКАГА ПРАЕКТНА-ТЭХНАЛАГІЧНАГА ІНСТЫТУТА КОМПЛЕКС.** Пабудаваны ў 1976—82 (арх. П. Кракалёў, В. Алейнікава) па вул. Мельнікайтэ (2—4). У ансамблі арганічна спалучаецца 6-павярховы Дом мод і 20-павярховы будынак ін-та «Белбыттэхпраект», аб'яднаныя на ўзроўні 3-га паверха крылом. Дом мод мае арыгінальную ярусную прасторавую кампазіцыю ў пластычных гранёных формах. Вертыкальная накіраванасць 1—3-га паверхаў дасягаецца пілонамі і вузкімі аконнымі праёмамі. 4—6-ы паверхі маюць гарызантальную кампазіцыю, якая ствараецца чаргаваннем стужачнага зашклення і міжпаверхавымі бетоннымі паясамі. Будынак завяршае прамавугольны ў плане 2-павярховы аб'ём, дзе размешчаны тэхн. памяшканні. Унутры вестыбюль, 2-светлавы салон заказаў, зала (на 300 месцаў) для дэманстрацыі мадэлей, сталовая, адм., вытв. памяшканні. У апрацоўцы інтэр'ераў выкарыстаны светлы і блакітна-ружовы мармур, ракушачнік, дэкар. тынкоўка, акмігран. У салоне заказаў — вітраж з каляровага шкла на тэму «Беларусь». Будынак ін-та — вышынная дамінанта Юбілейнай пл. Пабудаваны на каркаснай аснове з выкарыстаннем керамзітабетонных панелей у выглядзе кесонаў, якія ўзбагачаюць пластыку фасадаў. На ўзроўні 9-га паверха рытм аконных праёмаў перарваны стужкай балконаў. Памяшканні аб'яднаны калідорам, у цэнтры якога ліфтавы вузел. На 2-м паверсе ўваход у круглую ў плане канферэнц-залу, вырашаную амфітэатрам. *В. Б. Ангелаў.*

**МІНСКАГА ЗАВОДА ХАЛАДЗІЛЬНІКАЎ БУДЫНКІ.** Пабудаваны ў 1968—75 (арх. Л. Афанасьева, І. Боўт, М. Буйлава, А. Ганчароў, І. Некрашэвіч). Размешчаны ў паўн.-зах. частцы горада паміж праспектам Машэрава і вул. Ціміразева. Аб'ёмна-прасторавая арганізацыя комплексу грунтуецца на функцыянальным занираванні тэрыторыі (перадзаводская, вытворчая, дапаможная зоны), блакіроўцы і кааперанні асн. і дапаможных вытворчасцей, што стварыла выразнае архіт. аблічча забудовы і камфортныя ўмовы працы. Зоны планіровачна аб'яднаны транспартнымі і пешаходнымі сувязямі. Дамінанта архіт.-прасторавай кампазіцыі — 12-павярховы прамавугольны ў плане інж. корпус, які актыўна ўдзельнічае ў стварэнні



**Мінскага гадзіннікавага завода будынкі.** Галоўны і інжынерны карпусы.



Мінскага Дома мод-2 і Беларускага праектна-тэхналагічнага інстытута комплекс.

сілуэта забудовы часткі праспекта Машэрава. Кампазіцыя фасадаў заснавана на рытме вертыкальных



Мінскага завода халадзільнікаў будынкі.

алюмініевых рэбраў на ўсю вышыню будынка. Дынаміку архітэктуры корпуса ўзмацняе аб'ём лесвічна-ліфтавага вузла з боку тарца. Перад гал. фасадам — зона адпачынку, добраўпарадкаваная кветнікамі, газонамі і малымі архіт. формамі (дэкар. басейн, фантан). Вытворчыя карпусы вырашаны ў лаканічных архіт. формах са свабоднай унутранай прасторай. *І. І. Боўт.*

**МІНСКАГА МЕДЫЦЫНСКАГА ІНСТЫТУТА БУДЫНКІ.** Пабудаваны ў 1980 (арх. Э. Гальдштэйн, Ю. Бічан) на праспекце Газеты «Правда». Складаны па канфігурацыі плана комплекс утвараюць блок аўдыторый, навучальна-адм. і 2 лабараторныя корпусы, актавая зала, б-ка, сталовая. Усе аб'ёмы злучаны паміж сабой крытымі галерэямі на 2-м паверсе. Цэнтр кампазіцыі — 2-павярховы прамавугольны ў плане блок з 6 аўдыторыямі (кожная на 1150 месцаў), аб'яднанымі 2-светлавой рэкрэацыйнай залай (з вестыбюлем і гардэробам). Выкарыстанне натуральнага асвятлення праз ліхтары, сістэма адкрытых лесвіц, якія злучаюць вестыбюль з галерэямі 2-га паверха, чляненне прасторы па вертыкалі ствараюць выразны інтэр'ер рэкрэацыйнай залы. Да аўдыторнага блока прымыкае вышынная дамінанта комплексу — 10-павярховы прамавугольны ў плане з вынесеным наперад лесвічна-ліфтавым аб'ёмам навучальна-адм. корпус.



**Мінскага медыцынскага інстытута будынкі.** Блок аўдыторый і навучальна-адміністрацыйны корпус.

Два 4-павярховыя прамавугольныя ў плане лабараторныя корпусы ўтвараюць Г-падобную ў плане кампазіцыю. Пластыку іх фасадаў узбагачае рытмічнае чарграванне вертыкальных рэбраў і аконных праёмаў. 2-павярховы прамавугольны ў плане аб'ём б-кі з 4 чытальнымі заламі (адна з іх — 2-светлавая). Каларыстычнае вырашэнне фасадаў будынкаў комплексу заснавана на кантрасце сцен, апрацаваных цёмна-карычневай керамічнай пліткай, і панелей светла-шэрага колеру. *В. Б. Ангелаў.*

**МІНСКАГА МЕХАНІЧНАГА ЗАВОДА БУДЫНКІ.** Буд-ва пачата ў 1977 (ін-т «Белпрампраект», арх. І. Боўт, Я. Кавалеўскі, А. Малашка, Г. Чырван) у раёне вул. Прытыцкага. Аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю фарміруюць 1—2-павярховыя і 4-павярховы (зборачны) вытворчыя карпусы, будынкі быт. і адм. прызначэння, 13-павярховы аб'ём спецыяльнага канструктарскага бюро (СКБ). У аснове архіт. вырашэння — стварэнне выразнага аблічча сучаснага прамысл. прадпрыемства і неабходнасць асваення пляцоўкі са складаным рэльефам мясцовасці (перапад вышынь да 30 м). Рознавышынныя аб'ёмы карпусоў аб'яднаны адзінай кампазіцыйнай задумай, выкарыстана тэрасная забудова са ссоўваннем паверхаў па рэльефу, што дало магчымасць стварыць запамінаючы сілуэт. Вышынным акцэнтам комплексу з'яўляецца будынак СКБ, размешчаны на самым высокім месцы. Ён уяўляе сабой 3 цыліндрычныя аб'ёмы, звязаныя цэнтр. ядром вертыкальных транспартных



Мінскага механічнага завода будынкі.

і інж. камунікацый. Шматпавярховая частка будынка СКБ аб'яднана першым паверхам з канферэнц-залай і сталовай. У архітэктуры фасадаў карпусоў выкарыстаны вертыкальныя сценавыя панелі, пластыку ўзбагачаюць верт. камунікацыі (у выглядзе пілонаў), вентыляцыйныя галерэі на даху. Комплекс удала ўпісваецца ў гарадскі ландшафт і адыгрывае ролю яе дамінанты. *А. Б. Марозава.*

**МІНСКАГА МУЖЧЫНСКАГА ДУХОЎНАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. з цэглы на рагу б. вул. Койданаўскай (сучасная вул. Рэвалюцыйная) і Саборнай пл. (сучасная пл. Свабоды). Спачатку быў 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак з цокальным паўпадвальным паверхам — паўд. флігель *Мінскага гарадскога*



Будынак былога мужчынскага духоўнага вучылішча ў Мінску.

*сядзібнага дома,* арыентаваны гал. фасадам на плошчу. У 1870— 80-я гады рэканструяваны: стаў П-падобным у плане, у тарцовых частках надбудаваны 3-і паверх, завершаны 3-вугольнымі франтонамі. Мае складаную падоўжаную форму плана з выступам і скошаным вуглом з боку пл. Свабоды, дзе знаходзіцца гал. ўваход. Фасады маюць плоскаснае вырашэнне. Сцены рытмічна прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі (на 2-м паверсе аздоблены сандрыкамі) і завершаны тонкапрафіляваным карнізам; 1-ы паверх адцзелены ад цокальнага тонкім паяском. Планіроўка зменена, спалучае цяпер анфіладную і калідорную. У пач. 19 ст. ў будынку размяшчаліся аптэка, пошта, потым быў інтэрнат мужчынскага духоўнага вучылішча. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі у ім працаваў Наркамат асветы БССР, у 1922—25 — Ін-т бел. культуры (Інбелкульт). Цяпер выкарыстоўваецца як адм. будынак.

*Т. І. Чарняўская.*

**МІНСКАГА НАВУКОВА - ВЫТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ «ЦЭНТР» БУДЫНКІ.** Пабудаваны ў 1985—88 (ін-т «Белпрампраект», арх. І. Боўт, Э. Бацян, А. Ганчароў) у зах. частцы Мінска на скрыжаванні вуліц Шаранговіча і Алібегава. У комплекс уваходзяць вытв. корпус, эксперыментальна-доследная станцыя, інж.-лабараторны корпус са зблакіраваным з ім будынкам сталовай. Аб'ёмна-планіровачная структура комплексу пабудавана з улікам горадабуд. значнасці ўчастка буд-ва, размешчанага на перасячэнні 2 магістралей беспераоыннага руху і з перападам вышынь рэльефу да 12 м, а таксама неабходнасці забяспечыць тэхналагічнымі сувязямі складаную вытворчасць. У сувязі з гэтым вызначана існуючая расстаноўка карпусоў. Кампазіцыйнае ядро забудовы — інж.-лабараторны корпус, які ўяўляе сабой 7-павярховы квадратны ў плане аб'ём з унутраным дваром. Ніжнія паверхі корпуса часткова падняты на апоры, каб забяспечыць праветрыванне ўнутранага двара і звязаць яго з прадзаводскай зонай. Корпус вырашаны ў буйных манум. формах, вуглы акцэнтаваны вежамі, дзе размешчаны вертыкальныя камунікацыі. Нясучыя і агараджальныя канструкцыі будынкаў выкананы са зборнага жалезабетону і цэглы. Спалучэнне белых сценавых панелей з чырвонымі ўстаўкамі з цэглы ўзбагачаюць архітэктуру комплексу.

*А. Б. Марозава.*

**МІНСКАГА ТЭАТРА БУДЫНАК.** Існаваў у Мінску на пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды па вул. Інтэрнацыянальнай, 28). Пабудаваны ў канцы 18 ст. ў стылі класіцызму як жылы дом. Спачатку быў 2-павярховы мураваны будынак, меў сіметрычную кампазіцыю з рызалітам і франтонам у цэнтры гал. фасада, з высокім вальмавым дахам. Дом належаў Я. Байкову (набыў паміж 1815—18), некаторы час у доме была карчма, дзе зімой наладжваліся балі, у 1825 перабудаваны пад тэатр. У 1835 у час пажару значна пашкоджаны, потым адноўлены. Гэта быў 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты 2-схільным дахам. Сіметрычны па кампазіцыі гал. фасад з цэнтр. рызалітам быў падзелены карнізным поясам на 2 ярусы (ніжні апрацаваны рустам). Рызаліт з шырокай праезнай аркай быў оформлены 6-калон-



Будынкі навукова-вытворчага аб'яднання «Цэнтр» у Мінску.



**Мінскага тэатра будынак.** Чарцёж галоўнага фасада. Рэканструкцыя.

ным порцікам, завершаным франтонам з лучковым акном у тымпане. Рытм фасадаў ствараўся прамавугольнымі аконнымі праёмамі і паўцыркульнымі нішамі. На 1-м паверсе знаходзіліся карчма і крамы, 2-і паверх займаў тэатр, на 3-м — тэатральныя памяшканні і жылыя пакоі. 2-светлавая тэатральная зала была

3-ярусная (18 × 8 м), мела партэр (на 380 месцаў, у т. л. 60 крэслаў), ложы ў 2 ярусы (па 15 у ніжнім і верхнім ярусах), балкон і раёк над ложамі (на 200 чал.). У будынку адбываліся тэатральныя паказы (рэгулярныя ў 1837), у т. л. тут былі пастаўлены п'есы В. Дуніна-Марцінкевіча ў выкананні створанага ім калектыву ў 1841 і 1852 (яго вядомая «Сялянка», музыка С. Манюшкі і К. Кжыжаноўскага). У 1840 будынак быў прададзены купцу Б. Саламонаву. У 1841 здадзены ў арэнду антрэпрэнёру Я. Хелмікоўскаму. Пасля пажару 1884 перабудаваны (у 1885 разабраны рызаліт, зменена планіроўка). Гал. фасад атрымаў новае пластычнае вырашэнне. У 1895 будынак набыты аддзяленнем С.-Пецярбургскага камерцыйнага банка, у ім размяшчаўся Паўночны банк. У 1920—30-я гады дабудаваны 4-ы паверх. Ёсць меркаванне, што ў той час і паявіўся на 2-м паверсе балкон з ажурнай маст. чыгуннай агароджай (адлітыя вяршкі, узоры). Пасля Айч. вайны ў будынку размяшчаліся банк, муз. вучылішча. У 1984 будынак разбураны. Іл. гл. таксама ў арт. *Мінск.* *У. М. Дзянісаў.*



**Мінскага царкоўна-археалагічнага музея будынак.**

**МІНСКАГА ЦАРКОЎНА-АРХЕАЛАГІЧНАГА МУЗЕЯ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. Узведзены ў 1913 на *Мінскім архірэйскім падвор'і* (арх. В. Струеў, І. Фамін). Прызначаўся для музея, створанага ў 1908 пры Мінскім царкоўным гіст.-археал. камітэце. 2-павярховы прамавугольны ў плане цагляны будынак на высокім цокалі, накрыты вальмавым дахам. Гал. фасад асіметрычнай кампазіцыі. З усх. боку прыбудавана да яго круглая ў плане вежа, завершаная шлемападобным купалам. Сцены гэтай вежы, стылізаванай пад стараж. абарончую, былі прарэзаны байніцамі, верхняя частка аформлена машыкулямі і геаметрычным арнаментам. З зах. боку фасад фланкіраваны невял. квадратнай у плане вежачкай, прарэзанай неглыбокімі нішамі і завершанай высокім 4-гранным шатром. Гал. ўваход падкрэслены кілепадобным франтонам, упрыгожаным арнаментам. Фасады падзелены карнізным пояскам, прарэзаны высокімі лучковымі аконнымі праёмамі, упрыгожанымі дэкар. паўкалонкамі, 2- і 3-лопасцевымі аркамі, філёнгамі і інш. элементамі. З 1963 у будынку (планіроўка зменена) размяшчаецца Рэсп. Дом работнікаў мастацтва. *В. М. Чарнатаў.*

**МІНСКАЕ АРХІРЭЙСКАЕ ПАДВОР'Е,** Мінскі архірэйскі дом, архітэктурны комплекс 19 — пач. 20 ст. Уключаў гал. будынак мінскай архіепіскапіі (так званы архірэйскі дом) і 2 флігелі, царкву, царкоўна-археал. музей. Першапачаткова рэзідэнцыя мінскай архіепіскапіі знаходзілася ў б. манастыры базыльян (у 1795—99). У 1799 для рэзідэнцыі быў набыты мураваны дом на Навамесцкай плошчы. Побач была ўзведзена напаўмураваная Успенская царква і інш. пабудовы. Новы комплекс пабудаваны паводле праекта (1840-я гады) К. Хршчановіча. Гал. будынак рэзідэнцыі 2-павярховы, меў сіметрычную кампазіцыю. Гал. фасад выходзіў на плошчу; прафіляванай цягай ён быў падзелены на 2 ярусы, 1-ы ярус апрацаваны рустам. Былі жылыя і службовыя пакоі. Абапал будынка размешчаны 2 Г-падобныя ў плане 2-павярховыя флігелі: у паўд.-ўсх. флігелі размяшчаўся земскі музей (раней печучая, у канцы 1940-х гадоў разбураны). Захаваўся паўн.-зах. флігель — *Мінскай духоўнай кансісторыі будынак.* У 1883—85 з ПнЗ да архірэйскага дома прыбудавана вял. мураваная Пакроўская царква ў псеўдарускім стылі, гал. фасад яе ўпрыгожвала высокая шатровая вежа-званіца, абапал якой узвышаліся 2 прытворы. У 1913 узведзены *Мінскага царкоўна-археалагічнага музея будынак.* У 1920—30-я гады ў будынках комплексу размяшчаліся ўстановы СНК БССР. У 1934—39 (дом і царква) перабудаваны пад *Акругоы Дом афіцэраў.* *У. М. Дзянісаў.*



Комплекс будынкаў **Мінскага архірэйскага падвор'я.** Здымак пачатку 20 ст.

**МІНСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ № 11 БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1981 (арх. А. Ладкін, В. Яўсееў, А. Чадовіч). Адыгрывае значную ролю ў фарміраванні грамадскага цэнтра жылога раёна Чыжоўка. Цагляны 2-павярховы амаль квадратны ў плане будынак. Кампазіцыя фасадаў заснавана на кантрасце глухіх паверхняў сцен і вузкіх аконных праёмаў. Пластыка гал. фасада ствараецца рытмам крывалінейных у плане міжаконных прасценкаў, якія нагадваюць лісты раскрытай кнігі. Фасады атынкаваны, аконныя праёмы ўпрыгожаны каляровымі вітражамі. Будынак складаецца з 2 злучаных паміж сабой блокаў бескалідорнай планіроўкі. У першым блоку — памяшканне абанемента (у 1-м паверсе), чытальная зала (у 2-м паверсе), асн. кнігасховішча (у цокальным паверсе), у другім — весты-



Мінскай гідраметэаралагічнай абсерваторыі будынак.

даваны 3-і паверх. Сцены 1-га і 2-га паверхаў руставаныя, аддзелены ад 3-га паверха карнізным поясам; будынак завершаны тонкапрафіляваным карнізам. Прамавугольныя аконныя праёмы на 3-м паверсе дэкарыраваныя простымі сандрыкамі. Планіроўка мяшаная, калідорна-анфіладнага тыпу. 1-ы і 2-і паверхі маюць цыліндрычныя і крыжовыя скляпенні, 3-і — плоскія. Цяпер у будынку размешчаны Музей гісторыі войск Чырванасцяжнай Бел. ваен. акругі. *Т. І. Чарняўская.*

**МІНСКАЙ ЖАНОЧАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры эклектыкі. Пабудаваны ў канцы 19 — пач. 20 ст. як прыватны жылы дом (3-павярховы), на рагу вул. Магазіннай (сучасная вул. Кірава) і Міхайлаўскага зав. З 1910 у ім знаходзілася жаночая гімназія: надбудаваны 4-ы паверх, зменена планіроўка. Цагляны трапецападобны 4-павярховы будынак з 2 уваходамі — з боку гал. і дваровага фасадаў. Гал. фасад вылучаны цэнтр. рызалітам і бакавымі зрэзанымі вугламі з 3-вугольнымі атыкамі, якія маюць паўцыркульныя завяршэнні ў цэнтры. Фасады насычаны дэкар. дэталямі, выкананымі цаглянай мурoўкай. Асобныя ляпныя элементы (руставаныя пілястры, капітэлі, ліштвы акон, карнізы, картушы і інш.) былі пакрыты белай тынкоўкай.



Мінскай бібліятэкі № 11 будынак.



Мінскай духоўнай кансісторыі будынак.

бюль (у 1-м паверсе), фае з лекцыйнай залай на 200 месцаў (у 2-м паверсе). Блокі злучаны паміж сабой устаўкай, дзе размешчаны адм. і дапаможныя памяшканні. Свабодная планіроўка чытальнай залы і памяшкання абанемента дае магчымасць мяняць іх памеры ў залежнасці ад велічыні кніжнага фонду і колькасці чытальных месцаў. Аўтарам будынка прысуджана прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1982. *В. Б. Ангелаў.*

**МІНСКАЙ ГІДРАМЕТЭАРАЛАГІЧНАЙ АБСЕРВАТОРЫІ БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1934 (арх. І. Валадзько) на праспекце Ф. Скарыны. Мае рысы стылю канструктывізму. Трохпавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак на высокім цокальным паверсе, арыентаваны фасадамі па баках свету. У кампазіцыі вылучаны аб'ёмы 2 лесвічных клетак (выступаюць у плане і ўзвышаюцца над дахам), верхнія пляцоўкі выкарыстоўваюцца для правядзення натурных гідраметэаралагічных вымярэнняў і маюць спецыяльнае абсталяванне. Фасады вырашаны ў строгіх лаканічных формах. Паўднёвы фасад мае балконы на ўсю даўжыню будынка на ўзроўні 2-га і 3-га паверхаў. Планіроўка калідорная з 2-баковым размяшчэннем рабочых памяшканняў. Помнік рэспубліканскага значэння. *В. Б. Ангелаў.*

**МІНСКАЙ ДУХОЎНАЙ КАНСІСТОРЫІ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы на *Мінскім архірэйскім падвор'і,* размешчаны на рагу праспекта Ф. Скарыны і вул. Чырвонаармейскай. Будынак невял., кампактны, Г-падобны ў плане. Спачатку быў 2-павярховы, пазней надбу-

Уваход з боку вул. Кірава вылучаны 3-вугольным франтонам са стылізаваным арачным завяршэннем. Па перыметры будынка (паміж 3-м і 4-м паверхамі) праходзіць аркатурны фрыз, які быў размаляваны фрэскамі (не захаваліся). Цяпер выкарыстоўваецца як адм. будынак. *Т. І. Чарняўская.*

**МІНСКАЙ ЖАНОЧАЙ МАРЫІНСКАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры эклектыкі. Пабудаваны ў 1879 па вул. Падгорнай (сучасная вул. К. Маркса, 29). Спачатку мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак з



Мінскай жаночай гімназіі будынак.

цокальным паверхам, выцягнуты ў глыбіню двара; рэканструяваны ў 1930-я (надбудаваны 3-і паверх, завершаны атыкам) і 1960-я (зроблена прыбудова да тарцовай часткі з боку двара) гады. Гал. фасад вылучаны рызалітам з нязначным выступам і гал. уваходам. Сцены прарэзаны высокімі лучковымі вокнамі, паміж імі руставаныя пілястры. Па восі будынка на 1-м паверсе знаходзіліся вестыбюль, на 2-м — актавая зала, у бакавых частках абапал калідораў — класы. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў будынку размяшчаўся палітэхнікум, у 1925—32 — Камуністычны ун-т Беларусі імя Леніна, у 1933 — карцінная галерэя БССР. Цяпер у будынку знаходзіцца міжгародняя тэлефонная станцыя. *Т. І. Чарняўская.*

**МІНСКАЙ МУЖЧЫНСКАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК.** Існаваў у Мінску ў 19 — 1-й пал. 20 ст. Пабудаваны ў 1844 (арх. К. Хршчановіч) на б. Францысканскай вул. (сучасная вул. Леніна) у стылі класіцызму. Мураваны прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак быў накрыты 2-схільным дахам. Карнізны пояс падзяляў сіметрычны гал. фасад на



**Мінскай жаночай Марыінскай гімназіі будынак.** Фота пачатку 20 ст.

2 ярусы (ніжні апрацаваны рустам). Цэнтральная частка была вылучана рызалітам з гал. уваходам, аформленым плоскімі лапаткамі. Рызаліт завяршаўся прамавугольным атыкам, вокны 2-га паверха аздабляліся паўцыркульнымі нішамі, на 1-м паверсе былі прамавугольныя. Планіроўка калідорная. З ПдУ да гімназіі быў прыбудаваны 2-павярховы корпус дабрачыннага мужчынскага пансіёна. Разбураны ў 2-й пал. 1940-х гадоў у працэсе рэканструкцыі вул. Леніна. *У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКАЙ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ № 4 БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1939—40 (арх. Г. Якушка). У тыпалагічных і архіт.-маст. адносінах з'яўляецца характэрным прыкладам архітэктуры 2-й пал. 1930-х гадоў. 4-павярховы Г-падобны ў плане будынак. У вуглавой частцы, падкрэсленай паўкруглай каланадай 2-га і 3-га паверхаў, знаходзяцца вестыбюль-гардэроб і цэнтр. лесвіца. Ад вестыбюля і холаў 2-га і 4-га паверхаў пад прамым вуглом адыходзяць шырокія калідоры, уздоўж якіх з аднаго боку размешчаны навучальныя, адм. і інш. памяшканні. У тарцах — лесвіцы. Па ўсім перыметры гал. фасада колерам і фактурай тынкоўкі вылучаны 1-ы паверх, вырашаны ў выглядзе цокаля. Гладкія светлага колеру плоскасці сцен расчлянёны мерным рытмам аконных праёмаў, завершаны карнізам простага профілю. Будынак школы — помнік рэспубліканскага значэння. У 1979 рэканструяваны (арх. В. Карака і В. Шылкоўскі): зменена планіроўка, з улікам рэльефу прыбудаваны новы 6-павярховы корпус, актавая і спарт. залы, басейн. Архітэктура новага аб'ёму вырашана ў кантрасце са старым будынкам пры захаванні гарыз. чляненняў. *А. А. Воінаў.*

**МІНСКАЙ ФАБРЫКІ-КУХНІ БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1936 па вул. Свярдлова. Мае рысы канструктывізму. У пасляваенныя гады некалькі разоў рэканструяваны. Зменены



Мінскай мужчынскай гімназіі будынак.



Мінскай сярэдняй школы № 4 будынак.

знешні выгляд і ўнутраная планіроўка. Мураваны 2-павярховы будынак з паўпадвалам мае Г-падобны план з складаным аб'ёмам у вуглавой частцы. Архіт. вырашэнне фасадаў засн. на ступеньчатым перападзе вышынь асобных частак і на кантрастным спалучэнні вял. аконных праёмаў з гладкімі атынкаванымі плоскасцямі сцен. Над выступаючым наперад паўцыркульным у плане барабанам уваходнай групы размешчаны высокі, меншага радыуса ліхтар лесвічнай клеткі. Над аб'ёмам рэстарана «Папараць-кветка» ўзвышаецца вузкі (на шырыню барабана лесвічнай клеткі) 3-і паверх банкетнай залы, аконныя праёмы якой завершаны шырокімі казыркамі на жалезабетонных кансолях. У канструкцыйна-планіровачную аснову збудавання пакладзена трохпралётная сетка калон з нясучымі знешнімі сценамі. Перакрыцці 1-га паверха зроблены з маналітнага жалезабетону. Інтэр'еры залаў рэстарана і дыетычнай сталовай выкананы па праектах, распрацаваных у ін-це «Белдзіпрагандаль» (1974, 1977, арх. Л. Мельнік, Г. Сысоеў). Шырока выкарыстаны дрэва, метал, дэкар. шкло і інш. сучасныя аддзелачныя матэрыялы. Вестыбюль рэстарана ўпрыгожаны дэкар. газонамі. Будынак фабрыкі-кухні — помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Міцянін.*

**МІНСКАЯ БРАМА,** умацаваны ўезд у дзядзінец (замчышча) стараж. горада. Выяўлена ў працэсе археал. раскопак 1984—85. Пабудавана з дрэва ў пач.— 1-й пал. 12 ст. ў паўд.-ўсх. частцы замчышча (гл. *Мінскі замак*). Агульныя памеры брамы ў плане 17,1 × 7,4 м, вышыня (разліковая) 12,5—13,5 м, шырыня праёма-праезда 3,4 м. Складалася з 8 пустацелых клецей-зрубаў (памерам ад 2,8 × 1,3 да 4,5 × 1,7 м; па 4 у рад абапал праезда), зробленых у тэхніцы «ў чашку з астаткам» з бярвён дыяметрам да 30 см. Непаралельнае размяшчэнне прылеглых клецей асновы брамы сведчыць пра існаванне верхняга сувязнага яруса. Мяркуюць, што брама складалася з 2 аб'ёмаў — вялікага, ці асноўнага, і малога. Асн. аб'ём апіраўся на 3 пары клецей, над імі па перыметры брамы быў зроблены баявы насціл з брустверам, які стыкоўваўся з забараламі (пляцоўкамі з брустверам) абарончых сцен вала. На верхнім ярусе знаходзіліся 2 памяшканні (апіраліся на сцены клецей асновы), якія маглі выкарыстоўваць для варты і запасаў зброі. Памяшканні, праход паміж імі (каля 1 м) і забаралы былі накрыты агульным дахам. Для абароны праезда ўнутры асн. аб'ёму былі баявыя пляцоўкі (насціл), яны размяшчаліся паралельна сценам і злучаліся з памяшканнямі верхняга яруса ўсходамі. Малы аб'ём апіраўся на першую з боку поля пару клецей (вышыня яго асновы 6 м), таксама меў баявыя насцілы з забараламі. 2-аб'ёмная канструкцыя брамы дазваляла надзейна фланкіраваць знешні схіл вала, узмацняла франтальны абстрэл падыходаў да брамы, скарачала мёртвую прастору перад варотамі. Брама магла зачыняцца не менш як на 3 варот (2 у фасадах асн. аб'ёму — з боку горада і поля і ў фасадзе малога аб'ёму з боку поля) і пад'ёмных кратаў. Дах брамы ўзвышаўся над абарончымі сценамі, што рабіла яе своеасаблівай архіт. дамінантай горада. У канцы 12 — 1-й пал. 13 ст. брама разбурана. *Ю. А. Заяц.*



**Мінская брама.** Рэканструкцыя Ю. А. Зайца.

**МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ СЯДЗІБА,** Белая дача, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры неакласіцызму. Пабудавана ў канцы 19 ст. на паўд.-зах. ускраіне Мінска (сучасная вул. Казінца, 76). Знаходзіцца на ўзгорку, па схілах якога размешчаны парк пейзажнага тыпу. Прамавугольны партэр вакол дома абмежаваны па перыметры радамі ліп і таполяў. Мураваны 1-павярховы сядзібны дом мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, завершаную высокай 8-граннай вежай з балконам і зубчастым парапетам. Будынак накрыты складаным дахам з атыкамі і франтонам на тарцах. Фасады аздоблены рустоўкай, прафіляванымі паяскамі, разеткамі і інш. Арачныя аконныя і дзвярныя праёмы маюць пластычныя абрамленні. Унутры памяшканні розных памераў згрупаваны вакол цэнтр. вестыбюля і маюць анфіладную ўзаемасувязь. У будынку з 1990 размяшчаецца Цэнтр бел. фальклору. *А. М. Кулагін.*

**МІНСКАЯ ЗАМКАВАЯ ЦАРКВА.** Будаўніцтва храма вялося ў пач. 12 ст. (па меркаванню Э. М. Загарульскага паміж 1069 і 1073) на правым беразе р. Свіслач у раёне пл. 8 Сакавіка, па невядомых прычынах не было скончана. Помнік даследаваў В. Р. Тарасенка ў 1949—51. Мураваны храм пачалі будаваць з бутавага каменю пасля моцнага пажару, які знішчыў забудову дзядзінца горада і, верагодна, драўляную царкву, якая тут была раней. На яе месцы былі зроблены падмуркі, ніжнія часткі апсід, паўд. і зах. сцен. Паводле плана падмуркаў меркавалася паставіць кампактны 4-слуповы крыжова-купальны храм, амаль квадратны ў плане, з трыма паўавальнымі апсідамі. Памер асн. аб'ёму 12 × 12 м, даўжыня з апсідамі 16,3 м, таўшчыня сцен 1,5 м. На ўнутранай паверхні паўд. і паўн. сцен захаваліся выступы лапатак. Памеры бакоў падкупальнага квадрата каля 3,3 м, падмуркі слупоў, якія яго ўтвараюць, у плане Г-падобныя, складзены з невял. камянёў, паміж імі стужкавыя фундаменты. Фундамент будынка мае выгляд 2 сценак, складзеных з бутавага каменю, прастора паміж якімі запоўнена неапрацаванымі камянямі на вапнавым растворы. Усе падмуркі ўрэзаны ў пясчаны грунт (глыбіня месцамі больш за 1 м). Устаноўлена наяўнасць апалубкі з тонкіх дошак, забітых вертыкальна ўздоўж сценак рова падмурка (паўторнае даследаванне Г. В. Штыхава ў 1976).



**Мінская гарадская сядзіба.** Сядзібны дом.



Рэшткі **Мінскай замкавай царквы.**

У цэнтр. апсідзе зафіксаваны квадратны ў плане вянок з бярвён і абчасаная каменная пліта ад алтара. Упоперак малых бакавых апсід былі пакладзены бярвёны, якія злучалі падмуркамі. Унутры храма на яго паўд. і часткова зах. сценках захавалася абліцоўка з добра апрацаваных плітак (памеры 5,4 × 14,5 × 19 і 9,4 × 20 × 29,4), вырабленых з наздраватага даламіту і пакладзеных гарызантальна з перавязкай швоў. Месцамі пліткі захаваліся ў 5—6 радоў. На ПнУ ад царквы выяўлены яма для прыгатавання вапны (пл. 25 м$^2$) і пляцоўка майстэрні, дзе абчэсвалі пліткі, калі вялося буд-ва. Царква не мае аналагаў у стараж.-рускім манум. буд-ве. Амаль праз стагоддзе пасля спынення буд-ва царквы на яе месцы ўзнік хрысціянскі могільнік знатных гараджан. Выяўлена 21 пахаванне 13 ст. ў дамавінах скрынкавага тыпу з вял. хваёвых дошак на шыпах без цвікоў. Некаторыя векі дамавін абкладзены бяростай. Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Ін-це гісторыі АН Беларусі і Дзяржаўным музеі Беларусі. У 1967 за 30 м ад падмуркаў М. з. ц. быў пабудаваны яе муляж. Самі падмуркі знаходзяцца ў некранутым выглядзе на сваім месцы на глыбіні 0,5—2,1 м. Помнік рэспубліканскага значэння, разам з замчышчам узяты пад ахову дзяржавы. *Г. В. Штыхаў.*

**МІНСКАЯ КІРХА.** Існавала ў 19 — пач. 20 ст. Пабудавана ў 1846 у стылі класіцызму. Прамавугольны ў плане асн. аб'ём з паўкруглай алтарнай апсідай і прытворам, завершаным вежай-званіцай у выглядзе ратонды з 8 калонамі тасканскага ордэра і паўсферычным купалам. Сцены будынка рытмічна расчляпёны атыкамі. З ПнУ да кірхі быў прыбудаваны 2-павярховы будынак, дзе жыў пастар. Яго сіметрычны па кампазіцыі гал. фасад выходзіў на вул. Захар'еўскую (цяпер праспект Ф. Скарыны) і быў завершаны ступеньчатым атыкам. У 1930-я гады перабудавана пад дзіцячы кінатэатр. Разбурана ў 1940-я гады. *У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКАЯ ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры з элементамі рэнесансу і барока. У 1612—13 на скрыжаванні вуліц Нямігі і Ракаўскай (сучасная вул. Астроўскага) праваслаўным брацтвам было распачата буд-ва мураванай царквы і манастыра, якія да пач. 1620 былі збудаваны. У 1795 рэканструявана і перайменавана ў Кацярыненскую. У 1870—71 перабудавана: зроблены купал на квадратным пастаменце, пабудаваны новыя 3-ярусныя 4-гранныя шатровыя вежы на гал. фасадзе. Перабудовы рабілі і ў канцы 19 ст.: быў зняты купал і зменены гал. фасад, да зах. фасада зроблена прыбудоўка. Мураваная 3-нефавая 6-стаўповая базіліка з 5-граннай апсідай і 2 вежамі. Гал. фасад трохчасткавы: цэнтр. частка завершана высокім 3-вугольным франтонам, над уваходам вял. паўцыркульнае акно; 2 бакавыя часткі дэкарыраваны неглыбокімі нішамі паўцыркульнага і прамавугольнага абрысу, фланкіраваны 3-яруснымі вежамі-званіцамі, якія завершаны шлемападобнымі купаламі. Над апсідай — франтон асн. аб'ёму з люкарнай. Бакавыя фасады дэкарыраваны высокімі пілястрамі, паміж імі ў неглыбокіх нішах размешчаны спараныя паўцыркульныя вокны, якія асвятляюць бакавыя і цэнтр. нефы. Сцены завершаны тонкапрафіляваным карнізам. У інтэр'еры цэнтр. неф мае цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, бакавыя нефы — крыжовыя. Побач з царквой захаваўся царкоўны дом 19 ст. (вул. Астроўскага, 2). Храм пашкоджаны ў Вял. Айч. вайну. У 1972—79 рэстаўрыраваны паводле праекта Мінскіх навукова-рэстаўрацыйных і вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры БССР (арх. А. І. Курто).



**Мінская кірха.**

У будынку былі размешчаны Архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі БССР і Архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР. Помнік рэспубліканскага значэння. З чэрвеня 1991 аддадзены вернікам.

*Т. І. Чарняўская.*

**МІНСКАЯ РАТУША.** Пра будаўніцтва ратушы ў Мінску ў 1499 прыведзена ў прывілеях па арганізацыі кіраўніцтва ў горадзе па магдэбургскім праве (апісаны яе часткі і іх прызначэнне, але месца пабудовы невядома). Упершыню пра ратушу як існуючую ўпамінаецца ў 1582 (але ў 1591 зноў згадваецца пра яе будаўніцтва). З пач. 17 ст. звесткі пра ратушу прыводзяцца ў дакументах (напрыклад, у 1617): стаіць на пл. Высокага рынку (Саборнай пл., сучасная пл. Свабоды). У 1640 будынак быў моцна пашкоджаны ад пажару, адноўлены (існаваў у 1656). У 18 ст. ратуша страціла свой выгляд, у 1744 зноў адноўлена па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам войта С. Буржынскага. У канцы 18 ст. перабудавана губернскім архітэктарам Ф. Крамерам, набыла рысы класіцызму. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты пакатым вальмавым дахам. Цэнтр. частка сіметрычнага па кампазіцыі гал. фасада была вылучана рызалітам з 3-маршавай лесвіцай, акцэнтавана чацверыковай вежай, завершанай купалам са шпілем з флюгерам. Рызаліт і тарцы аформлены 4-калоннымі порцікамі іанічнага ордэра. Дэкар. вырашэнне будынка дапаўнялася кованымі агароджамі балконаў у порціках і на вежы. У 1819 ратуша была зноў рэканструявана. Да яе фасада з ПдУ прыбудавана мураваная агароджа, упрыгожаная стукавым дэкорам і жывапіснымі кампазіцыямі. На месцах прылеглых да ратушы прыбудоў разбіты невял. рэгулярны сквер, які стаў месцам адпачынку гараджан (летам тут гучала музыка, на бакавым балконе ратушы размяшчаўся гарадскі аркестр). У 1825—35 бакавыя порцікі былі завершаны франтонамі. У будынку знаходзіліся магістрат, суд, гаўптвахта, гарадавы, паліцыя, архіў, у 1830-я гады муз. школа. У 1847 зала на 2-м паверсе была прыстасавана пад тэатр (афармленне інтэр'ераў мастака Я. Кураткевіча). Ратушны тэатр меў невял. залу (памерам 18,15 × 6,39 м), партэр, ложы (10 ніжніх, 11 верхніх), балкон. У 1857 будынак ратушы быў знішчаны па асабістым распараджэнні 1851 Мікалая I: фармальная прычына — каб упарадкаваць забудову на Саборнай пл., на самой справе — каб выкараніць усялякі напамінак аб былых вольнасцях горада, калі існавала магдэбургскае права. У канцы 19 ст. сквер быў адноўлены, існуе і цяпер.

*У. М. Дзянісаў.*



**Мінская Петрапаўлаўская царква.**



**Мінская царква Аляксандра Неўскага.**



**Мінская ратуша.** Галоўны фасад.

**МІНСКАЯ ЦАРКВА АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 1898 на Вайсковых могілках як храм-помнік у гонар перамогі ў руска-турэцкай вайне 1877—78. Мураваны крыжова-купальны 4-стаўповы 3-нефавы храм з 3-граннай апсідай. Мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, у цэнтры якой узвышаецца масіўны купал на 8-гранным барабане, завершаны цыбулепадобнай галоўкай. Дамінантай кампазіцыі з'яўляецца высокая 2-ярусная званіца з шатровым пакрыццём, разме-

шчана над бабінцам. Багатую пластыку фасадам царквы надаюць аркатурныя паясы, складаныя дэкар. арачкі над аконнымі і дзвярнымі праёмамі, разеткі, складана-прафіляваны карніз, арнаментальны фрыз. У інтэр'еры цэнтр. неф раскрываецца ў бакавыя арачнымі праёмамі. У бабінцы пры ўваходзе ў цэнтр. неф — мемарыяльныя дошкі з імёнамі воінаў-беларусаў 30-й артылерыйскай брыгады і 119-га Каломенскага палка, якія загінулі пад Плеўнай (Балгарыя). Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. І. Чарняўская.*

**МІНСКАЯ ЦАРКВА МАРЫІ МАГДАЛІНЫ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 1847 на паўн. ускраіне горада на б. Старажоўскіх могілках (сучасная вул. Кісялёва). Першапачаткова мураваны аднакупальны сіметрычны па кампазіцыі 3-нефавы аднаапсідны храм. Да асноўнага прамавугольнага ў плане аб'ёму далучаны з усх. боку прамавугольная апсіда, з заходняга — прытвор. У цэнтры асн. аб'ёму на светлавым цыліндрычным барабане ўзвышаўся вял. купал. Сцены фасадаў расчлянёныя высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і дэкарыраваны пілястрамі. Па перыметры



**Мінская царква Марыі Магдаліны.**

будынка праходзіць тонкапрафіляваны карніз. Перакрыцці крыжовыя (захаваліся), цыліндрычныя. Царква перабудавана: апсіда закрыта 4-калонным порцікам (завершаны 3-вугольным франтонам), пастаўлены на высокі цокаль. У 1940—50-я гады прыстасаваны пад Цэнтр. дзярж. архіў кінафотафонадакументаў БССР (размяшчаўся ў 1946—86). У канцы 19 ст. перад царквой пабудавана брама з цэглы (захавалася з часткай агароджы). 1-пралётная манументальная брама кампазіцыйна падкрэслівала гал. ўваход у царкву. Дэкарыравана пілястрамі, арачнымі нішамі (у іх знаходзіліся скульптуры), валютамі, завершана развітым шматпрафіляваным карнізам. Над арачным праёмам узвышаецца дэкар. атык, завершаны фігурным франтонам з невял. лучковай галоўкай. У 1990 царква перададзена вернікам, дзейнічае. *Т. І. Чарняўская.*

**МІНСКАЯ ЦАРКВА СВЯТОГА ДУХА І МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН,** помнік архітэктуры рэнесансу. Заснаваны ў 1616 у Мінску на Верхнім рынку. Займаў тэрыторыю паміж сучаснымі пл. Свабоды, вул. Інтэрнацыянальнай і Энгельса. Комплекс уключаў будынак царквы, жылы манастырскі корпус, гасп. пабудовы, быў абнесены мураванай сцяной; выкарыстоўваўся таксама ў абарончых мэтах. На ПнУ знаходзіўся *Мінскі Святадухаўскі манастыр базыльянак,* які злучаўся з царквою крытай галерэяй. Царква Святога духа (закладзена пасля 1636) — 1-нефавы бязвежавы храм, накрыты высокім 2-схільным дахам (тарцы былі закрыты аднолькавымі па вышыні і канфігурацыі шчытамі) з 5-граннай алтарнай апсідай. Гал. фасад быў падзелены 4 пілястрамі карынфскага ордэра на 3 часткі. У цэнтральнай знаходзіўся партал, над ім — паўцыркульнае акно з ляпнымі ліштвамі, абапал якога былі плоскія нішы аналагічнай формы. Тарэц даху закрываў высокі 3-ярусны шчыт з валютамі, аддзелены ад сцяны прафіляваным карнізам. Ярусы шчыта шчыльна размешчаныя, расчлянялі пілястры, прамежкі паміж якімі і плоскія арачныя нішы былі запоўнены выявамі святых. Сцены бакавых фасадаў царквы праразалі вял. стральчатыя вокны. Унутры неф перакрыты крыжовымі скляпеннямі, якія апіраліся на масіўныя ўнутраныя контрфорсы. Інтэр'еры царквы ўпрыгожаны пяццю драўлянымі і мураванымі разнымі алтарамі з жывапіснымі кампазіцыямі. На хорах быў арган (майстар Людзвіг Клімовіч, 1779). У 2-й пал. 17 ст. інтэр'еры рэканструяваны (майстры муляр Рыгор Сніджнецкі, мазаічнік Ян Будрэвіч). З 1795 вядома як Петрапаўлаўскі сабор. Пасля пажару 1835 перабудавана ў псеўдарускім стылі (1846—50, арх. Густаў Валерт). Новы іканастас зроблены Іванам Ягоравым, абразы — Фёдарам Бруні і Гаўрылам Зубковым. Рэканструяваны ў 1895—97 (арх. Я. Ма-



**Мінская царква Марыі Магдаліны. Брама.**



**Мінская царква Святога духа і манастыр базыльян.** Рэканструкцыя.

розаў, В. Струеў). Узарвана ў 1936. З ПдУ да царквы прымыкаў 2-павярховы прамавугольны ў плане манастырскі корпус, асн. памяшканні якога былі перакрыты крыжовымі скляпеннямі, калідоры — цыліндрычнымі. Да 1799 у ім знаходзілася рэзідэнцыя праваслаўнага архіепіскапа, потым перабудаваны ў дваранскае вучылішча (арх. Ф. Крамер), якое ў 1803 ператворана ў мужчынскую гімназію. У 1852 корпус быў перабудаваны і прыстасаваны для размяшчэння прысутных месцаў (гл. ў арт. *Мінскі адміністрацыйны будынак).* Цяпер у будынку працуюць грамадскія арганізацыі і ўстановы. Манастырскі корпус — помнік рэспубліканскага значэння.

*У. М. Дзянісаў, Л. У. Іванова, В. Р. Кукуня.*

**МІНСКІ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1945—47 (арх. М. Парусnúmкаў). Актыўна фарміруе забудову праспекта Ф. Скарыны на ўчастку паміж вуліцамі Камсамольскай і Урыцкага. У архіт. вырашэнні 3-павярховага будынка складанай канфігурацыі з паўпадвальным паверхам выкарыстаны элементы класічнай спадчыны. Асіметрычная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з цэнтр. аб'ёму ў глыбіні, за чырвонай лініяй забудовы, і 2 бакавых крылаў (левага і правага), якія ўтвараюць курданёр. Гал. ўваход размешчаны па восі цэнтр. аб'ёму і вылучаны рызалітам з масіўным 4-калонным порцікам карынфскага ордэра. Левае крыло злучана з помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння — будынкам былой с.-г. страхавой кампаніі, узведзеным у 1915 (арх. Г. Гай) у стылі неакласіцызму. У месцы злучэння аб'ёмаў — праезная брама, фланкіраваная калонамі карынфскага ордэра, якія падтрымліваюць паўкруглы раскрапаваны франтон. Дзякуючы гэтаму кампазіцыйнаму элементу і адзінай лініі гарызантальных чляненняў аб'ёмы ўтвараюць агульную кампазіцыю. Тарцовы фасад правага крыла арыентаваны на праспект Ф. Скарыны і замыкае перспектыву бульвара па вул. Камсамольскай. Фасад, арыентаваны на вул. Камсамольскую, вылучаны 4 трохчвэртнымі калонамі. Вуглавая частка крыла завершана 8-гранным 3-ярусным бельведэрам. У крыле размешчаны клуб імя Дзяржынскага з залай на 630 месцаў. Бакавыя крылы апрацаваны пілястрамі, сцены завершаны масіўным карнізам і глухім парапетам. Прамавугольныя вокны 3-га паверха аформлены ліштвамі і завершаны арачнымі і трохвугольнымі сандрыкамі.

*А. А. Воінаў.*

**МІНСКІ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК,** Прысутныя мес-



**Мінскі адміністрацыйны будынак.**



Мінскі адміністрацыйны будынак. Былы будынак прысутных месцаў. Фота 1980-х гадоў.

цы, помнік архітэктуры позняга класіцызму. Узведзены ў 1852 (арх. Л. Садоўскі, К. Хршчановіч) на пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды). Для прысутных месцаў быў прыстасаваны жылы корпус б. манастыра базыльян (гл. *Мінская царква Святога духа і манастыр базыльян).* 3-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак замкнёнай кампазіцыі ўтварае ў цэнтры невял. ўнутраны двор. Сцены падзелены суцэльным карнізным поясам на ярусы (верхні ўключае 2-і і 3-і паверхі), завершаны трыгліфным фрызам і карнізам на дэнтыкулах. Вокны 2-га паверха аздоблены ліштвамі, пляскімі сандрыкамі на кансолях. Цэнтр гал. фасада вылучаны несапраўдным рызалітам, руставаным у ніжнім ярусе, і завершаны ступеньчатым атыкам. На 1-м паверсе размяшчаліся архівы, губернская друкарня, канцылярскія пакоі, на 2-м і 3-м (плaніроўка анфіладна-калідорная) — памяшканні акругова суда, натарыяльнай канторы, кабінеты пракурора, віцэ-губернатара, аддзяленні. З 1918 будынак вядомы як Дом працы (тут знаходзіліся прафсаюзныя арганізацыі і Наркамат працы БССР), з 1923 — Цэнтр. рабочы клуб «Чырвоны прафінтэрн». Цяпер у будынку размяшчаецца Мінскі абл. савет прафсаюзаў.

*Ю. А. Якімовіч.*

**МІНСКІ АЎТАВАКЗАЛ «УСХОДНІ».** Пабудаваны ў 1983 (арх. Л. Пагарэлаў, Л. Кустова, В. Ягадніцкі) у паўд.-зах. частцы горада на перакрыжаванні вул. Ванеева і праспекта Ракасоўскага. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя вырашана ў выглядзе 3-павярховага дугападобнага ў плане аб'ёму з вынесенымі за межы плана пандусамі ў 2 узроўнях. Пластыку будынка з суцэльным зашкленнем фасадаў, расчлянёных металічнымі аконнымі пераплётамі, узбагачаюць гарызантальныя парапеты, 2 магутныя крывалінейныя ў плане пілоны, якія акцэнтуюць гал. ўваход, невял. аб'ём з процілеглага ад гал. ўвахода боку. Фасады і інтэр'еры апрацаваны дэкар. тынкоўкай з выкарыстаннем белага мармуру. Сцяна залы чакання ўпрыгожана мазаічным пано на тэму «Юнацтва Беларусі» (мастак В. Карнееў). Планіровачная структура вакзала падпарадкавана тэхналагічнай сістэме абслугоўвання пасажыраў і забяспечвае лёгкую арыентацыю ў будынку.

*В. Б. Ангелаў.*



Мінскі аўтавакзал «Усходні».

**МІНСКІ ВЕРХНІ ГОРАД,** горадабудаўнічы ансамбль 16—19 стагоддзяў. Пачаў фарміравацца ў пач. 16 ст. як новы цэнтр Мінска (раён сучаснай пл. Свабоды, вуліц Кірыла і Мяфодзія, Герцэна, Гандлёвай, Музычнага зав., часткі вуліц Энгельса і Леніна (да праспекта Ф. Скарыны), Інтэрнацыянальнай (ад вул. Камсамольскай да вул. Я. Купалы), Рэвалюцыйнай і Нямігі (да вул. Камсамольскай). На тэр. М. В. г. размяшчаўся так званы Верхні рынак (з 1860 наз. Саборная пл., з 1917 — пл. Свабоды). Да 1930-х гадоў ён быў галоўным адм., культ. і гандл. цэнтрам горада. На Верхнім рынку ў 16—19 стагоддзях пастаўлены найбольш значныя адм., культавыя і жылыя будынкі ў стылі барока і класіцызму, якія займалі гал. становішча ў кампазіцыі плошчы і стваралі раскрыты з усіх бакоў комплекс з своеасаблівым абліччам і запамінальным сілуэтам. У ансамбль М. В. г. ўваходзілі *Мінская*



Мінскі Верхні горад. Выгляд Верхняга рынка з Траецкай гары. Малюнак Я. Драздовіча. 1919.



**Мінскі Верхні горад.** Рэканструкцыя.

*ратуша, Мінскі гасціны двор, Мінскі касцёл і кляштар бернардзінцаў,* Мінскі касцёл і кляштар бернардзінак, *Мінскі касцёл і кляштар езуітаў, Мінскі касцёл і кляштар францысканцаў, Мінскі касцёл і кляштар бенедыкцінак, Мінскі адміністрацыйны будынак,* Мінская гарадская сядзіба Ваньковіча (гл. ў арт. *Мінскія сядзібы Ваньковічаў), Мінскі касцёл і кляштар дамініканцаў, Мінская царква Святога духа і манастыр базыльян, Мінскага тэатра будынак,* касцёл бенедыкцінцаў, жылыя будынкі 17—19 стагоддзяў і інш. На тэр. М. В. г. створана ахоўная зона (гл. ў арт. *Мінскі гістарычны цэнтр).*

**МІНСКІ ВОДНА-ЗЯЛЁНЫ ДЫЯМЕТР,** сістэма паркаў, бульвараў, вадаёмаў у пойме р. Свіслач, якая перасякае Мінск з ПнЗ на ПдУ. Працягласць ад упуску Вілейска-Мінскай воднай сістэмы ў Заслаўскае вадасховішча да плаціны Чыжоўскага вадасховішча — 41 км. Перапад вышынь воднага каскада 28,6 м. Агульная пл. пасля заканчэння будаўнічых работ складае каля 2800 га. Створаны ў выніку архіт.-ландшафтнага пераўтварэння поймы ракі. Адзін з планіровачных стрыжняў Мінска, перасякаецца з ПдЗ на ПнУ гал. гарадскім дыяметрам — праспектам Ф. Скарыны. З'яўляецца часткай Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Арганічна пераходзіць у сістэму лесапаркавага пояса прыгараднай зоны. Кампазіцыйнай воссю водна-зялёнага дыяметра з'яўляецца р. Свіслач, на якой створаны 7-ступеньчаты каскад вадасховішчаў: у межах горада — Дразды, Камсамольскае воз., Цэнтральнае ў парку імя Горкага, Серабранскае ў ЦЭЦ-2, Чыжоўскае; за межамі горада — Заслаўскае і Крыніцы. Прылеглыя да вадасховішчаў тэрыторыі добраўпарадкаваны, ствараюцца набярэжныя, сады і паркі. Умоўна дыяметр падзелены на паўн.-зах. (ад кальцавой дарогі да вул. Варашылава), цэнтр. (ад вул. Варашылава да вул. Аранскай),



**Мінскі водна-зялёны дыяметр.** Набярэжная р. Свіслач у раёне праспекта Ф. Скарыны.

паўд.-ўсх. (ад вул. Аранскай да кальцавой дарогі) часткі. У склад М. в.-з. д. ўваходзяць парк культуры і адпачынку імя Перамогі, парк імя Я. Купалы, Цэнтр. дзіцячы парк імя М. Горкага, паркавыя зоны ў жылых раёнах Чыжоўка, Серабранка. Важную ролю ў прасторавай кампазіцыі дыяметра адыгрываюць архіт. збудаванні (Палац спорту, Дзярж. акадэмічны тэатр оперы і балета, павільён ВДНГ, цырк, крыты каток у парку імя М. Горкага, стадыён і інш.). Мае вял. значэнне ў аздараўленні навакольнага асяроддзя і ўдасканаленні эстэтычных якасцей ландшафту Мінска. *А. В. Сычова.*




Мінскі галоўны паштамт.



Мінскі гарадскі сядзібны дом.

**МІНСКІ ГАЛОЎНЫ ПАШТАМТ.** Пабудаваны ў 1949—53 (арх. У. Кароль). Складаецца з 2 злучаных паміж сабой аб'ёмаў — асноўнага 4-павярховага П-падобнага ў плане, пастаўленага ўздоўж чырвонай лініі праспекта Ф. Скарыны, і прыбудаванага да яго тыльнага фасада (круглы ў плане, у выглядзе ратонды з купалам; дыяметр 30 м), дзе размешчана вял. аперацыйная зала. Гал. фасад будынка, арыентаваны на праспект Ф. Скарыны, мае сіметрычную кампазіцыю. Размешчаныя па ўсім фасадзе трохчвэртныя калоны вял. карынфскага ордэра, масіўныя формы цэнтр. аркі ўвахода з апорамі, якія значна выступаюць за межы плана, высокі раскрапаваны атык надаюць будынку манум. характар. У аздабленні фасадаў і інтэр'ераў выкарыстаны прыродны камень, высакаякасная тынкоўка, ляпныя дэталі, вітражы з выявамі помнікаў архітэктуры Беларусі (1980, В. Позняк). Будынак — характэрны прыклад выкарыстання элементаў класічнай спадчыны ў архітэктуры Беларусі 1940—50-х гадоў. *А. А. Воінаў.*

**МІНСКІ ГАРАДСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны да 1795 на Верхнім рынку (сучасная пл. Свабоды, 15). Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты высокім вальмавым дахам. Сіметрычныя па кампазіцыі гал. і паўн.-ўсх. фасады вылучаны цэнтр. рызалітам, завершаным 3-вугольным франтонам з вял. паўцыркульным акном. Рызаліт фланкіраваны простымі лапаткамі і ўпрыгожаны балконам на 2-м паверсе. Рытм фасадаў ствараецца прамавугольнымі вокнамі ў простых ліштвах. Парадны двор абмяжоўвалі Г-падобныя ў плане флігелі і агароджа з брамай. Уваходзіць у ахоўную зону Верхняга горада Мінска. Помнік рэспубліканскага значэння. *У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКІ ГАРАДСКІ ТЭАТР.** Узведзены ў 1890 паводле праекта арх. К. Казлоўскага, будаўніцтва вялося пад кіраўніцтвам інжынераў К. Увядзенскага і В. Мандражы, тэхналагічнае аснашчэнне сцэны — С. Цыранкевіча, работамі па апрацоўцы інтэр'ераў кіраваў арх. В. Маас. Знаходзіўся на плошчы, якая сфарміравалася перад будынкам, на скрыжаванні вуліц Падгорнай і Петрапаўлаўскай (сучасныя вуліцы К. Маркса і Энгельса), да дваровага фасада прылягаў Аляксандраўскі сад. У архітэктуры будынка — стылізацыя ў стылі барока. Гал. фасад меў цэнтр.-восевую кампазіцыю, быў

аформлены рустам, пілястрамі, карнізамі, люкарнамі, сандрыкамі над вокнамі, завяршаўся высокім фігурным атыкам з радам нішаў, якія стваралі рытм аркатурнага фрыза. Дэкор бакавых фасадаў больш сціплы. Цэнтр. частка вылучана 2-павярховым рызалітам (у ім размяшчалася фае), які завяршаўся лучковым франтонам; да рызаліта прылягалі 1-павярховыя крылы — касавыя вестыбюлі. Глядзельная зала падковападобная ў плане, 3-ярусная, месцы размяшчаліся амфітэатрам, мела партэр, ложы, бельэтаж і балкон; разлічаная на 550 месцаў, яна магла трансфармавацца ў залу (даўж. 24,5 м) для баляў. Т-р меў развітую сцэнічную частку, артыстычныя пакоі на 2 паверхах, вестыбюльную групу памяшканняў. Плафон глядзельнай залы быў упрыгожаны размалёўкамі (арх. В. Маас) з партрэтамі А. Пушкіна, М. Гогаля, М. Глінкі, А. М. Астроўскага. Размалёўка інтэр'ераў т-ра зроблена мастакамі імператарскай Акадэміі мастацтва Ю. Рэйнбергам і Р. Венігам, мастакамі-дэкаратарамі В. Біцілевым, С. Лебядзінскім, К. Ульрыхам. На партале сцэны — ляпны герб Мінскай губ. У 1949 рэканструкцыя інтэр'ераў выканана паводле праекта арх. Г. Заборскага. У 1956—58 будынак т-ра быў рэканструяваны (арх. А. Духан). На гал. фасадзе надбудаваны бакавыя крылы да 2-га паверха, перапланаваны шэраг дапаможных памяшканняў. Т-р адкрыўся 5(17).6.1890. У ім выступалі прафесійныя і аматарскія тэатральныя калектывы, у т. л. Першае таварыства бел. драмы і камедыі. З 1920 працуе Бел. т-р імя Янкі Купалы. У будынку тэатра адбыліся 1-ы з'езд ваенных і рабочых дэпутатаў армій і тылу Зах. фронту 7—17(20—30).4.1917, 1-ы з'езд сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерняў 20—23.4(3—6.5).1917, 2-і з'езд армій Зах. фронту 20—25.11(3—8.12).1917, 1-ы Усебел. з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў 2—3.2.1919, на якім была прынята 1-я Канстытуцыя БССР. Будынак т-ра — помнік рэспубліканскага значэння. *В. М. Чарнатаў.*

**МІНСКІ ГАРАДСКІ УНІВЕРМАГ.** Пабудаваны ў 1951 (арх. Л. Мілегі, Р. Гегарт). У аснове кампактнага Г-падобнага ў плане 4-павярховага будынка жалезабетонны каркас. На сіметрычна вырашаным фасадзе, арыентаваным на праспект Ф. Скарыны, на 1-м паверсе вылучаны 3 арачныя праёмы, якія ўтвараюць парадны ўваход. Для архіт.-маст. аблічча характэрна наяўнасць вял. зашклёных праёмаў розных памераў, а таксама складанага дэкору — шматлікіх франтончыкаў, ліштваў, уставак, геральдычных паяскоў, прафіляваных цяг, маёлікавых дэталей, парапета. Дэкар. элементы класічнай спадчыны (ляпныя дэталі, вітражы і інш.) шырока выкарыстаны і ў інтэр'ерах. У 1—3-м паверхах размешчаны гандлёвыя залы, злучаныя паміж сабой цэнтр. трохмаршавай парадная і 2 бакавымі лесвіцамі, у 4-м і ў падвалах — складскія і інш. службовыя памяшканні. *А. А. Воінаў.*

**МІНСКІ ГАСЦІНЫ ДВОР,** помнік архітэктуры 18—20 стагоддзяў. Спачатку ў 18 ст. існаваў як комплекс мураваных 2- і 3-павярховых будынкаў у цэнтры Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды, 2—10) на-



**Мінскі гарадскі тэатр.** Фота пачатку 20 ст.



**Мінскі гарадскі універмаг.**

супраць ратушы; С-падобны ў плане. У канцы 18 ст. рэканструяваны ў стылі класіцызму (арх. Ф. Крамер): паўн.-ўсх. крылы комплексу былі злучаны сіметрычным па кампазіцыі 2-павярховым аб'ёмам з 4-калонным порцікам ў цэнтры і ўтварылі замкнёны двор. У 1909 быў зноў рэканструяваны, надбудаваны 3-і паверх, фасады апрацаваны ў стылі мадэрн, зменена планіроўка, накрыты вальмавым дахам. Паўн.-зах. частка будынка стала Г-падобнай у плане. На сіметрычным па кампазіцыі гал. паўд.-зах. фасадзе вылучаліся цэнтр. і бакавыя часткі. Цэнтральная акцэнтавана кілепадобным франтонам з 3 вузкімі паўцыркульна завершанымі аконнымі праёмамі, тымпан франтона быў упрыгожаны раслінным арнаментам. Бакавыя часткі завершаны купаламі са шпілямі (не захаваліся). Рытм фасадаў утвараюць прамавугольныя аконныя праёмы і лапаткі; пластыку ўзбагачаюць ляпныя элементы, балконы. У інтэр'еры каваная лесвічная агароджа, печы, абліцаваныя кафляй. У будынку размяшчаліся крамы, на 3-м паверсе — службовыя памяшканні. Пасля рэканструкцыі 1909 у ім размяшчаліся аддзяленне Азова-Данскога камерцыйнага банка, купецкі клуб і крамы. У гады 1-й сусветнай вайны размяшчаўся шпіталь, працаваў камерны т-р. З красавіка 1917 знаходзіўся выканком Зах. фронту, адбываліся пасяджэнні выканкома Мінскага Савета. 15—18.9.1917 тут адбылася 1-я, 5—7.10.1917 2-я Надзвычайная Паўн.-Зах. абласныя канферэнцыі РСДРП(б). У пач. 1920-х гадоў у будынку працавала партыйная школа, у 1923—33 — Мінскі гарадскі выканком Савета рабочых і сялянскіх дэпутатаў. Зараз будынак перададзены Дзярж. музею Беларусі. Помнік рэспубліканскага значэння.

*У. М. Дзянісаў.*



Мінскі гасціны двор.

**МІНСКІ ГІСТАРЫЧНЫ ЦЭНТР**, помнік горадабудаўніцтва 16 — сярэдзіны 19 ст. Уключае мураваныя жылыя і грамадскія будынкі — помнікі гісторыі і архітэктуры. Займае тэр. па берагах р. Свіслач. Складаецца з трох зон: *Мінскага Верхняга горада,* Ракаўскага прадмесця і Траецкага прадмесця. У пачатку 16—17 стагоддзяў сфарміраваліся ўмацаваныя комплексы — *Мінскі замак,* Верхні горад і Ніжні горад (Ніжні рынак) і прылеглыя да іх неўмацаваныя прадмесці — Ракаўскае і Траецкае; у 18 — пач. 20 ст. склалася капітальная мураваная забудова.



**Мінскі гістарычны цэнтр.** Вуліца Астроўскага ў Ракаўскім прадмесці.

Верхні горад — на тэр. сучаснай пл. Свабоды і прылеглых да яе кварталаў, абмежаваны р. Свіслач (У) і вуліцамі Рэспубліканскай (З), Немігай (Пн) і Інтэрнацыянальнай (Пд). Сфарміраваўся ў 16 — пач. 17 ст., быў абкружаны земляным валам (існаваў да канца 18 ст.), у 17—18 стагоддзях склаўся барочны ансамбль мураваных жылых, культавых і грамадскіх будынкаў на цэнтр. плошчы — Верхнім рынку (з 1860-х гадоў Саборная, з 1917 пл. Свабоды); з З і У да плошчы прылягалі прамавугольныя кварталы мураванай забудовы. Захавалася першапачатковая прамавугольная сістэма планіроўкі і мураваная забудова на пл. Свабоды і прылеглых да яе вуліцах: з У — Кірылы і Мяфодзія (назва з 1990, б. Вял. Бернардзінская, з 19 ст. Манастырская, з 1922 Бакуніна), Гандлёвая (б. Зыбіцкая), Герцэна (назва з 1922, б. Малая Бернардзінская, пасля 1863 Стараманастырская), Дзям'яна Беднага (назва з 1933; б. Школьная, Казьмадзям'янская), Музычны зав. (б. Манастырскі зав.), Энгельса (б. Петрапаўлаўская); з З — вуліцы Рэвалюцыйная (назва з 1922, б. Койданаўская), Няміга, Камсамольская (назва з 1922, б. Феліцыянская, з 19 ст. Богаяўленская), Рэспубліканская (назва з 1922, былыя Раманаўскі зав., вуліцы Старараманаўская, Навараманаўская); з Пд — вул. Інтэрнацыянальная (з 1919 назва яе паўд.-зах. часткі — б. Зборавая, у 17 ст. Праабражэнская; з 1919 яе паўд.-ўсх. частка наз. Кастрычніцкай — б. Валоцкая ў 17 ст., у 19 ст. Хрышчэнская). Захаваліся помнікі архітэктуры: *Мінскі гасціны двор, Мінскі касцёл і кляштар бернардзінцаў, Мінскі касцёл і кляштар бернардзінак,* касцёл езуітаў (гл. *Мінскі касцёл і кляштар езуітаў*), базыльянскія манастыры (гл. *Мінская царква Святога духа і манастыр базыльян, Мінскі Святадухаўскі манастыр базыльянак*), сядзіба Ваньковіча (гл. *Мінскія сядзібы Ваньковічаў*), *Мінскі гарадскі сядзібны дом,* дом Манюшкі і т. зв. дом масонаў (гл. ў арт. *Мінскія жылыя дамы*).

Ракаўскае прадмесце — тэр. уздоўж вул. Астроўскага і прылеглых да яе вуліц. У 16 ст. мела развітую лінейна-радыяльную планіроўку, у 18 — пач. 20 ст. ўзнікла мураваная капітальная забудова. Гіст. планіроўка і мураваная забудова захавалася на вуліцах Астроўскага (былыя Ракаўская, Юр'еўская), Віцебскай (б. Няміга-Ракаўская), Вызвалення (б. Уваскрэсенская), Дзімітрава (б. Вял. Татарская) і Замкавай. Захаваліся помнікі архітэктуры — *Мінская Петрапаўлаўская царква* (Кацярынінская), замчышча Мінскага замка.

Траецкае прадмесце — на левым беразе р. Свіслач. У 16 ст. мела развітую планіроўку, паводле рэгулярных планаў Мінска 1800, 1809 і 1817 сфарміравалася прамавугольная планіровачная сістэма, у



**Мінскі гістарычны цэнтр.** Траецкае прадмесце ў панараме забудовы горада. Фота 1980-х гадоў.



**Мінскі дом Гаўсмана.** Фота пачатку 20 ст.



**Мінскі жылы дом спецыялістаў.** Чарцёж галоўнага фасада.

19 — пач. 20 ст.— кварталы мураванай жылой забудовы. Рэканструяваны адзін такі квартал на беразе Свіслачы, дзе захавалася мураваная забудова: на б. галоўнай вуліцы прадмесця Троіцкай (былыя Барысаўскі і Старабарысаўскі тракты, вуліцы Віленская, Троіцкая, з 19 ст. Аляксандраўская, Камунальная, з 1936 М. Горкага, з 1992 М. Багдановіча), вуліцах Старавіленскай, Янкі Купалы (былыя Плаўская, Троіцкая, Паліцэйская, Набярэжная, Пралетарская) і Камунальнай набярэжнай. Захаваўся помнік архітэктуры — *Мінскі Троіцкі манастыр базыльянак.* Іл. гл. таксама ў арт. *Мінск.*

*Т. І. Чарняўская.*

**МІНСКІ ДОМ ГАЎСМАНА.** Існаваў у Мінску ў 19 — 1-й пал. 20 ст. Належаў краязнаўцу, збіральніку бел. старажытнасцей М. Гаўсману, потым вядомы як палац Чапскага. У ім знаходзіўся Грамадскі сход. У 1898—99 тут пачынала сваю дзейнасць Мінскае таварыства аматараў прыгожых мастацтваў. Пабудаваны ў 1857 (арх. К. Хршчановіч); знаходзіўся на рагу вуліц Падгорнай і Скобелеўскай — сучасныя вуліцы К. Маркса і Чырвонаармейская. Меў рысы эклектыкі (спалучаліся прыёмы і элементы готыкі, рэнесансу і класіцызму). Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам. Да яго паўд.-ўсх. фасада былі прыбудаваны 2 невысокія паўкруглыя вежы, упрыгожаныя прафіляванымі зубцамі і завершаныя бельведэрамі са спічастымі вокнамі. Сіметрычны па кампазіцыі гал. паўн.-зах. фасад вылучалі 3 неглыбокія рызаліты, завершаныя складанымі па малюнку франтонамі. У цэнтры бакавых рызалітаў знаходзіліся ўваходы з каванымі навесамі. Прамавугольныя вокны былі аздоблены ляпнымі ліштвамі. Фрыз меў складаны раслінны арнамент і па баках рызалітаў быў упрыгожаны маскаронамі. Разбураны ў канцы 1930-х гадоў.

*У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКІ ЖЫЛЫ ДОМ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ.** Існаваў у 1934—41. Пабудаваны па вул. Савецкай (арх. Н. Макляцова). Сіметрычны са складанай канфігурацыяй плана секцыйны будынак быў заснаваны на спалучэнні розных па вышыні аб'ёмаў: цэнтральнага 6-павярховага, адсунутага ў глыбіню за чырвоную лінію забудовы, і 4-павярховых бакавых крылаў, якія ўтваралі курданёр. Па восі будынка на вышыні 1—2-га паверхаў знаходзіўся скразны парадны праём у двор. Выразнасць фасадаў дасягалася вертыкальным зашкленнем лесвічных клетак на вышыню будынка, рытмічнай групоўкай квадратных акон, балконаў. Дом складаўся з вуглавых і радавых секцый, створаных паводле індывідуальнага праекта: на лесвічную пляцоўку выходзілі 2 кватэры, у якіх пакоі былі звязаны паміж сабой шырокім калідорам і мелі ўбудаванае абсталяванне. На 1-м паверсе размяшчаліся магазін, дзіцячыя сад і яслі.

*А. А. Воінаў.*

**МІНСКІ ЗАМАК,** умацаваны цэнтр стараж. Мінска, на аснове якога ўзнік горад і вакол якога ён рос і развіваўся. У летапісах вядомы пад назвай град, у актах 15—17 стагоддзяў — замак, пазней — Стары горад, Старое места, Стары замак, Замкавая гара, Замчышча. Дзядзінец пабудаваны ў 2-й пал. 11 ст. пры ўпадзенні р. Няміга ў р. Свіслач (раён сучаснай пл. 8-га Сакавіка і праспекта Машэрава). Абнесены земляным валам выш. каля 8 м, на грэбені якога пастаўлены драўляныя сцены, з паўд. боку была *Мінская брама.* Замак меў форму няправільнага авала (даўж. ад р. Свіслач да процілеглага зах. краю 300 м, шыр. 120—150 м, пл. 3 га). Пры археал. раскопках (1945—51, 1957—61, 1976, 1981—86) выяўлена планіроўка ўсх. часткі дзядзінца, якая прымыкае да правага берага р. Свіслач, раскапаны драўляныя канструкцыі ў насыпе вала, рэшткі некалькіх вуліц і завулкаў. Гал. ву-

ліца шыр. 4 м перасякала дзядзінец з У на З, ад яе адыходзілі вузкія завулкі. Звычайная шыр. астатніх вуліц была каля 3 м, праезную іх частку абавязкова масцілі драўляным насцілам. Паміж вуліцамі размяшчаліся двары гараджан пл. 200—250 м². Яны ўключалі 1—2 жылыя пабудовы, хлявы, клеці, майстэрні. Двор агароджвалі частаколам з бярвёнаў, свабодную ад забудовы плошчу масцілі насцілам. У 12—13 стагоддзях у замку было 80—82 двары і больш за 400—500 жыхароў. Раскапаны рэшткі 130 пабудоў, некаторыя з іх з'яўляліся жыллём. Жытлы — 1-камерныя, часам 5-сценныя дамы зрубнай канструкцыі пл. 9—25 м², з дашчанай падлогай. Мелі 2-схільныя стрэхі без столі і дзверы (выш. не больш за 1,6 м) з ганкам. Гліняныя печы ў выглядзе невял. скляпення на невысокай драўлянай аснове — падпечча — размяшчаліся ў куце з правага ці левага ад уваход боку, паліліся па-чорнаму. У куце печы, вышэй яе скляпення, мацаваўся тоўсты «каневы слуп», які служыў апорай для палкоў, што размяшчаліся над печчу. Каля процілеглай сцяны стаялі лаўкі. Вокны ў сценах былі маленькія. Выяўлены фундамент мураванага храма пач. 12 ст. (гл. *Мінская замкавая царква*), будаўніцтва якой не скончана па невядомых прычынах. Умацаванні замка паспяхова вытрымалі аблогу магутнага войска паўд.-рус. князёў і іх саюзнікаў у 1104 і 1116, няўдалымі былі спробы полацкага кн. Рагвалода Барысавіча ўзяць замак прыступам у 1159, 1160, 1161. Доўгі час замак быў палітычным, ваенным і культ. цэнтрам, рэзідэнцыяй князёў, пазней вялікакняжацкіх і каралеўскіх намеснікаў. У 1505 войскі крымскага хана Махмет-Гірэя, захапіўшы горад, не здолелі авалодаць замкам. У ім знаходзіўся ваенны гарнізон (залога), правіянцкія магазіны, дом кіеўскага мітрапаліта, уладанні кн. Астрожскага, у вежы каля замкавай брамы размяшчаўся астрог. У замку знаходзіліся цэрквы Мікалаеўская і Раства Багародзіцы. Умацаванні будавалі жыхары горада і навакольных вёсак. У карысць замка ішлі судовыя пошліны і спецыяльныя падаткі, прыбыткі ад млына, што стаяў на левым беразе Свіслачы. З канца 17 ст. замак стаў паступова занепадаць, да канца 18 ст. засталіся толькі земляныя валы, зафіксаваныя на планах Мінска 18 — пач. 19 ст. *Г. В. Штыхаў.*

**МІНСКІ КАЛЬВАРЫЙСКІ КАСЦЁЛ І БРАМА,** помнікі архітэктуры 19 ст. Пабудаваны ў паўн.-зах. частцы Мінска на Кальварыйскіх могілках. Касцёл пабудаваны ў 1839—41 у цэнтры могілак, на месцы б. касцёла (разбураны ў 1830) у стылі неаготыкі. Мураваны 1-нефавы з невял. трансептам і прамавугольнай алтарнай апсідай храм накрыты высокім 2-схільным дахам. Гал. ўваход вырашаны ў выглядзе вял. Стральчатага партала. Над прытворам узвышаецца масіўная квадратная ў плане вежа, падзеленая на 2 часткі карнізам з сухарыкамі. У верхняй яе частцы 2 вузкія стральчатыя акны, над якімі круглая люкарна. Сцены гал. і бакавых фасадаў дэкарыраваны аркатурнымі паясамі, прарэзаны стральчатымі вокнамі, аздоблены ліштвамі. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі на падпружных арках, якія апіраюцца на квадратныя ў сячэнні слупы. Брама пабудавана ў 1830 на сродкі Юрыя Кабылінскага ў гонар сваёй жонкі ў класіцыстычных формах. Цаглянае прамавугольнае ў плане збудаванне з вял. цэнтральным і сіметрычна размешчанымі па баках меншымі паўцыркульнымі прыёмамі накрыта пакатым 2-схільным дахам. Падзелена карнізам на 2 ярусы. Ніжні — руставаны, над бакавымі праёмамі верхняга яруса — ляпная геральдыка. Касцёл дзейнічае. Касцёл і брама — помнікі рэспубліканскага значэння.
*А. Ю. Пятросава, Т. І. Чарняўская.*

**МІНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕНЕДЫКЦІНАК.** Існаваў у 17— 1-й пал. 20 ст. Пабудаваны з цэглы ў стылі барока ў 2-й пал. 17 ст. па Зборавай вул. (сучасная Інтэрнацыянальная) на месцы драўлянага



**Мінскі Кальварыйскі касцёл і брама.**
Галоўны фасад касцёла.



**Мінскі Кальварыйскі касцёл і брама.**
Брама.

кляштара (1633). Фундатар Войцех Сялява. Перабудаваны ў 1780-я гады (арх. Т. Раманоўскі). Да прамавугольнага ў плане 1-нефавага асн. аб'ёму **касцёла**, накрытага высокім 2-схільным дахам, прылягала 5-гранная алтарная апсіда з больш нізкім пакрыццём. Гал. фасад падзелены раскрапаваным карнізам на 2 ярусы, фланкіраваны 3-яруснымі вежамі з купальнымі завяршэннямі. Складаны па малюнку франтон закрываў тарэц даху. Сцены расчлянёныя лучковымі аконнымі праёмамі і пілястрамі. У інтэр'еры, перакрытым цыліндрычнымі скляпеннямі, было 5 алтароў. Да паўд. вежы касцёла прылягаў будынак **кляштара** — 2-павярховы, прамавугольны ў плане, накрыты высокім вальмавым дахам. Рытм фасадаў ствараўся сеткай прамавугольных аконных праёмаў. У 1872 касцёл і кляштар перабудаваны пад праваслаўны Праабражэнскі манастыр: верхнія ярусы вежаў касцёла і франтон былі разбураны, у цэнтры гал. фасада надбудавана драўляная, абшытая жалезам 3-ярусная шатровая званіца, над нефам — 5 купалаў на глухіх барабанах. У 1930-я гады манастыр перабудаваны пад клуб. У 1960-я гады разбураны. *У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНАК,** помнік архітэктуры барока. Уваходзіў у ансамбль пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды), знаходзіўся на яе паўн.-ўсх. баку і па вул. Бернардзінскай (сучасная вул. Кірыла і Мяфодзія, 3, 5, 7). Засн. ў 1633, фундатар Аляксандр Слушка. Пабудаваны драўляныя касцёл і кляштар, у 1642 пачалі ўзводзіць мураваныя будынкі, у 1687 новы касцёл быў асвячоны. Пасля пажару ў 1741 быў рэканструяваны. Кляштар уключаў касцёл, жылы корпус, флігель і гасп. пабудовы. Мураваныя касцёл і прыбудаваны з ПнУ да яго 2-павярховы жылы корпус утваралі замкнёны ўнутраны двор. З ПнУ ад жылога корпуса знаходзіцца 2-павярховы лямус, з ПдУ — 3-павярховы флігель, накрыты вальмавым дахам. Дамінаваў у кампазіцыі будынак **касцёла** — 3-нефавая 6-слуповая базіліка з 3-граннай алтарнай апсідай, да якой сіметрычна прыбудаваны прамавугольныя ў плане сакрысціі. Цэнтр. неф накрыты 2-схільным дахам, бакавыя нефы — 1-схільнымі. Гал. фасад з 2 6-яруснымі вежамі (выш. 34 м), завершанымі складанымі барочнымі купаламі, дэкарыраванымі пілястрамі, прафіляванымі карнізамі, праёмамі і нішамі з лучковымі і паўцыркульнымі завяршэннямі. Паміж вежамі размешчаны складаны па малюнку шчыт, упрыгожаны падвойнымі пілястрамі, карнізнымі паясамі. Бакавыя фасады раскрапаваны пілястрамі, карнізнымі паясамі, прарэзаны вял. лучковымі і арачнымі аконнымі праёмамі. Цэнтр. неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, бакавыя — крыжовымі. Інтэр'ер у 1-й пал. 19 ст. быў упрыгожаны 7 стукавымі алтарамі. **Жылы корпус** меў калідорную планіроўку. Яго паўд.-ўсх. фасад вылучаны 2 рызалітамі. Рытм фасадаў ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы і пілястры. У 1853 жаночы кляштар быў ліквідаваны. Пасля падаўлення нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 у будынку працавала дзярж. следчая камісія. З 1870 у будынках кляштара размяшчаўся праваслаўны манастыр св. Духа. Пасля Вял. Айч. вайны ў ім знаходзіцца праваслаўны кафедральны сабор. Помнік рэспубліканскага значэння. *У. М. Дзянісаў.*



**Мінскі касцёл і кляштар бернардзінак.** Выгляд касцёла з боку апсіды.

**МІНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ,** помнік архітэктуры барока. Уваходзіў у ансамбль пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды), знаходзіўся на яе паўн-ўсх. баку і вул. Бернардзінскай (сучасная вул. Кірыла і Мяфодзія, 4, 6, 8). Засн. ў 1624. Фундацыя краснасельскага старосты Андрэя Кянсоўскага (перадаў ордэну бернардзінцаў для яго рэзідэнцыі драўляны дом), зацверджана Яўстафіем Валовічам (1628). У 1630-я гады былі пабудаваны драўляныя касцёл і канвент, згарэлі ў 1644. Пасля пажа-



**Мінскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.** Агульны выгляд касцёла.

ру ўзведзены новыя мураваныя касцёл і кляштар, згарэлі ў 1656, адноўлены ў 2-й пал. 17 ст. У 1676 збудавана мураваная капліца (фундатар К. Завіша). Пасля пажару 1740 будынкі рэканструяваны. Падчас пажару 1835 касцёл і кляштар пашкоджаны, пазней адноўлены. У 1864 мужчынскі кляштар бернардзінцаў быў ліквідаваны. Цэнтр. месца ў комплексе займаў касцёл св. Іосіфа — 3-нефавая 6-слуповая базіліка. Цэнтр. неф непасрэдна пераходзіць ў выцягнуты прэсбітэрый (накрыты агульным 2-схільным дахам) з 3-граннай алтарнай апсідай, умацаванай контрфорсамі. Гал. фасад — бязвежавы, мае хвалістую паверхню, падзелены пілястрамі на 3 часткі. Цэнтральная завершана фігурным шчытом з валютамі па баках, з шырокім уваходным парталам, над якім вял. акно з 3-лопасцевым арачным завяршэннем; у паўцыркульных нішах размяшчалася стукавая скульптура (захавалася часткова). Сцены бакавых фасадаў раскрапаваны пілястрамі; вокны паўцыркульныя і лучковыя. Бакавыя нефы перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі, капліцы ў іх — крыжовымі скляпеннямі з ляпным дэкорам. Інтэр'ер быў упрыгожаны 9 алтарамі, аздобленымі жывапісам. З ПнУ да касцёла прыбудаваны П-падобны ў плане 2-павярховы будынак кляштара, рытм фасадаў якога ствараюць прамавугольныя аконныя праёмы і пілястры. Сістэма планіроўкі калідорная. У кляштары знаходзіліся келлі манахаў, трапезная, б-ка. У комплекс кляштара ўваходзілі мураваны 2-павярховы флігель, гасп. пабудовы. Тэр. кляштара была абнесена мураванай сцяной (захавалася часткова) з брамамі. З паўд. боку да касцёла былі прыбудаваны *Мінскія гандлёвыя рады.* Фасады касцёла рэстаўрыраваны (1984, арх. Г. Босак). З 1872 у памяшканні касцёла размяшчаліся архівы, з 1992 у ім знаходзяцца Архіў навук.-тэхн. дакументацыі і Архіў-музей літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь. Помнік рэспубліканскага значэння.

*У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ.** Існаваў у 1-й пал. 17—1-й пал. 20 ст. Уваходзіў у ансамбль пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды), знаходзіўся на яе паўд.-ўсх. баку, абмежаваны вуліцамі Валоцкай (сучасная вул. Інтэрнацыянальная), Дамініканскай (сучасная вул. Энгельса) і Юр'еўскай (пл. каля 2 га). Комплекс уключаў будынкі касцёла і кляштара, гасп. пабудовы. Засн. ў 1605, фундатар Сафія Слушка. У 1615 мінскі ваявода Пятра Тышкевіч перадаў ордэну пляц для пабудовы касцёла і кляштара. Пабудаваны ў стылі барока; у пачатку і 2-й пал. 18 ст. рэканструяваны. Дамінантай комплексу з'яўляўся касцёл св. Томаша Аквінскага, закладзены каля 1622. Касцёл — прамавугольная ў плане 3-нефавая 6-слуповая базіліка з 2 капліцамі ў ПдЗ частках бакавых нефаў. Бязвежавы гал. фасад быў падзелены пілястрамі на 3 часткі: цэнтральная завяршалася хвалістым шмат'ярусным шчытом з невял. вежачкай, бакавыя — вял. сіметрычнымі купаламі на высокіх 8-гранных светлавых барабанах над капліцамі. Сцены касцёла былі расчлянёны пілястрамі, лучковымі і арачнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры, упрыгожаным фрэскавым жывапісам, знаходзіліся 13 разных драўляных і стукавых алтароў. Цэнтр. неф быў перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, бакавыя нефы — крыжовымі. Да прэсбітэрыя касцёла прылягаў 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак кляштара. Цэнтр. частка яго вылучалася рызалітам. Планіроўка калідорная. Памяшканні кляштара былі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. У паўн.-зах. частцы тэрыторыі знаходзіліся сад і драўляныя гасп. пабудовы (2 флігелі, свіран, стайня). Комплекс быў абнесены высокай агароджай з 2-вежавай 3-яруснай брамай-званіцай. У 1832 кляштар быў закрыты, у 1840-я гады перабудаваны пад каталіцкую семінарыю; пасля 1869 у ім размяшчаліся казармы. У 1950 разбураны. Іл. гл. таксама ў арт. *Мінск.*

*У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ЕЗУІТАЎ,** помнік архітэктуры 2-й пал. 17 — пач. 18 ст. Уваходзіў у ансамбль пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды). К канцу 18 ст. займаў яе паўд.-зах. бок і большую частку вул. Койданаўскай (сучасная Рэвалюцыйная) да перасячэння з вул. Феліцыянскай (сучасная Камсамольская); уключаў касцёл, калегіум, школу і гасп. пабудовы. Рэзідэнцыя езуітаў існавала ў Мінску з сярэдзіны 17 ст. (з 1713 мела ранг калегіі). Спачатку размяшчалася ў сядзібе мешчаніна Ягора Гегера па вул. Койданаўскай (Рэвалюцыйная, 1), абнесенай высокай муранай агароджай з некалькімі брамамі (апрача 2-павярховага невял. мураванага жылога дома, былі стары драўляны дом, стайня, свіран і іншыя гасп. пабудовы). Комплекс засн. ў 1654, фундатар смаленскі біскуп Геранім Сангушка. Узведзены на месцы мураванага будынка і драўлянай капліцы, пастаўленых езуітамі паміж 1656 і 1683. Спачатку займаў мураваны 2-павярховы дом, побач з якім быў пабудаваны драўляны касцёл. Да канца 17 ст. ўзведзены 2-павярховы будынак школы, у пач. 18 ст.— касцёл, да сярэдзіны 18 ст.— калегіум. У глыбіні квартала размяшчаліся гасп. пабудовы. Цэнтр. месца ў ансамблі займаў касцёл Ісуса, Марыі і св. Барбары (пасля 1820 Марыінскі кафедральны). Пабудаваны ў 1700—10 у стылі барока. 3-нефавая 6-слуповая базіліка. Знаходзіўся крыху ў глыбіні ад чырвонай лініі забудовы, што ўтварала невял. курданёр. Цэнтр. неф, накрыты 2-схільным дахам, пераходзіць у прэсбітэрый з паўкруглай алтарнай апсідай, над якой тарэц даху быў закрыты пластычным шчытом. Абапал апсіды у бакавых нефах размешчаны 2 капліцы (св. Тройцы і св. Феліцыяна, фундатар апошняй К. Завіша; 1722), накрытыя купаламі на гранёных светлавых барабанах. 2-вежавы гал. фасад, арыентаваны на пло-



**Мінскі касцёл і кляштар дамініканцаў.**



**Мінскі касцёл і кляштар езуітаў.** Агульны выгляд. Фота пачатку 20 ст.



**Мінскі касцёл і кляштар езуітаў.** Галоўны фасад касцёла. Фота пачатку 20 ст.

шчу, расчлянёны складанымі карнізамі і цягамі, аздоблены калонамі, паўкалонамі і пілястрамі, завяршаўся фігурным франтонам паміж 5-яруснымі вежамі (дабудаваны ў 1731), дэкарыраванымі пілястрамі іанічнага ордэра і завершанымі невял. купаламі. Сярэдняя частка фасада падзелена на 2 ярусы складанапрафіляванымі карнізамі і ўвянчаная фігурным франтонам з сігнатуркай. У 2-м ярусе было вял. лучковае акно ў абрамленні падвойных калон іанічнага ордэра. У глыбокіх паўцыркульных нішах вежаў і франтона стаялі драўляныя разныя скульптуры (св. Пятра і св. Паўла на вежах, Марыі з дзіцем на франтоне). На вежах былі ўстаноўлены 4 званы (Казімір, Тадэвуш, Феліцыян і Якаб, апошні 350 пудоў). Нефы былі перакрытыя цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Сцены бакавых фасадаў расчлянёны шырокімі плоскімі пілястрамі, вокнамі з лучковым і паўцыркульным завяршэннем. У інтэр'еры, перакрытым цыліндрычнымі скляпеннямі, было 12 разных драўляных скульптур апосталаў (не захаваліся), фрэскі [мастак Казімір (Антон) Анташэўскі], больш раннія фрэскі захаваліся ў капліцах, карціны Ш. Чаховіча і І. Аляшкевіча. Насценную размалёўку сямейнай капліцы Завішаў зрабіў М. Бейтнік (1739). У 1798—1800 інтэр'ер рэканструяваны, іншыя перабудовы касцёла зроблены ў 1853—54, у 1951 перапланаваны і перабудаваны гал. фасад (арх. М. Драздоў). Цяпер у будынку размешчаны савет спарт. таварыства «Спартак».

На ПнЗ ад касцёла знаходзіўся мураваны к а л е г і у м (раней існаваў драўляны будынак), злучаны з ім працяглым калідорам, узведзены ў 1733—47 [у 1738 быў пашкоджаны падчас пажару; у 1745—46 з боку вул. Койданаўскай прыбудавана 3-павярховае крыло (у ім размяшчаліся кухня, трапезная і інш.)]. 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак калегіума калідорнай планіроўкі; цэнтр гал. фасада яго вылучаўся 3-яруснай вежай з гадзіннікам (1738—50), завершанай барочным купалам (не захаваўся). Пасля пажару 1797 будынак калегіума быў рэканструяваны. З 1799 у будынку калегіума знаходзіліся «прысутныя месцы», пасля 1820 — гарадская дума, у 1852—1917 — казённая палата, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — ВДНГ БССР. Разбураны ў Вял. Айч. вайну. У 1749 побач з касцёлам пабудавана аптэка з лабараторыяй. У 1951 на месцы будынка калегіума ўзведзены жылы дом (пл. Свабоды, 11). З ПнУ да касцёла прылягаў прамавугольны ў плане 2-павярховы з вальмавым дахам будынак ш к о л ы (злучаўся з паўн.-ўсх. вежай касцёла). Пабудаваны ў 1699 (паводле іншых звестак у 1769—70-я гады). Цэнтр. частка гал. фасада была вылучана квадратнай у плане вежай, завершанай купалам. З 1773 (пасля забароны ордэна езуітаў) у будынку размешчана свецкая 6-гадовая школа. Пасля перабудовы школы ў 1799—1917 — дом губернатара, у 1919—33 — 1-ы Дом Саветаў, дзе знаходзіліся ЦВК, Саўнарком і іншыя дзярж. ўстановы БССР, пасля Айч. вайны — муз. школа. У 1968 зроблены апошняя перабудова, рэканструкцыя, надбудаваны 3-і паверх. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў арт. *Мінск.* *У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ.** Архіт. комплекс існаваў у 17—19 стагоддзях. Засн. ў 1676, фундатар Тэадор Ванькович. На рагу вуліц б. Францысканцаў (сучасная вул. Леніна) і Юр'еўскай, кампазіцыйна быў звязаны з архіт. ансамблем пл. Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды). Мураваны будынак кляштара і драўляны касцёл былі пабудаваны ў 18 ст. на месцы драўляных збудаванняў 2-й пал. 17 ст. У комплекс уваходзілі таксама флігель і гасп. пабудовы. К л я ш т а р — 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак з 2-схільным чарапічным дахам, сцены яго завяршаліся магутным прафіляваным карнізам. У паўн.-зах. частцы тарцовы фасад завяршаўся 3-вугольным франтонам з скульптурамі 2 анёлаў і рэльефнай выявай сонца з прамянямі (у тымпане). Рытм фасадаў стваралі прамавугольныя аконныя праёмы. На ПнЗ ад кляштара знаходзіўся крыжападобны ў плане 2-вежавы к а с ц ё л, на месцы якога ў 1801 быў закладзены мураваны (не дабудаваны). Комплекс быў абнесены высокай мураванай агароджай з

брамай (у паўд.-зах. частцы). У 1-й пал. 19 ст. у будынках размяшчалася каталіцкая семінарыя. У 2-й пал. 19 ст. перабудавана пад Мінскую гарадскую ўправу. У канцы 1940-х гадоў пры рэканструкцыі вул. Леніна разбураны.

*У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКІ КАСЦЁЛ СІМЯОНА І АЛЕНЫ,** Чырвоны касцёл, помнік архітэктуры неаготыкі з рысамі мадэрна. Галоўным фасадам выходзіць на пл. Незалежнасці, арганічна ўпісваецца ў яе ансамбль. Пабудаваны з чырвонай цэглы ў 1908—10 паводле праекта арх. Т. Пайздэрскага, пры ўдзеле У. Марконі і Г. Гая па фундацыі памешчыка са Случчыны Эдварада Вайніловіча і яго жонкі Алімпіі, якія вырашылі зрабіць вял. ахвяраванне і пабудаваць касцёл у гонар святых Сымона і Алены як помнік па сваіх памёрлых дзецях. 3-нефавы 3-вежавы храм асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з развітай паўцыліндрычнай апсідай. Цэнтр. неф і трансепт накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі 2-схільнымі дахамі. Ядром кампазіцыі з'яўляецца высокая прамавугольная 4-ярусная вежа, якая ўзвышаецца ў паўн.-ўсх. баку. Абапал алтарнай часткі гал. вежу дапаўняюць яшчэ 2 невял. шатровыя вежы. З паўд.-зах. боку да гал. фасада прыбудавана аднапавярховая галерэя. Уваходы афармлены тамбурамі. Высокія шчыты фасадаў будынка аздоблены дэкарыраванымі архіт. паясамі, машыкулямі і інш. Плоскасці сцен прарэзаны паўцыркульнымі высокімі align="center">рознавялікімі аконнымі праёмамі. У цэнтры гал. фасада над гал. уваходам, а таксама над уваходамі ў крылах трансепта знаходзяцца вял. вокны-ружы. У дэкар. аздабленні значная роля належыць каларыстычнаму вырашэнню будынка: спалучэнне чырвонага колеру цагляных сцен з тонкімі загладжанымі швамі і чырвонай чарапіцы дахаў. З 1975—90 у будынку рэспубліканскі творчы клуб кінематаграфістаў, у 1990 аддадзены веруючым. У мастацкім аздабленні памяшканняў вылучаюцца вітражы, якія запаўняюць праёмы акон, і люстры з медзі (маст. Г. Вашчанка). У б. алтарнай частцы — вітражы з выявамі юнакоў, якія ўвасабляюць алегорыі 5 мастацтваў. Каларыт вітражоў зеленаваты з чырвонымі ўкрапінамі. Вітражы і паліхромныя роспісы зроблены Францішкам Бруздовічам. Над гал. парталам касцёла герб Вайніловічаў. У адзіны комплекс з касцёлам уваходзяць плябанія — мураваны 2-павярховы будынак і мураваная агароджа з брамай. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў арт. *Незалежнасці плошча.*

*Л. Г. Лапцэвіч, А. Ю. Пятросава.*



Мінскі касцёл Сімяона і Алены.

**МІНСКІ КРЫТЫ РЫНАК «КАМАРОЎСКІ».** Пабудаваны ў 1979 (арх. В. Аладаў, А. Жалдакоў, У. Крывашэяў, М. Ткачук). Буйнейшы ў рэспубліцы цэнтр. кааператыўны рынак. З'яўляецца важным горадабудаўнічым акцэнтам на рагу вуліц Харужай і Куйбышава. Уключае: крыты павільён (пл. гандл. залы 13000 м²), пляцоўку для сезоннага гандлю (пл. 6000 м²), кіёскі, адм.-гасп. корпус. Крыты павільён — квадратнае ў плане (103×103 м) збудаванне арыгінальнай канструкцыі. Зборна-маналітная танкасценная абалонка (выш. 24 м) складанай формы без прамежкавых апор перакрывае зальнае памяшканне і стварае пластычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. У вонкавым афармленні выкарыстаны паліраваны граніт, дэкар. тынкоўка, керамічная плітка, алюміній, у інтэр'еры — керамічная мазаічная плітка, пластмасы, алюміній. Унутры павільёна па перыметры на антрэсолях і пад імі размешчаны гандл. ячэйкі. Павільён звязаны пандусам з адм.-гасп. корпусам. *В. М. Аладаў.*



Мінскі крыты рынак «Камароўскі».

**МІНСКІ МЕТРАПАЛІТЭН.** Буд-ва пачата ў 1977. Паводле праекта прадугледжаны 3 лініі, якія ўзаемна перасякуцца на Кастрычніцкай, Прывакзальнай і Юбілейнай плошчах; агульная даўж. каля 60 км. 1-я лінія (20,8 км) звяжа ўсх. частку горада з паўд.-заходняй. Яна пачынаецца ў жылым раёне Уручча і пройдзе ўздоўж праспек-

та Ф. Скарыны праз пл. Незалежнасці ў жылы раён Паўднёвы Захад; 2-я лінія (20,3 км) звяжа цэнтр з буйнымі жылымі масівамі зах. часткі горада і паўд.-ўсх. прамысл. зонай. Яна працягнецца ад жылога раёна Захад—Кунцаўшчына да жылога раёна Ангарская; 3-я лінія (17,2 км) звяжа паўд. частку з паўн.-ўсходняй і будзе пракладзена ад перакрыжавання вуліц Кіжаватава з Каржанеўскага праз Юбілейную пл. ў жылы раён Зялёны Луг. Першая чарга 1-й лініі (8,6 км) М. м. адкрыта 30.6.1984. Праходзіць уздоўж пр. Ф. Скарыны, уключае 9 пасажырскіх станцый («Усход», «Маскоўская», «Парк Чэлюскінцаў», «Акадэмія навук», «Плошча Якуба Коласа», «Плошча Перамогі», «Кастрычніцкая», «Плошча Незалежнасці», «Інстытут культуры»), падземныя вестыбюлі, пераходы, эскалатарныя спускі, службовыя і інш. памяшканні, інжынерны корпус (арх. Ю. Грыгор'еў, Дз. Кудраўцаў), электрадэпо (арх. Я. Леановіч, У. Целяпнёў, М. Лапато). Станцыі — арыгінальныя творы архітэктуры. Выкарыстанне сучасных будаўнічых канструкцый дало магчымасць стварыць адзіную прастору станцый. У ідэйна-маст. аблічча станцый увасоблена грамадскае, вытворчае і культ. жыццё Савецкай Беларусі, яе гераічнае мінулае і сучаснасць. У афармленні станцый М. м. актыўную ролю адыгрываюць сінтэз мастацтваў, колер і фактура аддзелачных матэрыялаў (мармур, граніт, металы, дрэва, кераміка і інш.), формы калон, дэталі свяцільнікаў, сродкі манум.-дэкар. і выяўленчага мастацтва. Рабочыя чарцяжы для буд-ва М. м. распрацаваны ін-там «Мінскметрапраект» — філіялам маскоўскага ін-та «Метрадзіпратранс», архіт.-маст. афармленне інтэр'ераў станцый — ін-тамі «Метрадзіпратранс», «Мінскметрапраект», «Мінскпраект», «Белдзяржпраект», пераабсталяванне інж. сетак у зоне буд-ва — ін-там «Мінскінжпраект». Інж.-геалагічныя вышуканні праведзены Бел. дзярж. ін-там інжынерных вышуканняў.

Станцыя «Усход» (арх. Я. Леановіч, У. Мяцельскі) уведзена ў эксплуатацыю 26.12.1986. Скляпеністага тыпу, выканана са зборных жалезабетонных элементаў 3 тыпапамераў заводскай вытворчасці. У аснову архіт. афармлення інтэр'ера пакладзена тэма «Савецкая моладзь і гераічнае асваенне космасу». Нетрадыцыйна вырашаны ўвесь унутр. аб'ём. Станцыя — сучаснае інж.-тэхн. збудаванне, якое па форме нагадвае касмічны карабель з вокнамі-ілюмінатарамі. Маст. вобраз інтэр'ера створаны на аснове адзінага архіт. элемента, выкананага са зборнага жалезабетону ў выглядзе пялёстка кветкі. Падоўжаны казырок на пуцявой сцяне платформы з'яўляецца святлозацяняльным элементам і адначасова экранам светлавога патоку, які скіраваны на скляпенні. Па-новаму вырашана інж. абслугоўванне станцыі: забяспечаны доступ да свяцільняў у любы час сутак, адсутнічаюць кабельная шафа і хвалявод на пуцявых сценах, што паляпшае эстэтычны выгляд інтэр'ера. Мяккасць ліній усяго аб'ёму станцыі і яго асобных архіт. элементаў, добрая асветленасць, спалучэнне белых скляпенняў з цёмна-чырвонай абліцоўкай пуцявых сцен (граніт) і надпісаў, выкананых у залацістым тоне, ствараюць уражанне лёгкасці, прасторы і навізны. Станцыя «Маскоўская» (арх. Л. Пагарэлаў, Л. Кустова, Ю. Івахнішын, маст. У. Стальмашонак, В. Даўгала) калоннага тыпу, выканана са зборных жалезабетонных канструкцый. Тэма афармлення станцыі «Масква — сталіца Саюза ССР» раскрываецца архіт. сродкамі ў сінтэзе з манум.-дэкар. мастацтвам. Колеравая гама заснавана на кантрасце чырвонага, белага і залацістага. Тарцовая сцяна над уваходам у перонную залу ўпрыгожана пано з выявай крамлёўскіх курантаў. Пано на 2 пуцявых сценах з выявай гіст.-архіт. помнікаў Масквы выканана ў тэхніцы фларэнційскай мазаікі. Сцены і калоны вестыбюля і пероннай залы абліцаваны белым мармурам. Калоны, цягі, элементы падвеснай столі афармлены паліраванай латунню. Перонная зала станцыі «Парк Чэлюскінцаў» (арх. Б. Юрцін, маст. Ю. Індрыксан) перакрыта жалезабетонным скляпеннем, якое апіраецца на абліцаваныя цёмным гранітам пуцявыя сцены. Падоўжнае і папярочнае чляненне скляпення надае



Станцыя «Усход».



Станцыя «Маскоўская».



Станцыя «Парк Чэлюскінцаў».




Станцыя «Акадэмія навук».



Станцыя «Плошча Якуба Коласа».

станцыі своеасаблівае аблічча. Гал. кампазіцыйную ролю ў архіт.-маст. афармленні перошіай залы адыгрываюць 8 дэкар. люстраў по восі скляпення і 34 бакавыя свяцільні ў нішах скляпення. Люстры, свяцільні, выкананыя з шкла залацістага колеру, у спалучэнні з белымі скляпеннямі надаюць станцыі ўрачыстасць. Колеравае вырашэнне станцыі — бела-ружовы тон, які дапаўняецца гарманічным увядзеннем у аддзелку люстраў і скляпення дэкар.-маст. элементаў з латуні. Асн. тэма архіт.-маст. афармлення станцыі «Акадэмія навук» (арх. М. Пірагоў, А. Зензін, маст. В. Чурыла, С. Сакалоў) — дасягненні навукі Сав. Беларусі. Станцыя выканана са зборных жалезабетонных канструкцый з шагам калон 4,5 м. Тэма раскрываецца праз архіт. формы перонпай залы (строгі рытм калон своеасаблівай формы, пластычных рыгеляў). Адкрытае асвятленне мякка падсвечвае рэбры пліт пакрыцця столі ў перспектыве і надае інтэр'еру станцыі дынамічную кампазіцыю і цэласнасць. У аддзелцы сцен перонпай залы і вестыбюляў выкарыстаны мармур, нержавеючая сталь. Падлога абліцавана паліраваным гранітам у спалучэнні з лабрадарытам. Станцыя «Плошча Якуба Коласа» (арх. Пірагоў, Зензін, маст. Г. Жарын, Ю. Багушэвіч) выканана са зборных жалезабетонных канструкцый з шагам калон 7,5 м. Архіт. вырашэнне перонпай залы (форма калон, нахіленыя рэбры перакрыцця станцыі) асацыіруецца з элементамі бел. нар. дойлідства. Своеасаблівы нацыянальны характар станцыі надае выкарыстанне керамічных аддзелачных матэрыялаў. 26 калон абліцаваны кафляй з матывамі бел. арнаментаў, на тэматычных устаўках выявы нар. свят, абрадаў, працы і побыту бел. народа. У аддзелцы падлогі выкарыстаны граніт, сцен — белы мармур. Станцыя «Плошча Перамогі» (арх. Б. Ларчанка, Б. Школьнікаў, маст. Стальмашонак, Даўгала) зручна звязана з падземнымі пераходамі. Выканана са зборных жалезабетонных канструкцый з шагам калон 6 м. У аснове архіт.-маст. вырашэння станцыі — тэма гераічнай перамогі сав. народа ў Вял. Айч. вайне. Урачысты строй 34 бела-мармуровых калон, завершаных свяцільнямі са шкла залацістага колеру, сімвалізуюць святочны салют. Перад уваходам у перонную залу над эскалатарамі вітраж з выявай ордэна «Перамога». У аддзелцы выкарыстаны граніт чырвонага і шэрага колераў. Станцыя «Кастрычніцкая» (арх. Ю. Удовін, Масква; Ю. Грыгор'еў, Леа-

новіч, Целяпнёў, маст. А. Кузняцоў, Л. Агаджанян) запраектавана ў 2 узроўнях: над перонней залай размешчаны (1990) гарадскія касы папярэдняга продажу білетаў на міжгародні пасажырскі транспарт. Арх. вырашэнне перонней залы заснавана на рытме высокіх калон (у сячэнні форма пяціканцовай зоркі), якія расшыраюцца ў верхняй частцы. Арганічна ўпісаныя ў капітэлі калон свяцільні падкрэсліваюць лёгкасць інтэр'ера. На тарцовых сценах — пано з рэльефамі, якія адлюстроўваюць асн. вехі гісторыі СССР. Калоны і пуцявыя сцены абліцаваны белым мармурам, падлога — чырвона-карычневым гранітам. Спалучэнне чырвонага, белага і залацістага складае каляровую гаму, што надае інтэр'еру строгую ўрачыстасць. Арыгінальнасць архіт.-маст. вырашэння станцыі «Плошча Незалежнасці» (арх. Ю. Градаў, Л. Левін, С. Тылевіч, В. Барташэвіч, маст. В. Мігаль, А. Анікейчык) у адсутнасці калон (перонная зала перакрыта жалезабетонным скляпеннем лаканічнай формы), у прастаце і цэласнасці інтэр'ераў. Свяцільні размешчаны за інфармацыйнымі карнізамі на пуцявых сценах. У цэнтры перонней залы дэкар.-маст. элемент «Светач». Пуцявыя сцены абліцаваны белым і чырвоным мармурам, падлога выкладзена светла-шэрым, цёмна-шэрым і чорным гранітам. У аснове архіт.-маст. афармлення станцыі «Інстытут культуры» (арх. В. Іўлічаў, В. Ачайкін, Леановіч, К. Эпштэйн, маст. В. Чайка, С. Катовіч) тэма гісторыі і росквіту культуры Сав. Беларусі. Перонная зала перакрыта жалезабетонным скляпеннем, падзеленым дэкар. тэматычнымі ўстаўкамі з літага шкла. Па восі скляпення размешчаны люстры з хрусталёвага шкла. Для аддзелкі пуцявых сцен і падлогі выкарыстаны паліраваны граніт. Малыя формы і сродкі інфармацыі ўсіх станцый выкананы паводле праекта арх. М. Грыбава, А. Аксёнавай пры ўдзеле У. Сокала. У 1990 уведзена ў эксплуатацыю 1-я чарга 2-й лініі М. м. даўж. 7 км 180 м) са станцыямі «Фрунзенская» (арх. Лапато, У. Шкарупін, пры ўдзеле Целяпнёва, мастак Л. Зільбер), «Няміга» (арх. Градаў, Левін, пры ўдзеле В. Дарашкевіча, мастак Л. Хобатаў), «Купалаўская» (арх. Леановіч, мастак Даўгала), «Першамайская» (арх. Целяпнёў, А. Пятроў, мастак Ю. Каралевіч), «Пралетарская» (арх. Пагарэлаў, Кустова, А. Вішнеўскі, скульпт. М. Ражанкоў), «Трактарны


Станцыя «Плошча Перамогі».


Станцыя «Кастрычніцкая».


Станцыя «Плошча Незалежнасці».


Станцыя «Інстытут культуры».


Мінскі Палац культуры Белсаўпрофа.

з а в о д» (арх. В. Крамарэнка, А. Ладкін, мастак Б. Скрамблевіч).
*В. Ф. Валошын.*

**МІНСКІ ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ БЕЛСАЎПРОФА.** Пабудаваны ў 1954 (арх. У. Яршоў) на праспекце Ф. Скарыны. Гал. фасад арыентаваны на *Кастрычніцкую плошчу.* Прамавугольны ў плане будынак мае строга сіметрычны аб'ём, абрамлены па перыметры калонамі і паўкалонамі карынфскага ордэра. Гал. фасад вырашаны ў выглядзе 10-калоннага порціка, увянчанага франтонам са скульптурнымі групамі (скульпт. В. Папоў, А. Глебаў, С. Селіханаў). Знутры порцік упрыгожаны кесонным скляпеннем з яркай расфарбоўкай. Аналагічна вырашаны тыльны фасад. Над складаным карнізам бакавых фасадаў па 3 франтоны, упрыгожаныя пінаклямі. Разнастайныя дэкар. элементы класічнай спадчыны выкарыстаны ў інтэр'ерах: глядзельнай залы на 780 месцаў, фае, холах, танцавальных і лекцыйных залах, у памяшканнях для работы гурткоў.
*А. А. Воінаў.*

**МІНСКІ ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ І СПОРТУ ЧЫГУНАЧНІКАЎ** і м я І л ь і ч а. Пабудаваны ў 1978 (арх. Л. Анікіна). Будынак размешчаны з водступам ад чырвонай лініі забудовы, фарміруе ансамбль плошчы па вул. Чкалава. У аснове аб'ёмна-прасторавай і планіровачнай структуры будынка тыпавы праект клуба канца 1950 — пач. 60-х гадоў. Фасады вырашаны ў строгіх архіт. формах, у аснове кампазіцыі кантраст глухіх паверхняў тарцовых сцен і гал. фасада, вітраж якога прарэзаны вертыкальнымі жалезабетоннымі рэбрамі. Мае глядзельную залу на 900 і кіназалу на 300 месцаў, б-ку, танцзалу, кафэ, памяшканні для работы гурткоў, 2 спарт. залы, плавальны басейн. Фае ўпрыгожана тэмпернай размалёўкай «Мая Радзіма» (1978, маст. С. Каткова, З. Літвінава). У аддзелцы інтэр'ераў выкарыстаны дэкар. тынкоўка, мармур, шпон. Тэрыторыя добраўпарадкавана газонамі, кветнікамі, дэкар. басейнам з фантанам і інш. малымі архіт. формамі.
*С. Дз. Філімонаў.*


Мінскі Палац культуры і спорту чыгуначнікаў.

**МІНСКІ ПАЛАЦ ЛЁГКАЙ АТЛЕТЫКІ** с п а р т ы ў н а г а к л у б а Б е л а р у с к а й в а е н н а й а к р у г і, крытае мнагамэтавае спартыўнае збудаванне, прызначанае для трэніровак, правядзення рэспубліканскіх і міжнар. спаборніцтваў па лёгкай атлетыцы, гульнявых відах спорту, барацьбе, боксу, гімнастыцы, фехтаванні. Пабудаваны ў 1976 (арх. М. Каўко, У. Ісачанка, У. Крыштановіч). Найбольшае спарт. збудаванне падобнага тыпу на Беларусі. Палац (аб'ём каля 119 тыс. $м^3$) — прамавугольнае ў плане збудаванне (125×48 м), мае дэманстрацыйную арэну эліпсападобнай формы з 200-метровай 4-радовай і 6-радовай прамой бегавымі дарожкамі са спецыяльным сінтэтычным пакрыццём, стацыянарныя падковападобныя ў плане трыбуны на 3 тыс. месцаў; залы для трэніровак і размінкі, памяшканні для спартсменаў, адміністрацыі, абслуговага персаналу і тэхн. службы. Выразнасць архітэктуры дасягаецца пластычным вырашэннем канструк-

цыі перакрыцця залы манежа (блокі металічных ферм, размешчаных па крывой лініі), нерасчлянёнасцю і цэльнасцю паверхняў сцен фасадаў,ураўнаважанасцю агульнай кампазіцыі. Зала з вял. вітражом з аднаго боку і трыбунамі з другога ўражвае памерамі, напоўненасцю святла і лёгкасцю. Мерыдыяльная арыентацыя будынка па падоўжнай восі прывяла да зацененасці гал. фасада.

*С. Дз. Філімонаў.*

**МІНСКІ ПАЛАЦ ПІЯНЕРАЎ І ШКОЛЬНІКАЎ.** Пабудаваны ў 1986 на беразе Камсамольскага воз. ў парку Перамогі (арх. В. Бялянкін, Т. Розава, Л. Селівончык, І. Новік, В. Чарназемава; першая чарга — клубны комплекс). Сіметрычны кампактны будынак, у плане ўпісваецца ў круг. Цэнтр кампазіцыі — вял. фае-зала для правядзення масавых мерапрыемстваў; прасторава аб'яднана з Ленінскай залай (для правядзення ўрачыстых рытуалаў і сустрэч) і Зімовым садам — часцінкай жывой прыроды з возерам, востравам, дрэвамі, птушкамі, залацістым вітражом, звернутым да возера. Да фае вядзе ўваходны вестыбюль з фантанам, асветлены верхнім святлом праз ліхтар авальнай формы. Па баках ад цэнтр. фае на 4 паверхах размешчаны памяшканні для работы гуртkоў тэхн. і маст. творчасці, эстэтычнага выхавання. Да цэнтр. фае прымыкаюць 3 залы: універсальная кінаканцэртная на 900 месцаў, лекцыйная на 300 месцаў і піянерскага т-ра. Усе яны маюць сцэны і пакоі для рэпетыцый аркестра, заняткаў харэаграфіяй, спевамі і інш. Над гал. уваходам размешчана зала касманаўтыкі. Для аздаблення інтэр'ераў буйных памяшканняў выкарыстаны белы мармур, граніт і інш. прыродныя матэрыялы, падвесная столь з акміграна, пафарбаванага алюмінію. Гал. фае аздабляюць ажурныя люстры, вестыбюль — дэкар. басейн з фантанам, кантрастнае спалучэнне белай падлогі з інтэнсіўным чырвоным колерам столі. У архітэктуры бакавых фасадаў будынка таксама выкарыстаны кантраст паміж глухімі паверхнямі сцен, абліцаваных светлым даламітам, і залацістым шклом вітражоў, у якіх адлюстроўваецца навакольны пейзаж. Афармлены пляцоўкі для спорту і масавых гульняў, прадугледжана стварэнне плошчы парадаў, дэкар. басейна, алеі піянераў-герояў.

*В. І. Анікін.*



**Мінскі Палац лёгкай атлетыкі.**



**Мінскі Палац піянераў і школьнікаў.**

**МІНСКІ ПАЛАЦ СПОРТУ.** Пабудаваны ў 1966 (арх. С. Філімонаў, В. Малышаў) на *Машэрава праспекце.* Найбольшае ў рэспубліцы крытае спарт. збудаванне шматмэтавага прызначэння і першае ў краіне, створанае па новай асіметрычнай планіровачна-тэхналагічнай схеме. Трансфармацыя залы і арэны дае магчымасць праводзіць спаборніцтвы па 22 відах спорту, а таксама канцэрты, сходы, мітынгі. Амаль квадратны ў плане будынак (82×78 м). Аб'ём палаца 100,5 тыс. м³. Кампазіцыя гал. фасада, арыентаванага на праспект, заснавана на рытме жалезабетонных пілонаў. Глядзельную залу (66×64 м) перакрывае прасторавая сістэма металічных ферм (макс. пралёт 61,5 м). Мае хакейную пляцоўку (30×61 м) і стацыянарныя асіметрычныя трыбуны (на 4 тыс. месцаў, пры трансфармацыі макс. 6 тыс. месцаў), 2 спарт. залы (12×18 м), адм. і дапаможныя памяшканні. Праект М. п. с. паўторна выкарыстаны пры буд-ве палацаў спорту ў Чэлябінску (1967) і Валгаградзе (1974).

*С. Дз. Філімонаў.*

**МІНСКІ ПІШЧАЛАЎСКІ ЗАМАК,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-замкавага стылю. Пабудаваны ў 1825 у Мінску на ўскраіне тагачаснага горада на гары ў Раманаўскім прадмесці (сучасная вул. Валадарскага) паводле праекта арх. Пішчалы (таму доўгі час наз. Пішчалаўскім). Мураваны 3-павярховы прамавугольны ў плане з 4 круглымі вежамі на вуглах будынак, накрыты вальмавым дахам. Вежы, аздобленыя нішамі, завершаны прафіляванымі зубцамі. Рытм фасадаў ствараюць прамавугольныя аконныя



**Мінскі Палац спорту.**



Мінскі Пішчалаўскі замак. Фота 1981.

праёмы. 2-і і 3-і паверхі аддзелены карнізным поясам. Будынак абнесены мураванай сцяной, умацаванай контрфорсамі. У паўн.-ўсх. частцы сцяны размешчаны 2-павярховы прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты 2-схільным дахам. Гал. фасад падзелены карнізам на 2 ярусы (ніжні ярус з шырокай праезнай аркай аздоблены рустам) і завершаны 3-вугольным франтонам. У 2-й пал. 19 ст. ў замку былі царква, шпіталь, школа, аптэка, майстэрні і інш. Помнік рэспубліканскага значэння. *У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКІ СВЯТАДУХАЎСКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯНАК,** помнік архітэктуры рэнесансу. Заснаваны ў 1641 на Высокім рынку уніяцкім мітрапалітам Антоніем Сялявай. Першая ігуменя Кацярына Сапега пералічыла манастыру 10 000 злотых. Першапачаткова манастыр быў размешчаны ў мураваных жылых дамах, збудаваных у 2-й пал. 16 — пач. 17 ст. на паўн.-ўсх. баку Высокага рынку. Мураваны будынак манастырскага корпуса збудаваны каля 1650 (выкарыстаны склепы і сцены першапачатковых будынкаў). 2-павярховы, П-падобны ў плане, меў высокі вальмавы дах з чарапіцы. Тарэц даху ў паўд.-ўсх. крыле быў у выглядзе фігурнага шчыта (перароблены ў 19 ст.). Планіроўка калідорная. На 1-м паверсе, перакрытым крыжовымі скляпеннямі, акрамя жылых пакояў, былі трапезная, кухня, пакоі для гасцей і інш. Плоскасці сцен фасадаў пазбаўлены дэкору, рытмічна расчлянёны прамавугольнымі вокнамі без ліштваў. Манастыр быў злучаны з капліцай крытай галерэяй, якая праходзіла над высокай мураванай сцяной (мела 3-пралётны праезд, разбурана ў сярэдзіне 19 ст). Прамавугольная ў плане капліца, перакрытая крыжовымі скляпеннямі і накрытая 1-схільным дахам, была прыбудавана ў 1650 да паўн.-зах. фасада царквы св. Духа (гл. *Мінская царква святога Духа* і *манастыр базыльян*). Вуглы фасадаў капліцы аформлены лапаткамі, аконныя праёмы лучковыя. У інтэр'еры знаходзіўся вял. залачоны драўляны алтар з абразамі Маці Боскай, св. Базыля і Ісафата. Хоры выходзілі ў інтэр'ер царквы. На ПнУ знаходзіўся манастырскі двор, абнесены сценамі, дзе знаходзіліся драўляныя гасп. пабудовы. З 1795 да 1799 вядомы як праваслаўны Петрапаўлаўскі манастыр. У 1-й пал. 19 ст. ў былым манастыры знаходзілася кансісторыя, з 2-й пал. 19 ст. тут жылы дом (вул. Энгельса, 1). Цяпер будынак на рэстаўрацыі. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Л. У. Іванова, У. М. Дзянісаў.*

**МІНСКІ ТРОІЦКІ ЗАЛАТАГОРСКІ КАСЦЁЛ,** касцёл святога Роха, помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1861—64 з цэглы на былых каталіцкіх могілках Залатая горка (каля перакрыжавання сучасных праспекта Ф. Скарыны з вул. Казлова). Аднанефавы аднавежавы прамавугольны ў плане храм з 5-граннай апсідай, мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, накрыты 2-схільным дахам. Гал. фасад завершаны 2-яруснай прамавугольнай у плане вежай пад 4-схільным шатром. Па баках франтона — дэкар. вежачкі. Фасады будынка расчлянёны стылізаванымі 3-ступеньчатымі контрфорсамі, а таксама стральчатымі нішамі з аконнымі праёмамі. Па перыметры сцены завершаны развітым карнізам. Уваход вырашаны ў выглядзе высокага спічастага партала. Інтэр'ер пабудовы мае сіметрычную кампазіцыю. Цэнтр. неф і апсіда перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. У нартэксе — крыжовае скляпенне. Унутраная паверхня сцен дэкарыравана пілястрамі, якія абмежаваны карнізам. Пасля рэстаўрацыі (1983) будынак касцёла прыстасаваны пад залу камернай музыкі Бел. дзярж. філармоніі. Пры ўваходзе ў залу ўстаноўлена керамічная скульптура «Музыка», у нішах былой крыпты — дэкар. скульптуры (нар. персанажы; паліваная кераміка; маст. М. Байрачны, В. Прыешкін). У цэнтры алтара ўстаноўлены арган, па баках якога ў нішах — драўляныя скульптуры (скульпт. Л. Давыдзенка). Вокны дэкарыраваны арнаментальным вітражом. Касцёл — помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў арт. *Мінск. А. Ю. Пятросава.*

**МІНСКІ ТРОІЦКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯНАК,** помнік архітэктуры класіцызму. Існаваў у 18 — пач. 19 ст. Засн. ў 1630 Марынай Вяжэвіч на Троіцкай гары (сучасная вул. М. Багдановіча, 1) пры драўлянай царкве (вядома з 15 ст.). Мураваны манастырскі будынак быў узведзены ў 1799—1800 (арх. Ф. Крамер): 2-павярховы, П-падобны ў плане, накрыты 2-схільным дахам. Сіметрычны гал. фасад быў падзелены карнізным поясам на 2 ярусы (ніжні апрацаваны рустам) і раскрапаваны 3 рызалітамі, завершанымі 3-вугольнымі франтонамі. Рытм фасадаў ствараўся прамавугольнымі аконнымі праёмамі (у бакавых рызалітах завяршаліся сандрыкамі). Памяшканні перакрыты крыжовымі, калідоры — цыліндрычнымі скляпеннямі. Інтэр'еры на 1-м паверсе ўсх. крыла былі ўпрыгожаны насценнай размалёўкай (не захавалася). На Пн ад манастыра знаходзілася брамазваніца. Пасля пажару 1809 манастырскі будынак быў адноўлены (арх. М. Чахоўскі), з У да яго прыбудавана галерэя. У 1834 будынак прыстасаваны пад шпіталь гарадской бальніцы (арх. К. Хршчановіч). Цяпер у ім размешчаны корпус 2-й гарадской клінічнай бальніцы. Помнік рэспубліканскага значэння. *У. М. Дзянісаў.*



Мінскі Троіцкі манастыр базыльянак. Галоўны фасад.

**МІНСКІ ЦЫРК.** Пабудаваны ў



Мінскі Троіцкі Залатагорскі касцёл.




Мінскі цырк.

1959 (арх. В. Жукаў) на перакрыжаванні водна-зялёнага дыяметра Мінска (р. Свіслач і зялёная зона ўздоўж яе поймы) і праспекта Ф. Скарыны. 3-павярховы прамавугольны ў плане аб'ём накрыты сферычным купалам. Гал. фасад вылучаны шматкалонным порцікам карынфскага ордэра. Сцены па перыметры будынка аздоблены пілястрамі. Глядзельная зала на 1668 месцаў, размешчаных амфітэатрам, мае арэну (дыяметр 13 м). Вакол ідовішчнай часткі знаходзяцца фае і гардэробы, службовыя памяшканні. У будынку выступаюць сав. і замежныя цыркавыя калектывы. У 1959—74 працаваў Бел. цыркавы калектыў.

*А. А. Воінаў.*

**МІНСКІ ЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ.** У 1871—74 пабудаваны драўляныя павільёны пасажырскага вакзала Лібава-Роменскай чыгункі (так званы Віленскі вакзал), у 1890 на іх месцы ўздоўж чыг. палатна ўзведзены мураваны 1-павярховы будынак. Строга сіметрычная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка складалася з цэнтр. аб'ёму з гал. уваходам, вестыбюлем, аперацыйнай залай і бакавых крылаў з заламі чакання, службовымі і дапаможнымі памяшканнямі. Гал. ўваход цэнтр. часткі быў вылучаны 2-павярховымі рызалітамі з вежамі. Перад вакзалам сфарміравалася плошча, забудаваная 1—3-павярховымі дамамі; дамінантай забудовы з'яўлялася воданапорная вежа. У 1940 вакзал быў рэканструяваны (арх. І. Рачанік); надбудаваны 2-і паверх над цэнтр. і бакавымі часткамі. У кампазіцыі вылучалася больш высокая цэнтр. частка, вял. арачны вітраж якой завяршаў 3-вугольны франтон. Пластыку фасадаў па ўсім перыметры ўзбагачаў рытм пілястраў, паміж якімі на 1-м паверсе арачныя, на 2-м прамавугольныя спараныя вокны. Сцены, аздобленыя тынкоўкай пад руст, завяршаў развіты карніз. У Айч. вайну вакзал разбураны, у 1949 адноўлены. Вонкавае аблічча будынка захавана, адбыліся невял. змены ў планіроўцы. У пач. 1960-х гадоў зменена планіроўка і афармленне інтэр'ераў. У 1955 пабудаваны павільён білетных кас (арх. С. Баткоўскі, Н. Шпігельман). У сярэдзіне 1950-х гадоў склалася сучасная забудова *Прывакзальнай плошчы.* У 1964 пабудаваны тунэль, праз які ажыццяўляецца выхад на пасадачныя платформы. З канца 1980-х гадоў вядзецца рэканструкцыя старых і ўзвядзенне новых будынкаў. У 1991 гал. корпус вакзала разбураны, узведзены новыя будынкі: шматпавярховы службова-адм. корпус і зал чакання для пасажыраў.



**Мінскі чыгуначны вакзал.** Віленскі вакзал. Фота пачатку 20 ст.

**МІНСКІ ЧЫРВОНЫ КАСЦЁЛ,** гл. *Мінскі касцёл Сімяона і Алены.*

**МІНСКІХ ПАЛІГРАФІЧНАГА КАМБІНАТА І ЗАВОДА ЭЛЕКТРОННЫХ ВЫЛІЧАЛЬНЫХ МАШЫН БУДЫНКІ.** Комплекс размешчаны ўздоўж вуліц Чырвонай і Я. Коласа і часткі вуліц В. Харужай і Кульман. Складаецца з сіметрычных блізкіх па архітэктуры будынкаў паліграфічнага камбіната імя Я. Коласа (1953—56, арх. Н. Шпігельман, С. Баткоўскі, А. Астроўская) і з-да вылічальных машын імя Р. К. Арджанікідзе (1955—61, арх. Шпігельман, І. Боўт, Баткоўскі, Л. Кітаева), якія актыўна ўдзельнічаюць у фарміраванні *Коласа Якуба плошчы.* Адны з першых шматпавярховых вытв. збудаванняў у Мінску, у якіх увасоблены новыя на той час архіт.-мастацкія і аб'ёмна-планіровачныя прыёмы. 4-павярховыя Г-падобныя ў плане будынкі ўтвараюць суцэльны фронт забудовы паўн.-зах. боку плошчы. Прамавугольныя крылы карпусоў акцэнтаваны з аднаго боку сіметрычнымі вежападобнымі аб'ёмамі, што падкрэслівае вось вул. В. Харужай і надае выразнасць сілуэту забудовы. У кампазіцыі фасадаў выкарыстаны разнастайныя элементы класічнай спадчыны — 3-вугольныя франтончыкі, ляпны дэкор, люнеты, рустоўка, прафіляваныя карнізы на кранштэйнах. Характар чляненняў, рытм акон, пілястраў, прасценкаў падпарадкаваны агульнаму прынцыпу восевай сіметрыі. Ідэнтычна вырашаныя аб'ёмы адрозніваюцца завяршэннем вежаў (буйныя арачныя і прамавугольныя праёмы, лучковыя вокны).



Будынкі паліграфічнага камбіната і завода электронных вылічальных машын у Мінску.

**МІНСКІЯ АЭРАПОРТЫ.**

Мінск-1. Здадзены ў эксплуатацыю ў 1933. Комплекс размешчаны ў межах горада, замыкае перспектыву вул. Чкалава. Уключае стары будынак аэравакзала (1946—57, арх. А. П. Воінаў, Г. Заборскі) і новы павільён (1976, арх. С. Баткоўскі, А. Серапян). Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя сіметрычнага 2-павярховага будынка аэравакзала складаецца з цэнтр. часткі і 2 бакавых крылаў. У архітэктуры будынка выкарыстаны формы класіцызму: 6-калонны порцік з боку плошчы, 2 сіметрычныя рызаліты з боку ўзлётна-пасадачнай паласы, бельведэр з каланадай карынфскага ордэра. Павільён — прамавугольны ў плане, зашклёны на ўсю вышыню будынак з 2 сіметрычнымі ўваходамі, вылучанымі 2 масіўнымі казыркамі.

Мінск-2, міжнародны аэрапорт 1-га класа. Аэравакзальны комплекс забудоўваецца з 1976 каля г. Смалявічы (арх. Б. Ларчанка, Ю. Грыгор'еў, Г. Сысоеў, Н. Цямнова — «Мінскпраект», А. Ізаітка, В. Сірота, Б. Воцінаў — «Ленаэрапраект»). У адзіным аб'ёмна-планіровачным вузле аб'яднаны 2 аэравакзалы (унутрысаюзных і міжнародных ліній), каманднa-дыспетчарскі пункт, гасцінічны комплекс, блок з рэстаранам, кафэ, барам. Аэравакзал (размешчаны ў дугападобным аб'ёме даўж. больш за 500 м) — дэцэнтралізаванага тыпу, зоны адпраўлення і прыбыцця пасажыраў раздзелены і знаходзяцца на розных узроўнях аб'ёму. Усе асн. памяшканні на 3 гал. паверхах дугападобнага аб'ёму, які завяршаецца тэхнічным паверхам і каманднa-дыспетчарскім пунктам. Агульная прапускная здольнасць аэравакзала 1800 пасажыраў у гадз. Да дугападобнага аб'ёму прымыкае гасцінічны комплекс, які мае сувязь з аперацыйнымі заламі аэравакзала. У гасцінічны комплекс уваходзяць 2 гасцініцы на 550 і 318 месцаў і прафілакторый для лётнага саставу. У сувязі з размяшчэннем паблізу ад узлётна-пасадачных палос гасцініца запраектавана ў выглядзе чашы са ссунутымі паверхамі. Жылыя нумары размяшчаюцца ўнутры гэтай чашы, а яе вонкавыя сцены выконваюць ролю акустычных экранаў. Увесь комплекс будуецца з каркасна-панельных канструкцый, зборныя жалезабетонныя элементы якіх распрацаваны па індывідуальных праектах. *С. Дз. Філімонаў.*

**МІНСКІЯ ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ,** помнік архітэктуры класіцызму. Размешчаны ў цэнтры горада (вул. Герцэна, 1). Доўгая мураваная пабудова паўколам агінала касцёл бернардзінцаў (гл. *Мінскі касцёл і кляштар бернардзінцаў*), арыентавана на б. плошчу Высокага рынку (сучасная пл. Свабоды). У пач. 19 ст. (да 1817) пабудаваны 12 мураваных гандлёвых крам, у 1838 да іх прыбудавана яшчэ 4, а ў пач. 1860-х гадоў — 3 крамы з усх. боку. Гал. фасад па перыметры будынка прарэзаны неглыбокімі нішамі, у якіх знаходзіліся ўваходы



**Мінскія гандлёвыя рады.** Фота пачатку 20 ст.

ў асобныя гандлёвыя памяшканні; пад лаўкамі былі сутарэнні. У 1860-я гады з зах. боку да гандл. раду прыбудаваны мураваны 1-павярховы будынак (паводле праекта 1859 планаваўся 2-павярховы), які быў таксама прыстасаваны пад гандл. памяшканне. Трапецападобны ў плане, ён быў падзелены ўнутры мураванай перагародкай на 2 часткі, з двухсхільным дахам, 2 вокнамі і дзвярамі ў нішах сцен (не захаваўся). У сярэдзіне 1870-х гадоў гандл. рады называліся мясныя. У пач. 20 ст. там знаходзіліся малочныя, мясныя, каўбасныя і бакалейныя крамы, магазін гатовага адзення, майстэрні кравецкая і абівання мэблі, пасудная лаўка і гарадская дэзінфекцыйная камера. Захавалася 7 больш позніх крам (12 ранніх не захавалася), значна перабудаваны. Цяпер выкарыстоўваецца як сховішча Цэнтр. дзярж. архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. Г. Варабей.*

**МІНСКІЯ ЖЫЛЫЯ ДАМЫ,** помнікі архітэктуры 19 — пач. 20 ст. Вылучаюцца дамы: № 12 па вул. Валадарскага, № 4 па вул. Герцэна, № 31 па вул. Інтэрнацыянальнай, № 11 па вул. Кірава, № 5 у Музычным зав., № 30 па вул. К. Маркса, № 17 і 19 па вул. Савецкай, № 19 і 21 на пл. Свабоды. Дом № 12 па вул. Валадарскага — 3-павярховы Г-падобны ў плане будынак




Жылы дом па вуліцы Валадарскага, 12.

са зрэзанай вуглавой часткай. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з рысамі эклектыкі і неабарока як даходны дом. Гал. фасад дома быў арыентаваны на б. вул. Захар'еўскую (сучасны праспект Ф. Скарыны). Фасады аздоблены каніляраванымі пілястрамі са складанымі капітэлямі на вышыні 2-га і 3-га паверхаў. Больш высокі 1-ы паверх, 2-і і 3-і аддзелены тонкапрафіляванымі карнізамі. Прасценкі паміж арачнымі (на 2-м паверсе) і лучковымі (на 3-м паверсе) вокнамі дэкарыраваны ляпным раслінным арнаментам. Пачатковая планіроўка і фасад 1-га паверха зменены. 1-ы паверх займаюць гандл. памяшканні, 2-і і 3-і — Цэнтр. праўленне таварыства глухіх. Дом № 4 па вул. Герцэна — мураваны (1-ы паверх з бутавага каменю, 2-і з цэглы) 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты 2-схільным дахам. Пабудаваны ў канцы 18 ст. (арх. Ф. Крамер) у стылі класіцызму. Тарцы даху закрыты 3-вугольнымі франтонамі (выкананы ў тэхніцы «прускага муру»). Сіметрычную кампазіцыю гал. фасада парушае арачны праезд. Цэнтр. частка будынка вылучана 3-вугольным франтонам. Прамавугольныя вокны размешчаны ў неглыбокіх нішах паўцыркульнага абрысу. У цэнтры гал. фасада на 2-м паверсе балкон з ажурнай агароджай. Помнік рэспубліканскага значэння.



Жылы дом па вуліцы Герцэна, 4.



Жылы дом па вуліцы Інтэрнацыянальнай, 31.

Дом № 31 па вул. Інтэрнацыянальнай — мураваны 3-павярховы будынак, накрыты 2-схільным дахам. Пабудаваны ў канцы 18 — пач. 19 ст. ў стылі класіцызму. Тарцы даху прыкрываюць трохвугольныя франтоны (тымпаны з лучковымі вокнамі ў паўцыркульных нішах). Сіметрычны па кампазіцыі гал. фасад падзелены на 3 ярусы: ніжні (неатынкаваны) трактаваны як цокаль; 2-і апрацаваны рустам; 3-і завершаны антабламентам, які мае фрыз з невял. прамавугольнымі вокнамі і карнізам з сухарыкамі. Рытм фасадаў ствараецца вял. прамавугольнымі вокнамі без ліштваў. Цокальны паверх складзены з бутавага каменю, перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Планіроўка калідорная. У інтэр'е-

ры кафляныя печы. Да асн. аб'ёму прыбудавана 2—3-павярховае Г-падобнае ў плане крыло. З 1900 у доме размяшчалася першая ў горадзе публічная б-ка (у 1938—71 Мінская абл. б-ка імя А. С. Пушкіна). Помнік рэспубліканскага значэння.

Дом № 11 па вул. Кірава (т. зв. дом Каставіцкай) — мураваны 3-павярховы П-падобны ў плане будынак, пастаўлены на высокі цокаль. Пабудаваны ў 1911 (арх. А. Краснапольскі) у стылі мадэрн. На 1-м паверсе размяшчалася ўпраўленне Лібава-Роменскай чыгункі, на астатніх — жыллё. Аб'ёмна-планіровачная кампазіцыя складаецца з трох частак: вуглавой і 2 франтальных (па вуліцах Кірава і Валадарскага), фасады якіх аформлены розныя па канфігурацыі аконнымі і дзвярнымі праёмамі, балконамі, дэкар. арнаментам, разнастайнымі керамічнымі ўстаўкамі, фактурнымі тынкаванымі слаямі. Маст. выразнасць дасягаецца спалучэннем неатынкаваных плоскіх сцен з тэракотавай цэглы і пабеленых атынкаваных прасценкаў, карнізаў, ліштваў. Цэнтр фасада, арыентаванага на вул. Кірава, вылучаны аб'ядланымі па вертыкалі аконнымі праёмамі і завершаны паўцыркульным атыкам. Сцены фасада, арыентаванага на вул. Валадарскага, завершаны 2 трапецападобнымі атыкамі, дах — трапецападобным ліхтаром. Вугал будынка на рагу вуліц Кірава і Валадарскага зрэзаны, на ўзроўні 2-га паверха — эркер, над ім — 3-гранны аб'ём, які завяршаўся вежачкай (не збераглася). Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

Дом № 5 у Музычным завулку — мураваны прамавугольны ў плане 3-павярховы будынак, накрыты вальмавым дахам. Пабудаваны ў канцы 18 — пач. 19 ст. ў стылі класіцызму. Часам называюць «Дом масонаў». Мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Паўн.-ўсх., паўд.-ўсх. і паўд.-зах. фасады вылучаны неглыбокімі рызалітамі, завершанымі 3-вугольнымі франтонамі, у тымпане якіх паўкруглыя вокны. Паверхі падзелены цягай складанага профілю. 1-ы і 3-і паверхі прарэзаны прамавугольнымі вокнамі, аконныя праёмы 2-га паверха дэкарыраваны ліштвамі з замковым каменем і трохвугольнымі сандрыкамі (у бакавых рызалітах). У прасценках паміж вокнамі над гал. уваходам невял. калоны дарычнага ордэра. Па перыметры сцен пад карнізам праходзіць пояс сухарыкаў. На сцяне паўн.-ўсх. фасада размешчаны невял. балкончыкі з ажурнай агароджай (чыгуннае ліццё). Помнік рэспубліканскага значэння.



Жылы дом у Музычным завулку, 5.



Жылы дом па вуліцы К. Маркса, 30.

Дом № 30 па вул. К. Маркса — мураваны 3—4-павярховы Г-падобны ў плане будынак. Пабудаваны ў пач. 20 ст. (арх. Г. Гай) з рысамі стылю мадэрн як даходны дом. Мае асіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. 4-павярховае крыло, арыентаванае на вул. К. Маркса, на высокім руставаным цокалі. Уваход вырашаны ў выглядзе прамавугольнага праёма, над якім паўцыркульнае акно, дэкарыраванае ляпнымі гірляндамі. Сцяну завяршае трохвугольны франтон з люкарнай. Пад франтонам конхавая ніша, дзе ўстаноўлена дэкар. ваза, упрыгожаная лепкай. Каваныя парадныя дзверы аздоблены вензелямі і раслінным арнаментам, фасад крыла, арыентаванага на вул. Леніна, дэкарыраваны кованымі агароджамі балконаў, ляпнымі ўстаўкамі, атыкам, 4-павярховая частка — трохвугольным франтонам, агароджай на вокнах у выглядзе балюстрады. Арачны фасад перакрыты крыжовым скляпеннем і аздоблены маскаронамі. У вуглавой частцы размешчана перакрытая шкляным ліхтаром лесвічная клетка, якую асвятляюць невял. паўцыркульныя вокны, што выходзяць ва ўнутраны дворык. Помнік рэспубліканскага значэння.



Жылы дом па вуліцы Кірава, 11.





Жылыя дамы № 17 (злева) і № 19 па вуліцы Савецкай.



Жылы дом на пл. Свабоды, 19—21. Рэканструкцыя.

Дамы № 17 і 19 па вул. Савецкай злучаны паміж сабою тарцамі і ўтвараюць адзіны фронт забудовы. Пабудаваны ў стылі мадэрн як даходныя дамы. Дом № 17 — мураваны прамавугольны ў плане 3-павярховы будынак з трапецападобнай мансардай. Пабудаваны ў 1912 (арх. С. Гайдукевіч). Сіметрычную кампазіцыю гал. фасада парушае зрэзаны зах. вугал, завершаны невысокім атыкам з лацінскімі літарамі (дата пабудовы). Пластыку гал. фасада ўзбагачаюць ляпныя віньеткі, гірлянды, балконы з металічнай агароджай. Уваходы з боку гал. і дваровага фасадаў. Гал. ўваход вылучаны казыркам на 2 калонках і высокім паўцыркульным аконным праёмам над ім. Планіровачным ядром з'яўляецца лесвічны вузел, вакол якога раней размяшчаліся кватэры. Дом № 19 — прамавугольны ў плане 4-павярховы будынак са зрэзаным усх. вуглом. Пабудаваны ў пач. 20 ст. (арх. Г. Гай). Сцены гал. фасада на 1-м і 3-м паверхах прарэзаны прамавугольнымі, на 2-м — паўцыркульнымі вокнамі, 4-ы паверх аддзелены карнізам. Лучковыя аконныя праёмы 4-га паверха фланкіраваны пілястрамі і завершаны сандрыкамі. Пластыку фасада ўзбагачаюць сіметрычна размешчаныя балкончыкі з узорыстай агароджай (чыгуннае ліццё). Шырокая лесвічная клетка вылучана на фасадзе пілястрамі, ляпнымі дэталямі, лучковым праёмам 4-га паверха, абапал якога размешчаны дэкар. вазы на пастаментах. Прамавугольны ўваходны партал вырашаны 2 шырокімі пілястрамі, злучанымі дэкаратыўнай лучковай аркай. Дваровы фасад вырашаны ў лаканічных формах, без архіт. дэкору. Планіроўка будынкаў зменена. Выкарыстоўваюцца як адм. ўстановы. Помнікі рэспубліканскага значэння.

Дамы № 19, 21 на пл. Свабоды — мураваны Ш-падобны ў плане комплекс. Першапачаткова складаўся з трох 2—3-павярховых аб'ёмаў, якія ўтваралі замкнёную канфігурацыю з 2 унутранымі дворыкамі. Узведзены ў 18 — пач. 19 ст. на Верхнім рынку як гасціны двор. З зах. боку да дома № 19 прыбудавана галерэя-тэраса, пад якой размяшчаліся крамы. Сіметрычны па кампазіцыі гал. паўд.-зах. фасад комплекса, рытм якога ствараецца прамавугольнымі вокнамі і лапаткамі, упрыгожаны трохвугольнымі франтонамі з паўцыркульнымі вокнамі. Перабудаваны ў 20 ст. (быў накрыты складаным па канфігурацыі дахам з дахоўкі). Помнік рэспубліканскага значэння.

*У. М. Дзянісаў, Т. І. Чарняўская.*

**МІНСКІЯ СЯДЗІБЫ ВАНЬКОВІЧАЎ**, помнікі сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Звязаны з жыццём і творчасцю бел. мастака Ваньковіча. Гарадская сядзіба пабудавана ў гіст. цэнтры Мінска (сучасная вул. Інтэрнацыянальная) на мяжы 18—19 стагоддзяў. Комплекс уключаў жылы дом у стылі класіцызму, 2 флігелі, гасп. пабудовы, фруктовы сад. Жылы дом (№ 33) — 1-павярховы прамавугольны ў плане драўляны будынак (з атынкаванымі сценамі, у пач. 19 ст. частка паўн.-зах. сцяны была мураванай) пастаўлены на каменны падмурак і накрыты высокім вальмавым дахам. Сіметрычны па кампазіцыі гал. паўд.-ўсх. фасад вылучаў 8-калонны порцік з цэнтр. уваходам), завершаны 3-вугольным франтонам



**Мінскія сядзібы Ваньковічаў.** Гарадская сядзіба. Рэканструкцыя.

з паўцыркульным акном. Аналагічны порцік меў і паўн.-зах. фасад. Рытм фасадаў ствараецца прамавугольнымі вокнамі ў абрамленні простых ліштваў і лапатак. Планіроўка анфіладна-калідорная. У інтэр'еры былі печы, дэкарыраваныя кафельнымі пліткамі. Жылы дом і 2 флігелі ўтваралі парадны двор-курданёр. Паўд.-зах. флігель (№ 33а) — мураваны, 2-павярховы, прамавугольны ў плане, накрыты 1-схільным дахам. Паўн.-ўсх. флігель (не захаваўся) — 2-павярховы (1-ы паверх мураваны, 2-і — драўляны), прамавугольны ў плане, накрыты вальмавым дахам. У цэнтры яго паўн.-ўсх. фасада знаходзіўся 5-гранны эркер з вежападобным завяршэннем. Захавалася шырокая праезная брама. Рэстаўрыруецца. Помнік рэспубліканскага значэння. Сельская сядзіба пабудавана ў прыгарадзе Мінска Вял. Сляпянка (сучасная вул. Парніковая, 26). Комплекс уключаў мураваны сядзібны дом, бакавыя флігелі (не зберагліся) і парк, перапланаваны ў 1896 садаводам В. Кроненбергам (уцалела частка геаметрычнай сеткі алей). 2-павярховы Т-падобны ў плане дом з высокім цокалем накрыты пакатым 2-схільным дахам, закрытым парапетам. Тарцовыя сцены аформлены 3-вугольнымі франтонамі. Гал. фасад вылучаны ў цэнтры шырокім рызалітам. У дэкар. аздобе дома выкарыстаны пілястры, прафіляваныя карнізы і інш. Унутраная планіроўка зменена. Будынак выкарыстоўваецца пад жыллё.

*А. М. Кулагін.*

**МІР,** гарадскі пасёлак у Карэліцкім р-не, на р. Міранка. За 26 км ад Карэліч, 220 км ад Гродна. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1395. Уваходзіў у Навагрудскае ваяводства Вял. кн. Літоўскага, належаў вял. князям, з 1434 — Гедыголдавічам, з 1495 — магнатам Ільінічам, з 1569 — Радзівілам, з 1589 у Нясвіжскай ардынацыі. У 1579 атрымаў няпоўнае магдэбургскае права. У 16 ст. пабудаваны замак, на рынкачнай пл.— гандлёвыя рады, *Мірская Троіцкая царква,* у 1599—1605 *Мірскі Мікалаеўскі касцёл.* У 17—18 стагоддзях М.— буйны гандл. цэнтр. У 15 ст. ўяўляў сабой умацаваны магнацкі двор з невял. паселішчам каля яго. Пры Ільінічах паселішча разраслося ў горад, які ў сярэдзіне 16 ст. падзяляўся на старую і новую часткі. Новы горад утвораны з Слонімскага і Мінскага прадмесцяў за межамі гарадскіх умацаванняў. У 1557 меў 26 пляцаў (стандартным участкам лічыўся пляц у 5 прэнтаў) сядзібнай зямлі, 206 прэнтаў гуменнай і 1467 прэнтаў агароднай; пабудаваны ратуша, базыльянскі манастыр са школай, капліца ў памяць аб ахвярах эпідэміі (1625). У цэнтры старой часткі знаходзілася выцягнутая прамавугольная ў плане гандлёвая плошча з 109 крамамі і важніцай, якія складалі 2 паралельныя рады забудовы. Жылыя дамы (40 пляцаў) абкружалі рынак з 3 бакоў. Ад плошчы ў радыяльных напрамках адыходзілі вуліцы Анічыцкая (Слонімская), Віленская, Высокая і Мінская, якія заканчваліся брамамі, што прарэзвалі гарадскі вал у магістральных напрамках. Акрамя іх, існавала вул. Татарская, якая ішла ад Мінскай брамы ўздоўж вала. Усяго ў старым горадзе было 228 «дымоў». Новы горад меў 3 прадмесці і 3 асобныя вуліцы, якія не складалі адзінага архіт.-планіровачнага арганізма (уключалі 221 дваровы ўчастак). Усяго ў горадзе налічвалася 450 участкаў, але забудаваных двароў было толькі 295. Планіроўка мела радыяльна-веерны характар. Агароды і гумны размяшчаліся асобна ад сялібнай тэр., на спецыяльна адведзеных землях. У 2-й пал. 17 ст. 478 двароў. У 17 ст. на Пд ад замка закладзены парк, дзе ў пач. 20 ст. пабудавана *Мірская капліца.* У канцы 18 ст. 418 двароў. З 1795 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Навагрудскага пав. З 1828 уладанне князёў Вітгенштэйнаў. Паводле плана 1821 на прамавугольную гандл. плошчу выходзілі 5 вуліц (большасць з іх з Пн на Пд). У канцы 19 ст. ў М. каля 280 двароў, 5401 жыхар (1897), мужчынскае і жаночае сельскія вучылішчы, 2 царквы, паштовая станцыя, 76 крам, 3 кірмашы на год. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр гміны Нясвіжскага, з 1926 Стаўбцоўскага пав. З 1939 у БССР. З 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З 17.12.1956 у Карэліцкім р-не. Сучасны М. найбольш поўна захаваў рысы, характэрныя для бел. прыватнаўласніцкіх гарадоў: страж. гарадскую планіроўку і размешчаны на ўскраіне замак, які разам з страж. паркам, пасёлкам і прыродным ландшафтам складае адзіны гістарычны архіт.-ландшафтны ансамбль — *Мірскі замкава-паркавы комплекс.* Тэр. пасёлка падзелена дарогамі, ракой і ручаём на паўн.-зах., зах. (сялібная зона) і ўсх. (палацава-паркавы комплекс) часткі. Планіровачная структура захавала прамавугольную сетку вуліц, якія ўтвараюць дробныя кварталы з малапавярховай драўлянай забудовай. Асн. вуліцы — Чырвонаармейская (галоўная), Танкістаў, 1 Мая, 17 Верасня, Кірава. У цэнтры пасёлка, на перакрыжаванні асн. вуліц, склалася гіст. ядро — гандл. плошча, якую фарміруюць каменныя пабудовы 19 — пач. 20 ст., Троіцкая царква з паўн. і Мікалаеўскі касцёл з паўд. бакоў. Грамадскі цэнтр склаўся па вул. Чырвонаармейскай (гарпасялковы Савет народных дэпутатаў, камбінат быт. абслугоўвання, сталовая, рэстаран, магазіны, Дом культуры, аўтавакзал і інш.). У 1970-я гады пасёлак забудоўваўся паводле генплана 1971 (БелНДІдзіпрасельбуд). Адпаведна генплану 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Шэліхава, Т. Пракаповіч, інж. У. Ермаліцкі, Н. Галавацкая) далейшае тэрытарыяльнае развіццё М. ажыццяўляецца ў паўн. напрамку. Капітальнае 2—3-павярховае жыллёвае буд-ва прадугледжана на свабодных тэрыторыях у зах. і паўн.-зах. частках пасёлка, індывідуальнае — у паўн. частцы ўздоўж вуліцы Кірава. Вытворчая зона фарміруецца на ПдЗ. Праект дэталёвай планіроўкі цэнтра 1983 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Л. Гітлін, С. Слабадніцкая, інж. В. Пузік) прадугледжвае фарміраванне гіст. цэнтра ў архіт.-прасторавым і кампазіцыйным адзінстве з гіст. зонамі гандл. плошчы і замка разам з навакольным ландшафтам. Мяркуецца аднавіць у першапачатковым выглядзе забудову ў раёне гандл. плошчы, узбагаціўшы яе кварталамі стылізаваных жылых дамоў. Сістэма зялёных насаджэнняў вырашаецца стварэннем водна-зялёнага дыяметра ўздоўж р. Уша з выхадам у гіст. зону і зону адпачынку.

*Ю. А. Якімовіч, С. Ф. Самбук.*

**МІРСКАЯ КАПЛІЦА,** помнік архітэктуры мадэрна. Пабудавана ў 1904 (арх. Р. Марфельд) у г. п. Мір (Карэліцкі р-н) як фамільная

пахавальня князёў Святаполк-Мірскіх — уладальнікаў *Мірскага замкава-паркавага комплексу*. Асн. аб'ём прамавугольны ў плане, са зрэзанымі з паўн. боку вугламі і 5-граннай апсідай. Галоўны фасад мае асіметрычна-дынамічную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, дамінантай якой з'яўляецца вежа-званіца (3-ярусная, 4-гранная завершана купалам). Гал. фасад раскрапаваны рызалітам і аздоблены вял. паліхромным (сіні, вохрысты, залацісты колеры) мазаічным пано «Хрыстос Уседзяржыцель» і аб'ёмным чаканным гербам-картушам князёў Мірскіх. Глыбокі партал уваходa размешчаны ў нізкім прытворы з вуглавымі контрфорсамі. Насычанае каларыстычнае вырашэнне фасадаў ствараецца спалучэннем чырвонай цэглы, белых дэталей архіт. дэкору (паўкалонкі, ізумрудна руставаныя ліштвы акон, карніз з сухарыкамі і інш.), шэрага бетону, паліхромнай бутавай муроўкі цокаля, паліхромнай мазаікі. Зала перакрыта самкнутым 4-гранным скляпеннем з арнаментальнай фрэскавай размалёўкай, асвятляецца 2 высокімі арачнымі вокнамі. Крыпта мае крыжовыя скляпенні на падпружных арках і злучана з ярусамі вежы драўлянымі вітымі ўсходамі. У зале і крыпце грубкі, абліцаваныя кафляй. Капліца не дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*



Мірская капліца.



Мірская Троіцкая царква.

**МІРСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры 16—19 стагоддзяў. Пабудавана ў г. п. Мір (Карэліцкі р-н) паміж 1533—50 як царква базыльянскага манастыра, перабудавана пасля пажару 1865 у рэтраспектыўна-рускім стылі. Мураваны 5-купальны храм падоўжна-восевай кампазіцыі ўключае амаль квадратны ў плане асн. аб'ём, паўкруглую апсіду з рызніцай і прамавугольны бабінец, да якога ў 1870-я гады прыбудавана 3-ярусная вежа-званіца (васьмярык на 2 чацверыках) з мураваным 1-м, драўлянымі 2-м і 3-м ярусамі, завершаная 8-гранным шатровым дахам з галоўкай на глухім барабане. Да пабудоў 1870-х гадоў адносяцца і 5 несапраўдных купалоў над асн. аб'ёмам. Асн. аб'ём накрыты 4-схільным дахам і мае ў завяршэнні дэкар. 5-галоўе. Апсіда накрыта паўавальным, бабінец — 2-схільным дахамі. Вокны круглыя і прамавугольныя з арачнымі завяршэннямі. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. М. Чарнатаў.*

**МІРСКІ ЗАМКАВА-ПАРКАВЫ КОМПЛЕКС,** помнік архітэктуры 16 — пач. 20 стагоддзяў. Пабудаваны ў пач. 16 ст. ў г. п. Мір (Карэліцкі р-н) магнацкім родам Ільінічаў. З 1508 належаў Радзівілам, у 2-й пал. 19 ст.— Вітгенштэйнам і Святаполк-Мірскім. Уключае замак, палац (захаваўся часткова), парк і капліцу-пахавальню (гл. *Мірская капліца*). З а м а к спачатку быў мураванай крэпасцю (з унутраным дваром, блізкім у плане да квадрата з бокам каля 75 м), абнесенай з зах. і паўн. бакоў абарончымі сценамі (выш. з падмуркам каля 13 м, таўшчыня ўнізе 3 м) з 5-яруснымі вежамі па вуглах, з усх. і паўд. бакоў — 2-павярховым цагляным збудаваннем. Замак быў абкружаны землянымі валамі выш. каля 10 м і ровам з вадой. Пасярэдзіне зах. сцяны знаходзілася пятая, 6-ярусная вежа-брама, якая мела герсу і пад'ёмны мост. Вежы (выш. 25—27 м) выходзяць за межы сцен, да $^1/_2$—$^1/_3$ вышыні маюць 4-граннае сячэнне, вышэй — 8-граннае, накрыты шатрамі, прарэзаны байніцамі і амбразурамі для вядзення агню з ручной агнястрэльнай зброі і гармат. Паўд. і паўн.-зах. вежы завяршаліся машыкулямі для кідання камянёў і ліццця вару. Ніжнія ярусы вежаў маюць мураваныя скляпенні, верхнія перакрываліся памостамі на драўляных бэльках. Пасярэдзіне зах. сцяны — пятая, 6-ярусная вежа-брама, якая мела пад'ёмны мост і барбакан. У гэтай вежы размяшчалася герса, прыстасаваная для падвескі звона, на 2-м ярусе — капліца, у сутарэннях — астрог. Дэкаратыўнае вырашэнне заснавана на кантрасце чырвоных цагляных сцен і белых атынкаваных нішаў з разнастайнымі арачнымі завяршэннямі. Найбольш багата аздоблена паўд.-зах. вежа. Паміж сабой вежы злучаны сценамі, унізе змураванымі з бутавага каменю, уверсе — з цэглы, вонкавыя сцены багата арнаментаваны парэбрыкамі, гіркамі, нішамі, паяскамі, паўкалонкамі. Архітэктура замка 16 ст. мае рысы позняй бел. готыкі. У 1580—90-я гады замак перабудаваны ў стылі рэнесансу пад загарадную княжацкую рэзідэнцыю (будаўнік М. Збароўскі). Да паўд. і ўсх. сцен дабудаваны 3-павярховы п а л а ц — першапачаткова 1-павярховы корпус са скляпеністымі памяшканнямі і падваламі. Вежы былі прыстасаваны пад жыллё, уздоўж зах. і паўд. сцен пастаўлены гасп. пабудовы (кухня,



Мірскі замкава-паркавы комплекс. З малюнка Н. Орды.

стайня). Да 1616 да палаца былі надбудаваныя яшчэ 2 паверхі ў стылі рэнесансу. У яго сутарэннях і на 1-м паверсе размяшчаліся гасп. памяшканні, на 2-м — службовыя, на 3-м — княжацкія пакоі. Усяго палац меў каля 40 пакояў, аздобленых лепкай. Сцены і вежы былі звонку атынкаваны. Вокны, дзверы, ганкі ўпрыгожаны разнымі дэталямі. У вежы-браме размешчаны гадзіннік са званамі, перад уваходам пабудавана дадатковае паўкруглае ўмацаванне з асобнай брамай і рэнесансным разным парталам. Замак з'яўляўся адм. цэнтрам Мірскага графства, тут знаходзіліся канцылярыя і астрог. Замак быў пашкоджаны ў выніку аблог 1655 і 1706. Адноўлены ў пач. 18 ст. (пры гэтым зніклі рэнесансныя дэталі). Пакоі былі багата аздоблены прадметамі раскошы, большасць з якіх вырабляліся на радзівілаўскіх мануфактурах. Замак моцна разбураны ў 1794. У канцы 18 ст. занапаў. У 1812 пад сценамі замка адбыўся бой паміж французскай кавалерыяй маршала Даву і ар'ергардам 2-й рус. арміі — казацкай конніцай М. Платава. Была ўзарвана паўн.-ўсх. вежа, палац разрабаваны, разбураны і спалены. У 1870-я гады праведзены першыя работы па захаванні замка як помніка старажытнасці. У 1920—30-я гады часткова адноўлены. З 1969 праводзілася частковая кансервацыя і навуковыя даследаванні (праект рэстаўрацыі 1982, арх. В. Атас, С. Верамейчык, В. Калнін, навуковыя супрацоўнікі А. Трусаў, Л. Трэпет; спец. навукова-рэстаўрацыйныя вытв. майстэрні Міністэрства культуры Беларусі). Археал. даследаванні на тэр. замка праводзіліся ў 1912 Ю. Ядкоўскім, у 1972 М. Ткачовым, у 1980—84 А. Трусавым (у 1982 разам з І. Чарняўскім). Замак пабудаваны на гліняна-пясчанай падсыпцы таўшчынёй 0,2—1 м. Раней тут было паселішча 2-й пал. 15 ст. Культурны пласт замчышча ад 0,2 м каля валоў да 2 м каля сцен. У выніку раскопак устаноўлена, што з тэракотавай і зялёнай паліванай кафлі выкладваліся печы ў службовых памяшканнях і жытлах прыслугі, з паліхромнай кафлі — печы княжацкіх пакояў. Выкарыстоўваліся сцянныя, кутнія, гзымсавыя, паясковыя кафлі, кафля-дахоўка, а таксама кафля-медальён. Знойдзена вял. колькасць керамічных, шкляных і металічных вырабаў (люлькі і посуд, келіхі і пляшкі, замкі і шпоры і інш.). Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Музеі стараж. бел. культуры ІМЭФ АН Беларусі. На Пд за замкавымі валамі створаны парк — так званы «Італьянскі сад». Быў закладзены ў 17 ст. як рэгулярны парк італьянскага тыпу з сістэмай алей і баскетаў, аранжарэямі і вадаёмамі. Абсаджаны па перыметры ліпамі. У канцы 19 ст. створаны пейзажны парк (пл. каля 25 га), у кампазіцыю якога ўвайшлі рэшткі рэгулярнага парку ў зах. частцы. Ландшафтная кампазіцыя ўсх. часткі падзяляецца на 3 зоны: у паўд. зоне штучны вадаём, абмежаваны з Пд хваёвымі прысадамі, а з З насыпной дамбай; цэнтр. зона лугавая; у паўн. зоне сканцэнтраваны асн. паркавыя насаджэнні. Гал. прагулачны маршрут пачынаецца ад сцен замка, праходзіць цераз дамбу, па хваёвай алеі, па беразе вадаёма і падводзіць да палаца. У паўн. частцы яшчэ 3 прагулачныя маршруты. Лісцевыя пароды дрэў растуць у масівах, хваёвыя — асобнымі групамі. У парку шмат экзотаў: лістоўніца (сібірская, еўрапейская, шыракалускаватая), хвоя чорная, дугласія шэрая, чаромха віргінская, явар пенсільванскі, яблыня сібірская, дуб звычайны пірамідальны і інш. На У ад замкава-палацавага комплексу знаходзіцца фальварак, на Пд — каскад ставоў з вадзянымі млынамі. За З км ад замка быў закладзены звярынец для палявання. Комплекс у асноўным захаваўся да нашага часу і з'яўляецца унікальным збудаваннем бел. архітэктуры, у якім адлюстраваны стылі готыкі і рэнесансу, сумяшчаючца рысы абарончай і палацавай архітэктуры. Вядзецца рэстаўрацыя (1991). Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.



**Мірскі замкава-паркавы комплекс.** Заходні фасад (чарцёж).

*В. В. Калнін, А. А. Трусаў, В. Р. Анціпаў, А. М. Кулагін.*

**МІРСКІ МІКАЛАЕЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры рэнесансу. Пабудаваны ў г. п. Мір (Карэліцкі р-н) у 1599—1605. У 1587 на гэтым месцы па фундацыі М. К. Радзівіла Сіроткі пабудаваны драўляны касцёл, асвячоны віленскім біскупам Ю. Радзівілам. У 1599 касцёл быў разабраны і закладзены мураваны, 21.8.1605 асвячоны віленскім біскупам Б. Войнам. У 1710 касцёл адноўлены, узведзены мураваны алтар у стылі барока, адліты вял. звон у гонар перамогі над шведамі ў Паўн. вайне. Пры касцёле існавалі школа і шпіталь св. Эскулапа (заснаваныя Сіроткам у 1610), мелася мураваная 2-павярховая плябанія (1609—1880). У 1865 касцёл быў прыстасаваны пад царкву. Храм — мураваная 3-нефавая 3-вежавая базіліка. Цэнтр. неф з паўкруглым прэсбітэрыем раней завяршаўся на гал. фасадзе вял. квадратнай у плане 4-яруснай вежай з шатровым дахам (захаваліся 2 ярусы). Вежа падзялялася прафіляванымі карнізамі на ярусы, аздобленыя глыбокімі нішамі. Бакавыя нефы на гал. фасадзе завершаны круглымі ў плане вежачкамі з вітымі ўсходамі, з боку алтарнай часткі — закругленымі ў плане сакрысціямі, абапал якіх — больш высокія гранёныя аб'ёмы, што нагадваюць трансепт. Бакавыя фасады, пазбаўленыя дэкору, прарэзаны высокімі аконнымі праёмамі з паўцыркульным завяршэннем. Дзверы аздобленыя маст. акоўкай. Унутры цэнтр.



**Мірскі Мікалаеўскі касцёл.**

неф перакрыты цыліндрычным з распалубкай, бакавыя — крыжовымі скляпеннямі. На 2-м ярусе вежы хоры для аргана. Пад будынкам знаходзіцца капліца-пахавальня. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*

**МІХАЛІШСКІ КАСЦЁЛ АЎГУСЦІНЦАЎ,** помнік архітэктуры ранняга барока. Пабудаваны ў 1653 з цэглы (арх. К. Пенс) у в. Міхалішкі (Астравецкі р-н), на левым беразе р. Вілія. 2-вежавы 1-нефавы храм з 5-граннай апсідай і нізкімі бакавымі сакрысціямі накрыты 2-схільным (над апсідай вальмавым) дахам. Нязначны перапад вышынь зальнай часткі, апсіды і вежаў стварае ступеньчатую кампазіцыю сілуэта будынка. Гал. фасад завершаны чацверыковымі вежамі з шатровымі дахамі і шчытом з 3-вугольным франтонам паміж імі, раскрапаваны нішамі. Вежы падзелены на 2 ярусы карні-



Міхалішскі касцёл аўгусцінцаў.

зам, які праходзіць па ўсім перыметры касцёла. Пры ўваходзе невысокі паўкруглы ў плане барбакан. Бакавыя плоскасныя сцены прарэзаны арачнымі вокнамі. Зала храма перакрыта цыліндрычным скляпеннем на распалубках, якое апіраецца на капітэлі пілонаў. У ніжніх ярусах вежаў — капліцы, паміж якімі на шырокай арцы галерэя хораў. Бакавыя сцены дэкарыраваны 8 стукавымі рэльефнымі алтарамі і пано, 12 скульптурнымі выявамі апосталаў на пілонах, пуцці, маскаронамі, картушамі, лісцем аканта і інш. (выкананы ў канцы 17 ст. арцеллю італьянскіх і мясцовых майстроў на чале з фларэнційскім мастаком П. Перці і Жылевічам). У нішах 1-га яруса гал. алтара паміж вітымі калонамі скульптурныя выявы епіскапаў, на 2-м — пуцці. Бакавыя алтары акаймаваны барэльефнай арнаментальнай вяззю з лісця аканта з укампанаванымі ў завіткі выявамі міфалагічных істот (сірэны, драконы і інш.). Багатым дэкорам з пазалочанага рознага дрэва ўпрыгожаны амбон з балдахінам. Высокім маст. узроўнем вылучаюцца жалезныя кованыя рашоткі ў капліцах св. Іосіфа (18 ст.) і Ісуса Хрыста (19 ст.). Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**МІХАЛКАЎСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў 18 — пач. 20 ст. ў в. Міхалкі (Мазырскі р-н). Глыбінна-прасторавую кампазіцыю ўтваралі 3 квадратныя ў плане, размешчаныя па падоўжнай восі драўляныя зрубы: асноўны, бабінец і 5-гранная алтарная апсіда (з 2 прыбудовамі абапал). Зрубы завяршаліся 3-яруснымі вярхамі (2 васьмерыкі на чацверыку над асн. аб'ёмам і бабінцам і васьмерыкі над апсідай). Звонку царква была ашалявана, сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Для збудавання характэрна своеасаблівая сістэма прапорцый: дыяганаль асн. аб'ёму ў плане раўнялася суме дыяганалей бабінца і апсіды, вышыня цэнтр. верха вызначалася агульнай даўжынёй плана царквы, вышыні бакавых вярхоў складалі дыяганаль прамавугольніка, у які ўпісваліся асн. і алтарны зрубы. Агульная вышыня каля 19 м. У пач. 20 ст. перад гал. уваходам прыбудаваны тамбур каркаснай канструкцыі, накрыты 2-схільным дахам. Не збераглася. *Ю. А. Якімовіч.*



**Міхалкаўская царква.** Бакавы фасад.

**МОЛАДАЎСКАЯ КАПЛІЦА,** помнік архітэктуры неакласіцызму. Пабудавана ў 1905—08 (праект віленскага арх. Т. Растварoўскага) у в. Моладава (Іванаўскі р-н) пры гал. уездзе ў сядзібна-паркавы ансамбль Скірмунтаў (не захаваўся). Мураваны цэнтрычны храм-ратонда (дыяметр 8 м) завершаны сферычным купалам. Ніжэйшыя за астатні аб'ём прамавугольная, раскрапаваная пілястрамі апсіда і дарычныя порцікі з трох бакоў надаюць плану крыжападобную форму. Апрацаваны гарызантальным рустам цыліндрычны аб'ём завершаны шырокім фрызам з поясам ляпных гірлянд і карнізам з сухарыкамі і мадульёнамі. Тымпаны франтонаў і ліштвы акон (мелі каляровыя вітражы) аздоблены ляпным раслінным арнаментам. У інтэр'еры сцены рытмічна раскрапаваны пілястрамі і завершаны па перыметры карнізам. У алтары была ўстаноўлена беламармуровая скульптура Хрыста, створаная скульптарам Броцкім (не захавалася). Аздабленне інтэр'ера не збераглося. Цяпер у ёй склад трактарных запчастак. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*



**Моладаўская капліца.**

**МОЛАДАЎСКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у канцы 18 — пач. 20 ст. ў в. Моладава (Іванаўскі р-н). Пабудаваны ў 1798 паводле праекта арх. Ван Гроса; меў рысы стылю ампір. Належаў Скірмунтам. Мураваны 1-павярховы прамавугольны ў плане на высокім цокалі будынак з 3 рызалітамі, накрыты вальмавым дахам. Сцены, аздобленыя рустам, завяршаліся антабламентам і карнізам на сухарыках. Цэнтр. рызаліт на гал. фасадзе быў вылучаны дарычным порцікам з 2 парамі калон і 3-вугольным франтонам, на фасадзе, што выходзіў у парк,—

3-граннай галерэйкай з вальмавым пакрыццём. Бакавыя рызаліты на гал. і паркавым фасадах былі вылучаны 4-калоннымі порцікамі з 3-вугольнымі франтонамі. Высокія прамавугольныя вокны з франтончыкамі ў завяршэнні і скульпт. ўстаўкамі пад карнізамі. Каля палаца стаяў мураваны 1-павярховы прамавугольны ў плане флігель з порцікам на гал. фасадзе. У 1908 непадалёку ад палаца пабудавана *Моладаўская капліца*. Іл. гл. таксама ў нарысе. *Ю. А. Якімовіч.*

**МОСАРСКІ КАСЦЁЛ ГАННЫ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1792 у в. Мосар (Глыбоцкі р-н). Прамавугольны выцягнуты па падоўжнай восі мураваны будынак накрыты 2-схільным дахам з трохвугольнымі франтонамі на тарцах. Гал. фасад аздоблены каneліраванымі пілястрамі, філёнгамі, паўкруглымі нішамі з скульптурамі святых. Аконныя і дзвярныя праёмы прамавугольныя, аздоблены ліштвамі. Пры ўваходзе вылучаны вузкі нартэкс з бакавымі ўваходамі ў асн. залу. Зала перакрыта люстраным скляпеннем з арнаментаванай размалёўкай. Алтарная сцяна дэкарыравана канеліраванымі пілястрамі, 10 філянговымі рамамі з ляпнымі барэльефнымі выявамі евангелістаў. Сцены завершаны па перыметры магутным антаблементам, які мае фрыз з трыгліфамі і ляпнымі гірляндамі, карнізам з сухарыкамі. З паўд.-зах. боку ад касцёла стаіць 3-ярусная мураваная званіца, накрытая шатром. Збудаванні абнесены мураванай агароджай з брамай па восі ўвахода ў касцёл. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*



**Моладаўскі палац.** Фота 1920-х гадоў.

**МСЦІБАЎСКІ КАСЦЁЛ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Размешчаны ў в. Мсцібава (Ваўкавыскі р-н). Узведзены ў 1910—19 з цэглы, неатынкаваны. Уяўляе сабой 2-вежавы храм базілікальнага тыпу з трансептам, 3-граннай апсідай і 2 сакрысціямі. Галоўны зах. фасад 3-частковы: цэнтр. частка, завершаная 3-вугольным шчытом, і бакавыя 2-ярусныя вежы, завершаныя галоўкамі. У кожнай частцы ўваходны стральчаты праём. Бакавыя фасады расчлянёны лучковымі праёмамі ў 2 ярусы, на 1-м ярусе паміж вокнамі — ступеньчатыя контрфорсы. Вуглы вежаў, трансепта і апсіды фланкіраваны ступеньчатымі контрфорсамі. У інтэр'еры нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з нервюрамі зорчатага малюнку. У паўн. крыле трансепта захаваўся драўляны 2-ярусны разны іканастас св. Яна (19 ст.), ярусы дэкарыраваны карынфскімі калонкамі і ажурнай разьбой. На хорах захаваўся арган. Касцёл дзейнічае. *Т. І. Чарняўская.*



**Мосарскі касцёл Ганны.**

**МСЦІСЛАЎ,** горад, цэнтр Мсціслаўскага р-на, на р. Віхра. За 95 км на У ад Магілёва. Упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1135 як горад Смаленскага княства. З 1180 цэнтр Мсціслаўскага княства. Стараж. М. складаўся з дзядзінца, умацаванага ровам і валамі, і вакольнага горада, абнесенага ў 13 ст. другой лініяй умацаванняў з боку плато. На Пн, ПнУ і ПнЗ размяшчаўся пасад (у раёне сучасных вуліц Піянерскай і Заслонава) і пераправа — пачатак старажытнейшага шляху з М. на Смаленск. Рэльеф і сляды стараж. тапанімікі даюць падставу меркаваць, што пасад мог распасцірацца таксама ўверх і ўніз па рацэ і ля падножжа Троіцка-Нікольскай, Дзявочай і Панівойскай гор (у раёне сучасных вуліц Акцябрскай, Рэспубліканскай, Пушкіна). З 2-й пал. 14 ст. ў складзе Вял. кн. Літоўскага, належаў князям Мсціслаўскім. З 1528 ва ўладанні Жыгімонта II Аўгуста, каралеўская воласць, цэнтр староства. З 2-й пал. 16 ст. цэнтр ваяводства. Архіт. аблічча М. вызначалася дамінантамі драўлянага комплексу замка з Нікольскім храмам у цэнтры, мноствам драўляных і мураваных цэркваў, касцёлаў, кляштараў, абарончымі сценамі і вежамі пасада. Ад замка да 4 уязных драўляных брам — Траецкай, Афанасьеўскай, Спаскай і Папоўскай — радыяльна адыходзілі вуліцы. Ніжняя частка М. ўздоўж р. Віхра (Падол) мела нерэгулярную забудову. У 16—17 стагоддзях вёў гандаль з гарадамі Рус. дзяржавы і краін Зах. Еўропы. У М. нарадзіўся адзін з рус. і бел. першадрукароў, гравёр 16 ст. П. П. Мсціславец. У 1634 (паводле інш. звестак у 1636) горад атрымаў магдэбургскае права і герб з выявай рыцарскай рукі, узброенай мячом. У 17 — пач. 20 ст. ў М. існаваў *Мсціслаўскі Тупічоўскі манастыр.* У 17—18 стагоддзях узведзены мураваныя кляштары: кармелітаў (гл. *Мсціслаўскі касцёл і кляштар кармелітаў*), езуітаў (гл. *Мсціслаўскі Міхайлаўскі касцёл і калегіум езуітаў*), бернардзінцаў. З 1772 у складзе Расіі, цэнтр правінцыі. З 1777 павятовы горад. У 1781 атрымаў герб: на сярэбраным по-



Мсцібаўскі касцёл Іаана Хрысціцеля.

гілёўскай шашы. Своеасаблівасць і каларыт архіт. абліччу горада надае спалучэнне гісторыка-архіт. і прыроднага асяроддзя. Паводле праекта рэгенерацыі гіст. цэнтра М. 1985 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. С. Смірнова, М. Шумячар, інж. В. Пузік) прадугледжаны: захаванне гіст. рэгулярнай планіровачнай структуры цэнтр. часткі забудовы, яе далейшая рэканструкцыя, аднаўленне і рэстаўрацыя; дапаўненне гіст. забудовы ў межах цэнтр. часткі новай, малапавярховай (не вышэй 3 паверхаў), кампазіцыйна, маштабна і функцыянальна адпаведнай; арганізацыя пешаходных вуліц (Урыцкага як гал. кампазіцыйнай восі, Калініна) і зон у межах вуліц Кірава, Першамайскай, Камсамольскай; захаванне гіст. пераемнасці



Мсціслаўскай земскай управы будынак.

лі шчыта выява чырвонай лісіцы. У 1778 зацверджаны рэгулярны план М., які вызначаў прамавугольную планіроўку і сістэму плошчаў. Пабудаваны драўляны палац (згарэў у 1858), на цэнтр. плошчы створаны бульвар. У Айч. вайну 1812 горад разбураны і разрабаваны французамі. У 1880 у М. было больш за 7,7 тыс. жыхароў, 12 цагляных і 1036 драўляных дамоў. М. шмат цярпеў ад пажараў, асабліва ў 1858 (згарэла каля 500 будынкаў, амаль увесь гарадскі цэнтр), 1863, 1897. У 1897 у М. 8514 жыхароў, 17 дробных прадпрыемстваў, 3 вучылішчы, 3 бальніцы, 2 кніжныя крамы. У пач. 20 ст. працавалі мужчынская і жаночая гімназіі, 4-класнае духоўнае, мужчынскае і жаночае прыходскія вучылішчы. У 1911 было 1267 жылых дамоў (46 з іх мураваных). З 1924 цэнтр раёна. 10,5 тыс. жыхароў у 1939, 8,1 тыс.— у 1959. Захавалася гіст. планіроўка горада; развіваецца ўздоўж р. Віхра ў паўн. напрамку. Генпланы распрацаваны ў 1961 («Белдзяржпраект») і 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; архіт. С. Смірнова, Г. Паўлоўская, інж. А. Патапейка, Р. Абласава), карэкціроўка 1987. Архіт.-планіровачная структура М.— прамавугольная сетка вуліц у цэнтр. частцы і свабодная забудова ў перыферыйных раёнах. Гал. вось — вул. Ленінская (з ПнЗ на ПдУ, забудавана 2—3-павярховымі жылымі дамамі) з паркамі імя Н. К. Крупскай і Піянерскім. На скрыжаванні вуліц Варашылава (паралельная вул. Ленінскай) і Савецкай (з ПнУ на ПдЗ) створана плошча. У раёне плошчы і вуліц Пралетарскай, Варашылава і Калініна склаўся адм.-грамадскі цэнтр. На рагу вуліц Ленінскай і Савецкай сквер. У архіт.-планіровачную кампазіцыю М. арганічна ўваходзяць помнікі архітэктуры 17—19 стагоддзяў — *Мсціслаўская царква Аляксандра Неўскага,* Спаса-Праабражэнская царква, *Мсціслаўскай земскай управы будынак, Мсціслаўскай мужчынскай гімназіі будынак,* а таксама гістарычныя зоны — Траецкая, Замкавая, Дзявочая горы. Захавалася таксама гістарычна каштоўная забудова: жылыя драўляныя дамы традыцыйнай архітэктуры, характэрныя для дадзенага рэгіёна гасп. пабудовы, малыя арх. формы і інш. Цэнтр. частка горада забудавана 2—5-павярховымі жылымі дамамі. Новыя шматпавярховыя дамы будуюцца на свабодных тэрыторыях уздоўж Магілёўскай шашы. ... ў архіт.-прасторавай арганізацыі цэнтра горада і будове яго сілуэта з дамінантамі — помнікамі архітэктуры 18—19 стагоддзяў і інш. Па меры аднаўлення гіст. спадчыны М. павінен набываць усё большае значэнне як турысцкі цэнтр.

*С. Ф. Самбук, М. А. Ткачоў.*

**МСЦІСЛАЎСКАЙ ЗЕМСКАЙ УПРАВЫ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры неакласіцызму. Узведзены ў канцы 19 — пач. 20 ст. з цэглы. 2-павярховы П-падобны ў плане будынак з высокім паўпадвалам, 2-схільным вальмавым дахам. Бакавы вугал зрэзаны і завершаны шчытападобным атыкам. Фасады падзелены карнізам на 2 паверхі, расчлянёны лапаткмі, аконнымі праёмамі — высокімі прамавугольнымі на 1-м паверсе і лучковага абрысу з складанымі ліштвамі на 2-м. Сцены завершаны развітым карнізам з сухарыкамі. На 2-м паверсе балконы з чыгуннымі агароджамі. Калідорная сістэма планіроўкі. Цяпер у будынку размешчана навучальная ўстанова.

**МСЦІСЛАЎСКАЙ МУЖЧЫНСКАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры эклектыкі. Узве-



Мсціслаўскай мужчынскай гімназіі будынак.



Мсціслаўская царква Аляксандра Неўскага.

дзены ў 1908 з цэглы. Асіметрычны 2-павярховы Т-падобны ў плане будынак складаецца з 3 злучаных паміж сабою корпусаў. Гал. фасад фланкіраваны рызалітамі, расчлянёны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі (вузкімі на 1-м паверсе і шырокімі на 2-м). Над цэнтр. уваходам, вылучаным казырком на кансолях, размешчаны лучковы аконны праём з кілепадобным франтонам. Карніз з філянговым фрызам падзяляе фасады на 2 паверхі. У перакрыцці памяшканняў цэнтр. корпуса выкарыстаны крыжовы і цыліндрычныя скляпенні. Калідорная сістэма планіроўкі. Цяпер у будынку размешчана сярэдняя школа.

**МСЦІСЛАЎСКАЯ ЦАРКВА АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА,** помнік архітэктуры эклектыкі. Пабудавана ў г. Мсціслаў у 1870 з цэглы на месцы мураванага храма (згарэў у 1858). Крыжовакупальны храм мае 3 закругленыя featureпознавялікія апсіды, якія асвятляюцца высокімі паўцыркульнымі вокнамі. Над сяродкрыжжам узвышаецца шлемападобны купал на 8-гранным светлавым барабане. Такі ж па форме, але меншых памераў купал на высокай 2-яруснай званіцы, размешчанай над бабінцам храма. Тарцы трансепта завершаны трохвугольнымі шчытамі. У храме 3 уваходныя парталы: цэнтральны і бакавыя. Парталы і аконныя праёмы абрамлены дэкар. валікам. Пад карнізам па перыметры будынка праходзіць аркатурны пояс. Для перакрыцця ўнутранай прасторы выкарыстаны розныя тыпы скляпенняў: у бабінцы крыжовае, у дадатковым аб'ёме і бакавых алтарах — цыліндрычныя з распалубкамі, у апсідах — конхі, у цэнтры — сферычны купал на ветразях. Брама перад царквой уяўляе сабой паўцыркульную арку, над якой узвышаецца невял. назіральная вежа. Абапал яе размешчаны невысокія галоўкі. Вароты ажурныя, чыгуннае ліццё. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. Ю. Пятросава.*

**МСЦІСЛАЎСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР КАРМЕЛІТАЎ,** помнік архітэктуры барока. Закладзены ў 1617 (паводле іншых звестак у 1637 ці 1638) у Мсціславе. Рэканструяваны ў 1746—50 арх. І. К. Глаўбіцам (перайначаны форма даху, дэкор гал. фасада і інтэр'ера, завяршэнні 3-ярусных вежаў) і часткова ў 1887. Касцёл — мураваная 3-нефавая 6-стаўповая базіліка з 2-вежавым фасадам і 5-граннай алтарнай апсідай, да якой з Пд прылягае кляштар — 2-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак, накрыты вальмавым дахам (у інтэр'еры збераглася размалёўка 19 ст.). Сцены касцёла атынкаваны і аздоблены пілястрамі. Драўляныя скляпенні ўнутры больш познія. Інтэр'ер багата аздоблены лепкай і фрэскамі (сярэдзіна 18 ст.), якія размешчаны на пауд., паўн. і алтарнай сценах гал. нефа і на скляпеннях бакавых нефаў. Збераглося каля 20 кампазіцый, з якіх найбольшую маст. каштоўнасць маюць партрэт фундатара і сюжэты на гіст. тэматыку: «Узяцце Мсціслава маскоўскімі войскамі ў 1654» і «Забойства ксяндзоў». Гіст. цікавасць мае панарама камяніц тагачаснага Мсціслава. Колеравая гама размалёвак на рэлігійныя тэмы мяккая, пабудавана пераважна на жоўта-карычневых і шэра-блакітных колерах. Сцэны на гіст. сюжэты маюць больш разнастайную колеравую гаму. У кампазіцыі адчуваецца перспектыўна-прасторавы план, аб'ём. Каля касцёла пабудавана цагляная брама, якая вырашана ў выглядзе рознавялікіх паўцыркульных арак. Па баках брамы ўзвышаюцца невял. пінаклі. Над шырокай цэнтр. аркай размешчаны ступеньчаты атык. Помнік рэспубліканскага значэння.

*С. А. Друшчын, В. В. Церашчатава.*



Мсціслаўскі касцёл і кляштар кармелітаў. Агульны выгляд касцёла. Фота пачатку 20 ст.



Мсціслаўскі Міхайлаўскі касцёл і калегіум езуітаў. Галоўны фасад касцёла.

**МСЦІСЛАЎСКІ МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ І КАЛЕГІУМ ЕЗУІТАЎ,** помнік архітэктуры сталага барока. Пабудаваны ў 1730—38 у Мсціславе, перабудаваны ў 1-й пал. 19 ст. пад Мікалаеўскі сабор. К а с ц ё л — 2-нефавая мураваная базіліка з трансептам і 2-вежавым гал. фасадам. Цэнтр. неф завершаны масіўнай паўкруглай алтарнай апсідай. 2-ярусныя крылы трансепта ўрэзаны ў высокія бакавыя нефы. Гал. фасад падзелены на 2 ярусы вузкім карнізам і завершаны развітым антабламентам са ступеньчатым атыкам у цэнтры і чацверыковымі вежамі па баках (верхнія ярусы не зберагліся). У 1842 надбудаваны вял. драўляны купал на цыліндрычным светлавым барабане (не захаваўся). Сцены аздоблены шырокімі пілястрамі. Праёмы з паўцыркульнымі і лучковымі завяршэннямі. Унутры касцёла магутныя калоны з

пілястрамі злучаны падпружнымі аркамі і падзяляюць храм на 3 нефы. У іх паўн.-зах. частцы размешчаны высокія хоры. Памяшканне над хорамі, нефы і бакавыя алтары перакрыты крыжовымі скляпеннямі, у апсідзе — конха з распалубкамі. Да касцёла прылягаюць з Пн з боку гал. фасада 1-павярховы мураваны будынак аптэкі, з Пд каля апсіды 2-павярховы прамавугольны ў плане корпус к а л е г і у м а. 2 вуглы будынка і сярэдзіна паўн.-ўсх. сцяны ўмацаваны магутнымі контрфорсамі. Сістэма планіроўкі калідорная з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў. Калідор і пакоі 1-га паверха перакрыты крыжовымі скляпеннямі, 2-га — плоскай столлю, ва ўсх. вуглу размешчана вузкая 2-маршавая лесвіца. Цяпер у будынку калегіума працуе школа-інтэрнат. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Ярашэвіч.*

**МСЦІСЛАЎСКІ ТУПІЧОЎСКІ МАНАСТЫР.** Існаваў у сярэдзіне 17 — пач. 20 ст. на ўсх. ускраіне Мсціслава. Засн. як мужчынскі (з 1886 жаночы). Складаўся з Святадухаўскай, Увядзенскай, Успенскай, Мікалаеўскай цэркваў, жылых і гасп. пабудоў. Быў абнесены спачатку драўлянай, з канца 19 ст. муравaнай агароджай. Манастырскія жылыя і гасп. пабудовы былі пераважна драўляныя. Засталіся фрагменты муравaнай агароджы, брамы і капліц канца 19 ст. Цяпер частка тэрыторыі занята сучаснымі будынкамі маслазавода. У час археал. даследаванняў выяўлены культ. пласт 16—18 стагоддзяў, сярод знаходак непаліваная кафля з выявай Святога Георгія на кані, а таксама зялёная і паліхромная кафля 17—18 стагоддзяў, аздобленая раслінным і геральдычным арнаментам. Драўляная С в я т а д у х а ў с к а я ц а р к в а (пабудавана ў 1641) — крыжова-купальны храм (25 × 25 м) на каменным падмурку; абнесены паўзакрытай абходнай галерэяй на слупах. Вальмавыя дахі канцоў крыжа і купал на светлавым барабане над сяродкрыжжам завяршаліся галоўкамі. Спачатку царква была накрыта гонтавым дахам, з канца 19 ст. — бляхай. Сцены царквы ў інтэр'еры былі ўпрыгожаны размалёўкай па дрэве на біблейскія і евангельскія сюжэты (73 кампазіцыі): у цэнтр. аб'ёме кампазіцыі «Нараджэнне багародзіцы», «Увядзенне ў храм», «Заручыны Марыі», «Успенне», «Нараджэнне Хрыста» і інш., у алтары — «Тайная вячэра», у бабінцы — сцэны з старога запавету і пакут розных святых. Рэалістычнай манерай вылучаліся кампазіцыі «Рай», «Стварэнне Евы», «Спакуса Адама» і інш. Чалавечым выявам уласцівы жыццёвасць, мясцовы тыпаж. Прапорцыі фігур прысадзістыя і крыху нязграбныя, але ў іх добра перададзена дынаміка. Тыповыя для Беларусі краявіды, элементы архіт. антуражу, выявы мясцовых жывёл сведчаць аб тым, што ў аздабленні царквы ўдзельнічалі майстры, якія творча перапрацоўвалі традыцыі нар. выяўл. мастацтва Магілёўшчыны 17—18 стагоддзяў. У некаторых кампазіцыях прыкметны рысы стылю барока. Гал. і бакавы іканастасы былі аздоблены дэкар. разьбой і пазалотай. У в я д з е н с к а я ц а р к в а (пабудавана ў 1771) — драўлянае на каменным падмурку, прамавугольнае ў плане (каля 12×7 м) купальнае збудаванне. У канцы 19 ст. царкву падоўжылі да 22 м, абклалі цэглай і накрылі бляхай. У інтэр'еры сцены былі атынкаваны і ўпрыгожаны арнаментам і размалёўкай на рэлігійныя сюжэты. М і к а л а е ў с к а я ц а р к в а (існавала да 1839) — драўлянае збудаванне (9×8 м) на 2-м ярусе надбрамнай званіцы. У с п е н с к а я ц а р к в а (пабудавана ў псеўдарускім стылі ў 1891—95) — мураваны крыжова-купальны храм са званіцай над бабінцам, завершаны купалам на светлавым барабане. У інтэр'еры знаходзіліся 4-ярусны з пазалотай і 3-ярусны іканастасы. Комплекс не збярогся, яго спалілі ў Вял. Айч. вайну. Канчаткова зруйнаваны ў канцы 1950 — пач. 1960-х гадоў, у час будаўніцтва масласырзавода.
*Л. Л. Чарняўская, А. А. Трусаў, Ю. А. Якімовіч.*



Успенская царква **Мсціслаўскага Тупічоўскага манастыра.** Фота пачатку 20 ст.

**МУРАВАНААШМЯНКАЎСКАЙ ДРУКАРНІ БУДЫНАК,** помнік стараж. дойлідства. Знаходзіцца за 1 км на ПдЗ ад в. Мураваная Ашмянка (Ашмянскі р-н). Пабудаваны ў канцы 16 ст. з буйнапамернай цэглы (32×16×7 см). Часткова захаваліся падвал, цокаль і сцены верхняга паверха. Падвал меў цыліндрычныя скляпенні, цокаль — крыжовыя. У сярэдзіне 19 ст. перабудаваны ў палац, узведзены верхні паверх у стылі класіцызму. Арачныя вокны цокаля былі закладзены, сцены па перыметры рытмічна прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. З 19 — пач. 20 ст. захаваліся алея, што вяла да палаца, і прыдарожная капліца. У літаратуры ёсць звесткі, што ў памяць аб будаўніцтве каля ўвахода ў сядзібу быў умураваны камень з датамі «1590—1843». У падвале і цокальным паверсе будынка размяшчалася друкарня (засн. Мікалаем Дарагастайскім, стольнікам літоўскім), якая дасягнула росквіту ў 17 ст. (належала сыну Мікалая — Крыштофу); сярод выдадзеных кніг «Гіпіка» Дарагастайскага, «Цэнзура» В. Салінарыуса (1615). *У. В. Алісейчык.*

**МУРАВАНААШМЯНКАЎСКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў канцы 18 — пач. 19 ст. на месцы драўлянага касцёла 1650 у в. Мураваная Ашмянка (Ашмянскі р-н). Паднаўляўся ў 1841 і 1874. У архітэктуры спалучаюцца рысы стыляў барока і класіцызму. Прамавугольны ў плане, зальнага тыпу, з 3-граннай алтарнай часткай, трансептам і 2 сакрысціямі. Асн. аб'ём і крылы трансепта накрыты 2-схільнымі з вальмамі над алтаром, сакрысціі — 1-схільнымі дахамі. Гал. фасад і тарцы трансепта завяршаюць 3-вугольныя франтоны з цыбулепадобнымі купалкамі на глухіх барабанах. Сцены гарызантальна ашаляваны, вокны прамавугольныя з простымі ліштвамі. Памяшканні інтэр'ера перакрыты люстранымі скляпеннямі (у асн. аб'ёме на падоўжных бэльках і калонках). Алтарнае памяшканне адкрываецца ў залу вял. прамавугольным, хоры — трайным арачным праёмамі. Сцены і столь гарызантальна ашаляваны. Інтэр'ер упрыго-



**Мураванаашмянкаўскі Троіцкі касцёл.**

жаны выкананай у 2-й пал. 19 ст. паліхромнай размалёўкай: гірлянды з лістоў аканта, лілей і стужак з літургічнымі надпісамі, фігуры архангелаў, арнамент з залатых каласоў, зялёных і сініх гронак вінаграду. Тры разныя драўляныя алтары, выкананыя ў стылі ракако. Гал. алтар на невысокім цокалі, 2-і ярусны з 3-вугольным завяршэннем, упрыгожаны драўляным разным абрамленнем з завіткоў-валют, ракайляў, казачных раслін, паўфігур атлантаў з царскімі каронамі-капітэлямі на галаве і фігурак укленчаных анёлаў (фланкіруюць 2-і ярус і наверша алтара). На капітэлях і ракайлях захавалася першапачатковая пазалота. Бакавыя алтары па кампазіцыі нагадваюць галоўны, але меншыя памерам і больш сціплыя па дэкоры. Каля касцёла стаіць 2-ярусная квадратная ў плане брама-званіца. Ніжні ярус зрубны з бакавымі памяшканнямі абапал праходу, верхні — каркасны, прарэзаны арачнымі праёмамі, прасценкі паміж якімі аздоблены рустоўкай, завершаны нізкім шатровым дахам, увенчаным шлемападобнай галоўкай на васьміграннай аснове. Касцёл дзейнічае. *Л. Г. Лапцэвіч.*



**МУРАВАНКАЎСКАЯ ЦАРКВА-КРЭПАСЦЬ,** помнік абарончага дойлідства. Пабудавана ў пач. 16 ст. ў в. Мураванка (Шчучынскі р-н). Храм абарончага тыпу. Трохнефавае 4-стаўповае збудаванне зальнага тыпу (у плане — прамавугольнік, блізкі да квадрата), завершанае высокім 2-схільным дахам са шчытамі на тарцах, адной паўкруглай апсідай (на ўсю шырыню асн. аб'ёму) і 4 круглымі вуглавымі вежамі, накрытымі шатрамі. Вітыя ўсходы вежаў вялі да байніц абарончага пояса ў верхняй частцы храма. Сцены і вежы ўпрыгожаны ярускай кампазіцыяй плоскіх атынкаваных нішаў, завершаных падвойнымі аркамі. Падобны дэкор мае фігурны шчыт на гал. фасадзе. Гатычныя скляпенні царквы вызначаюцца тонкім малюнкам (сплященне гуртоў і нервюр зорчатых скляпенняў утварае трохвугольнікі і ромбы розных абрысаў і памераў). Пад храмам — скляпеністае сутарэнне-склад. Да пач. 19 ст. ў царкве былі герсы (пад'ёмныя дзверы-краты). У час рэканструкцый (1817, 1871—72) да гал. фасада прыбудаваны прытвор, надбудаваны зах. вежы, паніжаны дах, зроблены карнізы і павялічаны вокны. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.



**Мураванкаўская царква-крэпасць.** Малюнак В. Гразнова. 2-я палавіна 19 ст.

**МУРАВАНСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму. Створана ў 2-й пал. 19 ст. ў в. Муравана (Берастовіцкі р-н). У комплекс уваходзяць сядзібны дом, бакавыя флігелі і гасп. пабудовы. Перад гал. фасадам сядзібнага дома прамавугольны парадны партэр, да якога вядзе ўязная алея. За домам лесапарк з сістэмай алей і з прамавугольнымі сажалкамі і каналамі. Сядзібны дом — прамавугольны ў плане 2-павярховы мураваны будынак. Гал. фасад аздоблены архіт. дэкорам і лепкай, цэнтр вылучаны пілястрамі і франтонам (порцік не збярогся). Прамавугольныя вокны маюць прафіляваныя ліштвы. Планіроўка калідорная з аднамаршавай лесвіцай. У будынку размешчана навучальная ўстанова. *А. М. Кулагін.*

**МЫШКАВІЧЫ,** вёска ў Кіраўскім пасялковым Савеце Кіраўскага р-на. Цэнтр калгаса «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага. За 6 км на Пд ад Кіраўска, 93 км ад Магілёва. У 19 ст. у Качэрыцкай воласці Мінскай губ. Належала Н. Ф. фон Гоер. У 1908 у М. было 90 двароў, 678 жыхароў. Адзін з эксперыментальна-паказальных пасёлкаў на Беларусі. Забудоўваецца паводле генплана 1970 (Белдзіпрасельбуд, арх. Т. Галіёта, карэкціроўка 1980). Будаўніцтва вядзецца на свабоднай тэрыторыі і на месцы старой забудовы. Вызначаецца функцыянальным заніраваннем тэрыторыі, кампактнасцю забудовы, высокім узроўнем добраўпарадкаванасці. Архіт.-планіровачную структуру вёскі вызначаюць асн. вуліцы Цэнтральная, перпендыкулярная да яе Палацавая і ўтвораная на іх скрыжаванні цэнтр. плошча — адм.-грамадскі і культ. цэнтр. Плошчу фарміруюць: 2-павярховы адм. будынак праўлення калгаса, Палац культуры (1975, арх. Г. Заборскі), 6-павярховая гас-

цініца, гандл. цэнтр з рэстаранам, магазінамі, помнік К. П. Арлоўскаму. На плошчу раскрыты два 2-павярховыя жылыя дамы з унутранымі дварыкамі. Упрыгожваюць плошчу кветнікі, дэкар. фантан з святламузыкай, газоны, адкрытыя лужкі і інш. Пераважае 2-павярховая секцыйная забудова, будуюцца дамы з кватэрамі ў 2 узроўнях. У цэнтр. частцы вёскі дамы размешчаны кампазіцыйнымі групамі з унутранымі азяляненымі пляцоўкамі для адпачынку. У аддзелцы будынкаў выкарыстаны чорны і чырвоны граніт, белая тынкоўка, што стварае выразны сілуэт забудовы. Вёска забяспечана ўсімі відамі інж. абсталявання, вуліцы асфальтаваныя, устаноўлены святлафоры. Вытворча-складская зона размешчана ў паўн. і паўн.-ўсх. частках вёскі. Зона адпачынку — штучны вадаём з добраўпарадкаванай набярэжнай, парк, стадыён, санаторый з водалячэбніцай. Прадугледжваецца далейшае развіццё грамадскага цэнтра, стварэнне бульвара з фруктовай алеяй уздоўж вул. Палацавай, пашырэнне спарт. зоны, буд-ва фізкультурна-аздараўленчага цэнтра. Забудова і добраўпарадкаванне М. адзначаны Дыпломам і залатым медалём ВДНГ СССР (1982). Іл. гл. таксама ў нарысе. *І. А. Гапонаў.*



**Мышкавічы.** Забудова цэнтра.

**МЫШСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 2-й пал. 16 — 1-й пал. 17 ст. каля в. Старая Мыш (Баранавіцкі р-н) на высокім правым беразе р. Мышанкі. Квадратны ў плане (50×50 м) замак быў абнесены з У, Пд і З земляным валам (шыр. каля 15, выш. 3,5—4 м) і абарончым ровам (шыр. 30, глыб. да 15 м, адхоны берагоў 45°), з Пн ахоўваўся дрыгвяністым берагам ракі. На земляным вале і на паўн. краі замка былі драўляныя сцены з 4 вежамі па вуглах. У 1654 (у руска-польскую вайну 1654—67) пасля працяглай аблогі замак узяты рус. войскамі і спалены. *М. А. Ткачоў.*

**МЯДЗВЕДЗІЦКІ ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры эклектыкі. Пабудаваны з цэглы ў 1908 г. (арх. С. Шылер) у в. Мядзведзічы (Ляхавіцкі р-н). Уяўляе сабой аднавежавую 3-нефавую базіліку. Цэнтр. неф падоўжаны 5-граннай алтарнай часткай. З 2 бакоў да яе прылягаюць рызніцы. Гал. фасад мае ступеньчатую ярусную будову. Выступы па баках фасада згладжаны валютамі. Нефы перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі, упрыгожанымі дэкар. арнаментам. Касцёл дзейнічае.



**Мядзвядкаўскі сядзібны дом.** З малюнка 19 ст.

**МЯДЗВЯДКАЎСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ.** Існаваў у 2-й пал. 18—19 ст. ў в. Мядзвядка (Карэліцкі р-н). Спалучаў традыцыі нар. дойлідства і рысы стылю барока. П-падобны ў плане 1-павярховы (з 2-павярховым левым крылом, накрытым 4-схільным дахам) драўляны будынак завершаны вальмавым дахам. Крылы дома ўтваралі курданёр перад гал. уваходам. Сцены былі прарэзаны прамавугольнымі вокнамі, цэнтр. частка мела слупавую галерэйку тыпу «падчэняў». Планіроўка анфіладная. У доме нарадзіўся вядомы бел. геолаг, даследчык Чылі І. Дамейка (1802—89). *Ю. А. Якімовіч.*

**МЯДЗЕЛ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Мядзельскага р-на, паміж азёрамі Мястра і Баторын. За 154 км на ПнЗ ад Мінска. Назва М. паходзіць, магчыма, ад літоўскага medinis — лясны, драўляны. Паводле падання, знаходзіўся на беразе воз. Мядзел і пасля мору перанесены на бераг воз. Мястра. На адным з астравоў воз. Мядзел засталіся рэшткі гарадскіх умацаванняў 11 ст.— парубежнай крэпасці Полацкага княства. Да 20 ст. падзяляўся на Стары і Новы М. Стары М. вядомы з 1454 у складзе Віленскага ваяводства. Належаў магнатам Радзівілам, Францкевічам, Райскім, Грабкоўскім, Кошчыцам. З 1736 мястэчка, з 1762 мела магдэбургскае права. У канцы 19 ст. каля 310 жыхароў, 46 двароў, царква, бровар, піваварня, 2 кірмашы на год. Новы М. вядомы з 1463, быў абнесены валам. У 15 ст. на паўвостраве воз. Мястра, на месцы гарадзішча 11—14 стагоддзяў, пабудаваны мураваны *Мядзельскі замак.* У рус.-літоўскую вайну 1512—22 у 1519 разбураны. У 16 ст. каралеўскае ўладанне, горад. З 1793 Стары і Новы М. у складзе Расіі, у Вілейскім пав. У канцы 19 ст. Новы М.— мястэчка, больш за 780 жыхароў, каля 100 двароў, царква, касцёл, нар. вучылішча, 4 крамы, базар, 8 кірмашоў на год. З 1921 у складзе бурж. Польшчы. З 1939 у БССР, з 1940 цэнтр раёна. З 1959 гарадскі пасёлак. Развіваецца як цэнтр курортнай зоны вакол воз. Нарач. Інтэнсіўна забудоўваецца з 1967. Сетка вуліц прамавугольна-дыяганальная з дробнымі кварталамі. Забудоўваецца паводле генплана 1979 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. М. Пракалей, А. Трафімчук, Т. Шчадрына; інж. Л. Мужычэнка, А. Валовіч). Гал. кампазіцыйная вось — вул. 17 Верасня (перасякае гарадскі пасёлак з ПнЗ на ПдУ, забудавана 2—5-павярховымі дамамі), на ПнУ і ПдЗ ад яе адыходзяць вуліцы 1 Мая, Камсамольская, Крупскай, Чырвонаармейская і інш. Жылая зона склалася ў асноўным на ўзбярэжжы воз. Мястра і дзеліцца на паўн.-зах., паўд.-ўсх. і ўсх. планіровачныя раёны. Паўн.-зах. раён, або Стары

М.,— зона 1-павярховай індывідуальнай і 2-павярховай катэджавай забудовы. Паўд.-ўсх. раён, або Новы М.— зона капітальнай, пераважна 2—5-павярховай забудовы. Тут, на перакрыжаванні вуліц 17 Верасня і Крупскай, побач з возерам склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр. Усх. планіровачны раён — зона 1-павярховай індывідуальнай забудовы сядзібнага тыпу. Вытворча-складская зона размешчана ў паўн.-ўсх. частцы пасёлка. Зона адпачынку — азёры Мястра і Баторын, парк, 2 скверы. Захаваўся помнік архітэктуры 18 ст.— *Мядзельскі Станіслаўскі касцёл кармелітаў.* Прадугледжваецца далейшае развіццё грамадскага цэнтра ў бок воз. Мястра, буд-ва 1-павярховых сядзібнага тыпу, 2-павярховых катэджавых, 3—5, часткова 9-павярховых жылых дамоў, спарт. комплексу.

*С. Ф. Самбук.*

**МЯДЗЕЛЬСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 15 — пач. 18 ст. Пабудаваны ў Мядзеле на месцы гарадзішча 11—14 стагоддзяў у паўн.-ўсх. частцы вострава на воз. Мястра. Комплекс уключаў абарончыя, жылыя і гасп. пабудовы розных тыпаў і канструкцый. Займаў роўную прамавугольную пляцоўку (выш. 3,5—4 м), на ПнУ якой знаходзілася круглая ў плане мураваная вежа-данжон (дыяметр каля 17,5 м, таўшчыня сцен да 3,75 м), пастаўленая на 4-метровым каменным падмурку. У 16 ст. да вежы з зах. прыбудаваны прамавугольны ў плане мураваны палац (таўшчыня сцен 2 м). Замак быў абнесены каменнай сцяной (таўшчыня 1,5—2 м), якая ўключала 2 цыліндрычныя вежы і паўкруглыя мураваныя бастэі. З Пд, З і Пн меў дадатковую лінію абароны — земляны вал з невял. бастыёнамі і вадзяным ровам. З берагам замак злучаўся драўляным мостам на па́лях. Не збярогся. *М. А. Ткачоў.*

**МЯДЗЕЛЬСКІ СТАНІСЛАВАЎСКІ КАСЦЁЛ КАРМЕЛІТАЎ,** помнік архітэктуры позняга барока.



Мядзельскі Станіславаўскі касцёл кармелітаў.



Мясяцiцкая царква Параскевы Пятніцы.

Пабудаваны ў 1754 Антонам Кошчыцам на месцы Старога Мядзела. Кляштар зачынены ў 1840; касцёл у 1866 перароблены пад царкву, пры гэтым забелены размалёўкі. У 1920 вернуты католікам, зачынены пасля Вял. Айч. вайны, у 1989 зноў аддадзены вернікам. Мураваны храм мае цэнтрычную кампазіцыю. Ніжні кубічны аб'ём завершаны масіўным 8-гранным барабанам, накрытым пластычным гранёным купалам з 4 люкарнамі і ажурным ліхтаром у цэнтры. У аздобе фасадаў выкарыстаны прафіляваныя карнізы, раскрапоўкі, разарваныя франтоны, калоны, валюты, каваныя агароджы балкончыкаў. Вокны з паўцыркульнымі і лучковымі арачнымі завяршэннямі. Дэкаратыўнае афармленне інтэр'ера мае элементы ракако. Па ўсім перыметры сцен здвоеныя пілястры з капітэлямі, аб'яднаныя прафіляваным карнізам. Нішы для скульптур завершаны конхамі, упрыгожанымі ракавінамі. Сцены размаляваны фрэскамі (зберагліся фрагменты). Касцёл — рэдкі для Беларускага барока помнік цэнтрычнай кампазіцыі, не мае аналагаў сярод кармеліцкіх храмаў. Побач з касцёлам мураваная 2-павярховая плябанія і званіца. Плябанія — мураваная 2-павярховая пабудова, накрытая высокім 2-схільным дахам. Кампазіцыйнае вырашэнне будынка несіметрычнае. Паверхня сцен мае строгую і лаканічную архіт. апрацоўку. Фасады прарэзаны невял. прамавугольнымі вокнамі і крапаванымі лапаткамі. Тарцы будынка завершаны высокімі 3-вугольнымі франтонамі з невял. аконнымі праёмамі, 4 невял. ўнутраныя памяшканні дома злучаны паміж сабой анфіладна. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Ярашэвіч.*

**МЯСЯЦІЦКАЯ ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1794 у в. Мясяцічы (Пінскі р-н). Трохзрубная, з прамавугольнымі ў плане асн. зрубам і бабінцам і 5-граннай алтарнай апсідай. Асн. зруб накрыты шатровым дахам з галоўкай на глухім барабане, бабінец і апсіда — вальмавымі. Пры ўваходзе тамбур з 2-схільным дахам. Сцены гарызантальна ашаляваны. Вокны прамавугольныя. Унутры памяшканні маюць плоскую бэлечную столь (спачатку асн. зруб перакрываўся пірамідальным верхам). Над бабінцам — хоры. На Пд ад царквы 2-ярусная зрубна-каркасная званіца з шатровым дахам. Царква дзейнічае.

*Ю. А. Якімовіч.*

# Н

**НАВАГРУДАК,** горад, цэнтр раёна. За 162 км ад Гродна. Паводле археал. звестак заснаваны ў канцы 10 ст. Існуюць розныя меркаванні даследчыкаў адносна заснавання Н.: М. Дзмітрыеў лічыў годам заснавання 1116, найбольш верагодны — 1044, упершыню выказана рус. гісторыкам В. Тацішчавым у 18 ст. ў кнізе «Гісторыя Расійская» (т. 2, 1768), абгрунтавана М. Ермаловічам (у рабоце «Па слядах аднаго міфа»,

1989). У 12 ст. горад складаўся з дзядзінца (так званая Замкавая гара) і пасада — вакольнага горада (Малы замак). Кампазіцыйным цэнтрам быў дзядзінец і гандл. плошча з крамамі каля Замкавай гары, да якой сыходзіліся вуліцы-дарогі (гандл. шляхі). У 12—13 стагоддзях на тэр. вакольнага горада вылучаўся квартал з 2-камернымі жылымі дамамі багатых гараджан (пл. аднаго дома каля 75 м²), большасць з іх мела чарапічныя дахі, зашклёныя вокны, атынкаваныя сцены. Рэшткі падобнага будынка выяўлены ў пач. 1960-х гадоў пры археал. раскопках — так званы *Навагрудскі «дом баярына»*. Дамы чэлядзі былі пл. каля 30 м². Усе жылыя пабудовы



Руіны Навагрудскага замка на Замкавай гары. З малюнка Н. Орды. Сярэдзіна 19 ст.

былі наземныя і заглыбленыя, з рознага тыпу печамі. У 12 ст. пабудавана мураваная царква, у 13—16 стагоддзях мураваны замак (гл. *Навагрудскія замкі*). Стараж. назвы горада бел. Наваградак, польск. Навагрудэк (з канца 17 ст.), рус. Новогрудок (з канца 18 ст.), летапісны Новогород, Новгородок. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1044 (у Сафійскім і Наўгародскім IV летапісах). У 13—14 стагоддзях цэнтр удзельнага Навагрудскага княства. Паводле летапісных звестак 1250—60-х гадоў — цэнтр гіст. вобласці Новагародскай зямлі. Па сведчанні Іпацьеўскага летапісу пад 1235 новагародскім князем быў Ізяслаў; у 1257 часова — галіцкі князь Раман Данілавіч. З 2-й пал. 13 ст. Н.— ядро ўтварэння і сталіца Вял. кн. Літоўскага, рэзідэнцыя яго князёў Міндоўга (1246—54), Войшалка (1258—67), Шварна (1267—68), Трайдэна (1270—82), Лютувера (1282—93), Віценя (1293—1316), магчыма і Гедыміна (1316—23) і намеснікаў Карыята Міхаіла Гедымінавіча і яго сына Фёдара (з 1341), Карыбута Дзмітрыя Альгердавіча (з канца 14 ст.). У 1430—48 пажыццёвае ўладанне жонкі Вітаўта Ульяны. Пасля 1394 адзін з цэнтраў велікакняжацкага дамена. З 1416 рэзідэнцыя праваслаўнага мітрапаліта Вял. кн. Літоўскага (у 1568 было 10 праваслаўных цэркваў, пабудаваных па фундацыі кн. Астрожскіх, Храптовічаў і інш., у т. л. *Навагрудская Барысаглебская царква*), пасля Брэсцкай уніі 1596 рэзідэнцыя уніяцкіх мітрапалітаў Рэчы Паспалітай. У канцы 14 — пач. 15 ст. Вітаўт пасяліў у Н. татар, якія пабудавалі мячэць (не захавалася). У 1507 цэнтр павета і ваяводства. У 1511 атрымаў магдэбургскае права і герб, пацверджаны ў 1595 (на чырвоным полі выява архангела Міхаіла, у адной руцэ трымае меч, у другой — вагі). У 1314 пасад быў спалены крыжакамі (нападалі на горад і ў 1321, 1341, 1391 і 1394), у 1503—06 спустошаны татарамі (нападалі на горад і ў 1255, 1274 і 1278). У руска-польскую вайну 1654—67 большая частка горада згарэла (у 1654—60 захоплены рус. войскамі, спустошаны). У 1706 у час Паўночнай вайны 1700—21 шведскія войскі штурмам авалодалі і разбурылі замак (не адбудаваны). У 1660-я гады на гандл. плошчы пабудаваны *Навагрудская ратуша*. У 18 ст. узведзены *Навагрудскі фарны касцёл, Навагрудскі Міхайлаўскі касцёл дамініканцаў, Навагрудскі касцёл і кляштар францысканцаў*. Пажар 8.5.1751 спустошыў горад, згарэлі 167 дамоў, ратуша, крамы, канцылярыя ваяводы і 4 касцёлы; пацярпеў Н. ад пажару і ў 1871. У канцы 18 ст. ў Н. каля 2,4 тыс. жыхароў, больш за 390 дамоў. З 1796 у складзе Расіі, цэнтр павета Слонімскай, з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай, з 1842 Мінскай губерняў. У 1845 зацверджаны новы герб: на верхняй частцы падзеленага напалам шчыта губернскі герб, на ніжняй — ранейшы. У пач. 19 ст. на гандл. плошчы пабудаваны *Навагрудскія гандлёвыя рады*. У 1809 і 1872 складзены праекты планіроўкі горада (ажыццёўлены часткова). Планіровачная структура — няправільная радыяльная са складанай канфігурацыяй вуліц з-за асаблівасцей рэльефу (размешчаны на Навагрудскім узвышшы). Да гандл. плошчы сыходзіліся 8 вуліц, у т. л. Бернардзінская (цяпер Гродзенская), Базыльянская (Паштовая), Троіцкая (Мінская), Слонімская (Міцкевіча), Валеўская (Леніна), Замкавая і інш. У 1825 было каля 3,7 тыс. жыхароў, 15 мураваных і 399 драўляных дамоў; у 1854 23 мураваных і 415 драўляных дамоў, 91 крама; у 1900 — 7,9 тыс. жыхароў. У пач. 20 ст. ў Н. 2 праваслаўныя (адна — Барысаглебская) царквы, сінагога, 6 яўр. малітоўных дамоў, мячэць. Меліся помнікі: рэшткі ўмацаванняў на высокай гары і гара, вядомая як магіла Міндоўга, з помнікам загінуўшым у бітве пад Хоцінам. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр павета і ваяводства. У 1930-я г. ўзведзены з цэглы будынак ваяводскага ўпраўлення (цяпер па вул. Міцкевіча). З 1939 у БССР, з снеж. 1939 у складзе Баранавіцкай вобл., 13,8 тыс. жыхароў. З 1940 цэнтр раёна. З 1954 цэнтр раёна Гродзенскай вобл., з 7.3.1963 горад абл. падпарадкавання.

Сучасны Н. размешчаны на ўзгорыстым рэльефе, з Пн і Пд да горада падыходзяць ручаі Брацянка і Валоўка. У цэнтр. ч. захавалася гіст. радыяльна-кальцавая планіроўка. Развіваецца горад паводле генплана 1964 (Белдзяржпраект), 1972 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Г. Марцішонак) і іх карэкціровак 1978 і 1985 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. С. Смірнова, В. Кашырын, Марцішонак, М. Шумячэр, Л. Герус), паводле праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Смірнова). Прадугледжана захаванне планіровачнай структуры гіст. цэнтра (з помнікамі архітэктуры, гісторыі і культуры), стварэнне ахоўных зон і зон рэгулявання забудовы, раскрыццё агульнагар. цэнтра на прыроднае асяроддзе.



**Навагрудак.** Забудова Цэнтральнай плошчы. 19 — пачатак 20 ст.



**Навагрудак.** Плошча Леніна.

Арх.-планіровачны цэнтр — пл. Леніна (б. гандлёвая плошча з мемарыяльным скверам, музеем-сядзібай А. Міцкевіча). На плошчы і вакол яе зберагліся помнікі культавай, грамадзянскай архітэктуры (гл. *Навагрудскія жылыя дымы* на пл. Леніна, Замкавай і Паштовай вуліцах). Адм. цэнтр склаўся па вул. Міцкевіча. Капітальная забудова сканцэнтравана ў цэнтр. ч. горада, у раёне вуліц Міцкевіча, Савецкай і Леніна, мікрараёне Раднікі. Новае будаўніцтва ажыццяўляецца ў мікрараёнах Паўднёвы захад, Паўднёвы захад-2, па вуліцах Гродзенскай (зах. ч.) і Мінскай. На ўскраінах пераважае індывід. забудова сядзібнага тыпу — па вул. Касманаўтаў, у мікраёне «Мітраполь» і новым раёне «Кубарка» (паўд.-ўсх. ч.). Прамысл. зона ў паўд.-зах. і паўн.-ўсх. частках горада. Зона адпачынку ў Навагрудскім парку (рэгулярна-пейзажны, створаны ў 1930-я г. каля замкаў, перад уваходам — штучны курган Бессмяротнасці, насыпаны на ўшанаванне памяці А. Міцкевіча), 2 скверах, прылеглых лясных масівах, а таксама на берагах воз.



**Навагрудская Барысаглебская царква. З малюнка 19 ст.**

Літоўка (за 5 км на ПнЗ). На паўд.-зах. ускраіне, ва ўрочышчы Батароўка выяўлены курганны могільнік 12—13 ст. славяна-балцкага насельніцтва. Прадугледжана вылучэнне ахоўных гіст. зон, пашырэнне прамысл. зоны, азеляненне гар. тэрыторыі, стварэнне спарт. цэнтра ў паўн. частцы. Праект рэгенерацыі гіст. забудовы Н. 1988 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Смірнова, Шумячэр і інш.) уключае тэрыторыю гіст. ядра, дзе асноўнай з'яўляецца зона гал. гар. плошчы — пл. Леніна і Замкавай гары. Архіт.-планіровачнае, аб'ёмна-прасторавае вырашэнне скіравана на ўзмацненне якасці гіст. забудовы, гарманічнае яе ўзаемадзеянне з новай забудовай, на стварэнне ўмоў для фарміравання горада як цэнтра турызму.

*А. П. Грыцкевіч, С. Ф. Самбук.*

**НАВАГРУДСКАЯ БАРЫСАГЛЕБСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры 12—17 стагоддзяў. Даследавана П. Рапапортам і М. Каргерам (1961—62, 1965), А. Кушнярэвічам (1987), А. Трусавым (1988). Спачатку на гэтым месцы ў 1-й пал. 12 ст. быў узведзены храм, сцены якога былі складзены з вапняковых туфавых блокаў і нязначнымі ўстаўкамі плінфы. Вакол храма крыху пазней была ўзведзена галерэя, зробленая з плінфы ў тэхніцы муроўкі «са схаваным радам», што характэрна для полацкага дойлідства 12 ст. Храм быў распісаны фрэскамі, меў прыгожую маёлікавую падлогу з разнастайных паліваных керамічных плітак, квадратных, прамавугольных і 3-вугольных. Падчас узвядзення яго былі выкарыстаны галаснікі. У 14 ст. пры храме існаваў мужчынскі праваслаўны манастыр; з 1624 — жаночы, з 1628 — мужчынскі манастыр базыльян; з 1839 праваслаўная царква. У пач. 16 ст. і асабліва ў 1-й чвэрці 17 ст. храм быў цалкам перабудаваны. Знікла галерэя, значна павялічыліся яго памеры. Узведзены 3-нефавы зальны будынак з 5-граннай апсідай, зорчатымі скляпеннямі ў стылі позняй готыкі. Фасады падзелены шматлікімі радамі тонкіх вертыкальных калон-лапатак, якія ў верхняй частцы пераходзяць у пояс са спічастых арак. Вуглы будынка ўзмоцнены 6-граннымі контрфорсамі. Падлога з тоўстых квадратных і фігурных паліваных і непаліваных плітак (таўшчыня 4—5 см). У 17 ст. храм быў пакрыты паліванай зялёнай і светла-карычневай дахоўкай. Апошні рамонт яго зроблены ў канцы 19 ст. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Трусаў.*

**НАВАГРУДСКАЯ ЗАМКАВАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў Навагрудку на тэр. дзядзінца (гл. ў арт. *Навагрудскія замкі*) у 14—16 стагоддзях. Вядома як царква св. Багародзіцы. Падмурак, рэшткі сцен і падкупальных слупоў выяўлены ў час раскопак 1924. У 1970-я гады дэталёва вывучана ленінградскай даследчыцай М. Малеўскай. Храм быў узведзены ў 1-й пал. 14 ст. Першапачаткова бясстоўпны. Памеры 12,2×13 м (у плане — амаль квадрат). З усх. бакоў царква мела невял. закругле-



**Навагрудская Барысаглебская царква.**

ную апсіду, з заходняга — прытвор. Падмуркі выш. 2 м узведзены з валуноў на вапнава-пясчаным растворы. Сцены таўшчынёй да 1,2 м зроблены з буйнапамернай цэглы памерам 27—28×12—13×7—8 см, якая мае гладкую і пакрытую баразнамі паверхню. Рэшткі сцен усх. часткі храма пабудаваны ў вендскай, зах. сцяна і прытвор — у гатычнай тэхніках мuроўкі. Вуглы прытвора і выступы, якія адпавядаюць паўн. і паўд. фасадам царквы, змураваны з блокаў жоўта-зялёнага туфу. Па перыметры храма ў сцены былі закладзены драўляныя брусы. У сярэдзіне — 2-й пал. 14 ст. праведзена рэканструкцыя: з цэглы ўзведзены 4 крыжападобныя ў плане стаўпы (29—30×14—15×7—8 см), на якія, верагодна, апіраўся барабан з купалам. Пад падлогай былі 2 склепы, куды вялі мураваныя прыступкі. Зроблены паўн.-ўсх. прытвор і набрана новая цагляная падлога. Бакавыя нефы і апсіда перакрыты, верагодна, скляпеннямі на нервюрах. У такім выглядзе помнік уяўляў сабой сінтэз усходнеславянскага дойлідства з раманскім і гатычным стылямі. У 2-й пал. 17 ст. царква перабудавана пад касцёл у стылі барока. Аб'ём падоўжаны на З, павялічана апсіда (новая даўж. будынка складала 34 м). Над паўд. сцяной пабудавана вежа складанай канфігурацыі, фасады дэкарыраваны фігурнымі атынкаванымі карнізамі, цягамі, нішамі і інш. Да 1775 у будынку касцёла адбываліся сесіі Трыбунала — вышэйшага велікакняжацкага апеляцыйнага суда. Храм існаваў да 1850.

*А. М. Кушнярэвіч, М. А. Ткачоў.*

**НАВАГРУДСКАЯ РАТУША.** Ратуша ў Навагрудку ўпершыню ўпамінаецца ў сеймавай канстытуцыі 1652. Мяркуюць, што ў 1664 пад ратушу была прыстасавана камяніца, якая стаяла на рынку. Значна перабудаваная, яна праіснавала да канца 1870-х гадоў. Пашкоджана падчас пажару 1751, адноўлена: на вуглу ратушы (выходзіла на Рыначную пл. і вул. Яўрэйскую, цяпер Савецкая) прыбудавана 2-ярусная вежа, завершаная купалам і флюгерам з выявай архангела Міхаіла (лічыўся абаронцам горада). У 1818 ратуша была значна рэканструявана: зменены агульная планіроўка, аконныя і дзвярныя праёмы, на ўзроўні 2-га паверха гал. фасада, арыентаванага на плошчу, зроблена галерэя (апіралася на 4 калоны). Ратуша набыла рысы класіцызму: рустоўка па вуглах будынка і на гранях вежы 1-га паверха, нішы на 2-м паверсе. У такім выглядзе ратуша існавала да пажару 1862, калі была моцна пашкоджана і больш не аднаўлялася. Каля 1900 (магчыма, былі выкарыстаны фундаменты і фрагменты сцен старой ратушы) узведзены новы будынак, вядомы па фотадакументах і рукапісных сведчаннях 1-й пал. 20 ст. як гарадскі магістрат. У час Айч. вайны будынак быў разбураны. Зараз на месцы б. ратушы пабудаваны універмаг.

**НАВАГРУДСКІ «ДОМ БАЯРЫНА».** Існаваў у 12 ст. на тэр. вакольнага горада. Пабудаваны з дрэва і цэглы. Прамавугольны ў плане будынак (пл. каля 76 м²) унутры падзяляўся сцяной на 2 памяшканні, меў зашклёныя вокны. У цэнтры стаяў слуп, які трымаў перакрыцце. У паўн.-ўсх. куце была глінабітная печ. Рэшткі будынка выяўлены ў 1960-я гады пры археал. раскопках. Драўляныя сцены знутры былі абчасаны, атынкаваны і аздоблены фрэскамі. Знойдзены фрагменты фрэсак: на белым і бледна-зялёным фоне геаметрычны і раслінны арнамент чырвонага і чорнага колераў, выява мужчынскай галавы ў профіль у княжацкай шапцы (на бела-жоўтым фоне ў чырвона-карычневых танах), а таксама фрагменты фрэсак з стараж. надпісамі графіці.



**Навагрудская ратуша.** Рэканструкцыя.

**НАВАГРУДСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры позняга барока. К а с ц ё л узведзены ў 1780, у 1846 перабудаваны ў псеўдавізантыйскім стылі ў Мікалаеўскую царкву. Касцёл — 3-нефавая мураваная базіліка з 5-граннай алтарнай апсідай. Гал. фасад падзелены развітым антаблементам на 3 ярусы. Сцены цэнтр. нефа расчлянёны пілястрамі, на гал. фасадзе яны спараныя абапал высокага паўцыркульнага акна 2-га яруса і гал. ўвахода на 1-м ярусе, па абодва бакі якіх тут размешчаны неглыбокія нішы. Бакавыя фасады прарэзаны высокімі аконнымі праёмамі, размешчанымі на 2 узроўнях. 3-і ярус — невысокая вежа-званіца з купалком на 8-гранным барабане. Вокны гал. фасада (з паўцыркульным і арачным завяршэннем) зашклёныя вітражамі. У тоўшчы сцяны гал. фасада 2 вітыя лесвіцы, якія вядуць на званіцу. Бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі, цэнтральны — цыліндрычнымі з распалубкамі. На Пн ад касцёла асобна стаіць 2-павярховы Г-падобны ў плане мураваны корпус к л я ш т а р а. Будынак вырашаны ў лаканічных формах: гал. фасад (з увахадам у цэнтры) рытмічна прарэзаны прамавугольнымі вокнамі. На паўд. тарцовым фасадзе вонкавая мураваная лесвіца, агароджаная падпорнай сцяной і ўмацаваная масіўным контрфорсам. Планіроўка калідорная. Перакрыты ў асноўным крыжовымі скляпеннямі. Будынак выкарыстоўваецца як жылы дом. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская, А. А. Ярашэвіч.*



**Навагрудскі касцёл і кляштар францысканцаў.** Галоўны фасад касцёла.

**НАВАГРУДСКІ МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ ДАМІНІКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры барока. Заснаваны ў 1624 віленскім ваяводай Хрыстафорам Хадкевічам. Каля 1724 на яго месцы дамініканцы пабудавалі мураваны касцёл (у аб'ём усх. нефа ўключана частка ранейшай пабудовы, захаваны дэкор інтэр'ера). Пашкоджаны ў час пажараў 1751 і 1831. У 1829 побач з касцёлам пабудавана 2-ярусная мураваная зва-



**Навагрудскі Міхайлаўскі касцёл дамініканцаў.**



**Навагрудскі фарны касцёл.**

ніца (не захавалася). Існавалі таксама П-падобны ў плане будынак кляштара і гасп. пабудовы. У 1751—1831 пры кляштары дзейнічала дамініканская школа. Комплекс быў абнесены мураванай агароджай. У 1853 кляштар закрыты. Касцёл быў адрамантаваны і стаў прыходскім; у 1850-я гады значна перабудаваны. Касцёл — 3-нефавая базіліка з плоскім гал. фасадам, вузкім нартэксам і паўцыркульнай алтарнай апсідай, да якой з паўн. боку далучана сакрысція. Гал. фасад падзелены развітым карнізам на 2 ярусы і завершаны 3-вугольным франтонам з вежачкай над ім. Тарцы дахаў бакавых нефаў закрытыя ступеньчатымі атыкамі. Сцены аздоблены пілястрамі. Вокны з лучковымі і арачнымі завяршэннямі. У інтэр'еры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках, упрыгожаны ляпным геаметрычным арнаментам, бакавыя нефы маюць крыжовыя скляпенні. Пасля Айч. вайны касцёл быў закрыты, выкарыстоўваўся як мэблевы склад. Зараз знаходзіцца на рэстаўрацыі. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*Т. В. Габрусь, С. П. Адамовіч.*

**НАВАГРУДСКІ ФАРНЫ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры барока. Засн. ў 1395 пры кн. Вітаўце. Першы гатычны касцёл праіснаваў да 1712. На яго месцы ўзведзены новы мураваны, асвячоны ў 1723 віленскім біскупам Мацеем Анцатам. Храм 1-нефавы, з 2-вежавым гал. фасадам і паўкруглай алтарнай апсідай, да якой з паўн. боку прылягае сакрысція. У кампазіцыю будынка ўключаны 2 стараж. гранёныя капліцы ранейшага касцёла. Каб зрабіць іх непрыкметнымі з боку ўвахода, сцяна гал. фасада і вежы ссунуты адносна падоўжанай восі будынка, што надае яму замаскіраваную асіметрычную кампазіцыю. Сцены па перыметры завершаны адзінай цягай карніза, якая падзяляе гал. фасад на высокую ніжнюю частку і 3-вугольны атыкавы франтон паміж чацверыковымі вежамі, накрытымі пакатымі шатрамі. Аконныя праёмы і нішы маюць паўцыркульныя арачныя завяршэнні. Інтэр'ер перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. Над уваходам размешчаны фігурныя ў плане хоры. У капліцах захаваліся гатычныя зорчатыя нервюрныя скляпенні, вітражы. У капліцы Божага цела ў паўн. сцяне ўмуравана мемарыяльная пліта (чорны мармур, пясчанік, 275×150 см), заказаная ў 1643 кашталянам Янам Рудамінам у памяць аб браце і суседзях, якія загінулі ў баі з туркамі пад Хоцінам у 1621. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*

**НАВАГРУДСКІЯ ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1812 у цэнтры Навагрудка на гандл. плошчы (сучасная вул. Мінская, 3). Выцягнуты прамавугольны ў плане мураваны будынак накрыты 2-схільным дахам з 3-вугольнымі франтонамі на тарцах і ў цэнтры падоўжаных фасадаў. Гал. фасад расчлянёны прамавугольнымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі. Вакол будынка абходная галерэя, утвораная дарычнай каланадай. Рэстаўрыраваны ў 1953 (зменена планіроўка, гал. фасад абліцаваны керамічнай пліткай). Выкарыстоўваецца пад гандл. прадпрыемствы. Помнік рэспубліканскага значэння.



**Навагрудскія гандлёвыя рады.** Гандлёвая плошча. Фота 1930-х гадоў.



**Навагрудскія гандлёвыя рады.** Фрагмент.

**НАВАГРУДСКІЯ ЖЫЛЫЯ ДАМЫ,** помнікі архітэктуры 19—пач. 20 ст. Вылучаецца жылая забудова вул. Замкавай і Гандлёвай пл. (сучасная пл. Леніна). У 2-й пал. 19 ст. на в у л. З а м к а в а й былі ўзведзены дамы № 3, 7, 9, 13, 15, якія ўтвараюць своеасаблівы архіт. ансамбль з рысамі позняга класіцызму. Дом № 3 — 2-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак накрыты вальмавым дахам. Сцены гладкія, прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі (з абрамленнямі на 2-м паверсе). З-за рознасці ўзроўняў рэльефу будынак у тарцовай частцы мае цокальны паверх, умацаваны масіўнымі вуглавымі контрфорсамі. Цяпер у будынку размешчана адм. ўстанова. Дамы № 7 і 9 — мураваныя будынкі з агульнай унутранай сцяной. Дом № 7 2-павярховы, калідорнага тыпу (частка памяшканняў на 1-м паверсе адведзена пад гандл. ўстанову). Дом № 9 1-павярховы, планіроўка анфіладная. Выкарыстоўваецца пад жыллё. Абодва будынкі маюць прамавугольныя вокны, прафіляваныя сандрыкі над вокнамі, вуглы раскрапаваны пілястрамі. Дамы № 13 і 15 — мураваныя, 1-павярховыя, прамавугольныя ў плане, злучаны паміж сабой. Гал. тарцовыя фасады выходзяць на вул. Замкавую, завершаны 3-вугольнымі франтонамі. Аконныя праёмы дома № 13 дэкарыраваны сандрыкамі. У жылой забудове п л. Л е н і н а праявіліся мясцовыя асаблівасці архітэктуры барока і класіцызму. Дом № 4 — мураваны 1-павярховы будынак з мансардай. Складаецца з 2 частак: паўднёвай, пабудаванай у 1-й пал. 19 ст. (у плане квадрат), і паўночнай, прыбудаванай у канцы 19 ст. (у плане выцягнуты прамавугольнік). Гал. фасад (паўднёвы,

выходзіць на вул. Гродзенскую) завершаны 3-вугольным шчытом. Просты прафіляваны карніз абрамляе франтон, у цэнтры якога 2 невял. аконныя праёмы, над імі — дахавае акно, злева — круглы праём. Дом № 5 — мураваны 1-павярховы будынак з мансардай. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. фасад мае плоскаснае вырашэнне і завершаны 3-вугольным шчытом з 2 прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах, . над імі — дахавае акно з 3-вугольным завяршэннем. Дом № 9 — мураваны 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з мансардай. Пабудаваны ў 1-й пал. 19 ст. Капітальнай сцяной падзелены на 2 часткі — жылую і гандлёвую. У дэкар. аздобе франтона выкарыстаны элементы стылю барока. Цэнтр. аконны праём франтона з накладнымі ляпнымі дэталямі: 2 плоскія пілястры аб'яднаны гірляндай у выглядзе стылізаванай кветкі. Гістарычная забудова вул. Замкавай і пл. Леніна — помнік рэспубліканскага значэння. *Т. І. Чарняўская.*

**НАВАГРУДСКІЯ ЗАМКІ,** помнікі абарончага дойлідства 11—16 стагоддзяў. Узведзены ў стараж. цэнтры Навагрудка як велікакняжацкая рэзідэнцыя. Існавалі т. зв. замак на дзядзінцы і Малы замак. З а м а к н а д з я д з і н ц ы заложаны на месцы гарадзішча на высокім (20 м) часткова насыпным узгорку (так званай Замкавай гары), абкружаным ровам. Першыя ўмацаванні ў выглядзе кругавога абарончага вала з драўлянымі сценамі-гароднямі і астрогам узніклі ў 11 ст. У сярэдзіне 13 ст. з буйных камянёў на вапне пабудавана квадратная ў плане (12×12 м) 5-ярусная вежа-брама з падмуркам выш. 3,5 м, які мае 30-сантыметровы цокаль, і сценамі таўшчынёй 2,75 м. Падчас аднаго з крыжацкіх нападаў (верагодна, 1394) вежа была моцна пашкоджана, асабліва яе верхнія ярусы. У канцы 14 ст. адноўлена, змуравана з цэглы, рэшткі папярэдняй выкарыстаны як падмурак. Вежа ўвайшла ў гісторыю пад назвамі Шчытоўка, Шчытовая ці Цэнтральная. Мела меншыя памеры (11,4× ×11,4 м), эркер на тарцовым баку, формай нагадвала прызму. Вышыня каля 25 м, таўшчыня сцен на ўзроўні 1-га паверха 2,75 м, 2-га — 2,6 м. Была накрыта 4-схільным дахам. Сцены прарэзаны спічастымі байніцамі, на ніжнім паверсе — брамнымі праёмамі. Зберaглася часткова. У канцы 14 — пач. 15 ст. на тэрыторыі замка ўзведзены яшчэ тры 3-ярусныя цагляныя вежы, якія мелі па 4 байніцы на кожным паверсе: Касцельная (9×9 м), Малая вежа-брама (8×10 м), Пасадская



**Навагрудскія замкі.** Руіны замка на Замкавай гары.

(7,7×7,7 м). У Малой браме быў дзвярны праём выш. 3 м і шыр. 1,6 м. Вежы злучаліся мураванымі сценамі таўшчынёй 2,6 м. Для надзейнага забеспячэння замка вадой на ўсх. схіле над крыніцай была пастаўлена вынасная Калодзежная вежа (8× ×8 м). Праслам сцяны яна звязвалася з верхнімі сценамі замка. Вежа мела патайны ўваход у замак і спецыяльны праход да вады. Будаўніцтва вежаў скончылася да 1410. У такім выглядзе замак паспяхова процістаяў шматлікім крыжацкім нападам. Далейшае ўмацаванне замка адбылося ў канцы 15 — пач. 16 ст. ў сувязі з нападамі крымскіх татар. У паўн.-зах. частцы замка была пабудавана вежа Дазорца (14×14 м), 4-метровы падмурак якой меў форму ганка. Новае прасла сцяны звязвала яе са Шчытоўкай. На паўд.-ўсх. схіле гары была дадаткова ўзведзена Меская вежа-брама, злучаная праслaмі сцен з Калодзежнай вежай і Малой брамай. Утварыліся 2 шматвугольныя прылеглыя мураваныя паясы абароны, адзін з якіх быў на дзядзінцы, другі — на схіле ўзгорка, перад уваходам у замак з боку горада. Усе вежы былі збудаваны з буйнапамернай цэглы з забутоўкай дробным каменнем, падмуркі — з каменю. На замкавым двары стаялі жылыя і гасп. пабудовы. У 1505 і 1506 татары двойчы асаджвалі замак, але ўзяць яго не змаглі. У канцы 16 — пач. 17 ст. пабудаваны палац, да якога прылягала капэла (канец 17 ст.). У 1706 замак узарваны шведамі. М а л ы з а м а к у 11 ст.— комплекс умацаванняў, які складаўся з землянога вала і драўляных абарончых канструкцый. У канцы 13 — пач. 14 ст. з захаду над уездам была надбудавана мураваная вежа (10,9×12,3 м, таўшчыня сцен 2,6 м). У канцы 15 — пач. 16 ст. вежа перабудавана ў 8-гранную. Абодва замкі ў 13 ст. былі дадаткова ўмацаваны магутным земляным валам і ровам, якія размяшчаліся каля падножжа гары з паўн. і паўн.-зах. бакоў. Да 1828 ад Замка на дзядзінцы часткова ўцалелі 2 вежы: Шчытоўка і Касцельная. На Малым замку рэшткі мураванай вежы былі прыстасаваныя пад вятрак. Рэшткі замкаў — помнік рэспубліканскага значэння. На тэр. дзядзінца знаходзілася *Навагрудская замкавая царква.* Іл. гл. таксама ў нарысе, у арт. *Навагрудак.* *М. А. Ткачоў.*

**НАВАМЫШСКІ ПРААБРАЖЭНСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1825 з цэглы ў в. Новая Мыш (Баранавіцкі р-н). Вырашаны адзіным прамавугольным у плане аб'ёмам, накрытым 2-схільным дахам з вальмамі над 3-граннай апсідай. Гал. фасад — познекласіцыстычны порцік з 4 парамі калон і высокім 3-вугольным франтонам. Стральчатыя вокны з простымі ліштвамі, як і контрфорсы, якія ўмацоўваюць прасценкі бакавых фасадаў,— вынік уплыву неаготыкі. Вільчык даху на гал. фасадзе завершаны шатровым ліхтарыкам.

Шырокі неф касцёла, дзе вылучаны самастойныя аб'ёмы 2-ярусных сакрысцій, перакрыты лучковым драўляным скляпеннем. На хорах, якія апіраюцца на 2 калоны пры ўваходзе, за філянговай разной балюстрадай стаіць дэкарыраваны ў стылі ракако арган (1762). У канцы 19 — пач. 20 ст. ў касцёле ўстаноўлены 3 драўляныя разныя алтары і амбон. Алтары выкананы ў 17 ст. (перабудаваны і ўпрыгожаны скульптурамі ў 18—19 стагоддзях), амбон — у 1745 (усе перанесены з касцёла бенедыкцінак у Нясвіжы). Гал. алтар — 2-ярусны, на высокім цокалі, абапал якога на кранштэйнах устаноўлены скульптуры св. Станіслава і Маці Боскай з дзіцем. 4 калоны 1-га яруса (абапал алтарнай карціны «Праабражэнне» і драўляных скульптур) нясуць раскрапаваны прафіляваны антаблемент з накладной разьбой. Другі ярус з карцінай «Святая сям'я» фланкіраваны 2 скульптурамі анёлаў у дынамічных паставах. Вянчае алтар група пуцці. Бакавыя алтары па кампазіцыі аналагічныя цэнтральнаму, але меншыя памерамі. Матывы разьбы: вінаградная лаза з гронкамі, разеткі, ракавіны, пальметы, акант, пуцці. Амбон у стылі ракако, дэкарыраваны скульптурамі 4 евангелістаў — Лукаша, Марка, Матэвуша, Іаана, якія лунаюць у экспрэсіўных ракурсах, херувімамі, маскаронамі, паляўнічымі атрыбутамі, а таксама картушамі і ракайльнымі медальёнамі з жывапісам. Вянчае амбон скульпт. група анёлаў у палёце. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін, Г. М. Ярмоленка.*



**Навамышскі Праабражэнскі касцёл.**

**НАВАПОЛАЦК,** горад у Віцебскай вобл. На левым беразе Зах. Дзвіны, за 12 км на ПнЗ ад Полацка, 122 км ад Віцебска. Узнік у 1958 у сувязі з буд-вам Полацкага нафтаперапрацоўчага з-да. З 1959 рабочы пас. Полацкі, з 1963 горад абл. падпарадкавання, наз. Н. 40,1 тыс. жыхароў у 1970, 75,8 тыс.— у 1983, 97,5 тыс.— у 1990. Буйны прамысл. і культ. цэнтр. Генпланы Н. распрацаваны ў 1958 (Віцебскі філіял ін-та «Белдзяржпраект», арх. Л. Дварэц, В. Чарнышоў), 1964 (Віцебскі аблпраект; арх. В. Данілаў, А. Данілава, Л. Яніна, З. Даўгяла) і 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. Г. Булдаў, М. Трыгубовіч, інж. Л. Каўчынскі, М. Карповіч). Архіт.-планіровачная структура горада — лінейная. Уздоўж Зах. Дзвіны — паркавая, жылая і адмежаваная транспартнай магістраллю камунальная зоны. Прамысл. зона размешчана за 4,5 км на ПдЗ ад горада, аддзелена ад яго лясным масівам. Жылая зона выцягнута з З на У, уключае 8 мікрараёнаў. Асн. падоўжныя магістралі — вуліцы Маладзёжная (галоўная, звязвае асобныя жылыя комплексы), Блахіна, Паркавая, папярочныя — Ктатарава, Калініна, Дружбы. Вуліцы Кірава і Юбілейная абмяжоўваюць пл. Будаўнікоў — адм.-грамадскі і культ. цэнтр. Пераважае 9-павярховая жылая забудова. У 1970—80-я гады ўзведзены шэраг грамадскіх будынкаў. Па індывідуальных праектах пабудаваны аўтастанцыя, комплекс інтэрнатаў з блокам абслугоўвання і школа рабочай моладзі, сярэдняя школа са спарт. ухілам (з плавальным басейнам), магазін «Кветкі», сем 12-павярховых інтэрнатаў, маладзёжны цэнтр «Мінск». Па тыпавых і паўторных праектах пабудаваны Палац піянераў і школьнікаў, муз. школа, сярэднія школы, новы комплекс бальніцы і інш. Завершана фарміраванне ансамбля гал. ўезда ў горад (з боку моста цераз Зах. Дзвіну). Стварэнне рознапавярховых кампазіцый, буд-ва дамоў разнастайнай канфігурацыі, рытмічнае размяшчэнне іх на штучным рэльефе, архіт.-мастацкае афармленне фасадаў фарміруюць непаўторны сілуэт забудовы горада. Вял. ролю ў стварэнні індывідуальнага аблічча Н. адыгрываюць зялёныя насаджэнні. Пры буд-ве горада захавана значная частка лясных масіваў, якія зараз з'яўляюцца месцамі адпачынку з добраўпарадкаванымі дзіцячымі і спарт. пляцоўкамі, малымі архіт. формамі. У маст. афармленні горада шырока выкарыстоўваецца мазаіка, размалёўка, вітражы, чаканка, дэкар. драўляная скульптура. Прадугледжваецца буд-ва новага грамадскага цэнтра, забудова правага берага Зах. Дзвіны і зліццё з Полацкам. Зона адпачынку — уздоўж Зах. Дзвіны і ў лясным масіве на ПнУ ад горада. Планіроўка і забудова Н. адзначаны Дзярж. прэміяй БССР 1984 (арх. Ю. В. Шпіт, А. Ц. Караткоў, В. П. Чарнышоў, М. М. Шляймовіч). Іл. гл. таксама ў нарысе.



**Наваполацк.** Гандлёвы цэнтр па вуліцы Маладзёжнай.

**НАВАСВЕРЖАНСКАЯ УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры ранняга барока. Засн. ў 1590 у в. Новы Свержань (Стаўбцоўскі р-н), у пач. 17 ст. перабудавана як уніяцкая. Уяўляе сабой мураваны 1-нефавы 1-вежавы храм (у плане — выцягнуты прамавугольнік)

з прамавугольнай алтарнай апсідай і 2 нізкімі прыбудовамі (рызніцамі) па баках. Над вузкім прамавугольным бабінцам узвышаецца масіўны чацвярык вежы, накрыты гранёным купалам і аздоблены вертыкальна выцягнутымі плоскімі паўцыркульнымі нішамі, якія імітуюць вокны. Вянчае вежу фігурная барочная галоўка. Сцены царквы ў верхняй частцы расчлянёны паўцыркульнымі вокнамі з раструбамі ў абодва бакі. Адзіны дэкар. элемент фасада — партал бакавога зах. ўвахода. Інтэр'ер зальнага тыпу. У паўн. частцы асн. аб'ёму вылучаны бабінец з 2 бакавымі ўваходамі. Хоры падтрымліваюцца 2 драўлянымі калонкамі. Перакрыцце бэлечнае з плоскай падшыўной столлю. Уваход з паўн. боку. Алтарная частка перабудавана ў 19 ст. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *У. В. Трацэўскі.*

**НАВАСВЕРЖАНСКІ ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры рэнесансу. Закладзены ў 1588 у в. Новы Свержань (Стаўбцоўскі р-н) на базарнай плошчы. Мураваны прамавугольны ў плане аднавежавы храм са слаба акрэсленым трансептам, масіўнай абарончай вежай над уваходам і невысокай паўкруглай алтарнай апсідай, якая ўнутры мае складаны абрыс; скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі. З паўн. боку асн. аб'ёму пазней (праз 30—40 гадоў) прыбудавана 3-ярусная квадратная ў плане вежа, накрытая 4-гранным шатром з кароткім шпілем. Ніжняя частка ўмацавана контрфорсамі, верхнія ярусы аздоблены плоскімі арачнымі нішамі, у 2-м ярусе фланкіраванымі аркадай з пілястрамі. У цэнтр. нішах кожнай грані прарэзаны паўцыркульныя праёмы. Вокны паўцыркульныя. Інтэр'ер зальнага тыпу. У ніжнім ярусе вежы вылучаны бабінец з размешчанымі над ім хорамі, якія адкрываюцца ў асн. памяшканне невял. арачным праёмам. Лесвіца на хоры — у тоўшчы зах. сцяны. Скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі. У бабінцы скляпенне апрацавана дэкар. нервюрамі. Першапачаткова (да 1818) вонкавыя сцены касцёла былі неатынкаваныя. Перабудовы ў 2-й чвэрці 19 ст. некалькі змянілі маст. аблічча будынка. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *У. В. Трацэўскі.*

**НАРАЎЛЯНСКІ СЯДЗІБНА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ,** помнік палацава-паркавай архітэктуры класіцызму. Створаны ў 2-й пал. 18 ст. ў Нароўлі на правым высокім беразе Прыпяці. Уключае палац, парк з малымі архіт. формамі, вытв. пабудовы. Палац (1865) — 2-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак з высокім цокалем. 1-ы паверх апрацаваны буйным рустам, 2-і раскрапаваны лапаткамі. У цэнтры падоўжаных фасадаў плоскія рызаліты з порцікамі (не зберагліся). Перад імі тэрасы з шырокімі лесвіцамі і пандусамі. Абапал гал. фасада плоскія рызаліты, абапал дваровага — 3-гранныя эркеры. На тарцах будынка больш глыбокія рызаліты з уваходамі. Планіроўка калідорная з вестыбюлем і квадратнай залай у цэнтры. У афармленні інтэр'ера выкарыстаны арачныя нішы. У будынку размешчана школа-інтэрнат. Парк пейзажнага тыпу, з роўным рэльефам, пл. 8,2 га. Кампазіцыйна падзелены баскетамі з грабу на 2 часткі. У паўд. частцы палац, вял. паляна, алея, якая пачынаецца ўязной брамай у выглядзе каланады дарычнага ордэра з антаблементам. Перад фасадам, арыентаваным на раку,— шырокая лесвіца, якая вядзе на тэрасу з фантанам у стылі ампір. У паўн. частцы лагчыны невял. ручай, уздоўж якога ідзе дарожка да альтанкі. У парку растуць пераважна дрэвы мясцовых парод (дуб, ясень, клён, акацыя, ліпа, вольха, елка, хвоя) і пладовыя, трапляюцца экзоты. Альтанка размешчана на ўзгорку пры перасячэнні абходных алей. Мае рысы стылю ампір, 3-яруснае квадратнае ў плане мураванае збудаванне. Ніжні ярус умацаваны вуглавымі контрфорсамі і завершаны дарычным фрызам. Другі ярус скразны, з вял. паўцыркульнымі арачнымі праёмамі



**Навасвержанская Успенская царква.** Брама-званіца.



**Навасвержанскі Петрапаўлаўскі касцёл.** Галоўны фасад вежы.





**Нараўлянскі сядзібна - паркавы ансамбль.** Альтанка (справа) і галоўны фасад палаца.

з 4 бакоў. Вуглы аздоблены 3/4 калонамі са своеасаблівымі капітэлямі. Верхні ярус-ратонда з 6 калонамі карынфскага ордэра, завершаная паўсферычным купалам з вазай. У дэкоры — маскароны, разеткі, гірлянды, акантаваны арнамент, валюты, іонікі і інш. У палацава-паркавы ансамбль уключаны вытв. комплекс, у якім размешчана кандытарская фабрыка. Будынкі комплексу змураваны з чырвонай цэглы. Маюць формы несапраўднай готыкі (стральчатыя аркі і праёмы) і неараманскага стылю (аркатура, байніцы). Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін, В.Р. Анціпаў.*

**НАРАЧАНСКІ АНДРЭЕЎСКІ КАСЦЁЛ**, помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1901 з цэглы ў в. Нарач (Мядзельскі р-н). Побач з касцёлам знаходзіцца званіца — помнік драўлянага дойлідства 19 ст. Квадратнае ў плане 3-яруснае зрубна-каркаснае збудаванне, завершанае шатровым дахам. К а с ц ё л — прамавугольная ў плане 3-нефавая бязвежавая базіліка з 3-граннай апсідай накрыта агульным 2-схільным дахам. Гал. фасад з 2-схільным шчытом расчлянёны слаістымі контрфорсамі на 3 часткі: цэнтральную са стральчатым парталам і акном-ружай і бакавыя, крапаваныя арачнымі нішамі. Стракаты сілуэт фасада ствараюць пластычна насычаныя вежы-пінаклі контрфорсаў з востраканцовымі шпілямі. Апсіда завершана 3-вугольным гранёным шчытом і шатровай вежай-ліхтаром. Плоскасныя бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі стральчатымі вокнамі і ступеньчатымі контрфорсамі ў прасценках, апраразаны прафіляваным карнізам і аркатурным фрызам. Каларыстычнае багацце дасягаецца высакаякаснай «адкрытай» цаглянай муроўкай насычанага чырвонага колеру і паліхромнай муроўкай цокаля, выкладзенага з вапнавых блокаў. Унутраная прастора падзелена аркадамі на 3 нефы, перакрытыя стральчатымі скляпеннямі з распалубкамі. Над вузкім нартэксам — галерэя хораў. Інтэр'ер дэкарыраваны арнаментальнай размалёўкай ракайльнага малюнка. Амбон, алтары і арган выкананы ў Вільні ў стылі неаготыкі, аздоблены разьбой і скульптурай. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**НАРОЎЛЯ**, горад, цэнтр Нараўлянскага р-на, прыстань на правым беразе Прыпяці. За 178 км ад Гомеля. Вядома з 18 ст. як прыватнаўласніцкае мястэчка. Належала Аскеркам. З 1793 у складзе Расіі, цэнтр воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У канцы 19 ст. ў Н. 1,1 тыс. жыхароў (1897), прыстань, вінакурны з-д, гута, вытворчасць драўлянага посуду, рагожы, школа, царква. З 1919 у Гомельскай губ. РСФСР; 2,5 тыс. жыхароў у 1923. З 1924 у БССР, цэнтр раёна Мазырскай акругі. З 1938 гарадскі пасёлак; 3,9 тыс. жыхароў у 1939. З 1954 у складзе Гомельскай вобл.; 4,8 тыс. жыхароў у 1959. У 1962—65 у Ельскім р-не; 6,6 тыс. жыхароў у 1970. З 1971 горад. Н. размешчана на надпойменай тэрасе правага берага Прыпяці (8—10 м над узроўнем ракі). Рака Нараўлянка падзяляе горад на ўсх. і зах. жылыя раёны. Генплан Н. распрацаваны ў 1967 (Гомельскія абл. праектныя майстэрні ін-та «Белдзяржпраект»). Вулічная сетка арыентавана ў бок Прыпяці, таму большасць вуліц перасякаецца з вул. Кастрычніцкай, паралельнай Прыпяці. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся на пл. Леніна, утворанай на скрыжаванні вуліц Кастрычніцкай і Леніна (галоўная, забудавана 2—5-павярховымі дамамі). У цэнтры і ў мікраараёнах будуюцца 2—5-павярховыя капітальныя жылыя дамы [створаны мікрараёны па вуліцах Леніна, Кастрычніцкай, Корзуна; вядзецца (1990) забудова мікрараёна па вул. Макаранкі]. Прамысл.-складская зона фарміруецца ў асноўным пры ўездзе ў горад, на ПнЗ і ПдУ. Зона адпачынку — р. Прыпяць з паркам на беразе, р. Нараўлянка з фруктовым садам уздоўж яе, бульвар у раёне пл. Леніна, стадыён. Паводле генплана 1978 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. А. Агафонава,

інж. Л. Піrожнік, У. Пачтоўскі) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Кашырын, А. Шаміцька, інж. Пачтоўскі) прадугледжана далейшае развіццё горада на ПнЗ, расшырэнне грамадскага цэнтра, зоны адпачынку і спорту. Захаваўся помнік архітэктуры позняга класіцызму — *Нарайлянскі сядзібна-паркавы ансамбль.* *С. Ф. Самбук.*

**НАЦКАЯ КАРЧМА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 19 ст. ў в. Нача (Воранаўскі р-н). 1-павярховы Т-падобны ў плане будынак складаецца з 2 прамавугольных у плане аб'ёмаў: галоўнага (у ім размяшчаліся шынок з кухняй, 4 пакоі для прыезджых), арыентаванага цэнтр. фасадам на плошчу, і перпендыкулярна прыбудаванага да яго дваровага фасада памяшкання са стайняй. Гал. аб'ём накрыты паўвальмавым, дваровы — 2-схільным гонтавым дахамі. Сцены гарызантальна ашаляваны, вокны прамавугольныя, па восі гал. аб'ёму шырокія вароты. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя адпавядала функцыянальнаму прызначэнню пабудовы. Выкарыстоўваецца як жылы дом. *С. А. Сергачоў.*

**НАЦКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ,** помнік сядзібнай архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1810—15 у в. Нача (Ляхавіцкі р-н). Мураваны 1-павярховы прамавугольны ў плане бу-



**Нацкая карчма.** Рэканструкцыя.



**Нацкі сядзібны дом.** Фота 1930-х гадоў.





**Нарачанскі Андрэеўскі касцёл** і званіца (справа).

дынак стаіць на высокім цокалі і накрыты 2-схільным дахам. Высокія прамавугольныя вокны завершаны сандрыкамі. Цэнтральная частка гал. фасада вылучана манументальным 6-калонным порцікам з 3-вугольным франтонам, прарэзаным круглым акном. Да тарцоў будынка прыбудаваны тэрасы. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*

**НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ПЛОШЧА** ў Мінску (да 1991 наз. плошча Леніна). Размешчана ў пачатку гал. дыяметра і асн. магістралі го-



Забудова ў раёне плошчы Незалежнасці. На пярэднім плане касцёл Сімяона і Алены.

рада — праспекта Ф. Скарыны. Адм.-грамадскі цэнтр сталіцы. Мае прамавугольную форму (450 × × 150 м), пл. 7 га. Ва ўсх. частцы — сквер партэрнага тыпу. Раён плошчы забудоўваўся з 2-й пал. 19— пач. 20 ст. (захаваліся *Мінскі касцёл Сімяона і Алены,* жылыя будынкі канца 19 — пач. 20 ст. паміж вуліцамі Берсана і Свярдлова; усе ўваходзяць у ахоўную зону касцёла). Фарміраванне сучаснага архіт. аблічча плошчы пачалося з буд-ва *Дома ўрада Рэспублікі Беларусь,* які стаў яе кампазіцыйнай дамінантай. У даваенныя гады забудову паўд. боку плошчы фарміравалі 3-павярховыя карпусы БДУ. У 1953 з зах. боку плошчы пабудаваны гал. корпус педагагічнага ін-та імя М. Горкага (арх. Г. Заборскі, у 1989 на яго месцы ўзведзены новы вышынны будынак). У 1962 з паўд. боку плошчы пабудаваны гал. корпус БДУ (гл. ў арт. *Універсітэцкі гарадок),* архіт. вырашэнне гал. фасада якога адпавядае характару архітэктуры Дома ўрада, размешчанага насупраць. Паўд.-ўсх. бок плошчы фарміруюць будынак гарсавета народных дэпутатаў (1964, арх. С. Мусінскі, Г. Сысоеў), інж. корпус Мінскага метрапалітэна (1984, арх. Ю. Грыгор'еў, Дз. Кудраўцаў), вертыкальныя чляненні якіх гарманіруюць з кампазіцыйным ладам Дома ўрада і гал. корпуса БДУ. З усх. боку на плошчу выходзяць бакавыя фасады гасцініцы «Мінск» (1957, арх. Г. Баданаў; 1967, арх. Сысоеў) і будынка Мінскага паштамта (1953, арх. У. Кароль). На месцы гібелі аднаго з кіраўнікоў Мінскага камуністычнага падполля Героя Сав. Саюза У. С. Амельянюка (побач з касцёлам) на плошчы ўстаноўлены мемар. знак. Пабудавана (1984) станцыя *Мінскага метрапалітэна.*

**«НІЗГАЛАВА»,** сядзібна-паркавы комплекс. Гл. *Дворнізгалаўская сядзіба.*

**НОВАЛУКОМЛЬ,** горад у Чашніцкім р-не Віцебскай вобл., на паўд.-ўсх. беразе воз. Лукомскае. За 24 км на Пд ад Чашнікаў, 120 км ад Віцебска. Адзін з новых гарадоў рэспублікі, якія пачалі фарміравацца ў 2-й пал. 1960-х гадоў на базе прамысл., энергетычнага і транспартнага буд-ва. Узнік як пасёлак энергетыкаў на месцы рабочага пас. Піянерны ў сувязі з буд-вам Лукомскай ДРЭС (1964) у Бешанковіцкім р-не (з студзеня 1965 у Чашніцкім). З 1965 гарадскі пасёлак, з 1970 горад раённага падпарадкавання. 6,7 тыс. жыхароў у 1970, 13,7 тыс.— у 1989. Паводле генпланаў 1963 («Віцебскграмадзянпраект»; арх. В. Данілаў, З. Даўгяла, інж. А. Марголіс) і 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. Л. Гітлін, інж. Р. Аблясава, Н. Галавацкая) горад фарміруецца ў выглядзе груп мікрараёнаў, размешчаных на параўнальна роўнай пляцоўцы, якая ўзвышаецца над возерам. У аснову планіроўкі пакладзены прынцып раз'яднання пешаходных і транспартных сувязей. Гал. кампазіцыйныя восі — паралельныя вуліцы Энергетыкаў і Набярэжная. Паміж імі размешчана пл. Леніна — адм.-грамадскі і культ. цэнтр. сфарміраваны будынкамі 4-павярховым гарвыканкома, 2-павярховым Палаца культуры і гандл. цэнтра, кінатэатра, двух 5-павярховых жылых дамоў. На плошчы вадаём, фантаны, разбіты сквер. Вылучаецца пратораравая кампазіцыя цэнтра, які сфарміраваўся ў выглядзе пешаходнай эспланады, што раскрыта ў бок возера і вядзе непасрэдна

ў парк культуры і адпачынку. Цэнтр адметны высокай якасцю забудовы, азелянення і добраўпарадкаванасці. Уздоўж гал. вуліц забудаваны 4 мікрараёны з 5-павярховых жылых дамоў з 9-павярховымі дамінантамі. Створаны паўд. і ўсх. прамысл. раёны. Зона адпачынку — азёры Лукомскае і Сялява (на Пд ад горада), гарадскі парк, спарт. комплекс. Прадугледжана далейшае развіццё горада на З, стварэнне грамадскага цэнтра па вул. Энергетыкаў.
*Г. С. Ларкін.*

**НЯМІГА,** адна з старажытнейшых вуліц Мінска. Знаходзіцца ў гіст. цэнтры горада, паміж р. Свіслач і вул. К. Цэткін. Працягласць 1840 м. Узнікла ў 12 ст. як адна з цэнтр. гандлёвых магістралей, што злучала гандл. плошчу перад *Мінскім замкам* (Ніжні рынак) з б. Койданаўскім трактам. У дакументах 16—18 стагоддзяў наз. Нямізскай. Назву атрымала ад р. Няміга (прыток Свіслачы, у пач. 20 ст. заключана ў падземны калектар), уздоўж якой вуліца пралягала. У 19 ст. ўключала Ніжні і Рыбны рынкі і звязвала гандл. плошчу на Троіцкай гары з рынкам у б. Раманаўскім прадмесці (раён сучасных вуліц Рэспубліканскай і Мяснікова). Да канца 18 ст. забудова была пераважна драўляная (у 1793 існавалі толькі 2 мураваныя дамы), шмат разоў гарэла (асабліва моцны пажар у 1835). У пач. 17 ст. на скрыжаванні вуліц Н. і Ракаўскай (сучасная вул. Астроўскага) пабудаваны комплекс праваслаўнага манастыра з *Мінскай Петрапаўлаўскай царквой,* на правым баку Н. да 1965 стаяў будынак сінагогі. У 19 ст. забудавана 2—3-павярховымі жылымі будынкамі з крамамі, якія стваралі суцэльны вулічны фронт, мелі асобныя рысы стылю класіцызму. Спачатку праезная частка вуліцы была вымашчана драўляным насцілам, у 17—18 стагоддзях забрукавана каменнем, у пач. 20 ст. заасфальтавана. У Вял. Айч. вайну ў раёне вуліц Н. і Астроўскага было гета. У пач. 1970-х гадоў забудова Н. знесена ў сувязі з рэканструкцыяй транспартнай магістралі — вуліца М. Горкага (цяпер М. Багдановіча) — Няміга. Паводле праекта 1976 (арх. С. Мусінскі, Г. Каласкова, Г. Басінкевіч) на ўчастку паміж праспектам Машэрава і вул. Рэспубліканскай запланавана буд-ва гандлёва-грамадскага цэнтра з магазінамі, кафэ, рэстаранамі, кінатэатрам, а таксама вышыннымі жылымі дамамі, пешаходнай эспланадай, узнятай над праезнай часткай. Пабудаваны (1991) комплекс 12-павярховых жылых дамоў, будуецца магазін «Дзіцячы свет» і інш. *Э. М. Загарульскі.*



Вуліца **Няміга.** Фота 1948.



Вуліца **Няміга.** Фота 1980-х гадоў.

**НЯСВІЖ,** горад, цэнтр Нясвіжскага р-на, на р. Уша. За 112 км ад Мінска. Найбольш ранняе дакументаванае ўпамінанне Н. ў пісьмовых крыніцах — 1446. Такое меркаванне ўпершыню выказана і абгрунтавана даследчыкамі І. М. і Л. Л. Чарняўскімі (Нясвіж. З мінулага // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1988. № 1), раней лічыўся 1223. Паводле археал. даследаванняў, праведзеных у 1985 І. М. Чарняўскім і 1989 А. К. Краўцэвічам, самыя раннія знаходкі на тэрыторыі Н. датуюцца 15 ст. Старажытнае гарадзішча знаходзілася на зах. частцы тэр., прылеглай да кляштара бенедыкцінак. Пасля 1523 на тэр. сучаснага Н. пачынае фарміравацца паселішча гарадскога тыпу. У 1533 на месцы стараж. гарадзішча пабудаваны драўляны замак. У 15 — 1-й пал. 16 ст. Н. — двор, умацаваны цэнтр невял. гаспадарчай воласці. Належаў Сяляўку, потым М. Я. Неміровічу, з 1492 П. Я. Мантыгірду, потым Кішкам, з 1523 Радзівілам (больш за 400 гадоў). З 1547 пры Мікалаю Радзівілу Чорным (атрымаў тытул князя) наз. княствам Нясвіжскім. З 1586 Н. — цэнтр ардынацыі Радзівілаў, горад атрымаў магдэбургскае права (нададзена Радзівілам Сіроткам) і герб — на залатым полі выява палавіны чорнага рассечанага ўздоўж арла, з другога боку — 10 косых палосак блакітнага, чырвонага і жоўтага колеру; у 1589 пачалося будаўніцтва ратушы. У канцы 15 — пач. 16 ст. Кішкамі пабудаваны касцёл св. Духа, існавала праваслаўная царква Раства Багародзіцы; Н. меў 2 кірмашы на год. Горад інтэнсіўна развіваецца як цэнтр культуры, рамяства і гандлю. У канцы 16 — пач. 17 ст. фарміруецца яго архіт. аблічча (захавалася з невял. зменамі дагэтуль). М. К. Радзівілам Сіроткам з удзелам запрошаных ім італьянскіх архітэктараў быў узведзены мураваны замак, які з'яўляўся першакласным еўрап. абарончым збудаваннем (гл. *Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс).* Замак быў абнесены земляным валам і вадзяным ровам. У пач. 17 ст. вакол Н. насыпаны земляныя бастыёны і курціны. Захаваліся рэшткі абарончага вала — у прыбярэжнай частцы Дзявочага става, на ПнУ ад б. кляштара бенедыкцінак: фрагмент курціны і бастыён (даўжыня каля 100—150 м). Земляны абарончы вал (выш. каля 5—5,5 м, шырыня каля асновы 17 м) з 7 бастыёнамі меў форму няправільнага 5-гранніка. У 1584—1616 Н. атрымаў рэгулярную сістэму планіроўкі, сфарміраваўся як горад-крэпасць. Рака падзяляла яго на 2 часткі: замак і ўласна горад, злучаныя паміж сабой драўляным

мостам цераз штучнае возера, які разбіралі ў час асады горада. На 4 асн. уездах у горад былі збудаваны брамы: *Нясвіжская замкавая вежа, Нясвіжская Слуцкая брама,* Віленская (спачатку наз. Мірская) і Клецкая. Горад Н. меў прамавугольную сістэму планіроўкі з невял. квадратнымі кварталамі. Кампазіцыйным цэнтрам была прамавугольная ў плане Рыначная плошча, забудаваная па перыметры з 3 бакоў мураванымі жылымі дамамі, у цэнтры якой знаходзілася мураваная ратуша. У пач. 17 ст. абапал яе размяшчаліся гандл. рады (перабудаваны ў 18 ст., гл. *Нясвіжская ратуша і гандлёвыя рады*); у 1672 за ратушай узведзены мураваны дамініканскі кляштар (не захаваўся). Аснову планіровачнай структуры складалі 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Адна, больш працяглая (частка гасцінца Слуцк — Вільня), праходзіла праз увесь горад з З на У і злучала Слуцкую і Віленскую брамы, другая — з Пн на Пд, звязвала замак і Рыначную плошчу. У 1584—93 у паўн.-ўсх. частцы горада, каля Замкавай вежы, пабудаваны *Нясвіжскі касцёл Божага цела* і *Нясвіжскі калегіум езуітаў,* у паўд.-ўсх. частцы — *Нясвіжскі касцёл і кляштар бенедыкцінак* (1590—95), у паўн.-зах. частцы — *Нясвіжскі касцёл і кляштар бернардзінцаў* (1598). У 1620—30-я гады засн. уніяцкая царква. У 1673 у Н. каля 2400 жыхароў, 367 «дымоў», 3 рынкі; пабудаваны кляштар бенедыкцінцаў з касцёлам св. Крыжа. У 2-й пал. 16 ст. ўзнік прыгарад Н. Альба, дзе ў 17—18 стагоддзях сфарміраваўся буйны *Альбінскі палацава-паркавы комплекс.* У 1654 і 1659 у час рус.-польскай вайны горад разбураны, у 1706 горад і замак разрабавалі і спалілі, узарвалі магутныя бастыёны, горад пацярпеў значныя страты і ад пажараў 1836 і 1843 (згарэла 150 дамоў). У 1720-я гады горад і замак адбудаваныя. У 18 ст. існаваў *Нясвіжскі гарадскі палац.* З 1793 Н. у складзе Расіі, цэнтр павета, з 1796 заштатны горад Слуцкага пав. У канцы 19 ст. ў Н. 8850 жыхароў. Існавалі: Праабражэнская царква (з 1846 у будынку ратушы, бо ў 1836 згарэла царква, якая была ў ёй), 2 касцёлы, сінагога, 7 яўр. малітоўных дамоў; раней яшчэ былі царквы Георгіеўская і Прачысценская (пабудавана ў 1577). З 1921 Н. у складзе бурж. Польшчы, цэнтр павета. З 1940 цэнтр р-на Баранавіцкай вобл., з 1954 у Мінскай вобл.

Сучасны горад захаваў гістарычную арх.-планіровачную структуру. Ракой і вадаёмам ён падзелены на паўн.-зах. (гіст.) і паўд.-ўсх. (асн. жылы масіў з грамадскім цэнтрам) часткі, звязаныя паміж сабой земляной дамбай і мостам. Асн. кампазіцыйныя восі — вуліцы Ленінская — Савецкая — 1 Мая і Шымко — К. Лібкнехта — Садовая (з Пн на Пд). Пасля Айч. вайны Н. развіваўся паводле схемы планіроўкі 1955 (Баранавіцкія праектныя майстэрні) і генплана 1965 (ін-т «Белдзяржпраект»). Гал. вуліца — Ленінская. Адм.-грамадскі і культурны цэнтр сфарміраваўся на Цэнтральнай плошчы (б. Рыначная), на ёй разбіты і сквер. Цэнтр забудаваны 3—5-павярховымі дамамі. Гандл. цэнтр склаўся па вул. Савецкай. У раёне вуліц 1 Мая — Садовай — Ленінскай ствараецца мікраёен з 4—5-павярховымі жылымі дамамі. Сфарміраваліся паўн.-зах. і паўд.-ўсх. вытворчыя зоны. Зона адпачынку — паркі, вадаёмы, лесапарк у паўд.-зах. частцы горада. Захаваліся помнікі архітэктуры 16—19 стагоддзяў: палацава-паркавы комплекс, бенедыкцінскі і бернардзінскі кляштары, касцёл езуітаў і капліца, Замкавая і Слуцкая брамы, ратуша і гандлёвыя рады, *Нясвіжская плябанія, Нясвіжскі «дом на рынку».* Паводле генплана 1982 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Т. Станішэўская) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1978 (ін-т «Мінскграмадзянпраект», арх. А. Кракалёва, Л. Шылінская, Г. Перліна) прадугледжана далейшае развіц-




**Нясвіж.** Гравюра Т. Макоўскага. Пачатак 17 ст.

цё горада на ПдЗ і ПдУ, стварэнне грамадскага цэнтра на стыку гіст. цэнтра з раёнамі новай жылой забудовы. У 1985 распрацаваны праект рэстаўрацыі і рэгенерацыі гіст. забудовы Н. (арх. Г.Босак, А. Дарэнскі, Т. Куцапалава і інш.).

*Т. І. Чарняўская, І. М. Чарняўскі, С. Ф. Самбук.*

**НЯСВІЖСКАЯ ЗАМКАВАЯ ВЕЖА,** помнік архітэктуры 2-й пал. 16 ст. Пабудавана ў Нясвіжы, уваходзіць у комплекс *Нясвіжскага касцёла Божага цела.* Першапачаткова складалася з нізкай шатровай брамы (злучала горад з замкам; не захавалася) і высокай абарончай вежы. Вежа — квадратнае ў плане збудаванне, завершанае шатровым дахам. Глухі ніжні ярус з контрфорсамі вырашаны як масіўны цокаль. 2-і ярус афармлены прамавугольнымі, круглымі і квадратнымі праёмамі, 3-і і 4-ы — арачнымі. Белыя атынкаваныя абрамленні праёмаў і міжярусныя паяскі кантрастуюць з чырвонай цаглянай муроўкай сцен, што стварае дэкар. 2-колерную гаму фасадаў. У архітэктуры вежы адлюстраваны рысы бел. абарончага дойлідства, стыляў готыкі і рэнесансу. Помнік рэспубліканскага значэння.

*М. А. Ткачоў.*

**НЯСВІЖСКАЯ ПЛЯБАНІЯ,** помнік архітэктуры 16—19 стагоддзяў. Пабудавана ў 16—17 стагоддзях з цэглы ва ўсх. частцы горада, непадалёку ад касцёла езуітаў (сучасная вул. Міцкевіча, 5). Парафіяльны дом ксяндза (плябана) уключаў жылы дом і гасп. пабудовы. У 18—19 стагоддзях жылы дом перабудаваны (далучана вуглавая Г-падобная частка, калонны порцік на гал. фасадзе і інш.). Кампактны 2-павярховы мураваны будынак накрыты вальмавым дахам. Першапачаткова меў прамавугольную ў плане форму. Цэнтр. ўваход вылучаны з боку гал. фасада порцікам з драўляным 3-вугольным франтонам. Сцены маюць прамавугольныя аконныя праёмы. На дваровым фасадзе зберагліся фрагменты вял. плоскіх паўцыркульных арачных нішаў, якія нагадваюць рэнесансную аркаду. Спачатку на 2-м паверсе дваровага фасада была арачная галерэя, на якую выходзілі ўсе памяшканні (у час перабудовы праёмы закладзены). Унутраная планіроўка зменена. Мяркуюць, што ў 1750—90-я гады ў будынку размяшчалася друкарня. Цяпер у будынку друкарня раённай газеты «Чырвоны сцяг». У 1982 перад будынкам пастаўлены помнік асветніку і гуманісту Сымону Буднаму (скульпт. С. Гарбунова, арх. Ю. Казакоў). Будынак — помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**НЯСВІЖСКАЯ РАТУША І ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ,** помнікі архітэктуры 16 ст. Р а т у ш а ўзведзена з цэглы каля 1596 на б. Рыначнай пл. (сучасная вул. Савецкая, 1а). Перабудавана ў 1752 у стылі позняга барока, у 1836 пажарам знішчана завяршэнне вежы. Першапачатковы выгляд яе захаваўся на праектным плане канца 16 ст. і гравюры Нясвіжа мастака Т. Макоўскага пач. 17 ст. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак з 4-яруснай чацверыковай вежай над уваходам на тарцовым паўн. фасадзе. Раней вежа мела 6 ярусаў (2 верхнія — васьмерыкі) і завяршалася гранёным купалам з галоўкай. Пасля пажару ў сярэдзіне 19 ст. чацверыкі накрыты пакатым шатровым дахам; асн. аб'ём — высокім кроквенным дахам з вальмай на паўд. тарцы. Фасады амаль пазбаўлены дэкору, апрача простых карнізаў. Вокны прамавугольныя. Узроўні ярусаў вежы і памяшканняў ратушы не супадаюць і злучаны драўлянымі ўсходамі. На 1-м паверсе знаходзіліся службовыя памяшканні магістрата і суда, на 2-м — вял. зала магістрата для ўрачыстых грамадзянскіх актаў і тэатральных паказаў. Зала мела скляпеністыя перакрыцці, 3-баковае асвятленне, да яе вялі праз вежу аднамаршавыя ўсходы. Цяпер у будынку гарадскі Дом піянераў і школьнікаў, б-ка. Г а н д л ё в ы я р а д ы спачатку размяшчаліся сіметрычна абапал ратушы па даў-



Нясвіжская замкавая вежа.



Нясвіжская плябанія.



Нясвіжская ратуша і гандлёвыя рады.

жыні будынка. Паміж імі былі нешырокія праезды з арачнымі брамамі на тарцах. Ячэйкі-крамы былі адкрыты праёмамі ў бок праездаў; частка гандл. памяшканняў знаходзілася ў 1-м ярусе ратушы. У сярэдзіне 18 ст. гандл. рады былі перабудаваны: прадоўжаны за будынак ратушы і абкружалі яе з трох бакоў, утвараючы П-падобны ўнутраны замкнёны дворык для падвозу тавараў; ячэйкі-крамы былі пераарыентаваны праёмамі да плошчы і прылеглых вуліц. Невысокія падоўжаныя карпусы гандл. радоў накрытыя 1-схільнымі дахамі (са схілам у бок унутранага двара). Вулічныя фасады вырашаны ў выглядзе аркады, завершаны высокім атыкам. У дэкоры выкарыстаны прафіляваныя карнізы, абрамленні праёмаў, філянговыя нішы. Цяпер у гандл. радах размешчаны кніжны магазін і інш. гандл. ўстановы. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь.*

**НЯСВІЖСКАЯ СЛУЦКАЯ БРАМА,** помнік архітэктуры барока. Знаходзіцца ва ўсх. частцы Нясвіжа, служыла ўездам у горад. Пабудавана ў 1690 на месцы брамы 16 ст., перабудавана ці адноўлена ў 1700 (паводле іншых звестак у 1760) на дарозе-дамбе ўздоўж возера, якая вяла ў горад з боку Слуцкага тракту. Мураваны 2-ярусны прамавугольны ў плане аб'ём з вял. арачным праездам унутры (даўж. 10,3 м), сцены ўмацаваны контрфорсамі, накрыты 2-схільным чарапічным дахам. Падоўжаныя фасады завершаны пластычнымі франтонамі з крывалінейным абрысам. На 1-м ярусе знаходзіліся памяшканні для варты, на 2-м — капліца, раскрытая праз вял. праём з балконам у бок горада. У 1970-я гады брама рэстаўрыравана. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**НЯСВІЖСКІ ГАРАДСКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у 18 ст. ў Нясвіжы. Быў пабудаваны ў стылі барока. Мураваны 2-павярховы накрыты дахоўкай квадратны ў плане будынак з унутр. дваром. Сцены былі дэкарыраваны драўлянымі разнымі карнізамі. Фасады на 2-м паверсе аздабляла драўляная галерэя. На 1-м паверсе былі 11 жылых пакояў, 2 алькежы, 2 кухні, 2 гасцёўні, 4 каморы, 3 скляпы, аздобленая размалёўкай капліца, кардэгарда, стайня, карэтная майстэрня, вял. манеж з галерэяй у верхняй частцы памяшкання. На 2-м паверсе анфіладнай планіроўкі былі парадная зала і 5 пакояў. У інтэр'ерах памяшканняў — печы, аздобленыя кафляй і фаянсавымі пліткамі, палатняныя і скураныя шпалеры ў разных пазалочаных рамах з маляўнічымі арнаментальнымі і раслліннымі выявамі, архіт. сюжэтамі, вазамі, гіст. сцэнамі, партрэтамі гіст. асоб. Парадная зала і адзін з пакояў мелі скляпеністыя ляпныя столі з люстрамі і скульпт. пазалочанымі выявамі. Палац не збярогся, вядомы паводле інвентара 1760-х гадоў.

*Ю. А. Якімовіч.*

**НЯСВІЖСКІ «ДОМ НА РЫНКУ»,** Дом рамесніка, помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1721 на б. Рыначнай пл. Нясвіжа. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак з паўпадвалам мяшанай канструкцыі: ніжні паверх мураваны, верхні — драўляны. Да плошчы дом павернуты тарцовым мураваным фасадам з фігурным шчытом, які закрывае больш вузкі паверх з 2-схільным дахам. Праёмы на гал. фасадзе размешчаны сіметрычна цэнтр. восі, падкрэсленай уваходам і балконам (на 2-м паверсе). Фігурны шчыт гал. фасада вылучаны прафіляваным карнізам. Невял. праём і нішы ў завяршэнні шчыта апрацаваны дэкар. ліштвамі. Уваход на 2-і паверх з боку дваровага фасада. Раней на 1-м паверсе знаходзіліся складскія памяшканні і крамы, на 2-м — жылыя пакоі. Дом знаходзіцца на рэканструкцыі. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**НЯСВІЖСКІ КАЛЕГІУМ ЕЗУІТАЎ.** Існаваў у канцы 16—19 ст. У 1584 М. К. Радзівіл Сіротка фундаваў пляцоўку для буд-ва калегіума на вул. Воднай, побач з мураваным касцёлам. Праект будынка, выкананы ў Нясвіжы, быў зацверджаны ў Рыме. Пабудаваны калегіум у 1586—99 (з карэкціроўкай праекта, зробленай Дж. М. Бернардоні). Мае рысы архітэктуры мясцовага рэнесансу (адлюстраваны на гравюры Т. Макоўскага пач. 17 ст.). Тры асн. корпусы калегіума былі пастаўлены ў плане П-падобна і накрыты 2-схільнымі дахамі з фігурнымі франтонамі на тарцах. Паўн. і паўд. карпусы мелі галерэйную планіроўку, усходні — калідорную. З захаду квадратны ўнутраны двор замыкаўся вузкім 3-павярховым аб'ёмам, завершаным дэкар. атыкамі і эркерам з гадзіннікавай вежай. Спачатку ў 1-м ярусе гэты аб'ём уяўляў сабой адкрытыя аркадныя галерэі абапал глухой сцяны з цэнтр.



Нясвіжская Слуцкая брама.



Нясвіжскі «Дом на рынку».

і аптэкі. Калегіум быў злучаны пераходам з *Нясвіжскім касцёлам Божага цела.* З 1773, пасля скасавання ордэна езуітаў, у будынку размяшчаліся школа дамініканцаў, потым павятовая, з 1835 казармы. Разбураны калегіум, як мяркуюць, у час аднаго з гарадскіх пажараў (1836, 1843, 1888), захаваліся асобныя 1—2-павярховыя часткі будынка.

*Т. В. Габрусь.*

**НЯСВІЖСКІ КАСЦЁЛ БОЖАГА ЦЕЛА,** Нясвіжскі касцёл езуітаў, Нясвіжскі фарны касцёл, помнік архітэктуры барока. У 1510 у Нясвіжы па фундацыі Пятра Кішкі пабудаваны драўляны касцёл, у 1555 М. Радзівіл Чорны перадаў яго кальвіністам. У 1581 яго сын М. К. Радзівіл Сіротка пачаў будаваць мураваны касцёл, прызначаны для езуітаў. Будынак храма ў выглядзе грэчаскага крыжа ў плане (захаваўся чарцёж канца 16 ст.) не задавальняў езуітаў і ў 1586 па ініцыятыве віленскага біскупа Ю. Радзівіла быў разбураны. У 1587 на тым жа месцы закладзены новы мураваны касцёл, завершаны ў 1593. Аўтар праекта і кіраўнік буд-ва італьянскі арх. Ян М. Бер-



Нясвіжскі касцёл Божага Цела.



Нясвіжскі касцёл Божага Цела. Інтэр'ер.

уваходам. Пазней вонкавая аркада была замуравана, па баках увахода ўзведзены капліца студэнцкага брацтва і зала філасофіі. У 1-м паверсе паўд. часткі размяшчаліся 4 школьныя класы, якія мелі выхад у асобны двор, абгароджаны глухой сцяной. Побач пазней прыбудаваны б-ка, друкарня, памяшканні лабараторыі

нардоні, член ордэна езуітаў. Захаваліся праектныя чарцяжы касцёла 1586—87. Мяркуюць, што ва ўзвядзенні вял. гранёнага купала на светлавым барабане, завершанага ліхтарыкам з фігурным купалком, прымаў удзел арх. І. Брызіо. Будынак касцёла неаднойчы быў пашкоджаны ад войнаў і пажараў, аднаўляўся. Пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 касцёл стаў фарным. Касцёл — першая пабудова ў стылі барока на тэр. Рэчы Паспалітай. Узведзены на ўзор гал. ордэнскага храма езуітаў Эль Джэзу ў Рыме. Будынак —3-нефавая крыжова-купальная базіліка. Мае бязвежавы гал. фасад і выцягнутую апсіду прэсбітэрыя з лучковым завяршэннем, па баках якой размешчаны 2-павярховыя прамавугольныя ў плане сакрысціі. Асаблівасцю касцёла з'яўляюцца сіметрычныя гранёныя капліцы св. Андрэя і св. Пятра, прыбудаваныя па баках базілікі побач з крыламі трансепта. У 1611—15 пабудаваны хоры для аргана. Над бакавымі нефамі размяшчаліся эмпоры для навучэнцаў школы езуітаў, да іх вялі вітыя ўсходы ў круглых вежачках па баках нартэкса. У 1705 пры рэканструкцыі будынка эмпоры і вежачкі былі зняты, павялічаны вокны. Гал. фасад вырашаны як самастойная сценка-шырма, далучаная да тарца базілікі і аздобленая ордэрнай пластыкай. Развітыя прафіляваныя гарызантальныя цягі падзяляюць яго гал. фасад на 2 ярусы і 3-вугольны франтон; абапал верхняга яруса — рудыменты барочных валют. Вертыкальныя чляненні (пілястры, глыбокія конхавыя нішы для скульптуры, аконныя праёмы) згрупаваны папарна адносна восі сіметрыі фасада, падкрэсленай парталам уваxода, вял. акном над ім і люнетай у цэнтры франтона. У інтэр'еры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, крылы трансепта — перпендыкулярнымі да яго цыліндрычнымі скляпеннямі, бакавыя нефы — крыжовымі, сяродкрыжжа — паўсферычным купалам на круглым барабане (звонку 8-гранны), які апіраецца на ветразі і падпружныя аркі. Дэкарыраваны размалёўкай у тэхніцы грызайль. Фрэскі (выкананы ў 1750—70-я гады з удзелам мастака К. Д. Гескага, рэстаўрыраваны ў 1900—02) упрыгожваюць скляпенні гал. і бакавых нефаў, прэсбітэрыя, трансепта, нартэкса, бакавых капліц і купала. Мармуровыя алтары ў крылах трансепта ўпрыгожаны скульптурай, гал. алтар — карцінамі «Тайная вячэра» Гескага і інш. У касцёле — надмагіллі 17—19 стагоддзяў, у крыпце — капліца св. Крыжа і фамільная пахавальня князёў Радзівілаў. Касцёл быў пабудаваны ў ансамблі з *Нясвіжскай замкавай вежай, Нясвіжскім калегіумам езуітаў* і садам. У 1747 у двары касцёла асобна пабудавана капліца (арх. М. Педэці). Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь, У. А. Чантурыя.*

**НЯСВІЖСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕНЕДЫКЦІНАК,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1590—96 з цэглы на паўд.-ўсх. ускраіне Нясвіжа па фундацыі жонкі Радзівіла Сіроткі Яўхіміі Радзівіл. Меў на той час абарончае значэнне. У 17—18 стагоддзях зроблены некаторыя перабудовы. У 1864 былі закончаны ўнутраныя пераробкі. У 1866 касцёл перададзены праваслаўнай царкве, кляштар зачынены ў 1876 і прыстасаваны пад казармы. Жылы корпус з касцёлам, вежа-брама (18 ст.), гаспадарчыя пабудовы, размешчаныя вакол унутранага дворыка, утвараюць адзіны архітэктурны комплекс. Ж ы л ы м а н а с т ы р с к і к о р п у с з к а с ц ё л а м — 2-павярховы Е-падобны ў плане будынак з рознавялікімі бакавымі крыламі. Цэнтр. частка на вышыню 2 паверхаў была прыстасавана пад касцёл (1-нефавы, з 5-граннай апсідай і невял. трансептам). У бакавых крылах размяшчаліся келлі, гасп. і службовыя памяшканні, у паўдн. крыле — зала-трапезная. Гал. фасад корпуса арыентаваны ва ўнутраны дворык. Яго кампазіцыйным цэнтрам з'яўляецца рызаліт (фасад касцёла), дэкарыраваны 3 пілястрамі, лучковымі аконнымі праёмамі. Завяршэнне рызаліта (шмат'ярусная вежа) не захавалася. Гал. ўваход размешчаны асіметрычна, у паўн. крыле. Гладкія сцены фасадаў прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Унутраная планіроўка калідорная, часткова зменена, прыстасавана для сучасных патрэб. В е ж а - б р а м а з'яўляецца гал. уваходам на тэр. кляштара. Размешчана паміж манастырскімі сценамі, па цэнтр. восі ўнутранага дворыка. Прамавугольная ў плане. Звонку падзелена развітымі прафіляванымі цягамі на 3 ярусы, што паступова змяншаюцца. 1-ы ярус прарэзаны аркай, над якой размешчаны высокі праём, 2-і з арачным аконным праёмам у цэнтры, абрамленым ліштвай, 3-і ярус таксама з арачным праёмам, дэкарыраваны крывалінейным карнізам. Кожны ярус па вуглах раскрапаваны пілястрамі. Вежа завершана фігурным купалком са шпілем. Дзверы аздоблены мастацкай акоўкай. Цяпер тут педагагічнае вучылішча. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.



**Нясвіжскі касцёл і кляштар бенедыкцінак.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.

**НЯСВІЖСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ.** Існаваў у канцы 16—19 ст. Комплекс заснаваны ў 1598 Мікалаем Крыштофам Радзевічам. Уключаў касцёл і прыбудаваны да яго падоўжнага фасада 2-павярховы П-падобны ў плане кляштарны жылы будынак (збярогся часткова). Займаў тэрыторыю, прылеглую да паўн.-зах. боку абарончага гарадскога вала (сучасная вул. Ленінская).

Касцёл — 3-нефавая базіліка з павышаным цэнтр. нефам, завершаным 2-схільным дахам, і больш нізкімі бакавымі нефамі з 1-схільнымі пакрыццямі. Меў рысы ранняга барока. Гал. фасад 2-яруснай кампазіцыі завяршаўся трохвугольным франтонам, у 1-м ярусе на цэнтр. восі размяшчаўся партал гал. ўвахода. Бакавыя фасады расчлянёны па вертыкалі пілястрамі. Да алтарнага фасада касцёла прымыкала высокая шмат'ярусная чацверыковая вежа (магчыма, абарончая), накрытая спічастым шатром. У аб'ёме жылога будынка былі 3 вежы (адна з



**Нясвіжскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.** З карты 1750-х гадоў.

…завяршала ўязную браму). У 1793 касцёл згарэў, адбудаваны ў 1802—22. Адлюстраваны на «карце» Г. Лейбовіча 1750-х гадоў. У 1864 за ўдзел манахаў у нацыянальна-патрыятычных маніфестацыях кляштар быў закрыты, жылы корпус перададзены ваеннаму ведамству, а касцёл перароблены на царкву, нязначна пашкоджаны ў Вял. Айч. вайну. Царква разбурана ў 1950-я гады.

*Ю. А. Якімовіч, А. А. Ярашэвіч.*

**НЯСВІЖСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ КОМПЛЕКС,** помнік архітэктуры 16—18 стагоддзяў. Заложаны кн. М. К. Радзівілам Сіроткам у 1583 на ПдЗ ад Нясвіжа, на месцы драўлянага замка (1533). На пачатку будаўніцтва (да 1599) удзельнічаў італьянскі арх. Дж. Бернардоні. У першапачатковым выглядзе адлюстраваны на гравюры Т. Макоўскага (пач. 17 ст.). Замак меў у плане форму чатырохвугольніка памерамі 170×120 м, быў абкружаны высокім земляным валам з бастыёнамі па вуглах, вадзяным ровам (унутранае кальцо), шырокай дарогай з невысокім земляным насыпам (гласісам) з вонкавага боку (прымалі ўдзел арх. М. Педэці (у [illegible]). Вал (выш. да 20 м) абмураваны каменем, уверсе пераходзіў у мураваны бруствер з дадатковымі ўмацаваннямі, унутры вала былі мураваныя стайні і 4 патаемныя ўваходы. У 17 ст. па вуглах бастыёнаў пабудаваны 4 абарончыя вежы (вядомыя па інвентарах). Падыход да замка з зах. быў умацаваны 3-вугольным шанцам, да якога вялі 2 пад'язныя дарогі. Уздоўж гал. восі знаходзіліся мураваная брама з рассоўным мостам і 3-павярховы палац з 8-граннымі вуглавымі вежачкамі. Злева ад брамы стаяў 2-павярховы гасп. корпус, справа — 3-павярховая казарма з вял. дазорнай вежай. У 1706 замак разбураны шведамі. Адноўлены і перабудаваны ў стылі барока пасля 1726 арх. К. Ждановічам (у 1740 пабудаваў таксама новую палацавую капліцу). На працягу 18 ст. ў будаўніцтве палаца прымалі ўдзел арх. М. Педэці (у 1748—52), М. Фларыяновіч (1775—76), К. Спампані (1778—79), А. Лоцы (1783, праект галерэі). Мураваныя бастыёны заменены землянымі ўмацаваннямі. Паводле інвентара 1767, замак складаўся з палаца і дапаможных карпусоў абапал уязной брамы. Палац — 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты дахоўкай і завершаны круглай у плане купальнай ратондай, у якой знаходзіўся гадзіннікавы звон. На гал. фасадзе меў галерэю, аздобленую балюстрадай з меднымі пазалочанымі парэнчамі. У ніжнім паверсе палаца размяшчаліся службовыя памяшканні, 2 лазні і інш. Верхнія паверхі займалі княжацкія апартаменты з вял. колькасцю парадных і жылых памяшканняў. У інтэр'ерах былі кафляныя і фаянсавыя печы, упрыгожаныя лепкай са стука, і каміны з металічнымі геральдычнымі выявамі. Сцены аздаблялі дубовыя разныя панелі, палатняныя і скураныя шпалеры ў ляпных пазалочаных рамах. Ляпная столь была пакрыта пазалотай і размалёўкай. Мэбля інкруставаная і размаляваная, упрыгожаная маст. тканінамі. Падлога з дубовага наборнага паркету. Вял. значэнне ў ансамблі інтэр'ера мелі творы жывапісу (партрэты, абразы, карціны на гіст. сюжэты), дэкар.-прыкладнога мастацтва (калекцыя саксонскага фарфору, размаляваны золатам шкляны посуд, крышталь, вырабы радзівілаўскіх мануфактур і інш.). Асабліва багатай аздобай вызначаліся парадныя залы і галерэі (збройная, партрэтная, мармуровая, залатая, гетманская, бібліятэчная). У браме, якая мела наверсе гадзіннік, размяшчаліся ў ніжнім ярусе кардэгарда, у верхнім — памяшканні архіва. Дапаможныя карпусы абапал брамы ўключалі шэраг жылых і гасп. памяшканняў, майстэрні, кухні, скляпы, скарбніцы і інш., а таксама замкавую капліцу з асн. памяшканнем, сакрысціяй, званіцай і кругавой галерэяй для



**Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс.** Уязная брама.



**Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.

літургічных працэсій. У капліцы былі фаянсавыя і разныя драўляныя алтары, амбон са штучнага мармуру. Скляпенні былі аздоблены размалёўкай на біблейскія сюжэты. Злева і справа ад замкавай брамы па-за межамі ўмацаванняў каля ставоў існавалі 2 комплексы жылых, гасп. і вытворчых пабудоў (жыллё прыслугі, свірны, стайні, вазоўні, парахавая і карэтныя майстэрні, кузня і інш.). Каля аднаго з іх стаяў тэатр. У замкавых бастыёнах былі арсеналы, алькежы і каморы. Пры перабудове гал. палацавага корпуса надбудаваны 4-ы паверх цэнтр. рызаліта, завершаны трохвугольным франтонам з рэльефным стукавым дэкорам. Перабудаваныя бакавыя карпусы злучаны з гал. корпусам 3-павярховымі жылымі будынкамі, а з уязной брамай (завершана вежай у 2-й пал. 18 ст.) — галерэямі. У выніку палац набыў замкнёную па перыметры паліганальную форму, блізкую да пяцівугольніка. Фасады, арыентаваныя на ўнутраны двор, аздоблены пілястрамі вял. ордэра і вырашаны ў 2 колеры. 8-гранныя вежы (дазорная і над брамай) накрыты шлемападобнымі купалкамі з галоўкамі. У 1809 комплекс рэстаўрыраваны арх. М. Цэйзікам. Часткова зберагліся багатыя калекцыі твораў мастацтва, зброі, сямейныя партрэты, б-ка, архіў. Аздоба інтэр'ераў таксама збераглася часткова. З 1945 у замку размешчаны санаторый «Нясвіж». П а р к і пейзажнага тыпу закладзены ў 1879 у пойме р. Уша. Пл. з вадаёмамі каля 100 га. Складаюцца з 5 аўтаномных ландшафтных зон, кожная з якіх мае сваю завершаную кампазіцыю. Ставамі Замкавым і Дзікім паркі падзяляюцца на правабярэжную і левабярэжную часткі. На правабярэжнай знаходзяцца палац і замак з фрагментам парку (Замкавы парк) і Стары («англійскі») парк з «японскім» садам. У замкава-палацавы фрагмент уключаны рэшткі бастыёнаў, напоўненыя вадой равы, валы, азялененыя дворыкі, на басты-

**Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс.** Унутраны двор.

ёнах — альтанкі. З дэкар. упрыгожанняў — стары калодзеж у стылі барока з дэталямі маст. коўкі і скульптура «Амур з чашай». Да замкавага парку прымыкае Стары парк з маляўнічымі палянамі, дэкар. групамі дрэў, памятнымі камянямі і архітэктурай малых форм (не зберагліся): Галандскім млынам, Бярозавым домікам, помнікам тхару. За Старым паркам у пач. 20 ст. створаны «японскі» сад з паплавамі. Алеямі ён злучаўся з узгоркам, на якім стаяла капліца. У левабярэжнай частцы размешчаны Новы (Марысін) парк з так званым іпадромам. У кампазіцыйных вырашэннях асобных ландшафтаў Новага парку адбіўся ўплыў натуралізму (памеры асобных паркавых груп павялічыліся, асобныя курціны пераходзяць у гаі і зялёныя масівы, а на ўсх. ускраіне ў так званы «рускі лес», які ў асноўным складаецца з мясцовых парод з рэдкімі экзотамі). У гэтай частцы парку былі афармлены калодзеж-крыніца, круглы стаў з выспай, ручай, астранамічны абеліск і інш. Іпадром дэкаратыўна афармлены елкамі. Над насаджэннямі Старога і Новага паркаў працаваў садавод-дэ-



**Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс.** Паркавы фасад галоўнага корпуса палаца.

каратар А. Пастарэмчак. У 1913—14 праведзены работы па паляпшэнні паркавых ландшафтаў. У парках растуць інтрадукаваныя пароды і дэкар. формы: елкі звычайная і Энгельмана, лістоўніцы даурская і с-бірская, хвоі веймутава і чорная, дуб звычайны (форма пірамідаль-ная), ліпа амерыканская (форм буйналістая); шмат дэкар. кусто Частка парку каля палаца належыць санаторыю «Нясвіж», астатняя — гораду. Комплекс — помнік рэспуб

лікanskага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе і ў арт. *Нясвіж*.
*М. А. Ткачоў, Ю. А. Якімовіч, В. Р. Анціпаў.*

**НЯСТАНІШСКІ ЛЯМУС.** Існаваў у 18—1-й пал. 20 ст. ў в. Нястанішкі (Смаргонскі р-н). Драўляная сядзібная гасп. пабудова для хавання харчовых прадуктаў, збожжа, каштоўнай маёмасці, прылад працы, а таксама жыцця ўлетку. Прамавугольны ў плане 2-паверхавы будынак накрыты ламаным гонтавым дахам; меў рысы нар. дойлідства і стылю барока. Абодва паверхі афармлялі слупавыя галерэі. Слупы ў верхніх частках мелі ўкосіны (невялікія ў ніжнім і большыя ў верхнім ярусах), якія стваралі выгляд аркаднай кампазіцыі. Цэнтр гал. фасада ў 2-м ярусе вылучала 2-пралётная арка з вісячай гіркай. *Ю. А. Якімовіч.*


**Нястанішскі лямус.**

**НЯХАЧАЎСКАЯ ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудавана паводле ўзорнага праекта 1846 у в. Няхачава (Івацэвіцкі р-н) на шашы Мінск — Брэст. Тры 1-павярховыя мураваныя будынкі з вальмавымі дахамі, злучаныя паміж сабою сценамі з арачнымі праездамі, утвараюць Е-падобную ў плане кампазіцыю з унутраным дваром. Цэнтр. будынак, квадратны ў плане, арыентаваны да шашы гал. фасадам, бакавыя, прамавугольныя ў плане,— тарцовымі фасадамі. Сцены будынкаў апрацаваныя плоскім рустам. Цэнтр. будынак вылучаны рызалітам, завершаным ступеньчатым атыкам. Аконныя праёмы (лучковыя ў цэнтр. корпусе і прамавугольныя ў бакавых) аздоблены лучковымі аркамі. У цэнтр. будынку знаходзіліся службовыя і жылыя памяшканні для падарожных, у бакавых — карэтная, стайня, пуня. Цяпер станцыя выкарыстоўваецца як адм. будынак. Помнік рэспубліканскага значэння.
*Т. І. Чарняўская.*


**Няхачаўская паштовая станцыя.**

# О

**ОБАЛЬСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Створана ў 1-й пал. 19 ст. ў г. п. Обаль (Шумілінскі р-н) на высокім правым беразе р. Обаль. Сядзібны дом — мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак з вальмавым дахам. На падоўжаных фасадах цэнтр. частка вылучана 4-калоннымі дарычнымі порцікамі з балконамі на фігурных кранштэйнах. Па баках руставаныя рызаліты. Каля гал. ўвахода скульпт. групы львоў. З боку дваровага фасада будынак мае цокальны паверх і тэрасу. У цэнтр. частцы вестыбюль і парадная зала (планіроўка зменена ў 1905—07). За домам размешчаны невял. пейзажны парк, у якім растуць дрэвы мясцовых парод (бяроза, ясень, ліпа) і дэкар. кусты. У доме размешчаны інтэрнат з-да керамічных вырабаў.
*А. М. Кулагін.*

**ОБРЫНСКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у 19—1-й пал. 20 ст. ў б. маёнтку Обрын (Навагрудскі р-н). Пабудаваны ў 1837 на беразе р. Обрынка. Меў рысы позняга класіцызму і несапраўднай готыкі. Складаўся з 3-павярховых мураваных будынкаў — асн. аб'ёму і 2 флігеляў, злучаных крытымі пераходамі і завершаных складанымі ламанымі дахамі. Цэнтр. рызаліт асн. аб'ёму, вылучаны на гал. фасадзе аркаднымі лоджыямі, завяршаўся мезанінам у выглядзе атыка з 3-вугольным франтонам. Сцены расчлянёныя прамавугольнымі і арачнымі аконнымі праёмамі, аздобленымі прафіляванымі ліштвамі і завершанымі франтончыкамі. Адзін флігель меў у завяршэнні вежачку з шатровым пакрыццём, другі — разнастайны псеўдагатычны дэкор (парэбрыкі, аркатура, разеткі, абрамленні ў выглядзе спічастых арак і какошнікаў, круглыя


**Обальская сядзіба.** Сядзібны дом.


**Обрынскі палац.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.

вокны-люнеты і інш.). У палацы была вядомая калекцыя фарфору, творы выяўленчага мастацтва, архіў. Належаў роду Обрынскіх, потым — Кашчыцаў. Апроч палаца, у маёнтку меліся млыны, рэзідэнцыя з муру, фруктовыя сады.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ОЛТУШСКАЯ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана да 1783 у в. Олтуш (Маларыцкі р-н), перабудавана ў 1862 і 1868. У 1889 да царквы пры ўваходзе праз тамбур прыбудавана 2-ярусная званіца (васьмярык на чацверыку) з шатровым дахам. Царква складаецца з трох прамавугольных у плане зрубаў. Асн. зруб накрыты шатровым, бабінец — 2-схільным са шчытом на гал. фасадзе, алтарны — 3-схільным дахамі, завершанымі фігурнымі вежачкамі. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі вокнамі з разнымі ліштвамі. Унутры асн. зруб і бабінец перакрыты вянковымі скляпеннямі накшталт усечанай столі. Над уваходам размешчаны хоры з балюстрадай. Апсіда ад асн. аб'ёму аддзелена 3-ярусным іканастасам, аформленым разнымі пілястрамі і лапаткамі. Асн. дэкаратыўны акцэнт — царскія вароты (ажурная разьба). Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*



**Олтушская Спаса-Праабражэнская царква.** Іканастас.



**Олтушская Спаса-Праабражэнская царква.** Агульны выгляд.

**ОПАЛЬСКАЯ ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 2-й пал. 18 ст. ў цэнтры в. Опаль (Іванаўскі р-н). Часткова перабудавана ў 19 ст. Прамавугольная ў плане 3-нефавая базіліка са зрэзанымі вугламі ў алтарнай частцы. Цэнтральны, вышэйшы за бакавыя неф завершаны 2-схільным дахам. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны брусамі-лапаткамі, вокны прамавугольныя і паўцыркульныя (у цэнтр. нефе). Спачатку гал. фасад фланкіравалі 2 вежы абапал 3-вугольнага франтона. Пры перабудове вежы разабраны, фасад аформлены 8-калонным порцікам (пазней калоны схаваны шалёўкай тамбура). Інтэр'ер падзелены 4 слупамі на нефы. Хоры на 2 слупах пераходзяць уздоўж бакавых сцен цэнтр. нефа ў кансольна-бэлечныя балюстрадныя галерэйкі. Алтар аддзелены 3-ярусным разным іканастасам (канец 19— пач. 20 ст.). Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ОПСАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры эклектыкі. Створана ў 1904, за 2 км ад в. Опса (Браслаўскі р-н), на беразе воз. Спаса. Уключае сядзібны дом з партэрам перад ім, гасп. пабудовы ў паўн. частцы сядзібы і невял. парк пейзажнага тыпу з ландшафтнай кампазіцыяй. Дом — мураваны Е-падобны ў плане будынак. Да накрытага ламаным дахам 1-павярховага аб'ёму, які мае 2-калонны порцік у цэнтры, па баках прылягаюць 2-павярховыя аб'ёмы з вальмавымі дахамі. У аздобе фасадаў выкарыстаны рустоўка, прафіляваныя ліштвы і карнізы. Планіроўка калідорная. У цэнтры вестыбюль і парадная зала, якая мае выхад на вял. дваровую тэрасу з лесвіцай да возера на берагавым схіле. У тарцах дадатковыя ўваходы і міжпаверхавыя лесвіцы. У будынку размешчана школа-інтэрнат. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.



**Опальская царква Параскевы Пятніцы.**

*А. М. Кулагін.*

**ОПСАЎСКІ КАСЦЁЛ,** касцёл святога Яна, помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны з цэглы і бутавага каменю ў 1887 у в. Опса Браслаўскага р-на па фундацыі Ф. Брыль-Плятара на месцы драўлянага касцёла (заснаваны ў 1768 па фундацыі Г. Ціханавецкай). Уяўляе сабой 1-нефавы 1-вежавы храм з 5-граннай апсідай, абапал якой былі нізкія сіметрычныя сакрысціі. Асн. аб'ём накрыты 2-схільным дахам, больш нізкая апсіда — вальмавым,

сакрысціі — 2-схільнымі дахамі, якія вырашаны на тарцах накшталт вімпергаў. Такі самы вімперг аздабляе партал гал. ўвахода. Над ім размешчана акно-«ружа», вышэй — падвойнае арачнае акно. Вежа-званіца завершана востраканцовым шатром. У дэкоры выкарыстаны зробленыя з цэглы прафіляваныя цягі, аркатурныя паясы, лапаткі і арачныя нішы. Унутры неф і апсіда перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі. У адным стылі з касцёлам пабудаваны плябанія і агароджа з бутавага каменю і чырвонай цэглы. З 1949 касцёл быў закрыты, у красавіку 1989 у будынку адкрыта канцэртна-выставачная зала Браслаўскага аддзела культуры. У лістападзе 1989 касцёл перададзены вернікам. *Т. В. Габрусь.*



**Опсаўская сядзіба.** Сядзібны дом.



**Орша.** Панарама горада з боку Дняпра.

**ОРША,** горад, цэнтр Аршанскага р-на, на Дняпры пры ўпадзенні ў яго р. Аршыца. За 80 км на Пд ад Віцебска. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067 як горад Р ъ ш а Полацкага княства. У сярэдзіне 12 ст. каля 5 тыс. жыхароў. З 1320-х гадоў у складзе Вял. кн. Літоўскага, з 1560-х гадоў дзярж. уладанне, цэнтр павета. У 14 ст. на месцы стараж. гарадзішча пабудаваны *Аршанскі замак.* У 16 ст. ў ходзе шматлікіх войнаў горад неаднаразова разбураны. У 17 ст. каля 5 тыс. жыхароў, існавала 26 відаў рамёстваў, у пач. 18 ст.— 49, у 2-й пал. 18 ст.—52. Горад меў гандл. сувязі з Расіяй, Прыбалтыкай, Украінай. Быў транзітным цэнтрам, пачатковым пунктам вял. гандл. шляху — «гасцінца купецкага», што праходзіў па тэр. Беларусі з У на З. У 1620 горад атрымаў магдэбургскае права. Меў герб — на блакітным полі белы крыж з залатым паўмесяцам пад ім. У 1623 у сутоках Дняпра і Куцеінкі засн. *Аршанскі Куцеінскі Богаяўленскі манастыр,* у 1631 пабудаваны *Аршанскі Куцеінскі Успенскі манастыр.* У рус.-польскую вайну 1654—67 О. занята рус. войскамі (да 1661). Значныя страты прычынены гораду ў Паўн. вайну 1700—21. З 1772 у складзе Расіі, цэнтр павета і правінцыі (да 1775). У 16—18 стагоддзях у горадзе пабудаваны драўляная царква Ільі Прарока (1505), мураваныя касцёл і 2-павярховы будынак калегіума (1690), манастыры бернардзінцаў (1636), базыльянак (1642), дамініканцаў (драўляныя будынкі пастаўлены ў 1649—50, мураваны касцёл — у 1819), францысканцаў (мураваныя будынкі пастаўлены ў 1680), саборная мураваная царква Раства Маці Боскай (1691), касцёлы трынітарыяў (1714), місіянераў (1752), марыявітак (18 ст.), цэрквы Ушэсця (1757), Іаана Багаслова (1790; усе не збераглiся), *Аршанскі манастыр базыльян* (2-я пал. 18 ст.). У 1778 распрацаваны план забудовы О., які прадугледжваў рэгуляванне вулічнай сеткі, узбуйненне кварталаў, выраўноўванне паўкальцавых магістралей, стварэнне непадалёку ад цэнтр. ядра горада новай грамадскай плошчы з гасцінным дваром і адм. установай, развіццё Задняпроўскага р-на. У Айч. вайну 1812 горад спалены французскімі войскамі. У 1848 распрацаваны новы праект планіроўкі, які ў асн. рысах паўтараў папярэдні план. У 19— пач. 20 ст. тэр. горада значна павялічылася, пераважала драўляная забудова. У 2-й пал. 19 ст. О.— буйны чыг. вузел, аршанская прыстань — значны транзітны пункт, адкуль штогод адпраўлялася каля 100 суднаў. 13 161 жыхар у 1897. За 1,5 км ад горада забудаваўся прывакзальны раён, які ў 1878 злучыўся з гарадскім цэнтрам брукаванай магістраллю, у цэнтры О. закладзены парк. У 1880 пабудавана *Аршанская Ільінская царква,* у 1902— *Аршанскі вадзяны млын,* у 1906— *Аршанскага рэальнага вучылішча будынак.* На плане 1911 горад падзелены на 3 часткі Дняпром і Аршыцай, рэгулярная планіроўка ўяўляла сабой сетку ўзаемна перпендыкулярных вуліц. У 1911—19 існавала жаночая настаўніцкая семінарыя. З 1919 О. ў Гомельскай, з 1920 у Віцебскай губ. РСФСР, з 1924 у БССР, цэнтр раёна і акругі (да 1930). З 1938 горад абл. падпарадкавання. 37,6 тыс. жыхароў у 1939, 64,6 тыс.— у 1959, 100,6 тыс.— у 1970, 117,7 тыс.— у 1984. Паводле генпланаў О. 1940, 1948 («Белдзяржпраект») аб'яднаны разрозненыя раёны, у 1957 распрацавана схема размяшчэння новага жыллёвага буд-ва (Віцебскі філіял ін-та «Белдзяржпраект»). Сучасны горад уключае цэнтральны, прывакзальны, паўночны, паўднёвы планіровачныя раёны, раёны льнокамбіната і Задняпроўя. Асн. жылы масіў з адм.-грамадскім і культ. цэнтрам размешчаны на правым беразе Дняпра, на месцы гіст. ядра О. з радыяльнай сістэмай вуліц. Асн. кампазіцыйныя восі — вуліцы Леніна (захаваўся фрагмент забудовы канца 19— пач. 20 ст.), Астроўскага, Міру (звязвае цэнтр з вакзалам), праспект Тэкстыльшчыкаў. На скрыжаванні вуліц Леніна і Міру ўтворана цэнтр. плошча, з боку Дняпра да яе прылягае Прыдняпроўскі парк. Цэнтр і мікраёны (мікраён Задняпроўе 1, ствараюцца мікраёны Задняпроўе 2, па вуліцах Чырвонай і Леніна) забудоўваюцца 5—9-павярховымі дамамі. Сфарміраваны паўн. і паўд. прамысл. зоны. Зона адпачынку — уздоўж Дняпра і Аршыцы.

*Г. К. Гаранскі, Ю. І. Драгун, Ю. А. Якімовіч.*

**ПАВІЦЦЕЎСКАЯ ПРАЧЫСЦЕНСКАЯ ЦАРКВА,** царква Раства Багародзіцы, помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1912 з брусоў (18×18 см) у в. Павіцце (Кобрынскі р-н) пад кіраўніцтвам чэшскага майстра Гута. Асвячона 9 кастрычніка 1912. Даўж. 32 м, шыр. 18, выш. (па крыжы на званіцы) — 40 м. У плане ўяўляе сабой традыцыйную 4-частковую схему: званіца, трапезная, асн. аб'ём, алтар. Да асн. аб'ёму з 4 бакоў прымыкаюць прыбудовы: з З 2 уваходы, з У дзяканнік з асобным уваходам і ахвярнік, аб'яднаныя гал. алтаром. У інтэр'еры храма гал. элемент — 2-ярусны драўляны разны іканастас, выкананы ў пач. 20 ст. У архіт.-стылявой структуры відавочнае спалучэнне рыс традыцыйнага нар. драўлянага дойлідства (разьба на навесах ганкаў, барабанах і інш.), рэтраспектыўна-рускага (планіроўка, форма і канструкцыя званіцы, 5-купалле асн. аб'ёму, выкарыстанне 3-лопасцевых какошнікаў і інш.) і неарускага (ламаныя абрысы завяршэння гал. барабана, падзораў цвінтара) стыляў. Царква дзейнічае.

*Г. А. Лаўрэцкі.*

**ПАГРАБЁНКАЎСКАЯ ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Знаходзіцца каля в. Паграбёнкі (Сенненскі р-н) на аўтамагістралі Кіеў — Санкт-Пецярбург. Пабудавана ў канцы 1840-х гадоў паводле ўзорнага праекта станцыйных дамоў 3-га разраду (зацверджаны ў 1846). Захаваліся: будынак паштовай станцыі (станцыйны дом), флігель для фурманаў, свіран, хлеў, стайня (часткова перабудавана) і цагляная агароджа, у якой былі 2 сіметрычна размешчаныя праезды (адзін замураваны). Станцыйны дом павернуты гал. фасадам да дарогі; разам з агароджай ён стварае франтальную кампазіцыю. Дом прамавугольны ў плане, з восевым падоўжаным размяшчэннем 2-камерных сенцаў; па баках іх былі пакоі для праезджых і кватэра наглядчыка. Аконныя праёмы і ўваходны партал стральчатыя. Над уваходам — невял. навісь, якую падтрымліваюць літыя чыгунныя кранштэйны. Сцены будынка раскрапаваны прамавугольнымі філёнгамі, дэкарыраваны стральчатымі нішамі. Цяпер у будынку размешчана лінейная дарожная служба. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. С. Сардараў.*

**ПАДАРОСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў канцы 18 ст. ў в. Падароск (Ваўкавыскі р-н). 1-павярховы прамавугольны ў плане выцягнуты будынак мае сіметрычную кампазіцыю з 2-павярховай мураванай цэнтр. часткай, вылучанай на гал. фасадзе глыбокім порцікам з трохвугольным франтонам. Драўляныя бакавыя крылы атынкаваны і накрыты высокімі вальмавымі дахамі. У вырашэнні порціка спалучаюцца слупы, калоны, аркада (на 1-м паверсе), якая падтрымлівае шырокую тэрасу. Уваход афармлены паўратондай з балконам над ёй. Прамавугольныя вокны аздоблены прафіляванымі ліштвамі. Унутраная планіроўка анфіладна-калідорная. У будынку размешчана праўленне саўгаса «Падароск». Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Ярашэвіч.*



**Падароскі сядзібны дом.**



**Павіццеўская Прачысценская царква.**

**ПАЛАНЭЧКАЎСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ,** помнік архітэктуры і садова-паркавага мастацтва канца 18—1-й пал. 19 ст. Уключаў палац, капліцу-пахавальню, аранжарэю, уязную браму,



**Паланэчкаўскі палацава-паркавы ансамбль.** З малюнка Н. Орды.

млын, парк. Палац заложаны К. Радзівілам. Пабудаваны ў 1-й пал. 19 ст. ў стылі ампір у в. Паланэчка (Баранавіцкі р-н) на левым беразе р. Змейка, у 2-й пал. 19 ст. адбудоўваўся А. С. Радзівілам. У 19 ст. ў палацы былі б-ка, архіў, калекцыі нумізматычная і твораў мастацтва. Значна пашкоджаны ў 1917 і асабліва ў 1943; адноўлены. Цяпер у ім размешчана школа-інтэрнат. Мураваны палац мае сіметрычна-восевую 3-часткавую кампазіцыю. У цэнтры дамінуе 2-павярховы набліжаны ў плане да квадрата будынак, да якога з бакоў далучаны галерэямі квадратныя ў плане 1-павярховыя павільёны. Да паўд.-заходняга ў 2-й пал. 19 ст. прыбудаваны корпус зімовага сада (аранжарэя) у рэтраспектыўных формах готыкі (не захаваўся). Будынкі накрыты ярусна ўзнятымі пакатымі шатровымі дахамі. Цэнтр. частка гал. фасада вылучана плоскімі пілястрамі, дэкарыравана гермамі (на 2-м паверсе) і завершана 3-вугольным франтонам (не захаваўся), на тымпане якога знаходзіўся ляпны герб уладальнікаў Радзівілаў (належаў ім да 1939). Плоскасныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, аздобленымі плоскімі ліштвамі з сандрыкамі на фігурных кранштэйнах і філёнгамі, размежаваны міжпаверхавымі паясамі. Першапачатковая планіроўка значна зменена. Вылучаліся цэнтр. парадная люстэркавая зала і вестыбюль з лесвіцай на 2-і паверх (у далейшым



**Паланэчкаўскі палацава-паркавы ансамбль.** Галоўны фасад палаца. Фота пачатку 20 ст.

замест сходаў зроблены бакавыя лесвічныя маршы); у бакавых павільёнах знаходзіліся жылыя і службовыя памяшканні. Палац — помнік рэспубліканскага значэння. Парк пейзажна-рэгулярнай планіроўкі складаўся з 2 частак. Пейзажная частка (з сажалкай) размешчана перад палацам на 4 тэрасах, якія з невял. перападамі спускаліся да ракі. Верхняя прамавугольная тэраса, умацаваная падпорнымі сценкамі, па перыметры была абсаджана тапаляй чорнай пірамідальнай. На газоне перад палацам — сонечны гадзіннік. Алея па падоўжанай восі палаца ішла праз парк да капліцы-пахавальні заснавальніка сядзібы. За палацам быў разбіты рэгулярны «французскі» парк са шпалерамі і баскетамі. *А. М. Кулагін.*

**ПАЛАНЭЧКАЎСКІ ЮР'ЕЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў 1899 (арх. К. Вайцяхоўскі) у цэнтры в. Паланэчка (Баранавіцкі р-н) непадалёку ад *Паланэчкаўскага палацава-паркавага ансамблю.* У архітэктуры выкарыстаны элементы стылю неаготыкі. Прамавугольны ў плане асн. аб'ём з 5-граннай апсідай. З У да алтарнай апсіды прылягаюць 2 нізкія сакрысціі, аднасхільныя дахі якіх сіметрычна выступаюць за асн. аб'ём. З захаду на гал. фасадзе 2 вежы, завершаныя глухімі чацверыкамі з высокімі пірамідальнымі шатрамі. Паміж вежамі — франтон з люнетам. Гал. ўваход аформлены дэкар. ганкам з 2-схільным навесам на 2 калонках. Сцены гарызантальна ашаляваныя. Франтон, чацверыкі, карнізы і вокны аздоблены накладнымі дэкар. дэталямі геаметрычнай формы. Бакавыя сцены пра-



**Паланэчкаўскі Юр'еўскі касцёл.**

рэзаны высокімі стральчатымі вокнамі і ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі. Да гал. ўвахода вядзе нізкая лесвіца. Інтэр'ер зальны, адметны цікавым дэкар. афармленнем, перакрыцце бэлечнае з плоскай падшыўной столлю. У зах. частцы 6 калонак падтрымліваюць хоры з арганам, зробленым віленскім майстрам Ф. Астрамескім (1897). Аднаярусны алтар — узор нар. мастацтва разьбы па дрэве. На яго нізкім прафіляваным цокалі пышнае віццё аканта, якое абрамляе алтарныя карціны.

*Т. І. Чарняўская, М. М. Яніцкая.*

**ПАЛЕСКІЯ ШКОЛЫ ДОЙЛІДСТВА.** Сфарміраваліся ў 17—18 стагоддзях у драўляным грамадзянскім і культавым дойлідстве Беларускага Палесся, традыцыі школ развіваліся да пач. 20 ст. Вылучаліся самабытнымі канструкцыйнымі і маст. прыёмамі стварэння архіт. формы. Адрозніваюць заходнепалескую і ўсходнепалескую (прыпяцкую) школы.

Заходнепалеская школа склалася ў межах сучаснай Брэсцкай вобл. паміж Брэстам і Пінскам. Народнае жыллё гэтай зоны вылучаецца своеасаблівасцю канструкцыі, планіроўкі, арганізацыі двара, архітэктуры пабудоў. Зрубы жылых і гасп. пабудоў ставілі пераважна з брусоў і дыляў з рубкай вуглоў «у каню», «у просты замок» і без «астатку». У гасп. збудаваннях была пашырана слупавая канструкцыя плеценых з лазы сцен. Шырока бытавалі 4-схільныя стрэхі і паўвальмавыя з прычолкамі, накрытыя саломай ці чаротам. Здаўна характэрна каркасная канструкцыя страхі на сохах, стаяках, козлах, пазней — на крокваx. Своеасаблівасць планіроўкі 3-камернага жылля заключалася ў тым, што жылы пакой сенцамі злучаўся часам не з клецію, а з варыўняй. Найбольш пашыраны былі пагонныя двары. У культавым дойлідстве пераважалі храмы падоўжна-восевай кампазіцыі, дзе розныя па памерах і форме зрубы аб'ядноўвалі агульным пластычным гонтавым дахам (*Здзітаўская Мікітаўская царква, Вавуліцкая царква Раства Багародзіцы* і інш.). Будавалі таксама цэрквы з невысокімі пірамідальнымі вярхамі, часам зрэзанымі ў верхняй частцы (*Олтушская Спаса-Праабражэнская царква*), храмы з вежамі-званіцамі на гал. фасадзе (*Альбінская Георгіеўская царква*), крыжовыя з перавагай у кампазіцыі падоўжнай восі (*Чарнаўчыцкая царква Параскевы Пятніцы*). Пад уплывам стылю барока з'явіліся храмы падоўжна-восевай кампазіцыі з 2-вежавым гал. фасадам (*Валавельская Юр'еўская царква*) і базілікальныя (*Опальская царква Параскевы Пятніцы*). Асн. тыпы званіц — слупавыя (в. Ражкоўка Камянецкага р-на), каркасныя (в. Хмелева Жабінкаўскага р-на) і ярусныя зрубна-каркасныя (гл. ў арт. *Чэрская Міхайлаўская царква і званіца*). Для школы характэрны сувязі з дойлідствам Украіны (Валынь, Букавіна), Літвы і Польшчы.

Усходнепалеская (Прыпяцкая) школа склалася ў Прыпяцкім Палессі і верхнім Паднепроўі (у межах сучасных Гомельскай, У Брэсцкай і Пд Мінскай абласцей). Для асн. часткі гэтай тэрыторыі характэрны вянковыя, пагонныя, Г-падобныя двары і 2- і 3-камерныя хаты. Жыллё і гасп. пабудовы вылучаліся тэхнікай складання сцен з бярвён (рубка вуглоў з «астаткам»; часам выступы-канцы бярвён «астатку» счэсваліся на 6 граней), выкарыстаннем 2-схільных драніцавых дахаў на зволаках. У паўд. частцы зоны сустракаліся цэнтрычныя пабудовы жылога і гасп. прызначэння з вянковым пірамідальным перакрыццём. На ПдУ многія жылыя будынкі мелі квадратны план і вальмавы каркасны дах. У культавым дойлідстве, разам з храмамі падоўжна-восевай кампазіцыі, былі пашыраны храмы глыбінна-прасторавай і крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі з яруснымі вярхамі. На ранняй стадыі развіцця школы (17—1-я пал. 18 ст.) вярхі чацверыковыя пірамідальныя (*Сінкевіцкая Георгіеўская царква*), пад уплывам стылю барока расла колькасць заломаў (*Слуцкая Міхайлаўская царква*), вярхі станавіліся васьмерыковымі (*Старабеліцкая Мікалаеўская царква*). У 2-й пал. 18— пач. 19 ст. Усходнепалескай школай выпрацаваны арыгінальны прыём узмацнення кантрасту кампазіцыі цэнтр. храмавага аб'ёму ў выніку пастаноўкі паміж 2 васьмерыкамі чацверыка (*Рубельская Міхайлаўская царква*, царква ў в. Леніна Жыткавіцкага р-на, *Кажан-Гарадоцкая Мікалаеўская царква*). Такі прыём характэрны і для званіц. Будавалі таксама ярусныя храмы глыбінна-прасторавай кампазіцыі са званіцамі на гал. фасадзе (*Гомельская Ільінская царква*). На раннім этапе заўважалася сувязь школы з Бойкаўшчынай (Украінскія Карпаты), на познім пэўны ўплыў зрабіла дойлідства Левабярэжнай Украіны.

*Ю. А. Якімовіч.*

**«ПАНЯМОНЬ»,** Гродзенская сядзіба, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга барока. Створана ў 1771 на ўсх. ускраіне Гродна, на правым беразе Нёмана як загарадная рэзідэнцыя караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага (арх. Ю. Аляхновіч), перабудавана ў 19 ст. Палацава-паркавы ансамбль, у які ўваходзяць палац, парк, капліца і гасп. пабудовы, з Пд абмежаваны ракой, з У і Пн — глыбокім ровам. Палац — 1-павярховы мураваны (пазней частка разбураных сцен заменена драўлянымі) будынак. Збярогся фрагмент вуглавой вежы, якая вылучаецца плаўным абрысам, тонкай і складанай прафіліроўкай карнізаў і абрамленнямі, здвоенымі пілястрамі з ажурнымі капітэлямі, гарызантальнай рустоўкай. У цэнтры гал. фасада — 4-калонная навіс. Дваровы фасад упрыгожаны 4-калонным порцікам на высокім цокалі. Перапад у рэльефе забяспечыў дваровому фасаду адкрыццё цокальнага паверха, службовыя памяшканні якога мелі сувязь з памяшканнямі параднага паверха. Планіроўка будынка анфіладная, з выхадам у цэнтральную вял. парадную залу. Палац і адкрыты перад ім партэр размешчаны ў глыбіні пейзажнага парку, над стромкім берагам, умацаваным падпорнымі сценкамі тэрас. Парк разбіты перад палацам і па схілах рова. Уезд пазначаны капліцай (сярэдзіна 19 ст.) неагатычнага стылю. Гасп. і службовыя пабудовы былі вынесены за межы парадиай часткі ансамбля і пастаўлены з зах. боку палаца ў адзін рад.

*А. М. Кулагін.*



Гродзенская сядзіба «Панямонь». З малюнка Н. Орды.

**ПАРАФ'ЯНАЎСКІ КАСЦЁЛ,** касцёл Іаана Хрысціцеля, помнік архітэктуры неабарока. Пабудаваны ў 1908 з цэглы ў в. Параф'янава (Докшыцкі р-н). Уяўляе сабой 3-нефавую 2-вежавую базіліку з трансептам. З усх. боку завяршаецца паўцыркульнай апсідай з абходнай галерэяй і 2 сакрысціямі. Гал. (заходні) фасад вылучаюць 2 шмат'ярусныя вежы. Паміж вежамі фігурны шчыт, такі ж і над дахам алтарнай часткі. Тарцы трансепта завершаны 3-вугольнымі франтонамі. У дэкар. аздобе фасадаў, прарэзаных паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, выкарыстаны пілястры, шырокія прафіляваныя карнізы,



**Параф'янаўскі касцёл.** Бакавы фасад.

люнеты. У інтэр'еры 8 слупоў падзяляюць прастору залы на 3 нефы. Цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем, бакавыя — крыжовымі. Слупы і сцены дэкарыраваны здвоенымі пілястрамі, упрыгожаны арнаментальнай размалёўкай і 13 гіпсавымі пафарбаванымі гарэльефамі са сцэнамі пакут Хрыста, выкананымі ў 1927 у Варшаве (на адным з гарэльефаў збярогся надпіс «Oliara I. A. і A. Koreńków»). У 1989 перададзены вернікам. Вядзецца рэканструкцыя (1990).

**ПАСТАВЫ,** горад, цэнтр раёна, на р. Мядзелка. За 250 км ад Віцебска. Вядомы з 1522 як мястэчка Ашмянскага пав. Вял. кн. Літоўскага. Належалі магнатам Дэспатам-Зяновічам, Тызенгаўзам. У 1552 пабудаваны драўляны касцёл Маці Боскай (адноўлены ў 1760, не захаваўся). Паводле інвентара 1628 цэнтрам П. была гандл. плошча (стаялі касцёл з плябаніяй, карчма, 6 двароў гандляроў і рамеснікаў). На вуліцах-дарогах, што вялі на Мядзел, Глыбокае і Друю, было 26 двароў. За р. Мядзелка (у інвентары Мядзеліца) размяшчалася прадмесце Зарэчча (мела 17 двароў); былі таксама 2 пасады па 8 і 9 двароў. Усяго ў П. налічвалася 66 двароў. За межамі мястэчка існаваў сядзібны комплекс. Пасля 1640 на востраве (на ПнУ ад цэнтра), утвораным выгінам р. Мядзелкі і каналам, пабудаваны кляштар францысканцаў з касцёлам (не захаваліся). У 2-й пал. 18 ст. А. Тызенгаўз правёў карэнную рэканструкцыю мястэчка на падставе рэгулярнага плана. Цэнтрам мястэчка стала выцягнутая з Пд на Пн прамавугольная гандл. плошча, у планіроўцы якой удзельнічаў італьянскі архітэктар Дж. Сака. Пабудаваны палац, на У ад якога разбіты парк пейзажнага тыпу (гл. *Пастаўскі палацава-паркавы комплекс)*; на рынку — ансамбль мураваных дамоў рамеснікаў, урача, аўстэрыя, гандл. рады і інш. (гл. *Пастаўскі архітэктурны ансамбль).* Ад плошчы адыходзілі ў радыяльных напрамках 4 вуліцы — Браслаўская, Зарэчная, Задзеўская і Віленская на З, Пн (да Друі), У і Пд (да сядзібнага комплексу). Рэгулярныя кварталы на перыферыі мелі драўляную забудову, на З і Пд ад яе размяшчаліся гуменныя пляцы. З 1791 П.— горад, цэнтр Завілейскага пав. Віленскага ваяводства, мелі свой герб: на блакітным полі шчыта рыбалоўная сетка і 3 залатыя рыбіны. З 1793 у складзе Расіі, горад, да 1796 цэнтр павета, пасля мястэчка, цэнтр воласці Дзісенскага пав. Мінскай, з 1842 Віленскай губерняў. У 2-й пал. 19 ст. ў П. праводзілася штогод 7 кірмашоў, 2397 жыхароў (на 1897), засн. арніталагічны музей і карцінная галерэя. У 19 ст. мураваныя дамы ўзводзіліся пераважна ў цэнтр. частцы. У 2-й пал. 19 ст. пабудаваны з цэглы *Пастаўскі вадзяны млын, Пастаўскі касцёл* і *Пастаўская царква.* З 1921 П. ў складзе бурж. Польшчы, горад, цэнтр павета Віленскага ваяводства. З 1939 у БССР, з 1940 цэнтр раёна Вілейскай, з 20.9.1944— Маладзечанскай, з 20.1.1960— Віцебскай абласцей.

Рака ў межах горада ўтварае 2 вадаёмы, дзеліць яго на зах. і ўсх. раёны. У зах. раёне гістарычна склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр з пл. Леніна (б. гандлёвая), ад якой адыходзяць асн. кампазіцыйныя восі — вуліцы Ленінская, Савецкая, 17 Верасня, Чырвонаармейская. У паўн.-зах. частцы горада будуюцца 2—3-павярховыя капітальныя жылыя дамы. 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу сканцэнтравана пераважна ў паўночнай частцы (вуліцы Першамайская, К. Маркса, Дзяржынскага і інш.). Ва ўсх. раёне размешчана прамысл. зона. Па вул. Юбілейнай ствараецца новы мікрараён з 5-павярховых жылых дамоў. Зона адпачынку — азёры Задзеўскае і Пастаўскае, парк, у якім захаваўся сядзібны комплекс 2-й пал. 18—19 ст. 1-ы пасляваенны генплан П. распрацаваны ў 1962 (ін-т «Белдзяржпраект»). Горад забудоўваецца паводле генплана 1976 і праекта дэталёвай планіроўкі Усх. жылога раёна 1978 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Жаўняк і Л. Смірнова). Прадугледжваецца развіццё горада на У, расшырэнне зоны адпачынку. Каля горада, на паўн. беразе воз. Задзеўскае выяўлена паселішча эпохі позняга неаліту і ранняга бронзавага веку (3-е — пач. 2-га тысячагоддзя да н. э.).

*Ю. А. Якімовіч, Г. С. Ларкін.*

**ПАСТАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. Пабудавана ў 1894 на цэнтр. плошчы г. Паставы з цэглы, атынкавана. Асн. прамавугольны ў плане аб'ём храма выцягнуты па папярочнай восі. Да яго прымыкаюць закругленая апсіда, дадатковы аб'ём і бабінец з ганкам. Па баках апсіды і бабінца размешчаны дапаможныя памяшканні. Асн. аб'ём завершаны традыцыйным пяцігалоўем, бабінец — шатровай званіцай з галоўкай. У дэкоры фасадаў выкарыстаны какошнікі, арнаментальныя паяскі, ліштвы, паўцыркульныя нішы. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю. Царква дзейнічае. *Т. В. Габрусь.*

**ПАСТАЎСКІ АРХІТЭКТУРНЫ АНСАМБЛЬ,** помнік горадабудаўніцтва 2-й пал. 18 ст. Пабудаваны ў 1760—80-я гады ў Паставах у стылі барока з удзелам італьянскага арх. Дж. Сака на беразе р. Мядзелка на высокім узгорку (сучасная пл. Леніна). Быў адм., культ. і гандл. цэнтрам горада. Забудова спачатку была драўляная. На прамавугольнай у плане плошчы (295×93 м) цэнтр. месца займалі гандл. рады. На зах. баку плошчы знаходзіліся будынак канцылярыі і суда, абапал яго сіметрычна стаялі па 3 дамы рамеснікаў; іх фланкіравалі дом урача і гасцініца. На ўсх. баку паміж драўлянымі храмамі быў 2-павярховы з вежай будынак школы. На паўд. ба-



**Паставы.**





**Пастаўскі архітэктурны ансамбль.** Дамы рамеснікаў.

**Пастаўская царква.**

ку знаходзіліся карчма і сіметрычна ёй 2 аднолькавыя гасцініцы. На паўн. баку пабудаваны аўстэрыя і 3 дамы рамеснікаў. Зберагліся б. дом урача, 3 дамы рамеснікаў, гасцініца, жылы дом, у якім размешчаны адм. і гандл. ўстановы.

Дом урача (№ 4) — прамавугольны ў плане мураваны 2-павярховы будынак накрыты высокім вальмавым чарапічным дахам. Гал. фасад сіметрычна раскрапаваны нішамі і філёнгамі. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны плоскімі ліштвамі з замковым каменем. На 1-м паверсе знаходзіліся аптэка і лячэбніца, на 2-м — жылыя пакоі. Дамы рамеснікаў (№ 5, № 9, № 15) — прамавугольныя ў плане, 1-павярховыя, з мансардамі, накрытыя 2-схільнымі чарапічнымі дахамі. Утвараюць суцэльную забудову. Складаліся з вытворчай і жылой частак. Сцены бакавых і дваровых фасадаў будынкаў зроблены з брусоў, гал. фасады — мураваныя, з фігурнымі шчытамі. Карнізы падзяляюць гал. фасады на 2 ярусы: першыя раскрапаваны цягамі, аконныя праёмы абрамлены простымі ліштвамі, другія маюць фігурныя франтоны, расчлянёныя філёнгамі. Гасцініца (дом № 11) мае ідэнтычную з домам урача аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Пачатковая планіроўка зменена. Жылы дом (№ 13) — 1-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак. Сфарміраваны ў выніку аб'яднання і рэканструкцыі ў 19 ст. 2 дамоў рамеснікаў. Гал. фасад атрымаў складаную асіметрычную кампазіцыю з высокімі ступеньчатымі атыкамі, спрошчанай крапоўкай сцен, шатровай вежачкай над адным з прамавугольных акон. *С. Г. Багласаў.*

**ПАСТАЎСКІ ВАДЗЯНЫ МЛЫН,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Знаходзіцца ў цэнтры горада, каля плаціны моста цераз р. Мядзелка. Пабудаваны з цэглы ў 2-й пал. 19 ст. 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты 2-схільным дахам. Цэнтр. частка гал. фасада вылучана рызалітам. Гал. ўваход падкрэслены цыркульным арачным праёмам з 2 невысокімі калонамі. Масіўныя сцены прарэзаны невял. прамавугольнымі вокнамі, крапаваны прафіляванымі міжпаверхавымі паясамі і карнізам. На 1-м паверсе знаходзіліся турбіна і шматступеньчатая трансмісія, на 2-м — жорны, на 3-м — дапаможныя памяшканні. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ПАСТАЎСКІ КАСЦЁЛ,** касцёл Антонія Падуанскага, помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1898—1904 арх. А. Гойбелем у цэнтр. частцы г. Паставы, на правым беразе р. Мядзелка, на тэр. былога драўлянага францысканскага манастыра, заснаванага ў 1617 на сродкі Станіслава і Ганны Сянкевічаў-Бяганскіх. Спачатку быў пабудаваны драўляны крыжападобны ў плане храм з купалам у сяродкрыжжы і з 2 капліцамі і 2 сакрысціямі па баках. Пад касцёлам былі 4 цагляныя падвалы. У 1898 драўляны касцёл разабраны і на яго фундаменце (з выкарыстаннем б. падвалаў) пачалося буд-ва мураванага касцёла. У гады 1-й сусветнай вайны будынак моцна пашкоджаны, знішчаны арган, гал. алтар, амбон, пашкоджаны скляпенні, дах, вокны, дзверы. Адбудаваны ў 1920-я гады. Сучасны касцёл — крыжападобны ў плане храм з 5-граннай алтарнай апсідай. Асн. аб'ём накрыты 2-схільным чарапічным дахам. Шмат'ярусная вежа (выш. каля 100 м) завершана шатровым дахам. Бакавыя фасады прарэзаны высокімі стральчатымі вокнамі і ўмацаваны ступеньчатымі контрфорсамі. На чырвоным фоне цаглянай муроўкі сцен вылучаюцца атынкаваныя і пабеленыя нішы, аркатура. Унутраны 3-нефавы аб'ём на гал. фасадзе падкрэслены 3 стральчатымі парталамі. Падлога касцёла выкладзена цагля-

ными плітамі, у прэсбітэрыі — тэракотавымі. У інтэр'еры касцёла былі 3 драўляныя разныя алтары і амбон, выкананыя ў гатычным стылі. Металічная агароджа, якой была абнесена тэр. касцёла, знішчана ў 1-ю сусветную вайну. Цяпер у будынку знаходзіцца прамысл. прадпрыемства. У далейшым мяркуецца перадаць касцёл вернікам. *В. Р. Кукуня.*

**ПАСТАЎСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ КОМПЛЕКС,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Створаны ў канцы 18 — 1-й пал. 19 ст. на паўд. ускраіне Паставаў на левым беразе р. Мядзелка. Комплекс, які ўключае палац і парк, быў пабудаваны на месцы сядзібы 1-й пал. 17 ст. Першапачатковая сядзіба складалася з жылых і гасп. пабудоў (5 драўляных жылых дамоў, кухня, 5 свірнаў, 3 стайні, вазоўня, пограб і інш.), якія ўтваралі прамавугольны ў плане двор, абнесены астрогам з 2 брамамі. Гал. жылы дом — 1-павярховы складанай канфігурацыі будынак з 2 алькежамі і 2 ганкамі, завершаны гонтавым дахам. Астатнія дамы — традыцыйнае 2- і 3-камернае жыллё. Існаваў таксама фальварак — 3-камерны жылы дом для прыслугі, сыраварня, склеп і абора, якія ўтваралі асобнае падвор'е. Да фальварка ад двара і мястэчка вялі агароджаныя плотам дарогі. На гумнішчы стаялі стадола, асець, адрына, абарогі. Пры сядзібе быў бровар. Будаўніцтва палацава-паркавага комплексу было распачата на месцы сядзібы ў 1760-я гады (магчыма, паводле праекта арх. Дж. Сака). У 1770-я гады спынена (пабудаваны 2 бакавыя флігелі і закладзены падмурак палаца). У 1-й пал. 19 ст. пабудаваны П-падобны ў плане 1-павярховы мураваны п а л а ц. Цэнтры паўд. і ўсх. крылаў вылучаны больш высокімі аб'ёмамі з мезанінамі. Усе часткі палаца накрыты пакатымі 2-схільнымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі на тарцах. Сіметрычны ўсх. фасад мае па баках глыбокія рызаліты і аздоблены пілястрамі, плоскі рызаліт у цэнтры з вял. тэрасай перад ім. У 1830-я гады да паўн. фасада прыбудаваны 6-калонны дарычны порцік з манум. лесвіцай. Вокны прамавугольныя. Планіроўка анфіладна-калідорная. У паўн. крыле палацавая капліца, аздобленая лепкай і размалёўкай у тэхніцы грызайль. П а р к — рэгулярна-пейзажнага тыпу, размешчаны на раўнінным рэльефе. Ствараўся ў 2 этапы. Пл. каля 10 га. Меў форму выцягнутага з Пн на Пд прамавугольніка, абмежаванага па баках каналамі, а з Пн возерам. На беразе возера размешчаны палац, каля якога знаходзілася пейзажная частка парку з экзотамі ў дэкар. групах і салітэрах. Ад рэгулярнага парку ўцалелі каналы і рэшткі старых ліпавых прысад, ад пейзажнага — асобныя групы дрэў па берагах вадаёма і ўсх. канала, а таксама на ўзгорку паміж каналам і гал. вуліцай горада. У палацы размешчана медыцынская ўстанова. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч, А. М. Кулагін, В. Р. Анціпаў.*



**Пастаўскі палацава-паркавы комплекс.** Палац 1-й палавіны 19 ст. Фота пачатку 20 ст.

**ПЕРАМОГІ ПЛОШЧА** ў В і ц е б с к у. Ансамбль плошчы канчаткова сфарміраваўся ў 1970-я гады (аўтары праекта забудовы арх. А. Бельскі, В. Данілаў, З. Конаш, З. Озерава, А. Расейкін, А. Фрыдман, Ю. Шпіт, праекта планіроўкі і добраўпарадкавання А. Данілава, З. Даўгяла, Р. Княжышча, інжынер-азеляніцель Л. Нячай). Прастора прамавугольнай у плане плошчы (380×190 м) абмежавана *Маскоўскім праспектам*, вул. Жасткова і набярэжнай Зах. Дзвіны. Мае вял. функцыянальнае і архіт.-маст. значэнне для грамадскага цэнтра і горада ў цэлым. Размешчаная на перакрыжаванні 2 агульнагарадскіх магістралей (вул. Леніна і яе працягу праспекта Чарняхоўскага з Маскоўскім праспектам), яна служыць важным транспартным вузлом. Адначасова гэта цэнтр вял. новага раёна забудовы, мемарыяльны ансамбль, комплекс абслугоўвання і месца адпачынку. Своеасаблівае аблічча плошчы ствараецца горадабудаўнічымі і ландшафтнымі ўмовамі, цэласнасцю архіт.-маст. задумы, падпарадкаванай тэме гераічнай барацьбы сав. народа за незалежнасць Радзімы ў гады Вял. Айч. вайны. Ад вул. Леніна, якая падзяляе плошчу на 2 зоны — мемарыяльную і адпачынку, фронт забудовы ўтвараюць 5-павярховыя жылыя дамы, пастаўленыя ў 1950-я гады. На процілеглым баку — жылыя дамы з гандл. прадпрыемствамі ў першых паверхах. З боку Маскоўскага праспекта плошчу замыкаюць 9-павярховы першы ў рэспубліцы каркасна-панельны жылы дом на 280 кватэр з магазінам «Дзіцячы свет» (арх. Расейкін, 1966), 16-павярховы жылы дом з падоўжным 2-павярховым аб'ёмам, зблакіраваны з кінатэатрам «Беларусь». Процілеглы бок арыентаваны на р. Зах. Дзвіна і зарэчную частку горада. Кампазіцыйны цэнтр ансамбля, кульмінацыя ў раскрыцці асн. вобразнай ідэі — *Помнік вызваліцелям* на беразе ракі. Аўтары адмовіліся ад традыцыйнага рамяшчэння помніка ў цэнтры плошчы і надалі ўсёй кампазіцыі асіметрычны дынамічны характар. Урачыстая эспланада звязвае помнік з вул. Леніна. У аснове азелянення плошчы ландшафтны прынцып, пераважае зялёны газон з маляўнічымі групамі кустоў і невысокіх дрэў, які дапаўняецца «альпійскімі горкамі», групамі натуральнага каменю, дэкар. тэматычнай скульптурай і інш. малымі архіт. формамі. Цэнтрам кампазіцыі гэтай часткі з'яўляецца фантан з 200 вертыкальнымі струменямі. Для стварэння малых архіт. форм і машчэння дарожак выкарыстаны бетон, пластабетон, бутавы камень, гранітныя пліты. *А. А. Воінаў.*



Плошча Перамогі ў Віцебску.

**ПЕРАМОГІ ПЛОШЧА** ў Мінску (да 1954 Круглая плошча). Знаходзіцца на перакрыжаванні праспекта Ф. Скарыны з вул. Захарава. Займае важнае месца ў архіт.-кампазіцыйным абліччы горада. Яе архіт. ансамбль пачаў фарміравацца ў 1939, калі ў адпаведнасці з генпланам Мінска 1932—36 (арх. Ю. Кілаватаў, кансультант В. Вітман) тут пабудаваны 2 дугападобныя ў плане жылыя дамы, павернутыя да цэнтра горада (1939, завершаны ў 1947, арх. Р. Столер), у аснове планіроўкі якіх тыпавая 4-кватэрная секцыя. Далей забудова вялася паводле генплана 1946 (арх. М. Андросаў, Н. Трахтэнберг і інш.) і праекта плошчы 1950 (арх. М. Баршч, Л. і Г. Аранаўскасы, карэкціроўка Г. Заборскага і Л. Мацкевіча, 1954). Плошча ў плане — прамавугольнік (225×175 м), які з аднаго боку завяршаецца паўкружжам. Яе прастора расчлянёна на 2 часткі — круглую і аванплошчу. Кампазіцыйны цэнтр — размешчаны пасярэдзіне круглай часткі плошчы *манумент Перамогі*, які замыкае перспектыву праспекта Ф. Скарыны і вул. Захарава. Абапал праспекта значна ніжэй за яго ўзровень паміж вуліцамі Захарава, Камуністычнай і Фрунзе разбіты сквер партэрнага тыпу, уздоўж яго з кожнага боку па 3 жылыя дамы (арх. Баршч, Аранаўскасы, 1950—56), увянчаныя 4-граннымі вежачкамі, з паўд. боку злучаныя паміж сабой ажурнай каланадай. Тарцовую частку плошчы з боку вул. Камуністычнай замыкаюць Дом-музей I з'езда РСДРП, мост цераз р. Свіслач (арх. М. Паруснікаў, Г. Баданаў, 1951—53), а з боку вул. Фрунзе — манум. вароты — уваход у Цэнтр. дзіцячы парк імя М. Горкага (арх. Заборскі, 1953). У 1984 у сувязі з увядзеннем у дзеянне 1-й чаргі 1-й лініі *Мінскага метрапалітэна* плошча перад манументам перапланавана (арх. Б. Ларчанка, Б. Школьнікаў, К. Вязгін) і стала ў 2 узроўнях. Пад зямлёю аснова манумента абкружана кальцавой абходнай галерэяй, звязанай са станцыяй метрапалітэна. Галерэя пераходзіць у круглую глядзельную залу, прысвечаную памяці герояў, загінуўшых у Вял. Айч. вайну. У цэнтры яе вянок, выкананы з маст. шкла з падсветкай знутры (маст. В. Позняк),— сімвал Вечнага агню памяці. На сцяне бронзавая выява Зоркі Героя Сав. Саюза і пласціны з імёнамі 566 ураджэнцаў Беларусі і іншых рэспублік, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў і ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. Гранітныя лесвіцы вядуць з залы на плошчу. Сіметрычныя лесвічныя выхады аформлены масіўнымі гранітнымі блокамі. На іх верхніх пакатых гранях — выкананыя ў бронзе выявы прыспушчаных сцягоў (скульпт. М. Рыжанкоў). Ад выхадаў да манумента вядуць ланцужкі невял. гранітных блокаў (па 6 з кожнага боку) з надпісамі-прысвячэннямі гарадам-героям Маскве, Ленінграду, Валгаграду, Адэсе, Севастопалю, Кіеву, Новарасійску, Керчы, Туле, Брэсцкай крэпасці-герою, Смаленску, Мурманску і выявамі ўзнагарод. *А. А. Воінаў.*



Плошча Перамогі ў Мінску.

**ПЕРШАМАЙСКАЯ ВУЛІЦА** ў Магілёве, цэнтральная вуліца горада, яго гал. транспартная магістраль. Створана на месцы б. Дняпроўскага праспекта (наз. таксама вул. Шклоўская, Ульянавай-Крупскай). Праходзіць па тэр. цэнтр. планіровачнага раёна з Пн на Пд, ад Савецкай пл. да Шклоўскай шашы. Даўж. 6350 м. Як гал. кампазіцыйная вось адыгрывае значную ролю ў архіт.-планіровачнай арганізацыі горада. Забудавана буйнымі адм.-грамадскімі і жылымі дамамі. Транспартныя магістралі, якія перасякаюць П. в., звязваюць яе з усімі раёнамі горада. На П. в. размешчаны плошчы Прывакзальная, Леніна, Тэатральная, Савецкая. Захаваліся помнікі архітэктуры 17—пач. 20 ст., якія актыўна ўдзельнічаюць у фарміраванні архіт. ансамбляў вуліцы: будынак ніжняга суда, управы і архіва (з 1883 *Магілёўскага акруговага суда будынак), Магілёўскі чыгуначны вакзал, Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра будынак, Магілёўскай жаночай гімназіі будынак, Магілёўскага дваранскага сходу будынак, Магілёўская мемарыяльная арка.* Фарміраванне вуліцы пачалося ў 16 ст. на тэр. Шклоўскага прадмесця Новага горада на Пн ад цэнтр. Гандлёвай пл. (гл. *Магілёўская губернатарская плошча*). Пачатак фарміраванню сучаснага архіт. аблічча вуліцы паклаў генплан сацыялістычнай рэканструкцыі горада 1936—39 (арх. М. Андросаў, Н. Трахтэнберг), паводле якога на скрыжаванні П. в. з праспектам Міру створаны новы грамадскі цэнтр горада — *Леніна плошча* з *Магілёўскім Домам Саветаў, Магілёўскім адміністрацыйным будынкам,* 5-павярховым жылым домам (арх. А. Брэгман, А. Воінаў), пабудавана гасцініца *«Днепр»*, рэканструяваны кінатэатр *«Чырвоная зорка»*. У пасляваенныя гады паводле генплана 1947—50 (арх. Андросаў, Г. Парсаданаў) пачалася рэканструкцыя вуліцы ад пл. Савецкай да пл. Леніна. У пач. 1950-х гадоў пабудаваны жылы 143-кватэрны дом на ўчастку паміж вул. Лазарэнкі і кінатэатрам «Чырвоная зорка», на процілеглым усх. баку — 5-павярховыя жылыя дамы (арх. Д. Саннікаў, А. Семяненка) з магазінамі ў 1-м паверсе. У архітэктуры выкарыстаны элемен-

ты класічнай спадчыны. Адначасова завершана рэканструкцыя плошчаў Леніна (пастаўлены помнік У. І. Леніну, скульпт. П. Сабсай, арх. В. Волчак, 5-павярховы жылы дом) і Савецкай (на ёй пліта чырвонаармейцам, якія загінулі ў 1920). У 1960—70-я гады пабудаваны Дом палітасветы на Тэатральнай пл. (арх. У. Шаўчэнка і А. Кучарэнка), будынак абкома КПБ (арх. Ю. Шпіт, Кучарэнка), 6-павярховы 80-кватэрны жылы дом з прадпрыемствамі абслугоўвання, магазінамі ў 1-м паверсе (на рагу з вул. Міронава, арх. І. Голубева) і 111-кватэрны (арх. Кучарэнка), Дом быту, будынак універмага (арх. У. Пушкін). У 1970—80-я гады ў адпаведнасці з праектам рэканструкцыі і забудовы вуліцы на ўчастку паміж плошчамі Леніна і Тэатральнай (арх. І. Фралоў, М. Янчык) вуліца пашырана за кошт зносу з усх. боку старых і малакаштоўных забудоў. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя гэтай часткі забудовы заснавана на кантрасце вышынных будынкаў на зах. баку і падоўжаных — на ўсходнім. У 1981 на ўчастку паміж вул. Мігая і Будзённага пабудаваны 9—12-павярховыя жылыя дамы з прадпрыемствамі быт. абслугоўвання і гандлю (арх. Фралоў, Г. Борахаў, Я. Бранцаў, І. Іўжанка). На пл. Савецкай створаны мемарыяльны комплекс *«Змагарам за Савецкую ўладу»*. Іл. гл. ў арт. *Магілёў*. *С. Ф. Самбук.*

**ПЕСКАЎСКІ КАСЦЁЛ МАЦІ БОСКАЙ РУЖАНЦОВАЙ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1918 у в. Пескі (Мастоўскі р-н) з цэглы і бутавага каменю на месцы збудаванага раней касцёла (пра гэта сведчыць звон з надпісам, адліты ў 1780 спецыяльна для яго). Касцёл — 1-вежавы, 3-нефавы храм базілікальнага тыпу з трансептам і гранёнай апсідай. У сілуэце пабудовы дамінуе 3-ярусная званіца (верхні ярус у сячэнні 8-гранны), завершаная высокім шатром. Асн. аб'ём аддзелены трансептам ад алтарнай групы. Прэсбітэрый аддзелены ад трансепта стральчатай аркай. Стрыманыя і выразныя па пластыцы фасады трансепта ствараюць кампазіцыйны акцэнт на бакавых фасадах касцёла, якія падзелены пілястрамі (блізкія па форме да контрфорсаў). Шчыты трансептаў завершаны зубчастымі аттыкамі і фланкіраваны пінаклямі. Касцёл рэстаўрыраваны ў 1990, дзейнічае. *Г. А. Лаўрэцкі.*



Пескаўскі касцёл Маці Боскай Ружанцовай. Бакавы фасад.

**ПЕТРЫКАЎ,** горад, цэнтр раёна, прыстань на р. Прыпяць. За 190 км ад Гомеля. Паводле падання, засн. ў 10 ст. ятвяжскім князем Пятром. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 15 ст. як мястэчка ў Вял. кн. Літоўскім, з канца 15 ст. ў Слуцкім княстве, з 1507 у Навагрудскім пав. Належала з 15 ст. Алелькавічам (Юрыю і яго сыну Аляксандру), з 17 ст. графам Хадкевічам. У 15—16 стагоддзях існавала крэпасць, разбурана рус. войскамі ў 1535 у рус.-літ. вайну 1534—37. У 17 ст. на месцы крэпасці пабудаваны *Петрыкаўскі замак.* З 1776 у П. 2 кірмашы на год. З 1793 у складзе Расіі, цэнтр воласці Мазырскага пав. У канцы 19 ст. каля 400 двароў, 5,5 тыс. жыхароў (1897), драўляны Богаяўленскі касцёл (пабудаваны ў 1638), 2 праваслаўныя царквы Уваскрэсення і прыходская св. Мікалая, сінагога. З ліпеня 1924 цэнтр раёна, з 1925 горад. З 1938 у Палескай вобл.

Архіт.-планіровачную структуру горада вызначаюць вуліцы Пушкіна, Гогаля, Муляраўская, Камунальная, Ленінская і інш. Гал. вуліца — Гагарына, забудаваная 2—3-павярховымі капітальнымі дамамі. На скрыжаванні яе з вул. К. Маркса і ў раёне вуліц Камунальнай і Ленінскай склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. У цэнтры ўзводзяцца 2—5-павярховыя жылыя дамы. На Пн ад цэнтра (вуліцы Р. Люксембург, Акадэміка Каралёва, 1-ы завулак Бумажкова) створаны жылыя масівы з 5-павярховых дамоў. Сфарміраваны зах., паўн. і паўд. прамысл. раёны. Зона адпачынку — р. Прыпяць, парк на яе беразе і гарадскі парк, сквер. Захаваліся помнікі архітэктуры — *Петрыкаўская Мікалаеўская царква* і драўляная *Петрыкаўская царква.* Паводле генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва) і яго карэкціроўкі 1987 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; абодвух арх. Т. Спірына, В. Кашырын) прадугледжана далейшае развіццё горада ў зах., паўн.-зах., усх. і часткова паўн. напрамках, расшырэнне і добраўпарадкаванне грамадскага цэнтра. *А. П. Грыцкевіч, С. Ф. Самбук.*

**ПЕТРЫКАЎСКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры псеўдавізантыйскага стылю. Пабудавана ў 2-й пал. 19 ст. ў Петрыкаве (сучасная вул. Ліпунова). Мураваны будынак мае крыжападобную кампазіцыю з 3-апсіднай алтарнай часткай. Сяродкрыжжа ўвянчана вял. светлавым барабанам з купалам. Пры ўваходзе размешчана 3-ярусная вежа-званіца з купалам, завершаным галоўкай. У дэкоры выкарыстаны закамары, паяскі, сухарыкі. *Т. В. Габрусь.*



Петрыкаўская Мікалаеўская царква.

**ПЕТРЫКАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў канцы 17—пач. 18 ст. ў в. Сотнічы. Першапачаткова — стараверская, з 1746 — уніяцкая, у 1836 перанесена ў Петрыкаў. З квадратныя ў плане зрубы — бабінец, асн. аб'ём і алтарная частка — складзены з круглых бярвён з 6-products «астаткамі». Знадворку сцены ашаляваны, афармлены пілястрамі і простымі карнізамі. Прамавугольныя вокны аздоблены простымі ліштвамі. Асн. аб'ём мае 3-ярусную кампазіцыю: 2 ніжнія ярусы чацверыковыя (з усечаным зверху шатром паміж імі), верхні — васьмярык на купальнай аснове і з купальным па-



**Петрыкаўская царква.**

крыццём. Астатнія аб'ёмы трактаваны як невял. прыбудоўкі з 2- і 3-схільнымі дахамі. Над бабінцам невял. каркасная званіца з шатровым пакрыццём. У інтэр'еры дамінуе цэнтральнае памяшканне, перакрытае плоскай бэлечнай столлю. За ім вял. праёмамі злучаны больш нізкія памяшканні бабінца і алтара. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ПЕТРЫКАЎСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 17—19 стагоддзях у Петрыкаве, на стромкім беразе Прыпяці, на месцы замка 15—16 стагоддзяў. Заснаваны слуцкім кн. Юрыем Алелькавічам. Неаднаразова разбураўся і аднаўляўся. У 2-й пал. 18—пач. 19 ст. пертвораны ў сядзібна-палацавы комплекс, які ўключаў палац у стылі барока, гасп. пабудовы, сад. Палац, які стаяў у цэнтры дзядзінца,— 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з мезанінам, накрыты ламаным гонтавым дахам. Дах аздоблены дэкар. дымнікамі. Непадалёку знаходзіліся 2 флігелі, стайня, вазоўня, хлеў і сад з боку ракі. Комплекс быў абведзены вадзяным ровам, праз які да брамы пракладзены мост. 2-ярусная брама была завершана шатровым гонтавым дахам з купалам.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ПІНСК,** горад, цэнтр Пінскага р-на, у сутоках рэк Піна і Прыпяць. За 175 км ад Брэста. Рачны порт. П. (летапісны П и н е с к, П и н ь с к) упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1097. Назва ад р. Піна. Гарадзішча стараж. П. (дзядзінец і вакольны горад) знаходзіцца ў цэнтры сучаснага горада, на левым беразе Піны, насупраць колішняга месца ўпадзення яе ў Прыпяць. У 11—13 стагоддзях дзядзінец (авальная форма, пл. 1,76 га) быў абведзены паўкруглым ровам, за якім з З, Пн і У размяшчаўся вакольны горад (пл. 2,1 га), умацаваны равамі і валамі з драўлянымі абарончымі сценамі. Вакольны горад меў радыяльна-паўкальцавую планіроўку, вуліцы масцілі тонкімі бярвёнамі ўпоперак на лагах. Аднакамерныя прамавугольнай формы пабудовы вянковай канструкцыі (рублі ў вугал з астаткам) мелі драўляную падлогу і глінабітныя печы. Для ўпрыгажэння інтэр'ераў манум. культавых збудаванняў выкарыстоўвалася каляровая керамічная дэкар. плітка. П. уваходзіў у склад Кіеўскай Русі, з 1131 у Мінскім, потым Тураўскім княствах. З 2-й паловы 12 ст. цэнтр удзельнага Пінскага княства. З 1320 горад у складзе Вял. кн. Літоўскага, з 1413 у Трокскім, з 1520 — Падляшскім, з 1566 — Берасцейскім ваяводствах. З 1539 цэнтр староства, з 1569 цэнтр павета Берасцейскага ваяводства. Належаў пінскім князям Яраславу (1183) і Яраполку (1190), сынам тураўскага кн. Юрыя Яраславіча Уладзіміру (упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1204), Расціславу (пад 1228), Міхаілу (пад 1247), Фёдару, Дзяміду і Юрыю Уладзіміравічам (упамінаюцца ў летапісе пад 1262), сыну Гедыміна Нарымунту (Глебу; з 1320) і яго сынам Міхаілу, Васілю і Юрыю (з 1348), пазней Жыгімонту Кейстутавічу, кн. Марыі з роду Алелькавічаў (з 1471), кн. Фёдару Іванавічу Яраславічу (з 1498), з 1523 — каралеве Боне (жонцы Жыгімонта I), якая ўтварыла на тэр. княства староства. У 1581 П. атрымаў магдэбургскае права і герб (на чырвоным полі залатыя лук з нацягнутай цецівой і стралой). У 16 ст. тэр. горада з прадмесцямі, урочышчамі Гарадзішча, Пабярэжжа, Вярыга і інш., дзе жылі рамеснікі,



**Пінск.** Сквер на вуліцы Леніна.



**Пінск.** Тэатр «Казіно». Фота пачатку 20 ст.

аблічча горада. У 1904 у П. каля 33 тыс. жыхароў, 6360 жылых дамоў (забудова мураваная, 2—3-павярховая ў цэнтры і 1-павярховая ў перыферыйных частках, скучаная, вялася стыхійна). У 1921—39 П. у складзе бурж. Польшчы. З 1939 у БССР, з 4.12.1939 цэнтр Пінскай вобл., з 15.1.1940 і цэнтр раёна, горад абл. падпарадкавання. З 8.1.1954 раённы цэнтр Брэсцкай вобл.

Пасля Айч. вайны горад забудоўваўся паводле генплана 1952 («Белдзяржпраект», арх. Я. Косціч, М. Андросаў), які прадугледжваў упарадкаванне планіроўкі пры захаванні веернай сістэмы магістралей, якія сыходзіліся да пл. Леніна. Горад развіваўся ўздоўж Піны, структурна падзяляўся на паўночны (адмежаваны чыгункай), цэнтр., зах. і ўсх. планіровачныя раёны. У 1950-я гады П. пазбаўлены гал. дамінанты — разабраны езуіцкі касцёл, знесены гандлёвыя рады на плошчы, на месцы цэнтр. гіст. плошчы ўтворана пл. імя Леніна, забудаваная 4—5-павярховымі дамамі, у 1970-я гады пастаўлены помнік У. І. Леніну. У 1950—60-я гады ўзведзены жылыя і адм. будынкі (пераважна за кошт рэканструкцыі малапавярховай і сядзібнай забудовы) па вуліцах Брэсцкай, М. Горкага і В. Харужай, у дэкоры якіх выкарыстаны класічныя ордэрныя формы. У 1960-я гады з буд-вам прамысл. прадпрыемстваў павялічыліся тэмпы росту горада. Прамысл. зона размешчана на ПдЗ і У. Паводле генплана 1964 (ін-т «Белдзяржпраект», арх. В. Анікін, Г. Трушнікава) і карэкціровак 1972, 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва) масавае жыллёвае буд-ва (5—9-павярховыя дамы) ажыццяўлялася ў паўн., усх. і зах. раёнах горада. Асн. напрамак развіцця горада — паўднёвы (з асваеннем зарэчных пойменных тэрыторый). У 1970-я гады ўзведзены новыя жылыя і грамадскія будынкі па вуліцах Дняпроўскай флатыліі, якая праходзіць уздоўж Піны (Дом Саветаў, 9-павярховая гасцініца, пасажырская прыстань, ва ўсходняй частцы — гарадскі парк), Зоі Касмадзям'янскай (кінатэатр) і Першамайскай (Дом культуры, бальнічны комплекс). Стваракоцца мікраараёны па вуліцах Цэнтральнай, Фядотава, Брэсцкай. Мікрараён «Промні» (паўн.-зах. частка горада) і паўн.-ўсх. ўскраіна забудоўваюцца 5—12-павярховымі дамамі. Узведзены паўд.-зах. жылы комплекс. Зона адпачынку — набярэжныя рэк Піна і Прыпяць, паркі дзіцячы па вул. Зоі Касмадзям'янскай і «Промні». Паводле генплана 1979 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Арцёмчык) і карэкціроўкі 1986 (арх. Л. Зайцава), праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1982 (арх. Арцёмчык, А. Мохаў, В. Сахно, В. Герус) прадугледжана развіццё горада ў паўн., зах. і паўд. напрамках; стварэнне за р. Піна на намыўных тэрыторыях новага паўд. раёна (на 60 тыс. чал.). Фарміруюцца вул. Першамайская як гал. магістраль горада, як пешаходная — вул. Леніна. Запланавана стварэнне водна-зялёнага дыяметра ў межах П., прыгарадных зон адпачынку. У 1990 распрацаваны праект гіст.-архітэктурнага і інжынернага абгрунтавання рэгенерацыі раёна гіст. забудовы г. Пінска (арх. Зайцава). Іл. гл. таксама ў нарысе.

*Ю. А. Якімовіч, С. Ф. Самбук.*

**ПІНСКАЯ ВАРВАРЫНСКАЯ ЦАРКВА,** гл. ў арт. *Пінскія касцёлы бернардзінцаў.*

**ПІНСКІ КАРАЛІНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у канцы 16—19 стагоддзяў у прадмесці Пінска Каралін. Мураванае шматвугольнае (75,6×37,8× ×46,2×75,6 м) збудаванне мела бастыёны па вуглах і ўязную браму, было абкружана вадзяным ровам



Руіны **Пінскага Каралінскага замка.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.

(шыр. 9 м). Бастыёны і курціны былі вымураваны з каменю. Унутры валоў пракладзены падземная галерэя з адтулінамі ў скляпеннях для асвятлення і доступу паветра. Па знешнім краі рова замак дадаткова быў умацаваны мураванай сцяной, якая мела браму, пастаўленую пад вуглом да сцяны і злучаную з замкавай брамай драўляным мостам. Замак пашкоджаны ў 1660 у руска-польскую вайну 1654—67. У 1704 паводле загаду Карла XII узарваны шведскімі войскамі. Рэшткі замка адлюстраваны на планах Пінска канца 18 ст., на малюнках Н. Орды 19 ст.

*М. А. Ткачоў.*

**ПІНСКІ КАСЦЁЛ І КАЛЕГІУМ ЕЗУІТАЎ,** помнік архітэктуры барока. Размешчаны ў гіст. цэнтры Пінска. Разам з касцёлам (пабудаваны ў 1631—35, разбураны ў 1950-я гады) калегіум складаў ансамбль кляштара езуітаў. Узведзены ў 1651—75 з цэглы. Трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак паўд. фасадам арыентаваны да набярэжнай р. Піна. Планіроўка 1-га паверха галерэйна-калідорная. Тут размяшчаліся класы, трапезная, службовыя памяшканні. 2-і і 3-і паверхі спланаваны па калідорнай сістэме з трохпралётнай схемай перакрыццяў. Крыжовыя скляпенні апіраюцца на масіўныя падоўжныя сцены (таўшчыня ў ніжніх паверхах 1,5—2 м). Тут былі жылыя і рабочыя памяшканні. Пад збудаваннем зроблены скляпы. Рытм фасадаў ствараецца аконнымі праёмамі з ляпнымі абрамленнямі і крокам пілястраў 2 ніжніх ярусаў. Паўд.-зах. вугал фланкіруе 6-гранная вежа-контрфорс, што ўмацоўвае сцены пры паніжэнні рэльефу да ракі. Будынак завершаны 2-схільным дахам з заломам. Яго тарцы ўпрыгожаны складанымі франтонамі з дэкар. валютамі. З 1638 у калегіуме знаходзілася філасофска-тэалагічная школа. У 18 ст. працавалі друкарня (з 1729) і аптэка. З 1787 будынак займалі базыльяне, з 1800 у ім знаходзіўся праваслаўны мужчын-



**Пінскі касцёл і калегіум езуітаў.** Фота пачатку 20 ст.

скі Богаяўленскі манастыр. Цяпер у будынку размешчаны адм. установы і карцінная галерэя. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ПІНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры 16—18 стагоддзяў. Размешчаны ў цэнтры г. Пінск паміж р. Піна і вул. Леніна. Драўляны кляштар і касцёл заложаны кн. Жыгімонтам Кейстутавічам у 1396. Неаднаразова гарэў у 17 ст., адбудоўваўся з дрэва (каменнай была толькі сакрысція), значна пашкоджаны ў 1648. У 1-й чвэрці 18 ст. пабудаваны мураваны касцёл Успення дзевы Марыі, крыху пазней — карпусы кляштара. Афармленне фасада касцёла завершана ў 1766. У 1817 перад касцёлам пастаўлена 3-ярусная мураваная званіца (арх. К. Каменскі), 4-ы ярус якой дабудаваны ў пач. 20 ст. Кляштар перабудаваны ў 1920-я гады (арх. Г. Гай), касцёл у



Пінскі касцёл і кляштар францысканцаў.

1920—40 быў кафедральны. Касцёл — 1-нефавы храм з прыбудаванымі да яго капліцамі. Неф і крыху вузейшая за яго паўкруглая апсіда з прэсбітэрыем накрыты стромкім чарапічным дахам, завершаным у месцы злучэння аб'ёмаў гранёнай вежачкай. Капліцы пад 1-схільнымі чарапічнымі дахамі. Гал. фасад расчлянёны на 3 ярусы і завершаны складаным франтонам з 2 вежамі па баках. Фасад дэкарыраваны пілястрамі, раскрапаванымі карнізамі, філянговымі нішамі і паяскамі. Бакавыя фасады раскрапаваны лапаткамі. Сцены капліц прарэзаны паўцыркульнымі вокнамі нефа і алтарнай апсіды — прамавугольнымі вокнамі з лучковымі завяршэннямі. Неф і прэсбітэрый перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках. У інтэр'еры пазалочаныя алтары 18 ст. (6 драўляных разных і 1 стукавы). У іх кампазіцыі ўключаны шмат драўлянай скульптуры і дэкар. арнаментальнай разьбы ў стылі барока. Найбольш багата аформлены гал. алтар: 1-ы яго ярус са скульптурамі апосталаў Пятра і Паўла завершаны антаблементам з разарваным франтонам, дзе размешчана гарэльефная кампазіцыя «Стыгмацыя св. Францыска». Урачысты лад гал. алтара падкрэсліваюць разныя бакавыя алтары, з якіх асабліва вылучаецца алтар Маці Боскай Ружанцовай. Выдатным узорам разьбы па дрэве з'яўляецца



Пінскі касцёл Карла Барамеуша.

амбон з рэльефнымі выявамі 4 евангелістаў, Хрыста і апосталаў Пятра і Паўла. Балдахін амбона аздоблены ажурнай разьбой раслінных матываў, завершаны статуяй архангела Міхаіла. Дэкар. разьба і скульптура паліхромныя з пазалотай і серабрэннем. У 1909 скляпенні і падпружныя аркі размаляваны арнаментальнымі матывамі (маст. С. Рудзінскі), прэсбітэрый аздоблены фрэскамі «Зняцце з крыжа» і «Пакланенне вешчуноў» (маст. Б. Вішнеўскі). 4 узаемна перпендыкулярныя 2- і 3-паверховыя карпусы кляштара разам з касцёлам утвараюць некалькі дворыкаў. Пабудовы маюць плоскасныя фасады, рытм якіх ствараецца прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Тарцы кляштарных будынкаў завершаны барочнымі франтонамі складанага профілю. Планіроўка калідорная, перакрыцці скляпеністыя. Калідоры былі ўпрыгожаны сюжэтнымі размалёўкамі. Касцёл дзейнічае. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе. *А. А. Ярашэвіч.*

**ПІНСКІ КАСЦЁЛ КАРЛА БАРАМЕУША,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1770—82 з цэглы ў б. прадмесці Пінска Каралін, на месцы старога драўлянага касцёла, пастаўленага ў 1695. Узведзены як манастырскі касцёл ордэна камуністаў па фундацыі Караля Дольскага на сродкі, сабраныя манахамі. Асвячоны ў 1784. Адначасова з касцёлам існавалі драўляныя манастырскі корпус і гасп. пабудовы (не захаваліся). Пабудова аднанефавая, з невял. трансептам. Алтарная частка не вылучана, сакрысціі размешчаны за гал. алтаром нефа. Да касцёла прылягае 2-ярусная званіца з шатровым дахам і купалам. У яе ніжнім ярусе знаходзяцца хоры. Характэрнай асаблівасцю збудавання з'яўляюцца моцныя канструкцыі сцен, таўшчыня якіх у асобных месцах больш за 2 м. Бакавыя сцены прарэзаны невял. арачнымі аконнымі праёмамі і расчлянёны лапаткамі. Нешматлікія элементы барочнай аздобы (пілястры, нішы, паяскі, абрамленні акон і інш.) выкарыстаны пераважна ў званіцы. Інтэр'ер — зальнае памяшканне, у якім вял. значэнне нададзена высокім крыжовым скляпенням і нішам сцен. Дэкар. аздоба інтэр'ера не захавалася. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*

**ПІНСКІ ЛЯШЧЫНСКІ МАНАСТЫР.** Існаваў у 13—19 стагоддзях. Адзін з найстаражытнейшых на Беларусі. Першыя звесткі аб ім адносяцца да 1262. Размяшчаўся ў прадмесці Пінска Лешча і быў фарпостам горада з У. У 15—16 стагоддзях — цэнтр праваслаўнай Турава-Пінскай епархіі, тут вяліся хронікі, перапісваліся славянскія пераклады візантыйскіх літаратурных твораў. У 17 ст. стаў уніяцкім. Паводле інвентароў 1588 і 1595, комплекс быў драўляны, абгароджаны плотам з дыляў. У агародзе знаходзілася 2-ярусная брама-званіца з 5 званамі (адзін з іх за асаблівае гучанне называўся «Лебедзь»). У манастыры былі 2 царквы. Успенская цар-

ква мела канструкцыю сцен з вертыкальна пастаўленых брусоў «у стоўп». Да 1596 буд-ва яе было скончана. Уключала цэнтр. аб'ём, алтар, прытвор і 2 бакавыя прыдзелы, мела 5 вярхоў з купаламі. Алтарнае памяшканне аддзяляў ад нефа 3-ярусны пазалочаны іканастас. Царква св. Духа («цёплая») была злучана з манастырскай трапезнай. Відаць, гэта быў 3-зрубны храм, у якім алтарнае памяшканне ад нефа аддзяляў 1-ярусны палатняны іканастас з заслонай з матэрыі замест царскіх варот («дэісус на фарбах»). Справа ад брамы знаходзіўся жылы манастырскі корпус (пабудаваны ў 1766), злева — дом архімандрыта. У падвор'і стаялі таксама стайня, лазня і бровар, за манастырскімі сценамі размяшчаліся дом свяшчэнніка, гумнішча, сад, агароды, гай. Усё гэта было абнесена загародай з дыляў. У 1746 пабудавана новая драўляная барочная Успенская царква — базілікальнае 3-нефавае збудаванне з ярусным верхам над цэнтр. часткай і 2 вежамі на гал. фасадзе. Адлюстравана на малюнку Н. Орды 19 ст. Манастыр закрыты ў 1839, згарэў у канцы 19 ст. *Ю. А. Якімовіч.*



**Пінскі Ляшчынскі манастыр.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.



**Пінскія гандлёвыя рады.** Фота пачатку 20 ст.

**ПІНСКІ ПАЛАЦ**, помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1784—90 (арх. К. Шыльдхаўз) для пінскага старосты М. Бутрымовіча на высокім левым беразе р. Піна, да якой павернуты дваровым фасадам. Мураваны П-падобны ў плане будынак з развітым цокальным паверхам. 1-павярховую сярэднюю частку будынка займаюць парадныя памяшканні з авальнай залай у цэнтры, якая ўтварае эркер з балконам на гал. фасадзе. Планіроўка анфіладная. Бакавыя крылы вырашаны ў 2 узроўнях і маюць невял. жылыя памяшканні ўздоўж калідораў. Знадворны дэкор мае рысы ранняга класіцызму. Фасады аздоблены плоскімі і руставанымі лапаткамі, сандрыкамі, фрыз антаблемента — трыгліфамі і метопамі. Эркер, выкружаныя вуглы і тарцы бакавых крылаў аздоблены калонамі і паўкалонамі дарычнага ордэра. У будынку размешчаны Палац піянераў і школьнікаў. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*

**ПІНСКІЯ ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ.** Існавалі ў 18—1-й пал. 20 ст. ў Пінску на гандл. плошчы (сучасная пл. Леніна). У 18 ст. пабудаваны 2 паралельныя драўляныя гандл. рады, якія складаліся з 129 крам і ўтваралі гандл. вуліцу. Крамы былі аб'яднаны слупавымі галерэямі і накрыты гонтавым дахам, кожная крама мела самастойны ўваход. У пач. 19 ст. на іх месцы пастаўлены мураваныя гандл. рады — 2 паралельныя корпусы (мелі рысы стылю класіцызму) з 2-баковай арыентацыяй крам. Падоўжаныя фасады былі аздоблены аркаднымі галерэямі, тарцы фланкіраваны папярочнымі аб'ёмамі, кожны з іх уключаў па 3 узаемазвязаныя крамы. Былі накрыты 2-схільнымі дахамі. Рытм фасадаў стваралі пралёты аркад і лапаткі паміж імі. Разбураны ў 1950-я гады. *Ю. А. Якімовіч.*

**ПІНСКІЯ ЖЫЛЫЯ ДАМЫ**, помнікі архітэктуры 19—1-й паловы 20 ст. Вылучаецца жылая забудова сучасных вуліц Леніна і Савецкай. Забудова вул. Леніна ўключае дамы № 2, 4, 5, 8, 10, 14, 24, 38—40, размешчаныя на чырвонай лініі, з'яўляецца горадабудаўнічым ансамблем, характэрным для 2-й паловы 19 — пач. 20 ст., у архітэктуры якога ўвасобіліся эклектычныя рысы. Дом № 2 — мураваны прамавугольны ў плане 3-павярховы будынак пад пакатым 2-схільным дахам. Пры яго буд-ве (1925—28) выкарыстаны прыёмы стылю мадэрн. Крылы дома ўтвараюць вузкі ўнутраны дворык. Архітэктура будынка характарызуецца абмежаванай колькасцю дэкар. дэталей (міжпаверхавы прафіляваны паясок, расшыўка тынкоўкі пад руст, плоскія ліштвы праёмаў, ажурныя балконныя рашоткі). Пластычнасцю дэкар. вырашэння вылучаецца бакавы эркер. Дом № 4 — мураваны 2-павярховы выцягнуты ўбок двара будынак. Пабудаваны ў пач. 20 ст. Прымыкае да дома № 2 пры дапамозе крытага праезду ва ўнутраны двор. На вуліцу выходзіць тарцовым фасадам, расчлянёным прамавугольнымі аконнымі праёмамі і вуглавымі лапаткамі. Дом № 5 — 2-павярховы мураваны будынак, выцягнуты ўздоўж вуліцы. Пабудаваны ў пач. 20 ст. ў стылі канструктывізму. Мае калідорную сістэму планіроўкі з выхадам у двор і лесвіцай на 2-і паверх. Часткова выкарыстоўваецца гандл. ўстановамі. Дом № 8 — невял. 1-павярховы прамавугольны будынак з мансардавым дахам. Гал. фасад плоскасны з 4 прамавугольнымі лучковымі вокнамі і простым карнізам, вуглы дэкарыраваны



**Пінскі палац.**





**Пінскія жылыя дамы.** Дамы па вуліцы Савецкай, 4, 6 (уверсе); дамы па вуліцы Леніна, 38—40.

лапаткамі. Дом № 10 — мураваны 1-павярховы будынак блізкі ў плане да квадрата. Пабудаваны на рубяжы 19—20 стагоддзяў. Папярочнай сцяной падзелены на 2 палавіны. 2-схільны мансардавы дах мае тарцовыя фігурныя шчыты. Гал. і дваровы фасады сіметрычнай кампазіцыі з 3 лучковымі вокнамі і дзвярамі. Дом № 14 — невял. мураваны Г-падобны ў плане 2-павярховы будынак. У буд-ве (1920—30-я гады) выкарыстаны прыёмы стылю мадэрн. Вулічныя фасады расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, маюць 2 балконы, дэкарыраваны круглаватым атыкам, вял. карнізам простага профілю, лапаткамі. Дом № 24 — мураваны 1-павярховы будынак прамавугольны ў плане выцягнуты ў глыбіню двара. На вуліцу выходзіць вузкім тарцовым фасадам, які завершаны пластычным шчытом мансардавага паверха. Выкарыстоўваецца гандл. ўстановамі. До № 38—40 — мураваны 2-павярховы будынак. Пабудаваны ў пач. 20 ст. Складаецца з 2 частак, аб'яднаных адзіным праездам. Вугал дома на рагу вуліц зрэзаны і вылучаны granёным эркерам. У завяршэнні вугла — фігурны шчыт у форме какошніка, дэкарыраванага філёнгамі і арнаментам з цаглянай муроўкі. Пластыку фасадаў узбагачаюць фігурныя ліштвы акон, лапаткі, філёнгі, пінаклі, руст. Уваходны рызаліт завершаны ступеньчатым атыкам.

З а б у д о в а  в у л.  С а в е ц к а й уключае дамы № 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 11, 13 — фрагмент жылой забудовы 19 — пач. 20 ст. з эклектычнымі рысамі. Дом № 2 — мураваны 2-павярховы будынак. Пабудаваны ў пач. 20 ст. На вуліцу выходзіць вузкім тарцовым фасадам. Сіметрычнавосевая кампазіцыя фасада падкрэслена ў цэнтры ўваходным рызалітам, завершаным фігурным атыкам з пінаклямі. Уваход вылучаны лучковым франтонам. Пластыка фасада ствараецца вуглавымі лапаткамі, лучковымі клінападобнымі аркамі аконных праёмаў, прафіляваным карнізам з аркатурным фрызам. Уваход на 2-і паверх — з боку двара праз самастойную лесвічную клетку. У архітэктуры выкарыстаны пластыка-арнаментальныя якасці цаглянай муроўкі. У будынку размешчана гандл. прадпрыемства. Дом № 3 — 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з пластычным мансардавым дахам. Пабудаваны ў пач. 20 ст. Карніз афармлены сухарыкамі. Дом № 4 — 2-павярховы будынак, выцягнуты ў глыбіню двара. На вуліцу выходзіць вузкім тарцовым фасадам, які афармлены лапаткамі, падаконнымі прафіляванымі паясамі, карнізамі простага профілю. Лесвічная клетка прыбудавана да тарцовага дваровага фасада. Дом № 5 — 1-павярховы будынак, выцягнуты ў глыбіню двара. Пабудаваны ў пач. 20 ст. На вуліцу выходзіць вузкім атынкаваным фасадам, які завершаны фігурным мансардавым шчытом з балконам у цэнтры. У пластычнай апрацоўцы выкарыстаны вуглавыя лапаткі, руст, прафіляваныя карнізы з сухарыкамі. Капітальнымі сценамі і перагародкамі падзелены на кватэры,

аб'яднаныя вакол лесвіцы, што вядзе на мансардавы паверх. Дом № 6 — мураваны 2-павярховы будынак з выцягнутым уздоўж вуліцы гал. фасадам. Пабудаваны ў 1928 у стылі канструктывізму. На гал. фасадзе вылучаецца плоскі ўваходны рызаліт з атыкавым завяршэннем і вертыкальнай стужкай зашклёнай лесвічнай клеткі. Шырокія аконныя праёмы аб'яднаны доўгімі балконамі і завяршальным магутным парапетам. Мае калідорную планіроўку з 2 міжпаверхавымі лесвіцамі. Дом № 7 — мураваны 1-павярховы складаны ў плане будынак, накрыты 2-схільным дахам. Пабудаваны ў пач. 20 ст. Вулічны фасад вырашаны плоскасна і расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі. У дэкоры выкарыстаны прафіляваны карніз і вуглавыя лапаткі. Уваход з боку двара. У будынку размешчана мед. ўстанова. Дом № 8 (на рагу вуліц Савецкай і Астроўскага) — мураваны 2-павярховы будынак пад пакатым 2-схільным дахам. Пабудаваны ў пач. 20 ст. Гал. фасадам выцягнуты ўздоўж вуліцы. Фасады апрацаваны багатым архіт. і скульпт. дэкорам (раслінны арнамент, капітэлі, разеткі, руст, лапаткі, балясіны і інш.). 1-ы паверх расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і руставанымі лапаткамі, 2-і — дэкарыраваны пластычным, арнаментальна насычаным фрызам і ляпнымі ліштвамі. Будынак падзелены на 2 палавіны з самастойнымі ўваходамі і лесвіцамі. Дом № 11 — складаны ў плане будынак, развіты ў глыбіню двара. Пабудаваны ў пач. 20 ст. Атынкаваны гал. фасад сіметрычна-восевай кампазіцыі рытмічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі і філёнгамі. Вокны аформлены ліштвамі і прафіляваным карнізам. Уваходы з двара і бакавых фасадаў. Дом № 13 (на рагу вуліц Савецкай і Астроўскага) — мураваны 2-павярховы будынак, накрыты пакатым двухсхільным дахам. Пабудаваны ў канцы 19 ст. Фасады аформлены карнізамі, філёнгамі, рустам. Лучковыя вокны аздоблены фігурнымі ліштвамі з сандрыкамі. Дом выкарыстоўваецца гандл. установай, падзелены на гандл. і жылую часткі з самастойнымі ўваходамі.

*А. М. Кулагін.*

**ПІНСКІЯ КАСЦЁЛЫ БЕРНАРДЗІНЦАЎ,** 1) драўляны касцёл існаваў у 18 ст. Пабудаваны ў 1712 у прадмесці Пінска Каралін па фундацыі Міхаіла Вішнявецкага. Аднанефавы прамавугольны ў плане будынак быў накрыты 2-схільным дахам. Гал. фасад з 3-вугольным франтонам і арачным парталам увахода фланкіравалі 2 трох'ярусныя вежы (2 ніжнія ярусы чацверыковыя, верхні васьмерыковы, завершаны купалком). Злева ад храма размяшчаўся невял. 1-павярховы драўляны будынак кляштара. Касцёл і кляштар адлюстраваны на карце бернардзінскіх манастыроў Літоўскай правінцыі, выгравіраванай Г. Ляйбовічам у 1750—60-я гады. 2) У 1786 на яго месцы пабудаваны мураваны касцёл (з 1830-х гадоў Варварынская царква) у стылі барока, у пач. 19 ст.— мураваны 2-павярховы корпус кляштара (у 1858—75 тут размяшчаўся жаночы манастыр). Прамавугольны ў плане 1-нефавы мураваны храм з паўкруглай алтарнай апсідай. Гал. фасад аздоблены пілястрамі, карнізамі, нішамі і завершаны трохлопасцевым франтонам. Аконныя праёмы з паўцыркульным завяршэннем размешчаны на 2 узроўнях. Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках. Перспектыву інтэр'ера замыкае архіт. размалёўка апсіды ў тэхніцы грызайль. У касцёле знаходзіцца помнік іканапісу 16 ст.— абраз «Маці Боская Адзігітрыя Іерусалімская». Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.



**Пінскія касцёлы бернардзінцаў.** Агульны выгляд касцёла 1786.

*Р. В. Баравы, Ю. А. Якімовіч.*

**«ПЛАНЕТА»,** гасцініца ў Мінску. Пабудавана ў 1980 на праспекце Машэрава (арх. Г. Бенядзіктаў, У. Начараў, Т. Раманоўская). Дынамічная асіметрычная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя складаецца з 12-павярховага жылога корпуса на 601 месца і 2-павярховага аб'ёму рэстарана. Архітэктура жылога корпуса заснавана на рытме гарызантальных міжпаверхавых керамзітабетонных панелей і вертыкальных навясных рэбраў. Сцены звонку аздоблены вертыкальнымі цягамі з алюмінію. Планіроўка калідорная з двухбаковым размяшчэннем нумароў. У афармленні інтэр'ераў выкарыстаны ракушачны туф, чорны лабрадарыт, шэры мармур, шпон, ціснёная скура. Прамавугольны ў плане аб'ём рэстарана выступае перад гал. фасадам гасцініцы і скампанаваны вакол унутранага двара. На гал. фасадзе асіметрычна размешчана дэкар. пано. Кесонная столь абедзеннай залы на 600 месцаў аздоблена сюжэтнай арнаментальнай фрэскавай размалёўкай, сцены аформлены серыяй дэкар. керамічных пано (маст. М. Байрачны, С. Каткова, В. Прыешкін і інш.). Дэкар. акцэнт інтэр'ера — люстра з нёманскага шкла. Пры ўваходзе ў рэстаран керамічнае пано «Садоўніца».

*А. М. Кулагін.*



Гасцініца **«Планета».**

**ПЛЕШЧАНІЦЫ,** гарадскі пасёлак у Лагойскім р-не Мінскай вобл. За 27 км ад Лагойска, 67 км ад Мінска. Вядомы з 16 ст. як вёска ў Мінскім пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Барысаўскага пав. Мінскай губ.; 50 дамоў. З 19 ст. належалі Тышкевічам. У 1817 пабудавана царква св. Тройцы. У 19 ст. ў П. школа, бровар, 5 крам, рынак, 2 кірмашы на год. У 1897 у П. 1086 жыхароў, пошта, нар. вучылішча. З ліпеня 1924 цэнтр раёна, з 1938 гарадскі пасёлак. 3,7 тыс. жыхароў у 1939. З 1962 у Лагойскім р-не. Першы генплан распрацаваны ў 1947 (Маскоўскія планіровачныя майстэрні). Забудоўваюцца паводле генплана 1969 («Белдзяржпраект»). Сетка вуліц прамавугольная. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Леніна (галоўная, размешчаны будынкі муз. школы, спарт. школы-інтэрната, Дома быту, Дома спорту, стадыён, разбіты сквер), Кастрычніцкая (магазіны, клуб, Дом культуры з-да «Кобальт», аўтастанцыя, комплексны прыёмны пункт), Вароўскага (сталовая, ма-



Пакрыўская царква.

газіны, адм. будынак саўгаса «Плешчаніцкі», Дом піянераў і школьнікаў, вузел сувязі), Савецкая (сталовая, магазіны, дзіцячыя яслі-сад, сярэдняя школа, парк). На скрыжаванні вуліц Леніна і Кастрычніцкай — цэнтр. плошча. Па вул. Савецкай створаны мікрараён з 2—3-павярховай жылой забудовай. Вытв. зона размешчана ў зах. і ўсх. частках пасёлка. Зона адпачынку — на Плешчаніцкім вадасховішчы, пойма р. Малка, якая складае кампазіцыйнае адзінства з вул. Леніна. Прадугледжана развіццё грамадскага цэнтра па вул. Леніна, расшырэнне зоны адпачынку, буд-ва 2—5-павярховых жылых дамоў.

*В. А. Крайко.*

**ПОКРЫЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1739 на Пн ад в. Покры (Брэсцкі р-н), часткова перабудавана ў 19 ст. Узор драўлянай пабудовы цэнтрычнай кампазіцыі, у архітэктуры якой адзначаюцца асобныя рысы стылю барока. Крыжападобны ў плане будынак з 5-граннай апсідай накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі 2-схільнымі дахамі, якія ўтвараюць франтоны на гал. і бакавым фасадах. Сяродкрыжжа завершана фігурнай вежачкай. Да апсіды прылягаюць 2 маленькія рызніцы. З захаду да царквы прыбудавана 2-ярусная званіца (васьмярык на чацверыку), накрытая 8-гранным шатровым дахам. Сцены будынка вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вуглы апрацаваны драўлянымі разнымі накладкамі. Асн. зальнае памяшканне з бэлечнай столлю аддзелена ад алтара разным іканастасам. Хоры ў верхняй частцы бабінца апіраюцца на 2 калонкі. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*С. Ф. Самбук.*

**ПОЛАЦК,** горад абл. падпарадкавання, на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Палата. За 105 км ад Віцебска. П. (летапісны П о л о т е с к, П о л о т ь с к, П о л т е к с, паводле скандынаўскіх саг Paltesjuborg) — адзін з самых стараж. гарадоў усх. славян. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862. Заснаваны крывічамі (пры археал. раскопках знойдзены матэрыялы днепра-дзвінскай культуры першых ст. н. э. і ўмацаванае паселішча крывічоў 9—10 стагоддзяў). У 9 ст. размяшчаўся на берагах Палаты (адсюль назва горада) на ўмацаваным гарадзішчы (пл. каля 1 га). У пач. 11 ст. дзядзінец перанесены на ўзгорак пры ўпадзенні Палаты ў Зах. Дзвіну (пазней Верхні горад, гл. ў арт. *Полацкія замкі*). Уздоўж правага берага Зах. Дзвіны фарміраваліся пасады. У 8—9 стагоддзях быў племянным цэнтрам полацкіх крывічоў. У 10—13 стагоддзях цэнтр буйнога Полацкага княства, гіст. вобласці Полацкай зямлі (належала прадстаўнікам самастойнай дынастыі князёў Рагвалодавічаў). Каля 980 у П. княжыў Рагвалод (забіты кіеўскім кн. Уладзімірам Святаславічам, які сілай узяў у жонкі яго дачку Рагнеду), з 988—яго ўнук Ізяслаў Уладзіміравіч, з 1003 — Брачыслаў Ізяславіч, у 1044—1101 — Усяслаў Брачыславіч



**Полацк** у 2-й палавіне 19 ст. Від на Сафійскі сабор з боку Заходняй Дзвіны.

(пры ім горад дасягнуў найбольшага росквіту і стаў гал. канкурэнтам Кіева), з 1132— яго ўнук Васілька, у 1160—80 — Усяслаў Васількавіч, у канцы 12 ст.— Барыс, з 1216 — Уладзімір, потым — Брачыслаў. У П. існавала самастойная епіскапская кафедра. Тут нарадзілася каля 1110 асветніца Ефрасіння Полацкая. У 12—13 стагоддзях горад займаў плошчу зв. 80 га, меў больш за 8 тыс. жыхароў, развітую планіровачную структуру; ён складаўся з пасялення на беразе Палаты (пачатковае гарадзішча і селішча), Верхняга замка, Вялікага пасада (на правым беразе Зах. Дзвіны) і Запалоцця (за р. Палата). На тэр. Верхняга замка ў 11 ст. пабудаваны *Полацкі Сафійскі сабор.* У 12 ст. сфарміравалася самабытная *Полацкая школа дойлідства.* У 12 ст. пабудаваны мураваныя *Полацкі княжацкі храм* і *Полацкія княжацкія палаты,* Прадцечанская царква (на востраве Зах. Дзвіны, не збераглася), у прадмесці Бельчыцы — *Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр;* заснаваны *Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр* і пабудаваны яго саборны храм — Спаса-Ефрасіннеўская царква і храм-пахавальня. Мураваныя манастыры і храмы ахоўвалі горад з Пн, Пд і З. У 14 ст. заселены левы бераг Зах. Дзвіны. З 1307 у складзе Вял. кн. Літоўскага. З 2-й пал. 13 ст. ў П. княжылі Таўцівіл (у пач. 1260-х гадоў), Гердзень (зафіксавана пад 1264), Ізяслаў (зафіксавана пад 1265), Воін (з 1307), затым Нарымунт (Глеб, сын Гедыміна), Андрэй Полацкі (сын Альгерда, каля 1343). З 1392 горадам кіравалі намеснікі; у 14—17 стагоддзях меў асобныя правы, т. зв. Полацкія прывілеі. У «Хроніцы Польшчы» ад 1382 названы замкам (крэпасцю) Белай Русі. Каля 1490 у горадзе нарадзіўся бел. першадрукар і асветнік Францыск Скарына. У 1498 П. атрымаў магдэбургскае права. Меў герб — на блакітным полі карабель з паднятымі ветразямі і сцягамі на мачтах. З 1504 цэнтр Полацкага ваяводства. У 1-й пал. 16 ст. пабудаваны драўляны кальвінскі збор (згарэў у 1660). У 1580 закладзены касцёл і калегіум езуітаў — пастаўлены драўляныя, у 1-й пал. 17 ст. ўзведзены мураваныя будынкі *Полацкага езуіцкага калегіума.* У канцы 16 ст. планіровачная структура горада складалася з Верхняга і Ніжняга замкаў і 6 пасадаў: Вялікага, Запалоцкага, Востраўскага, Якіманскага, Крыўцова (за Зах. Дзвіной), Слабадскога (уздоўж р. Бельчыца); было каля 80 вуліц і завулкаў. П. з'яўляўся важным стратэгічным пунктам і меў развітую сістэму абарончых умацаванняў. Верхні і Ніжні замкі былі абнесены драўлянымі сценамі з вежамі (гл. *Полацкія вежы*) і злучаліся паміж сабой пад'ёмным мостам, перакінутым цераз роў. У 1654—63 узведзены земляны вал з драўлянымі сценамі і ровам вакол Вялікага пасада і Запалоцця. Абарончыя ўмацаванні неаднаразова гарэлі і зноў аднаўляліся. Перад будынкам езуіцкага калегіума пачала фарміравацца *Полацкая парадная плошча.* У 17—18 стагоддзях існавала вял. колькасць мураваных манастыроў, цэркваў, касцёлаў: *Полацкі Богаяўленскі манастыр, Полацкі касцёл і кляштар бернардзінцаў, Полацкі кляштар францысканцаў,* кляштар дамініканцаў, манастыр базыльян. У 16 ст. ў П. 100 тыс., у 17 ст.— каля 20 тыс. жыхароў. У 1654 у час. рус.-польскай вайны заняты рус. арміяй, у 1667 паводле Андрусаўскага перамір'я вернуты Рэчы Паспалітай. У 2-й палове 17 ст.— 1-й пал. 18 ст. ў сувязі з войнамі горад заняпаў. У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай у 1772 у склад Расійскай імперыі ўвайшла правабярэжная, у 1793 — левабярэжная часткі горада. З 1776 П.— цэнтр Полацкай губ., у 1778 — 96 — намесніцтва, з 1796 цэнтр павета Беларускай, з 1802 — Віцебскай губерняў. У 1781 зацверджаны новы герб горада — «Пагоня» (на сярэбраным полі выява конніка са шчытом і ўзнятым мячом). Да сярэдзіны 18 ст. склалася прамавугольная сістэма планіроўкі цэнтр. часткі П. (паміж Зах. Дзвіной, Палатой і Ярам). У 1778 для правабярэжнай часткі горада распрацаваны рэгулярны праектны план, які прадугледжваў развіццё прамавугольнай сістэмы планіроўкі, што склалася гістарычна. Уздоўж Зах. Дзвіны па гал. вуліцы (сучасны праспект К. Маркса) запраектаваны 3 плошчы: галоўная, плошча гарадскога магістрата, гандлёвая. Галоўная (Парадная, потым Корпусная) плошча ў канцы 18 — пач. 19 ст. забудавана адм. будынкамі ў стылі класіцызму (збераглася часткова). Прамавугольную сістэму планіроўкі атрымала Запалоцце (таксама з 3 плошчамі). У 1838 распрацаваны праект плана для ўсяго горада, паводле якога рэгулярная сістэма планіроўкі развівалася і ў Задзвінскай частцы



**Полацк.** Праспект К. Маркса.

П., дзе ў цэнтры была запраектавана прамавугольная плошча. У 1897 у П. 20294 жыхары. У 1780 у П. было 360 драўляных дамоў, у канцы 19 — пач. 20 ст.— 156 мураваных і 1403 драўляныя дамы, 226 мураваных і 272 драўляныя крамы, 23 тыс. жыхароў. Засн. новыя жылыя кварталы ў паўн.-ўсх. частцы горада. Пасля буд-ва чыгункі ў паўн. частцы сфарміравана прывакзальная плошча, пракладзена новая вуліца (цяпер вул. Гогаля), якая звязвала Прывакзальную і Цэнтр. плошчы. З 1924 П.— цэнтр раёна, у 1924—30 і 1935—36 цэнтр акругі. З студзеня 1938 у Віцебскай вобл., з 27.9. 1938 горад абл. падпарадкавання. 29,6 тыс. жыхароў у 1939. У 1944—54 цэнтр Полацкай вобл.

Першы генплан сацыялістычнай рэканструкцыі П. складзены ў 1937—39 (ін-т «Белдзяржпраект», арх. І. Рапапорт). Пабудаваны прамысл. прадпрыемствы, шматпавярховыя жылыя, адм. і грамадскія будынкі. У пасляваен. гады П. развіваўся паводле генплана 1948 («Белдзяржпраект», арх. Г. Заборскі, Л. Мацкевіч, А. Хегай; карэкціроўка 1964, Віцебскі аблпраект, арх. В. Данілаў, А. Данілава, Л. Яніна, З. Даўгяла). Агульнагарадскі цэнтр размяшчаецца на гал. гарадской магістралі — праспекце К. Маркса з сістэмай плошчаў, падпарадкоўваецца асн. кампазіцыйнай восі — Зах. Дзвіне. У 1950—60-я гады рэканструявана цэнтр. частка горада — пл. Леніна (б. Корпусная), праспект К. Маркса, вуліцы Гогаля, Камуністычная і інш. У Задзвінні ўзводзіліся мікраараёны № 1 (з 1961) і № 2 (з 1968). Сучасны П. забудоўваецца паводле генплана 1972 (Мінскі філіял ЦНДІП-горадабудаўніцтва, арх. В. Чарнышоў, Г. Булдаў, М. Трагубовіч; карэкціроўка 1977). Уключае правабярэжжа, якое чыгункамі і Палатой дзеліцца на планіровачныя раёны Цэнтральны, Грамы 1-я і Грамы 2-я, Паўночны, Запалоцце, і левабярэжжа — раён Задзвінне. Архіт.-планіровачная структура Цэнтр. раёна — прамавугольная сетка вуліц з дробнымі кварталамі, забудаванымі 2—5-павярховымі дамамі. Захавалася і 1-павярховая індывідуальная забудова ў выглядзе асобных участкаў. Гал. кампазіцыйная вось — праспект К. Маркса, вырашаны ў выглядзе шырокага бульвара, паралельнага Зах. Дзвіне і размешчанага на яе высокім правым беразе. Адм.-грамадскі цэнтр фарміруецца на гал. плошчы Леніна, якая ўзнікла на скрыжаванні праспекта К. Маркса з вуліцамі Фрунзе і Талстога (захаваліся фрагменты забудовы 18 ст., разбіты сквер). На скрыжаванні праспекта К. Маркса з вул. Гогаля ўтворана пл. Скарыны (у 1974 устаноўлены помнік Скарыне). Цэнтральны раён звязаны з Запалоццем Чырвоным мостам цераз р. Палата (у 1975 замест драўлянага пабудаваны жалезабетонны). У інш. планіровачных раёнах правабярэжжа пераважае 1-павярховая забудова сядзібнага тыпу. Левабярэжжа (Задзвінне) складаецца з жылой зоны і паўд. прамысл. раёна. Вуліцы Дзяржынскага, Тусналобавай-Марчанкі, 23 гвардзейцаў забудаваны дамамі сядзібнага тыпу. Створаны мікрараён Марыненка (вуліцы Марыненка, П. Броўкі, імя 6-й гвардзейскай арміі) з 5—9-павярховай забудовай, гандл. цэнтрам. Прамысл. зона сфарміравалася ў паўд. (раён чыг. станцыі), паўд.-ўсходняй (раён чыг. ст. Грамы) і паўд.-заходняй (прамысл. зона Ксты) частках горада. Зоны адпачынку — поймы Зах. Дзвіны і Палаты. Захаваліся фрагменты забудовы 17—19 стагоддзяў па вул. Леніна, у т. л. *Полацкі жылы дом* (Дом Пятра І), жылыя дамы, б. лютэранская царква — *Полацкая кірха,* дамы па вул. Скарыны, праспекце К. Маркса (б. дом губернатара). Каля Сафійскага сабора, на правым беразе Зах. Дзвіны, знаходзіцца Барысаў камень — помнік эпіграфікі 12 ст. У 1967 створаны Полацкі гісторыка-археал. запаведнік (пл. 36 га); уключае тэр. Верхняга і Ніжняга замкаў, гарадзішча на р. Палата, а таксама асобныя архіт. помнікі (Сафійскі сабор, Богаяўленскі манастыр, Дом Пятра І). Распрацаваны праект рэгенерацыі гіст. забудовы горада 1985 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Токарава, І. Шамецька), які прадугледжвае ахову, рэстаўрацыю і эфектыўнае выкарыстанне помнікаў гісторыі, культуры і гіст. забудовы, упарадкаванне ландшафту і фарміраванне іх арганічнай узаемасувязі.

*Г. В. Штыхаў, Т. І. Чарняўская, С. Ф. Самбук.*


Полацкая кірха.

**ПОЛАЦКАЯ КІРХА,** лютэранская царква, помнік архітэктуры неаготыкі. Была закладзена ў 1775 (магчыма, драўляная, няскончана). Мураваная ўзведзена на мяжы 19—20 стагоддзяў (з 1901 існаваў прыход). Да асн. прамавугольнага ў плане аб'ёму з боку гал. фасада далучаецца 2-ярусная чацверыковая вежа, завершаная невысокім 4-схільным дахам (першапачаткова высокі шатровы) з пінаклямі па вуглах, з процілеглага боку — 4-гранная апсіда з рызніцай. Гал. ўваход у 1-м ярусе вежы вылучаны стральчатым парталам, над якім размешчана круглае акно. 2-і ярус мае 2 злучаныя стральчатыя аконныя праёмы. Абодва ярусы вежы завершаны ляпнымі накладнымі карнізамі з ажурным арнаментальным поясам, вуглы дэкарыраваны лапаткамі. Вуглы асн. аб'ёму на гал. фасадзе і каля апсіды завершаны пінаклямі. Бакавыя фасады першапачаткова былі прарэзаны стральчатымі аконнымі праёмамі (цяпер іх форма часткова зменена). У 1948 кірха была прыстасавана пад Полацкі абл. краязнаўчы музей (надбудаваны 2-і паверх, зроблена прыбудова да бакавога фасада, зменена ўнутраная планіроўка). Цяпер у будынку размешчаны філіял Полацкага гісторыка-археал. запаведніка.

*Т. І. Чарняўская.*

**ПОЛАЦКАЯ ПАРАДНАЯ ПЛОШЧА,** горадабудаўнічы ансамбль 17—18 стагоддзяў. У зах. частцы Полацка, з 1830 вядома як


**Полацкая парадная плошча.** План.

Корпусная пл. (сучасная пл. Леніна). Сфарміравалася ў 17 ст. перад касцёлам і калегіумам езуітаў (гл. *Полацкі езуіцкі калегіум*). У 1776—84 забудавана жылымі і адм. будынкамі ў стылі класіцызму паводле праекта арх. І. Зігфрыдана. Плошча мела ў плане форму, блізкую да квадрата. На зах. яе баку знаходзіліся касцёл і калегіум езуітаў, на ўсходнім — будынкі грамадзянскай і крымінальнай палат і намесніцкага праўлення, на паўднёвым — дамы губернатара, магістрата і верхняй і ніжняй управ, на паўночным — дамы каменданта і віцэ-губернатара, земскіх судоў і комплекс даміканскага манастыра. Захаваліся будынкі калегіума, магістрата і дома губернатара (цяпер размешчана медыцынская ўстанова), верхняй і ніжняй управ (зараз жылы дом, усе па праспекце К. Маркса, 4, 6, 8), дамы каменданта (цяпер адм. ўстанова) і віцэ-губернатара (зараз медыцынская ўстанова; Замкавы завулак, 3, 5). Будынкі 2-павярховыя, мураваныя, прамавугольныя ў плане, падобныя па планіроўцы, аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі і дэкоры. Вылучаўся 1-павярховы асіметрычнай кампазіцыі будынак магістрата з мансардай. Яго тарцовы фасад (выходзіць на вул. Фрунзе) завершаны 3-вугольным шчытом (зараз тут размешчана ваенная камендатура). Будынкі злучаліся мураванымі агароджамі і ўтваралі нібыта адзіны фасад забудовы. У планіроўцы і рэгулярнай забудове плошчы выявіліся элементы класіцызму: строгая сіметрыя размяшчэння будынкаў, вылучэнне гал. архіт. элемента, стварэння вял. замкнутай прасторы. Будынкі, якія захаваліся і ўваходзяць у ансамбль плошчы,— помнікі рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**ПОЛАЦКАЯ ШКОЛА ДОЙЛІДСТВА,** самабытная архіт. школа, якая склалася ў 12 ст. ў Полацкім княстве ў час яго эканамічнага і палітычнага ўздыму. Сфарміравалася ў культавым буд-ве на аснове традыцый візантыйскай архітэктуры пад уплывам першага манум. збудавання на тэр. Беларусі — *Полацкага Сафійскага сабора.* Для П. ш. д. характэрна муроўка з плінфы «са схаваным радам», якая ўтварала 2-колерную гаму паверхні сцяны, радзей — з чаргаваннем слаёў плінфы і вапняку (Віцебск). У пабудовах П. ш. д. адбыўся адыход ад візантыйскіх крыжова-купальных шматнефавых структур з некалькімі апсідамі: план выцягнуты па падоўжнай восі, бакавыя нефы больш вузкія, дамінуе сярэдняя апсіда (бакавыя знадворку не выяўлены і часцей за ўсё схаваны ў тоўшчы алтарных сцен). Асн. тыпы культавых збудаванняў: 1-нефавыя бясслуповыя з адной апсідай і бабінцам (Пятніцкая царква *Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра*); 3-нефавыя 6-слуповыя з 3 апсідамі, выяўленымі знадворку (сабор Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра); трохнефавыя 4- або 6-слуповыя са схаванымі бакавымі апсідамі (саборны храм *Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, Віцебская Благавешчанская царква,* Барысаглебская царква Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра). Шэраг храмаў меў абходныя галерэі. Для некаторых помнікаў П. ш. д. характэрна размяшчэнне падкупальнага квадрата не над усх., а над зах. парамі слупоў, што надавала кампазіцыі будынкаў цэнтрычнасць. Гэтаму спрыяла і канструкцыйна-дэкар. сістэма перакрыцця падкупальнага квадрата ступеньчатымі аркамі і ўтварэнне кубічнага пастамента барабана гал. купала, аздобленага знадворку 3-лопасцевымі аркамі. Прадстаўнік П. ш. д. дойлід *Іаан* — аўтар Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку. Полацкія дойліды ўдзельнічалі ў буд-ве *Навагрудскай Барысаглебскай царквы,* заклалі падмуркі замкавай царквы ў Мінску, будавалі ў Ноўгарадзе (царква на Сінічнай гары) і Смаленску. П. ш. д. зрабіла вял. ўплыў на далейшае развіццё архітэктуры Беларусі і інш. зямель Русі 12—16 стагоддзяў.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ПОЛАЦКІ БОГАЯЎЛЕНСКІ МАНАСТЫР,** помнік архітэктуры барока з элементамі класіцызму. У цэнтры горада, на правым беразе Зах. Дзвіны. Засн. ў 16 ст., з'яўляўся цэнтрам праваслаўнага полацкага брацтва. Уключаў Богаяўленскую царкву і жылы корпус (цяпер выкарыстоўваецца пад жыллё). У 16—17 стагоддзях пастаўлены драўляныя будынкі манастыра і брацкай школы. У пач. 17 ст. будынкі манастыра згарэлі. Паводле некаторых звестак, гал. манастырская царква згарэла ў 1682 і замест яе пабудавана капліца; пасля пажару 1757 на сродкі жыхароў у 1761 пачалося аднаўленне храма, былі напалавіну ўзведзены сцены, але праз год зноў згарэлі. У 1779 буд-ва царквы было завершана (у далейшым неаднаразова перабудоўвалася). Уяўляе сабой 1-апсідны крыжова-купальны мураваны храм з 2-вежавым гал. фасадам і высокім светлавым барабанам з сферычным купалам, завершаным ліхтарамі, ліхтары завяршаюць і 1-ярусныя вежы. Напачатку над сценамі ўзвышаліся 4 франтоны: у 1839 заходні і ўсходні былі разбураны («бо надавалі каталіцкі выгляд»), а паўночны і паўднёвы пamеншаны. З зах. боку былі 2 вежы. У паўночнай знаходзілася званіца (з 7 званамі), да яе вялі ўсходы з паўд. вежы. Сцены, вежы, барабан купала прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і расчлянёны пілястрамі. Інтэр'ер двухсветлавы, у зах. частцы — хоры. Перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкай. У 1836 сцены і ўнутраная паверхня купала былі размаляваны; захаваліся рэшткі насценнага фрэскавага жывапісу (у прасценках барабана фігуры 3 святцеляў). Пасля рэстаўрацыі 1981 тут размешчана карцінная галерэя. Пасля наведвання ў 1780 Кацярынай II Полацка ўказам ад 10.12.1781 было выдзелена 35 221 руб. на ўпарадкаванне манастыра. У 1782 арх. Дж. Кварэнгі распрацаваў праект яго расшырэння: прадугледжваў раскрыццё кампазіцыі ансамбля будынкаў уздоўж вул. Ніжнепакроўскай (сучасная вул. Леніна) — царкву фланкіравалі два 2-павярховыя будынкі, размешчаныя па чырвонай лініі вуліцы. У 1782—85 з З ад царквы на месцы драўлянага будынка брацкай школы (у 1656—59 у ёй выкладаў Сімяон Полацкі) быў узведзены Г-падобны ў плане корпус: у ім знаходзіліся келлі манахаў, пакоі ігумена і 2 цёплыя царквы — Ефрасіннеўская і Кацярынінская. З У ад царквы ў пач. 19 ст. пабудаваны «эканамічны дом» (не захаваўся). У кампазіцыі гал. фасадаў будынкаў выкарыстаны характэрны для класіцызму прынцып ордэра, але без яго вертыкальных частак. 1-ы паверх трактаваўся як своеасаблівы п'едэстал над больш парадным 2-м паверхам, быў дэкарыраваны рустам і расчлянёны невял. лучковымі перамычкамі. Вокны 2-га паверха больш выцягнутыя, з простымі ліштвамі. Будынкі завер-



Богаяўленская царква пры Полацкім Богаяўленскім манастыры.

шаны развітым прафіляваным карнізам. Вуглавая частка (тут знаходзіліся келлі) вылучана 4 дарычнымі паўкалонамі, завершана франтонам і невял. вежай (у 1830-я гады пабудаваны купал на цыліндрычным барабане, не захаваўся). У 1784—91 і 1812—19 у корпусе размяшчалася нар. вучылішча, у 1792—1812 — багадзельня. У 1970-я гады будынак рэстаўрыраваны, выкарыстоўваўся як жылы дом, зараз прыстасоўваецца пад музей. Комплекс былога манастыра — помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская, В. Ф. Марозаў.*

**ПОЛАЦКІ ЕЗУІЦКІ КАЛЕГІУМ,** помнік архітэктуры, горадабудаўнічы ансамбль 18—19 стагоддзяў. Засн. ў 1581 П. Скаргам як сярэдняя навучальная ўстанова езуітаў. У гэтым годзе пастаўлены драўляныя будынкі калегіума на востраве Зах. Дзвіны. Пасля пажару ў 1-й пал. 17 ст. на новым месцы паміж Верхнім замкам (гл. ў арт. *Полацкія замкі*) і горадам пабудаваны драўляны касцёл св. Стафана, будынкі келляў і вучылішча. Пасля новага пажару ў пач. 18 ст. на месцы драўлянага ўзведзены мураваны касцёл у стылі барока — 3-нефавая крыжова-купальная базіліка з 2-вежавым (выш. да 60 м) фасадам. Засн. ў 1738, асвячоны 15.8.1745, работы па дэкарацыі інтэр'ера завершаны ў 1765. У 1764—65 пастаўлены алтар (у стварэнні ўдзельнічаў бел. мастак Сымон Чаховіч), у 1765—66 — арганы (майстар Дамінік Адам Каспарыні), карціны італьянскага мастака Разаці (пасля 1800). Агульны выгляд касцёла адлюстраваны на малюнку Н. Орды 19 ст. У 1830 касцёл перададзены праваслаўнай царкве і перайменаваны ў Мікалаеўскі сабор. Перабудаваны (касцёльнае начынне звезена ў Варшаву, Асвею і інш. гарады; арганы з 1838 знаходзяцца ў віленскім касцёле св. Яна, што на тэр. ун-та). Перад касцёлам сфарміравалася гал. плошча горада — *Полацкая парадная плошча*. У 1750 побач з касцёлам пачалі ўзводзіць мураваны 3-павярховы гал. будынак калегіума, які злучаны з касцёлам. Е-падобны ў плане будынак гал. падоўжаным фасадам быў арыентаваны на Пд, на Зах. Дзвіну. У 2-павярховым сярэднім левым крыле на 1-м паверсе размяшчалася трапезная, на 2-м — б-ка і музей, да трапезнай прылягаў 1-павярховы будынак кухні. Астатняя частка будынка мела калідорную сістэму планіроўкі, капітальнымі сценамі была падзелена на 105 памяшканняў. Перакрыцці паверхаў — цыліндрычныя скляпенні. Будынак абаграваўся «цёплай» (з хадамі для цяпла) падлогай. У сценах



**Полацкі езуіцкі калегіум.** Агульны выгляд касцёла. З малюнка Н. Орды. 19 ст.

зроблены вентыляцыйныя хады, у падвалах — развітая сістэма падземных вадасцёкаў. Захавалася паўд. частка корпуса і зах. крыло. У 1778 паралельна будынку касцёла ўзведзены 3-павярховы корпус, у якім у 1-м паверсе размясцілася кнігарня, на 2-м — спачатку вучылішча, потым друкарня, на 3-м — тэатр. З паўн. боку да касцёла прыбудаваны 2-павярховы Г-падобны ў плане флігель для ксяндзоў, які аб'ядноў касцёл з гал. корпусам. У 1780 пабудаваны 1- і 2-павярховыя карпусы гасп. прызначэння (бровар, медаварня, піваварня, пякарня, кузня, майстэрні і інш.; не захаваліся); яны абмяжоўвалі тэр. калегіума з Пн і З і замыкаліся 2-павярховым будынкам з брамай. Побач размяшчалася аптэка з лабараторыяй і сушыльняй для траў. У 1785 пасля прыезду ў Полацк у якасці генерала ордэна архітэктара і матэматыка Габрыэла Грубэра пабудаваны корпус, які злучыў 3-павярховы і гал. карпусы. У новым корпусе знаходзіліся карцінная галерэя, музей, абсерваторыя, хімічная лабараторыя, вучэбныя кабінеты (не захаваліся). На Пд ад аптэкі пабудаваны 2 флігелі — памяшканні для семінарыстаў і багадзельні. Паўд. схіл узгорка, на якім стаяў гал. корпус, быў умацаваны падпорнай сцяной (захавалася), на створанай тэрасе разбіты пладовы сад.

У 1812 калегіум быў пераўтвораны ў езуіцкую акадэмію (мела архіт. факультэт). У 1820 акадэмія закрыта. З 1822 калегіум займалі манахі ордэна піяраў. З 1830 у будынках калегіума размяшчаўся заснаваны ў Полацку кадэцкі корпус. У 1830—35 рэканструяваны старыя і пабудаваны новыя карпусы: кадэцкі (прыбудаваны да зах. крыла гал. корпуса б. калегіума), дом дырэктара і 5 будынкаў службовага прызначэння (арх. А. Порта, захаваліся часткова). Цяпер у будынку размешчана мед. ўстанова. У 1964 сабор разбураны, у 1978 на яго месцы ўзведзены жылы дом. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*



**Полацкі жылы дом.**

**ПОЛАЦКІ ЖЫЛЫ ДОМ,** дом **Пятра І**, помнік архітэктуры з элементамі стылю барока. Пабудаваны ў 1692 у цэнтры горада як жылы (на мяжы 18—19 стагоддзяў перабудаваны). Мураваны 1-павярховы (з паўпадвальным паверхам) будынак мае ў плане форму няправільнага прамавугольніка. Асн. дэкаратыўныя элементы сканцэнтраваны на гал. паўднёвым (вул. Леніна, 33) і тарцовым (вул. Сака і Ванцэці) фасадах. Плоскасці сцен прарэзаны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі з ліштвамі і фігурнымі сандрыкамі, цэнтр. частка гал. фасада вылучана 2 прафіляванымі філёнгамі. Тарцовы фасад завершаны фігурным атыкам з ляпнымі разеткамі (перароблены ў 19 ст.). Парадныя ўваходныя дзверы дэкарыраваны раслінным арнаментам і маскаронамі (разьба па дрэве). Перакрыцце 1-га паверха бэлечнае, паўпадвальнага — скляпеністае. У доме з 12.6 да 15.7.1705 жыў Пётр І, які прыязджаў у Полацк для кіраўніцтва рус. войскамі ў Паўночную вайну 1700—21. Цяпер тут размешчана гарадская дзіцячая б-ка імя Л. М. Талстога, перад будынкам пісьменніку пастаўлены помнік. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская.*

**ПОЛАЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў Полацку на левым беразе Зах. Дзвіны. Заснаваны ў 1488 Аляксандрам Ягелончыкам. Мураваныя будынкі касцёла і кляштара ўзведзены ў 1758 на месцы драўляных збудаванняў 1695. Комплекс ўключаў таксама гасп. пабудовы (кузню, стайню, свіран і інш.), пладовы сад з агародам. Касцёл — 1-нефавы храм з 2-вежавым гал. фасадам, накрыты 2-схільным дахам. Франтоны на гал. і бакавых фасадах мелі фігурныя завяршэнні. У 3-м ярусе 4-ярусных вежаў былі скразныя паўцыркульныя вокны. У пластыцы фасадаў выкарыстаны ордэр-

ныя элементы. Будынак быў пера-крыты цыліндрычнымі скляпеннямі. Хоры падтрымліваліся прамавугольнымі слупамі. Унутры вежаў размяшчаліся вітыя ўсходы. У 1-й пал. 19 ст. перабудаваны пад царкву (дзейнічае). Збярогся 2-павярховы мураваны жылы будынак (цяпер тут размешчана мед. ўстанова). У плане выцягнуты прамавугольнік, з заходу завершаны перпендыкулярна размешчаным крылом з трапезнай на 1-м паверсе. З У вузкім пераходам злучаўся з касцёлам. Унутраная планіроўка галерэйная з аднабаковым размяшчэннем келляў, перакрыцце памяшканняў скляпеністае. Архітэктура жылога будынка вызначаецца прастатой, мае сціплы дэкор: прамавугольныя ліштвы акон, плоскія пілястры, прафіляваны карніз. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*В. Р. Кукуня.*

**ПОЛАЦКІ КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ.** Заснаваны ў 1672 па фундацыі Віленскага каноніка Ф. М. Гарскага з дазволу Віленскага епіскапа А. Сапегі. У 1837 і 1843 будынкі кляштары гарэлі. У 1774 быў закладзены мураваны касцёл Боскай Маці. Аднак з-за недахопу сродкаў, яго буд-ва было адкладзена да 1801 і завершана ў 1804. Уваходзіў у ансамбль *Полацкай парадчай плошчы.* Касцёл — 3-нефавая 6-стаўповая базіліка, цэнтр. неф якой завяршаўся паўкруглай апсідай (30×18,9). У інтэр'еры касцёла былі ўбудаваны 5 алтароў, упрыгожаных разьбой і размалёўкай, на хорах быў 12-галосы арган. Касцёл меў 2 уваходы: першы з боку плошчы быў аформлены порцікам з 6 іанічнымі калонамі і балконам, на якім быў уваход на хоры, другі — з боку кляштара. Кляштар пабудаваны ў 1781—1804, уяўляў сабой 2-павярховы Г-падобны ў плане корпус з калідорнай планіроўкай. Першы паверх меў скляпеністыя перакрыцці, другі — драўляныя. Будынкі кляштара былі пакрыты чарапіцай. У комплекс уваходзілі таксама гасп. пабудовы, сад, палісаднік і каменная агароджа з уязной брамай. Кляштарны двор быў выбрукаваны. У 1864 пасля закрыцця кляштара касцёл стаў прыходскім. Комплекс разбураны ў час Вял. Айч. вайны.

*В. Р. Кукуня.*

**ПОЛАЦКІ КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў Полацку на правым беразе Зах. Дзвіны (сучасная вул. Леніна, 20). Драўляны кляштар быў узведзены ў 1628 па фундацыі Тэафіла і Крысціны Храпавацкіх. Мураваны касцёл св. Антонія пабудаваны ў 1763—75. Касцёл — 3-нефавы 2-вежавы з вежачкай над гал. алтаром храм (даўж. 23 м, шыр. 15 м), накрыты 2-схільным дахам з чарапічным пакрыццём. Паміж 3-яруснымі вежачкамі знаходзіўся 3-вугольны франтон. Па баках асн. аб'ёму было 2 сакрысціі. Над бабінцам былі хоры, дзе размяшчаўся арган на 10 галасоў. Гал. алтар і 4 дадатковыя былі выкананы з алебастру (згарэлі ў час пажару 1861). У 1778 пабудаваны мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане жылы корпус, які шчыльна прылягаў да касцёла. Пакрыццё чарапічнае, з боку ўнутранага двара 4 дахавыя акны. Планіроўка калідорная. У 1833 кляштар быў закрыты, касцёл і жылы корпус перададзены праваслаўнаму ведамству. У канцы 19 ст. на месцы касцёла пабудаваны 2-павярховы будынак (разбураны ў Вял. Айч. вайну) з частковым выкарыстаннем сцен і падвалаў, на фасадах былі паўтораны архіт. дэталі жылога корпуса. У былым жылым корпусе кляштара размешчана адм. ўстанова. Помнік рэспубліканскага значэння.

*В. Р. Кукуня.*

**ПОЛАЦКІ КНЯЖАЦКІ ХРАМ.** Існаваў у 12—16 стагоддзях на тэр. Верхняга замка (гл. *Полацкія замкі*); рэшткі яго выяўлены М. Каргерам у час археал. раскопак 1966—67. Храм мураваны, 3-нефавы, 6-стаўповы, крыжова-купальны (24×16 м), 3-апсідны (бакавыя апсіды размяшчаліся ў тоўшчы сцяны). Цэнтр. неф з У завяршаўся паўкруглай апсідай, больш вузкія бакавыя нефы — паўкруглымі нішамі ў тоўшчы сцяны. У цэнтры храма ўзвышаўся купал на круглым светлавым барабане. Да бакавых нефаў былі прыбудаваны прытворы з самастойнымі апсідамі. Багатую пластыку фасадам надавалі пілястры скла-



**Полацкі княжацкі храм.** Рэканструкцыя П. А. Рапапорта.



**Полацкі Сафійскі сабор.** Галоўны фасад.

данага профілю, аркатурныя паясы, дэкар. арачкі над аконнымі і дзвярнымі праёмамі, закамары. Інтэр'ер быў аздоблены фрэскамі, падлога выкладзена з паліваных керамічных плітак.

*А. А. Трусаў.*

**ПОЛАЦКІ САФІЙСКІ САБОР,** помнік архітэктуры 11—18 стагоддзяў. Пабудаваны ў Полацку пры кн. Усяславе Брачыславічу паміж 1044—66 (паводле іншых звестак у 1050—60) як праваслаўны мураваны 5-нефавы крыжова-купальны (7 купалоў, паводле іншых звестак 5) храм з 3 гранёнымі апсідамі. На кожным фасадзе (акрамя ўсходняга) было 6 прамавугольных плоскіх лапатак, якія адпавядалі ўнутранаму падзелу памяшкання 16 слупамі на нефы, 3 сярэднія нефы заканчваліся апсідамі. Над сяродкрыжжам сабора быў цэнтр. купал на барабане. Сцены складзены з прыроднага каменю і плінфы ў тэхніцы паласатай муроўкі (муроўка са «схаваным радам», што стварала 2-колерную гаму паверхні), характэрнай для *Полацкай школы дойлідства.* У канцы 15 — пач. 16 ст. перабудаваны ў 5-вежавы храм абарончага ты-



**Полацкі Сафійскі сабор.** Агульны выгляд.

пу. Неаднойчы разбураўся (у 1607 і 1643 спалены, у 1710 часткова пашкоджаны выбухам). Паміж 1738—50 перабудаваны (арх. І. К. Глаўбіц, каменшчык Б. Касінскі) у стылі позняга барока. Храм быў арыентаваны з Пд на Пн. У 18 ст. сабор — 3-нефавая мураваная базіліка з 2 шмат'яруснымі вежамі на гал. фасадзе. З усх. боку ў кампазіцыю сабора ўключаны рэшткі сцен, склеп і гранёныя апсіды храма 2-й пал. 11 ст. (даўжыня старой забудовы вызначыла шырыню новай). Старажытныя апсіды і сіметрычная ім прыбудова да зах. фасада ўтвараюць своеасаблівы трансепт, гранёныя крылы якога завершаны ў цэнтры купалам з ліхтарыкамі. Цэнтр. неф на гал. фасадзе і з боку алтарнай апсіды завершаны фігурнымі атыкавымі франтонамі. Гал. фасад дэкарыраваны ляпнымі гірляндамі на пілястрах, авальнымі нішамі на гранёных крылах, пінаклямі па вуглах ярусаў вежаў і франтонаў. Бакавыя фасады аздоблены спаранымі пілястрамі і ляпнымі гірляндамі. У інтэр'еры 3-ярусная каменная алтарная перагародка. На яе бакавых



**Полацкі Сафійскі сабор.** Канцэртная зала з арганам.

дзвярах захаваліся маляўнічыя кампазіцыі 18 ст. У цэнтры пад 3-м ярусам тэмперная размалёўка 18 ст. «Тайная вячэра», над ёю ў барочным ляпным картушы — «Спас нерукатворны». Каларыстычная гама размалёвак складаецца з карычнева-чырвоных, вохрыстых з адценнямі, сіне-блакітных і зялёных тонаў. Алтарная перагародка завершана гарэльефнай кампазіцыяй «Тройца новазапаветная», выкананая ў стылі сталага барока з элементамі ракако. У стараж. частцы храма (усх. апсіда) захаваліся рэшткі фрэсак 11 ст., колеравая гама чырвоная, зялёная і белая з сіне-блакітнымі, шэра-жоўтымі, карычнева-чырвонымі адценнямі. У будынку сабора пасля рэстаўрацыі (1985, арх. В. Слюнчанка) размешчана канцэртная зала з арганам. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*У. А. Чантурыя, Т. І. Чарняўская, В. В. Церашчатава.*

**ПОЛАЦКІ СПАСА-ЕФРАСІННЕЎСКІ МАНАСТЫР,** Полацкі Спаскі манастыр, помнік архітэктуры 12 — пач. 20 ст. Знаходзіцца на ўскраіне Полацка (вул. Фрунзе), на правым беразе р. Палата. Заснаваны ў 1120-я гады полацкай князёўнай Ефрасінняй Полацкай як абарончы фарпост Полацка (з Пн), за 2 км ад горада, у в. Сяльцо, на месцы, дзе знаходзілася драўляная царква Спаса. У 1579 польскі кароль Стэфан Баторый заняў Полацк і заснаваў у манастыры сваю рэзідэнцыю, потым перадаў яе езуітам, якія знаходзіліся тут да 1820. У 1832 манастыр вернуты праваслаўным, з 1841 — жаночы манастыр. У пач. 20 ст. ў ім былі 3 мураваныя храмы, якія ўтваралі невял. плошчу пры ўваходзе, а таксама каля 20 драўляных і мураваных жылых і гасп. пабудоў, сад, агарод. У Вял. Айч. вайну многія пабудовы разбураны, адноўлены ў 1990. У ансамбль уваходзяць: цэрквы Спаса-Ефрасіннеўская, Крыжаўзвіжанская, «цёплая», 2-павярховы жылы дом, брама-званіца з жылым манастырскім корпусам, фундаменты храма-пахавальні. Спаса-Ефрасіннеўская царква, помнік стараж.-рус. архітэктуры. Аднасіцца да *Полацкай школы дойлідства*. Пабудавана дойлідам Іаанам па заказу Ефрасінні Полацкай паміж 1152—61 як саборны храм Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. У 19 ст. часткова перабудаваны (арх. А. Порта). Мураваны 3-нефавы 6-стаўповы крыжова-купальны храм (8×12 м). Цэнтр. неф з У завершаны паўкруглай масіўнай апсідай, больш вузкія бакавыя нефы — паўкруглымі нішамі ў тоўшчы сцяны. Паўд. і паўн. фасады расчлянёны пілястрамі з паўкалонамі, якія рытмічна падзяляюць паверхню на 3 вузкія і 2 шырокія прасценкі (чаргуюцца), прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі на 2 узроўнях (ніжнія вокны ў 1,5 раза большыя за верхнія, з так званымі броўкамі з 4 радоў плінфы). Спачатку царква мела пазакамарнае пакрыццё асн. аб'ёму і

больш нізкага нартэкса. Барабан купала ўзвышаўся над скляпеннямі асн. аб'ёму і апіраўся на квадратны ў плане пастамент, на гранях якога былі какошнікі. Закамары і какошнікі мелі кілепадобнае завяршэнне, што стварала ярусную кампазіцыю верху. У 19 ст. пазакамарнае пакрыццё заменена 3-схільным дахам. Старажытным закамарам адпавядаюць 3 паўкружжы на паўн. і паўд. фасадах. Уваход на хоры — у паўн. частцы зах. сцяны. Па баках хораў 2 маленькія келлі, адна з іх, паводле падання, прызначалася для Ефрасінні Полацкай. Інтэр'ер аздоблены фрэскамі 12 ст.— унікальнымі творамі старaж.-рус. манум. мастацтва. Даследаванні паверхні сцен, скляпенняў і слупоў даюць падставу меркаваць, што ўвесь храм багата ўпрыгожаны фрэскамі, якія закрыты напластаваннямі тынку і алейнай размалёўкай 1832—35 і 1840. Расчыстка сценапісу праводзілася ў 1937, 1938, 1940, 1950, 1972. Адкрыта 8 фрагментаў фрэсак. 3 знаходзяцца ў алтарнай частцы: на лапатках паўн. і паўд. сцен выявы невядомых святых ва ўвесь рост з кнігамі ў руках, на паўд. сцяне побач з бакавым праёмам выява святога, што моліцца на фоне высокай вежы. 5 фрагментаў — у цэнтр. частцы: на паўд. сцяне 2 фрагменты з выявамі святых манашак; на паўн.-ўсх. і паўд.-ўсх. слупах франтальныя выявы святых ва ўвесь рост са скруткамі ў руках; на паўн.-зах. слупе, які падтрымлівае хоры, выява невядомай маладой святой. У апошнія гады пазнейшыя алейныя размалёўкі пачалі ападаць. Адкрылася шмат новых фрагментаў і сюжэтных кампазіцый у цэнтр. (10 выяў) і бакавых апсідах, цэнтр. частцы, у келлі Ефрасінні Полацкай. Фрэскі вылучаюцца выразнасцю індывідуальных характарыстык, натхнёнасцю, эмацыянальнасцю, суровай экспрэсіяй.


**Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр.** Цэрквы (злева направа); Праабражэнская, Спаса-Ефрасіннеўская і Цёплая. Фота пачатку 20 ст.


**Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр.** Брама і манастырскі корпус. Пачатак 20 ст.


**Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр.** Спаса-Ефрасіннеўская царква.

Выявы святых пададзены ў класічных прапорцыях: з прадаўгаватымі тварамі, вял. міндалепадобнымі вачамі, цёмнымі вачніцамі, сціснутымі, але прыгожымі і жывымі вуснамі. Колеравая гама чырвона-карычневая, сіне-блакітная, зялёная, вохра з адценнямі. Контур выкананы чырвона-карычневай фарбай, вохра разбаўлялася бледна-зялёнымі або чыстымі бялiламі. У цэнтр. частцы колеравы фон фрэсак пераважна цёмна-сіні з фіялетавым адценнем, у келлі Ефрасінні Полацкай — цёмна-сіні з зеленаватым адценнем. Старажытнымі фрэскамі таксама была размалявана вонкавая паўд. сцяна (не збераглася). **Крыжаўзвіжанская царква** размешчана з левага (паўночнага) боку Спаса-Ефрасіннеўскай царквы. Узведзена з цэглы ў 1893—97 (паводле праекта В. Ф. Коршыкава) у руска-візантыйскім стылі. Уяўляе сабой крыжова-купальны 3-нефавы храм, 4-слуповы, 5-галовы, з трыма прытворамі і паўцыркульнай апсідай. Цэнтр. шлемападобны купал на высокім светлавым 12-гранным барабане. Па вуглах ад яго 8-гранныя вежы, завершаныя шлемападобнымі купаламі. У дэкар. аздобе фасадаў выкарыстаны закамары, арачныя ўваходныя парталы, паўкалонкі, круглыя медальёны. **«Цёплая» царква** размешчана з правага (паўднёвага) боку Спаса-Ефрасіннеўскай царквы. У 1847 1-павярховы жылы дом быў прыстасаваны пад царкву, у 1886 перабудаваны. Уяўляе сабой прамавугольны ў плане аб'ём з 5-граннай апсідай (з У), 4-гранным прыдзелам (з Пд) і прытворам (з З). Накрыта 2-схільным дахам, у цэнтры якога невял. купал з галоўкай на драўляным 8-гранным барабане. Уваход вырашаны ў выглядзе арачнага партала з шырокай лесвіцай, сцены дэкарыраваны рустам, вокны паўцыркульныя з ліштвамі. **Жылы дом** размешчаны на ПдУ ад Спаса-Ефрасіннеўскай царквы (каля пахавальні). Пабудаваны ў пач. 18 ст. з цэглы як жылы, пазней — летняя рэзідэнцыя генерала езуіцкага ордэна. 2-павярховы прамавугольны ў плане

будынак з уваходам з паўд. боку. Сцены прарэзаны невял. аконнымі праёмамі з ліштвамі, вуглы дэкарыраваны руставанымі лапаткамі і ўмацаваны (з боку яра) 2 масіўнымі контрфорсамі. Брама-званіца і манастырскі корпус размешчаны пры ўваходзе на тэр. манастыра з боку вул. Фрунзе. Брама-званіца ўзведзена з цэглы ў 1882. Уяўляе сабой аднаарачны пралёт, перакрыты цыліндрычным скляпеннем і завершаны вежай-званіцай. Да яго з 2 бакоў далучаюцца 1-павярховыя флігелі. Да левага флігеля ў 1902 прыбудаваны 3-павярховы (1-ы паверх цокальны) мураваны жылы манастырскі корпус, які мае калідорную сістэму планіроўкі. Фундаменты храма-пахавальні размешчаны за 100 м на ПнУ ад Спаса-Ефрасіннеўскай царквы. Храм-пахавальня існаваў у 1-й пал. 12 — 1-й пал. 17 ст. Уваходзіў у ансамбль манастыра. Быў пабудаваны ў традыцыях Полацкай школы дойлідства. Паводле археал. даследаванняў 1947, 1961—62, 1964, 1976 храм быў 3-нефавы, 4-слупавы, крыжова-купальны (шыр. 14,85 м, даўж. без апсіды 17,2 м), 3-апсідны (бакавыя апсіды размешчаны ў тоўшчы ўсх. сцяны). З паўд., зах., і паўн. бакоў абнесены галерэяй (шыр. 4,1 м), якая пераходзіла ў невял. капліцы з самастойнымі апсідамі. Сцены складзены з плінфы ў тэхніцы муроўкі «са схаваным радам». Фасады былі аформлены лапаткамі ступеньчатага профілю. Унутры храм быў багата аздоблены. Знойдзена шмат кавалкаў тынкоўкі з фрэскавай размалёўкай: з арнаментам, выявамі святых і анёлаў. Узорыстая мазаічная падлога была выкладзена з жоўтых, чорных і зялёных керамічных паліваных плітак рознай формы; малюнкі выкладаліся з чорнай, чырвона-карычневай, жоўтай і зялёнай смальты ў форме квадратаў, трохвугольнікаў і палосак. Знойдзены рэшткі мужчынскіх пахаванняў у цагляных камерах. Відаць, храм быў пахавальняй полацкіх епіскапаў. Уцалелі падмуркі і часткова ніжнія часткі сцен. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Ін-це археалогіі АН Расіі ў Санкт-Пецярбургу. Ансамбль манастыра — помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*Т. І. Чарняўская, В. В. Церашчатава.*

**ПОЛАЦКІЯ ВЕЖЫ.** Існавалі паміж 1563—79. Два абарончыя збудаванні тыпу данжонаў стаялі на Верхнім Полацкім замку (гл. ў арт. *Полацкія замкі*). Размяшчаліся асобна ад лініі замкавых умацаванняў у цэнтры дзядзінца. Былі пабудаваны з дрэва, 4-, 8-гранныя ў плане, мелі па 3 баявыя ярусы з перакрыццямі на бэльках, былі накрыты шатровымі дахамі. Зруйнаваныя ў час штурму замка войскамі Стэфана Баторыя. Вежы замаляваў С. Пахалавіцкі, апісаў гісторык 16 ст. Р. Гейдэнштэйн. *М. А. Ткачоў.*



**Полацкія замкі.** З гравюры 16 ст.

**ПОЛАЦКІЯ ЗАМКІ.** Існавалі ў 16 — пач. 18 ст. ў гіст. цэнтры Полацка. Вядомыя Верхні і Ніжні замкі. Былі пабудаваны з дрэва і каменю.

Верхні замак пабудаваны на месцы стараж. Полацкага дзядзінца 10 ст. (пл. да 10 га) на правым беразе Зах. Дзвіны пры ўпадзенні ў яе р. Палата. У сярэдзіне 16 ст. меў роў, вал, абарончую сцяну з 204 гароднямі (рубленая таўшчынёю ў 5 бярвён) і 9 вежаў (рубленыя таўшчынёю ў 3 бервяны) з баявымі ярусамі з байніцамі і амбразурамі для гармат. Вежы былі завершаныя высокімі шатровымі дахамі. Красная (Каралеўская) вежа мураваная, астатнія — драўляныя. Віцебская (вяла да вусця Палаты) і Безыменная (вяла да Вялікага пасада) вежы мелі ў ніжніх ярусах праезды, злучаныя з мастамі на ізбіцах. На тэр. замка знаходзіліся 130 двароў заможных гараджан, двор полацкага ваяводы (6 жылых дамоў), 2 манастыры, *Полацкі Сафійскі сабор, Полацкі княжацкі храм.* У Лівонскую вайну 1558—83 у 1563 замак спалены, пазней паводле загаду рус. цара Івана IV (Грознага), які захапіў Полацк, адбудаваны. Меў абарончыя сцены-гародні і 7 баявых вежаў. У 1579 у час штурму, калі горад быў адбіты войскамі Стэфана Баторыя, замак разбураны. Пазней аднаўлены. У 1-й пал. 17 ст. часта гарэў (найбольшыя пажары ў 1607 і 1642). У 1654, у пачатку руска-польскай вайны, былі пабудаваны гародні, пяць 8- і 6-гранных вежаў, рубленых у 2 бервяны, з 2—3 баявымі ярусамі, выш. 10—23 м. Частка сцен мела канструкцыю астрога. Тэр. замкаў (1706) 472,5×283,5 м.

Ніжні замак (Стралецкі) пабудаваны ў 1563 рус. войскамі на месцы Вялікага пасада. Быў умацаваны ровам і валам, драўлянымі абарончымі сценамі і вежамі. Прымыкаў з усх. боку да Верхняга замка, з якім злучаўся мостам. Зруйнаваны ў 1579, пазней адноўлены, у 1654 меў 8 вежаў. На яго тэрыторыі захаваўся вал Івана IV (Грознага).

Паміж 1563—79 у цэнтры дзядзінца знаходзіліся *Полацкія вежы.* Замкі знішчаны ў час Паўночнай вайны 1700—21 паводле загаду рус. цара Пятра I пры падыходзе да Полацка шведскага войска ў 1706. Замкі замаляваў С. Пахалавіцкі, апісаў гісторык 16 ст. Р. Гейдэнштэйн. *Ю. А. Якімовіч.*

**ПОЛАЦКІЯ КНЯЖАЦКІЯ ПАЛАТЫ.** Існавалі ў 12—16 стагоддзях. Пабудаваны ў паўн. частцы полацкага дзядзінца. Відаць, у 16 ст. ўваходзілі ў палацавы комплекс полацкага намесніка. Рэшткі выяўлены археолагамі ў 1976—77. Асн. будынак (4,7×4,2 м) амаль квадратны ў плане, складзены з плінфы ў тэхніцы муроўкі «са схаваным радам», з зах. боку да яго быў прыбудаваны меншы аб'ём (2,5×2,4 м). Падмурак [таўшчыня 60—75 см (у малым памяшканні 50 см), глыб. 1,8 м] з камянёў на вапнавым растворы. У 14 ст. з паўн. боку да палат прыбудаваны драўляны (з сасновых брусоў) квадратны ў плане (5,3×5,4 м) аб'ём, сцены якога ўнутры былі абмазаны глінай. У палатах знаходзіліся печы, у іх канструкцыі выкарыстаны гаршковыя і пазней каробчатыя кафлі. Захаваліся падмурак і частка цаглянай сцяны. *А. А. Трусаў.*

**ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** у Віцебску, мемарыяльны комплекс у гонар сав. воінаў-вызваліцеляў, партызан і падпольшчыкаў Віцебшчыны на пл. Перамогі. Створаны ў 1974 (арх. Ю. Шпіт, скульпт. Б. Маркаў, Я. Печкін; бетон з мармуровай крошкай, лабрадарыт, чырвоны і шэры граніт, бронза, чыгун). Плошча мемарыяла знаходзіцца ніжэй за ўзровень пл. Перамогі (да яе вядуць 14 прыступак) і мае форму выцягнутага прамавугольніка. Да гал. манумента пракладзена дарога паміж 2 доўгімі басейнамі, з вонкавых бакоў якіх пастаўлена па 5 прамавугольных пілонаў, на кожным з іх лічбы, што абазначаюць адзін з гадоў Вял. Айч. вайны. Па цэнтр. восі

мемарыяла на высокім абрыве над ракой узвышаецца гал. манумент, які сімвалізуе аб'яднаныя намаганні Сав. Арміі, партызан і падпольшчыкаў у вызваленні Віцебшчыны ад ням.-фаш. захопнікаў. Гал. манумент складаецца з трох трапецападобных пілонаў-абеліскаў (выш. 56 м), рэзка звужаных уверсе і аб'яднаных на вышыні 5 м 3-гранным звонку і круглым знутры манаалітным скульпт. рэльефам, на гранях якога сюжэтныя кампазіцыі «Воіны», «Партызаны», «Падпольшчыкі». У сярэдзіне гал. манумента сімвалічны пантэон: пілоны-абеліскі злучаны кальцом-фрызам з надпісам «Слава героям», завершаны паўсферай з адтулінай уверсе ў выглядзе 5-канцовай зоркі з чырвонага граніту — Вечны агонь. Гал. манумент адметны яснасцю ідэі і выразнасцю пластыкі рэльефаў, гармоніяй усіх элементаў прасторавай кампазіцыі. Да Зах. Дзвіны ад манумента вядуць 3 шматступеньчатыя лесвіцы. Плошча мемарыяла пакрыта чырвоным бетонам, акаймавана зялёнымі газонамі і абмежавана падпорнымі сценкамі з паліраванага чырвонага граніту. Іл. гл. ў арт. *Перамогі плошча* ў Віцебску. *М. М. Яніцкая.*

**ПОРАЗАВА,** гарадскі пасёлак у Свіслацкім р-не, на р. Рось. За 22 км на ПдУ ад г. п. Свіслач, 112 км ад Гродна. Вядома з 15 ст. як каралеўскае мястэчка Ваўкавыскага пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1795 у складзе Расіі, цэнтр воласці Ваўкавыскага пав. У 1897 у П. было каля 1,5 тыс. жыхароў, 2 гарбарні, ганчарны і піваварны з-ды, пач. вучылішча, аптэка. У канцы 19 — пач. 20 ст. шырока вядомы вырабы поразаўскай керамікі. З 1921 П. ў складзе бурж. Польшчы, мястэчка Ваўкавыскага пав. З 1939 у БССР, з 1940 цэнтр раёна. З 1958 гарадскі пасёлак. З 1960 у Свіслацкім р-не. Забудоўваецца паводле генплана 1972 (Гродзенскі філіял «Белкалгаспраекта»). Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вул. Леніна (галоўная), Савецкая, 1 Мая, Я. Коласа. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Вытворчая зона размешчана ў паўд. частцы пасёлка. Зберагліся помнікі архітэктуры 19 ст.— *Поразаўская сядзіба* і *Поразаўскі Міхайлаўскі касцёл.*

**ПОРАЗАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры сярэдзіны 19 ст. Створана ў г. п. Поразава (Свіслацкі р-н) каля дарогі на в. Гарнастаевічы. У ансамбль уваходзяць сядзібны дом і парк. Сядзібны дом — прамавугольны ў плане будынак, накрыты высокім ламаным дахам. У архітэктуры будынка спалучаюцца рысы барока і класіцызму. Дом узведзены на падмурку з драўляных брусоў. Сцены знадворку ашаляваныя, унутры атынкаваныя. З рызаліты (над сярэднім — мансарда) вылучаны на гал. фасадзе выступамі, на паркавым — гранёнымі эркерамі з ламанымі шатровымі дахамі. Тарцы дома фланкіраваны 2 двухпавярховымі вежападобнымі алькежамі, завершанымі спічастымі шатровымі дахамі. Цэнтральны ўваход афармлены 4-слуповым ганкам. У аздобе фасадаў выкарыстана разьба (балясіны, валюты, ліштвы). Першапачатковая анфіладная планіроўка дома зменена на калідорную. Інтэр'еры не збераглiся. Парк — рэгулярнай планіроўкі з сістэмай узаемна перпендыкулярных алей. Перад гал. фасадам дома размешчаны круглы партэр. Сярод насаджэнняў пераважаюць таполя і ліпа. У будынку размешчана бальніца. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.

*С. А. Друшчыц, Ю. А. Якімовіч.*


**Поразаўская сядзіба.** Галоўны фасад сядзібнага дома.

**ПОРАЗАЎСКІ МІХАЙЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1825—28 з цэглы і бутавага каменю ў г. п. По-


**Поразаўскі Міхайлаўскі касцёл.**

разава (Свіслацкі р-н). Прамавугольны ў плане будынак накрыты 2-схільным дахам. Гал. фасад завершаны 3-вугольным франтонам з галоўкай. Сцены складзены з абчасанага каменю. Пілястры на фасадах, прамавугольныя абрамленні аконных праёмаў, фрыз, карніз і франтон гал. фасада цагляныя, атынкаваныя. Інтэр'ер зальны, столь плоская, драўляная. Уздоўж зах. сцяны — хоры. Разныя алтары, кафедра, паліхромная драўляная скульптура (18 ст.) — характэрныя ўзоры нар. манум.-дэкар. мастацтва. У падбрамнай званіцы — адліты ў 1749 звон з сюжэтнай гравіроўкай. Касцёл дзейнічае. *С. А. Друшчыц.*

**ПОРПЛІШЧАНСКАЯ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1627 у в. Порплішча (Докшыцкі р-н), перабудавана ў 1794 з элементамі класіцызму. Крыжова-купальны храм з планам у выглядзе лацінскага крыжа. Зрубы накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі 2-схільнымі дахамі. На сяродкрыжжы масіўны 8-гранны светлавы барабан, завершаны гранёным купалам з галоўкай. Абапал 5-граннага алтарнага зруба невял. прамавугольныя ў плане рызніцы. У 1883 да гал. фасада прыбудаваны 3-ярусная вежа-званіца з бабінцам у ніжнім ярусе, накрытая невысокім 4-схільным шатром. Сцены гарызантальна ашаляваны. Вокны прамавугольныя. Унутры барабан купала апіраецца на падпружныя аркі з ветразямі. Хоры размешчаны ў асн. аб'ёме. У інтэр'еры захаваліся фрагменты разнога драўлянага алтара 17 ст., якія выкарыстаны пры афармленні ўцалелых да гэтага часу іканастаса іківотаў. Разьба іканастаса выканана ў тэхніцы нізкага рэльефу: варыяцыі раслінных парасткаў з букетамі кветак і пладоў, галовак анёлаў, жаночых фігур. Разьбой пакрыты таксама плоскасці філёнгаў, калоны і абрамленні ківотаў. У 1988 праводзіўся капітальны рамонт пабудовы. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.



Порплішчанская Спаса-Праабражэнская царква.



Мемарыяльны комплекс «Прарыў». Фрагмент.

**«ПРАРЫЎ»,** мемарыяльны комплекс у гонар легендарнага прарыву варожай блакады сав. партызанамі ў крас.— маі 1944. Створаны ў 1974 (скульпт. А. Анікейчык, арх. Ю. Градаў, Л. Левін) на месцы былых баёў паміж вёскамі Новае Сяло, Пліна і Паперына, за 7 км ад г. п. Ушачы. Да вяршыні ўзгорка вядзе сімвалічны «калідор» — невялікі, сціснуты бетоннымі сценамі адрэзак шляху, якім ішлі на штурм народныя мсціўцы; побач на бетоннай пліце размешчаны бронзавая карта-схема абароны 16 партызанскіх брыгад на 11.4.1944 і інфармацыйны надпіс. На вяршыні ўзгорка у разрыве бетоннай глыбы (сімвал разарванага кальца блакады) пастаўлена бронзавая 9-метровая фігура партызана, нахіленая ў няўстрымным парыве наперад. Побач на мемарыяльным полі ўмураваны 33 надмагільныя пліты з імёнамі герояў прарыву і пасаджана 16 дубоў (сімвал 16 партызанскіх брыгад). Завяршае кампазіцыю «Апошні прывал» — адлітыя з бронзы карабіны, састаўленыя ў піраміду, і стужка з надпісам: «Яны загінулі ў барацьбе з ворагам, выканаўшы свой свяшчэнны абавязак перад Савецкай Радзімай і гісторыяй». *Л. Г. Лапцэвіч.*

**«ПРАЦОЎНЫЯ РЭЗЕРВЫ»,** мнагамэтавы, спарт. комплекс у Мінску. Пабудаваны ў 1989 (арх. Л. Левін, В. Звалінскі) у мікрараёне Зялёны Луг 5. Размешчаны на свабоднай тэрыторыі, каля ляснога масіву і вадаёма. Самы буйны спарт. аб'ект у горадзе. Складаецца з трох функцыянальна самастойных, але кампазіцыйна і канструкцыйна звязаных паміж сабой аб'ёмаў, падпарадкаваных адзінай архіт. задуме. Уключае крыты лёгкаатлетычны манеж (136×62) з 200-метровай кругавой бегавой дарожкай і з трыбунамі для гледачоў, 2 плавальныя басейны, універсальнаю вял. залу (42×30 м), спецыялізаваныя спарт. залы, дапаможныя тэхн. памяшканні. У канструкцыі перакрыцця выкарыстаны клеедраўляныя аркі лёгкаатлетычнага манежа пралётам 50 м і універсальнай залы пралётам 42 м. Аўтары праекта адышлі ад стэрэатыпнага вырашэння буйнога мнагазальнага спарт. аб'екта і стварылі выразную пластычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, аднак не бясспрэчную (з-за ўскладненасці форм) у архіт. адносінах. *С. Дз. Філімонаў.*

**ПРУЖАНСКАЯ ГАРАДСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры сярэдзіны 19 ст. Пабудавана на паўн. ускраіне Пружан паводле праекта арх. Ланці. Належала пружанскаму маршалку В. Швыкоўскаму. Ансамбль сядзібы ўключае мураваны сядзібны дом стылізаванага італьянскага рэнесансу, да якога з боку горада вядзе шырокая алея, 2 мураваныя флігелі па баках ад яго і парк пейзажнага тыпу. Сіметрычная кампазіцыя сядзібнага дома складаецца з рознавялікіх



Спартыўны комплекс **«Працоўныя рэзервы»**.

аб'ёмаў, аб'яднаных 1-павярховым корпусам. У зах. частцы — 2-павярховы аб'ём з эркерам, з усх. боку да яго прылягае квадратная ў плане вежа, з заходняга — 1-павярховая прыбудова з паўкруглай верандай, з паўночнага — 3-павярховы аб'ём. Усх. частка сядзібнага дома — 2-павярховы Г-падобны ў плане корпус, тарэц якога выступае на паўд. фасадзе невял рызалітам, завершаным шчытом. Усе аб'ёмы маюць пакатыя дахі. З боку паўн. фасада, арыентаванага на парк,— вял. тэраса з перакрыццем на 2 калонках. Планіроўка анфіладная. Інтэр'ер аздоблены ляпнымі прафіляванымі карнізамі, камінамі і інш. У будынку размешчана дзіцячая дашкольная ўстанова. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ПРУЖАНСКІ ЖЫЛЫ ДОМ.** Існаваў у Пружанах у 2-й пал. 18—19



**Пружанская гарадская сядзіба.** Сядзібны дом. З малюнка 19 ст.

стагоддзях. Пабудаваны з дрэва ў стылі барока як гарадскі асабняк. 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак на цагляным падмурку з мезанінам у цэнтры, завершаны высокім ламаным дахам. Вокны прамавугольныя. Мезанін, завершаны на гал. фасадзе 3-вугольным франтонам, падтрымліваўся 4 калонамі, якія ўтваралі перад уваходам ганак. Планіроўка анфіладная. У цэнтры прыхожая і зала з гранёным эркерам на дваровым фасадзе, абапал іх размяшчаліся 4 жылыя пакоі.

**ПРУЖАНСКІ «КАРАЛЕЎСКІ ДВОР».** Існаваў у 16 ст. ў Пружанах. Комплекс быў пабудаваны з дрэва. Уключаў палац, 2 флігелі, вазоўню, стайню, варыўню, пякарню, 4 свірны, млын на сажалцы, сад. Палац — 1-павярховы крыжовы ў плане будынак на каменным падмурку, накрыты гонтавым дахам. Планіроўка анфіладная. Вакол прыхожай групаваліся сталовая, 5 жылых пакояў, камора. Гал. ўваход



**Пружанскі жылы дом.** Галоўны фасад (чарцёж).

вылучаўся ганкам. Вял. прамавугольныя вокны мелі алавяныя рамы. У флігелях, накрытых драніцай, размяшчаліся сенцы, жылыя пакоі, каморы. Уезд на падвор'е быў праз вароты пад 2-схільным дахам. Комплекс не захаваўся, вядомы паводле інвентара 1597. *Ю. А. Якімовіч.*

**ПРУЖАНСКІ САБОР АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1866 у г. Пружаны на рагу вул. Камуністычнай і Савецкай пл. Прамавугольная ў плане мураваная 3-нефавая 8-слуповая базіліка з паўавальнай 3-яруснай апсідай, вырашанай у 2-м і 3-м ярусах як ратонда і завершанай купалам. Гал. фасад вылучаны яруснай вежай-званіцай (у ніжнім ярусе — тамбур з 2 памяшканнямі абапал яго і хоры). Сцены дэкарыраваны пілястрамі, шырокімі прафіляванымі антаблементамі. Вокны арачныя і круглыя (у верхнім ярусе ратонды). Парталы гал. і бакавых уваходаў падкрэслены плоскімі несапраўднымі порцікамі з 3-вугольнымі франтонамі. 2-і ярус ратонды аздоблены нішамі. У інтэр'еры сярэдні неф перакрыты цыліндрычным, больш нізкія бакавыя нефы — крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках. Крыжовыя ў сячэнні слупы аздоблены пілястрамі. Алтарную частку аддзяляе разны іканастас з вітымі калонкамі. Сабор дзейнічае.

**ПРУЖАНСКІЯ ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ,** помнік архітэктуры барока і класіцызму. Пабудаваны ў 1896 (арх. Міхайлоўскі, Савіч) у цэнтры Пружан (сучасная Савецкая пл.). Мураванае прамавугольнае ў плане збудаванне, накрытае 2-схільным дахам. Падоўжаныя фасады вырашаны ў выглядзе арачных галерэй. Пралётам аркады адпавядаюць прамавугольныя нішы з праёмамі ў падоўжаных сценах. Праезд пасярэдзіне падкрэслены 3-пралётнымі рызалітамі, апрацаванымі пілястрамі і завершанымі фігурнымі франтонамі. Выкарыстоўваецца як гандл. прадпрыемства. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*

**ПРУЖАНЫ,** горад, цэнтр раёна, на р. Мухавец. За 89 км ад Брэста. У 1433 упершыню ўпамінаецца Пружанская (Прушанская) воласць. П. вядомы з 1487 пад назвай Дабучын (сяло). Да 1519 у Кобрынскім княстве, потым старостве, з 1532 у павеце Падляшскага ваяводства, з 1566 у Брэсцкім пав. З канца 16 ст. назва Дабучын выходзіць з ужытку і паяўляецца назва П. Існуе думка, што гэта назва звязана з пасяленнем каля Дабучына прусаў, якія ратаваліся тут ад крыжаносцаў (Прусы, Прусяны, Пружаны). Належаў кобрынскаму кн. Івану Сямёнавічу і яго жонцы Фядоры, з 1519 маршал-


Пружанскі сабор Аляксандра Неўскага.

Вацлаву Касцевічу, каралеве Боне і яе дачцэ Ганне. У 1589 атрымалі магдэбургскае права, мелі герб: на серабраным полі шчыта звілісты блакітны вуж, з залатой каронай на галаве, які паглынае малое дзіця; за горадам замацавана назва П. Паводле інвентара 1563, у П. 1250 жыхароў, 7 вуліц, 278 гаспадарак; праводзіліся 4 кірмашы на год. У 16 ст. існаваў *Пружанскі «каралеўскі двор»*. Горад моцна пацярпеў у час войнаў сярэдзіны 17 — 1-й пал. 18 ст., колькасць будынкаў паменшала ў 5 разоў. У 1776 пазбаўлены магдэбургскага права. Да канца 18 ст. адноўлены, у 1791 тут 2094 жыхары. З 1795 у складзе Расіі, горад, цэнтр павета Слонімскай, з 1797 Літоўскай, з 1801 Гродзенскай губерняў. У 1845 атрымаў новы герб: елка з паляўнічай трубой на светла-карычневым полі. У 2-й пал. 18—19 ст. вядомы асабняк — *Пружанскі жылы дом*. У 2-й пал 19 ст. пабудаваны: у прадмесці Горкі капліца (1852), на паўн. ускраіне *Пружанская гарадская сядзіба*, у цэнтры — *Пружанскі сабор Аляксандра Неўскага* і *Пружанскія гандлёвыя рады*, Спаса-Праабражэнская царква (1875—78). У 1857 у П. 5665 жыхароў, у 1897 — 7633 жыхары. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр павета Палескага ваяводства. З 1939 у БССР, з 1940 цэнтр раёна Брэсцкай вобл.

У сучасным горадзе 3 планіровачныя раёны: паўднёвы, заходні і ўсходні. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць: цэнтр. восевая магістраль (вуліцы Савецкая, Кобрынская, Кастрычніцкая), перпендыкулярныя да яе вуліцы Леніна, Камуністычная, Чырвонаармейская і звілісты абрыс поймы р. Мухавец. Горад забудоўваўся паводле схемы планіроўкі 1959 (Баранавіцкія абл. праектныя майстэрні), якая ўпарадкавала нерэгулярную сетку вуліц, генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Л. Зайцава) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. А. Акенцьеў). Гіст. цэнтрам горада з'яўляецца Савецкая пл., утвораная на вул. Савецкай. Адм.-грамадскі цэнтр склаўся на вуліцах Савецкай і Камуністычнай. Цэнтр. частка горада і цэнтр усх. раёна забудаваны 4—5-павярховымі дамамі. У паўн. частцы горада і па вул. Кастрычніцкай створаны новыя мікрараёны з 5-павярховых дамоў. Сфарміравалася паўд. прамысл. зона пры ўездзе ў горад з боку Аранчыц. Зона адпачынку — штучны вадаём у паўд. частцы горада, р. Мухавец і парк у паўн. частцы.

*С. Ф. Цярохін, У. В. Алісейчык.*

**ПРЫВАКЗАЛЬНАЯ ПЛОШЧА** ў Мінску, адна з гал. плошчаў горада, важны транспартны вузел. Пачала фарміравацца ў 1870-я гады, калі былі пабудаваны драўляныя павільёны пасажырскага вакзала Лібава-Роменскай чыгункі, так званы Віленскі вакзал. У 1890-я гады на іх месцы сярод пераважна драўлянай забудовы пастаўлены мураваны будынак (гл. *Мінскі чыгуначны вакзал*). У 1940 плошча рэканструявана (арх. Б. Рубаненка). У Айч. вайну будынак вакзала згарэў, у 1946—49 адноўлены з невял. зменамі планіроўкі. Сучасная забудова плошчы склалася ў 1948—56 (арх. Рубаненка, Л. Галубоўскі, А. Карабельнікаў, Л. Усава, В. Герашчанка). Плошча прамавугольная ў плане (400×120 м), на яе выходзяць транспартныя патокі з вул. Бабруйскай, Ульянаўскай, Кірава, Ленінградскай. Новая забудова жылых кварталаў, абмежаваная вул. Ульянаўскай, Ленінградскай, Свярдлова, ут-


Пружанскія гандлёвыя рады.


**Пружаны.** Вуліца Савецкая.



Прывакзальная плошча ў Мінску.



Прылуцкі палацава-паркавы ансамбль. Галоўны фасад палаца.

варыла выразны архіт. ансамбль па-раднага ўезда ў горад з боку чыг. вакзала. Гал. кампазіцыйны ак-цэнт — дзве 11-павярховыя вежы па вуглах 5-павярховых жылых дамоў, размешчаных сіметрычна адносна папярочнай восі плошчы (будынак вакзала — вул. Кірава). Вежы з'яў-ляюцца вертыкальнымі дамінантамі («вароты горада») і адыгрываюць важную ролю ў фарміраванні сілу-эта горада. Прылеглыя да плошчы жылыя кварталы — першы на Бела-русі узор комплекснай забудовы значнай тэрыторыі шматпавярховы-мі жылымі дамамі з развітай сістэ-май культ.-быт. абслугоўвання. Тар-цовыя часткі плошчы замыкаюць з аднаго боку сквер па вул. Бабруй-скай, з другога — аўтавакзал. На плошчу выходзіць станцыя *Мінскага метрапалітэна.* *А. А. Воінаў*

**ПРЫЛУЦКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКА-ВЫ АНСАМБЛЬ,** помнік архітэкту-ры і садова-паркавага мастацтва 2-й пал. 18—19 ст. Закладзены на месцы б. манастыра 17 ст. ў в. Прылукі (Мінскі р-н). Уключае палац і парк. Прылукі з'яўляліся вотчынай Агін-скіх, Іваноўскіх, належалі Оштарпу, потым вядомаму аграному Отану Горвату (пабудаваў палац у гатыч-ным стылі, вял. сад з аранжарэяй і вежавым гадзіннікам), з 1872 Г. Э. Чапскаму. Цэнтрам кампазіцыі пар-ку быў палац, размешчаны на вы-сокім узгорку, каля грэбеня пара-нальна крутога схілу тэрасы, які спускаецца да поймы р. Пціч. Мура-ваны п а л а ц пабудаваны ў 1-й пал. 19 ст., у 1851 рэканструяваны, у 1872 быў аднаўлены пасля пажару 1868. У Вял. Айч. вайну значна па-шкоджаны, адбудаваны ў 1950-я га-ды. Першапачаткова палац уяўляў сабой кампактнае прамавугольнае ў плане 2-павярховае з нізкім цокаль-ным паверхам збудаванне ў стылі несапраўднай готыкі. Гал. фасад вы-лучаны цэнтр. 3-павярховым рыза-літам з гранёным эркерам на пар-кавым фасадзе і 4 шматграннымі вуглавымі вежачкамі, завершанымі



Прылуцкі палацава-паркавы ан-самбль. З малюнка Н. Орды. 19 ст.

зубцамі. Гал. фасад вылучаны лоджыяй на 2 узроўнях у рызаліце з праёмамі, завершанымі спічастымі і ліпападобнымі аркамі. Рызаліт, завершаны невысокім атыкам, аздоблены складанай па форме нішай у цэнтры. Пасля 1886 да паўд. тарцовага фасада быў прыбудаваны 1-павярховы аб'ём са сталовай і аранжарэяй, пазней да яго прыбудавалі 2-павярховы Г-падобны ў плане корпус. Да паўн. тарцовага фасада дабудаваны 3-павярховы вежападобны аб'ём з нізкім шатровым дахам. Пасля аднаўлення ў 1950-я гады палац захаваў сваё вонкавае аблічча, анфіладная планіроўка была зменена на калідорную. У 1-й пал. 19 ст. перад гал. фасадам палаца ўзведзена 3-ярусная (1-ы ярус чацверыковы, 2-і і 3-і васьмерыковыя) вежа з гадзіннікам, завершаная высокім шатром са шпілем і флюгерам. Вежа стаяла на масіўным прамавугольным у плане пастаменце з 4 вежачкамі па вуглах. Сярэдні ярус вежы з гадзіннікам быў абкружаны кансольна-бэлечнай галерэйкай. Вертыкальную кампазіцыю вежы падкрэслівалі спічастыя ўваходы і аконныя праёмы. У Айч. вайну вежа была разбурана (не адбудоўвалася). Парк — старэйшы на Беларусі, закладзены ў 2-й пал. 18 ст.; мяшанага рэгулярна-пейзажнага тыпу, пл. 4,5 га. Падзелены на 2 часткі. Перад паркавым фасадам палаца быў сад у італьянскім стылі, асталіся 4 тэрасы, якія крута спускаюцца да поймы р. Пціч. Перад гал. фасадам палаца невял. партэр і пейзажная частка парку, абмежаваная пад'язнымі дарогамі. У парку стаялі мураваная капліца і аформлены аркадай свіран, былі 2 сажалкі (на адной быў вадзяны млын, не захаваўся). Палац і парк належаць Бел. НДІ аховы раслін. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.

*В. Р. Анціпаў, Ю. А. Якімовіч.*

**ПРЫНЁМАНСКІ ЖЫЛЫ РАЁН** у Гродне. Размешчаны ў паўд.-ўсх., левабярэжнай частцы горада на тэрыторыі, абмежаванай вуліцамі Перамогі, Гая, Пестрака, р. Нёман, праспектам 40-годдзя Перамогі. Праект дэталёвай планіроўкі распрацаваны ў 1978 ін-там «Гроднаграмадзянпраект» (арх. Ю. Патапаў, У. Лытаў, І. Абухаў). Уключае мікраараёны Прынёманскі 1, 2, 3 і Румлёва. Разлічаны на 55 тыс. жыхароў. Гал. магістралі жылога раёна: бульвар 60-годдзя Кастрычніка, праспект 40-годдзя Перамогі, вул. Перамогі. Забудова пачалася ў 1975, цяпер (1990) у стадыі інтэнсіўнага фарміравання. Архіт.-планіровачнае вырашэнне вызначаецца цэласнасцю кампазіцыі, рацыяльнай кампаноўкай будынкаў, фарміраваннем



Забудова **Прынёманскага жылога раёна** ў Гродне.

грамадскага цэнтра ўздоўж бульвара 60-годдзя Кастрычніка, выкарыстаннем маляўнічага рэльефу, рытмічным чаргаваннем вышыннай (9—14—18 паверхаў) і звычайнай (5—9 паверхаў) забудовы, што стварае выразны сілуэт. Унутраную прастору мікраараёнаў займаюць дзіцячыя сады і яслі, школы, спарт. пляцоўкі. Размешчаныя ва ўбудаваных і прыбудаваных памяшканнях прадпрыемствы гандл.-быт. абслугоўвання максімальна набліжаны да месцаў пражывання. Жылыя і грамадскія будынкі ўзводзяцца са зборнага і маналітнага жалезабетону, цэглы, газасілікатных панелей, у маст. афармленні іх фасадаў шырока выкарыстаны розныя пластычныя дэталі і колер. Раён зручна звязаны з цэнтрам горада трасай вул. Перамогі — вул. Гарнавых, з прадпрыемствамі ўсх. прамысл. вузла — Румлёўскім мостам. Зона адпачынку — тэр. уздоўж Нёмана, парк Румлёва (пейзажнага тыпу), скверы. З 1987 на высокім плато, разрэзаным тальвегамі, паблізу ад парку будуецца эксперыментальны мікраараён Румлёва — раскрыты ў бок Нёмана архіт. ансамбль, які ўключае размешчаныя сіметрычна адносна гандлёва-грамадскага цэнтра жылыя комплексы з 5—10-, 12—15- і 16-павярховых дамоў з прыбудаванымі блокамі ўстаноў культ. і быт. абслугоўвання. У кожным комплексе кватэры для розных тыпаў сямей: адзінокіх, маладажонаў, сямей з некалькімі дзецьмі і якія складаюцца з прадстаўнікоў 3 пакаленняў.

*У. А. Лытаў.*

**ПУСТЫНКАЎСКІ УСПЕНСКІ МАНАСТЫР**, помнік архітэктуры 18—19 стагоддзяў. Размешчаны за 2 км на Пд ад в. Пустынкі (Мсціслаўскі р-н). Заснаваны ў 1380. У пачатку 17 ст., у канцы 18—19 стагоддзяў перабудаваны. Комплекс



**Пустынкаўскі Успенскі манастыр.** Будынак школы.

уключае Успенскі сабор, манастырскі корпус з царквой, званіцу, школу, капліцу, 2 гасп. пабудовы і 3 жылыя дамы. Займае значную тэрыторыю, абнесеную з Пд і З цаглянай сцяной, з Пн — пасадкамі дуба, ліпы, асіны, з У — ровам, за якім размешчана штучная сажалка. Ад брамы да манастырскага корпуса і сабора вядзе пад'язная ліпавая алея. Успенскі сабор (захаваўся часткова) пабудаваны ў 1-м дзесяцігоддзі 19 ст. з цэглы. У архітэктуры выкарыстаны элементы барока. Уяўляе сабой 3-нефавую базіліку з прамавугольнай апсідай. У сярэдзіне 19 ст. над сяродкрыжжам узведзены купал на светлавым барабане (не захаваўся). Гал. фасад храма мае 3-часткавую будову. Цэнтр. частка крапавана плоскімі пілястрамі з іанічнымі капітэлямі, завершана 3-вугольным франтонам. Фасад быў фланкіраваны вежамі (не захаваліся). Цэнтр. і бакавыя ўваходы завершаны 3-вугольнымі франтончыкамі. Багатая пластыка пабудовы абумоўлена крапоўкай фасадаў і вуглоў апсіды пілястрамі, лучковымі нішамі, якія аздоблены ліштвамі з замковым каменем. Алтарная частка вылучана 4 трохчвэртнымі калонамі на масіўных пастаментах. У зах. частцы над нартэксам размешчаны хоры. Манастырскі корпус пабудаваны на рубяжы 18—19 стагоддзяў з цэглы, мае элементы класіцызму. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак складаецца з 2 злучаных паміж сабой аб'ёмаў. Адзін з іх мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, цэнтрам якой з'яўляецца 1-нефавая крыжова-купальная царква з высокай паўкруглай апсідай. Гал. фасад царквы вылучаны глыбокім рызалітам, завершаным 3-вугольным франтонам. У рызаліце размешчаны партал цэнтр. ўвахода, аформлены калонамі і высокім мураваным ганкам. Над прытворам узвышалася вежа, над сяродкрыжжам — масіўны барабан з купалам (не захаваліся). Бакавыя крылы сіметрычна прылягаюць да аб'ёму царквы, асветлены прамавугольнымі вокнамі на 1-м і лучковымі на 2-м паверхах. Званіца пабудавана ў 2-й пал. 19 ст. з цэглы. Размешчана на адной восі з саборам, перад яго цэнтр. уваходам. Уяўляе сабой высокую 5-ярусную пабудову, завершаную шпілем (не захаваўся). Першы (самы масіўны ярус) прамавугольны ў плане, дэкарыраваны з усх. і зах. фасадаў рызалітамі. Другі і наступныя ярусы 8-гранныя. У пабудове выкарыстаны элементы псеўдарускага стылю. Школа пабудавана ў 2-й пал. 19 ст. з цэглы. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Да яго з тарцоў далучаны 2 аб'ёмы, пабудаваныя ў пачатку 20 ст. Фасады крапаваны па вуглах руставанымі лапаткамі. Капліца пабудавана ў 2-й пал. 19 ст. з цэглы. Размешчана ва ўсх. частцы комплексу, непадалёку ад штучнай сажалкі. Уяўляе сабой невялікі 1-нефавы храм сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з паўкруглай апсідай. Фасады храма крапаваны прафіляванымі лапаткамі.

Тры жылыя дамы будаваліся адначасова з гасп. пабудовамі. Маюць прамавугольныя рознавялікія планы, будова фасадаў сіметрычная. У дэкоры выкарыстаны лапаткі (па вуглах) і аркатурныя паясы. Стайня пабудавана ў 2-й пал. 19 ст. Аднапавярховы цагляны П-падобны ў плане будынак. Паверхня сцен крапавана пілястрамі. У дэкоры выкарыстаны аркатурны пояс, які праходзіць пад карнізам. Свіран пабудаваны ў 2-й пал. 19 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Па перыметры пад карнізам праходзіць аркатурны пояс. Пасля Вял. Айч. вайны тут размяшчаўся дзіцячы дом, потым школа, брыгада саўгаса (да 1988). Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. Ю. Пятросава.*

**ПЯРКОВІЦКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры пач. 19 ст. Створана на ўсх. ускраіне в. Пярковічы (Драгічынскі р-н), у маёнтку Віславухаў. У аснову планіроўкі ансамбля пакладзена падоўжна-восевая кампазіцыя з сядзібным домам у цэнтры рэгулярна-пейзажнага парку. Гал. алея злучае павернутыя адзін да аднаго фасадамі мураваныя сядзібны дом і царкву ў стылі класіцызму. Пейзажная частка парку разбіта за сядзібным домам вакол става. Драўляны лямус і віндлярня не збераглісяся. Сядзібны дом збудаваны ў 1805 падкаморыем брэсцкім З. Віславухам, інтэр'еры выкананы на заказ яго сына — пружанскага маршалка В. Віславуха. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак накрыты вальмавым дахам. Мансарда на гал. фасадзе падкрэслена фігурным франтонам з рамбічнымі вокнамі (надбудаваны ў 1906 у стылі неабарока, меў лацінскі надпіс «Certa pro institia»). Цэнтр гал. фасада вылучаны неглыбокім рызалітам з пілястрамі (раней меў 4-слуповую тэрасу), дваровага — трохгранным эркерам. Вокны прамавугольныя. Меў 17 пакояў, аб'яднаных калідорамі з лесвіцамі ў тарцах, у цэнтры — 2 парадныя залы. Аздоба інтэр'ера не захавалася. Царква — аднанефавы прамавугольны ў плане мураваны аб'ём з 2-схільным дахам. Узведзена як уніяцкі храм. Будынак вырашаны ў буйных манументальных формах позняга класіцызму. Сцены з высокімі аконнымі праёмамі раскрапаваны масіўнымі падвойнымі пілястрамі. Гал. ўваход вылучаны накладным порцікам з трохвугольным франтонам. Інтэр'ер зальны. У паўд. частцы размешчаны хоры, якія падтрымліваюцца масіўнымі слупамі. У царкве пахаваны К. Цярлецкі — адзін са стваральнікаў царкоўнай уніі, а таксама ўладальнік маёнтка З. Віславух з жонкай. У будынку сядзібнага дома знаходзіцца школа-інтэрнат.

*А. М. Кулагін.*

**ПЯРЭДЗЕЛКАЎСКІ СЯДЗІБНЫ ДОМ,** помнік сядзібнай архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1-й пал. 19 ст. на паўн.-ўсх. ускраіне в. Пярэдзелкі (Лоеўскі р-н), на правым беразе Дняпра. 2-павярховы будынак складанай у плане формы накрыты вальмавым дахам. Мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Цэнтр. частка будынка закрытымі галерэямі злучана з 1-павярховымі



Пярковіцкая сядзіба. Сядзібны дом.



Пярэдзелкаўскі сядзібны дом.

флігелямі. Уваход па цэнтры галоўнага зах. фасада вылучаны дарычным порцікам з аздобленым сухарыкамі 3-вугольным франтонам і балконам. Аналагічны порцік вылучае цэнтр. частку дваровага фасада. У арх. дэкоры будынка выкарыстаны ліштвы, сандрыкі, руст, філёнгі. Планіроўка калідорная, у цэнтры — вял. вестыбюль. У будынку размешчана школа. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. Ю. Пятросава.*

Р

**РАВАНІЦКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ КОМПЛЕКС,** помнік архітэктуры і садова-паркавага мастацтва 19 ст. Створаны ў 1-й пал. 19 ст. ў паўн. частцы в. Раванічы (Чэрвеньскі р-н) у б. маёнтку мінскага маршалка Л. Слатвінскага. Уключаў палац у стылі класіцызму, фланкіраваны 2 флігелямі, гасп. пабудовы, парк. Цэнтрам комплексу быў п а л а ц , які знаходзіўся на ўзвышшы. Мураваны прамавугольны ў плане 1-павярховы на цокальным паверсе будынак пад вальмавым дахам. Гал. і паркавы фасады вылучаны ў цэнтры 4-калоннымі мансардавымі порцікамі дарычнага ордэра з 3-вугольнымі франтонамі. 2 бакавыя лесвіцы порціка гал. фасада вядуць на тэрасу, з якой зроблены гал. уваход; пад тэрасамі порцікаў — уваходы ў цокальны паверх. Плоскасныя фасады палаца рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, дэкарыраваны сандрыкамі, вуглавымі лапаткамі. Планіроўка калідорная. У пач. 20 ст. ў будынку знаходзілася суконная ф-ка. У 1952 палац адноўлены, у ім размешчана сельская бальніца. Флігелі — 1-павярховыя кампактныя прамавугольныя ў плане будынкі пад 2-схільнымі дахамі. Фасады з прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў арачным абрамленні і пілястрамі ў прасценках, аздоблены рустам. У паўн. флігелі размяшчалася кухня, паўднёвы быў жылы (цяпер у ім знаходзіцца дзіцячы сад). П а р к пейзажны з садам (пл. 11 га), закладзены ў сярэдзіне 19 ст. Дэкар. пасадкі параднага двара на перыферыі пераходзяць у суцэльны масіў. Вакол асн. часткі парку — кальцавая пейзажная дарога ў форме эліпса. У парку растуць каля 60 відаў і форм экзотаў. Парк аддзелены ад гал. дарогі, якая вядзе з вёскі, сістэмай сажалак, звязаных з р. Уша. Комплекс належыць саўгасу «Раванічы». Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін, В. Р. Анціпаў.*



**Раваніцкі палацава-паркавы комплекс.** Палац.

**РАГАЧОЎ,** горад, цэнтр Рагачоўскага р-на, прыстань на правым беразе Дняпра, за 2 км ад зліцця з ім р. Друць. За 121 км на ПнЗ ад Гомеля. Упершыню Р. упамінаецца ў летапісе пад 1142, уваходзіў, магчыма, у Тураўскае княства. З канца 13 ст. ў складзе Вял. кн. Літоўскага, з 1509 належаў вял. князю. У 16 ст. на месцы стараж. гарадзішча пабудаваны *Рагачоўскі замак* з *Рагачоўскім палацам.* У 17 ст. Р. уваходзіў у сістэму пагранічнай абароны на Дняпры. З 1772 у складзе Расіі, цэнтр павета. З 1781 меў герб (у залатым полі чорны бараноўы рог). У 1897 было 9038 жыхароў. У 1900 працавала 36 ф-к і з-даў (173 рабочыя). Горад хутка рос у сувязі з пабудовай чыгункі Магілёў — Жлобін (1902). У 1913 у Р. 50 прадпрыемстваў (185 рабочых). Працавалі настаўніцкая семінарыя і рэальнае вучылішча. З мая 1919 у Гомельскай губ., з 1924 цэнтр раёна. 15,2 тыс. жыхароў у 1939, 10,2 тыс.— у 1959, 16 тыс.— у 1970. З 1978 горад абл. падпарадкавання. Першы рэгулярны план (1778) вызначыў дакладную прамавугольную сетку вуліц, якая пакінута генпланамі 1947 і 1959. Цяпер забудоўваецца паводле плана дэталёвай планіроўкі горада 1971 (Гомельскі філіял ін-та «Белдзяржпраект», арх. Я. Казлоў, А. Лебедзеў, М. Найшулер; карэкціроўка 1984, БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Кашырын, Т. Спірына, інж. Л. Пірожнік, В. Пузік). Асн. гарадская тэрыторыя размешчана ў міжрэччы Дняпра і Друці (Цэнтральны і Залінейны планіровачныя раёны), часткова на правым беразе Друці (Задруцкі планіровачны раён). Гал. кампазіцыйныя восі — вуліцы Леніна, Кастрычніцкая, на скрыжаванні якой з вул. Багатырова — кінатэатр. На скрыжаванні вуліц Леніна і Інтэрнацыянальнай размешчана пл. імя 60-годдзя Кастрычніка — адм.-грамадскі і культ. цэнтр. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу, у цэнтр. частцы горада будуюцца 5-павярховыя дамы. На Пн ад вул. Кастрычніцкай, паміж вуліцамі Леніна і Багатырова створаны 5-павярховы квартал «Рынак», у паўн. частцы горада на беразе Дняпра забудоўваецца мікрараён № 2 з 5—9-павярховых жылых дамоў з гандл.-быт. цэнтрам. Сфарміраваліся паўн. і паўд.-зах. прамысл. зоны. Зона адпачынку — берагі Дняпра, Піянерскі парк. Зберагліся помнікі архітэктуры 19—20 стагоддзяў: капліца ў неарускім стылі, *Рагачоўскага дваранскага вучылішча будынак, Рагачоўскай земскай управы будынак.* Прадугледжана пашырэнне грамадскага цэнтра і развіццё яго па вул. Багатырова, пашырэнне зоны адпачынку на берагах рэк. *Г. С. Ларкін.*



**Рагачоў.** Будынак тэатра. Фота пачатку 20 ст.

**РАГАЧОЎСКАГА ДВАРАНСКАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры класіцызму з элементамі неакласіцызму. Пабудаваны ў 1903—05 з цэглы ў Рагачове (вул. Цымермана, 36). 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Гал. фасад мае сіметрычную кампазіцыю з 3-павярховай цэнтр. часткай і рызалітамі па баках. Бакавое крыло завершана бельведэрам, да тарца прыбудаваны невял. 1-павярховы аб'ём. Вокны прамавугольныя. Вулічныя фасады атынкаваныя, афарбаваныя ў 2 колеры: дэталі архіт. аздобы (лапаткі, нішы, філёнгі) белыя, прасценкі ружовыя. У цэнтр. частцы над вестыбюлем размешчана 2-светлавая зала. Па восі ўвахода знаходзіцца 3-маршавая лесвіца. Планіроўка калідорная, аднабаковая. Пасля Айч. вайны ў будынку размяшчалася фабрычна-завадское вучылішча, цяпер — сярэдняя школа № 2.
*Т. В. Габрусь.*


**Рагачоўскай земскай управы будынак.**

**РАГАЧОЎСКАЙ ЗЕМСКАЙ УПРАВЫ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры мадэрна. Пабудаваны ў 1909 з цэглы ў цэнтры Рагачова (сучасная вул. Леніна, 62). Будынак асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, у якой дамінуе вуглавы аб'ём. Гал. фасад таксама асіметрычны, падзелены на 4 розныя па памерах часткі, завершаныя разнастайнымі атыкамі. Вокны прамавугольныя, розныя па памерах у асобных частках. У дэкоры фасадаў выкарыстаны пілястры, лучковыя і паўцыркульныя нішы, рустоўка. Колернае вырашэнне фасадаў заснавана на кантрастным спалучэнні чырвонай і шэрай тынкоўкі. Унутры выцягнуты вестыбюльна-лесвічны блок аддзяляе вуглавы аб'ём з залай на 2-м паверсе ад крыла з калідорнай планіроўкай памяшканняў, да якога прымыкае аб'ём з самастойнымі ўваходам і лесвіцай. У будынку працаваў гарадскі выканком, цяпер у ім размешчаны раённы Дом піянераў і школьнікаў.
*Т. В. Габрусь.*

**РАГАЧОЎСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 16 — 2-й пал. 18 ст. Пабудаваны з дрэва на месцы гарадзішча стараж. Рагачова 11 ст., на высокім мысе ў сутоках рэк Дняпра і Druці. У 1750—60-я гады замак быў абнесены земляным валам (вал існаваў з 11 ст., але ў гэты перыяд быў падсыпаны) з ровам, абарончыя сцены мелі выгляд астрога. У цэнтры дзядзінца стаяў палац — 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з мезанінам, накрыты гонтавым дахам. Уключаў прыхожую, сталовую, 5 жылых памяшканняў, алькеж, камору, аптэчку, кухню і інш., у мезаніне была зала. Гал. ўваход афармлены ганкам на слупах, на процілеглым фасадзе — галерэя. Каля палаца размяшчаліся флігель (8 жылых пакояў, гардэроб, кухня), царква, дом аканома, гасп. пабудовы. Перад 2-яруснай брамай-вежай (у 1-м ярусе былі абапал праезда 2 каморы, у 2-м — зала, абкружаная галерэяй і накрытая гонтавым дахам) цераз роў быў мост на ізбіцах. Да пач. 1770-х гадоў замак прыйшоў у заняпад.
*Ю. А. Якімовіч.*

**РАГАЧОЎСКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у 2-й пал. 16 — 1-й пал. 20 ст. ў Рагачове. Па традыцыі называўся замкам Боны, але сапраўдная дата пабудовы невядомая. У 19 ст. выкарыстоўваўся як правіянцкі склеп. Мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак (21 × 14 м) быў накрыты вальмавым дахам. Вуглы ўмацаваны магутнымі контрфорсамі, якія па вышыні даходзілі да сярэдзіны 2-га паверха. На ніжнім паверсе размяшчаліся 4 мен-


**Рагачоўскі замак.** З плана 18 ст.

шыя, на верхнім — 2 вял. залы
крыжовымі скляпеннямі, падзеле
ныя калідорамі, перакрытымі цы
ліндрычнымі скляпеннямі. Залы н
ніжнім паверсе злучаліся з ба
кавымі калідорамі шырокімі арач
нымі праёмамі. На верхні павер
вяла адкрытая галерэя з лесвіцай
вырашаная на гал. фасадзе ў вы
лядзе цыркульнай аркады. У аздаб
ленні фасадаў былі выкарыстан
элементы рэнесанснай ордэрн
пластыкі. *А. А. Ярашэв*

**РАДАШКОВІЦКІ ЗАМАК.** Існаваў
у 16 ст. ў г. п. Радашковіч
(Маладзечанскі р-н). Пабудаваны
дрэва на штучным узвышшы ў су
токах рэк Гуйка і Вязынка, абкру
жаны вадзяным ровам і ставам
Паводле інвентара 1549, меў фор
няправільнага чатырохвугольніка
найбольшым бокам каля 90 м (агул
ны перыметр сцен да 300 м). Сцен
пабудаваны з 55 гародняў, рублен
з бярвён (з абламамі і баявы
галерэямі). Вуглы фланкірава
4 вежы, рубленыя з брусоў. Веж
брама (мела пад'ёмны мост це
роў) — высокае 4-яруснае (у пла
каля 20 × 8 м) збудаванне з тры
ніжнімі чацверыковымі ярусамі
верхнім васьмерыковым, з бая
галерэяй вянковай канструкцыі, з
вяршалася металічным купальн
дахам. Другая вежа чацверыков
3-ярусная (у 1-м ярусе гасп.
мяшканне, у 2-м — капліца, у 3-м —
абарончая зала з гарматай). Тр
цяя вежа таксама чацверыков
стаяла на гародні, мела 6 ярус
ніжні гаспадарчы, у 2-м — жы
пакой, верхнія — баявыя. Чацв
тая, васьмерыковая вежа завяр
лася абламамі і высокім шатр
Каля другой вежы ў дзядзін
стаяў 2-павярховы жылы будын
з рысамі абарончай архітэктур
перад уваходам у які была др

ляная крата-герса. З процілеглага ад увахода боку знаходзілася прыбудова з вял. зальным памяшканнем і каморай. На 2-і паверх (размяшчаліся сенцы, 2 святліцы і 2 каморы) уваход быў з вонкавай галерэі. Сцены будынка завяршалі абламы. Перад замкам стаялі арсенал, 2 млыны, сядзібны дом, лазня, бровар і іншыя гасп. пабудовы.

*Ю. А. Якімовіч.*

**РАДАШКОВІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1850 у г. п. Радашковічы (Маладзечанскі р-н). Касцёл — 3-нефавая 2-вежавая базіліка з паўцыркульнай апсідай і 2 сакрысціямі абапал яе. Асн. прамавугольны ў плане аб'ём накрыты 2-схільным дахам, апсіда — больш нізкім. Гал. фасад вылучаны ў цэнтры глыбокім рызалітам і завершаны 2-схільным шчытом. Квадратныя 4-ярусныя вежы, якія выступаюць за асн. аб'ём, прарэзаны скразнымі арачнымі праёмамі, круглымі люкарнамі і завершаны шлемападобнымі купаламі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі арачнымі аконнымі праёмамі і шырокімі пілястрамі ў прасценках. Унутры касцёл падзелены масіўнымі слупамі, перакрыты скляпеннямі, сцены раскрапаваны пілястрамі, карнізамі. Інтэр'ер перабудаваны. Часткова захавалася керамічная арнаментальнага малюнка падлога. Перад касцёлам брама з трыма арачнымі праходамі, аздобленая на гал. фасадзе паўкалонамі і завершаная лучковым франтонам. Будынак касцёла выкарыстоўваўся як вытворчы корпус вытв. аб'яднання «Беларуская кераміка». Цяпер у аварыйным стане.

*А. М. Кулагін.*

**РАДАШКОВІЧЫ,** гарадскі пасёлак у Маладзечанскім р-не, пры зліцці рэк Вязынка і Гуйка ў Рыбчанку. За 32 км на ПдУ ад Маладзечна. Вядомы з 1447. Належалі Гаштольдам, каралеве Боне, Глябовічам, Агінскім, Радзівілам. У 1-й пал. 16 ст. існаваў драўляны *Радашковіцкі замак.* З сярэдзіны 16 ст. Р. ў Мінскім ваяводстве Вял. кн. Літоўскага. У 1569 атрымалі магдэбургскае права, мелі герб (у сярэбраным полі паясная выява мужчыны). З 1793 Р. ў складзе Расіі, заштатны горад Вілейскага пав., з 1842 цэнтр воласці. У 1897 у Р. 2615 жыхароў, гарадское і рэальнае вучылішчы. З 1921 Р. ў складзе бурж. Польшчы, горад Віленскага ваяводства. З 1939 у складзе БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З 1960 у Маладзечанскім р-не. Размешчаны на ўзгорыстым рэльефе, рэкамі падзелены на 3 часткі. Забудоўваецца паводле генплана 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). Планіровачная структура лінейная. Забудова выцягнута з Пн на Пд уздоўж асн. кампазіцыйнай восі — вуліц Савецкай і Камуністычнай, якая звязвае ўсе часткі пасёлка, забудавана 2—3-павярховымі дамамі. У паўн.-зах. жылым раёне да яе прылягае пл. Гастэлы (на ёй разбіты сквер) — адм.-грамадскі і культ. цэнтр. Грамадскі цэнтр аддзелены ад астатняй, больш узгорыстай тэр. пасёлка поймамі рэк Вязынка і Рыбчанка. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. У паўн.-ўсх. жылым раёне ствараецца мікрараён з 3—5-павярховай забудовай. Вытворчая зона размешчана ў паўн.-ўсх. частцы пасёлка. Каля Р. створаны 3 зоны адпачынку: Вязынка, Рыбчанка і Удра. На перасячэнні з р. Вязынка закладзены парк. Захаваўся помнік архітэктуры 19 ст.— *Радашковіцкі касцёл.* Прадугледжваецца развіццё Р. на ПдУ, рэканструкцыя грамадскага цэнтра, буд-ва дамоў розных тыпаў.

*В. А. Крайко.*



**Радашковіцкі касцёл.**

**РАДЗІВІЛІМОНТАЎСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ,** помнік архітэктуры і садова-паркавага мастацтва 2-й пал. 18 ст. Сфарміраваўся ў б. вёсцы Радзівілімонты (цяпер в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на) — летняй рэзідэнцыі мінскага ваяводы кн. Ю. Радзівіла, роду якога маёнтак належаў з 1586 (гл. *Радзівілімонтаўскія сядзібы*). У 2-й пал. 19 ст. належаў Вітгінштэйнам. Сядзіба ўключала палац, драўляныя флігелі, будынак канцылярыі (1809), свіран, гасп. пабудовы (стайню, вяндлярню, хату для парабкаў, валовы млын, вадакачку і інш.), капліцу (не захавалася), парк. У гасп. частцы размяшчаліся дамы аканома і парабкаў, бровар, варыўня, свірны, стайні, адрына, абора, гумны. За межамі асн. тэр. комплексу былі пабудаваны вадзяны млын, сушня, вятрак. П а л а ц — 1-павярховы выцягнуты па папярочнай восі прамавугольны ў плане будынак пад вальмавым дахам. Пабудаваны ў 1780—83 у стылі класіцызму прыдворным арх. Радзівілаў К. Спампані пры ўдзеле арх. Я. Бэнса. У сіметрычна-восевой кампазіцыі гал. фасада вылучаўся дарычны 4-калонны мансардавы порцік, выдзелены на фоне гарызантальнай



**Радзівілімонтаўскі палацава-паркавы ансамбль.** Палац.

шалёўкі сцен, якая імітавала руст. Канструкцыя будынка мяшаная: вонкавыя сцены зрублены з дубовых брусоў, унутраная падоўжная — мураваная. З дрэва былі выкананы пабеленыя элементы класічнага дэкору — трыгліфы, мадульёны, разеткі, дэнтыкулы. У цэнтр. частцы палаца размяшчаліся вестыбюль і вял. зала, якая паўратондай выступала ў бок парку. Паўратонда зімовага саду выступала на правым тарцы палаца і ў інтэр'еры была аздоблена пейзажным жывапісам. Правае крыло мела анфіладу парадных апартаментаў, сярод якіх вылучалася дамашняя капліца з паўкруглай алтарнай экседрай, багата аздобленай штучным ружовым мармурам. Левае жыллёва-службовае крыло мела калідорную планіроўку з лесвіцай ў скляпеністыя падвалы і на мансарду, дзе былі 2 летнія пакоі. Драўляныя калоны кампазітнага і іанічнага ордэраў, карнізы і разеткі былі апрацаваны стука. Пасля пажару 1909 палац адбудаваны. Да нядаўняга часу ў круглаватых нішах інтэр'ера знаходзіліся кафляныя печы, малюнак якіх, як і інтэр'еры жывапіс, быў выкананы ў 1780 мастаком А. Смуглевічам. Ад палаца засталіся руіны. **Свіран** — прамавугольны ў плане, накрыты 2-схільным гонтавым дахам на кроквах будынак. Высокі цокаль з валуноў на вапнавым растворы меў скразны праезд. Сцены з брусоў, гарызантальна ашаляваныя звонку. Вокны паўкруглыя з абрамленнямі, апрацаванымі пад каменны руст. У перакрыцці выкарыстаны кроквенныя канструкцыі. Фасад, павернуты ў бок палаца, мае значны вынас даху, пад якім зроблена галерэя на высокіх слупах (служыла для падымання грузаў на вышку). На вільчыку даху размешчана вежачка з невял. звонам і флюгерам. На гал. фасадзе 3 уваходы: цэнтральны вырашаны ў выглядзе порціка з 2 стылізаванымі дарычнымі калонкамі, бакавыя афармлены лапаткамі. Дзверы з узорыста выкладзеных дошак аформлены мастацкай коўкай. **Парк** пейзажна-рэгулярнага тыпу (пл. каля 13 га), ахоплівае палац падковай. Высаджаны над р. Цапрай, на якой створаны каскад ставоў. Па іх запрудзе арганізаваны гал. ўезд у сядзібу. Перад палацам — вял. партэр, абмежаваны па перыметры маляўнічымі групамі ліставых дрэў і асобнымі салітэрнымі пасадкамі. Элементы рэгулярнасці ўносяць у яго планіроўку прамыя грабавыя, каштанавыя і ліпавыя алеі, пракладзеныя ў глыбіню парку і да гасп. зоны. У пачатку алеі ўздоўж паўд.-ўсх. ускраіны парку ўстаноўлены памятны камень з надпісам, што алея высаджана ў 1875 князёўнай М. Радзівіл. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін, Ю. А. Якімовіч.*

**РАДЗІВІЛІМОНТАЎСКІЯ СЯДЗІБЫ** ў былой вёсцы Радзівілімонты (цяпер в. Чырвоная Зорка Клецкага р-на).

1) Першы палацава-паркавы ансамбль вядомы ў канцы 16 — пач. 17 ст. пасля зацвярджэння в. Радзівілімонты цэнтрам Клецкай ардынацыі (1586). Не захаваўся. На высокім узгорку стаяў драўляны палац на падмурку са скляпамі. Каля яго быў рэгулярны парк («італьянскі сад») са шпалерамі, 4 каналамі, 2 мураванымі альтанкамі і гротам. Ансамбль вядомы паводле інвентара пач. 18 ст. 2) Другі ансамбль пабудаваны ў 1-й пал. 18 ст. Не захаваўся. У цэнтры падвор'я стаяў 1-павярховы з мезанінам драўляны барочны палац (1750-я гады), які меў 6 жылых пакояў, залу, 2 прыхожыя, капліцу ў мезаніне, быў накрыты ламаным дахам. Каля яго размяшчаліся кухня, дом адміністратара (жылы пакой, сенцы, камора і пякарня), склеп, хлявы, бровар, 2-павярховы свіран з слуповым ганкам, сырніца і інш. Каля ўязных варот стаялі 2 гумны (на 16 і 17 сохах), свіран, афармлены на гал. фасадзе галерэяй на 7 слупах, адрына і аборы. Ансамбль вядомы паводле інвентароў 1760—70-х гадоў. 3) У 2-й пал. 18 ст. створаны *Радзівілімонтаўскі палацава-паркавы ансамбль.*

**РАДУНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—17 стагоддзях. Яго рэшткі знаходзяцца на асобным узвышшы сярод забалочанай мясцовасці на беразе р. Радунька ў цэнтры в. Гарадзішча Воранаўскага р-на (за 2 км ад г. п. Радунь). Пляцоўка 4-вугольная ў плане, памерам 85 × 60 м, узвышаецца на 8 м над далінай ракі, умацавана валам выш. 3—5 м і абкружана ровам глыб. 2,5—3 м, шыр. 6—8 м. У паўд.-ўсх. вугле быў уваход. Аснову замкавай абароны складаў комплекс драўляна-земляных умацаванняў — вал, сцены-гародні і вежы. Перад уязной вежай-брамай быў мост з пад'ёмным пралётам — «узводам». Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены кераміка 14—17 стагоддзяў, паліваная і тэракотавая кафля, жалезныя наканечнікі дзідаў, сякеры, манеты 15—17 стагоддзяў і інш. Замак лічыцца велікакняжацкім уладаннем.

*М. А. Ткачоў.*

**РАДУНСКІ КАСЦЁЛ УШЭСЦЯ,** помнік архітэктуры мадэрна. Пабудаваны ў 1929—33 (арх. Ян Бароўскі, майстар Антоній Бейка) з бутавага каменю і цэглы ў в. Радунь (Воранаўскі р-н). Буйнамаштабная 3-нефавая 2-вежавая базіліка з трансептам і 5-граннай апсідай (даўжыня 58 м, выш. 48 м, шыр. 35 м); нартэкс вынесены перад гал. фасадам у самастойны нізкі аб'ём. У складанай шматпланавай аб'ёмнапрасторавай кампазіцыі дамінуюць 2 тэлескапічныя шмат'ярусныя вежы. Іх дынамічны вертыкальны рух, бакавыя ступеньчатыя контрфорсы-сценкі, круглае вітражнае акно-ружа гал. фасада, глыбокі стральчаты ўваходны праём, пінаклі даху выклікаюць асацыяцыі з гатычным храмам. У аснове архіт. вырашэння геаметрызаваныя аб'ёмы, разнастайнай канфігурацыі вокны ў плоскіх ліштвах, шырокія лапаткі. Каларыстычны эфект будынка заснаваны на спалучэнні паліхромнай бутавай муроўкі сцен і пабеленых атынкаваных ступеньчатых атыкаў, плоскасці гал. фасада, 8-гранных завяршальных ярусаў-вежаў, элементаў архіт. дэкору (ліштваў, прафіляваных карнізных паясоў). Зала перакрыта цыліндрычным скляпеннем на падпружных арках, апсіда — гранёнай конхай. Пры ўваходзе галерэя хораў з філянговым парапетам. Інтэр'ер упрыгожаны ансамблем высокамастацкіх стукавых алтароў з элементамі ракайльнай арнаментыкі і скульптурным стафажам. У 1954 касцёл быў пафарбаваны ўнутры, у 1986 — звонку. Касцёл дзейнічае.

*Я. М. Кулагін.*

**РАЖАНКАЎСКІ ПЕТРАПАЎЛАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1674 з цэглы і бутавага каменю на паўн. ускраіне в. Ражанка (Шчучынскі р-н), перабудаваны ў 1924—25. 1-нефавы крыжападобны ў плане храм з больш нізкімі 5-граннай апсідай і трансептам. Тарцы высокіх 2-схільных дахаў над нефам і крыламі трансепта закрыты ступеньчатымі шчытамі. Да бакавых сцен асн. аб'ёму далучаны 2 прамавугольныя ў плане капліцы. Да паўд.-зах. вугла нефа пры-

будавана 3-ярусная вежа (васьмярык на 2 чацверыках), накрытая 8-гранным спічастым шатром, да апсіды з паўн. боку — невял. сакрысція. Вуглы асн. аб'ёму і трансептаў умацаваны контрфорсамі і завершаны дэкар. вежачкамі — пінаклямі. Бакавыя фасады з высокімі паўцыркульнымі вокнамі, дэкарыраваныя геаметрычнымі вітражамі. У цэнтры гал. фасада круглае акно-ружа, вышэй яго дэкар. арнамент, пояс і шчыт, аздоблены вузкімі плоскімі нішамі з 3-лопасцевымі арачнымі завяршэннямі і ляпным гербам у сярэдзіне. Гал. ўваход вырашаны стральчатым парталам. Унутраная прастора касцёла перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках, крылы трансепта — крыжовымі. Апсіда і капліцы раскрываюцца ў прастору нефа арачнымі праёмамі. Над уваходам — хоры. Сцены асн. аб'ёму расчлянёны пілястрамі і размаляваны ў верхняй частцы шматфігурнымі кампазіцыямі на біблейскія тэмы. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Ярашэвіч, С. Г. Багласаў.*

**РАЙЦАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 19 ст. ў в. Райца (Карэліцкі р-н) у маёнтку Шлізняў, у пач. 20 ст. належала В. Руткамеру. 1-павярховы драўляны Т-падобны ў плане будынак накрыты 2-схільным дахам. Сцены атынкаваны і дэкарыраваны вуглавымі пілястрамі, расчлянёны вузкімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Цэнтр гал. паўд.-ўсх. фасада вылучаны 4-калонным порцікам. З боку дваровага фасада да будынка прымыкае выцягнутае крыло. Унутраная планіроўка анфіладная. У будынку размешчана мед. ўстанова.

*А. М. Кулагін.*



**Ражанкаўскі Петрапаўлаўскі касцёл.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.



**Райцаўская сядзіба.** Сядзібны дом.



**Ракаўская Праабражэнская царква.** Выгляд з боку апсіды.

**РАКАЎСКАЯ ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. На цэнтр. плошчы в. Ракаў (Валожынскі р-н). У 1793 на месцы стараж. царквы (упамінаецца пад 1465) пабудаваны з цэглы касцёл на сродкі прыхаджан і ахвяраванні кн. Сангушкі і членаў ракаўскага брацтва св. Ганны (50 тыс. руб.). 1-нефавы прамавугольны ў плане храм з паўкруглай апсідай, да якой з паўн. боку прымыкае рызніца, з паўднёвага — Нікольская капліца з 3-граннай алтарнай часткай. Гал. заходні фасад плоскасны, крапаваны пілястрамі, расчлянёны лучковымі аконнымі і дзвярнымі праёмамі ў плоскіх ліштвах, завершаны шырокім 3-вугольным франтонам; быў фланкіраваны вежамі (захаваліся ніжнія ярусы). Сцены расчлянёныя лучковымі вокнамі і пілястрамі ў прасценках. У 1866 пры пераўтварэнні касцёла ў праваслаўную царкву быў надбудаваны купал з цыбулепадобнай галоўкай на драўляным 8-гранным барабане. Храм перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі і падпружнымі аркамі. Над цэнтр. уваходам хоры, якія апіраюцца на 3-пралётную аркаду. У 2-й пал. 19 ст. перад царквой, па яе падоўжнай восі, пабудавана 2-ярусная пірамідальная брама. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**РАКАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1906 з жоўтай цэглы на зах. ускраіне в. Ракаў (Валожынскі р-н), на беразе р. Іслач. 3-нефавая 2-вежавая базіліка з трансептам і паўкруглай апсідай на высокім цокалі з вапнавых блокаў. Цэнтр. неф накрыты спічастым 2-схільным, бакавыя нефы — пакатымі 1-схільнымі дахамі. На гал. фасадзе шчыпец з зубчастым абрамленнем, 2-ярусныя чацверыковыя вежы, завершаныя высокімі шпілямі. Гал. ўваход вырашаны 3 стральчатымі парталамі з акном-ружай над імі. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны высокімі стральчатымі вокнамі і контрфорсамі ў прасценках, дэкарыраваны аркатурнымі фрызамі і паясамі. У інтэр'еры — стральчатыя скляпенні.

*А. М. Кулагін.*

**РАМЕЛЬСКАЯ МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 18 ст. ў в. Рамель (Столінскі р-н). У 1905 з захаду да царквы далучана 3-ярусная чацверыковая званіца, завершаная шатровым дахам з галоўкай. У яе ніжнім ярусе хоры на 2 слупах. Царква 2-зрубная, складаецца з амаль квадратнага ў плане асн. і 5-граннага алтарнага зрубаў, накрытых агульным вальмавым дахам. Вільчык даху з боку гал. фасада прарэзаны глухім барабанам з галоўкай. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і завершаны простым карнізам з зубчастым падзорам. Інтэр'ер зальны з плоскай бэлечнай столлю.



**Ракаўскі касцёл.**



Рамельская Міхайлаўская царква.

У 1989 царква аддадзена веруючым. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*

**РАСНА**, вёска ў Камянецкім р-не. Цэнтр сельсавета, калгаса «Савецкая Беларусь». За 32 км на З ад Камянца, 45 км ад Брэста. У 16 ст. вёска ў Берасцейскім ваяводстве Вял. кн. Літоўскага. З 1795 у складзе Расіі. У 19 ст. мястэчка ў Высока-Літоўскай воласці Брэсцкага пав.; 2 царквы, 2 кірмашы на год. З 1921 у складзе бурж. Польшчы. З 1939 у БССР. Першы праект забудовы Р. распрацаваны ў 1968. Забудоўваецца паводле генплана 1975 (БелНДІдзіпрасельбуд, арх. Ю. Патапаў, Л. Нардштэйн, А. Калніньш). Зона новага буд-ва (Новая Расна, размешчана на З ад існуючай індывідуальнай забудовы) вызначаецца кампактнасцю, кампазіцыйнай цэласнасцю, функцыянальным заніраваннем і добраўпарадкаванасцю тэрыторыі. Асн. кампазіцыйная вось — вул. Юбілейная, забудаваная пераважна 2-павярховымі жылымі дамамі секцыйнага тыпу і блакіраванымі дамамі з кватэрамі ў 2 узроўнях. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр вырашаны ў выглядзе плошчы, сфарміраванай 2-павярховымі будынкамі Дома культуры (у маст. афармленні інтэр'ера выкарыстаны габелены, азеляненне, у фае створана рэльефная кампазіцыя з шамоту), гандл. цэнтра (магазін, рэстаран, сталовая, гасцініца, камбінат быт. абслугоўвання), 3-павярховага адм. будынка праўлення калгаса і выканкома сельсавета; побач — будынкі дзіцячага сада і 3-павярховы сярэдняй школы. Жылая зона забудоўваецца ў асноўным 2—3-павярховымі 1—3- і 4-кватэрнымі секцыйнымі дамамі, дамамі сядзібнага тыпу. Кватэры забяспечаны ўсімі відамі інж. абсталявання. Паводле індывідуальнага праекта пабудаваны эксперыментальны 1-павярховы 4-кватэрны жылы дом для адзінокіх ветэранаў працы (у аздабленні фасадаў выкарыстаны дэкар. элементы з дрэва ў традыцыях бел. нар. дойлідства). Вытв. зона размешчана на У ад жылой забудовы. Зона адпачынку фарміруецца вакол штучнага вадаёма. Прадугледжана расшырэнне грамадскага цэнтра, зоны спорту і адпачынку, буд-ва дамоў сядзібнага тыпу. Архіт.-планіровачнае вырашэнне Р. адзначана дыпломам ВДНГ СССР (1970).

**РАСНАЎСКАЯ СЯДЗІБА**, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры канца 19 ст. Створана ў цэнтры в. Расна (Горацкі р-н) у стылі неакласіцызму. Комплекс уключае сядзібны дом, бровар, свіран і невял. гасп. будынкі. С я д з і б н ы д о м — мураваны 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з цокальным паверхам. Маленькія рызаліты па вуглах бакавых фасадаў і ўся паверхня вонкавых сцен расчлянёны гарызантальна руставанымі лапаткамі. Пад 2-схільным вальмавым дахам праходзіць ступеньчаты карніз з сухарыкамі. Цокаль і асн. паверх аддзелены поясам русту. Аконныя праёмы высокія, прамавугольныя, без ліштваў. Уваходы ў дом вылучаны высокімі мураванымі ганкамі. Унутраная планіроўка будынка нерэгулярная. У большасці памяшканняў на столях ляпныя разеткі, па перыметры сцен фрызы і карнізы, упрыгожаныя віньеткамі, гірляндамі, геаметрычным арнаментам. Б р о в а р — мураваны 1-павярховы будынак. Размешчаны наводдаль ад асн. сядзібнай забудовы. Цэнтр. частка вылучана высокай мансардай з паўкруглым акном. Фасады ўпрыгожаны аркатурнымі паясамі. Аконныя праёмы сегментнага абрысу, без ліштваў. С в і р а н — кампактны зруб з 2-схільным дахам, які з аднаго боку ўтварае глыбокую навісь на 2 драўляных слупах круглага сячэння. Мае рысы драўлянага нар. дойлідства. У сядзібным доме размешчана школа. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння. *А. Ю. Пятросава.*



Вёска **Расна**. Гандлёвы цэнтр.

**РАСНАЎСКІ КАСЦЁЛ КАЗІМІРА**, помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны з цэглы ў цэнтры в. Расна (Горацкі р-н) на ўзвышшы. Спачатку на гэтым месцы ў 1751 на сродкі рагачоўскага старосты графа Міхала Пацея быў пабудаваны драўляны касцёл езуітаў св. Космы, у 1804 у час пажару згарэў. У 1812 на яго месцы пачалося буд-ва новага мураванага касцёла на сродкі Л. К. Парчэўскага, шамбелана б. велікакняжацкага двара. У 1818 будаўніцтва ў асноўным было завершана, у 1819 асвячоны як касцёл св. Казіміра. Існаваў як прыходскі касцёл, у 1868 з ліквідацыяй прыхода ў Расне лічыўся філіяй. Касцёл — 3-нефавая базіліка з прамавугольнай апсідай і 2 сакрысціямі, накрыты 2-схільным дахам (спачатку быў драўляны). Гал. фасад вылучаны 4-калонным дарычным порцікам, завершаным 3-вугольным франтонам з развітым антаблементам (з трыгліфамі і метопамі). Па баках пор-



**Раснаўская сядзіба.** Сядзібны дом.



**Раснаўскі касцёл Казіміра.**

ціка знаходзіліся невял. нішы з 3-вугольнымі сандрыкамі. Бакавыя фасады таксама падкрэслены рызалітамі з 4-калоннымі порцікамі і паўцыркульнымі нішамі; аконныя і дзвярныя праёмы аздоблены сандрыкамі. Унутры прастора падзелена на нефы 16 калонамі, злучанымі цыліндрычнымі скляпеннямі; падлога драўляная. У касцёле былі 4 алтары, арган. У Вял. Айч. вайну касцёл быў моцна пашкоджаны. Помнік рэспубліканскага значэння. *І. А. Бердзнікава.*

**РАСОНСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры канца 19 — пач. 20 ст. Сядзібны дом пабудаваны памешчыкам Гласкам у рамантычна-рэтраспектыўных формах замкавага дойлідства ў г. п. Расоны (сучасная вул. Камсамольская), на беразе воз. Расона. Мураваны будынак складанай асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з рознавялікіх прамавугольных аб'ёмаў, гранёных эркераў, рызалітаў. Асн. 2-павярховы аб'ём завершаны ў цэнтры высокім ступеньчатым шчытом з люкарнай. З паўн. боку да асн. аб'ёму прылягае 3-ярусная вежа з поясам машыкуляў у завяршэнні, з паўднёвага — 1-павярховы аб'ём з 2-схільным дахам і ступеньчатым франтонам на тарцы. Аконныя праёмы, нішы і ліштвы маюць стральчатыя, паўцыркульныя і лучковыя арачныя завяршэнні. Фасады апрацаваны тынкавым рустам, аркатурай, машыкульнымі фрызамі, гранёнымі вежачкамі з зубцамі. Унутры Г-падобны калідор злучае памяшканні розных памераў. У будынку размешчаны інтэрнат для састарэлых. *А. М. Кулагін.*

**РАСОНЫ,** гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на паўн.-ўсх. беразе воз. Расона. За 159 км на ПнЗ ад Віцебска. Вядомы з 1552 як вёска Полацкага ваяводства Вял. кн. Літоўскага (першапачатковая назва Росоно). Належала Ф. І. Корсаку, мела 7 дымоў. З 1772 у складзе Расіі, вёска Вазнясенскай воласці Полацкага пав. Полацкай, з 1796 Беларускай, з 1802 Віцебскай губерняў. У 1877 у Р. 12 драўляных жылых пабудоў, прыватныя жаночае (з 1862) і мужчынскае (з 1869) агульнаадукацыйныя вучылішчы, драўляная і мураваная цэрквы, піт-ны дом. У 1905 у вёсцы 51 жыхар. З 1924 цэнтр раёна, да 1930 і ў 1935—38 у Полацкай акрузе, у 1938—44 у Віцебскай, з 1944 у Полацкай, з 1956 у Віцебскай абласцях. З 1958 гарадскі пасёлак. У 1962—65 у Полацкім р-не. Планіровачная структура пасёлка радыяльна-веерная, з рэгулярнай унутрыквартальнай забудовай. Генплан Р. распрацаваны ў 1969, забудоўваецца паводле генплана 1979 і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1981 (абодва БелНДІПградабудаўніцтва, арх. В. Дутлава). Асн. кампазіцыйная вось — вул. Савецкая, забудаваная 2 — 5-павярховымі капітальнымі дамамі. На ёй склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр, разбіты парк. На вул. Савецкай, пры ўездзе ў горад з боку Полацка, фарміруецца цэнтр. плошча, тут знаходзяцца 3-павярховыя будынкі камбіната быт. абслугоўвання і вузла сувязі, сярэдняй школы імя П. М. Машэрава, стадыён, разбіты сквер. Вул. Леніна, Руставелі і інш. звязваюць грамадскі цэнтр з жылой зонай. У раёне вуліц Камсамольскай, Пушкіна, Леніна створаны жылы квартал з 2—3-павярховай забудовай. Вытворчая зона размешчана на У і Пн. Зона адпачынку — воз. Расона. Захаваўся помнік архітэктуры — *Расонская сядзіба*, пабудаваная на мяжы 19—20 стагоддзяў. Прадугледжваецца пашырэнне грамадскага цэнтра, зоны спорту і адпачынку, буд-ва дамоў розных тыпаў. *Г. С. Ларкін.*



**Расонская сядзіба.** Сядзібны дом.

**РАЎБІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры несапраўднай готыкі. Пабудаваны ў 1858—62 у в. Раўбічы (Мінскі р-н) на месцы драўлянага касцёла 18 ст. Мураваны 1-нефавы з капліцай каля алтара будынак пастаўлены на магутны бутавы цокаль. Гал. фасад фланкіраваны 3-яруснымі 8-граннымі вежамі з шатровымі завяршэннямі. Паміж вежамі высокі 7-ступеньчаты атыкавы франтон, уваходны партал стральчатай формы з ганкам. У дэкоры гал. фасада выкарыстаны накладныя 3-ярусныя пілоны з перакінутымі паміж імі стральчатымі броўкамі. Вось сіметрыі падкрэслена круглым аконным праёмам у форме гатычнай ружы над уваходным парталам. Рытм бакавых фасадаў ствараецца чаргаваннем магутных контрфорсаў і стральчатых акон (запоўнены вітражамі) у простых ліштвах з фігурнымі рамамі. Элементы архіт. дэкору, карнізы, абломы маюць спрошчанае вырашэнне. Памяшканні інтэр'ера перакрыты адзіным нервюрным скляпеннем на падпружных арках з люнетамі. Распор скляпення ўспрымаюць бакавыя пілоны, якія адпавядаюць контрфорсам. Пры ўваходзе — хоры на 2 квадратных у сячэнні слупах. Алтарная частка, асветленая вял. стральчатым акном, была ўпрыгожана 2 падлогавымі люстрамі (не зберагліся). Касцёл рэстаўрыраваны (1975—78; арх. Л. Паўлава). У ім размешчаны Раўбіцкі музей бел. нар. мастацтва. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**«РАЎБІЧЫ»,** рэспубліканскі спарт. комплекс, прызначаны для заняткаў па біятлоне, лыжных гонках, лыжным дваябор'і, скачках на лыжах з трампліна, слаламе і канькабежным спорце, для правядзення рэспубліканскіх і міжнар. спаборніцтваў. Пабудаваны ў 1974 (арх. В. Аладаў, С. Неумывакін, У. Кры-



Раўбіцкі касцёл.

вашэеў) непадалёку ад в. Раўбічы Мінскага р-на (за 22 км на ПнУ ад Мінска) сярод ляснога ландшафту, на тэрыторыі пл. 36 га. У комплекс уваходзяць: спарт. збудаванні — стрэльбішчы асноўнае (150 × ×140 м) з 100-метровым жалезабетонным бліндажом і трэніровачнае (150 × 50 м), лыжныя трасы (3 пятлі агульнай даўж. 20 км), 3 лыжныя трампліны са штучным пакрыццём (разліковая даўж. скачка 20, 40 і 60 м), спецыялізаваная лыжаролерная траса з асфальтабетонным пакрыццём, малая слаламная траса, ролікадром (150 × 60 м) і інш.; будынкі — універсальная спарт. зала, гасцініца, медыка-аднаўленчы цэнтр, судзейскі павільён, адм.-гасп. корпус; на штучных земляных валах размешчаны трыбуны для гледачоў, злучаныя пераходнымі мастамі з трыбунамі каля судзейскага павільёна. Будынак універсальнай спарт. залы вырашаны ў буйных дынамічных формах, уключае памяшканні вялікай (для трэніроўкі гімнастаў, лёгкаатлетаў, а таксама для гульнявых відаў спорту) і малой (для трэніроўкі па барацьбе, цяжкой атлетыцы, фехтаванні і інш.) залаў. Выразная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя будынка акцэнтавана вышыннай дамінантай — назіральнай вежай. Кампазіцыя 7-павярховага будынка гасцініцы на 170 месцаў спалучае 2 рознавялікія злучаныя паміж сабой аб'ёмы, вырашаныя ў выглядзе трохвугольнікаў. На 1-м паверсе размешчаны рэстаран, пошта, б-ка з чытальнай залай, вузел сувязі, службовыя памяшканні, на астатніх — жылыя нумары. Сцены будынка апрацаваны дэкар. тынкоўкай, агароджа балконаў драўляная, дах накрыты металічнымі пласцінамі. У афармленні інтэр'ераў выкарыстаны дрэва, дэкар. абліцовачная плітка. Памяшканні багата аздоблены творамі дэкар.-прыкладнога мастацтва, станковага жывапісу і графікі. 3-павярховы будынак медыка-аднаўленчага цэнтра з высокім 2-схільным дахам нагадвае па кампазіцыі будынак гасцініцы; мае кабінеты ўрачэбныя, для водных працэдур, масажу, фізіятэрапіі і інш., 3 сауны. 3-павярховы судзейскі павільён вырашаны ў сучасных архіт. формах, яго кансольная частка (выступае на 12 м) размешчана над месцам старту. Архіт.-спарт. збудаванні комплексу вырашаны ў буйных дынамічных формах, маюць вастраверхія кампазіцыі, арганічна ўпісваюцца ў маляўнічы ландшафт, нібы паўтараюць яго ўзгорысты рэльеф.

*В. Б. Ангелаў.*



Рэспубліканскі спартыўны комплекс **«Раўбічы»**. Агульны выгляд.

**РОСКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 17 — пач. 20 ст. непадалёку ад г. п. Рось (Ваўкавыскі р-н) ва ўладаннях графоў Патоцкіх (у пач. 20 ст. належала Браніцкім). Сядзібны дом пастаўлены ў 17 ст. Драўляны 1-павярховы Т-падобны ў плане будынак. Цэнтр. частку складала вял. прыхожая, злева ад яе размяшчалася сталовая, справа — 2 ідэнтычныя 4-пакаёвыя блокі. У 2-й пал. 18 ст. пабудаваны палац — 1-павярховы, з мезанінам у цэнтры, прамавугольны ў плане, завершаны высокім ламаным гонтавым дахам. Гал. фасад быў вылучаны 4-калонным порцікам з трох-



Універсальная спартыўная зала спартыўнага комплексу **«Раўбічы»**.



**Роская сядзіба.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.

вугольным франтонам. Вокны прамавугольныя. Планіроўка анфіладная. У канцы 19 — пач. 20 ст. палац перабудаваны: сцены звонку атынкаваны, дах зменены на вальмавы, да левага тарца прыбудаваны флігель з 3-схільным вальмавым пакрыццём. Разам з 2 флігелямі (1-павярховыя прамавугольныя ў плане асобныя будынкі з вальмавымі дахамі) утвараў парадны двор з партэрам у цэнтры. Да сядзібы прылягае парк пейзажнага тыпу з элементамі рэгулярнай планіроўкі. Размешчаны на ўзгорыстым рэльефе, з паўн. і ўсх. бакоў абмежаваны каналамі. Пл. каля 8 га. Аснову кампазіцыі складаюць 2 сіметрычна пастаўленыя будынкі з партэрам паміж імі, да якога прылягаюць дэкар. ўчасткі з альтанкамі. З усх. боку ад партэра ідзе прамая алея з сістэмай лесвіц і пляцовак, яна злучае 4 паўкальцавыя дарожкі, якія на розных узроўнях ахопліваюць схілы пагорка, і вядзе да параднага партэра. У парку растуць мясцовыя пароды дрэў і кустоў (акацыя белая, бэз, вінаград дзявочы і інш.). Парк належыць дому адпачынку «Рось».

*В. Р. Анціпаў, Ю. А. Якімовіч.*

**РОСКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. Размешчана ў цэнтры г. п. Рось (Ваўкавыскі р-н). Закладзена ў 1908 з цэглы на бутавым цокалі, неатынкавана. Уяўляе сабой квадратны ў плане асн. аб'ём, да якога далучаюцца 3-гранная апсіда з рызніцамі і 2-ярусная вежа-званіца, першы ярус якой — чацвярык, другі — 8-гранны, завершаны шатром з галоўкай. Асн. аб'ём вылучаны 8-гранным светлавым барабанам з цыбулепадобным купалам. Над апсідай — невял. галоўка. Гал. ўваход у цэнтры фасада вылучаны кілепадобным франтонам на паўкалонках. Па баках асн. аб'ёму — 2 бакавыя ўваходы з масіўнымі слупамі і кілепадобным казырком. У інтэр'еры асн. аб'ём мае драўлянае 8-граннае шатровае пакрыццё з адтулінай у цэнтры. Прытвор і апсіда маюць мураваныя цыліндрычныя скляпенні. Іканастас драўляны, дэкарыраваны паўкалонкамі, накладной разьбой. Царква дзейнічае.

*Т. І. Чарняўская.*

**РОСКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1801 у г. п. Рось (Ваўкавыскі р-н) з цэглы. На ПдУ ад касцёла асобна пастаўлена 2-ярусная мураваная званіца, пабудаваная ў 1908. Храм прамавугольны ў плане, з нязначна выступаючым трансептам і паўцыркульнай апсідай. Галоўны (паўд.) фасад завершаны трыгліфным фрызам з развітым карнізам, над якім атыкавы франтон з паўкруглым аконным праёмам у тымпане. Бакавыя фасады дэкарыраваны рустоўкай і завершаны прафіляваным карнізам. Інтэр'ер зальны, перакрыцце — драўляныя цыліндрычныя скляпенні. Уздоўж бакавых сцен праходзіць галерэя з драўлянай агароджай. Сцены завершаны масіўным карнізам з сухарыкамі. У інтэр'еры над уваходам — хоры на 4 круглых у плане калонках. На сценах, скляпеннях асн. аб'ёму і алтарнай часткі размешчаны жывапісныя кампазіцыі на біблейскія тэмы і дэкар.-архіт. размалёўка, якая стварае ілюзорнае ўяўленне прасторы. Драўляны разны алтар 2-ярусны, расчлянёны калонамі карынфскага ордэра, дэкарыраваны накладной пазалочанай разьбой і скульптурай. Касцёл дзейнічае.

*В. В. Церашчатава, Т. І. Чарняўская.*



**Роская Троіцкая царква.**



**Рубельская Міхайлаўская царква.**

**РУБЕЛЬСКАЯ МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1796 у в. Рубель (Столінскі р-н). Спалучае традыцыі ўсходнепалескага дойлідства і рысы стылю барока. Трохзрубны храм глыбінна-прасторавай кампазіцыі складаецца з прамавугольнага ў плане бабінца, 8-граннага выцягнутага па папярочнай восі цэнтр. і 5-граннага алтарнага (з рызніцай з Пн) зрубаў. У 19 ст. да бабінца і бакоў асн. зруба прыбудаваны прамавугольныя ў плане тамбуры, што надало збудаванню крыжовы план. Завяршэнні цэнтр. зруба 2-яруснае («васьмярык на чацверыку»), бабінца і алтара 1-яруснае васьмерыковае. Кожны верх увянчаны складаным барочным 2-ярусным купалам. Тамбуры накрыты 2-схільнымі, рызніца — 1-схільным дахамі. Сцены вертыкальна ашаляваны, прамавугольныя вокны аздоблены плоскімі ліштвамі з 3-вугольнымі франтончыкамі ў завяршэнні. У інтэр'еры дамінуе прастора цэнтр. 3-светлавога аб'ёму, у верхняй частцы бабінца — хоры, якія выходзяць у асн. аб'ём вял. праёмам з балюстрадным парапетам. Алтарнае памяшканне аддзяляе ярусны разны іканастас. На З ад царквы размешчана 3-ярусная званіца (верхні ярус васьмерыковы, ніжнія чацверыковыя), накрытая гранёным купальным дахам. У 1989 царква аддадзена веруючым, зроблены рамонт, дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

**РУЖАНСКАЯ ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА І МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў г. п. Ружаны (Пружанскі р-н). Вядома з 1568 як драўляная царква. Мураваная закладзена ў 1762 па фундацыі Хрысціны з Сапегаў Масальскіх, буд-ва скончана ў 1779 (арх. Я. С. Бекер). Мураваны 1-нефавы 1-вежавы з вял. паўкруглай апсідай будынак накрыты невысокім 2-схільным дахам, які над апсідай пераходзіць у конусападобны і завяршаецца галоўкай. Па баках апсіды размешчаны 2 квадратныя ў плане невысокія рызніцы, накрытыя 3-схільнымі дахамі. Гал. фасад мае ў цэнтры рызаліт, расчлянёны вертыкальнымі і гарызантальнымі элементамі складанага профілю (карнізы, раскрапоўкі, пілястры, нішы, філёнгі),

завершаны атыкам з трохвугольным франтонам і 2-яруснай прамавугольнай у плане вежай-званіцай (з вітымі ўсходамі ўнутры), накрытай крыжападобным дахам з 4 франтончыкамі і галоўкай у цэнтры. Сцены бакавых фасадаў раскрапаваны пілястрамі і завершаны развітым карнізам. Аконныя і дзвярныя праёмы з паўцыркульным арачным завяршэннем маюць прафіляваныя аб-



**Ружанская Петрапаўлаўская царква і манастыр базыльян.**



**Ружанская Петрапаўлаўская царква і манастыр базыльян.** Галоўны фасад царквы.



**Ружанскі палацавы комплекс.** Руіны галоўнага корпуса палаца.

рамленні. Перакрыцце бэлечнае з падшыўным люстраным скляпеннем. Унутры на столі гал. аб'ёму і апсіды размалёўка на тэму «Праабражэнне» (пашкоджана пажарам у 1895, адноўлена ў пач. 20 ст.). На скляпенні апсіды размешчана кампазіцыя «Бог Саваоф». На паўн. і паўд. сценах у медальёнах выявы Пятра і Паўла. Жывапіс вызначаецца сухаватай акадэмічнай манерай. У агульнай каларыстычнай гаме, нягледзячы на багацце сініх тонаў, пераважаюць прыглушаныя цёплыя адценні (карычнева-чырвоныя, вохрыстыя). М а н а с т ы р пабудаваны ў 1784—88 (арх. Бекер) з паўд. боку царквы па фундацыі канцлера Вял. кн. Літоўскага Аляксандра Сапегі. Будынак прамавугольны ў плане, 2-павярховы, накрыты вальмавым дахам. Рытм гал. фасада ствараецца прамавугольнымі аконнымі праёмамі, завершанымі трохвугольнымі і паўкруглымі сандрыкамі (на 1-м паверсе), пілястрамі. Цэнтр. частка сіметрычнага гал. фасада вылучана рызалітам, які быў завершаны трохвугольным франтонам. Дваровы і бакавыя фасады без архіт. дэкору. Планіроўка 1-га паверха анфіладная, 2-га — калідорная, 1-ы паверх перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, перакрыцце 2-га — плоскае. Царква дзейнічае, у манастыры гарадская ўстанова. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*В. В. Калнін, В. В. Церашчатава.*

**РУЖАНСКІ КАСЦЁЛ КАЗІМІРА,** помнік архітэктуры ранняга класіцызму. Пабудаваны ў 1792 (арх. Я. С. Бекер) у г. п. Ружаны (Пружанскі р-н) на могілках. Фундатар — канцлер Вял. кн. Літоўскага Аляксандр Сапега. Уваходзіў у комплекс базыльянскага манастыра. Мураваны прамавугольны ў плане храм з 4-калонным порцікам дарычнага ордэра (на ступеньчатым стылабаце), накрыты 2-схільным дахам, арыентаваны на Пд. Сцены атынкаваныя, прарэзаны высокімі прамавугольнымі вокнамі, уваходныя дзверы і бакавыя нішы аздоблены ліштвамі. Бакавыя фасады дэкарыраваны пілястрамі (па краях і ў сярэдзіне). Па перыметры будынка праходзіць прафіляваны карніз. У інтэр'еры сцены атынкаваныя, завершаны карнізам, столь плоская. Мураваны алтар у выглядзе порціка дарычнага ордэра. *В. В. Калнін.*

**РУЖАНСКІ ПАЛАЦАВЫ КОМПЛЕКС,** помнік архітэктуры 17—18 стагоддзяў. На высокім узгорку ў паўд.-ўсх. частцы г. п. Ружаны, з'яўляўся рэзідэнцыяй князёў Сапегаў. У пач. 17 ст. Л. Сапегам пабудаваны 2-павярховы крыжападобны ў плане мураваны палац з 3 вежамі: 2 квадратныя ў плане на гал. фасадзе і тарцы левага крыла і 5-гранная на паўн.-ўсх. вугле. У цэнтр. частцы палаца, якая выступала глыбокім рызалітам, знаходзіліся вестыбюль з 4-маршавай лесвіцай і вял. зала на 2-м паверсе, у бакавых частках — жылыя пакоі, кабінеты, архіў, б-ка. Унутраная планіроўка анфіладная. Памяшканні на 1-м паверсе мелі скляпеністыя, на 2-м — бэлечныя перакрыцці. Пад палацам знаходзіліся 2-павярховыя скляпеністыя падвалы. У час войнаў у 1698 і ў Паўночную 1700—21 разбураны, у 1-й пал. 18 ст. адноўлены. У 1784—86 перабудаваны (арх. Я. С. Бекер): 2 вежы былі разабраны, а тарцовая ўключана ў аб'ём палаца, які стаў сіметрычны ў плане. Да цэнтр. часткі гал. фасада прыбудаваны порцік з падвойнымі пілястрамі і калонамі кампазітнага ордэра, завершаны 3-вугольным франтонам са скульптурай

У дэкар. аздабленні палаца сумяшчаліся рысы позняга барока і класіцызму. Адначасова створаны палацавы комплекс з некалькіх згрупаваных вакол параднага двара карпусоў, з паркам, садамі і аранжарэяй. Сіметрычныя бакавыя карпусы размешчаны перпендыкулярна палацу і злучаны з ім паўцыркульнымі ў плане аркадамі. Усх. корпус падзяляўся параднай лесвіцай на 2 роўныя часткі: тэатр і манеж. Тэатр меў глыбокую сцэну з 7 планамі куліс, што давала магчымасць тройчы мяняць афармленне ў час спектакля. Да сцэны прылягалі невял. гардэробныя. Падкованападобная ў плане зала была 2-ярусная: у 1-м ярусе было 14 ізаляваных лож, на 2-м — 15 з каралеўскай у цэнтры. Ложы ўпрыгожвалі ажурныя балюстрады, калоны карынфскага ордэра. У зах. корпусе (не захаваўся) размяшчалася карцінная галерэя. Паралельна палацу па восі двара пабудавана ўязная брама з 2-павярховымі флігелямі па баках. Брама вырашана накшталт 3-пралётнай трыумфальнай аркі, упрыгожана разнымі геральдычнымі картушамі з моранага дубу. Фасады будынкаў дэкарыраваны руставанымі пілястрамі, ляпнымі гірляндамі, скульптурай, разнастайнымі абрамленнямі акон. З 1795 у палацавым комплексе размяшчаліся суконная і ткацкая ф-кі. У 1914 комплекс пашкоджаны, часткова рэстаўрыраваны ў 1930, у 1944 у час Вял. Айч. вайны разбураны. Захаваліся гал. і ўсх. карпусы, аркады, уязная брама і флігелі, фрагменты аздобы інтэр'ераў і канструкцый перакрыццяў (знаходзяцца на кансервацыі). Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*


**Ружанскі палацавы комплекс.** Уязная брама.

**РУЖАНСКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга рэнесансу. Заснаваны ў 1596 у г. п. Ружаны (Пружанскі р-н), пабудаваны ў 1617 па фундацыі Льва Сапегі. У 1768 і 1787 прыбудаваны капліцы. У 1779 рэканструяваны ў стылі ранняга класіцызму (арх. Я. С. Бекер): зроблены звонку зах. партал, паўн. сакрысція, унутры — сцены апрацаваны пілястрамі і карнізамі дарычнага ордэра, размаляваны хоры, бакавыя алтары, амбон, сцены апрацаваны пілястрамі і карнізамі дарычнага ордэра, размаляваны жывапісам. Рамантаваўся ў 1850 і 1891. Мураваны 1-нефавы храм з паўкруглай апсідай і 4-яруснай вежай пры ўваходзе, арыентаваны на З. Па баках нефа знаходзяцца капліцы, прэсбітэрыя — сакрысціі. Сцены нефа знадворку ўмацаваны контрфорсамі, паміж якімі аконныя праёмы з арачнымі завяршэннямі. Вежа (3 васьмерыкі на чацверыку) накрыта стромкім шатром, мае 3 уваходы (зах. ў выглядзе класіцыстычнага партала). Ярусы падзелены прафіляванымі карнізамі, дэкарыраваны плоскімі нішамі і скразнымі арачнымі праёмамі. Знадворку ў нішы апсіды — скульпт. выява канца 19 ст. Неф, капліцы і прэсбітэрый перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з люнетамі, сакрысціі — крыжовым, апсіда — конхавым з падпружнай аркай. Уваход з вежы ў неф аздоблены парталам у стылі позняга рэнесансу. У інтэр'еры над уваходам — хоры на крыжападобных у плане слупах з разнымі кранштэйнамі, агароджаны балясамі. У апсідзе 2-калонны гал. алтар са штучнага мармуру, па баках яго 2 калоны, завершаныя раскрапаваным лучковым франтонам, на якім змешчаны выявы анёлаў і аздоблены герб Сапегаў. Абапал калон — драўляныя паліхромныя выявы св. Пятра і Паўла. Над раннекласіцыстычнымі парталамі ўваходаў у


**Ружанскі Троіцкі касцёл.**


**Ружанскі Троіцкі касцёл.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.

сакрысціі — драўляныя ложы ў стылі ракако. Прэсбітэрый ад нефа аддзяляе каваная агароджа 18 ст., прывезеная з колішняга касцёла ў Юдзінавічах. Скляпенні ўпрыгожаны сюжэтнымі і дэкаратыўнымі кампазіцыямі 18 ст. на евангельскія тэмы (часткова адноўлены ў 19 і 20 стагоддзях). Па сценах капліц архіт. жывапіс 18 ст. Бакавыя алтары ў выглядзе порцікаў раннекласіцыстычнага стылю 18 ст. з каменнымі выявамі Ісуса і Марыі (канец 19 ст.). Амбон і арган упрыгожаны разным паліхромным арнаментам. Значную мастацкую каштоўнасць маюць станковы жывапіс, мемарыяльны помнік Б. Біспінгу (скульпт. І. Прукнер). Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *В. В. Калнін.*

**РУЖАНЫ**, гарадскі пасёлак у Пружанскім р-не, на р. Ружанка. За 45 км на ПнУ ад Пружан, 140 км ад Брэста. Вядомы з 1552 як мястэчка. Належалі Тышкевічам, з 1598 Сапегам, уваходзілі ў Слонімскі пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1637 мелі магдэбургскае права, герб (у сярэбраным полі кола чырвоных руж, у цэнтры якога мужчынская постаць з крыжам і лілеяй у руках). Кампазіцыйныя цэнтры мястэчка — замак і плошча — аб'ядноўваліся гал. вуліцай. У 17 ст. ў Р. больш за 400 дамоў, плітачны і цагельны з-ды, базыльянская школа; пабудаваны мураваны 2-павярховы палац, які ў 18 ст. перабудаваны (гл. *Ружанскі палацавы комплекс*). У 17—19 стагоддзях пабудаваны *Ружанскі Троіцкі касцёл, Ружанскі касцёл Казіміра, Ружанская Петрапаўлаўская царква і манастыр базыльян.* У 18 ст. працавалі паперня, суконная і палатняная мануфактуры. З 1795 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Слонімскага пав. У 1831 за ўдзел Сапегаў у паўстанні 1830—31 Р. канфіскаваны і перададзены ў казну. У 19 ст. ў Р. 2 гарбарныя з-ды, палатняная і 3 суконныя ф-кі. У 1897 у Р. 5016 жыхароў, 769 будынкаў, 5 дробных прадпрыемстваў, нар. вучылішча. У 1914 у Р. 6815 жыхароў, 26 прадпрыемстваў. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр гміны Косаўскага пав. З 1939 у БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, з 1962 у Пружанскім р-не. Сучасны пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Г. Белікаў) з захаваннем гіст. планіровачнай структуры. Рака дзеліць пасёлак на ўсх. і зах. раёны, звязаныя паміж сабой вул. Савецкай — гал. кампазіцыйнай воссю, на якой размешчаны будынкі Дома культуры, Дома піянераў і школьнікаў, універмага, вузла сувязі. Адм.-грамадскі цэнтр склаўся ў зах. раёне, на плошчы 17 Верасня (б. Гандлёвая). Ад плошчы разыходзяцца вуліцы Леніна, Чырвонаармейская, забудаваныя ў асноўным 1—2-павярховымі дамамі, па вул. Чырвонаармейскай—комплекс 5-павярховых жылых дамоў. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Вытв. зона размешчана ў паўн. і зах. частках пасёлка. Зона адпачынку — вадасховішча Паперня з прылеглымі ляснымі масівамі. Прадугледжана забудова свабодных тэр. на ПдУ і ПнУ пасёлка, пашырэнне зоны адпачынку. *Г. С. Ларкін.*

**РУЧЫЦКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 2-й пал. 18 ст. ў в. Ручыца (Вілейскі р-н) у лукавіне р. Вілія. Вядома па акварэлі 1875—77 мастака Н. Орды. Створана па фундацыі трокскага ваяводы Т. Агінскага, які атрымаў маёнтак у спадчыну ад Э. Пузынінай і жыў у ім да 1783. У 2-й пал. 19 ст. належаў В. Ржавуцкаму. Сядзіба ўключала жылы дом, царкву, 2 капліцы, парк рэгулярнай планіроўкі з геаметрычнай сеткай алей. Сядзібны дом пабудаваны ў 1765 у стылі ракако паводле праекта віленскага арх. Т. Жаброўскага (паводле інш. звестак арх. А. А. Гену, Я. Фантаны ці Русселя). Кампактны прамавугольны ў плане 1-павярховы мураваны будынак з мансардавым дахам. Цэнтр гал. фасада вылучаны 2-павярховым рызалітам, завершаным фігурным франтонам і раскрапаваным лапаткамі. На 2-м паверсе быў балкон з ажурнай каванай агароджай. Пластыку фасада ўзбагачалі бакавыя рызаліты, хвалістая абмалёўка гал. ўваходнага партала, рустоўка па вуглах, ляпныя ліштвы акон і мансардавых люкарнаў. Парадная лесвіца з прасторнага хола вяла ў высокую бальную залу з антрэсоллю для музыкантаў; над ёй знаходзілася капліца. Інтэр'еры былі дэкарыраваны габеленамі ў ракайльных фігурных панелях. Захаваліся 2 невял. ракайльныя капліцы ў парку — цэнтрычныя вежападобныя круглыя ў сячэнні мураваныя пабудовы. Над высокім цокалем узвышаецца фігурны шлемападобны купал, які падтрымліваюць вуглавыя пілоны. Архіт.-маст. выразнасць надаюць фігурныя філёнгі на гранях, пукатыя і тонкапрафіляваныя хвалістыя карнізы, высокія арачныя праёмы, слаістыя пілястры. Капліцы прызначаліся для сакральнай скульптуры.

*А. М. Кулагін.*

**РЫЛЕНКІ**, мемарыяльны комплекс на ўшанаванне памяці воінаў 31-й арміі 3-га Бел. фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне Беларусі ад ням.-фаш. захопнікаў у 1943—44. Знаходзіцца на 467-м км аўтамагістралі Масква — Брэст, за 1 км ад в. Рыленкі Дубровенскага р-на на брацкіх магілках 10 тыс. воінаў. Адкрыты 3.7.1973 (скульпт. М. Рыжанкоў, арх. М. Ткачук). Комплекс — прасторавая архіт.-скульптурная кампазіцыя з развітым сіметрычна-восевым планіровачным вырашэннем. Уваход у мемарыял утвораны 2 рознавялікімі апорнымі сценамі, якія нясуць манум. рэльефны фрыз ($3 \times 15$ м) з выявай суровых і мужных твараў сав. воінаў. На сценах бронзавымі літарамі надпіс: «Тут 10 тысяч гераічна загінуўшых савецкіх салдат. Чэрвень 1944 г.». Уздоўж дарогі, што вядзе да магіл, 4 бетонныя стэлы ($2{,}6 \times 4$ м кожная) з урэзанымі ў іх сілумінавымі рэльефамі, якія адлюстроўваюць подзвігі ўдзельнікаў гераічнай барацьбы з ням.-фаш. захопнікамі,— А. М. Васільева, Герояў Сав. Саюза Ю. В. Смірнова і Г. А. Нікандравай, лётчыкаў авіяпалка «Нармандыя — Нёман» С. М. Астахава і Б. дэ Фальтэна. Рубленыя, лапідарныя формы рэльефу, дакладная вытрымка аб'ёмаў перадаюць унутраную экспрэсію вобразаў. Брацкія магілкі вырашаны ў выглядзе прамавугольных тэрас, па перыметрах якіх устаноўлены 170 надмагільных пліт з імёнамі загінуўшых. На верхняй тэрасе стаіць пліта-



**Ручыцкая сядзіба.** З малюнка Н. Орды. 1875—77.



Партал мемарыяльнага комплексу **Рыленкі.**



Рэдкавічы. Фрагмент забудовы грамадскага цэнтра.



Рэплеўскі касцёл Марыі.

маналіт з надпісам «Подзвігі вашы неўміручыя», за ёй — маляўнічая група бяроз і елак. На пляцоўцы перад плітой — квадратная платформа, у гарэльефнай зорцы — Вечны агонь. Арганічная сувязь з навакольным ландшафтам, патрыятычны змест, эмацыянальная маст. вобразнасць мемарыяла робяць яго яркім помнікам гераізму сав. народа. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**РЭДКАВІЧЫ,** вёска ў Сароцкім сельсавеце Любанскага р-на, каля р. Арэса. За 8 км на ПдУ ад Любані, 163 км ад Мінска. У канцы 16 ст. вёска ў Навагрудскім пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1793 у складзе Расіі. Сучасныя Р. вызначаюцца дакладным функцыянальным заніраваннем тэрыторыі, кампактнасцю забудовы, добраўпарадкаванасцю. Забудоўваюцца паводле праекта планіроўкі і забудовы 1969 (БелНДІдзіпрасельбуд, арх. Г. У. Заборскі і А. Г. Заборская). Архіт.-планіровачную структуру вёскі вызначае гал. вуліца з плошчай, раскрытай на штучны вадаём. Тут склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр, сфарміраваны 2-павярховымі будынкамі Дома культуры, вакол якога разбіты парк, гандл. цэнтра, адміністрацыйным. Да плошчы прылягае сквер, дзе размешчаны дзіцячыя яслі-сад, паліклініка, стадыён і спарт. пляцоўкі. Шматкватэрная жылая забудова (групы 2—4-павярховых дамоў з унутранымі азялененымі дварамі) скanцэнтравана на гал. вуліцы, 1-павярховая індывідуальная — у паўд.-зах. частцы, вытворчая зона — на ПдЗ ад вёскі. Прадугледжана буд-ва дамоў розных тыпаў, расшырэнне зоны спорту і адпачынку. *Г. У. Заборскі.*

**РЭПЛЕЎСКІ КАСЦЁЛ МАРЫІ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Размешчаны ў в. Рэпля (Ваўкавыскі р-н). Закладзены ў 1902 з цэглы, неатынкаваны. Уяўляе сабой 2-вежавы базілікальны храм з прамавугольнай апсідай і 2 сакрысціямі. Цэнтральная частка гал. зах. фасада завершана ступеньчатым шчытом з шэрагам пінакляў. Падобны шчыт размешчаны над апсідай. Вежы 2-ярусныя, першы чацверыковы, другі — 8-гранны, завершаны шатром. У цэнтры фасада — гал. ўваход, дэкарыраваны ступеньчатым франтонам, над уваходам акно-ружа. Бакавыя фасады маюць стральчатыя аконныя праёмы, паміж імі размешчаны контрфорсы. У інтэр'еры нефы падзелены стральчатымі арачнымі праёмамі, перакрыцце — цыліндрычныя скляпенні з крыжовымі нервюрамі. Касцёл дзейнічае. *Т. І. Чарняўская.*

**РЭСПУБЛІКАНСКІ ПАЛАЦ ПІЯНЕРАЎ І ШКОЛЬНІКАЎ.** Пабудаваны ў 1937 (арх. А. П. Воінаў, У. Вараксін) у Мінску на рагу вуліц Кірава і Энгельса. Адно з першых у СССР збудаванняў падобнага прызначэння. Пры буд-ве выкарыстаны фундаменты няскончанага клуба будаўнікоў, што ў многім прадвызначыла агульнае кампазіцыйнае вырашэнне. Складаецца з 2 прылеглых адзін да аднаго аб'ёмаў — відовішчнай і гуртковаклубнай групы памяшканняў, аб'яднаных вестыбюлем. Фасады, апрацаваныя пад шэры граніт, расчлянёны пілястрамі, гал. ўваход вылучаны 6-калонным порцікам. У афармленні інтэр'ераў былі шырока выкарыстаны скульпт. барэльефы і манум. жывапіс на тэмы піянерскага жыцця. Каля палаца быў добраўпарадкаваны сад. У гады Вял. Айч. вайны будынак разбураны. Адноўлены ў крыху змененым выглядзе ў 1947—52 (арх. А. П. Воінаў, Л. Усава, В. Кулін). На базе відовішчнай групы памяшканняў створаны Бел. рэсп. тэатр юнага гледача, а ў аб'ёме з самастойным уваходам размешчаны памяшканні для навучальнай работы



Рэспубліканскі Палац піянераў і школьнікаў у Мінску.



Рэчыца. Краязнаўчы музей.

і адпачынку піянераў. У 1962 прыбудаваны новы корпус па вул. Кірава (арх. Э. Левіна), у якім размясціліся спарт. і актавая залы, памяшканні для гуртковай работы. У комплексе будынкаў шырока выкарыстаны элементы выяўленчага мастацтва (скульпт. А. Глебаў, мастакі І. Ахрэмчык, І. Давідовіч, У. Стальмашонак і інш.), у буд-ве — сінтэз выяўленчага мастацтва і архітэктуры. *А. А. Воінаў.*

**РЭЧЫЦА,** горад, цэнтр раёна, порт на Дняпры. За 50 км ад Гомеля. Вядомы з канца 12 ст. як горад Валынскага княства, быў умацаваным пунктам на зямлі дрыгавічоў. Пад 1213 упамінаецца ў Наўгародскім 1-м летапісе як горад Чарнігаўскага княства. У 13 ст. дзядзінец горада знаходзіўся на месцы гарадзішча ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі на правым беразе Дняпра (цяпер у гарадскім парку). З 14 ст. пры Гедыміне (княжыў у 1316—41) Р. ў Вял. кн. Літоўскім, у Мінскім ваяводстве. У 1392—1430 належала вял. кн. Вітаўту, які пабудаваў замак. З 1561 Р. мела магдэбургскае права. У 1-й пал. 17 ст. горад меў 3 лініі ўмацаванняў з цэнтрам — 5-вежавым *Рэчыцкім замкам,* абкружаным ро-

вам і злучаным з астатняй часткай горада пад'ёмным мостам. З 1793 у складзе Расіі, у 1796 была старострам, потым цэнтрам павета. У 1634 мінскі ваявода А. Слушка засн. у Р. манастыр дамініканцаў. У 1886 праз Р. прайшлі Палескія чыгункі (участак Лунінец — Гомель), у 1890-я гады адкрыта прыстань. У 1897 у Р. 9280 жыхароў, праводзіліся 2 кірмашы на год. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Р. былі 2 царквы — Успенская і Мікалаеўская (з 1723), касцёл, сінагога і некалькі яўрэйскіх малітоўных дамоў. У 1910 у Р. 1309 жылых пабудоў (з іх 4 мураваныя), 14 цэркваў і малітоўных дамоў. З 1919 Р. ў Гомельскай губ. РСФСР. Са снеж. 1926 у БССР, цэнтр раёна (у 1926—27 акругі). З 1938 горад абл. падпарадкавання.

Паводле першага рэгулярнага плана 1800 склалася прамавугольная сістэма планіроўкі, пазней яе дапоўніла радыяльна-кальцавая. Кампазіцыйным цэнтрам была плошча (цяпер пл. Кастрычніка). У сав. час Р. забудоўвалася паводле генпланаў 1937—39 (арх. Г. Парсаданаў), 1951 (Парсаданаў, М. Томах; ін-т «Белдзяржпраект») і 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва). Асн. кампазіцыйная вось — вул. Савецкая. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр гістарычна склаўся на пл. Кастрычніцкай, абмежаванай вуліцамі Леніна і Савецкай. Важнейшыя гарадскія магістралі — вуліцы Леніна, Вакзальная, Чапаева, Луначарскага, Сняжкова і Фрунзе. На вуліцах Савецкай і Набярэжнай захаваліся фрагменты забудовы 19 ст. Жылая зона забудавана 2—3-павярховымі і 1-павярховымі сядзібнага тыпу дамамі, капітальная 5—9-павярховая забудова сканцэнтравана ў мікрараёнах 1—6. Вытворчая зона размешчана ва ўсх., паўд.-ўсх. і паўд.-зах. частках горада. Зона адпачынку — на берагах Дняпра і Ведрычы.



**Рэчыцкі замак.** Гравюра 1649.

**РЭЧЫЦКІ ЗАМАК.** Існаваў у г. Рэчыца ў 16—1-й пал. 17 ст. Пабудаваны з дрэва на высокім пагорку правага берага Дняпра на месцы стараж. гарадзішча пл. каля 1 га. Быў абнесены валам і абведзены ровам. Умацаванне авальнага ў плане замка складалася з драўляных абарончых сцен, зробленых па тыпу гароднях з 1 ярусам бою, 5 шматгранных і квадратных у плане вежаў, накрытых невысокімі шатровымі дахамі. Уезд у замак быў з паўд.-зах. боку праз пад'ёмны мост. Разбураны ў 1649 у час вызваленчай вайны ўкр. і бел. народаў 1648—54. Вядомы паводле плана і гравюры 1649. *Ю. А. Якімовіч.*

# С

**САВЕЦКАЯ ВУЛІЦА** ў Брэсце, адна з гал. магістралей цэнтр. часткі горада. Займае важнае месца ў яго планіровачнай структуры. Бярэ пачатак з вул. Арджанікідзе, перасякае вул. Маскоўскую і выходзіць на набярэжную р. Мухавец. Даўж. 1740 м. Пачала фарміравацца ў сярэдзіне 19 ст. (наз. Мільённая, Паліцэйская, Дамброўскага). У 1915 значная частка вуліцы была спалена. Да Вял. Айч. вайны на вуліцы размяшчаліся гарадскі магістрат, магазіны, прыватныя крамы, аптэкі, цырульні, 1—2-павярховыя жылыя дамы, кінатэатр «Адрыя» (цяпер «1 Мая»). У 1951—57 вуліца рэканструявана, пабудаваны 2—3-павярховыя жылыя дамы, архітэктуру якіх узбагачаюць элементы класічнай спадчыны. У 1970-я гады пабудаваны кінатэатр «Беларусь», ансамбль 9-павярховых жылых да-



Жылыя дамы па **Савецкай вуліцы** ў Брэсце.



Савецкая вуліца ў Гомелі.

моў з прадпрыемствамі гандлю, культ.-быт. абслугоўвання ў першых паверхах. Тарцовай часткай на С. в. выходзіць гандлёвы цэнтр. Своеасаблівае архіт.-маст. аблічча вуліцы ствараюць суадносіны шырыні і профілю магістралі, вышыні забудовы і рытмічнае чаргаванне адм., культ.-быт., гандл., жылых будынкаў. Захаваліся помнікі архітэктуры канца 19 — пач. 20 ст.: б. гарадскі асабняк (гл. ў арт. *Брэсцкія гарадскія асабнякі*), б. мужчынская гімназія (цяпер навучальны корпус педінстытута), *Брэсцкая брацкая царква*. Паводле генплана 1976 вядзецца (1990) буд-ва 15-павярховай гасцініцы (на рагу з вул. Маякоўскага), прадугледжана ператварэнне вуліцы ў пешаходную. *А. М. Краўчук.*

**САВЕЦКАЯ ВУЛІЦА** ў Гомелі, кампазіцыйная вось і адна з гал. транспартных магістралей горада. Праходзіць на тэр. Цэнтральнага і Чыгуначнага р-наў. Даўж. больш за 3000 м, ад пл. Леніна на Пн да гарадской мяжы, дзе пераходзіць у аўтамагістраль Кіеў — Ленінград. Арганізацыйна ўплывае на архіт.-планіровачную структуру ўсяго горада. Важныя транспартныя магістралі, якія перасякаюць С. в. і прымыкаюць да яе, звязваюць вуліцу з усімі раёнамі горада. С. в.— адна з старэйшых вуліц Гомеля, пазначана на яго карце 1783. Пачала забудоўвацца ў канцы 18 ст. (наз. Прабойная, Румянцаўская). Пачыналася ад Саборнай (Базарнай) плошчы (цяпер пл. Леніна) і заканчвалася каля Навікоўскіх праваслаўных могілак (цяпер Універсітэцкі скверык). Разам з вул. Замкавай (цяпер *Леніна праспект*) і Фельдмаршальскай (цяпер *Пралетарская вуліца*) утварала 3-прамянёвую планіровачную сістэму. Як гал. вуліца была добра вымашчана, мела шырокія тратуары і дастатковае асвятленне. Звязвала палац (гл. ў арт. *Гомельскі палацава-паркавы ансамбль*) і Базарную пл. з іншымі раёнамі горада. У 19 — пач. 20 ст. на вуліцы ўзведзены навучальныя, адм., банкаўскія, культавыя і інш. будынкі, у т. л. *Гомельскай ланкастэрскай школы будынак, Гомельскай гарадской думы будынак, Гомельскага Руска-Азіяцкага банка будынак, Гомельскага камерцыйнага банка будынак*, Арлоўскага (злучанага) банка (цяпер розныя дзярж. ўстановы), грамадскага сходу, гасцініцы «Савой» на скрыжаванні вуліц Барона Нолькена (цяпер вул. Ланге) і Мясніцкай (цяпер вул. Камунараў), Троіцкай царквы (не захавалася) на рагу з вул. Троіцкай (цяпер вул. Сялянская), ваеннай Георгіеўскай царквы (не захавалася) на рагу з вул. Паштовай (цяпер вул. Перамогі), царквы Раства Багародзіцы (цяпер будынак Маст. фонду ва Універсітэцкім скверы), асабнякі багатых гараджан (у стылях неаготыкі, неарускім, мадэрн і інш.), помнікі архітэктуры стылю мадэрн, 2—3-павярховыя мураваныя жылыя дамы № 4, 8, 10, 12, 20, пабуда-





Савецкая вуліца ў Гомелі. Жылыя дамы № 8 (злева) і № 12.

ваныя з выкарыстаннем у вонкавым дэкар. аздабленні асобных элементаў стыляў барока, позняга класіцызму, неарускага і неаготыкі. Рэканструяваны ў 1950-я гады. Усе дамы 3-павярховыя, у першых паверхах магазіны і інш. прадпрыемствы і ўстановы, 2-і і 3-і паверхі жылыя. Сучаснае аблічча вуліцы фарміравалася пасля Вял. Айч. вайны паводле праекта аднаўлення і рэканструкцыі горада 1946. Чаргаванне адм. будынкаў, навучальных, навуковых, гандл. і інш. устаноў, жылых дамоў, помнікаў архітэктуры канца 19 — пач. 20 ст. стварала своеасаблівае архіт.-маст. асяроддзе. У 1950-я гады цэнтр. частка вуліцы забудавана 4—5-павярховымі, пераважна жылымі дамамі, у архітэктуры якіх выкарыстаны элементы класічнай спадчыны. У першых паверхах жылых дамоў размешчаны прадпрыемствы гандлю, культ.-быт. абслугоўвання і інш. Выразным горадабудаўнічым акцэнтам цэнтра з'яўляецца будынак *Гомельскага цырка.* Паўн. частка вуліцы ў 1970-я гады забудавана 5-, 9-, 12-, 14-павярховымі дамамі, якія актыўна ўдзельнічаюць у фарміраванні сілуэта магістралі. Асаблівае архіт.-маст. значэнне маюць будынкі вылічальнага цэнтра, гал. корпуса і новага корпуса фізічнага факультэта універсітэта, комплексу 12-павярховых інтэрнатаў. Да вуліцы прымыкаюць тэр. Універсітэцкага скверыка і Піянерскага парку. Паводле праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра горада 1980 («Гомельграмадзянпраект») прадугледжана далейшая забудова вуліцы ў паўн. напрамку.



Савецкая вуліца ў Гродне.

**САВЕЦКАЯ ВУЛІЦА** ў Гродне, адна з гал. вуліц цэнтр. часткі горада. Пачала фарміравацца пасля 1496 г. з пераносам Гандлёвай пл. ў раён сучаснай Савецкай пл. Мела назвы: Віленская, Саборная, Дамініканская. На пачатку звязвала рынак з Віленскім гасцінцам і да канца 18 ст. была гандл. шляхам. У 16 ст. была забудавана драўлянымі і фахверкавымі дамамі, мураваныя былі толькі касцёл Св. Духа і т. зв. «гарадская карчма — гасціны двор» (цяпер адпаведна дамы № 14 і 1). У 1737 пабудаваны мураваныя касцёл (разабраны ў 1874) і кляштар дамініканцаў (цяпер дом № 6). Пасля пажараў 1665, 1753 і 1872 адпаведна пастанове гарадскіх улад і праекту рэканструкцыі горада 1874 на вуліцы ўзводзіліся толькі мураваныя 2—3-павярховыя дамы. З пабудовай у 1884 *Гродзенскага акруговага суда будынка* правы бок вуліцы прыняў выгляд суцэльнай забудовы. Сучасны выгляд вуліца пачала набываць пасля пажару 1885, у час якога былі знішчаны амаль усе, у т. л. мураваныя, дамы. Да правядзення ў 1862 чыгункі Пецярбург — Варшава дахі дамоў крылі дахоўкай або гонтам, пасля — у асноўным бляхай. Да пач. 20 ст. вуліца была забрукавана «дзікім каменем», які ў 1920-я гады заменены пліткамі з брэкчыі. У 1876 праведзены водаправод і каналізацыя, зроблены т. зв. «ліўнеўкі». Асвятлялася вуліца да пач. 20 ст. газавымі ліхтарамі, пазней — электрычнымі. З канца 18 ст. большасць, а ў канцы 19 — пач. 20 ст. амаль усе дамы належалі яўрэйскай абшчыне. Да пач. 20 ст. на вуліцы знаходзіліся кнігарні, гасцініцы, друкарні, аптэка, страхавое агенцтва, акруговы суд і інш. У час Вял. Айч. вайны вуліца часткова разбурана, аднаўлена пасля вайны. У 1960—70-я гады вуліца страціла вял. колькасць дамоў і дваровых флігеляў, некаторыя фасады былі непазнавальна зменены. У 1950—70-я гады пабудаваны Дом саюзаў (абл. савет і шэраг абкомаў прафсаюзаў), універмаг, магазін «Дзіцячы свет», кінатэатр «Гродна» і інш. У 1989 з мэтай захавання гіст. забудовы вуліца пераўтворана ў пешаходную. Абласное малое прадпрыемства «Гроднапраектрэстаўрацыя» рыхтуе (1990) праект рэгенерацыі і рэстаўрацыі вуліцы (аўтары С. Л. Шэйко, Ю. В. Мацко, О. В. Мацко, І. М. Казлоўскі, В. І. Краўчанка, А. С. Пархута, У. А. Лытаў). Захаваліся помнікі архітэктуры 18 ст.— *Гродзенскі кляштар дамініканцаў* і дом № 1 (2-павярховы вуглавы П-падобны ў плане будынак пад 2-схільным дахам, пабудаваны ў стылі эклектыкі з элементамі барока; раней у ім размяшчаліся банк, аптэка, дробныя канторы, жылыя кватэры; цяпер на 1-м паверсе магазін «Цацка», 2-і паверх жылы). Сярод помнікаў архітэктуры 19 — пач. 20 ст. вылучаюцца дамы № 3, 5, 7, 10, 12, 15, 17, 19, 20, 21, 23. Дом № 3 пабудаваны паміж 1885 і 1910 як 2-павярховы дом з падвалам і мезанінам, у 1914 прыбудаваны 2-павярховы флігель. Перабудоўваўся паміж 1924 і 1933. Цяпер — 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак пад 2-схільным дахам; эклектычная пабудова спалучае аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю класіцызму і дэкар. элементы барока. Раней тут размяшчаліся крамы, пякарня, садавінны склеп, 12 кватэр; цяпер жылы дом. Дом № 5 пабудаваны ў 1848, у 1886 прыбудаваны мураваны 2-павярховы свіран і хлеў, якія ў 1910 перароблены ў флігелі. С-падобны ў плане будынак пад 2-схільным дахам, пабудаваны ў стылі эклектыкі. Раней тут былі размешчаны майстэрні, магазіны, 14 кватэр; цяпер на 1-м паверсе прадпрыемствы грамадскага харчавання, 2-і паверх жылы; у праездзе дома — грыль-бар. Дом № 7 пабудаваны ў 1823. 2-павярховы, мураваны, з 2 скляпамі і 2 крамамі. Паміж 1886 і 1899 да яго прыбудаваны 2-павярховы флігель, цяпер 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак пад 2-схільным дахам, пабудаваны ў стылі эклектыкі. Раней у ім размяшчаліся друкарня,

аптэка, магазіны, майстэрні, жылыя кватэры; зараз на 1-м паверсе магазін, 2-і паверх жылы. Дом № 13 пабудаваны ў 1831, 3-і паверх зроблены як мансардавы, меў вальмавы дах з залобкам. Паміж 1886 і 1910 прыбудаваны 3-павярховы флігель, над якім у пач. 1960-х гадоў надбудаваны 4-ы паверх. Г-падобны ў плане будынак пад 2-схільным дахам, прыклад эклектычнай архітэктуры з перавагай элементаў класіцызму. Раней тут размяшчаліся 4 майстэрні, мэблевы магазін, цяпер жылы дом. Дом № 15 пабудаваны паміж 1875 і 1885, 2-павярховы мураваны з 2-павярховым флігелем. Пасля пажару 1885 перабудаваны ў 3-павярховы з трыма крамамі і склепам; у 1910 прыбудаваны другі 2-павярховы флігель, у 1960-я гады першы флігель знесены. Раней тут размяшчаліся 6 магазінаў, 3 майстэрні. Цяпер 3-павярховы Г-падобны ў плане будынак з невысокім 2-схільным дахам. Кампазіцыя гал. фасада сіметрычная, ярусная. Прыклад эклектычнай архітэктуры з перавагай элементаў класіцызму. Дом № 17 пабудаваны ў 1811, да 1903 прыбудаваны два 2-павярховыя флігелі. Адзін з першых мураваных дамоў на вуліцы. У ім размяшчаліся 2 крамы, друкарня, у 1900—39— гасцініца «Расія». Цяпер 2-павярховы Г-падобны ў плане будынак, накрыты невысокім аднасхільным дахам, у цэнтр. частцы праезд у двор. Кампазіцыя гал. фасада сіметрычная, ярусная; пабудова і аздабленне маюць выразныя рысы класіцызму. Дом № 19 пабудаваны ў 1848, пазней прыбудаваны балкон на фасадзе, у 1875 прыбудаваны да дома мураваны хлеў перароблены ў флігель. Просты ў плане будынак пад 2-схільным дахам, фасад аздоблены ў стылі эклектыкі з перавагай элементаў класіцызму. У 1880-я гады тут размяшчаўся Дваранскі дэпутацкі сход, банкірская і натарыяльная канторы, гасцініца. Дом № 21 пабудаваны паміж 1848 і 1866, меў 4-схільны дах, мураваны гал. фасад. У 1875 прыбудавана 2-павярховая крама. Пасля пажару 1885 застаўся 1-павярховы дом з 3 крамамі і склепам, мансардавым паверхам. Раней тут размяшчаліся 5 магазінаў, 3 майстэрні, рэйнскі склеп. Цяпер непазнавальна перароблены пад магазін. Дом № 23 пабудаваны паміж 1835 і 1862, 2-павярховы, з 2-павярховым флігелем, у 1873—75 перабудаваны; з 1875—2-павярховы, з 1886—2-павярховы з мезанінам, з 1910—3-павярховы. У ім размяшчаліся 4 крамы і рэйнскі склеп, магазіны, з 1901 знаходзілася гасцініца «Маскоўская», павялічаная ў памерах да 1910, з 1924—атэль «Польскі», 2 рэстараны. Цяпер 3-павярховы прамавугольны ў плане будынак; кампазіцыя гал. фасада сіметрычная, уваход у яго правай частцы заменены на калонны праём; пабудаваны ў стылі эклектыкі з элементамі мадэрна. Дом № 10 пабудаваны ў 1795, у 1873 уздоўж вуліцы да манастыра Св. Духа прыбудаваны 2-павярховы флігель, дом з флігелем меў выгляд адзінага цэлага — 2-павярховага дома. Тут размяшчаліся 9 кватэр, 8 крам, пякарня, у пач. 20 ст.— рэстаран. У 1970-я гады непазнавальна перароблены ў 3-павярховы будынак для гарадскога Савета народных дэпутатаў і страціў усё былое аздабленне. Дом № 12 пабудаваны ў 1910 як 3-павярховы з падвалам. Г-падобны ў плане будынак з сіметрычнай кампазіцыяй гал. фасада. Раней у ім размяшчаліся магазін і 3 майстэрні. У наш час страціў б. цагляны дэкор, атынкаваны, зменены вокны, не захавалася агароджа на даху. Дом № 20 пабудаваны ў 1900 як 2-павярховы з флігелем; у 1901 адкрыты гасцініца «Камерцыйная» і рэстаран, у 1912 дабудаваны 3-і паверх, колькасць нумароў гасцініцы павялічана з 13 да 24, у 1920-я гады гасцініца пераўтворана ў атэль «Еўропа». Дом пабудаваны ў т. зв. «цагляным стылі», які страчаны ў наш час (атынкаваны).

*А. М. Ткачоў.*

**САВІЦКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у 19 — пач. 20 ст. ў в. Савічы (Капыльскі р-н). Пабудаваны да 1826 у стылі ампір. Мураваны прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак з рызалітам у цэнтры завяршаўся вальмавым дахам, рызаліт — 2-схільным. Сцены падзяляліся карнізным поясам на 2 ярусы, вокны прамавугольныя. Асн. мастацкі акцэнт сканцэнтраваны на рызаліце. Яго 1-ы паверх апрацаваны рустам і расчлянёны 3 арачнымі праёмамі, меў выгляд галерэі перад гал. уваходам. 2-і паверх рызаліта быў вырашаны як лоджыя з 3 арачнымі праёмамі, пілястрамі, балюстрадай агароджы і завяршаўся невысокім мезанінам з вузкімі прамавугольнымі вокнамі, антаблементам, трохвугольным франтонам. Планіроўка анфіладная: прыхожая, парадная зала, шэраг жылых пакояў, кабінетаў, гардэробаў, капліца. Палац стаяў у старым парку, закладзеным у канцы 16 ст. Не збярогся. Адлюстраваны на малюнку Н. Орды 1860-х гадоў.

*Ю. А. Якімовіч.*



**Савіцкі палац.** З малюнка Н. Орды. 1860-я гады.

**САКАЛОЎКАЎСКАЯ ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ,** помнік архітэктуры 19 ст. Пабудавана ў 1851 на Маскоўска-Варшаўскай шашы (цяпер аўтадарога Масква — Івацэвічы) каля в. Сакалоўка (Чэрыкаўскі р-н) па ўзорным праекце станцыйных дамоў 3-га разраду 1846. Прамавугольны ў плане будынак з вальмавым дахам, крытым шыферам. Сцены цагляныя, атынкаваныя. Гал. фасад арыентаваны на дарогу. У 20 ст. значна перабудавана, што сказіла яе першапачатковы выгляд. Захаваліся стральчатае завяршэнне гал. ўвахода, замураванага іператворанага ў нішу, характэрнае аздабленне вуглоў будынка лапаткамі з стральчатым завяршэннем, літыя кранштэйны. Помнік рэспубліканскага значэння.

**САЛІГОРСК,** горад, цэнтр Салігорскага р-на, на зах. беразе Салігорскага вадасховішча. За 133 км ад Мінска. Узнік у 1958 як пас. Новастаробінск на месцы в. Вішнёўка Старобінскага р-на ў сувязі з распрацоўкай пакладаў калійных солей і буд-вам калійнага камбіната, які стаў вытв. аб'яднаннем «Беларуськалій» — цэнтрам горназдабыўной прам-сці БССР. 8.8.1959 перайменаваны ў р. п. Салігорск. У 1962 злучаны чыгункай са Слуцкам. З снежня 1962 да студзеня 1965 у Любанскім р-не. З 1963 горад абл. падпарадкавання. З 1965 цэнтр Салігорскага р-на. 38,3 тыс. жыхароў у 1970, 56,6 тыс.— у 1977, 82 тыс.— у 1984, 96,4 тыс. жыхароў у 1990. Тэр. горада размешчана на раўніне, абмежаванай з Пд вадасховішчам, з З буйным лясным масівам, з Пн пакладамі калійных солей. Склалася рэгулярная планіровачная структура з прамавугольнай сеткай вуліц. Першы генплан распрацаваны ў 1958 («Белдзяржпраект», карэкціроўка 1963, арх. Г. Парсаданаў, А. Сідзельнікаў). Забудоўваецца паводле генплана 1971 («Белдзяржпраект», арх. І. Сянкевіч, Сідзельнікаў). Горад складаецца з 3 жылых раёнаў — паўночнага, паўднёвага і паўн.-заходняга. Паўн.

частка горада — самая старая, забудаваная ў канцы 1950-х гадоў 2—3-павярховымі і 1-павярховымі сядзібнага тыпу дамамі. Паўд. жылы раён — зона шматпавярховай забудовы (мікрараёны № 1—5, 8, 9 з 5-, 9-, 13-, 15-павярховымі будынкамі) з агульнагарадскім адм.-грамадскім і культ. цэнтрам, які забудоўваецца паводле праекта дэталёвай планіроўкі паўд. жылога раёна С. 1964 («Белдзяржпраект», арх. Ю. Патапаў, Сідзельнікаў, В. Жаўняк), праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1972 (Мінскі абл. філіял ін-та «Белдзяржпраект», арх. В. Сахно, Сідзельнікаў, Ф. Іванчанка, Б. Кудраватых, А. Юркеўская, П. Ткачык, І. Гайдар). Гал. вуліцы — Леніна (вырашана ў выглядзе шырокай транспартна-пешаходнай эспланады, звязвае цэнтр з гарадскім паркам культуры і адпачынку імя 40-годдзя Перамогі на беразе вадасховішча, размешчаны будынкі кінатэатра «Зорка Венера», Палаца піянераў і школьнікаў, Дома быту, гандл. цэнтра, у складзе якога універмаг, магазін, рэстаран, кафэ) і Казлова (будынкі горнахімічнага тэхнікума, аптэкі, банка). На іх скрыжаванні ўтворана пл. Леніна, сфарміраваная будынкамі, створанымі па індывідуальных праектах — Дома Саветаў, Палаца культуры вытв. аб'яднання «Беларуськалій», гасцініцы «Новае Палессе»; з З да плошчы прымыкае сквер. Гал. кампазіцыйны акцэнт у ансамблі забудовы цэнтра — 16-павярховы адм.-лабараторны корпус аб'яднання «Беларуськалій» (гл. *Салігорскага грамадскага цэнтра комплекс).* На Прывакзальнай пл. ўзведзены *Салігорскі аўтачыгуначны вакзал.* Набярэжная адна з самых працяглых у горадзе. Паўн.-зах. жылы раён уключае мікрараёны № 12—14, забудаваныя 6-, 9-, 12-павярховымі дамамі. Выразнае аб'ёмна-прасторавае вырашэнне атрымаў паўд. бок 12-га мікрараёна па вул. Заслонава, дзе ўзведзены дамы-трылісні-кі. Архіт.-планіровачная структура горада вызначаецца дакладным функцыянальным заніраваннем тэрыторыі, кампактнасцю забудовы, павышанай сярэдняй павярховасцю будынкаў (15—80 % жылога фонду складаюць 9-павярховыя, прадугледжана далейшае буд-ва 12—15-павярховых дамоў), што абумоўлена абмежаванай сялібнай плошчай горада, абкружанага непрыдатнымі для буд-ва тэрыторыямі. Асн. архіт. дасягненні ансамбля цэнтра — кампазіцыйная, функцыянальная і структурная сувязь з прылеглымі мікрараёнамі, эфектыўнае раскрыццё эспланады цэнтра да ляснога і воднага масіваў, кантрастнае спалучэнне фонавай разгорткі фасадаў аднаго боку эспланады з напружанай, дынамічнай забудовай процілеглага боку. Асн. структурная адзінка — мікрараён з комплексам культ.-быт. і школьных устаноў, сістэмай азелянення. Выкарыстанне будынкаў разнастайных па працягласці, форме, канфігурацыі ў плане (ступеньчатыя дамы, 12-павярховыя дамы-трылісніківі інш.), стварэнне кампазіцыйных акцэнтаў у выглядзе вышынных дамінантаў ва ўмовах раўніннага рэльефу, архіт.-маст. афармленне фасадаў фарміруе выразны сілуэт забудовы. Вытворчая зона размешчана на Пн і У ад жылой забудовы. Зона адпачынку — на берагах вадасховішча. Паводле генплана горада 1988 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Жаўняк, І. Далматовіч, інж. Л. Васільева, Ф. Глік, Ю. Цітавец) прадугледжана далейшае развіццё горада на З, расшырэнне грамадскага цэнтра, зоны спорту і адпачынку, фарміраванне кампазіцыйнай забудовы асн. уездаў у горад, паўн. жылога раёна. *С. Ф. Самбук.*

**САЛІГОРСКАГА ГРАМАДСКАГА ЦЭНТРА КОМПЛЕКС.** Забудоўваецца паводле праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1972 (ін-т «Мінскграмадзянпраект», арх. В. Сахно, А. Сідзельнікаў, Ф. Іванчанка, Б. Кудраватых, А. Юркеўская, П. Ткачык, І. Гайдар). Лінейная кампазіцыя цэнтра ўключае пл. Леніна і гал. гарадскую магістраль — вул. Леніна, якая выходзіць да парку 40-годдзя Перамогі на беразе вадасховішча. У межах цэнтра вылучаны функцыянальныя зоны — адм.-грамадская, культ.-асветная, гандлёвая, спарт. і адпачынку. Ансамбль забудовы цэнтра вырашаны як цэласная прасторавая кампазіцыя, звязаная з прылеглымі жылымі мікрараёнамі гарадскім бульварам і прыбярэжным паркам. Ядро кампазіцыі — пл. Леніна, утвораная на перакрыжаванні асн. кампазіцыйных восей — вуліц Леніна і Казлова. Плошчу фарміруюць 16-павярховы аб'ём адм.-лабараторнага корпуса вытв. аб'яднання «Беларуськалій», Дом Саветаў, Палац культуры вытв. аб'яднання, Дом сувязі, гасцініца. На плошчы ўстаноўлены помнік У. І. Леніну (скульптар А. Бембель, арх. А. Сідзельнікаў, У. Блахін). Вул. Леніна ўяўляе сабой шырокую транспартна-пешаходную эспланаду, уздоўж якой размешчаны гандл. цэнтр (універмаг, гастраном, рэстаран, кафэ), кінатэатр «Зорка Венера», Дом быту, а таксама комплекс дзіцячых пазашкольных і інш. устаноў (Палац піянераў і школьнікаў, музычная школа і інш.), згрупаваныя ў буйныя блокі, якія чаргуюцца з 14-павярховымі жылымі дамамі. На процілеглым баку вуліцы размешчаны падоўжны 9-павярховы дом з установамі сацкультбыту на 1-м паверсе.
*С. Ф. Самбук.*

**САЛІГОРСКІ АЎТАЧЫГУНАЧНЫ ВАКЗАЛ.** Пабудаваны ў 1987 (ін-т «Мінскграмадзянпраект», арх. А. Цэйтлін, М. Сакалоў) на Прывакзальнай плошчы г. Салігорска. Замыкае перспектыву бульвара па вул. Ленінскага камсамола. Адносіцца да вакзальных будынкаў 1-га класа, разлічаны на 700—1500 пасажыраў. Прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак. Складаецца з 2 зблакіраваных арганічна ўзаемазвязаных аб'ёмаў з інфармацыйнай



**Салігорскага грамадскага цэнтра комплекс.** Забудова па вуліцы Леніна.



Салігорскі аўтачыгуначны вакзал.

вежай над імі — дамінантай кампазіцыі, якая надае будынку архіт. выразнасць. У архіт.-планіровачных адносінах вырашаны як адзіны комплекс з функцыянальным размяшчэннем зон абслугоўвання пасажыраў аўтобуснага і чыг. транспарту на 1-м паверсе. Памяшканні для абслугоўвання пасажыраў агульныя для ўсяго комплексу (экспрэс-кафэ, медпункт, буфет, парыкмахерская, пакой маці і дзіцяці, аддзяленне сувязі, міліцыя, прасторныя касавыя вестыбюлі). На 2-м паверсе размешчаны экспрэс-кафэ, залы чакання, у паўпадвальным памяшканні — аўтаматычныя камеры для захоўвання багажу. Для аддзелкі памяшканняў выкарыстаны дэкар. тынкоўка, абліцоўка керамічнай пліткай і інш. Звонку будынак абліцаваны пілаваным і колатым вапняком. *С. Ф. Самбук.*

**САЛТАНАЎСКАЯ МЕМАРЫЯЛЬНАЯ КАПЛІЦА,** помнік архітэктуры неакласіцызму. Пабудавана ў 1912 (арх. К. Міхайлаў, скульпт. П. Яцына) у гонар 100-годдзя перамогі рус. войск у Айч. вайне 1812. Цаглянае квадратнае ў плане збудаванне мае цэнтрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, завершаную высокім шатром. Нізкі цокаль выступае за плоскасць сцен. Пластыку фасадаў узбагачаюць паўкалоны тасканскага ордэра, антабламенты з 3-вугольнымі франтонамі. Вузкія крыжападобныя вокны размешчаны ў паўцыркульных нішах. *А. А. Міцянін.*

**САПОЦКІНСКІ ЛЯМУС.** Існаваў у 18—19 стагоддзях у сядзібе непадалёку ад г. п. Сапоцкіна (Гродзенскі р-н). Драўлянае квадратнае ў плане 3-яруснае гасп. збудаванне, 1-ы і 2-і ярусы мелі аднолькавыя памеры ў плане, аформлены па перыметры галерэяй (у 1-м ярусе на масіўных мураваных, у 2-м — на драўляных слупах, з балюстрадай). 2-і ярус завяршаў гонтавы 4-схільны ўсечаны дах, над ім знаходзіўся 3-і ярус меншых памераў, накрыты гонтавым шатром з металічным флюгерам-флажком. Сцены былі прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, уваходы ў памяшканні мелі галерэі, паверхі злучаліся вонкавай лесвіцай. *Ю. А. Якімовіч.*



Сапоцкінскі лямус.



Салтанаўская мемарыяльная капліца.

**САПОЦКІНСКІЯ КАПЛІЦЫ,** помнік архітэктуры рэтраспектыўнай готыкі. Пабудаваны ў г. п. Сапоцкіна (Гродзенскі р-н) з цэглы як фамільныя пахавальні ў 1868 і 1893. К а п л і ц а 1 8 6 8 — кампактнае прамавугольнае ў плане збудаванне з высокім 2-схільным дахам. Шчыт гал. фасада завершаны 4-граннай сігнатуркай. Уваход і ніша над ім, бакавыя аконныя праёмы стральчатай формы. Сцены атынкаваныя з украпінамі дробнага друзу, на шэрым фоне якога вылучаюцца пабеленыя вертыкальныя і гарызантальныя цягі, ліштвы праёмаў. Унутры перакрыта плоскай столлю на падугах. К а п л і ц а 1 8 9 3 прамавугольная ў плане, пад 2-схільным дахам. Гал. фасад завершаны трапецападобным шчытом з 3 вуглавымі 8-граннымі шатровымі сігнатуркамі і крапаваны слаістымі арачнымі нішамі. Стральчаты праём гал. ўвахода фланкіраваны арачнымі эдыкуламі. Бакавыя фасады расчлянёныя 4 стральчатымі аконнымі праёмамі. Унутры капліца перакрыта плоскай драўлянай столлю на падугах. Алтарная сцяна ў інтэр'еры дэкарыравана плоскім 4-пілястравым порцікам з 3-вугольным франтонам. *А. М. Кулагін.*

**САРАЧЫ,** вёска ў Любанскім р-не, каля р. Арэса. Цэнтр сельсавета і калгаса «Чырвоная змена». За 2 км на ПдУ ад Любані, 153 км ад Мінска. Сучасная вёска вызнача-



Сапоцкінскія капліцы.



**Сарачы.** Цэнтральная плошча.

ецца дакладным функцыянальным заніраваннем тэрыторыі, арыгінальнасцю кампазіцыйнага вырашэння і кампактнасцю забудовы, высокім узроўнем добраўпарадкаванасці. Забудоўваецца паводле праекта планіроўкі 1969 (Белдзіпрасельбуд, арх. Г. У. Заборскі і інш.). На скрыжаванні 2 гал. уездаў у вёску (з боку Любані і з боку астатніх вёсак калгаса) размешчана цэнтр. плошча — адм.-грамадскі і культ. цэнтр. Кампазіцыйны акцэнт плошчы — 2-павярховы Палац культуры і спорту (1980, арх. Заборскі). Плошчу фарміруюць таксама 3-павярховы адм. будынак, гандл. цэнтр, 2—4-павярховыя жылыя дамы секцыйнага тыпу. Пабудаваны школа па індывідуальным праекце, дзіцячы сад з плавальным басейнам. Удалае размяшчэнне будынкаў, спалучэнне белага, залацістага і чырвонага колераў у іх афарбоўцы ствараюць выразны сілуэт забудовы цэнтра. Упрыгожваюць плошчу малыя архіт. формы, кветнікі, газоны, вадаёмы, дэкар. дрэвы і кусты. Жылая зона забудоўваецца 2—4-павярховымі секцыйнымі дамамі (непадалёку ад кожнага дома размешчаны прыкватэрныя ўчасткі з гасп. пабудовамі), а таксама дамамі сядзібнага тыпу. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова. Вытв. зона ў паўн. частцы вёскі. Зона адпачынку — р. Арэса, добраўпарадкаваны парк са спарт. пляцоўкамі, які злучае цэнтр. плошчу з берагам Арэсы. Прадугледжваецца буд-ва дамоў розных тыпаў. *Г. У. Заборскі.*

**САР'ЕЎСКІ КАСЦЁЛ**, помнік архітэктуры несапраўднай готыкі. Пабудаваны Ігнатам Лапацінскім у 1852—57 паводле праекта арх. Г. Шахта ў в. Сар'я (Верхнядзвінскі р-н). Цагляны, 1-нефавы, прамавугольны ў плане, з 5-граннай апсідай і 2 невял. сакрысціямі. Кампазіцыя гал. фасада ступеньчатая, трохчасткавая. Цэнтр. частку вылучаюць партал, завершаны вімпергам з разеткай у цэнтры, і 5-гранныя контрфорсы з пінаклямі. Аналагічныя пінаклі і на вуглавых контрфорсах. Пластыку бакавых фасадаў узбагачаюць двухчасткавыя лапаткі, аркатурныя паясы і скразная востразубчастая аркада. Стральчатыя аконныя праёмы аздоблены архівольтамі. Унутры асн. памяшканне перакрыта крыжовымі скляпеннямі, якія аформлены ляпнымі нервюрамі. 2 калоны падтрымліваюць хоры з арачнай балюстрадай. У 1865 канфіскаваны «за великолепие». У савецкі перыяд перароблены пад 4-павярховае складское памяшканне для мінеральных угнаенняў, з 1970 будынак не выкарыстоўваўся, у 1989 аддадзены веруючым


Сар'еўскі касцёл.

(патрэбны рамонт). Помнік рэспубліканскага значэння.

**СВАРОТВЕНСКАЯ СЯДЗІБА**. Існавала ў 19 — пач. 20 ст. ў в. Малая Сваротва (Баранавіцкі р-н). Пабудавана ў пач. 19 ст. Ансамбль уключаў палац, флігель, гасп. пабудовы, парк мяшанай (з элементамі пейзажнай і рэгулярнай) планіроўкі з каналамі, масткамі, альтанкамі, аранжарэяй і інш. Цэнтр. кампазіцыя ансамбля — мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане палац, вырашаны ў стылі ампір. Кампактны будынак быў накрыты вальмавым дахам, над якім узвышаўся прамавугольны ў плане бельведэр. Сцены 1-га паверха былі аздоблены рустам, цэнтр. частку гал. фасада вылучаў неглыбокі рызаліт з параднай лесвіцай і парталам увахода, завершаным плоскім сандрыкам. Справа ад палаца размяшчаўся мураваны 2-павярховы прамавугольны ў плане флігель пад вальмавым дахам. Аранжарэя — мураванае 1-павярховае прамавугольнае ў плане збудаванне ў стылі ампір. Сядзіба не збераглася, адлюстравана на малюнку Н. Орды 1876.

*Ю. А. Якімовіч.*

**СВЕТЛАГОРСК**, горад, цэнтр раёна, прыстань на р. Бярэзіна. За 110 км ад Гомеля. Вядомы з 16 ст. як в. Шацілкавічы (пазней — Ш а ц і л к і) у Рэчыцкім пав. Вял. кн. Літоўскага. У 1639 было 19 двароў. З 1793 у складзе Расіі, вёска ў Парыцкай воласці Бабруйскага пав. З ліп. 1924 мястэчка Шацілкі, цэнтр сельсавета (да 1960) Парыцкага р-на Бабруйскай акругі (1924—30), з 1938 у Палескай вобл. З вер. 1944 у Бабруйскай, з 1954 у Гомельскай абласцях. З 30.12.1956 гарадскі пасёлак, з чэрв. 1960 цэнтр Парыцкага р-на. З 1961 горад раён-


Сваротвенская сядзіба. З малюнка Н. Орды. 1876.


Светлагорск. Грамадска-гандлёвы цэнтр 3-га мікрараёна.

нага падпарадкавання, 29.7.1961 перайменаваны ў Светлагорск (Парыцкі р-н — у Светлагорскі). З 1963 С. горад абл. падпарадкавання. Развіццю пасёлка садзейнічала буд-ва (з 1954) на правым беразе Бярэзіны Васілевіцкай ДРЭС.

Забудоўваецца паводле генплана 1961 (ін-т «Белдзяржпраект», арх. В. Анікін, Г. Булдаў; карэкціроўка 1976 БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Булдаў, А. Акенцьеў, Анікін). Вулічная сетка прамавугольная. Лясныя масівы, аўтамагістралі і чыгунка падзяляюць С. на 3 планіровачныя раёны: паўночны і паўднёвы (са шматпавярховай забудовай), заходні (забудова сядзібнага тыпу). Адм.-грамадскі і культ. цэнтр фарміруецца ў паўн. раёне, на стыку яго з паўд. раёнам і паркавай зонай, на скрыжаванні вуліц Леніна (забудавана 2—3-павярховымі дамамі) і 50-годдзя Кастрычніка (вырашана ў выглядзе шырокага бульвара з 5—9-павярховай забудовай) і на ўтворанай тут Цэнтральнай пл. (16-павярховы жылы дом — гал. вышынная дамінанта ў кампазіцыі цэнтра). Жылая зона забудавана ў асноўным 5—9-павярховымі дамамі, створаны 3 мікрараёны, на З ад грамадскага цэнтра ў паўн. раёне ўзводзіцца 4-ы мікрараён. Рознапавярховыя вышынныя кампазіцыі, архіт.-маст. афармленне фасадаў фарміруюць аб'ёмна-прасторавы сілуэт забудовы. Прамысл. вузел сфарміраваўся ва ўсх. частцы горада. Зона адпачынку — на берагах Бярэзіны.
*Г. С. Ларкін.*

**СВІР**, гарадскі пасёлак у Мядзельскім р-не, на паўн.-зах. беразе воз. Свір. За 45 км на З ад Мядзела, 180 км ад Мінска. Паводле падання, заснаваны літ. кн. Доўмантам (13 ст.) на месцы капішча Перуна. У Вял. кн. Літоўскім мястэчка Ашмянскага пав., належала Свірскім, Радзівілам. Свірскія пабудавалі тут замак, пазней — палац, у 1452 — драўляны касцёл, на месцы якога ў 1653 пастаўлены мураваны (не захаваўся). З 1795 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Завілейскага, потым Свянцянскага пав. У канцы 19 ст. ў С. 1122 жыхары (1897), каля 20 крам, вадзяны млын, праводзілася 10 кірмашоў на год. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, з 1939 у БССР, з 1940 цэнтр раёна, з 1958 гарадскі пасёлак, з 1959 у Мядзельскім р-не. Генпланы С. распрацаваны ў 1977 (БелНДІдзіпрасельбуд) і 1982 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. Р. Арцемчык, Л. Пілатовіч, інж. А. Яромін, Г. Хоміч). Тэр. пасёлка выцягнута ўздоўж берага возера, што абумовіла яго лінейную планіровачную структуру з невял. кварталамі, пераважна 1-павярховай індывідуальнай забудовы сядзібнага тыпу. Рака Свіранка, якая выцякае з возера, дзеліць пасёлак на 2 часткі. У паўн.-зах. частцы размешчаны зоны індывідуальнай жылой забудовы сядзібнага тыпу і вытворчая. Паўд.-ўсх. частка пасёлка — асн. жылы масіў з адм.-грамадскім і культ. цэнтрам, які склаўся на скрыжаванні вуліц Савецкай (размешчаны Дом культуры, будынкі універмага, магазінаў, паліклінікі) і Гурыновіча (адм. будынкі пасялковага Савета нар. дэпутатаў і дырэкцыі саўгаса «Свір», Дом сувязі, сярэдняя школа, дзіцячыя яслі-сад). Тут сканцэнтравана таксама і 2—3-павярховая жылая забудова. На вул. Савецкай утворана пл. 17 Верасня са скверам. Зона адпачынку — воз. Свір. З помнікаў архітэктуры 19—20 стагоддзяў зберагліся драўляная царква, *Свірскі Мікалаеўскі касцёл*, сядзіба на З ад пасёлка (цяпер тут размешчаны санаторый «Свір»).
*С. Ф. Самбук.*

**СВІРСКІ МІКАЛАЕЎСКІ КАСЦЁЛ**, помнік эклектычнай архітэктуры з перавагай элементаў неабарока. Пабудаваны ў 1908 з цэглы ў г. п. Свір (Мядзельскі р-н) на месцы храма (1653). Абнесены бутавай агароджай з убудаванымі ў яе капліцамі, абсаджаны радамі ліп і клёнаў. Дамінуе над прылеглай малапавярховай забудовай. Касцёл — 6-слуповая 3-нефавая базіліка. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дамінуюць прыбудаваныя да тарцоў трансепта вежа-званіца і капліца з ліхтаром. Гал. фасад 2-ярусны, раскрапаваны пілястрамі, прафіляванымі карнізамі з пінаклямі па баках. У завяршэнні фасада шчыт з бакавымі валютамі і 3-вугольным франтонам. Шчытавое завяршэнне і над алтарным кубападобным аб'ёмам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны буйнымі пілястрамі і паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. У архіт. дэкоры выкарыстаны стылізаваныя барочныя элементы (валюты, ліштвы паўцыркульных аконных праёмаў, пуцці), матывы архіт. архаікі (пінаклі), ордэрныя формы класікі (карынфскія калоны, кесоны, трыгліфы). Сцены інтэр'ера дэкарыраваны карнізамі, фрэскавай размалёўкай, лепкай, разеткамі. Унутраная прастора перакрыта крыжовымі скляпеннямі. Купал над сяродкрыжжам апіраецца на цэнтр. слупы з дапамогай ветразяў. Алтарнае памяшканне адкрыта ў цэнтр. неф шырокай аркай з арнаментаваным імпастам. Цэнтр. неф асветлены паўкруглымі люкарнамі. Над уваходам размешчаны хоры, пад алтаром — крыпта. У чэрвені 1990 аддадзена веруючым. Помнік рэспубліканскага значэння.
*А. М. Кулагін.*



Свірскі Мікалаеўскі касцёл.

**СВІСЛАЦКАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНКІ**, архітэктурны комплекс 19—20 стагоддзяў. Уключаў гал. корпус, 2 флігелі, гасп. пабудовы — стайню і склады. Гімназія ў г. п. Свіслач (Гродзенская вобл.) заснавана



Будынкі гімназіі ў Свіслачы. З гравюры 19 ст.

па ініцыятыве і на сродкі графа Вінцэнта Тышкевіча. Спачатку размяшчалася ў яго фальварку ў прыстасаваных для вучобы будынках. Віленскім арх. М. Шульцам былі распрацаваны 2 праекты гімназічнага комплексу (у 1802 і 1810), але яны не былі рэалізаваны. У 1820 віленскім арх. Я. Шантырам быў зроблены новы праект комплексу, які быў ажыццёўлены ў 1821—28. У час буд-ва (вялося без нагляду Шантыра) былі зроблены адхіленні ад праекта, у 19 — пач. 20 ст. будынкі неаднойчы рамантаваліся. У чэрвені 1829 пасля завяршэння буд-ва быў зроблены план і чарцёж фасадаў, што дазваляе ўявіць першапачатковы выгляд гімназіі. Комплекс гімназіі займаў пляц каля сажалак свіслацкага парку, гал. фасадамі быў арыентаваны да вуліцы. Гал. корпус — 1-павярховы мураваны будынак з адносна нізкім дахам (адхіленне ад праекта), у стылі класіцызму. Яго цэнтр. частка вылучана 14-калонным порцікам (4 здвоеныя калоны, 6 звычайных). Невял. прамавугольныя вокны (у порціку з сандрыкамі); сцены пакрытыя вапнай. У гал. корпусе было 6 лекцыйных залаў, 2 кабінеты, капліца (адначасова выкарыстоўвалася як актавая зала), бібліятэка, 11 пакояў, 2 кухні, 2 кладоўкі. Абапал гал. корпуса тарцом да яго пабудаваны 2 флігелі. Гал. фасад іх (тарцовы), як і гал. корпуса, меў порцік з 6 калон; вокны былі ўпрыгожаны сандрыкамі. У флігелях знаходзіліся пакоі гімназістаў і кватэры настаўнікаў. У глыбіні пляца насупраць гал. корпуса была мураваная стайня (на 14 стойлаў) і склады. У 2-й пал. 19 ст. ў час рамонту былі падняты дахі над усімі пабудовамі, часткова перароблены порцік гал. корпуса (у такім выглядзе захаваўся на малюнку Н. Орды). Пасля закрыцця гімназіі ў будынках размяшчалася настаўніцкая семінарыя. У час Вял. Айч. вайны гал. корпус быў злёгку пашкоджаны, пасля вайны быў разабраны на цэглу, а на яго месцы ўзведзена раённая бальніца, пры буд-ве якой быў знішчаны левы флігель. Захаваўся правы флігель (помнік рэспубліканскага значэння), але пасля буд-ва бальніцы ён страціў сваё значэнне ў фарміраванні архіт. асяроддзя Свіслачы. Распрацаваны праект рэстаўрацыі гімназіі (1989, арх. У. Барсукоў). *І. Г. Трусаў.*

**СВІСЛАЦКІ ЗАМАК.** Існаваў у 16 ст. Вядомы паводле інвентару 1560. Быў пабудаваны з дубовых бярвён непадалёку ад в. Свіслач (Асіповіцкі р-н) на астраўным пагорку ў сутоках рэк Свіслач і Бярэзіна. Шматгранны ў плане з 5 вуглавымі рубленымі 4-яруснымі вежамі (у 1560 на месцы адной з іх была царква) і гароднямі. Замак быў абгароджаны і абнесены ровам з вадой. Уязная вежа мела пад'ёмны мост цераз роў. На тэр. замка знаходзіліся 2 невялікія дамы, 3 клеці, 2 скляпы. Перабудаваны ў сярэдзіне 17 ст.: 2 драўляныя корпусы (па 6 памяшканняў анфіладнай планіроўкі) пастаўлены пад прамым вуглом і злучаны галерэяй; у месцы злучэння размяшчалася зала (трапезная). У сістэму абароны былі ўключаны некаторыя вежы і частка сцен папярэдніх умацаванняў. *С. А. Сергачоў.*

**СВІСЛАЦКІЯ ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ.** Існавалі ў г. п. Свіслач (Гродзенская вобл.) у 19 — пач. 20 ст. Пабудаваны з цэглы на гандл. плошчы ў пач. 19 ст. Мелі рысы стылю класіцызму. Замкнёная кампазіцыя 4 аднапавярховых крылаў пад 2-схільнымі гонтавымі дахамі ўтварала прамавугольны ў плане ўнутраны двор. Складаліся з 40 аднатыпных ячэек-крам (кожная мела вял. акно і 2 дзвярэй, якія выходзілі на плошчу і ў двор) і 3 складскіх памяшканняў (вуглавых). У цэнтры 2 даўжэйшых крылаў былі зроблены арачныя праезды ў двор. Над адным з праездаў у мезаніне размяшчалася зала купецкага сходу, афармленая на дваровым фасадзе драўлянай балюстраднай галерэяй на мураваных слупах. *Ю. А. Якімовіч.*



**Свіслацкі замак.** Рэканструкцыя. Сярэдзіна 17 ст.

**СВІСЛАЧ**, гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, каля вытоку р. Свіслач (басейн Нёмана). За 90 км ад Гродна. У пісьмовых крыніцах С. Ваўкавыская (у адрозненні ад С. Мінскай) упамінаецца ў канцы 15 — пач. 16 ст. як велікакняжацкая маёмасць. У канцы 16 ст. мястэчка прыватнага ўладання Ваўкавыскага пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1795 С. у складзе Расіі, з 1801 мястэчка, цэнтр воласці Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ. Належала Заслаўскім (з 1542), Крышпінам (з пач. 17 ст.), у 2-й пал. 18 ст.— 1831 Тышкевічам. Паводле інвентара 1806, С. у канцы 18 — пач. 19 ст. была абмежавана р. Свіслач і каналам з 2 сажалкамі. Збоку яго быў фальварак і двор Тышкевічаў з паркам. Вакол мястэчка былі таксама равы і насыпны вал, які апярэзваў яго. Асн. дарогі пераходзілі ў гал. вуліцы, якія пачыналіся ад мураваных брам. Вуліцы брукаваныя, па баках абсаджаныя дрэвамі. У 2-й пал. 18 ст. пракладзены вуліцы Брэсцкая, Варшаўская, Ваўкавыская, Рудаўская і Мсціслаўская (вядома, што 3 апошнія мелі мураваныя брамы). У цэнт-



**Свіслач.** Выгляд касцёла. З малюнка Н. Орды. 1868.

ры была прамавугольная ў плане плошча — рыначная, «Рынак». Каля плошчы знаходзіліся фарны касцёл з могілкамі, агароджанымі драўляным плотам на мураваных слупах, пры ім (па дарозе да фальварка) — вежа з гадзіннікам, непадалёк ад касцёла — уніяцкая царква са званіцай (збоку) і могілкамі. На плошчы стаялі 3 карчмы і «кафэнгаўз». На плошчы ў пач. 19 ст. ўзведзены *Свіслацкія гандлёвыя рады:* у цэнтры стаяў 2-павярховы мураваны будынак, перад ім былі з аднаго боку мураваная мера для жыта (у выглядзе вазона), з другога — каменны абеліск, агароджаны каванымі жалезнымі ланцугамі. У 18 ст. графам Вінцэнтам Тышкевічам быў закладзены парк і пабудаваны ў ім палац — драўляны 1-павярховы П-падобны ў плане будынак, завершаны гонтавым дахам складанай канфігурацыі; з анфіладнай планіроўкай. У палацы меліся вял. парадная зала, 12 жылых пакояў, кавярня і інш. гасп. памяшканні. У пач. 19 ст. ў парку пастаўлены 1-павярховы драўляны будынак пад гонтавым дахам, прызначаны спецыяльна для тэатра: мелася вял. тэатр. зала (212 м²) і 2 танцавальныя залы (83,5 м²). Апроч палаца і будынка тэатра ў парку былі аранжарэя, звярынец, альтанкі і гасп. пабудовы (усе не захаваліся). У 1833 у С. 1256 жыхароў, 146 драўляных і 1 мураваны дом, 48 крам; у 1897—3099 жыхароў, 526 дамоў (502 з іх драўляныя, 24 мураваныя). У канцы 19 ст. штогод праводзіўся вял. кірмаш, было 2 царквы. У 1914 — 6460 жыхароў. У 1-й пал. 19 ст. ўзведзены *Свіслацкай гімназіі будынкі,* у пач. 20 ст.— 2 малітоўныя яўр. школы. У 1919—20 і ў 1921—39 С. у складзе бурж. Польшчы, горад Ваўкавыскага ваяводства. З 1939 у БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Беластоцкай вобл. З 20.9.1944 у Гродзенскай вобл.

Пасля Айч. вайны ў С. пачалося буйное будаўніцтва. У 1969 распрацаваны генплан, у 1971 — эскіз забудовы цэнтра (абодва ў Гродзенскім філіяле ін-та «Белдзяржпраект»). Сучасны пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1978 (арх. С. Смірнова, С. Слабаніцкая) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1978 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. Смірнова, Л. Каракаўцава). Сетка вуліц — прамавугольная з дробнымі кварталамі. Архіт.-планіровачную структуру С. вызначаюць вуліцы Леніна, Камсамольская (гал. кампазіцыйная вось), Каліноўскага, Першамайская і 17 Верасня. Асн. вуліцы разыходзяцца ад квадратнай у плане плошчы Леніна (на ёй разбіты сквер, пастаўлены помнік У. І. Леніну), у раёне якой склаўся адм.-грамадскі цэнтр. Гандлёвы цэнтр размешчаны па вул. Камсамольскай. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу, у цэнтр. частцы — капітальная 2—5-павярховая. Вытворчая зона фарміруецца ў паўн.-зах. частцы пасёлка. Зона адпачынку — парк са штучным вадаёмам. Прадугледжана развіццё пасёлка на Пн і ПнУ, рэканструкцыя грамадскага цэнтра, расшырэнне зоны спорту і адпачынку.

*І. Г. Трусаў, С. Ф. Самбук.*

**«СВІСЛАЧ»**, гасцініца ў Мінску (да 1987 наз. «Беларусь»). Пабудавана ў 1938 (арх. А. П. Воінаў) на рагу вул. Кірава і Валадарскага. У кампазіцыі 5-павярховага будынка вылучаны 6-павярховы вуглавы паўкруглы ў плане аб'ём з цэнтр. уваходам. Да яго пад прамым вуглом прымыкаюць бакавыя крылы. Пластыку фасадаў ствараюць рытмічна пастаўленыя трохчвэртныя калоны без баз і капітэлей, якія падтрымліваюць атыкавы паверх. Калоны цэнтр. часткі найбольшыя па маштабу. Камфартабельныя нумары (330 месцаў) размешчаны ўздоўж светлых калідораў на 2—5-м паверхах. На 1-м паверсе — адм.-гасп., быт. памяшканні, магазіны і рэстаран. У Айч. вайну гасцініца спалена, адноўлена паводле праекта аўтара ў 1947. У 1978 рэстаран рэканструяваны і расшыраны (афармленне інтэр'ераў скульпт. А. Глебава).

*А. А. Воінаў.*

**СВЯЦКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ**, помнік архітэктуры і садова-паркавага мастацтва 2-й пал. 18 — пач. 19 ст. Размешчаны ў в. Свяцк (Гродзенскі р-н) у б. маёнтку Валовічаў, на маляўнічай узгорыстай мясцовасці. У пач. 20 ст. належаў Ю. Гурскаму. Уключаў палац, капліцу, гасп. пабудовы, парк. Створаны паводле праекта італьянскага арх. Дж. Сака пры гродзенскім маршалку Ю. Валовічу і яго сыне Антонію. Фарміраваўся ў 2 этапы: на першым у 1779 — буд-ва і афармленне інтэр'ера палаца ў раннекласіцыстычным стылі, на другім у пач. 19 ст.— дапаўненне агульнай кампазіцыі бакавымі флігелямі з галерэямі-каланадамі. Рэканструяваны ў 1930-я гады (арх. А. Сасноўскі). Палац знаходзіцца на ўзвышшы. Яго цэнтр. корпус — 2-павярховы мураваны будынак з цокальным паверхам, накрыты высокім ламаным мансардавым дахам. Гал. фасад расчлянёны 3 рызалітамі (цэнтральны — 4-калонны з 3-вугольным, бакавыя — з лучковымі франтонамі). Дваровы з 5-гранным эркерам, дэкарыраваны пілястрамі і завершаны гранёным шатровым дахам. У дэкоры будынка выкарыстаны дробныя пілястры, парталы ўваходаў, вузкія рызаліты. Планіроўка 1-га паверха калідорная, 2-га — анфіладная. У цэнтры — вестыбюль з парадная



**Свіслач.** Будынак раённай бальніцы.



Гасцініца «Свіслач» у Мінску.



Свяцкі палацава-паркавы ансамбль.

3-маршавай лесвіцай, на 2-м паверсе — парадная 8-гранная зала з калонамі. У аздобе інтэр'ераў выкарыстаны рэльефы, ліштвы дзвярэй, нішы з камінамі і скульптурай, размалёўка сцен (рамантычныя пейзажы, антычныя статуі, вазы; мастакі Т. Манькоўскі, Ф. Смуглевіч; не захаваліся); мелася зала ў пампейскім стылі. Элементы інтэр'ера (панелі, каміны, дзверы, люстры, кансолі, вазоны, супрапорты, мэбля) былі зроблены па эскізах і пад кіраўніцтвам Сакі. Флігелі пастаўлены перпендыкулярна да асн. корпуса, накрыты вальмавымі дахамі, аздоблены руставанымі лапаткамі; адзін выкарыстоўваўся пад жыллё, у другім — манеж. З асн. корпусам злучаны паўцыркульнымі галерэямі ў выглядзе аркад. Насупраць палаца ў 19 ст. ў рэтраспектыўна-гатычным стылі пабудавана капліца. Парк пейзажнага тыпу, пл. 12 га; закладзены ў канцы 18 — пач. 19 ст. Размешчаны на 2 пагорках, у лагчыне — сістэма вадаёмаў на розных узроўнях, за імі лясны масіў. Цэнтр кампазіцыі — палац з партэрам перад ім. У 1985 парк адноўлены паводле спец. праекта. У палацы размешчаны санаторый «Свяцк», якому належыць і парк. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін, В. Р. Анціпаў.*

**СЕЛІШЧАНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў цэнтры в. Селішча (Ушацкі р-н) у 1726 з цэглы. Касцёл — 3-нефавая базіліка з паўцыркульнай апсідай. Галоўны (усходні) фасад з 2—3-яруснымі вежамі, паміж якімі шчыт з 2 валютамі па баках. Цэнтр. неф (не захаваўся) удвая шырэй і вышэй за бакавыя. Бакавыя нефы мелі аднасхільныя дахі. Сцены касцёла расчлянёны шырокімі пілястрамі і лучковымі аконнымі праёмамі. Вокны другога паверха паўцыркульныя. Скляпеністыя перакрыцці храма на падпружных арках, апіраліся на 4 масіўныя слупы і бакавыя сцены. Алтар — у глыбіні цэнтр. нефа, паміж 2 сакрысціямі. Над бабінцам размешчаны хоры. Касцёл часткова перабудоўвалі ў сярэдзіне 19 ст. (былі зменены форма і завяршэнні вежаў). Дах і верх вежаў касцёла разбураны ў Вял. Айч. вайну. 2-павярховы будынак жылога корпуса прымыкае да касцёла з паўн. боку. Планіроўка калідорная. Касцёл і кляштар не дзейнічаюць. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Міцянін.*

**СЕРАБРАНКА,** жылы раён у паўд.-ўсх. частцы Мінска. Размешчаны ў спрыяльных прыродных умовах: з З прылягае да *Мінскага водна-зялёнага дыяметра,* з Пд — да Чыжоўскага вадасховішча, з У і Пн — да поймы ручая Сляпянка. Назву атрымала ад б. маёнтка Сярэбраны Лог



Селішчанскі касцёл і кляштар бернардзінцаў.



**Серабранка.** Забудова 9-га мікрараёна.

(вядомы з 1551), у 19 ст. наз. Сярэбраны Млын, была месцам адпачынку мінчан. У 1895 тут быў чыгуналіцейны з-д, у пач. 20 ст. існавалі Сярэбраная вул. і Сярэбраны завулак. У паўн. частцы знаходзіліся вёска і пас. Шэпічы, на месцы якіх у 1980-я г. створаны мікрараён. Забудоўваецца з 1969 паводле праекта дэталёвай планіроўкі і забудовы 1967 (ін-т «Мінскпраект», арх. В. Анікін, Н. Афанасьева, Я. Дзятлаў, Л. Есьман, У. Ігнацьеў) і больш позніх праектаў забудовы мікрараёнаў (арх. Анікін, А. Гуль, А. Сап'янік, Дз. Кудраўцаў, Г. Горына, Г. Сысоеў, М. Чаркасава, І. Папова, інж. П. Палунін, В. Матораў). Тэр. раёна складае 460 га, разлічана на 145 тыс. жыхароў. Уключае 9 мікрараёнаў. Кампазіцыйна-планіровачная структура заснавана на 2 узаемна перпендыкулярных восях — праспекце Ракасоўскага і вул. Пляханава, уздоўж якіх размешчаны гандл. і культ.-быт. ўстановы, сканцэнтраваныя каля прыпынкаў грамадскага транспарту і асн. пешаходных напрамкаў (т. зв. прынцып факусіроўкі). Установы, якія не залежаць ад транспартных магістралей (школы, дзіцячыя сады-яслі, спарт. збудаванні), размешчаны ў глыбіні мікрараёнаў у зялёных зонах. Па перыметры раён абмежаваны вуліцамі Ванеева, Якубава, Малініна (з сумежнымі паркавымі зонамі адпачынку, спарт. комплексамі і ўчасткам Сляпянскай воднай сістэмы). Раён забудаваны пераважна буйнапанельнымі 5-, 9-, 12-павярховымі дамамі. Значнае месца ў забудове адведзена падоўжаным шматсекцыйным 9-павярховым жылым дамам, першыя паверхі якіх маюць убудаваныя і прыбудаваныя аб'екты абслугоўвання. На ўчастках з актыўным рэльефам уздоўж р. Свіслач жылыя дамы маюць больш жывапісную канфігурацыю плана, сілуэт і пластыку фасадаў. Архіт.-планіровачная арганізацыя ансамбля праспекта Ракасоўскага звязана з бульварам (арх. В. Звалінскі), які на ўсім працягу ад вул. Ванеева да вул. Малініна служыць для пешаходнай сувязі паміж цэнтрамі, аб'ектамі культ.-быт. абслугоўвання і транспартнымі прыпынкамі. Фантаны і інш. малыя архіт. формы, пляцоўкі адпачынку, розныя прыёмы азелянення ствараюць спрыяльнае асяроддзе для кароткачасовага адпачынку і прагулак. Заканчваецца бульвар уваходам у ландшафтны парк на паўн. беразе Чыжоўскага вадасховішча (арх. У. Бачкоў, С. Барысовіч, Б. Юрцін), які з'яўляецца часткай гарадскога водна-зялёнага дыяметра. Гал. кампазіцыйна-планіровачная вось парку заснавана на прадаўжэнні бульвара. Практыка праектавання і буд-ва С.— прыклад комплекснай забудовы буйнога жылога масіву на базе індустрыяльнага домабудавання. Мікрараёны значна адрозніваюцца адзін ад аднаго прасторавай кампазіцыяй, выкарыстаннем у архітэктуры будынкаў колеру, розных відаў апрацоўкі панелей і экранаў з глыбокім дэкар. рэльефам. Забудова раёна завяршаецца (1992), прадугледжана ўзвядзенне будынкаў гал. грамадскага цэнтра на скрыжаванні пр. Ракасоўскага з вул. Пляханава, 14—16-павярховых жылых дамоў на праспекце Ракасоўскага, добраўпарадкаванне паркавай зоны на беразе Свіслачы.

*Н. А. Воінава.*

**СЁМКАЎСКІЯ СЯДЗІБЫ.** 1) Існавала ў 17 ст. ў в. Сёмкава (Мінскі р-н). Складалася з жылых і гасп. пабудоў, гумнішча. Сядзібны дом — драўляны 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам з драніцы, стаяў каля гал. уязных варот. Цэнтр кампазіцыі вылучаў 2-павярховы вежападобны аб'ём пад шатровым дахам, які выконваў абарончую ролю і служыў уваходным тамбурам, меў лесвіцу на гарышча. Сцены ў цэнтры размяжоўвалі 2 ідэнтычныя жылыя блокі, кожны з якіх складаўся з жылога пакоя, каморы і тамбура. Каля гумнішча стаяў дом аканома — 1-павярховы прамавугольны ў плане драўляны будынак, накрыты вальмавым дахам з драніцы. Паміж дамамі знаходзіліся гасп. пабудовы: абора, 3 свірны (адзін вял. 2-павярховы), кухня, пограб, пякарня, стайня і вазоўня. На гумнішчы сталі 3 пуні, ток з 2 прыбудаванымі ў тарцах асецямі, бровар, зблакіраваны з лазняй. Сядзіба вядома паводле інвентара 1646. 2) Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры 2-й пал. 18 ст. Комплекс створаны ў 1771 паводле праекта К. Спампані ў маёнтку мінскага ваяводы А. Хмары; у пач. 20 ст. сядзіба належала Хелкоўскім. Мае рысы барока і класіцызму. Ансамбль сядзібы сфарміраваны па сіметрычна-восевай схеме з вял. прамавугольным дваром, абмежаваным флігелямі і слупавой агароджай з брамай. Сядзібны дом — 1-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак, быў накрыты высокім ламаным мансардавым дахам з люкарнамі. Фасады рытмічна расчлянёны лапаткамі і прамавугольнымі вокнамі. У цэнтры гал. фасада 4-пілястравы мансардавы порцік са скульптурнымі акратэрыямі па вуглах 3-вугольнага франтона, дваровага — паўкруглы эркер. Планіроўка калідорная з вестыбюлем і параднай залай у цэнтры. Па баках перпендыкулярна да сядзібнага дома пастаўлены больш нізкія флігелі, накрытыя высокімі вальмавымі дахамі, з рызалітамі пры ўваходах. Падоўжаная вось ансамбля падкрэслена ўязной і цэнтр. алеямі рэгулярнага парку. За домам размешчаны паркавыя тэрасы, па ПдУ ад яго — пейзажная частка парку. Будынак рэканструяваны. У ім цяпер знаходзіцца школа-інтэрнат. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін, Ю. А. Якімовіч.*

**СІГНЕВІЦКІ ПАКРОЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1785 у стылі барока ў в. Сігневічы (Бярозаўскі р-н), перабудаваны ў 19 ст. Мураваны 1-нефавы храм з паўкруглай апсідай і трансептам, утвораным капліцамі



**Сінкевіцкі Пакроўскі касцёл.** Выгляд з боку апсіды.



**Сінкевіцкая Георгіеўская царква.**

і сакрысціямі. Сцены расчлянёны лапаткамі. Вокны прамавугольныя. 2-ярусны гал. фасад завершаны 2 вежамі з атыкавым франтонам паміж імі. Пакрыццё гонтавае, 2-схільнае пад нефам і вальмавае над апсідай. Інтэр'ер зальны з скляпеністым перакрыццем. Дэкар. аздоба не збераглася. У 1989 аддадзены веруючым, дзейнічаў. Зараз на рамонце. Помнік рэспубліканскага значэння.

**СІНКЕВІЦКАЯ ГЕОРГІЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 18 ст. ў в. Сінкевічы (Лунінецкі р-н) на могілках. Складае ансамбль са званіцай-брамай, размешчанай на адной восі з царквой. Царква — трохзрубная пабудова з прамавугольнымі ў плане аб'ёмамі роўнай вышыні. Цэнтр. зруб завершаны невысокім чацверыком, накрыты 4-схільным шатром (унутры 8-схільным). Алтарны зруб і бабінец пад вальмавымі дахамі з невял. гранёнымі галоўкамі. Званіца зрубна-каркасная, звонку 2-ярусная, мае схаваны прамежкавы ярус і накрыта 4-схільным шатром. У 1978—80 сцены будынкаў вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі і аздоблены падзорам. Царква і званіца — помнікі рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе. *Ю. А. Якімовіч.*

**СІТНАЎСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 16 ст. на паўд.-зах. беразе воз. Сітна каля вытокаў р. Палата (Полацкі р-н). Пабудаваны ў 1563 з дрэва на штучнай земляной выспе, умацаванай драўлянымі канструкцыямі. Трапецападобную форму замка вызначала канфігурацыя мыса, утворанага берагам возера і лукавінай ракі. Быў умацаваны драўлянымі абарончымі сценамі-гароднямі з 4 вуглавымі чацверыковымі 3-яруснымі вежамі (на паўкруглых у плане асновах), накрытымі 2-схільнымі дахамі. Праезд у замак размяшчаўся ў сцяне, павернутай у бок перашыйка паміж ракой і возерам. 1-павярховая драўляная забудова размяшчалася ў цэнтры замка, свабодная прастора ўздоўж сцен прызначалася для манеўра войск. Разбураны войскамі Вял. кн. Літоўскага ў 1566, потым адбудаваны і зноў знішчаны пры штурме ў час Лівонскай вайны 1558—83. Вядомы паводле малюнка С. Пахалавіцкага 1579. *Ю. А. Якімовіч.*

**СІТЦАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рус. стылю. Пабудавана ў пач. 20 ст. ў в. Сітцы (Докшыцкі р-н) з цэглы, неатынкаваная. Належыць да тыпу крыжова-купальных храмаў са званіцай. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя мае вертыкальную накіраванасць, якая ствараецца дамінантамі 3-яруснай шатровай званіцы і цыліндрычнага светлавога барабана з цыбулепадобным купалам. Царква дзейнічае.



**Сітнаўскі замак.** З малюнка С. Пахалавіцкага. 1579.

**СКАРЫНЫ ПРАСПЕКТ** у Мінску, галоўны гарадскі дыяметр і асн. магістраль горада; перасякае яго з ПдЗ на ПнУ. Створаны на месцы вузкіх і скрыўленых вул. Савецкай (шыр. 18—26 м) і б. Барысаўскага тракту. Пасля Айч. вайны (на Савецкай вул. асталося 10 будынкаў) гал. магістраль створана на новай шырокай і выпрастанай трасе. Даўжыня праспекта больш за 11 км, шыр. 48—70 м. Як гал. кампазіцыйны дыяметр арганізацыйна ўплывае на планіроўку і забудову ўсяго горада. Яго перасякаюць Мінскі *водназялёны дыяметр* р. Свіслач і важныя транспартныя магістралі, якія звязваюць праспект з усімі раёнамі горада. На С. п. знаходзяцца *Незалежнасці плошча, Кастрычніцкая плошча, Перамогі плошча, Коласа Якуба плошча, Калініна плошча.* Прасторава праспект звязаны з *Прывакзальнай плошчай,* плошчамі Свабоды і Парыжскай камуны, комплексам стадыёна «Дынама» і іншымі архіт. ансамблямі. Чаргаванне адм. будынкаў, культ.-асветных, навучальных, гандлёвых, вытв. і іншых устаноў з жылымі дамамі і комплексамі зрабіла магчымым пазбегнуць аднастайнасці і стварыць яго своеасаблівае архіт.-маст. аблічча. Забудоўваўся праспект у 3 чаргі: 1-ы ўчастак (цэнтральны) ад пл. Незалежнасці да пл. Перамогі (2,9 км,



**Сітцаўская царква.**



Скарыны праспект у Мінску.

з 1945 пад кіраўніцтвам М. Паруснікава і М. Баршча), 2-і — ад пл. Перамогі да пл. Калініна (2,7 км) і 3-і — ад пл. Калініна да ўезда ў горад з боку Маскоўскай шашы (1950—70-я гады).

На цэнтр. участку шыр. 48 м, праезная частка 24 м, тратуары 12 м, уздоўж іх пасаджаны ліпы. Удала знойдзеныя суадносіны вышыні збудаванняў (21—23 м) і шырыні магістралі, даўжыні будынкаў па фронту, сілуэт, асн. чляненні і агульны характар архіт. афармлення, заснаваныя на творчым асваенні класічнай спадчыны дойлідства, садзейнічалі стварэнню ансамбля высокай архіт.-маст. вартасці. Кампазіцыйны цэнтр участка паміж плошчамі Незалежнасці і Кастрычніцкай — манументальны *Мінскі адміністрацыйны будынак* (паміж вуліцамі Урыцкага і Камсамольскай), які пэўным чынам вызначыў характар усёй забудовы гэтай часткі праспекта. Сярод грамадскіх збудаванняў вылучаюцца *Беларускага рэспубліканскага банка будынак,* будынкі



Скарыны праспект у Мінску.

*Мінскага гарадскога універмага,*
*Мінскага галоўнага паштамта,* гас-
цініцы «Мінск» (1-я чарга ў 1957,
арх. Г. Баданаў, 2-я — у 1967, арх.
Г. Сысоеў, С. Мусінскі, Дз. Кудраў-
цаў). У буд-ве большасці жылых да-
моў выкарыстана адна серыя тыпа-
вых секцый № 7, распрацаваны
у Гарбудпраекце Масквы (арх.
С. Кавыкаў), у выніку чаго дасягну-
та маст. адзінства забудовы. У пер-
шых паверхах жылых дамоў знахо-
дзяцца прадпрыемствы гандлю з вя
вітрынамі. На ўчастку паміж плош-
чамі Кастрычніцкай і Перамогі раз-
мешчаны Рэспубліканскі Дом работ-
нікаў мастацтваў (б. *Мінскага цар-*
*коўна-археалагічнага музея будын-*
*нак), Мінскі Палац культуры Бе-*
*саўпрофа, Мінскі цырк,* 2 шмат
вярховыя жылыя дамы (1957,
Баршч). Ад вул. Я. Купалы праспект
спускаецца да азяленёнай поймы
р. Свіслач, узвышаецца над масівам
паркаў імя Янкі Купалы і Цэнтр
дзіцячага імя М. Горкага. З грані
най набярэжнай (1958, арх. К. Іва-
ноў) адкрываецца панарама ў бок
пл. Парыжскай камуны з ману
*Дзяржаўнага акадэмічнага Вялік*
*тэатра оперы і балета Рэспублі*
*Беларусь будынкам,* адм. будынк
па вул. Камуністычнай, якія займа-
юць значнае месца ў ансамблі цэнтр
Мінска. За мостам (1951, Парусні-
каў, Баданаў) знаходзяцца Дом-
музей I з'езда РСДРП, 5-павяр-
ховыя жылыя дамы (1939, пабудава-
ны ў 1947, Р. Столер, у 1950—
Баршч, Л. і Г. Аранаўскасы). За-
вяршае прамы цэнтр. ўчастак пра-
пекта пл. Перамогі з *манумент*
*Перамогі.*

На 2-м участку праспекта побе
з даваеннымі дамамі (1937—
А. Брэгман, Г. Якушка) узведзе
новыя жылыя будынкі (1952—
арх. Баршч, Л. Арнаўскас, А.
хан, С. Баткоўскі, Н. Макляцо
Н. Шпігельман). Вял. ролю на гэты
участку і ў структуры горада ад
рывае пл. Якуба Коласа з помнік
Я. Коласу ў цэнтры (1972, скульп
З. Азгур, арх. Ю. Градаў, Г. Заб
скі, Л. Левін). Другі важны ву
участка ўтвараюць рэканструява
і расшыраныя комплексы 1-й клі
най бальніцы, *Беларускага палі*
*нічнага інстытута будынкі, Ака*
*мічны гарадок.* Тут размешчаны
натэатр «Кастрычнік», жылыя да
з магазінамі «1000 дробязей» (19
арх. Сысоеў, Кудраўцаў), «Сінт
ка» (Дом гандлю «Першамайск
і «Кветкі» (1964—65, арх. Мусін
Сысоеў). Завяршае ўчастак пл.
лініна.

3-і ўчастак адрозніваецца ад
пярэдніх аднабаковай забудовай
значнай адлегласці. Тут знаход
ца *Мінскага гадзіннікавага заво*

будынкі, кварталы жылых дамоў, Беларускі аграрны тэхнічны універсітэт [б. Ін-т механізацыі сельскай гаспадаркі (1956, арх. Баклаваў)]. Да праспекта прылягае парк імя Чэлюскінцаў, тэр. дзіцячай чыгункі (вакзал пабудаваны ў 1956, арх. Заборскі) і зялёны масіў. Шырыня магістралі 71 м. Далей за вул. Валгаградскай размешчаны кінастудыя «Беларусьфільм», жылыя дамы (пабудаваны ў канцы 1950-х гадоў), *Мінскай гідраметэаралагічнай абсерваторыі будынак,* комплекс НДІ сродкаў аўтаматызацыі (1972, Мусінскі, Кудраўцаў). Важная роля ў фарміраванні архіт.-маст. аблічча належыць жылому раёну Усход (забудоўваецца з 1966), дзе размешчаны групы 5-, 9- і 16-павярховых буйнапанельных жылых дамоў і 16—18-павярховых з маналітнага агларытабетону метадам рухомай апалубкі (першыя ў СССР, 1973—77, арх. А. Белаконь, Н. Грачова, Сысоеў, І. Панова). Вылучаецца комплекс з 8 спараных 16-павярховых жылых дамоў з убудаванымі прадпрыемствамі гандлю (1973—79, арх. Сысоеў, Панова, І. Жураўлёў, Кудраўцаў), тарцы якіх упрыгожаны мазаічнымі пано, прысвечанымі Мінску (1978, мастак А. Кішчанка). Уздоўж праспекта пабудавана (1984) 1-я чарга лініі *Мінскага метрапалітэна.*

За аб'ёмна-прасторавае вырашэнне, своеасаблівае і адметнае архіт.-маст. аблічча праспекта архітэктарам Баданаву, Баршчу, Баткоўскаму, А. П. Воінаву, У. Каралю, Мусінскаму, Парусніакаву, Сысоеву, Трахтэнбергу, Шпігельману прысуджана Дзярж. прэмія БССР 1968.

*А. А. Воінаў*



**Скідаль.** Двор Чацвярцінскіх. З малюнка Н. Орды. 1877.

**СКІДАЛЬ**, горад у Гродзенскім р-не, на р. Скідалька. За 27 км на ПдУ ад Гродна. У Вял. кн. Літоўскім — велікакняжацкае мястэчка, у 16—18 стагоддзях у Гродзенскай эканоміі. З 1795 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Гродзенскага пав., з 1787 горад Літоўскай, з 1801 — Гродзенскай губерняў. З 1814 тут праводзіўся кірмаш. У 1833 у С. 1277 жыхароў, 218 драўляных будынкаў, у 1897—2790 жыхароў, 482 будынкі (77 цагляных), нар. вучылішча, сельская бальніца. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны ў горадзе было 16 дробных прадпрыемстваў (72 рабочыя). З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр гміны Гродзенскага пав. Беластоцкага ваяводства. З 1939 у БССР. З 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. 4,8 тыс. жыхароў у 1959. З 1962 у Гродзенскім р-не, з 1974 горад. Генплан С. распрацаваны ў 1969 («Белдзяржпраект», карэкціроўка 1978, БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Сушчыц, А. Лўшыц). Горад складаецца з 2 самастойных планіровачных раёнаў — паўночнага (гіст. частка горада з асн. жылым масівам, частка прамысл. прадпрыемстваў) і паўднёвага (жылая зона і асн. прамысловы раён), звязаных паміж сабой вуліцамі Першамайскай і Зялёнай. Планіроўка рэгулярная з невял. кварталамі. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся ў паўн. частцы, на скрыжаванні вуліц Леніна і Гагарына разбіты прамавугольны ў плане сквер. Асн. кампазіцыйная вось паўд. раёна — вул. Першамайская. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Створаны мікрараёны Цэнтральны і Паўднёвы з 2—5-павярховай забудовай. Зона адпачынку — на берагах рэк Скідалька і Котра, гарадскі парк (помнік садова-паркавага мастацтва сярэдзіны 19 ст.). Прадугледжваецца стварэнне новага жылога масіву на тэр. паміж паўд. і паўн. планіровачнымі раёнамі і фарміраванне тут новага агульнагарадскога цэнтра на скрыжаванні вуліц Вакзальнай і Зялёнай, расшырэнне зоны спорту і адпачынку.

*Г. С. Ларкін.*

**СКОКАЎСКАЯ СЯДЗІБА**, помнік палацава-паркавай архітэктуры барока. Створана ў 18 ст. ў в. Скокі



**Скокаўская сядзіба.** Гравюра 19 ст.



**Скокаўская сядзіба.** Сядзібны дом.

(Брэсцкі р-н) у маёнтку М. Нямцэвіча — бацькі пісьменніка Ю. Нямцэвіча. Комплекс уключае палац (1770-я гады) і парк. Палац і 2 бакавыя сіметрычна пастаўленыя флігелі (афіцына і стайня, не зберагліся) утваралі парадны двор, замкнёны паўкруглай агароджай з брамай. Перад палацам на адной з ім восі стаяла драўляная радавая капліца — пахавальня. 2-павярховы прамавугольны ў плане мураваны палац, накрыты ламаным вальмавым дахам, фланкіраваны вуглавымі алькежамі, накрытымі ў мінулым барочнымі фігурнымі купаламі. Цэнтр. частка вылучана падвойнымі пілястрамі і вынаснымі балконамі на слупах. Планіроўка анфіладная, у цэнтры — вял. квадратная зала з выхадам у парк (падзелены палацам на 2 часткі). Парк мяшанага рэгулярна-пейзажнага тыпу. Высаджаны на раўнінным рэльефе. У паўн. частцы знаходзяцца партэр, 2 невял. лужкі, уязная алея, у паўднёвай — густая грабавая алея, абапал якой лужкі, якія чаргаваннем, памерамі і формай нагадваюць баскеты рэгулярнага тыпу. Па перыметры ідзе кальцавая алея. У парку растуць экзоты: хвоя веймутава, лістоўніца еўрапейская, конскі каштан звычайны, акацыя белая, біручына, лох вузкалісты і інш. У будынку палаца размешчана школа-інтэрнат. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*В. Р. Анціпаў, А. М. Кулагін.*

**СЛАБОДКАЎСКІ КАСЦЁЛ СЭРЦА ІСУСА,** помнік псеўдараманскай архітэктуры. Пабудаваны ў 1903 з цэглы ў цэнтры в. Слабодка (Браслаўскі р-н) на невял. узгорку. Касцёл — 3-нефавая 2-вежавая базіліка з апсідай, трансептам і сакрысціямі. Гал. фасад сфарміраваны 2 высокімі 5-яруснымі вежамі з вострымі шатровымі вярхамі і параўнальна невял. фасаднай плоскасцю цэнтр. нефа паміж імі. Сцены прарэзаны паўцыркульнымі, лучковымі і круглымі аконнымі праёмамі з вітражамі (каляровае шкло захавалася часткова). Над гал. уваходам і на фасадных плоскасцях трансепта размешчаны вял. вокны-ружы. Усе сцены раскрапаваны ступеньчатымі контрфорсамі, якія на бакавых фасадах злучаны з дэкар. аркбутанамі. Уваходы вырашаны ў выглядзе аднатыпных парталаў з паўцыркульнымі праёмамі. У інтэр'еры — цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі, хоры ў верхняй частцы бабінца. У пластычным вырашэнні касцёла шырока выкарыстаны ордэрныя элементы раманскай і гатычнай архітэктуры: контрфорсы, аркбутаны, аркатурныя паясы, нішы, калонкі з капітэлямі раслінных форм. Сцены і скляпенні алтарнай часткі размаляваны арнаментам. Вялікую мастацкую каштоўнасць маюць жалезныя акоўкі дзвярэй касцёла, выкананыя мясцовым кавалём. Пры кампазіцыйным адзінстве аковак усіх дзвярэй дэталі не паўтараюцца, што сведчыць аб свабоднай імправізацыі майстра ў кожным выпадку. Арыгінальную, багатую па форме і складаную па малюнку кампазіцыю маюць акоўкі дзвярэй цэнтр. ўвахода. Яны вырашаны як пышныя букеты з арнаментальных элементаў, якія паўтараюцца ў кампазіцыях дэкору бакавых дзвярэй. Акоўкі дзвярэй — помнік манум.-дэкар. мастацтва і кавальскага майстэрства. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *С. Г. Багласаў, М. М. Яніцкая.*



**Слабодскай сярэдняй школы будынак.**

**СЛАБОДСКАЙ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ БУДЫНАК.** Пабудаваны ў 1981 у в. Слабада (Смалявіцкі р-н), разлічаны на 504 вучні (арх. В. Новікаў, У. Цямноў). Г-падобная ў плане кампазіцыя складаецца з 3-павярховых прамавугольных у плане адм.-спарт. і навучальнага карпусоў. Пластыку фасадаў адм.-спарт. корпуса ўзбагачае вынесены аб'ём лесвічнай клеткі, навучальнага — пілоны. Каларыстычнае вырашэнне фасадаў заснавана на кантрасце пабеленых эле-



**Слабодкаўскі касцёл Сэрца Ісуса.**



Слаўгарад. Дом культуры.

ментаў, дэталей, канструкцый і керамічнай пліткі чырвона-карычневага колеру. Дамінантай комплексу з'яўляецца абсерваторыя з паваротным купалам, вылучаная ў асобны вежападобны аб'ём. У адм.-спарт. корпусе 3-маршавая лесвіца злучае вестыбюль, размешчаны на 1-м паверсе, з іншымі паверхамі; на 2-м паверсе знаходзіцца спарт. зала (12×24). У навучальным корпусе на 2-м і 3-м паверхах размешчаны кабінеты і лабараторыі, на 1-м — класныя пакоі для малодшых школьнікаў (пры кожным ёсць веранда для гульняў, выставак, кветак). Да тарца навучальнага корпуса прымыкае камбінат культуры, глядзельная зала якога (на 500 месцаў) злучана са школай на ўзроўні 2-га паверха. *В. Б. Ангелаў.*

**СЛАЎГАРАД** (да 1945 Прапойск), горад, цэнтр раёна, прыстань на правым беразе Сажа пры ўпадзенні ў яго р. Проня. За 68 км ад Магілёва. Стараж. гарадзішча размешчана каля вусця р. Проня, на правым беразе Сажа, у гарадскім парку ва ўрочышчы Замкавая гара. Пляцоўка 40×95 м, выш. да 30 м, з зах. боку ўмацаваная ровам. Пры археал. раскопках 1967 (пад кіраўніцтвам Г. В. Штыхава) выяўлены матэрыялы мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур, таксама 6—8 і 11—13 стагоддзяў. У пісьмовых крыніцах С. упершыню ўпамінаецца пад 1136 (стараж. назва Прупой, Пропошеск) у складзе Смаленскага княства. У 12 ст. тут былі заезныя княжацкія двары. З 1387 у валоданні кн. полацкага і трокскага Скіргайлы. З 14 ст. (1387) у Вял. кн. Літоўскім, дзярж. ўладанне, з 1560-х гадоў (1511?) цэнтр староства ў Мсціслаўскім ваяводстве. З 1772 у складзе Расіі, заштатны горад, потым мястэчка, цэнтр воласці Быхаўскага пав. Магілёўскай губ. Знаходзіўся ў валоданні Галіцыных (падараваны Кацярынай II кн. А. М. Галіцыну). У канцы 18 ст. пабудаваны з цэглы *Слаўгарадская царква Раства Багародзіцы* і царкоўнапрыходская школа (складала адзіны ансамбль з царквой); у сутоках рэк Сож і Проня створаны парк пейзажнага тыпу, у яго паўн. частцы было гарадзішча, пазней тут узведзены замак, на месцы якога ў 18 ст. пабудаваны палац (не захаваўся). У сярэдзіне 19 ст. пабудавана *Слаўгарадская паштовая станцыя,* у пач. 20 ст.— 1-павярховы жылы дом з дрэва. У 1897 у С. 1 тыс. жыхароў, у канцы 19 — пач. 20 ст.— 3,4 тыс. жыхароў. З 1919 С. у складзе Гомельскай губ. РСФСР. З 1924 цэнтр раёна БССР, з 1938 гарадскі пасёлак. З 1945 горад (у 1962—65 у Быхаўскім р-не).



Слаўгарадская паштовая станцыя.

Тэр. горада выцягнута на 4 км уздоўж ракі. Захавалася гіст. планіроўка — прамавугольная сетка вуліц з невял. кварталамі і цэнтр. Забудоўваўся паводле генплана 1971 (арх. Р. Шэліхава, А. Агафонава, М. Кавалеўская) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1973 (арх. Т. Спірына; абодвух Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва), генплана 1982 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Шэліхава, А. Валабуева). Архіт.-планіровачную структуру горада вызначаюць вуліцы Ленінская, Кастрычніцкая і Калініна. На Цэнтральнай пл. (прылягае да вул. Кастрычніцкай) склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр, бульварам злучаны з паркам. Цэнтральная частка забудавана 2- і 5-павярховымі жылымі дамамі. У астатняй частцы пераважае 1-павярховая забудова сядзібнага тыпу. На Пн ад грамадскага цэнтра створаны новы мікрараён з 3—5-павярховай забудовай. Сфарміраваліся 2 прамысл. зоны — паўд.-заходняя і паўн.-ўсходняя. Зона адпачынку — на берагах рэк Проня і Сож. Прадугледжана пашырэнне грамадскага цэнтра. *Г. С. Ларкін.*

**СЛАЎГАРАДСКАЯ ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы паводле «ўзорнага» праекта 1846. 1-павярховы прамавугольны ў плане накрыты вальмавым дахам будынак. Цэнтр гал. фасада вылучаны рызалітам, завершаным атыкам. Дзвярны праём стральчатага абрысу з казырком на ажурных кансолях (чыгуннае ліццё). Вуглы будынка крапаваныя лапаткамі з неглыбокімі стральчатымі нішамі. Высокія аконныя праёмы стральчатыя. Унутраная прастора будынка падзелена на 4 роўныя памяшканні, сіметрычна размешчаныя адносна шырокага калідора. З боку дваровага фасада прыбудаваны невял. флігель (памяшканне для ямшчыкоў). Помнік рэспубліканскага значэння. *А. С. Сардараў.*

**СЛАЎГАРАДСКАЯ ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 1791—93 у цэнтры г. Слаўгарад (Магілёўская вобл.). У ансамбль уваходзяць: 2-ярусная званіца, завершаная невял. вежачкай, якая знаходзіцца на адной восі з гал. уваходам царквы, 2 гасп. пабудовы, будынак царкоўнапрыходскай школы. З паўд. боку ад царквы — парк, які спускаецца да р. Сож. Царква — цэнтрычны крыжова-купальны храм. Асн. аб'ём у выглядзе роўнаканцавога крыжа, накрыты 2-схільнымі дахамі з 3-вугольнымі франтонамі на тарцах. Дамінанта аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі — сферычны гранёны купал на 8-гранным светлавым барабане, грані якога прарэзаны вял. аконнымі праёмамі-люнетамі. Паміж канцамі крыжа нізкія аб'ёмы (у плане 1/4 круга), перакрытыя сегментамі купала. Фасады маюць сіметрычную кампазіцыйную пабудову, вырашаны аднолькава, завершаны развітымі антаблементамі. Уваходны партал вылучаны 2 паўкруглымі калонамі тасканскага ордэра і акномлюнетай. Абапал — вузкія аконныя праёмы. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі, над сяродкрыжжам паўсферычны купал. У зах. частцы былі ўстаноўлены драўляныя хоры. На сценах і скляпеннях збераглісся фрэскавыя размалёўкі, выкананыя ў канцы



**Слаўгарадская царква Раства Багародзіцы.**

18 ст. (верагодна, пры ўдзеле мастака У. П. Баравікоўскага) у стылі ранняга класіцызму. Захаваліся 57 кампазіцыйных сцэн, пераважна алегарычных. Па стылістычных адзнаках размалёўка падзяляецца на 2 маст. цыклы, выкананыя ў розных стылях, манеры і каларыстычнай гаме. Найбольш цікавыя — аб пакутах Хрыста (у 1-м ярусе) і «Цябе бога хвалім» (на скляпенні купала). У 1793—94 устаноўлены іканастас (не збярогся). Царква з 1988 аддадзена веруючым, цяпер на рэстаўрацыі. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.

*Г. А. Лаўрэцкі, А. Ю. Пятросава.*

**СЛОНІМ**, горад, цэнтр раёна, на р. Шчара пры ўпадзенні яе ў р. Іса. За 148 км на ПдУ ад Гродна. Паводле археал. даследаванняў, С. узнік у 1-й пал. 11 ст. як апорны пункт рус. князёў. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 пад назвай Услонім (у 1255 Вслоним). У 2-й пал. 13 ст. неаднаразова пераходзіў ад галіцка-валынскіх князёў да літоўскіх. У 1280-я гады горадам правіў кн. Васілька. С. як важны стратэгічны пункт меў драўляныя ўмацаванні, земляны вал, роў і інш. Стараж. цэнтрам С. быў *Слонімскі замак,* або Замчышча (зараз знаходзіцца ў цэнтры горада, абмежавана вуліцамі Першамайскай, Савецкай, Энгельса, Маякоўскага). Пры раскопках Замчышча ў культ. пласце 11—15 стагоддзяў выяўлены насціл вуліц з тонкіх бярвён і плашак. Аднак вуліца шыр. 5—6 м была пракладзена з Пн на Пд, другая шыр. 3—4 м прылягала да яе з З. Абапал вуліц захаваліся рэшткі жылых і гасп. пабудоў зрубнай і слупавой канструкцый. Знойдзены вырабы з жалеза, каляровых металаў, шкла, дрэва, косці, скуры і тканіны, што сведчыць пра развіццё ў С. ў той час рамёстваў і гандлю. Праз С. пралягаў гандлёвы шлях з Русі ў Прыбалтыку. З канца 13 ст. ў Вял. кн. Літоўскім, з 1413 у Трокскім, з 1507 у Навагрудскім ваяводствах, цэнтр павета. У 14—15 стагоддзях фарміравалася забудова пасада, у С. было 9 цэркваў. З 1508 горад пад кіраваннем старосты, якога прызначаў вял. князь. У 1531 атрымаў магдэбургскае права. Меў герб (на блакітным полі выява залатога льва, які ў пярэдніх лапах трымае герб «Ліс»). Магістрат спаганяў з праезджых гандляроў спец. падатак на брукаванне вуліц і плошчаў. З 1558 праводзіліся 2 кірмашы на год. Узніклі рамесныя цэхі. У 16 ст. на месцы разбуранага замка пабудаваны драўляны палац, перад якім сфарміравалася гандл. плошча (цяпер вул. Першамайская), да яе сыходзіліся асн. вуліцы. Магчыма, у гэты час у паўн.-зах. частцы горада пракладзены вуліцы Студэнцкая (цяпер вул. Хлюпіна), Замкавая (Камсамольская), Апанасаўская (Панасаўская, цяпер Пушкіна) і інш. У 17—18 стагоддзях пабудаваны шэраг мураваных манастыроў і храмаў, якія ўвайшлі ў сістэму абарончых умацаванняў: дамініканскі касцёл, езуіцкі калегіум, касцёл канонікаў лютэранскіх (у 19 ст. пераўтвораны ў Праабражэнскі сабор; усе не збераглііся), *Слонімскі касцёл і кляштар бернардзінак, Слонімскі касцёл і кляштар бернардзінцаў, Слонімская сінагога, Слонімскі кляштар бенедыкцінак.* У 18 ст. ў цэнтры горада пабудавана *Слонімская ратуша.* Пасля рус.-польскай вайны горад заняпаў, у 1776 скасавана магдэбургскае права. Эканамічны ўздым горада звязаны з дзейнасцю слонімскага старосты Міхала Казіміра Агінскага, вял. гетмана літоўскага, які ў 2-й пал. 18 ст. заснаваў тут сваю рэзідэнцыю — палац, пабудаваў канал Агінскага, у сувязі з чым быў выпрастаны рукаў Шчары, перад палацам — прыстань, якая кароткай вуліцай (цяпер вул. Маякоўскага) злучалася з гандл. плошчай. Забудова горада фарміравалася вакол 3 звязаных паміж сабой плошчаў: галоўнай гандлёвай, перад дамініканскім касцёлам (цяпер пл. Леніна) і перад сінагогай (цяпер калгасны рынак на вул. Савецкай). Вуліцы накіраваны да гандлёвай плошчы, большасць з іх былі брукаваныя. З 1795 С. у складзе Расіі, цэнтр павета, у 1795—97 цэнтр Слонімскай губ. У 1825 у С. 5364 жыхары, 700 дамоў (1… мураваных), у 1857 — 9523 жыхары



**Слонім.** Фота пачатку 20 ст.

66 мураваных і 745 драўляных дамоў. У 1885 праз С. пракладзена чыгунка. У 1897 было 15 893 жыхары, 5 піваварных, 4 ганчарныя, 2 гарбарныя з-ды, 3 канатныя ф-кі, дрожджа-вінакурны з-д, некалькі млыноў, 1312 жылых дамоў, у т. л. 333 мураваныя. У 19 ст. былі распрацаваны праекты перапланіроўкі С. (у 1825, 1863, 1870, 1876), якія прадугледжвалі захаванне гіст. планіровачнай структуры горада. Паводле іх пабудаваны 2—3-павярховыя цагляныя дамы ў цэнтры горада. Значныя страты драўлянай забудове прычыніў пажар 1881. Захаваліся фрагменты характэрнай для 18 — пач. 20 ст. забудовы — *Слонімскія жылыя дамы.* У 1-й пал. 19 ст. пабудаваны паштовая станцыя, суконная ф-ка (у Альбярціне), у 1-й пал. 20 ст. ў стылі мадэрн — *Слонімскага вакзала будынак, Слонімскага банка будынак.* У 1891 з 79 гарадскіх кварталаў было 12 мураваных, водаправод. Кампазіцыю цэнтра ўпрыгожыў парк, пасаджаны ўздоўж канала Агінскага. Напярэдадні 1-й сусветнай вайны ў С. 21 624 жыхары. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. З 1939 у БССР, 26,7 тыс. жыхароў. З 1940 цэнтр раёна. 20,4 тыс. жыхароў у 1959. З 1963 горад абл. падпарадкавання. У 1965 у С. уключаны г. п. Альбярцін (пас. Фабрычны). 30,3 тыс. жыхароў у 1970. Сучасны горад размешчаны абапал р. Шчара. На левым, больш узгорыстым, беразе знаходзіцца цэнтр. частка горада з гіст. планіроўкай і асн. жылы масіў. Правабярэжжа, або Замосце, размешчана на паніжаным поймавым рэльефе. Генпланы С. распрацаваны ў 1963 (ін-т «Белдзяржпраект», арх. Л. Васільеў, С. Мамаева, карэкціроўка 1966) і ў 1973 (Мінскі філіял ЦНДІП-горадабудаўніцтва, арх. А. Агафонава, карэкціроўка БелНДІПгорадабудаўніцтва 1987, арх. Т. Татарынцава), у 1980 зроблены праект дэталёвай планіроўкі цэнтра (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Татарынцава). Гал. вуліцы, якія фарміруюць горад,— Чырвонаармейская, Пушкіна, Савецкая, П. Лумумбы. Адм.-грамадскі цэнтр склаўся на вул. Першамайскай (да яе прылягае сквер; зберагліся фрагменты жылой забудовы 2-й пал. 19 ст.) і на пл. Леніна (зберагліся жылыя дамы 2-й пал. 18 — пач. 20 ст.). На вул. Чырвонаармейскай захаваліся фрагменты жылой забудовы канца 19 — пач. 20 ст., на вул. Пушкіна разбіты сквер, збярогся помнік архітэктуры — *Слонімская капліца Дамініка.* Вул. Камсамольская злучае гіст. цэнтр з паўн.-зах. жылым раёнам, які ўзнік у пасляваенныя гады (на вуліцы захаваўся помнік архітэктуры 1-й пал. 19 ст.— гарадскі асабняк; гл. ў арт. *Слонімскія асабнякі).* Вул. Савецкая пачынаецца ад будынка б. сінагогі, злучае цераз канал Агінскага і Шчару правабярэжжа горада з левабярэжжам, звязвае цэнтр з чыг. вакзалам і аўтастанцыяй. На вуліцы зберагліся помнікі архітэктуры — ратуша і *Слонімская аўстэрыя.* У раёне Замосце будынкамі *Слонімскага Андрэеўскага касцёла,* рэстарана, жылых дамоў утворана пл. Горкага, сфарміраваная ў 18 ст. як горадабудаўнічы цэнтр правабярэжжа. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. У паўд.-зах. частцы горада створаны мікрараён Тэкстыльшчык з 5—9-павярховай забудовай, у фабрычным пас. будуецца 5-павярховы мікрараён. Вытв. зона размешчана ў паўд.-зах., паўн.-ўсх. частках горада і ў пас. Фабрычным. Зона адпачынку — р. Шчара, канал Агінскага з паркам уздоўж яго, парк у пас. Фабрычным, дзе захаваўся помнік архітэктуры 1-й пал. 19 ст.— *Слонімская сядзіба «Альбярцін».* Прадугледжана развіццё горада на ПдЗ і ПнУ, стварэнне новага грамадскага цэнтра, расшырэнне зоны спорту і адпачынку. *Ю. У. Чантурыя.*



Будынак Слонімскага вакзала.



**Слонімскага банка будынак.**

**СЛОНІМСКАГА БАНКА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры мадэрна. Пабудаваны ў 1905 з цэглы ў Слоніме (сучасная вул. Васі Крайняга, 21), 1-павярховы будынак з сіметрычна-восевай кампазіцыяй гал. фасада. Цэнтр яго вылучаны рызалітам з увагнута-выпуклым пластычным шчытом. Гал. ўваход аформлены буйным руставаным парталам. Дэкар. вырашэнне заснавана на спалучэнні чырвонага фону цаглянай муроўкі і атынкаваных архіт. дэталей. Фасады рытмічна расчлянёныя вял. прамавугольнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры вылучаецца па памерах цэнтр. аперацыйная зала.

**СЛОНІМСКАГА ВАКЗАЛА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры неабарока. Пабудаваны ў 1922 з цэглы ў Слоніме. Прамавугольны ў плане мураваны будынак з мансардавым дахам складанага пластычнага малюнка. Прасторавае развіццё кампазіцыі дасягаецца 3-ступеньчатым павышэннем аб'ёмаў, якое нарастае да цэнтра: ад адносна нізкіх бакавых крылаў праз цэнтр. аб'ём да мансардавага паверха. У архітэктуры выкарыстаны стылізаваныя элементы барока. Франтальныя фасады маюць па цэнтры 2-павярховыя рызаліты з фігурнымі франтонамі, дэкарыраванымі валютамі, шарамі на пастаментах, філянговымі парапетамі. 1-павярховы аб'ём уваходнага тамбура завершаны «разарваным» франтонам. Фасады дэкарыраваны рустам, расчлянёны прамавугольнымі і арачнымі высокімі аконнымі і дзвярнымі праёмамі. Планіроўка калідорна-анфіладная. Квадратны ў плане вестыбюль у цэнтры кароткі-

мі пераходамі злучаны з касавай залай, залай чакання. Службовыя памяшканні маюць асобныя ўваходы ў тарцах будынка. Цэнтр. лесвіца звязвае вестыбюль са службовым мансардавым паверхам.

*А. М. Кулагін.*



Слонімская аўстэрыя.



Слонімская капліца Даменіка.

**СЛОНІМСКАЯ АЎСТЭРЫЯ**, помнік архітэктуры барока. Пабудавана ў 2-й пал. 18 ст. з цэглы як заезны дом пры палацы слонімскага старосты М. К. Агінскага. Спачатку 2-павярховы (у 20 ст. надбудаваны 3-і паверх, завершаны 2-схільным дахам). Гал. фасад прамавугольнага ў плане будынка раскрапаваны буйнамаштабнымі руставанымі лапаткамі і расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Палавіна 1-га паверха была адведзена пад гасцініую, перакрытую 4 ветразевымі скляпеннямі з цэнтр. апорай. Пад гэтаю часткай дома размешчаны шырокія скляпеністыя падвалы. Цэнтр. лесвіца вядзе з вузкага вестыбюля на 2-і жылы паверх. Цяпер у будынку размешчана навучальная ўстанова. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**СЛОНІМСКАЯ КАПЛІЦА ДАМІНІКА**, помнік архітэктуры ракако. Пабудавана ў 1745 у зах. частцы Слоніма, на скрыжаванні вуліц Міцкевіча і Пушкіна. У 18 ст. пры ўездзе ў горад стаялі 2 капліцы, якія былі накшталт пагранічнага знака (захавалася капліца св. Даменіка). Капліца — цэнтрычнае 3-яруснае цагляное збудаванне. 2 ніжнія ярусы маюць квадратнае сячэнне з увагнутымі гранямі і зрэзанымі вугламі, выразна падкрэслены чарапічнымі злівамі і прафіляванымі карнізамі. 1-ы ярус масіўны, маналітны, устаноўлены на нізкім цокалі, 2-і — скразны, з 4 арачнымі прасветамі (прызначаліся для драўлянай скульптуры св. Даменіка, не захавалася), 3-і — фігурная ўвагнутапукатая вежачка з шатровым пакрыццём. *А. М. Кулагін.*



Слонімская ратуша.

**СЛОНІМСКАЯ РАТУША**, помнік архітэктуры барока. Пабудавана ў сярэдзіне 18 ст. з цэглы ў цэнтры Слоніма (сучасная вул. Савецкая, 6). Кампактны прамавугольны ў плане 2-павярховы мураваны будынак з 2-схільным дахам. Разам з гасп. службовымі пабудовамі ўтвараў замкнёны прамавугольны двор. Фасады раскрапаваны плоскімі пілястрамі, філёнгамі, нішамі. Планіроўка анфіладна-калідорная з вестыбюлем і лесвіцай у цэнтры. Апроч пакояў для членаў магістрата і залы пасяджэнняў, у ратушы былі памяшканні для гараднічага, суда, гаўптвахты, архіва і інш. Пасля Айч. вайны ў будынку размешчаны гарвыканком. Будынак б. ратушы — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*



Слонімская сінагога.

**СЛОНІМСКАЯ СІНАГОГА**, помнік архітэктуры барока. Пабудавана ў 1642 у гіст. цэнтры Слоніма, непадалёк ад рынку (сучасная вул. Савецкая, 1). Кампактны мураваны будынак мае выгляд базілікі. Да асн. квадратнага ў плане аб'ёму, накрытага 2-схільным дахам, з 3 бакоў прылягаюць больш нізкія аб'ёмы з дапаможнымі памяшканнямі. Гал. фасад завершаны франтонам складанага пластычнага абрысу і ўпрыгожаны дэкар. дэталямі (здвоеныя пілястры, нішы, вокны-ружы, валюты па баках). Прыбудовы пры ўваходзе больш позвія. Гал. зала ўнутры мае 9-польную сістэму скляпенняў. 4 слупы ў цэнтры падтрымліваюць «ліхтарню», аздобленую лепкай у тэхніцы стука. Пасля Айч. вайны выкарыстоўвалася пад склады. Помнік рэспубліканскага значэння.

**СЛОНІМСКАЯ СЯДЗІБА «АЛЬБЯРЦІН»**, помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму. Створана ў б. прамысловым прыгарадзе Слоніма (сучасная вул. Калгасная, 8) на заказ прамыславіка В. Пуслоўскага. У комплекс уваходзілі сядзібны дом, флігель, гасп. пабудовы (стайня, млын і інш.), пейзажны парк і лесапарк з возерам Альбярцінскім, створаным запрудай і млыном на р. Іса. Побач з сядзібай размяшчаліся суконная і папяровая ф-кі ўладальніка. Сядзібны дом (пабудаваны на месцы старой карчмы) — 2-павярхо-



Слонімская сядзіба «Альбярцін». З малюнка 19 ст.

ны мураваны прамавугольны ў плане будынак з асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй. На гал. фасадзе ў цэнтры 2-калонны іанічны порцік з антамі, завершаны 3-вугольным франтонам, і бакавы рызаліт. У афармленні ўвахода выкарыстаны фігурныя скульптуры львоў. У аздобе інтэр'ераў выкарыстаны архіт. дэкор і лепка. У будынку размешчана ўстанова культуры. З гасп. пабудоў зберaглася выкананая ў стылі мадэрн у пач. 20 ст. стайня — неатынкаваны мураваны будынак з арнаментальнай муроўкай. У цэнтры гал. фасада арачны партал з абрамленнем у выглядзе



Слонімская сядзіба «Альбярцін». Сядзібны дом.

падковы і ляпной маскі каня. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

**СЛОНІМСКІ АНДРЭЕЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга барока. У зарэчнай усх. частцы Слоніма (сучасная пл. М. Горкага). Першапачаткова засн. каля 1490 па фундацыі караля Казіміра IV Ягелончыка драўляны касцёл. Новы будынак узведзены Львом Сапегам у 1595, перабудаваны ў 1660. Мураваны касцёл пабудаваны ў 1775, рэстаўрыраваны пасля 1-й сусветнай вайны. 1-нефавы храм з 2-вежавым гал. фасадам. Неф, алтарная частка і сіметрычныя бакавыя сакрысціі прамавугольныя ў плане, маюць сціплае дэкар. аздабленне. Вежы пастаўлены пад вуглом да гал. фасада, што надае яму хвалістую прасторавую структуру. Гал. фасад багата дэкарыраваны слаістымі пілястрамі, фігурным франтонам, валютамі, раскрапоўкамі, глыбокімі нішамі і інш. У інтэр'еры неф пера-



Слонімскі Андрэеўскі касцёл.

крыты паўцыркульным скляпеннем з распалубкамі. У паўн. частцы храма — хоры. На тарцовай сцяне над уваходам — фрэскавая размалёўка: пілястры з ракайлямі, фігуры анёлаў, муз. атрыбуты (інструменты), ваза. Каларыстычная гама — светла-блакітная, белы і ружовы тоны, пазалота. Гал. пластычна-дэкар. акцэнтам з'яўляецца цэнтр. стукавы алтар у выглядзе порціка са здвоенымі карынфскімі калонамі, завершаны 3-вугольным франтонам. Уздоўж схілаў франтона размешчаны стукавыя скульптуры анёлаў. На бакавых сценах прэсбітэрыя прамавугольныя акаймаваныя ілюзорнай рамкай жоўта-карычневага колеру фрэскавыя кампазіцыі на біблейскія сюжэты («Хрыстос у храме», «Уцёкі ў Егіпет»). Пасля Айч. вайны касцёл закрыты. Значна пашкоджаны. Плануецца яго рэстаўрацыя. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. В. Габрусь, В. В. Церашчатава.*

**СЛОНІМСКІ ЗАМАК,** з а м ч ы ш ч а, з а м а к, назва стараж. цэнтра Слоніма, а таксама шэрага палацава-замкавых комплексаў, пабудаваных на яго месцы ў 11—18 стагоддзях. Спачатку пабудаваны драўляны астрог, потым дзядзінец 12—13 ст., у 14—15 стагоддзях — драўляны замак на высокім насыпе з падпорнай сценкай з вял. камянёў (разбураны пасля 1506). У 1520 перабудаваны ў невял. драўляны палац з залай пасяджэнняў, дзе ў 2-й пал. 17 ст. адбываліся ген. сеймікі. Палац быў абкружаны драўлянымі гароднямі з вежамі. Каля 1768 зруйнаваны, на яго месцы пастаўлены архіт. комплекс — П-падобны ў плане палац (1-павярховы мураваны будынак з бакавымі драўлянымі флігелямі) з парадным дваром у цэнтры. Палац меў 116 пакояў і залу (найб. пышная ў стылі ракако «зала багінь», рэстаўрыравана ў 1788). У комплекс уваходзілі манеж, аранжарэя, вял. дамы для прыдворных і гасцей, друкарня (1777), гасп. пабудовы і т-р, пабудаваны паблізу замка на беразе выраўнаванага рукава р. Шчара. Палацавы комплекс аддзяляўся ад гарадскіх збудаван-




Слонімскі замак на плане Слоніма 1796. *1* — палац; *2* — тэатр.

няў і гандл. плошчы сажалкай і рэгулярным садам (майстар паркавай архітэктуры Ле Рак, прыгонны садоўнік Васіль). Не збярогся.

**СЛОНІМСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНАК,** помнік архітэктуры барока і ракако. Пабудаваны ў сярэдзіне 17 — 2-й пал. 18 ст. з цэглы ў цэнтры Слоніма на б. Рыначнай пл. (сучасная вул. Першамайская). Пашкоджаны пажарам у 1790, адноўлены ў 1793. Тэр. комплексу была абнесена магутнай мураванай сцяной з барочнай ўязной брамай (не захавалася). К а с ц ё л пабудаваны ў 1664—70 на месцы драўлянага храма, закладзенага ў 1645. 1-нефавы прамавугольны ў плане мураваны будынак з паўкруглай апсідай з рознавялікімі сакрысціямі і 3-яруснай чацверыковай вежай-званіцай пры ўваходзе. Верхні ярус вежы-званіцы дэкаратыўна апрацаваны здвоенымі лапаткамі, арачнымі нішамі, аконнымі праёмамі. Сцены расчлянёны масіўнымі слупамі-пілястрамі, капітэлі якіх дэкарыраваны стылізаваным раслінным арнаментам. Зала касцёла, перакрытая цыліндрычным скляпеннем з люнетамі, пераходзіць у больш вузкі прэсбітэрый з паўкруглым завяршэннем апсіды. Інтэр'ер у 1751—64 быў упрыгожаны гал. 2-ярусным і 4 бакавымі алтарамі, амбонам, спавядальняй у стылі ракако [стукавыя арнаменты і скульптура выкананы майстрам Гедэлем (Гезэлем?) паводле эскізаў невядомага мастака]; вылучалася барочная печ сакрысціі, абліцаваная зялёнай кафляй (17 ст., не захавалася). У 1764 да касцёла прыбудаваны мураваны 2-павярховы к л я ш т а р з замкнёным квадратным дваром (арх. І. Авадовіч; у 1790 пашкоджаны пажарам, у 1793 адноўлены, у 1801 абноўлены). Фасады кляштара рытмічна расчлянёны пілястрамі, дэкарыраваны прафіляваным карнізам і поясам. Паўд.-зах. вугал будынка вылучаны рызалітам, умацаваным магутнымі контрфорсамі. Планіроўка галерэйная. У келлях манахаў і калідорах крыжовыя і цыліндрычныя скляпенні з распалубкамі. У кляштары размешчана гарадская бальніца. Касцёл дзейнічае. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**СЛОНІМСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ,** помнік архітэктуры барока. Ва ўсх. частцы гіст. ядра Слоніма на левым беразе р. Шчара (сучасная вул. Васі Крайняга). Узведзены ў 17 ст. як апорны пункт сістэмы гарадскіх абарончых збудаванняў. К а с ц ё л пабудаваны ў 1639—45 на месцы драўлянага (закладзены ў 1630 па фундацыі каралеўскага сакратара А. Радвана), у 1864 пераабсталяваны пад Троіцкую царкву. Касцёл — 1-нефавы мураваны храм з выцягнутым прэсбітэрыем, сакрысціямі і паўкруглай алтарнай апсідай, 3-яруснай вежай-званіцай пры ўваходзе (1-ы ярус квадратны ў плане, умацаваны контрфорсамі, 2 верхнія — 8-гранныя, аздобленыя пілястрамі), накрытай шатровым дахам. У 1668 і 1750 да апсіды прыбудаваны 2 бакавыя квадратныя ў плане капліцы, завершаныя шлемападобнымі купаламі. Сцены касцёла ўмацаваны контрфорсамі, прарэзаны вял. вокнамі з паўцыркульнымі завяршэннямі. Уваходны партал касцёла аформлены ордэрнымі элементамі: паўкалонамі, спрошчаным антаблементам, архівольтамі. Неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Прасценкі ўмацаваны слупамі-пілястрамі. Гал. і бакавы алтары выкананы ў стылі ракако 1-й пал. 18 ст. Гал. алтар мае сіметрычна-восевую шматкалонную і шматфігурную кампазіцыю: на цокаль у выглядзе арачных ніш з п'едэсталам устаноўлена каланада цёмна-карычневага стука, над ёй раскрапаваны антаблемент з фігурамі анёлаў (пасля 1864 у алтары ўстаноўлены іканастас). З паўд. боку ад касцёла знаходзіцца к л я ш т а р (пабудаваны ў 1749?) — 2-павярховы мураваны будынак, глухія сцены якога прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, аздоблены пілястрамі і міжпаверхавай цягай. Планіроўка галерэйная. У калідорах і памяшканнях захаваліся крыжовыя і цыліндрычныя скля-



**Слонімскі касцёл і кляштар бернардзінак.** Выгляд касцёла з боку апсіды.



**Слонімскі касцёл і кляштар бернардзінак.** Інтэр'ер касцёла.



Слонімскі касцёл і кляштар бернардзінцаў. Галоўны фасад касцёла.



Слонімскі кляштар бенедыкцінак.

енні з распалубкамі. У тарцы ўсх. крыла — шырокая зала, перакрытая цыліндрычным скляпеннем з люнетамі. Зараз у ім размешчаны інтэрнат медвучылішча. Будынкі — помнікі рэспубліканскага значэння.
*А. М. Кулагін.*

**СЛОНІМСКІ КЛЯШТАР БЕНЕДЫКЦІНАК,** помнік архітэктуры класіцызму. На паўд.-ўсх. ускраіне Слоніма (сучасная вул. Чырвонаармейская). Засн. ў 1669, у 1801 на месцы б. драўляных пабудоў узведзены мураваныя. Ансамбль ордэна ўключаў Крыжаўзвіжанскі касцёл (не захаваўся) і жылы корпус. Касцёл — манументальнае 2-вежавае збудаванне. Яго фасады былі ўпрыгожаны каланадай, у інтэр'еры — сюжэтныя фрэскавыя размалёўкі. Да касцёла прымыкаў жылы корпус — 2-павярхoвы Г-падобны ў плане будынак, накрыты 2-схільным дахам. Пластыку фасадаў вызначаюць арытмічна размешчаныя лапаткі. Планіроўка галерэйная. Захаваліся часткова скляпеністыя перакрыцці. Пад будынкам на ўсю даўжыню размешчаны скляпеністыя падвалы, таксама мелі галерэйную планіроўку. У 1920—30-я гады ў жылым корпусе размяшчалася польская настаўніцкая семінарыя, пасля Айч. вайны — сярэдняя школа № 1.
*А. М. Кулагін.*

**СЛОНІМСКІЯ АСАБНЯКІ,** помнікі грамадзянскай архітэктуры 19—20 стагоддзяў. Вылучаюцца асабнякі на вул. Камсамольскай (дом № 25), Маякоўскага (дом № 9), Савецкай (дом № 58), Чкалава (дом № 9). Асабняк па сучаснай вул. Камсамольскай, 25. Мураваны прамавугольны ў плане 1-павярхoвы будынак пастаўлены на высокім цокальным паверсе і накрыты вальмавым дахам. Пабудаваны ў 1-й пал. 19 ст. ў стылі позняга класіцызму. Размешчаны ў глыбіні прамавугольнага параднага двара і фланкіраваны двума 1-павярхoвымі флігелямі. Цэнтр. ўваход вылучаны мансардавым порцікам з 4 канеліраванымі калонамі тасканскага ордэра і 3-вугольным франтонам, у дэкоры выкарыстаны руставаныя лапаткі па вуглах і прафіляваны дарычны карніз на сухарыках. Фасады рытмічна расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі.



Слонімскія асабнякі. Дом № 25 па вуліцы Камсамольскай.



Слонімскія асабнякі. Дом № 9 па вуліцы Маякоўскага.

Флігелі вырашаны ў лаканічных формах без архіт.-стылявой распрацоўкі. Пачатковая калідорная планіроўка не збераглася. У будынку размешчана медыцынская ўстанова. Помнік рэспубліканскага значэння. Асабняк па сучаснай вул. Маякоўскага, 9. Мураваны прамавугольны ў плане 2-павярхoвы будынак з 2-схільным дахам. Пабудаваны ў стылі мадэрн на штучным плато левага берага канала Агінскага ў пач. 20 ст. Вось сіметрыі гал. фасада адзначана цэнтр. уваходным рызалітам з 3-вугольным франтонам у завяршэнні. Каларыстычнае і дэкар. вырашэнне фасадаў заснавана на спалучэнні жоўтага фону неатынкаванай цаглянай муроўкі і выкананых з чырвонай цэглы архіт. элементаў (ліштвы, руст, фрыз і карніз). Планіроўка анфіладная. У цэнтры — вял. вестыбюль з калонамі. Тры міжпаверхавыя лесвіцы знаходзяцца ў вугла-



Слонімскія асабнякі. Дом № 58 па вуліцы Савецкай.



**Слонімскія асабнякі.** Дом № 9 па вуліцы Чкалава.

вых частках дома. Значную прастору пад імі займаюць падвалы. Выкарыстоўваецца як пошта. Асабняк па сучаснай вул. Савецкай, 58. Драўляны 1-павярховы будынак з высокім мансардавым дахам. Пабудаваны ў 1923 у рэтраспектыўных формах сядзібнай архітэктуры 2-й пал. 18 — пач. 20 ст. Манументальнасць і пластычнасць аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дома дасягаецца выкарыстаннем шырокага цэнтр. рызаліта з фігурным шчытом і вуглавых контрфорсаў. Умацаванне вуглавых сучляненняў выклікана неабходнасцю пагасіць значны распор вялікапралётных перакрыццяў, якія апіраюцца на адносна тонкія сцены. Выкарыстоўваецца пад медыцынскую ўстанову. Асабняк па сучаснай вул. Чкалава, 9. Драўляны 1-павярховы П-падобны ў плане будынак завершаны пластычным па форме высокім дахам. Пабудаваны ў 1923 (арх. Бой) у рэтраспектыўных формах сядзібнага буд-ва канца 18 — пач. 19 ст. Размешчаны ў глыбіні вулічнай забудовы ў невял. скверы. Мае буйны маштаб і развітую прасторавую кампазіцыю. Гал. ўваход падкрэслены шырокім 6-калонным порцікам з трохвугольным франтонам. На плоскасных фасадах вылучаюцца прамавугольныя аконныя праёмы з простымі ліштвамі. Планіровачная арганізацыя дома заснавана на калідорнай схеме з аднабаковым размяшчэннем асн. прамавугольных памяшканняў. Выкарыстоўваецца пад медыцынскую ўстанову. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**СЛОНІМСКІЯ ЖЫЛЫЯ ДАМЫ,** помнікі архітэктуры 19 — 1-й пал. 20 ст. Вылучаюцца дамы на сучасных вуліцах В. Крайняга (№№ 5, 16), Пушкіна (№ 8), Я. Купалы (№ 5) і пл. Леніна (№ 6). Дом № 5 па вул. В. Крайняга (былыя Спаская і Бернардзінская). 2-павярховы цагляны будынак. Пабудаваны ў «цагляным» стылі на мяжы 19—20 стагоддзяў. У плане — няправільны 4-вугольнік, выцягнуты ў глыбіню двара. Вузкі гал. фасад падзелены на 2 ярусы (1-ы дэкарыраваны



Дом па вуліцы Пушкіна, 8.

філянговымі вуглавымі лапаткамі і рустам, 2-і завершаны складанымі па малюнку атыкам, аздобленымі аркатурай, нішамі, пінаклямі і інш. Прамавугольныя вокны 2-га яруса аздоблены лучковымі перамычкамі. Унутраная прастора дома падзелена на 2 часткі з уваходамі з бакавога зах. фасада. Выкарыстоўваецца як жылы. Дом № 8 па вул. Пушкіна (б. Апанасоўская) — 1-павярховы цагляны будынак, у плане — няправільны 4-вугольнік. Пабудаваны ў 1930 на скрыжаванні з вул. Камсамольскай (б. Замкавая). Мае характэрныя рысы стылю мадэрн у правінцыяльнай трактоўцы. Тры вуглавыя часткі вулічных фасадаў вылучаны неглыбокімі рызалітамі, завершанымі акруглымі атыкамі з авальнымі люкарнамі. Гал. акцэ-



Дом па вуліцы Крайняга, 5.



Дом на плошчы Леніна, 1.

там фасада з'яўляецца вуглавы ризаліт, завершаны пластычным па малюнку атыкам з пінаклямі. Сцены фасадаў апрацаваны рустам, расчлянёны прамавугольнымі вокнамі з сандрыкамі і філёнгамі. Гал. ўваход вылучаны казырком. Планіроўка калідорная. Папярочная капітальная сцяна і перагародкі вылучаюць розныя па памерах памяшканні з калідорнай сувяззю. Выкарыстоўваецца адм. установай. Дом № 5 па вул. Я. Купалы. Цагляны 2-павярховы трапецападобны ў плане будынак. Пабудаваны ў 1905 у «цагляным» стылі. Займае астраўное становішча ў забудове вуліцы перад пешаходным мостам цераз канал Агінскага. Фасады маюць інтэнсіўную крапоўку і архіт.-дэкар. апрацоўку. Арнаментальнай цаглянай муроўкай выканаваны філянговыя лапаткі, карнізы з гіркамі, сандрыкі. Майстэрская цагляная муроўка, складаная канфігурацыя плана, рацыянальнае выкарыстанне дэкар. аздобы (толькі па вулічным фасадзе) — характэрныя асаблівасці грамадзянскага буд-ва пач. 20 ст. Планіроўка дома зменена. Выкарыстоўваецца прадпрыемствам быт. абслугоўвання. Дом № 6 на пл. Леніна (вядомая як плошча перад Дамініканскім касцёлам). 2-павярховы будынак няправільнай прамавугольнай формы плана. Пабудаваны на мяжы 19—20 стагоддзяў на паўд.-зах. баку плошчы. Фасад рытмічна расчлянёны прамавугольнымі вокнамі ў ліштвах арнаментальнай цаглянай муроўкі, завершаны 2-гранным атыкам, дэкарыраваны вуглавымі лапаткамі, аркатурнымі фрызамі і прафіляванымі цягамі. Выкарыстоўваецца як жылы. Дамы — помнікі рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**СЛУЦК,** горад, цэнтр раёна, на р. Случ. За 102 км ад Мінска. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1116 (летапісны Случеск, Случеск). Уваходзіў у склад Тураўскага княства (да 1190). З 1160 цэнтр удзельнага княства. З 1320—30-х гадоў у Вял. кн. Літоўскім. З 1395 цэнтр удзельнага княства, якое належала стрыечнаму брату Вітаўта Уладзіміру Альгердавічу і яго нашчадкам кн. Алелькавічам (да 1612). Стараж. гарадзішча С. знаходзіцца пры ўпадзенні р. Бычок у Случ. У пач. 16 ст. тут пабудаваны Верхні і Ніжні замкі (гл. *Слуцкія замкі*). У 1441 С. атрымаў магдэбургскае права (пацверджана ў 1652—53 і 1700), адначасова і герб «Пагоня» — коннік са шчытом і мячом. З 1507 у Навагрудскім пав. Навагрудскага ваяводства. У 1579 С. падзелены паміж



**Слуцк.** Забудова па вуліцах Леніна і 14 Партызан.

З братамі Алелькавічамі на Стары горад, Новы горад і Востраў. Стары горад — найбольш стараж. частка горада з замкамі на правым беразе Случы, вакол якой быў вал. Спачатку горад развіваўся ва ўсх. напрамку. Паміж пасадам і замкам знаходзілася гандл. плошча, у 1419 тут пабудаваны фарны касцёл. У канцы 15 ст. С. пачаў расці ў зах. напрамку, расшыраўся і на Пн, фарміраваўся як горад



Дом на плошчы Леніна, 6.

з радыяльна-кальцавой планіроўкай. Новы горад — левабярэжжа, паўд. частка горада, забудоўвалася пазней, у 16 ст. тут склалася прамавугольная сетка вуліц з адносна буйнымі кварталамі, забудаванымі драўлянымі дамамі. Абедзве часткі горада злучаліся паміж сабой мостам, на якім размяшчаліся млыны. Востраў — прадмесце С., знаходзіўся за гарадскімі ўмацаваннямі, на ПнУ ад горада. Уніз па цячэнні Случы, на яе правым беразе было прадмесце Трайчаны — пасяленне вакол Троіцкага (Трайчанскага) манастыра, у які ўваходзілі 2 царквы (драўляная Благавешчанняі мураваная Троіцкая), келлі, жылыя дамы, сад, сажалка (гл. *Слуцкі Троіцкі манастыр*). У 1592 усе часткі С. і княства аб'яднаны і перайшлі да апошняй князёўны з роду Алелькавічаў — Соф'і Юр'еўны, а праз яе — да Радзівілаў, якія валодалі горадам у 1612—95 і ў 1744—1832. Пры Радзівілах пабудаваны новыя абарончыя ўмацаванні, цытадэль, распрацаваны рэгулярны план Новага горада. У 1695—1744 С. належаў прынцэсам Нейбургскім, у 1832—46 — кн. Л. П. Вітгенштэйну, у якога быў набыты дзярж. казной. У 1593 у С. каля 7 тыс. жыхароў і каля 1100 двароў. У 1630—40-я гады С. ператвораны ў горад-крэпасць, умацаваны земляныміваламі і ровам, бастыёнамі і равелінамі. Уваходы ў горад меліся праз Віленскую, Капыльскую і Астроўскую мураваныя брамы з пад'ёмнымі мастамі, а таксама драўляную Навамейскую браму. Замкнуты авальны (1200×1000 м) С. меў 8 бастыёнаў і 3 равеліны ў паўн. частцы і 5 бастыёнаў і равелін у паўднёвай. На ўсх. мяжы горада знаходзілася квадратная ў плане з 4 бастыёнамі па вуглах цытадэль, абкружаная валам і ровам, злучалася з крэпасцю. У 1650 у С. 930 «дымоў», у 1667—1086. У 2-й пал. 17 ст. С.— адзін з найбуйнейшых гарадоў Беларусі з насельніцтвам 8,5—9 тыс. жыхароў (1683). У канцы 17—18 ст. пабудаваны Слуцкая ратуша, *Слуц-*

*кія касцёлы* і *калегіум езуітаў*. У канцы 18 ст. горад занепаў. З 1791 княства як адм.-тэр. адзінка ліквідавана, С.— цэнтр Случарэцкага пав. Навагрудскага ваяводства. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, цэнтр павета Мінскай губ. У 1840-я гады ў сувязі з буд-вам шашы парушана гіст. планіроўка горада. С. стаў развівацца на З і У, уздоўж шашы ўзводзіліся асн. мураваныя будынкі — *Слуцкая паштовая станцыя, Слуцкага дваранскага сходу будынак* і інш. У сярэдзіне 19 ст. ў С. існавалі 8 праваслаўных цэркваў, у т. л. *Слуцкая Міхайлаўская царква*, Троіцкая царква, Вазнясенская (пабудавана ў 1782), саборная Успенская Мікалаеўская (пабудавана ў 1819 на месцы б. замкавай, узведзенай у 1409), *Слуцкі касцёл і кляштар бернардзінцаў*, 2 каталіцкія капліцы, 2 кальвінісцкія царквы (у 1617 пабудавана драўляная ў Новым горадзе Янушам Радзівілам, у 1852 на яе месцы мураваная, не захавалася), 2 сінагогі. Раней існавалі манастыры Ільінскі мужчынскі (потым жаночы) і Праабражэнскі мужчынскі. У канцы 18 ст. пабудаваны мураваны касцёл (не захаваўся). У 1897 у С. 14,3 тыс. жыхароў; праводзіліся 4 кірмашы на год. З 1924 С.— цэнтр раёна, у 1924—27 і 1935—38 — акругі. З 27.9.1938 горад абл. падпарадкавання ў Мінскай вобл. У 1939 — 21,9 тыс. жыхароў. У 1944—54 раённы цэнтр Бабруйскай вобл.

План забудовы С. распрацаваны ў 1823, паводле якога горад фарміраваўся з 2 частак, падзеленых ракой — яго кампазіцыйнай воссю. План прадугледжваў упарадкаванне вулічнай сеткі, буд-ва новых мураваных дамоў, зліццё цэнтра з ускраінамі. У сав. час С. забудоўваўся паводле генпланаў 1940, 1947 (арх. Г. Парсаданаў), 1962 (арх. В. Сушчыц, Н. Вайбовіч, А. Сідзельнікаў; усе «Белдзяржпраект», карэкціроўка апошняга ў 1971 у Мінскім філіяле ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Шэліхава, Т. Купрэева), 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. М. Мызнікаў, Шэліхава, Купрэева) і праекта дэталёвай планіроўкі 1978 («Мінскграмадзянпраект», арх. П. Алфімава, А. Кракалёва). Асн. забудова вялася ўздоўж вуліц-дарог, якія з'яўляюцца ўездамі ў горад з боку Мінска і Бабруйска, што вызначыла яго працягласць з З на У (каля 11 км). Асн. вуліцы (Леніна, К. Лібкнехта, Валадарскага, Урыцкага, 14 Партызан) — участкі знешніх аўтадарог. Планіровачная структура — радыяльна-кальцавая ў цэнтр. частцы горада, да яе прылягаюць раёны з прамавугольнай сеткай вуліц. Гал.



**Слуцкага дваранскага сходу будынак.**

кампазіцыйная вось — вул. Леніна — забудавана пераважна 5-павярховымі дамамі. На скрыжаванні вуліц Леніна, Валадарскага і Урыцкага знаходзіцца цэнтр. плошча — адм.-грамадскі і культ. цэнтр; на пл. пастаўлены помнік У. І. Леніну, тут узведзены 3—4-павярховыя жылыя дамы з магазінамі на першых паверхах. У 1960-я гады ў С. пачалося 4—5-павярховае жыллёвае буд-ва (вуліцы Леніна, Сацыялістычная, Гагарына, К. Лібкнехта), з 1970-х гадоў узводзяцца мікрараёны з 5—9-павярховымі жылымі дамамі (па вуліцах Урыцкага — Жукава, Валадарскага — Чайкоўскага, Камсамольскай, паміж вуліцамі Леніна і 14 Партызан). На ўскраінах пераважае драўляная забудова сядзібнага тыпу. Вытворчая зона размешчана ў паўн.-ўсх. і паўн.-зах. частках горада. Зона адпачынку — берагі р. Случ, гарадскі парк культуры і адпачынку.

*А. П. Грыцкевіч, В. Р. Кукуня, С. Ф. Самбук.*

**СЛУЦКАГА ДВАРАНСКАГА СХОДУ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы ў цэнтры горада (вул. Леніна, 171). 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак на высокім цокалі, накрыты вальмавым дахам. Архіт.-пластычным акцэнтам будынка з'яўляецца 4-калонны порцік, якім вылучаны гал. ўваход. Папарна ўстаноўленыя калоны падтрымліваюць драўляны 3-вугольны франтон і антаблемент. Гал. фасад у бакавых частках раскрапаваны руставанымі лапаткамі; вял. прамавугольныя вокны ў простых ліштвах. Пад домам знаходзяцца скляпеністыя падвалы. Планіроўка будынка зменена, прыстасаваны пад муз. экспазіцыю. З 1952 у будынку размешчаны краязнаўчы музей. Помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**СЛУЦКАГА ДУХОЎНАГА ВУЧЫЛІШЧА БУДЫНАК,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1767 з цэглы ў цэнтры горада (вул. К. Лібкнехта, 45). 2-павярховы П-падобны ў плане будынак з бакавымі рызалітамі, завершанымі 3-вугольнымі франтонамі, накрыты 2-схільным дахам. Над цэнтр. часткай гал. фасада, упрыгожанага плоскімі пілястрамі, ступеньчаты атык. Сцены падзелены міжпаверхавым прафіляваным поясам і раўнамерна прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі, дэкарыраванымі простымі ліштвамі (на 1-м паверсе), кранштэйнамі і тонкімі сандрыкамі (на 2-м паверсе). Планіроўка калідорная; у цэнтр. частцы і ў бакавых крылах — 2-маршавыя лесвіцы. Цяпер у будынку размешчана медвучылішча. *А. А. Міцянін.*

**СЛУЦКАЙ МУЖЧЫНСКАЙ ГІМНАЗІІ БУДЫНАК,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1829—38 з цэглы (вул. Камсамольская, 7) паводле праекта арх. К. Падчашынскага. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам. Па перыметры яго праходзяць прафіляваны карніз з сухарыкамі і міжпаверхавы паясок. У цэнтры гал. фасада ўваход вылучаны імпастам і вузкімі аконнымі праёмамі па баках, якія аб-



**Слуцкага духоўнага вучылішча будынак.**



**Слуцкай мужчынскай гімназіі будынак.**

рамлены пілястрамі, у тарцовых сценах былі дадатковыя ўваходы. На 2-м паверсе над уваходам — вузкія строеныя прамавугольныя вокны, аздобленыя пілястрамі і аб'яднаныя шырокім сандрыкам у выглядзе 3-вугольнага франтона. Вокны прамавугольныя, без абрамленняў. Планіроўка калідорная; у цэнтры — 3-маршавая лесвіца. На 1-м паверсе знаходзіліся вучэбныя класы, на 2-м — актавая зала, бібліятэка і вял. вестыбюль, аддзелены ад калідора 2 парамі калон; столь у цэнтральнай частцы калідора расчлянёна ўзбуйненымі кесонамі. На тэр. гімназіі знаходзіліся драўляныя дамы настаўнікаў, фруктовы сад. У будынку цяпер размешчана сярэдняя школа № 1. *А. А. Міцянін, В. Р. Кукуня.*

**СЛУЦКАЯ МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства 18—19 стагоддзяў. Пабудавана ў г. Слуцку ў традыцыях нар. дойлідства з элементамі стыляў барока і позняга класіцызму. Напачатку існавала як Канстанцінаўская царква ў Старым горадзе, у канцы 18 ст. перанесена ў прадмесце Востраў і пабудавана на месцы разабранай у 1795 Міхайлаўскай царквы. Спачатку была 2-зрубная, складалася з асн. аб'ёму і алтарнай апсіды, у канцы 19 ст. з захаду ад асн. аб'ёму прыбудавана вежа-званіца. Царква яруснай кампазіцыі, складаецца з прамавугольнага ў плане 3-светлавога асн. аб'ёму, алтарнай апсіды і званіцы. Асн. аб'ём і апсіда апяразаны па перыметры 2 глухімі прамавугольнымі ў плане галерэямі. Асн. аб'ём завершаны васьмерыком на чацверыку на заломах і ветразях, над апсідай чацверыковы верх. Над вярхамі складаный формы купалы, над якімі ўзвышаюцца цыбулепадобныя купалкі на глухіх васьмерыках. 3-ярусная вежа-званіца (2 ніжнія ярусы чацверыковыя, верхні — чацвярык са зрэзанымі вугламі) завершана шлемападобным купалам і шпілем на нізкім чацверыку са зрэзанымі вугламі. Царква звонку гарызантальна ашалявана, вокны арачныя, прамавугольныя і круглыя (у званіцы). Ярусы падзелены прычолкамі, ніжні ярус званіцы на 3 фасадах завяршаюць 3-вугольныя франтоны, вуглы аздоблены лапаткамі. Асн. аб'ём раскрыты ў галерэю 3 шырокімі праёмамі і аддзелены ад апсіды разным іканастасам. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*

**СЛУЦКАЯ ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы і дрэва паводле «ўзорнага» праекта 1846. Складаецца з 4 аднапавярховых будынкаў (станцыйны дом, 2 флігелі, стайня), якія



Слуцкая Міхайлаўская царква.

ўтвараюць сіметрычную кампазіцыю з замкнёным унутраным дваром. Цэнтр. будынак — станцыйны дом, прамавугольны ў плане, арыентаваны гал. падоўжаным фасадам да вуліцы (сучасная вул. Леніна). Цэнтр. уваход (цяпер закладзены) з ганкам аформлены пілястрамі. Па баках дома тарцом да вуліцы сіметрычна пастаўлены 2 флігелі, злучаныя з домам муравымі сценкамі з уязнымі брамамі. За флігелямі на адной планіровачнай восі з станцыйным домам размешчаны П-падобны будынак стайні. Усе будынкі пад вальмавымі дахамі. Фасады атынкаваныя, апрацаваныя пілястрамі, завершаныя развітымі драўлянымі карнізамі. Аконныя праёмы станцыйнага дома лучковыя, у астатніх будынках — прамавугольныя. Інтэр'еры зменены. У некаторых захаваліся люстраныя скляпенні. Цяпер будынкі прыстасаваны пад жыллё, у б. станцыйным доме знаходзіцца дарожна-эксплуатацыйнае ўпраўленне. Станцыя — помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*



**Слуцкі Троіцкі манастыр.** Агульны выгляд царквы. З малюнка Н. Орды. 19 ст.

**СЛУЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР БЕРНАРДЗІНЦАЎ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў Слуцку ў 1793 з цэглы на месцы б. драўляных будынкаў (пастаўлены ў 1671, рэканструяваны ў 1734). К а с ц ё л — 1-нефавы прамавугольны ў плане бязвежавы храм, накрыты 2-схільным дахам (не захаваўся). Гал. фасад сіметрычны па кампазіцыі, завершаны фігурным франтонам з валютамі, сцены раскрапаваны пілястрамі, якія чаргаваліся з лучковымі аконнымі праёмамі. Да касцёла прыбудаваны 1-павярховы П-падобны ў плане к л я ш т а р, накрыты вальмавым дахам. Падвалы перакрытыя цыліндрычнымі і крыжовымі скляпеннямі. Вуглы кляштара апрацаваны лапаткамі. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі (без абрамлення). Планіроўка калідорная. Цяпер у будынку размешчана маслабаза. *В. Р. Кукуня.*

**СЛУЦКІ ТРОІЦКІ МАНАСТЫР.** Існаваў у 17 — пач. 20 ст. ў прадмесці Трайчаны, вядомы таксама пад назвай Трайчанскі. Час узнікнення невядомы, упершыню ўпамінаецца ў 1445. Мужчынскі манастыр меў 2 царквы — драўляную Благавешчання і мураваную Троіцкую, жылыя дамы і гасп. пабудовы. Троіцкая царква пабудавана ў 1655—60 у стылі барока, у сярэдзіне 18 ст. разбурана, у 1786—89 адбудавана. Крыжова-купальны мураваны храм з 2 бабінцамі і склепам, 2-вежавы, накрыты бляхай. Тарцовыя сцены крылаў трансепта завершаны фігурнымі франтонамі. Царква 2-вежавая: на адной вежы быў гадзіннік з боем, на другой — званіца. Над сяродкрыжжам узвышаўся аб'ём з вял. купалам на чацверыку, над ім — бельведэр, увянчаны маленькім купалам на светлавым барабане. На тэр. манастыра ўваходзілі праз браму (тут была невял. царква св. Мікалая). Комплекс таксама ўключаў жылыя памяшканні — дом архімандрыта, дом для гасцей, трапезную, мураваны «скарбец» са склепам, дзе знаходзілася піўніца. Гасп. пабудовы: адрына, стайні, хлявы, лазня, бровар, дамы для работнікаў; была таксама сажалка, калодзеж з компасам (на драўляных слупах), фруктовы сад, кветнікі. У 1792—1840 пры манастыры існавала духоўная семінарыя. Разбураны ў Вял. Айч. вайну. *В. Р. Кукуня.*

**СЛУЦКІЯ ЗАМКІ,** абарончыя і замкава-палацавыя комплексы, якія існавалі ў Слуцку ў 15—19 стагоддзях. Пабудаваны з дрэва.

В е р х н і з а м а к пабудаваны ў пач. 15 ст. на тэр. стараж. дзядзінца ў сутоках рэк Случ і Бычок як умацаваная рэзідэнцыя князёў Алелькавічаў. Паспяхова вытрымаў асады

татарскіх войск у 1502, 1503, 1505, 1506, 1521, войск Глінскага ў 1508. З расшырэннем тэр. горада і ўзнікненнем новых стратэгічных пунктаў абароны да канца 16 ст. страціў абарончую ролю і ў 1-й пал. 17 ст. перабудаваны ў замкава-палацавы комплекс. Авальны ў плане замак, умацаваны абарончымі сценамі-гароднямі, быў абкружаны высокім земляным валам і запоўненым вадой ровам, які аддзяляў яго ад Ніжняга замка. Паводле апісання 1687, цэнтр. будынак замка — прамавугольны ў плане 1-павярховы з мезанінам палац анфіладнай планіроўкі, накрыты гонтавым дахам. Разныя дзверы з антабамі, сцены і столі памяшканняў былі аздоблены размалёўкай, печы абліцаваны белай і зялёнай паліванай кафляй. Абапал палаца размяшчаліся гасп. пабудовы, арсенал (паблізу вала), замкавая царква. Каля сярэдзіны 18 ст. замак пакінуты, у пач. 19 ст. на яго тэрыторыі пабудаваны драўляны, потым мураваны Мікалаеўскі сабор.

Ніжні замак пабудаваны ў 15 ст. на месцы б. вакольнага горада стараж. Слуцка, злучаўся з Верхнім замкам мостам цераз роў з вадой, пракапаны паміж рэкамі Случ і Бычок, са знешняга боку быў абведзены ровам з вадой. Уяўляў сабой у плане няправільны прамавугольнік. У 2-й пал. 17 ст. на тэр. замка былі 3 драўляныя палацы (1-павярховыя шматпакаёвыя будынкі з багата аздобленымі інтэр'ерамі, печамі, абліцаванымі кафлямі з выявамі арлоў), будынак кухні, флігель для прыслугі і інш. збудаванні. На беразе Случы размяшчаўся гасп. двор (уключаў стайні, вазоўні, жыллё конюхаў). У 18 ст. замак (наз. Стары) развіваўся як палацавы комплекс. Паводле апісання 1765, з боку гандл. плошчы Стары горад з замкам быў злучаны мостам цераз роў, які прымыкаў да брамы-вежы з купалам, гадзіннікам, металічным гербам Радзівілаў. У ніжнім ярусе брамы абапал праезда размяшчаліся пакоі для




Схема **слуцкіх замкаў** 18 ст.: *1* — Верхні замак; *2* — Ніжні замак; *3* — Новы замак.

варты. На гал. восі стаяў 1-павярховы ашаляваны дошкамі палац на падмурку, накрыты гонтавым дахам, гал. ўваход вылучаўся ганкам. Вакол вял. прыхожай анфіладна размяшчаліся 9 жылых пакояў, 3 залы (адна з іх партэрная) і інш. памяшканні, дзверы і аконныя ліштвы якіх былі аздоблены маст. разьбой. З боку гал. ўезда палац фланкіравалі 2 флігелі і гасп. збудаванні.

Новы замак (Цытадэль) пабудаваны ў 1-й пал. 17 ст. на ўсх. ускраіне Новага горада, на левым беразе р. Случ. Яго ўзнікненне звязана з рэканструкцыяй абарончай сістэмы горада і стварэннем знешняга абарончага пояса. У плане — квадрат (каля 250×250 м), абведзены ровам, умацаваным валам з 4 бастыёнамі і вежамі, абарончымі сценамі, з боку горада — равелінам. У 2-й пал. 17 ст. равелін і браму злучаў мост цераз абводны роў, паблізу якога на дзядзінцы стаяў жылы дом з мезанінам, накрыты гонтавым дахам. Насупраць яго — другі дом пад гонтавым дахам. Непадалёку знаходзіліся гасп. пабудовы (мураваны склеп, драўляныя свірана, конны млын), студня. У 18 ст. замак рэканструяваны. Паводле апісання 1765 перад уездам з боку горада былі 2 рады вадзяных равоў з 2 пад'ёмнымі мастамі і 2 брамамі. Справа ад брамы, завершанай купалам, на дзядзінцы стаяла кардэгарда, з процілеглага боку — жылы будынак з мезанінам (уключаў 3 жылыя пакоі, кухню), флігель. Каля іх размяшчаліся другі флігель, кузня, 3 стайні, парахоўня, арсенал. На тэр. замка быў «італьянскі сад» з альтанкамі і алеямі, абсаджанымі агрэстам. Акрамя брам, замак меў вароты для скрытага выхаду гарнізона. *Ю. А. Якімовіч.*

**СЛУЦКІЯ КАСЦЁЛЫ І КАЛЕГІУМ ЕЗУІТАЎ.** Існавалі ў Слуцку ў канцы 17—19 ст. Першы комплекс пабудаваны ў 1696 на тэр. Старога горада, непадалёку ад Вострайскай брамы (уключаў драўляныя капліцу і кляштарны корпус, у 1698 у ім адкрыта 1-класная школа). У пач. 18 ст., паводле праекта архітэктара-манаха Я. Клауса, пабудаваны новы драўляны кляштар, касцёл Св. духа (квадратнае ў плане 1-нефавае збудаванне з 4 капліцамі па вуглах, прэсбітэрыем і алтарнай апсідай з сакрысціямі па баках; цэнтр нефа быў завершаны 8-гранным светлавым барабанам з купальным пакрыццём; у інтэр'еры знаходзіліся разныя алтары). Да касцёла прымыкаў сад. Пасля скасавання ордэна езуітаў (1773) комплекс аддадзены кальвіністам, у 1819 у ім асталяваны кляштар марыявітак, пасля закрыцця якога ў 1840 касцёл і інш. пабудовы разабраны. Другі комплекс пабудаваны ў Новым горадзе ў 1710—20-я гады на месцы б. сядзібы шляхціца І. Клакоцкага, якую ён у 1706 падараваў езуітам. Цэнтрам кампазіцыі квадратнага ў плане комплексу быў касцёл з брусоў на цагляным падмурку (1710—15), са скляпеністай крыптай (мяркуюць, што яго будаваў канонік Р. Энгель). Касцёл — 1-нефавае прамавугольнае ў плане збудаванне са зрэзанымі вугламі, да якіх прылягалі 4 квадратныя ў плане капліцы з прэсбітэрыем і 3-граннай алтарнай апсідай з сакрысціямі па баках (агульная выш. храма 37 м). Неф перакрыты скляпеннем, завяршаўся купалам на прамавугольным са зрэзанымі вугламі светлавым барабане, абкружаным балюстраднай галерэйкай. Капліцы завяршаліся чацверыковымі вежамі з купальнымі пакрыццямі. На адной з вежаў гал. фасада ў 1717 устаноўлены гадзіннік. Над бабінцам, які разам з тамбурам-уваходам утвараў у плане трапецыю, знаходзіліся хоры складанай у плане формы, над імі — памяшканне для музыкаў, завершанае невысокай вежачкай з драўлянай скульптурай Маці Боскай з дзіцем на гал. фасадзе. У касцёле былі 11 алтароў (некаторыя прывезены з Прагі), арган, амбон, шкляныя жырандолі, зробленыя ў 1736 на Налібоцкай гуце. У 1773 касцёл звонку ашаляваны. Непадалёку ад касцёла знаходзіліся драўляныя званіца, калегіум, 2 флігелі, бурса, школа, аптэка, гасп. пабудовы, 3-павярховая мураваная скарбніца, пладовы сад. Будынак калегіума (перабудаваны ў 1710-я гады з жылога дома) — 2-павярховы, прамавугольны ў плане, завершаны высокім складаным дахам, з ашаляванымі звонку сценамі. Над слупавым ганкам, аформленым балюстрадай, размяшчалася зала. Уздоўж усяго будынка была зроблена галерэя з падчэнямі. У ніжнім паверсе размяшчаліся келлі, у верхнім — келлі і кабінеты. Адна павярховы прамавугольны ў плане флігель (1713) з мезанінам, накрыты гонтавым дахам, уключаў сталовую, галерэю, кухню, камору, у мезаніне была зала. У цэнтры 2-га флігеля была брама з залай наверсе, завершаная купалам са звонам. Абапал брамы ў 1-павярховых крылах размяшчаліся жылыя пакоі для наведвальнікаў, у мезаніне — 2 залы. Будынак бурсы — 1-павярховы прамавугольны ў плане. Школа размяшчалася ў 1-павярховым крыжовым у плане будынку з ганкам. Памяшканне аптэкі мела ў цэнтры прыхожую з кухняй, жылы пакой аптэкара (з алькежам), справа лабараторыю. Над прыхожай у мезаніне

была зала. Уздоўж агароджы (спачатку драўляны паркан, у 1772 тры сцяны мураваныя) размяшчаліся пякарня, варыўня, стайня з вазоўняй, кузня, сталярная майстэрня, васкабойня, бровар, хлявы, свірны. Увесь комплекс, акрамя скарбніцы, згарэў у 1804. *Ю. А. Якімовіч.*

**СЛЯПЯНСКАЕ ВОДНА-ПАРКАВАЕ ПАЎКАЛЬЦО,** частка Мінскага водна-паркавага кальца — аднаго з гал. (пасля *Мінскага водназялёнага дыяметра*) элементаў архіт.-планіровачнай структуры і ландшафту горада. Пабудавана ў 1977—88. Даўж. паўкальца 22 км, перапад вышынь рэльефу на трасе 31 м. Уключае вадаёмы (агульная пл. 140 га), каналы і 13 дэкар. каскадаў. Галаўное збудаванне сістэмы — Цнянскае вадасховішча, вада ў якое паступае з Драздоўскага вадасховішча праз напорныя вадаводы з уздымам на выш. 15 м. Ад Цнянскага вадасховішча адкрыты канал ідзе ўздоўж лесапарку і заканчваецца дэкар. вадаёмам каля гандл.-грамадскага цэнтра мікрараёна Зялёны Луг 6 (ад вул. Мірашнічэнкі да Лагойскага тракту вада ідзе праз падземны вадавод). За Лагойскім трактам у пачатку мікрараёна Зялёны Луг 5 створаны шматступеньчаты каскад. Строгая пластыка бетонных форм ажыўлена разнастайнымі эфектамі накшталт невял. вадаспадаў. Далей, уздоўж вул. Сядых, сістэма прадстаўлена спалучэннем маляўнічых вадаёмаў і каналаў з масткамі, спускамі да вады, невял. фантанчыкаў і інш. малых архіт. форм. У раёне спарт. комплексу працоўных рэзерваў штучная водная сістэма злучаецца з р. Сляпянка. Каскад сістэмы ў мікрараёне Усход 1 вызначаецца зробленай у выглядзе кансолі плітой вадазліву, што дазваляе пешаходам праходзіць пад водным патокам. Створаны таксама выразны 3-ступеньчаты каскад па вул. Парніковай, паўкруглы 2-ступеньчаты каскад з басейнам у раёне вуліц Уральскай — Мендзялеева і ў жылым раёне *Серабранка,* дзе Сляпянская водная сістэма злучаецца з Чыжоўскім вадасховішчам. Усе каскады сістэмы створаны паводле індывідуальных праектаў. С. в.-п. п.— аснова комплекснай архіт.-ландшафтнай арганізацыі паўн.-ўсх. часткі Мінска. Яго гал. кампазіцыйныя акцэнты арганічна спалучаюцца з прасторавым вырашэннем гэтых раёнаў горада. Пачата буд-ва Лошыцкага воднапаркавага паўкальца, у выніку чаго даўж. водна-паркавага кальца Мінска дасягне 50 км суцэльнай сістэмы каналаў, каскадаў, вадаёмаў з прылеглымі да іх паркамі, скверамі, бульварамі. За стварэнне архіт.-ландшафтных комплексаў усх. раёнаў горада архітэктары Л. В. Белякова, Д. В. Герашчанка, Л. А. Жлоба, Н. Ф. Жлоба, В. П. Шыльнікоўская, Б. А. Юрцін, інж. А. Р. Самончык удастоены Дзярж. прэміі СССР 1989. Іл. гл. таксама ў нарысе. *А. В. Сычова.*



**Сляпянскае водна-паркавае паўкальцо.** Каскад у жылым раёне Усход.

**СМАЛЯВІЧЫ,** горад, цэнтр раёна, на р. Пліса (прыток Бярэзіны ў басейне Дняпра). За 38 км на ПнУ ад Мінска. Вядомы з пач. 16 ст. як прыватнае мястэчка кн. Астрожскіх, потым Радзівілаў у Мінскім пав. і ваяводстве Вял. кн. Літоўскага. У 1508 пабудавана Мікалаеўская царква (не захавалася). З 1793 С. ў складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Барысаўскага пав. Мінскай губ., належалі Вітгенштэйнам, Гагенлоэ. У 1860 у С. 3 смалярні, шкіпінарны і вінакурны з-ды. У 1871 праз С. пракладзена Маскоўска-Брэсцкая чыгунка, што спрыяла развіццю промыслаў і гандлю. У канцы 19 ст. 3037 жыхароў (1897), каля 120 дамоў, прыватная пачатковая школа, народнае 2-класнае вучылішча, 24 крамы, бальніца, пошта-тэлеграф, півварны з-д, гута, млын, з-д па вырабу драўляных шавецкіх цвікоў і капылоў, 3 лесапільні. З ліп. 1924 цэнтр раёна. З 1938 гарадскі пасёлак. 6,8 тыс. жыхароў у 1939, 7,3 тыс.— у 1959. У 1962—65 у Мінскім р-не. З 1968 горад. 9,6 тыс. жыхароў у 1970. Размешчаны на ўзвышаным рэльефе з паніжэннем у бок р. Пліса і чыгункі. Архіт.-планіровачная кампазіцыя сучаснага цэнтра мае прамавугольную квартальную структуру. Планіроўка больш старых раёнаў горада ірэгулярная, склалася гістарычна. С. забудоўваецца паводле генпланаў 1965 («Белдзяржпраект»), 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва; арх. А. Сідзельнікаў, Н. Алфімава, Т. Прохарава). Чыгунка дзеліць горад на паўн. і паўд. раёны. Паўн. раён — асн. масіў жылой забудовы. Гал. кампазіцыйная вось — вул. Савецкая з утворанай на ёй цэнтр. плошчай. Тут, на скрыжаванні вул. Савецкай з вул. Першамайскай і яе працягам — вул. Садовай,— склаўся адм.-грамадскі і культурны цэнтр (райвыканком Савета народных дэпутатаў, аддзяленне сувязі, кінатэатр, Дом культуры, гасцініца, гандл. цэнтр і інш.). На вул. Сацыялістычнай будынкі магазінаў, СПТВ механізацыі сельскай гаспадаркі, 5-павярховыя 60-кватэрныя жылыя дамы. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Капітальная 2—5-павярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтр. і паўд.-зах. частках горада. Ва ўсх. частцы забудоўваецца новы мікрараён з 2—5-павярховымі жылымі дамамі. Вытворча-складская зона размешчана ў паўд. частцы горада. Зона адпачынку — р. Пліса, парк на яе ўзбярэжжы, Смалявіцкае вадасховішча. Прадугледжваецца развіццё горада на Пн, рэканструкцыя і далейшае развіццё грамадскага цэнтра, сувязь яго з паркавай зонай і ўсімі раёнамі горада, расшырэнне і добраўпарадкаванне зоны адпачынку. *В. А. Крайко.*

**СМАЛЯНСКАЯ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 2-й пал. 18 ст. ў в. Смаляны (Аршанскі р-н). Мае рысы стылю барока. Складаецца з 2 частак: ніжняй мураванай і верхняй драўлянай. Асн. прамавугольны ў пла-

не зруб (даўж. 18 м, шыр. 13,7, выш. каля 22 м) з трох бакоў абкружаны закрытай абходнай галерэяй, накрыты крыжападобным дахам з франтонамі на тарцах. З У да яго прылягае 5-гранны алтарны зруб і рызніцы. Сяродкрыжжа ўвянчана купалам на 2-ярусным светлавым барабане. З боку гал. фасада ўзнімаюцца 2 вежы з шатровымі дахамі. Вокны асн. аб'ёму прамавугольныя, спараныя, алтарнай апсіды — прамавугольныя, барабана — паўцыркульныя і лучковыя. Над уваходам размешчаны хоры. Алтар аддзяляе ярусны разны іканастас. На купале — размалёўкі 18 ст., якія вызначаюцца жывапіснасцю каляровай гамы і манументальнасцю кампазіцыі (зроблены тэмперай па дошках). Намаляваны 12 апосталаў у поўны рост. Велічныя постаці на блакітным фоне ў адзенні вохрыста-чырвонага, балотна-зялёнага, залаціста-карычневага колераў запаўняюць амаль усе роўніцы граней купала. У канцы 1930-х гадоў царква была зачынена. Будынак выкарыстоўваўся пад вінзавод. Цяпер царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч, Э. І. Вецер.*

**СМАЛЯНСКІ ЗАМАК,** «Белы Ковель», «Малы Ковель», помнік палацава-замкавай архітэктуры 1-й пал. 17 ст. Пабудаваны да 1626 кн. С. Сангушкам-Ковельскім на паўн.-зах. ускраіне в. Смаляны (Аршанскі р-н). Размяшчаўся на беразе р. Дзярноўка на невысокай прамавугольнай пляцоўцы (100 × 200 м), абкружанай штучным вадаёмам. Змураваны з буйной цэглы і невял. камянёў. Часткова пашкоджаны ў 1708, разбураны ў сярэдзіне 19 ст., засталіся руіны гранёнай 5-яруснай вежы і сумежнага корпуса. Замак меў замкнёны чатырохвугольны двор, утвораны 3—4-павярховымі палацавымі карпусамі з галерэямі на 2—3-м паверхах і 3 ці 4 вуглавымі вежамі. Знадворны дэкор (картушы, абрамленні аконных праёмаў і інш.) выкананы ў стылі рэнесансу. Унутры памяшканні мелі скляпеністыя перакрыцці, каміны, глыбокія нішы з паўсферычнымі конхамі, паверхі злучаліся маршавымі і вітымі ўсходамі. Першапачаткова замак быў пафарбаваны ў белы колер, у пач. 17 ст. інтэр'еры жылых памяшканняў мелі фрэскавую размалёўку. Помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*Р. В. Баравы.*

**СМАЛЯНСКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР ДАМІНІКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 2-й палове 18 ст. з цэглы ў в. Смаляны (Аршанскі р-н). У 1899 касцёл і кляштар адрамантаваны пад кіраўніцтвам арх. Даўкшы, па яго малюнках зроблены алтары касцёла, вял. люстра і інш. Касцёл 3-нефавы, з паўкруглай апсідай. Цэнтр. неф перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі на распалубках. 2-ярусны фасад аздоблены пілястрамі. Дэкар. афармленне інтэр'ера і алтароў не захавалася. Паралельна паўн. фасаду касцёла размешчаны мураваны 1-павярховы будынак кляштара калідорнай планіроўкі. Калідор перакрыты цыліндрычным скляпеннем, абапал яго — келлі і гасп. памяшканні. У канцы 1930-х гадоў касцёл закрыты, да 1989 у ім і будынках кляштара размяшчаліся майстэрня і гараж калгаса. Зараз у аварыйнам стане, не дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Р. В. Баравы.*





**Смалянскі замак.** Руіны вежы: агульны выгляд (уверсе) і фрагмент пятага яруса.



**Смалянскі касцёл і кляштар дамініканцаў.** Галоўны фасад касцёла.

**СМАРГОНСКІ КАЛЬВІНСКІ ЗБОР,** помнік архітэктуры рэнесансу. Першапачаткова ў 1503 (1505?) быў пабудаваны драўляны касцёл святых Міхаіла і Аляксея па фундацыі польскага магната Юрыя Зяновіча. Сын Ю. Зяновіча Хрыстафор перайшоў у кальвінізм і на месцы драўлянага касцёла пачаў будаваць мураваны кальвінскі збор. У 1552 (1553?) закончыў буд-ва збору яго сын Юрый. Сын Юрыя Зяновіча Мікалай Багуслаў аставіў кальвінізм і перайшоў у каталіцтва. Яго сястра Соф'я пасля смерці брата ў 1621 вярнула храм католікам (ён стаў наз. Троіцкім касцёлам). У 1866—1921 — Міхайлаўская царква, у 1921—47— зноў касцёл. З 1947 не дзейнічаў (у ім быў склад, магазін). Рэстаўрыраваны ў 1858 і 1926. Купальны храм цэнтрычнага тыпу (выш. 19,2 м), у плане васьміграннік (дыяметр 13,5 м), злёгку выцягнуты па падоўжнай восі. З боку гал. фасада да яго прымыкае шмат'ярусная вежа-званіца (захаваліся 2 ярусы), завершаная нізкім шатром на 8-гранным барабане. У месцы злучэння званіцы і асн. аб'ёму прыбудавана цыліндрычная вежа. Магутныя сцены будынка (1,8—3,0 м) прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Пластычны парапет апрацаваны лапаткамі і характэрнай рэнесансавай аркатурай з гіркамі. Уваход у храм праз квадратны ў плане ніжні ярус вежы-званіцы, перакрыты крыжовым скляпеннем. Унутраная прастора асн. аб'ёму перакрыта сферычным купалам. Аснова купала аддзелена ад сцен невял. карнізам з дэнтыкуламі. Плоскасці сцен раскрапаваны шматлікімі арачнымі нішамі. Купал дэкарываны фрэскамі. Над прытворам — хоры, пе-



**Смаргонскі кальвінскі збор.** Здымак пачатку 20 ст.



**Смаргонскі кальвінскі збор.**

закрытыя крыжовым скляпеннем. Парапет хораў мае філёнгавую краёўку. Ярусы званіцы былі аб'яднаны вітой лесвіцай. Пад цэнтр. часткай — крыпта. Пасля рэстаўрацыі (1970, Спец. навукова-рэстаўрацыйныя майстэрні, арх. В. Сахно, П. Седляроў, С. Друшчыц) тут была выставачная зала, з сакавіка 1990 перададзены веруючым. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Н. Е. Маркава, А. А. Міцянін.*

**СМАРГОНЬ,** горад, цэнтр раёна, каля р. Вілія. За 260 км на ПнУ ад Гродна. Вядома з 15 ст. ў Вял. кн. Літоўскім як прыватнае мястэчка Зяновічаў, Радзівілаў, Пшаздзецкіх. У 2-й пал. 16 ст. пабудаваны *Смаргонскі кальвінскі збор,* заснаваны папяровая мануфактура, школа, шпіталь. У 1622 у С. 139, у 1640 — 155 домаўласнікаў. У 1788 у С. 393 двары, 3 фальваркі, 3 бровары, 3 млыны, 2 прадпрыемствы па выпуску будаўнічых матэрыялаў, гарбарня, 30 крам. З 1795 у складзе Расіі, цэнтр воласці Ашмянскага пав. Віленскай губ. У 19 — пач. 20 ст. цэнтр гарбарнай (16 з-даў у 1904) і швейнай прам-сці на Беларусі. Развіццю мястэчка спрыяла буд-ва чыгункі (1873) і наяўнасць дарог, што звязвалі С. з Мінскам, Вільняй, Вілейкай. Паводле перапісу 1897 у С. 7,5 тыс. жыхароў, 650 рамеснікаў, каля 1630 дамоў, банкаўская кантора, паштовая станцыя, аптэка, 5 навучальных устаноў; у 1910 16,3 тыс. жыхароў. У 1-ю сусветную вайну мястэчка разбурана. У 1921—39 у складзе бурж. Польшчы, цэнтр гміны Ашмянскага пав. Віленскага ваяводства. З 1938 у БССР, 5,9 тыс. жыхароў. З 1940 горад, цэнтр раёна Віленскай вобл. У 1959 — 6,5 тыс. жыхароў, у 1970 — 10,1 тыс. жыхароў. Генплан С. распрацаваны БелНДІПгорадабудаўніцтва ў 1972, зацверджаны ў 1976 (арх. В. Кашырын, Г. Марцішонак, інж. К. Лапіцкая, І. Уцехін). Архіт.-планіровачную структуру горада вызначаюць вуліцы Савецкая, Леніна, Я. Коласа, Гагарына, Камінскага, Кутузава. Гал. кампазіцыйная вось — вул. Савецкая, забудаваная 2—5-павярховымі дамамі. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся на вул. Савецкай (будынкі Дзяржбанка, універмага, Дома быту, кафэ, сталовай, магазінаў) і пл. Леніна, утворанай на скрыжаванні вуліц Савецкай і Гагарына (будынкі Дома Саветаў, вузла сувязі, кінатэатра, муз. школы, рэстарана). З Пд плошчу замыкае спарт. комплекс, з У да яе прылягае паркавая зона. У цэнтры горада, у раёне вуліц Савецкай і Леніна забудоўваюцца 3 мікрараёны 2—5—9-павярховымі жылымі дамамі; Заходні мікрараён забудоўваецца 3—5-павярховымі дамамі. Індывідуальная забудова сядзібнага тыпу размешчана ва ўсх. частцы горада (вуліцы Вілейская, Я. Купалы, Фабрыцыуса і інш.). На поўдні склаўся прамысловы раён. Зона адпачынку — р. Вілія, парк культуры і адпачынку. Паводле генплана 1985 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. М. Мызнікаў, Т. Пракаповіч, інж. І. Калеснік, Р. Абласава) прадугледжана развіццё горада на Пн, фарміраванне паўн.-зах. прамысловага раёна.

*С. Ф. Самбук.*

**СМІЛАВІЦКІ КАСЦЁЛ І КЛЯШТАР МІСІЯНЕРАЎ.** Існаваў у в. Смілавічы (Чэрвеньскі р-н) у 2-й пал. 18— пач. 20 ст. Пабудаваны ў 1767 насупраць *Смілавіцкага палацавага комплексу.* Меў рысы позняга барока. Касцёл — 3-нефавая базіліка з 2-вежавым гал. фасадам. 3-ярусныя вежы завершаны складанымі барочнымі купаламі. Цэнтр. неф меў 2-схільны дах, больш нізкія бакавыя нефы — аднасхільныя. Гал. фасад завяршаўся атыкам, над якім узвышаліся 2-і і 3-і ярусы вежаў са складаным фігурным франтонам паміж імі. Сцены расчлянёны высокімі арачнымі праёмамі, раскрапаваны пілястрамі. З боку ад касцёла размяшчаўся П-падобны ў плане 2-павярховы кляштар з двума 3-павярховымі рызалітамі на гал. фасадзе, меў 2-схільны дах. Аконныя праёмы прамавугольныя, раскрапаваны пілястрамі. Рызаліты былі завершаны атыкамі з трохвугольнымі франтонамі і стылізаванымі валютамі. Да 1831 пры кляштары дзейнічала місіянерская школа. У касцёле зберагаліся творы іканапісу 18 ст., у т. л. абраз св. Вінцэнта работы Ш. Чаховіча. Смілавіцкі комплекс адлюстраваны на малюнку Н. Орды 1870-х гадоў.

*Ю. А. Якімовіч.*

**СМІЛАВІЦКІ ПАЛАЦАВЫ КОМПЛЕКС,** помнік сядзібна-палацавай архітэктуры 2-й пал. 19 ст. Пабудаваны ў г. п. Смілавічы (Чэрвеньскі р-н) на месцы замка 17 ст. Мае рысы рамантычна-рэтраспек-



**Смілавіцкі касцёл і кляштар місіянераў.** З малюнка Н. Орды. 1870-я гады.



**Смілавіцкі палацавы комплекс.** Фрагмент галоўнага фасада новага корпуса.

тыўнага дойлідства. Уключаў 2 палацы, шэраг пабудоў, парк пейзажнага тыпу (збярогся часткова). Цэнтр. будынак — 2-павярховы прамавугольны ў плане палац з эркерамі, атыкам, раскрапаваны пілястрамі і карнізамі, завершаны невял. бельведэрам. У палацы (не збярогся) быў зімовы сад, багаты архіў (зберагліся дакументы Агінскіх, Манюшкаў, Ваньковічаў), вял. б-ка, калекцыя твораў выяўленчага мастацтва, сярод якіх карціна В. Ваньковіча «Адам Міцкевіч на скале Аюдаг». Другі палац — прамавугольны ў плане 2-павярховы будынак з эркерамі, завершаны 2-схільным дахам. На паркавым фасадзе 3-павярховы вежападобны аб'ём. Уваход на гал. фасадзе вылучаны 3-павярховым рызалітам з 2 фланкіруючымі гранёнымі вежачкамі, завершаны невысокімі шатрамі і шпілямі. Вежа паркавага фасада ўпрыгожана рустам, валютамі, складаным абрамленнем акна 3-га яруса, завершана атыкам, зубцамі (накшталт стараж. абарончых вежаў). Інтэр'ер палаца быў аздоблены размалёўкай. У будынку размешчана навучальная ўстанова.

*Ю. А. Якімовіч.*

**СМІЛАВІЧЫ,** гарадскі пасёлак у Чэрвеньскім р-не, на р. Волма. Цэнтр сельсавета і пасялковага Савета нар. дэпутатаў. За 30 км на З ад Чэрвеня, 32 км на У ад Мінска. Вядомы з 16 ст. як вёска, пасля мястэчка Мінскага пав. Вял. кн. Літоўскага, належалі Бакштанскім, Кежгайлам, Сапегам, Завішам, Агінскім, Манюшкам, Ваньковічам. У 1767 тут пабудаваны *Смілавіцкі касцёл і кляштар місіянераў.* З 1793 у складзе Расіі, цэнтр воласці Ігуменскага пав. Мінскай губ. У 19 ст. ў С. 3,1 тыс. жыхароў (1897), 2 царкоўна-прыходскія школы, 3 царквы, мячэць, суконная ф-ка, некалькі гарбарняў, вінакурны і піваварны з-ды, крамы. У пач. 20 ст. адкрыта 2-класнае сельскае вучылішча. У 1924—31 і ў 1935—38 цэнтр раёна, з 27.9.1938 гарадскі пасёлак. З 1938 у Рудзенскім, з 1960 у Чэрвеньскім р-не. Забудоўваецца паводле генплана 1972 (Мінскі філіял ЦНДІП-горадабудаўніцтва; арх. В. Жаўняк, В. Токарава, інж. Р. Ходас, З. Максімава). Планіровачная структура — дробная сетка квартальнай забудовы. Асн. вуліцы: Горкага (галоўная), Дзяржынскага, Кастрычніцкая, Савецкая. Тэр. пасёлка складаецца з трох жылых утварэнняў — цэнтральнага, усходняга і паўднёвага, якія фарміруюцца вакол цэнтр. часткі. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся ў паўн.-зах. частцы пасёлка, на скрыжаванні вуліц Горкага і Дзяржынскага (тут размешчаны будынкі гарпасялковага выканкома, Дома культуры, кінатэатра, Дома быту, магазінаў, СПТВ механізацыі меліярацыйных работ). Шматпавярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтр. частцы пасёлка. Усх. і паўд. планіровачныя раёны забудаваны пераважна індывідуальнымі дамамі сядзібнага тыпу. Ва ўсх. частцы склалася прамысл. зона. Прадугледжваецца развіццё гарадскога пасёлка на У, фарміраванне грамадскага цэнтра на новым месцы, у раёне парку. Месца адпачынку — р. Волма і штучныя вадасховішчы, *Смілавіцкі палацавы комплекс.*

*С. Ф. Самбук.*



**Сноў.** Забудова па вуліцы Леніна.

**СНОЎ,** вёска ў Нясвіжскім р-не. Цэнтр сельсавета і калгаса імя Калініна. За 20 км на З ад Нясвіжа, 132 км ад Мінска. З 16 ст. мястэчка Навагрудскага пав. Вял. кн. Літоўскага. Належала Радзівілам, Рдултоўскім. З 1793 у складзе Расіі. У канцы 19 ст. С. — цэнтр воласці; школа, царква, 3 крамы. У пач. 20 ст. каля 500 жыхароў, 50 дамоў. З 1921 у складзе бурж. Польшчы. З 1939 у БССР. Паводле генплана 1969 (БелНДІдзіпрасельбуд, карэкціроўка 1978, аўтар генплана І. Федарынчык, арх. В. Емяльянаў, А. Калніньш, З. Озерава) вядзецца эксперыментальнае буд-ва жылых дамоў і культ.-быт. устаноў. Асн. кампазіцыйная вось вёскі — вул. Леніна (з ПдУ на ПнЗ), забудавана 2—3- і 5-павярховымі дамамі, паводле індывідуальных праектаў), яе забудова вызначаецца арыгінальнасцю кампазіцыйнага і каляровага вырашэння — групы жылых дамоў з унутранымі азяленёнымі дворыкамі размешчаны ўздоўж шырокага бульвара, у афарбоўцы дамоў выкарыстаны кантрастныя чырвона-тэракотавы, белы і сіні колеры. Галоўная вуліца падводзіць да плошчы адм.-грамадскага і культ. цэнтра, які фарміруюць 5-павярховы Дом культуры, 3-павярховы будынак выканкома сельсавета і праўлення калгаса, фасад якога ўпрыгожаны металічным пано, 2-павярховы будынак навучальна-вытворчага камбіната, 3-павярховы жылы дом. На вул. Нясвіжскай паводле індывідуальнага праекта створаны комплекс быт. устаноў (кнігарня, аптэка, гасцініца з інтэрнатам, сталовая, рэстаран, бар і



**Сноўскі палацава-паркавы ансамбль.** З малюнка Н. Орды. 1876.

...агазін). Вул. Школьная, выраша...ая ў выглядзе бульвара (у канцы ...го будынак сярэдняй школы), звяз...е грамадскі цэнтр з зонай ад...чынку — паркам са стадыёнам, ...арт. пляцоўкамі, плавальным ба...йнам, сажалкай. Уздоўж парку ...раходзіць вул. Паркавая, забуда...ная блакіраванымі дамамі з ква...рамі ў 2 узроўнях, выкананых ... індывідуальных праектах.

На ПнЗ, З і ПдУ вёскі інды...дуальная жылая забудова, на ...нЗ і ПдЗ ад яе — вытворча...ладская зона. Вёска забяспечана ...імі відамі інж.-тэхн. абсталяван... Прадугледжана развіццё вёскі ... У, расшырэнне грамадскага ...нтра, буд-ва дамоў розных тыпаў. ...абудова і добраўпарадкаванасць ... адзначаны залатым медалём ...ДНГ СССР (1976). Збярогся пом... архітэктуры і садова-паркавага ...астацтва 1-й пал. 19 ст.— *Сноўскі ...лацава-паркавы ансамбль.*

*І. П. Федарынчык.*

**СНОЎСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКА...Ы АНСАМБЛЬ,** помнік архітэкту...ы 1-й паловы 19 ст. Створаны ў в. ...ноў (Нясвіжскі р-н), на раўнін...ым беразе р. Сноўка. Былы маён... польскага маршала Рдултоў...кага, да якога перайшоў ад Радзі...лаў. У 1-й пал. 19 ст. належаў ...бухові чам, з 1854 — барону Густа... Харцінгу. Пасля рамонту 1929 ...рыстасаваны пад канцылярыю і ...ыллё афіцэраў польскага корпуса ...овы граніцы, выкарыстоўваўся як ...зіно. Буйнамаштабны ману...ентальны ансамбль арганізаваны ... прынцыпе сіметрычна-восевай ...аніроўкі. Яго кампазіцыйны ...энтр — мураваны палац. Сваімі ...рантальнымі фасадамі ён шырока ...скрываецца ў невял. пейзажны ...арк з сістэмай сажалак і каналаў. ...алац пабудаваны ў 1927 арх. ... Тычэцкім у стылі класіцызму. ...ырашаны як 2-павярховы цэнтр. ...б'ём, злучаны 1-павярховымі ба...выми крыламі-каланадамі з па...льёнамі. У цэнтры выцягнутага ...даўж. каля 140 м) гал. фасада — ...-калонны іанічны порцік, якому з ...оку тыльнага фасада адпавядае ...алагічны порцік меншага памеру ... тэраса. Бакавыя рызаліты цэнтр. ...орпуса вырашаны ў выглядзе ...тальянскага акна» (арачны праём ...адзелены карнізам і вузкімі прас...енкамі). Бакавыя крылы аздобле...ы іанічнымі каланадамі, калоны ...кіх сіметрычна размешчаны ў прас...енках прамавугольных аконных ...раёмаў. У павільёнах выкарыста...ы прамавугольныя нішы, сандрыкі ...конных праёмаў. У каларыстычнай ...рацоўцы — вохрысты фон і белыя ...ементы ордэрнага дэкору: капітэ...і, арнаментальны фрыз, барэльеф-



**Сноўскі палацава-паркавы ансамбль.** Палац.

ныя плакеткі. Унутры больш за 100 памяшканняў. У цэнтры на 1-м паверсе знаходзяцца парадная зала, вял. вестыбюль, анфілада гасціных і кабінетаў, капліца. Прамавугольная ў плане парадная зала (пл. 100 $м^2$) аздоблена нішамі, скульптурай, каланадай, захавалася кафляная печ, 2-і паверх і бакавыя крылы адводзіліся пад жылыя і службовыя памяшканні. У будынку размешчана медустанова. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння. Іл. гл. таксама ў нарысе.

*А. М. Кулагін.*

**«СОКАЛ»,** замак. Існаваў у 16 ст. непадалёк ад в. Сакалішча (Расонскі р-н). Пабудаваны ў 1566 у час Лівонскай вайны па загаду Івана Грознага як парубежная крэпасць. Планіроўку і памеры замка вызначаў мыс пры зліцці рэк Дрыса і Нішча. Паўавальны ў плане замак (павернуты закругленай часткай да стралы мыса) з 10 вежамі (унутры былі падзелены на 2—3 ярусы, мелі баявыя памяшканні і амбразуры). 4 вежы чацверыковыя, завершаныя 2-схільнымі дахамі, астатнія васьмерыковыя, з высокімі шатровымі дахамі. Вежы стаялі на высокіх насыпах і злучаліся абарончымі сценамі. У сцяне, процілеглай закругленай частцы, размяшчаліся арачная брама пад 2-схільным дахам з 2 байніцамі абапал праезду. Шчыльная драўляная забудова дзядзінца займала амаль палавіну яго тэрыторыі. Цэнтрам кампазіцыі была царква на невял. плошчы. Яе абкружалі прамавугольныя ў плане хаты пад 2-схільнымі стрэхамі. Вылучаліся 2 вежападобныя збудаванні: адно з іх з цыбулепадобным купалам мела рысы стылю рэнесансу. Замак разбураны ў 1579 польскімі войскамі, адлюстраваны на малюнку С. Пахалавіцкага (1579).



Замак **«Сокал».** З малюнка С. Пахалавіцкага. 1579.

**СОЛЬСКІ КАСЦЁЛ МАЦІ БОСКАЙ,** помнік архітэктуры мадэрна. Пабудаваны ў 1926—34 (арх. А. Дубановіч) з цэглы ў в. Солы (Смаргонскі р-н) на сродкі парафіян. Будаўніцтва вялося пад кіраўніцтвам праараба Баніфацыя Трахневіча, было затрачана 540 тыс. злотых. Будынак (выш. 35 м) мае асіметрычную шматпланавую аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Асновай яе з'яўляецца аб'ём нефа, накрыты 2-схільным дахам з вальмай над алтарнай часткай. Да нефа далучаны трансепт і паўцыркульная апсіда з канічным пакрыццём. Невысокія прыбудовы сакрысцей з крывалінейнымі парапетамі. Своеасаблівасць збудаванню надаюць галерэі-аркады. Уваходны тамбур паўкруглы ў плане. Вертыкальная дамінанта будынка — бакавая 2-ярусная вежа-званіца з фігурным завяршэннем. Двух'ярусная 8-гранная вежачка надбудавана над сяродкрыжжам храма. Фасады дэкарыраваны фігурнымі шчытамі з валютамі, ступеньчатымі контрфорсамі бутавай муроўкі. У кампазіцыі інтэр'ера пануе прастора нефа, у якую раскрываецца шырокі трансепт і больш вузкая алтарная частка. Сяродкрыжжа перакрыта купалам, неф — цыліндрычным скляпеннем. Над уваходам — хоры на 2 калонах. У аздабленні інтэр'ера выкарыстана фрэскавая размалёўка. Касцёл дзейнічае.

*А. М. Кулагін.*

**«СТАЙКІ»,** спартыўны комплекс. Пабудаваны ў канцы 1960-х гадоў за 15 км на ПдУ ад Мінска паблізу аўтамагістралі Мінск — Магілёў.



**Сольскі касцёл Маці Боскай.**

З 1970 база падрыхтоўкі футбалістаў і лёгкаатлетаў. Плошча 136 га, з іх 76 га пад лесам. Комплекс уключае універсальную залу-манеж для заняткаў па асобных відах лёгкай атлетыкі, гульнявых і прыкладных відах спорту (72 × 49 м, арх. П. Пугач, У. Машукоў), залу для трэніровак футбалістаў (54 × 36 м), гімнастычную (30 × 20 м), 2 залы для фехтавання (24 × 12 м), дапаможныя і тэхнічныя памяшканні, гасцініцу для спартсменаў (арх. М. Драздоў), рэабілітацыйны цэнтр, сталовую, бібліятэку, кінаканцэртную і кіналекцыйную залы і інш. Кампазіцыйны акцэнт комплексу — універсальная зала-манеж, выразнае архіт. аблічча якой дасягаецца выкарыстаннем клеедраўляных 3-шарнірных арак пралётам 49 м. Будынкі гасцініцы, залы для трэніровак футбалістаў і інш. кампазіцыйна падпарадкаваны архітэктуры асн. збудавання, маюць простыя лаканічныя формы, добра ўпісваюцца ў маляўнічы ландшафт. У комплекс таксама ўваходзяць 6 футбольных палёў, 8 валейбольных, 9 баскетбольных і 7 гандбольных пляцовак, 6 тэнісных кортаў, штучны праточны вадаём (36 га). *С. Дз. Філімонаў.*

**СТАЛОВІЦКАЯ ЦАРКВА ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ,** помнік архітэктуры стылю віленскага барока. Пабудаваны ў в. Сталовічы (Баранавіцкі р-н). У 1639 па загаду камандора мальтыйцаў З. К. Радзівіла пабудавана мураваная Ларэтанская капліца. У 1740 паводле праекта арх. І. Фантана III пачалося буд-ва мураванага касцёла, у агульны аб'ём якога капліца ўключана як прэсбітэрый. У 1743 арх. І. К. Глаўбіц дапрацаваў праект і закончыў буд-ва касцёла. Пачаў дзейнічаць у 1746. У 1863 касцёл перабудаваны ў праваслаўную Успенскую царкву — трохнефавую базіліку з больш нізкім прэсбітэрыем і сакрысціямі. Гал. фасад складанай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з 2 вежамі па баках, падзелены раскрапаванымі антабламентамі на 3 ярусы. Яго асн. дэкаратыўны матыў — слаістыя пілястры. Уваход падкрэслены 4 парн. калонамі. Бакавыя фасады раскрапаваны пілястрамі. Высокія аконныя праёмы з паўцыркульнымі завяршэннямі аздоблены ляпнымі абрамленнямі. Інтэр'ер падзелены двума радамі слупоў на 3 нефы. Цэнтр. перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі на падпружных арках, завершаны 3-ярусным алтаром і злучаны з Ларэтанскай капліцай. Бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі, завершаны 2-яруснымі алтарамі. Пры ўваходзе ў царкву невял. тамбур. Хоры падтрымліваюць 2 калоны. Дэкаратыўнае аздабленне інтэр'ера (арх. І. К. Глаўбіц) выканана ў тэхніцы стука. Першы ярус гал. алтара аформлены спаранымі калонамі карынфскага ордэра і развітым антаблементам, у другім ярусе вертыкальны рытм калон паўтараюць пілястры з раскрапаванымі карнізамі, трэці ярус завяршае кампазіцыю алтара глорыяй. У цэнтры алтара над дзвярамі барочны картуш з рэльефнай выявай адсе



Спартыўны комплекс **«Стайкі».**


Сталовіцкая царква Іаана Хрысціцеля.




Сталовіцкі касцёл Сэрца Ісуса. Агульны выгляд і інтэр'ер.

чанай галавы Іаана Хрысціцеля. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Т. І. Чарняўская, М. М. Яніцкая.*

**СТАЛОВІЦКІ КАСЦЁЛ СЭРЦА ІСУСА,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны з цэглы на мяжы 19—20 стагоддзяў у цэнтры в. Сталовічы (Баранавіцкі р-н). 3-нефавая 1-вежавая базіліка. Прамавугольны ў плане будынак, накрыты 2-схільным дахам, расчлянёным дахавымі аконнымі праёмамі, з фіяламі ў завяршэнні. Дамінантай касцёла з'яўляецца 2-ярусная званіца (васьмярык на чацверыку) з высокім шпілем. Фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі праёмамі і контрфорсамі ў прасценках і па баках будынка. Гал. ўваход вырашаны моцным перспектыўным парталам і фланкіраваны 3-ступеньчатымі контрфорсамі, увянчанымі высокімі шатрамі з крабамі. Падобныя завяршэнні маюць і вуглавыя фіялы алтарнага шчыта. Архіт.-маст. выразнасць будынка дасягаецца багаццем краповак, профіляў і абломаў, выкананых сродкамі муроўкі, насычаным каларыстычным вырашэннем — чырвоны фон адкрытай муроўкі, светлыя бляшаныя пакрыцці, паліхромны бутавы цокаль. Касцёл дзейнічае. *А. М. Кулагін.*

**СТАНІСЛАВОЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры 2-й пал. 18 ст. Размешчана на паўн.-ўсх. ускраіне Гродна ў яго б. прыгарадзе Станіслававa (сучасная вул. Ціміразева). Сфарміравана ў 1760—70-я гады паводле праекта італьянскага арх. Дж. Сака. Была загараднай рэзідэнцыяй караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Ансамбль уключаў сядзібны дом, 2 флігелі, гасп. пабудовы, парк. У планіроўцы ансамбля захаваліся элементы рэгулярнасці. Агульны выгляд сядзібы вядомы з малюнка Н. Орды 2-й пал. 19 ст. Цэнтр. месца займаў сядзібны дом, размешчаны на вяршыні пакатага схілу. Дом — 1-павярховы (2-і паверх надбудаваны пазней) прамавугольны ў плане мураваны будынак з 2-павярховай цэнтр. часткай, вылучанай на дваровым фасадзе паўкруглым эркерам з манаграмай караля на атыку, а на галоўным — рызалітам з атыкавым завяршэннем і шырокай тэрасай. У дэкоры выкарыстаны вязкі пілястраў, раскрапаваныя карнізы, філёнгі, лепка. Прамавугольныя і арачныя вокны аздоблены лучковымі 3-вугольнымі франтонамі, гірляндамі і інш. Планіроўка калідорная (пазней зменена) з цэнтр. групай парадных памяшканняў (вестыбюль, верхняя і ніжняя залы). У вестыбюлі захаваліся 2 печы ў стылі неаготыкі, абліцаваныя паліванымі керамічнымі пліткамі цёмна-карычневага колеру (канец 19 ст.). Ніжэй за палац сіметрычна размешчаны 2 бакавыя флігелі, якія ўтвараюць парадны курданёр, абнесены з боку ўезда невысокай цаглянай агароджай з брамай. Флігелі — 1-павярховыя прамавугольныя ў плане будынкі з высокімі вальмавымі чарапічнымі дахамі. За зах. флігелем размешчаны гасп. пабудовы. За домам быў парк рэгулярнага тыпу з радыяльна-прамянёвай схемай планіроўкі. Цяпер у сядзібным доме размешчаны корпус с.-г. ін-та. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*


Станіславоўская сядзіба. З малюнка Н. Орды. 19 ст.


Станіславоўская сядзіба. Сядзібны дом.



**Станькаўскі сядзібна-паркавы ансамбль.** Брама.



**Станькаўскі сядзібна-паркавы ансамбль.** Будынак былой бібліятэкі.

**СТАНЬКАЎСКІ СЯДЗІБНА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ,** помнік архітэктуры і садова-паркавага мастацтва 2-й пал. 19 ст. Размешчаны ў в. Станькава (Дзяржынскі р-н) на раўнінным рэльефе (прамавугольны участак каля 15 га) са схілам у бок штучнага вадаёма, які абмяжоўвае яго з Пд. З захаду мяжа праходзіць па гал. вуліцы вёскі. Уключаў палац, 2 жылыя дамы, гасп. пабудовы, парк. Захаваліся будынкі флігеля, т. зв. «скарбчык», жылы дом, усх. брама, альтанка, некаторыя гасп. пабудовы. Парк закладзены ў 1870-я гады ў сядзібе графа Э. Гутэн-Чапскага, комплекс фарміраваўся да пач. 20 ст. Палац — 1-павярховы П-падобны ў плане будынка з 2-яруснай вежай. Пабудаваны ў 1880 у рамантычным стылі з выкарыстаннем форм сярэдневяковай архітэктуры. 2-і ярус вежы меў 4 балконы, адкуль адкрывалася кругавая паркавая панарама. На партэры перад палацам быў невял. круглы фантан (захавалася ад яго чаша). Падземнымі пераходамі-калідорамі палац быў злучаны з флігелем (кухня), з паўн. боку — са спец. павільёнам, т. зв. «скарбчыкам», прызначаным для калекцый уладальніка сядзібы (абодва пабудаваны ў 1880). Флігель — 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з 2-схільным дахам. Вуглы і цокаль руставаныя. Фасады рытмічна расчлянёны лучковымі вокнамі, дэкарыраваны замковым каменем. Сцены апяразаныя спрошчаным антаблементам з сухарыкамі. «Скарбчык» — 2-павярховы квадратны ў плане павільён з 4 вуглавымі вежамі, нагадвае сярэдневяковы замак у мініяцюры. Вежы завершаны шатровымі галоўкамі, упрыгожаны аркатурнымі паясамі. Сцены бакавых і тыльнага фасадаў маюць завяршэнні ў выглядзе шчытоў. Вокны прамавугольныя на 1-м паверсе і стральчатыя на 2-м, аформлены прафілявымі сандрыкамі. Музейныя калекцыі «скарбчыка» ўключалі: нумізматычныя зборы, гіст. малюнкі, збор жывапісу і графікі, гравюры, стараж. іконы, старую зброю, рэчы дэкар.-прыкладнога мастацтва, археал. і геалагічныя рэдкасці і інш. У бібліятэцы было больш за 20 тыс. тамоў, збор рукапісаў; выдадзены спец. каталогі па асобных калекцыях. У 1894 частка музея вывезена ў Кракаў, цяпер знаходзіцца ў аддзеле імя Э. Гутэн-Чапскага Нацыянальнага музея Польшчы. Каля 1900 з цэглы пабудаваны жылы дом у стылі неаготыкі. 2-павярховы Г-падобны ў плане, з кароткім 2-павярховым і падоўжаным 1-павярховым крыламі. Тарцовыя часткі 2-павярховага аб'ёму завершаны ступеньчатымі шчытамі. Паверхі аддзелены карнізным поясам, вуглы руставаныя, вокны 1-га паверха стральчатыя, 2-га — прамавугольныя. Вылучаецца паўд. фасад 1-павярховага аб'ёму, у дэкоры якога выкарыстаны пілястры, прафіляваныя ліштвы, прамавугольныя аконныя праёмы, сандрыкі. Планіроўка калідорная.

Парк пейзажнага тыпу з элементамі рамантызму. Пл. каля 15 га. З трох бакоў абнесены мураванай сцяной, на Пд — вял. штучны вадаём. Кампазіцыя яго пабудавана на 3 шырокіх перспектывах, якія з узвышанай часткі раскрываюцца ў бок вадаёма. У зах. частцы парку стаяў палац. На ПдУ ад палаца пачынаўся шырокі луг, перарэзаны пратокай з 2 астравамі. У масіве дрэў пракладзена шырокая алея, якая па схіле вядзе да 2 астравоў. На зах. востраве стаіць альтанка — 8-калонная ратонда. Замыкала перспектыву Мікалаеўская царква (1858, асталіся руіны). У 1880—90-я гады пры ўездзе з У пабудавана з цэглы брама з вартоўняй, накрытая 2-схільным дахам. Брама — 3-пралётная стральчатая арка з павышанай цэнтр. часткай, завершанай ступеньчатым шчытом. Сцены апрацаваны плоскімі арачнымі нішамі. Пасля рэвалюцыі ў палацы размяшчалася школа, потым дзіцячая калонія. У Вял. Айч. вайну палац разбураны. На яго месцы пабудавана школа-інтэрнат.

*У. В. Алісейчык, В. Р. Анціп*

**СТАРАБЕЛІЦКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства з элементамі стылю барока. Пабудавана ў 1710 у в. Старая Беліца (Гомельскі р-н). Храм трохзрубны, восевай кампазіцыі. Да цэнтр. квадратнага (18×18 м) з З і У прылягаюць 5-гранная апсіда і бабінец. Усе аб'ёмы завершаны фігурнымі галоўкамі на 6-гранных барабанах (цэнтральны — светлавы). Пачатковая кампазіцыя парушана прыбудаванымі пазней тамбурамі — цэнтральным і 2 бакавымі. Сцены складзены з брусоў, якія звонку вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Высока размешчаныя аконныя праёмы прамавугольнай формы. Інтэр'ер мае трохчасткавае вырашэнне. Аб'ёмы злучаны шырокімі арачнымі праёмамі. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*С. Г. Багласа*



**Старабеліцкая Мікалаеўская царква.** Галоўны фасад.

**СТАРАБЕЛІЦКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму. Знаходзіцца ў цэнтры в. Старая Беліца (Сенненскі р-н), на ўзвышшы. Створана ў 2-й пал. 19 ст. Комплекс уключае мураваны сядзібны дом у стылі позняга класіцызму, пейзажны парк



Старабеліцкая сядзіба. Сядзібны дом.

сажалкай і гасп. пабудовы (склад, свіран, спіртзавод, спіртасховішча, кароўнік). Сядзібны дом, выцягнуты па папярочнай восі, складаецца з 2-павярховага цэнтр. аб'ёму (з вял. авальнай залай) і далучаных да яго сіметрычных 1-павярховых крылаў з рызалітамі. Гал. ўваход падкрэслены 4 падвойнымі паўкалонамі, якія на 2-м паверсе пераходзяць у лапаткі. Гал. фасад цэнтр. аб'ёму і рызаліты завершаны 3-вугольнымі франтонамі. Планіроўка калідорная. Да паўд. тарца будынка прылягае 8-гранная 2-павярховая вежа з асобным уваходам у выглядзе 2-калоннага порціка і шырокай лесвіцай, да паўночнага — нізкі прамавугольны ў плане аб'ём. Плоскасці фасадаў і вежы апрацаваны рустам і прарэзаны высокімі прамавугольнымі вокнамі. У пач. 20 ст. сядзіба належала пану К. Свяцкаму, у 1903—04 у яго канторы служыў Я. Купала. Зараз у будынку размешчана школа механізатараў. Комплекс б. сядзібы — помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**СТАРАПЕСКАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры класіцызму. Сфарміравана ў канцы 18 — 1-й пал. 19 ст. ў в. Старыя Пескі (Бярозаўскі р-н) у маёнтку графаў Пуслоўскіх (належаў ім да 1939) на паўд. ускраіне вёскі, на паўн.-зах. беразе воз. Чорнае. Першапачатковa архіт.-кампазіцыйнае сіметрычна-восевае ядро комплексу фарміравалі сядзібны дом, стайня і размешчаны паміж імі «павільён руж», што стварала парадны курданёр з круглым газонам у цэнтры, высаджаным стрыжанымі дрэвамі туі заходняй. Па падоўжнай восі курданёра размешчана брама, якая адзначала гал. ўезд з зах. боку. Другая брама афармляла ўезд з Пн. Рэгулярную кампазіцыю парушаў вятрак (не захаваўся), размешчаны ў паўн.-зах. кутку курданёра. Асн. паркавы масіў з сістэмай сажалак і каналаў займаў паўд.-ўсх. частку сядзібы. За межамі парку (на Пн ад яго) размешчаны цагляны бровар познекласіцыстычнага стылю. Пасля зруйнавання ў 1843 мураванага сядзібнага дома (пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы ў стылі класіцызму) пад жыллё ўладальнікаў быў прыстасаваны драўляны будынак с т а й н і. Яе 1-павярховы прамавугольны ў плане аб'ём пад вальмавым дахам мае 4-калонны порцік з 3-вугольным франтонам, у тымпане якога была выява галавы сабакі (вызначала схільнасць гаспадара да палявання). Атынкаваныя сцены прарэзаны прамавугольнымі вокнамі ў простых ліштвах, якія стваралі рэгулярную рытміку фасада. Калідорная планіроўка аб'ядноўвае тарцовую залу, жылыя пакоі, сталовую, дамовую капліцу, перакрытыя бэлечнай столлю, і 2 скляпеністыя гасп. памяшканні. «П а в і л ь ё н р у ж» (не захаваўся) быў пабудаваны ў пач. 19 ст. з цэглы ў стылі класіцызму (па аналогіі з вядомай вілай-ратондай італьянскага архітэктара А. Паладыа). Цэнтрычнае крыжова-купальнае 2-павярховае збудаванне, вылучанае на гал. фасадзе масіўным 4-калонным порцікам тасканскага ордэра з 3-вугольным франтонам. Ляпны фрыз уяўляў сабой эліністычны карагод танцуючых грачанак (затынкаваны ў 1863). Прасторавую кампазіцыю ўзбагачалі паўсферычны купал з ліхтаром і схілы сцен пры скрыжаванні аб'ёмаў. Фасады былі прарэзаны адзінарнымі прамавугольнымі вокнамі і круглымі люкарнамі, крапаваны лапаткамі, паўцыркульнымі і прамавугольнымі нішамі, прафіляванымі карнізамі з сухарыкамі. У інтэр'еры вылучалася цэнтр. круглая зала з антрэсоллю і бакавымі гасцінымі. З усх. боку да будынка прымыкала вял. аранжарэя з нахіленымі, цалкам зашклёнымі сценамі. П е й з а ж н ы парк разбіты на схіле да возера, вакол 2 сажалак адвольнай маляўнічай канфігурацыі і каналаў, праз якія былі перакінуты масткі. На востраве адной з сажалак была ўстаноўлена альтанка. Сетка алей пачыналася ад зах. брамы і ўключала цэнтр. праход да партэра і 2 бакавыя прагулачныя маршруты, якія злучаліся каля сажалкі і далей пераходзілі ў сцежку да возера. Вял. прагулачны маршрут ідзе ўздоўж берага возера да капліцы і далей па гал. алеі ўздоўж зах. ускраіны парку. У парку раслі клён серабрысты, дубы чырвоны і летні пірамідальны, ясень пенсільванскі, сасна веймутава, таполі белая і чорная пірамідальныя, лістоўніца еўрапейская, граб, вяз гладкі і інш. З зах. боку знаходзіцца пладовы сад, адмежаваны ад парку прамой букавай алеяй. На паўд. ускраіне ў канцы алеі пагорак, дзе на могілках стаяла капліца (захаваліся рэшткі). «Рамантычным» дэкар. элементам парку быў драўляны вятрак — цэнтрычнае, круглае ў сячэнні збудаванне з купальным пакрыццём, узнятае на тэрасу-каланаду і выкананае ў адзіным стылі з асн. будынкамі. У рамантычных формах сярэдневяковай готыкі выкананы мураваныя брамы. Паўночная ўяўляе сабой манум. збудаванне з стральчатым арачным праездам, фланкіраванае круглымі ў сячэнні 3-яруснымі вежамі і завершанае зубчастым 2-ярусным парапетам. Афармлена стральчатымі нішамі, аркатурнымі і філянговымі паясамі, крыжамі, вузкімі шчылінамі-байніцамі, драўлянай імітацыяй зубчастай пад'ёмнай рашоткі. Па баках прыбудаваны нізкія каравулкі. Зах. брама (меншых памераў) таксама вырашана ў стылі неаготыкі. Прамавугольная ў плане, з цэнтральным арачным праездам (замураваны) і 2 бакавымі каравулкамі. Вуглавыя часткі аб'ёмаў крапаваны лапаткамі з стральчатымі нішамі, завершаны зубчастым парапетам. Вядзецца рэстаўрацыя (1990; праект арх. Л. П. Луцэвіч). Сядзібны комплекс — помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*



Старапескаўская сядзіба. З малюнка Н. Орды. 19 ст.

**СТАРАСВЕРЖАНСКАЯ ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў апошняй трэці 18 ст. ў в. Стары

Свержань (Стаўбцоўскі р-н). Прамавугольны ў плане, з 5-граннай алтарнай прыбудовай з усх. боку і 2-яруснай званіцай з заходняга. Завяршэнне званіцы не захавалася. Да алтарнага аб'ёму прымыкаюць 2 прыбудовы. Асн. і алтарны зрубы падведзены пад агульны высокі дах, які плаўна агінае ўступы аб'ёмаў, навісае над бакавымі прыбудовамі. Сцены царквы гарызантальна ашаляваны і ўмацаваны вертыкальнымі сцяжкамі. Прамавугольныя вокны размешчаны ў верхняй частцы сцен. Інтэр'ер зальнага тыпу. Столь плоская. У аб'ёме ніжняга яруса званіцы вылучаны бабінец з хорамі над уваходам. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*У. В. Алісейчык.*

**СТАРОБІН,** гарадскі пасёлак у Салігорскім р-не, на правым беразе р. Случ. За 12 км на Пд ад Салігорска, 145 км на Пд ад Мінска. Узнік як слабада ў 2-й пал. 16 ст. У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 1680 як мястэчка Навагрудскага, потым Мінскага ваяводстваў Вял. кн. Літоўскага. Належаў Алелькавічам, Радзівілам. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Слуцкага пав., належаў Вітгенштэйнам, Гагенлоэ. У канцы 19 ст. ў С. больш за 3 тыс. жыхароў, школа, 2 царквы, піваварня, 2 крамы. У пач. 20 ст. больш за 2300 жыхароў, паравы млын з ваўначоскай, вадзяны млын на Случы, заезная карчма, лясніцтва, штогадовы кірмаш. З 1924 цэнтр раёна, з 1938 гарадскі пасёлак. 3,4 тыс. жыхароў у 1939. З 1962 у Любанскім, з 1965 у Салігорскім р-нах. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі забудоўваўся стыхійна, меў радыяльную планіроўку. Кампазіцыйным цэнтрам была базарная плошча з царквой і крамамі, ад якой у напрамках бліжэйшых населеных пунктаў разыходзіліся вуліцы. З 1924 планіроўка набыла рэгулярны характар. Узведзены грамадска-адм. будынкі, школа, гасцініца, бальнічны гарадок, 8 шматкватэрных жылых дамоў, новы мост цераз Случ. Сучасная забудова ажыццяўляецца паводле зацверджанага ў 1974 генплана С. (Мінскі абласны філіял ін-та «Белдзяржпраект»), які захаваў гіст. планіроўку вуліц. Асн. кампазіцыйная вось — вул. Чырванасцяжная. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся на скрыжаванні вуліц Чырванасцяжнай і Савецкай. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Капітальная забудова сканцэнтравана ў цэнтр. частцы пасёлка. У зах. частцы каля аўтамагістралі Слуцк — Мікашэвічы забудоўваецца жылы пасёлак торфазавода «Старобінскі» (праект забудовы 1970, ін-т «Белдзіпраторф») і Галоўпалессеводбуда (праект забудовы 1979, ін-т «Мінскграмадзянпраект»). Тут пабудаваны новы гандл. цэнтр, сярэдняя школа, 2 дзіцячыя сады, 2 жылыя кварталы з 3—5-павярховай забудовай. У паўн. частцы ствараецца квартал індывідуальнай забудовы саўгаса «Старобінскі» (БелНДІдзіпрасельбуд, 1979). Вытв. зона размешчана ў паўн. і паўн.-ўсх. частках пасёлка. Зона адпачынку — на р. Случ, парк на яе ўзбярэжжы. Прадугледжана развіццё пасёлка на З, рэканструкцыя цэнтр. плошчы, расшырэнне зоны адпачынку.

**СТАРЫНКАЎСКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 19 — пач. 20 ст. на б. хутары Старынкі (Ваўкавыскі р-н). Уключала сядзібны дом, флігель, гасп. пабудовы, невял. парк. Вядома па малюнку Н. Орды. Пабудавана з дрэва, спалучала рысы нар. дойлідства і элементы стылю ампір. Цэнтрам кампазіцыі быў сядзібны дом — 1-павярховы прамавугольны ў плане будынак з высокім гонтавым вальмавым дахам. Сцены звонку былі гарызантальна ашаляваны, вуглы аздоблены нашчыльнікамі пад руст, прамавугольныя вокны мелі плоскія ліштвы. Цэнтр гал. фасада вылучаў манументальны 4-калонны дарычны порцік з 3-вугольным франтонам і парадным ганкам. Флігель меў аналагічную кампазіцыю, яго цэнтр таксама быў вылучаны невял. порцікам з 2 парамі калон. Парк невялікі, меў рысы рэгулярнай і пейзажнай планіроўкі.

*Ю. А. Якімовіч.*

**СТАРЫЯ ДАРОГІ,** горад, цэнтр раёна. За 148 км на ПдУ ад Мінска. З 1582 вядомы як мяст. Дарогі. З 1612 уладанне Радзівілаў. З сярэдзіны 17 ст. цэнтр Дарожскай воласці Слуцкага княства. Паводле інвентара 1668 у мястэчку 3 вуліцы: Дворная, Клецкая і Слуцкая. З 85 пляцаў, прызначаных пад забудову, забудаваны толькі 34. На гандл. плошчы размяшчалася царква Раства Багародзіцы са званіцай. Вул. Дворная вяла ад гандл. плошчы да сядзібнага комплексу, які ўключаў 3 жылыя дамы і шэраг гасп. пабудоў. З 1791 пад назвай Старыя Дарогі ў складзе Случарэцкага пав. Навагрудскага ваяв. З 1793 у складзе Расіі, вёска ў Новадарожскай воласці Бабруйскага пав. Мінскай губ. З канца 19 ст. станцыя вузкакалейнай чыгункі; 500 жыхароў (1897). У 1904 лесапільня і фанерны з-д. З 1924 мястэчка, цэнтр раёна (1,8 тыс. жыхароў у 1926). З 1938 горад. У 1962—66 у Слуцкім р-не. Горад развіўся з прыстанцыйнага пасёлка. Сетка вуліц прамавугольная, арыентавана на чыгунку, з дробнымі кварталамі. У 1955 распрацаваны праект планіроўкі цэнтр. часткі горада («Белдзяржпраект»), у 1968 — праект планіроўкі С. Д. (НДІ буд-ва і архітэктуры Дзяржбуда БССР, арх. І. Рудэнка, М. Жлоба, Н. Яленская, Э. Герасімчык), карэкціроўкі ў 1976 (арх. В. Жаўняк, В. Дутлава, інж. В. Каўчынскі, У. Пачтоўскі) і ў 1987 (арх. Дутлава, А. Працько, інж. А. Ціханаў, А. Кузьмін, Г. Аксенцьева), у 1982 створаны план дэталёвай планіроўкі цэнтра (арх. Дутлава, А. Гарбачова, інж. У. Калеснік, Н. Стырава; усе БелНДІПгорадабудаўніцтва). Чыгунка дзеліць горад на зах. і ўсх. планіровачныя раёны. Зах. раён — асн. жылы масіў, дзе пераважае капітальная 2—5-павярховая забудова ўздоўж вуліц Камсамольскай, К. Маркса, М. Горкага і інш. Асн. кампазіцыйная вось — вул. Камсамольская — перасякае цэнтр ад вул. Першамайскай да вул. Калініна, звязвае яго з чыг. вакзалам. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся па вул. Камсамольскай і пл. Леніна, утворанай на скрыжаванні вул. Пралетарскай з вуліцамі Камсамольскай і К. Маркса. Ва ўсх.



**Старынкаўская сядзіба.** З малюнка Н. Орды. 19 ст.



**Старыя Дарогі.** Вуліца Камсамольская.

планіровачным раёне пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Архіт.-планіровачную структуру раёна вызначаюць вуліцы Савецкая, Садовая, Чапаева. Вытворча-складская зона размешчана ў паўн. частцы горада. Зона адпачынку — парк у пойме р. Салянка, сквер па вул. Кірава. На р. Салянка створаны штучныя вадаёмы (пл. 5 га).

*Ю. А. Якімовіч, С. Ф. Самбук.*

**СТАЎБЦОЎСКІ КАСЦЁЛ СВЯТОГА КАЗІМІРА.** Заснаваны ў г. Стоўбцы ваяводам Мінскім і Навагрудскім Аляксандрам Слушкам у 1621 (меў рысы ранняга барока), у 1640 пры ім закладзены кляштар дамініканцаў. У 2-й пал. 19 ст. перабудаваны пад царкву. 3-нефавая прамавугольная ў плане мураваная базіліка з 2-вежавым гал. фасадам. Вежы мелі аднолькавае на ўсю вышыню квадратнае папярочнае сячэнне, што надавала ім манументальнасць. Сіметрычнасць кампазіцыі парушала ўбудаваная з паўд. боку цэнтрычная капліца, завершаная купалам. Звонку будынак меў сціплы дэкор: плоскія пілястры і нішы. Унутранае ўбранне вызначалася багаццем ляпной аздобы ў тэхніцы стука (скульптура, рэльефы на сценах і арках, архіт. пластыка, геральдыка). Скляпенні нефаў і ўнутраная абалонка купала былі аздоблены ляпнымі кесонамі і фрэскавай размалёўкай. Касцёл разбураны ў Вял. Айч. вайну.

*Т. В. Габрусь.*

**СТОЛІН,** горад, цэнтр раёна, на р. Гарынь. За 245 км на У ад Брэста. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах 12—13 стагоддзяў сярод гарадоў «Пагарынскіх» (на р. Гарынь). У 16 ст. мястэчка Пінскага пав. Берасцейскага ваяводства Вял. кн. Літоўскага. Належала Саламярэцкім, Вішнявецкім, Пацам, Солтанам, Скірмунтам і інш. З 17 ст. горад. З 1792 цэнтр Запінскага пав. Брэсцкага ваяводства. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Пінскага пав. Мінскай губ. У 1816 тут адкрыта першая на Беларусі школа ўзаемнага навучання, дзе выкладаліся асновы аграноміі. У 1897 у С. 3,3 тыс. жыхароў, 250 двароў, пачатковае вучылішча, бровар, смалакурня. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, горад, цэнтр павета Палескага ваяводства. З 1939 у складзе БССР, 8 тыс. жыхароў. З 1940 цэнтр раёна Пінскай, з 1954 Брэсцкай абласцей. Тэрыторыя сучаснага горада фарміруецца з 3 раёнаў: цэнтральнага (г. Столін), усходняга (в. Манькавічы) і заходняга (р. п. Рэчыца), якія з лінейнай планіровачнай структурай утвараюць агламерацыю, выцягнутую ўздоўж р. Гарынь і звязаную вул. Дзяржынскага ў адзіны горадабудаўнічы комплекс. Аснову транспартнай сеткі складаюць вуліцы Савецкая (галоўная), Горкага, Дзяржынскага, Церашковай, Леніна, Пінская. С. забудоўваўся паводле генплана 1970 («Белдзяржпраект») і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1973 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Жаўняк, В. Дутлава, інж. Н. Паўлава, І. Барысік). Генплан 1984 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Дутлава, А. Гарбачова, інж. Н. Стырава, Г. Акенцьева) прадугледжвае тэрытарыяльна-планіровачнае адзінства 3 населеных пунктаў і далейшае развіццё агламерацыі ў паўн. напрамку. Кампазіцыйнае ядро сістэмы — агульнагарадскі цэнтр, сфарміраваны ўздоўж вул. Савецкай у выглядзе размешчаных на ёй плошчаў, аб'яднаных пешаходнымі сувязямі. Уключае адм. (пл. Леніна), гандлёвую і спарт. зоны, раскрытыя ў паркавую зону і да вадасховішча. Далейшае развіццё цэнтра прадугледжана ўздоўж вул. Пінскай са стварэннем у яе раёне новай гарадской плошчы. Індывідуальнае жыллёвае буд-ва вядзецца ў зах. частцы горада ў бок р. п. Рэчыца, 2—5-павярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтры і ва ўсх. частцы С. (вуліцы Дзяржынскага, Ульянава, Церашковай). Створаны комплекс будынкаў сельгастэхнікума. Вытв. зона размешчана ў зах. і ўсх. частках горада, зона адпачынку — р. Гарынь, парк «Манькавічы» на яе ўзбярэжжы (гл. ў арт. *Столінская сядзіба «Манькавічы»).* Захаваліся помнікі архітэктуры — мураваная сінагога (1792) і драўляная царква Ушэсця (1-я палова 20 ст.)

*С. Ф. Самбук.*

**СТОЛІНСКАЯ СЯДЗІБА «МАНЬКАВІЧЫ».** Існавала ў 18 — 1-й палове 20 ст. ў б. сядзібе Радзівілаў у в. Манькавічы (цяпер у межах г. Століна). У пач. 18 ст. сядзібны комплекс уключаў жылыя дамы — 2 панскія (стары і новы), некалькі для прыслугі каля ўязной брамы,



**Столінская сядзіба «Манькавічы».** Агульны выгляд палаца і брамы.



**Стоўбцы.** Вуліца Цэнтральная.

гасп. пабудовы і сад. У 2-й палове 18 ст. пастаўлены дом аканома, гасп. пабудовы. У 1780-я гады ўзведзены драўляны палац, перабудаваны ў канцы 19 ст. паводле праекта арх. Венцэля ў стылі несапраўднай готыкі. Прамавугольны ў плане будынак пад гонтавым дахам; гал. ўваход вылучаны слупавым ганкам. У пач. 19 ст. каля палаца пабудавалі драўляны флігель пад гонтавым дахам, дом для прыслугі, кухню, конна-валовы млын, 3 гумны з прыбудаванымі ў тарцах свірнамі, саладоўню і інш. Пры ўездзе ў сядзібу пастаўлена манум. брама — 1-павярховы з мансардамі і цокалем прамавугольны ў плане будынак, накрыты складаным дахам. Дамінантай кампазіцыі была гранёная вежа, завершаная купалам з барабанам і шатром над ім. У 1885 вакол палаца, які стаяў на насыпной тэрасе, закладзены парк пейзажнага тыпу пл. 50 га (зараз 27,9 га). Фарміраваўся пры садзейнічанні Марыі Радзівіл, пра што сведчыць надпіс на закладным камені (устаноўлены яе сынам Станіславам на ўзлеску цэнтр. паляны). Тэраса абмежавана земляным валам выш. да 1,5 м з кветнікамі і дэкар. кустамі. Астатняя частка на раўнінным рэльефе. Пры ўездзе ў парк з боку Століна пабудаваны павільён і каваныя вароты. Расце больш за 35 відаў дрэў і кустоў, вадаём з фантанам і лебедзямі (у частцы парку, што прылягала да палаца). У Вял. Айч. вайну палац згарэў, дрэвы моцна пашкоджаны, вывезены вароты. Цяпер тут парк культуры і адпачынку працоўнуў, у будынках, якія захаваліся, размешчаны краязнаўчы музей і муз. школа.

*Н. С. Будыка, Ю. А. Якімовіч.*

**СТОЎБЦЫ,** горад, цэнтр раёна, на р. Нёман. За 78 км на ПдЗ ад Мінска. Вядомы з 1-й пал. 16 ст. як населены пункт Вял. кн. Літоўскага. Належаў Слушкам, Радзівілам, Чарторыйскім. У 1621 пабудаваны *Стаўбцоўскі касцёл святога Казіміра.* У 1729 С. атрымалі магдэбургскае права. З 1793 у складзе Расіі, мя-

стэчка, цэнтр воласці Мінскага пав. У 19 ст. адна з гал. прыстаней на Нёмане; развіты рамесніцтва і гандаль, вываз збожжа, пянькі, лесаматэрыялаў, смалы, буд-ва рачных суднаў, здабыча мелу, вапны. З 1871 станцыя Маскоўска-Брэсцкай чыгункі. 3,8 тыс. жыхароў у 1897, запалкавая ф-ка, лесапільны з-д і млын, смалакурня, паромная пераправа, пачатковае вучылішча, паштовая станцыя. У 1882 непадалёку ад С. у в. Акінчыцы (цяпер у межах горада) нарадзіўся Я. Колас. З 1921 С. ў складзе бурж. Польшчы, горад, цэнтр павета Навагрудскага ваяводства, пагранічная чыг. станцыя. З 1939 у складзе БССР, 7,5 тыс. жыхароў. З 1940 цэнтр раёна. Тэр. горада размешчана паміж чыгункай і аўтадарогай. Планіровачная структура складаная, нерэгулярная. Асн. кампазіцыйная вось — вул. Ленінская. На скрыжаванні яе з вуліцамі Гагарына і Першамайскай, у паўд. частцы горада ўтворана пл. Леніна — гіст. цэнтр. У паўн. частцы, на скрыжаванні вуліц Ленінскай і Сацыялістычнай сфарміраваўся адм. цэнтр, дзе сканцэнтравана асн. частка капітальнай 2—5-павярховай забудовы. Гандлёвы цэнтр склаўся ў раёне прывакзальнай плошчы. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. У паўн.-зах. частцы горада, у раёне вул. Ленінскай, ствараюцца мікрараёны № 4 (3—5-павярховая забудова) і № 6 (5-павярховая забудова). Зона адпачынку — р. Нёман, гар. парк, лясны масіў на У ад горада, частка якога ўваходзіць у зону адпачынку рэсп. значэння «Стоўбцы». Збярогся помнік архітэктуры класіцызму з рысамі барока — царква Ганны (1825). Горад забудоўваецца паводле генплана 1983 (БелНДІПгорадабудаўніцтва).

*В. А. Крайко.*

**СТРАЛАЎСКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 2-й пал. 18—19 ст. ў в. Страла (Дзятлаўскі р-н). Уключала сядзібны дом, флігель, гасп. будынкі, пабудаваныя ў традыцыях нар. дойлідства, невял. парк пейзажнага тыпу. Драўляны 1-павярховы Г-падобны ў плане сядзібны дом быў накрыты вальмавым гонтавым дахам. Сцены ашаляваныя, вокны прамавугольныя ў плоскіх ліштвах. Гал. ўваход вылучаў ганак у выглядзе 4-калоннага порціка з трохвугольным франтонам у завяршэнні. Трохкамерны прамавугольны ў плане драўляны флігель, завершаны 2-схільным дахам, уключаў 2 жылыя пакоі абапал сенцаў. У сядзібе жыў польскі паэт Ю. Корсак (пахаваны непадалёку ад сядзібы ў капліцы на могілках). Сядзіба вядомая па малюнку Н. Орды 1871. *Ю. А. Якімовіч.*



**Стралаўская сядзіба.** З малюнка Н. Орды. 1871.



**Струбніцкі Троіцкі касцёл.**



**Стрэшынская Пакроўская царква.**

**СТРУБНІЦКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік драўлянага дойлідства з элементамі барока. Пабудаваны ў 1740 на ўскраіне в. Струбніца (Мастоўскі р-н) на высокім узгорку. Мураваныя брама і 2-ярусная званіца ўзведзены ў 1856. Дэкор інтэр'ера выкананы ў 1798—99. Да прамавугольнага ў плане асн. аб'ёму прымыкаюць 5-гранная апсіда з сакрысціямі з усходу, бабінец і 2 вуглавыя вежы з захаду (завяршэнні вежаў не захаваліся). Сцены ашаляваны і ўмацаваны вертыкальнымі сцяжкамі. Асн. аб'ём і апсіда накрыты адным 2-схільным дахам з вальмамі над апсідай. Гал. фасад завершаны высокім франтонам з вежачкай. Інтэр'ер мае выцягнутую па падоўжнай восі кампазіцыю — бабінец, прамавугольная зала, глыбокая 5-гранная апсіда. Хоры з арганам адкрыты ў залу паўцыркульным праёмам. З разныя алтары з драўлянай скульптурай выкананы ў традыцыях барока. Найбольш багата афармлены 3-ярусны гал. алтар (у апсідзе). Невысокі 1-ы ярус алтара дэкарыраваны накладной пазалочанай разьбой раслiннага арнаменту. Бакавыя алтары ўпрыгожаны паліхромнай і пазалочанай скульптурай, накладной разьбой. Сцены дэкарыраваны фрызам, арнаментальным і сюжэтным жывапісам, выкананым у тэхніцы грызайль. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*С. А. Друшчыц, Л. Г. Лапцэвіч, Л. В. Трэпет.*

**СТРЭШЫН,** гарадскі пасёлак у Жлобінскім р-не. На правым беразе Дняпра. За 25 км на Пд ад Жлобіна. 105 км ад Гомеля. Археал. матэрыялы сведчаць, што С. узнік у 12 ст. як невялікі феадальны замак, абкружаны валам (шыр. 10—12 м) і ровам. Побач з замкам вырасла неўмацаванае паселішча. Некаторыя даследчыкі атаясамліваюць С. з стараж. горадам Стрэжавам, які ўпамінаецца ў Лаўрэнцьеўскім і Іпацьеўскім летапісах пад 1127—28 і 1159. Паводле пісьмовых крыніц С. вядомы з 2-й пал. 14 ст. У «Спісе гарадоў далёкіх і блізкіх» (14 ст.) С. упамінаецца ў ліку гарадоў Кіеўскай Русі разам з Рагачовам і Любечам. У 1399 упамінаецца ў дарчай грамаце вял. кн. літоўскага Вітаўта, належаў віленскім канонікам. У 16—17 стагоддзях неаднойчы разбураны. У пач. 17 ст. ў сутоку Дняпра і Стрэшынкі існаваў драўляны замак, каля якога размяшчалася гандл. плошча з крамамі і карчмой. Паводле падымнага рэестра Стрэшынскай воласці 1608 горад падзяляўся на 2 часткі: асн. тэрыторыю (каля замка, мела 56 дамоў) і прадмесце Слабада (46 дамоў). У С. былі 2 ганчарныя майстэрні, рудня, вадзяны млын на р. Стрэшынка. Інвентар 1628 апісвае замак, сядзібу, касцёл і царкву са званіцай. У гэты час С. быў мястэчкам, меў 100 двароў, паромную пераправу на Дняпры каля замка. У 1700 каля мястэчка заснавана паташная буда. Паводле інвентару 1702 замак ужо не існаваў, на

гандл. плошчы было 20 крам. З 1793 С. у складзе Расіі, цэнтр воласці Рагачоўскага пав., мястэчка, уладанне графа Остэрмана. У канцы 19 ст. каля 2 тыс. жыхароў, 184 двары, лясны промысел і дробны гандаль, пачатковая школа. У 1807 пабудавана *Стрэшынская Пакроўская царква.* У 1924—27 і з 1939 цэнтр раёна. З 1938 гарадскі пасёлак. У 1927—39 і з 1956 у Жлобінскім р-не. Архіт.-планіровачную структуру пасёлка вызначаюць вуліцы Першамайская, Камсамольская, Леніна (на ёй знаходзяцца 2-павярховыя будынкі універмага, навучальна-вытворчага камбіната, Дома культуры, разбіты сквер). Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. У цэнтр. частцы пасёлка будуюцца 2-павярховыя жылыя дамы. Вытв. зона размешчана ў паўн. і паўд.-зах. частках. Зона адпачынку — берагі Дняпра. Пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1976 («Гомельграмадзянпраект», арх. В. Галеўка). Прадугледжана развіццё пасёлка на Пд.

*Э. М. Загарульскі, Ю. А. Якімовіч.*

**СТРЭШЫНСКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 1807 з цэглы ў г. п. Стрэшын (Жлобінскі р-н). Храм цэнтрычны, складаецца з асн. аб'ёму (у плане квадрат са зрэзанымі вугламі) і прылеглых да яго з 4 бакоў паўкруглых аб'ёмаў. Ва ўсх. частцы знаходзіцца алтар, у астатніх зроблены ўваходы з высокімі мураванымі ганкамі. Цэнтр. аб'ём дамінуе ў агульнай кампазіцыі і мае сферычнае пакрыццё, завершана круглым светлавым барабанам з невял. купалам. Шырокія грані цэнтр. аб'ёму маюць франтонныя завяршэнні. Фасады аздоблены пілястрамі і паўцыркульнымі нішамі, у якіх размешчаны вокны. У інтэр'еры перакрыцці аб'ёмаў, што прылягаюць да асноўнай залы, вырашаны ў выглядзе конхаў, якія пераходзяць у ветразевае скляпенне залы. Пад будынкам зроблена крыпта, куды вядуць двухмаршавыя лесвіцы, размешчаныя па баках гал. ўвахода. У 1989 царква перададзена веруючым, дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Міцянін.*

**СУБОТНІЦКІ КАСЦЁЛ СВЯТОГА УЛАДЗІСЛАВА,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны ў 1904 з цэглы па фундацыі графа У. Умястоўскага ў в. Суботнікі (Іўеўскі р-н). Прамавугольны ў плане асн. аб'ём (выш. 32 м, даўж. 30 м, шыр. каля 20 м) накрыты 2-схільным дахам, 5-гранная апсіда — вальмавым, сіметрычныя сакрысціі — 2-схільнымі дахамі. Масіўная 3-ярусная вежа на гал. фасадзе завершана высокім шатром. Сцены рытмічна расчлянёны ступеньчатымі контрфорсамі, аконныя праёмы маюць стральчатыя і арачныя завяршэнні. Па баках вежы — невял. гранёныя аб'ёмы. Унутры касцёл падзелены слупамі на 3 нефы, цэнтр. значна шырэйшы за бакавыя. Скляпенні цыліндрычныя з распалубкамі. Над уваходам — хоры. У Вял. Айч. вайну быў часткова разбураны. У 1947 адноўлены, пакрыты чарапіцай, у 1972 перакрыты бляхай. Касцёл дзейнічае. *Т. В. Габрусь.*



**Суботніцкі касцёл Святога Уладзіслава.**

**СУПРАСЛЬСКАЯ ЦАРКВА-КРЭПАСЦЬ,** помнік архітэктуры 1-й пал. 16 ст. Пабудавана з цэглы ў 1503—11 (паводле іншых звестак у 1509—10) Аляксандрам Хадкевічам і Іосіфам Солтанам у Супраслі (цяпер Беластоцкае ваяводства Польшчы) як галоўны храм праваслаўнага манастыра. Перабудавана ў 18 ст. Мела рысы стылю готыкі, рэнесансу і ракако. Прамавугольны ў плане 4-вежавы 3-нефавы 6-стаўповы абарончы храм зальнага тыпу з трыма гранёнымі апсідамі. Крыжова-цэнтрычная кампазіцыя завяршалася барочным купалам складанай канфігурацыі на 8-гранным светлавым барабане на 4 падпружных арках. Такія ж завяршэнні мелі 4 вуглавыя вежы (круглыя ў ніжніх, гранёныя ў верхніх частках), што фланкіравалі будынак. Фасады падзяляліся на 3 ярусы: ніжні цокальны, афармлены цаглянай муроўкай з сеткаватым арнаментам; сярэдні, аддзелены ад ніжняга аркатурным фрызам, меў стральчатыя і круглыя вокны з ліштвамі, завершаны машыкульным фрызам; верхні ярус — 4 франтоны складанай формы з высокімі арачнымі вокнамі, аркатурай і інш. элементамі аздобы. Уваход быў вырашаны ў выглядзе прамавугольнага ў плане тамбура пад 2-схільным дахам, які меў байніцы і машыкулі. Цэнтр. неф быў значна шырэйшы за бакавыя. Нефы непасрэдна пераходзілі ў апсіды. Скляпенні крыжовыя, зорчастыя і сеткаватыя. У сценах вышэй перакрыцця размяшчаліся абарончыя прыстасаванні. У сярэдзіне 18 ст. інтэр'ер царквы атрымаў ракайлевае дэкар. ўбранне: пры ўваходзе былі крывалінейныя ў плане хоры з ажурнай агароджай, сцены расчля-



**Супрасльская царква-крэпасць.** З малюнка 19 ст.



**Супрасльская царква-крэпасць.** Падоўжны разрэз.

нёны ляпнымі панелямі мудрагелістага малюнка і пілястрамі з «коскамі», арачныя праёмы аформлены трэльяжнай сеткай, ляпной арнаментыкай з S- і С-падобных завіткоў. Ракайлевую трактоўку набылі гал. і бакавыя алтары. У 1557 храм размаляваны фрэскамі (маст. Нектарый Сербін і інш.), выкананымі па часткова высушанай тынкоўцы з выкарыстаннем сечаных канапляных валокнаў. У цэнтры купала знаходзілася кампазіцыя «Хрыстос усядзяржыцель». Ніжэй размяшчаліся арнаментальныя фрызы з выявамі архангелаў, святых у поўны рост і ў медальёнах апосталаў, пакутнікаў з крыжамі ў руках. Евангельскія сюжэты размяшчаліся па перыметры сцен у 2 рэгістры. Унізе праходзіў шырокі арнаментальна-дэкар. фрыз, на якім намаляваны сюжэты, прысвечаныя акафісту Маці Боскай і асобным сцэнам з жыцця Хрыста: «Благавешчанне», «Маці Боская Знаменне», «Маці Боская з анёламі», «Хрышчэнне», «Стрэчанне», «Уваскрэсенне Лазара», «Жонкі-міраносіцы каля труны гасподняй», «Хрыстос і самаранка», «Уваскрэсенне», «Праабражэнне», «Сашэсце св. духа на апосталаў», «Ушэсце» і інш. Пад евангельскімі сюжэтамі размешчаны выявы пустэльнікаў, на слупах — выявы воінаў. Каларыстычная гама з мяккімі пералівамі і пераходамі; пераважаюць тоны залацістай вохры, бледна-ружовыя, карычнева-вішнёвыя, шэра-сіняватыя, блакітныя, ізумрудныя. Твары напісаны светла-ружовай вохрай па светла-аліўкавай падмалёўцы з падрумянкай і карычнева-чырвоным вопісам. Іканаграфія фрэсак Супрасльскай царквы-крэпасці набліжаецца да мастацтва Візантыі канца 14 — пач. 15 ст. з элементамі зах.-еўрапейскага. 27.7.1944 царква разбурана (збераглася часткова). Захаваліся рэшткі фрэсак (30 фрагментаў на слупах), якія рэстаўрыраваны ў 1964—66 і зберагаюцца ў Беластоцкім музеі. У 16 ст. царква ўваходзіла ў комплекс манастыра, дзе складаліся летапісы, свецкія і рэлігійныя творы, у т. л. Супрасльскі зборнік 1519, які змяшчаў самы поўны спіс бел.-літоўскага летапісу 1446. З 1627 манастыр быў уніяцкім, з 1722 — гал. рэзідэнцыя базыльянскага ордэна, у канцы 17 — пач. 19 ст. дзейнічала Супрасльская друкарня. У манастырскай б-цы захоўваліся каштоўныя кнігі і рукапісы, у т. л. Супрасльскі рукапіс 11 ст. Зараз царква аднаўляецца.

*А. М. Кулагін, Ю. А. Якімовіч, В. В. Церашчатава* (фрэскі).

**СУРАЖ,** гарадскі пасёлак у Віцебскім р-не, на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Каспля. За 43 км на ПнУ ад Віцебска. Гарадзішча С. (Замчышча) размешчана на мысе пры зліцці Зах. Дзвіны і Касплі. Яго трохвугольная пляцоўка (60×50 м) з У умацавана ровам, з Пн і Пд абкружана рэкамі. У абрыве культурны пласт да 1,5 м. За 200 м ад зліцця рэк захаваліся рэшткі другога рова, які аддзяляў вакольны горад. Знойдзены фрагменты керамікі 9—10 стагоддзяў, шыферныя прасліцы, кераміка 11—13 стагоддзяў і больш позняга часу, прадметы побыту 14 ст., гарматныя ядры і кафля 16—17 стагоддзяў. Выяўлены рэшткі драўлянага *Суражскага замка.* Каб залучыць новых жыхароў у парубежны горад, у 1570 С. нададзены такія ж правы і вольнасці, якія меў Віцебск, але развіваўся ён марудна (у 1667 было 60 дамоў). З 1590 цэнтр староства. З 1772 у складзе Расійскай імперыі, з 1776 горад, цэнтр павета, з 1866 заштатны горад Віцебскага пав. У 1778 і 1839 зацверджаны планы горада. У 1780 у С. 300 жыхароў, больш за 100 дамоў, драўляная царква. У 1897 — 2731 жыхар, 2-класнае павятовае і нар. вучылішчы, прыстань. У пач. 20 ст. ў С.— 400 жыхароў, каля 440 драўляных дамоў, з іх 11 мураваных, 2 царквы, 69 крам. У паўн. частцы горада, на правым беразе Зах. Дзвіны, было 8 кварталаў, 6 вуліц, на левым беразе Зах. Дзвіны і правым беразе Касплі — 33 кварталы, 11 вуліц, 2 плошчы. З 1924 С.— цэнтр раёна, з 1938 гарадскі пасёлак, 3 тыс. жыхароў у 1939. Да 1957 цэнтр раёна, потым гарадскі пасёлак у Суражскім р-не, у 1960—62 і з 1965 у Віцебскім (у 1962—65 у Лёзненскім) р-не. Паводле плана буд-ва Суражскай ГЭС пасёлак быў прызначаны да затаплення, таму на працягу апошніх трох дзесяцігоддзяў амаль не развіваўся (1,2 тыс. жыхароў у 1990). Забудоўваецца паводле генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Жаўняк, Л. Смірнова, Н. Паўлава, Л. Быстрова, В. Асядоўская). Тэр. пасёлка падзелена р. Каспляй на зах. і ўсх. часткі. Сетка вуліц прамавугольная з невял. кварталамі. Асн. кампазіцыйныя восі — вуліцы Віцебская (у зах. частцы) і Савецкая (ва ўсх. частцы), паралельная Зах. Дзвіне. Адм.-грамадскі цэнтр склаўся ва ўсх. частцы пасёлка, на вул. Савецкай. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Ва ўсх. частцы будуюцца 2-павярховыя жылыя дамы. Вытв. зона размешчана ў зах. і ўсх. частках пасёлка. Зона адпачынку — Зах. Дзвіна, лясныя масівы на яе ўзбярэжжы. Прадугледжваецца расшырэнне грамадскага цэнтра, зоны спорту і адпачынку.

*Г. В. Штыхаў, Г. С. Ларкін.*

**СУРАЖСКІ ЗАМАК.** Існаваў у г. п. Сураж (Віцебскі р-н). Пабудаваны з дрэва ў 1564—65 паводле загаду караля Сігізмунда-Аўгуста. Спалены ў часы ваенных дзеянняў у 1615, пазней аднаўлены. Па дакументах 1770-х гадоў замак размяшчаўся на высокім мысе ў сутоках рэк Зах. Дзвіна і Каспля. Меў трохвугольную форму плана, быў умацаваны валамі, ровам (з ПдУ шырыня больш за 14 м), абарончымі сценамі ў выглядзе астрога. З боку пасёлішча меў пад'ёмны мост і браму. У цэнтры дзядзінца насупраць брамы размяшчаўся прамавугольны ў плане 1-павярховы жылы дом, накрыты дранціцай (уключаў сенцы, жылы пакой, алькеж і пякарню); справа ад брамы стаялі 2 свірны, злева — стайня. С. з. разабраны ў 1655 і сплаўлены па Зах. Дзвіне для рамонту Віцебскага замка.

*Ю. А. Якімовіч.*

**СУРВІЛІШСКІ ТРОЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1550 пад назвай Святая Тройца ў в. Сурвілішкі (Іўеўскі р-н) па фундацыі Розы



Сурвілішскі Троіцкі касцёл.



Сцяпанкаўская Міхайлаўская царква.


Сынковіцкая царква-крэпасць.


Сынковіцкая царква-крэпасць.

Гайкоўскай і яе братоў Івана і Антона. Драўляны крыжападобны ў плане касцёл (18×12) уключае 1-нефавы прамавугольны асн. аб'ём, вузкі трансепт і 5-гранную апсіду, да якой прылягаюць нізкія сакрысціі. Асн. аб'ём і апсіды аб'яднаны агульным 2-схільным дахам з вальмай над апсідай. Сцены фасадаў маюць лучковыя і круглыя вокны ў простых ліштвах і завершаны шырокім карнізам па перыметры асн. аб'ёму, трансепта і апсіды. Гал. фасад расчлянёны 2 тонкімі пілястрамі на 3 часткі: цэнтральная, акцэнтаваная лучковымі праёмам увахода і акном, ашалявана гарызантальна, бакавыя — вертыкальна, завершаны фігурным франтонам, тымпан з лучковым праёмам ашаляваны гарызантальна, дэкарыраваны пілястрамі. Над уваходам — хоры, раскрытыя ў асн. памяшканне арачным праёмам; арган афармлены ў стылі барока. Столь плоская, з закругленымі вуглами. У трансепце захаваліся 2 алтары ў стылі барока, аформленыя калонамі і пілястрамі карынфскага ордэра, разным раслінным арнаментам, галоўкамі пуцці. У 1878—80 да касцёла была прыбудавана званіца (захавалася яе цагляны фундамент). Касцёл не дзейнічае. *С. Г. Багласаў.*

**СЦЯПАНКАЎСКАЯ МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1780 у в. Сцяпанкі (Жабінкаўскі р-н) у стылі барока. Прамавугольны цэнтр. неф асвятляецца невял. верхнімі вокнамі і накрыты 2-схільным дахам з вальмай над алтаром і трохвугольным франтонам з шалёўкай «ромбам» на гал. фасадзе. У сярэдзіне вільчыка фігурны гранёны купалок. Бакавыя нефы накрыты 1-схільнымі дахамі, якія каля алтара пераходзяць у 3-вугольныя застрэшкі, а на гал. фасадзе завершаны 2-яруснымі чацверыковымі вежачкамі з гранёнымі купалкамі. Аконныя праёмы з лучковымі завяршэннямі зашклёны вітражамі. Унутры нефы падзелены 4 калонкамі з капітэлямі. Цэнтр. неф мае скляпеністае перакрыцце, бакавыя — плоскую столь. Сцены апрацаваны пілястрамі. Над уваходам — хоры. У 1914 з ПдЗ да царквы прыбудавана 3-ярусная чацверыковая званіца з васьмерыковым верхнім ярусам, завершаным шатровым дахам з дэкар. шчытамі. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*

**СЫНКОВІЦКАЯ ЦАРКВА-КРЭПАСЦЬ,** помнік абарончага дойлідства. Пабудавана на паўн. ускраіне в. Сынковічы (Зэльвенскі р-н) у канцы 15 — пач. 16 ст. з цэглы. Мае рысы стылю готыкі. 3-нефавы 4-стаўповы 3-апсідны мураваны храм зальнага тыпу (у плане — перакошаны прамавугольнік), фланкіраваны па вуглах 4 баявымі вежамі (з 3 гранёныя, з У круглыя) з цаглянымі вітымі ўсходамі ўнутры. Мае пояс машыкуляў па версе сцен, накрыты высокім 2-схільным дахам з вострымі тарцовымі шчытамі. Шчыт на гал. фасадзе аздоблены некалькімі ярусамі розных па форме плоскіх атынкаваных нішаў. Знадворку апсіды ўверсе аб'яднаны ў адну і накрыты агульным высокім дахам. Пазней прыбудаваны бабінец. У 1880—81 у час рамонту заменены дах і дабудаваны купал над апсідай, разабраны купал над цэнтр. часткай храма. У інтэр'еры чатыры 8-гранныя слупы падзяляюць прастору на роўныя пралёты, перакрытыя крыжовымі скляпеннямі з нервюрамі. Цэнтр. і паўн. апсіды перакрыты крыжовымі, паўднёвая — зорчатым скляпеннямі. Сцены атынкаваныя і расчлянёныя прамавугольнымі лапаткамі, аб'яднанымі са слупамі падпружнымі аркамі. Помнік рэспубліканскага значэння. *С. Г. Багласаў.*

**СЯЛЕЦКАЯ УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 1870 з цэглы ў цэнтры в. Сялец (Бярозаўскі р-н). У плане — выцягнутая па падоўжнай восі кампазіцыя: званіца, трапезная, асн. аб'ём з бакавымі парталамі і 5-гранная апсіда, да якой прымыкаюць дзяканнік і ахвярнік. Архіт.-дэкар. аздабленне засноўвана на спалучэнні традыцый класіцызму (апрацоўка сцен пілястрамі тасканскага ордэра, прафіляваныя высокія карнізы, абрамленні паўкруглых акон асн. аб'ёму) і характэрных форм маскоўскай



**Сялецкая Успенская царква.**

архітэктуры 17 ст. (канструкцыйная схема званіцы — васьмярык на чацверыку, шатровы дах з цыбулепадобнай галоўкай, кілепадобныя какошнікі парталаў і вежы-званіцы). Царква дзейнічае.

*Г. А. Лаўрэцкі.*

**СЯННО,** горад, цэнтр раёна, на беразе воз. Сянно. За 56 км ад Віцебска. Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1525 як мястэчка Віцебскага пав. Вял. кн. Літоўскага. Неаднойчы спусташалася ў час войнаў, асабліва ў 1535 у руска-літоўскую 1534—37. Належала з 1-й пал. 17 ст. Сапегам, з 2-й пал. 18 ст. Агінскім, у 1-й пал. 19 ст. графу Серакоўскаму. Паводле іншых звестак, у 1573 належала Змітраку Сапегу (зафіксавана ў 1573), потым — Корсакам, Сцяткевічам, Коццам, Важынскім, у 1757 прададзена Тышкевічам, потым падаравана Серакоўскім, у далейшым валодалі Пуслоўскія, у канцы 19 ст.— Шабекі. Размешчана на 2 марэнных узвышшах, падзеленых з Пн на Пд воз. Сянно. За возерам, на месцы стараж. капішча, на ўзвышшы да 18 ст. існаваў замак. З 1772 у складзе Расіі, з 1773 горад, цэнтр павета Аршанскай правінцыі, з 1796 — Беларускай, з 1802 — Магілёўскай губ. У 1778 С. атрымала герб: на зялёным полі 2 залатыя касы́. У тым жа годзе зацверджаны план горада. У 1803 непадалёку ад Гандлёвай плошчы стаяў кляштар францысканцаў (не захаваўся), існавала праваслаўная драўляная царква (у імя прарока Ілы). У 1805 у С. каля 600 дамоў, у асноўным драўляных; у 1847 у горадзе 1730 жыхароў. Пасля пажару 1860, які знішчыў амаль усе драўляныя будынкі, пабудаваны мураваныя гандл. рады, Мікалаеўская саборная царква (1867, не захавалася), млын, забрукаваны вуліцы. Драўляныя жылыя дамы будаваліся ў Тураўскай сядзібе, на Пд Краснай слабады, у прадмесці Галынка. У 1880 у С. каля 3 тыс. жыхароў,



**Сянно.** Агульны выгляд. Малюнак 2-й палавіны 19 ст.

352 дамы (з із 3 мураваныя); паводле перапісу 1897 — 4,1 тыс. жыхароў, 2 царквы (з іх адна мураваная) і касцёл. З 1919 у складзе Віцебскай губ. РСФСР, з 1924 у БССР. З 1923 валасны цэнтр Віцебскага пав., у 1924—30 цэнтр раёна Віцебскай акругі, з 1938 — Віцебскай вобл.

Пасля Айч. вайны горад забудоўваўся паводле праекта планіроўкі 1968 (Віцебскі філіял ін-та «Белдзяржпраект»), генплана 1978 (арх. К. Пятрэнка) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1981 (арх. В. Дутлава, Пятрэнка; абодвух БелНДІП-горадабудаўніцтва). Планіровачная структура прамавугольная з дробнай сеткай кварталаў. Асн. вуліцы з'яўляюцца працягам знешніх аўтадарог. Найбольш старажытны раён б. Гандлёвай пл., непадалёку ад якой у пач. 19 ст. сфарміраваўся новы адм. цэнтр. Сучасны адм.-грамадскі і культ. цэнтр гістарычна склаўся на скрыжаванні вуліц Кастрычніцкай, Савецкай і К. Маркса. Гандлёвая зона размешчана па вул. Кастрычніцкай, на ўчастку паміж вуліцамі Назарэнкі і Пралетарскай. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Капітальная 2—3-павярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтры (вуліцы Кастрычніцкая, Савецкая, Назарэнкі) і ў пасёлку ПМК (вул. Чырвоны Кастрычнік), 5-павярховыя жылыя дамы — на вул. Завадскай. Вытворчая зона размешчана ў зах. частцы горада. Зона адпачынку — азёры Сянно і Тухінскае, гарадскі парк. У цэнтры горада на рагу вуліц Кастрычніцкай і К. Маркса захаваўся помнік архітэктуры пач. 19 ст.— адм. будынак. Прадугледжана развіццё горада на Пн, уздоўж зах. берага воз. Сянно.

*С. Ф. Самбук.*

# Т

**ТАКАРОЎСКАЯ МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1816 у цэнтры в. Такары (Камянецкі р-н). Будынак аднаэрубавы з 2-яруснай званіцай на гал. фасадзе, прамавугольнай у плане алтарнай часткай і 2 невял. рызніцамі з зах. боку. Дах 2-схільны, гонтавы. Званіца (чацвярык на чацверыку) завершана 8-гранным светлавым барабанам з макаўкай. Сцены царквы вертыкальна ашаляваныя. З 1990 царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

**ТАЛАЧЫН,** горад, цэнтр раёна, на р. Друць. За 107 км ад Віцебска. Чыг. ст. на лініі Мінск — Орша. Упершыню ўпамінаецца ў 1433 як горад у Вял. кн. Літоўскім. Належаў у 17 ст. Сапегам, потым Шамiётам, у 18 ст. Сангушкам. З сярэдзіны 17 ст. гандлёвае мястэчка Ашмянскага пав. Віцебскага ваяводства, праводзіліся 3 кірмашы на год. У рус.-польскую вайну 1654—67 спалены, асталіся 142 дамы (у 162[illegible] было 314 дамоў). У 1604 Л. Сапегам засн. касцёл, у 2-й пал. 18 ст. Сангушкамі — *Талачынскі ма-*



Тakaроўская Міхайлаўская царква.

[манас]тыр базыльян*, у канцы 18 ст. касцёл перабудаваны пад уніяцкую царкву. З 1772 у складзе Расійскай імперыі, у 1782 меў статус горада, з 1783 мястэчка, у 1783—93 пагранічны пункт з таможняй. Усх. частка мястэчка наз. Стары, ці Рускі Т.,— цэнтр Стараталачынскай воласці Копыскага, з 1861— Аршанскага паветаў; зах. частка (за р. Друць) — Зарэчны, ці Новы Т.,— цэнтр Зарэчнаталачынскай воласці Сенненскага пав. У 1897 у Т. 2614 жыхароў, у пач. 20 ст. 3748 жыхароў, 391 дом (з іх 6 цагляных), мураваныя праваслаўная (былая уніяцкая) царква, касцёл, манастырскія пабудовы. У канцы 19 — пач. 20 ст. пабудаваны мураваны касцёл, побач з ім — 3-ярусная званіца (разбурана ў 1960-я гады). Будынак касцёла рэстаўрыраваны. Цяпер у ім размяшчаецца краязнаўчы музей. У канцы 19 ст. у паўд. частцы Т., на ўзвышшы, абкрасаным р. Друць, разбіты парк пейзажнага тыпу пераважна з мясцовых парод дрэў (на ўскраіне яго захаваліся гасп. мураваныя будынкі панскай сядзібы). Т. неаднойчы цярпеў ад пажараў, у 1918 згарэла большая частка яго пабудоў. З 1920 у складзе Віцебскай губ. З 1924 цэнтр раёна Аршанскай акругі (да 1930), з 1938 гарадскі пасёлак у Віцебскай вобл., з 1955 горад.

Сучасны Т. забудоўваецца паводле праекта планіроўкі 1968 (Віцебскі філіял ін-та «Белдзяржпраект»), генплана 1978 (арх. В. Тозарава) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1981 (абодва БелНДІП горадабудаўніцтва; арх. В. Дутлава, Т. Станішэўская). Тэрыторыя Т. уключае ўласна горад, падзелены р. Друць і аўтадарогай на 4 планіровачныя раёны (цэнтральны, паўд.-заходні, Зарэчча, Юзафполле), і раён чыг. станцыі (прамысл. зона). У цэнтр. частцы горада (склалася ў 16—17 стагоддзях, планіровачная структура сфарміравалася ў 18—19 стагоддзях) захавалася рэгулярная сетка вуліц з выразна вылучанымі кварталамі рознай канфігурацыі). Асн. кампазіцыйныя восі і транспартныя магістралі — вуліцы Леніна (галоўная) — Дзяржынскага і Энгельса — Валадарскага (гіст. цэнтр горада). На іх скрыжаванні склаўся грамадскі цэнтр. Адм.-гандл. зона сфарміравана ў раёне цэнтр. плошчы горада — пл. імя 40-годдзя Кастрычніка (утворана вуліцамі Леніна і Энгельса). 2—5-павярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтр. частцы горада, у пас. Райаграпрамтэхнікі, часткова ў Зарэччы, раёне чыг. станцыі. На ўскраінах і ў раёне чыг. станцыі пераважае 1-павярховая забудова сядзібнага тыпу. Зона адпачынку — р. Друць. Прадугледжана развіццё грамадскага цэнтра ўздоўж вул. Леніна ў блізкасці ад гарадскога парку, які ствараецца па берагах вадасховішча.

*І. П. Хаўратовіч, С. Ф. Самбук.*

**ТАЛАЧЫНСКІ МАНАСТЫР БАЗЫЛЬЯН,** помнік архітэктуры позняга барока. Засн. ў 1769 магнатамі Сангушкамі. Уключаў касцёл (узведзены на падмурках касцёла, заснаванага Л. Сапегам у 1604), жылы корпус і школу (узведзены ў 1779). У 1796 касцёл перабудаваны пад уніяцкую царкву, з 1804 праваслаўная Пакроўская царква. Ц а р к в а — 3-нефавая базіліка з 2-вежавым гал. фасадам. Прамавугольны цэнтр. неф завершаны на тарцах фігурнымі атыкавымі франтонамі. Адметнасць гал. фасаду надаюць увагнутыя прасценкі і багатая ордэрная пластыка: ступеньчатыя пілястры, раскрапаваныя слаістыя карнізы, складаныя па форме праёмы, нішы, абрамленні і інш. Бакавыя фасады вырашаны плоскасна. Руставаная цокальная частка і завяршэнні вежаў (верхнія часткі перабудаваны ў 19 ст.) маюць класіцыстычную трактоўку. У інтэр'еры бакавыя нефы адкрываюцца арачнымі праёмамі ў больш высокі цэнтральны, які пераходзіць у прэсбітэрый. Цэнтральны і бакавыя нефы перакрыты крыжовымі скляпеннямі на падпружных арках, прэсбітэрый — цыліндрычным скляпеннем. Унутраныя слупы-апоры аформлены спаранымі пілястрамі з антаблементамі. Алтарная частка адгароджана мураваным іканастасам 18 ст. (у канцы 19 ст.— пач. 20 ст. закрыты драўляным іканастасам). Антаблементы, падпружныя аркі і арачныя праёмы паміж нефамі аздоблены паліхромнай размалёўкай (раслінныя матывы і разеткі). Царква дзейнічае. На Пд ад царквы знаходзіцца м а н а с т ы р с к і ж ы л ы к о р п у с, дзе размяшчаліся трапезная, келлі манахаў і «цёплая» царква. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак з франтонамі на тарцах завершаны 2-схільным дахам. Планіроўка галерэйная з вестыбюлем і лесвіцай у цэнтры, перакрыцці паверхаў скляпеністыя. Фасады расчлянёны пілястрамі і прамавугольнымі вокнамі, аформленымі плоскімі ліштвамі з валютамі зверху. Выкарыстоўваецца як адм. будынак. Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*





**Талачынскі манастыр базыльян.** Царква (уверсе) і манастырскі корпус

**ТАЛБУХІНА ВУЛІЦА** ў М і н с к у. Знаходзіцца ў паўн.-ўсх. частцы горада паміж *Скарыны праспектам* і вул. Кнорына. Названа ў гонар сав. ваеннага дзеяча Маршала Сав. Саюза, Героя Сав. Саюза Ф. І. Талбухіна. Буд-ва вуліцы завершана ў 1966 (арх. Ю. Шпіт, Г. Булдаў, П. Громаў, М. Кудзінаў, В. Ладыгіна, Г. Парсаданаў, Г. Раманенка), па адзінай горадабудаўнічай задуме як жылы мікрараён з бульварам. Кампазіцыйным акцэнтам забудовы з'яўляецца комплекс 9-павярховых жылых дамоў, якія кантрастуюць з працяглымі 1—2-павярховымі аб'ёмамі, дзе размешчаны прадпрыемствы культ.-быт. абслугоўвання. У агульную кампазіцыю ўваходзяць кінатэатр «Партызан» і рэстаран «Каменная кветка». У забудове ву-



Вуліца Талбухіна ў Мінску.

ліцы ўдала выкарыстаны пакаты прыродны рэльеф. На вуліцы размешчаны будынак гасцініцы № 3 («Чайка»), *Мінскага гадзіннікавага завода будынкі*, створаны бульвар, у галоўнай частцы якога — брацкая магіла сав. воінаў, партызан і ахвяр фашызму.

**ТАРНОЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік архітэктуры стылю неарэнесанс. Створана ў канцы 19 — пач. 20 ст. на паўд. ускраіне в. Тарнова (Лідскі р-н). Уключае сядзібны дом і гасп. пабудовы — стайню, лядоўню і ветраны млын. Перад сядзібным



**Тарноўская сядзіба.** Сядзібны дом.

домам разбіты сквер з пасадкамі ясеню і клёну, за 200 м на Пд ад яго — 2 сажалкі. Пад'язная дарога агінае сядзібны дом, праходзіць паміж 2 сажалкамі, далей вядзе да б. гасп. комплексу, дзе знаходзіцца вятрак. Сядзібны дом — мураваны асіметрычны ў плане будынак з маляўнічай ступеньчатай кампазіцыяй фасадаў. Асн. частка будынка — 2-павярховы аб'ём з высунутым наперад крылом, абапал якога размешчаны балконы. З зах. боку размешчана 1-павярховая прыбудова, з усходняга — 4-ярусная вежа, якая дамінуе ў сілуэце. Вуглы асн. аб'ёму руставаныя. Фасады расчлянёны складаным рытмам паўцыркульных акон з прафіляванымі арачнымі броўкамі. Планіроўка будынка анфіладная. Паверхі звязаны лесвіцай, якая размешчана ў цэнтры будынка. У інтэр'еры захавалася паркетная падлога. У адзіным стылі з домам выканана стайня — 1-павярховы цагляны будынак пад 2-схільным дахам, гал. фасад дэкарыраваны рустам, паўкруглымі броўкамі прамавугольных праёмаў, круглымі разеткамі. Лядоўня — паўпадвальнае памяшканне, дах якога выступае над паверхняй зямлі. Над уваходам — 2-схільны шчыт з люкарнай у цэнтры. Ветраны млын — конусападобная пабудова (дыяметр асновы 11,6 м) з бутавага каменю. Верхняя частка млына — драўляны шацёр (не захаваўся), які паварочваўся на металічных шарах вакол сваёй восі ў залежнасці ад напрамку ветру. У сядзібным доме размешчана ашчадная каса і вузел сувязі. *У. В. Алісейчык.*

**ТРАБСКІ КАСЦЁЛ,** помнік неаготыкі. Пабудаваны ў 1900—05 з цэглы ў в. Трабы (Іўеўскі р-н). Заснаваны ксяндзом прыхода Паўлам Сухоцкім. Двухвежавы прамавугольны ў плане храм (даўж. 32 м, шыр. 24 м) з 5-граннай апсідай і невял. трансептам. Асн. аб'ём накрыты 2-схільным дахам, 3-ярусныя вежы — высокімі шатрамі. Крылы трансепта прылягаюць аднachасова да асн. аб'ёму і апсіды, накрыты 2-схільнымі дахамі, якія з трох бакоў закрыты шчытамі. Сцены рытмічна расчлянёны контрфорсамі і стральчатымі аконнымі праёмамі. Унутры касцёл падзелены слупамі на 3 нефы. Цэнтр. перакрыты цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі, бакавыя — крыжовымі. Над уваходам — хоры. Касцёл дзейнічае. *Т. В. Габрусь.*

**ТРОКЕНІЦКАЯ СЯДЗІБА,** помнік архітэктуры неабарока. Створана ў канцы 19 — пач. 20 ст. на зах. ускраіне в. Трокенікі (Астравецкі р-н). Сядзібны дом і гасп. пабудовы



**Трабскі касцёл.**



**Трокеніцкая сядзіба.** Агульны выгляд сядзібнага дома.

(мураваныя 2-павярховы флігель і стайня) размешчаны ў парку эканамічнага тыпу, сад абмежаваны пасадкамі дрэў мясцовых парод. Сядзібны дом — 1-павярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак, накрыты пластычным мансардавым дахам з фігурнымі франтонамі на тарцах і над гал. уваходам. Фасады дома пазбаўлены дэкору, франтоны аздоблены лапаткамі, прафіляванымі карнізамі, люкарнамі і інш. Планіроўка анфіладная. У цэнтры вестыбюля вітыя ўсходы. У будынку размешчана праўленне мясцовага калгаса.

*А. М. Кулагін.*

**ТУГАНАВІЦКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры 2-й паловы 18—19 ст. Створана на левым беразе р. Сэрач, за 1 км ад в. Карчова (Баранавіцкі р-н) у маёнтку кн. Тугана. Належала панам Верашчакам. У 1815—20 у гаспадароў сядзібы часта гасцілі А. Міцкевіч, Т. Зан, Я. Чачот, І. Дамейка. Лета 1818 у Туганавічах прайшло пад знакам рамантычнага пачуцця дачкі гаспадыні маёнтка Марылі Верашчакі і маладога Міцкевіча. Трагічная гісторыя гэтага кахання зрабіла вял. ўплыў на творчасць паэта. Сядзіба вядомая паводле акварэлі Н. Орды. Як сцвярджаюць даследчыкі, апісанае ў паэме «Пан Тадэвуш» Сапліцова цалкам адпавядае тапаграфіі Туганавіцкай сядзібы. Кароткая ўязная ліпавая алея вяла да сядзібных пабудоў (не збераглiся). У парадцай частцы парку былі размешчаны невял. класіцыстычны сядзібны дом з мансардай і тэрасай на 4 слупах, флігель з мураваным ганкам і аранжарэя. Ва ўзгорыстай паўн.-зах. частцы парку размяшчалася капліца-пахавальня, абсаджаная па перыметры дубамі (разбурана ў 1914). На асн. дарозе праз парк знаходзілася альтанка (т. зв. альтанка Марылі; не збераглася), абсаджаная вакол ліпамі. Парк пейзажнага тыпу, высаджаны на ўзгорыстай мясцовасці. Пл. каля 5 га. Асн. элементы кампазіцыі — паляны з курцінамі і далёкімі перспектывамі навакольнага ландшафту. У паўд.-ўсх. частцы знаходзяцца 2 сажалкі. Ва ўрочышчы Кут недалёка ад парку ляжыць валун — «Камень Філарэтаў», дзе наладжвалі сходы ўдзельнікі тайнага таварыства патрыятычнай моладзі. З Туганавічамі звязаны некаторыя падзеі нац.-вызваленчага паўстання 1863—64, на патрэбы якога М. Верашчака прадала частку маёнтка. Тут працавала зброевая майстэрня, прадукцыя пераправілялася ў «цэнтр» — в. Мілавіды. Уладальнік сядзібы К. Туганоўскі падтрымліваў сувязі з К. Каліноўскім, дапамагаў яму. Парк моцна пашкоджаны ў перыяд 1-й сусветнай вайны (у гэтым раёне праходзіла лінія фронту). У 1930-я гады праведзены работы па яго добраўпарадкаванні. Сярод пасадак пераважаюць ясень, клён, вярба, дуб, ліпа еўрапейская.

**ТУРАЎ,** гарадскі пасёлак у Жыткавіцкім р-не, прыстань на р. Прыпяць. За 30 км на ПдЗ ад Жыткавіч, 268 км на ПдЗ ад Гомеля. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 980. Самы стараж. горад на тэр. рассялення дрыгавічоў. З канца 10 ст. паліт., эканам. і культ.-рэлігійны цэнтр Тураўскага княства. Першы летапісны князь Тур (адсюль назва горада). З 988 у Т. княжылі прадстаўнікі дынастыі Рурыкавічаў. Гарадзішча стараж. Т. размешчана на мысе пры ўпадзенні б. ракі Язда ў пратоку Прыпяці — Струмень. Пачатковая планіровачная структура горада складалася з дзядзінца і навакольнага горада, размежаваных валам. Захаваліся фрагменты б. абарончых збудаванняў. Пры раскопках выяўлены руіны храма 12 ст. з пахаваннямі ў саркафагах, рэшткі наземных драўляных жытлаў і гасп. пабудоў зрубнай канструкцыі з глінабітнымі і цаглянымі печамі. Знойдзены рэшткі шкляных бранзалетаў, аконнага шкла, шыферных праслiц, касцяных вырабаў, наканечнікі стрэл і кап'я, нажы, крэсівы, металічныя замкі, бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, унікальныя свінцовыя абразкі, шахматныя фігуркі, шкляны посуд, касцяныя вырабы. Т. меў шырокія гандл. сувязі з Кіевам, Паўн. Прычарнамор'ем, Блізкім Усходам, Малой Азіяй, Валынню і Прыбалтыкай. Былі развіты касцярэзнае, жалезаапрацоўчае, ювелірнае, дрэваапрацоўчае, шавецкае і ганчарнае рамёствы. Старажытны Т. быў адным з найважнейшых культ. і рэлігійных цэнтраў Кіеўскай Русі. У ім жыў і працаваў Кірыла Тураўскі. У 2-й пал. 12 ст. Тураўскае княства ўступіла ў стадыю феадальнай раздробленасці і Т. страціў сваё ранейшае паліт. значэнне. У канцы 13 — пач. 14 ст. вызначаўся развітым рамяством і гандлем. У 1320-я гады Т. у складзе Вял. кн. Літоўскага. З 1430 у валоданні вял. князя літоўскага Свідрыгайлы, з канца 15 ст.— М. Л. Глінскага, у 1508—1620 — Астрожскіх, пасля — Сапегаў, Патоцкіх. З 15 ст. ў складзе Трокскага, з 1566 — Берасцейскага ваяводстваў. У 1502 і 1521 на Т. нападалі татары. У 16 ст. на месцы Замкавай гары існаваў умацаваны замак. Горад складаўся з асн. часткі і 2 прадмесцяў — Заяцэлле і Запясочча. У 1649 Т. спалены войскамі Я. Радзівіла. Спустошаны ў час рус.-польскай вайны 1654—67. У 1648 у Т. 401 дом, у 1667—111, у 1790—497 дамоў. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Мазырскага пав., належаў Салагубам. У 1865 у Т. выяўлены адзін з найб. ранніх помнікаў усх.-славянскай пісьменнасці 11 ст.— Тураўскае евангелле. У пач. 12 ст. пабудавана *Тураўская царква.* У 2-й пал. 13—19 ст. існавала *Тураўская вежа.* У 1897 у Т. каля 4290 жыхароў, праводзіліся 2 кірмашы на год, існавалі гасціны двор, цагельня, млын. У 1923 было 6217 жыхароў. З 1924 цэнтр раёна, з 1938 гарадскі пасёлак. У 1939—5,5 тыс. жыхароў. З 1962 у Жыткавіцкім р-не. Тэр. пасёлка выцягнута ўздоўж Прыпяці. Ва ўсх. частцы сетка вуліц радыяльная, у заходняй — пра-



**Туганавіцкая сядзіба.** З гравюры 19 ст.



**Тураў.** З гравюры 19 ст.



Фрагмент падмурка **Тураўскай царквы.**

мавугольная з дробнымі кварталамі. Генплан Т. распрацаваны ў 1961 («Белдзяржпраект»). Забудоўваецца паводле генплана 1978 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. С. Смірнова, В. Бусілевіч). Асн. кампазіцыйная вось — вул. Ленінская (будынкі гасцініцы, аўтавакзала, дзіцячы парк). Адм.-грамадскі і культ. цэнтр з гал. плошчай склаўся на скрыжаванні вуліц Ленінскай, Кірава і Інтэрнацыянальнай. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Мікрараён капітальнай забудовы фарміруецца ў паўн.-ўсх. частцы пасёлка. Вытв. зона размешчана ў паўд.-ўсх. частцы. Зона адпачынку — берагі Прыпяці. Прадугледжана развіццё грамадскага цэнтра і раскрыццё яго на р. Струмень, расшырэнне зоны спорту і адпачынку. *Г. С. Ларкін, Л. Д. Побаль.*

**ТУРАЎСКАЯ ВЕЖА.** Існавала ў 2-й пал. 13—19 ст. Размяшчалася на дзядзінцы стараж. Турава і была гал. абарончым збудаваннем Тураўскага замка. Адносіцца да тыпу валынскіх вежаў. Пабудавана з цэглы на вапнавым растворы. На планах 18—19 стагоддзяў — круглая (дыяметр 11 м), унутры была падзелена на некалькі ярусаў. Разабрана ў 1830-я гады. *М. А. Ткачоў.*

**ТУРАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік стараж.-рус. дойлідства 12 ст. Пабудавана на гарадзішчы стараж. Турава. Рэшткі царквы адкрыты і абследаваны М. Каргерам у 1963. Царква ўяўляла сабой 4-слуповы 3-нефавы храм з нартэксам і апсідамі. Падмуркі складзены з валуноў насуха. Сцены ўзведзены ў тэхніцы роўнаслаёвай муроўкі (заховаліся на выш. ад 0,3—0,5 да 2 м). Агульныя памеры царквы 28,2 × × 16,5 м. Асаблівасць разбіўкі плана ў тым, што спачатку былі распланаваны межы храма па правым боку, а потым па левым (паўночным). У выніку гэтага была зроблена памылка ў адмеры модуляў на 1 локаць (0,43 м), што адлюстравана ў перакошанасці плана. Лапаткі, якія адпавядаюць усх. пары падкупальных слупоў, змешчаныя на У з такім разлікам, каб павялічыць плошчу ўспрыняцця вагі ад барабана з купалам і распор скляпенняў. Аналагічны канструкцыйны прыём выкарыстоўваўся ў гродзенскім дойлідстве 12 ст. (Ніжняя царква ў Гродне). У адрозненне ад гродзенскіх помнікаў падкупальны прамавугольнік (6 × 5,2 м) выцягнуты па падоўжнай восі. Будынак мае канструкцыі, узведзеныя пазней за асн. аб'ём: прыбудовы да ўсх. слупоў, якія звужаюць праход да гал. алтара, праход з нартэкса ў гал. аб'ём і інш. Падлога царквы была выкладзена паліванымі пліткамі. Храм разбурыўся (дата невядома) у выніку моцнай дэфармацыі і значнага нахілу сцен. *Г. А. Лаўрэцкі.*

**ТУРЭЦКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 1888 з бутавага каменю і цэглы ў цэнтры. У плане ўяўляе сабой традыцыйную 4-часткавую схему (званіца, трапезная, асн. 3-нефавы аб'ём у выглядзе крыжа і апсіда). У архітэктуры храма выкарыстаны элементы і формы стараж.-рус. дойлідства: вісячыя падвойныя аркі на парталах прытвораў, ліштвы акон, 3-лопасцевыя какошнікі на фасадах, 5-купальная кампазіцыя асн. аб'ёму, цыбулепадобныя рабрыстыя купалы на 8-гранных барабанах гал. аб'ёму і на 2-яруснай званіцы. Спалучэнне прыроднага каменю і атынкаваных белых дэталей дэкору ўзбагачае архіт.-маст. якасці помніка. У інтэр'еры трапезная раскрываецца ў цэнтр. неф арачным прасветам. Пазалочаны іканастас выканаваны ў канцы 19 — пач. 20 ст. Царква дзейнічае. *Г. А. Лаўрэцкі.*



Турэцкая Пакроўская царква.



Тэвельская Успенская царква.

**ТЭВЕЛЬСКАЯ УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. Пабудавана ў 1872 у в. Тэўлі (Кобрынскі р-н) з цэглы. Аднанефавы храм з 2-яруснай званіцай над прытворам. Асн. аб'ём накрыты 4-схільным дахам з галоўкай. Паўцыркульныя вокны аздоблены ліштвамі. Па перыметры сцен праходзіць пояс з сухарыкамі. Гал. і 2 бакавыя ўваходы абрамляюць дэкар. арачкі з франтонамі. Царква дзейнічае.

У



**Убельская сядзіба.** З гравюры 19 ст.

**УБЕЛЬСКАЯ СЯДЗІБА.** Існавала ў 2-й пал. 18 — пач. 20 ст. Знаходзілася ў б. фальварку Манюшкаў Убелі (Чэрвеньскі р-н), у 1819 тут нарадзіўся вядомы польскі кампазітар С. Манюшка. Вядома па гравюры Н. Орды 1872. Уключала сядзібны дом, капліцу-пахавальню, гасп. пабудовы, парк. Была збудавана з дрэва. Цэнтрам кампазіцыі быў с я д з і б н ы д о м — 1-павярховы з мезанінам прамавугольны ў плане будынак, завершаны высокім паўвальмавым дахам. Спалучаў традыцыі нар. дойлідства і элементы стылю класіцызму. Цэнтр мансардавага гал. фасада быў вылучаны 4-калонным порцікам з 3-вугольным франтонам. Сцены звонку вертыкальна ашаляваны, вокны прамавугольныя. Перад домам быў невял. партэр з круглым у плане кветнікам, за ім знаходзіўся пейзажны парк з к а п л і ц а й - п а х а в а л ь н я й — цэнтрычным 2-ярусным збудаваннем пад шатровым дахам, гасп. пабудовы. Захаваліся фрагменты парку над р. Волма. У 1966 у ім пастаўлены памятны абеліск, прысвечаны С. Манюшку (на ім нотны запіс з яго оперы «Галька»).
*Ю. А. Якімовіч.*

**УДЗЕЛАЎСКІ КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКАНЦАЎ,** помнік архітэктуры барока і класіцызму. Пабудаваны ў 1643 у цэнтры в. Удзела (Глыбоцкі р-н). Спачатку касцёл і кляштар былі драўляныя, у 1766—1805 пабудаваны з цэглы. Комплекс уключае: касцёл, кляштарны корпус, гасп. пабудовы, цагляную агароджу з брамай-званіцай перад гал. фасадам касцёла. Напачатку гал. фасад касцёла меў 2 бакавыя вежы. У 1809 вежы знесены, у 1837 гал. фасад увянчаны 3-вугольным франтонам. У гэты час выканана афармленне інтэр'ера ў стылі позняга класіцызму. К а с ц ё л 3-нефавы, з паўцыркульнай апсідай і сакрысціямі па баках. Усе нефы маюць аднолькавую вышыню і накрыты 2-схільным дахам. Плоскасць гал. фасада расчлянёна пілястрамі, гарызантальнымі цягамі, філёнгамі і паўцыркульнымі авальнымі нішамі. Бакавы і алтарны фасады раскрапаваны лапаткамі і прарэзаны фігурнымі праёмамі. У інтэр'еры сцены падзелены пілястрамі і завершаны карнізам. 6 квадратных у сячэнні каніліраваных слупоў падтрымліваюць цыліндрычныя скляпенні. Над прытворам размешчаны хоры крываліненйнага абрысу, на якіх быў арган на 12 галасоў. К л я ш т а р н ы к о р п у с — 2-павярховы П-падобны ў плане будынак — быў злучаны з касцёлам калідорам (захавалася толькі адна частка будынка, дзве другія ў 1882 разабраны, а цэгла выкарыстана на рамонт касцёла і агароджы). Перад гал. фасадам касцёла па восі цэнтр. ўвахода ў 2-й пал. 19 ст. пабудавана з цэглы квадратная ў плане 2-ярусная брама-званіца з 2 дадатковымі ўваходамі па баках (захавалася ў першапачатковым выглядзе). Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.
*Т. Г. Верабей.*

**УЗДА,** гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на р. Уздзянка. За 74 км ад Мінска. Вядома ў пісьмовых крыніцах з 1494 як вёска ў Мінскім пав. Вял. кн. Літоўскага. З 2-й пал. 16 ст. мястэчка. Належала Кавячынскім, Завішам, у канцы 19 ст. Красінскім. З 1793 у складзе Расіі, мястэчка, цэнтр воласці Ігуменскага пав. Мінскай губ. У 1897 2,8 тыс. жыхароў, млын, 30 крам, існавалі *Уздзенская Петрапаўлаўская царква,* касцёл, сінагога, мячэць. З 1924 цэнтр раёна Мінскай акругі. З 1938 гарадскі пасёлак Мінскай вобл. У 1962—66 у Дзяржынскім р-не.

Тэр. пасёлка ракой падзяляецца на 2 планіровачныя раёны: усходні (Малая Узда) з індывідуальнай забудовай сядзібнага тыпу і заходні,



**Удзелаўскі кляштар францысканцаў.**

у якім размешчаны асн. масіў жылой забудовы і грамадскі цэнтр. Архіт.-планіровачная структура — прамавугольная сетка, якую вызначаюць вуліцы Савецкая, Школьная, Ленінская і яе працяг — вул. К. Маркса. Забудова вялася паводле генпланаў 1970 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва) і 1982 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Арцёмчык). Адм.-грамадскі і культ. цэнтр гістарычна склаўся ў раёне вул. Ленінскай, якая злучае 2 плошчы — Свабоды і Чырвоную. На пл. Свабоды разбіты сквер, дзе пастаўлены помнік Леніну, знаходзіцца помнік архітэктуры 1-й пал. 19 ст.— касцёл (у ім размешчаны раённы Дом культуры). У ансамбль забудовы Чырвонай пл. ўключаны помнік архітэктуры — Петрапаўлаўская царква. У паўн. частцы пасёлка па вул. Савецкай фарміруецца новы адм.-грамадскі цэнтр. Забудоўваецца бульвар Дзяржынскага (размешчаны перпендыкулярна вул. Савецкай). У цэнтр. частцы ўзводзяцца 3—5—6-павярховыя жылыя дамы. На астатняй тэрыторыі пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Вытворчая зона размешчана ў паўн.-зах. і паўд.-ўсх. частках пасёлка. Прадугледжана развіццё пасёлка на Пн, расшырэнне зоны адпачынку, развіццё новага грамадскага цэнтра, стварэнне падцэнтра ва ўсх. планіровачным раёне (у Малой Уздзе).

*Г. С. Ларкін.*

**УЗДЗЕНСКАЯ ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў г. Узда ў 1840 з цэглы на месцы драўлянай (вядома з 16 ст.) па фундацыі Ф. Завішы. Сіметрычна адносна падоўжанай і папярочнай восей храм у плане ўяўляе сабой 3-частковую схему: трапезная, асн. квадратны аб'ём і алтар з прыбудовай. Асаблівасць аб'ёмна-планіровачнага вырашэння — безстаўповая 1-пралётная сістэма перакрыццяў асн. аб'ёму і складаная сістэма перакрыццяў у трапезнай (гэта звязана з размяшчэннем у 2-м ярусе званіцы). Характэрнай рысай агульнай кампазіцыі царквы з'яўляецца кантраст паміж дэталёвай распрацоўкай паверхняў сцен і простым канструкцыйным вырашэннем завяршэння асн. аб'ёму (4-схільны дах з несапраўдным 8-гранным драўляным барабанам і гранёным цыбулепадобным купалам). У дэкар. аздабленні фасадаў выкарыстаны формы стараж.-рус. архітэктуры (кілепадобныя какошнікі, што завяршаюць вуглавыя пілястры гал. аб'ёму, падвойныя вокны асн. аб'ёму і патройнае акно на зах. фасадзе званіцы) і класіцызму (2-схільныя дахі, профілі карнізаў, руставаныя абрамленні гал. уваход і аконных праёмаў). Царква дзейнічае.

*Г. А. Лаўрэцкі.*



Уздзенская Петрапаўлаўская царква.



**Ула.** Касцёл святога Лукі. З малюнка Н. Орды. 1876.

**УЛА,** гарадскі пасёлак у Бешанковіцкім р-не, прыстань на Зах. Дзвіне пры ўпадзенні ў яе р. Ула. За 80 км ад Віцебска. Вядома з 14 ст. ў Полацкім княстве, з 16 ст. мястэчка ў Полацкім ваяводстве Вял. кн. Літоўскага. Належала Кішкам, потым Жабам. У час Лівонскай вайны 1558—83 на паўвостраве, утвораным рэкамі Зах. Дзвіна і Ула, паводле загаду Івана Грознага ў 1566 пабудаваны замак. Захаваліся рэшткі замка і ўмацаванні на паўвостраве — т. зв. «Баторыеў шанц». З 1577 У. мела магдэбургскае права. Існавалі 3 праваслаўныя царквы, касцёл дамініканцаў (засн. Лукомскім у 17 ст., дзейнічаў да 1832). Паводле інвентара 1764, у горадзе да 600 жыхароў, 187 двароў. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, гандл. мястэчка, цэнтр воласці Лепельскага пав. Віцебскай губ. У канцы 19 ст. каля 2,5 тыс. жыхароў, больш за 200 дамоў, у т. л. 30 мураваных, царква (па інш. звестках 3 царквы), касцёл, 48 крам. У 1924—31 і 1946—56 цэнтр раёна. З 1938 гарадскі пасёлак. З 1956 у Бешанковіцкім р-не.

Сучасны пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Л. Смірнова, А. Яромін, В. Паштоўскі). Архіт.-планіровачную структуру яго вызначаюць вуліцы Даватара і Леніна. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся на вул. Даватара, разбіты сквер, закладзены фруктовы сад. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Капітальная 1—5-павярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтр. частцы пасёлка. Вытворчая зона размешчана ў паўд.-зах. частцы пасёлка. Зона адпачынку — рэкі Зах. Дзвіна і Ула, воз. Каранёва, лесапарк вакол пасёлка. Прадугледжана фарміраванне новага грамадскага цэнтра з гал. плошчай на скрыжаванні вуліц Даватара і Леніна, расшырэнне зоны адпачынку.

*Г. С. Ларкін.*

**УНІВЕРСІТЭЦКІ ГАРАДОК** у Мінску. Першыя карпусы БДУ (гал. корпус і карпусы асобных факультэтаў) пабудаваны ў 1928—31 (арх. І. Запарожац, Г. Лаўроў) па праекце, які быў адабраны ў выніку Усесаюзнага конкурсу (1926). У аснове кампазіцыі комплексу — павільённы прынцып. Універсітэцкі гарадок фарміравалі 3-павярховыя будынкі сярод зялёных насаджэнняў. Просты і выразнай схеме будынкаў адпавядала лаканічная па форме архітэктура фасадаў, пазбаўленых дэкору. Разбураныя ў Айч. вайну будынкі адноўлены ў 1945—49, захавана ўнутраная планіроўка, часткова зменены фасады (арх. С. Баткоўскі). У 1962 пабудаваны новы 6-павярховы складанай канфігурацыі плана гал. корпус (арх. М. Бакланаў, А. Духан), у якім размешчаны 330 аўдыторый, кабінеты, лабараторыі, актавая зала на 1000 месцаў, б-ка, 4 чытальныя залы, спарт. зала. У вырашэнні гал. фасада, які выходзіць на пл. Незалежнасці, выкарыстаны вертыкальныя чляненні — лапаткі, што адпавядае характару архітэктуры размешчанага насупраць Дома ўрада. Па вул. Ленінградскай пабудаваны корпус хімічнага факультэта (арх. Н. Дзяменцьева). У 1970-я гады за кальцавой дарогай у раёне в. Шчомысліца пабудаваны 9-павярховы прамавугольны ў плане корпус НДІ прыкладных фізічных праблем і радыёфізічнага факультэта (1974, арх. П. Бяляеў), 8-павярховы прамавугольны ў плане навучальна-лабараторны корпус (1979, арх. М. Ві-


Галоўны вучэбна-лабараторны корпус новага універсітэцкага гарадка. Фота з макета.

нагрудаў), 13-павярховы будынак інтэрната. З 1992 вядзецца буд-ва новага У. г. па адзіным генплане (кіраўнік аўт. калектыву арх. А. Сабалеўскі). На тэр. 150 га у раёне праспекта Дзяржынскага і кальцавой дарогі будуць створаны вучэбная, культ.-спартыўная, жылая і навук.-вытв. зоны.

*А. А. Воінаў.*

**УРОЧЫШЧА ГАЙ,** мемарыяльны комплекс на ўшанаванне памяці 3 тыс. чэхаславацкіх грамадзян — ахвяр фаш. тэрору ў Вял. Айч. вайну. Створаны на зах. ускраіне г. Баранавічы ў 1972 (скульпт. М. Альтшулер, арх. М. Мілавідаў, А. Марэніч, А. Макараў). На месцы, дзе стаяў кулямёт, з якога расстрэльвалі ахвяр у чэрвені 1942, устаноўлены цэнтр. манумент: 2 бетонныя пліты (выш. 13 і 14 м), злучаныя аркай у цэнтры. Яны нагадваюць слупы агароджы канцлагера. Уверсе да іх прымацаваны бронзавы звон, унізе — медны рэльеф з выявай мноства рук, узнятых і сціснутых у пратэсце, болі і адчаі. У комплекс уваходзяць 2 брацкія магілы, аб'яднаныя бетоннай плітой з надпісам-прысвячэннем, сімвалічны «Парог жыцця і смерці» (бетонны брус, пакладзены ўпоперак палявой дарогі), «Сцяна загінуўшых» з 3 тыс. камянёў, на якой прымацавана мемарыяльная мармуровая дошка з выявамі цярновай галінкі і надпісам на рус. і чэшскай мовах: «Светлай памяці чэхаславацкіх братоў». Лаканічнае вырашэнне тэмы, выразнасць помніка, журботныя гукі звона ствараюць вял. эмацыянальнае ўражанне.

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**УСЕЛЮБСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры готыкі. Пабудаваны ў 1-й пал. 15 ст. на паўд.-ўсх. ускраіне в. Уселюб (Навагрудскі р-н) па фундацыі Яна Неміры — канюшага вял. кн. Вітаўта. Асноўны аб'ём амаль квадратны ў плане (агульныя памеры храма 23,5 × × 13 м), накрыты 2-схільным дахам. Сцены ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з гладкай цэглы на вапнава-пясчаным растворы. Падмуркі складзены з неапрацаваных вял. і сярэдніх валуноў. Спачатку гэта было 1-стаўповае збудаванне, якое з У заканчвалася прэсбітэрыем і гранёнай апсідай. У паўн. сцяне прэсбітэрыя быў уваход у сакрысцію, перакрытую зорчатымі скляпеннямі. Сцены храма былі ўмацаваны контрфорсамі. Інтэр'еры асвятляліся вокнамі спічастай формы. У тоўшчы зах. сцяны зроблены вітыя ўсходы, якія вялі на хоры і паддашак. Усх. і зах. фасады завяршаліся франтонамі. Над уваходам — крыж, выкладзены з перапаленай цэглы. У 2-й палове 16 ст. скляпенні ў касцёле абваліліся. У канцы 16 — пач. 17 ст. надбудаваны верх апсіды, асн. аб'ём перакрыты драўлянай столлю, у прэсбітэрыі аднаўлены скляпенні. У даху была выкарыстана пляскатая дахоўка. У канцы 18 ст. ў паўн. сцяне прабіта яшчэ адно акно, зменены форма і памеры. З першапачатковых акон асн. аб'ёму зроблены новы ўваход у сакрысцію. У 18—1-й пал. 19 ст. ў цэнтры зах. фасада быў невял. бабінец. У 2-й палове 19 ст. да гал. фасада прыбудавана 3-ярусная вежа. У 1986 пажарам знішчаны завяршэнні вежы, дах і сістэма перакрыццяў асн. аб'ёму, прэсбітэрыя і паўн. сакрысціі. Пасля пажару помнік не аднаўляўся. У 1988 храм перададзены веруючым, якія яго адрамантавалі. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кушнярэвіч.*

**УСХОД,** жылы раён ва ўсх. частцы Мінска. Забудоўваецца з 1966. Аўтарскі калектыў: арх. В. Анікін, П. Воўчак, Л. Гафо, Г. Горына, А. Гуль, Я. Дзятлаў, І. Жураўлёў, І. Папова, А. Сап'янік, Г. Сысоеў і інш. Раён абмежаваны *Скарыны праспектам,* вуліцамі Каліноўскага, Кедышкі, Славінскага, участкам *Сляпянскага водна-паркавага паўкальца.* Разлічаны на 17 тыс. жыхароў. Уключае 2 мікрараёны: Усход 1 і Усход 2. Архіт.-планіровачная структура раёна абумоўлена яго размяшчэннем на ўездзе ў горад з усходу. Цэнтр ансамбля знаходзіц-


Мемарыяльны комплекс **Урочышча Гай.** Манумент.


**Уселюбскі касцёл.** Здымак пачатку 20 ст.



Жылы раён **Усход** у Мінску. Буйнапанельныя жылыя дамы ў мікрараёне Усход.

ца ў мікрараёне Усход 1, складаецца з 4 груп спараных 14—16-павярховых буйнапанельных жылых дамоў, тарцы якіх упрыгожаны мазаічнымі пано «Мінск — горад-воін», «Мінск — горад-будаўнік», «Мінск — горад навукі», «Мінск — горад культуры» (маст. А. Кішчанка). У спалучэнні з працяглымі 9-павярховымі жылымі дамамі з прыбудаванымі 2-павярховымі ўстановамі культ.-быт. прызначэння яны ствараюць пластычна развітую дынамічную структуру, запамінальны сілуэт усяго ансамбля. Вышыннай дамінантай раёна з'яўляецца комплекс 16-, 18-, 20-павярховых жылых дамоў (арх. А. Белаконь, Н. Грачова, Сысоеў, Папова) па вул. Каліноўскага з маналітнага аглапарытабетону, узведзеных метадам слізготнай апалубкі, група 12-павярховых буйнапанельных дамоў па вул. Кедышкі. У агульную архіт.-прасторавую кампазіцыю мікрараёнаў арганічна ўваходзіць траса Сляпянскай воднай сістэмы. Яе развітая водная акваторыя з фантанам, набярэжнымі, шматступеньчатым каскадам, падпорнымі сценкамі з'яўляецца асн. кампазіцыйным элементам прасторавай арганізацыі жылога раёна і гал. магістралі горада — праспекта Ф. Скарыны. У забудове раёна вылучаюцца будынак эксперыментальнай сярэдняй школы № 137 на 2 тыс. вучняў з плавальным басейнам, які мае рассоўны дах (1978, арх. Э. Гальдштэйн, А. Сабалеўскі, А. Лукомская, Я. Дворак), гандлёва-грамадскія цэнтры «Верас» і «Усход 1», комплекс спарт. таварыства «Працоўныя рэзервы».

*А. А. Воінаў.*

**УСХОД,** жылы раён ва ўсх. частцы Брэста. Праект планіроўкі распрацаваны ў 1966 ін-там «Белдзяржпраект» (арх. В. Анікін, П. Лагуноўская), карэкціроўка — у 1977 у ін-це «Брэстграмадзянпраект» (арх. А. Кудзіненка). Забудоўваецца з 1967. Уключае (1990) 4 мікрараёны. Разлічаны на 80—90 тыс. жыхароў. Гал. магістралі — вуліцы Маскоўская, Янкі Купалы, Партызанскі праспект. Мікрараёны Усход 1 і Усход 2 аб'ядноўвае гандл. цэнтр «Юбілейны», размешчаны ўздоўж вул. Маскоўскай. Яе паўн. бок



Гандлёвы цэнтр «Юбілейны» ў жылым раёне **Усход.**

фарміруюць 4 дзевяціпавярховыя будынкі з убудавана-прыбудаванымі 12 магазінамі, а таксама 3 спараныя 20-павярховыя будынкі з маналітнага аглапарытабетону, паўднёвы — будынкі інж.-будаўнічага ін-та, Палаца культуры прафсаюзаў і Маскоўскага райвыканкома, якія ўваходзяць у грамадскі цэнтр раёна. У 1970-я гады гэта быў гал. раён масавага індустрыяльнага буд-ва (у асноўным буйнапанельнага). Новыя жылыя масівы будуюцца на Пн ад вул. Маскоўскай. Мікрараён Усход 3 (арх. Р. Шылай, В. Гапіенка, Л. Валахановіч, В. Арсеньеў, інж. І. Дунайка) на 15 тыс. жыхароў з'яўляецца эксперыментальным; забудоўваецца крыжападобнымі ў плане жылымі дамамі-комплексамі, зблакіраванымі з секцый рознай паверхавасці (ад 5 да 12 павэрхаў) і размешчанымі на плоскім рэльефе. З 1984 вядзецца буд-ва мікрараёна Усход 4. У стадыі праектавання Усход 5 і Усход 6, якія закончаць пераўтварэнне ўсх. часткі Брэста. У паўд. яго частцы, прылеглай да грамадскага цэнтра, у 1975 закладзены парк, які ўвойдзе у паркавую зону р. Мухавец. Да жылога раёна прымыкаюць прадпрыемствы ўсх. прамысл. вузла.

**УШАЧЫ,** гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на р. Ушача. За 150 км ад Віцебска. Вядомы з 16 ст. як велікакняжацкае мястэчка, заснаванае пры замку. Належалі ў 1624 полацкаму стольніку Юзафу Кляноўскаму, з 1672 Давыду Радзімінскаму-Францкевічу, потым Шчытам, Жабам (з 1721), Плятэрам. У 1672 пабудаваны манастыр базыльян (засн. Радзімінскім-Францкевічам), у 1716 — дамініканскі кляштар (засн. І. Жабам) з гасп. пабудовамі, броварам, лазняй, шпіталем, школай. У 1758 атрымалі магдэбургскае права, герб (на белым полі каля залатой ракі выява святога). У 1776—91 цэнтр Полацкага ваяводства, тут склікаліся соймікі. 2 разы на год наладжваліся кірмашы. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, заштатны горад, мястэчка, да 1805 цэнтр Лепельскага пав. Віцебскай губ., потым — воласці. У сярэдзіне 1880-х гадоў у мястэчку каля 650 жыхароў, 128 двароў, у 1897 — 1268 жыхароў, 168 драўляных дамоў, 2 мураваныя, лячэбніца, аптэка, вадзяны млын, 2 заезныя двары, 16 крам, 8 шынкоў. З 1919 у складзе РСФСР. З 1924 у БССР, цэнтр раёна Полацкай (да 1930) і Лепельскай (1935—38) акруг, Полацкай (1944—54) і Віцебскай (1938—41 і з 1954) абласцей (у 1962—66 у Лепельскім р-не). З 1938 гарадскі пасёлак.

Сучасны пасёлак ствараецца паводле праекта забудовы 1969 цэнтр. часткі пасёлка, які захаваў гіст. планіроўку (Віцебскі філіял ін-та «Белдзяржпраект»), і генплана У. 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Л. Зайцава). Размешчаны на ўзвышаным рэльефе з рэзкім паніжэннем у бок поймы р. Ушача, што цячэ ў зах. частцы пасёлка і падзяляе яго на 2 часткі: Левабярэжжа — невял. жылы раён з індывідуальнай забудовай сядзібнага тыпу і Правабярэжжа (усх. частка) — асн. жылы масіў з адм.-грамадскім і культ. цэнтрам, які склаўся на вул. Ленінскай і пл. Ленінскай. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. У цэнтр. частцы пасёлка, у раёне вуліц Ленінскай, Савецкай і Камсамольскай пабудаваны 2—5-павярховыя жылыя дамы. Вытворчая зона размешчана на ПдУ ад пасёлка. Зона адпачынку — р. Ушача і азёры Вечалле, Тартак, Царкавішча і Звонь. На ўсх. ускраіне пасёлка на ўзгорку ёсць гарадзішча, вядомае пад назвай Замак.

*Г. С. Ларкін.*

# Ф

**ФАНІПАЛЬ,** гарадскі пасёлак (да 29.4.1984 вёска) у Дзяржынскім р-не, чыг. станцыя на лініі Мінск — Баранавічы, каля шашы Мінск — Дзяржынск. За 13 км ад Дзяржынска. Забудоўваецца паводле генплана 1978 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Арцёмчык) і генпланаў забудовы мікрараёнаў 1979, 1985 («Мінскграмадзянпраект»). Тэр. пасёлка — выцягнутая паласа паміж аўтамабільнай і чыг. магістралямі. Архіт.-планіровачную структуру вызначаюць вуліцы Камсамольская (праходзіць па зах. частцы пасёлка, паралельна аўтадарозе) і Чыгуначная (у паўд.-ўсх. частцы пасёлка, уздоўж чыгункі). На прывакзальнай плошчы фарміруецца гандл. цэнтр. Жылая зона складаецца з індывідуальнай забудовы сядзібнага тыпу, якая ўтварае невял. кварталы ў паўн. частцы пасёлка, і 4 мікрараёнаў капітальнай шматпавярховай забудовы з памяшканнямі гандл. і культ.-быт. прызначэння ўздоўж аўтамагістралі. Вытворчая зона размешчана на ПдУ, за чыгункай. Зона адпачынку — лясны масіў у паўн.-зах. частцы пасёлка. Прадугледжана стварэнне грамадскага цэнтра з плошчай па вул. Камсамольскай.

*Г. С. Ларкін.*

**ФОЙНАЎСКАЯ ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ,** помнік архітэктуры візантыйска-рус. стылю. Пабудавана ў 1849 на Беларускай шашы (цяпер аўтадарога С.-Пецярбург — Кіеў) каля в. Фойна Магілёўскага р-на па ўзорным праекце станцыйных дамоў 3-га разраду 1843 г. Прамавугольны ў плане будынак з вальмавым, накрытым жалезам дахам. Сцены цагляныя, атынкаваныя. Гал. фасад разам з агароджай і 2 сіметрычна размешчанымі брамамі ўтварае франтальную кампазіцыю, разгорнутую да дарогі. Дзвярны праём гал. ўвахода мае паўцыркульнае завяршэнне, над уваходам — казырок з літымі чыгуннымі кранштэйнамі. 4 аконныя праёмы на гал. фасадзе маюць характэрнае паўцыркульнае завяршэнне з «гіркамі» пасярэдзіне. Сцены аздоблены плоскім прамавугольным рустам. Карніз, які абрамляе будынак, вырашаны ў выглядзе аркатурнага паяска. Помнік рэспубліканскага значэння.



**Фойнаўская паштовая станцыя.**

*А. С. Сардараў.*

# Х

**ХАБОВІЦКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў пач. 20 ст. ў в. Хабовічы (Кобрынскі р-н). Традыцыйны тып праваслаўнага храма з трохчасткавай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй, якая ўключае шатровую званіцу, крыжападобны ў плане асн. аб'ём і 5-гранную апсіду з бакавымі алтарамі. Над будынкам узвышаюцца 2 аднолькавыя светлавыя барабаны, завершаныя шатрамі з цыбулепадобнымі галоўкамі. У аздобе выкарыстаны разныя карнізы, фігурная шалёўка, вуглавыя лапаткі. У 1987 адрамантавана. Царква дзейнічае.

**ХАЛЬЧАНСКІ ПАЛАЦ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў пач. 19 ст. ў в. Хальч (Веткаўскі р-н) у былым маёнтку Халецкіх, на правым беразе р. Сож. У пач. 20 ст. належаў Сежержэцкім. Стаяў у цэнтры сядзібнага ансамбля, які складаўся з гал. 2-павярховага корпуса і 2 бакавых



Хабовіцкая Пакроўская царква.

1-павярховых флігеляў (не зберагліся), якія абмяжоўвалі парадны двор з рэгулярна спланаваным партэрам. Палац — кампактны прамавугольны ў плане аб'ём, накрыты вальмавым дахам. 1-ы паверх мураваны, апрацаваны рустам, 2-і драўляны, атынкаваны. Цэнтр. частка з 2-схільным дахам вылучана на гал. фасадзе 6-калонным іанічным порцікам, узнятым з дапамогай масіўных пілонаў на ўзровень 2-га паверха, а на паркавым фасадзе — паўкруглай тэрасай з каланадай на 1-м паверсе. З усх. боку 1-павярховая прыбудова з дадатковым уваходам. Планіроўка калідорная. Парадныя памяшканні і гал. зала на 2-м паверсе



Хальчанскі палац. З малюнка Н. Орды. 19 ст.

мелі выхады на балкон гал. фасада і паркавую тэрасу, аб'ядноўваліся калідорамі. Пад будынкам скляпеністыя падвалы. Каля палаца разбіты пейзажны парк. Гасп. будынкі стаяць убаку ад палаца. Рэстаўраваны ў 1970-я гады. У будынку размешчаны філіял Гомельскага абл. краязнаўчага музея. Помнік рэспубліканскага значэння.

**ХАТЫНЬ,** мемарыяльны ансамбль на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму на тэр. Беларусі ў 1941—45. Створаны на 54-м км Мінска (за 5 км ад шашы Мінск — Віцебск) на месцы былой в. Хатынь (Лагойскі р-н), спаленай 22.3.1943 разам з жыхарамі (26 двароў, 149 чал., у т. л. 75 дзяцей) карным батальёнам ням.-фаш. акупантаў. Мемарыяльны комплекс (арх. Ю. Градаў, В. Занковіч, Л. Левін, скульпт. С. Селіханаў; бетон, граніт, мармур, бронза) адкрыты 5.7.1969. Мемарыял (пл. 50 га) захоўвае планіровачную структуру б. вёскі і ўключае асобныя элементы: Могілкі вёсак, плошчу Памяці, сцяну Жалобы, Дрэва жыцця.

Мемарыял пачынаецца паказальнікам ад павароту з Віцебскай шашы — «Хатынь», выкананым з шэрага бетону. Далей кіламетровыя паказальнікі з беламармуровых блокаў вядуць адваротны адлік шляху, эмацыянальна настройваюць на ўспрыманне мемарыяла. Дарога Жалобы прыводзіць да сімвалічнага тыну на ўскраіне вёскі з надпісам: «22 сакавіка 1943 г. фашысты знішчылі вёску Хатынь з яе жыхарамі. У Беларусі акупанты ператварылі ў руіны 209 гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, 9200 сёл і вёсак. Ад рук захопнікаў загінула 2 млн 230 тыс. савецкіх грамадзян. Гэта ніколі не будзе забыта!». Праз сімвалічны тын дарожка вядзе на той кавалак зямлі, дзе адбылася трагедыя. Скульптура няскоранага чалавека (выш. 6 м) з мёртвым хлопчыкам на руках — збіральны вобраз беларускага селяніна. Побач, на месцы гумна, дзе фашысты спалілі жыхароў Хатыні, чорная пліта, якая нагадвае дах, што стаў апош-



**Хатынь.** Скульптура «Няскораны чалавек».



**Хатынь.** Плошча Памяці.

нім прытулкам загінуўшых. На брацкай магіле Вянок памяці з надпісам-наказам мёртвых жывым: «Людзі добрыя, памятайце: мы любілі жыццё, і Радзіму нашу, і Вас дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні. Наша просьба да ўсіх: хай жалоба і смутак абернуцца ў мужнасць і сілу, каб змаглі ўвекавечыць Вы мір і спакой на Зямлі. Каб нідзе і ніколі ў віхры пажараў жыццё не ўмірала!». На процілеглым баку Вянка адказ жывых загінуўшым: «Родныя Вы нашы. У смутку вялікім схіліўшы галовы стаім перад Вамі. Вы не скарыліся лютым забойцам у чорныя дні фашысцкай навалы. Вы смерць прынялі, ды полымя сэрцаў Вашай любові да Савецкай Радзімы навек незгасальна. Памяць пра Вас у нас назаўсёды, як неўміручая наша зямля і як вечна яркае сонца над ёю». Дарога Жалобы вядзе да помнікаў-зрубаў (выш. да 6 м), пастаўленых на месцы кожнай спаленай хаты. Бетонныя брусы ўтвараюць вянок зруба. Веснічкі нібы запрашаюць у неіснуючы ўжо дом да ачага, ад якога застаўся адзін комін ды высечаныя на ім імёны загінуўшых. Коміны ў выглядзе абеліскаў са званамі, што вечна гудуць па ахвярах фашызму. Адзначаныя шэрымі плітамі былыя вуліцы, якія раптам абрываюцца, мемарыяльныя знакі ў выглядзе мармуровых зрубаў на месцы 4 калодзежаў дапаўняюць вобраз спаленай вёскі. За хатамі-помнікамі па гал. восі кампазіцыі мемарыяла размешчаны Могілкі вёсак — 185 урнаў з зямлёй вёсак, спаленых разам з жыхарамі і не адноўленых. Сцяна Жалобы (даўж. 128 м) — манум. кампазіцыя з нішамі, якія асацыіруюцца з казематамі канцлагераў, са сценамі крэматорыяў лагераў смерці. У нішы ўмацаваны мемарыяльныя пліты з назвамі 66 найбольш буйных лагераў смерці і месцаў масавай загубы мірных грамадзян і ваеннапалонных на тэр. Беларусі і лічбамі, якія інфармуюць пра колькасць загубленых там людзей. На сцяне Жалобы надпіс: «Памяць пра вас на вякі». Побач са сцяной Жалобы і Могілкамі вёсак заключны фрагмент мемарыяла — пл. Памяці. У цэнтры яе 3 бярозы, якія сімвалізуюць жыццё, на месцы чацвёртай — Вечны агонь, сімвал кожнага чацвёртага жыхара Беларусі, што загінуў у Вял. Айч. вайну. Завяршае мемарыяльны комплекс Дрэва жыцця са спісам 433 вёсак рэспублікі, спаленых фашыстамі і адноўленых пасля вайны. Мемарыяльны комплекс Хатынь — сімвал нар. памяці. У Хатынскім мемарыяле зліліся ў гарманічным сінтэзе і скульптура, і дойлідства, і ландшафт, і мастацкае слова, і трывожнае гучанне званоў, і каляровае асвятленне. Са скрупулёзнай дакладнасцю тут узноўлена планіровачная структура спаленай фашыстамі вёскі, акцэнтаваны кожны яе элемент — вуліцы, калодзежы, на месцы былых сядзіб — бетонныя абеліскі-коміны. Вобраз спаленай вёскі раскрывае звярыную сутнасць фашызму, з вял. сілай уздзейнічае на гледача; праз трагедыю адной вёскі паказвае трагедыю народа. Хатынь — філіял Беларускага дзярж. музея Вял. Айч. вайны. Аўтарам мемарыяльнага комплексу Хатынь прысуджана Ленінская прэмія 1970. *Л. Г. Лапцэвіч.*


**Хаціслаўская Спаса-Праабражэнская царква.**


**Хмелеўская Праабражэнская царква.**

**ХАЦІСЛАЎСКАЯ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1799 у в. Хаціслаў (Маларыцкі р-н). Мае рысы стылю барока. Царква трохзрубная. Асн. зруб прамавугольны ў плане са зрэзанымі ў зах. частцы вугламі і вузкі 3-гранны бабінец накрыты агульным 2-схільным дахам з граненым барочным купалам у цэнтры. Такія ж купалкі ў цэнтры больш нізкага шматсхільнага даху над 5-граннай апсідай і над 2 трох'яруснымі вежамі, якія фланкіруюць гал. фасад. Трох'ярусны гал. фасад мае прасторавую структуру, па вертыкалі падзелены на 3 часткі, размешчаныя пад вуглом адна да адной. Сярэдняя частка завяршаецца 3-вугольным франтонам, пакатыя бакавыя нагадваюць валюты мураваных храмаў позняга барока і ракако. У інтэр'еры дамінуе цэнтр. памяшканне, перакрытае зрубным люстраным скляпеннем. Бабінец з хорамі над ім і алтарны зруб маюць плоскасную бэлечную столь. У 1867 да царквы прыбудавана трох'ярусная званіца (васьмярык на 2 чацверыках), завершаная шатровым дахам з дэкар. какошнікамі. У 1989 царква аддадзена веруючым (з 1990 на рэстаўрацыі). Помнік рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*

**ХМЕЛЕЎСКАЯ ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1725 на ўскраіне в. Хмелева (Жабінкаўскі р-н), на могілках. У архітэктуры спалучаюцца рысы барока з элементамі класіцызму. У 19 ст. перароблены тамбур, зменены верх, побач з храмам пастаўлена драўляная каркасная 2-ярусная званіца (1-ы ярус ашаляваны, 2-і — адкрыты ў выглядзе арак). Царква ў плане крыжовая, з 5-граннай апсідай і 2 рызніцамі. Да гал. зах. фасада, які ўтварае бабінец, прыбудаваны тамбур з шырокай лесвіцай. Аб'ём царквы цэнтрычны, кампактны, што дасягаецца аднолькава кароткімі крыламі трансепта і асобнымі дахамі — 3-схільнымі над крыламі трансепта, 2-схільным над бабінцам і 5-схільным над алтаром. У дэкоры выкарыстаны класіцыстычныя дэталі — масіўныя руставаныя лапаткі па вуглах і на гал. фасадзе. Над сяродкрыжжам фігурная шмат'ярусная галоўка. У інтэр'еры вылучаецца асн. зальная прастора, якая 2 калонамі аддзелена ад трансептаў. Перакрыцце плоскае, бэлечнае. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. І. Чарняўская.*

**ХОЙНІКІ,** горад, цэнтр раёна. За 103 км ад Гомеля. Вядомы з 1512 як вёска т. зв. Брагінскага графства ў Вял. кн. Літоўскім. З сярэдзіны 16 ст. вёска, мястэчка Брагінскай воласці Рэчыцкага пав., з канца 17 ст. цэнтр воласці. Належалі Вішнявецкім, Шуйскім, Прозарам. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Рэчыцкага пав. Мінскай губ. У канцы 19 ст. ў Х. 2,7 тыс. жыхароў, 26 крам, Пакроўская царква (пабудавана кн. І. Шуйскім), касцёл, 3 сінагогі, 2 заезныя двары, паштовая станцыя, 2 вадзяныя млы-



**Хойнікі.** Пакроўская царква.

ны. У 19 ст. існаваў драўляны на цагляным падмурку сядзібны дом (меў рысы стылю ампір), непадалёку ад яго мураваная капліца — квадратнае ў плане цэнтрычнае збудаванне з 4 вуглавымі шатровымі вежачкамі (каля яе быў насыпаны курган). У пач. 20 ст. на гэтым месцы закладзены парк пейзажна-рэгулярнага тыпу і пабудаваны (1912) 2-павярховы мураваны сядзібны дом. З 1919 у складзе Гомельскай губ. РСФСР, з 1926 у БССР, цэнтр раёна (у 1927—30 у Гомельскай акрузе). З 1938 гарадскі пасёлак Палескай, з 1954 Гомельскай абласцей. З 1967 горад.

Забудоўваецца паводле генплана 1972 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. А. Агафонава) і карэкціроўкі 1982 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Кашырын, Агафонава). Сетка вуліц прамавугольная з дробнымі кварталамі. Забудова горада зліласся з бліжэйшымі пасёлкамі (імя Калініна і Першамайскі) і вёскамі (Валокі, Забалацце), гал. вуліцы якіх з'яўляюцца працягам гарадскіх. Створаны новыя вуліцы — Дзяржынскага, Будзённага, Варашылава, Садовая і інш. Тэр. горада складаецца з 3 планіровачных раёнаў: Старыя Х., Новыя Х. і паўн.-зах. раён. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр гістарычна склаўся ў Старых Х., у раёне вуліц Савецкай, К. Маркса і інш. На скрыжаванні вуліц Савецкай і К. Маркса сфарміравалася цэнтр. плошча — плошча Леніна. Новы агульнагарадскі цэнтр фарміруецца на Пн ад старога, на скрыжаванні вуліц Савецкай і Мележа, дзе ўтворана пл. Танкістаў і склалася гандл. зона. Пераважае 1-павярховая забудова сядзібнага тыпу. Капітальныя 2—5-павярховыя дамы ўзведзены ў цэнтры Старых Х. У Новых Х. створаны шматпавярховы мікраараён Юбілейны. Забудоўваўся мікраараён А. У 1988—89 узведзена Пакроўская царква (дзейнічае). Зона адпачынку — гарадскі парк у Старых Х., лесапарк у паўн.-ўсх. частцы горада. У сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай АЭС буд-ва ў горадзе закансервавана. *Г. С. Ларкін.*

**ХОЦІМСК,** гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на левым беразе р. Беседзь пры ўпадзенні ў яе рэк Альшоўка і Жадунь. За 207 км на У ад Магілёва. Вядомы з 1430 як вёска Хоцімль у Вял. кн. Літоўскім. З канца 16 ст. вёска ў Мсціслаўскім ваяводстве. З 1772 у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ. У канцы 19 ст. ў Х. каля 3 тыс. жыхароў, нар. вучылішча, 2 царквы, бальніца, 2 гарбарныя з-ды, бровар, 2 вадзяныя млыны, 44 крамы, 2 кірмашы на год. З 1919 у Гомельскай губ. РСФСР, з сакавіка 1924 у складзе БССР. З ліпеня 1924 цэнтр раёна Калінінскай, з чэрвеня 1927 — Магілёўскай акруг. У 1926 у Х. 2,9 тыс. жыхароў. З ліпеня 1931 у складзе Касцюковіцкага р-на, з лютага 1938 у Магілёўскай вобл. З верасня 1938 гарадскі пасёлак, 3,2 тыс. жыхароў (1939). З красавіка 1962 да ліпеня 1966 у Касцюковіцкім р-не. Архіт.-планіровачная структура прамавугольная, кампактная, з дробнымі кварталамі пераважна 1-павярховай індывідуальнай забудовы сядзібнага тыпу. Х. развіваецца паводле генплана 1977(БелНДІПгорадабудаўніцтва) уздоўж р. Альшоўка. Асн. вуліцы — Ленінская, Камсамольская, Садовая, Піянерская, Пралетарская, Чапаева, Пушкінская і інш. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся на вул. Ленінскай. На скрыжаванні яе з вул. Пралетарскай утворана пл. Леніна, якую замыкаюць скверы. На рагу вуліц Ленінскай і Кірава знаходзіцца раённы Дом культуры (будынак б. Троіцкай царквы — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі псеўдавізантыйскага стылю, сярэдзіна 19 ст.) са скверам каля яго. Гандл. зона размешчана на скрыжаванні вуліц Камсамольскай і Кірава. 2—5-павярховая жылая забудова сканцэнтравана ў цэнтр. частцы пасёлка (вул. Ленінская, Чапаева і інш.). Праект дэталёвай планіроўкі цэнтра 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Шэліхава, Т. Купрэева, інж. У. Пачтоўскі, Л. Піржнік) прадугледжвае яго далейшае развіццё па вул. Ленінскай, стварэнне спарт. зоны. Вытв. зона фарміруецца ва ўсх. частцы пасёлка. Зона адпачынку — берагі рэк Беседзь і Альшоўка. Захаваліся помнікі архітэктуры — драўляная царква (19 ст.), фрагменты жылой забудовы пач. 20 ст. (вуліцы Дзяржынскага і Камсамольская).

*С. Ф. Самбук.*



**Хоцімск.** Цэнтральная плошча.



**Худавецкая Багародзіцкая царква.** Выгляд з боку апсіды.

**ХУДАВЕЦКАЯ БАГАРОДЗІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 2-й пал. 19 ст. на невял. пагорку ў в. Худаўцы (Крупскі р-н). Трохзрубны 1-апсідны храм з 2-яруснай 4-вугольнай у сячэнні званіцай над бабінцам. Асн. цэнтр. аб'ём завершаны масіўным купалам на 2-ярусным 8-гранным барабане і 4 вуглавымі вежачкамі (на васьмерыках) з цыбулепадобнымі галоўкамі. Вільчык даху 5-граннай апсіды завершаны цыбулепадобным купалам. У дэкоры выкарыстаны разныя арнаментальныя паясы, стылізаваныя закамары. Уваход у храм падкрэслены паддашкам на ажурных кранштэйнах чыгуннага ліцця. Унутраную прастору ўпрыгожвае драўляны іканастас, багата аздоблены пазалочанай разьбой. Царква дзейнічае.

*А. Ю. Пятросава.*

Ц

**ЦІМКАВІЦКІ КАСЦЁЛ.** Існаваў у 17—20 стагоддзях. Пабудаваны ў 1647 у в. Цімкавічы (Капыльскі р-н). У 2-й пал. 19 ст. перабудаваны пад царкву. Меў рысы бел. нар. драўлянага дойлідства і стылю барока. Касцёл — 3-нефавы храм з 5-граннай 2-яруснай алтарнай апсідай, накрыты 2-схільным дахам з вальмамі над апсідай. Гал. фасад умацаваны паўкруглымі лапаткамі, падзелены на 2 ярусы прычолкамі з прафіляваным карнізам. Верхні ярус вырашаны ў выглядзе атыка з паўвальмавым дахам, меў прамавугольныя вокны. Спачатку фасад завяршалі 3 невял. вежы. Звонку будынак ашаляваны. Унутраная прастора падзелена на нефы 3 парамі драўляных слупоў на бетонных падмурках. Цэнтр. неф больш высокі і шырокі за бакавыя. Перакрыцце плоскае бэлечнае. Над уваходам хоры з глухім парапетам, расчлянёным на філёнгі. Сюды вялі вітыя драўляныя ўсходы. У інтэр'еры сце-



**Цімкавіцкі касцёл.** Здымак 1920-х гадоў.

ны неашаляваныя, слупы, столь, бэлькі і інш. элементы ў пач. 20 ст. размаляваны мастаком Ф. Бруздовічам (алейнымі фарбамі, амаль без грунтоўкі). Дэкаратыўна-арнаментальная размалёўка з раслыннымі і геаметрычнымі матывамі выканана ў традыцыях нар. мастацтва. Столь размалявана стужкай-поясам па гарызанталі. Матыў геаметрычны: на чырвоным фоне па цэнтры суцэльны пояс з вял. і малых ромбаў, па баках меандравы арнамент, выкананы жоўта-залацістымі, сіне-блакітнымі і зялёнымі фарбамі. На бакавых частках бэлек пера-крыцця і дошках столі (праз адну) былі намаляваны белыя рамонкі, блакітна-сінія валошкі, белыя лілеі, незабудкі і інш. Кветкі чаргаваліся з зялёным лісцем і тонкай хвалістай галінкай. На сценах кусты шыпшыны і букеты руж. На паўн. і паўд. сценах намаляваны дуб з густой кронай, яблыня з пладамі. На парапеце хораў былі ўстаўкі ў выглядзе вазонаў. Злева і справа ад гал. ўвахода на сценах намаляваны дубы з жалудамі. Арнамент на столі, устаўкі-вазоны нагадваюць матывы слуцкіх паясоў, мясцовую флору. Колеры яркія, лакальныя, чыстыя. На ўваходных дзвярах каваная накладка ў выглядзе галінкі дуба з лісцем і жалудамі. Касцёл згарэў у 1985.

*Ю. А. Якімовіч, В. В. Церашчатава.*

**ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ БУДЫНАК.** Узводзіўся з цэглы ў 1939—41, завершаны ў 1947 (арх. А. П. Воінаў, У. Вараксін). Займае квартал паміж вуліцамі Энгельса і Чырвонаармейскай, гал. фасадам арыентаваны на вул. К. Маркса. Цэласны 6-павярховы аб'ём пастаўлены на масіўны гранітны (чырвоны) цокаль. Будынак па ўсім перыметры апрацаваны прафіляванымі лапаткамі і ўвянчаны простым магутным атыкам. Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя адпавядае планіровачнай структуры і канструкцыйнай аснове будынка. Планіроўка калідорная. На гал. восі знаходзіцца вынесеная ў прыбудову зала пасяджэнняў (2-светлавая на 350 месцаў), інтэр'ер якой упрыгожаны габеленам «Ленінізм» (1977, М. Савіцкі, А. Кішчанка). Пры буд-ве ўпершыню ў рэспубліцы выкарыстаны зборныя жалезабетонныя пліты для перакрыццяў. Перад будынкам стаялі помнікі К. Марксу і У. І. Леніну (1980, скульпт. З. Азгур, арх. Ю. Грыгор'еў і Ю. Казакоў). Да цэнтр. аб'ёму прыбудаваны правае (1976) і левае



Будынак былога Цэнтральнага Камітэта КПБ.

(1986) крылы і аб'ём (1988), якія злучыў іх з боку вул. Кірава (арх. П. Кракалёў); яны паўтаралі кампазіцыю цэнтр. аб'ёму. З 1992 у будынку размешчаны Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

*А. А. Воінаў.*

**ЦЯЛЯДАВІЦКАЯ ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму. Пабудавана ў 2-й пал. 18 ст. на зах. ускраіне в. Цялядавічы (Капыльскі р-н) як касцёл. На рубяжы 18—19 стагоддзяў пераабсталяваны пад царкву (у 1910 абноўлена шалёўка і дэкар. элементы). Царква 2-вежавая, зальнага тыпу. 8-гранная званіца з высокім шатром і галоўкай над франтонам, відаць, была пастаўлена ў час перабудовы, як і 5-галовае завяршэнне храма. Двухсхільны дах, прарэзаны люкарнай, пераходзіць над 5-граннай алтарнай часткай у вальмавы і стварае па баках апсіды застрэшкі. Па ўсім перыметры будынка — карніз, пад ім фрыз у выглядзе аркатурнага пояса. Сцены гарызантальна ашаляваны і раўнамерна расчлянёны ступеньчатымі пілястрамі. Вялікія прамавугольныя аконныя праёмы акаймаваны ліштвамі са ступеньчатымі сандрыкамі і скразной разьбой у ніжняй частцы. Пад вокнамі — цягі з ромбападобным арнаментам. Невялікія круглыя вокны ў тыльнай частцы будынка прызначаны для асвятлення размешчаных па баках апсіды сакрысцій. У дэкоры інтэр'ера выкарыстаны пілястры, карніз, аркатура і інш. Перакрыцце зальнай часткі люстранае, іншых памяшканняў — падшыўная плоская столь. Карнізы і пілястры размаляваны пад светлы мармур. Над уваходам размешчаны хоры. У 1987—88 заменены дах, будынак пафарбаваны звонку. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. А. Міцянін.*



**Цялядавіцкая Троіцкая царква.**

# Ч

**ЧАВУСЫ,** горад, цэнтр раёна, на р. Бася, непадалёку ад яе ўпадзення ў р. Проня. За 41 км ад Магілёва. У пісьмовых крыніцах вядомы з сярэдзіны 16 ст. як вёска Чавусавічы ў Вял. кн. Літоўскім. З 1589 у складзе каралеўскага ўладання— Магілёўскай эканоміі. З 1604 горад, у 1634 атрымаў магдэбургскае права і герб — выява св. Марціна, узброенага мячом, на кані. У 1648 у Ч. 176 дамоў. У час рус.-польскай вайны 1654—67 Ч. заняты рус. войскамі і падараваны царом Аляксеем Міхайлавічам палкоўніку Бел. палка К. Паклонскаму (належалі яму ў 1654—55). З вясны 1656 рэзідэнцыя казацкага палкоўніка І. Нячая (да 1659 узначальваў Чавускі полк). Увосень 1660 горад заняты войскамі Рэчы Паспалітай. У 1708 у час Паўн. вайны 1700—21 разрабаваны шведскімі войскамі. У 18 ст. Ч. паступова забудоўваліся. У пач. 1770-х гадоў у Ч. каля 2530 жыхароў і больш за 420 дамоў, штогод праводзіўся кірмаш. З 1772 у складзе Расійскай імперыі, цэнтр павета Магілёўскай (у 1796—1802 Беларускай) губ. У 1778 зацверджаны план забудовы горада. У 1781 Ч. дадзены новы герб — на чырвоным полі перакрыжаваныя шабля і меч, аб'яднаныя лаўровым вянком (у гонар перамогі ў 1708 войск Пятра І над шведамі каля в. Лясная Быхаўскага пав.). У 1780 існавалі: мураваны манастыр кармелітаў (пабудаваны ў 1653, праіснаваў да сярэдзіны 19 ст.), праваслаўная і уніяцкая цэрквы. У 1803 у Ч. мураваны манастыр кармелітаў, 4 драўляныя праваслаўныя царквы, 461 драўляны дом. У 1825 каля 4 тыс. жыхароў, 569 дамоў (з іх 3 мураваныя), 5 цэркваў, 30 крам, праводзіліся 2 кірмашы на год. У 1870-я гады забрукавана гал. вуліца, адкрыты гарадскі парк. У 1897 4690 жыхароў, у 1904—6,1 тыс. жыхароў, праводзіліся 4 кірмашы на год. У канцы 19 — пач. 20 ст. ў Ч. 4 праваслаўныя царквы, у т. л. 2 мураваныя (з 16 ст. вядома Георгіеўская царква), 2 сінагогі. Захаваліся рэшткі рова, які абкружаў горад, і землянога насыпу; паблізу горада на левым беразе р. Бася ёсць шмат курганоў. З 25.5. 1919 Ч. ў складзе Гомельскай губ. РСФСР, з мая 1922 цэнтр воласці Магілёўскага пав., з ліпеня 1924 цэнтр раёна (у складзе БССР).

Тэр. горада размешчана на павышаным роўным рэльефе, толькі надпоймавая тэраса р. Бася парэзана крутымі ярамі (выш. 35—40 м). Планіроўка квартальная з прамавугольнай сеткай вуліц. Аўтамагістраль Магілёў — Чавусы — Чэрыкаў і рака падзяляюць горад на 4 планіровачныя раёны: цэнтральны, Зарэчча, пасёлкі льнозавода і Дзяржкамсельгастэхнікі. Яны звязаны паміж сабой, з чыг. вакзалам і аўтастанцыяй — вуліцамі Азарава і 60-год-



**Чавусы.** Манастыр кармелітаў.



**Чавусы.** Вуліца Мінская.

ля СССР. Генпланы Ч. распрацаваны ў 1957 і 1964 (Белдзіпрасельбуд). Забудова горада вядзецца паводле генплана 1980 і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1978 (абодва БелНДІПградабудаўніцтва, арх. А. Агафонава). Гал. вуліца — Ленінская, перасякае горад з З на У, ад аўтастанцыі да ракі. На скрыжаванні вуліц Ленінскай і Савецкай утворана гал. плошча горада (з Пд яе замыкае закладзены ў 19 ст. парк); на ёй і на прылеглых вуліцах склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр Ч. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. 2—3—5-павярховыя дамы ўзводзяцца ў мікрараёне па вул. Лермантава і ў раёне каля аўтастанцыі. Вытворчая зона размешчана ў паўн.-зах., паўд.-зах. і паўд.-ўсх. частках горада, камунальна-складская — за чыгункай. Зона адпачынку — р. Бася і парк. Прадугледжана развіццё горада ў паўд. напрамку.

*А. П. Грыцкевіч, С. Ф. Самбук.*

**ЧАРНАЎЧЫЦКАЯ ЦАРКВА ПАРАСКЕВЫ ПЯТНІЦЫ,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1733 у цэнтры в. Чарнаўчыцы (Брэсцкі р-н), перабудавана ў канцы 19 ст. Царква 3-зрубная, з кампазіцыяй пераходнай ад падоўжнаасевай да крыжова-цэнтрычнай. Прамавугольны бабінец, 5-гранная апсіда і развіты ў шырыню прамавугольны асн. зруб перакрыты ўза-



**Чарнаўчыцкая царква Параскевы Пятніцы.** Агульны выгляд.

емна перпендыкулярнымі 2-схільнымі дахамі з 3-вугольнымі франтонамі на зах., паўн. і паўд. фасадах і вальмамі над алтаром. Сярэдкрыжжа завершана складанай шмат'яруснай вежачкай. Пры ўваходзе прыбудаваны тамбур, па баках алтара — невял. рызніцы. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, умацаваны лапаткамі (па вуглах бабінца шырокімі, руставанымі). Вокны прамавуголь-



**Чарнаўчыцкі палац.** Галоўны фасад. Праект.

ныя. Шчыты франтонаў ашаляваны ў «елачку». Столь падшыўная, бэлечная. У 1986 царква гарэла, у 1987 адрамантавана, зараз дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Ю. А. Якімовіч.*

**ЧАРНАЎЧЫЦКІ ПАЛАЦ.** Існаваў у 2-й пал. 18 ст. ў в. Чарнаўчыцы (Брэсцкі р-н). Пабудаваны ў 1761 на тэр. замка. Драўляны палац у стылі ракако меў цэнтрычную кампазіцыю, якую стваралі 8-гранны 3-павярховы аб'ём з шлемападобным фігурным купалам (з флюгерам у завяршэнні) і 4 двухпавярховыя квадратныя ў плане крылы, накрытыя 2-схільнымі дахамі. Паміж крыламі на ўзроўні 2-га паверха была вял. тэраса, агароджаная балюстрадай з дэкар. вазамі. У цэнтры пад тэрасай вял. арачны праём гал. ўвахода. Фасады былі ўпрыгожаны скульптурай, картушамі, пуцці. Прамавугольныя вокны дэкарыраваны сандрыкамі, лепкай, сцены — руставанымі лапаткамі, філёнгамі, карнізамі і міжпаверхавымі цягамі.

*А. М. Кулагін.*

**ЧАРНАЎЧЫЦКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры готыкі і рэнесансу. Пабудаваны ў 1595 у в. Чарнаўчыцы (Брэсцкі р-н), па фундацыі Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі. 1-нефавы мураваны храм зальнага тыпу з рудыментам трансепта і развітай паўкруглай апсідай, да якіх прылягаюць квадратныя ў плане больш нізкія прыбудовы з 1-схільнымі дахамі, што стварае паступовае насычэнне аб'ёмаў і надае кампазіцыі маст. выразнасць. З паўд. боку да апсіды прылягае круглая ў плане вежа з самастойным шатровым пакрыццём і вітымі ўсходамі ўнутры. Да гал. фасада прыбудаваны бабінец. Асн. аб'ём і апсіда накрыты высокім 2-схільным дахам з 3-вугольнымі шчытамі на тарцах. Шчыт на гал. фасадзе аздоблены плоскімі прамавуголь-



**Чарнаўчыцкі Троіцкі касцёл.**

нымі і круглымі нішамі, тонкімі карнізамі, вертыкальнымі цягамі. Атынкаваныя масіўныя сцены (таўшчыня 1,3 м) бакавых фасадаў умацаваны вертыкальнымі контрфорсамі, прарэзаны вузкімі паўцыркульнымі вокнамі і завершаны прафіляванымі карнізамі. Унутры цыліндрычныя скляпенні на распалубках дэкарыраваныя ляпнымі рэбрамі прыгожага геаметрычнага малюнка. Сцены храма ўзведзены ў тэхніцы гатычнай муроўкі з цэглы на вапнава-пясчанай рошчыне, аформлены пілястрамі. У інтэр'еры 3 барочныя драўляныя паліхромныя скульптуры 18 ст.: «Святы Дамінік» у алтары (прывезена ў Чарнаўчыцы з зачыненага касцёла г. Высокае Камянецкага р-на), «Святы Антоній» і «Святы Марцін» у нішах гал. фасада. На паверхні скульптур захаваліся сляды афарбоўкі залаціста-карычневых і чырвоных тонаў. У рызніцы храма захоўваецца арнат, аблямаваны слуцкім поясам. На ПнЗ ад касцёла на высокім цокалі стаіць 3-ярусная званіца з шатровым дахам. У працэсе архіт.-археал. даследаванняў устаноўлена, што існуючыя сакрысція, рызніца і вежа прыбудаваны ў 17 ст. Касцёл дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*Л. Г. Лапцэвіч, У. А. Чантурыя, А. М. Кушнярэвіч.*

**ЧАРНЯКОЎСКАЯ МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана да 1725 у цэнтры в. Чарнякова (Бярозаўскі р-н), перабудавана ў 1864. У 1868 зроблены іканастас і прыбудаваны тамбур. З гэтага часу вядома як Мікалаеўская царква. Царква трохзрубная. Прамавугольны бабінец, амаль квадратны ў плане асн. зруб і 5-гранная алтарная апсіда накрыты агульным 2-схільным дахам з ашаляваным шчытом і развітым прычолкам на гал. фасадзе. Над зах. часткай пабудовы — галоўка на глухім барабане (раней бабінец завяршала вежа-званіца). Пры ўваходзе да царквы прылягае тамбур, з Пн — рызніца. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя. Інтэр'ер зальны з плоскай бэлечнай столлю. У верхняй частцы бабінца размешчаны хоры. Перад царквой 2-ярусная чацверыковая брама-званіца каркаснай канструкцыі, накрытая шатровым дахам (19 ст.). У 1989 царква вернута веруючым, дзейнічае.



**Чарнякоўская Мікалаеўская царква.** Агульны выгляд царквы і званіцы.

**ЧАЧЭРСК,** горад, цэнтр раёна, прыстань на р. Сож пры ўпадзенні ў яе Чачоры. За 65 км на Пн ад Гомеля. Стараж. гарадзішча, вядомае пад назвай Замкавая Гара, размешчана на паўн.-ўсх. ускраіне горада, на мысе правага берага р. Чачора. Складаецца з дзядзінца (пл. каля 1 га) і вакольнага горада (пл. больш за 2 га). Выяўленыя рэчы матэрыяльнай культуры эпохі Кіеўскай Русі сведчаць аб узнікненні стараж. горада ў 10 ст. Вакольны горад існаваў у 11 ст. Сістэма яго абарончых збудаванняў складалася з землянога вала, рова, драўляных сцен, вежаў-брам з пад'ёмным мостам перад уязной вежай-брамай. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1159 як горад радзімічаў Ч и ч е р с к, які кіеўскі князь Ізяслаў Давыдавіч вярнуў чарнігаўскаму кн. Святаславу Ольгавічу. У 12—13 стагоддзях уваходзіў у Чарнігаўскае княства. З сярэдзіны 14 ст. ў Вял. кн. Літоўскім, цэнтр воласці, з 1509 мястэчка Віленскага ваяводства. З 1501 належаў Алене Іванаўне, жонцы вял. кн. Аляксандра, з 1621 — Сапегам. З 1510 цэнтр Чачэрскага староства, меў правы гарадскога самакіравання. З 1566 у Рэчыцкім пав. У сярэдзіне вякі на месцы гарадзішча пабудаваны *Чачэрскі замак,* паблізу якога на Пн і У развіваўся горад. З 1629 меў прывілей на штотыднёвы гандаль і на 2 двухтыднёвыя кірмашы на год. У 16—18 стагоддзях горад быў абнесены тынам з Замкавай, Вялікай і Падольнай брамамі. З 1772 у складзе Расійскай імперыі, цэнтр павета ў Рагачоўскай правінцыі, потым мястэчка, цэнтр воласці Рагачоўскага пав. У 3-й чвэрці 18 ст. ў горадзе 7 вуліц, здзейснена перапланіроўка забудовы на рэгулярнай аснове. Адбудаваны ў 1787 замак стаў гал. элементам горадабудаўнічага ансамбля. У 1774 Ч. падараваны Кацярынай II бел. генерал-губернатару графу З. Р. Чарнышову, які стварыў тут прыгонны тэатр і аркестр. У 2-й пал. 18 ст. ў цэнтры горада, пасярод плошчы, пабудавана *Чачэрская ратуша,* вакол якой размяшчаліся 4 храмы-ратонды (захавалася *Чачэрская Спаса-Праабражэнская царква*), створаны парк. У 18 ст. ў Ч. прыстань «Крэмень» на Сажы, 2 бальніцы. Каля 1780 тут засн. шкляная мануфактура, у сярэдзіне 19 ст. пабудаваны шкіпінарны і паташны з-ды. У 1880 у Ч. 1667 жыхароў, 263 дамы (з іх 3 мураваныя), 2 нар. вучылішчы, 76 крам, 4 кірмашы на год. У 1902 адкрыта 3-класнае вучылішча. У 1903 было 2468 жыхароў. Сярод пабудоў 19 — пач. 20 ст. 2-павярховы гарадскі асабняк на вул. Ульянава (цяпер Дом піянераў і школьнікаў), будынак на рагу вуліц Савецкай і Першамайскай (цяпер 6-ка), будынак на вул. Савецкай (цяпер рэдакцыя раённай газеты). З снежня 1926 цэнтр раёна. З верасня 1938 гарадскі пасёлак. У 1937—38 пабудаваны Чачэрскі клуб. 5,1 тыс. жыхароў у 1939; рачная прыстань. 2,7 тыс. жыхароў у 1959, 5,8 тыс. жыхароў у 1970. У снежні 1962 — студзені 1965 у Буда-Кашалёўскім р-не. З 1971 горад абл. падпарадкавання. Генпланы Ч. распрацаваны ў 1962 і 1974 («Гомельграмадзянпраект», арх. В. Галеўка), карэкціроўка 1983 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. С. Смірнова, М. Шумячар, І. Дзямура, інж. Л. Пірожнік, В. Пузік). Сетка вуліц у цэнтр. частцы горада — квартальная, у перыферыйных раёнах — радыяльная. Асн. кампазіцыйныя восі — вуліцы Савецкая (уезд з боку Гомеля) і Леніна (уезд з боку Кармы). На іх скрыжаванні ўтворана пл. Леніна — адм.-грамадскі цэнтр (забудоўваецца паводле праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1981, БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Смірнова, Л. Каракоўцава, Дзямура, інж. Р. Абласава, Пузік). Плошчу фарміруюць будынкі б. ратушы, Дома Саветаў, кінатэатра, універмага, рэстарана; разбіты 3 скверы. Вул. Горкага звязвае цэнтр з гарадскім паркам, вул. Перамогі — з Замкавай Гарой. На вул. Першамайскай знаходзяцца будынкі гасцініцы, ашчаднага банка, камбіната быт. абслугоўвання, магазіна, рынак, на вул. Ульянава — будынак гарвыканкома Савета нар. дэпутатаў. У зах. частцы горада, на вул. Сялянскай, створаны комплекс будынкаў СПТВ механізацыі сельскай гаспадаркі. Пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Капітальная 2—5-павярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтры горада. У раёне вуліц Савецкай і 50 гадоў БССР ствараецца новы мікрараён з 3—5-павярховых жылых дамоў. Вытв. зона размешчана ў паўд.-зах. і паўд. частках горада. Зона адпачынку — берагі рэк Сож і Чачэра. Прадугледжана развіццё горада на Пд, расшырэнне грамадскага цэнтра.

*М. А. Ткачоў, А. П. Жучкевіч, С. Ф. Самбук.*



Чачэрская ратуша.



Чачэрская Спаса-Праабражэнская царква.

**ЧАЧЭРСКАЯ РАТУША,** помнік архітэктуры класіцызму з элементамі псеўдаготыкі. Пабудавана ў 2-й пал. 18 ст. ў цэнтры г. Чачэрск (Гомельская вобл.). Мураваны 2-павярховы квадратны ў плане цэнтрычны будынак, завершаны 5 драўлянымі чацверыковымі вежамі, 4 з якіх увянчаны шпілямі, размешчаны па вуглах асн. аб'ёму, 5-я (больш высокая і звужаная ўверсе) — пасярэдзіне на масіўным чацверыковым барабане. Вокны прамавугольныя, стральчатыя і з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі. Карніз з фігурнымі кранштэйнамі. Да 2 уваходаў па баках гал. фасада вядуць манум. каменныя лесвіцы. Паверхі маюць сіметрычную планіроўку: каля цэнтр. квадратнай у плане залы згрупаваны па 4 прамавугольныя і круглыя ў плане памяшканні. У будынку знаходзілася адм. ўстанова. Цяпер на рэстаўрацыі. Помнік рэспубліканскага значэння.

*У. А. Чантурыя.*

**ЧАЧЭРСКАЯ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 1783 у Чачэрску графам Чарнышовым у ансамблі з трыма іншымі храмамі (не збераглiся). Мураваны 2-ярусны храм-ратонда (у плане круг з унутраным дыяметрам каля 15 м), завершаны паўсферычным купалам на ступеньчатым барабане. Над бабінцам (прамавугольны ў плане аб'ём з франтонам на гал. фасадзе) пабудавана васьмерыковая вежа-званіца, накрытая гранёным купалкам, з У да царквы прылягае прамавугольная ў плане алтарная апсіда. Асн. аб'ём падзелены на ярусы развітым дарычным антаблементам. Сцены ніжняга яруса рытмічна расчлянёны пілястрамі, паўкруглымі і плоскімі нішамі, верхняга яруса — квадратнымі вокнамі, паміж якімі фігурныя філянговыя рамы. Асн. памяшканне царквы — адзіная прастора. У інтэр'еры над уваходам у залу зроблены драўляныя хоры. Пілястры ўпрыгожаны стылізаванымі іанічнымі капітэлямі. Інтэр'еры былі аздоблены размалёўкай італьянскіх майстроў. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *У. А. Чантурыя.*

**ЧАЧЭРСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 10—18 стагоддзях. Пабудаваны на дзядзінцы летапіснага горада 10—13 стагоддзяў. Займаў мыс карэннага берага р. Чачоры, прытока Сажа. У 14—18 стагоддзях замак меў 3-вугольную форму (пл. каля 0,5 га) і ўзвышаўся на 14 м над поймай Чачоры; ад горада аддзяляўся шырокім (20—25 м) і глыбокім (да 7 м) ровам, па краі быў абведзены земляным валам з драўлянымі сценамі і вежамі. Акрамя вежы-брамы, па перыметры вала стаялі 7 вежаў, у т. л. вежа-вятрак. Перад брамай знаходзіўся драўляны пад'ёмны мост на ізбіцах: сцены драўляных умацаванняў абмазаны глінай. У 18 ст. структура і знешні выгляд умацаванняў замка змяніліся: была адна 3-павярховая вежа-брама, пляцоўка, абкружаная частаколам з дубовых дыляў з прасечанымі байніцамі. На дзядзінцы размяшчаліся гасп. будынкі (лядоўня, 2-павярховы лямус, склеп, стайня і інш.).

*М. А. Ткачоў.*

**ЧАШНІКІ,** горад, цэнтр раёна, на р. Ула. За 95 км на ПдЗ ад Віцебска, за 3 км ад чыг. ст. Чашнікі на лініі Орша — Лепель. У 16 ст. ўваходзілі ў Полацкае ваяводства Вял. кн. Літоўскага, належалі кн. Лукомскім, з канца 16 ст. Кішкам, Сапегам, Патоцкім, Валадковічам. У Лівонскую вайну 1558—83 паводле загаду Івана IV Грознага на правым беразе Улы пабудаваны замак (у 1708 спалены). У 17 ст. Ч.— гандл. мястэчка, у 1633 у ім 109 дамоў, 16 крам. У 18 ст. пабудаваны прыстань, майстэрні па вырабу гандл. суднаў-стругаў, больш за 40 складоў. У 1791—93 Ч.— цэнтр Полацкага ваяводства. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Лепельскага пав. Віцебскай губ. У 2-й пал. 19 ст. тэр. горада расшыралася, забудоўваліся яго паўд. і ўсх. часткі, пачалося буд-ва прадпрыемстваў. У 1881 у в. Купніца (цяпер ускраіна горада) нарадзіўся бел. паэт Я. Журба. У 1897 у Ч. 4590 жыхароў, 703 будынкі, лячэбніца, аптэка, 2 нар. вучылішчы, працавалі піваварнае і 2 гарбарныя

прадпрыемствы, з 1910 папяровая ф-ка. У 1909 адкрыта гарадское вучылішча (у 1913 пераўтворана ў вышэйшае пачатковае). У 1919—24 у складзе РСФСР: з 1924 цэнтр раёна Віцебскай, потым Лепельскай акругі. З 1925 чыг. станцыя. З 1938 гарадскі пасёлак Віцебскай вобл. 3,5 тыс. жыхароў у 1939, 3 тыс.— у 1959. У 1962—65 у Бешанковіцкім р-не. З 1965 цэнтр раёна, з 1966 горад. 6,6 тыс. жыхароў у 1970. Архіт.-планіровачную структуру горада вызначаюць вуліцы Савецкая, Ленінская, Луначарскага, Чырвонаслабодская і інш., якія ўтварылі радыяльную сетку з пераважна 1-павярховай індывідуальнай забудовай сядзібнага тыпу. Генпланы Ч. распрацаваны ў 1970 (Віцебскі філіял ін-та «Белдзяржпраект») і 1980 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Дутлава, інж. Н. Стырава, І. Калеснік). Горад складаецца з трох планіровачных раёнаў: гіст. часткі, сучаснага цэнтра, пасёлка папяровай ф-кі. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр фарміруецца ў раёне вуліц Савецкай і Ленінскай. На вул. Свабоды ўтворана аднайменная плошча. 2—5-павярховыя жылыя дамы сканцэнтраваны ў пасёлку папяровай ф-кі (вуліцы Калгасная і Гагарына) і ў цэнтры, на вул. Ленінскай створаны мікрараён 5-павярховай забудовы. Сфарміравалася паўд.-ўсх. прамысл. зона, у паўн. частцы горада — спартыўная. Праект дэталёвай планіроўкі цэнтр. часткі горада 1986 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Арцемчык, Н. Лісоўская, інж. Т. Нікіціна, Н. Стырава) прадугледжвае развіццё грамадскага цэнтра ў паўн.-ўсх. напрамку і фарміраванне 4 функцыянальных зон (адм.-дзелавой, культасветнай, гандлёвай і спартыўнай), а таксама сувязь цэнтра з жылымі ўтварэннямі, гарадскім паркам і зонай адпачынку ўздоўж р. Ула. Захаваўся помнік архітэктуры позняга класіцызму — *Чашніцкая Праабражэнская царква.* *С. Ф. Самбук.*

**ЧАШНІЦКАЯ ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана ў 1785 з цэглы ў г. Чашнікі (Віцебская вобл.). Плошча 206,18 м². Крыжападобная ў плане. Складаецца з цэнтр. аб'ёму, бакавых прыбудоў, апсіды, бабінца з хорамі. Цэнтр. аб'ём завяршае сферычны купал на масіўным светлавым барабане. Над тамбурам размешчаны кубічны аб'ём званіцы, прарэзаны з 4 бакоў высокімі паўцыркульнымі праёмамі. Гал. фасад аздоблены 4-калонным порцікам дарычнага ордэра, тарцы бакавых прыбудоў завершаны франтонамі. Сцены расчлянёны пілястрамі, вокны прамавугольныя з паўцыркульнымі сандрыкамі. Па перыметры сцен праходзіць карніз і плоскі фрыз. Будынак атынкаваны. У інтэр'еры дамінуе цэнтр. падкупальная прастора. Прылеглыя да асн. аб'ёму памяшканні з цыліндрычнымі скляпеннямі аддзелены падпружнымі аркамі. Інтэр'ер царквы аздоблены размалёўкай: на плафоне выявы Саваофа на троне і 12 апосталаў, на ветразях — евангелістаў, у алтары сцэна «Богаяўленне», на сценах — евангельскі цыкл. Сценапіс адноўлены ў 1970. Некранутым застаўся плафон. Размалёўка яго вылучаецца серабрыстым каларытам, правільна знойдзеным маштабам фігур, перспектыўным ракурсам. Царква дзейнічае.



Чыжэвіцкая Пакроўская царква.



Чыжэўшчынская Уладзімірская царква.

**ЧЫЖОЎКА,** адзін з першых жылых раёнаў у Мінску, забудаваны паводле адзінага плана. У паўд.-ўсх. частцы горада паміж кальцавой аўтадарогай (цягнецца ўздоўж яе) і штучным Чыжоўскім вадасховішчам. Назву атрымала ад б. вёскі Чыжоўка, якая раней тут знаходзілася. Забудоўвалася паводле праектаў дэталёвай планіроўкі 1964 («Мінскпраект», арх. Я. Заслаўскі, Л. Сакалова, А. Шалякін) і забудовы мікрараёнаў 1964—70 (арх. Заслаўскі, Шалякін, Р. Арцёмчык, М. Рабіновіч і інш.). У аснове архіт.-планіровачнай структуры — прынцып мікрараяніравання жылога раёна, аб'яднанага грамадска-гандл. цэнтрам. 2 узаемна перпендыкулярныя магістралі — вуліцы Галадзеда і Ташкенцкая — падзяляюць тэр. Ч. на 3 жылыя масівы, якія складаюцца з асобных мікрараёнаў. Забудову мікрараёнаў фарміруюць групы 5—9—12-павярховых буйнапанельных і мураваных жылых дамоў, што чаргуюцца з участкамі дзіцячых садоў і школ. Комплекснае праектаванне Ч. дало магчымасць стварыць шырокую горадабудаўнічую кампазіцыю, раскрытую ў бок Чыжоўскага вадасховішча. Важнае месца ў прасторавай арганізацыі раёна займае грамадскі цэнтр (арх. А. Ладкін, В. Яўсееў, А. Чадовіч і інш.), размешчаны на скрыжаванні гал. вуліц. Цэнтр уключае прадпрыемствы і ўстановы культ.-быт. і камунальнага абслугоўвання [кінатэатр «Дружба» з танцавальнай залай, кафэ і б-кай (гл. *Мінскай бібліятэкі № 11 будынак*), паліклінікі, Дом быту, універсам]. На беразе Чыжоўскага вадасховішча фарміруецца вял. зялёны масіў — Парк імя 900-годдзя Мінска з фізкультурна-аздараўленчым комплексам. У працэсе праектавання і рэалізацыі праекта ўдасканальваецца і паляпшаецца кампазіцыя жылога раёна ў цэлым і асобных яго мікрараёнаў. *Н. А. Воінаў.*

**ЧЫЖЭВІЦКАЯ ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1795—1808 у цэнтры в. Чыжэвічы (Салігорскі р-н). Асн. аб'ём (выш. 19 м, даўж. 30 м, шыр. 9 м) і званіца (выш. 27 м) маюць ярусную кампазіцыю. Да асн. аб'ёму далучаны нізкія бакавыя прыбудовы з дадатковымі ўваходамі, да 5-граннай алтарнай часткі — рызніцы. Уваходная частка вылучана бабінцам з навіссю ў выглядзе 3-вугольнага франтона на тонкіх патройных калонах. Верхнія ярусы званіцы (8-гранныя ў плане) і зальная частка храма завершаны шатрамі і купаламі з галоўкамі. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з сандрыкамі. Зальная частка 3-светлавая. У інтэр'еры столь плоская, акрамя цэнтр. падкупальнай прасторы, дзе чацвярык

другога яруса пераходзіць пры дапамозе ветразяў у васьмярык і перакрыты самкнёным гранёным скляпеннем. Хоры — над уваходам. У 1934 царква зачынена, тут было складское памяшканне збожжасховішча. З 1948 храм дзейнічае. У 1988 царква рэканструявана (ін-т «Белспецпраектрэстаўрацыя», арх. А. Кандратаў і М. Лук'янчык). Помнік рэспубліканскага значэння. *А. А. Міцянін.*

**ЧЫЖЭЎШЧЫНСКАЯ УЛАДЗІМІРСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю. Пабудавана ў 1894 з цэглы, на паўд. ускраіне в. Чыжэўшчына (Жабінкаўскі р-н), на месцы былога манастыра 16 ст. (згарэў у 1882). Крыжова-купальны храм з 5-граннай апсідай і 3-яруснай званіцай. Алтар вузкімі праходамі звязаны з ахвяральнікам і дзяканікам. У адзіным аб'ёмна-пластычным вырашэнні зроблены вежа-званіца і светлавы барабан асн. аб'ёму, якія ў сячэнні ўяўляюць сабой 8-граннік і завяршаюцца купаламі з маленькімі цыбулепадобнымі галоўкамі. Па знешнім выглядзе царква нагадвае помнікі каменнага паўн. дойлідства 17—18 стагоддзяў. Царква дзейнічае. *Г. А. Лаўрэцкі.*

**ЧЫРВОНАБЯРЭЖСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік палацава-паркавай архітэктуры канца 19 ст. На паўн. ускраіне в. Чырвоны Бераг (Жлобінскі р-н), на беразе р. Дабасна, у б. сядзібе генерал-лейтэнанта М. С. Гатоўскага, з 1891 — В. А. Паклеўскага-Казелы. Уключае: сядзібны дом (палац), флігель, гасп. пабудовы, парк. Тэр. сядзібы (11 га) абнесена высокай цаглянай агароджай. Гал. ўезд у сядзібу вылучаны брамай у стылі неаготыкі ў выглядзе стральчатай аркі, дэкарыраванай аркатурай, 8-граннымі бакавымі вежамі. Цэнтр кампазіцыі комплексу — мураваны Г-падобны ў плане 2-павярховы палац у стылі мадэрн з мансардавым і 2-схільным дахамі. Пабудаваны ў 1890—93 паводле праекта арх. Шрэтэра. Мае асіметрычную шматпланавую кампазіцыю, заснаваную на спалучэнні асн. прамавугольнага ў плане аб'ёму і папярочнага корпуса, які выступае на гал. фасадзе рызалітам. На фасадах вылучаюцца 2—4—5-гранныя руставаныя эркеры з контрфорсамі і шатровымі гранёнымі завяршэннямі. Гал. ўваход вырашаны манум. тэрасай на масіўных пілонах з стральчатымі арачнымі праёмамі паміж імі. Вадазлівы аформлены ў выглядзе хімер (чыгуннае ліццё). Гарызантальнае чляненне на 2 ярусы вызначана прафіляванай цягай з арнаментамі і карнізам з сухарыкамі па перыметры будынка. Гарызантальны падзел на 2 ярусы выразна падкрэслены арнаментамі і дэкорам міжпаверхавага пояса і завяршальнага карніза, якія ідуць па перыметры будынка. На фасадзе — розныя па велічыні аконныя праёмы з плоскаснымі і руставанымі ліштвамі. Каларыстычнае вырашэнне заснавана на кантрасце пабеленых дэкар. элементаў і чырвонай цаглянай муроўкі. Планіроўка анфіладна-калідорная. У інтэр'еры вестыбюля столь дэкарыравана ляпным арнаментам. Уваходны партал цэнтр. залы фланкіраваны 2 камінамі ў неагатычнай трактоўцы. Парадная зала аформлена ў рэтраспектыўных формах ракако: авальны плафон і ляпная арнаментальная разетка на столі, картушы па вуглах, відарысы муз. інструментаў, аканта і руж у трэльяжнай сетцы. Падобнае архіт. вырашэнне мае і 1-павярховы мураваны ф л і г е л ь з асіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй. У будынках размешчаны Чырвонабярэжскі саўгас-тэхнікум. П а р к (пл. 10 га) пейзажнага тыпу (з садам) закладзены ў канцы 19 ст. на месцы б. рэгулярнага парку (захаваўся баскет, перароблены ў ландшафтную паляну). У зах. частцы — пладовы сад, у паўднёвай і ўсходняй — замкнуты паркавы ландшафт з палацам у цэнтры, павернуты гал. фасадам да ракі, курцінамі вакол палаца і на беразе ракі. Уезд на тэр. парку падкрэслены 2 будынкамі ўздоўж алеі — стайняй і свірнам. З паўд. боку алеі, за невял. партэрам, аддзеленым ад гасп. зоны нізкай мураванай агароджай, пабудаваны флігель. Паміж ім і палацам знаходзілася вадакачка, аформленая як дэкар. вежа. Гасп. пабудовы вырашаны ў формах несапраўднай готыкі. У парку былі альтанка, павільён-купальня, мураваная веранда (аглядная пляцоўка). Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін, В. Р. Анціпаў.*



Чырвонабярэжская сядзіба. Агульны выгляд палаца.

**«ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА»,** кінатэатр у Магілёве. Пабудаваны ў пач. 20 ст. з цэглы ў цэнтры горада (вул. Першамайская), у 1933 рэканструяваны (інж. Э. Лосер). У архітэктуры выкарыстаны элементы канструктывізму. Будынак — выцягнуты ў плане прамавугольнік, да якога перпендыкулярна далучаны касавая зала і паўцыркульны вестыбюль. У аснову архіт.-прасторавай кампазіцыі пакладзены прынцып проціпастаўлення аб'ёмаў. На гал. фасадзе вестыбюль з шырокім зашкленнем кантрастуе з «глухой» вертыкальнай сценкай і нізкім аб'ёмам, дзе размешчаны службовыя памяшканні. Гал. ўваход з боку тарцовага фасада вылучаны шырокай лесвіцай. Бакавыя фасады рытмічна чляняцца прамавугольнымі аконнымі праёмамі з боку фае.

*Т. І. Чарняўская.*



Кінатэатр «Чырвоная Зорка» ў Магілёве.

**ЧЭРВЕНЬ** (да 18.9.1923 Ігумен), горад, цэнтр раёна, на р. Чэрвенка (Ігуменка), прытоку р. Волма. За 62 км на ПдУ ад Мінска, 30 км ад чыг. ст. Пухавічы на лініі Мінск — Асіповічы. Вядомы з 1387. З 1-й пал. 15 ст. маёнтак Ігумен належаў князям Кежгайлавічам, з 1447 царкоўнае мястэчка, якое належала віленскім епіскапам. У канцы 16 ст. мястэчка, цэнтр воласці Мінскага пав. Вял. кн. Літоўскага. З 1793 у складзе Расійскай імперыі. З 1795 горад, цэнтр павета. З 1796 меў герб: на блакітным полі сярэбраны букет кветак, над якім 5 залатых пчол збіраюць нектар. У 1825 у Ігумене каля 900 жыхароў, 130 дамоў, 2 царквы, 10 крам, лазня, карчма; у 1837 14 вуліц і завулкаў, 2 плошчы; у 1897 4573 жыхары, 922 двары. У 1899 пацярпеў ад пажару, згарэла 137 дамоў і 125 надворных пабудоў. У 1904 больш за 5,1 тыс. жыхароў, 664 дамы (з іх 28 мураваных), 6 пачатковых навуч. устаноў, чытальня, друкарня, царква, касцёл, сінагога, 2 гарбарныя з-ды, млын, 6 корчмаў, 2 кірмашы на год, 2 бальніцы на 15 і 9 ложкаў, аптэка, фатаграфія; 17 вуліц і завулкаў, якія асвятляліся 96 газавымі ліхтарамі. З 1924 цэнтр раёна Мінскай акругі (да 1930), з 1938 — Мінскай вобл. 4,9 тыс. жыхароў у 1926, 8,2 тыс.— у 1959, 10,2 тыс.— у 1970. Горад мае рэгулярную квартальную планіроўку, якая склалася на аснове структуры стараж. паселішча. Генпланы Ч. распрацаваны ў 1958 («Белсельпраект») і 1968 («Белдзяржпраект»). Сетка вуліц прамавугольная. Асн. кампазіцыйныя восі — вул. Мінская (гал. ўезд у горад) і яе працяг — вул. К. Лібкнехта, а таксама перпендыкулярныя ім вуліцы Ленінская і Зяневіча (пры іх зліцці ўтворана пл. Свабоды). Цэнтр. частка горада і мікраён на вул. Барыкіна забудаваны 2—3-павярховымі жылымі дамамі. Паводле праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1982 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Р. Арцемчык, Н. Лісоўская, інж. Г. Хоміч, Н. Карповіч) і генплана 1985 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Арцемчык, Л. Зайцава, Р. Шамес, І. Бездзежская) прадугледжана развіццё горада ў паўн.-ўсх. напрамку, далейшае фарміраванне грамадскага цэнтра з вылучэннем адм., гандл. і культ.-асветнай функцыянальных зон. *С. Ф. Самбук.*

**ЧЭРСКАЯ МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА І ЗВАНІЦА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў 1701 у в. Чэрск (Брэсцкі р-н). Царква складаецца з квадратнага ў плане асн. зруба, завершанага дахам з галоўкай, і больш вузкага зруба з 3-граннай алтарнай часткай, накрытага вальмавым дахам з галоўкай. Да гал. фасада прыбудавана веранда, каля алтара — рызніца. Сцены вертыкальна ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. Вокны прамавугольныя. Унутры асн. зруб перакрыты корабавым скляпеннем, алтарны — плоскай столлю. Перад царквой стаіць зрубна-каркасная 3-ярусная званіца-брама. Ніжні ярус — чацверыковы зруб, ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі, верхні — каркасны (таксама чацверыковы), завершаны шатровым дахам. Прамежкавы ярус вырашаны ў выглядзе развітага прычолка, які на зах. і ўсх. фасадах мае трапецападобныя вертыкальныя шчыты з 4 арачнымі праёмамі і дэкар. панеллю. Царква дзейнічае. Царква і званіца — помнікі рэспубліканскага значэння. *Ю. А. Якімовіч.*



Чэрская Міхайлаўская царква.

**ЧЭРЫКАЎ,** горад, цэнтр раёна, на р. Сож. За 77 км ад Магілёва. Паводле легенды, у 15 ст. ў Ч. каралём Казімірам Ягелончыкам (у падзяку за выратаванне яго жонкі) была заснавана Ільінская царква. У пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як цэнтр воласці Магілёўскай эканоміі Вял. княства Літоўскага. Да 17 ст. вёска Магілёўскага староства, з 1604 горад. З 1641 мястэчка з магдэбургскім правам. Спустошаны ў рус.-польскую вайну 1654—67, пацярпеў у 1708 у Паўн. вайну. З 1678 зноў меў статус горада, цэнтр пав. Мсціслаўскага ваяводства. З 1772 у складзе Расійскай імперыі, з 1773 цэнтр павета Магілёўскай губ., у 1796—1802 у складзе Беларускай губ. Захаваліся рэшткі стараж. землянога вала з даволі глыбокім ровам і гарадзішчам над берагам р. Сож (мела выгляд усечанага конуса з вінтападобнымі выступамі). У 1778 зацверджаны план забудовы горада, паводле якога пры землеўпарадкаванні межы фіксаваліся землянымі валамі і равамі. У 1781 Ч. атрымаў герб: «Пагоня», над ёй на чырвоным фоне залатая цітла. У 1787 у Ч. больш за 3 тыс. жыхароў, 300 дамоў, 2 царквы; у 1803 2 царквы, касцёл, 412 дамоў (усе драўляныя). У канцы 18 ст. праз Ч. пракладзены тракт Магілёў — Чавусы — Крычаў — Мсціслаў, у 19 ст.— Маскоўска-Варшаўская шаша. У горадзе адбываліся конскія кірмашы, на Сажы былі



**Чэрвень.** Плошча Свабоды.



**Чэрыкаў.** Вуліца Болдзіна.

З прыстані. У канцы 19 ст. ў горадзе 2 царквы (з іх 1 мураваная), касцёл, 564 дамы (з іх 9 мураваных); у 1897 — 5,2 тыс. жыхароў. У 1919—23 цэнтр павета, у 1923—24 у Калінінскім пав. Гомельскай губ. РСФСР. З 1924 цэнтр раёна ў складзе БССР у Калінінскай (1924—27) і Магілёўскай (1927—30) акругах, з 1938 у Магілёўскай вобл. (у 1959—62, 1965—66 у Крычаўскім, у 1962—65 у Краснапольскім р-нах).

Горад размешчаны на плато, прыбярэжная частка якога парэзана ярамі выш. 25—30 м. Забудоўваецца паводле генплана 1976 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Кашырын, В. Баларчанка) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1981 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Кашырын, А. Агафонава). Сетка вуліц прамавугольная з дробнымі кварталамі, аснову яе складаюць магістральныя вуліцы Ленінская, Камсамольская і Ракасоўскага, якія з'яўляюцца працягам аўтадарог на Крычаў, Слаўгарад, Чавусы. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся ў раёне Цэнтральнай пл., утворанай на скрыжаванні вуліц Камсамольскай і Ракасоўскага. На вул. Ленінскай разбіты парк, захаваўся помнік архітэктуры 19—20 стагоддзяў — будынак бальніцы. Пераважае 1-павярховая забудова сядзібнага тыпу, 2—3-павярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтры. Новае 3—5-павярховае буд-ва вядзецца па вуліцах Ракасоўскага і Ленінскай. Прамысл. зона фарміруецца ў паўн.-ўсх. і зах. раёнах, часткова на ўсх. ускраіне горада, пры ўездзе з боку Крычава. Зона адпачынку — р. Сож, парк. Прадугледжана развіццё горада на Пд, раскрыццё грамадскага цэнтра ў бок поймы р. Сож, расшырэнне зоны спорту і адпачынку.

*В. Б. Караткевіч, С. Ф. Самбук.*

Ш

**ШАРАШОВА,** гарадскі пасёлак у Пружанскім р-не, на р. Левая Лясная (басейн Буга). За 20 км на З ад Пружан, 97 км ад Брэста. Вядома з 1380 як вёска ў Камянецкім, у 1566 Берасцейскім пав. Вял. кн. Літоўскага, з канца 16 ст.— мястэчка. У час войнаў сярэдзіны 17 — пач. 18 ст. неаднаразова разбурана, у 1661 вызвалена на 4 гады ад падаткаў. У 1760 пабудавана Прачысценская царква (не зберaглася), у 1799 каля яе пабудавана драўляная *Шарашоўская званіца.* У 1790-я гады ў Ш. больш за 3360 жыхароў 560 дамоў. З 1795 у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Пружанскага пав. У шарашоўскай царкве захаваўся бел. рукапісны помнік 16 ст.— Шарашоўскае евангелле. У 1897 5089 жыхароў, 1584 дамы, нар. вучылішча, 9 дробных прадпрыемстваў. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, горад, цэнтр гміны Пружанскага пав. З 1939 у БССР. З 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. З 1956 у Пружанскім р-не. Пасёлак забудоўваецца паводле генплана 1976 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. А. Пятрэнка, А. Асядоўская, А. Яромін). Тэр. пасёлка падзелена ракой на паўд. і паўн. раёны, звязаныя паміж сабой гал. кампазіцыйнай воссю — вул. Леніна. У паўд. раёне размешчаны асн. масіў жылой забудовы з адм.-грамадскім і культ. цэнтрам, які склаўся на плошчы, утворанай на скрыжаванні вуліц Леніна і Кастрычніцкай. У паўн. раёне пераважае 1-павярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу, асн. вуліцы — Першамайская і Пружанская. Тут сканцэнтравана прамысл. зона. Зона адпачынку — р. Левая Лясная, лесапарк у паўн. частцы пасёлка. Зберагліся помнікі архітэктуры — *Шарашоўская Петрапаўлаўская царква,* Троіцкі касцёл, Мікалаеўская царква (2-я пал. 19 ст., псеўдарускі стыль). Прадугледжана развіццё грамадскага цэнтра з выхадам яго на раку, стварэнне падцэнтра ў паўн. раёне, расшырэнне зоны спорту і адпачынку.

*Г. С. Ларкін.*



Шарашоўская званіца.

**ШАРАШОЎСКАЯ ЗВАНІЦА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1799 у г. п. Шарашова (Пружанскі р-н) каля Прачысценскай царквы (1760, не зберaглася). 2-яруснае квадратнае ў плане (5,3×5,6 м) збудаванне (выш. 18 м). Ніжні ярус (пад шырокай навіссю гонтавага прычолка) з брусоў у «лапу». Верхні ярус (звон) зроблены з 8 стоек з крывалінейнымі пакосамі і разной агароджай. На стойкі каркаса накладзены вянкі бярвён, якія падтрымліваюць шатровы гонтавы дах. Сярэднія часткі паўн. і паўд. схілаў утвараюць невял. хвалі пры пераходзе 4-схільнага даху да 6-граннага барабана з галоўкай, які вянчае пабудову. Званіца знаходзіцца на кансервацыі (1990). Помнік рэспубліканскага значэння.

**ШАРАШОЎСКАЯ ПЕТРАПАЎЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1824 у г. п. Шарашова (Пружанскі р-н). Мае рысы стылю класіцызму. Адназрубная пабудова з 3-граннай алтарнай апсідай накрыта высокім 2-схільным дахам з вальмамі над алтаром. Гал. фасад мае 6-калонны порцік з 3-вугольным франтонам, увенчаным 2-яруснай фігурнай вежачкай. Сцены ашаляваны дошкамі з нашчыльнікамі. У аздобе гал. фа-



**Шарашоўская Петрапаўлаўская царква.** Галоўны фасад.

сада выкарыстаны паліхромная афарбоўка, дэкар. шалёўка франтона ў «елачку», размалёўка на рэлігійныя сюжэты. Вокны прамавугольныя і рамбічныя. Інтэр'ер зальны з плоскай столлю. Царква дзейнічае. *У. В. Алісейчык.*

**ШАРКОЎШЧЫНА,** гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на р. Дзісна. За 197 км на З ад Віцебска. Вядома з 1503 у Вял. кн. Літоўскім як маёнтак Зяновічаў, потым належаў Сапегам, Дамброўскім, Лапацінскім. У 1767 каля маёнтка ўзнікла мяст. Новая Шаркоўшчына, якое пазней злілося з маёнткам. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Дзісенскага пав. Мінскай, з 1842 Віленскай губ. У 1897 у Ш. 1151 жыхар, нар. вучылішча, фельчарскі пункт, царква, піваварня, 16 крам. З 1921 у складзе бурж. Польшчы. З 1939 у БССР, з 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Вілейскай вобл. У 1962—66 у Міёрскім р-не, з 1966 цэнтр Шаркоўшчынскага р-на. Планіровачная структура Ш. лінейная, склалася да пач. 20 ст. пры зліцці маёнтка і 2 мястэчак — Старой і Новай Ш. Забудова падзяляецца на 3 жылыя масівы: паўночны (паміж р. Янка і чыгункай), цэнтральны (паміж чыгункай і р. Дзісна) і паўднёвы (на правым беразе Дзісны). Першы генплан Ш. распрацаваны ў 1953, забудоўваецца паводле генплана 1974 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Л. Зайцава). Асн. кампазіцыйная вось — вул. Маякоўскага. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся абапал Дзісны, у раёне вуліц Энгельса, Маякоўскага, Вадап'янава, Камсамольскай, Чырванадворскай. У паўн. частцы цэнтра разбіты сквер, у паўднёвай сфарміравана плошча 1 Мая. На плошчы разбіты парк, у якім зберогся помнік архітэктуры пач. 20 ст.— сядзібны дом. Пераважае 1-павярховая забудова сядзібнага тыпу. У цэнтры пабудаваны 2—5-павярховыя жылыя дамы. Вытв. зона размешчана ў паўн. і зах. частках пасёлка, часткова — у цэнтральнай. Зона адпачынку — р. Дзісна. Зберагліся помнікі архітэктуры — царква канца 19 ст. ў псеўдарускім стылі, драўляная Успенская царква пач. 20 ст. з элементамі стылю мадэрн. Прадугледжана функцыянальнае заніраванне тэрыторыі, расшырэнне зоны спорту і адпачынку. *Г. С. Ларкін.*

**ШКЛОЎ,** горад, цэнтр раёна, на правым беразе Дняпра. За 40 км на Пн ад Магілёва. Чыг. ст. на лініі Орша — Магілёў. Вядомы з 1-й пал. 16 ст., належаў магнатам Хадкевічам, Сяняўскім, Чартарыйскім. З 1568 цэнтр Шклоўскага графства. Уваходзіў у Аршанскі пав. У 1643 у Ш. 4750 жыхароў, 950 дамоў. Пасля пажару 1668 горад перанесены на бераг Дняпра (на колішнім яго месцы цяпер знаходзіцца в. Малы Стары Шклоў). У 1762 атрымаў правы горада. Меў герб. На гарадской пячатцы Ш. 1767 выява адразу 2 гербаў: на шчыце, размешчаным уверсе пячаткі,— герб «Пагоня», унізе — уласна гарадскі герб — рука, якая трымае бязмен. З 1772 у складзе Расіі, у 1773—77 цэнтр павета, пасля мястэчка, цэнтр воласці Магілёўскага пав. З 1773 уладанне кн. Р. А. Пацёмкіна, з 1778 — С. Г. Зорыча. У 1781 заснаваны шаўковая мануфактура і гадзіннікавая ф-ка. Дзейнічалі мануфактуры канатная (1790—99), парусінавая (1794—1845), гарбарная, суконная. У канцы 18 ст. існаваў *Шклоўскага кадэцкага корпуса будынак,* заснаваны парк. Паводле малюнка 18 ст. горад размяшчаўся на правым беразе Дняпра, уздоўж якога развіваўся Ш. Меў лінейную квартальную планіроўку, тэр. горада была абнесена драўлянай абарончай сцяной. Гал. вуліца (участак дарогі Орша — Магілёў) перасякала горад з Пн на Пд. Уезд у горад з боку Оршы фарміравала ярусная брама ў паркане, завершаная купалам. Цэнтральную частку горада фарміравалі гандл. плошча з *Шклоўскай ратушай,* будынкі касцёла і кляштара. На Пн ад горада на аршанскай дарозе знаходзіўся драўляны манастыр. На процілеглым беразе Дняпра існавалі прадмесце, якое злучалася з гандл. плошчай мостам цераз раку, і замкавы сад. У пач. 19 ст. Ш.— важны гандл. цэнтр на Беларусі, прыстань на Дняпры; пасля пабудовы чыгункі Орша — Магілёў (пач. 20 ст.) — чыг. станцыя. У пач. 20 ст. больш за 10 тыс. жыхароў, папяровая ф-ка, 2 пачатковыя вучылішчы. З 1924 цэнтр раёна, з 1925 горад. 8,1 тыс. жыхароў у 1939, школа медсясцёр, Магілёўская абл. школа Наркамзема БССР. Рэканструявана і расшырана папяровая ф-ка «Спартак». У 1959 у Ш. 7,8 тыс., у 1970—9,9 тыс. жыхароў. Лінейная планіровачная структура горада, выцягнутага з Пн на Пд, абумоўлена размяшчэннем горада ўздоўж Дняпра. Кварталы прамавугольныя, невялікія, пераважна з 1-павярховай індывідуальнай забудовай сядзібнага тыпу. Планамерна развіваецца ў адпаведнасці з генпланам 1966 і праектам дэталёвай планіроўкі цэнтра 1968 (Магілёўскія абл. праектныя майстэрні ін-та «Белдзяржпраект»). Асн. кампазіцыйная вось — вул. 1-я Савецкая, што праходзіць праз увесь жылы раён і арганічна звязана з паркавай зонай і Дняпром. На ёй склаўся адм.-грамадскі і культ. цэнтр, які забудоўваецца паводле праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Т. Спірына, інж. І. Шышанава, Н. Галавацкая). Тут збярогся фраг-




**Шклоў.** Малюнак 2-й палавіны 18 ст.

мент забудовы 18 ст.— жылы дом з цэглы, разбіты сквер. На скрыжаванні вуліц 1-й Савецкай і Пралетарскай фарміруецца гал. плошча горада. 2—5-павярховая забудова сканцэнтравана на вуліцах 1-й Савецкай, Калгаснай, Ільнозаводскай, Ленінскай, Паркавай і ў жылых масівах. Прамысл.-складская зона размешчана ў паўн. і паўд.-зах. частках горада. Паводле генплана 1980 (БелНДІПградабудаўніцтва, арх. Спірына, інж. Л. Ушакова, З. Тоўсцікава; карэкціроўка 1989, арх. А. Горб, В. Баларчанка, В. Кашырын, інж. З. Пермякова, С. Проніна) прадугледжана развіццё горада на У і часткова ў паўд.-зах. напрамку. Агульнагарадскі цэнтр сеткай бульвараў аб'ядноўваецца з жылымі раёнамі і правабярэжнай зонай Дняпра, дзе прадугледжана буд-ва фізкультурна-аздараўленчага комплексу. Зона адпачынку — р. Дняпро, гарадскі парк, дзе збярогся помнік драўлянага дойлідства пач. 20 ст.— *Шклоўскі асабняк.* Захаваліся таксама помнікі архітэктуры: будынак б. сінагогі (2-я пал. 17 ст.), жылы дом канца 19 ст. на вул. Паштовай, будынак канторы папяровай ф-кі «Спартак» (1898), касцёл канца 19 — пач. 20 ст., *Шклоўская Праабражэнская царква* пач. 20 ст. Каля Ш. знойдзена скульптурная выява славянскага язычніцкага бажаства — т. зв. Шклоўскі ідал.
*С. Ф. Самбук.*

**ШКЛОЎСКАГА КАДЭЦКАГА КОРПУСА БУДЫНАК.** Існаваў у канцы 18—19 ст. Узведзены ў 1788 (арх. Боарэлі) у Шклове ў стылі ранняга класіцызму. Мураваны 2-павярховы будынак уключаў гал. П-падобны ў плане корпус і 2 двухпавярховыя флігелі, якія ўтваралі парадны двор. Гал. корпус складаўся з цэнтр. прамавугольнага ў плане аб'ёму і 2 бакавых прамавугольных у плане крылаў, злучаных з ім выгнутымі галерэямі. Фасады цэнтр. аб'ёму былі аздоблены плоскімі пілястрамі і філёнгамі. Цэнтр кампазіцыі гал. фасада быў вылучаны рызалітам, завершаным 3-вугольным франтонам. Планіроўка анфіладная і калідорная. У цэнтры корпуса размяшчаліся класы, канферэнц-зала, б-ка, сталовая, у крылах — жылыя пакоі. У флігелях знаходзіліся кватэры настаўнікаў, дырэктара, лазарэт. *В. Ф. Марозаў.*


**Шклоўская ратуша** і гандлёвыя рады. Чарцёж.

**ШКЛОЎСКАЯ ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры эклектыкі. Пабудавана ў пач. 20 ст. (да 1905) з цэглы ў цэнтры Шклова (сучасная вул. 1-я Савецкая, 57). Храм крыжападобны ў плане, цэнтрычнай кампазіцыі, мае элементы стыляў псеўдавізантыйскага і мадэрн. Над сяродкрыжжам узвышаецца вял. 8-гранны светлавы барабан, накрыты гранёным шлемападобным купалам. Паміж рамёнамі ці канцамі крыжа ўбудаваны 4 квадратныя ў плане 3-ярусныя вежападобныя аб'ёмы. Верхнія 8-гранныя ярусы са скразнымі праёмамі завершаны гранёнымі купаламі. Розныя вышыні аб'ёма надаюць будынку вертыкальную дынаміку. Усе фасады вырашаны з яскрава выяўленай сіметрыяй, падкрэсленай восевым размяшчэннем уваходаў, над якімі па 2 акны з арачнымі завяршэннямі. Іх матыў паўтараюць вял. аркі накшталт закамараў у завяршэнні сцен. Фасады аздоблены стрымана: тонкія прафіляваныя карнізныя цягі, пілястры, плоскія нішы. Інтэр'ер 2-светлавы, сяродкрыжжа перакрыта самкнутым скляпеннем, астатнія часткі залы — цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. У паўд.-зах. вежы лесвіца на званіцу. Дэкар. акцэнт у інтэр'еры зроблены на групах тонкіх калонак, якія падтрымліваюць светлавы барабан. Царква дзейнічае. *Т. В. Габрусь.*


Шклоўская Праабражэнская царква.

**ШКЛОЎСКАЯ РАТУША,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудавана з цэглы ў канцы 18 ст. на цэнтр. плошчы Шклова ў комплексе з гандл. радамі. Ратуша — 2-павярховы амаль квадратны ў плане мураваны будынак з вальмавым дахам, завяр-



Шклоўскі асабняк.

шаўся стройнай 2-яруснай 8-граннай вежай (у цэнтры), увянчанай гранёным купалам са шпілем. Асн. памяшканні ратушы групаваліся на 2-м паверсе абапал кароткага калідора. 1-ы паверх быў прарэзаны ў цэнтры шырокім праездам у двор гандл. радоў. 1-павярховыя з 2-павярховымі квадратнымі ў плане аб'ёмамі па вуглах і сіметрычна пастаўленым падобным да ратушы будынкам гандл. рады разам з ратушай утваралі прамавугольны двор, які меў яшчэ 3 уязныя брамы. Прадаўгаватыя карпусы гандл. радоў складаліся з невял. памяшканняў з крыжовымі скляпеннямі. У цэнтры падоўжаных бакоў гандл. радоў былі праезды. Крамы мелі 2-баковую арыентацыю. Фасады былі рытмічна расчлянёны шырокімі лапаткамі, прамавугольнымі вокнамі і паўцыркульнымі аркадамі. Гандл. рады захаваліся часткова. У Вял. Айч. вайну ратуша і гандл. рады былі пашкоджаны. Будынак ратушы — помнік рэспубліканскага значэння.

*У. А. Чантурыя.*

**ШКЛОЎСКІ АСАБНЯК,** помнік драўлянага дойлідства. Пабудаваны ў пач. 20 ст. ў Шклове ў традыцыях нар. дойлідства з элементамі стыляў ампір і мадэрн. Размешчаны ў парку (закладзены ў канцы 18 ст., новы парк пейзажнага тыпу створаны ў канцы 19 — пач. 20 ст.). Асабняк — 1-павярховы П-падобны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам. Гал. фасад кампазіцыйна падзелены на 3 часткі: цэнтральную, вырашаную ў выглядзе рызаліта, і сіметрычныя бакавыя крылы, таксама вылучаныя рызалітамі. Цэнтр. рызаліт афармлены галерэйкай з балюстрадай і разнымі слупамі, абапал яго — сіметрычныя ўваходы. Над усімі рызалітамі 3-вугольныя франтоны. Фасады будынка багата дэкарыраваны накладнымі дэталямі, якія імітуюць мураваныя класіцыстычныя формы. Гарызантальна ашаляваныя сцены завершаны развітым антаблементам з фрызам, апрацаваным філёнгамі, і моцна вынесеным карнізам на фігурных кранштэйнах. У нізе сцен вертыкальнай шалёўкай вылучана падаконная панель. Вуглы аздоблены накладным рустам. Вял. прамавугольныя вокны афармлены ліштвамі з філянговымі нішамі і сандрыкамі. Унутраная планіроўка дома зменена ў час рэканструкцыі. Захаваліся 2 грубкі, абліцаваныя кафляй, дзверы з разьбой у стылі ампір. У будынку размешчаны клуб папяровай фабрыкі «Спартак».

*Ю. А. Якімовіч.*

**ШУМАКОЎСКАЯ СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры готыкі і рэнесансу. Пабудавана ў 1609 у в. Шумакі (Брэсцкі р-н), на левым беразе р. Лясная князямі Шуйскімі. Невялікі 1-нефавы мураваны храм вырашаны ў простых масіўных формах. Да прамавугольнага ў плане асн. нефа прылягаюць бабінец і паўкруглая алтарная апсіда. Неф і апсіда накрыты агульным 2-схільным дахам з галоўкай на 8-гранным барабане ў цэнтры. Над бабінцам была квадратная ў плане вежа з высокім шатровым дахам (не збераглася). Сцены аздоблены шырокімі пілястрамі, завершаны прафіляваным карнізам. Вокны высокія, вузкія, са стральчатымі і лучковымі завяршэннямі. Неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках. У інтэр'еры — разныя царскія вароты, выкананыя ў стылі барока, іканастас 18 ст., надмагільная пліта 17 ст. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. Я. Міцянін.*

**ШУМІЛІНА,** гарадскі пасёлак, цэнтр Шумілінскага р-на. За 45 км на ПнЗ ад Віцебска. Чыг. і аўтастанцыя на лініі Віцебск — Полацк. У 19 ст. вёска сялян-уласнікаў Каравайніцкай сельскай абшчыны Ловажскай воласці Полацкага пав. Віцебскай губ. У 1866 у Ш. 38 жыхароў, 13 дамоў, 5 гаспадарак. Пасля пабудовы Рыга-Арлоўскай чыгункі (1866) — станцыя пад назвай Баболіна (да 1962 Сіроціна). У пач. 20 ст. было 50 жыхароў. З 1924 цэнтр раёна (да 1961 Сіроцінскага) Віцебскай акругі (1924—30), з 1938 — Віцебскай вобл. З 1938 гарадскі пасёлак. У 1962—66 у Віцебскім р-не. Тэр. пасёлка чыгункай падзелена на 2 планіровачныя раёны: паўночны і паўднёвы, звязаныя паміж сабой вул. Сіпко. Генпланы распрацаваны ў 1968 (Віцебскія абл. праектныя майстэрні) і ў 1977 (БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Д. Паташнікаў). Архіт.-планіровачная структура пасёлка расчлянёная, з частай сеткай вуліц і невял. кварталаў. Асн. вуліцы: Суворава, Кароткіна, Юбілейная, Энгельса, Луначарскага. Адм.-грамадскі і культ. цэнтр склаўся ў паўд. раёне, пры зліцці вуліц Кароткіна і Луначарскага. На вул. Кароткіна размешчаны Дом Саветаў, перад якім сфарміравана цэнтр. плошча, разбіты парк. Гандлёвы цэнтр фарміруецца на вул. Ленінскай. Пераважае 1-павярховая індывід. забудова



Шумакоўская Спаса-Праабражэнская царква.



Шчорсаўская Дзмітрыеўская царква.

сядзібнага тыпу. Капітальная 2—3-павярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтр. частцы пасёлка і ў жылым пасёлку торфапрадпрыемства «Дабееўскі Мох». Вытв. зона размешчана ў паўн. раёне. Зона адпачынку — воз. Лескавічы. Прадугледжана развіццё пасёлка на У, расшырэнне зоны спорту і адпачынку. *Г. С. Ларкін.*

**ШЧОРСАЎСКАЯ ДЗМІТРЫЕЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры барока. Узведзена ў 1770—76 у цэнтры в. Шчорсы (Навагрудскі р-н) уладальнікам маёнтка І. Храптовічам як уніяцкая царква; будаўніцтвам кіраваў французскі арх. Я. Габрыэль. 1-нефавы прамавугольны ў плане храм з прамавугольнымі апсідай і сакрысціямі. На гал. фасадзе 4-калонны аркадны порцік з 3-вугольным франтонам. Завершаны фасад фігурным шчытом, за якім размешчана нізкая чацверыковая вежа-званіца з 4-схільным пакрыццём. Бакавыя фасады шырокім прафіляваным карнізам падзелены на 2 ярусы: ніжні расчлянёны невял. прамавугольнымі вокнамі і плоскімі лапаткамі ў прасценках, верхні прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі і завершаны прафіляваным карнізам. Прастора інтэр'ера перакрыта цыліндрычным скляпеннем на распалубках і падпружных арках. Над уваходам — хоры. Сцены дэкарыраваны прафіляваным карнізам, нішамі, падвойнымі пілястрамі карынфскага ордэра. Царква дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *А.М. Кулагін.*

**ШЧОРСАЎСКІ ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ,** помнік архітэктуры і садова-паркавага мастацтва 2-й пал. 18 — пач. 19 ст. На паўн.-зах. ускраіне в. Шчорсы (Навагрудскі р-н) у б. маёнтку Храптовічаў (вядомы з 16 ст.), у канцы 19 — пач. 20 ст. належаў графу Буцянёву. Створаны падканцлерам Вял. кн. Літоўскага І. Л. Храптовічам. Уключаў палац, павільён бібліятэкі, 2 флігелі, службовыя і гасп. пабудовы (у т. л. вяндлярню), парк. Цэнтрам кампазіцыі быў палац — мураваны, П-падобны прамавугольны ў плане, з парадным дваром. Пабудаваны ў 1770—76 арх. Якубам Габрыэлем паводле праекта Дж. Сака і з удзелам К. Спампані, спалучаў рысы барока і класіцызму. П а л а ц — 1-павярховы накрыты вальмавым дахам будынак з мансардавай часткай і купальным завяршэннем у цэнтры, вылучаны на гал. фасадзе 4-пілястравым порцікам з 3-вугольным франтонам, на паркавым — паўкруглым эркерам з радам авальных люкарнаў. Будынак вызначаўся вытанчанасцю дэкар. форм: пілястры, лапаткі, замковыя камяні і інш. Вокны арачныя, на 2-м паверсе цэнтр. часткі прамавугольныя. Планіроўка анфіладная з квадратным вестыбюлем і круглай залай у цэнтры. У афармленні інтэр'ераў удзельнічалі мастакі Манькоўскі і А. Смуглевіч, выкарыстаны карціны Ю. Карчэўскага. Больш спрошчаную архіт. трактоўку мелі 1-павярховыя крылы (пабудаваны ў 1777), рытмічна расчлянёныя на франтальных фасадах прамавугольнымі вокнамі і пілястрамі ў прасценках. Да палаца ў пач. 19 ст. прыбудаваны 2 сіметрычна размешчаныя 1-павярховыя прамавугольныя ў плане флігелі. Ва ўсх. флігелі знаходзілася стайня, дзверы стойлаў для коней былі аформлены як нішы, з боку палаца — жылы дом конюха. Зах. флігель (захаваўся) адводзіўся пад службовыя памяшканні (у іх жылі войт, чэлядзь, фурманы, майстры і інш.). Флігелі агароджай са слупоў былі аб'яднаныя з манум. брамай, вырашанай у стылі барока са скульптурай у завяршэнні. Сярод гасп. пабудоў (кухня, майстэрні, карэтная і інш.) вылучаўся будынак вяндлярні, узведзены на мяжы 19—20 стагоддзяў з чырвонай цэглы. Круглая вежападобная пабудова з высокім гонтавым дахам, заломам на пакатым шатровым пакрыцці. На даху плаўнымі лініямі выступаюць пукатыя душнікі. Сцены аздоблены лапаткамі, карнізамі простага прафілю і лучковымі перамычкамі над аконнымі і дзвярнымі праёмамі. Унутраная прастора падзелена на ярусы для размяшчэння прадуктаў вэнджання. У канцы 18 ст. спецыяльна для б-кі ўзведзены 2-павярховы будынак у стылі класіцызму. Над уваходам — шырокая тэраса на 4 калонах. І. Л. Храптовіч сабраў багатую б-ку з архівам: каля 10 тыс. тамоў кніг, стараж. рукапісы па гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы і інш. У б-цы працавалі вядомыя гісторыкі, паэты, у т. л. І. Лялевель, М. Пачобут-Адляніцкі, М. Вольскі, У. Сыракомля, Ян Чачот (як бібліятэкар), у 1819 і 1820 у Шчорсах жыў А. Міцкевіч. Апошні ўладальнік сядзібы К. А. Буцянёў частку б-кі (4,5 тыс. тамоў) перадаў у 1915 Кіеўскаму ун-ту, астатняя частка трапіла ў Кракаў. П а р к пейзажнага тыпу закладзены І. Л. Храптовічам у апошняй чвэрці 18 ст.; размешчаны на раўнінным рэльефе, займаў каля 40 га. Цэнтрам кампазіцыі быў палац. Перад парадным фасадам палаца невял. пляцоўка з кустамі і кветнікамі, ахопленая пандусамі. На З ад палаца знаходзіўся парк, на ПдЗ — суцэльны паркавы масіў з вадаёмамі і кальцавой дарожкай, перад тыльным фасадам палаца — адкрытая пляцоўка з асобнымі групамі дрэў, ланцугом вадаёмаў; ад цэнтр. ўчастка аддзелены суцэльны лясны масіў, на ўзлеску якога знаходзіцца помнік прыроды, т. зв. дуб Міцкевіча. Цэнтральны корпус палаца разбураны ў 1-ю сусветную вайну. Захаваліся скляпеністыя падвалы, зах. флігель, бібліятэка, вяндлярня. За 1 км на З ад комплексу з чырвонай цэглы ў рэтраспектыўных формах замкавага дойлідства пабудаваны гасп. двор, т. зв. «мураванка Храптовічаў»: карпусы стайняў і вуглавыя круглыя вежы. Цяпер у будынках размешчаны калгасны дзіцячы сад. Ансамбль — помнік рэспубліканскага значэння.
*В. Р. Анціпаў, А. М. Кулагін.*

**ШЧУЧЫН,** горад, цэнтр раёна. За 68 км на У ад Гродна, 7 км ад чыг. ст. Ражанка на лініі Масты — Ліда, каля аўтамагістралі Гродна — Ліда. З 16 ст. ў Лідскім пав. Віленскага ваяводства Вял. кн. Літоўскага. Належаў Радзівілам, Сцыпіёнам (заснавалі ў Ш. калегію піяраў, семінарыю і вышэйшую школу), Друцкім-Любецкім. З 1795 у складзе Расіі, цэнтр воласці Лідскага пав. Гродзенскай, з 1842 Віленскай губ. У 1833 у Ш. 327 жыхароў, 40 дамоў; у сярэдзіне 19 ст. 580 жыхароў, каля 100 дамоў, прыходскае 2-класнае вучылішча, у 1897 — 1742 жыхары, лячэбніца. У 19 ст. склалася рэгулярная сістэма планіроўкі, сфарміраваўся ансамбль забудовы цэнт-



**Шчорсаўскі палацава-паркавы ансамбль.** З гравюры 19 ст.



**Шчучын.** Фрагмент забудовы канца 19 — пачатку 20 ст. на плошчы Свабоды.

ра с плошчай, на якой размешчаны будынкі *Шчучынскага касцёла Тэрэзы* з кляштарам піяраў, Міхайлаўскай царквы, пошты, заезных дамоў, жылых дамоў рамеснікаў і гандляроў. Плошча раскрывалася ў бок палацава-паркавага комплексу (гл. *Шчучынскі палац*). У пач. 20 ст. ў Ш. больш за 3,8 тыс. жыхароў. З 1921 у складзе бурж. Польшчы, горад (з 1920), цэнтр павета Навагрудскага ваяводства. З 1939 у БССР. З 1940 гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Баранавіцкай вобл. 6,5 тыс. жыхароў у 1959. З 1962 горад, 10,3 тыс. жыхароў у 1970, 15,5 тыс. жыхароў у 1990. Сучасны горад размешчаны ўздоўж дарогі Ваўкавыск — Астрына — Вільнюс. У межах горада гэта дарога з'яўляецца гал. вуліцай (17 Верасня і яе працяг — вул. Савецкая) і асн. транспартнай магістраллю. З З на У тэр. горада перасякае ручай Тураўка, які ў цэнтр. частцы ўтварае сажалку. Планіроўка горада квартальная з пераважна 1-павярховай забудовай сядзібнага тыпу. Развіваецца паводле генплана 1972 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх. В. Кашырын, Г. Марцішонак, інж. К. Лапіцкая, І. Уцехін; карэкціроўка 1983, БелНДІПгорадабудаўніцтва, арх. Кашырын, В. Баларчанка, інж. Л. Пірожнік, В. Пузік) і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1973 (Мінскі філіял ЦНДІПгорадабудаўніцтва, арх Т. Кузняцова, інж. Лапіцкая, В. Падлінская). Адм.-грамадскі і гандл. цэнтр склаўся на пл. Свабоды, якую фарміруюць Дом Саветаў, будынкі універмага, вузла сувязі, магазінаў, сталовай. Захаваліся фрагменты мураванай забудовы канца 19 — пач. 20 ст. З паўн. боку плошчу замыкае сквер. 2—5-павярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтр. частцы горада (вуліцы 17 Верасня, Леніна, Кастрычніцкая, Зялёная і інш.) і ў раёне з-да «Аўтапровад» (вул. Заводская). Вытворчая зона размешчана ў паўд. частцы горада, складская — на Пд ад горада, у раёне чыг. ст. Ражанка. Зона адпачынку — урочышча Тапілішкі — Міцары.

*С. Ф. Самбук.*



Шчучынскі палац.

**ШЧУЧЫНСКІ КАСЦЁЛ ТЭРЭЗЫ**, помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны ў 1829 у г. Шчучын пры манастыры піяраў князем Ксаверыем Друцкім-Любецкім. Мураваны храм мае выцягнутую крыжова-купальную кампазіцыю. Дамінантай у ёй з'яўляецца высокі купал на светлавым васьмерыковым барабане над сяродкрыжжам. На гал. фасадзе паўкалоны і антаблемент ствараюць матыў дарычнага порціка. Вось сіметрыі гал. фасада падкрэслена ўваходным праёмам з сандрыкам, акном у фігурнай ліштве і люкарнай на франтоне. Бакавыя фасады расчлянёны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, афармлены рустам і завершаны



Шчучынскі касцёл Тэрэзы.



Шылавіцкі Троіцкі касцёл.

антаблементам. Бабінец з тамбурам і хоры над імі аддзелены ад асн. памяшкання 2 калонамі. Сцены ў інтэр'еры расчлянёны паўкалонамі і аздоблены па ўсім перыметры шырокім карнізам. У 1987—89 праведзена рэстаўрацыя касцёла, ён перададзены веруючым.

*С. Г. Багласаў.*

**ШЧУЧЫНСКІ ПАЛАЦ,** помнік архітэктуры ранняга класіцызму. Пабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. паводле праекта арх. де Фленерса на паўн. ускраіне Шчучына, у парку рэгулярнай планіроўкі (садавод С. Юндзіл). Належаў падскарбію літоўскаму Шчуке, з пач. 19 ст. быў уладаннем князёў Друцкіх-Любецкіх. Будынак сіметрычнай кампазіцыі, прамавугольны ў плане, 2-паверховы, мураваны на высокім цокалі. У цэнтры больш нізкая частка з мансардай, вырашаная ў выглядзе лоджыі з 2 іанічнымі калонамі, па баках — 2-паверховыя аб'ёмы, раскрапаваныя пілястрамі. Фасады па перыметры завершаны развітым карнізам і парапетам з атыкам у цэнтры. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены сандрыкамі, да ўвахода вядзе шырокая лесвіца. Планіроўка калідорная. Аздоба інтэр'ера мае класіцыстычны характар. У будынку размешчана адм. ўстанова. Помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**ШЫЛАВІЦКІ ТРОІЦКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры неаготыкі. Пабудаваны з цэглы ў 1907—14 у цэнтры в. Шылавічы (Ваўкавыскі р-н). Уяўляе сабой базілікальны з трансептам 1-вежавы храм з 3-граннай апсідай і 2 сакрысціямі. На гал. зах. фасадзе вылучаецца 4-ярусная шатровая вежа выш. 55 м (3 ніжнія ярусы 2-гранныя, верхні — 8-гранны). Грані вежы фланкіраваны контрфорсамі, дэкарыраваны арачнымі і стральчатымі нішамі. Гал. партал вылучаны вімпергам. Бакавыя фасады прарэзаны спаранымі стральчатымі вокнамі, паміж якімі на ніжнім ярусе размешчаны контрфорсы, на верхнім — папярочныя аркі (аркбутаны). Бакавыя сцены трансепта маюць адно сральчатае 4-часткавае акно і завершаны ступеньчатым атыкам з пінаклямі. У інтэр'еры нефы падзелены стральчатымі арачнымі праёмамі, якія апіраюцца на прафіляваныя слупы, перакрыцце — крыжовыя скляпенні з нервюрамі. Шырока выкарыстана лякальная цэгла, з якой зроблены нервюры, абрамленні арак і крапоўка слупоў. Як дэкаратыўны прыём выкарыстана кантраснае каляровае вырашэнне: дэкар. дэталі белага колеру (па фасадах і ў інтэр'еры) на фоне чырвоных цагляных сцен і вежы. Касцёл дзейнічае.

*Т. І. Чарняўская.*

**ШЭМЕТАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры класіцызму. Пабудаваны Сулістроўскімі ў канцы 18 — пач. 19 ст. ў в. Шэметава (Мядзельскі р-н), у 1902 рэстаўрыраваны і павялічаны. Касцёл мураваны, 1-нефавы, крыжовы ў плане з прамавугольнай апсідай і развітым трансептам, накрыты 2-схільнымі дахамі. Гал. фасад вылучаны порцікам з 4 трохчвэртнымі калонамі дарычнага ордэра. Над парталам гал. ўвахода паўкруглае акно, паміж бакавымі парамі калон неглыбокія конхавыя нішы. Тарцы трансепта вырашаны ў выглядзе 2-ка-



Шэметаўскі касцёл.

лонных порцікаў. Сцены бакавых фасадаў з прамавугольнымі вокнамі. У інтэр'еры сцены раскрапаваны пілястрамі з пазалочанымі карынфскімі капітэлямі. Аконныя праёмы ўпрыгожваюць каляровыя вітражы. Алтар дэкарыраваны пазалочанай драўлянай разьбой, амбон у выглядзе чашы выкананы ў стылі ракако. Высокія хоры з арганам апіраюцца на 2 шматгранныя слупы. Насценная размалёўка на евангельскія сюжэты ўключае раслінны арнамент. Амбон выкананы ў стылі ракако ў выглядзе чашы (разьба, пазалота), якую падрымлівае птушка. З ПдЗ ад касцёла размешчана званіца, пабудаваная ў 19 ст. з дрэва. Касцёл і званіца дзейнічаюць.

*А. Ю. Пятросава.*

# Э

**ЭЙСМАНТАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры позняга класіцызму. Пабудаваны ў 1850 з каменю ў в. Вялікія Эйсманты (Бераставіцкі р-н) пад кіраўніцтвам ксяндза Міхаіла Сезяноўскага. У 1939 адрамантаваны (перароблена столь). Асн. прамавугольны ў плане аб'ём (выш. 17, даўж. 48, шыр. 19 м) і квадратная алтарная апсіда накрыты агульным 2-схільным дахам. Гал. фасад аформлены масіўным 4-калонным дарычным порцікам, уваходным парталам і глыбокімі нішамі з паўсферычнымі конхамі па баках, завершаны 3-вугольным франто-



Эйсмантаўскі касцёл.

нам. Бакавыя фасады рытмічна расчлянёны стральчатымі вокнамі і простымі прафіляванымі карнізамі. Па баках апсіды — нізкія сакрысціі. Унутраная прастора інтэр'ера падзелена 8 тонкімі слупамі на 3 нефы. Цэнтр. неф з алтарнай апсідай перакрыты агульным цыліндрычным скляпеннем з аркамі, аздобленымі арнаментальнай размалёўкай. Бакавыя нефы маюць плоскую падшыўную столь. Тры разныя алтары дэкарыраваны паліхромнай размалёўкай дэталей. Касцёл дзейнічае.

*Т. В. Габрусь.*

# Ю

**«ЮНАЦТВА»,** міжнародны турысцкі цэнтр Бел. маладзёжнага таварыства «Спадарожнік». Пабудаваны ў 1976 (арх. Ю. Шпіт, Э. Вішнеўская) на беразе Заслаўскага вадасховішча, за 25 км ад Мінска. Гасцінічны комплекс са шматлікімі памяшканнямі культ.-быт. абслугоўвання. 12-павярховы аб'ём гасцінічнага корпуса з камфартабельнымі нумарамі (на 626 чал.) узвышаецца над 1—2-павярховым прамавугольным у плане развітым стылабатам, дзе размешчаны вестыбюль, рэстаран, службовыя і дапаможныя памяшканні, б-ка, холы, звязаныя з кінаканцэртнай залай. Пластычная выразнасць фасадаў гасцінічнага корпуса дасягаецца рытмам вертыкальных і гарызантальных чляненняў. На вонкавай тарцовай сцяне аб'ёму кінаканцэртнай залы размешчана скульпт. кампазіцыя, прысвечаная гісторыі камсамола (каваная медзь, скульпт. М. Рыжанкоў, Б. Маркаў). У афармленні інтэр'ераў асн. памяшканняў выкарыстаны сродкі дэкар. мастацтва, арыгінальная мэбля (І. Харламаў, С. Бандалевіч). На тэр. цэнтра спарт. пляцоўкі, месцы для адпачынку, зроблены спускі да вады, пляжы, лодачная станцыя.

*А. А. Воінаў.*

**ЮРАВІЦКІ КАСЦЁЛ І КАЛЕГІУМ ЕЗУІТАЎ,** помнік архітэктуры позняга барока. Пабудаваны ў 1726—46 у цэнтры в. Юравічы (Калінкавіцкі р-н), на беразе р. Прыпяць



**Юравіцкі касцёл і калегіум езуітаў.** Рэшткі касцёла.

на месцы драўлянага кляштара, узведзенага ў 2-й пал. 17 ст. З 1778 тут дзейнічаў езуіцкі калегіум. У 1820 ён перададзены бернардзінскаму ордэну. Закрыты пасля паўстання 1863—64. Комплекс уключае касцёл і корпус калегіума, аб'яднаныя ў адзіную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю. Размешчаны на высокім узгорку, за высокай мураванай агароджай з уязной брамай (захаваліся паўд. і зах. сцены), абкружаны пладовым садам. Па вуглах агароджы і абапал брамы круглыя ў плане вежы з байніцамі. Касцёл — 3-нефавая мураваная базіліка з выцягнутай паўкруглай алтарнай апсідай і 2-вежавым галоўным фасадам, які падзелены на 3 ярусы развітымі антаблементамі, расчлянёны вязкамі пілястраў, крапаваны франтонамі. Разнастайныя нішы і вокны аздоблены складанымі прафілямі і лепкай. Бакавыя сцены расчлянёны спаранымі лапаткамі і неглыбокімі нішамі. Абапал алтара — 2-павярховыя сакрысціі. Да паўн. сакрысціі прылягае 2-светлавы калідор, які вядзе ў будынак калегіума. Пад касцёлам размешчана крыпта. Корпус калегіума — 2-павярховы П-падобны ў плане будынак. Яго сіметрычная аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя падкрэслена 2 трох'яруснымі вежамі на вуглах дваровага фасада. Сцены рытмічна расчлянёны пілястрамі, аконныя праёмы маюць фігурныя абрамленні. Планіроўка галерэйная з вял. залай у цэнтры. Перакрыцці абодвух паверхаў скляпеністыя. Касцёл збярогся часткова, не дзейнічае. Комплекс — помнік рэспубліканскага значэння.

*А. М. Кулагін.*

**ЮРЦАЎСКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры гістарызму. Размешчана на ўсх. ускраіне в. Юрцава (Аршанскі р-н), на правым беразе р. Скупея. Сфарміравана ў 2-й пал. 19 ст. ў фальварку Кацішын, які належаў К. Любамірскаму, пазней Я. Грабоўскаму. Уяўляла сабой вял. архіт. ансамбль з флігелямі, стайнямі, свірнам і інш., ад якога захаваліся цагляны сядзібны дом (замак) і фрагменты рэгулярнага парку. Сядзібны дом — вял. 2-павярховы прамавугольны ў плане будынак пад плоскім вальмавым дахам. Архітэктура вырашана ў



**Юрцаўская сядзіба.** З малюнка Н. Орды. 1877.



Міжнародны турысцкі цэнтр **«Юнацтва».**

інтэрпрэтаваных формах сярэдневяковага палацава-крапаснога дойлідства. Гал. фасад сіметрычнай 9-восевай кампазіцыі фланкіраваны глыбокімі рызалітамі з буйнымі вуглавымі пілонамі і вылучаны ў цэнтры ганкам. З двара фланкіраваны моцнымі 8-граннымі вежамі, якія былі завершаны зубчастымі парапетамі. Берагавы нахіл мясцовасці раскрывае цокальны паверх, члянёны аконнай аркатурай, 1-ы паверх з арачнымі вокнамі ў гатычных стральчатых нішах, 2-і — з прамавугольнымі вокнамі ў арачных нішах з клінападобнымі перамычкамі. Плоскасныя фасады будынка апяразаны прафіляваным карнізам з аркатурным фрызам — адзіным элементам архіт. дэкору. Планіроўка калідорная са скляпеністымі перакрыццямі памяшканняў цокальнага паверха. На кожным паверсе вуглавых вежаў размешчаны круглыя ў плане залы. Цяпер у сядзібным доме размешчаны Рэспубліканскі шпіталь інвалідаў Вял. Айч. вайны. *А. М. Кулагін.*

# Я

**ЯГЛЕВІЦКАЯ ЮР'ЕЎСКАЯ ЦАРКВА.** Пабудавана ў 1760 у цэнтры в. Яглевічы (Івацэвіцкі р-н). Трохзрубная пабудова. Да квадратнага ў плане асн. аб'ёму з У прылягаюць 5-гранная апсіда, з З — бабінец. Асн. аб'ём накрыты стромкім 2-схільным гонтавым дахам, да якога прымыкае шатровае пакрыццё апсіды, завершанае 6-гранным барабанам з галоўкай. Сцены зрубаў ашаляваны гарызантальна, верхняя і ніжняя часткі дэкарыраваны паясамі вертыкальнай шалёўкі. Вокны вялікія, прамавугольныя. Гал. фасад утварае прысадзістая званіца, падзеленая карнізам на 2 ярусы і завершаная 2-схільным пакрыццём. У інтэр'еры цэнтр. аб'ём звязаны з алтарным зрубам і бабінцам вял. праёмамі. Хоры — на 2-м ярусе бабінца. У 1986 царква згарэла, была помнікам рэспубліканскага значэння. *С. Ф. Самбук.*

**ЯЗВІНСКІ СВЯТАДУХАЎСКІ КАСЦЁЛ,** помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1750 у в. Язвіны (Драгічынскі р-н). Асн. квадратны ў плане аб'ём невял. уступам пераходзіць у паўкруглую апсіду, арыентаваную на У. Уся пабудова накрыта стромкім 2-схільным дахам, паўкруглым над алтарнай часткай. Сцяна гал. фасада завершана франтонам маляўнічага ўвагнута-выпуклага абрысу. Вось сіметрыі пабудовы падкрэслена праёмам увахода. Пры перабудове касцёла ў праваслаўны храм у сярэдзіне вільчыка даху зроблена цыбулепадобная галоўка на высокім васьмерыковым барабане. Пластыку архітэктуры ўзбагачаюць скругленыя вуглы будынка, лапаткі і нішы з ракавінамі на гал. фасадзе. Гал. памяшканне перакрыта цыліндрычным скляпеннем, апсіда — конхай. Будынак асветлены 4 лучковымі вокнамі і круглай люнетай у апсідзе. Касцёл не дзейнічае, у аварыйным стане. Помнік рэспубліканскага значэння. *Т. В. Габрусь.*



Яглевіцкая Юр'еўская царква.

**ЯНАВІЦКАЯ СЯДЗІБА,** помнік сядзібна-паркавай архітэктуры позняга класіцызму. Пабудавана ў 1-й пал. 19 ст. ў в. Янавічы (Клецкі р-н). Ансамбль уключае мураваны сядзібны дом, гасп. пабудовы і парк эканамічнага тыпу са ставам. Сядзібны дом — 1-павярховы прамавугольны ў плане аб'ём з вальмавым дахам (раней мансардавым). Цэнтр. частка гал. фасада вылучана лоджыяй з каланадай, дваровага — круглаватым эркерам. Пластычнасцю апрацоўкі вылучаюцца ліштвы прамавугольных анонных праёмаў і аздобленыя рустам вуглы будынка. У анфіладнай сіметрычна-восевай планіроўцы цэнтр. месца адведзена зале-ратондзе і вестыбюлю. Выкарыстоўваецца як жылы будынак. Ансамбль б. сядзібы — помнік рэспубліканскага значэння. *А. М. Кулагін.*

**ЯРОМІЦКАЯ МІХАЙЛАЎСКАЯ ЦАРКВА,** помнік архітэктуры драўлянага дойлідства. Пабудавана ў 1784 у в. Яромічы (Кобрынскі р-н). Царква 2-зрубная, складаецца з прамавугольных у плане асн. аб'ёму і апсіды, пакрытых агульным гонтавым дахам, які пры пераходзе ад асн. аб'ёму да алтарнай часткі ўтварае 3-вугольныя навісі. З У і Пд да алтара прылягаюць прырубы з аднасхільным пакрыццём. Сцяна гал. фасада завершана шчытом. Дах каля франтона ўвянчаны 8-граннай вежачкай. У бабінцы размешчаны хоры, якія падтрымліваюцца 2 слупамі. Царква не дзейнічае. Помнік рэспубліканскага значэння. *У. В. Алісейчык.*



**Янавіцкая сядзіба.** Галоўны фасад (чарцёж) сядзібнага дома.

# А



Абак.

**АБА́К,** абака (грэч. ábax, abakion, лац. abacus дошка, лічыльная дошка), плоская квадратная ў плане пліта, на якую апіраецца *антаблемент*; верхняя частка *капітэлі.* Як элемент класічнага архіт. *ордэра* з'явіўся ў Стараж. Грэцыі. У розных тыпах ордэра набываў своеасаблівую маст. апрацоўку: прафіляванне і арнаментыку ў выглядзе іонікаў у іанічным, ляпныя разеткі ў карынфскім і кампазітным ордэрах. Пашыраны ў манум. мураваных і драўляных палацавых і грамадзянскіх збудаваннях класіцызму.



1



2



3

Абалонкі: *1* — нулявой крывізны; *2* — станоўчай крывізны; *3* — адмоўнай крывізны.

**АБАЛО́НКА,** прасторавая танкасценная крывалінейная канструкцыя для перакрыцця будынкаў і збудаванняў з вял. пралётамі. Зарадзілася ў архітэктуры Стараж. Грэцыі і Рыма, Візантыі ў выглядзе купалоў. Сучасныя скляпенні-А. паводле формы бываюць станоўчай (сферычныя і эліптычныя), адмоўнай (гіпербалічныя) і нулявой (цыліндрычныя і канічныя) крывізны, паводле канструкцыі — жорсткія нетрансфармаваныя, якія працуюць на сціск, і мяккія пнеўмаапорныя, разлічаныя на расцяжэнне.



Абеліск.

**АБЕЛІ́СК** (грэч. obeliskos, літар. невялікі ражон), гранёны, звычайна квадратны ў сячэнні каменны слуп, шырэйшы ўнізе і пірамідальна завостраны ўверсе. Пашыраны від помнікаў і манументаў з часоў Стараж. Егіпта. Нярэдка А. ў выглядзе калон ставілі ў памяць аб значных грамадскіх падзеях. Форма А. выкарыстоўваецца ў мемарыялах (напр., шчыткі-пілоны, уласна А.), у помніках на ўшанаванне памяці і ўвекавечванне гераічных подзвігаў сав. народа ў барацьбе супраць ням.-фаш. захопнікаў.

**АБЛА́М,** забарол, невысокі бруствер у 3—7 вянкоў (каля 1,5 м) над абарончымі сценамі і вежамі драўляных замкаў Беларусі ў 16—17 ст. Служыў пагрудным прыкрыццём для абаронцаў. Меў выгляд вертыкальнай сценкі, якая апіралася на кансольныя выпускі бэлек *гарадзен, тарас* і вежаў і выступала за сцены ніжніх ярусаў. Па бэльках насцілаўся верхні баявы мост з *падсябіццямі.* Прарэзаны байніцамі А. завяршаўся дахам і ствараў крытую баявую галерэю. Крытыя А. існавалі ў *Віцебскіх замках.*



Аблам.

**АБЛО́МЫ АРХІТЭКТУ́РНЫЯ,** архітэктурныя элементы рознага папярочнага сячэння (профілю), размешчаныя па гарызанталі (на цокалях, у карнізах, міжпаверхавых паясах ці цягах, базах калон), радзей па нахіленай (у карнізах франтонаў), крывой (у архівольтах арак, на нервюрах) ці ламанай (абрамленні парталаў, акон) лініі. Найбольш пашыраны ў ордэрнай архітэктуры (гл. *Ордэр*). Паводле профілю падзяляюцца на прамалінейныя (палічка) і крывалінейныя (вал, гусёк, абцасік і інш.). Узніклі ў класічнай архітэктуры Стараж. Грэцыі, адкуль запазычаны дойлідствам Стараж. Рыма і Візантыі, пасля — Зах. Еўропы. У сучаснай архітэктуры А. а. адпавядаюць профілі архітэктурныя.





















**Абломы архітэктурныя:** *1* — палічка; *2* — вал; *3* — «ястрабіная дзюба»; *4* — кіматый (*а* — прамы, *б* — адваротны); *5* — абцасік (*а* — прамы, *б* — адваротны); *6* — выкружка (*а* — поўная, *б* — чацвяртная); *7* — астрагал; *8* — скоцыя.

**АБМЕ́Р АРХІТЭКТУ́РНЫ,** дакладнае вымярэнне ўсіх элементаў архіт. збудавання ці комплексу з наступнай фіксацыяй іх памераў на чарцяжы. Адна з асн. крыніц для рэстаўрацыі ці ўзнаўлення твораў архітэктуры; важны матэрыял для аналізу заканамернасцей пабудовы архіт. формы. Поўны А. а. складаецца з геадэзічнага плана тэрыторыі помніка, чарцяжоў усіх фасадаў, планаў усіх паверхаў, характэрных разрэзаў і дэталей.

**АБО́РА,** гаспадарчая пабудова для ўтрымання кароў. На Беларусі будавалі з бярвення, брусоў, дыляў «у вянок» і «заметам у шулы», з плеценымі з лазовых дубцоў сценамі, накрывалі часцей саломай. У заможных гаспадарках сялян А.— вял. *хлеў.* У фальварках А. будавалі звычайна на 4—8 памяшканняў з асобнымі варотамі ў кожным, згрупаваных вакол





**Абора** былой сядзібы ў в. Бранчыцы Салігорскага раёна. Агульны выгляд і план.

прамавугольнага ў плане двара і звязаных адно з адным у суцэльную забудову.

**АБРАМЛЕ́ННЕ,** упрыгожанне дзвярных, аконных праёмаў, ніш і інш. архіт. элементаў фасадаў і інтэр'ераў будынкаў. Падкрэслівае гал. элементы кампазіцыі будынкаў, узмацняючы іх рытміку, кантраст з гладкай паверхняй сцен. У А. акон і дзвярэй драўляных збудаванняў пашыраны *ліштвы*, вушакі; у муранай архітэктуры праёмы дэкарыраваны *філёнгамі, сандрыкамі* або *архівольтамі* арачных ці лучковых завяршэнняў. Дзвярныя праёмы часам рабілі ў выглядзе *парталаў*. Нішы завяршалі *конхамі, аркамі*.

**АБРЫ́С** (ням. Abriß), назва чарцяжа плана збудавання ў 17 — 1-й палове 18 ст.; схематычная лінейная выява плана будынка без паказу канструкцый, таўшчынь сцен і інш. Даваў толькі агульнае ўяўленне пра схему планіроўкі збудавання, размяшчэнне дзвярных і аконных праёмаў. У 2-й палове 18 ст. заменены архіт. *праектам*, дзе выкарыстоўваліся планы, фасады, разрэзы і інш., якія давалі наглядное ўяўленне пра архітэктуру будынка.

**АДРАДЖЭ́ННЕ,** Рэнесанс, эпоха ў культурным і ідэйным развіцці краін Зах. і Цэнтр. Еўропы (14—16 ст.), пераходная ад сярэдневяковай культуры да культуры новага часу. Асн. адметныя рысы культуры А.— антыфеадальны, свецкі характар, гуманістычны светапогляд, зварот да антычнай культурнай спадчыны, як бы яе «адраджэнне» (адсюль і назва). Рэнесансавы стыль архітэктуры вызначаўся яснасцю, лагічнасцю, прапарцыянальнасцю, суразмернасцю чалавеку. Распрацоўваліся і ажыццяўляліся прынцыпы рэгулярнай забудовы гарадоў, у якіх, акрамя культавых, значнае месца займалі свецкія збудаванні, узводзіліся ратушы, палацы, шпіталі, дамы цэхавых брацтваў і інш. Шырока практыкавалася ансамблевая забудова, будынкі планаваліся з улікам навакольнага асяроддзя. Цэнтрам кампазіцыі горада стала гандл. плошча з ратушай і крамамі. Замак як абарончы комплекс траціў сваю ролю і нярэдка будаваўся ў перыферычнай частцы горада. На перыферыю выносіліся і абарончыя збудаванні, якія ўдасканальваліся на аснове сістэмы бастыённай фартыфікацыі. Развівалася свецкая і культавая архітэктура, якая таксама траціла суровыя абарончыя рысы. Пад уплывам А. строгія вуглаватыя гатычныя формы паступова згладжваліся, набывалі багаты пластычна насычаны дэкор, шырока выкарыстоўваліся архітэктурныя *ордэры*. Паявіліся адкрытыя парадныя палацавыя кампазіцыі, аформленыя аркаднымі галерэямі. У культавай архітэктуры пашыраны цэнтрычны храм тыпу *ратонды* з купальным завяршэннем, атыкамі і інш. Храмы з традыцыйнай базілікальнай структурай, якія звычайна мелі абарончую вежу на гал. фасадзе, атрымалі багатую пластыку фасадаў у выглядзе рустоўкі, аркатуры і іншых элементаў аздобы. Інтэр'ер узбагачаўся разнымі алтарнымі кампазіцыямі, скляпенні некаторых храмаў аздаблялі ляпнымі нервюрамі.



**Адраджэнне.** Аркада рэнесансавага палаца.

**АДРЫ́НА,** пуня, старадаўняя гасп. пабудова для захавання неабмалочанай збажыны, сена, саломы, с.-г. інвентару. Звычайна прамавугольны ў плане зрубны, каркасны («замётам у шулы» і з плятня) будынак, накрыты 2-схільнай ці вальмавай страхой на «сохах», «дзядках», кроквах. У маёнтках 16—19 ст. існавалі вял. доўгія А., перагароджаныя ўнутры на некалькі адсекаў, кожны з якіх меў самастойны ўваход. Уваходзілі ў гасп. комплекс бел. сядзібы. Найбольш пашыраны ў зах. і цэнтр. Беларусі, ва ўсх. раёнах часцей наз. сянніцамі, пунямі.

**АКА́НТ** (франц. acanthe ад грэч. akantha) у архітэктуры, арнаментальна-дэкар. элемент аздаблення фасадаў і інтэр'ераў будынкаў і збудаванняў у выглядзе ліста аканта (расліна, пашыраная ў Сярэдземнамор'і). Вядомы ў антычнай і заходне-еўрапейскай архітэктуры рэнесансу, барока, класіцызму. Арнамент з асобных зубчастых лістоў А. аздабляў кансолі і



Матыў **аканта** ў аздабленні інтэр'ера касцёла ў в. Міхалішкі Астравецкага раёна.

дэнтыкулы, з сабраных у пучок у форме чашы — карынфскія і кампазітныя капітэлі; бягучы бесперапынны арнамент з А. выкарыстоўваўся ў фрызах, спіралепадобны — у круглых разетках і медальёнах.

**АКНО́,** канструкцыйна-маст. элемент запаўнення праёма, што служыць для асвятлення, інсаляцыі, натуральнай вентыляцыі будынка. Асн. формы прамавугольныя, лучковыя, арачныя, складаныя. Найбольш архаічныя — адтуліна ў 2 сумежных вянках драўлянай сцяны і валаковае (зачынялася звонку драўлянай засаўкай — волакам). З 12—13 ст. у дамах феадалаў і заможных гараджан былі пашыраны вокны з вушакамі і зашклёнымі рамамі драўлянымі або алавянымі, пераплётамі, аздобленымі разнымі *ліштвамі* і аканіцамі. У 16—18 ст. у вясковых дамах замест шкла нярэдка выкарыстоўвалі слюду, прамочаную алеем ці смоламі паперу, пергамент, палатно, якія часам размалёўвалі пад вітражы. У архітэктуры готыкі былі пашыраны вокны са спічастым завяршэннем, у архітэктуры рэнесансу, барока, класіцызму — прамавугольныя, лучковыя, арачныя, паўцыркульныя, падковападобныя, крыжовыя, у выглядзе разеткі або картуша, круглыя, авальныя і інш., якія аздабляліся філянговымі абрамленнямі, рустам, стылізаванымі порцікамі, завяршаліся франтонамі, сандрыкамі і інш.




Схемы **акон:** *1* — «валаковае»; *2* — прамавугольнае; *3* — квадратнае; *4* — рамбічнае; *5* — «картушовае»; *6* — круглае; *7* — прамавугольнае з трохгранным завяршэннем; *8* — прамавугольнае са спічастым завяршэннем; *9* — прамавугольнае з паўцыркульным завяршэннем; *10* — «венецыянскае»; *11* — спараныя вокны.

**АКРАТЭ́РЫЙ** (ад грэч. akrotḗrion вяршыня, франтон), скульптурны элемент архіт. дэкору у выглядзе стылізаваных лістоў аканта, пальмет, трыножнікаў, чалавечых фігур, валют, ваз, абеліскаў і інш. Выкарыстоўваўся для завяршэння вуглоў франтонаў, фланкіравання атыкаў, карнізаў, дахаў, ліштваў. Узнік у антычнасці, у розныя эпохі набываў своеасаблівую трактоўку: квіятон (готыка), пальмета (рэнесанс), валюты, дынамічныя арнаментальныя кампазіцыі (барока), абеліскі, чалавечыя фігуры, грыфоны, ваенныя атрыбуты (класіцызм) і інш.



**Акратэрыі.**

**АКСАНАМЕ́ТРЫЯ** (грэч. áxōn вось + metréō вымяраю) у архітэктуры, раўналежная перспектыва, заснаваная на метадзе паралельных праекцый. Грунтуецца на 3 узаемна перпендыкулярных восях, кожная з якіх мае свой маштаб. Найчасцей выкарыстоўваюць суадносіны даўжынь восей 1:1:1 (ізаметрыя) і 0,5:1:1 (дыяметрыя). А. шырока выкарыстоўваецца ў архіт. праектах і чарцяжах існуючых будынкаў, комплексаў, ансамбляў для нагляднага паказу іх структуры, асабліва ў тым выпадку, калі генпланы, планы, фасады і разрэзы не даюць поўнага ўяўлення аб іх архіт.-прасторавай арганізацыі. Нярэдка А. агульнага выгляду пабудоў сумяшчаецца з іх *разрэзам*, што ўдакладняе структуру ў цэлым.



**Аксанаметрыя.**

**АЛТА́Р** (лац. altaria ад altus высокі), ахвярнік, а таксама найважнейшая частка хрысціянскага храма. Першапачаткова — месца для ахвяraпрынашэнняў пад адкрытым небам у Стараж. Грэцыі і Рыме — асобныя збудаванні; у каталіцкіх храмах — дэкар. сценкі, афармленыя скульптурай, жывапісам, творамі дэкар.-прыкладнога мастацтва, у праваслаўных — сталы («прастолы») для выканання таінства. Звычайна А. ставіліся ў тарцовай (алтарнай) частцы храма або ў *апсідзе*. Акрамя гал. А., які завяршаў прастору гал. нефа і аддзяляўся ад яго *іканастасам* (у праваслаўных і некаторых уніяцкіх храмах) або алтарнай перагародкай (пераважна ў касцёлах), існавалі бакавыя А., што ставіліся ў бакавых апсідах ці капліцах, прыбудаваных да храма ці ўключаных у яго інтэр'ер, а таксама пры сценах гал. і бакавых нефаў.



**Алтар.**

**АЛЬКЕ́Ж** (польск. alkierz), 1) у сядзібных дамах 16—19 ст. памяшканне звычайна каля гал. жылога пакоя, якое выкарыстоўвалася як камора, кабінет, спальня. 2) У сядзібных дамах 17—20 ст. — кутняя адасобленая частка будынка, якая знадворку выступае за плоскасць сцен. З'явілася пад уплывам замкавага дойлідства. Часам А. былі самастойнымі вежападобнымі аб'ёмамі, накрытымі асобнымі шатровымі, вальмавымі ці 2-схільнымі дахамі. У 18 — пач. 20 ст. часам мелі выгляд



Жылы дом сядзібнага тыпу з **алькежамі.**

*рызалітаў*, не вылучаных асобнымі пакрыццямі, што надавала будынкам барочную П-падобную ў плане кампазіцыю. У 2-й палове 18—19 ст. А. развіваліся ў злучаныя з домам *флігелі*.

**АЛЬПІНА́РЫЙ** (ад Альпы), камяністы сад, участак у батанічным садзе, скверы або парку, створаны для вырошчвання горных (альпійскіх) раслін ва ўмовах, набліжаных да натуральных (дэкар. А. называецца таксама рыкарыем). У батанічных садах А. звычайна ствараюць у навук. мэтах на штучных узгорках, дзе экспануюцца расліны пэўных горных раёнаў. Дэкаратыўнасць дасягаецца рознымі суадносінамі камянёў і раслін, падабраных у залежнасці ад кліматычнага пояса і цвіцення па сезонах.

**АЛЬТА́НКА**, альтана (італьян. altana), драўляная ці мураваная дэкар. пабудова каркаснай (слупавой) канструкцыі, для адпачынку, ахо-вы ад сонца і ападкаў. Звычайна размяшчаецца ў маляўнічых кутках вадаёмаў, уздоўж дарог, у дварах жылых дамоў, школ, дзіцячых садоў, зялёных зонах кварталаў, мікраараёнаў і г. д. Найчасцей выраша́ліся ў выглядзе *ратонды* ў пейзажных і рэгулярных парках стыляў барока і класіцызму. У мураваных А. стылю класіцызму выкарыстоўваліся шмат'ярусныя ордэрныя кампазіцыі.

**АМБО́Н** (ад грэч. ámbōn узвышэнне), казальніца, пульпіт, узвышанае і багата аздобленае месца ў храме (трыбуна ці кафедра) для чытання свяшчэнных тэкстаў і прамаўлення казанняў. У сінагогах вядомы пад назвай *біма*, у мячэцях — мінбар. Паводле легенды, сімвалізуе Ноеў каўчэг (А. ў выглядзе ладдзі пашырыліся ў 17—18 ст.). Выконваліся з каменю, дрэва, металу, багата дэкарыраваліся натуральным мармурам або *стука*. Існавалі А. двух тыпаў — на апоры і кансольныя. У ранні перыяд ўстанаўліваліся перад алтаром каля балюстрады, што аддзяляла хоры ад нефа, мелі форму трыбун з парапетам. Пачынаючы з сярэднявечча, А. ўстанаўлівалі каля першага (ад *прэсбітэрыя*) левага міжнефавага ці цэнтр. слупа, у аднанефавых храмах — на сцяне. У эпоху Адраджэння мелі пераважна круглаватую або гранёную форму. На А. збоку алтара вяла вузкая лесвіца (звычайна схаваная з франтальнага боку).








**Альтанкі.**

**АМБРАЗУ́РА** (ад франц. embrasure байніца), прамавугольная арачная або круглая адтуліна ў сценах і земляных валах абарончых збудаванняў раструбам вонкі для вядзення агню з гармат ці стралковай зброі і для назірання за ворагам. На Беларусі вядомы з 16 ст. А., прызначаная да вядзення агню толькі са стралковай зброі, называлася *байніцай*.



**Амбразура.**

**АМПІ́Р** (ад франц. empire імперыя), архітэктурны стыль позняга класіцызму 1-й трэці 19 ст., які завяршыў развіццё французскага *класіцызму*; элементы яго захоўваліся да пач. 20 ст. Зарадзіўся ў Францыі ў пач. 19 ст. Як і класіцызм, арыентаваўся на ўзоры антычнага мастацтва Грэцыі і Рыма, аднак характэрныя для класіцызму 2-й пал. 18 ст. пошукі зграбнай простай формы і дэкору пастуова змяніліся імкненнем да іх гранічнай параднасці і пышнасці, манум. выразнасці. У перыяд імперыі Напалеона I (1804—15) пашырылася буд-ва мемарыяльных манум. збудаванняў: *арак трыумфальных*, памятных калон і інш. Асн. элементамі архіт. кампазіцыі былі масіўныя *порцікі* (найчасцей дарычнага і тасканскага ордэраў), у архіт. дэталях і дэкоры з іх імкненнем да пампезнасці пераважала ваенная эмблематыка (ліктарскія звязкі, воінскія даспехі, лаўровыя вянкі, арлы і інш.). А. увабраў у сябе і асобныя стараж.-егіпецкія архіт. і пластычныя матывы (вял. нерасчлянёныя плоскасці сцен і пілонаў, масіўныя геаметрычныя аб'ёмы, егіпецкі арнамент, стылізаваныя сфінксы, львы, гермы, грыфоны).



**Ампір.** Будынак біржы ў Пецярбургу. Галоўны фасад. 1805—10. Архітэктар Тама дэ Тамон.

**АНА́ЛІЗ АРХІТЭКТУ́РНЫ**, даследаванне аб'ектаў архітэктуры з мэтай выяўлення і ацэнкі іх функцыянальна-тэхн., эканамічных, эстэтычных якасцей, вызначэння асобных архіт. стыляў, кірункаў і шляхоў развіцця архітэктуры ў цэлым. Праводзіцца аналіз: архітэктуры як грамадскай

з'явы, буйных горадабудаўнічых, асобных будынкаў, збудаванняў, комплексаў і ансамбляў. Аналіз асобных будынкаў, збудаванняў, комплексаў праводзіцца з мэтай выяўлення іх горадаўтваральнай ролі ў структуры населенага пункта, узаемасувязі з навакольным асяроддзем, функцыян. арганізацыі прасторы, канструкцыйна-тэхнічнага і планіровачнага вырашэння, аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, сродкаў архіт.-маст. выразнасці і інш. Пры вывучэнні старадаўніх арх. помнікаў важна ўстанавіць аўтарства, аднесці да пэўнай арх. школы, кірунку, стылю.

**АНСА́МБЛЬ** (ад франц. ensemble літар. разам, адразу), гарманічнае адзінства прасторавай кампазіцыі будынкаў, інж. збудаванняў, адкрытых прастораў, манум. жывапісу, скульптуры і зялёных насаджэнняў. Ансамблевасць забудовы дасягаецца цэласнасцю прасторавага вырашэння горадабудаўнічага комплексу, адзінствам маштаба, рытму і модуля збудаванняў, што фарміруюць А. Немалаважнае значэнне маюць натуральныя ўмовы мясцовасці (рэльеф, вадаёмы і інш.). У кампазіцыі А. адрозніваюць глыбінна-прасторавую (восевую) будову перспектывы (уздоўж выцягнутай плошчы, вуліцы і інш.), замкнёную ці паўзамкнёную прастору, абмежаваную забудовай ці зялёнымі насаджэннямі (гарадскія і паркавыя плошчы, унутрыквартальныя прасторы і інш.), жывапісную (пераважна ў пейзажных парках і зялёных зонах). У стварэнні А. актыўна выкарыстоўваюцца сіметрыя, асіметрыя, маштаб, прапорцыі, кантраст, нюанс і інш. сродкі архіт. выразнасці. Для ўзмацнення эмацыянальнага ўздзеяння, больш глыбокага раскрыцця ідэйна-вобразнай сутнасці А. ў яго кампазіцыю часта ўключаюць творы розных відаў мастацтва — выяўленчага, манументальнага, дэкаратыўнага і інш.

**АНТА́БА** (ад ням. Handhabe ручка, рукаятка), металічнае кальцо, якое прымацоўвалася да варот сядзіб, дзвярэй дамоў, дзверцаў шаф, куфраў і служыла ручкай. У брамах палацава-замкавых ансамбляў А. трымалі драўляны запор. Некаторыя па-мастацку аздобленыя А. маюць выгляд галавы льва з абручом у пашчы. Такія выявы рабілі не толькі з металу, але і з дрэва, каменю і тынку.



Антаба.

**АНТАБЛЕМЕ́НТ** (франц. entablement ад table стол, дошка), верхняя частка збудавання, якая падтрымліваецца калонамі, пілястрамі або завяршае сцяну; састаўны элемент класічнага архіт. *ордэра.* Падзяляецца на *архітраў, фрыз* і *карніз.* Бывае няпоўны А. без фрыза. Узнік на аснове драўлянага бэлечнага перакрыцця, у сваіх формах адлюстроўвае яго структуру. Сфарміраваўся ў класічных ордэрах манум. мураванай архітэктуры Старaж. Грэцыі і Рыма, дзе былі выпрацаваны яго прапорцыі. А. быў таксама адным з важнейшых элементаў паяруснага чляненне алтароў і іканастасаў.



Антаблемент.

**А́НТЫ** (лац. antae), выступы падоўжных сцен будынка, якія агароджваюць уваход. Найбольш часта сустракаюцца ў старaж.-грэчаскіх храмах, тып якіх атрымаў назву «храм у антах».



Анты.

**АНТЫКА́МЕРА** (італьян. anticamera), пакой у палацах 16—18 ст., чакальня для шляхты і прыслугі, часта памяшканне для шматмэтавага выкарыстання (сталовая, зала і г. д.). У беларускіх палацах 17—18 ст. злучала прыхожую з жылой групай, кабінетамі і інш.

**АНФІЛА́ДА** (франц. enfilade ад enfiler нанізваць на нітку), шэраг паслядоўна прылеглых адно да аднаго памяшканняў, дзвярныя праёмы якіх размешчаны на адной восі, таму пры адчыненых дзвярах ствараецца скразная перспектыва ўсіх інтэр'ераў, звязаных у адзіную архіт.-пластычную сістэму. Анфіладная планіроўка ўзнікла ў Старaж. Егіпце. У яе аснове — прынцып стварэння пышна аздобленых інтэр'ераў з эфектам бясконцасці, глыбокай перспектывы архіт. прасторы. Анфіладная планіроўка выкарыстоўваецца ў буйных грамадзянскіх пабудовах, пераважна ў музейных і выставачных. А. называюць таксама шэраг прасторава раскрытых адна да адной плошчаў, якія

ўтвараюць сістэму архіт. *ансамбляў*.

**АПАРТАМЕ́НТЫ** (ад франц. appartement кватэра), група жылых і дапаможных пакояў, звычайна на адным паверсе, вылучаных у адзін комплекс для пражывання пэўнай асобы. Пашырыліся ў 16 ст. ў палацах Францыі і Італіі, уключалі прыхожую, спальню, гардэроб, кабінет або будуар, парадную залу і інш. На Беларусі А. вядомы ў магнацкіх рэзідэнцыях 17—18 ст., у іх адасаблялася група жылых і парадных пакояў уладара палаца ад іншых памяшканняў. У 19—20 ст. прынцып стварэння асобных А. выявіўся ў секцыйных, блакіраваных і інш. дамах.



Апсіды: *1* — старажытна-рымская; *2* — раннехрысціянская; *3, 4* — рэнесансавая.

**АПСІ́ДА,** абсіда [ад грэч. hapsis (hapsidos) скляпенне], канструкцыйна самастойная частка культавай пабудовы; квадратны, прамавугольны, шматвугольны, паўкруглы ў плане выступ будынка, які замыкае прастору *нефа* або *трансепта*. Функцыянальная роль А.— размяшчэнне ў ёй *алтара*, кліру, месцаў для вышэйшых духоўных і свецкіх асоб, культавых рэліквій і г. д. У каталіцкіх храмах дапаўнялася *прэсбітэрыем*. А. ўпершыню паявіліся ў старажытнарымскіх *базіліках*, адкуль перайшлі ў хрысціянскія храмы.



Арабескі.

**АРАБЕ́СКІ** (ад франц. arabesques літар. арабскі), складаны, насычаны арнамент, заснаваны на мудрагелістым перапляценні геаметрычных і стылізаваных раслінных матываў; часам уключае і надпісы. Развіўся ў пластычных мастацтвах арабскіх краін. У эпоху Адраджэння ў Еўропе А. наз. ўсякі арнамент, які складаўся з пераплеценых ліній, стужак ці галінак.

**АРГАНІ́ЧНАЯ АРХІТЭКТУ́РА,** творчы кірунак у архітэктуры, у аснове якога ляжыць прынцып падпарадкавання формы архіт. твора яго зместу. Узнікла ў 1-й палове 20 ст. як рэакцыя супраць акадэмізму, *рацыяналізму* і эклектыкі канца 19 — пач. 20 ст. Ідэі А. а. закладзены ў 1890-я г. амерыканскім арх. Л. Салівенам, развіты ў тэорыі і практыцы буд-ва яго вучнем Ф. Л. Райтам. Канцэпцыі А. а. зыходзяць з цеснай сувязі архітэктуры з прыродай, грунтуюцца на бесперапыннасці архіт. прасторы, на праектаванні «з сярэдзіны — да навакольнага асяроддзя», на рацыянальным выкарыстанні якасцей будаўнічых матэрыялаў, увядзенні элементаў нар. творчасці; сама функцыя будынка не абмяжоўвалася тэхналагічным і фізіялагічным фактарамі, а ўключала і эстэтычны, таму архіт. твор уяўляў сабой цэласны арганізм. Найбольш пашырылася ў 1930—50-я г. (асабнякі, вілы і інш.). З прычыны арыентацыі на буд-ва па індывідуальных праектах, адмаўлення ад стандартызацыі і індустрыялізацыі А. а. не зрабіла значнага ўплыву на развіццё сучаснай архітэктуры, аднак пад яе ўздзеяннем у шэрагу краін вырасла цікавасць да мясцовых архіт. традыцый і нар. дойлідства.



**«Арганічная архітэктура».** Дом над вадаспадам. Архітэктар Л. Ф. Райт. 1936—37.

**А́РКА** (ад лац. arcus дуга, выгін), крывалінейнае перакрыцце праёма ў сцяне ці прасторы паміж 2 апорамі — слупамі, калонамі, пілонамі і г. д. Выконваецца з каменю, цэглы, жалезабетону, металу, дрэва. Па форме адрозніваюць А. паўкруглыя, ці паўцыркульныя (найбольш пашыраны від), спічастыя (характэрны для архітэктуры готыкі), падковападобныя (пашыраны ў архітэктуры арабскіх краін), кілепадобныя (у выглядзе *какошніка*), шматлопасцевыя, паўзучыя (з апорамі на рознай вышыні) і інш. Бываюць А. дэкаратыўныя (несапраўдныя А. з цэглы, тынку або стука, якія аздабляюць паверхню сцяны) і канструкцыйныя. Упершыню А. (каменныя) з'явіліся ў архітэктуры Стараж. Усходу. Атрымалі пашырэнне ў архітэктуры антычнага Рыма і сталі найважнейшымі архіт.-канструкцыйнымі і дэкар. элементамі ў архітэктуры рэнесансу, барока, класіцызму. У сучасным буд-ве А. выкарыстоўваюцца як нясучыя элементы пакрыцця будынкаў пралётных збудаванняў, мастоў, пуцеправодаў. Крацістыя арачныя канструкцыі з металу ці дрэва наз. арачнымі фермамі.



Аркі: *1* — паўцыркульная; *2* — з замковым каменем; *3* — спічастая; *4* — трохлопасцевая.

**А́РКА ТРЫУМФА́ЛЬНАЯ,** трыумфальныя вароты, часовае або пастаяннае афармленне праезда ці ўрачыстае збудаванне ў гонар



Арка трыумфальная.



Аркада.



Аркатура.



Аркбутан.

ваенных перамог і знамянальных падзей. Маюць 1- і 3-пралётныя манум. арачныя пралёты, перакрытыя паўцыліндрычнымі скляпеннямі, насычаны архіт.-пластычны дэкор, завяршаюцца *антаблементамі* і *атыкамі*, аздабляюцца статуямі, рэльефамі, памятнымі надпісамі і г. д. Узніклі ў Стараж. Рыме для цырымоніі ўезду пераможцаў. У Расіі А. т. будавалі ў гонар ваенных перамог, на Беларусі часовыя драўляныя А. т. будавалі ў 18 — пач. 19 ст. магнатамі для святочных урачыстасцей.

**АРКА́ДА** (франц. arcade), шэраг аднолькавых па велічыні і абрысах *арак*, якія апіраюцца на слупы або калоны і ствараюць разам з імі рытмічны паслядоўны рад. Бываюць канструкцыйныя (успрымаюць нагрузку верхніх частак будынкаў і збудаванняў) і дэкаратыўныя (стаяць асобна або ўтвараюць «сляпыя» аркады). А. з'явіліся ў архітэктуры Стараж. Рыма. Пашырыліся з 16 ст. ў архітэктуры рэнесансу, барока, класіцызму ў адкрытых *галерэях* гандл. радоў, палацаў, гасп. пабудоў, а таксама як дэкар. элемент — *аркатура*.

**АРКАТУ́РА** (ням. Arkatur), рытмічны рад дэкар. несапраўдных арак на фасадах будынкаў або на сценах ўнутры памяшканняў. Звычайна выконвае ролю *фрыза*, зрэдку дапоўненага кансолямі, паўкалонкамі, лапаткамі. Узнікла ў раманскай архітэктуры (10—13 ст.).

**АРКБУТА́Н** (франц. arc-boutant), адкрытая вонкавая паўарка. Перадае распор сцяны гал. нефа базілікальнага храма на *контрфорсы*, размешчаныя за межамі асн. аб'ёму будынка. Сістэма А. і асобна стаячых контрфорсаў давала магчымасць аблегчыць канструкцыю сцен, рабіць іх больш тонкімі, расчляніць вял. аконнымі праёмамі, павялічыць пралёт гал. нефа і паменшыць сячэнне слупоў, якія ўспрымаюць нагрузку скляпенняў, што рабіла інтэр'ер больш прасторным. Акрамя канструкцыйнай, А. адыгрываюць значную дэкар. ролю ў архітэктуры будынка, ствараючы актыўны рытм яго бакавых фасадаў. А. з'явіліся ў мураванай архітэктуры заходнееўрапейскай готыкі з 11 ст.

**АРНА́МЕНТ** (ад лац. ornamentum упрыгожанне), узор з рытмічна ўпарадкаваных элементаў для аздаблення архіт. збудаванняў. А. выяўляе *архітэктоніку* збудаванняў, падкрэслівае асобныя чляненні, вылучае галоўныя, найбольш значныя ў кампазіцыі часткі, важныя канструкцыйныя элементы і архіт. дэталі, узмацняе рытм будынкаў, ставарае кантраст і нюанс; цесна звязаны з канструкцыяй, якая дэкарыруецца, матэрыялам, формай, колерам, фактурай. У мураванай архітэктуры А. часцей геаметрычны; выкарыстоўваецца таксама раслінны, зааморфны, антрапаморфны. У драўляным дойлідстве А. ствараецца пераважна скразной, краявой і глухой разьбой, выкарыстоўваецца ў аздабленні ліштваў, фрызаў, карнізаў, шчытоў, верандаў, варот і інш. Найбольш важныя элементы А. часам вылучаюць яркімі колерамі. Традыцыйныя элементы А. творча выкарыстоўваюцца ў апрацоўцы фасадаў і інтэр'ераў грамадскіх будынкаў.

**АРСЕНА́Л** (франц. arsenal, італьян. arsenale ад араб. дар ас-сінаа майстэрня), ц э й х г а у з, будынак, прызначаны для захавання ваеннай зброі і боепрыпасаў, часткова для іх вырабу і рамонту. На Беларусі ўзводзіліся пры буйных замках, абарончых вузлах гарадоў. Гэта былі вял. мураваныя або драўляныя звычайна 1-павярховыя будынкі; у іх вылучаліся памяшканні, дзе захоўваліся гарматы, ручныя стрэльбы, халодная зброя, запасы пораху, ядраў, куль і г. д., неабходныя для абароны замка і горада. У 17—18 ст. А. існавалі ў Слуцку, Крычаве і інш. гарадах.

**АРХЕАЛО́ГІЯ АРХІТЭКТУ́РЫ** (грэч. archáios старажытны + lógos слова, вучэнне), галіна археалогіі, якая вывучае рэшткі загінуўшых або значна перарobленых помнікаў архітэктуры і на аснове атрыманых звестак аднаўляе планы і па магчымасці рэканструюе фасады і асн. аб'ёмы помнікаў у цэлым. У канцы 18 — пач. 19 ст. манументальную архітэктуру вывучалі гісторыкі, архітэктары і мастацтвазнаўцы, археал. даследаванні мелі дапаможны харак-

тар. Навуковыя археал. даследаванні архіт. помнікаў пачаліся ў 1820—40-я гады ў Зах. Еўропе, у канцы 19 — пач. 20 ст.— у Расіі. У 1930—40-я гады вылучылася ў самастойную галіну археалогіі. У пасляваен. гады распрацавана методыка археал. вывучэння архіт. помнікаў, праводзіцца іх сумеснае даследаванне археолагамі, архітэктарамі-рэстаўратарамі, гісторыкамі архітэктуры і мастацтвазнаўцамі. Вучоныя звяртаюць вял. ўвагу на вывучэнне буд. матэрыялаў і іншых археал. знаходак, якія дазваляюць дакладна вызначыць час асн. перабудоў помніка. На Беларусі першыя археал. даследаванні архіт. помніка праведзены ў канцы 18 ст., калі ў Полацку невядомы даследчык раскапаў падмуркі храма-трыконха Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра 12 ст.



Архівольты.

**АРХІВО́ЛЬТ** (італьян. archivolto ад лац. arcus volutus абрамляльная дуга), архіт.-дэкар. элемент аздаблення арачнага праёма. Вылучае контур аркі з плоскасці сцяны. Выконваецца з клінавых камянёў, тынку, стука. Мае прафіляваную з выкарыстаннем розных па малюнку *абломаў архітэктурных* або арнаментаваную разьбой, рустам, лепкай паверхню. А., які самастойна выступае на плоскасці сцяны і не звязаны з праёмам, называецца «сляпой» аркай. А. паявіліся з развіццём арачных канструкцый у Стараж. Рыме і Візантыі.



Архітраў.

**АРХІТРА́Ў** (ад грэч. archi старэйшы, галоўны + лац. trabs бэлька), бэлька, якая апіраецца на капітэлі калон і пілястраў, слупы, інш. апоры і нясе *фрыз* і *карніз*; ніжняя частка *антаблемента.* Узнік з фарміраваннем стоечна-бэлечнай канструкцыі ў архітэктуры Стараж. Грэцыі; выконваў ролю канструкцыйнага нясучага элемента, на які клаліся бэлькі перакрыцця. З развіццём антычнай ордэрнай сістэмы паявіліся розныя варыянты А.: у выглядзе гладкай бэлькі ў дарычным і тасканскім, з 3 невял. гарызантальнымі ўступамі (фасцыямі) у іанічным і карынфскім ордэрах.

**АРХІТЭКТО́НІКА** (ад грэч. architektonikē будаўнічае мастацтва), мастацкае выяўленне заканамернасцей будовы, уласцівых канструкцыйнай сістэме будынка. Выяўляецца праз узаемасувязь і ўзаемаразмяшчэнне несучых і нясёных частак, рытмічным строем форм, які робіць нагляднымі напружанні канструкцыі, часткова прапорцыямі, колерам і інш. Выяўляецца ў суразмернасці, супадпарадкаванасці, прапарцыянальнасці, маштабнасці, рытмічнасці ўсіх элементаў будынкаў і збудаванняў. Садзейнічае цэласнаму эстэтычнаму ўспрыняццю архіт. твора, у якім арганічна спалучаюцца яго лагічная функцыянальна-канструкцыйная аснова, кампазіцыя, архіт. дэкор. і інш. Метады выяўлення тэктанічнасці архіт.-маст. формы залежаць ад маст. традыцый, будаўнічай тэхнікі, матэрыялаў і канструкцый. Адпаведнасць архіт.-маст. формы яе матэрыяльна-канструкцыйнай аснове выяўляецца непасрэдна праз вылучэнне канструкцый як асн. формаўтваральных элементаў архітэктуры або апасродкавана, калі канструкцыйная аснова будынка перадаецца архіт.-маст. сродкамі, гал. чынам чляненнямі, архіт. элементамі і дэталямі. Кожны архіт. стыль надае своеасаблівасць А. той ці інш. эпохі. У антычнай архітэктуры Старaж. Грэцыі і Старaж. Рыма найбольш дасканалай і гарманічнай была А. класічнага *ордэра*, заснаванага на маст. перапрацоўцы стоечна-бэлечнай сістэмы. У архітэктуры готыкі і рэнесансу маст. выразнасць будынкаў грунтавалася на А. арачных канструкцый. У архітэктуры барока найчасцей А. засноўвалася на апасродкаваным выяўленні з дапамогай сістэмы ордэрных элементаў дэкору напружанага стану канструкцый, дынамікі архітэктуры. У архітэктуры класіцызму А. базіравалася на выразных гарманічных прапорцыях, сіметрыі, ураўнаважанасці аб'ёмаў, выкарыстанні класічных ордэрных кампазіцый. У шэрагу пабудоў 19 — пач. 20 ст. адбыўся адыход ад прынцыпаў А., у выніку чаго архітэктура страціла цэласнае маст. аблічча. У 1950-я г. адбылося вяртанне да прыёмаў А. класікі. З 1960-х г. галоўным у А. стала максімальнае



**Архітэктоніка.** Канструкцыя гатычнага храма з нервюрнымі скляпеннямі.

выяўленне ў маст. форме функцыянальна - канструкцыйнай асновы архітэктуры. Архітэктанічная дасканаласць уласціва нар. драўлянаму дойлідству, у якім на працягу шматвяковага развіцця архіт. форма і яе функцыянальна-канструкцыйны змест знаходзіліся ў непарушным адзінстве.

**АСАБНЯ́К,** добраўпарадкаваны гарадскі дом, разлічаны на пражыванне сям'і заможнага ўласніка (шляхціца, купца). А. пашырыліся на Беларусі ў 18—19 ст. Займалі невял. ўчастак з садам і ставіліся ў агульным радзе забудовы, з мінімальнай колькасцю гасп. пабудоў. У канцы 18 — пач. 19 ст. па архіт. планіровачнай структуры блізкія да *сядзібных дамоў.* А. вызначаліся лаканізмам у вырашэнні планаў і фасадаў. Планы пераважна 6-часткавыя з вылучанай у цэнтры залай і *анфіладай* меншых памяшканняў. Побач з анфіладнай у 1-й пал. 19 ст. паявілася і калідорная сістэма. У аздабленне фасадаў часам увaходзіў *порцік*, геаметрычны дашчаны дэкор на франтоне. У канструкцыі дамоў выкарыстоўвалі дрэва і цэглу, драўляныя дэталі (калоны, франтон, сцены фасадаў) атынкоўвалі. Спалучэнне цэглы і дрэва ў буд-ве А. абумовіла паяўленне сплаву стылявых асаблівасцей класіцызму і нар. дойлідства. У 1-й пал. 19 ст. частка А. па сваіх габарытах і развітых элементах архіт.-маст. выразнасці набліжалася да невял. *палацаў.* У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. пашырылася тыповае праектаванне, паявіліся новыя тыпы будынкаў, блізкія абліччам да А., якія цалкам адпавядалі ідэі ансамблевай забудовы цэнтраў гарадоў (дамы губернатараў і інш. прадстаўнікоў дзярж. улады). У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. паявіліся А. з элементамі эклектыкі, але ў цэлым архітэктура А. развівалася пад уплывам нар. дойлідства. У іх стварэнні архітэктары і майстры-будаўнікі зыходзілі з асаблівасцей побыту, мясцовых умоў і нацыянальных традыцый.

**АСЕ́ЦЬ,** старадаўняя гасп. пабудова для сушкі збажыны: тып *сушні.* На Беларусі існавала да пач. 20 ст. Квадратны або прамавугольны ў плане будынак вянковай канструкцыі, пакрыты саломай або дранiцай. Унутраная прастора перакрыццем з жэрдак падзялялася на 2 ярусы. Цёплае паветра ад курной печы, размешчанай у ніжнім ярусе, праз шчыліны перакрыцця падавалася ў верхні ярус, дзе ставілі снапы для сушкі. У сял. гаспадарках 19 — пач. 20 ст. А. былі пашыраны пераважна на ПнУ Беларусі, будаваліся паблізу гумна, стадолы, тока. Нярэдка мелі «перадасеці» каркаснай канструкцыі, дзе абмалочвалі высушанае збожжа. У фальварках існавалі больш складаныя структуры, дзе 2 А. злучаліся крытым токам.



**Асець.** Чарцёж (папярочны і падоўжны разрэзы).

**АСІМЕ́ТРЫЯ** (ад грэч. asymmetria несуразмернасць), мастацкі прыём, пры якім адзінства архіт. кампазіцыі ствараецца не тоеснасцю частак і іх размяшчэння (як пры сіметрыі), а зрокавай раўнавагай розных паводле маштабу і формы элементаў. А. ўзмацняе дынаміку кампазіцыі будынка або ансамбля, дае магчымасць расчляніць яе на асобныя функцыянальныя часткі.

**АСТА́ТАК,** канструкцыйны элемент вугла зруба, утвораны выпускам тарцовых частак бярвенняў, брусоў, дыляў за межы сцен прыкладна на вышыню або таўшчыню элемента вянка. На Беларусі рубка з А. вядома з 2—3 ст. н. э., захавалася ў нар. дойлідстве да нашага часу. У сядзібным і замкава-палацавым буд-ве 16—19 ст. выкарыстоўвалася гал. чынам у гасп. будынках. Вядомы 3 асн. тэхнікі рубкі вуглоў з А.: «у чашку», «у просты замок», «у каню». У наш час, з масавым выкарыстаннем шалёўкі, А. часта вырашаецца як *лапатка* або *пілястра*, аздабляецца архіт. дэкорам. Іл. гл. ў арт. *Вугал.*

**АСТРАГА́Л** (ад грэч. astragalos, літар. шыйны пазванок), гладкі або апрацаваны ў выглядзе пацерак валік, які служыць сучляненнем ствала *калоны* з *капітэллю* ці *базай.*



**Астрагал.**

**АСТРО́Г,** старажытная абарончая канструкцыя ў выглядзе суцэльнай сцяны з вертыкальна або нахілена ўкапаных у зямлю завостраных зверху бярвенняў вакол замка. На тэр. Беларусі вядомы з

жалезнага веку, пашыраны ў абарончым буд-ве 9—14 ст. У драўляных замках 16—18 ст. часткова выцеснены *гароднямі* і *тарасамі*, выкарыстоўваліся на менш важных участках абароны і пры неабходнасці хутка збудаваць абарончую сцяну. Вядомы ў замках Віцебска, Полацка, Мазыра, Рагачова і інш. Выкарыстоўваліся таксама як агараджальныя канструкцыі феадальных сядзіб. А. называлася і ўмацаваная частка горада, абнесеная такой сцяной, або асобнае невял. ваеннае паселішча ці месца ўтрымання вязняў (вязніца, турма, астрог).

**АСЯРО́ДДЗЕ АРХІТЭКТУ́РНАЕ,** частка інтэграванага асяроддзя жыццядзейнасці грамадства, якая ствараецца ў выніку архіт. практыкі людзей для забеспячэння іх жыццёвых працэсаў і функцый. Уключае будынкі, збудаванні, архіт. комплексы, ансамблі, зялёныя насаджэнні, элементы добраўпарадкавання і інш. А. а. ўзаемадзейнічае з інш. асяроддзямі: прадметна-прасторавым, натуральна-прыродным, сацыяльна-эканамічным, сацыяльна-культурным, адносіны з якімі маюць характар перапляцення і ўзаемаўплыву, дэтэрмінацыі, структурна-іерархічнай падпарадкаванасці. Як і інш. асяроддзі, падпарадкоўваецца агульным заканамернасцям развіцця грамадства, уздзейнічае на яго і само падвяргаецца мэтанакіраванаму пераўтварэнню ў працэсе дзейнасці людзей. Фарміруецца пад непасрэдным уплывам этнічных і прыродна-кліматычных асаблівасцей кантынентаў, краін, рэгіёнаў. Як вынік архіт.-маст. творчасці чалавека А. а. пастаянна развіваецца, арганічна звязана з мінулым, сучаснасцю і накіравана ў будучыню.


Атлант.

**АТЛА́НТ** [грэч. Atlas (Atlantos)], у архітэктуры — апора ў выглядзе мужчынскай статуі, што падтрымлівае перакрыцці будынка, балкона, порціка, звычайна прыстаўлена да сцяны ці слупоў.

**А́ТЛАС АРХІТЭКТУ́РНЫ,** сістэматызаваны збор чарцяжоў, гравюр, малюнкаў, фатаграфій архіт. твораў ці іх элементаў, дэталей, форм у выглядзе тамоў, альбомаў ці папак з наборам асобных аркушаў, часам з паясняльным тэкстам; асн. дапаможнік для дойлідаў у вывучэнні гісторыі архітэктуры і ў будаўнічай практыцы. Складанне А. а. пашырылася ў 2-й пал. 18—19 ст. ў сувязі з фундаментальнымі навукова-археал. даследаваннямі архіт. спадчыны. Класіфікуюцца паводле геаграфічнага, нацыянальнага, стылявога, часавага, тыпалагічнага і інш. прынцыпаў; бываюць вучэбнымі, даведачнымі, турысцкімі і інш.

**А́ТЫК** (ад грэч. attikós атычны), сценка над карнізам, якая завяршае будынак, у выглядзе балюстрады або раскрапаванай лапаткамі і пілястрамі глухой муроўкі з шчытамі, зубчыкамі і інш. Мае дэкар. значэнне як элемент кампазіцыі будынка. Узнік у архітэктуры Стараж. Грэцыі і Рыма ў выглядзе высокай сценкі, аформленай барэльефамі або надпісамі. Абмежавана выкарыстоўваўся ў архітэктуры готыкі, найб. шырока — у архітэктуры Адраджэння, барока і класіцызму. Асн. разнавіднасці А.: суцэльны, балюстрадны і аркадны, грабеньчаты (складаецца з цокальнага фрыза і завяршальнага зубчатага грэбеня), шчытавы (утвораны шэрагам шчытоў). А. называецца таксама нізкі верхні паверх над карнізам, які адрозніваецца ад ніжніх больш сціплым аздабленнем і ссунуты ад плоскасці гал. фасада.


Фрагмент **атыка** галоўнага фасада калегіума ў Нясвіжы. 16—17 стагоддзі.

**АЎСТЭ́РЫЯ** (італьян. osteria), багаты заезны дом, тып *карчмы.* Вядома з 16 ст., найб. пашырана з 18 ст. Размяшчаліся звычайна на гандл. плошчах або гал. вуліцах гарадоў і мястэчак. Будавалі іх з дрэва або каменю. У плане мелі ў асн. форму прамавугольніка. А. ўключала стайні, вазоўні, гасціныя пакоі, каморы. Гасціныя пакоі абсталёўваліся лавамі, сталамі, мелі кафляную грубку для ацяплення памяшкання і мураваную печ для гатавання ежы. Некаторыя А. былі складанымі комплексамі, якія ўключалі жылыя, гасп., гандлёвыя і інш. будынкі, згрупаваныя вакол агульнага двара. А. паслужылі прататыпам для паштовых станцый і гасцініц.

**АХО́ЎНАЯ ЗО́НА** помніка гісторыі і куль-

туры, тэрыторыя каля помніка, прызначаная для яго захавання, мэтазгоднага выкарыстання і экспазіцыі. А. з. ўстанаўліваюцца для асобных аб'ектаў, груп ці комплексу помнікаў, гіст. цэнтра горада. Межы зоны вызначаюцца патрэбай забяспечыць аптымальную бачнасць помніка (пры адсутнасці забудовы А. з. вызначаюць на адлегласці ад помніка, не меншай за яе двайную вышыню або даўжыню, каб зрабіць успрыняцце помніка звыклым для чалавечага вока пры вугле зроку ў 27 градусаў). З устанаўленнем А. з. робяць пад'езды і пешаходныя падыходы да помніка, відавыя пляцоўкі, азеляняюць і добраўпарадкоўваюць тэрыторыю ў адпаведнасці з мерамі пажарнай бяспекі і санітарна-гігіенічнымі нормамі. Пры рэканструкцыі горада ў межах А. з. дапускаецца новае буд-ва пры ўмове яго кампазіцыйнага падпарадкавання помнікам. Важнейшыя А. з. на Беларусі: тэрыторыі Верхняга горада ў Мінску, *Нясвіжскага палацава-паркавага комплексу, Заслаўскай Спаса-Праабражэнскай царквы* і інш.

# Б


Бабінец.

**БАБІ́НЕЦ,** традыцыйнае памяшканне перад асн. аб'ёмам храма, якое пазней называлася *трапезнай.* Першапачаткова — месца для малення жабракоў, «аглашэнных» (тых, хто жадае прыняць хрысціянства), а таксама для парафіян, на якіх накладвалася епітымія. Б. уваходзіў у склад 3-часткавай кампазіцыі храма. У старадаўніх помніках дойлідства функцыю Б. выконваў *нартэкс,* які злучаўся з асн. аб'ёмам арачным праёмам. У пазнейшы час абрад аглашэння быў адменены, але назва Б. захавалася.

**БАЖНІ́ЦА,** від культавай пабудовы. Значэнне тэрміна «Б». ў розныя часы мянялася. У літаратурнай мове перыяду Кіеўскай Русі Б. называлі царкву або капліцу, а таксама паліцу з абразамі ў хаце. У старабел. і польскай мовах слова «Б.» мела значэнне: храм наогул, язычніцкі храм, іудаісцкі храм. У польскай мове пазней апошняе значэнне стала пераважаць.

**БА́ЗА** (ад грэч. básis падстаўка, падмурак), падмурак, фундамент калоны ці стаўба. Б. адрозніваюцца па вышыні і профілю (гл. *Ордэр, Абломы архітэктурныя*). Асабліва разнастайныя гатычныя Б., якія *вызначаюцца складана*сцю малюнка.



**База** (б), стылабат (а), канелюры (в).

**БАЗІ́ЛІКА** (ад грэч. basilikḗ-царскі дом), тып антычнага, потым сярэдневяковага будынка, прамавугольнага ў плане, падзеленага ўздоўж радамі калон на некалькі (звычайна 3 ці 5) частак, т. зв. караблёў, ці *нефаў.* Сярэдні неф звычайна завершаны апсідай; ён бывае вышэйшы і шырэйшы за бакавыя. Уваход звычайна праз *нартэкс.* Асвятленне натуральнае. На У трапляліся Б. зальнага тыпу. Паводле аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі культавыя базілікальныя збудаванні былі: 1-нефавыя (бязвежавыя, 1- і 2-вежавыя), 3-нефавыя і крыжова-купальныя (бязвежавыя і 2-вежавыя).


Базіліка.

**БАЗЫЛЬЯНЕ,** васіліяне, манахі ордэна каталіцкай царквы з праваслаўным абрадам. Паводле падання статут ордэна напісаны Базылём (Васілём) Вялікім у 4 ст. Першапачаткова ўзнік у Візантыі. У Вял. княстве Літоўскім першы манастыр Б. быў заснаваны ў канцы 15 ст. Пасля Брэсцкай уніі 1596 ордэн быў рэарганізаваны і значна актывізаваў сваю дзейнасць на Беларусі, Украіне і ў Літве. Да сярэдзіны 17 ст. манастыры Б. былі ў Вільні, Гродне, Кобрыне, Мінску, Мсціслаўі, Жыровічах, Полацку, Навагрудку, Магілёве, Чарэі, Пінску, Быценi і інш. Ордэн меў школы з пачатковай і сярэдняй адукацыяй. У канцы 17—1-й пал. 18 ст. школы Б. былі ў Брэсце, Віцебску, Полацку, Ружанах, Баркалабаве, Талачыне, Ушачах, Вішневе, Чарэі і інш. Каля 1641 заснавана семінарыя ў Мінску. Многія цэрквы і манастыры Б.— выдатныя помнікі рэнесансу і барока. Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай Б. пад націскам урадавай палітыкі, арыентаванай на падтрымку праваслаўнай



Разрэз (злева) і план вежы з **байніцамі**.

царквы, пачалі траціць значэнне. Канчаткова іх манастыры ліквідаваны ў Расійскай імперыі ў сярэдзіне 19 ст.

**БАЙНІ́ЦА,** адтуліна ў сцяне абарончага збудавання для вядзення агню са стралковай зброі (закрытая Б.) або прасвет паміж зубцамі ў завяршэнні замкавых сцен, вежах і інш. (адкрытая Б.). Паявілася ў стараж. свеце. Пашырыліся ў сярэднявеччы, калі пачалося буд-ва замкаў, фартэцый, умацаванняў гарадоў, з 14—15 ст.— у палявых абарончых умацаваннях. На Беларусі вядомы са стараж. часоў у драўляных абарончых збудаваннях, з 13 ст.— у *данжонах*. Прызначаліся для стральбы з лукаў і арбалетаў, мелі прамавугольную, трапецападобную або паўцыркульную форму. Асабліва пашырыліся ў 14 ст. У 15—16 ст. набылі круглаватую форму, бо стала шырока ўжывацца ручная агністрэльная зброя (рушніцы, аркебузы, мушкеты) і лёгкія гарматы (гакаўніцы). У 17 ст. над Б. круглаватай формы паявіліся прамавугольныя вертыкальныя прарэзы для прыцэльвання. На валах земляных умацаванняў траплялiся адкрытыя Б.— прасветы паміж напоўненымі зямлёй лазовымі кашамі. Б., прызначаныя і для вядзення агню з гармат, наз. *амбразурамі*, для кідання камянёў — *машыкулямі*.

**БАЛДАХІ́Н** (ад італьян. baldacchino, літар. шаўковая тканіна з Багдада), багаты цырыманіяльны навес над тронам, парадным ложкам, *алтаром, амбонам* і інш. Спачатку Б. рабілі з тканіны, пазней з дрэва, металу, каменю. Меў стоечныя апоры ці кансольную падвеску. Ствараўся ў форме купала, вежачкі, эдыкулы, драпіровак, у завяршэнні меў скульптуру, султан (плюмаж), вастрыё, па баках афармляўся ламбрэкенам (зубчасты дэкар. элемент, аздоблены пазументам, кутасамі) і інш. Запазычаны з усх. мастацтва 11 ст.



Балдахін.

**БАЛКО́Н** (італьян. balcone ад позналац. balcus бэлька), агароджаная (кратамі, балюстрадай, парапетам) пляцоўка на кансольных бэльках, якая выступае з сцяны, або пліта (пераважна жалезабетонная) на фасадзе ці ў інтэр'еры (у грамадскіх ці вытв. памяшканнях, жылых будынках і інш.). Б. як элемент збудавання ўзнік на Усходзе. У Еўропе з'явіўся ў сярэднія вякі ў абарончым *(машыкулі)* і культавым *(амбон)* дойлідстве. У архітэктуры Адраджэння і барока Б.— важны элемент рытміка-пластычнай арганізацыі сцяны.



**Балконы:** гатычны (злева) і барочны.

**БАЛЮСТРА́ДА** (франц. balustrade), невысокая агароджа лесвіц, тэрас, балконаў, галерэй, парапетаў і інш., якая складаецца з шэрагу фігурных слупкоў *(балясаў)*, злучаных зверху гарызантальнай бэлькай або поручнямі. Бывае скразная і «сляпая» (злучана з сценкай). Найбольш пашырана ў пабудовах стыляў рэнесансу, барока, класіцызму.



**Балюстрада.**

**БАЛЯ́СЫ,** балясіны, невысокія фігурныя слупкі, якія падтрымліваюць поручні агароджы балкона, лесвіцы, парапета і інш.; элемент *балюстрады*. Робяцца з дрэва, бетону, металу. Бываюць плоскія (звычайна драўляныя), круглыя ці гранёныя ў сячэнні. Складаюцца з базы, ствала грушападобнай, прызматычнай, вазона- або келіхападобнай формы, нярэдка завяршаюцца плінтам.



**Баляса.**

**БАРАБА́Н,** цыліндрычная або шматгранная (звычайна васьмерыковая) верхняя частка будынка, якая апіраецца на сцены, слупы, падпружныя аркі, ветразі і завяршаецца купалам або шатром. Бываюць светлавыя (з аконнымі праёмамі, паляпшаюць асветленасць будынка) і глухія (без праёмаў). З'яўляюцца важным элементам кампазіцыі культавых збудаванняў, надаюць ім дынамічнасць, маляўнічы сілуэт. Найбольш пашыраны ў хрысціянскім культавым дойлідстве. Узнікненне Б. звязана з развіццём купальных канструкцый перакрыцця ў Стараж. Рыме. У Зах. Еўропе асабліва пашыраны ў архітэктуры Адраджэння, барока і класіцызму.



**Барабан.**

**БАРБАКА́Н** (франц.), падковападобная ў плане прысадзістая вежа без даху, размешчаная перад уваходнай брамай і звязаная з ёй функцыянальна і канструкцыйна; элемент абарончай сістэмы сярэдневяковага замка ці гарадской фартыфікацыі. Прызначаўся для дадатковага ўзмацнення і абароны гал. ўезда.


Барбакан.

Прылягаў да брамы або размяшчаўся асобна, злучаўся з ёю сценамі праходу («шыяй»). Пры значных памерах Б. меў уласную сістэму абароны, якая складалася з брамы, пад'ёмнага моста, размешчанага перад самым Б. або ўнутры яго, некалькіх ярусаў баёў (спец. памяшканняў з *байніцамі*). Некаторыя Б. завяршаліся зубцамі.

**БАРО́КА** (ад італьян. barocco, літар. вычварны, дзіўны), вызначальны стыль у еўрапейскім мастацтве канца 16 — сярэдзіны 18 ст. Узнік на аснове традыцый позняга *Адраджэння*. Першапачатковы этап развіцця Б. звязаны з узмацненнем феадальна-каталіцкай рэакцыі ў Зах. Еўропе і прапагандай ідэй контррэфармацыі. Стыль Б. нёс больш markdownрознабаковае і дыялектычна супярэчлівае светаўспрыманне ў параўнанні з рэнесансавым. Эстэтыка Б. заснавана на процiпастаўленнi iдэальнага i пачуццёвага ў чалавеку, яго волі і розуму з ірацыянальнасцю быцця. Таму мастацтва Б. вызначаецца эмацыянальным і інтэлектуальным напружаннем, складанасцю выяўленчых сродкаў, імкненнем да сінтэтычнасці жанраў. Яму ўласцівы драматызм, патэтыка, павышаная экзальтацыя. Маст. прынцыпы Б.— дынамічнасць кампазіцыі, кантрасты маштабаў, рытмаў, матэрыялаў і фактур, святлоценявыя і колеравыя эфекты, крывалінейнасць абрысаў, імкненне стварыць ілюзію бязмежнай прасторы. Зарадзілася Б. ў 2-й палове 16 ст. ў Італіі, найвышэйшага росквіту дасягнула ў Рыме ў сярэдзіне 17 ст. Своеасаблівую трактоўку набыло ў 17—18 ст. у краінах Зах. Еўропы, Лацінскай Амерыкі і інш. У канцы 18 ст. ў мураванае дойлідства паступова ўкараняліся прынцыпы *класіцызму*, што прывяло да стварэння шматлікіх помнікаў, якія спалучалі элементы двух стыляў. Развіццё нацыянальнай разнавіднасці бел. Б. прайшло 3 перыяды: ранняе (канец 16—1-я палова 17 ст.), сталае (2-я палова 17 ст.— 1730-я г.) і позняе (1730—80-я г., т. зв. *віленскае барока*).


**Барока.** Касцёл езуітаў у Нясвіжы. Бакавы фасад. 1586—93. Архітэктар Дж. М. Бернардоні.

**БАРЭЛЬЕ́Ф** (ад франц. bas-relief, літар. нізкі рэльеф), від скульптуры, рэльефу, у якім выявы выступаюць над плоскасцю фону не больш чым на палавіну свайго аб'ёму. Выяўленчыя і арнаментальныя Б.— распаўсюджаны ад упрыгожвання архіт. збудаванняў і дэкар. вырабаў. Барэльефныя выявы часта змяшчаюць на пастаментах помнікаў, на стэлах, мемар. дошках, медалях, гермах; часам ў спалучэнні з *гарэльефам*.

**БАСКЕ́Т** (франц. bosquet ад італьян. boschetto лясок, гаёк), пасаджаная ў дэкар. мэтах густая група дрэў або кустоў, падстрыжаных у выглядзе высокіх роўных сценак (*шпалер*). Пашыраны ў еўрапейскім садова-паркавым мастацтве 16—18 ст. Утвораныя пасадкамі квадратныя або прамавугольныя прасторы Б. наз. «кабінетамі», «гасцінымі», «зялёнымі заламі». Унутры Б. лаўкі, сцежка акаймоўвала газонны або кветкавы партэр, часам з вадаёмам, скульптурай, лабірынтам з падстрыжаных нізкіх кустоў. У цэнтры Б. звычайна размяшчаліся клумбы.


Баскет.

**БАСТЫЁН** (франц. bastion ад позналац. bastillio будую ўмацаванне), пяцівугольнае ўмацаванне ў вуглах крапаснoй агароджы для абстрэлу мясцовасці наперадзе ўздоўж крапасных сцен і равоў перад імі. Б. паявіліся ў Італіі ў канцы 15 ст., спачатку будаваліся мураваныя, пры гэтым існавала небяспека паражэння абаронцаў пад абстрэлам ворага асколкамі муроўкі. У 16 ст. паявіліся земляныя Б. Крапасны Б. складаўся з аднаго ці двух земляных валоў для размяшчэння гармат: 1-ы быў галоўны, 2-і, які ўзвышаўся над 1-м, наз. кавальер. Унутры Б. вымуроўвалі парахавыя склепы, скляпеністыя падземныя пераходы. Два даўжэйшыя бакі наз. фасамі, карацейшыя — фланкамі. Фланкі двух суседніх Б. і частак крапаснoй сцяны паміж імі (курціна) стваралі бастыённы фронт.


Планы крэпасці з **бастыёнамі** (злева) і бастыёна.

**БАСТЭ́Я**, земляны насып або 2-яруснае мураванае збудаванне, паўкруглае ці падковападобнае ў плане; элемент абарончага сярэдневяковага ўмацавання. Выступала за лінію сцен фартэцыі і фланкіравала агнём падыходы да іх. Б.— пераходная форма ад *вежы* да *бастыёна*. Існавалі


План **бастэі** замка ў в. Геранёны Іўеўскага раёна. Канец 15 — пачатак 16 ст. Рэканструкцыя.



Бельведэр.

ў канцы 15—16 ст. і прызначаліся для размяшчэння артылерыі.

**БЕЛЬВЕДЭ́Р** (ад італьян. belvedere, літар. прыгожы від), 1) надбудова, якая ўпрыгожвае будынак; круглая, авальная, шматгранная ў плане з зашклёнымі ці адкрытымі праёмамі, завершаная купалам, або невял. збудаванне такога тыпу ў парку на ўзвышшы, адкуль адкрываецца прыгожы далягляд. 2) Назва, што замацавалася за некаторымі палацавымі збудаваннямі, якія знаходзяцца ў прыгожым прыродным асяроддзі (палацы ў Ватыкане, Вене, Празе, Варшаве).

**БЕНЕДЫКЦІ́НЦЫ,** манахі каталіцкага ордэна, заснаванага Бенедыктам Нурсійскім каля 530 у Італіі. У сярэдневяччы ордэн з'яўляўся буйным зямельным уласнікам, меў асаблівы ўплыў у 10—11 ст., быў апорай каталіцкай царквы ў Еўропе. У 11—13 ст. Б. дапамагалі Рыму распаўсюджваць каталіцтва ў Прыбалтыцы. На Беларусі кляштары і касцёлы Б. узводзіліся ў 17—18 ст., многія з іх — выдатныя помнікі стылю барока. Пасля далучэння Б. да Расіі ўплыў Б. пачаў хутка падаць. Большасць кляштараў зачынена ў сярэдзіне 19 ст.

**БЕРНАРДЗІ́НЦЫ** (лат. bernardini), манахі каталіцкага ордэна, які адгалінаваўся ад *францысканцаў* і меў больш строгі статут. Назву атрымалі ад рэфарматара францысканцаў Бернардзіна Сіенскага (1380—1444), у гонар якога названы першы ў Рэчы Паспалітай кляштар Б. у Кракаве (1453). На Беларусь Б. пранiклі з Польшчы ў 2-й пал. 15 ст. і з дапамогай заможных католікаў і дзяржавы даволі хутка пашырылі сваю дзейнасць на ўсю тэрыторыю. Кляштары Б. былі заснаваны ў Вільні (1469), Гродне (1494), Полацку (1498), Будславе (1504), Нясвіжы (1594), у 17 ст. ў Заслаўі, Мінску, Слоніме, Іўі, Друі, Брэсце, Слуцку, Валожыне, Магілёве, Мсціславе, Оршы, Віцебску, Глуску і інш. Жаночыя кляштары былі ў Гродне, Мінску, Слоніме, Брэсце і інш. Касцёлы і кляштары Б.— выдатныя помнікі стылю барока. Пасля далучэння Беларусі да Расіі ўплыў Б. пачаў хутка змяншацца. У 1830 зачынены касцёлы і кляштары ў Оршы, Віцебску, Беразіне, Пінску, Мазыры, Глуску і інш. Большасць кляштароў зачынена ў сярэдзіне 19 ст.

**БІ́МА** (ад грэч. bēma аратарская трыбуна), алмемор, узвышаная пляцоўка пасярэдзіне *сінагогі*, у цэнтры якой устанаўліваецца кафедра. Цэнтрычная квадратная ў плане пляцоўка, абмежаваная па вуглах слупамі ці стаўбамі, агароджаная балюстрадай ці кратамі, завершаная асобным пакрыццём, скляпеннем, купалам з ліхтаром, балдахінам, дэкарыравана арнаментальнай лепкай, разьбой, размалёўкай. Часам адыгрывала канструкцыйную ролю як цэнтр. апора скляпеністага перакрыцця малельнай залы. Рабілася з дрэва, каменю, мармуру, бронзы. У адпаведныя эпохі мела барочную, класіцыстычную, неагатычную мастацка-стылявую трактоўку.

**БІФО́РЫУМ,** двухчасткавае аркаднае акно або арачны праём. Характэрны для архітэктуры раманскага і гатычнага стыляў. Пашырыліся ў 13 ст. ў краінах паўд. і Зах. Еўропы. Часта аздабляліся *архівольтамі* і каляровымі вітражамі.

**БЛА́НКІ,** бланкаванне, 1) абарончая сценка баявой галерэі з *байніцамі* для стральбы; 2) зубчатае завяршэнне мураванай вежы або сцяны.

**БЛЕ́НДА** (ням. Blende), ніша ў сцяне, якая імітуе аконны праём. Часам мае абрамленне ў выглядзе ліштваў, архівольтаў, завяршаецца франтонамі, сандрыкамі і інш. элементамі аздобы. Выкарыстанне Б. дыктуецца патрэбай стварэння рытмічнасці фасада з рэгулярнай сеткай аконных праёмаў. У месцах, дзе такія праёмы былі неабавязковыя, яны замяняліся Б.

**БЛОК-СЕ́КЦЫЯ,** закончаны для блакіроўкі аб'ёмна-планіровачны элемент (частка) збудавання. Аўтаномна забяспечана ўсімі інж. сістэмамі, выкарыстоўваецца самастойна і ў спалучэнні з інш. элементамі. Бываюць ра́давыя, тарцовыя, вуглавыя, паваротныя. Найбольш пашыраны ў жыллёвым, выкарыстоўваюцца ў прамысловым і грамадскім будаўніцтве.



Біфорыум.



Бланкі.




**Блок-секцыя:** *1* — тарцовыя; *2* — паваротныя; *3* — прыклады блакіроўкі блок-секцый буйнапанельных жылых дамоў.



Бочка.

**БО́ЧКА,** дэкаратыўная форма 2-схільнага пакрыцця. Абодва яе схілы маюць плаўныя крывалінейныя абрысы і знаходзяцца наверсе пад завостраным вуглом. Звычайна канструкцыя Б. выкарыстоўвалася ў драўляным і мураваным (трансфармаваная яе форма) культавым дойлідстве.

**БРА́МА,** збудаванне, найчасцей яруснай кампазіцыі, з каменю ці дрэва, з гал. уваходам ці праездам у замак, горад, сядзібу ці іншы замкнёны комплекс пабудоў (гасціны двор і інш.). Звычайна была звязана з абарончымі сценамі або агароджай гарадоў, замкаў і асобных комплексаў. Пашыраны ў еўрапейскай архітэктуры ў 14—17 ст. Першапачаткова мелі абарончы характар, з 16 ст. набылі складаныя дэкар. формы і багатае вонкавае аздабленне ў архітэктуры рэнесансу і барока, ператварыліся ў парадныя ўезды з пышнай дэкар. апрацоўкай. Своеасаблівы тып Б.— *арка трыумфальная.* Б. маглі быць самастойнымі архіт. збудаваннямі ці спалучацца з баявымі вежамі, званіцамі, надбрамнымі цэрквамі. У 16 ст. мелі абарончыя прыстасаванні: падымальныя масты, каваныя рашоткі *(герсы),* вежы з байніцамі; абарончыя памяшканні, таможню, *кардэгарду,* капліцу і інш. У 17—18 ст. Б. страцілі абарончыя функцыі, іх архітэктура набыла рысы стылю барока. Багата аздабляліся ордэрнай пластыкай, геральдычнымі знакамі, мелі завяршэнне ў выглядзе дэкар. вежы, накшталт франтона з валютамі ці атыка. У бел. нар. дойлідстве будаваліся ў 1—3 ярусы. Асаблівы тып Б.— брама-званіца (або царква) у манастырах і пры цэрквах.



**Брама** кляштара францысканцаў у Гродне. Сярэдзіна 18 ст.

**БРО́ВАР,** в і н а к у р н ы  з а в о д,  в і н а к у р н я, традыцыйная вытв. пабудова, дзе варылі піва, гналі гарэлку. На Беларусі вядомы з 16 ст. пры замках, сядзібах, корчмах і аўстэрыях. Замкавыя і сядзібныя Б. звычайна размяшчаліся каля рэк або сажалак, зрэдку будаваліся ў дварах. Пераважна гэта драўляныя будынкі, накрытыя драніцай або гонтай, з мураванымі агнішчамі ўнутры. Нярэдка ў Б. уваходзілі саладоўня, сушыльня, варыўня, лазня, жыллё.

**БУДА́Н,** к у р э н ь, часовая жылая пабудова, вартоўня ці склад у садах, на вял. агародах, у лесе, на сенажаці. У нар. дойлідстве Беларусі вядомы са старажытнасці. Будуюцца звычайна ў выглядзе 2-схільных канструкцый з тонкіх жэрдак на 2 слупах-сохах, злучаных уверсе перакладзінай, накрываюцца саломай, карой, галлём, сенам. У пач. 20 ст. зафіксаваны Б. больш складанай канструкцыі, пірамідальнай формы: 8-гранныя ў плане з 4 слупамі ў цэнтры, якія звязваліся адзін з адным перакладзінамі і служылі асновай нахіленых сцен з плашак або драніц, абкладзеных звонку дзёрнам. У цэнтр. частцы было агнішча, дым выходзіў праз верхнюю адтуліну. Часам ніжнюю частку Б. рубілі з бярвён, а над адтулінай ставілі 2-схільны дах з дымнікам па баках.

**БУЛЬВА́Р** (франц. boulevard), шырокая, абсаджаная дрэвамі алея ўздоўж вуліцы, набярэжнай ракі, возера і інш. Мае выгляд лінейнага саду ці парку. Б. ствараюцца пераважна ўздоўж восі вуліц, выкарыстоўваюцца для пешаходнага руху, прагулак, кароткачасовага адпачынку. Паводле формы бываюць кальцавыя (узнікалі пры рэканструкцыі гіст. гарадоў на месцы знесеных крапасных умацаванняў) і лінейнай (размяшчаюцца ўздоўж гал. гарадскіх вуліц, узмацняючы іх параднасць).



**Бульвар.** Схема планіроўкі: пейзажная (злева); рэгулярная.

# В

**ВА́ЖНІЦА,** тып старадаўняй пабудовы ў гарадах Вял. кн. Літоўскага, дзе вымяралася прывезенае купцамі на продаж збожжа і інш. тавары. На Беларусі ў 16—18 ст. В. звычайна размяшчаліся на гандл. плошчах, часам блакіраваліся з ратушамі і гандл. радамі. Уяўляла сабой 1-паверховы мураваны ці драўляны будынак, накрыты 2- або 4-схільным дахам.




**Вальмавы** дах. План.




**Валюты:** карынфскай капітэлі (зверху) і партала царквы Архангела Гаўрыіла ў Маскве (1704—07).

**ВАЛЫ́НСКІЯ ВЕ́ЖЫ,** тып манументальных абарончых вежаў, якія ўзводзіліся ў 2-й пал. 13—14 ст. на Валыні і сумежных тэр. Беларусі і Польшчы. У плане круглыя і прамавугольныя. Адпавядалі новай тактыцы абароны і метаду аблогі актыўным штурмам пры дапамозе каменямётных машын. Былі цэнтрам абароны горада, камандным пунктам, а таксама ўмацаваным жыллём феадала (напр., *Камянецкая вежа*).

**ВА́ЛЬМА** (ням. Walm), тарцовы схіл 4-схільнага даху. Утвараецца дыяганальнымі сохамі або кроквамі, якія злучаюць тарэц вільчаковай кладкі (вільчаковага бруса) з вугламі сцен будынка. Пакрыцці з В. выкарыстоўваліся ў нар. жыллі, гасп. пабудовах, некаторых манум. збудаваннях. В., якія не даходзяць да нізу або верху даху (усечаныя нізкія шчыты над прычолкам або *дымнікі* ў верхняй частцы В.), называюцца паўвальмамі.

**ВАЛЮ́ТА** (італьян. voluta завіток, спіраль), архітэктурны матыў у форме спіралепадобнага завітка з кружком («вочкам») у цэнтры; састаўная частка іанічнай *капітэлі*. Уваходзіць і ў кампазіцыю карынфскай і кампазітнай капітэлей. У асобных выпадках форму В. маюць архіт. дэталі, якія служаць для сувязі частак будынка, а таксама кансолі карнізаў, упрыгожанні парталаў, дзвярэй, акон.

**ВАЛЮ́ШНЯ,** валюш, сукнавальня, вытворчая пабудова для валення сукна, лямцу, валёнак і інш. На Беларусі вядомы з 16 ст. Існавалі пераважна ў буйных фальварках, некаторыя належалі мяшчанам. Звычайна прамавугольныя ў плане 1-павярховыя драўляныя будынкі з 2-схільным або вальмавым дахамі. Найчасцей В. будавалі на рэках, каля праточных азёр, балот, сажалак. Дзейнічалі яны па прынцыпу вадзянога млына, у якім замест жорнавых паставоў выкарыстоўваліся ступы з таўкачамі. Асн. рабочы орган — вадзяное кола, якое рухала таўкачы.

**ВАРО́ТЫ,** шырокі праезд у сцяне, плоце, які закрываецца створкамі або закладваецца жардзінамі; створкі, якімі закрываецца такі праезд, утвараюць самастойную кампазіцыю або з'яўляюцца часткай інш. збудавання (брамы, вежы, стайні, гумна, карчмы і інш.). Як самастойная кампазіцыя В. былі пашыраны ў гарадскіх і сялянскіх комплексах нар. жылля, у панскіх сядзібах. Звычайна — 1- ці 2-створчатая канструкцыя, умацаваная на завесах ці штырах у слупах-шулах. У 16—19 ст. В. часцей мелі адну глухую створку і фортку, іх зачынялі завалам, накрывалі 2-схільнай стрэшкай, часам упрыгожвалі вежкамі, флюгерамі; у вежавых брамах мелі ў завяршэнніназіральныя і баявыя пляцоўкі. У стараж. гарадскім жыллі вядомы глухія В. У сучасным нар. буд-ве В. як асобныя збудаванні афармляюць парадны ўваход у сядзібу і адначасова з'яўляюцца элементам архітэктуры малых форм.

**ВАРЫЎНЯ́,** стопка, істопка, тып старадаўняй гасп. пабудовы для хавання гародніны, садавіны, малака, часам і гасп. прылад. На Беларусі вядома з 17 ст. У сялянскіх дварах В.— прамавугольная ў плане звычайна зрубная пабудова, накрытая 2- ці 4-схільным дахам з драніцы ці саломы, з вокнамі без шкла, якія зачыняліся драўлянымі засаўкамі (будавалі В. і без акон). Унутры памяшканне ацяплялі курной печчу, агнішчам або гарачым вуголлем.

**ВАСЬМЯРЫ́К,** у архітэктуры васьмівугольны ў плане будынак або яго частка. Форма В. пашырана ў архітэктуры Візантыі, у паўд. славян (Балгарыя), Арменіі, Грузіі і інш. У Зах. Еўропе вядомы ў раманскай архітэктуры, готыцы, найбольш пашырана ў стылях рэнесансу, барока і класіцызму. В. ў завяршэнні культавых пабудоў вядомы ў стараж.-рус. дойлідстве і звязаны з уплывам візантыйскай архітэктуры. На Беларусі ў 16—18 ст. у форме В. будавалі некаторыя вежы гарадскіх умацаванняў, замкаў і палацаў, ратуш, а таксама культавыя будынкі, вежы манастыроў і кляштараў.

**ВЕ́ЖА,** збудаванне са значнай перавагай вышыні над ста-



**Вароты.**



**Варыўня** ў в. Варняны Астравецкага раёна. Пачатак 20 ст.



**Васьмярык.** План.



Разрэз паўднёва-заходняй **вежы** Мірскага замка. 16 ст.



Веранда.



Асноўныя тыпы драўляных **вярхоў** (у разрэзе): *1* — чацвярык на чацверыку, з заломам; *2* — васьмярык на чацверыку, з ветразямі; *3* — з дзвюма гранямі на бэльках; *4* — на дзвюх падоўжных бэльках.

ранай ці дыяметрам асновы. Існуюць квадратныя, прамавугольныя, шматгранныя, круглыя і інш., пастаяннага або пераменнага сячэння, ярусныя. Завяршаюцца 2-схільнымі, вальмавымі дахамі, шатрамі, купаламі, спічакамі і інш. Будуюцца з дрэва, цэглы, каменю, металу, жалезабетону. Узніклі ў старажытнасці як абарончыя і сігнальныя збудаванні, паступова сталі важным элементам архіт. кампазіцыі. Мелі функцыянальнае ці дэкар. прызначэнне, выкарыстоўваліся ў палацава-замкавым і паркавым, грамадзянскім і культавым буд-ве (В. ратуш, сабораў, палацаў і інш.).

**ВЕРА́НДА** (англ. veranda ад інд.), лёгкая прыбудова да дома з боку ўваходных дзвярэй. Ніжняя частка каркаса А. ашаляваная ці мураваная, верхняя — зашклёная. Дэкар. выгляд В. ствараецца адмысловым малюнкам фігурных аконных рам, разьбой, расфарбоўкай.

**ВЕРТЫКА́ЛЬНАЯ ПЛАНІРО́ЎКА** гарадскіх тэрыторый, пераўтварэнне натуральнага рэльефу мясцовасці ў адпаведнасці з патрабаваннямі планіроўкі і забудовы горада. Накіравана на забеспячэнне пляцовак, прыдатных для буд-ва гарадскіх аб'ектаў, стварэнне ўмоў для размяшчэння будынкаў і збудаванняў, пракладкі вуліц, праездаў, падземных і інш. камунікацый, адводу паверхневых водаў. Распрацоўваецца з улікам функцыянальнага заніравання тэрыторый, планіровачнай структуры, зручнага размяшчэння будынкаў і архіт.-прасторавых кампазіцый. Ажыццяўляецца пры неабходнасці стварыць штучны рэльеф мясцовасці, узбагаціць яе ландшафт і гэтым забяспечыць магчымасць стварэння своеасаблівай прасторавай кампазіцыі забудовы і навакольнай тэрыторыі. Пры праектаванні і буд-ве жылых комплексаў для ўзвядзення будынкаў на тэрыторыі з вял. нахілам выкарыстоўваюць метад тэрасавання, пры якім жылыя дамы арганічна ўпісваюцца ў рэльеф і адначасова фарміруюцца гарызантальныя пляцоўкі для гасп. патрэб, гульняў дзяцей, адпачынку.

**ВЕРХ,** пірамідальнае, купальнае або яруснае завяршэнне будынкаў, звычайна раскрытае ў інтэр'еры. Шырока вядомы ў культавай архітэктуры многіх краін Еўропы, у 15—19 ст. быў адметнай асаблівасцю кампазіцыі храмаў Расіі, Украіны і Беларусі. У мураванай архітэктуры Беларусі вядомы з 11—12 ст. у выглядзе барабанаў на ветразях і ступеньчатых арках. У драўляным дойлідстве з 16 ст. звычайна меў вянковую канструкцыю. У 18 ст. пад уплывам стылю барока пашырыліся ярусныя В. (асн. тыпы: чацвярык на чацверыку, васьмярык на васьмерыку і васьмярык на чацверыку), у якіх выкарыстоўваліся канструкцыі *заломаў* і *ветразяў*. Завяршаліся купалкамі, цыбулепадобнымі або інш. формы галоўкамі, вежачкамі, крыжамі, шпілямі і інш.

**ВЕ́СНІЦЫ**, брамка, фортка, у народным дойлідстве лёгкія, часцей кратаваныя дзверцы для ўваходу з вуліцы ў двор ці са двара на агарод, у сад. Праразаюцца непасрэдна ў *варотах* ці будуюцца побач з імі. Робяць В. са шчыльна збітых дошак (лёгкія — са штыкетаў), часта аздабляюць разьбой, размалёўкай, фігурна выкаванымі завесамі, клямкамі і інш.

**ВЕ́ТРАЗІ,** элементы купальнай канструкцыі, якія забяспечваюць пераход ад квадратнай у плане падкупальнай прасторы да акружнасці купала ці яго барабана; адзін з асн. канструкцыйна-маст. элементаў візантыйскай і стараж.-рус. архітэктуры. Вядомы ў архітэктуры стыляў рэнесансу, барока, класіцызму і інш.

**ВІ́ЛЕНСКАЕ БАРО́КА,** умоўная назва маст. сістэмы позняга *барока* ў манум. культавай архітэктуры Беларусі. Архіт. помнікі В. б. вызначаюцца пластычнасцю аб'ёмаў, маляўнічасцю сілуэта, утворанага стромкімі шмат'яруснымі скразнымі ажурнымі вежамі, фігурнымі атыкавымі франтонамі, якія надаюць гал. фасаду прасторавую структуру. Важную ролю ў стварэнні своеасаблівай школы В. б. адыграла творчасць арх. І. К. *Глаўбіца*.

**ВІ́ЛЬЧЫК,** вільчак, 1) верхняе рабро (грэбень) 2-схільнага даху. 2) Разное ўпрыгожанне вяршыні шчыта



Весніцы.



Ветразі.



Вільчыкі.



Вімперг.



1



2



3



4

Спосабы рубкі вуглоў: *1, 2, 3* — з «астаткам» (*3* — «у каню»); *4* — «у чысты вугал».

або франтона 2-схільнага (радзей паўвальмавага) даху. Бываюць В. парныя (утвараюцца верхнімі выпускамі 2 перакрыжаваных лабавых дошак, што закрываюць тарцы латаў) і адзінарныя. На Беларусі найбольш пашыраныя матывы — выкананыя тэхнікай прапілоўкі контуры 2 галоў каня, птушак, рагоў.

**ВІ́МПЕРГ** (ням. Wimperg), высокі дэкаратыўны франтон над парталам ці аконным праёмам гатычнага будынка. Характэрны для архітэктуры Зах. Еўропы 12 — пач. 16 ст. Плоскасць В. звычайна аздаблялі рэльефнай разьбой, вяршыню — выявай крыжакветнай расліны.

**ВУ́ГАЛ** у драўляным дойлідстве, частка зруба ў месцы злучэння ў вянок бярвён, брусоў, плашак або дыляў. На тэр. Усх. Еўропы, у т. л. Беларусі, вядомы ў пабудовах з часоў жалезнага веку. Шырока выкарыстоўваўся ў пабудовах *вянковай канструкцыі.* Мастацкую выразнасць В. вызначае тэхніка буд-ва зрубаў з *астаткам* («у чашку», «у просты замок», «у каню») або без «астатку» — «у чысты вугал» («у лапу», «у накладку»). Тарцовыя часткі В. з астаткам аздаблялі счэсваннем бярвён на 6 граней і дэкар. шалёўкай (у выніку В. нагадвалі лапаткі). У апрацоўцы В. без «астатку» пашырыліся вертыкальныя плоскія нашчыльнікі, аздобленыя накладкамі з арнаментыкай ці размалёўкай.

**ВЯНКО́ВАЯ КАНСТРУ́КЦЫЯ,** сістэма драўляных вянкоў (гарызантальных радоў бярвён, брусоў, плах, дыляў), звязаных у вуглах урубкамі, укладзеных адзін на адзін, якія ўтвараюць зруб. У лясных раёнах Еўропы, у т. л. на тэр. Беларусі выкарыстоўваецца з жалезнага веку. На аснове В. к. будавалі жыллё, гасп. і вытв. пабудовы, абарончыя збудаванні *(гародні, тарасы, вежы),* грамадскія і культавыя будынкі. Вядомы зрубы прамавугольнай, квадратнай *(клеці),* 8-граннай *(васьмярык),* 6-граннай формы, пастаяннага або пераменнага па вышыні сячэння, ярусныя (чацвярык на чацверыку, васьмярык на васьмерыку і інш.). Спалучэннем некалькіх зрубаў утваралася падоўжна-восевая, глыбінна-прасторавая, крыжова-цэнтрычная, жывапісна-асіметрычная і інш. кампазіцыі. В. к. мелі зрубы, часам і іх завяршэнні (гл. ў арт. *Закот, Верх, Шацёр*). У сучасным буд-ве В. к. выкарыстоўваецца пераважна ў традыцыйным нар. жыллі і гасп. пабудовах.

**ВЯТРА́К,** ветраны млын, вытворчая пабудова для памолу зерня, у якой выкарыстоўваецца энергія ветру. У Зах. Еўропе вядомы з 12—13 ст., у Расіі — з 15 ст., на Беларусі — з 16 ст., найбольш пашыраны ў 18 — пач. 20 ст. Асн. элемент В.— парныя крылы (4—6) каркаснай канструкцыі, вярчальны момант ад якіх праз сістэму валоў і колаў перадаецца на камяні паставоў. Паводле канструкцыі В. падзяляюцца на стрыжнёвыя (казловыя, слупавыя) і шатровыя.







Ветракі.

# Г

**ГАЛАСНІ́К,** керамічная пасудзіна ў выглядзе жбана, якую ўмуроўвалі ў сцены будынкаў горлам у інтэр'ер. Г. паляпшалі акустычныя якасці зальных памяшканняў (як рэзанатары), аблягчалі мураваную сцяну. У бел. архітэктуры вядомы з 12 ст.

**ГАЛЕРЭ́Я** (франц. galerie ад італьян. galleria), 1) доўгае крытае светлае памяшканне, у якім звычайна адну вонкавую падоўжную сцяну замяняе *каланада,* часам з *аркадай* і *балюстрадай.* У еўрапейскай архітэктуры Г. шырока выкарыстоўваліся ў палацавых і грамадскіх будынках стыляў рэнесансу, барока, класіцызму. На Беларусі вядомы з 16 ст. ў *ратушах, палацах, гандлёвых радах* і інш. будынках. У выглядзе Г. вырашаліся *падчэні* ў нар. жыллі, крамах. 2) Спецыяльныя зальныя памяшканні ў палацах, часта з суцэльным радам вял. акон. З 16 ст. ў Зах. Еўропе, у 17—19 ст. на Беларусі ў іх размяшчаліся маст. калекцыі карцін. Пазней Г. сталі называць мастацкія музеі і іх аддзелы.



Фрагмент галерэі гаспадарчай пабудовы ў Заходняй Беларусі. 19 ст.

3) Калідор з суцэльнымі аконнымі праёмамі на адным з падоўжных бакоў будынка. У сучаснай архітэктуры прынцып галерэйнай планіроўкі ляжыць у аснове галерэйных дамоў. 4) Верхні ярус глядзельнай залы (галёрка).



**Ганак.**

**ГА́НАК,** лёгкая прыбудова перад уваходам у будынак, звычайна слупавой канструкцыі. Завяршаецца 1-, 2-, 3-схільным, шатровым, купальным і інш. формы дахамі. Вядомы з даўніх часоў у народным дойлідстве Расіі, Беларусі, Украіны, Польшчы, Прыбалтыкі і інш. На Беларусі напачатку быў пашыраны ў замкавых і сядзібна-палацавых пабудовах, потым у дамах гараджан і сялян.

**ГАНДЛЁВАЯ ПЛО́ШЧА,** адна з гал. плошчаў старaж. горада ці мястэчка, на якой вёўся гандаль і адбываліся кірмашы. Узнікалі і фарміраваліся з развіццём гарадскіх паселішчаў як цэнтраў рамяства і гандлю. Звычайна Г. п. размяшчаліся ў гіст. цэнтры горада, часам — каля прыстані ці каля замка. Г. п. з'яўлялася кампазіцыйным цэнтрам сялібнай тэрыторыі гарадоў і мястэчак. Мела прамавугольны, радзей трохвугольны і шматгранны план, ад яе ў радыяльных напрамках адыходзілі вуліцы, што вялі да гарадскіх брам. У цэнтры плошчы гарадоў, якія мелі магдэбургскае права, размяшчаліся ратушы, нярэдка аб'яднаныя з *гандлёвымі радамі, гасцінымі дварамі*, у мястэчках — *крамы*. Перыферыйныя часткі займалі культавыя будынкі, *корчмы* і *аўстэрыі, важніцы*, каморы, жылыя дамы рамеснікаў і гандляроў. У некаторых гарадах і мястэчках, сплanаваных па падоўжна-восевай сістэме, Г. п. арганізоўваліся ў цэнтр. часткі гал. вуліцы.



**Гандлёвыя рады ў Навагрудку.**

**ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ́,** гандлёвыя збудаванні, якія складаліся з шэрагу крам (гандлёвых ячэек), злучаных у суцэльны корпус. У Зах. Еўропе Г. р. пашыраны з часоў сталага сярэднявечча. У Расіі характэрны архітэктуры стылю класіцызму. На Беларусі вядомы з 16 ст. Будаваліся з цэглы і дрэва пераважна на гандл. плошчах гарадоў і мястэчак. Узніклі ў выніку злучэння асобных крам з ушчыльненнем забудовы рыначных плошчаў: у гарадах, якія мелі магдэбургскае права, нярэдка прыбудоўваліся да ратушы. У буйных гарадах і мястэчках былі пашыраны характэрныя для архітэктуры барока замкнёныя (з праездамі) Г. р., якія ўтваралі ў цэнтры прамавугольную ці квадратную ў плане гандл. плошчу з арыентацыяй крам на плошчу і абапал яе. Варыянтам замкнёных былі П-падобныя Г. р., што ўтвараліся ў выніку ўключэння ў адзін з бакоў забудовы ратушы або раскрыцця гандлёвай плошчы па асн. горадаўтваральнай восі. У архітэктуры стылю класіцызму (2-я палова 18—19 ст.) сфарміраваліся 1-радныя пагонныя Г. р., размешчаныя ў цэнтры плошчы, з 2-баковай арыентацыяй крам. Існавалі таксама Т-падобныя і 2-радныя Г. р., якія ўтваралі гандлёвую вуліцу, і Г. р. з шэрагам асобных карпусоў. Яны ўключалі складскія памяшканні і каморы, звычайна размешчаныя ў цэнтр. і вуглавых частках. Кожная крама мела самастойны ўваход. Вялікія Г. р., якія акрамя гандлёвых і складскіх уключалі адм.-грамадскія памяшканні і пабудовы, наз. *гасцінымі дварамі*.

**ГАРАДСКА́Я МЯЖА́,** граніца тэрыторыі гарадскога падпарадкавання. Вызначаецца ген. планам горада. Г. м. ўключае сялібную зону горада (участкі жылой забудовы, грамадскіх устаноў, зялёных насаджэнняў, гарадскія вуліцы і плошчы), зону пазасялібнага значэння (тэр. прамысловага, складскога, камунальнага прызначэння, участкі транспарту, санітарна-ахоўныя палосы), а таксама лесапаркі, спец., рэзервовыя і інш. тэрыторыі, якія б забяспечвалі магчымасць далейшага росту і развіцця горада.

**ГАРО́ДНЯ,** г а р а д н я, прамавугольны зруб з бярвён ці брусоў, запоўнены ўнутры зямлёй і каменнем; тып абарончага збудавання. Шэраг Г., шчыльна пастаўленых адна да адной тарцамі утваралі абарончую сцяну. У верхняй частцы Г. рабілі перакрытыя 2-схільнымі дахамі баявыя галерэі з *абламамі* і *байніцамі*. У некаторых Г. ніжняя частка не запаўнялася, слу-


Гарэльеф.


Фрагмент **гасцінага двара** на Кобрынскім фарштаце ў Брэсце. 1-я палавіна 19 ст.

жыла гасп. памяшканнем, наверсе будаваліся жылыя, культавыя, гасп. будынкі. Г. найбольш характэрны для абарончага дойлідства Беларусі 15—16 ст., выкарыстоўваліся найчасцей у замках і гарадскіх крэпасцях. Вядомы ў замках Віцебска, Полацка, Кобрына, Оршы і інш. У 17 ст. часткова саступілі месца больш прагрэсіўнай канструкцыі — *тарасе*.

**ГАРЭЛЬЕ́Ф** (франц. haut-rélief ад haut высокі + rélief рэльеф, выпукласць), від скульптуры, рэльефу, у якім выявы выступаюць над плоскасцю фону больш чым на палавіну свайго аб'ёму, часам толькі асобнымі дэталямі дакранаюцца да яго. Вядомы са старaж. часоў. Выкарыстоўваецца ў манум.-дэкар. мастацтве, надмагіллях, афармленні інтэр'ераў і экстэр'ераў грамадскіх, жылых і культавых будынкаў, мемар. дошках. Можа спалучацца з *барэльефам.*

**ГАСЦІ́НЫ ДВОР,** комплекс збудаванняў, дзе захоўваліся тавары, часова пражывалі і гандлявалі купцы. Уключаў гандлёвыя, складскія будынкі і жылыя памяшканні гасцінічнага тыпу. У Зах. Еўропе вядомы з 14 ст., у Расіі ў 16—17 ст. Г. д.— прамавугольныя ў плане плошчы, абнесеныя мураванымі ці драўлянымі сценамі з вежамі і праязнымі варотамі. Па ўнутраным перыметры да сцен прыбудоўваліся гандлёвыя і складскія памяшканні (звычайна 2-павярховыя), аб'яднаныя адкрытымі галерэямі. У 18—19 ст. рускія Г. д. страцілі крапасны характар, мелі планіроўку ў выглядзе замкнёнага прамавугольніка з адкрытымі на вуліцу аркадамі і каланадамі.

**ГЕАПЛА́СТЫКА** (грэч. gḗ Зямля+plastikḗ скульптура), гл. *Ландшафтная скульптура.*

**ГЕНЕРА́ЛЬНЫ ПЛАН** развіцця горада, навукова абгрунтаваны план, які вызначае перспектывы развіцця горада (у дачыненні да старога горада — яго рэканструкцыю і далейшае развіццё), гарадскога пасёлка і паэтапнае іх фарміраванне з улікам сацыяльных, эканам., тэхн. і эстэтычных патрабаванняў. Складаецца на аснове перспектыўных планаў развіцця нар. гаспадаркі, улічвае і культ.-гіст. значэнне населенага месца. Распрацоўваецца на аснове задач горадабудаўніцтва на 20 гадоў з вылучэннем 1-й чаргі буд-ва на бліжэйшую пяцігодку. Распрацоўка Г. п.— адзіны працэс комплекснага вырашэння праблем функцыянальнага выкарыстання тэрыторыі, фарміравання планіровачнай структуры, кампазіцыйна-прасторавай забудовы горада (гарадскога пасёлка), развіцця іх дэмаграфічнага патэнцыялу і росту жыллёвага забеспячэння насельніцтва, удасканалення сістэмы месцаў прыкладання працы, развіцця сеткі гарадскіх цэнтраў і ўстаноў культ.-быт. абслугоўвання, сістэм азелянення і месцаў адпачынку, транспартнага абслугоўвання, аховы прыроды і гігіены.

**ГЕ́РМА** (грэч. hermḗs), від скульптурнага партрэта ці партрэтнага помніка ў выглядзе 4-граннага слупа, завершанага галавой або бюстам. Узнікла ў Старaж. Грэцыі як выява бога Гермеса (адсюль назва), потым інш. багоў. З 5 ст. да н. э. стваралі Г. з партрэтнымі выявамі дзярж. дзеячаў, філосафаў. Служылі межавымі знакамі, паказальнікамі дарог. З 16 ст. Г. стала пашыраным відам дэкар. і паркавай скульптуры. У параўнанні з бюстам больш урачыстая і строгая скульпт. форма. Выкарыстоўваецца як элемент архіт. дэкору ў *пілястрах*, можа выконваць функцыі кансолі. У сучаснай станковай скульптуры Г. называюць пагрудны бюст з прамавугольна абрэзанымі плячыма.


**Герма:** антычная (злева) і барочная.

**ГЕ́РСА,** пад'ёмныя металічныя ці акаваныя жалезам дубовыя краты, якія дадаткова зачынялі праём вежы-брамы. Важны элемент абароны замка, дзядзінца і інш. Прыкрывала дашчаныя вароты, падымалася і апускалася на ланцугах пад'ёмным механізмам у спец. праёме брамы. Ніжнія канцы кратаў былі завостраны і ўваходзілі ў спец. гнёзды. Звонку Г. часта засланялася пад'ёмным мостам. У еўрапейскіх замках Г. паявілася ў сярэдзіне 15 ст., на Беларусі — у канцы 15 — пач. 16 ст.

**ГЗЫМС,** карніз, гарызантальны выступ, які завяршае

сцяну будынка, аконныя і дзвярныя праёмы, падтрымлівае дах і ахоўвае сцяну ад сцёку вады, падзяляе фасад на асобныя ярусы і завяршае цокаль збудавання.

**ГІДРАПА́РК,** парк, які характарызуецца перавагай вадаёмаў, што з'яўляюцца базай для арганізацыі водных відаў спорту і адпачынку, кампазіцыйнай асновай архіт.-планіровачнай і ландшафтнай арганізацыі. Неабходныя кампаненты Г.— пляжы з салярыямі, аэрарыямі, спарт. пляцоўкамі. Для Г. характэрны ландшафт адкрытых і паўадкрытых прастораў з групавым размяшчэннем насаджэнняў, пароды якіх падбіраюцца з улікам магчымасці вырастання ва ўмовах павышанай вільготнасці. Асаблівая ўвага аддаецца дэкар. афармленню берагавой лініі вадаёмаў.



**Гірка.**

**ГІ́РКА,** фігурная дэталь з цэглы ці каменю найчасцей у выглядзе перакуленай пірамідкі. Г. падвешваецца на схаваным у муроўцы жалезным стрыжні і служыць апорай для дэкар. арачак, звычайна размешчаных пад адной вял. аркай. Г. шырока выкарыстоўваліся ў рус. архітэктуры 16—17 ст. у дэкоры брам, ганкаў, аконных праёмаў.



**Гірлянда** на фрызе порціка палаца ў в. Жылічы Кіраўскага раёна. Пачатак 19 ст.

**ГІРЛЯ́НДА** ў архітэктуры, арнамент, узор у выглядзе перапляценняў кветак і зеляніны. Як дэкар. элемент выкарыстоўвалася ў афармленні фасадаў будынкаў архітэктуры рэнесансу, барока і класіцызму.

**ГЛА́СІС** (франц. glacis), ахоўны земляны насып перад абарончым ровам замка, элемент абарончага ўмацавання замкаў. Г. ўключалі прамежкавыя і вонкавыя паўкруглыя ўмацаванні — выступы рознай канфігурацыі памераў, за якімі хаваліся стралкі, што абаранялі падыходы да замка, і атрады, якія рабілі раптоўныя набегі на ворага. Часам перад Г. будаваліся абарончыя сухія або вадзяныя равы. Пад прыкрыццём Г. размяшчалася спец. дарога для перамяшчэння воінаў гарнізона ў час аблогі.



**Гонта.**

**ГО́НТА** (польск. gont), дахавы матэрыял у форме невял. дошчачак, востра саструганых з аднаго боку і з пазам з другога.

**ГО́ТЫКА,** гатычны стыль (італьян. gotico, літар. гоцкі ад назвы герм. племя готаў), мастацкі стыль, пашыраны ў краінах Зах., Цэнтр., часткова Усх. Еўропы паміж сярэдзінай 12 і 15—16 ст. Перыяды: ранняя Г.— 12 ст., сталая — 13—14 ст., позняя («палымяная») Г. з моцнымі дэкар. тэндэнцыямі — 15 ст. Прыйшла на змену *раманскаму стылю,* ад якога ўнаследавала вяршэнства архітэктуры ў сістэме мастацтваў і традыцыйныя тыпы культавых будынкаў. Узнікла ў 12 ст. на Пн Францыі. Г. найбольш ярка ўвасобілася ў архітэктуры (саборы ў Ам'ене, Рэймсе, Парыжы, Кёльне, Шартры, Страсбургу). Канструкцыйныя прынцыпы культавага дойлідства Г.— каркас з каменю, які пазбавіў пабудовы груваcткасці раманскіх сабораў. Унутраныя слупы гатычных храмаў накшталт пучка тонкіх калон пераходзілі ўверсе ў стральчатыя аркі нясучых рэбраў (*нервюраў*) вельмі тонкага крыжовага скляпення. Вонкавыя паўаркі — *аркбутаны* перадавалі распор скляпення на спец. апорныя вонкавыя слупы — *контрфорсы.* Для гатычных збудаванняў характэрны востраканцовыя завяршэнні праёмаў, *вімпергаў,* стральчатыя вокны з вітражамі, *парталы,* дэкар. скульптура. Гал. фасады сабораў упрыгожваліся карункамі разнога дэкору, ажурнымі вежамі, глыбокімі «перспектыўнымі» парталамі, у цэнтры часта мелі вял. круглае акно (*ружу*).



**Готыка.** Сабор Нотр-Дам у Парыжы. 12—13 стагоддзяў. Галоўны фасад.

**ГРАМА́ДСКІ ЦЭНТР,** адна з гал. функцыянальных і кампазіцыйных частак населенага пункта, якая ўключае комплекс устаноў адм.-грамадскага, культ.-асветнага, гандл.-быт. прызначэння, помнікаў гісторыі і культуры, аб'яднаных вуліцамі, плошчамі, бульварамі і скверамі. Ва ўсе гіст. перыяды цэнтр фарміраваў спецыфічныя архіт.-маст. асаблівасці кампазіцыі, ствараў непаўторны вобраз горада. У старaж.-рус. эпоху (9—13 ст.) Г. ц. паселішча найчасцей быў замак, размешчаны звычайна ў сутоках рэк. Вакол яго групаваліся пасады і прадмесці. У 14—17 ст. павялічылася роля *гандлёвай плошчы,* дзе ў гарадах, якія мелі магдэбургскае права, будава-

ліся ратушы. Ад яе адыходзілі ў радыяльных напрамках гал. вуліцы, што вялі да гарадскіх брам. З развіццём гарадоў у 18—19 ст. Г. ц. забудоўваліся разнастайнымі грамадска-адм. будынкамі, узніклі дадатковыя цэнтры, звязаныя з галоўным. Кампазіцыя сучасных Г. ц., якая захавала стараж. горадабудаўнічыя традыцыі, адлюстроўвае новы сацыяльна-грамадскі змест, дасягненні навукова-тэхн. прагрэсу. Канкрэтныя ўмовы буд-ва дыктуюць у многіх выпадках стварэнне Г. ц. не ў геаметрычным цэнтры паселішча, а ў напрамку да воднай крыніцы або месцаў канцэнтрацыі працы. У сувязі з гэтым узніклі цэнтры працяглай кампазіцыі, заснаваныя на ансамблях уздоўж прыбярэжнай зоны або гал. магістралі. Пры кальцавой кампазіцыі фарміраванне цэнтра пачынаецца з кампактнага размяшчэння будынкаў, развіццё яго адбываецца ва ўсіх напрамках, але вылучаюцца гал. дамінуючыя будынкі і комплексы, значэнне якіх падкрэсліваецца добраўпарадкаваннем і азеляненнем тэрыторыі. У Г. ц. уваходзяць зоны адм.-дзелавых і грамадзянскіх, культ.-асветных устаноў, гандл. і быт. прадпрыемстваў, адпачынку, часам спарт.-відовішчныя, мемар., культ.-гіст., якія мяжуюць з паркам, скверам, транспартнымі вузламі цэнтра. Г. ц. новых гарадоў вызначаюцца кампактным і зручным размяшчэннем грамадскіх устаноў.



**Графіка архітэктурная.** Фасады двухпавярховага жылога дома. Лінейны чарцёж.

**ГРА́ФІКА АРХІ́ТЭКТУ́РНАЯ** (грэч. graphikē ад graphō пішу, чарчу, рысую), адзін з відаў прыкладной графікі, што дае ўяўленне аб архіт. аб'екце ў сінтэзаваным выглядзе (*аксанаметрыя, перспектыва*) або ў асобных артаганальных праекцыях (планы, фасады, разрэзы). Выкарыстоўваецца для стварэння архіт. чарцяжоў (праекты будынкаў, комплексаў, ансамбляў, ген. планаў населеных месцаў і *абмераў архітэктурных.* Памагае раскрыць прызначэнне, мастацкія і канструкцыйна-будаўнічыя асаблівасці збудавання, якое праектуецца. Асн. выяўленчыя сродкі Г. а.— лінія, тон, святлацень, колер; матэрыялы — туш, вугаль, графіт, акварэль, гуаш і інш. Спалучае навуковы (чарцёж) і маст. (малюнак, эскіз) спосабы выяўлення.

**ГРОТ** (франц. grotte ад італьян. grotta), тып паркавага збудавання (часам у выглядзе павільёна), муроўка і апрацоўка якога (ракавінкі, туф, камень) імітуюць натуральную пячору. Пашыраны ў еўрапейскім садова-паркавым мастацтве 16—18 ст., на Беларусі — з 18 ст.

**ГРУ́БКА,** невялікая пакаёвая печ, звычайна для абагрэву. Паводле плана бываюць квадратныя, прамавугольныя, круглыя і інш. Вядомы з даўніх часоў, на тэр. Беларусі пашыраны з 2-й пал. 16 ст. Рабіліся з гаршковай паліванай і непаліванай кафлі, а таксама цэглы, абліцаванай дэкар. пліткай. Выкарыстоўваліся ў гарадскім і сельскім жыллі, грамадскіх будынках (корчмах, аўстэрыях, ратушах, аптэках і інш.). У сялянскім жыллі Г. муруюць з абпаленай цэглы (раней і з сырцу), паверхню абмазваюць глінай, беляць або пакрываюць кафляй. Звычайна спалучаюцца з рускімі печамі. Каб Г. лепш награвалася, дымаход робяць з люфтамі (паваротамі). У сядзібных і палацавых будынках у 16 — пач. 20 ст. існавалі па-мастацку аздобленыя Г., якія мелі цокаль, асн. частку, завяршаліся карнізамі, «каронамі» з фрызамі, дэкар. франтончыкамі, вежачкамі.



**Грубка,** абліцаваная кафляй.

**ГРЫ́ДНІЦА,** 1) у стараж.-рус. архітэктуры вял. памяшканне ў княжацкім палацы або асобная пабудова, дзе жыла грыдзь (малодшая княжацкая дружына), прымалі гасцей, наладжвалі святочныя балязанні. 2) На Беларусі ў 16—18 ст.— жылы пакой для чэлядзі ў сядзібным доме або флігелі, які злучаўся з панскімі пакоямі сенцамі, часам уключаў камору; асобныя жылыя будынкі з сенцамі, адным або 2 жылымі пакоямі. Вырашаліся ў традыцыях нар. жылля, мелі курныя печы, «валаковыя» вокны. Г. называлі таксама вял. жылыя пакоі ў манастырах, часам — курныя хаты пры корчмах.

**ГУ́ЛЬБІШЧА,** вонкавая адкрытая тэраса ці закрытая галерэя, якая абкружае будынак на ўзроўні перакрыццяў *падклецця.* У драўляным дойлідстве існуе ў выглядзе стоек з укосінамі ў верхняй частцы, у мураваным — у выглядзе



Гульбішча.





Гумны.



Гурт.

аркадных і ордэрных галерэй, глухіх прыбудоў да асн. будынка. Выкарыстоўвалася ў культавых будынках 16—17 ст., часам у пабудовах свецкага характару.

**ГУМНО́,** гаспадарчая пабудова для сушкі і хавання снапоў, абмалоту, ачысткі і сартавання збажыны. Здаўна пашырана на Беларусі, Украіне, у Расіі, Польшчы, Прыбалтыцы і інш. На Палессі Г. называлася *клуняй,* на Віцебшчыне і часткова Магілёўшчыне — токам, у зах. раёнах Беларусі — стадолай. З 16 ст. Г. пашырана ў вёсках, фальварках, гарадах і мястэчках. Будавалі Г. з бярвён, найчасцей у прамавугольныя ў плане, былі квадратныя і шматвугольныя. Доўгія Г. мелі мяшаную каркасна-вянковую канструкцыю. Зруб не імшыўся, бярвёны не падганяліся шчыльна адно да аднаго для стварэння натуральнай цыркуляцыі паветра. Будынкі мелі высокія 2-схільныя, вальмавыя, пірамідальныя стрэхі, накрытыя саломай, чаротам, драніцамі, гонтай. Найбольш была пашырана каркасная канструкцыя страхі на сохах (ставіліся ў адзін рад па падоўжнай восі будынка; у два рады, папарна злучаліся бэлькамі, у цэнтры якіх ставіліся кароткія сохі-дзядкі або козлы, што неслі вільчаковую жэрдку), пазней — на *кроквах.*

**ГУРТ** (ням. Gurt, літар. пояс, папруга), у гатычнай архітэктуры арка з абчасаных клінападобных камянёў або цаглін, якая ўмацоўвае рэбры крыжовага, сеткавага, зорчатага і інш. формы *скляпення;* тое, што і *нервюра.* Г. называюць таксама прафіляваную гарызантальную цягу, якая расчляняе фасад будынка на ярусы.



**ДАМІНІКА́НЦЫ** (лац. dominicani), манахі аднаго з каталіцкіх жабрацкіх ордэнаў (не маглі мець уласнасці, сталага жылля, павінны былі жыць жабрацтвам). Ордэн названы імем яго заснавальніка Дамініка (1170—1221). Быў створаны на Пд Францыі для барацьбы з нар. ерэтычным рухам. Супраць сваіх сапернікаў Д. карысталіся самымі жорсткімі сродкамі. З 1232 у іх рукі была перададзена інквізіцыя. Д. выкладалі амаль на ўсіх багаслоўскіх кафедрах ун-таў сярэдневяковай Еўропы. Актыўна займаліся місіянерствам у Амерыцы, Акіяніі, на Д. Усходзе. У 1223 Д. заснавалі першы кляштар у Польшчы (Кракаў), адкуль пазней пранiклі на Беларусь, Украіну і ў Літву. На Беларусі найбольш актыўна дзейнічалі ў перыяд контррэфармацыі. У 17 ст. заснавалі кляштары ў Мінску, Гродне, Віцебску, Полацку, Брэсце, Пінску, Навагрудку, Друі, Ашмянах, Астраўцы, Нясвіжы, Оршы, Слоніме, Чашніках, Клецку, Ракаве, Рэчыцы, Стоўбцах, Шклове, Заслаўі, Дунілавічах, Мсціславе, Уле і інш. У Навагрудку ў 1654 заснаваны жаночы кляштар. Усяго на тэр. Беларусі існавала 42 кляштары Д., пры іх дзейнічалі школы. Будынкі касцёлаў і кляштараў Д.— помнікі архітэктуры стылю барока са спецыфічнымі рысамі (суровасць, масіўнасць, стрыманы дэкор). Пасля далучэння Беларусі да Расіі ўплыў дамініканцаў пачаў слабець. Амаль усе кляштары былі зачынены ў 1-й пал. 19 ст.

**ДАМЫ́ САВЕ́ТАЎ,** тып кааператыўнага будынка (або комплекс будынкаў) для размяшчэння савецкіх, партыйных, дзяржаўных органаў і грамадскіх арг-цый (прафсаюзных, камсамольскіх і інш.) рэспубліканскага, краявога, абласнога, раённага значэння. Будаваліся ў 1920—30-я гады. Прызначаліся для правядзення масавых мерапрыемстваў: з'ездаў, канферэнцый, сходаў і інш., працы апарата па ўпраўленню нар. гаспадаркай і культурай. Уключалі асноўныя (залы пасяджэнняў, кабінеты, рабочыя пакоі і інш.), для абслугоўвання і дапаможныя (вестыбюль, гардэроб, архівы, б-кі, сталовыя і інш.), часам культ.-асветнага прызначэння памяшканні. Д. С. размяшчаліся на гал. плошчах ці асн. магістралях, фарміруючы новы адм.-грамадскі цэнтр горада. У БССР пабудаваны Д. С. у Пухавічах і Слуцку (сярэдзіна 1930-х

гадоў, арх. М. Салін), у Магілёве (1937—40, арх. І. Лангбард). Як разнавіднасць Д. С. у тыя ж гады ўзведзены Дамы ўрада ў Мінску, Харкаве, Алма-Аце, Махачкале і інш.

**ДАМЫ́ СПЕЦЫЯЛІ́СТАЎ**, шматкватэрныя жылыя дамы секцыйнага тыпу. Будаваліся ў 1930-я г. ў буйных прамысл. цэнтрах краіны паводле пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 26.3.1932 аб буд-ве на працягу 2 гадоў 75 дамоў для спецыялістаў. Усяго пабудавана 66 Д. с., у т. л. 3 у БССР: у Мінску (1932—34, арх. Н. Макляцова), Віцебску (1932—35, арх. С. Прэзьма), Гомелі (1932—35, арх. М. Салін). Да Д. с. адносяць таксама жылыя дамы для інж.-тэхн. работнікаў.


Данжон.

**ДАНЖО́Н** (франц. donjon), галоўная шмат'ярусная вежа замка, якая служыла месцам апошняй абароны і ўкрыццем пры нападзе ворага. Адначасова была назіральным і камандным пунктам у час ваенных дзеянняў, магла выконваць функцыі аўтаномнай цытадэлі, дзе зберагаўся запас правіянту, ваеннага рыштунку. Д. размяшчаліся пры гал. браме, непасрэдна каля ўезда ў замак або ў цэнтры ўмацаванняў. У плане Д. маглі быць круглыя, авальныя, прамавугольныя, шматвугольныя. Уваход размяшчаўся ў ніжняй частцы збудавання ці на вышыні прылеглых да яго інш. абарончых збудаванняў. Стральба вялася праз *байніцы,* разлічаныя на кругавую абарону, з баявых балконаў, верхніх баявых пляцовак з-за зубцоў і праз *машыкулі.* Перакрыцці ўнутры Д. рабіліся па бэльках і скляпеністыя. Дах звычайна быў шатровы. Д. ў Еўропе будаваліся ў 9— 10 ст., пазней вядомы ўсюды, у т. л. на масульманскім усходзе і ў Закаўказзі. На Беларусі былі пашыраны ў 13—17 ст. Вядомы Д. ў Брэсце, Тураве, Гродне, Навагрудку, Полацку, Шклове і інш. Уцалела вежа-данжон у Камянцы (гл. *Камянецкая вежа*).

**ДАРЫ́ЧНЫ О́РДЭР**, адзін з трох асн. грэчаскіх архітэктурных *ордэраў.* Нясучыя часткі — ствол калоны (аздоблены канелюрамі) з *капітэллю.* У ніжняй частцы ($^1/_3$ агульнай вышыні) ствол мае невял. выпукласць — *энтазіс.* Капітэль складаецца з шыйкі, што злучае капітэль з стволам калоны, *эхіна* (паўавала) і верхняй квадратнай у плане пліты — *абака.* Над абакам — бэлька *(архітраў),* завершаная палічкай, над архітравам — *фрыз,* расчлянёны *трыгліфамі* (прамавугольнікі з вертыкальнымі баразёнкамі) на роўныя часткі *(метопы),* упрыгожаныя размалёўкай або скульптурай. Верхняя частка складалася з прамавугольных пліт — *мутул* («сухарыкі», *дэнтыкулы*), высунутай пліты слязніцы і ўвянчальнай часткі — сімы. Як мастацка выразная форма Д. о. склаўся ў Стараж. Грэцыі і дарыйскіх абласцях пры буд-ве храмаў і інш. грамадскіх збудаванняў з каменю (600—590 да н. э.). Найбольш лаканічны і мужны з архіт. ордэраў. Класічныя ўзоры Д. о. захаваліся ў Парфеноне, Прапілеях на Акропалі ў Афінах.


Дарычны ордэр.

**ДАХ** (ням. Dach праз польск. dach), канструкцыйная сістэма перакрыцця і пакрыцця верхняй часткі пабудовы. На Беларусі з старажытнасці вядомы Д. вянковай і каркаснай канструкцыі. Асн. тыпы Д. в я н к о в а й  к а н с т р у к ц ы і: шатровыя ў цэнтрычных збудаваннях і 2-схільныя *закотам,* дзе матэрыял пакрыцця ўкладваўся непасрэдна па канструкцыі перакрыцця. Сярод тыпаў Д. каркаснай канструкцыі найб. дасканалы кроквенны, з паяўленнем якога свабодныя ад нагрузкі шчыты набылі значэнне важных элементаў архіт. дэкору. Акрамя 2-схільных і пірамідальных форм, з 16 ст. пачалі пашырацца вальмавыя (з залобкамі, прычолкамі, дымнікамі) і 3-схільныя Д. У манум. архітэктуры стылю барока выкарыстоўвалі высокія складаныя Д. (ламаныя, ярусныя, мансардавыя). Для класіцыстычных пабудоў характэрны невысокія 2-схільныя Д. з *франтонамі.* Найбольш пашыраны матэрыялы пакрыцця — дранка, *гонта,* чарапіца, бляха, у сав. час шыфер. У сучасным індустрыяльным буд-ве найбольш пашыраны плоскі Д., сумешчаны з жалезабетоннымі панелямі перакрыцця. Д. традыцыйных жылых і гасп. сялянскіх пабудоў, накрыты саломай, чаротам, гонтамі, называецца *страхой.*



**Дахі:** *1* — двухсхільны; *2* — двухсхільны з прычолкам; *3* — трохсхільны; *4* — паўвальмавы з залобкам; *5* — дымнікавы; *6* — паўвальмавы з прычолкам; *7* — вальмавы, *8, 9, 10* — ламаныя; *11* — ярусны; *12* — мансардавы; *13, 14* — шатровыя.

**ДАХО́ДНЫ ДОМ,** шматкватэрны жылы дом, прызначаны для здачы кватэр у наём; у 20 ст. адзін з асн. тыпаў жылля гараджан многіх развітых краін. У Еўропе Д. д. паявіліся ў 1830—40-я г. У канцы 19 — пач. 20 ст. Д. д. звычайна займаў па перыметры ўвесь участак, які належаў домаўладальніку. Для дома характэрна сотападобная прасторавая структура аднолькавай планіроўкі. Кватэры групаваліся вакол лесвічных клетак ці калідораў, уздоўж галерэй. У Расіі, у т. л. на Беларусі, існавалі да Кастрычніцкай рэвалюцыі.

**ДЗЯДЗІ́НЕЦ,** 1) цэнтральная частка сядзібы, двор. 2) Цэнтральная частка стараж. горада, умацаваная драўляным тынам, равамі і магутнымі землянымі валамі, па якіх праходзілі драўляныя сцены (пазней мураваныя сцены і драўляныя вежы); своеасаблівы цэнтр горада, дзе размяшчаліся адм. і культавыя пабудовы, жылі князь з дружынаю, яго чэлядзь, гандляры, рамеснікі, духавенства. Найчасцей размяшчаўся на мысе ў сутоках рэк, меў плошчу ад 1 да 10 га. У летапісах слова «Дз.» ужывалася да 14 ст., пазней выцеснена тэрмінамі «крэмль», «град», «горад».



**Дом-крэпасць** у в. Гайцюнішкі Воранаўскага раёна. 1613.

**ДОМ РАМЕ́СНІКА,** тып жылога дома. Буд-ва Д. р. вядома ў краінах Зах. і Цэнтр. Еўропы. На Беларусі вядомы ў гарадах і мястэчках з сярэдневечча да пач. 20 ст. Дом складаўся з жылой часткі (звычайна размяшчалася з боку двара) і службовай (арыентавана на вуліцу), падзеленых капітальнай сцяной, меў ад 3 да 6 пакояў (жылыя пакоі, майстэрню, сенцы, камору, мансарду). Напачатку такія дамы будавалі пераважна з дрэва, з сярэдзіны 18 ст. былі мяшанай канструкцыі (драўляны зруб у спалучэнні з мураванай сцяной фасада); некаторыя мелі *падчэні.* Архіт.-маст. афармленне канцэнтравалася на гал. фасадзе. Драўляныя будынкі аздаблялі дэкар. разьбой (*ліштвы, франтоны,* слупы), мураваныя фасады мелі разнастайныя франтоны, паўкалоны, *пілястры,* абрамленне акон, лепку. Д. р. групаваліся пераважна вакол гандл. плошчаў ці на прылеглых да іх вуліцах, утвараючы адна- ці паўтарапавярховы фронт шчыльнай забудовы. У т. зв. узорных пасяленнях, што будаваліся ў апошняй чвэрці 18 ст., Д. р. стваралі перспектывы вуліц і панарамы плошчаў.

**ДОМ-КАМУ́НА,** тып жылога дома, які ўключаў жылыя, грамадска-гасп. памяшканні і ўстановы камунальна-быт. абслугоўвання. Першы Д.-к. ў Расіі пабудаваны ў 1904 у Пецярбургу, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі — у Маскве (1929—30) і Ленінградзе (1928—32). На Беларусі ў канцы 1920 — пач. 1930-х г. узведзены Д.-к. ў Віцебску, Гомелі, Бабруйску. Звычайна ўяўлялі сабой 4-, 6-павярховыя дамы са складанай канфігурацыяй плана, мелі галерэйную і калідорную планіроўку. На першых паверхах размяшчаліся грамадскія памяшканні (залы, холы, бібліятэка-чытальня, сталовая, дзіцячая ўстанова), у цокальным — камунальна-бытавыя, на 2—6-м паверхах — жылыя пакоі, агульныя кухні, санвузлы. Выразнасць фасадаў дасягалася вынесенымі за межы плана аб'ёмамі лесвічных клетак, вылучэннем вертыкальных вуглавых аб'ёмаў.

**ДОМ-КРЭ́ПАСЦЬ,** тып жылога дома. На Беларусі вядомы з 17 ст. Звычайна кампактная пабудова з 4 абарончымі вежамі па вуглах. Кампазіцыя Д.-к. склалася пад уплывам архітэктуры замкаў.

**ДЫ́МНІК** у драўляным дойлідстве, 1) адтуліна ў столі курной хаты для выхаду дыму, часам мела афармлены дымаход — драўляны або сплецены з лазы атынкаваны комін. 2) Невял. франтончык (звычайна 3-вугольны) у завяршэнні тарцовага схілу вальмавага даху. Першапачатковае функцыянальнае прызначэнне для выхаду дыму ад курной печы. Паступова ператварыўся ў дэкар. элемент даху, часам аздабляўся *вільчыкамі,* разьбой, у культавых збудаваннях — аб'ёмнай скульптурай.



**Дымнік.**

**ДЫНА́МІКА** (грэч. dynamikós моцны ад dýnamis сіла), сукупнасць кампазіцыйных і дэкар. прыёмаў, якія надаюць архіт. творам характар накіраванага руху мас у прасторы; адзін са сродкаў маст. выразнасці. Выяўляецца праз *рытм, сіметрыю, асіметрыю,*



Дынька.

*кантраст, маштабнасць, прапорцыі* збудаванняў і архіт. ансамбляў. Д. можа развівацца ў вертыкальным, гарызантальным, глыбінным, франтальным напрамках. Важным сродкам дынамізацыі архіт. кампазіцыі з'яўляецца кульмінацыйнае перакрыжаванне асн. восей трохвымернай прасторы.

**ДЫ́НЬКА,** дэкаратыўная дэталь (падоўжанае дынепадобнае патаўшчэнне) слупоў, калонак, ліштваў акон і дзвярных парталаў. Найбольш пашырана ў рус. мураванай архітэктуры 15—17 ст., у драўляным дойлідстве — да канца 18 ст. На Беларусі сустракаецца ў пабудовах стыляў псеўдарускага і мадэрн.

**ДЭНТЫКУЛЫ** (ад лац. denticulus зубец), з у б ч ы к і, с у х а р ы к і, рад невялікіх дэкар. прамавугольных выступаў на карнізе ў іанічным, карынфскім ордэрах і адным з варыянтаў рымска-дарычнага ордэра. Правобразам Д. былі рады тарцоў бэлек-брусоў, якія перакрывалі порцік у пабудовах Стараж. Грэцыі.

**ДЭТАЛЁВАЯ ПЛАНІРО́ЎКА,** адна з стадый горадабудаўнічага праектавання, у працэсе якой удакладняюцца, дэталізуюцца і развіваюцца планіровачныя ідэі, закладзеныя ў *генеральным плане* развіцця горада. Распрацоўваецца для паасобных частак гар. тэрыторыі (*жылы раён,* агульнагарадскі цэнтр, буйны грамадскі комплекс). На аснове агульнай планіровачнай структуры ў праектах Д. п. ўдакладняюць размяшчэнне магістралей і вуліц, варыянты планіровачнага і аб'ёмна-прасторавага вырашэння забудовы, сістэму сацыяльна-культ. абслугоўвання, абгрунтоўваюць тэхн. вырашэнні інж. абсталявання і добраўпарадкавання. Для абгрунтавання архіт.-прасторавай кампазіцыі забудовы выконваюць макет забудовы раёна (маштаб 1:2000 ці 1:1000), на якім мадэліруюць рэльеф, зялёныя насаджэнні, асобныя будынкі і збудаванні, буйныя элементы добраўпарадкавання. У праект Д. п. ўключаюцца спец. схемы руху транспарту і пешаходаў, інж. абсталявання (водаправод, каналізацыя, цеплафікацыя і інш). Пры распрацоўцы праекта ўлічваецца паэтапнасць буд-ва.



Дэнтыкулы.

# Е

**ЕЗУІ́ТЫ** (ад лац. Jesus Езус, Ісус), манахі каталіцкага ордэна «Таварыства Езуса», створанага ў 1534 іспанскім дваранінам І. Лаёлай для барацьбы з Рэфармацыяй. Ордэн пабудаваны на аснове строгай цэнтралізацыі, дысцыпліны і бясспрэчнага падпарадкавання радавых манахаў кіраўніцтву. На чале стаіць генерал («чорны папа»), які выбіраецца пажыццёва і падпарадкуецца толькі папу рымскаму. У сваёй дзейнасці Е. кіраваліся прынцыпам «мэта апраўдвае сродкі». Умешваліся ў палітычнае жыццё шмат якіх краін, што выклікала ўсеагульны пратэст. У 1773 ордэн быў фармальна забаронены, але не перастаў існаваць. У 1814 афіцыйна адноўлены папствам. На Беларусі і ў Літве распачалі дзейнасць з 2-й пал. 16 ст. Мэта — умацаванне пазіцый каталіцкай царквы, задушэнне рэфармацыйнага руху. У 16—18 стагоддзях на тэр. Беларусі стварылі 79 сваіх прадстаўніцтваў у выглядзе рэзідэнцый, місій і калегій. Засноўвалі навучальныя ўстановы — калегіумы і акадэміі. Езуіцкія касцёлы, калегіумы і кляштары, узведзеныя ў стылі барока, утваралі вял. комплексы, часта з'яўляліся архіт. дамінантамі гарадоў. У 1820 дзейнасць Е. ў Расійскай імперыі, у т. л. і на тэр. Беларусі, забаронена. У 1920—39 Е. дзейнічалі на тэр. Заходняй Беларусі, актыўна падтрымлівалі польскую экспансію. У наш час ордэн налічвае больш за 35 тыс. членаў, пераважна ў ЗША і Іспаніі.

# Ж

**ЖЫЛА́Я ГРУ́ПА,** група жылых будынкаў, якія ўтвараюць цэласны аб'ёмна-прасторавы і функцыянальны комплекс; пярвічны планіровачны эле-

мент у фарміраванні больш значных жылых утварэнняў. Разлічаны на пражыванне 1,5—4 тыс. чал. Асобныя Ж. г. аб'ядноўваюцца ў *мікрараёны, жылыя раёны,* буйныя міжмагістральныя ўтварэнні на аснове агульнага архіт.-планіровачнага праекта. Велічыня асобных Ж. г., асаблівасці іх планіровачнага вырашэння і аб'ёмна-прасторавай арганізацыі залежаць ад велічыні населеных пунктаў, прыродных умоў, паверхавасці і канфігурацыі будынкаў. Выкарыстанне розных кампазіцыйных прыёмаў дае магчымасць атрымліваць разнастайныя ў аб'ёмна-прасторавых адносінах Ж. г.— ад замкнёных прастораў да свабоднага размяшчэння будынкаў.



**Жылы раён** Серабранка ў Мінску. 1980-я г. Схема планіроўкі.

**ЖЫЛЫ́ РАЁН,** структурная адзінка сучаснай жыллёвай забудовы гарадоў. У вял. гарадах разлічаны на 40—80 тыс., у сярэдніх — на 25—40 тыс. жыхароў. Складаецца з *мікрараёнаў,* аб'яднаных грамадска-гандл. цэнтрам, радыус абслугоўвання якога 1000—1200 м. Праз Ж. р. праходзяць магістралі і вуліцы раённага значэння, якія падзяляюць яго на мікрараёны і забяспечваюць зручнае абслугоўванне насельніцтва. Ж. р. фарміруецца ў залежнасці ад велічыні горада і агульнага вырашэння яго генплана, з'яўляецца важнай часткай сучаснага горадабудаўніцтва. Планіроўка і забудова вырашаюцца як цэласная кампазіцыя, якая арганічна спалучаецца з асяроддзем, улічвае кліматычныя і прыродныя фактары (рэльеф, зялёныя насаджэнні, водныя прасторы). Ж. р. уваходзіць у планіровачны раён або зону (найбольшая структурная адзінка з насельніцтвам 200—600 тыс. чал.). Ж. р. фарміруецца ў працэсе новага буд-ва ці рэканструкцыі забудовы. Яго праектаванне ажыццяўляецца ў 2 стадыі — праект дэталёвай планіроўкі жылога або планіровачнага раёна (з эскізам забудовы) і праект забудовы мікрараёнаў.

# З

**ЗАКАМА́РА,** паўкруглае ці кілепадобнае завяршэнне часткі сцяны будынка паміж 2 лапаткамі, якое адпавядае форме ўнутранага скляпення (звычайна паўцыркульнага). З. найбольш характэрны для візантыйскай крыжова-купальнай сістэмы, у 10—13 ст. шырока выкарыстоўваліся ў стараж.-рус. архітэктуры. Пазней З. вядомы ў храмах псеўдарускага стылю.



**Закамара.**

**ЗАКІДНА́Я ТЭ́ХНІКА** ў драўляным дойлідстве, спосаб узвядзення будынкаў і збудаванняў з асобных *праслаў,* утвораных з бярвён, брусоў, плашак, дыляў, дошак і інш., канцы якіх устаўлены ў шулы (вертыкальна пастаўленыя бярвёны ці брусы з пазамі). На тэр. Беларусі вядома ў жытлах з каменнага веку. З 16 ст. выкарыстоўвалася пераважна ў гасп., вытв. і некаторых грамадскіх будынках (хлявы, аборы, гумны, адрыны, корчмы, крамы, склады, бровары і інш.), агароджах. У сядзібнай забудове часам замест драўляных шулаў выкарыстоўваліся мураваныя слупы. У наш час З. т. характэрна для сельскага буд-ва.




Страха **закотам:** *1* — лемягі; *2* — сволакі.

**ЗАКО́Т,** старадаўняя канструкцыя *страхі* сялянскіх хат і гасп. пабудоў на Беларусі. Бярвёны тарцовай сцяны на ўзроўні верхняга вянка зруба паступова ўкарочваліся, сцяна набывала выгляд ступеньчатага З-вугольніка. На выступы клалі падстрэшкавыя жэрдкі-латы (свалокі), якія служылі асновай страхі.

**ЗАЛАТО́Е СЯЧЭ́ННЕ,** залатая прапорцыя, гарманічнае дзяленне, вобразнае выражэнне заканамерна ўстаноўленай гарманічнай сувязі адрэзкаў лініі, велічыні плошчаў і аб'ёмаў. Дакладнае выражэнне «З. с.» дае такі падзел адрэзкаў на 2 няроўныя часткі, пры якім меншая частка так адносіцца да большай, як большая да ўсяго адрэзка. Тэрмін «З. с.» ўвёў Леанарда да Вінчы (канец 15—16 ст.). Закон З. с. звяза-




**Залатое сячэнне.**

ны з нашым адчуваннем гармоніі і шырока выкарыстоўваецца ў архітэктуры, дэкар.-прыкладным, выяўленчым мастацтве, маст. афармленні кніг і інш

**ЗАЛО́М** у драўляным дойлідстве, зрубная канструкцыя шмат'яруснага *верху* ў выглядзе ўсечанай піраміды ці прызмы. На Украіне вядомы з 16 ст. У бел. культавай архітэктуры 17—19 ст. сустракаліся вярхі з адным ці двума З., якія стваралі ступеньчата-ярусную кампазіцыю будынка, надавалі яму выразны сілуэт. Часам спалучаліся з *ветразямі* (пры чарговым чацверыкоў і васьмерыкоў).

**ЗА́ЛЬНЫ ХРАМ,** выцягнуты ў плане храм з *нефамі* аднолькавай вышыні ці з больш вышэйшым (без акон) сярэднім нефам (несапраўдная *базіліка*). З. х. таксама наз. 1-нефавы храм без *трансепта* (прапаведніцкая царква, царква жабрацкіх ордэнаў). З. х. з двума і больш нефамі вядомы з 11 ст. У 12 ст. пашыраны ў Вестфаліі і сталі тыповыя як прыходскія цэрквы ў 13—15 ст. Гатычныя З. х. будавалі ў Італіі, Іспаніі і інш. краінах Зах. Еўропы. Як саборы сустракаюцца рэдка. З эпохі Адраджэння З. х. амаль не будуюць.



Схема ўмацаванняў сярэдневяковага **замка:** *1* — данжон; *2* — палац; *3* — капліца; *4* — гаспадарчыя пабудовы; *5* — двор; *6* — вежы; *7, 13* — вонкавыя абарончыя сцены; *8* — зубцы; *9* — байніцы; *10* — бакавыя вароты; *11* — пад'ёмны мост; *12* — унутраныя абарончыя сцены.

**ЗА́МАК,** умацаванае жыллё феадала, а таксама сярэдневяковы комплекс абарончых збудаванняў, жылых гасп. і культавых пабудоў на зручных для абароны месцах, аб'яднаных лініяй умацаванняў. Існавалі прыватныя З. (магнацкія, царкоўныя, шляхецкія) і агульнадзяржаўныя (вялікакняжацкія). Структура абароны З. складалася з драўляных (*астрогі,* вастраколы, *гародні,* парканы, *тарасы*), мураваных (каменных, цагляных) ці глінабітных сцен з баявымі памостамі-галерэямі і звязаных з імі драўляных, мураваных ці камбінаваных (фахверкавых) шмат'ярусных вежаў з разнастайнымі *байніцамі.* Часта ў З. мелася галоўная вежа — *данжон.* Раннія замкі (5—8 ст.) у Сярэдняй Азіі, Закаўказзі, на Арабскім Усходзе (9—11 ст.), у Зах. Еўропе мелі глухія мураваныя сцены і былі разлічаны на пасіўную абарону. Тактыка актыўнай абароны паступова прывяла ў 11—12 ст. (крыжацкія З. ў Сірыі і Палесціне) да ўсталявання нерэгулярнай планіроўкі, дапасаванай да рэльефу мясцовасці. На сценах і вежах З. рабілі *машыкулі* і байніцы для кідання камянёў і абстрэлу ніжняй часткі сцен. Перад уваходнымі брамамі пачалі ўзводзіць *барбаканы.* Паступова замкі ператварыліся ў складаныя комплексы абарончых збудаванняў, жылых, культавых, гасп. пабудоў. На Беларусі будаўнічыя і канструкцыйныя асаблівасці спалучалі мясцовыя, эліністычныя і стараж.-рымскія традыцыі абарончага дойлідства. У 13—14 ст. будавалі З.— *кастэлі.* З распадам феадалізму, развіццём артылерыі З. страцілі абарончыя функцыі, гал. роля ў іх кампазіцыі належала *палацу.* Паступова З. выцеснены гарадскімі і загараднымі палацава-паркавымі комплексамі.

**ЗАМО́К** (замковы камень), клінападобныя камень ці цагліна ў вяршыні *аркі* або *скляпення.* Дэкаратыўнымі З. ўпрыгожваюць звычайна цэнтр. частку плоскай перамычкі над аконным праёмам або *парталам.* Часам З. аздабляюць арнаментам, архіт. дэталямі, скульптурай.



**Замок.**

**ЗА́МЧЫШЧА,** месца з рэшткамі разнастайных сярэдневяковых умацаванняў, якія ўключалі комплекс абарончых і жылых пабудоў на тэр. дзядзінца (земляныя валы са сценамі, равы і інш. элементы абароны). На Беларусі З. называюць рэшткі ўмацаваных паселішчаў розных часоў, якія ўключалі гарадзішчы, гарадскія цытадэлі, замкі. Вял. колькасць З. на Беларусі археалагічна вывучаны (Мінск, Ваўкавыск і інш.). Выяўлены драўляныя і мураваныя фартыфікацыйныя збудаванні, прадметы матэрыяльнай культуры (зброя, посуд, будаўнічы і вайсковы рыштунак, архіт. дэкаратыўная кераміка).

**ЗАНІРАВАННЕ ГАРАДСКО́Й ТЭРЫТО́РЫІ,** вылучэнне ўчасткаў тэрыторыі горада, якія маюць агульнасць функцыянальнага прызначэння і архіт.-планіровачнага вырашэння. У гарадской забудове вылучаюць функцыянальныя зоны: сялібную (жылыя тэр. з садамі, паркамі, вадаёмамі, цэнтрамі грамадскага

абслугоўвання) і пазасялібную (вытворчыя камунальна-складскія, транспартныя тэрыторыі). У залежнасці ад велічыні і нар.-гасп. профілю горада склад функцыянальных зон можа мяняцца. У гарадах і пасёлках курортна-аздараўленчага, рэкрэацыйна-турысцкага, навучальнага або навуковага профілю вылучаюць таксама зоны лячэбна-аздараўленчых і злучаных з імі абслуговых і навучальных установ, н.-д. ін-таў, помнікаў гісторыі і культуры і інш. У некаторых гарадах вылучаюць спецыялізаваныя зоны (мемарыяльныя, ахоўныя помнікаў архітэктуры і гісторыі). За межамі горада ствараюцца зоны масавага адпачынку, буйныя зялёныя масівы, водныя аб'екты і інш. ўчасткі рознага прызначэння.

**ЗАСТРЭ́ШАК**, край страхі (хаты, хлява і інш.), што навісае над сцяной.

**ЗАСЦЕ́НАК**, на Беларусі, у Польшчы і ў Літве паселішча хутарскога тыпу дробнай (засцянковай) шляхты. Як від паселішча ўзнік у 16—17 ст. у выніку правядзення зямельнай рэформы (т. зв. валочнай памеры) у дзярж. і прыватнаўласніцкіх маёнтках на падставе «Уставы на валокі» 1557. Напачатку З. называліся ворныя і сенакосныя землі, якія апынуліся па-за межамі (за «сценамі» — адсюль і назва) сялянскіх надзелаў і былі аддзелены ад іх лесам, балотам і інш. У 18 ст. З. называлі і невял. ўчасткі зямлі каля гарадоў, якія магнацкая адміністрацыя здавала ў арэнду гараджанам. У пач. 20 ст. З.— невял. населены пункт (10—300 жыхароў). Забудоўваліся З. хаатычна. Малыя З. часта адрозніваліся ад хутароў толькі сваім паходжаннем і саслоўнай прыналежнасцю жыхароў, вялікія З. былі падобныя на вёску. У сав. час частка З. сселена, частка развілася і перайменавана ў 1938 у вёскі.

**ЗБОР**, рэфарматарская царква, тып культавага збудавання, пашыраны ў Польшчы, Літве і на Беларусі ў 16 — 1-й пал. 17 ст. з распаўсюджаннем Рэфармацыі. Драўляныя ці мураваныя З., вырашаныя ў строгіх лаканічных формах, спалучалі мясцовыя будаўнічыя традыцыі з асаблівасцямі стыляў готыкі і Адраджэння: прамавугольны або 8-гранны ў плане аб'ём, завершаны стромкім 2-схільным, вальмавым, шатровым або купальным дахам, на гал. фасадзе меў высокую абарончую вежу-званіцу з вокнамі-байніцамі, накрытую шатром або купалам. Сцены ўмацаваны *контрфорсамі*. Некаторыя З. былі *храмамі-крэпасцямі*: стаялі на ўзвышшы і былі абнесены абарончымі сценамі з вежамі. Пры З. будавалі школы, друкарні, шпіталі. У 2-й пал. 17 ст., у сувязі з перамогай контррэфармацыі, многія З. прыстасаваны пад касцёлы, у 19 ст.— пад праваслаўныя цэрквы. Найбольш вядомыя кальвінскія З.: Дзераноўскі, Клецкі, Койданаўскі, Навасвержанскі, Смаргонскі (гл. адпаведныя арт.), *Заслаўская Спаса-Праабражэнская царква*.





Кальвінскі **збор** у Койданаве (г. Дзяржынск). 1-я палавіна 16 ст. Агульны выгляд і схема планіроўкі.

**ЗВАНІЦА**, збудаванне для размяшчэння званоў. Здаўна вядома ў краінах Зах. Еўропы, на Беларусі — з часоў Кіеўскай Русі. Існавалі З. як асобныя збудаванні і званіцы-вежы як часткі інш. збудаванняў (культавых, грамадскіх і г. д.). Дадаткова выкарыстоўваліся як гасп. памяшканні, брамы, дазорна-сігнальныя вышкі, абарончыя вежы. Асн. тыпы мураваных З.— ярусныя і аркадныя. Найбольш яскрава рысы нар. дойлідства выявіліся ў драўляных З.: слупавых, каркасных, зрубна-каркасных.



**Званіца** ў в. Шарашова Пружанскага раёна. Канец 18 ст.

**ЗРУБ**, сцены драўлянага збудавання, складзеныя з бярвен або брусоў, злучаных у 4-вугольныя ці інш. формы вянкі.





Канструкцыі **зруба**: слупавая (зверху), вянковая.

# І

**ІАНІ́ЧНЫ О́РДЭР**, адзін з трох асноўных грэчаскіх архіт. *ордэраў*. Ствол калоны, аздоблены *канелюрамі* (вертыкальнымі жалабкамі), мае круглую базу складанага профілю (часам з п'едэсталам), *капітэль* з *валютамі*, якія прыкрываюць *эхін* (паўавал), і тонкай прамавугольнай у


Іанічны ордэр.


Ізбіца.


**Іканастас** Давыд-Гарадоцкай Георгіеўскай царквы.

плане плітой-абакам; *антаблемент* уключае *архітраў*, падзелены на 3 палосы (фасцыі), і карніз з *дэнтыкуламі* над высунутай плітой і высокай разной сімай зверху. Замест дэнтыкул у І. о. з атыкам суцэльная палоса *фрыза*, упрыгожаная рэльефам. І. о. адрозніваецца ад *дарычнага ордэра* большай лёгкасцю прапорцый і больш багатым дэкорам усіх частак. Як маст.-выразная форма І. о. склаўся ў каменным дойлідстве іанічных абласцей Стараж. Грэцыі (600—590 да н. э.). Класічныя ўзоры захаваліся ў Прапілеях, Эрэхтэёне, храме Ніке Аптэрас у Афінах.

**І́ЗБІЦА**, 1) у драўляным дойлідстве Беларусі, Польшчы, Украіны 16—17 ст. зрубная надбудова над замкавай вежай, завершаная шатром. Будавалася звычайна на драўляных замкавых сценах і выкарыстоўвалася як абарончае памяшканне. Выступала за аб'ём вежы. Знешнія выступы знізу былі адкрытыя і выконвалі ролю *машыкуляў*. 2) Зрубная апора мастоў.

**ІКАНАСТА́С** (грэч. eikōn выява, вобраз + stásis месца стаяння), перагародка з абразамі і варотамі паміж асн. і алтарнай часткамі інтэр'ера праваслаўнага храма. Склаўся на аснове нізкай алтарнай перагародкі з абразамі над ёй. У развітай форме (высокі І.) вядомы з пач. 15 ст. У І. ў маст. адзінстве спалучаюцца абразы і архіт. абрамленне. Агульную кампазіцыю І. вызначаюць строгая іерархія сюжэтаў (напр., у рус. І. ўнізе — «мясцовыя абразы», над імі радамі — «дэісусны чын», «святочны», «пракокі»), падкрэсленая вышыня радоў, прапорцыі асобных абразоў, іх рытмічны лад і каларыт, сіметрычнасць размяшчэння адносна цэнтр. вертыкальнай восі.На Беларусі захаваліся з 17 ст.

**ІМПО́СТ** (франц. imposte, італьян. imposta ад лац. impono кладу на, ускладаю), прафіляваная, часам скульптурна апрацаваная архіт. дэталь над слупам, лапаткай, капітэллю калоны (часта ў форме антаблемента) або прафіляваны камень сцяны, які служыць апорай для пяты аркі. У бел. дойлідстве І. выкарыстоўваўся з 12 ст. як дэкар.-канструкцыйны элемент. Часам несапраўдны І. дапаўняў дэкор збудавання. Сустракаецца ў помніках архітэктуры стыляў барока і класіцызму. У сучаснай архітэктуры І.— вертыкальны элемент (вузкі прасценак), што раздзяляе дзвярны або аконны праём ці 2 блізка размешчаныя аконныя праёмы.

**ІНТЭР'Е́Р** (ад франц. intérieur унутраны), унутраная прастора будынка або памяшкання. Характар І. вызначаецца комплексам функцыянальных, інж.-тэхн. і маст. задач. Пры яго стварэнні ўлічваюцца горадабудаўнічыя ўмовы, матэрыяльна-тэхн. магчымасці, нацыянальныя традыцыі, эканамічныя, ідэалагічныя і эстэтычныя патрэбы. Гэта дае магчымасць забяспечыць умовы для задавальнення асабістых запатрабаванняў людзей і іх грамадскай дзейнасці. Як арганізаваная прастора І. валодае вял. сілай уздзеяння на чалавека. Сродкі гэтага ўздзеяння: характар асяроддзя, яго асвятленне і колеравае вырашэнне, метрарытміка яго элементаў і іх падпарадкаванне зададзенаму маштабнаму строю. Для розных архіт. стыляў характэрна пэўная планіровачная і прасторавая структура, канструкцыйная сістэма, аддзелачныя матэрыялы, дэкор, мэбля і інш. І. жылля з'яўляецца спецыфічным відам архіт. асяроддзя, мае свой маштаб. Бытавыя працэсы вызначаюць узаемасувязь асобных памяшканняў кватэры. На працягу стагоддзяў складваліся формы жылога І., які заўсёды адлюстроўваў сацыяльную сутнаць і лад жыцця тых, для каго ён ствараўся.

**ІНТЭРКАЛУ́МНІЙ** (лац. intercolumnium ад inter паміж + columna калона, слуп), пралёт паміж калонамі, што стаяць побач. Пашыраны ў ордэрнай архітэктуры.

**ІО́НІК**, о в ы (ад лац. ovum яйцо), арнаментальны матыў на *капітэлях* і *карнізах* іанічнага і карынфскага архіт. *ордэраў*. Складаецца з яйцападобных выпукласцей, якія зрэзаны зверху, абрамлены валікамі і чаргуюцца з стральчатымі лістамі, павернутымі вастрыём уніз. Паверхня элементаў І. гладкая або аздоблена разьбой.


Імпост.



Інтэркалумній.


Іонік.



Какошнікі.

# К

**КАКО́ШНІК**, паўкруглая ці кілепадобная несапраўдная *закамара*, якая мае дэкар. значэнне. Найбольш характэрны для рус. культавага дойлідства 16—17 ст. Часта размяшчаліся ярусамі каля асновы шатроў і барабанаў купалаў культавых будынкаў. На Беларусі ўпершыню выкарыстаны ў 12 ст. ў Полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царкве. Быў пашыраны ў 2-й палове 19 — пач. 20 ст. ў культавай архітэктуры *псеўдарускага стылю*.

**КАЛАНА́ДА** (франц. colonnade), рад або рады калон, аб'яднаных гарызантальным перакрыццем ці *антаблементам*. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі будынкаў К. выкарыстоўваюцца ў выглядзе *порцікаў* і *галерэй*, якія прымыкаюць да будынка, аб'ядноўваюць яго асобныя часткі, звязваюць з навакольным асяроддзем (з прасторай двара або плошчы). Можа быць і самастойным збудаваннем. Унутры будынкаў К. абрамляюць залу, выкарыстоўваюцца для расчлянення параднага інтэр'ера ці сувязі яго асобных частак. Вядома ў манум. архітэктуры Старaж. Егіпта, Грэцыі і Рыма. Пашырана ў еўрап. архітэктуры стыляў Адраджэння, барока і класіцызму.



Каланада.

**КАЛАНЧА́** (цюрк. ад араб. kal'a крэпасць), вежа над будынкам, прызначэнне якой — назіраць за ўзнікненнем пажараў. К. мелі звон, пляцоўку для дзяжурнага і мачту для сігналізацыі. З развіццём тэлефоннай сувязі К. страціла сваё значэнне.

**КАЛО́НА** (франц. colonne ад лац. columna), архітэктурна апрацаваная вертыкальная апора, як правіла, круглая ў папярочным сячэнні; стрыжнёвы элемент будынка (збудавання), нясучай канструкцыі і інш. Служыць у асноўным для ўспрымання вертыкальнай нагрузкі. Бывае каменная, мураваная (з цэглы, каменю, бетону), жалезабетонная, металічная, драўляная. К. вядома ў старажытнасці як элемент стоечна-бэлечнай канструкцыі. У архітэктуры Стараж. Грэцыі і Стараж. Рыма распрацаваны своеасаблівыя маст. формы К., якія ўвайшлі ў сістэму архіт. *ордэраў*. У класічнай архітэктуры гал. элемент К.— ствол — ставіўся на *базу*, часта патанчаўся ўверсе, меў *энтазіс* (патаўшчэнне ў сярэдняй частцы), апрацоўваўся *канелюрамі*, увенчваўся *капітэллю*. Маст. выразнасць К. вызначаецца яе прапорцыямі, чляненнямі, пластычнай апрацоўкай, адносінамі вышыні і дыяметра К. да *інтэркалумнія* (пралёт паміж 2 калонамі) і да абсалютных памераў збудавання. К. выкарыстоўваліся ў кампазіцыі фасадаў і інтэр'ераў як элемент порціка, партала, галерэі, каланады, а таксама для архіт. апрацоўкі сцен (трохчвэртныя К., паўкалоны, прыстаўныя К.).

**КАМПАЗІ́ТНЫ О́РДЭР**, адзін з архітэктурных *ордэраў*. Як маст.-выразная форма К. о. склаўся ў архітэктуры Стараж. Рыма. Нясучыя часткі — ствол калоны (аздоблены канелюрамі — вертыкальнымі жалабкамі) з *капітэллю* і *базай*. Капітэль К. о. спалучае ніжнюю частку капітэлі *карынфскага ордэра* і іанічнай *валюты*. Над капітэллю — квадратная ў плане са зрэзанымі вугламі і ўвагнутымі бакамі прафіляваная пліта *абак*. Над абакам ляжыць бэлька — *архітраў*, падзелены на 3 палосы (фасцыі). Над архітравам *фрыз*, над якім выступаюць адна над адной паліцы карніза, дэкарыраванага *мадульёнамі*.



**Кампазітны ордэр.** Капітэль порціка Гомельскага палаца.

**КАМПАЗІ́ЦЫЯ**, гарманічныя суадносіны ідэйна-маст. прынцыпаў, функцыянальнага прызначэння, канструкцыйных асаблівасцей і горадабудаўнічай ролі будынкаў, збудаванняў і іх комплексаў. К. вызначае архіт. аблічча, планіровачную пабудову горада ў цэлым або архіт. *ансамбля*, асобнага будынка ці збудавання. Найбольш пашыраныя сродкі К., якія выкарыстоўваюцца для гарманізацыі прасторавых форм — *сіметрыя* і *асіметрыя, кантраст* і *нюанс, рытм*, суразмернасць частак і цэлага, *прапорцыі, маштабнасць;* вылучэнне галоўнага ў К., святло, колер, фактура. Арганічнае адзінства прынцыпаў К. і функцыянальна-канструкцыйнай асновы архіт.

дэкору стварае *архітэктоніку* збудавання. Асн. прыёмы К. ў горадабудаўніцтве: цэнтрычны — у планіровачнай структуры горада вызначаецца кампазіцыйны цэнтр; анфіладны — шэраг прасторава раскрытых адна да адной плошчаў, якія ўтвараюць сістэму архіт. ансамбляў; магістральны — спалучэнне прасторава ўзаемазвязаных ансамбляў, размешчаных на адной восі; панарамна-групавы — групы архіт. ансамбляў вызначаюць кампазіцыйную будову і сілуэт горада. Сярод тыпаў аб'ёмна-прасторавай К. будынкаў і збудаванняў вылучаюць: замкнёную (групуе аб'ёмы будынка вакол унутранага двара), паўзамкнёную (П-падобная групоўка карпусоў), цэнтрычную (памяшканні будынка групуюць вакол гал. цэнтр. аб'ёму, вылучанага шатром, купалам), падоўжна-восевую (гал. прасторавае ядро развіваецца ў глыбіню плана будынка), кампактную (памяшканні групуюцца вакол вял. прастораў, якія не маюць натуральнага асвятлення), адкрытую (асн. памяшканні будынкаў маюць кантакт з навакольным асяроддзем і натуральнае асвятленне). Сучасная архітэктура вызначаецца свабоднымі, арганічнымі К., рознымі аб'ёмна-планіровачнымі вырашэннямі і архіт. формамі.



Кансоль.

**КАМЯНІЦА**, мураваны каменны або цагляны будынак.

**КАНЕЛЮ́РЫ** (ад франц. cannelure жалабок), жалабкі вертыкальныя на ствале *калоны* або *пілястры* і гарызантальныя на *базе* калоны *іанічнага ордэра.* Сфарміраваліся ў архітэктуры Стараж. Грэцыі ў *дарычным ордэры.* У Зах. Еўропе, Расіі і на Беларусі пашыраны ў архітэктуры барока і класіцызму.

**КАНСЕРВА́ЦЫЯ** (ад лац. conservatio захаванне), сукупнасць мер, накіраваных на працяглую ахову аблічча (першапачатковага або да моманту паступлення на К.) помнікаў гісторыі, культуры і мастацтва ад вільгаці, тэмпературных змен, механічных пашкоджанняў. Непасрэдна звязана з *рэстаўрацыяй.* Адрозніваюць 2 віды К. помнікаў: часовая забяспечвае зберажэнне ў некранутым выглядзе і дае магчымасць даследаваць помнік, вывучаць прычыны яго разбурэння (для помнікаў архітэктуры — умацоўваюць грунт, сцены, ставяць агароджы, навесы, падпоркі); пастаянная прадугледжвае ўмацаванне помніка і стварэнне ўмоў для працяглага захавання і экспанавання. Пастаянная К. цалкам або часткова праводзіцца ў спалучэнні з рэстаўрацыйнымі работамі.

**КАНСО́ЛЬ** (франц. console), выступ у сцяне ці замураваная адным канцом у сцяну бэлька, якая падтрымлівае карніз, балкон, фігуру, вазу і інш.

**КАНСТРУКТЫВІ́ЗМ** (ад лац. constructio пабудова), кірунак узнік пасля 1-й сусв. вайны, пашыраны ў 1920—30-я гады. Гал. прынцыпы К. — максімальная мэтазгоднасць планіровачных вырашэнняў і канструкцый, дакладная адпаведнасць будынка яго прызначэнню, эканамічнасць буд-ва. Маст. выразнасць выяўлялася праз лаканізм форм. Будынкам характэрна геаметрычнасць аб'ёмаў, кантраст глухіх паверхняў сцен з вял. плошчамі зашклення, плоскія дахі, гарызантальныя вокны, адкрытыя апоры ў ніжніх паверхах. К. у шэрагу краін меў спецыфічныя адценні і назвы (*рацыяналізм,* «новая архітэктура») і быў часткаю больш шырокай з'явы — *функцыяналізму.* Прадстаўнікі К. ў сав. архітэктуры галоўным лічылі функцыянальную арганізацыю прасторы і імкнуліся асэнсаваць форматворчыя магчымасці новай тэхнікі, яе лагічных мэтазгодных канструкцый, а таксама эстэтычных якасцей матэрыялаў (жалезабетон, метал, дрэва, шкло), сцвярджалі прастату і падкрэслены утылітарызм архіт. форм.




**Канструктывізм.** Праект аддзялення газеты «Ленинградская правда» ў Маскве. Архітэктары Л. В. і А. Весніны. 1924.

**КАНТРА́СТ** (ад франц. contraste рэзка выяўленая процілегласць), адзін з асн. сродкаў стварэння *кампазіцыі* будынкаў, збудаванняў, комплексаў і ансамбляў, пры якім выкарыстоўваюцца процілеглыя маст. якасці асобных элементаў кампазіцыі. К. павышае *дынаміку* архітэктуры, выяўляе гал. часткі архіт. твора, узмацняе выразнасць маст. формы. Актыўную ролю ў стварэнні К. адыгрывае ко-





**Капітэлі:** іанічная (зверху) і карынфская.

леравае вырашэнне, пры якім яркімі колерамі вылучаюць найбольш важныя ў кампазіцыі часткі будынкаў і збудаванняў.

**КАПІТЭ́ЛЬ** (ад позналац. capitellum галоўка), пластычна вылучаная верхняя частка вертыкальнай апоры (слупа ці калоны) або *пілястры*, якая перадае на іх нагрузку ад *архітрава* і размешчаных вышэй яго частак будынка. Узнікла як маст. элемент архіт. ордэра ў краінах Старaж. Усходу. У антычнай Грэцыі склаліся класічныя тыпы К.: дарычная, іанічная, карынфская (гл. ў арт. *Дарычны ордэр, Іанічны ордэр, Карынфскі ордэр*), у архітэктуры Стараж. Рыма — кампазітная і тасканская (гл. ў арт. *Кампазітны ордэр, Тасканскі ордэр*). Своеасаблівыя маст. формы К. ўзніклі ў архітэктуры сярэдневяковай Візантыі, краін паўд. і Сярэдняй Азіі, Балкан, Закаўказзя, у еўрап. раманскім і гатычным стылях. З эпохі Адраджэння шырока вар'іраваліся тыпы антычных К., выкарыстоўваліся таксама К., у якіх спалучаліся класічныя формы з мясцовымі арнаментальнымі матывамі.

**КАПЛІ́ЦА**, невялікая паводле аб'ёму культавая пабудова, якая не мае асобнай прасторы для алтара. Вядома з 16 ст. Можа ўваходзіць у аб'ём большага збудавання ці стаяць асобна. У залежнасці ад месцазнаходжання пабудовы можа быць мемарыяльная, манастырская, пахавальная (акрамя асн. памяшкання, мелі склепы-*крыпты*), прыдарожная (гал. чынам слупавая канструкцыя пад шатровым дахам, асобны невял. аб'ём або калона для размяшчэння культавай скульптуры) і інш. Найбольшае пашырэнне набылі простыя па форме 1-ярусныя К., *ратонды* з порцікамі на гал. фасадзе, слупавыя канструкцыі пад шатровым дахам ці балдахінам.

**КАРДЭГА́РДА** (франц. corps de garde), збудаванні ў гарадах і замках 16—18 ст. для размяшчэння каравула. Будаваліся з цэглы, каменю, дрэва, у тэхніцы *«пруска̀га муру»*, звычайна ў комплексе з брамай. Унутры былі жылыя памяшканні, у вялікіх і афіцэрскі пакоі. Часам К. аб'ядноўваліся з астрогам, таможняй.

**КАРКА́С** (франц. carcasse ад італьян. carcassa), нясучая канструкцыя з вертыкальных стоек або калон і гарызантальных элементаў (бэлек, рыгеляў, прагонаў), якія апіраюцца на яе. Успрымае асн. нагрузкі і забяспечвае трываласць і ўстойлівасць збудавання ў цэлым. К. будынкаў робяць з жалезабетону, сталі, алюмініевых сплаваў, дрэва і часткова з муру. У каркасна-панельных будынках на К. мацуюцца агараджальныя канструкцыі — сценавыя панелі. У некаторых выпадках К. будынкаў можа быць няпоўным (унутраным), калі вонкавыя сцены разам з К. з'яўляюцца нясучымі канструкцыямі. Маналітныя жалезабетонныя і стальныя К. выкарыстоўваюць у буд-ве унікальных збудаванняў — прамысл. будынкаў, выставачных павільёнаў і інш.

**КАРМЕЛІ́ТЫ**, манахі каталіцкага жабрацкага ордэна (не маглі мець уласнасці, сталага жылля, павінны былі жыць жабрацтвам), заснаванага каля 1154 у Палесціне. Назву атрымалі ад гары Кармель, дзе знаходзілася першая абшчына К. У сярэдзіне 13 ст. перасяліліся ў Зах. Еўропу. Ордэн зацверджаны рымскім папам Інакенціем IV у 1247. У канцы 14 ст. з'явіліся ў Польшчы, адкуль пранікл на Беларусь. Першыя кляштары і касцёлы К. засноўваліся пераважна на ўсходніх межах Вял. кн. Літоўскага. Кляштары і касцёлы К. былі ў Мсціславе (з 1620), Бялынічах (з 1623), Глыбокім (з 1639), Чавусах (з 1653), Магілёве (з сярэдзіны 17 ст.), Лідзе (з 1676), Мінску (з 1677), Жалудку (з 1685), Гродне, Брэсце, Пінску, Чэрыкаве і інш.— усяго 23. Касцёлы і кляштары К.— выдатныя помнікі стылю барока. Пасля далучэння Беларусі да Расіі ўплыў К. пачаў хутка памяншацца. Канчаткова іх кляштары зачынены ў сярэдзіне 19 ст. Зараз у розных краінах свету каля 20 тыс. К. Манахі ордэна часта выступаюць як місіянеры.

**КАРНІ́З** (ням. Karnies ад грэч. korōnis канец, завяршэнне), гарызантальны выступ на сцяне, які падтрымлівае дах (пакрыццё) будынка



**Карніз.**

і ахоўвае сцяну ад сцёку вады; мае і дэкар. значэнне. К. бываюць: верхні (завяршае *антаблемент*), прамежкавы (падзяляе фасад на асобныя ярусы), цокальны (завяршае цокаль будынка), надаконны і падаконны і інш.; вонкавыя і ўнутраныя. Былі пашыраны ў архітэктуры Стараж. Грэцыі. Найбольш часта выкарыстоўваліся ў архітэктуры стыляў барока, ракако, класіцызму; мелі складаную прафілёўку, раскрапоўку пілястрамі і лапаткамі. У драўляным дойлідстве прафіляваныя К. паявіліся ў 2-й палове 18 ст. пад уплывам мураванай архітэктуры.

**КАРТУ́Ш** (франц. cartouche ад італьян. cartoccio, літар. скрутак, мяшочак), упрыгожанне ў выглядзе дэкаратыўна акаймаванага шчыта або паўразгорнутага скрутка, на якім адлюстраваны герб, эмблема, надпіс. Адзін з найбольш пашыраных дэкар. матываў у еўрапейскім мастацтве 15—19 ст. Найчасцей К. выкарыстоўвалі ў архіт. дэкоры: змяшчалі над параднымі ўваходамі ў палацы, дзе іх часта падтрымлівалі або фланкіравалі скульпт. выявы пуцці, анёлаў, звяроў, птушак, над уязнымі брамамі і інш. К. выраблялі з розных матэрыялаў (камень, дрэва, метал, стука і інш.) і ў розных тэхніках.



Картуш.

**КАРЧМА́**, комплекс будынкаў і збудаванняў, дзе спыняліся, харчаваліся, начавалі падарожныя. Былі пашыраны на Беларусі, Украіне, у Польшчы. Ставіліся на гандл. плошчах і гал. вуліцах гарадоў і мястэчак, у вёсках і фальварках, на гандл. шляхах, каля рачных пераправаў, пры млынах і інш. Вялікія К. наз. *аўстэрыямі.* Кампактныя, пераважна прамавугольныя ў плане будынкі рабілі з дрэва, цэглы, у тэхніцы *«прускага муру»*, завяршалі 2-схільнымі вальмавымі і паўвальмавымі дахамі, накрытымі саломай, чаротам, дранкай, гонтамі. Значнае месца ў пабудове займалі сенцы, якія часам служылі і стайняй. У некаторых К. жылыя пакоі размяшчаліся на 2-м паверсе або ў мезаніне, вылучаліся *падчэнямі,* утворанымі вял. вынасам страхі. Многія К. мелі прыбудаваныя да тарца або дваровага фасада вазоўні, з якіх быў уваход у сенцы ці непасрэдна ў сталовую. Манум. выгляд мелі мураваныя К. са складанай планіроўкай, багатым вонкавым аздабленнем, насычаным пластыкай інтэр'ерам.



**Карчма** ў в. Гнезна Ваўкавыскага раёна. 18 ст.

**КАРЫ́НФСКІ О́РДЭР**, адзін з трох асн. грэчаскіх архітэктурных *ордэраў.* Склаўся ў 2-й палове 5 ст. да н. э. ў Стараж. Грэцыі (карынфская калона ў храме Апалона ў Басах на Пелапанесе, каля 430 да н. э.) як больш насычаны дэкорам варыянт *іанічнага ордэра.* Вызначаецца высокай капітэллю, упрыгожанай стылізаванымі лістамі аканта і завіткамі; *мадульёны* або больш развітыя кансолі пад увянчальнай плітой карніза замяняюцца *дэнтыкуламі* або выкарыстоўваюцца ў спалучэнні з імі. Ад інш. ордэраў адрозніваецца большай лёгкасцю прапорцый, насычанасцю дэкорам. Атрымаў пашырэнне ў архітэктуры элінізму і асабліва Стараж. Рыма.



Карынфскі ордэр.

**КАРЫЯТЫ́ДА** (ад грэч. Karyátides жрыцы храма Арцеміды ў Карыях, у вобл. Лаконіка Стараж. Грэцыі), скульптурная выява жанчыны ў поўны рост, якая служыць апорай бэлькі ў архіт. збудаванні ці вобразна выяўляе гэту функцыю. К. звычайна прылягаюць да сцяны ці выступаюць з яе. Пашырана ў антычнай (храм Эрэхтэён у Афінах і інш.) і еўрапейскай архітэктуры 17—19 ст.



Карыятыда.

**КАСКА́Д** (франц. cascade ад італьян. cascata ад cascare імкліва падаць уніз), прыродны або штучны вадаспад з уступамі, лесвіцамі. У садова-паркавым мастацтве і *ландшафтнай архітэктуры*, у т. л. водназялёнай сістэме горада, К.— сістэма вадаспадаў, якія ствараюцца вадаёмамі, размешчанымі на розных узроўнях. У паркавых кампазіцыях К. узбагачаецца архіт. элементамі і прыроднымі формамі з натуральнага каменю. Штучныя К. набываюць маляўнічасць і дэкаратыўнасць у спалучэнні з вільгацялюбнымі кустамі, кветкамі, дэкар.-ліставымі раслінамі.

**КАСТЭ́ЛЬ** (лац. castellum), замак, пабудаваны ў цяжкадаступным месцы, цытадэль, гал. частка замка — умацаваны жылы дом прадстаўніка ўлады (кашталяна) або феадала. Першыя К. паявіліся ў Ста-

раж. Рыме. Мелі выгляд невял. 4-вугольнага ў плане ўмацавання, якое спалучала формы рымскага лагера з рысамі замка. Пасярэдзіне кожнага з 4 бакоў К. знаходзіліся брамы, якія звычайна фланкіраваліся 2 вежамі. Вежы часта ўзводзілі і на вуглах умацавання. Памяшканні для жаўнераў і стайні прымыкалі да ўнутраных бакоў мураваных сцен або схілаў валоў: пасярэдзіне К. пакідалася вольная пляцоўка. Пазней форма К. запазычана візантыйцамі і народамі Зах. Еўропы. У 12—14 ст. К. ўзводзілі крыжакі і лівонскія рыцары ў Прыбалтыцы. На Беларусі і ў Літве замкі К. будаваліся ў 13 — 1-й палове 14 ст. для абароны ад крыжакоў. Беларускія і літоўскія К. адрозніваліся ад крыжацкіх большымі памерамі, узводзіліся сярод балот на невял. пясчаных выспах, часта штучных. Уяўлялі сабой пляцоўку, замкнёную высокімі (да 15—16 м) сценамі, змураванымі з палявога каменю, і 1—2 вежамі. З найбольш небяспечных бакоў рабіліся равы, якія часта абвадняліся. Гарнізонныя памяшканні будаваліся з дрэва па ўнутраных баках сцен. Сярод пабудоў вылучаўся памерамі дом кашталяна (таксама драўляны). Пасярэдзіне К. на вялікім, часта брукаваным двары выкопваліся 1 або 2 студні. У час варожага набегу на замкавым двары знаходзілі паратунак жыхары навакольных вёсак.

**КАСЦЁЛ** (польск. kościół —), польская і беларуская назва каталіцкага храма.

**КЕРА́МІКА АРХІ́ТЭКТУ́РНАЯ** [грэч. keramikē (téchnē) ганчарнае мастацтва ад kēramos гліна], вырабы розных профіляў і абрысаў з прыродных глін або іх сумесей з мінеральнымі дабаўкамі, абпаленыя да каменепадобнага стану. Выкарыстоўваецца для аздаблення нясучых і агарадджальных канструкцый: карнізаў, паяскоў, плінтусаў, падаконнікаў, перамычак, калон, вуглавых частак.

**КЕСО́НЫ** (ад франц. caisson, літар.— скрыня), паглыбленні на столі, унутраных паверхнях арак, скляпенняў звычайна квадратнай ці інш. шматвугольнай формы. Адыгрываюць канструкцыйную і дэкар. ролю, выкарыстоўваюцца для паляпшэння акустыкі памяшканняў. Вырабляюць з каменных блокаў і маналітных жалезабетонных канструкцый. Як канструкцыйна-дэкар. элемент вядомы з старажытнасці, пашыраны ў манум. архітэктуры Старaж. Грэцыі, адкуль запазычаны Старaж. Рымам (купал Пантэона ў Рыме, каля 125 н. э.), пазней Зах. Еўропай.



**Кесоны** купала Пантэона ў Рыме. Каля 125 н. э.

**КІ́РХА** (ням. Kirche), лютэранскі храм.

**КЛАСІЦЫ́ЗМ** (ад лац. classicus узорны), кірунак у еўрапейскай маст. культуры 2-й паловы 17 — пач. 19 ст. Сутнасць яго выявілася ў кананізацыі антычнай класікі як дасканалага ўзору для наследавання. Характарызуецца універсальнасцю і адносным стылявым адзінствам. Склаўся ў Францыі ў 17 ст., у 18 — 1-й палове 19 ст. стаў асн. маст. стылем у большасці еўрапейскіх краін. Архітэктура К. заснавана на выкарыстанні структурных і маст.-дэкар. магчымасцей антычнай ордэрнай сістэмы (пераважна дарычнай), на выяўленні яе тэктанічных заканамернасцей, прапарцыянальнасці і сувымернасці аб'ёмаў і дэталей будынка. Архітэктуры К. уласцівы строгія сіметрычна-восевыя кампазіцыі і формы, логіка дакладных планаў, стрыманасць дэкар. аздобы. Горадабудаўніцтва ўпершыню стала разглядацца як цэласная рацыянальна спланаваная сістэма. На строгай рэгулярнай аснове ствараліся вял. гарадскія ансамблі і плошчы, узводзіліся палацы і ўрадавыя будынкі. У аснову архіт. замыслаў кладзецца сіметрычнасць і ўраўнаважанасць у пабудове аб'ёмаў і ўнутранай прасторы збудаванняў, строгая арганізацыя гарадскога і прыроднага (рэгулярныя паркі) асяроддзя. У канцы 18 ст. збудаванні ў стылі К. вызначаліся строгасцю, прастатой дэкар. апрацоўкі фасадаў, кампактнасцю аб'ёмаў, правільнымі геам. планамі, тонкім і стрыманым архіт. дэкорам; у пач. 19 ст.— манументальнасцю, урачыстасцю; к сярэдзіне 19 ст. К. стаў дагматычным антыдэмакратычным стылем.



**Класіцызм.** Вежа Адміралцейства ў Пецярбургу. Архітэктар А. Захараў. 1806.

**КЛАЎЗУ́РА**, від трэніровачных практыкаванняў, скіраваных на развіццё кампазіцый-

ных здольнасцей, фантазіі і кемлівасці ў вучэбным праектаванні. Выконваецца на белай ці каляровай паперы ў тэхніцы чарцяжа або малюнка. Асаблівы эскізны характар выканання дае шырокія магчымасці ў выбары графікі і матэрыялаў. Сістэма К. памагае студэнтам у пачатку работы стварыць рабочую гіпотэзу і акрэсліваць напрамак далейшага пошуку. К. выкарыстоўваюць як праверачны (без права карыстацца дапаможнікамі, адсюль назва) ці вучэбна-трэніровачны метад работы, або як форму заліку.

**КЛЕЦЬ**, 1). традыцыйная драўляная гасп. пабудова для хавання збожжа, прадуктаў, адзення і інш. 2) Прамавугольны або квадратны ў плане зруб, які выкарыстоўвалі пры буд-ве абарончых збудаванняў (вежы, гародні), жылля, гасп. і інш. пабудоў. Храмы з прамавугольнымі зрубамі і 2-схільнымі дахамі (без вярхоў і шатроў) наз. клецевымі.

**КЛУ́НЯ**, гаспадарчая пабудова для захоўвання і апрацоўкі неабмалочанай збажыны, саломы; тое што і *гумно.*



**Кляштар.** План: *1* — касцёл; *2* — сакрысцыя; *3* — клуатр; *4* — студня; *5* — зала капітула; *6* — рэфекторый (трапезная зала); *7* — кухня; *8* — дом абата; *9* — шпіталь.

**КЛЯ́ШТАР** (ад лац. claustrum замо́к, закрытае месца, апора), каталіцкі манастыр. Класічны тып кляштара выпрацаваны ордэнам *бенедыкцінцаў.* Гэта быў замкнёны ансамбль будынкаў або памяшканняў для жыцця манаскай суполкі. Цэнтрам ансамбля быў касцёл. Каля яго рабілі абкружаны крытай галерэяй (клуатрам) чатырохвугольны двор, сад. З усходу да клуатра прымыкала зала капітула, з захаду — келлі, або дарміторый. Насупраць касцёла будавалі трапезную залу (рэфекторый). Астатнія будынкі (дом абата, шпіталь, школка, гасп. пабудовы) размяшчаліся на тэрыторыі ў межах кляштарных муроў. Бенедыкцінскі тып кляштара быў запазычаны большасцю каталіцкіх ордэнаў і прыстасаваны адпаведна характару іх дзейнасці.


**Контрфорс.**

**КО́НТРФО́РС** (франц. contrefort ад contre-force процідзейная сіла), папярочная сценка, вертыкальны выступ ці рабро для ўмацавання нясучай канструкцыі, пераважна сцяны. К. прымае на сябе ціск бакавога распору ад скляпення будынка, ціск грунту на падпорныя сценкі і г. д. Вядомы ў еўрапейскай архітэктуры стылю готыкі з 12 ст. (сабор у Рэймсе, Францыя, і інш.). Узніклі з развіццём каркасна-апорнай канструкцыі збудаванняў, пры якой асн. нагрузка ад перакрыццяў перадавалася з дапамогай сістэмы падпружных арак, нервюр, аркбутанаў на калоны і апорныя часткі сцен, умацаваныя К. Гэта давала магчымасць патанчаць ненагружаныя часткі сцен, павялічваць пралёты і праёмы, рабіць больш свабоднай і дынамічнай прастору інтэр'ераў.


**Конха.**

**КО́НХА** (ад грэч. kónchē ракавіна), паўкупал, які пакрывае паўцыліндрычныя часткі збудаванняў (апсід, нішаў). Узніклі ва ўсх.-элінічнай архітэктуры, шырока выкарыстоўваліся ў рымскім і візантыйскім дойлідстве, у сярэдневяковых хрысціянскіх храмах. У К. звычайна змяшчаліся мазаікі ці размалёўкі, нярэдка спалучаліся з *распалубкамі* і *нервюрамі.*


**Крабы.**

**КРАБ** (ням. Krabbe), дэкаратыўная дэталь у выглядзе стылізаванага лісця ці кветак на шчытах, вімпергах, пінаклях і інш. элементах гатычнага будынка.

**КРА́МА**, тып гандлёвага збудавання на Беларусі ў 16 — пач. 20 ст. 1—2-павярховы (на 1-м паверсе К., на 2-м — склад) драўляны ці мураваны будынак, завершаны 2-схільным дахам часам мела *падчэні.* Найчасцей размяшчалася на гандл. плошчы або прылеглых да яе вуліцах, магла быць часткай *гандлёвых радоў, гасціных двароў* і жылля гандляроў.

**КРАНШТЭ́ЙН** (ням. Kragstein), выступ у сцяне, часта прафіляваны (з дэкар. завіткамі або інш. ўпрыгожаннямі), які падтрымлівае карнізы, балконы і інш. Драўляныя К. ствараліся паступовым павелічэннем выпуску астатку знізу ўверх або ў выглядзе 3-вугольных кансолей. Мураваныя К. звычайна маюць прафілёўку, аздабляюцца ляпнымі дэталямі. Металічныя К.— ажурнае ліццё з раслінным арнаментыкай і маст. коўкай — характэрны для стылю мадэрн. Разнавіднасць К.— *мадульён.*


**Кранштэйны.**



Кроквы.

**КРО́КВЫ**, апорныя канструкцыі *страхі* і *даху;* брусы, верхнімі канцамі злучаныя пад вуглом, а ніжнімі прымацаваныя да бэлек або да верхняга вянка падоўжных сцен. Больш даўнія ў бел. нар. дойлідстве канструкцыі стрэх (на сохах, «на казлах», «на дзядках», *закотам*) былі пашыраны і ў манум. архітэктуры. К. падзяляюць на нахіленыя (выкарыстоўвалі ў жылых дамах з пралёткам 5—8 м) і вісячыя (у манум. збудаваннях з пралётамі 8—20 м і высокім дахам). У архітэктуры Беларусі найбольш пашыраны кроквенна-рыгельныя фермы, якія даюць магчымасць ствараць разнастайныя формы даху, узбагачаць кампазіцыю збудаванняў.



Шарамецеў круглік. З «Чарцяжа» Віцебска 1664.

**КРУ́ГЛІК**, 8-гранная ў плане драўляная абарончая вежа, часам квадратнага сячэння ў 1-м ярусе з 8-products-ганнымі наступнымі ярусамі і высокім шатровым дахам; тып абарончага збудавання 16—17 ст. Вядомы ў фартыфікацыйным дойлідстве зах. і ўсх. славян. У Віцебскіх замках у 17 ст. былі К.: Валконскі, Духаўскі, Шарамецеў, Бабарыкін, Мяшчанскі.

**КРЫЖО́ВА - КУ́ПАЛЬНЫ ХРАМ**, тып хрысціянскага храма. Як тып храма ўзнік у 6 ст., сфарміраваўся ў 9—12 ст. у Візантыі. У класічным варыянце мае 4 злучаныя аркамі вертыкальныя апоры, на якія з дапамогай ветразяў апіраецца *барабан*, перакрыты *купалам.* Прасторавыя ячэйкі паміж апорамі і сценамі размешчаны па ўзаемна перпендыкулярных восях, перакрываюцца паўцыркульнымі і крыжападобнымі скляпеннямі. Вуглавыя ячэйкі перакрываюцца больш нізкімі скляпеннямі ці купаламі. Гэта ўстойлівая сістэма ўзаемазвязаных прасторавых ячэек абумоўлівае стройную кампазіцыю. Гал. ролю ў ёй адыгрывае цэнтр. купал, высока падняты на барабане. Ярусам ніжэй размяшчаюцца скляпеністыя рукавы крыжа, яшчэ ніжэй — вуглавыя памяшканні. Вял. ролю ў стварэнні архіт. аблічча адыгрывае пластычная выразнасць масіўных сцен і апор. У кампазіцыю інтэр'ера К.-к. х. з яго вял. паверхнямі сцен і скляпенняў арганічна ўваходзіла храмавая размалёўка.



Крыжова-купальны храм.

**КРЫ́ПТА** (лац. crypta ад грэч. kryptē крыты надземны ход, тайнік), 1) у Стараж. Рыме — скляпеністае падземнае або паўпадземнае памяшканне. 2) У сярэдневяковай заходнееўрапейскай архітэктуры — капліца пад храмам (звычайна пад алтарнай часткай), месца ганаровых пахаванняў.



Крыпта.

**КУ́ПАЛ** (італьян. cupola купал, скляпенне ад лац. cupula бочачка), прасторавае пакрыццё будынкаў і збудаванняў, якое перакрывае круглыя, шматвугольныя, эліптычныя ў плане памяшканні. Формы К. ўтвараюцца рознымі крывымі, выпуклымі вонкі. У К. звычайна ўзнікаюць гарызантальныя напружанні (распор), якія перадаюцца на канструкцыю, што яго падтрымлівае, або ўспрымаюцца ніжнім (апорным) кальцом самога К. Выкарыстоўваюцца гал. чынам у грамадскіх будынках і інж. збудаваннях. Каменныя (цагляныя) К. ўзводзіліся на цыліндрычных сценах (барабане) ці на квадратным падмурку з дапамогай спец. скляпенняў (паруса, *тромпы*), дасягнулі значнай дасканаласці форм у архітэктуры Стараж. Рыма і Візантыі. К. з вонкавымі абалонкамі былі шырока распаўсюджаны ў рус. архітэктуры сярэднявечча, а таксама ў дойлідстве Сярэдняй Азіі. У 20 ст. з развіццём маналітнага і зборнага жалезабетону, танкасценных скляпенняў-абалонак і металічных канструкцый рэзка павялічылася разнастайнасць структур і форм К.: паявіліся К. рабрыстыя, рабрыста-кальцавыя, сеткаватыя, з хвалістай унутранай паверхняй, «геадэзічныя» (утвораныя з стандартных шматвугольных элементаў), зборныя і інш. Ствараюцца новыя тыпы К. з палімерных матэрыялаў, з падвойнай надзіманай абалонкай і інш.



Купал з ліхтаром.

**КУРДАНЁР** (ад франц. cour d'honneur, літар. ганаровы двор), парадны паўраскрыты двор перад будынкам, утвораны асн. будынкам і яго 2 бакавымі крыламі (радзей каланадай). Пашыраны ў еўрапейскай палацавай архітэктуры 17 — 1-й пал. 19 ст., на Беларусі — у палацавых і сядзібных комплексах 18—19 ст.



**Курданёр** палаца ў в. Свяцк Гродзенскага раёна. 2-я палавіна 18 ст.

# Л

**ЛАБІРЫ́НТ** (грэч. labýrinthos), квадратны або круглы ў плане ўчастак парку з мудрагелістым размяшчэннем дарожак, афармленых *шпалерамі* або *баскетамі.* Звычайна меў у цэнтры пляцоўку з фантанам. Пашыраны ў *рэгулярных парках* Еўропы стылю рэнесансу і барока.

**ЛА́ЗНЯ**, спецыяльная пабудова для мыцця і парання. У Стараж. Рыме былі пашыраны грамадскія Л. з заламі для спорту, сходаў і інш.— тэрмы. Вядомы са старажытнасці ў нар. дойлідстве Беларусі. Існавалі так званыя «чорныя» (курныя) і «белыя» Л. Курныя рубленыя Л. невял. памераў (6—15 м²) былі нізкія квадратныя або прамавугольныя ў плане, без падмуркаў, накрытыя 2-схільнымі дахамі з саломы ці драніцы, мелі прылазнік. З пач. 20 ст. Л. робяць з дымаходамі. Выкарыстоўвалі іх таксама як сушыльні для лёну, канапель і інш. Больш развіты тып Л.— «белыя» Л. (мелі абліцаваныя кафляй печы з умураванымі ў іх чанамі для падагрэву вады, медныя або латунныя ванны). Нярэдка блакіраваліся з бровaрамі, варыўнямі, клецямі і іншымі гасп. пабудовамі. У буйных сядзібах Л. вырашаліся ў выглядзе рымскіх тэрм: былі 2-ярусныя цэнтрычныя збудаванні з галерэямі, завяршаліся купаламі і вежамі.





Лазня.

**ЛАНДША́ФТ АРХІТЭКТУ́РНЫ** (ням. Landschaft), ландшафт, які фарміруецца з мэтай прасторавай (архітэктурнай) арганізацыі жыццёвага асяроддзя. Да Л. а. адносяць ландшафты, пераўтварэнне якіх звязана з прыўнясеннем у іх пераважна архіт. якасцей (забудова, геапластыка з элементамі вонкавага добраўпарадкавання і дэкар. брукаваннем, водныя збудаванні, зялёныя насаджэнні ў пэўнай кампазіцыі). Л. а. бывае гарадскі, паркавы, рэкрэацыйны, тэрыторыі жылой забудовы, вытворчых аб'ектаў і інш. Дыяпазон суадносін прыроднага і штучнага ў Л. а. вельмі шырокі: ад гіст. цэнтраў гарадоў са шчыльнай забудовай і адсутнасцю водных і зялёных прастораў да асобных збудаванняў у прыродным асяроддзі. Л. а. ацэньваюць па ступені гарманічнасці спалучэння архітэктурных і прыродных яго кампанентаў.

**ЛАНДША́ФТНАЯ АРХІТЭКТУ́РА**, архітэктура адкрытых (пераважна незабудаваных) прастораў, у арганізацыі якіх вядучая роля належыць прыродным элементам (зялёныя насаджэнні, кветкі, рэльеф, вадаёмы, вадацёкі), малым архіт. формам, элементам знешняга добраўпарадкавання (падпорныя сценкі, лесвіцы, пандусы, пакрыцці дарог, алей, сцежак і інш.). Сучасная Л.а. — асаблівая галіна архітэктуры і горадабудаўніцтва. Акрамя стварэння садоў, паркаў, сквераў, бульвараў, Л. а. вырашае ландшафтныя пытанні буйнога тэрытарыяльнага маштабу ў праектах і схемах *раённай планіроўкі,* фарміраванне водна-зялёных сістэм населеных месцаў, стварэння здаровага і прыгожага асяроддзя вытворчых, жылых і рэкрэацыйных утварэнняў, эстэтычнай распрацоўкі элементаў *ландшафту архітэктурнага.* Сродкі Л. а. выкарыстоўваюцца пры стварэнні мемарыяльных комплексаў, буд-ве аўтадарог, асобных архіт. аб'ектаў. Задачы Л. а. вырашаюцца з дапамогай метадаў ландшафтнага планавання і *ландшафтнага дызайну.* Адзін з гал. прынцыпаў сучаснай Л. а.— узаемазвязанае вырашэнне пытанняў аховы і рацыянальнага пераўтварэння прыродных асаблівасцей ландшафтаў.

**ЛАНДША́ФТНАЯ СКУЛЬПТУ́РА**, геапластыка, пластычная апрацоўка рэльефу, пры якой ён набывае скульптурную форму, што адпавядае пэўнай функцыі. Л. с. спалучае ў сабе магчымасці паляпшэння эстэтычнай выразнасці гарадскога асяроддзя з эканамічнасцю выкарыстання грунту, які застаецца пасля буд-ва. Сучасная тэхніка дазваляе цалкам зменьваць існуючы рэльеф або фарміраваць яго штучна, утвараючы насыпныя ўзгоркі, тэрасы, схілы для ізаляцыі асобных зон жылой забудовы ці парку, стварэння ўтульных замкнё-

ных прастораў, засцеражэння месцаў адпачынку і гульняў або жылой забудовы ад ветру і шуму. Тэрасаваныя схілы могуць служыць невял. амфітэатрамі перад спарт. пляцоўкамі або кветнікамі і інш. Штучныя тальвегі часта выкарыстоўваюць для будавання спускаў і горак, з якіх можна з'язджаць на спец. абсталяваныя гульнявыя пляцоўкі. У Л. с. вылучаюць 2 напрамкі: эстэтызацыя характэрных для данай мясцовасці прыродных форм рэльефу з свядомай падкрэсленасцю найбольш характэрных маляўнічых асаблівасцей ландшафту і стварэнне новых скульптурных, часта геаметрычных форм штучнага рэльефу (адсюль назва «ландшафтная скульптура»).



**Ландшафтны дызайн.** Каскады на тэрыторыі запраектаванага заапарка на Сляпянскай воднай сістэме ў Мінску.

**ЛАНДША́ФТНЫ ДЫЗА́ЙН**, галіна творчай дзейнасці па фарміраванню прадметна-прасторавага асяроддзя прыёмамі і сродкамі *ландшафтнай архітэктуры.* Аб'ектамі Л. д. з'яўляюцца: пластыка рэльефу (геапластыка) і яе элементы (падпорныя сценкі, лесвіцы, пандусы), дрэва-кустовыя і кветкавыя кампазіцыі; малыя формы ў архітэктуры з насаджэннямі (пергалы, трыльяжы, вазы, кашпо і інш.); дэкар. скульптура, фантаны, басейны, каскады, элементы візуальнай інфармацыі ў парку, садовая мэбля і інш.

**ЛАПА́ТКА**, вертыкальны выступ на сцяне будынка без *базы* і *капітэлі.* Вядома ў архітэктуры Зах. Еўропы, у сярэдневяковым дойлідстве Расіі і Беларусі. Л. звычайна ўспрымалі цяжар ад падпружных арак скляпенняў. Адначасова былі элементамі рытму і дэкору фасадаў, аздабляліся *рустам, філёнгамі* і інш. У драўляным дойлідстве ў выглядзе Л. часам вырашалася шалёўка *астаткаў* зрубаў, якая аздаблялася дэкар. разнымі накладкамі, размалёўкай. У некаторых збудаваннях 18—19 ст. пад уплывам мураванай архітэктуры Л. аздаблялі *канелюрамі* або рустам.

**ЛЕСАПА́РК**, добраўпарадкаваны лес для адпачынку на ўлонні прыроды ў непасрэднай блізкасці ад горада; адзін з відаў загараднага парку. У залежнасці ад профілю Л. бываюць агульнага тыпу (прагулачныя), шматпрофільныя (для спорту, адпачынку, забаў) і спецыялізаваныя (курортна-аздараўленчыя, спартыўныя, гісторыка-мемарыяльныя). Ля буйных гарадоў Л. звычайна займаюць 300—500 га. Абсталяванне ў іх найчасцей робяць з прыродных матэрыялаў (дрэва, каменю, чароту і інш.). Адкрытыя прасторы ў Л. (паляны, лугі, вадаёмы) складаюць да 30 %. Загарадныя паркі, у якіх пераважаюць лугі, паляны і вадаёмы, наз. *лугапаркамі* і *гідрапаркамі.*

**ЛІХТА́Р** (ад ням. Licht святло), 1) круглая або шматгранная ў плане надбудова (з вял. аконнымі праёмамі) над дахам або інш. пакрыццём. 2) Зашклёны выступ у сцяне будынка на вышыню 1, 2 і больш паверхаў; тое, што *эркер.* 3) Зашклёная частка дахавага пакрыцця, прызначаная для натуральнага верхняга асвятлення памяшканняў. Пашыраны ў архітэктуры стыляў барока і класіцызму. Адыгрывалі ролю аднаго з гал. элементаў кампазіцыі ў завяршэнні *бельведэра, барабана, купала.* У сучаснай архітэктуры выкарыстоўваюцца ў прамысл. збудаваннях для асвятлення памяшканняў і прыроднай вентыляцыі, для асвятлення залаў выставак, музеяў, канферэнцзалаў, гандл. збудаванняў, будынкаў ВНУ і інш.

**ЛІ́ШТВА**, накладная, часам фігурная планка вакол аконнага ці дзвярнога праёма. У драўляным дойлідстве — адзін з элементаў аздаблення знадворнай часткі жылля і грамадскіх пабудоў. Найбольш пашыраная форма Л.— прамавугольная з 3-вугольным, лучковым або складанай канфігурацыі завяршэннем. Асн. сродкі аздобы: краявая і скразная разьба геаметрычнага, расліннага ці заамарфнага характару, прафіляваныя накладныя элементы, паліхромная афарбоўка.



**Ліштвы.**

**ЛО́ДЖЫЯ** (італьян. loggia ад старажытнаверхненям. laubja альтанка), памяшканне, адкрытае з аднаго ці некалькіх бакоў, дзе сцяну замяняюць *каланада, аркада, парапет* і інш. Л. можа быць асобным збудаваннем або часткай будынка. Служыць крытым


Люкарны.

балконам ці ўваходам і пластычна ўзбагачае фасад будынка, звязвае інтэр'ер з навакольным асяроддзем. Л. вядома з старажытнасці (у архітэктуры Старраж. Грэцыі і Старраж. Рыма). У эпоху Адраджэння пашыраны Л. ў выглядзе адкрытага з аднаго ці некалькіх бакоў будынка тыпу *галерэі.* Шырока выкарыстоўваецца ў сучаснай архітэктуры (у жылых будынках і будынках санаторна-курортных устаноў, інтэрнатах, гасцініцах і інш.). Л. бываюць радавыя (з адным адкрытым бокам), вуглавыя, часткова вынесеныя.

**ЛУГАПА́РК**, парк, які арганізуецца ў поймах рэк і на берагах азёр. Прызначаны для кароткачасовага адпачынку ва ўмовах, блізкіх да натуральнага асяроддзя. Для Л. характэрна перавага адкрытых прастораў з раскрыццём панарам на далёкія адлегласці. Стварэнне Л. значна танней у параўнанні з інш. загараднымі паркамі. У Л. спыняецца найбольш адпачываючых, што засцерагае больш аддаленыя хваёвыя лясы ад перагрузкі.

**ЛЮКА́РНА** (франц. lucarne ад лац. lucerna свяцільня, lux святло), невялікі аконны праём на даху, купальным пакрыцці, тымпане франтона або шчыта будынка. Прызначана для частковага асвятлення гарышча, падкупальнай прасторы і інш. памяшканняў, мае таксама дэкар. значэнне, звонку часта аздабляецца ліштвамі, ляпным абрамленнем і інш.


Люнет.

**ЛЮНЕ́Т**, л ю н е т а (ад франц. lunette, літар. лунка), арачны праём у скляпенні або сцяне, гарызантальна абмежаваны знізу. Пашыраны ў архітэктуры стылю рэнесансу, барока і класіцызму. У скразных Л. звычайна размяшчаліся вокны; «глухія» Л. ўпрыгожвалі размалёўкай, лепкай або скульптурай.

**ЛЯ́МУС** (ням. Lehmhaus), старадаўні тып гасп. пабудовы для хавання харчовых прадуктаў, збожжа, адзення, каштоўнай маёмасці, прылад працы, а таксама для жылля ўлетку. Быў пашыраны на Беларусі, у Літве, Польшчы, некаторых раёнах Украіны. Будавалі з дрэва, цэглы, каменю або ў тэхніцы «прускага муру». Пад Л. рабілі пограбы. Л. былі 1—3-павярховыя (у ніжнім паверсе гасп. памяшканні, у верхніх — жылыя), прамавугольныя або квадратныя ў плане, завершаныя 2-схільнымі, вальмавымі, шатровымі або ламанымі дахамі. Сцены часам звонку атынкоўвалі. Паводле кампазіцыі падзяляліся на цэнтрычныя і франтальныя. Л. цэнтрычнай кампазіцыі мелі квадратны або шматвугольны (звычайна 8-гранны) план. 2-і і 3-і паверхі былі з балюстраднымі галерэямі па перыметры, якія кансольна навісалі над ніжнім паверхам або апіраліся на мураваныя ці драўляныя слупы. Л. франтальнай кампазіцыі былі звычайна 2-павярховыя, мелі ў плане форму выцягнутага прамавугольніка (радзей квадрата), з галерэямі на гал. фасадзе або па перыметры ўсяго будынка. У некаторых замках 18 ст. Л. размяшчалі над *брамамі.* У канцы 18 — 19 ст. пад уплывам стыляў класіцызму і ампіру Л. набылі манум. выгляд.


Лямус на тэрыторыі кляштара брыгітак у Гродне. 1630-я гады.


Лямус.

# М

**МАДУЛЬЁН**, м а д ы л ь ё н (франц. modillon ад італьян. modiglione), архітэктурная дэталь тыпу *кранштэйна,* якая падтрымлівае вынасную пліту ўвянчальнага карніза, пераважна ў ордэрнай архітэктуры. Часам адыгрывае дэкар. ролю.


Мадульён.

**МАДЭ́РН**, с т ы л ь  м а д э р н (ад франц. moderne найноўшы, сучасны), стыль у еўрапейскім і амерыканскім мастацтве канца 19 — пач. 20 ст. Узнік каля 1890 як рэакцыя на *эклектызм* у мастацтве. Прадстаўнікі М. імкнуліся пераадолець характэрныя для культуры 19 ст. супярэчнасці паміж маст. і утылітарнай асновамі, адрадзіць дух стылявога адзінства твораў мастацтва, дзе ўсе элементы падпарадкаваны адзінай вобразна-сімвалічнай задуме. Характэрныя рысы М.— свабодная функцыянальна абгрунтаваная планіроўка, новыя прынцыпы формаўтварэння, асэнсаванне новых канструк-



**Мадэрн.** Тэатр Веркбунда ў Кёльне. Архітэктар Х. ван де Велдэ. 1914. Чарцёж галоўнага фасада.

цый і матэрыялаў, адказ ад ордэрнай сістэмы, імкненне выявіць каркасную структуру будынка, багатая арнаментыка з уключэннем стылізаваных элементаў готыкі, антычнага і нар. мастацтва, шырокае выкарыстанне хваліста-ламанай лініі ў дэкоры і цякучых пластычных формах, асіметрычна крывалінейнага завяршэння дзвярных і аконных праёмаў, адраджэнне сінтэзу мастацтваў. Інтэр'еры будынкаў характарызаваліся ўзгодненасцю крывых ліній, тонаў, адзінствам дэталей дэкору і абсталявання. Найбольш паслядоўна выяўляўся ў стварэнні прыватных дамоў — асабнякоў, дзелавых, прамысл. і гандл. будынкаў, выставачных залаў, вакзалаў, тэатраў, даходных дамоў, мастоў і інш.

**МАКЕ́Т** (франц. maquette ад італьян. macchietta накід), аб'ёмна-прасторавае адлюстраванне (з гіпсу, дрэва, пластмасы, кардону і інш. матэрыялаў) будынка, архіт. ансамбля, горада, якія пабудаваны ці яшчэ праектуюцца. Выконваецца ў розных маштабах. Узнаўляе арыгінал ва ўсіх дэталях (такі М. наз. мадэллю) або больш ці менш набліжаны да яго. Служыць для праверкі і ўдасканалення архіт. кампазіцыі, дае нагляднае ўяўленне пра архітэктуру будынка. М. як адзін з метадаў распрацоўкі архіт. праекта вядомы са старажытнасці. Макетны метад праектавання выкарыстоўваецца ў навуч. працэсе пры падрыхтоўцы архіт. кадраў.

**МАЛЫ́Я ФО́РМЫ** ў а р х і т э к т у р ы, зборная назва розных па характару і прызначэнню тыпаў збудаванняў ці інш. аб'ектаў, якія дапаўняюць і дэталізуюць архіт.-будаўнічую ці садова-паркавую кампазіцыю, а таксама з'яўляюцца элементам афармлення і добраўпарадкавання асяроддзя населеных месцаў. Ім належыць важная роля ў фарміраванні аблічча гарадоў, вёсак, транспартных магістраляў, зон адпачынку. Творы М. ф. па памерах значна меншыя за асн. кампаненты забудовы, і ў адрозненне ад частак будынкаў і архіт. дэталей з'яўляюцца адносна самастойнымі. М. ф. могуць быць: ідэйна-маст. значэння — мемарыяльныя *стэлы, абеліскі*, надмагіллі; дэкаратыўнага (характэрныя архітэктуры Адраджэння, барока, класіцызму), дэкар.-функцыянальнага прызначэння (характэрныя архітэктуры 20 ст.) — фантаны, *каскады*, басейны, паркавыя павільёны, пандусы, *балюстрады*, агароджы, пергалы, вазы, дэкар. скульптура, прыдарожная скульптура. М. ф. апошняй групы займаюць важнае месца ў кампазіцыі садова-паркавых ансамбляў, добраўпарадкаванні жылых груп, мікрараёнаў, тэрыторый школьных і дашкольных устаноў, дзіцячых пляцовак і гарадкоў, часта будуюцца па тыпавых праектах з недаўгавечных матэрыялаў. М. ф.— неад'емная частка сучаснага асяроддзя населеных месцаў (электрасвяцільні, кіёскі, павільёны транспарту, гандл. аўтаматы, тэлефонныя будкі і інш.); выконваюць функцыю інфармацыйных камунікацый (гарадская рэклама, стэнды для афіш).

**МАНАСТЫ́Р** (ад грэч. monastḗrion келля пустэльніка), комплекс культавых і жылых будынкаў і дапаможных збудаванняў, размешчаных свабодна на мясцовасці ці згрупаваных у замкнёны ансамбль; месца, дзе жывуць абшчыны манахаў і манашак. Архітэктура М. звязана з нац. рэгіянальнымі асаблівасцямі дойлідства розных краін і народаў, адлюстроўвае іх функцыі і ролю, якая мянялася ў грамадскім жыцці. Самыя старажытныя М.— будыйскія, з'явіліся ў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя да н. э. ў Індыі. У 6—9 стагоддзях сфарміраваўся архіт. тып зах.-еўрапейскага каталіцкага манастырскага комплексу, які меў рэгулярную планіроўку, дзе дамінавала царква. План і характар збудаванняў М. вызначаўся статутам манаскіх ордэнаў: М., аб'яднаны з замкам, тыповы для крыжакоў; адасобленыя жылыя домікі ці ізаляваны двор з келлямі характэрны М. картэзіянцаў. Комплекс праваслаўнага манастыра (16—18 ст.) акружалі сцены з вежамі, уздоўж сцен размяшчаліся келлі, у цэнтры — сабор, трапезная, званіца, калодзеж. У перыяд Адраджэння і барока М. страцілі крапасное значэнне: замест іх паявіліся парадныя ансамблі М.-палацаў, пабудава-



**Манеж** у Маскве 1824—25. Архітэктар В. Бавэ. Галоўны фасад.



**Мансарда.** Паводле чарцяжа архітэктара Ф. Мансара.



**Маскарон.**

ных кампактна, па адзіным плане.

**МАНЕ́Ж** (франц. manége), прамавугольны або круглы ў плане будынак без унутраных перагародак (часам агароджаная пляцоўка) для трэніроўкі коней, навучання верхавой яздзе, коннаспартыўных спаборніцтваў.

**МАНСА́РДА** [франц. mansarde ад прозвішча арх. 17 ст. Ф. Мансара (F. Mansart)], паддашак, памяшканне (пераважна жылое) на гарышчы, кожны схіл даху якога складаецца з 2 частак — верхняй пакатай і ніжняй стромкай. М. дае дадатковую карысную плошчу, а т. зв. мансардавы дах узбагачае сілуэт дома, фарміруе фасад, надае будынку своеасаблівы выгляд. Дамы з М. часта будуюцца ў мяшанай тэхніцы: асн. аб'ём мураваны, М.— з дрэва.

**МАНЬЕРЫ́ЗМ** (італьян. manierismo ад maniera манера, стыль), плынь у еўрапейскім мастацтве 16 ст., якая адлюстравала крызіс гуманістычнай культуры *Адраджэння.* Асн. эстэтычным крытэрыем М. было не наследаванне прыродзе, а суб'ектыўная «ўнутраная ідэя» маст. вобраза, што нараджаецца ў душы мастака. Выкарыстоўваючы ў якасці стылістычных нарматываў творы Мікеланджэла, Рафаэля і інш. майстроў Адраджэння, маньерысты скажалі закладзены ў іх гарманічны пачатак, культывавалі ўяўленні аб эфемернасці свету і хуткаплыннасці чалавечага лёсу, які знаходзіцца ва ўладзе ірацыянальных сіл. Найбольш яскрава М. выявіўся ў мастацтве Італіі. У архітэктуры прыкметна імкненне да эстэтызацыі дэкору, падкрэсліванне экстравагантнай дэталі.

**МАСКАРО́Н** (франц. mascaron ад італьян. mascherone вялікая маска), дэкаратыўны рэльеф у выглядзе чалавечага твару або галавы жывёлы. Размяшчаецца пераважна на замках арак, аконных і дзвярных праёмаў, на фантанах (з адтулінай для выпуску струменя вады), а таксама на мэблі, посудзе і інш. Былі пашыраны ў архітэктуры стыляў готыкі, рэнесансу, барока, неакласіцызму і мадэрн. У архіт. дэкоры М. часам спалучаліся з *антабамі.*

**МАШТА́Б** (ням. Maßstab ад Maß мера, памер + stab палка), сродак выразнасці архіт. формы. М. будынкаў і збудаванняў залежыць ад прызначэння, функцыянальнай арганізацыі ўнутранай прасторы, канструкцыйных дэталей і. дэкар. элементаў, характару ўзаемасувязі з асяроддзем (архіт. ансамблем, прыродным ландшафтам). Вызначаецца сістэмай і характарам чляненне аб'ёмаў, суадносінамі частак і цэлага. У стварэнні М. значную ролю адыгрываюць сродкі архіт. кампазіцыі — *рытм, кантраст, нюанс* і інш.

**МАШТА́БНАСЦЬ**, маштабны лад у архітэктуры, суадносіны памераў, суразмернасць асобных будынкаў, збудаванняў і архітэктурна арганізаванай прасторы з памерамі чалавека. Адна з катэгорый архіт. кампазіцыі, якая звязана з сацыяльнымі, практычнымі і ідэйна-вобразнымі задачамі архітэктуры. М. вызначае архіт.-маст. вобраз збудавання — яго манументальны ці камерны характар, садзейнічае цэласнаму эстэтычнаму ўспрыманню архіт. твора. У стварэнні М. важную ролю адыгрываюць т. зв. паказальнікі маштабу — архіт. дэталі і канструкцыйныя элементы, прапорцыі тэктанічных элементаў, якія даюць наглядна ўяўленне аб памерах будынка, асяроддзі, дзе знаходзіцца твор архітэктуры (рэльеф мясцовасці, характар забудовы ў населеным пункце). Кожны архіт. стыль надае своеасаблівасць М., характэрнай для пэўнага этапу развіцця архітэктуры.

**МАШЫ́КУЛІ** (франц. mâchicoulis), навясныя байніцы, размешчаныя ў верхняй частцы сцяны крапаснога збудавання (замка, вежы, абарончага храма). Выконваліся з дапамогай цагляных ці мураваных невял. скрыжаванняў на ступеньчатых выступах, існаваў і адкрыты тып без перакрыццяў зверху. Прызначаны для вядзення агню са стралковай зброі, кідання камянёў, ліцця вару, смалы. У 10—16 стагоддзях пашыраны ў абарончым дойлідстве Зах. Еўропы, на Беларусі — у 16—17 стагоддзях. У 19 ст. ўжываўся як элемент архіт. дэкору ў афармленні малых



**Машыкулі.**


Меандр.

архіт. форм, касцёлаў, сядзібных дамоў і інш.

**МЕА́НДР** (франц. méandre ад грэч. Máiandros Меандр, стараж. назва р. Вялікі Мендэрэс са звілістымі берагамі ў Малой Азіі), геаметрычны арнамент у выглядзе ламанай пад прамым вуглом лініі, якая ў цэлым глядзіцца як вузкая палоса. Распрацаваны і шырока выкарыстоўваўся ў мастацтве Стараж. Грэцыі (вазапіс, архіт. дэкор).

**МЕДАЛЬЁН** (франц. médaillon ад італьян. medaglione павелічальнае ад medaglia медаль), выяўленчая ці арнаментальная кампазіцыя (ляпны або разны рэльеф, размалёўка, мазаіка) у авальным або круглым абрамленні. Выкарыстоўваецца для аздаблення будынкаў, мэблі і інш.


Мезанін.

**МЕЗАНІН** (італьян. mezzanino), надбудова над цэнтр. часткай жылога, звычайна невялікага, дома. Уключаецца ў агульную кампазіцыю будынка, узбагачае яго сілуэт і стварае вертыкальны акцэнт.

**МЕМАРЫЯ́ЛЬНЫЯ ЗБУДАВА́ННІ**, архітэктурныя збудаванні і маст. памятныя ансамблі, архітэктурныя і скульптурныя манументы, якія ствараюцца на ўвекавечванне памяці асоб, знамянальных падзей выдатных дат у гісторыі краіны ці горада. Найбольш старадаўнія М. з.— *абеліскі* і піраміды Стараж. Егіпта, маўзалеі Стараж. Рыма, Малой Азіі, Сярэдняй Азіі, *пахавальні* (феадальныя Кітай і Карэя) і надмагіллі, мазары (Сярэдняя Азія і Блізкі Усход), мемарыяльныя вароты, трыумфальныя калоны, *аркі трыумфальныя, стэлы* і інш. Старажытныя М. з. на тэр. СССР — курганы. Пасля Вял. Айч. вайны на ўшанаванне памяці тых, хто загінуў на полі бою, і ахвяр фаш. тэрору, каб увекавечыць подзвіг сав. народа, створаны М. з., якія з'яўляюцца складанымі комплексамі архітэктуры і ландшафту, пластыкі і манумент.-дэкар. жывапісу.


Метопа.

**МЕТО́ПА** (грэч. metópē), прамавугольная або квадратная пліта паміж 2 *трыгліфамі* ў фрызе *дарычнага ордэра.* Паявілася ў архітэктуры Стараж. Грэцыі. Першапачаткова (да ўзнікнення мураванай архітэктуры) М. называлі прамежкі паміж тарцамі бэлек перакрыцця, якія выступалі на фасадзе будынка. У мураванай архітэктуры набылі дэкар. значэнне. М. аздаблялі рэльефамі або жывапісам.

**МЕТР** (ад грэч. métron мера) у архітэктуры, паўтарэнне кампазіцыйных элементаў і інтэрвалаў паміж імі; найбольш пашыраная форма *рытму.* З'яўляецца сродкам гарманізацыі і забеспячэння адзінства ў кампазіцыі будынкаў і збудаванняў, архіт. ансамбляў.


**Мікрараён** Паўднёвы Захад 2 у Мінску. 1980-я гады. Схема планіроўкі.

**МІКРАРАЁН**, структурная адзінка сучаснай жылой забудовы буйных населеных пунктаў, частка планіровачнага раёна. У вял. гарадах разлічаны на 12—30 тыс., у сярэдніх — на 6—12 тыс. жыхароў. Складаецца з комплексу жылых дамоў, паблізу якіх размяшчаюцца ўстановы культ.-быт. абслугоўвання насельніцтва (дзіцячыя сады і яслі, школы, сталовыя, магазіны), спарт. пляцоўкі і зялёныя зоны. Планіроўка і забудова М. ажыццяўляецца на аснове адзінай або расчлянёнай на групы жылых дамоў архіт.-прасторавай арганізацыі тэрыторыі з улікам прыродных і кліматычных умоў. На Беларусі першыя М. пабудаваны ў канцы 1950 — пач. 1960-х г.


Мінарэт.

**МІНАРЭ́Т** (ад араб. манара, літар. маяк), вежа (круглая, квадратная ці шматгранная ў сячэнні) для склікання мусульман на малітву; узводзілася побач з *мячэцю* ці ўключалася ў яе кампазіцыю. Раннія М. часта мелі вітую лесвіцу ці пандус знадворку (спіралепадобныя М.), у позніх — унутры вежы. Існавалі 2 асн. тыпы М.— 4-гранныя і кругластвалавыя. М. аздабляюць узорыстай муроўкай, паліванай керамікай, ажурнымі балконамі.


Міхраб.

**МІХРА́Б** (араб. свяцілішча), напаўкруглая, шматгранная, радзей прамавугольная ў плане малітоўная ніша ў мячэці ў сцяне, звернутай да Мекі (у ранніх мячэцях — да Ерусаліма). Завяршаецца паўкупалам, аздоблены арнаментальнай разьбой, інкрустацыяй, размалёўкай.

**МЛЫН**, традыцыйная вытворчая пабудова для памолу зерня. Прыводзіцца ў рух энергіяй вады (вадзяны М.), ветру (ветрак), пары (паравы





Вадзяныя млыны.



Муроўка: *1* — opus mixtum; *2* — лускаватая; *3* — opus incertum; *4* — балтыйская; *5* — са «схаваным радам»; *6* — Grand appareil; *7* — дэкаратыўная мяшаная; *8, 10* — мяшаныя; *9* — дэкаратыўная раўнарадавая; *11* — раўнарадавая; *12* — гатычная; *13*—рэнесансавая; *14*—крыжовая; *15* — галандская; *16* — тычковая; *17* — дэкаратыўная гатычная; *18* — «разынкавая».

М.), цяглавай сілай жывёл (валовы М.) і інш. Асн. рабочы орган — пастаў з 2 камянёў з вертыкальнай воссю вярчэння (ніжні камень нерухомы).

**МО́ДУЛЬ** (ад лац. modulus мера) у архітэктуры, умоўная адзінка, якая ўжываецца для каардынацыі памераў частак будынка, збудавання або комплексу. Адзін з асн. сродкаў архіт. кампазіцыі, які выкарыстоўваецца для прывядзення ў гарманічнае адзінства памераў цэлага і яго частак (напр., *залатое сячэнне*). Вядомы са старажытнасці. У залежнасці ад асаблівасцей будаўнічай тэхнікі і кампазіцыі будынкаў за М. прымаліся розныя велічыні: у стоечна-бэлечных канструкцыях (гл. *Ордэр*) — *ра*дыус або дыяметр *калоны*, шырыня *трыгліфа* ці памер будаўнічага вырабу (цэглы, бервяна), у сценавых канструкцыях — таўшчыня сцяны, у крыжова-купальных збудаваннях — дыяметр купала ці стараны падкупальнага памяшкання. Для вызначэння абсалютнай велічыні будынка ў якасці М. выкарыстоўвалі меры даўжыні (фут, сажань, метр і інш.), якія ўтваралі т. зв. лінейны М. У 2-й пал. 20 ст. з прагрэсам будаўнічай тэхнікі, тыпізацыі буд-ва і індустрыялізацыі масавага домабудавання лінейны М. набыў вял. тэхн. значэнне як сродак узгаднення планіровачных і канструкцыйных элементаў будынкаў, іх уніфікацыі і стандартызацыі. Айчыннымі, замежнымі і міжнар. нормамі і стандартамі ўстаноўлены асноўны М. памерам у 100 мм, узбуйненыя (3М., 6М., 12М., 15М., 30М., 60м.) і дробныя М.

**МУРО́ЎКА**, размяшчэнне камянёў, каменных блокаў, цэглы ў пэўнай сістэме, якая выяўляецца малюнкам швоў на паверхні сцяны. Удасканаленне тэхнікі М., выкарыстанне розных тыпаў цэглы, сістэма злучэння цаглін паміж сабой адлюстроўваюць узровень развіцця тэхнікі буд-ва і даюць магчымасць стварыць дакладную шкалу для датавання помніка архітэктуры. Малюнак М. неатынкаваных фасадаў з'яўляецца асн. фактарам паліхроміі ў манум. дойлідстве. Для архіт.-будаўнічай практыкі пэўнай эпохі і рэгіёна ўласцівы асобныя сістэмы М.

**МУ́ТУЛ** (лац. mutulus), плоскі нахілены выступ пад вынасной плітой карніза ў *дарычным ордэры*, прататыпам якога былі, відаць, *крóквы* 2-схільнага даху ў стараж.-грэчаскай драўлянай архітэктуры.



Мутул.

**МЯ́ЧЭЦЬ** (ад араб. масджыд — месца пакланення), культавае збудаванне, храм у мусульман. Тыпы М.— т. зв. дваровыя (адкрыты прамавугольны двор, абнесены сценамі і галерэямі) і купальныя. Ва ўсіх М. у сцяне, звернутай да Меккі, знаходзіцца невял. ніша — мінбар, з правага боку якога ёсць узвышэнне ці кафедра — мінраб, дзе чытаюць Каран і казанні. Пры М. звычайна ставяць *мінарэты* (вежападобнае збудаванне, каб склікаць мусульман на малітву). Як правіла, М. ўпрыгожвалі разьбой па стука, камені або дрэве, узорыстай цэглай або муроўкай, паліванай керамікай, інкрустацыяй, мазаікай, размалёўкай. У розных краінах пад уздзеяннем мясцовых традыцый выпрацаваліся самастойныя тыпы М.



Мячэць.

# Н

**НАРТЭ́КС** (познагрэч. nárthēx), прытвор, уваходнае памяшканне ў пярэдняй частцы хрысціянскага храма, прызначанае для асоб, якія не маюць права ўваходзіць у гал. храмавае памяшканне. Сустракаецца двайны Н.— знешні (экзанартэкс) і ўнутраны. У культавых збудаваннях на Беларусі Н. называецца *бабінцам*.



Нартэкс.

**НЕАБАРО́КА** (ад грэч. néos новы + *барока*), умоўная назва кірунку ў архітэктуры 2-й пал. 19 — пач. 20 ст., які пераймаў формы, элементы кампазіцыі будынкаў стылю барока. Паяўленне Н. (як праграмнага звароту да мастацтва мінулага) звязана з панаваннем у зах.-еўрапейскім мастацтве *эклектызму*. Выяўлялася ў спалучэнні з элементамі стылю *мадэрн*. У імкненні да



**Неакласіцызм.** Афармленне дзвярнога праёма будынка.

адраджэння пластычнасці ў архітэктуры дойліды механічна пераймалі знешні дэкар. матыў, што вяло да стварэння стылізаваных, псеўдаўзвышаных і пампезных твораў.

**НЕАГО́ТЫКА** (ад грэч. néos новы + *готыка*), гл. *Несапраўдная готыка.*

**НЕАКЛАСІЦЫ́ЗМ** (ад грэч. néos новы + *класіцызм*), у шырокім сэнсе — прадаўжэнне эстэтычных прынцыпаў класіцызму ў новых умовах развіцця маст. культуры; у больш вузкім сэнсе — стылістычны прыём, заснаваны на выкарыстанні ў мастацтве міфалагічных вобразаў і матываў, антычных тэм і сюжэтаў. У архітэктуры вылучаецца 3 перыяды найбольш пашыраных неакласічных плыней, звязаных з традыцыямі класіцызму. У 1910—20-я г. класічныя формы і лаканізм проціпастаўляліся багатаму фармальнаму дэкору ў архітэктуры эклектыкі і *мадэрна.* У некаторых краінах Зах. Еўропы Н. выкарыстоўваў канструкцыйныя прыёмы стылю мадэрн і адначасова вызначаўся рацыяналістычнымі тэндэнцыямі. У рус. архітэктуры 1910-х гадоў асн. прынцыпы архіт. класікі спалучаліся са стылізацыяй класічных матываў. У 1930-я гады Н. развіваўся пераважна ў афіцыйнай архітэктуры, вызначаўся параднасцю і падкрэсленай манументальнасцю. Так званы Н. 1960-х гадоў развіваўся пераважна ў архітэктуры ЗША. Яму ўласціва спалучэнне некаторых кампазіцыйных прыёмаў класіцызму з формамі, якія адпавядалі найноўшым канструкцыям. Прынцыпы Н. знайшлі адлюстраванне ў сав. архітэктуры 2-й паловы 1930—50-х гадоў.

**НЕАРАМА́НСКІ СТЫЛЬ,** умоўная назва кірунку ў архітэктуры канца 19 — пач. 20 ст., заснаванага на выкарыстанні форм і элементаў кампазіцыі *раманскага стылю.* Зараджэнне Н. с. звязана з панаваннем у зах.-еўрапейскай архітэктуры і выяўленчым мастацтве *эклектызму.* У імкненні да манументальнасці і архаічнасці дойліды некрытычна выкарыстоўвалі формы раманскага стылю пры ўзвядзенні культавых і грамадзянскіх збудаванняў, стылізавалі творы сярэдневяковай архітэктуры.

**НЕАРУ́СКІ СТЫЛЬ,** кірунак у рускай архітэктуры канца 19 — пач. 20 ст. Вытокі яго ў мамантаўскім Абрамцаўскім гуртку канца 19 ст. У эстэтыцы мае шмат агульнага з нацыянальна-рамантычнымі кірункамі зах.-еўрапейскага *мадэрна.* Развіццё яго звязана з крызісам афіцыйнага «рускага стылю». Для Н. с. характэрна не кампіляцыя стараж.-рус. форм, а стварэнне суцэльнага архіт.-маст. вобраза, асацыятыўна звязанага з першакрыніцай. Прадстаўнікі Н. с. выкарыстоўвалі стылізацыю «рускага стылю» як асн. прынцып маст. спадчыны. Замест дробных архіт. дэталей усталёўваецца буйная форма, пануе сілуэтнасць, эпічны настрой. Пабудовы Н. с. насуперак логіцы прагрэсіўных канструкцый і эстэтычных якасцей будаўнічых матэрыялаў падкрэслівалі адасобленасць ад утылітарнага сучаснага буд-ва. Шырока выкарыстоўваліся розныя віды мастацтва, асабліва дэкар.-прыкладнога. У далейшым Н. с. ператвараецца ў рэтраспектывізм афіцыйнага нар. «рускага стылю».

**НЕРВЮ́РА** (франц. nervure ад лац. nervus жыла, сухажылле), арка з абчасаных клінападобных камянёў або цаглін, якая ўмацоўвае рэбры крыжовага, сеткавага, зорчатага і інш. форм *скляпення;* тое, што і *гурт.* Найбольш пашыраны Н. ў архітэктуры готыкі, дзе складалі аснову каркаснай канструкцыі перакрыцця, перадаючы нагрузку ад скляпенняў на слупы, патоўшчаныя часткі сцен, *контрфорсы, аркбутаны,* лапаткі і інш., у выніку аблегчылася канструкцыя перакрыцця. Н. адыгрывалі таксама і маст. ролю як дэкар. элемент.

**НЕСАПРА́ЎДНАЯ ГО́ТЫКА,** неаготыка, псеўдаготыка, умоўная назва кірункаў у архітэктуры 18—19 ст., якія пераймалі формы, а часам і канструкцыі сярэдневяковай *готыкі.* Зараджэнне Н. г. ў зах.-еўрапейскай архітэктуры звязана з роcквітам садова-паркавага мастацтва, з ідэалізацыяй сярэднявечча, характэрнай *рамантызму.* Выяўлялася ў культавых і вялікіх грамадскіх збудаваннях. У пач. 20 ст. псеўдагатычныя збудаванні характарызуюцца



**Нефы** базілікальнага храма.



**Ніша.**

адраджэннем маст. цэласнасці готыкі і эстэтызацыяй каркаснай канструкцыі. Н. г. зрабіла ўплыў на станаўленне стылю *мадэрн,* неарамантычных кірункаў і зараджэнне *функцыяналізму.*

**НЕФ,** карабель (франц. nef ад лац. navis карабель), прадаўгаватае памяшканне, частка інтэр'ера, абмежаваная з аднаго ці абодвух бакоў радам калон або слупоў. Адрозніваюць Н. сярэдні, бакавыя і папярочны (*трансепт*). Вядомы са старажытнасці ў збудаваннях тыпу *базілікі.* Сярэдні Н., вышэйшы за бакавыя, асвятляўся невысокімі вокнамі над дахамі бакавых Н., у алтарнай частцы завяршаўся *апсідай* або *прэсбітэрыем.* На скрыжаванні сярэдняга Н. і трансепта часта рабілі *купал* на *барабане,* у бакавых Н. размяшчалі алтары. У архітэктуры готыкі Н. мелі складаныя ўзорыстыя *скляпенні,* у архітэктуры барока і класіцызму сярэдні Н. звычайна перакрываўся цыліндрычным з *распалубкамі,* бакавыя — крыжовымі скляпеннямі.

**НІ́ША** (франц. niche ад італьян. nicchia), паглыбленне ў сцяне будынка ці збудавання для пластычнага ўзбагачэння фасадаў і інтэр'ераў, аблягчэння канструкцыі, устаноўкі статуй, ваз і інш. Бываюць прамавугольныя, лучковыя, арачныя, круглыя, паўцыркульныя, складанай формы, без абрамленняў або ўпрыгожаныя прафіляванымі архівольтамі, сандрыкамі, і інш.

**НЮА́НС** (франц. nuance), адценне, тонкае адрозненне, ледзь прыкметны пераход (у колеры, гуку і г. д.). У архітэктуры і горадабудаўніцтве адзін з сродкаў стварэння *кампазіцыі* будынкаў, збудаванняў, комплексаў і ансамбляў, пры якім выкарыстоўваюцца падобныя маст. якасці асобных элементаў кампазіцыі, што ствараюць рытмічны рад. У процілегласць *кантрасту,* дзе пераважаюць адрозненні аднародных якасцей, Н. згладжвае гэтыя адрозненні, дае магчымасць у пэўнай ступені выправіць няўдалыя суадносіны асобных частак кампазіцыі. Сукупнасць Н. (нюансіроўка) выкарыстоўваецца для дасягнення больш тонкай мадэліроўкі аб'ектаў.



**О́РДЭР** архітэктурны (ням. Order, франц. ordre ад лац. ordo рад, парадак), пэўнае спалучэнне нясучых і нясёных частак стоечна-бэлечнай канструкцыі, іх структура і маст. апрацоўка. Абавязковыя састаўныя часткі О.: нясучыя — калона (аздобленая *канелюрамі) з капітэллю* і *базай* (у дарычным О. без базы), часам з п'едэсталам; нясёныя — *антаблемент,* які складаецца з *архітрава, фрыза* і *карніза.* Дэталі О. ўпрыгожваюць разнымі ці цягавымі профілямі — *абломамі архітэктурнымі.* Асаблівасці кожнага О.— у прапорцыях, прарысоўцы абломаў і формах капітэлі. Змена суадносін паміж нясучымі і нясёнымі часткамі О. надае яму і збудаванню ў цэлым разнастайныя маштабнасць і характар (напр., лаканічнасць і мужнасць — дарычны О., лёгкасць і вытанчанасць — іанічны і карынфскі О.). Як мастацкавыразная форма выкарыстоўваўся ў манум. архітэктуры ў старажытнасці (Стараж. Егіпет, асіра-вавілонскае дойлідства). Класічная сістэма О. склалася ў Стараж. Грэцыі; асн. О. атрымалі назву ад назваў плямён і абласцей: *дарычны ордэр, іанічны ордэр, карынфскі ордэр.* Разнавіднасць дарычнага О.— *тасканскі ордэр,* карынфскага і іанічнага — *кампазітны ордэр.* О. і ордэрныя сістэмы выкарыстоўваліся ў розныя гіст. эпохі (у архітэктуры Стараж. Рыма, Адраджэння, барока, класіцызму). У эпоху Стараж. Рыма і пазней ужываліся шмат'ярусныя ордэрныя кампазіцыі, ордэрныя чляненні сцяны з выкарыстаннем паўкалон і *пілястраў;* пашыраны О. або яго асобныя элементы ў спалучэнні з скляпеністымі або арачнымі канструкцыямі (Калізей, базілікі і ратонды Стараж. Рыма, арачныя каланады ў эпоху Адраджэння). З 15 ст. О. стаў адным з гал. кампанентаў у зах.-еўрапейскай архітэктуры. У рус. дойлідстве пашыраны з канца 17 ст.
















**Ордэры** архітэктурныя. Грэчаскія: *1* — дарычны; *2* — іанічны; *3* — карынфскі. Рымскія: *4* — тасканскі; *5* — дарычны; *6* — іанічны; *7* — карынфскі.



ПАВЕ́ЦЬ, п а в е т к а, прыбудова ў сялянскім двары для гасп. прылад, дроў і інш. Найчасцей былі адкрытыя (у выглядзе навеса) ці агароджаныя дошкамі. Аснову каркаснай канструкцыі П. складалі слупы (сохі), якія падтрымлівалі 1- ці 2-схільную страху. П., дзе захоўваліся сані, вазкі, калёсы і інш. с.-г. інвентар, называліся звычайна вазоўняй ці абозняй. П. для дроў наз. дрывотняй або дрывотнікам.

ПАВІЛЬЁН (франц. pavillon ад лац. papilio шацёр) п а р к а в ы, невялікая лёгкая пабудова, якая звычайна стаіць асобна ў парку; адзін з відаў малых форм у архітэктуры. Вядомы са старажытнасці. З'яўляўся неад'емнай часткай палацава-паркавага ансамбля.

ПАГО́СТ [ад стараж.-рус. погостити — пабываць у гасцях; першапачатковае значэнне П.— месца, дзе князь з дружынаю збіраў даніну, пазней — пастаялы двор, дзе спыняліся князь, духоўныя асобы, купцы (госці)], цэнтр сельскай грамады (абшчыны) з царквой і могілкамі, буйное паселішча. Былі пашыраны ў Рус. дзяржаве і на Беларусі ў 11—18 ст. На Пд Беларусі існавалі да пач. 16 ст., потым ператварыліся ў вёскі і мястэчкі (архіт.-планіровачная структура традыцыйная). Былое значэнне П. захавалася ў назвах вёсак (Пагост, Пагост-Загародскі і інш.). Часам пагостам называюць могільнік.

ПАДВА́ЛІНА, 1) п а д р у б а, ніжні вянок зруба. Раней П. клалі непасрэдна на зямлю або на *штандары*, потым на камяні або на фундамент. П. заўсёды рабілі з больш моцнага дрэва (дуб, елка, хвоя). Звычайна яны былі больш тоўстыя за інш. бярвёны зруба. 2) Брус, на які насцілаецца падлога, памост.

ПАДЗО́Р, дэкаратыўная драўляная дошка з глухой, скразной або краявой разьбой, якая акаймоўвае навісь даху або страхі. Выкарыстоўваецца як элемент архіт. дэкору пераважна ў жыллі, некат. гасп. пабудовах, брамах і варотах, культавых збудаваннях. Маст. роля П.— стварэнне складанага па малюнку святлаценю на ніжняй частцы антаблемента або верхняй частцы сцяны будынка. П. найчасцей аздабляюць будынкі і збудаванні з вальмавым дахам. Найбольш простыя П.— дошкі з краявой разьбой у выглядзе зубцоў або хвалі.



Падзоры.

ПАДКЛЕ́ЦЦЕ ў д р а ў л я н ы м д о й л і д с т в е, ніжні, звычайна нежылы паверх дома або гасп. пабудовы. П. ў сялянскім буд-ве на Беларусі сустракаліся рэдка, пераважна на ПнУ. Вядомы ў сядзібным і замкавым дойлідстве 16—18 ст. У П. жылых дамоў размяшчалі каморы, стайні і інш. гасп. памяшканні, часам жыллё прыслугі, кухню, пякарню. Рабілі П. ў некаторых гасп. збудаваннях (клецях, свірнах). Ролю П. ў гарадскім жыллі 18 — пач. 20 ст. нярэдка выконвалі ніжнія мураваныя паверхі, дзе размяшчаліся складскія памяшканні, крамы, майстэрні.

ПАДПРУ́ЖНАЯ А́РКА, апорная канструкцыя перакрыцця, якая ўспрымае нагрузку скляпення або купала і перадае яе на слупы, сцены, пілястры, лапаткі, контрфорсы; від канструкцыйнай *аркі*. Бываюць паўцыркульныя і спічастыя (у гатычных збудаваннях). П. а. расчляняюць скляпенне на шэраг квадратных або прамавугольных у плане ўчасткаў, з'яўляюцца адным з элементаў рытму і маштабу ў інтэр'еры. У некаторых пабудовах дэкарыраваны лепкай, кесонамі, арнаментальна-дэкар. размалёўкай.

ПАДРУ́БА, ніжні вянок зруба; гл. ў арт. *Падваліна*.

ПАДСЯБІ́ЦЦЕ ў д р а ў л я н ы м д о й л і д с т в е, абарончая канструкцыя ў выглядзе гарызантальнай *байніцы* ў перакрыцці баявой галерэі, якая выступае за межы абарончых замкавых сцен. Адпавядае *машыкулям* у мураванай архітэктуры. Назва паходзіць ад выразу «біць пад сабой», зафіксавана ў бел. і ўкр. дакументах 16 ст.

ПА́ДУГА, крывалінейная паверхня над карнізам унутры памяшкання, якая служыць



Падуга.



**Падчэні** дома ў г. п. Мір Карэліцкага раёна. 19 ст.





**Паладыянства.** Царква Раства Багародзіцы ў Слаўгарадзе. Канец 18 ст.

пераходам ад сцяны да паверхні столі (плафона).

**ПАДЧЭНІ,** падсені, адкрытая галерэя ў драўляных збудаваннях. Вырашалася як стрэшка (з вынасам 1,5—2 м) на слупах (круглага ці квадратнага сячэння), змацаваных укосінамі з гарызантальнай бэлькай. П. часцей размяшчалі з аднаго тарцовага ці падоўжнага боку будынка на даўжыню фасада, часам яны апяразвалі ўвесь будынак (кружганкі). На Беларусі П. рабілі ў культавых і грамадскіх збудаваннях (гандлёвыя рады, корчмы, аўстэрыі, паштовыя станцыі) 17—19 ст., у крамах і дамах гандлёва-рамесніцкага насельніцтва для выстаўкі тавараў і аховы іх ад непагадзі і ў сельскіх жылых і гасп. пабудовах (да канца 19 ст.).

**ПАЛАДЫЯНСТВА,** кірунак у еўрапейскім дойлідстве 17—18 ст., які развіў (у рамках *класіцызму*) прынцыпы, закладзеныя ў творчасці італьянскага архітэктара і тэарэтыка архітэктуры позняга Адраджэння А. Паладыо. Створаныя ім тыпы гарадскога палаца, царквы, вілы вылучаюцца дасканаласцю і гарманічнасцю архіт. вырашэнняў, багаццем ордэрных кампазіцый, якія аб'ядноўваюць вонкавыя аб'ёмы і інтэр'еры ў адно цэлае. Важнае значэнне ў пашырэнні ідэй Паладыо меў яго трактат «Чатыры кнігі пра архітэктуру» (1570). У Расіі паладыянскія пабудовы паявіліся ў 1780—90-я г. (творчасць арх. Ч. Камерона, Дж. Кварэнгі, М. А. Львова), на Беларусі — у 2-й пал. 18 — 1-й пал. 19 ст. Іл. гл. таксама ў арт. *Цэнтрычныя збудаванні.*

**ПАЛА́ТЫ** (ад лац. palatium палац) у архітэктуры перыяду Кіеўскай Русі, багатыя жылыя мураваныя або драўляныя будынкі. Рабіліся ў некалькі паверхаў (ніжнія — службовыя, верхнія — жылыя). На Беларусі вядомыя *Полацкія княжацкія палаты* і Гродзенскія княжацкія палаты (гл. *Гродзенскі княжацкі харам*).

**ПАЛАЦ**, манументальны парадны будынак з вял. колькасцю разнастайных памяшканняў. У першапачатковым значэнні — жыллё знаці, месца афіцыйных прыёмаў. У стараж.-усх. антычных, феадальных дзяржавах П. складалі цэлыя комплексы з жылых, культавых і дапаможных памяшканняў (Рамесеум у Стараж. Егіпце, 13 ст. да н. э.). У сярэдневяковай Еўропе П. феадалаў былі *замкі.* У эпоху Адраджэння ў Фларэнцыі сфарміраваўся новы тып асабняка-палаца. У 16—18 ст., у эпоху абсалютызму ствараліся вял. палацы (Луўр у Парыжы, Эскарыял каля Мадрыда) і палацава-паркавыя ансамблі (Версаль каля Парыжа і інш.). На Беларусі ў 14—16 ст. мураваныя П. будавалі ўнутры замкаў, іх архітэктура мела рысы готыкі і рэнесансу. Мураваным палацава-замкавым пабудовам 16—17 ст. характэрна сумяшчэнне рыс абарончага і грамадзянскага дойлідства. Драўляныя звычайна 1- ці 2-павярховыя П. канца 16—1-й пал. 17 ст. мелі рысы стылю рэнесансу. Фасады аздабляліся аркаднымі галерэямі, дахі з вежачкамі, купаламі, каванымі пазалочанымі флюгерамі складанай формы. Замкавыя П. мелі абарончыя прыстасаванні ў выглядзе *абламаў.* У 18 ст. склаўся тып развітога барочнага палацава-паркавага ансамбля, якому характэрны буйнамаштабнасць, паўадкрытыя парадныя двары, рэгулярныя паркі з вадаёмамі і малымі архіт. формамі, шэраг службова-гасп. пабудоў. У буд-ве палацаў удзельнічалі вядомыя архітэктары І. К. *Глаўбіц,* М. Д. *Пёпельман,* Дж. *Сака,* К. *Спампані* і інш. У 2-й пал. 17—18 ст. барочныя П. з флігелямі-крыламі нярэдка ўтваралі замкнёны парадны двор — *курданёр.* Многія П. былі значнымі па памерах манум. збудаваннямі з *мезанінамі,* складанымі ярусрымі або ламанымі дахамі. Архітэктура П. 3-й чвэрці 18 ст. мела рысы ракако ці пераходныя да стылю класіцызму. У дэкоры ўжывалі ордэрную пластыку, арнаментальную і геральдычную лепку. Пераважала сіметрычна-восевая анфіладная планіроўка, у якой вылучаліся парадныя памяшканні — вестыбюль з лесвіцай, цэнтрычная зала (круглая ці квадратная, часта перакрытая купалам). У канцы 18—1-й пал. 19 ст. мастацка-стылявое вырашэнне П. грунтавалася на прынцыпах стылю класіцыз-

му. У планіроўцы пераважала калідорная сістэма з цэнтр. групай парадных памяшканняў. Палацава-паркавыя ансамблі найчасцей мелі пейзажную арганізацыю навакольнага асяроддзя. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. стылявое адзінства ў палацавым буд-ве парушана. Пашырыліся П. ў рэтраспектыўна-замкавым стылі, рэнесансавыя, у стылі неакласіцызму, несапраўднай готыкі, мадэрна, неабарока і інш. Тэрмін «П». у сучаснай архітэктуры не звязаны з пэўным тыпам збудавання — крамлёўскі Палац з'ездаў, П. культуры, П. піянераў, П. мастацтваў, шлюбу і інш.

**ПАЛА́ЦІ,** п а л а т к і, насціл з дошак, прымацаваны з аднаго боку да печы, з другога — да гарызантальнага бруска, падвешанага з дапамогай спец. планак да бэлькі; у мінулым адзін з відаў стацыянарнага абсталявання сялянскай хаты. Звычайна рабіліся з невял. нахілам у бок печы. На П. спалі дзеці ці старэйшыя члены сям'і.

**ПАЛІСА́Д,** тое, што *астрог.*

**ПАЛІ́ЦА** ў д р а ў л я н ы м д о й л і д с т в е, ніжняя больш пакатая частка стромкага 2-схільнага або шатровага даху. П. адводзіць дажджавую ваду ад сцен, ускладняе пакрыццё, стварае яго выразны сілуэт. У бел. дойлідстве П. выкарыстаны ў шатровых дахах вежаў-цэркваў.



Паліца.

**ПАЛЬМЕ́ТА** (франц. palmette), арнаментальны матыў у выглядзе сіметрычнага стылізаванага веерападобнага ліста. У мастацтве Стараж. Усходу, антычнасці і наступных эпох выкарыстоўвалася ў архіт. дэкоры (напр., у выглядзе *акратэрыя*) і дэкар.-прыкладным мастацтве.



Пальметы.

**ПАЛЬЧА́ТКА,** вялікапамерная цэгла з падоўжнымі баразнамі на паверхні, якія зроблены пальцамі майстра ці спец. інструментам. Вядома на Беларусі ў 13—18 ст., куды трапіла з Валыні, таксама ў паўн.-ўсх. Германіі, Польшчы, Літве і некаторых раёнах Прыбалтыкі. Выраблялася розных памераў: для замкавага буд-ва (таўшчыня 8—10 см), у 2-й палове 17 ст. існавала тонкая П. (4,5—6 см). На П. 14—16 ст. трапляюцца меткі і клеймы.

**«ПАЛЯЎНІ́ЧЫ ДОМ»,** тып загараднай сядзібы для часовага пражывання магната, яго світы і гасцей, што прыязджалі на паляванне. Вядомы ў 17—19 ст. на Беларусі, у Літве, Польшчы, на Украіне. «П. д.» звычайна драўляны 1-павярховы (часам з мезанінам) будынак, завершаны 2-схільным або ламаным дахам. У анфіладнай планіроўцы вылучалася парадная частка з залай, сталовай, кухняй, гасцінай, прыхожай; жылыя памяшканні звычайна размяшчаліся ў перыферыйных частках будынка і нярэдка мелі самастойныя ўваходы. Каля дома будавалі стайні, вазоўні, псярні, дамы для егераў і інш.

**ПА́НДУС** (ад франц. pente douce пакаты схіл), прамавугольная ці крывалінейная ў плане нахіленая пляцоўка для пад'езду да параднага ўвахода, размешчанага над цокалем будынка, а таксама для пад'езду аўтамабіляў на верхнія паверхі ў буйных гаражах; у асобных выпадках замяняе лесвіцы ўнутры і звонку будынкаў і збудаванняў.



Пандус.

**ПАРАПЕ́Т** (франц. parapet ад італьян. parapetto ад parare абараняць + petto грудзі), невысокая суцэльная сценка, якая агароджвае пакрыццё будынка, тэрасу, балкон, набярэжную, мост і інш. Часта бывае пастаментам для дэкар. ваз і статуй. Вядомы са старажытнасці ў архітэктуры Грэцыі і Рыма. Найбольш шырока выкарыстоўваўся ў архітэктуры стыляў рэнесансу, барока і класіцызму. У выглядзе П. робяць парадныя агароджы ўчасткаў скавераў і паркаў.

**ПАРТА́Л** (ням. Portal ад лац. porta уваход, вароты), архітэктурнае абрамленне дзвярнога праёма (пераважна ў манум. грамадскіх, культавых і інш. будынках). Вядомы са старажытнасці. Для архітэктуры Стараж. Егіпта і антычнасці характэрны простыя па аздабленні П. з плоскімі перамычкамі, для стараж. Месапатаміі — арачныя П., на Блізкім і Далёкім Усходзе былі пашыраны прамавугольныя П. з нішамі — піштакі. З 11 ст. ў раманскай, гатычнай і стараж.-рус. архітэктуры пашырыліся арачныя, т. зв. перспектыўныя (звужаныя ўглыб), П., афармленыя ў вы-



Партал касцёла кармелітаў у г. Глыбокае. 17 ст.

глядзе ўступаў, у вуглах якіх размяшчаліся калонкі, злучаныя *архівольтамі.* Рэнесансавыя і барочныя П. звычайна аздабляліся пілястрамі, калонамі, якія неслі *антаблемент* або *франтон.* Часта П. ўпрыгожвалі скульптурай, разьбой, лепкай, размалёўкай, кафляй.

**ПАРТЭ́Р** (франц. parterre ад par на + terre зямля), 1) у тэатральным будынку, кінатэатры, канцэртнай зале — частка глядзельнай залы ніжэй узроўню сцэны (звычайна павышаецца ад сцэны да апошніх радоў) з месцамі для гледачоў. Існуюць прамавугольныя ў плане, у выглядзе сегментаў, паўкруга, паўавала, больш складанай формы. У некаторых відовішчных збудаваннях вырашаюцца *амфітэатрам.* У стараж.-рымскім тэатры П.— цэнтр. паўкруглая пляцоўка з радамі месцаў. П., абкружаны ярусамі ложаў, паявіўся ў Італіі (17 ст.). 2) У садова-паркавым мастацтве — адкрытая частка саду ці парку на роўнай мясцовасці з газонамі, кветкамі, вадаёмамі, бардзюрамі з кустоў. На П. часта размяшчаюць фантаны, скульптуру, курціны, асобныя дрэвы. Характэрны рэгулярным паркам 17—18 ст. У выглядзе П. вырашаліся барочныя парадныя двары — *курданёры* перад гал. фасадам палаца або сядзібнага дома. Шырока выкарыстоўваюцца ў *ландшафтнай архітэктуры* і азеляненні пры стварэнні буйных горадабудаўнічых ансамбляў.

**ПАРЭ́БРЫК**, прыём арнаментальнай цаглянай ці каменнай муроўкі ўстаноўкай цаглін (абчасаных камянёў) пад вуглом да вонкавай паверхні сцяны. Звычайна П. ўтваралі дэкар. гарызантальныя фрызы і паяскі і спалучаліся з інш. элементамі аздаблення. Выкарыстоўваліся ў пабудовах стыляў готыкі і рэнесансу, псеўдарускага, несапраўднай готыкі, мадэрна.



**Парэбрык.**

**ПАСА́Д**, гандлёва-рамесная частка феадальнага горада ў 10—18 ст. Размяшчаўся побач з *дзядзінцам*, звычайна на беразе ракі. У П. жылі пераважна рамеснікі і купцы, тут адбываўся гандаль. П. мелі ўсе старажытныя гарады Беларусі.

**ПА́ТЫО** (ісп. patio), адкрыты ці перакрыты зашклёнымі рамамі ўнутраны дворык, часта абкружаны галерэямі. Тып. П. ўзыходзіць да класічнага перыстылю (прамавугольнай пляцоўкі, абкружанай з 4 бакоў крытай каланадай) і мае вял. пашырэнне ў краінах Міжземнага мора (асабліва ў Іспаніі), Лацінскай Амерыкі.

**ПАХАВА́ЛЬНЯ**, мемарыяльнае архіт. збудаванне для пахавання цела нябожчыка. Звычайна П. ставяць асобна і яны маюць уваход у сярэдзіну, часам іх убудоўваюць у *нефы* ці *крыпты* культавых збудаванняў. Вызначаюцца разнастайнасцю кампазіцый (мастабы, грабніцы, піраміды, маўзалеі, калумбарыі, пантэоны, саркафагі, капліцы), манументальнасцю, трываласцю будаўнічых матэрыялаў. Розныя віды П. вядомы з глыбокай старажытнасці.





**Пахавальні** ў в. Закозель Драгічынскага раёна (папярочны разрэз, уверсе) і Гомелі (галоўны фасад).

**ПАШТО́ВАЯ СТА́НЦЫЯ,** від прыдарожных збудаванняў; уваходзіць у склад дарожнай архітэктуры. На фарміраванне П. с. уплывалі будаўнічыя традыцыі заезных двароў і корчмаў. Размяшчаліся звычайна па-за горадам і інш. населеным пунктам, на пад'ездах да іх, іншы раз у цэнтры невял. сёл і вёсак. Уяўлялі сабой комплекс пабудоў, аб'яднаных тэрыторыяй станцыйнага двара. Цэнтр. месца ў кампазіцыі займаў будынак станцыі, дзе былі памяшканні для праезджых (гасцініца), кватэра дазорцы, пакой для запісу падарожных і інш. дапаможныя памяшканні. Гал. падоўжным фасадам будынак ставіўся паралельна дарозе. Яго разгорнутую сіметрычную кампазіцыю звычайна падкрэсліваў уваход у выглядзе партала з лаканічным дэкорам. Абапал асн. будынка знаходзіліся вароты ў двор. Па перыметры размяшчаліся флігелі для ямшчыкоў, свірны, стайні, хлявы. Нярэдка гасп. пабудовы выходзілі за лінію гал. фасада і сіметрычна фланкіравалі будынак. Архітэктура тыпавых П. с. сярэдзіны 19 ст. мела рысы позняга класіцызму, псеўдарускага стылю, неаготыкі.

**П'ЕДЭСТА́Л** (франц. piédestal ад італьян. piedistallo ад piede нага + stallo месца), пастамент, па-мастацку афармленая аснова, на якой

устанаўліваецца твор скульптуры (статуя, група, бюст) або ваза, калона, абеліск. П. могуць мець розныя формы — геаметрычна правільныя або адвольныя (напр., П. у выглядзе натуральнага, неапрацаванага каменю), нярэдка ўпрыгожаны скульпт. рэльефам.

**ПЕЙЗА́ЖНЫ ПАРК** (франц. paysage ад pays краіна, мясцовасць), тып парку, для якога ўласціва свабодная планіроўка, маляўнічае размяшчэнне кампазіцыйных элементаў, што імітуе прыродны ландшафт. Пры стварэнні такіх паркаў творча перапрацоўваліся матывы натуральнай прыроды; партэры замяняліся лужкамі, геаметрычныя па форме басейны і каналы — азёрамі і рэчкамі, строгі рытм пасадак — асобнымі або свабодна згрупаванымі дрэвамі (курцінамі), прамыя алеі — сцяжынкамі. У кампазіцыю П. п. часам уваходзілі несапраўдныя руінныя формы рамаскай і гатычнай архітэктуры, бутафорскія пабудовы ў «псеўдакітайскім стылі», штучныя збудаванні ў выглядзе гротаў, каскады і інш.

**ПЕ́РГАЛА** (італьян. pérgola), абвітая павойнымі раслінамі альтанка або калідор з трэльяжаў (лёгкіх providedатаў каркаснай канструкцыі) на арках ці слупах; элемент архітэктуры малых форм. Мае дэкар.-функцыянальнае прызначэнне. У садах 16 ст. і парках 17—18 ст. вылучаліся на фоне падстрыжаных сценак-шпалераў насаджэнняў. Выкарыстоўваюцца і ў сучасным паркавым буд-ве.

**ПЕРСПЕКТЫ́ВА** (франц. perspective ад лац. perspicio ясна бачу), сістэма адлюстравання прадметнага асяроддзя на плоскасці адпаведна зрокаваму ўспрыняццю прадметаў чалавекам. Аснова П.— цэнтр. праекцыя. Каб стварыць перспектыўнае адлюстраванне з некаторага пункта прасторы (цэнтра П., у якім знаходзіцца назіральнік), праводзяць прамяні праз кожны бачны пункт аб'екта. У геаметрычным месцы пунктаў перасячэння прамянёў з некаторай паверхняй атрымліваюць перспектыўнае адлюстраванне аб'екта. У залежнасці ад формы паверхні, на якую праецыруецца адлюстраванне, вылучаюць лінейную П. (перспектыўнае адлюстраванне прадмета на плоскасці), панарамную П. (адлюстраванне на ўнутранай паверхні цыліндра), купальную П. (адлюстраванне на ўнутранай паверхні сферы). Перспектыўнае адлюстраванне шырока выкарыстоўваецца ў архіт. праектаванні, чарцяжах існуючых будынкаў, комплексаў, ансамбляў для нагляднага паказу іх выгляду і структуры, найбольш поўнага ўяўлення пра іх архіт.-планіровачную арганізацыю, праверкі кампазіцыйнай задумы архітэктара. Пры стварэнні перспектыўнага адлюстравання якога-небудзь архіт. аб'екта выкарыстоўваюцца маст.-тэхн. прыёмы *графікі архітэктурнай.*



Пабудова **перспектывы** метадам А. Дзюрэра.

**ПЕРЫМЕТРА́ЛЬНАЯ ЗАБУДО́ВА,** архітэктурна-планіровачны прыём, пры якім будынкі размяшчаюць уздоўж чырвоных ліній вуліц, а ўнутраную прастору забудовы выкарыстоўваюць для двароў. Характэрна для дробнакварталнай планіроўкі тэрыторыі населеных месцаў. П. з. сфарміравалася ў Зах. Еўропе ў 17 ст. пад уплывам тэорый ідэальнага горада (эпоха італьянскага Адраджэння), заснаваных на выкарыстанні рэгулярнай сістэмы планіроўкі гарадоў Стараж. Грэцыі. У Расіі і на Беларусі П. з. вядома з канца 18 ст., калі буд-ва грамадскіх, гандлёвых і жылых будынкаў вялося ўздоўж вуліц і завулкаў па перыметры кварталаў.

**ПІЛО́Н** (ад грэч. pylṓn, літар. брама, уваход), 1) масіўныя слупы, якія служаць апорай арак, перакрыццяў, мастоў, падземных станцый метрапалітэна і інш., або якія стаяць абапал уваходаў ці ўездаў на тэр. палацаў, паркаў і інш. 2) Вежападобнае збудаванне ў форме ўсечанай піраміды (у плане выцягнуты прамавугольнік) з трапецападобным фасадам (звычайна аздобленым рэльефамі); ставілі абапал уваходаў у стараж.-егіпецкія храмы.


**Пілоны** старажытнаегіпецкага храма.

**ПІЛЯ́СТРА,** пілястр (італьян. pilastro ад лац. pila калона, слуп), плоскі вертыкальны прамавугольны ў плане выступ на сцяне або слупе, які паўтарае ўсе часткі і прапорцыі калоны архітэктурнага *ордэра,* але пазбаў-


**Пілястра.**



Пінакль.

лены яе сярэдняй патоўшчанай часткі — *энтазіса*. Як дэкар. элементы П. шырока выкарыстоўваліся ў ордэрнай сістэме для вертыкальнага члянення сцен. Часам канструкцыйна ўмацоўвалі найбольш нагружаныя ўчасткі сцен. Упершыню паявіліся ў ордэрнай архітэктуры Стараж. Грэцыі і Стараж. Рыма.

**ПІНА́КЛЬ** (франц. pinacle), дэкаратыўныя вежачкі, слупкі на *контрфорсах* ці на інш. частках. Звычайна завяршаюцца *фіяламі* і ўпрыгожваюцца *крабамі*. Вядомы ў еўрапейскай архітэктуры познераманскага і гатычнага стыляў.

**ПЛАН** (ад лац. planum плоскасць), 1) выкананае ў вызначаным маштабе графічнае адлюстраванне гарызантальнай праекцыі будынка (або аднаго з яго паверхаў ці памяшканняў), комплексу будынкаў, населенага пункта ў цэлым ці асобных яго частак. П. бываюць натурныя (ствараюцца на аснове *абмераў архітэктурных*) і праектныя (ствараюцца пры праектаванні архіт. збудаванняў). П. звычайна характарызуе форму і канфігурацыю збудавання. 2) Характарыстыка размяшчэння асн. частак будынка або ансамбля на ўзроўні зямлі (у шматпавярховых будынках і ў комплексах, размешчаных на складаным рэльефе,— на розных узроўнях).

**ПЛАФО́Н** (ад франц. plafond столь), столь, упрыгожаная жывапісам ці лепкай; твор манум.-дэкар. мастацтва, які аздабляе перакрыцце (плоскае, скляпеністае ці купальнае) якога-небудзь памяшкання. Выконваецца непасрэдна па тынку (фрэска або размалёўка алейнымі, клеявымі і інш. фарбамі), на прымацаваным да столі палатне, мазаікай і інш. спосабамі. Вядомы ў Стараж. Егіпце, антычным свеце. На Беларусі сюжэтныя і арнаментальныя П. пашыраны ў 17 — пач. 19 ст. ў дэкар. аздабленні культавых і парадных палацавых памяшканняў.



**Плафон** столі ў Свяцкім палацы (Гродзенскі раён).

**ПЛІ́НФА** (ад грэч. plinthos цагліна), шырокая і плоская абпаленая цэгла. Вядомая ў Стараж. Рыме. Выкарыстоўвалася ў манум. буд-ве Візантыі, адкуль у 10—11 ст. трапіла і на Беларусь. Пазней П. выраблялі на месцы будаўніцтва. Найбольш характэрна для пабудоў 11—12 ст. *Полацкай школы дойлідства* і *Гродзенскай школы дойлідства*. Аздаблялася рэльефнымі знакамі (трызубец, пяціканцовая зорка і інш.). Рады П. змацоўвалі *цамянкай*. Была пашырана муроўка «са схаваным радам», у якой чаргаваліся заглыбленыя і высунутыя наперад рады П. Такая муроўка называлася «паласатай», паверхня сцяны мела дэкар. выгляд у выніку чаргавання чырвоных палос П. і бледна-ружовых цамянкі. Часам у муроўцы чаргаваліся рады П. і каменю-вапняку. Для пілястраў, лапатак і інш. архіт. дэталей выкарыстоўвалі трапецападобную і паўкруглую П.

**ПЛО́ШЧА**, архітэктурна арганізаваная незабудаваная прастора, уключаная ў вулічную сетку населенага пункта і абмежаваная будынкамі, скверамі, паркамі або натуральным рэльефам. У сучасным горадабудаўніцтве гарадскія П. падзяляюць на 2 тыпы — транспартныя і пешаходныя. Бываюць галоўныя, тэатральныя, мемарыяльныя (ствараюцца ў гонар вял. гіст. падзей, выдатных дзярж. дзеячаў, вучоных, майстроў мастацтва), П. перад паркам, стадыёнам, заводам і інш. П. рознага прызначэння могуць мець азеляненне па перыметры, у цэнтр. частцы (*партэр*) або мяшанае. Правобразам гарадскіх П. былі парадныя прамавугольныя ў плане двары палацавых і храмавых комплексаў Крыта, Егіпта, Вавілоніі, Асірыі. У Стараж. Грэцыі прамавугольныя ў плане П.— агоры, у Стараж. Рыме — форумы.

**ПЛЯБА́НІЯ** (польск. plebania), двор святара каталіцкай, рэфарматарскай або уніяцкай царквы ў Польшчы і на Беларусі ў 16 — пач. 20 ст. Звычайна размяшчаўся каля храма, уключаў жылы дом і гасп. пабудовы. Драўляная жылая забудова выраслася пераважна ў традыцыях нар. дойлідства. Планіроўка дома звычайна 3-камерная, у 19 — пач. 20 ст. больш складаныя структуры.

**ПОРЦІК** (лац. porticus), галерэя (звычайна афармляе гал. ўваход у будынак), якая ўтвараецца калонамі ці слупамі і завяршаецца *франтонам*



Порцік.

ці *атыкам*. П. былі пашыраны ў эпоху антычнасці, Адраджэння, барока, асабліва характэрны класіцызму.

**ПРАЕ́КТ** (ад лац. projectus, літар. кінуты наперад), сукупнасць дакументаў (разлікі, чарцяжы і *макеты* архітэктурныя) для ўзвядзення, рэканструкцыі або рэстаўрацыі будынкаў і збудаванняў. Для гарадоў і інш. населеных месцаў распрацоўваюцца П.: генеральных планаў, дэталёвай планіроўкі, раённай планіроўкі, планіроўкі жылых раёнаў, грамадскіх цэнтраў, прамысл. і прыгарадных зон. Складаецца з архіт.-будаўнічых і інж.-тэхн. рашэнняў (выконваюцца сродкамі архіт. графікі), арганізацыі буд-ва, тлумачальнай запіскі, каштарыснай дакументацыі і пашпарта П. Адрозніваюць П. тыпавы (для масавага буд-ва шматлікіх аднолькавых аб'ектаў) і індывідуальны (для буд-ва адзінкавых унікальных архіт. аб'ектаў). Праектаванне звычайна ажыццяўляюць у 2 стадыі: 1-я — тэхнічны П. (уключае асноўныя архіт.-будаўнічыя чарцяжы — планы паверхаў, разрэзы, фасады, генеральны план) і каштарыс, 2-я — рабочыя чарцяжы (уключае рашэнні генеральнага і архіт.-будаўнічага планаў, планы і фасады з маркіроўкай зборных вырабаў, чарцяжы інтэр'ераў, канструкцый, інж. камунікацый і інш.). Часам П. распрацоўваюць у некалькіх варыянтах для архіт. конкурсаў.

**ПРАМЫСЛО́ВЫ ВУ́ЗЕЛ**, група прадпрыемстваў, размешчаных на адной тэрыторыі і аб'яднаных у адзінае цэлае кааперацыяй асн. і дапаможнай вытворчасці, энергетычнай і складской гаспадаркі, транспарту, інж. збудаванняў і камунікацый, сістэмы культ.-быт. абслугоўвання, а таксама агульнай архіт.-кампазіцыйнай задумай. Ступень кааперацыі залежыць ад профілю П. в. (шматгаліновы, спецыялізаваны) і ад канкрэтных умоў буд-ва. Усе прадпрыемствы П. в. ўзводзяцца аднача-сова на працягу 3—8 гадоў з разрывам у часе пачатку буд-ва асобных аб'ектаў не больш чым 3 гады. Праектаванне прадпрыемстваў у складзе П. в. пачалося ў 1960-я г.

**ПРАМЫСЛО́ВЫ РАЁН**, групавое размяшчэнне ў горадзе прамысловых прадпрыемстваў, звязаных кааперацыяй асобных вытворчасцей і служб па тыпу *прамысловага вузла*. П. р. можа ўключаць некалькі прамвузлоў, адрозніваецца ад іх меншай ступенню вытв. кааперацыі і больш доўгім тэрмінам буд-ва асобных прадпрыемстваў (25—30 гадоў). П. р. фарміруюцца ў адпаведнасці з *генеральным планам* горада і ўяўляюць сабой архіт.-планіровачную арганізацыю адной з яго функцыянальных зон — прамысловай. У П. р. забяспечваецца функцыянальна - планіровачная і прасторавая арганізацыя ўсёй тэрыторыі, узаемазвязанае рацыянальнае вырашэнне асобных прадпрыемстваў, іх тэхналагічных сувязей, а таксама арганічнае ўключэнне гэтых аб'ектаў у асяроддзе горада. Пры аб'яднанні П. р. з *жылымі раёнамі* ўтвараецца новая горадабудаўнічая адзінка — прамыслова-сялібны раён.

**ПРАПІЛЕ́І**, прапілон (ад грэч. propýlaion перад дзвярамі, уваход), парадны праход, праезд, утвораны сіметрычнымі порцікамі і каланадамі, размешчанымі па восі руху. Характэрны для архітэктуры Стараж. Грэцыі, класіцызму. У 2-й палове 19—20 ст. ўзводзіліся як частка асабліва ўрачыстых архіт. комплексаў ці збудаванняў, якія маюць мемарыяльнае значэнне.



**Прапілеі** афінскага акропаля. 437—432 да н. э. Рэканструкцыя.

**ПРАПО́РЦЫІ** (ад лац. proportio суадносіны, суразмернасць), суадносіны велічынь збудавання, яго асобных элементаў і ўсяго збудавання ў цэлым. Адна з катэгорый архіт. *кампазіцыі*, якая звязана рытмам, кантрастам, нюансам. Адыгрывае важную ролю ў дасягненні выразнасці архіт. формы будынкаў і збудаванняў, у стварэнні іх маштабнасці; вызначае архіт.-маст. якасці архіт. твора. Акрамя П., заснаваных на кратных і цэлалікавых адносінах, вядомы сістэмы прапарцыянавання, якія прыводзілі да ірацыянальных адносін (напр., *залатое сячэнне*). У 1940-я г. французскі архітэктар Ле Карбюзье прапанаваў сваю сістэму П.— «мадулор», заснаваную на памерах і прапорцыях чалавечага цела, якая


Сістэма прапорцый «мадулор» Ле Карбюзье.

зрабіла значны ўплыў на практыку архітэктуры і дызайна. У сучаснай архітэктуры і дызайне важнае месца займае праблема распрацоўкі сістэм П. ва ўмовах стандартызацыі памераў і параметраў вырабаў.

**ПРА́СЛА** ў драўляным дойлідстве, 1) частка сцяны каркаснай канструкцыі або плоту з гарызантальна пакладзеных бярвён, брусоў, жэрдак, дыль, плах, дошак паміж 2 вертыкальнымі слупамі (*шуламі*). З асобных П. будавалі пераважна гасп. пабудовы — аборы, гумны, хлявы і інш. ў *закідной тэхніцы.* 2) Частка крапасной сцяны паміж 2 абарончымі *вежамі.*

**ПРАСПЕ́КТ** (ад лац. prospectus від), прамая шырокая вуліца ў горадзе, адна з гал. гарадскіх магістралей, якая ўваходзіць у склад агульнагарадскога цэнтра буйнога горада. Уздоўж яго звычайна размяшчаюцца адм.-грамадскія цэнтры і плошчы з адм. і грамадскімі будынкамі, якія ўтвараюць значныя архіт. *ансамблі* горада. П. можа ствараціца на працягу невял. адрэзка часу па адзінай задуме і ў адным стылі або на працягу доўгага часу шляхам дапаўнення першапачатковай кампазіцыі інш. па стылю будынкамі і збудаваннямі.

**«ПРУ́СКІ МУР»**, гіст. назва спецыфічнага тыпу агараджальнай канструкцыі будынкаў (*фахверка*) на Беларусі. Аснову канструкцыі складае драўляны каркас з вертыкальных стоек, злучаных гарызантальнымі бэлькамі, раскосамі і крыжовымі сувязямі. Прамежкі паміж элементамі каркаса запаўнялі каменем, цэглай або глінай, нярэдка атынкоўвалі і бялілі, а каркас пакідалі адкрытым і ён утвараў на паверхні сцен характэрны дэкар. малюнак. Тэхніка «П. м.» запазычана з Зах. Еўропы. Была пашырана ў 15—17 ст. у буд-ве малапавярховых жылых, гасп. і вытв. будынкаў. У 18 ст. дэкар. матывы «П. м.» выкарыстоўвалі для аздаблення сцен манум. драўляных будынкаў. Выкарыстоўваўся да пач. 20 ст.

**ПРЫДЗЕ́Л**, у праваслаўным храме невял. бесстаўповая прыбудова з паўд. ці паўн. боку фасада або спецыяльна вылучаная частка асн. будынка, якая мае дадатковы алтар для асобных богаслужэнняў.


Прыдзел.

**ПРЫ́ЗБА**, невысокі земляны насып уздоўж сцяны хаты для ўцяплення памяшкання. З вонкавага боку П. ўмацоўвалі невысокімі сценкамі з плятня, жэрдак, тонкіх бярвён, дошак. У наш час П. замененa на каменным, цагляным або бетонным падмуркам.

**ПРЭСБІТЭ́РЫЙ**, прэсбітэрыум (позналац. presbyterium месца для выбраных ад грэч. presbýteros старэйшына), прастора ў касцёле перад гал. алтаром, прызначаная для богаслужэння і размяшчэння духавенства. Звычайна злучаны з гал. нефам і вылучаны арачнымі парталамі ці балюстрадамі. П. вядомы ў сярэдневяковых раманскіх і гатычных храмах Зах. Еўропы. У бел. архітэктуры паявіліся з канца 16 ст. ў пабудовах стылю барока. У 17—18 ст. некаторыя П. аздаблялі скульптурай, дэкарыравалі арнаментам і сюжэтна-тэматычнай размалёўкай.


**Прэсбітэрый:** квадратны (зверху) і прамавугольны ў плане.

**ПСЕЎДАРУ́СКІ СТЫЛЬ**, рэтраспектыўна-рускі стыль, умоўная назва розных па сваіх ідэйных вытоках эклектычных кірункаў у рус. архітэктуры 2-й паловы 19 ст. Яго асн. рысы — выкарыстанне матываў і дэталей стараж.-рус. дойлідства (аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя, какошнікі, шатровыя дахі і інш.). З 1830-х гадоў пашырыўся афіцыйны *руска-візантыйскі стыль,* які запазычыў шэраг кампазіцыйных прыёмаў і дэкар. матываў з візантыйскай архітэктуры. У 1850-я гады пад уплывам рамантызму і славянафільства ўзнік кірунак, для якога характэрна выкарыстанне адвольна трактаваных матываў стараж.-рус. архітэктуры (пабудовы арх. А. М. Гарнастаева). У пач. 1870-х гадоў пад уздзеяннем народніцкіх ідэй узнік новы дэмакратычны варыянт, П. с., які зводзіўся да пышнага багатага аздаблення будынкаў узорамі рус. нар. вышыўкі і разьбы па дрэве. Вядомы пад назвай «рапетаўшчына» (ад прозвішча арх. І. П. Ропета). Прапагандаваўся крытыкам У. В. Стасавым. Напачатку быў пашыраны ў архітэктуры драўляных выставачных павільёнаў і невял. гарадскіх



**Псеўдарускі стыль.** Будынак абласнога драматычнага тэатра ў Магілёве. 1886—88. Галоўны фасад.

дамоў, потым — у мураванай манум. архітэктуры. У 1880-я гады яго змяніў новы афіцыйны кірунак П. с., які амаль літаральна капіраваў дэкар. матывы рус. архітэктуры 17 ст. На Беларусі пашырэнне П. с. суправаджалася перабудовай будынкаў, гал. чынам культавых, што сказіла архіт.-маст. якасці многіх помнікаў архітэктуры. Будынкі П. с. ўзводзіліся з цэглы, бутавага каменю ці камбінаваныя. У 1850—1930-я гады пабудавана вял. колькасць тыпавых цэркваў, т. зв. «мураўёвак». Формы стараж.-рус. дойлідства, выкарыстаныя ў збудаваннях П. с., не адпавядалі іх функцыянальнаму прызначэнню.

# Р

**РАБА́ТКА** (ад ням. Rabatte градка), кветнік у выглядзе палосы шыр. 0,5—3 м, акаймаванай дэкар. раслінамі. Выкарыстоўваецца ў дэкар. мэтах пры азеляненні (асабліва партэрным) населеных месцаў. Найчасцей размяшчаецца ўздоўж дарог, фасадаў будынкаў і інш. або з'яўляецца часткай складанага кветніка. Пры вял. працягласці Р. часам падзяляюць праходамі на часткі даўж. па 20—25 м.

**РАВЕЛІ́Н** (франц. ravelin), абарончае збудаванне трохвугольнай формы ў фартэцыях перад ровам, у прамежку паміж *бастыёнамі.* Выкарыстоўваўся для размяшчэння агнявых сродкаў, якія прыкрывалі ўчасткі крапасной сцяны ад артылерыйскага агню і атак ворага.

**РАЁННАЯ ПЛАНІРО́ЎКА,** праектныя прапановы па планіровачнай арганізацыі тэрыторыі эканамічных ці адм. раёнаў; від навуковай і практычнай горадабудаўнічай дзейнасці. Р. п. дазваляе ўдакладняць і развіваць нар.-гасп. планы асобных эканамічных раёнаў і ствараць устойлівую горадабудаўнічую базу для развіцця населеных месцаў. З'яўляецца сувязным звяном паміж нар.-гасп. планаваннем і горадабудаўніцтвам. Гал. задача Р. п.— комплекснае тэрытарыяльна-гасп. ўпарадкаванне праектуемага раёна і фарміраванне яго планіровачнай структуры, якая забяспечвае рацыянальнае размяшчэнне прадукцыйных сіл і найлепшыя ўмовы для працы, быту і адпачынку насельніцтва. Праектная дакументацыя па Р. п. ўключае схему Р. п. і праект Р. п. Графічныя матэрыялы с х е м ы выконваюцца ў маштабе 1:100 000 — 1:300 000. Яна служыць для тэхніка-эканамічнага абгрунтавання праектаў размяшчэння і буд-ва буйных прамысл. і энергетычных комплексаў, баз будаўнічай індустрыі, магістральных, транспартных і інш. камунікацый, стварэння арганізаваных сістэм рассялення і размяшчэння ў іх новых і развіцця існуючых гарадоў і сельскіх паселішчаў, праектавання курортаў, нацыянальных і прыродных паркаў, запаведнікаў, а таксама міжраённых зон і комплексаў масавага адпачынку насельніцтва. П р а е к т Р. п. распрацоўваецца на аснове схемы Р. п. Графічныя матэрыялы выконваюцца ў маштабе 1:25 000, 1:50 000. Праект Р. п.— аснова для распрацоўкі генеральных планаў развіцця гарадоў і інш. населеных месцаў, прамысл. вузлоў, курортных і турысцкіх комплексаў, размяшчэння культ.-быт. устаноў раённага значэння. На аснове праекта Р. п. складаюцца таксама праекты міжгасп. і ўнутрыгасп. земле- і лесаўпарадкавання, вылучэння буйных зямельных участкаў для розных відаў выкарыстання, вядзецца распрацоўка праектаў зон санітарнай аховы.

**РАЗЕ́ТКА** (ад франц. rosette, літар. ружачка), арнаментальны матыў у выглядзе стылізаванай распушчанай кветкі (напр., *ружы*). Р. з старажытнасці выкарыстоўваюцца ў архіт. дэкоры і ў дэкар.-прыкладным мастацтве.

**РАЗРЭ́З** а р х і т э к т у р н ы, франтальная праекцыя будынка ці архіт. дэталі, умоўна рассечаных плоскасцю або сістэмай плоскасцей. Служыць для паказу на чарцяжы канфігурацыі архіт. дэталей, аб'ёмаў або ўнутраных прастораў. Р. шырока выкарыстоўваюцца ў архіт. праектах, выконваюцца сродкамі *графікі архітэк-*





**Разеткі** ў афармленні столі палаца ў в. Высокае Камянецкага раёна.



Папярочны **разрэз** Іосіфаўскага сабора ў Магілёве. 18 ст.



Аксанаметрычны **разрэз** храма святой Сафіі ў Стамбуле. 532—37.



**Разьба архітэктурная.** Разьба ў інтэр'еры Мікалаеўскай царквы ў в. Кажан-Гарадок Лунінецкага раёна. 19 ст.



**Ракайль.**



Арнамент **ракако.**

*турнай.* Для нагляднага паказу структуры будынка і поўнага ўяўлення пра яго архіт.-прасторавую арганізацыю часам сумяшчаецца з аксанаметрычным Р. (гл. *Аксанаметрыя*).

**РАЗЬБА́ АРХІТЭКТУ́РНАЯ,** арнаментальная ці сюжэтная кампазіцыя, выкананая спосабам мастацкай апрацоўкі пераважна дрэва, якая ўжываецца для дэкору будынкаў і збудаванняў. Р. а. вытанчанай святлоценявой мадэліроўкай узбагачае пластыку фасадаў, узмацняе іх рытмічную будову, кантрастна вылучае найбольш значныя элементы кампазіцыі, падкрэслівае архітэктоніку будынкаў. Пашырана некалькі відаў Р. а.: выемчатая, скразная, рэльефная, камбінаваная. У Расіі і на Беларусі вядома з 12 ст., ужывалася з 19 ст. ў народным дойлідстве.

**РАКА́ЙЛЬ** (ад франц. rocaille, літар. драблёны камень, ракавіны), 1)матыў арнаменту — стылізаваная ракавіна, С- і S-падобныя завіткі, хвалістыя грабяні, языкі полымя і інш. Кампазіцыйныя вырашэнні Р. разнастайныя: хвалісты веер, гірлянда, мудрагеліста выгнуты *картуш,* раслінныя матывы. Яго элементы звычайна не паўтараюцца, вылучаюцца экспрэсіяй. Пашырэнню Р. ў еўрапейскім мастацтве садзейнічала кніга французскага мастака Я. Мандона «Першая кніга арнаментальных форм ракайляў і картушаў» (Парыж, 1736). 2) Тэрмін Р. часам ужываюць для абазначэння стылю *ракако.*

**РАКАКО́** (франц. rococo), ракайль, стыль у зах.-еўрапейскім мастацтве 1-й паловы 18 ст. Узнік у Францыі ў перыяд крызісу абсалютызму. У архітэктуры асн. прыкметамі Р. з'яўляюцца ламаныя лініі, якія нагадваюць абрысы ракавіны, спляценне разных і ляпных арнаментаў, завіткі, разарваныя картушы, выкарыстанне жывапісных пано і інш. Стылю Р. уласцівы візуальнае разбурэнне будаўнічых канструкцый, наданне ім раслінных форм, ілюзорнае пашырэнне рэальнай прасторы з дапамогай вял. колькасці люстэркаў, залачэння, хрусталю. У асноўным Р. быў сістэмай дэкору інтэр'ераў, афармленне якіх спалучалася з адносна строгім вонкавым аблічам збудавання.

**РАМА́НСКІ СТЫЛЬ,** стыль сярэдневяковага еўрапейскага мастацтва 10—13 ст. Р. с. склаўся пад уплывам феадальна-рэлігійнай ідэалогіі, увабраў у сябе элементы стараж.-рымскага і візантыйскага мастацтваў; тэрмін узнік у 1820-я г. Вызначальная роля належала суровай, крапаснога характару архітэктуры (замкі, манастырскія комплексы, цэрквы, гарадскія дамы), якой уласцівы сукупнасць набліжаных адзін да аднаго аб'ёмаў рознай вышыні, канструкцыйна аб'яднаных узаемазвязанасцю апор і перакрыццяў і ўраўнаважаных вежай-ліхтаром ці купалам над сяродкрыжжам. У ранні перыяд у будынках рабілі плоскія драўляныя перакрыцці, пазней цыліндрычныя і, нарэшце, крыжовыя. Найбольш закончаны тып збудаванняў Р. с.— манастырская царква (*базіліка,* крыжападобная ў плане ў Зах. Еўропе, круглая ў плане *ратонда* ў Цэнтр. Еўропе). Збудаванні вызначаліся манументальнасцю, масіўнасцю канструкцый, аздабляліся абстрактна-геаметрычным арнаментам і скульптурай на тымпанах парталаў, капітэлях апор. У скульптуры і фрэсках пераважалі дагматычнасць, скаваны арнаментальна-плоскасны характар кампазіцыі, умоўная трактоўка фігур у спалучэнні з павышанай экспрэсіяй. Яскравыя ўзоры архітэктуры Р. с. створаны ў Германіі (сабор у Вормсе, 12—13 стагоддзі), Францыі (царква Нотр-Дам у Пуацье, 12 ст.), Італіі (царква Сан-Мікеле ў Павіі, 12 ст.) і інш.

**РАМАНТЫ́ЗМ** (франц. romantisme), мастацкі метад, які склаўся ў канцы 18 — пач. 19 ст. і распаўсюдзіўся як кірунак (плынь) у літаратуры і мастацтве Еўропы, ЗША. Узнікненне Р. звязана з уздымам антыфеадальнага і нац.-вызваленчага руху. У барацьбе за сцвярджэнне новых эстэтычных прынцыпаў прыхільнікі Р. выступалі супраць рацыяналістычных дагматаў класіцызму, ставілі на першы план творчую свабоду дойліда. Адна з характэрных яго рыс — пошукі новых форм праз асваенне гіст. і нар. стыляў. Р. выявіўся ў захапленні архіт. архаікай, экзотыкай, гіст. і на-



**Раманскі стыль.** Царква ў г. Клюні (Францыя). 11—12 стагоддзі.



**Рамантызм.** Замак сярэдзіны 19 ст. ў Чэхіі.

цыянальным матэрыялам, а таксама ў паглыбленні ў сімвалізм і дэкаратыўнасць.

**РАНДЭ́ЛЬ** (франц. rondel ад rond круг), першапачатковая форма каменнага *бастыёна* ў выглядзе шматвугольніка без задняй сценкі.

**РАСКРАПО́ЎКА,** невялікі выступ плоскасці фасада, *антаблемента, карніза* і інш. Выкарыстоўваецца гал. чынам для члянення або пластычнага ўзбагачэння фасада будынка. Элементамі Р. могуць быць *пілястры, лапаткі,* стойкі каркаса, якія выступаюць на фасадзе будынка. Вядома са старажытнасці, пашырана ў класічных *ордэрах* манум. мураванай архітэктуры Стараж. Грэцыі і Стараж. Рыма.



Распалубка.

**РАСПА́ЛУБКА,** частка *скляпення,* утвораная перасячэннем яго дзвюх узаемна перпендыкулярных цыліндрычных паверхняў. Звычайна робяць пры размяшчэнні верхняй кропкі праёмаў вышэй за пяту асн. скляпення (Р. ўтвараюць малыя скляпенні), радыус якіх вызначаецца шырынёй праёма. Вядомы ў сярэдневяковых раманскіх і гатычных збудаваннях. На Беларусі паявіліся ў 16 ст. ў 1- і 3-нефавых храмах, пашырыліся ў 17—18 ст. у збудаваннях стылю барока; вядомы ў грамадзянскай архітэктуры 18 ст.



Ратонда.

**РАТО́НДА** (італьян. rotonda ад лац. rotundus круглы), круглае ў плане *цэнтрычнае збудаванне* звычайна з размешчанымі па перыметры калонамі, завершанае купалам. Вядома з часоў Стараж. Грэцыі і Стараж. Рыма. Сустракаліся ў архітэктуры культавых збудаванняў сярэдніх вякоў, эпохі Адраджэння, стылю класіцызму. Найбольш пашыраны тып храма-Р. ў культавым буд-ве класіцызму, неакласіцызму. У выглядзе Р. вырашаны альтанкі і павільёны ў рэгулярных і пейзажных парках сядзіб. Падобныя да Р. granёныя аб'ёмы завяршалі будынкі палацаў, ратуш, брам.

**РА́ТУША** [польск. ratusz ад ням. Rathaus (Rat рада + + Haus дом)], будынак, у якім размяшчаліся органы гарадскога самакіравання. Першыя Р. ў Зах. Еўропе паявіліся ў 12 ст. Пабудовы мелі элементы крапаснога і грамадзянскага дойлідства. Узводзілі 2-павярховыя Р. з балконам ці *эркерам.* Будаўніцтва Р. пашырана ў 19 і асабліва ў 20 ст., калі Р. арганічна ўваходзіць у гіст. цэнтры гарадскога асяроддзя. На Беларусі Р. пачалі будаваць з 14 ст. Узводзілі ў гарадах на рынačных плошчах, часам аб'ядноўвалі з гандлёвымі, гасцінымі радамі, арсеналамі, важніцамі. Будавалі з дрэва, цэглы, у тэхніцы *«пруская муру».* Будынкі Р. мелі звычайна простыя і манум. формы. У 17—18 стагоддзях пераважаў барочны тып: Р. з шмат'яруснай вежай, завершанай разнастайнымі купалкамі ці шпілем, існавалі і бязвежавыя. Манументальнасцю і цэльнасцю вылучаліся Р. стылю класіцызму, у якіх кампазіцыйным акцэнтам фасадаў быў порцік. Існавалі Р. з рысамі несапраўднай готыкі. Гал. памяшканнем Р. была парадная зала (на 2-м паверсе) для ўрачыстых актаў, пасяджэнняў магістрата, тэатральных паказаў і інш. Частка памяшканняў Р. (падвалы, першыя паверхі) адводзілася пад крамы, склады і інш.





Ратуша ў Чачэрску. 2-я палавіна 18 ст.

**РАЦЫЯНАЛІ́ЗМ** (франц. rationalisme ад лац. rationalis разумны), сукупнасць архіт. кірункаў 1-й пал. 20 ст., якія праграмна асвойвалі найноўшыя дасягненні навукі і тэхнікі. У шырокім сэнсе Р. часам атаясамліваюць з паняццем «сучасная архітэктура». Асновы Р. закладзены ў канцы 19 ст. (арх. Л. Салівен у ЗША, Х. П. Берлаге ў Нідэрландах, А. Лоза ў Аўстрыі, А. Перэ ў Францыі і інш.). Яго станаўленню ў пач. 20 ст. спрыялі тэорыі, якія прапагандавалі група на чале з Ле Карбюзье ў Францыі і арх. школа «Баўхаўз» пад кіраўніцтвам В. Гропіуса ў Германіі (гл. *Функцыяналізм*). Развіваўся пераважна ў 1920—30-я г. Горадабудаўнічыя ідэі Р. зафіксаваны ў т. зв. Афінскай хартыі (1933), а агульныя архіт. канцэпцыі ў 1950-я г. прывялі да стварэння т. зв. міжнар. стылю. Пэўны дагматызм і сацыяльна-рэфармісцкі утапізм прадстаўнікоў Р. сталі прычынамі яго крызісу. У СССР шэраг падобных да Р. рыс меў *канструктывізм;* рацыяналістамі лічылі сябе члены аб'яднання «Асацыяцыя новай архітэктуры» (1923—30), якія ставілі на першы план псіхафізіяла-


Ружа.

гічныя асаблівасці ўспрымання архіт. формы і імкнуліся знайсці рацыянальныя асновы ў вобразным аспекце архітэктуры (М. А. Ладоўскі, К. С. Мельнікаў і інш.).

**РУ́ЖА,** круглае акно ў раманскіх і гал. чынам гатычных пабудовах 12—15 ст., якое мае каменны пераплёт у выглядзе радыяльных прамянёў з цэнтра круга. Звычайна размяшчалася над уваходным парталам. Р. называюць і аналагічнага выгляду дэкар. матыў, што вянчае стральчатыя вокны гатычных будынкаў.

**РУ́СКА-ВІЗАНТЫ́ЙСКІ СТЫЛЬ,** адзін з кірункаў *псеўдарускага стылю.* Пашыраны з 1830-х г. у архітэктуры цэркваў («узорныя праекты» арх. К. А. Тона, 1840-я г.). Стыль увасабляў ідэю афіцыйнага праваслаўя пра пераемнасць паміж Расіяй і Візантыяй і запазычыў шэраг кампазіцыйных прыёмаў і дэкар. матываў візантыйскай архітэктуры, карыстаўся дзярж. падтрымкай. У канцы 18 — пач. 19 ст. на Беларусі ў гэтым стылі пабудавана вял. колькасць тыпавых храмаў, якія выкарыстоўвалі формы маскоўскага дойлідства 17 ст. У 1860-я гады Р.-в. с. адраджаецца як самастойны «візантыйскі стыль», не звязаны з «рускім стылем». «Візантыйскі стыль» 2-й пал. 19 ст. застаўся лакальнай з'явай, у адрозненне ад інш. гіст. стыляў быў пашыраны менш за «рускі» і толькі ў культавым дойлідстве.

**РУСТ,** спосаб апрацоўкі каменю або імітаванага пад камень абліцовачнага матэрыялу, пры якім кожны камень ці яго імітацыя вылучаюцца перыметральным кантам рознай формы. У залежнасці ад спосабу апрацоўкі выпуклай паверхні каменнага блока, абліцовачнай пліты або іх імітацыі ў тынкоўцы Р. бывае гладкі або фактурны. Выкарыстоўваецца для *рустыкі* сцен будынкаў.


Рустыка.

**РУ́СТЫКА** (ад лац. rusticus просты, грубы, літар. вясковы), рэльефная муроўка ці дэкар. абліцоўка сцен будынка каменем з груба абколатай ці выпуклай вонкавай паверхняй (гл. *Руст*). Выпукласць каменю можа мець розную форму (найбольш пашырана пірамідальная). Р. ажыўляе сцяну багатым зіхаценнем святлаценю, стварае ўражанне моцы, масіўнасці будынка. Пры аддзелцы фасада тынкоўкай Р. імітуецца разбіўкай сцяны на прамавугольнікі або палосы. Вядома са старажытнасці (Стараж. Грэцыя і Рым). Асабліва пашырылася ў эпоху Адраджэння. Р. найчасцей ужывалася ў грамадзянскай і палацава-садзібнай архітэктуры стылю класіцызму і асабліва ампіру. Ёй афармлялі цокаль ці 1-ы паверх будынка, вуглавыя *пілястры, лапаткі, рызаліты.* Часта выкарыстоўвалася таксама тынкоўка «пад руст». Р. пашырана ў афармленні фасадаў будынкаў (аконных і дзвярных праёмаў, *архівольтаў* і інш.) у архітэктуры канца 19 — пач. 20 ст. У драўляным культавым і сядзібным буд-ве выкарыстоўвалася тэхніка разьбы, якая імітавала каменную муроўку, былі пашыраны *шалёўка* сцен і афармленне вуглоў «пад руст».

**РЫЗАЛІ́Т** (ад італьян. risalita выступ), частка будынка, якая выступае за лінію фасада на ўсю яго вышыню. Р. звычайна сіметрычныя адносна цэнтр. восі будынка, падкрэсліваюць дамінуючае значэнне яго цэнтр. часткі, вылучаюць гал. ўваход, узбагачаюць пластычную выразнасць агульнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, утвараюць адзінае цэлае з асн. масай пабудовы. Вядомы са старажытнасці. Пашыраны ў архітэктуры стыляў барока, класіцызму і інш. Адыгрывалі значную ролю ў кампазіцыі палацавых пабудоў.


Рызаліт.

**РЫ́ЗНІЦА,** у хрысціянскіх храмах памяшканне для захавання рыз (адзенне святара пры богаслужэнні) і царкоўнага начыння. Звычайна Р. знаходзіліся ўнутры храма (напр., у адным з алтароў), але магла быць у выглядзе прыбудовы або (у манастырах) асобнага будынка.

**РЫТМ** (грэч. rhythmós ад rhéō цяку), чаргаванне акцэнтных архіт. элементаў (праёмаў, прасценкаў, вертыкальных стоек каркаса, балконаў, эркераў і г. д.) пры вырашэнні кампазіцыі аднаго будынка або паўтарэнне саміх будынкаў пры стварэнні архіт. ансамбля; адзін з сродкаў архіт. *кампазіцыі,* з дапамогай якога дасягаецца сувымер-


Нарастаючы **рытм** да цэнтра ў кампазіцыі Сафійскага сабора ў Ноўгарадзе.

насць і эмацыянальная выразнасць твора архітэктуры. У аснове Р.— адзінства функцыянальнага, канструкцыйнага і аб'ёмна-планіровачнага выразання. Рытмічнасць, закладзеная ў канструкцыйна-прасторавых асаблівасцях стоечна-бэлечнай сістэмы антычнага дойлідства, была па-мастацку асэнсавана сродкамі ордэрнай сістэмы (манум. пабудовы Стараж. Грэцыі і Стараж. Рыма). Р. можа быць простым (паўтарэнне архіт. элемента з захаваннем яго памераў і інтэрвалаў паміж імі), а таксама нарастаючым або ўбываючым (паступовае змяненне інтэрвалаў паміж архіт. элементамі). Ён звязаны і з інш. сродкамі архіт. кампазіцыі: *прапорцыямі, сіметрыяй, маштабнасцю, кантрастам, нюансам.*

**РЭГУЛЯ́РНЫ ПАРК,** тып парку, для якога характэрны строгая геаметрычная планіроўка, падпарадкаваная гал. кампазіцыйнай восі, радавыя пасадкі дрэў, *баскеты,* шырокія партэры з газонамі ці кветкавым арнаментам, басейны, каналы, фантаны. Цэнтр. месца займаў палац, ад якога радыяльнымі промнямі разыходзіліся алеі, што адкрывалі шырокія відавыя перспектывы. Перад палацам звычайна знаходзіліся партэры, вадаёмы і каналы. Выразныя прасторавыя акцэнты і арыенціры ўносілі шматлікія скульптуры, абеліскі, малыя формы архітэктуры.

**РЭКАНСТРУКЦЫЯ** (лац. re... прыстаўка, якая абазначае паўторнае дзеянне + constrúctio пабудова), 1) перабудова будынка з мэтай паляпшэння яго функцыяніравання ці выкарыстання па новым прызначэнні. 2) Карэнная перабудова населенага пункта, абнаўленне горада (яго планіроўкі, забудовы і добраўпарадкавання), выкліканыя сацыяльна-эканамічнымі, сацыяльна-гігіенічнымі і архіт.-маст. патрабаваннямі. 3) Аднаўленне першапачатковага аблічча населенага пункта, архіт. ансамбля ці асобнага помніка па рэштках, выяўленчых матэрыялах ці апісаннях помніка. Можа азначаць і праект такога аднаўлення ў выглядзе рысунка, чарцяжа, апісання. Навуковая, аргументаваная Р. помніка можа быць важным матэрыялам яго наступнай *рэстаўрацыі.* У адрозненне ад рэстаўрацыі не абавязкова прадугледжвае практычнае аднаўленне помніка.

**РЭНЕСА́НС** (франц. Renaissance Адраджэнне ад renaître адраджацца), эпоха ў развіцці шэрага краін Зах. і Цэнтр. Еўропы, пераходная ад сярэдневяковай культуры да культуры новага часу. Гл. *Адраджэнне.*

**РЭСТАЎРА́ЦЫЯ** (ад позналац. restauratio аднаўленне), умацаванне і аднаўленне разбураных, пашкоджаных або скажоных архіт. помнікаў для выяўлення іх гіст. і маст. каштоўнасці, падаўжэння іх веку і ўключэння ў сучаснае жыццё. Састаўная частка аховы помнікаў гісторыі і культуры. Праводзіцца на аснове спец. даследаванняў іх гіст. верагоднасці, дэталёвага дакументальнага даследавання помніка (апісанні, фотафіксацыя, абмерныя чарцяжы, археал., гіст., інж.-тэхн. і інш. даследаванні) і навукова абгрунтаванага праектнага рашэння, узгодненага з органамі аховы помнікаў гісторыі і культуры, з фіксацыяй усіх наступных змен. У працэсе Р. могуць уводзіцца новыя элементы, неабходныя па эстэтычных і канструкцыйных меркаваннях, выкарыстоўвацца матэрыялы і тэхніка, якія адрозніваюцца ад першапачатковых, але не парушаюць цэласнасці помніка, яго гіст. рыс. Метады і спосабы Р. вызначаюцца характарам далейшага выкарыстання помніка. Метады сучаснай Р.: *кансервацыя,* аднаўленне (адбудова), прыстасаванне, *рэканструкцыя* (згодна з навукова абгрунтаванымі дадзенымі), уласна Р. Асобныя спосабы Р.: перанясенне (з поўнай разборкай помніка або без яе), рэгенерацыя (комплекс горадабудаўнічых і рэстаўрацыйных мерапрыемстваў па захаванню гіст. забудовы і ансамбляў). Розніца мясцовых умоў, традыцый, мэт і ўзроўню Р. вызначае разнастайнасць тэарэтычных канцэпцый і тэрміналогіі Р. ў розных рэгіёнах.


Успенскі **сабор** манастыра ў в. Жыровічы Слонімскага раёна. 17—19 стагоддзі.

# С

**САБО́Р,** галоўны храм горада або *манастыра,* дзе праводзіць богаслужэнне вышэйшая асоба (патрыярх, архіепіскап і інш.). Архітэктура С. звычайна вызначаецца манументальнасцю форм, адлюстроўвае асн. тэндэнцыі пануючага архіт. стылю (напр., сабор Нотр-Дам у Парыжы, Сафійскія саборы ў Кіеве, Ноўгарадзе, Полацку).

**САДО́ВА-ПА́РКАВАЕ МАСТА́ЦТВА,** мастацтва фарміравання садоў, паркаў і інш. азяленёных участкаў гарманічным спалучэннем прыродных і архіт. элементаў (рэльеф, вадаёмы, дрэвы, кусты, кветкі, пляцоўкі, розныя збудаванні, скульптура). У працэсе яго развіцця пад уплывам прыродна-кліматычных умоў, быт. і культ. традыцый, эстэтычных поглядаў выпрацаваны разнастайныя кампазіцыйныя прыёмы, якія можна ўмоўна звесці да 2 асн. прынцыпаў, рэгулярнага (геаметрычнага) і пейзажнага (маляўнічага, імітуе прыродны ландшафт). Апрача *рэгулярнага парку* і *пейзажнага парку,* існуюць паркі мяшанага тыпу. С.-п. м. ўзнікла ў старажытнасці. У Зах. Еўропе яго асн. прыёмы склаліся ў 16—18 ст. У эпоху Адраджэння ў Італіі паявіліся рэгулярныя сады на тэрасах з падпорнымі сценкамі, манум. лесвіцамі, скульптурай, каскадамі, фантанамі. Рацыяналістычныя прынцыпы, якія пераважалі ў мастацтве Францыі 17 ст., увасобіліся ў строга геаметрычнай планіроўцы рэгулярных («французскіх») паркаў, створаных А. Ленотрам. У сярэдзіне 18 ст. ў Еўропе ўзніклі свабодна распланаваныя пейзажныя паркі (спачатку ў Вялікабрытаніі, потым у Францыі). С.-п. м. 19 — пач. 20 ст. характарызуецца стылістычным эклектызмам (стваралюцца кампазіцыі тыпу японскіх садоў, іспана-маўрытанскага патыо, альпійскай горкі і інш.).



**Сакрысція.** Агульны выгляд касцёла Успення Багародзіцы ў г. п. Дзятлава (уверсе). 1646. План касцёла ў в. Камаі Пастаўскага раёна. 1606.

**САКРЫ́СЦІЯ** (ад лац. sacrum святыня), бакавое памяшканне ў касцёле ці кляштары, прызначанае для захавання культавага начыння, адзення святчэннаслужыцеляў і інш.; часам тут захоўвалася і кляштарная казна. У раннехрысціянскіх храмах функцыі С. выконвала пастафорыя, у праваслаўных — *рызніца.* Размешчана С. звычайна ва ўсх. частцы касцёла, непасрэдна каля месца правядзення службы. Зрэдку знаходзіцца паміж касцёлам і кляштарам. С. бываюць 1-павярховыя, перакрытыя скляпеннямі, радзей 2-павярховыя.

**САЛАДЗІ́ЛЬНЯ,** саладоўня, гаспадарчае збудаванне, дзе прарошчваюць і сушаць зерне на солад. На Беларусі ў 16—19 ст. будавалі пераважна пры *броварах* ці асобна. Найчасцей гэта была драўляная пабудова, накрытая драніцамі ці саломай, з маленькімі вокнамі; складалася з 2 памяшканняў: у адным ставілі рошчыну, у другім была сушня з курнай печчу. Часам выкарыстоўваецца як *сушня.* Вядома ў матэрыяльнай культуры і інш. славянскіх народаў.


Сандрык.

**СА́НДРЫК,** дэкаратыўная архіт. дэталь у выглядзе невял. прафіляванага (прамавугольнага або выгнутага) карніза над аконным ці дзвярным праёмам на фасадзе будынка (радзей у інтэр'ерах). Часам апіраецца на кансолі і завяршаецца франтонам. Вядомы са старажытнасці (манум. ордэрная архітэктура Стараж. Грэцыі і Стараж. Рыма). Пашыраны ў архітэктуры рэнесансу і інш. стыляў.

**СВІ́РАН,** традыцыйная гасп. пабудова для хавання збожжа, прадуктаў, адзення, хатняга начыння. Ад *клецяў* адрозніваецца большымі памерамі, дэферэнцыраванасцю функцыянальнага прызначэння, дэкар. аздабленнем. Здаўна вядомы на Беларусі, у Літве, асобных раёнах Польшчы. Будавалі іх пераважна з дрэва, з 18 ст. вядомы мураваныя або ў тэхніцы *«пруская муру».* Некаторыя С. набліжаліся сваім выглядам да *лямусаў* і *скарбніц.* С. былі 1-ярусныя франтальнай кампазіцыі і 2-ярусныя франтальна-яруснай і цэнтрычна-ярусной кампазіцыі. У 17 ст. ўзнік тып шматкамернага С. франтальнай кампазіцыі — падоўжаны будынак, падзелены сценамі на самастойныя памяшканні, кожнае з якіх мела ўваход з




Свірны.

галерэі, утворанай *падчэнямі*. Часам галерэі мелі аркады, аздаблялі іх «вісячымі гіркамі» і іншымі дэкар. элементамі. Дахі ўпрыгожвалі металічнымі флюгерамі. У верхнім ярусе 2-яруснага С. рабілі галерэйку, на якую вяла з ганка адкрытая лесвіца. С. цэнтрычна-яруснай кампазіцыі мелі кругавыя галерэі ў абодвух ярусах. У некаторых С. пад збожжа выкарыстоўвалі толькі ніжнія ярусы, а верхнія служылі скарбніцай.

**СВЯТЛІ́ЦА,** светлы чысты пакой, прызначаны звычайна для прыёму гасцей. Здаўна вядомы ў Расіі, Польшчы і інш. краінах Еўропы. На Беларусі дакументальныя звесткі пра С. вядомы з 16 ст. Яны існавалі ў жылых дамах і замках, верхніх ярусах брам, лазнях, корчмах і аўстэрыях. Гэта былі вял. жылыя пакоі з кафлянымі грубкамі і камінамі, часам афармляліся шпалерамі. У сялянскім жыллі вядомы з 19 ст.

**СІГНАТУ́РКА** (лац. signatura ад signo абазначаю, указваю), невялікая вежачка (звычайна з малым літургічным звонам), размешчаная над *прэсбітэрыем* касцёла або ў месцы перакрыжавання яго гал. нефа і трансепта. Мела дэкар. значэнне, вылучала цэнтр сяродкрыжжа або алтарнае памяшканне. Вядома ў Зах. і Сярэдняй Еўропе з сярэднявечча (раманскія і гатычныя саборы Францыі, Германіі, Польшчы).


Сігнатурка.

**СІМЕ́ТРЫЯ** (ад грэч. symmetría суразмернасць), мастацкі прыём, заснаваны на тоеснасці частак і іх размяшчэнні, што стварае адзінства і гарманічнасць архітэктурнай *кампазіцыі*. Бывае цэнтральна-восевая (адносна вертыкальнай восі), люстраная (адносна вертыкальнай плоскасці), вінтавая (ажыццяўляецца паваротам на пэўны вугал вакол восі, дапоўненым пераносам уздоўж той жа восі), дыяганальная і інш. Агульныя прынцыпы С. ў архітэктуры і горадабудаўніцтве ўпершыню сістэматызаваны ў Старaж. Грэцыі і Стараж. Рыме, далейшае развіццё атрымалі ў архітэктуры рэнесансу і класіцызму. Стылі барока, ракако, мадэрн і інш., якія ў цэлым грунтаваліся на прынцыпах *асіметрыі*, уключалі С. ў свае асн. маст. сродкі.

**СІНАГО́ГА** (ад грэч. synagōgē сход, месца збору), у іудаізме абшчына веруючых і малітоўны дом. Пры разнастайнасці архіт. тыпаў С. маюць агульныя рысы: прамавугольны план, дзяленне на 3—5 нефаў, каля ўсх. сцяны «каўчэг запавета» і ўзвышэнне для чытання свяшчэнных тэкстаў перад ім.


**Сінагога** ў Быхаве. 17 ст. Агульны выгляд і план.

**СКА́РБНІЦА,** гаспадарчая пабудова ў замкава-палацавых і сядзібных комплексах для захоўвання найб. каштоўных рэчаў, зброі і інш. дакументаў. Здаўна вядома на Беларусі, у Літве, Польшчы і на Украіне. Будавалі з каменю, цэглы, дрэва, часам аб'ядноўвалі з капліцамі, жылымі і гасп. пабудовамі. Склаліся 2 тыпы пабудоў: франтальны, пры якім асн. мастацкую ролю выконваў багата аздоблены гал. фасад з ганкам ці порцікам, часам гадзіннікавай вежай у цэнтры, і цэнтрычна-ярусны, з кругавой балюстраднай галерэяй. Дзверы звычайна падвойныя — вонкавыя (дубовыя) і ўнутраныя (жалезныя), вокны з металічнымі кратамі.


**Скарбніца** ў былым маёнтку в. Грозаў Капыльскага раёна. Сярэдзіна 17 ст. Рэканструкцыя.

**СКВЕР** (англ. square), невялікі сад, добраўпарадкаваны і азялёнены ўчастак перад грамадскім будынкам, на плошчы, на перасячэнні транспартных і пешаходных шляхоў і інш. Звычайна пл. 0,2—3 га. Функцыянальнае прызначэнне С.— дэкар. афармляць прастору і служыць месцам адпачынку пешаходаў. Адрозніваюць С. для кароткачасовага адпачынку, дэкаратыўныя, мемарыяльныя, скверы — выставачныя пляцоўкі і інш. Часам С. арганізоўваюць пры рэканструкцыі гіст. забудовы. Прыёмы планіроўкі і добраўпарадкавання С. могуць быць рэгулярныя (геаметрычныя) і жывапісныя. С. могуць мець самастойную закончаную кампазіцыю або быць элементам буйнога архіт.-ландшафтнага ансамбля.

**СКЛЯПЕ́ННЕ,** нясучая прасторавая канструкцыя для перакрыцця ці пакрыцця збудаванняў, якая мае крывалінейную паверхню. Робіцца з цэглы, прыроднага каменю, жалезабетону, дрэва. Пад нагрузкай працуе пераважна на сцісканне, перадае на апоры вертыкальныя і гарызантальныя нагрузкі. Разнавіднасць С.— *купал.* У гатычных збу-




**Скляпенні:** *а* — цыліндрычнае; *б* — самкнёнае; *в* — люстраное; *г* — рабрыстае жалезабетоннае; *д* — скляпенні-абалонкі; *е* — бочкападобнае; *ж* — крыжовае; *з* — ветразевае.

даваннях асобныя прасторавыя ячэйкі *(травеі)* паміж слупамі і сценамі перакрываліся крыжовымі і нервюрнымі (зорчатымі, сотавымі) С. У 16 ст. пашырыліся цыліндрычныя С. з распалубкамі, якія перакрывалі вял. пралёты, часам былі аздоблены размалёўкай. Культавыя збудаванні ў стылі барока мелі звычайна цыліндрычныя С. з распалубкамі на падпружных арках у сярэднім нефе і крыжовыя С. ў бакавых. Над сяродкрыжжам рабіліся купалы. У перыяд барока і класіцызму ў палацавым буд-ве шырока выкарыстоўваліся люстраныя С., у культавым — купал. У сучасным буд-ве адным з новых тыпаў з'яўляюцца жалезабетонныя танкасценныя С.-*абалонкі* рознай геаметрычнай формы.

**СПАВЯДА́ЛЬНЯ** (канфесіянальь), элемент касцельнага начыння, прызначаны для здзяйснення хрысціянскага таінства — споведзі (пакаяння). Уведзена ў хрысціянскую абраднасць у 2-й палове 16 ст. Уяўляе сабой закрытае з усіх бакоў крэсла невысокімі (да пояса чалавека) дзверкамі. Да бакавых сценак далучаюцца нізкія лаўкі-прыступкі для веруючых, якія спавядаюцца праз акенцы, закрытыя кратамі. Звычайна С. рабілі з дрэва, часам — з мармуру ці стука. У храмах С. размяшчалася адвольна, але пераважна каля сцяны нефа насупраць *амбона.*

**СТА́ЙНЯ,** канюшня, гасп. пабудова для ўтрымання коней. Вядома з старажытнасці. На Беларусі пашырана з 10—11 ст. З 16 ст. вядомы С. драўляныя, мураваныя і мяшанай канструкцыі (у тэхніцы *«пруская муру»* або з дрэва ў цагляныя слупы — *шулы*). С. канструкцыяй і кампазіцыяй маглі нагадваць хлявы. Ставілі іх паблізу ўязных брам або ў складзе гасп. комплексаў, накрывалі саломай, драніцай, гонтай, на дахах рабілі металічныя флюгеры. У 17 ст. часам над цэнтр. часткай С. былі абарончыя збудаванні, залы, вежы. У некаторых сядзібах 2—3 С. будавалі пад адным дахам або блакіравалі з хлявамі, вазоўнямі, карэтнымі майстэрнямі; часам 2 С. злучаліся *павеццю.* У буйных сядзібах і замках С. сумяшчаліся з *манежамі.* У 17 — пач. 20 ст. С. ўваходзілі ў комплексы корчмаў і аўстэрый, пастаялых двароў, паштовых станцый, ратуш і інш.

**СТРАХА́,** у сялянскім буд-ве верхняя частка хаты і гасп. пабудоў. Складаецца з апорных канструкцый (кроквы, латы) і пакрыцця. На Беларусі найбольш пашырана С. на *кроквах.* Спрадычна трапляюцца (найчасцей у гасп. пабудовах) больш даўнія канструкцыі С.— *закотам,* на стаяках («на козлах», «на дзядках»), на сохах. С. бываюць 2-схільныя (пераважаюць на тэр. Беларусі), 3- і 4-схільныя, з усечаным зверху (з *вальмай,* з залобкам) і знізу (з прычолкам) *франтонам.* Традыцыйныя матэрыялы пакрыцця: салома, чарот, дранка, *гонта;* з 20 ст. выкарыстоўваюць бляху, чарапіцу; у сучасным буд-ве пераважае шыфер. С. часта ўпрыгожана *вільчыкам.* Прастору паміж С. і столлю (гарышча) выкарыстоўваюць для гасп. патрэб. Іл. гл. ў арт. *Дах.*

**СТУ́ДНЯ,** збудаванне ў выглядзе свідравіны (шахты) для здабычы грунтавых вод. Раней умацоўвалася зрубам-крэпасцю (часцей дубовым) вышынёй над зямлёй каля 1 м, у наш час — муроўкай, бетоннымі кольцамі. Ваду дастаюць з дапамогай калаўрота ці жураўля (доўгай жэрдкі-рычага). С. бываюць накрытыя шатровымі стрэшкамі, якія трымаюцца на слупах з падкосамі, часам аздабляюцца разьбой. Разам з інш. малымі архіт. формамі С. актыўна ўдзельнічае ў фарміраванні ансамбля сядзібы, сельскага населенага пункта і інш.

**СТУ́КА,** стук (італьян. stucco, франц. stuc, ням. Stuck) штучны мармур, матэрыял для аздаблення сцен і архіт. дэталей. Выраблюецца з апаленага і здробненага гіпсу, змешанага з галуном і клеем, часам з дамешкамі мармуровай пудры. Цестападобную масу наносяць на падрыхтаваную паверхню, патрэбную форму надаюць лепкай; шліфуюць і паліруюць да люстранога бляску, часам таніруюць. Вядомы ў мастацтве Стараж. Егіпта, пашыраны ў Старажытн. Рыме, мастацтве Адраджэння. На Беларусі выкарыстоўвалі з




Тыпы каркаснай канструкцыі **стрэх:** *а* — на сохах; *б* — на паўсошках; *в* — на крыжах; *г* — на кроквах (*1* — сволак, *2* — сохі, *3* — паўсошка, *4* — ключы; *5* — крыж, *6* — кроквы, *7* — латы).



**Студня** ў в. Грыцавічы Бераставіцкага раёна.



Стылабат.



Завяршэнне грэчаскай стэлы.

17 ст. ў аздабленні інтэр'ераў культавых будынкаў і палацаў.

**СТЫЛАБА́Т** (грэч. stylobátēs ад stylos калона + bainō ступаю), платформа ступеньчатага цокаля (верхняя ступень *стэрэабата*) старaж.-грэчаскага храма, на якой узводзіліся калоны ці будынак. Пазней С. наз. ўвесь 3-ступеньчаты цокаль старaж.-грэчаскага храма.

**СТЫЛЬ** (лац. stilus, stylus ад грэч. stýlos грыфель для пісання) у архітэктуры, адзінства маст. светапогляду, што адлюстроўвае эстэтычныя ідэалы свайго часу і ідэалогіі, ідэйна-маст. змест і эмацыянальныя характарыстыкі архіт. вобразаў. Залежаць ад сацыяльнага прызначэння будынкаў і фармальна-эстэтычных заканамернасцей (прынцыпы аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, сродкі архіт. выразнасці, прыёмы выкарыстання архіт. форм), звязаных з канкрэтным узроўнем развіцця будаўнічай тэхнікі, функцыянальнай структурай збудавання, прыродна-кліматычнымі і інш. ўмовамі. Выяўляецца ў сістэме функцыянальнай і прасторавай арганізацыі будынкаў, комплексаў і ансамбляў, у іх архітэктоніцы, прапорцыях, пластыцы, дэкоры. Гісторыя архітэктуры карыстаецца некаторымі стылявымі катэгорыямі, якія абазначаюць перыяды ў гісторыі мастацтва: *раманскі стыль, готыка, адраджэнне, барока, ракако, класіцызм.* Пад тэрмінам С. часам разумеюць сукупнасць характэрных прыкмет, уласцівых архітэктуры пэўнага народа. Пры фарміраванні С. выпрацоўваюцца новыя тыпы будынкаў, прынцыпы творчага метаду, асвойваюцца новыя канструкцыі і будаўнічыя матэрыялы і г. д. Перыяд станаўлення С. звычайна характарызуецца найбольш інтэнсіўнымі наватарскімі пошукамі, часам пры захаванні форм і прыёмаў мінулых С., а ў перыяд яго росквіту — удасканаленнем сродкаў і прыёмаў, уласцівых дадзенаму С.

**СТЭ́ЛА** (ад грэч. stēlē слуп), вертыкальна пастаўленая надмагільная або мемарыяльная пліта з каменю ці інш. даўгавечнага матэрыялу з надпісам ці рэльефнай выявай. Вядома з 6—5 ст. да н. э. У Старaж. Грэцыі служылі надмагіллямі, межавымі камянямі, ставіліся для ўвекавечання пэўнай падзеі. У сучасным мастацтве форма С. выкарыстоўваецца для надмагілляў і помнікаў інш. прызначэння.

**СТЭРЭАБА́Т** (грэч. stereobátēs), у антычнай архітэктуры цокаль храма ці каланады. У старaж.-грэчаскім дойлідстве С. звычайна складаўся з 3 ступеней, верхняя з якіх (ці толькі яе паверхня) наз. *стылабатам.*

**СУТАРЭ́ННЕ,** памяшканне пад першым паверхам будынка, ніжэй узроўню зямлі; падзямелле. На Беларусі вядомы з 12 ст. У 14—16 ст. мелі мураваныя замкі і некаторыя храмы, з 17 ст. С. рабілі ў жылых мураваных будынках, камяніцах. У іх захоўвалі розныя тавары, будаўнічы і вайсковы рыштунак, часам выкарыстоўвалі як турму.

**СУХА́РЫКІ,** гл. *Дэнтыкулы.*

**СУ́ШНЯ,** старадаўняя гасп. пабудова для сушкі лёну, збажыны, канапель і інш. Вядомы ва ўсіх народаў Еўропы. На Беларусі пашыраны ў 16 — пач. 20 ст. Будаваліся пераважна з дрэва. Як С. выкарыстоўвалі *асеці,* ёўні, часам *саладзільні, лазні.*

**СЫ́РНІЦА,** гаспадарчая пабудова для сушкі і захоўвання сыру. С. былі пашыраны на Беларусі, у Польшчы і Літве. На Беларусі вядомы пераважна ў сядзібах і фальварках 16 — пач. 20 ст., у 19 — пач. 20 ст.— і ў некаторых сялянскіх гаспадарках. Найчасцей іх будавалі каркаснай канструкцыяй на слупах са сценамі з плятня або дошак. Многія С. мелі 2 ярусы (у ніжнім захоўваліся малочныя прадукты). У некаторых С. верхні ярус меў ганак ці галерэйку, куды вяла адкрытая лесвіца.

**СЯДЗІ́БНЫ ДОМ** у панскай сядзібе, на тэрыторыі Беларусі ў 16 — пач. 20 ст. жылы будынак, які адрозніваўся ад *палаца* меншымі памерамі, меншай колькасцю парадных памяшканняў, больш простым дэкорам фасадаў і інтэр'ераў. Быў архіт.-планіровачным цэнтрам ансамбля сядзібы. Асн. будаўнічы матэрыял С. д.— дрэва, у 16—17 стагоддзях некаторыя дамы ўзводзілі ў тэхніцы *«прускага муру»,* у



**Сырніца** ў б. маёнтку Залучча (Стаўбцоўскі раён). Фрагмент гравюры А. Савіцкага. 1873.



**Фрагмент сядзібнага дома** ў в. Сакаўшчына Валожынскага раёна. Канец 20 ст.


**Сяродкрыжжа** сабора ў Эчміядзіне ў Арменіі. 5 ст. Рэканструкцыя.




**Табернаклі:** гатычны (уверсе) і рэнесансавы.

18—19 стагоддзях пашырыліся мураваныя будынкі. Большасць С. д. існавала ў сельскай мясцовасці, радзей у мястэчках і гарадах. У 16—17 стагоддзях многія дамы будавалі на ўзор 2- і 3-камерных сялянскіх *хат.* У 2-камерным С. д. да жылога пакоя прыбудоўвалі *алькеж* або іншае жылое памяшканне. Развіццё планіроўкі адбывалася за кошт дыферэнцыяцыі памяшканняў па іх функцыянальным прызначэнні і размяшчэння некаторых з іх у *флігелях.* У 18 ст. С. д. стылю барока завяршаліся складанымі дахамі (ламанымі, яруснымі, мансардавымі), у планіроўцы пераважала анфіладная сістэма з лесвіцай і параднымі памяшканнямі ў цэнтры. У аздабленні гал. фасада выкарыстоўваліся картушы і іншыя дэкар. элементы. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў архітэктуры С. д. пашырыліся стылі неагатычны, неараманскі, мадэрн, неакласіцызм і неабарока.

**СЯРОДКРЫ́ЖЖА,** частка культавага збудавання, утвораная перасячэннем аднаго або некалькіх падоўжных *нефаў* з папярочным *трансептам.* Вядома з антычнасці. На Беларусі пашырана з 11—12 ст. у мураваных крыжова-купальных і крыжова-цэнтрычных храмах. Звычайна цэнтр С. вылучаўся купалам або вежачкай-*сігнатуркай.*

# Т

**ТАБЕРНА́КЛЬ** (ад лац. tabernaculum шацёр), 1) ніша ў алтарнай сцяне для размяшчэння культавых атрыбутаў (звычайна аформлена невял. накладным порцікам). Часам Т. называюць і характэрную для гатычных храмаў вежападобную адкрытую прыбудову да алтара для размяшчэння статуй святых. 2) Невялікая шафка ў цэнтры касцельнага алтара на яго подыуме. Прызначалася для захоўвання прадметаў рэлігійнага пакланення. Яе рабілі звычайна з дрэва, аздаблялі ў сярэдзіне белым шоўкам або фарбавалі ў белы колер, звонку ўпрыгожвалі накладной драўлянай паліхромнай ці пазалочанай разьбой. У раннім сярэднявеччы Т. умуроўвалі ў алтарную сцяну, у перыяд барока і ракако — самастойны элемент алтара.

**ТАРА́СА,** сцяна з двух радоў бярвён ці брусоў, прамежак паміж якімі часам запаўняўся зямлёй і каменнем; тып абарончага збудавання. Здаўна вядомы ў драўляным дойлідстве славян. У адрозненне ад *гародняў* — асобных зрубаў — Т. ўяўляла сабой суцэльную сцяну, падзеленую папярочнымі сценкамі на шэраг чатырохвугольных у плане адсекаў. У верхняй частцы мела баявы ярус з *абламам,* звычайна завершаным 2-схільным дахам. На Беларусі Т. вядомы з 16 ст. (Орша, Віцебск), аднак у сувязі з перавагай гародняў як традыцыйнага тыпу абарончых сцен вял. пашырэння не мелі.


**Тарасы.**

**ТАСКА́НСКІ О́РДЭР,** адзін з архітэктурных *ордэраў.* З'яўляецца разнавіднасцю *дарычнага ордэра* і адрозніваецца ад яго адсутнасцю *канелюраў* на калоне і *трыгліфаў* на *фрызе.* Нясучыя часткі — гладкі ствол калоны з *капітэллю* і *базай.* Капітэль складаецца з шыйкі, якая злучае капітэль з ствалом калоны, *эхіна* (паўвала) і верхняй квадратнай у плане пліты *(абака). Антаблемент* складаецца з *архітрава,* гладкага фрыза і *карніза.* Як маст.-выразная форма Т. о. склаўся ў архітэктуры Стараж. Рыма. Назва паходзіць ад вобласці Таскана ў Цэнтр. Італіі (стараж. Этрурыя).


**Тасканскі ордэр.**

**ТРАВЕ́Я** (ад франц. travée пралёт), у раманскай і гатычнай архітэктуры прамавугольная ў плане прасторавая ячэйка *нефа,* абмежаваная па вуглах 4 апорамі, якія нясуць крыжовае або самкнутае скляпенне. Гатычнае збудаванне ўяўляе сабой сістэму Т.

**ТРАНСЕ́ПТ** (познalaц. transeptum ад лац. trans за + septum агароджа), адзін ці некалькі папярочных *нефаў* у базілікальных і крыжовых у плане храмах, якія перасякаюць падоўжныя нефы, паўялічваюць прастору інтэр'ера перад алтаром і апсідай. Узнік у раннехрысціянскіх храмах Зах. Еўропы. На Беларусі асабліва пашырыўся ў


**Трансепт.**

рэнесансавых і барочных базіліках з канца 16 ст., вядомы і ў пабудовах стыляў класіцызму, несапраўднай готыкі і інш. Часам на перакрыжаванні гал. нефа і Т. будавалі купал або невял. вежу-*сігнатурку*. Пераход ад падоўжных нефаў да Т. афармляўся падпружнымі аркамі сярэдкрыжжа.

**ТРА́ПЕЗНАЯ** (ад грэч. trápeza стол, ежа), 1) у хрысціянскіх манастырах спец. будынак з залай для сумесных трапез, з царквою і дапаможнымі памяшканнямі. У Расіі Т. ў 16—17 ст. мелі вял. 1-, 2-стоўпныя або бясстоўпныя залы з адкрытымі тэрасамі-*гульбішчамі* і лесвіцамі, багатым дэкар. убраннем. 2) Прасторная невысокая прыбудова з зах. боку хрысціянскага храма, якая служыць для богаслужэння ў зімовы час і грамадскіх патрэб прыхаджан. Т. найбольш характэрны для рус. архітэктуры 17—18 ст., пашыраны ў пабудовах рэтраспектыўна-рус. стылю канца 19 — пач. 20 ст.



Тромпы.

**ТРО́МПЫ** (франц. trompe ад старажытнаверхненям. trumba труба), трохвугольная нішападобная скляпеністая канструкцыя ў форме часткі конуса, палавіны або чвэрці сферычнага *купала*. Т. служаць для пераходу ад ніжняй, квадратнай у плане, часткі будынка да верхняй, круглай альбо шматвугольнай (да купала або яго *барабана*). Часам Т. з'яўляюцца апорнай канструкцыяй для вуглавых купалаў, эркераў. Т. былі пашыраны ў візантыйскай і стараж.-рус. архітэктуры. Гл. таксама *Ветразі*.

**ТРЫГЛІ́Ф** (грэч. triglyphos ад tri... у складаных словах — тры + glýphō рэжу), прамавугольная, крыху выцягнутая па вертыкалі пліта з некалькімі жалабкамі. Чаргуючыся з *метопамі*, Т. ўтвараюць *фрыз* у *дарычным ордэры;* звычайна размяшчаюцца па восях *калон* і *інтэркалумніяў* (паміж калонамі) і на канцах фрыза па вуглах будынка. Т. ў камені ўяўляюць сабой арнаментаваныя тарцы бэлек першапачатковага драўлянага перакрыцця.



Трыгліф.

**ТРЫФО́РЫУМ,** т р ы ф о р ы й (позналац. triforium ад лац. tri... у складаных словах — тры + foris дзверы, уваход), 1) 3-часткавае аркаднае акно або арачны праём з 3-лопасцевым завяршэннем. 2) Аркада ў 2-м ярусе цэнтр. нефа раманскіх і гатычных базілікальных храмаў, якая складаецца з шэрага Т. Даючы палёгку сценам, узмацняе іх канструкцыю. Мае і дэкар. значэнне. 3) Вузкая *галерэя*, размешчаная за аркадай ці парапетам над скляпеннямі і пад схілам даху бакавых нефаў, часам у абходзе хора гатычнага храма.



Трыфорыум.

**ТРЭЛЬЯ́Ж** (франц. treillage), 1) тонкі ажурны каркас для павойных раслін. Мае дэкар. і функцыянальнае (сонцаахоўнае) прызначэнне. Адзін з відаў архітэктуры малых форм. 2) Арнаментальны матыў у выглядзе косай сеткі, часам з кветачкамі на скрыжаваннях. Выкарыстоўваецца ў аздобе фрызавых паясоў, плафонаў, панелей, агароджаў алтароў і амбонаў, царскіх варот, спавядальняў, картушаў і інш.

**ТЫМПА́Н** (грэч. týmpanon), поле трохвугольнага ці фігурнага *франтона;* паглыбленая частка сцяны (ніша) паўцыркульнага, 3-вугольнага або стральчатага абрысу над акном або дзвярамі. У Т. нярэдка размяшчаюць скульптуру, жывапісныя выявы, гербы і інш.



**Тымпан** франтона палаца ў Нясвіжы. 16—18 стагоддзі.

**ТЫНКО́ЎКА,** т ы н к, адзелачны зацвярдзелы слой, утвораны будаўнічым растворам на паверхні канструкцыйных элементаў, частак будынкаў і збудаванняў. Тынкавальныя растворы звязваюцца вапнай, цэментам, гіпсам, глінай, магнезітам. У сучасным буд-ве выкарыстоўваюць Т.: з в ы ч а й н у ю (для выраўноўвання паверхні агараджальных канструкцый), с п е ц ы я л ь н у ю (водатрывалую і воданепранікальную, акустычную, рэнтгенанепранікальную, цеплаізаляцыйную, вогнезасцерагальную і інш.), д э к а р а т ы ў н у ю (для павышэння эстэтычнай выразнасці будынкаў і збудаванняў у растворы дадаюць каляровыя і крышталічныя запаўняльнікі, мармуровы пясок, слюду, рознакаляровую шкляную крошку і каляровыя пігменты). Маст. эфект дэкаратыўнай Т. дасягаецца таксама рэльефнай апрацоўкай слоя каменячосным інструментам

для імітацыі фактуры натуральнага каменю.

**ТЭРА́СА** (франц. terrasse ад лац. terra зямля), 1) гарызантальная ці слаба нахіленая пляцоўка натуральнага ці штучнага паходжання, якая ўтварае ўступ на схіле мясцовасці. Ствараецца для размяшчэння будынкаў на крутым рэльефе, буд-ва дарог, арганізацыі пад'ездаў да збудаванняў. Насыпныя Т. ўмацоўваюць падпорнымі сценкамі, парапетамі і інш. 2) Натуральныя або штучныя пляцоўкі, прызначаныя для стварэння паркавых кампазіцый. 3) Адкрытая з трох бакоў (з 19 ст. часам зашклёная) летняя прыбудова да будынка, якая падтрымліваецца слупамі, калонамі, аркадамі, кансолямі. Дах Т. часцей усяго з'яўляецца працягам даху асн. будынка.

# Ф

**ФАНТА́Н** [італьян. fontana ад лац. fons (fontis) крыніца], дэкаратыўнае збудаванне, якое служыць асновай ці абрамленнем для струменяў вады; твор малых форм. У антычнасці Ф.— крыніца пітной вады. Пазней Ф. у спалучэнні з архітэктурай, скульптурай і зялёнымі насаджэннямі стаў адным з сродкаў дэкар. і мастацка-вобразнага вырашэння ў архітэктуры, садова-паркавым мастацтве і горадабудаўніцтве. Архітэктурнае вырашэнне Ф. заснавана на спалучэнні водных струменяў з нішамі, гротамі, тэрасамі і каскадамі.

**ФАРШТА́Т** (ням. Vorstadt), паселішча, размешчанае па-за межамі горада або крэпасці.

**ФАСА́Д,** (франц. façade ад італьян. facciata ад faccia твар), 1) вонкавая вертыкальная паверхня збудавання, якую ўтвараюць знадворная канструкцыя, гарызантальныя і вертыкальныя чляненні, рытм прыёмаў (балконаў, лоджый), архіт. дэталі, фактура будаўнічых і аддзелачных матэрыялаў, колеравы каларыт і інш.; у залежнасці ад тыпу збудавання, формы яго плана, месцазнаходжання вылучаюць галоўны, бакавы, дваровы, садовы фасады. 2) Выява на чарцяжы вонкавага выгляду збудавання, якое праектуецца на плоскасці праекцыі.





Чарцяжы галоўнага (уверсе) і бакавога **фасадаў** архірэйскага палаца ў Магілёве. 2-я палавіна 18 ст.

**ФА́ХВЕРК** (ням. Fachwerk ад Fach панель, секцыя + Werk пабудова), тып канструкцыі ў драўляным каркасным буд-ве. Нясучая сістэма класічнага Ф. складаецца са стоек (падпорак, слупкоў), гал. бэлек (трамаў, абвязак, рам) і дапаможных бэлек (брусоў, дошак). Устойлівасць Ф. надаюць касякі або падкосы. Элементы канструкцыі мацуюцца між сабой шыпамі або ўрубкамі (з 16 ст. выкарыстоўваюцца і жалезныя мацаванні). Агароджы ў пабудовах фахверкавай канструкцыі робяцца запаўненнем прамежкаў між нясучымі элементамі цэглаю, глінай і інш. матэрыяламі. Ф. выконваў ролю не толькі канструкцыйнага, але і дэкар. элемента будынка, расчляняючы фасад на панелі рознай формы (а часам і афарбоўкі) і надаючы будынку своеасаблівы, маляўнічы выгляд. У сярэднявечча Ф. вядомы ва ўсёй Еўропе. У 9—13 ст. гарады Беларусі, Кіеўскай Русі забудоўваліся шмат'яруснымі (2—4-павярховымі) дамамі зрубнай і стаўповай (фахверкавай) канструкцый. Відаць, былі і камбінацыі — зрубны цокальны паверх і фахверкавая надбудова. У бел. буд-ве Ф. вядомы пад назвай *«прускі мур».*



Жылы **фахверкавы** дом.

**ФІЛЁНГА** (ад ням. Füllung, літар. напаўненне), 1) квадратнае або прамавугольнае поле сцяны, пілястры, столі, скляпення і інш., абведзенае рамкай. Ф. звычайна рабілі з таго самага матэрыялу, што і сцяну, часам з іншага. Дэкарыравалі скульптурным ці жывапісным арнаментам, геральдычнымі выявамі, фактурнай ці колернай тынкоўкай. 2) Тонкая дошка або фанера, якая ўстаўляецца ў дзвярную раму і абрамляецца накладным прафіляваным бруском. Такія дзверы наз. філянговымі.

**ФІЯ́Л** (ад грэч. phiálē чаша, кубак), дэкаратыўная востраканцовая каменная пірамідка, якая завяршае *пінакль, шчыт, контрфорс,* фігурны шпіль і інш. Нярэдка Ф. ўпрыгожва-



**Філёнга** ў афармленні партала Успенскага сабора Жыровіцкага манастыра.



Фіялы.

юцца стылізаванымі лістамі ці кветкамі, часам маюць форму крыжа. У архітэктуры Зах. Еўропы пашыраны з перыяду позняй готыкі.

**ФЛІ́ГЕЛЬ** (ад ням. Flügel, асн. значэнне — крыло), дапаможная прыбудова да жылога дома ці асобнае збудаванне, якое ўваходзіла ў комплекс сядзібы. Вядомы ў многіх краінах Еўропы са старажытнасці, пашыраны ў архітэктуры стыляў барока, класіцызму і інш. Ф. прызначаліся пад жыллё аканомаў, прыслугі, гасцей, у іх размяшчаліся кухні, пякарні, залы, бібліятэкі, аранжарэі, скарбніцы, капліцы і інш. Існавалі ў сядзібна-палацавых комплексах, палацава-паркавых ансамблях, манастырскіх і кляштарных комплексах; нярэдка мелі выгляд вежаў, замкаў і інш.

**ФЛЮ́ГЕР** (ад ням. Flügel ці галанд. vleugel крыло), прылада для вызначэння напрамку і вымярэння хуткасці ветру. Складаецца з металічнай пласцінкі (флюгаркі), якая круціцца на вертыкальнай восі ў напрамку ветру. Акрамя функцыян. прызначэння адыгрывае маст. ролю і выкарыстоўваецца як элемент афармлення жылых і грамадскіх будынкаў.



**Франтон** жылога дома ў Гродне. Пачатак 19 ст.

**ФРАНТО́Н** [франц. fronton ад лац. frons (frontis) лоб, пярэдні бок], частка (звычайна ў выглядзе трохвугольніка) фасада будынка, *порціка, каланады*, абмежаваная схіламі даху і *карнізам*. Поле Ф. *(тымпан)* часта ўпрыгожваецца рэльефам, скульптурай, праёмамі і нішамі рознай формы і інш.; у драўляным дойлідстве — архіт. разьбой, часта ўпрыгожанай сімвалічнай вывай сонца (паўкруг з прамянямі). У завяршэнні вуглоў часам выкарыстоўвалі *акратэрыі*. У нар. дойлідстве Ф. з'яўляецца канструкцыйным элементам хаты і гасп. пабудоў. Форма яго вызначаецца формай *страхі*. Ф. звычайна трохвугольны, радзей трапецападобны (усечаны зверху), найчасцей з акенцам. Да 2-й пал. 19 ст. рабілі таксама *закотам*, зашывалі саломай ці лазой, пазней — дошкамі, звычайна вертыкальна. Дэкаратыўнасць Ф. ствараецца маст. *шалёўкай* «квадратам», «ромбам», «у елачку» і інш., накладкамі, якія ўтваралі геаметрычны арнамент. Дэкор Ф. звычайна завяршаецца рознымі закрылкамі і фігурным *вільчыкам*. Дэкаратыўнымі Ф. ўпрыгожваюць вокны і дзверы будынкаў. Ф. вядомы з часоў Стараж. Грэцыі і Стараж. Рыма.

**ФРАНЦЫСКА́НЦЫ**, манахі каталіцкага жабрацкага ордэна (не маглі мець уласнасці, сталага жылля, павінны былі жыць жабрацтвам), створанага ў Італіі ў 1209 і названага імем заснавальніка Францыска Азізскага (1182—1226). Ф. былі вандроўнымі манахамі, паходзілі з беднага насельніцтва і прапаведвалі аскетызм. Актыўна процістаялі рэфармацыйнаму руху, удзельнічалі ў інквізіцыі, вялі шырокую місіянерскую дзейнасць, выкладалі ў школах і на кафедрах ун-таў. Каля 1237 паявіліся ў Польшчы, адкуль пазней як місіянеры пранiклі на Беларусь. У час княжання Гедыміна (1316—41) Ф. пабудавалі свае касцёлы ў Навагрудку і Вільні. Шырокую дзейнасць на Беларусі вялі ў 17 ст. Кляштары Ф. іcнавалі ў Гальшанах, Гродне, Дзісне, Драгічыне, Ашмянах, Івянцы, Лукомлі, Мінску, Навагрудку, Паставах, Пінску, Полацку, Празароках, Оршы, Сянне і інш. Касцёлы і кляштары Ф.— выдатныя помнікі архітэктуры. Пасля далучэння Беларусі да Расіі ўплыў Ф. пачаў слабець, у сярэдзіне 19 ст. іх кляштары зачынены. Зараз ордэн дзейнічае ў многіх краінах свету, налічвае каля 50 тыс. членаў.

**ФРЫЗ** (франц. frise), 1) у архітэктурных *ордэрах* сярэдняя частка *антаблемента*, паміж *архітравам* і *карнізам*. У дарычным ордэры Ф. расчляняецца на *метопы* і *трыгліфы*, у іанічным і карынфскім — запаўняецца суцэльнай стужкай рэльефу або пакідаецца пустым. Вядомы ў архітэктуры Стараж. Грэцыі. Пашыраны ў стылях класіцызму і ампір. 2) У дэкар. скульптуры і жывапісе Ф.— выяўленчая ці дэкар. кампазіцыя ў выглядзе гарызантальнай палосы на верхняй частцы сцяны ўнутры ці звонку будынка, часам аформленая рэльефам, арнаментыкай у тэхніцы сграфіта.



Фрызы.

**ФУНДА́ТАР** (ад лац. fundare засноўваць, закладваць), асо-



**Функцыяналізм.** Праект дома Цэнтрасаюза ў Маскве. Архітэктар Ле Карбюзье. 1928—35.

ба, якая заснавала што-небудзь або фінансавала заснаванне чаго-небудзь.

**ФУНКЦЫЯНАЛІ́ЗМ,** кірунак у архітэктуры 20 ст., заснаваны на сцвярджэнні першаснасці функцыі (утылітарна-практычнага прызначэння) твора архітэктуры адносна яго формы. Яму характэрны выкарыстанне дасягненняў навукі і тэхнікі, эканамічнасць, прастата форм, адмаўленне ад дэкору. Асновы Ф. (прынцып мэтазгоднасці планіровачных рашэнняў, формы і канструкцыі) закладзены ў 2-й пал. 19 ст. і процідастаўлены *эклектызму.* Ф. склаўся ў 1920-я г. ў Германіі (школа «Баўхаўз»). Вылучаў новыя канструкцыйныя ідэі і планіровачныя прыёмы (стандартныя жылыя секцыі і кватэры, забудова кварталаў і інш.). Ф. быў шырокай, але супярэчлівай і неаднароднай плынню. Часта прыводзіў да схематызму, ігнаравання нац. традыцый і мясц. умоў. Прынцыпы функцыянальнасці распрацоўвалі архітэктары Ле Карбюзье, В. Гропіус, Л. Міс ван дэр Роэ. У 1920-я г. Ф. набыў характар т. зв. міжнар. стылю. У 1930-я г. архітэктары Фінляндыі (А. Аалта), Швецыі (С. Маркеліус), Японіі (К. Танге), Бразіліі (А. Німеер) распрацоўвалі прыёмы адпаведна нацыянальнай спецыфікі сваіх краін. Пасля 2-й сусветнай вайны (1939—45) уплыў Ф. адрадзіўся пры аднаўленні зруйнаваных гарадоў, але адзінства міжнар. стылю распалася. Шэраг прыёмаў зближае Ф. з *канструктывізмам* у сав. архітэктуры.

# Х

**ХА́ТА,** жылая, пераважна зрубная пабудова. Як тып жылля гістарычна развілася з зямлянкі (паўзямлянкі). На асаблівасці планаў, канструкцый, дэкар. аздобы Х. ўплываюць сацыяльна-эканамічныя і прыродна-кліматычныя ўмовы, будаўнічыя матэрыялы пэўных рэгіёнаў. Беларуская Х., якая мае шмат агульнага з украінскай і рускай (паўд. рэгіёны), вызначаецца дасканаласцю апрацоўкі будаўнічых матэрыялаў, прапарцыянальнасцю форм, выразнасцю кампанентаў, дэкар. аздабленнем. Функцыянальныя, канструкцыйныя і дэкар. элементы Х. (*франтоны, ліштвы, вільчыкі, дымнікі, падзоры* і інш.) часта ўпрыгожаны архіт. разьбой. Важны элемент дэкору Х.— маст. *шалёўка:* пэўным нахілам дошак ствараюцца разнастайныя ўзоры (квадраты, ромбы, трохвугольнікі і інш.). У буд-ве Х. найбольшага развіцця дасягнулі канструкцыйныя і маст. прыёмы нар. дойлідства. На Беларусі з 1—2 ст. вядома 1-камернае жытло з печчу без коміна (курная Х.) і вузкімі акенцамі з засаўкамі. З 16 ст. існавалі таксама 2-(Х.+сенцы) і 3-камернае (Х.+сенцы+Х., Х.+Х. + +сенцы, Х.+сенцы+гасп. пабудова — *клець, варыўня*). З 19 ст. пераважала т. зв. белая Х. (печ з комінам). Будавалі Х. найчасцей з хвоі і елкі. Дуб выкарыстоўвалі на *падрубу.* Х. на падмурку пашырана з 19 ст. Сцены клалі з акораных або абчасаных бярвён, часам з дыляў — бярвён, расшчэпленых на 4 плахі. Да 19 ст. Х. будавалі *закідной тэхнікай* — у «шулы» (вертыкальныя бярвёны з пазамі). Спосабы рубкі вуглоў: у просты вугал («у чашку», «у просты замок»), чысты вугал («у лапу»), «у каню». Страху рабілі *закотам* на стаяках, з 19 ст. пераважна на *крокевах.* Крылі Х. саломаю, чаротам, дранкай, гонтай, чарапіцай, з 20 ст. выкарыстоўваюць бляху. Да канца 19 ст. быў пашыраны тып падлогі земляны і глінабітны («ток», «тачок»), які змяніла дашчаная падлога на лагах. У курных Х. столь рабілі скляпеністую з бярвён, пазней — плоскую з дошак (спачатку на падоўжнай тоўстай бэльцы — «траме», потым на папярочных бэльках і камбінаваныя). Каб уцяпліць Х., сцены імшылі, ніжні вянок *(падваліна)* абносілі *прызбай.* Інтэр'ер традыцыйнай Х. строга рэгламентаваны. У куце каля дзвярэй стаяла печ, вусцем да прыпечнага акна, побач быў т. зв. бабін кут. Па дыяганалі ад печы знаходзілася покуць — пачэснае месца ў Х. (паабапал вял. «кутнія вокны»), там стаялі стол, нерухо-













**Хата.** Планы трохкамернага жылля: *1* — хаты; *2* — сенцы; *3* — каморы; *4* — варыўня.




**Хата.** Планы жылля аднакамернага і двухкамернага: *1* — хата; *2* — сенцы.

мыя лавы пры сценах, услон. Ад печы ўздоўж глухой сцяны размяшчаліся *палаці.* На сцяне каля дзвярэй мацавалася *паліца,* дзе трымалі посуд і інш. начынне. Інтэр'ер Х. паступова дапаўняўся інш. мэбляй. Удасканальвалася ўнутраная прастора Х.: некапітальнымі перагародкамі выдзялялі кухню, спальню, святліцу. Знадворку перад уваходам пачалі прыбудоўваць ганак і веранду.



**Хлявы:** з галубятняй (уверсе) на Палессі, у в. Шэні Слонімскага раёна. Канец 19 — 1-я палавіна 20 ст.

**ХЛЕЎ,** традыцыйная, пераважна зрубная гасп. пабудова для ўтрымання свойскай жывёлы. Вядомы са старажытнасці ў большасці народаў свету, у славян паявіўся не пазней 5 ст. н. э. На тэр. Беларусі паявіліся ў часы Кіеўскай Русі, ім папярэднічалі лёгкія збудаванні тыпу кашар і паветак. Залежна ад жывёлы, якую трымаюць у Х., яго называюць кароўнікам, аборай, стайняй, аўчарняй, свінарнікам. У сялянскіх сядзібах Х.— драўляныя прамавугольныя ў плане зрубныя ці вянкова-слупавыя збудаванні пад 2- або 4-схільнымі стрэхамі. Зрубы рабілі звычайна з другасортнай драўніны, без падвалін, не заўсёды імшылі. Х. звычайна ставілі за хатай, клеццю і павеццю ўпрытык, асобна ці з невял. прамежкамі; часам іх ставілі на гумнішчы ці на асобным гасп. двары. У бяднейшых сялян усю жывёлу трымалі ў адным Х. ў катухах, разгароджаных жэрдкамі ці дошкамі.

**ХО́РЫ** (ад грэч. choros хор), верхняя (на ўзроўні 2-га яруса) адкрытая галерэя ў інтэр'ерах храмаў, парадных залаў і інш. Размешчаны звычайна з зах. боку храма ці апяразваюць *неф* з паўд., зах. і паўн. бакоў. У перыяд сярэднявечча Х. прызначаліся для прадстаўнікоў вышэйшых слаёў грамадства, пазней на іх размяшчаліся музыканты, пеўчыя, арган. У хрысціянскіх базіліках, раманскіх і гатычных храмах 13—15 ст. Х.— агароджаная балюстрадай галерэя паміж нефам і *прэсбітэрыем* насупраць гал. алтара. З сярэдзіны 15 ст. Х. размяшчалі пры ўваходзе ў храм, у праваслаўных храмах — над *бабінцам.* У пабудовах стылю класіцызму Х. мелі выгляд каланады, завершанай антаблементам і атыкавай сцяной.

**ХРАМ,** культавае збудаванне, прызначанае для выканання рэлігійных абрадаў. Архіт. прызначэнне Х. значна шырэйшае за культавыя функцыі і рэлігійныя ідэі, якія пэўным чынам уплываюць на іх формы, тыпы і характар. Архітэктура асн. тыпаў Х. (свяцілішча, хрысціянскія касцёлы, цэрквы і саборы, мусульманскія мячэці, іудаісцкія сінагогі, будыйскія пагады) гістарычна відазмянілася адпаведна развіццю дойлідства ў розных краінах і набывала яркую нацыянальную своеасаблівасць. На працягу тысячагоддзяў Х. выконвалі не толькі рэлігійныя, але і некаторыя грамадскія функцыі (урачыстыя сходы, цырымоніі; многія Х. мелі мемарыяльны характар), адыгрывалі ролю абарончых збудаванняў (гл. *Храм-крэпасць*). У сімволіцы архіт. частак і дэкар. ўбрання Х. раскрываліся асн. рысы светапогляду эпохі. Манум. будынкі Х., размешчаныя ў вузлавых пунктах горада, маюць вял. горадабудаўнічае значэнне. Гл. таксама *Кляштар, Манастыр.*

**ХРАМ-КРЭ́ПАСЦЬ,** будынак, які сумяшчае функцыі культавага і абарончага збудавання. Як тып абарончых збудаванняў у краінах Зах. Еўропы вядомы з 12—13 ст.; на Беларусі, у Польшчы, Літве і на Украіне ўзводзіліся ў 15 — пач. 17 ст. Звычайна кампактная прамавугольная ў плане пабудова з тоўстымі мураванымі сценамі, *вежамі, амбразурамі, байніцамі, машыкулямі.* У гатычных Х.-к. асноўны аб'ём фланкіраваўся па вуглах 4 круглымі або гранёнымі вежамі з байніцамі, меў высокі клінападобны дах і пояс машыкуляў па версе сцен. *Касцёлы* і кальвінскія *зборы* таго часу звычайна мелі на гал. фасадзе магутную вежу крапаснога тыпу, па баках якой часам размяшчаліся 2 невял. баявыя вежы. У пач. 17 ст. з'явіліся Х.-к. з 2 вежамі па баках гал. фасада. У эпоху Адраджэння Х.-к. завяршаліся дэкар. абарончымі *атыкамі.* Абарончы характар мелі таксама некаторыя *сінагогі.*

# Ц

**ЦАМЯ́НКА,** будаўнічы, звычайна вапнавы раствор з дамешкай драбнатоўчанай чырвонай цэглы для муроўкі і тынкоўкі сцен, іх грунтоўкі пад фрэскавы жывапіс. Такі раствор выкарыстоўвалі фінікійцы (10 ст. да н. э.) для гідраізаляцыі вадасховішчаў і водаправодаў; Ц. пашырана ў буд-ве Старaж. Грэцыі і Старaж. Рыма, у манум. буд-ве Візантыі, адкуль у 10 ст. трапіла на тэр. сучаснай Беларусі. Выкарыстоўвалі з 11—12 ст. у т. зв. паласатай муроўцы са «схаваным радам» (Полацк, Тураў, Віцебск, Навагрудак, Гродна). У выніку чаргавання бледна-ружовых палос Ц. і чырвонай *плінфы* паверхня сцяны мела дэкар. выгляд. Ц. ўжывалася часам у буд-ве канца 16 — пач. 17 ст.

**ЦАРКВА́** [ад грэч. kyriakḗ oikía), літар. божы дом], культавы будынак, прызначаны для богаслужэння і выканання рэлігійных абрадаў у праваслаўным хрысціянстве. Першыя Ц. з'явіліся на Русі з прыняццем хрысціянства (Сафійскія саборы ў Кіеве, Ноўгарадзе, Полацку). Па планіровачнай структуры могуць быць крыжова-купальнымі і базілікальнымі. Па канструкцыйнай схеме —4-стаўповыя, 6-стаўповыя, бесстаўповыя і інш. Ц. будаваліся з плінфы, цэглы, бутавага каменю, дрэва. Маюць 3-часткавую кампазіцыю — прытвор, асн. аб'ём, *алтар.* З узнікненнем *трапезнай* некаторыя Ц. набылі 4-часткавую кампазіцыю. Пры гэтым прытвор выконваў функцыю своеасаблівага вестыбюля, над якім узвышалася *званіца* — высотная дамінанта аб'ёмнай кампазіцыі. Над скрыжаваннем гал. *нефа трансепта* ўзводзіўся светлавы *барабан,* які завяршаўся *купалам* і апіраўся на слупы пры дапамозе ветразевых скляпенняў. У сярэдзіне 19 — пач. 20 ст. барабан з купалам набываюць больш дэкаратыўнае, чым функцыянальнае прызначэнне. У залежнасці ад колькасці нефаў Ц. магла мець 5 і больш купалаў. У пла не кожны неф звычайна заканчваўся апсідай. У бакавых апсідах, калі яны злучаліся з асноўнай, дзе быў гал. алтар, рабілі спец. памяшканні: з левага боку дзяканнік, з правага — ахвярнік.

**ЦА́РСКІЯ ВАРО́ТЫ,** двухстворкавыя дзверы ў цэнтры ніжняга яруса *іканастаса,* якія злучаюць *алтар* з асн. аб'ёмам інтэр'ера праваслаўнага або уніяцкага храма. На Беларусі Ц. в. зберагліся з 16 ст. Звычайна іх рабілі з дрэва, упрыгожвалі рэльефнай або ажурнай разьбой, паліхромнай размалёўкай, пазалотай адпаведна пануючаму маст. стылю і характару аздаблення іканастаса. Паводле канона, у верхняй частцы Ц. в. змяшчалі кампазіцыю «Благавешчанне», ніжэй, у клеймах — выявы евангелістаў Лукі, Іаана, Марка; Матфея. Часам кампазіцыю «Благавешчанне» замянялі інш. сюжэтамі. У некаторых творах адбіўся моцны ўплыў т. зв. народнага прымітыву. У канцы 18 — пач. 19 ст. Ц. в. часта плялі з саломкі, аздаблялі каштоўнымі тканінамі.

**ЦВІНТА́Р,** царкоўны двор ці агароджанае месца пры царкве. У некаторых выпадках Ц. наз. агароджаныя могілкі пры царкве.

**ЦО́КАЛЬ** (ад італьян. zoccolo, літар. чаравік на драўлянай падэшве), ніжняя частка вонкавай сцяны будынка, збудавання, помніка, якая ляжыць на фундаменце. Вядомы са старажытнасці ў манум. грамадскіх, культавых будынках. Узнік як умацаванае (патаўшчэнне) ніжняй часткі сцяны, калоны, пілястры, партала і інш. Ц. часта апрацоўваецца *рустыкай,* профілямі, дэкар. абліцоўкай. У архітэктуры, дзе выкарыстоўваліся ордэрныя сістэмы, Ц. звычайна меў выгляд п'едэстала з 3-часткавым члянeннем.

**ЦЭНТРЫ́ЧНЫЯ ЗБУДА́ВАННІ,** пабудовы, сіметрычныя адносна вертыкальнай восі ў цэнтры гал. памяшкання, якое дамінуе ў кампазіцыі. Тэрмін звычайна ўжываецца ў дачыненні да твораў архітэктуры, маст. вобраз якіх актыўна акцэнтуе ўвагу гледача на іх гал. ідэі-функцыі (культавай, мемарыяльнай ці відовішчнай). Функцыянальнае ці ідэйна-маст. значэнне Ц. з.



**Цокаль.**



**Цэнтрычныя збудаванні.** Віла «Ратонда» каля Вічэнцы. Архітэктар А. Паладыо. 16 ст.

выяўлена як у плане (круг, квадрат, шматграннік ці больш складаная геам. фігура), так і вонкавым выглядзе збудавання.

**ЦЯ́ГА,** гарызантальны ці вертыкальны паясок, выступ (звычайна атынкаваны ці мураваны), які падзяляе сцены будынка ці абрамляе пано і столь. Складаецца з некалькіх *абломаў архітэктурных.*

# Ч

**ЧАРАПІ́ЦА,** дахавы штучны будаўнічы матэрыял. Вырабляюць Ч. з абпаленай гліны і сілікатную з цэментава-пясчаных раствораў. У залежнасці ад формы Ч. падзяляюць на пазавую (мае пазы і выступы) і плоскую (пакрывае дах у два слаі); сілікатную Ч. пакрываюць атмасфераустойкімі фарбамі ці каляровай глазурай у розныя колеры.

**ЧАРЦЁЖ,** відарыс будынкаў і збудаванняў, іх дэталей у *графіцы архітэктурнай* з захаваннем асобных правіл, маштабу і шэрагу ўмоўных адзнак; выкананне архіт.-будаўнічых чарцяжоў, якое грунтуецца на начартальнай геаметрыі (навука аб метадах выяўлення прадмета на плоскасці). Падзяляецца на тры віды: у артаганальных праекцыях *(План, Разрэз, Фасад)*; у *перспектыве*; у *аксанаметрыі.*

**ЧАЦВЯРЫ́К,** 4-вугольнае ў плане збудаванне або састаўная частка кампазіцый шатровых і ярусных храмаў. Жылыя, гасп., вытворчыя, культавыя, грамадскія, абарончыя і інш. збудаванні ў выглядзе Ч. вядомы са старажытнасці большасці народаў свету. Ч.— найбольш пашыраная форма ў драўляным рус., укр. і бел. дойлідстве. Спалучэнне Ч. і васьмерыкоў («васьмярык на чацверыку») ствараліся выразныя рытмічныя вертыкальныя кампазіцыі грамадзянскіх і культавых будынкаў.



**Чацвярык.** Званіца ў в. Вялец Глыбоцкага раёна.

# Ш

**ШАЛЁЎКА,** знадворная абшыўка дошкамі ці дранкамі сцяны, франтона і інш. элементаў драўлянага будынка. Выконвае дэкар. і засцерагальную функцыі. Выкарыстоўваецца ў сядзібна-палацавым і культавым буд-ве, асабліва ў нар. дойлідстве. Найбольш пашыраныя віды Ш.: вертыкальная, гарызантальная, гарызантальная з нашчыльнікамі, камбінаваная, у елачку, ромбападобная і інш. На У і ПдУ Беларусі Ш. сцен і франтонаў утварае шэраг гарызантальных паясоў, кожны з якіх мае адметны малюнак. Вуглы закрываюцца дошкамі, часта з накладнымі элементамі ці прапілоўкай. Дэкар. акцэнт узмацняюць фігурныя паяскі, ажурныя карнізы і інш. Арыгінальная Ш. франтонаў жылля цэнтр. Палесся з выкарыстаннем салярных матываў.




Віды **шалёўкі:** *1* — вертыкальная; *2* — гарызантальная з нашчыльнікамі; *3* — гарызантальная; *4* — ромбападобная; *5* — у елачку; *6* — камбінаваная.

**ШАЦЁР,** шатровае пакрыццё будынка (званіцы, храма, вежы і інш.) або яго часткі 4-граннай ці шматграннай пірамідай. Выконваліся з цэглы і дрэва (мелі вянковую ці каркасную канструкцыі). Драўляныя Ш. ствараліся напускам вянкоў з памяншальнымі даўжынямі бакоў, цагляныя — нахіленымі радамі або напускам гарызантальных радоў цэглы. У культавых збудаваннях Ш. звычайна ўвенчваўся купалам, у грамадзянскім і ваенным — дазорнай вышкай, флюгерам. Ш. вядомы ў дойлідстве многіх народаў свету. Пашыраны пераважна ў рускім мураваным (16—17 ст.) і драўляным (да канца 18 ст.) дойлідстве. На тэр. Беларусі пакрыцці ў выглядзе Ш. вядомы са старажытнасці. Найбольшае пашырэнне атрымала ў мураваных і драўляных збудаваннях 16 — пач. 20 ст., пераважна ў замкавых вежах, ратушах, званіцах, храмах. Рабілі Ш. таксама над галерэямі і ганкамі.



**Шацёр.**

**ШКО́ЛА** (лац. schola ад грэч. scolē) **у архітэктуры.** Характарызуе нац. архітэктуру краіны, рэгіёна, калі яе своеасаблівасць выяўлена ў пэўных стылявых і храналагічных

межах; таксама творы архітэктуры, выкананыя вучнямі і паслядоўнікамі вядомага майстра. У архіт. навучальных установах пад кіраўніцтвам вядомага архітэктара часам ствараюцца групы ці майстэрні, члены якіх аб'яднаны поглядамі і ідэямі кіраўніка. Выпрацаваныя гэтымі групамі (майстэрнямі) найбольш устойлівыя архіт.-маст. прынцыпы і манеры вызначаюць архіт. Ш. навучальнай установы, адыгрываюць значную ролю ў развіцці архітэктуры.

**ШПАЛЕ́РЫ** (ням. Spalier ад італьян. spalliera) у садова-паркавым мастацтве, 1) рады дрэў, кустоў абапал дарогі ці дарожкі, якія ўтвараюць алеі. 2) Рашотка-апора для прымацавання павойных раслін. Выкарыстоўваюцца ў асноўным пры стварэнні рэгулярных кампазіцый. Алеі маглі мець выгляд калідораў з высокімі зялёнымі сценамі, у якіх праразаліся дзверы і вокны. Падобныя сцены акаймоўвалі прамавугольнікі *баскетаў*, аддзялялі партэры ад бакавых алей, служылі фонам, на якім размяшчалася скульптура. Ш. называюць таксама насценныя бязворсавыя дываны з сюжэтнымі і арнаментальнымі кампазіцыямі, выкананыя ўручную ў тэхніцы так званага рэпсавага ўточнага перапляцення.


Шпіль.

**ШПІЛЬ** (галанд. spil, ням. Spille), вертыкальнае востраканцовае завяршэнне будынкаў у выглядзе моцна выцягнутых конуса ці піраміды, часта ўвенчаных скульпт. ці разной выявай, сімвалічнай фігурай, флагам, флюгерам і інш.

**ШПІТА́ЛЬ** (ад лац. hospitalis гасцінны), установа для апекі над састарэлымі, бяздомнымі і хворымі; ваенна-медыцынская ўстанова для стацыянарнага лячэння; спецыяльны ці прыстасаваны будынак, у якім размяшчаўся Ш. У шэрагу краін Еўропы і ЗША — некаторыя цывільныя бальніцы. У 15—18 ст. Ш. на Беларусі засноўваліся на філантрапічныя ахвяраванні свецкіх феадалаў, па фундацыі каталіцкіх і пратэстанцкіх храмаў, кляштараў, магістратаў і рамесніцкіх цэхаў. У канцы 18 ст., пасля далучэння да Расіі, пашырыліся ваенныя Ш. Размяшчаліся яны звычайна на ўскраінах буйных гарадоў і ў фартэцыях. Мураваныя будынкі Ш. ўзводзіліся пераважна па індывідуальных праектах і ўяўлялі сабой рэгулярна спланаваныя комплексы з сіметрычна размешчанымі вакол гал. будынка службовымі памяшканнямі. У 1-й палове 19 ст. выкарыстоўваліся анфіладная і калідорная планіровачныя схемы. З 1830-х г. пашырылася П-падобная кампаноўка плана са светлым калідорам і аднабаковым размяшчэннем палат. Будаваліся звычайна ў стылі класіцызму з падкрэсленай строгасцю і лаканізмам. Абавязковым кампанентам шпітальных комплексаў былі сады для адпачынку хворых і аптэкарскія, дзе вырошчвалі зёлкі.

**ШПО́НА** (ням. Span), тонкія лісты драўніны, атрыманыя лушчэннем. Ідуць на выраб клеенай фанеры, сталярных пліт, драўнянаслаістых пластыкаў, драўнянастружкавых і драўнянавалакністых пліт. Дзякуючы багатай тэкстуры і каляровай палітры адценні Ш. можна выкарыстоўваць пры афармленні інтэр'ераў.

**ШТАНДА́РА**, паля, стаяк, моцная калода (найчасцей дубовая ці смалістая), якую ўкопвалі ў зямлю пад вугал будынка. Ш. дазвалялі лепш захоўваць ад вільгаці зруб, а пры буд-ве на няроўным месцы ствараць адзіны ўзровень для ўкладкі *падваліны*. Часта іх ставілі і ўздоўж сцен. Ш., якія ўкопвалі шчыльна адну за адной, звычайна былі больш тонкія, чым асноўныя, вуглавыя. Часцей уздоўж сцен Ш. ставілі няшчыльна, што забяспечвала вентыляцыю будынка.


Штандара.

**ШУ́ЛА**, вертыкальны апорны элемент у будынках слупавой канструкцыі і плоце замётам. Ш. ўспрымалі цяжар страхі і служылі асновай сцен, мелі пазы, у якія заходзілі канцы бярвён. Вядомы 3 тыпы Ш.: звычайныя, якія злучалі бярвёны сцен, вуглавыя, што ставілі ў вуглах будынка, і тыя, што адначасова былі вушакамі дзвярэй ці варот.


Шула.

**ШЧЫТ**, верхняя частка ў асн. тарцовай сцяны збудавання, абмежаваная двума схіламі даху і не аддзеленая ўнізе карнізам (у адрозненне ад *франтона*). Пабудовы са стромкім 2-схільным дахам маюць востравугольны шчыт,



**Шчыт** касцёла ў в. Ішкалдзь Баранавіцкага раёна.

звычайна на гал. фасадзе. Найбольш пашыраны ў архітэктуры стылю готыкі. Ш. аздабляліся разнастайнымі *нішамі,* часам мелі крывалінейную або ступеньчатую форму. У нар. драўляным дойлідстве пашыраны Ш. хат, вынесеныя наперад за плоскасць тарцовага фасада, маюць традыцыйнае дэкар. аздабленне.

# Э

**ЭКЛЕКТЫ́ЗМ** (ад грэч. eklektikós той, хто выбірае), спалучэнне разнастайных маст. элементаў. Звычайна ўзнікае ў перыяд заняпаду буйных маст. кірункаў. Выяўляецца ў неадпаведнасці матэрыяльна-тэхн. асновы архіт. збудавання (функцыянальнага прызначэння, канструкцыі, будаўнічых матэрыялаў) яго аб'ёмна-прастораваі́ кампазіцыі. Напрыклад, пры запазычанні элементаў архітэктуры мінулых эпох сучасныя жылыя, грамадскія і вытв. будынкі набываюць выгляд антычных храмаў, палацаў эпохі Адраджэння і інш. Элементы Э. вядомы ў познім стараж.-рымскім мастацтве (камбінацыя форм, запазычаных з мастацтва Грэцыі, Егіпта і інш.). Э. характэрны для архітэктуры (асабліва для афармлення інтэр'ераў) 19 ст., у якой некрытычна выкарыстоўваліся формы розных стыляў (несапраўдная готыка, неарэнесанс, неабарока і інш.). Э. 19 ст. з яго архіт. і арнаментальнымі матывамі адыграў значную ролю ў стварэнні асновы для зараджэння стылю *мадэрн.*

**ЭКСЕ́ДРА** (грэч. exédra), 1) у антычнай архітэктуры паўкруглая глыбокая ніша ў будынку альбо паўкруглае паўадкрытае збудаванне з сядзеннямі ўздоўж сцен; служыла для сходаў ці гутарак. Э. называлі таксама параднае памяшканне жылога дома.

**ЭНКА́ЎСТЫКА** (грэч. enkaustikē, ад enkáiō палю, выпальваю), в а с к о в ы ж ы в а п і с, жывапіс фарбамі, сувязным рэчывам якіх з'яўляецца адбелены пчаліны воск. Выкарыстоўваецца ў манументальна-дэкаратыўнай аддзелцы будынкаў. Э. не паддаецца ўздзеянню вільгаці і паветра і можа зберагацца нязменным на працягу тысячагоддзяў. Існуюць гарачы спосаб і халодны (васковая тэмпера). Э. вядома з часоў Стараж. Егіпта. Асновай пад Э. служаць мармуры, пясчанікі, туфы, вапнавыя і цэментавыя тынкоўкі, дрэва.

**ЭНТА́ЗІС** (ад грэч éntasis напружанне, узмацненне), плаўнае патаўшчэнне ствала калоны, лёгкая пухліна, максімум якой прыходзіцца на $^1/_3$ яе вышыні. Як пластычны і дэкар. сродак для ўзмацнення маст. выразнасці пабудоў узнік у Стараж. Грэцыі і Стараж. Рыме. Э. стварае ўражанне напружанасці калоны і дае магчымасць пазбегнуць аптычнай ілюзіі ўвагнутасці яе ствала, надае пабудове зрокавую ўстойлівасць і маштабную выразнасць.




**Энтазіс:** *а* — у калоне таскансага ордэра; *б* — у калоне дарычнага ордэра.

**ЭРКЕР** (ням. Erker), паўкруглы, трохвугольны ці шматгранны зашклёны выступ на плоскасці сцяны будынка. Вырашаецца ў выглядзе прысценнай канструкцыі на кансолях (радзей мае ўласны падмурак) і робіцца звычайна на некалькі паверхаў, часам на ўсю вышыню фасада. Узбагачае пластыку фасада, адыгрывае значную ролю ў кампазіцыі інтэр'ера; павялічвае плошчу ўнутраных памяшканняў, іх асветленасць і інсаляцыю.



**Эркер.**

**ЭСКІ́З** (франц. esquisse), папярэдні малюнак, накід, пачатковы этап работы на стадыі пошукаў агульнай ідэі, кампазіцыі і формы, які мае на мэце хуткую фіксацыю задумы.

**ЭСТАКА́ДА** (франц. estacade), надземнае збудаванне на апорах, прызначанае для развязкі транспартных пуцей ці транспартных і пешаходных патокаў. У залежнасці ад прызначэння і мясцовых умоў Э. будуюцца нахіленымі ці гарызантальнымі; па канструкцыі бываюць арачныя, бэлечныя, рамныя і інш.

**ЭТАЖЭ́РКА** (франц. étagère), каркаснае шмат'яруснае збудаванне (без сцен), якое стаіць у будынку ці па-за ім і прызначана для размяшчэння тэх-

налагічнага альбо іншага абсталявання.

**ЭХІ́Н** (грэч. échinos, літар. вожык), частка капітэлі, калоны дарычнага ордэра ў выглядзе круглай у плане падушкі з пукатым крывалінейным профілем. З'яўляецца пераходам ад ствала калоны да квадратнага *абака.* Вядомы з часоў Стараж. Грэцыі.

# Я

**Я́РУС,** адна з частак (секцый) збудавання, якія планіровачна або канструкцыйна паўтараюцца і размешчаны адна над адной. Звычайна Я. падзяляюцца *карнізамі,* прычолкамі, *цягамі* і інш. архіт. элементамі. У некаторых будынках Я. адпавядаюць паверхам, у іншых — некалькі паверхаў аб'ядноўваюць адзін Я. Чляненне фасада на асобныя Я. ўзмацняе кантраст і рытм архіт. кампазіцыі, акцэнтуе яе найб. значныя часткі. Асаблівую выразнасць маюць ярусныя *цэнтрычныя збудаванні* вежавага тыпу, у якіх чаргуюцца *чацверыкі, васьмерыкі,* цыліндрычныя аб'ёмы (*званіцы, вежы* і інш.), а таксама збудаванні з паярусна размешчанымі галерэямі. Ярусны характар мае таксама інтэр'ер шэрага культавых і грамадскіх будынкаў. Прынцыпы ярусных кампазіцый выкарыстаны ў інтэр'ерах тэатральных будынкаў (размяшчэнне балконаў, ложаў, галерэй), у іканастасах і алтарах. У садова-паркавым мастацтве і азеляненні ярусамі ствараюцца рабаткі і інш. дрэвава-кустовыя кампазіцыі.



**Ярусы** Міхайлаўскай царквы ў Слуцку. 18 ст.







# Беларускія архітэктары, гісторыкі і тэарэтыкі архітэктуры

# Замежныя архітэктары, творчасць якіх звязана з Беларуссю

# Саюз архітэктараў Беларусі

# А



В. М. Аладаў.

**АЛА́ДАЎ** Вальмен Мікалаевіч (н. 12.2. 1930, Мінск), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1969). Канд. архітэктуры (1972). Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1953). Працаваў у ін-це «Белдзяржпраект» (1953—64), у 1965—80 дырэктар ін-та «Белдзіпрагандаль», з 1980 выкладае ў БПІ. Асн. работы: абл. бібліятэка ў Маладзечне (1960); гал. корпус Цэнтр. НДІ механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі (1957), жылыя дамы на рагу праспекта Ф. Скарыны і вул. Казлова (1958), серыі тыпавых праектаў жылых дамоў (1956—64), сталовыя новага тыпу на шэрагу прамысл. прадпрыемстваў, буд. арг-цый, школ, ВНУ (1970-я г.), будынак на рагу вул. Кірава і Свярдлова (1979), Камароўскі крыты рынак у Мінску (1980, усе ў аўтарскім калектыве); рэсп. спарт. комплекс «Раўбічы» (1974, у сааўт.), помнік вызваліцелям Полацка (1981, з скульпт. Г. Мурамцавым), універмаг у Белградзе (1980, у сааўт.), афармленне выставак дасягненняў нар. гаспадаркі Беларусі ў Лейпцыгу (1967), Плоўдзіве (1969), Мінску (1970), Маскве (1977, усе ў аўтарскім калектыве). У 1966—70 старшыня праўлення Саюза архітэктараў Беларусі.

**АЛЕ́КСА,** беларускі дойлід 2-й пал. 13 ст. Па загаду валынскага князя Уладзіміра Васількавіча ў 1276 залажыў крэпасць Каменец на р. Лясная. Мяркуюць, што А. ў 1271—89 пабудаваў *Камянецкую вежу* ў драўляным замку.

**АНГІЯЛІ́НІ** Каэтан (1748, Італія — 1816), архітэктар; жыццё і творчасць звязаны з Беларуссю. Вучыўся ў Балоньі і Вероне. У 1784 пераехаў у Полацк. З 1786 жыў у Віцебску, дзе выкладаў французскую мову, у 1789—96 — архітэктуру ў мясц. калегіуме езуітаў. У 1796—97 жыў у Оршы. Пасля вяртання ў Віцебск выкладаў архітэктуру, кіраваў буд-вам касцёлаў, зрабіў алтары ў езуіцкім касцёле. У 1803—05 жыў у Полацку, потым выехаў у Італію.



В. І. Анікін.

**АНДРО́САЎ** Міхаіл Мікалаевіч (12.1. 1906, ст. Акулічы Смаленскай вобл.— 14.10.1951), беларускі архітэктар. У 1929—34 вучыўся ў Ленінградскім ін-це інжынераў камунальнай гаспадаркі. У 1936—41 і з 1944 працаваў у Мінску. Асн. работы: генплан Магілёва (1938—40, у сааўт.), праект планіроўкі Лепеля (1940—41). Сааўтар генпланаў аднаўлення і развіцця Мінска (1945—46) і Магілёва (1947—50).

**АНІ́КІН** Віктар Іванавіч [н. 1(14).1.1918, Алатыр Чувашскай АССР], беларускі архітэктар, вуочны, педагог. Засл. архітэктар Беларусі (1980). Канд. архітэктуры (1970), прафесар (1984). Скончыў архіт. факультэт Ленінградскага ін-та інжынераў камунальнага буд-ва (1940). У 1946—58 працаваў у Вільнюсе (рэсп. стадыён, мост цераз р. Нярыс, будынкі міністэрстваў лясной прамысловасці і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў, электрамеханічнага тэхнікума, Дзярж. б-кі Літоўскай ССР). З 1958 у Мінску. У 1960—64 у ін-це «Белдзяржпраект». З 1964 у БПІ (з 1977 заг. кафедры архітэктуры прамысл. будынкаў, з 1982 заг. кафедры горадабудаўніцтва). Асн. работы на Беларусі: генплан Светлагорска (1961) і праекты забудовы яго мікрараёнаў (1965), генплан Пінска (1963), генплан (1965) і праект рэканструкцыі цэнтра Брэста (1968); у Мінску — праект добраўпарадкавання пл. Леніна (1964), праект рэканструкцыі Цэнтр. батанічнага саду АН Беларусі (1962), праекты дэталёвай планіроўкі жылых раёнаў і забудовы мікрараёнаў па вул. Чкалава (1962), Усход (з 1966), Серабранка (з 1969, усе ў аўт. калектыве), гал. навучальна-лабараторны корпус архіт. і будаўнічага факультэтаў БПІ (1982, у сааўт.) і інш. Аўтар прац па архітэктуры і горадабудаўніцтве.

*Тв.*: Архитектура Советской Белоруссии. М., 1973 (у сааўт.); Город-герой Минск. М., 1976 (разам з Ю. П. Грыгор'евым); Брестская крепость-герой. М., 1981; Архитектурное проектирование жилых районов. Мн., 1987; Градостроительство Белоруссии. Мн., 1988 (у сааўт.).

**АНІ́КІНА** Лідзія Іосіфаўна (н. 24.6.1917, г. Растоў-на-Доне), беларускі архітэктар. Скончыла Ленінградскі інж.-будаўнічы ін-т (1941). У 1941 і 1944—45 працавала ў г. Растоў-на-Доне, у 1942—44 у Цюмені, у 1946—60 у Вільнюсе. З 1960 у ін-це «Белдзяржпраект», з 1969 у «Мінскграмадзянпраекце» (у 1973—78 гал. архітэктар праектаў). Асн. работы: жылыя дамы па вуліцах Маскоўскай (1967), Чкалава (1967), 9-павярховы 226-кватэрны жылы дом з цэнтр. гарадскімі чыг. касамі і магазінам «Кветкі» па вул. Чкалава (1978, у сааўт.) у Мінску; праекты забудовы мікрараёнаў 1 і 2 у Светлагорску (1965—71) і па вул. Чкалава ў Мінску (1974—78), піянерскі лагер «Зубраня» на воз. Нарач (1953—65), *Мінскі Палац культуры і спорту чыгуначнікаў* у Мінску (1978, усе ў сааўт.).

**АПАЛІ́НСКІ** Лукаш (1612—62), архітэктар. Аўтар вядомага ў той час на тэр. сучаснай Польшчы, Беларусі і Літвы трактата па архітэктуры (Кракаў, 1959), у якім выкладалася вучэнне аб буд-ве замкаў, палацаў, сядзіб у адпаведнасці з мясцовымі традыцыямі і кліматычнымі ўмовамі. Меў на мэце памагчы забудоўшчыкам (пераважна магнатам і шляхце) узводзіць свае рэзідэнцыі ў модных на той час

архіт. формах. Асн. матэрыял запазычаны з работ класікаў эпохі Адраджэння — А. Паладыо і В. Скамоцы. Упершыню ў Рэчы Паспалітай вызначыў архітэктуру як навуку.

**АРСЕ́НЬЕЎ** Віктар Васілевіч (н. 26.12. 1950, г. Брэст), беларускі архітэктар. Скончыў Брэсцкі інжынерна-будаўнічы ін-т (1972). У 1972—86 працаваў у ін-це «Брэстграмадзянпраект» (гал. архітэктар праектаў), з 1986 у Пецярбургскім дзярж. праектным ін-це № 3 (гал. архітэктар ін-та). Асн. работы (у Брэсце): будынак рэдакцыі і выдавецтва газ. «Зара» (1980), комплекс гаражоў (1980), фізкультурна-аздараўленчы комплекс (1981), забудова мікрараёна Усход 3 (1986), рэканструкцыі школы № 15 (1984) і будынка Брэсцкага аблвыканкома (1990), добраўпарадкаванне вуліцы і пл. Леніна (1985), *Брэсцкі аэравакзал* (1986; Дзярж. прэмія БССР 1988).

**АСМАЛО́ЎСКІ** Міхаіл Сцяпанавіч (14.1. 1904, в. Асмолавічы Клімавіцкага р-на — 23.9.1977), беларускі архітэктар. Канд. архітэктуры (1950). Скончыў Маскоўскі ін-т інжынераў землеўпарадкавання (1931). У 1945—51 нач. Упраўлення па справах архітэктуры пры СМ БССР. У 1962—77 заг. кафедры ін-та інжынераў землеўпарадкавання. Асн. работы на Беларусі: планіроўка жылога масіву Савецкага р-на (1944—47), праект забудовы праспекта Ф. Скарыны і Кастрычніцкай пл. (1948, у сааўт.) у Мінску; планіроўка в. Лукомль Чашніцкага р-на (1950) і інш. Дэп. Вярх. Савета БССР у 1947—55.

*Тв.*: Минск: Градостроительство столицы Советской Белоруссии. Мн., 1952.

**АФАНА́СЬЕВА** Наталля Мікалаеўна (н. 22.2.1937, г. Новакузнецк), беларускі архітэктар. Скончыла БПІ (1960). З 1960 працуе ў ін-це «Мінскпраект» (гал. архітэктар праектаў). Асн. работы: будынкі планетарыя і абсерваторыі ў Цэнтр. дзіцячым парку імя М. Горкага (1964), праекты дэталёвай планіроўкі жылых раёнаў па вуліцах Аэрадромнай, М. Горкага, Паўднёвы Захад 2, 3 (1976), планіровачная структура зах. і паўд.-зах. планіровачных зон (1974), схема ўпарадкавання і развіцця прамысл. зон (1981—85), ген. план Мінска да 2000 года (1982, у аўт. калектыве; прэмія СМ СССР 1985) і інш.

**АФАНА́СЬЕЎ** Уладзімір Аляксеевіч (н. 5.7.1913, Пецярбург), беларускі архітэктар. Скончыў Ленінградскі ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры Усерасійскай АМ (1943). Засл. дзеяч мастацтваў Таджыкскай ССР (1964). Працаваў гал. архітэктарам гарадоў Чарнаўцы (1944—46), Ліепая (1949—50), Іркуцка (1952—54), кіраўніком архіт. майстэрняў праектных ін-таў у Львове (1946—48), Вільнюсе (1950—52), Душанбе (1954—66). Дацэнт Ленінградскага інж.-будаўнічага ін-та (1948—49). У 1966—76 кіраўнік архіт. майстэрні ін-та «Мінскпраект». Асн. работы ў Мінску: *Беларускага інстытута фізічнай культуры будынкі* па праспекце Машэрава, Рэспубліканскай канторы Будбанка (1975—77), жылы дом па вул. Я. Купалы (1970—71), ансамбль жылых дамоў на Партызанскім праспекце (1975—76).

# Б

**БАГЕМІ́ЛЕ** Карл Вільгельмавіч, архітэктар 1-й пал. 19 ст. Скончыў акадэмію ў Рыме. У 1811—26 Гродзенскі губернскі архітэктар. Распрацаваў праект павятовых казначэйстваў для Брэста і Кобрына (1820), Ліды (1824). Выканаў фіксацыйныя чарцяжы стараж. пабудоў Гродна.

**БАДА́НАЎ** Генадзь Пятровіч (16.11.1911, с. Тубанаеўка Спаскага р-на Горкаўскай вобл.— 5.2.1977), савецкі архітэктар. Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1940). У 1946—50 працаваў у ін-це «Белдзяржпраект». Асн. работы: у Мінску — праект забудовы 1-й чаргі Ленінскага праспекта (1945—54, у сааўт., Дзярж. прэмія БССР 1968), Цэнтральнай пл. (1948, у сааўт.), праекты 106-, 108-, 124-кватэрных дамоў (1948—54), моста цераз р. Свіслач на праспекце Ф. Скарыны (1952, у сааўт.), корпуса гасцініцы «Мінск» (1957). Аўтар праекта дэталёвай планіроўкі забудовы цэнтр. часткі Улан-Батара (Манголія, 1957—61).

**БАЖКО́** Васіль Васілевіч (н. 23.2.1935, в. Пеняны Люблінскага ваяводства, Польшча), беларускі архітэктар. Скончыў Львоўскі політэхнічны ін-т (1960). З 1960 працуе ў Гродне (ін-т «Гроднажылпраект»). Асн. работы: у Гродне — стадыён «Чырвоны сцяг» (1963), планіроўка мікрараёнаў 1 і 2 па вул. Савецкіх пагранічнікаў (1962—68), Форты 1 (1970—80), Пярэселка 3 (1974—81, усе ў сааўт.), Дзевяткоўка 1 (1979—85), Дом тэхнікі (1980—81) і квартал па вул. Церашковай (1984—90, абодва ў сааўт.); аўтавакзал у г. п. Астрына Шчучынскага р-на (1975—76), мікрараён па вул. Каліноўскага і Палац культуры ў г. п. Свіслач (1981—85), планіроўка пасёлкаў Эйсманты Бераставіцкага (1981—82) і Чкалава Гомельскага (1986—87, усе ў сааўт.) р-наў і інш.

**БАКЛА́НАЎ** Міхаіл Іванавіч [н. 30.1(12. 2).1914, с. Іванаўка Валнавахскага р-на Данецкай вобл.— 23.1.1990], беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1969). Вучыўся ў Харкаўскім інж.-будаўнічым ін-це (1936—41). З 1944 працаваў у ін-це «Белдзяржпраект». Асн. работы: рэканструкцыя будынка Дзярж. рус. драматычнага тэатра Беларусі (1950), архіт.-будаўнічы тэхнікум (1954), Дзярж. маст. музей Беларусі, жылыя дамы на вул. К. Маркса (1954), на рагу вуліц Захарава і Перша-


В. В. Арсеньеў.


М. І. Бакланаў.



М. В. Баршч.

майскай (1958), будынкі Бел. ін-та механізацыі сельскай гаспадаркі (1960, 1979), медыцынскага ін-та (1966), БДУ (корпус факультэта радыёфізікі, 1966, у сааўт.) у Мінску; гал. корпус турысцкай базы (1968) і комплекс дома адпачынку «Сосны» на воз. Нарач (Мядзельскі р-н).

**БАНАЮ́С** Ян, беларускі дойлід 1-й пал. 17 ст. Жыў у в. Дойліды (Іўеўскі р-н). Прымаў удзел у буд-ве Іўеўскай сядзібы і інш. пабудоў на Іўеўшчыне.

**БАРСУКО́Ў** Міхаіл Захаравіч (19.7.1919, в. Лушна Полацкага пав. Віцебскай губ.— 10.3.1979), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1948). Працаваў у ін-це «Мінскпраект». Работы ў Мінску: будынкі ўпраўлення Бел. чыгункі (1948—52, у сааўт.), ін-таў гісторыі партыі пры ЦК КПБ (1952—55), «Архтэхбуда» (1967), удасканалення ўрачоў (1967—72); Дом інвалідаў (1958—60); гасцініцы «Спадарожнік» (1960—62); СКБ тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці (1966—68). Аўтар планіроўкі плошчы на вул. Чкалава (1962), праекта рэканструкцыі клінічнага гарадка (1964).

**БАРШЧ** Міхаіл Восіпавіч (29.1.1904, Масква — 8.11.1976), савецкі архітэктар і педагог. Праф. (1947). Скончыў Вышэйшы маст.-тэхн. ін-т (1926). У 1948—52 працаваў на Беларусі: планіроўка і забудова плошчаў Перамогі і Якуба Коласа, жылыя дамы на праспекце Ф. Скарыны (1949—56, усе ў сааўт.; у Мінску). Дзярж. прэмія БССР 1968 за ўдзел у стварэнні ансамбля Ленінскага праспекта ў Мінску. Сярод інш. работ: жылыя дамы ў Маскве і Новасібірску (1930—50-я г.), манумент героям грамадзянскай вайны ў Хабараўску (1956), помнік К. Э. Цыялкоўскаму ў Калузе (1958), манументы ў Маскве ў гонар дасягненняў сав. народа ў асваенні касмічнай прасторы (1964) і ў Жэневе ў гонар дасягненняў чалавецтва ў асваенні космасу (1971, усе ў сааўт.) і інш.

**БАТКО́ЎСКІ** Сяргей Барысавіч [н. 4(17).7.1917, Петраград], беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1969). Скончыў Ленінградскі ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна (1940). З 1946 у Мінску. Працаваў у ін-тах «Белдзяржпраект», «Белдзіпрагандаль», «Белпрампраект», «Мінскпраект» (у 1960—65 гал. архітэктар). З 1978 заг. кафедры інтэр'ера і абсталявання Бел. акадэміі мастацтваў. Асн. работы ў Мінску: рэканструкцыя карпусоў хімічнага і біялагічнага факультэтаў БДУ (1950), крыты плавальны басейн ін-та фізкультуры (1953), павільён білетных кас чыг. вакзала (1955), 10-павярховы жылы дом на пл. Я. Коласа (1957), паліграфічны камбінат імя Я. Коласа (1956), жылыя дамы на праспекце Ф. Скарыны (1958, Дзярж. прэмія БССР 1968), карпусы гадзіннікавага з-да (1963), павільён ВДНГ Беларусі (1968), рэканструкцыя стадыёна «Дынама» (усё ў сааўт.). Помнік Я. Купалу ў Араў-парку пад Нью-Йоркам (1973, са скульпт. А. Анікейчыкам); бюст Героя Сав. Саюза лётчыка-касманаўта СССР П. І. Клімука ў Брэсце (1978, са скульпт. І. Міско) і інш.



С. Б. Баткоўскі.

**БАЦЯ́Н** Элеанора Антонаўна (н. 15.6. 1933, г. Мінск), беларускі архітэктар. Скончыла БПІ (1959). У 1952—69 у ін-це «Белдзяржпраект», з 1959 у ін-це «Белпрампраект» (архітэктар, старшы архітэктар, кіраўнік групы, гал. архітэктар праектаў). Асн. работы: прамысловыя вузлы — Усходні ў Брэсце (1964, у сааўт.; прэмія СМ СССР 1977), у г. Асіповічы (1978), прамысл. прадпрыемствы ў раёне Слуцкай шашы (1970); заводы: асфальтабетонны (1978), буйнапанельнага домабудавання (1976), санзагатовак прамвузла «Шабаны» (1975) у Мінску, па вытворчасці металічнага парашку ў Маладзечне і Мінску (1985), электралямпавы ў Брэсце (1980); *Мінскага навукова-вытворчага аб'яднання «Цэнтр» будынкі* (1988), ф-ка каляровага друку (1988, абодва ў сааўт.) у Мінску і інш.

**БЕ́КЕР** Ян Самуэль, архітэктар 2-й пал. 18 ст. Працаваў у канцлера Вял. кн. Літоўскага кн. А. Сапегі. Паводле праектаў Б. пабудаваны *Ружанская Петрапаўлаўская царква і манастыр базыльян* (1779), *Ружанскі касцёл Казіміра* (1792, уваходзіў у комплекс манастыра), *Дзярэчынскі палац* (1786, з арх. *Л. Гуцэвічам*), рэканструяваны *Ружанскі Троіцкі касцёл* (1779), перабудаваны Ружанскі палац (1784—86, гл. *Ружанскі палацавы комплекс*).

**БЕЛАГО́РЦАЎ** Ігар Дзмітрыевіч [н. 21. 3(3.4).1911, г. Барнаул], беларускі архітэктар, педагог. Канд. архітэктуры (1943), праф. (1970). Скончыў Сібірскі ін-т арганізацыі тэрыторыі (1932, Омск). Працаваў у Якуцку, Барнауле, Новасібірску, Смаленску. З 1956 нам. дырэктара Ін-та буд-ва і архітэктуры АН Беларусі і дацэнт БПІ, з 1966 рэктар Брэсцкага інж.-будаўнічага ін-та, з 1981 у Мінскім ін-це культуры. Даследчык помнікаў Беларусі, стараж. Смаленска, архітэктуры і горадабудаўніцтва Беларусі. Работы: распрацоўка генпланаў Барнаула, Томска (1939, у сааўт.), праектаў гарадскіх пасёлкаў, вёсак, паркаў Якуцкай АССР (1932—34), Смаленскай вобл. (1945—56) і інш.

*Тв.:* Водные ресурсы и некоторые проблемы градостроительства Белорусского Полесья // Проблемы водных ресурсов. Мн., 1981; Районная планировка и региональное расселение. Мн., 1986 (разам з А. Д. Кудзіненкам, В. М. Саламеннікам).

**БЕЛАГО́РЦАЎ** Руслан Ігаравіч (н. 28. 9.1945, г. Новасібірск), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1969). У 1969—86 працаваў у ін-це «БелНДІдзіпрасельбуд», у 1968—89 у ЦК КПБ (інструктар аддзела буд-ва і гарадской гаспадаркі), з 1989 у Дзяржбудзе Беларусі (нач. аддзела, нам. нач. Гал. ўпраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва). Асн. работы: распрацоўка ген. планаў, праектаў планіроўкі і забудовы населеных пунктаў Натальеўск Чэрвеньскага (1979), Лошніца Барысаўскага

(1985), Крупіца Мінскага (1986), Доры Валожынскага (1986, будуецца; усе ў сааўт.) р-наў і інш.

**БЕ́ЛЬСКІ** Аляксандр Аляксеевіч (н. 4.12. 1932, г. Барысаў), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1958). З 1958 працуе ў ін-це «Віцебскграмадзянпраект» (архітэктар, кіраўнік групы, дырэктар, кіраўнік майстэрні, гал. архітэктар ін-та, нам. дырэктара па архітэктуры), у 1961—62 гал. архітэктар Віцебска, у 1967—74 начальнік абл. ўпраўлення па буд-ву і архітэктуры. Асн. работы: у Наваполацку — забудова Цэнтральнай плошчы; у Віцебску — жылы дом з рэстаранам «Аўрора» (1970, у сааўт.), планіроўка і забудова *Перамогі плошчы* (1974, у сааўт.), будынак мед. ін-та (1981, у сааўт.); помнік падпольшчыкам каля Смаленскага рынку (1967, скульптар А. Паўлючык), помнік ахвярам фашызму (1965), праекты дэталёвай планіроўкі цэнтраў і жылых раёнаў Віцебска, Оршы, Полацка; забудова в. *Акцябрская* саўгаса «Сялюты» (у сааўт., прэмія СМ СССР 1976).

**БЕНЯДЗІ́КТАЎ** Георгій Міхайлавіч (н. 8.11.1916, г. Саратаў), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1969). Скончыў Ленінградскі ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна (1943). Працаваў у ін-тах «Белдзяржпраект» (1954—79), «Белдзіпрагандаль» (1979—82). З 1982 выкладчык БПІ. Гал. кірунак творчасці — архітэктура грамадскіх будынкаў і збудаванняў. Асн. работы: будынкі Белдзяржфілармоніі (1963), Бел. дзярж. музея гісторыі Вял. Айч. вайны (1967), *Дома прафесіянальных саюзаў* (1982, усе ў сааўт.), Палаца культуры трактарнага з-да. Па яго праектах збудаваны гасцініцы «Юбілейная» і *«Планета»* ў Мінску, *«Магілёў»* у Магілёве, «Інтурыст» у Брэсце і інш.

**БЕРАЗО́ЎСКІ** Аляксандр Аляксандравіч (н. 25.7.1937, с. Студзёнае Капаткевіцкага р-на), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1990). Скончыў БПІ (1964). У 1957—59 у ін-це «Мінгарпраект», з 1959 у ін-це «Мінскпраект» (з 1966 гал. архітэктар праектаў, з 1976 кіраўнік майстэрні), з 1980 гал. архітэктар ін-та «Белжылпраект». Асн. работы (усе ў Мінску ў складзе аўт. калектываў): комплекс будынкаў вылічальнага цэнтра Дзяржплана БССР і НДІ водных праблем па вул. Славінскага (1967), лабараторна-вытворчы корпус НДІ тэхн. кібернетыкі АН Беларусі па вул. Высокай (1967), інтэрнат МРТІ на скрыжаванні вуліц Я. Коласа і Б. Хмяльніцкага (1970), комплекс ін-та культуры і ін-та ўдасканалення кіруючых работнікаў у раёне вул. Маскоўскай (1980), навукова-медыцынская б-ка па вул. Фабрыцыуса (1976), лаб. корпус НДІ глебазнаўства і аграхіміі (1980), навучальны комплекс Белсаўпрофа (1981), праекты комплекснай рэканструкцыі кварталаў гіст. забудовы Траецкага прадмесця (1979—84) і ў раёне вул. Філімонава.

**БЕРНАРДО́НІ** (Bernardoni, Bernardonus) Джавані (Ян) Марыя [1541 (?), г. Кома, Італія — 1605], італьянскі архітэктар. Прадстаўнік барока. Працаваў на Беларусі і ў Польшчы. У 1583—99 па запрашэнні кн. М. К. Радзівіла Сіроткі працаваў у Нясвіжы, удзельнічаў у стварэнні яго архіт. ансамбляў. Пад кіраўніцтвам Б. ў гэты час узводзіўся мураваны замак (гл. *Нясвіжкі палацава-паркавы комплекс*). Аўтар праекта і кіраўнік буд-ва *Нясвіжскага касцёла божага цела* (1583—93) і ў ансамблі з ім будынка калегіума.

**БЕТЫНІ** Восіп Іванавіч (1790—1861), беларускі архітэктар. Вучыўся архітэктуры ў Польшчы і Італіі. У 1827—42 працаваў Віцебскім губернскім архітэктарам. Выканаў праекты перабудовы бальніцы (1838, пабудавана ў 1820) і Віцебскага дваранскага дэпутацкага сходу (1842, не ажыццёўлены).

**БОЎТ** Іван Іванавіч (н. 20.7.1932, Мінск), беларускі архітэктар, педагог. Засл. архітэктар Беларусі (1973). Скончыў БПІ (1961). З 1952 у ін-це «Белпрампраект» (з 1968 гал. архітэктар), адначасова (з 1968) выкладчык БПІ. Асн. работы (у сааўт.): карпусы заводаў гадзіннікавага (1953—56), электронных вылічальных машын (1955—61), радыёзавода (1960—63), будынкі БелНДІдзіпрасельбуда (1968), СКБ з-да працяжных станкоў (1970), аўтатрактарнага факультэта БПІ (1976), комплексы з-да халадзільнікаў (1965—90), эксперыментальна-механічнай вытворчасці НДІБМ (1979—85), аўтатранспартнай гаспадаркі СМ Беларусі (1980—82), гараж хуткай дапамогі (1986—89) у Мінску; дывановы (1965), панчошны (1968) камбінаты, з-ды электронных вылічальных машын (1965—72), электралямпавы (1967—75), комплекс з-даў Мінлегхарчмаша (1980—82) у Брэсце; Бел. аўтамабільны з-д (1966—82) у Жодзіне, філіял МТЗ у Смаргоні (1985—90). Па яго праектах пабудаваны аб'екты ў Бабруйскім, Віцебскім, Гродзенскім прамысл. вузлах. Адзін з аўтараў кнігі «Архітэктура Савецкай Беларусі» (1986) і інш. У 1977—80 старшыня праўлення Саюза архітэктараў Беларусі.

**БРУНО́Ў** Мікалай Іванавіч [13(25). 9.1898, Масква — 25.11.1971], савецкі гісторык архітэктуры. Чл.-кар. Акадэміі архітэктуры СССР (1941—56), правадзейны чл. Акадэміі буд-ва і архітэктуры СССР (1957—64), д-р мастацтвазнаўства (1943), праф. Маскоўскага архіт. ін-та (з 1934). Аўтар прац па гісторыі архітэктуры еўрапейскіх краін, у т. л. Візантыі і Расіі. Адзін з даследчыкаў бел. архітэктуры. У арт. «Беларуская архітэктура XI—XII ст.» (1928) выказаў меркаванне, што ў Полацку і Смаленску ў 12 ст. склалася арыгінальная творчая манера дойлідства, якая ўплывала на архітэктуру Смаленска і Ноўгарада.

**БРЭ́ГМАН** Авель Пінхусавіч [12.4.1906, в. Людзяневічы Мазырскага пав. (цяпер Жыткавіцкі р-н) — 30.5.1958], беларускі архітэктар. Пасля сканчэння ў 1936 Мас-



Г. М. Бенядзіктаў.



А. А. Беразоўскі.



І. І. Боўт.



Г. А. Бяганская.



В. С. Бялянкін.

коўскага архіт. ін-та працаваў у Мінску, у 1941—44 — у Куйбышаве. З 1945 кіраўнік майстэрні «Белдзяржпраекта», выкладчык Мінскага архіт.-будаўнічага тэхнікума (1946—58). Сярод работ: у Магілёве — гасцініца *«Днепр»,* жылыя дамы (1931—41, у сааўт.); у Мінску — ін-т фізкультуры (1938, у сааўт.), жылыя дамы па праспекце Ф. Скарыны (1948—51), будынкі інтэрната Мінскай вышэйшай партыйнай школы па вул. К. Маркса (1950), Белпрамсавета і Прамэнергапраекта (1953—55), тэхналагічнага ін-та (1956, у сааўт.). У 1937—41 старшыня праўлення Саюза архітэктараў Беларусі.

**БУДЗЬКО́** Рыгор Рыгоравіч (н. 4.4.1933, в. Арэпічы Жабінкаўскага р-на), беларускі архітэктар. Скончыў Львоўскі політэхнічны ін-т (1957). З 1957 працаваў у Гродзенскім аблпраекце, з 1961 у ін-це «Брэстграмадзянпраект» (гал. архітэктар праектаў), з 1979 гал. архітэктар ін-та «Брэстсельбудпраект». Асн. работы: забудова цэнтр. сядзібы саўгаса «Мухавецкі» Брэсцкага р-на (1969), жылы дом па вул. Маскоўскай (1966), праект мікрараёна Усход 3 (1978, усе ў сааўт.), гал. корпус пед. ін-та (1981) у Брэсце; Дом праектных ін-таў (1969) і Дом Саветаў (1974) у Пінску; праект і забудова цэнтр. сядзібы калгасаў «Памяць Ільіча» Брэсцкага (1980) і «Белавежскі» Камянецкага р-наў (1981, абодва ў сааўт.).

**БУ́ЛГАК** Ян (6.10.1876, в. Асташына Навагрудскага р-на — 4.2.1950), беларускі і польскі этнограф, фалькларыст, майстар маст. краязнаўчай фатаграфіі. Да 1912 жыў на Беларусі ў в. Перасека Мінскага пав. У 1919—39 кіраўнік лабараторыі маст. фатаграфіі пры Віленскім ун-це. Апублікаваў шмат здымкаў бел. краявідаў, вёсак, гасп. пабудоў бел. сялян у розных этнаграфічных выданнях і ў часопісах «Ziemia» («Зямля»), «Kwartalnik Litewski» («Літоўскі квартальнік»), «Wieś ilustrowana» («Ілюстраваная вёска») і інш. Найбольш вядомыя фота: «Беларус з-пад Клецка», «Бабулька-беларуска з маёнтка Перасека пад Мінскам», «Жабракі-беларусы пад Мінскам», «Беларуская дзяўчына з-пад Клецка ў народным убранні», «Беларуска з-пад Клецка ў народным строі з самаробнага сукна». Фотатэка і калекцыя здымкаў Б. (каля 10 тыс.) згарэла ў 1944 у Вільні. Многія фота Б. з бел. зямель зберагаюцца ў Цэнтр. дзярж. гіст. архіве Літвы і Цэнтр. б-цы Літвы ў Вільнюсе.

**БУСЫ́РСКІ** Аляксандр Сяргеевіч (24.12. 1806 — пасля 1845), беларускі архітэктар. Прадстаўнік класіцызму. У 1819—30 вучыўся ў Пецярбургскай АМ. У 1833—37 працаваў Магілёўскім губернскім архітэктарам. Паводле яго праектаў у Магілёве пабудаваны: флігелі ваеннага шпіталя (1833) і да палаца ў сядзібе «Піпенберг» (1836), павятовае і прыходскае вучылішчы (1834; усе не захаваліся).

**БЯГА́НСКАЯ** Галіна Аляксандраўна (н. 10.5.1934, Мінск), бел. архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1976). Скончыла БПІ (1958). З 1958 працуе ў БелНДІдзіпрасельбудзе (з 1970 кіраўнік майстэрні тыпавога і эксперыментальнага праектавання). Асн. работы: праект планіроўкі і забудовы цэнтра (1967—73, у сааўт.; залатая медаль ВДНГ СССР), Дом культуры з сельсаветам і поштай (1967), гасцініца з камбінатам быт. абслугоўвання (1970), жылыя дамы (1973), педвучылішча (1980) у в. Леніна (Горацкі р-н); эксперыментальныя дзіцячыя яслі-сад на 50—140 месцаў (1970, у сааўт.) у пасёлку Малеч (Бярозаўскі р-н) і Замасточча (Мінскі р-н); гандл. цэнтры ў вёсках Расна (Камянецкі р-н, 1971) і Верцялішкі (Гродзенскі р-н, 1971), клуб у в. Баяры (Мядзельскі р-н, 1972), конна-спарт. школа ў в. Ратамка (Мінскі р-н, 1979—80, у сааўт.).

**БЯЛЯ́ЕЎ** Павел Раманавіч (26.1.1933, в. Пачынак-Сямёнаў Парфеньеўскага р-на Кастрамской вобл.— 29.10.1987), беларускі архітэктар. Скончыў ін-т імя І. Я. Рэпіна ў Ленінградзе (1958). З 1958 працаваў у Мінску ў ін-це «Белдзяржпраект», выкладаў у БПІ (з 1974). Асн. работы: комплексы будынкаў Мінскага радыётэхн. ін-та па вул. Падлеснай (1961—72) і па вуліцах Гікала—Платонава (1975—81), інтэрнат БПІ па вул. Я. Коласа (1962—65) у Мінску; комплекс жылых дамоў з будынкамі культ.-быт. прызначэння па вул. Горкага ў Бабруйску (1973—78, у сааўт.), бальніца ў Пінску (1980); мемарыяльныя помнікі ў саўгасе «Натальеўск» Чэрвеньскага р-на (1966), вёсках Дубінка Магілёўскага і Валаськоўка Касцюковіцкага р-наў (абодва 1975), в. Белічы Слуцкага р-на (1976, усе ў сааўт.) і інш.

**БЯЛЯ́НКІН** Віталь Сцяпанавіч (н. 30.4. 1937, г. Джума Даргамскага р-на Самаркандскай вобл.), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1991). Скончыў БПІ (1963). З 1963 працаваў у ін-це «Новасібпраект», з 1966 у ін-це «Мінскпраект» (кіраўнік групы, гал. архітэктар праектаў). Адначасова з 1989 кіраўнік творчай майстэрні пры Саюзе архітэктараў Беларусі. Асн. работы ў Мінску: 15-павярховы інтэрнат Беларускага тэхналагічнага ін-та (1975, у сааўт.), *Мінскі Палац піянераў і школьнікаў* (1986) і школа-інтэрнат (1988; абодвух кіраўнік аўт. калектыву), 2-я чарга буд-ва Дзяржаўнага мастацкага музея Беларусі (1991,у сааўт.), *Мемарыял воінскай славы* на Лудчыцкай вышыні ў Быхаўскім р-не (1984, у сааўт.; Дзярж. прэмія БССР 1986).

# В

**ВАЛАДЗЬКО́** Іван Іосіфавіч [2(14).3. 1895, в. Плябанцы Мінскага р-на — 24.3.1984], беларускі архітэктар. Канд. архітэктуры (1966). Скончыў Пензенскае мастацкае вучылішча (1918), Маскоўскі вышэйшы маст.-тэхн. ін-т (1928). З 1929 у праектных арганізацыях Мінска (у 1933—44 у праектных арганізацыях Масквы), у 1944 пастаянны прадстаўнік Упраўлення па справах архітэктуры пры СНК БССР. З 1957 навуковы супрацоўнік НДІ буд-ва і архітэктуры АН Беларусі, у 1963—73 БелНДІПградабудаўніцтва. Работы ў Мінску: 112-кватэрны дом па вул. Маскоўскай (1932, у сааўт.), *Мінскай гідраметэаралагічнай абсерваторыі будынак* (1934), праект аднаўлення Дома І з'езда РСДРП (1947), Літаратурны музей Я. Купалы (1959, у сааўт.). Сярод інш. работ: павільён СССР на міжнар. кірмашы ў Страсбургу (Францыя, 1929), бальніца ў Рэчыцы (1933), шэраг жылых, грамадскіх, прамысл. будынкаў у Маскве (1935—37).

*Тв.:* Методические указания по составлению схем районной планировки сельскохозяйственных районов БССР. Мн., 1963 (у сааўт.); Альбом типовых и экспериментальных проектов жилых домов, общественных зданий и сооружений для сельского строительства в Белорусской ССР. Мн., 1971 (у сааўт.).

**ВАРА́КСІН** Уладзімір Мікалаевіч [22.6 (5.7).1901, Омск — 2.1.1980], беларускі архітэктар, педагог. Засл. будаўнік БССР (1967). Скончыў Ленінградскі ін-т інжынераў камунальнага буд-ва (1934). З 1952 выкладчык, у 1954—71 дацэнт БПІ. У 1971—75 заг. кафедры архіт. праектавання Брэсцкага інж.-будаўнічага ін-та. Асн. работы: *Рэспубліканскі Палац піянераў і школьнікаў, Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі будынак* (абодва ў сааўт.), Белкамунбанк (1950), Бел. ін-т нар. гаспадаркі (1954), жылыя дамы па вуліцах К. Маркса, Маскоўскай, Захарава (1949—55) у Мінску; Дом Саветаў у Слуцку (1937—39); педтэхнікум у Крычаве (1938), кінатэатр «Радзіма» (1939), жылы пасёлак аўтарамонтнага з-да (1940—41) у Магілёве; клуб запалкавай ф-кі ў Рэчыцы (1939), гал. машынная зала электрастанцыі (1945) і кінатэатр імя Калініна (1950) у Гомелі; будынак абкома КПБ (1952) у Гродне.

**ВАРО́НІН** Мікалай Мікалаевіч [30.11 (13.12).1904, г. Уладзімір — 4.4.1976], савецкі гісторык мастацтва, археолаг. Д-р гіст. навук, праф. (1946). Скончыў Уладзімірскі ін-т нар. асветы (1923), Ленінградскі ун-т (1926). У 1932—76 навуковы супрацоўнік Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры (з 1959 Ін-т археалогіі АН Расіі). Вывучаў гісторыю культуры і дойлідства горадоў Старажытнай Русі. У 1949 рабіў раскопкі на Замкавай гары ў Гродне; выявіў 2 цагляныя крапасныя вежы 12 ст., храм з маёлікавай падлогай, жылыя будынкі. Вывучаў таксама збудаванні і фрэскі *Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра* ў Полацку. Арганізатар выдання, рэдактар і адзін з аўтараў «Гісторыі культуры Старажытнай Русі» (т. 1—2, 1948—51), Ленінская прэмія 1965, Дзярж. прэмія СССР 1952.

*Тв.:* Древнее Гродно. М., 1954 (Материалы и исследования по археологии СССР; № 41); Бельчицкие руины // Архитектурное наследство. М., 1956. Т. 6; Зодчество Северо-Восточной Руси XII—XV веков. Т. 1—2. М., 1962.

*Літ.:* Вагнер Г. К. Н. Н. Воронин // Культура Древней Руси. М., 1966; Яго ж. К 60-летию Н. Н. Воронина // Сов. археология. 1964. № 4.



Л. Вітан-Дубейкаўскі.

**ВІТАН-ДУБЕ́ЙКАЎСКІ** Лявон Іванавіч [Леў Дубяйкоўскі, 7(19).7.1869, паводле інш. звестак 1867, в. Дубейкава Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Мсціслаўскі р-н — 6.11.1940, Вільня], беларускі архітэктар, будаўнік, педагог, паэт. Скончыў Мсціслаўскае гарадское вучылішча і школу будаўнічых рамёстваў у Варшаве. У 1897 адкрыў будаўнічую кантору ў Смаленску. Асн. работы гэтага перыяду: цэрквы ў г. Манастырчшына і Ярцава (Смаленская вобл.), скарбніца ў г. Вязьме, аднаўленне касцёлаў у Оршы, Мсціславе, Крычаве, вёсках Смаляны Аршанскага і Свіслач Асіповіцкага р-наў. У 1903 пры ін-це цывільных інжынераў у Пецярбургу здаў экзамен на званне інжынера-будаўніка. У 1907—09 вучыўся ў Акадэміі архітэктуры ў Парыжы і атрымаў дыплом архітэктара-мастака. З 1910 жыў у Варшаве: у 1910—13 працаваў у бюро Лільпопа і Янкоўскага; у 1912—15 выкладаў буд-ва ў тэхн.-прамысл. школе; у 1913—15 працаваў у створаным ім уласным бюро. У гады 1-й сусветнай вайны займаўся буд-вам на Палаччыне і ў Арле. У 1919 чытаў папулярныя лекцыі па буд-ву на бел. настаўніцкіх курсах у Вільні і Гродне. У 1922 у Вільні, займаўся архіт.-буд. работамі, быў дырэктарам мулярскай школы (1925—29). Ім спраектаваны царква ў Відзах (1922), *Дрысвяцкі Петрапаўласкі касцёл,* шмат розных пабудоў у Вільні і на Вілейшчыне. У 1934—38 кіраваў аднаўленнем Марыянскага манастыра ў Друі. У 1940 закончыў працу «Эвалюцыя і рэформа драўлянага будаўніцтва» (засталася ў рукапісу). Пахаваны ў Вільні на могілках Роса.

*Літ.:* Vitan K. Lavon Vitan-Dubiejkauski: Da *85* uhodkaŭ naradżeńnia. Niu Jork, 1954.

**ВО́ІНАЎ** Аляксандр Пятровіч (20.11.1902, г. Колпіна Ленінградскага гарсавета — 1.10.1987), беларускі архітэктар, вучоны, педагог. Чл.-кар. АН Беларусі (1953), акад. Акадэміі буд-ва і архітэктуры СССР (1956—64), чл.-кар. Акадэміі архітэктуры СССР (1950—55), праф. (1951). Засл. дз. маст. Беларусі (1940), засл. будаўнік БССР (1962). Скончыў Маскоўскі вышэй-



А. П. Воінаў.


А. А. Воінаў.


В. М. Волчак.


С. С. Гайдукевіч.

шы маст.-тэхн. ін-т (1929). Вучань А. В. Шчусева і І. А. Голасава. У Мінску з 1929. Начальнік праектных аддзелаў Белжылсаюза (1930—31), Бел. філіяла Дзіпрагара РСФСР (1931—33), дырэктар (1933—35), кіраўнік архіт. майстэрні (1935—41, 1945—47) «Белдзяржпраекта», нач. Упраўлення па справах архітэктуры пры СНК БССР (1943—45). З 1947 у БПІ — заг. кафедры архітэктуры (1948—73), з 1973 прафесар-кансультант, адначасова кіраўнік н.-д. работ у Ін-це буд-ва і архітэктуры АН Беларусі (1957—63). У 1941—49 старшыня праўлення Саюза архітэктараў Беларусі. Асн. навуковыя працы па тэорыі і практыцы архітэктуры. Аўтар 23 конкурсных праектаў і 70 праектаў буйных архіт. збудаванняў. У першых работах (клуб швейнікаў у Віцебску, 1930—32) адчуваўся ўплыў канструктывізму, у далейшым выкарыстоўваў кампазіцыйныя прыёмы і элементы класічнай архітэктуры. Яго творы належаць да лепшых дасягненняў бел. архітэктуры. Сярод іх у Мінску: 112-кватэрны жылы дом па вул. Маскоўскай (1932, у сааўт.), *Рэспубліканскі Палац піянераў і школьнікаў*, будынак ВПШ (1937), гасцініца «Беларусь» (1938, цяпер *«Свіслач»*), *Беларускага інстытута фізічнай культуры будынак*, *Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі будынак*, 1-ы корпус бальніцы Лечсанупраўлення (1948), аэравакзал і будынак абкома КПБ (абодва 1956, у сааўт.), Тэатр юнага гледача (1952, у сааўт.) і інш.; гасцініца *«Днепр»* і жылыя дамы па вул. Першамайскай (1938—41, у сааўт.) у Магілёве, абком КПБ (1957, у сааўт., цяпер палітэхнікум) у Маладзечне і інш. Адзін з арганізатараў эксперыментальнага і аб'ёмна-блочнага буд-ва на Беларусі. Дзярж. прэмія БССР 1968 за ўдзел у праектаванні і забудове Ленінскага праспекта (цяпер праспект Ф. Скарыны) у Мінску.

*Тв.*: Основные черты в развитии зодчества Белоруссии. Мн., 1955; Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии. Мн., 1957 (у сааўт.); Минск: Послевоенный опыт реконструкции и развития. М., 1966 (у сааўт.).

**ВО́ІНАЎ** Анатоль Аляксандравіч (н. 11.12.1934, Мінск), беларускі архітэктар, гісторык архітэктуры, педагог. Засл. архітэктар Беларусі (1991). Канд. архітэктуры (1967), прафесар (1991). Чл.-кар. міжнароднай Акадэміі архітэктуры (1992). Скончыў БПІ (1958). З 1958 працаваў у «Белдзяржпраекце», з 1963 выкладчык БПІ (з 1983 заг. кафедры жылых і грамадскіх будынкаў, з 1985 дэкан архіт. факультэта Бел. політэхнічнай акадэміі). Аўтар праектаў шэрага карпусоў АН Беларусі (1960—61), вылічальнага цэнтра ЦСУ Беларусі (1965), жылых дамоў у Мінску, Светлагорску (1963—65), рэстарана «Заслаўе» пад Мінскам (1975, у сааўт.) і інш. Дзярж. прэмія БССР 1980 за кн. «Гісторыя архітэктуры Беларусі (савецкі перыяд)» (1975).

*Тв.*: Дом правительства Белорусской ССР. Мн., 1975 (разам з С. Ф. Самбуком); И. Г. Лангбард. Мн., 1976; Жилищное строительство в Белорусской ССР. Мн., 1980; Архитектура Советской Белоруссии. М., 1986 (у сааўт.); История архитектуры Белоруссии. Т. 2 (Советский период). 2 изд. Мн., 1987.

**ВО́ЛЧАК** Віктар Мацвеевіч [н. 9(22).4.1910, чыг. ст. Цінская Ніжнеінгашскага р-на Краснаярскага краю — 26.4.1985], беларускі архітэктар і педагог. Засл. архітэктар Беларусі (1978). Скончыў Ленінградскую АМ (1936). У 1937—53 працаваў у Ташкенце. У 1953—59 гал. архітэктар ін-та «Белдзяржпраект». У 1954—75 выкладчык (з 1956 дацэнт) БПІ. З 1979 у ін-це «Мінскметропраект». Гал. кірунак творчасці — архітэктура адм. будынкаў і мемарыяльных збудаванняў. Асн. работы на Беларусі: будынак Мінскага аблвыканкома (1958), Літ. музей Я. Купалы, жылы дом на вул. К. Маркса (абодва 1959), помнікі Ф. Дзяржынскаму (1953, скульптар З. Азгур), М. Казею (1958, скульптар С. Селіханаў) у Мінску; помнікі В. І. Леніну ў Магілёве (1958, скульптар П. Сабсай) і Маладзечне (1959, скульптар Азгур), ахвярам Масюкоўшчынскага лагера смерці каля в. Масюкоўшчына Мінскага р-на (1959), воінам польскай дывізіі імя Т. Касцюшкі ў в. Леніна Горацкага р-на (1953); абеліскі ў гонар сав. воінаў і партызан у г. п. Івянец Валожынскага р-на (абодва 1959; скульптар Я. Печкін). Адзін з аўтараў мемар. комплексу *Брэсцкая крэпасць-герой*. Сярод работ у Ташкенце: будынак Ташкенцкага гаркома партыі (1939), помнік Алішэру Наваі (1950, скульптар Л. Дзітрых) і інш.

# Г

**ГА́БРУСЬ** Тамара Віктараўна (н. 2.10.1945, Мінск), беларускі гісторык архітэктуры. Канд. архітэктуры (1979). Скончыла БПІ (1968). Працавала ў ін-це «Белпрампраект» (1968—70), у Спец. навуковых рэстаўрацыйна-вытв. майстэрнях Міністэрства культуры Беларусі (1973—74), выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П. Броўкі (1974—80). З 1980 старшы навуковы супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, з 1990 адначасова выкладае ў Беларускай акадэміі мастацтваў. Даследуе манум. архітэктуру Беларусі 16—18 ст. Адзін з аўтараў кн.: «Гісторыя беларускага мастацтва» (т. 1—2, 1987—88), зборнікаў: «Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці» (1984), «Помнікі культуры: Новыя адкрыцці» (1985), «Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні» (1989), «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», артыкулаў у часопісах «Мастацтва Беларусі», «Строительство и

архитектура Белоруссии», «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» і інш.

*Тв.*: О памятнике деревянного зодчества в Достоеве // Памятники культуры: Новые открытия, 1979. Л., 1980; Манументальнае дойлідства // Скарына і яго эпоха. Мн., 1990; Помнікі манументальнага дойлідства Міншчыны. Мн., 1991.

**ГАЙДУКЕ́ВІЧ** Станіслаў Сільвестравіч [1(13).5.1876, Мінск — 25.5.1937], беларускі архітэктар. Скончыў каморніцкае вучылішча (1892), Пецярбургскую АМ (1910). З 1910 у Мінску. У 1921—27 заг. праектнага аддзела Камітэта дзярж. пабудоў пры СНК БССР. У 1929—37 выкладаў у Мінскім архіт.-будаўнічым тэхнікуме. У 1937 рэпрэсіраваны. Асн. работы ў Мінску: жылы дом па вул. Захар'еўскай (сучасная вул. Савецкая, 17; гл. *Мінскія жылыя дамы*), даходны дом Е. Кастравецкай, будынак польскага банка (не зберагліся), Дом селяніна (1929, у сааўт.; разбураны ў гады Айч. вайны). Удзельнічаў у распрацоўцы праекта 1-й Усебеларускай с.-г. і прамысл. выстаўкі (1930, гал. ўваход, асн. павільёны) і інш. У творчасці Г. выразна прасочваецца імкненне да адраджэння бел. архітэктурных традыцый і стварэння гарадской ансамблевай забудовы. Як прадстаўнік неакласіцызму Г. свядома дамагаўся гратэскавай выразнасці будынкаў шляхам мадэрнізацыі форм і дэталей архітэктурнай класікі.

**ГАЛЬДШТЭ́ЙН** Элкано Маркавіч (н. 28. 3.1923, Мінск), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1991). Скончыў Ленінградскі інж.-будаўнічы ін-т (1950). З 1952 працуе ў «Белдзяржпраекце». Асн. работы: у Мінску — комплекс жылых дамоў па вул. Краснай (1952—53, у сааўт.), радыётэхнічны тэхнікум (1956), Фундаментальная б-ка АН Беларусі (1967), Дом настаўніка (1976), комплекс вучылішча кінамеханікаў, *Мінскага медыцынскага інстытута будынкі* (абодва 1979, у сааўт.); эксперыментальныя школы ў Салігорску (1966), Брэсце (1969), Мінску (1976), серыя тыпавых праектаў школ і дашкольных устаноў (1960—80).

**ГАНЧАРО́Ў** Аляксандр Аляксеевіч (н. 18. 5.1948, г. Ламаносаў Ленінградскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1971). З 1971 у Ін-це «Белпрампраект» (гал. архітэктар праектаў). Асн. работы: *Мінскага завода халадзільнікаў будынкі*, комплекс Ін-та будаўніцтва і архітэктуры Дзяржбуда Беларусі (1982), *Мінскага навукова-вытворчага аб'яднання «Цэнтр» будынкі* (усе ў сааўт.) у Мінску; БелАЗ (1976, у сааўт.) і канструктарска-даследчая база БелАЗа ў Жодзіне (1976), маторны з-д у г. Стоўбцы (будуецца, 1990, у сааўт.).

**ГАПІЕ́НКА** Валянцін Міхайлавіч (н. 17.6. 1946, пас. Курганаўка Барзаскага р-на Кемераўскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў Брэсцкі інж.-будаўнічы ін-т (1973). З 1973 у Брэсцкім філіяле ін-та «Белдзяржпраект» (цяпер «Брэстграмадзянпраект»), з 1977 гал. архітэктар Брэста. Асн. работы: серыя індывідуальных буйнапанельных дамоў для Брэсцкага домабудаўнічага камбіната, праект забудовы мікрараёна Усход 3 (1986, у сааўт.), інтэр'еры рэстаранаў «Брэсцкае піва» (1977) і «Інтурыст» (1975), *Брэсцкі аэравакзал* (1986, Дзярж. прэмія БССР 1988), праект рэгенерацыі цэнтра Брэста (1985, абодва ў сааўт.).

**ГАФО́** Людміла Георгіеўна (н. 2.11.1919, в. Караджа Акмячэцкага р-на, Крымская вобл.), беларускі архітэктар. Скончыла Маскоўскі архіт. ін-т (1945). Працавала ў ін-це «Белсельпраект» (1945—47), Упраўленні па справах архітэктуры Мінска (1947—49), ін-це «Белдзяржпраект» (1949—53). У 1954—83 гал. архіт. праектаў у майстэрні генплана ін-та «Мінскпраект». Асн. працы: генпланы Мінска на 1980 (1963) і на 2000 (1980), карэкціроўка генплана на 1980 і асн. напрамкі развіцця Мінска на 2000 (1971), ТЭА генплана Мінска на 2010 (1979, усе ў аўт. калектыве). Пад яе кіраўніцтвам і ў аўт. калектыве распрацаваны праекты зах. планіровачнай зоны Мінска (1974), прамысловага р-на па вул. Платонава (1972), парка Перамогі (1967), жылых раёнаў Усход (1965), Паўднёвы Захад 2, 3 (1976), па Лагойскім тракце (1954), вуліцах Маскоўскай, Чкалава, Брылеўскай (усе 1955), К. Лібкнехта (1958), Аэрадромнай (1967). Лаўрэат прэміі СМ СССР 1985.

**ГЕГА́РТ** Раман Міхайлавіч (27.9.1908, г. Крамянчуг Палтаўскай вобл.— 6.9. 1982), савецкі архітэктар. Засл. архітэктар Расіі (1948). Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1934). З 1949 кіраўнік майстэрні «Белдзяржпраекта». З 1954 у праектных арганізацыях Масквы. Асн. работы: *Мінскі гарадскі універмаг* (у сааўт.), будынкі Белгалоўэнерга і Бел. дзярж. ін-та інжынерных вышуканняў Дзяржбуда Беларусі (1952), тэлевізійнага цэнтра па вул. Камуністычнай (1956, у сааўт.) і Бел. кансерваторыі (1958), жылыя дамы на вуліцах Кірава, Камуністычнай, Захарава, Казлова, Чырвонай (1950—54) у Мінску; рэстаран «Заслаўе» пад Мінскам (1975, у сааўт.); шэраг жылых і грамадскіх будынкаў у Маскве, Сочы, гарадах Маскоўскай вобл. Калінінградзе, Падольску, Серпухаве, за мяжой (Афганістан, Бірма).

**ГЕРА́ШЧАНКА** Дзмітрый Васілевіч (н. 25.1.1951, Мінск), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1974). Працаваў у вытворчых майстэрнях камбіната Маст. фонда Беларусі (1968—69), з 1969 у ін-це «Мінскпраект». Асн. работы: водаахоўная зона Сляпянскай воднай сістэмы і 7 сквераў уздоўж яе (1989, у складзе аўт. калектыву; Дзярж. прэмія БССР 1989), праект рэканструкцыі парку імя М. Горкага (1978), Парк 60-годдзя Кастрычніка (1986), воднае добраўпарадкаванне ўчастка р. Свіслач (1988). Па яго праектах будуюцца паркі ў Нясвіжы, па праспекце Праўды і па вул. П. Глебкі; левабярэжная частка Камсамольскага воз. ў Мінску і інш.



Э. М. Гальдштэйн.



В. М. Гапіенка.



Р. М. Гегарт.



Дз. В. Герашчанка.

**ГЛА́ЎБІЦ** (Glaubitz, Glaubicz) Іаган (Ян) Крыштоф [1700 (?), Сілезія — 3.3.1767], архітэктар. Прадстаўнік віленскага барока і ракако. У 1737—67 у Вільні, працаваў па аднаўленню і буд-ву віленскіх храмаў пасля пажару ў Вільні ў 1737 [касцёлы візітак (1751), Катрыны (1741—73), Ёнаса (1737), місіянераў (1754—56), дамініканцаў на Кальварыі, капліца Барбары, брама кляштара базыльян (1761), ратуша, палац езуітаў, касцёл Казіміра (1741—57), Рафала (1751), евангелістаў (1737—38) і інш.]. Сярод работ на Беларусі: *Сталавіцкая царква Іаана Хрысціцеля*, перабудова *Полацкага Сафійскага сабора, Беразвецкі кляштар базыльян, Валынецкі касцёл і кляштар дамініканцаў, Глыбоцкі касцёл і кляштар кармелітаў, Мсціслаўскі касцёл і кляштар кармелітаў*, Магілёўскі палац архіепіскапа, Магілёўская Спаская царква (1756—62), касцёл базыльян і палац мітрапаліта Ф. Грабніцкага ў Струні каля Полацка (1748—49), касцёл у Быцешчах (Слонімскі пав.), інтэр'ер *Лідскага Крыжаўзвіжанскага касцёла*, амбон, спавядальня і алтары Слонімскага касцёла бернардзінак (1751—64; гл. *Слонімскі касцёл і кляштар бернардзінак*). Мяркуюць, што Г. удзельнічаў у буд-ве *Віцебскай ратушы, Дзятлаўскага касцёла Успення Багародзіцы*, Быценскага базыльянскага касцёла, *Быстрыцкага Крыжаўзвіжанскага касцёла*, вежы Гродзенскага касцёла бернардзінцаў, Лявонпальскага палаца (1750), плябаніі (1757) пры *Гайцюнішскай капліцы*.

*Літ.:* Lorentz St. Ian Krzysztof Glaubitz, architekt wileński XVIII w. Warszawa, 1937.

**ГЛО́ГЕР** (Gloger) Зыгмунт (псеўд. П р у с к і; 3.11.1845, Каменка Падляская, Польшча — 15.8.1910), польскі этнограф, археолаг, гісторык і фальклярыст. Скончыў Варшаўскі ун-т (1867). Арганізатар і 1-ы старшыня краязнаўчага т-ва ў Варшаве. Упершыню апублікаваў шмат матэрыялаў па бел. драўлянай архітэктуры. У часопісе «Wisła» («Вісла») апублікаваў артыкулы пра краязнаўчыя падарожжы («Падарожжа Нёманам», 1888; «На хвалях Буга», 1890; «У даліне Бебжы», 1892, і інш.). У прыватным музеі Г. захоўваліся бел. матэрыялы са збораў М. Федароўскага, А. Кіркора, Я. і К. Тышкевічаў, А. Ельскага і інш. Сабраныя матэрыялы Г. выкарыстаў у шматлікіх навук. працах, у т. л. ў «Старапольскай энцыклапедыі» (т. 1—4, 1900—03, 4 выд. 1978).



Ю. М. Градаў.

**ГРА́ДАЎ** Юрый Міхайлавіч (н. 26.6.1934, г. Чарапавец Валагодскай вобл.), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1979). Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1958). З 1960 у ін-це «Мінскпраект» (у 1970—80 кіраўнік архіт. майстэрні, з 1980 гал. архітэктар праектаў), у 1967—70 нам. гал. архітэктара, гал. мастак Мінска. Работы ў Мінску: рэканструкцыя цэнтра горада (праект 1974, кіраўнік аўтарскага калектыву), праекты дэталёвай планіроўкі і забудовы *Машэрава праспекта*, рэканструкцыі і добраўпарадкавання Траецкага прадмесця, павільён Выстаўкі дасягненняў нар. гаспадаркі Беларусі, будынкі гаркома КПБ (1979) і парткурсаў Мінскага абкома КПБ (1981), станцыя метрапалітэна «Плошча Леніна» (1984, усе ў сааўт.). Працуе таксама ў галіне манум. мастацтва: архіт.-скульпт. мемарыяльныя комплексы *Хатынь* (Ленінская прэмія 1970), *«Прарыў», «Кацюша»;* помнікі М. Ф. Гастэлу і яго экіпажу каля г. п. Радашковічы (1976), у Мінску — Я. Купалу і Я. Коласу (абодва 1972), мемарыяльныя знакі ў Цэнтр. скверы на месцы загубы членаў Мінскага камуністычнага падполля ням.-фаш. захопнікамі (1979), на пл. Незалежнасці на месцы гібелі рэдактара падпольнай газеты «Звязда» Героя Сав. Саюза У. С. Амельянюка (1981), помнік «Праклён фашызму» на месцы былой в. Шунеўка Докшыцкага р-на (1983, усе ў сааўт.).

**ГРАДЭ́ЦКІ** Аляксандр (21.5.1802 — 2.5. 1869), беларускі архітэктар. У 1819—22 вучыўся ў Крамянецкім ліцэі (Польшча). У 1824 стажыраваўся ў Варшаве ў архітэктара П. Айгнера. У 1829—61 працаваў на Гродзеншчыне. Аўтар праектаў царквы і сядзібы ў Зэльве, жылога дома і свірана ў Дзярэчыне (1829), прыходскага касцёла ў Ваўкавыску (1836, не ажыццёўлены), Гнезненскай сядзібы (1830-я гады), Масалянскага палаца і капліцы (1845—50), флігеля і капліцы ў Крамяніцы (1855—61).

**ГРАЗНО́Ў** Васіль Васілевіч [? — 27.2 (12.3).1909], гісторык бел. архітэктуры, матэрыяльнай культуры і мастацтва, краязнавец, рысавальшчык і літограф. Скончыў Строганаўскае вучылішча (1862). З 1864 жыў у Вільні, выкладаў маляванне ў гімназіях. Упершыню навукова апісаў і замаляваў *Гродзенскую Барысаглебскую царкву, Лідскі замак, Сынковіцкую царкву-крэпасць, Мураванкаўскую царкву-крэпасць* і інш. Многія малюнкі Г. сталі ілюстрацыямі да кніг П. М. Бацюшкава («Беларусь і Літва», 1890), І. У. Карчынскага («Старажытная Каложская царква ў імя св. князёў Барыса і Глеба ў г. Гродне», 1908), 3-га т. «Жывапіснай Расіі» (1882) і інш. У Дзярж. Эрмітажы захоўваюцца літаграфіі (лісты з альбома) «Унутраны від Прачысценскага сабора ў г. Вільна», «Унутраны від Нікольскай царквы ў г. Вільна», «Выява Лідскага замка 14 ст. і царквы часоў Альгерда ў Вільні» і інш.

*Тв.*: О древних церквах Северо-Западного края // Известия о занятиях 7-го археологического съезда в Ярославле 6—20 августа 1887 года. Ярославль, 1887. № 10; Коложская Борисоглебская церковь в г. Гродно. Вильна, 1893.

**ГРУ́БЕР** Габрыэль [6.5.1740, Вена — 26.3(7.4).1805], архітэктар, матэматык, мастак. Праф. архітэктуры і фізікі. Адукацыю атрымаў у Венскім ун-це. У 1760-я гады архітэктар у Любляне (Югаславія; пабудаваў касцёл і калегіум езуітаў), з 1773 працаваў у Трыесце (Італія) на буд-ве судна, потым у Венгрыі і Славеніі.

З 1784 у езуіцкім калегіуме ў Полацку, дзе выкладаў курс фізікі і архітэктуры. Пабудаваў пры езуіцкім калегіуме 3-павярховы будынак для музея, бібліятэкі, карціннай галерэі і тэатра (1788). Залы музея ўпрыгожыў фрэскамі. У 1787 адкрыў друкарню. З 1800 у Пецярбургу (з 1802 генерал ордэна езуітаў).

**ГРЫГО́Р'ЕЎ** Юрый Панцеляймонавіч (н. 29.5.1932, г. п. Кулоціна Ноўгарадскай вобл.), савецкі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1976). Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1956). Працаваў у ін-тах «Белпрампраект», «Мінскпраект» (у 1965—74 кіраўнік архіт. майстэрні). У 1974—86 нам. старшыні Дзяржбуда Беларусі, гал. архітэктар Мінска, з 1986 нам. начальніка Галоўмосархітэктуры. Асн. работы: генеральныя планы шэрага прамысл. аб'ектаў у гарадах Беларусі (1956—61, у сааўт.); у Мінску — ін-ты тэхн. кібернетыкі і электронікі АН Беларусі (абодва 1967), комплекс Цэнтр. НДІ комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў (1974) і НДІ эканомікі і эканоміка-матэматычных метадаў планавання (1967), інтэрнаты БПІ, БДУ, радыётэхнічнага ін-та (1964—75), жылыя дамы па вул. Караля, Сурганава (1970, 1975); комплекс ін-таў культуры і павышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў народнай гаспадаркі Беларусі (1975), крыты каток, Дом літаратара, комплекс НДІ электронных вылічальных машын па вул. М. Горкага (1978), станцыя метро «Кастрычніцкая» і інжынерны корпус Мінскага метрапалітэна (1984, усе ў сааўт.). У 1973—75 старшыня праўлення Саюза архітэктараў Беларусі.

*Тв.:* Город-герой Минск. М., 1976 (разам з В. І. Анікіным).

**ГРЫНЦЭ́ВІЧ** Людвік [1717(?) — 10.10.1783], архітэктар. Прадстаўнік позняга барока. Творчасць звязана з Беларуссю і Літвой. Сярод работ на Беларусі: касцёл аўгусцінцаў (1750—66) у фальварку Забелы (сучасная в. Валынцы Верхнядзвінскага р-на), *Друйскі касцёл дамініканцаў* (1765—73; разам з арх. А. *Парака*), дамініканскі кляштар у Нясвіжы (1780-я гады; усе не зберагліся). Удзельнічаў у рэканструкцыі касцёла місіянераў у Вільні (1753), стварыў дамініканскія касцёлы ў гарадах Расяйняе (1776—83) і Вірбалісе (1783).

**ГРЭ́ЙПЕЛЬ** (Грэйпаль) Леапольд (каля 1810 — пасля 1847), архітэктар. Скончыў Пецярбургскую АМ (1834). У 1830-я гады працаваў павятовым землямерам Полацка. У 1842—43 архітэктар Бел. навучальнай акругі (Мінск). Аўтар праектаў будынкаў дваранскага прыходскага вучылішча (1835) у Полацку, гімназіі (1839) і шляхетнага пансіёна (1842) у Мінску, перабудовы манастырскага корпуса бернардзінцаў (пасля закрыцця касцёла і кляштара) пад павятовую школу (1842—47) у Віцебску, павятовай школы з домам для персаналу і школьнай б-кай у Маладзечне.

**ГУ́СЕЎ** Валянцін Іванавіч (6.5.1911, с. Александрыя Благадарненскага р-на Стаўрапольскага краю — 17.7.1983), беларускі архітэктар, педагог. Засл. архітэктар Беларусі (1969). Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1936). З 1936 выкладчык БПІ, Бел. тэатральна-маст. ін-та (з 1959, у 1964—78 заг. кафедры інтэр'ера і абсталявання). У 1953—59 нам. старшыні Дзяржбуда Беларусі. У творах выкарыстоўваў кампазіцыйныя прыёмы і формы класічнай архітэктуры. Асн. работы: Дом афіцэраў у Бабруйску і ф-ка піяніна ў Барысаве (абодва 1937), пасёлкі пры торфапрадпрыемствах у Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Гомельскай абл. (1937—39); праекты аднаўлення і рэканструкцыі разбураных у гады Айч. вайны Акруговага Дома афіцэраў і жылых дамоў па праспекце Ф. Скарыны (1945—46), адм. будынкі на вуліцах Камуністычнай (1948), Фрунзе (1948), Упраўленне Бел. чыгункі (1951, у сааўт.) у Мінску, забудова *Кірава праспекта* ў Віцебску.

**ГУЦЭ́ВІЧ** Лаўрын (Стуока-Гуцявічус Лаўрынас Сімона; 5.8.1753, с. Мігоніс Купішкскага р-на, Літва — 11.12.1798), літоўскі архітэктар. Прадстаўнік класіцызму. Вучыўся ў Віленскім ун-це (1773—75; з 1793 узначальваў кафедру архітэктуры), Рыме (1776—77), Парыжы (1778—80). Асн. яго работы ў Вільні (у т. л. кафедральны сабор св. Станіслава, 1777—1801; дабудоўваў арх. М. *Шульц*). На Беларусі паводле яго праекта пабудаваны *Маляціцкі касцёл* (копія сабора св. Пятра ў Рыме, паменшаная ў 8,2 раза; не захаваўся).



**ДАНІ́ЛАВА** Аляксандра Юр'еўна (н. 27.3.1927, г. Гадзяч Палтаўскай вобл.), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1970). Скончыла Кіеўскі інж.-будаўнічы ін-т (1951). З 1951 працуе ў ін-це «Віцебскграмадзянпраект». Асн. работы ў Віцебску: будынак прафтэхвучылішча быт. абслугоўвання (1956), электратэхнікум сувязі (1957, у сааўт.), праекты забудовы *Кірава вуліцы, Перамогі плошчы*, праект дэталёвай планіроўкі цэнтр. і паўд. раёнаў (1973), тэхн. праект плошчы 1000-годдзя горада (1975), праекты мікраараёнаў Юбілейны (1976), Поўдзень 6 (1980). Аўтар праекта забудовы 4-га мікраараёна ў Наваполацку (1967—69, 1-я чарга). Адзін з аўтараў генпланаў Наваполацка (1963), Віцебска (1966), Оршы (1968), праектаў дэталёвай планіроўкі цэнтра і камунальнай зоны Наваполацка (1969), мікраараёны Задняпроўе 2 (1981), па вул.



Ю. П. Грыгор'еў.



В. І. Гусеў.



А. Ю. Данілава.



Я. К. Дзятлаў.

П. Броўкі (1989) і па вул. Леніна (1982) у Оршы.

**ДАНІ́ЛАЎ** Віталь Аляксандравіч (н. 7.4. 1923, г. Кохма Іванаўскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў Кіеўскі інж.-будаўнічы ін-т (1951). Працуе ў Віцебску (ін-т «Віцебскграмадзянпраект»). Асн. работы: ансамбль *Кірава вуліцы*, гал. корпус медыцынскага ін-та (1959), гасцініца *«Віцебск»*, жылыя дамы на перасячэнні Маскоўскага і Смаленскага праспектаў (1980), будынак прафсаюзных курсаў з інтэрнатам (1983; усе ў сааўт.). Адзін з аўтараў праектаў дэталёвай планіроўкі ўсх. прамысловага р-на (1962), цэнтр. і паўд. р-наў (1973), забудовы мікрараёнаў Поўдзень 1 (1969), Усход (1970), Поўдзень 3 і 4 (1973), генпланаў Віцебска (1966), Полацка і Наваполацка (1964), генплана і праектаў 1-й і 2-й чаргі забудовы Новалукомля (1962—73) і інш.

**ДЗЬЯЧКО́Ў** Іван Пятровіч (1789 — пасля 1836), архітэктар. Прадстаўнік класіцызму. Да 1813 працаваў у Маскве. З 1814 жыў і працаваў у Гомелі. У 1814—26 служыў у графа М. П. Румянцава (у 1814, 1815, 1818 выязджаў у Маскву для азнаямлення з работамі маскоўскіх архітэктараў і набыцця праектаў). Паводле яго праектаў у Гомелі пабудаваны: дваранскае вучылішча (1818), *Гомельскі «паляўнічы домік»* (1818—20), ткацкая і бялільная ф-кі (1818—20); кіраваў буд-вам ланкастэрскай школы (1818) і «Рускага тракціра» (1822, абодвух арх. Дж. Кларк, гл. *Гомельскай ланкастэрскай школы будынак, Гомельскага «Рускага тракціра» будынак*).

**ДЗЯГІЛЕ́ВІЧ** Уладзіслаў (каля 1674, Беларусь — 13.1.1714, Мсціслаў), беларускі архітэктар. Прадстаўнік архітэктуры барока. У 1691 уступіў у ордэн езуітаў. Вучыўся ў 1695—98 у Полацкім езуіцкім калегіуме, у 1701—04 — у езуіцкім паслушніцкім доме ў Вільні. Працаваў у Оршы (1704—05 і 1707—09), Нясвіжы (1705—06), Мсціславе (1706—07). У 1707 у Мсціславе паводле яго праекта пабудаваны драўляны езуіцкі касцёл, у 1711 — званіца і гасп. пабудова.

**ДЗЯ́ТЛАЎ** Яўген Канстанцінавіч (н. 17.5. 1923, в. Бабы Пухавіцкага р-на), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1988). Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1950). У 1950—65 працаваў у г. Алма-Ата ў ін-це «Казгарбудпраект», гал. архітэктарам горада (1961—65). У Мінску з 1965. Быў кіраўніком майстэрні генплана ін-та «Мінскпраект», гал. архітэктарам горада (1970—74), гал. архітэктарам ін-таў «Белдзіпрагандаль» (1974—80), «Мінскпраект» (1980—1985). З 1985 нам. старшыні праўлення Саюза архітэктараў Беларусі. Асн. работы: у Алма-Аце — жылыя дамы і гасцініца «Казахстан» (1954—61), тэлецэнтр (1956—59), адм. будынкі Казсаўпрофа (1958—61, у сааўт.) і Міністэрства сувязі (1958—62, у сааўт.); у Мінску — праект забудовы мікрараёна Усход 1 (1968—69, у сааўт.), праект дэталёвай планіроўкі жылых раёнаў Усход і Серабранка (1965—68, у сааўт.), універсам «Рыга» і рэстаран «Свіцязь» (абодва 1978—80, у сааўт.), праект дэталёвай планіроўкі цэнтра горада (1969—73, у сааўт.).



В. Н. Емяльянаў.

**ДРАЗДО́ВІЧ** Язэп Нарцызавіч [1(13).10. 1888, б. засценак Пунькі, Глыбоцкі р-н — 1954], беларускі мастак. Вучыўся ў Віленскай маст. школе праф. І. Трутнева (1906—10). У 1926—30 выкладчык Віленскай, Навагрудскай бел. гімназій. У канцы 1910 — пач. 1920-х гадоў стварыў графічныя серыі «Старажытная будоўля на Беларусі», «Дзісеншчына» («Вёска Лаўрынаўка», «Пунькі» і інш.), асобныя лісты «Мінск. Высокае месца». Стараж. замкавай архітэктуры Беларусі і Літвы прысвечаны графічныя серыі 2-й пал. 1920-х гадоў: «Глыбокае» (1926), «Мір» (1927), «Навагрудак» (1928), «Крэва», «Ліда», «Руіны Лідскага замка», «Меднікі», «Трокі», «Гальшаны» і «Гальшанскае гарадзішча каля Барунскага тракту» (усе 1929). У 1940-я гады напісаў жывапісныя палотны з жыцця стараж. Полаччыны, серыю карцін аб жыцці і асветніцкай дзейнасці Ф. Скарыны (у т. л. «Развітанне з Полацкам», 1944).

*Літ.:* Л і с А. С. Вечны вандроўнік: Нарыс пра мастака Я. Драздовіча. Мн., 1984.

# Е

**ЕЛІСЕ́ЕЎ** Ігар Канстанцінавіч (27.1.1917, Петраград — 10.5.1981), беларускі архітэктар. Канд. архітэктуры (1956). Скончыў Ленінградскі інж.-будаўнічы ін-т (1941). Працаваў у ін-це «Белдзяржпраект» (1944—57, гал. архітэктар праектаў, кіраўнік майстэрні тыпавога праектавання), НДІ буд-ва і архітэктуры (1957—63, заг. сектара жылля). Адначасова з 1953 выкладчык БПІ. Прымаў удзел у аднаўленні пасля Айч. вайны Мінска і інш. гарадоў рэспублікі. Аўтар серый тыпавых праектаў жылых дамоў для гарадскога і сельскага буд-ва.

**ЕМЯЛЬЯ́НАЎ** Віктар Ніканавіч (н. 12.12. 1926, г. Вінніца, Украіна — 12.5.1990), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1985). Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1956). З 1956 працаваў у БелНДІдзіпрасельбудзе (у 1986—89 гал. архітэктар ін-та). Гал. кірунак творчасці — сельская архітэктура. Асн. работы: праекты планіроўкі і забудовы вёсак Верцялішкі Гродзенскага (1969, Дзярж. прэмія СССР 1971), Аснежыцы Пінскага, Пліса Смалявіцкага, Сноў Нясвіжскага р-наў (усе 1968); Зашыр'е Ельскага (1970), Леніна Горацкага (1971), Мышкавічы Кіраў-

скага (1972), Крупіца Мінскага р-наў (1979, усе ў сааўт.) і інш.

*Тв.:* Вертелишки. М., 1974 (разам з М. Г. Дзіваковым); Современные направления в развитии белорусского села (разам з Н. М. Нядзелька) // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1980. № 3; Архитектурно-планировочная организация сельских населенных мест Белоруссии. Мн., 1984.

**ЕРМАКО́ВІЧЫ** Філон і Елізар, беларускія дойліды 1-й пал. 17 ст. Жылі ў в. Грычына (Дзяржынскі р-н). Разам з дойлідамі Ільёй і Антонам Зезгуламі і Маркам будавалі сядзібы і палацы Койданаўскага графства.

**Е́СЬМАН** Ігар Іванавіч (н. 1.5.1932, Мінск), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1959). У 1959—60 у ін-це буд-ва і архітэктуры АН Беларусі. З 1960 у ін-це «Мінскпраект» (гал. архітэктар праектаў, з 1989 кіраўнік майстэрні). Асн. работы: у Мінску — Ін-т тэхнічнай эстэтыкі (1964), вучэбныя карпусы ін-та замежных моў (1962—65, у сааўт.), жылыя дамы па Магілёўскай шашы і на Юбілейнай плошчы (1965—66), комплекс адм. будынкаў па вул. Някрасава (1968), дзіцячы сад-яслі ў мікрараёне Серабранка 5 (1970), гал. вучэбны корпус (1981) і інтэрнат (1979—86, абодва ў сааўт.) архіт.-будаўнічага факультэта БПІ, турысцкая гасцініца па вул. Прытыцкага (1980), Станцыя метро «Пушкінская» (1988, у сааўт.) і інш.

**Е́СЬМАН** Ларыса Аляксандраўна (н. 11.3. 1936, Мінск), беларускі архітэктар. Скончыла БПІ (1959). З 1959 у ін-це «Мінскпраект» (старшы архітэктар, кіраўнік групы, гал. архітэктар праектаў). Асн. работы: ген. план Мінска на 1980 (1963) і 2000 (1982, абодва ў сааўт.); праекты дэталёвых планіровак жылых раёнаў Серабранка (1965), Паўднёвы Захад (1977), Дварышча (1983), Лошыца (1988), Новы Двор (1989, усе ў сааўт.). Прэмія СМ СССР (1985).

**ЕЎДАКІ́МАЎ** Уладзімір Мікітавіч (н. 6.5. 1939, г. Об Новасібірскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў Новасібірскі інж.-будаўнічы ін-т (1971). Засл. архітэктар Беларусі (1988). У 1967—71 працаваў у Ін-це «Сібакадэмпраект». З 1971 у ін-це «Гроднаграмадзянпраект» (старшы архітэктар, кіраўнік групы, гал. архітэктар праектаў, кіраўнік архіт.-канструктарскага аддзела, нам. дырэктара). Асн. работы: у Гродне — Дом піянераў і школьнікаў (1976), будынкі аблвыканкома па вул. Ажэшкі (1982), упраўлення «Гроднасельбуд» (1983), кардыялагічны цэнтр (1984), 16-павярховая гасцініца *«Гродна»* (1985), 3-зальны кінатэатр *«Кастрычнік»* (1987), будынак аэравакзала (1991, усе ў сааўт.), жылы дом са сберкасай (1980), інтэрнаты 19 трэста (1982) і з-да «Электравырабаў» (1983, абодва ў сааўт.) у Лідзе; дом для маласямейных (1984, у сааўт.) у Смаргоні і інш.

# Ж

**ЖАБРО́ЎСКІ** Томаш (25.11.1714, каля Навагрудка — 18.3.1758), бел. архітэктар, матэматык. Прадстаўнік мастацтва ракако. Вывучаў філасофію ў Віленскай езуіцкай акадэміі (1735—38), матэматыку, фізіку, астраномію і архітэктуру ў Вене і Празе. Выкладаў у Віленскай езуіцкай акадэміі (1752—58) і Полацкім калегіуме. Асн. работы: езуіцкі касцёл у Бабруйску (1745—46), касцёл св. Ігнацыя і калегіум (1748—50), абсерваторыя езуіцкага калегіума (1752—53), перабудова касцёла св. Яна (1756—58; усе ў Вільні), інтэр'ер кальвінскага збору ў Жодзішках Смаргонскага р-на (1757—66); аўтар праекта касцёла бенедыкцінак у в. Крож (Літва). Кіраваў буд-вам Полацкага езуіцкага кляштара, праектаваў (каля 1750) палац Агінскага ў Ганусе (цяпер в. Ручыца; гл. ў арт. *Ручыцкая сядзіба*) Ашмянскага пав.

**ЖАЛДАКО́Ў** Анатоль Уладзіміравіч (н. 18.5.1929, г. Уладзікаўказ Паўн.-Асецінскай АССР), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1991). Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1954). Працаваў у ін-це «Валгаградграмадзянпраект». З 1970 у ін-це «Белдзіпрагандаль» (кіраўнік, гал. архітэктар майстэрні), з 1990 кіраўнік творчай майстэрні Саюза архітэктараў Беларусі. Асн. работы на Беларусі: *Мінскі крыты рынак «Камароўскі»* (1980, у сааўт.), універсамы «Рыга» (1980) і «Талін» (1982), службова-гасп. корпус СМ Беларусі па вул. Мяснікова (1983), будынкі Міністэрства гандлю Беларусі і Спарткамітэта Беларусі (1980), праект комплексу магазінаў па вул. Няміга (1981) у Мінску, крыты рынак у Брэсце (1987). Сярод інш. работ: Дом студэнтаў і комплекс Ін-та фізкультуры каля Мамаева кургана (1965—69), шэраг прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання ў цэнтры Валгаграда (ганаровы дыплом Саюза архітэктараў СССР 1967), будынкі рэстарана «Дубрава» і вышыннай гасцініцы «Русь» у Бранску (1976).

**ЖАЛТО́ЎСКІ** Іван Уладзіслававіч (27.11. 1867, Пінск — 16.7.1959), савецкі архітэктар. Ганаровы акадэмік АН Беларусі (1947), акадэмік Акадэміі архітэктуры СССР (1939—56), Акадэміі буд-ва і архітэктуры СССР (1956). Засл. дз. навукі і мастацтваў Расіі (1932), засл. дз. мастацтваў Беларусі (1944). Вучыўся ў Пецярбургскай АМ (1887—98). У 1909 атрымаў званне акадэміка архітэктуры. Выкладаў у вышэйшых маст. навучальных установах Масквы. У 1953—59 узначальваў архіт. майстэрню-школу ў ін-це «Маспраект». У ранніх работах выкарыстоўваў кампазіцыйныя прыёмы і архіт. матывы эпохі



У. М. Еўдакімаў.



А. У. Жалдакоў.



І. У. Жалтоўскі.



Л. А. Жлоба.



М. Ф. Жлоба.



Г. У. Заборскі.

Адраджэння, пазней — формы класічнай архітэктуры. Удзельнічаў у складанні праекта плана рэканструкцыі Масквы (1918—23). Аўтар праектаў генплана і планаў шэрага павільёнаў Усерасійскай с.-г. і саматужна-прамысл. выстаўкі ў Маскве (1923), павільёна СССР на Міжнар. выстаўцы ў Мілане (1925—26, Італія), рэканструкцыі Дзяржбанка СССР (1929), жылых дамоў на праспектах Маркса (1930—34), Ленінскім (1949), Міру (1957), Смаленскай пл. (1950) у Маскве і інш. У 1941 пад яго кіраўніцтвам створаны праект гал. плошчы і драматычнага тэатра ў Гомелі. Удзельнічаў у распрацоўцы плана аднаўлення і рэканструкцыі Гомеля (1946). Аўтар прац па тэорыі і практыцы архітэктуры. Пераклаў трактат італьянскага архітэктара Паладыо (выд. 1938). Дзярж. прэмія СССР 1950.

*Літ.:*И. В. Жолтовский: Проекты и постройки. М., 1955.

**ЖДАНО́ВІЧ** Валянцін Піліпавіч (10.6. 1907, г. Кумайры Армянскай ССР — 17.12.1975), беларускі архітэктар. Скончыў ін-т інжынераў прамысл. буд-ва ў Ленінградзе (1934). У 1934—46 працаваў у будаўнічых і праектных арганізацыях гарадоў Горлаўкі Данецкай вобл., Самары, Пугачова, Днепрапятроўска, Запарожжа. З 1946 у Гомелі: старшы прараб, нач. участка будаўнічага ўпраўлення № 19 міністэрства шляхоў зносін, з 1949 гал. інжынер Гомельскага філіяла ін-та «Белдзяржпраект», з 1957 выкладчык Бел. ін-та інжынераў чыг. транспарту. Асн. работы на Беларусі: рэканструкцыя і надбудова чыг. вакзала (1941, у сааўт.), жылыя дамы Бел. рачнога параходства (1949), па вуліцах Савецкай і Леніна (1951—52, усе ў Гомелі), кінатэатр у Рагачове (1951), комплекс дзіцячай бальніцы ў Маладзечне (1952).

**ЖДАНО́ВІЧ** Казімір, беларускі архітэктар. У 1-й пал. 18 ст. ў Нясвіжы, прыдворны архітэктар і будаўнік князёў Радзівілаў. Прадстаўнік архітэктуры барока. Аднавіў і перабудаваў *Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс* (пасля 1726), пабудаваў палацавую капліцу (1740), тэатр Радзівілаў «камедыенгаўз» (1747—48).

**ЖЛО́БА** Людміла Аляксандраўна (н. 16.5.1947, г. Новасібірск), беларускі архітэктар. Скончыла Новасібірскі інжынерна-будаўнічы ін-т (1971). З 1970 працавала ў Новакузнецку ў ін-це «Кемераўграмадзянпраект», з 1973 у ін-це «Мінскпраект» (старшы, вядучы архітэктар, кіраўнік групы). Асн. работы ў Мінску: рэканструкцыя парку імя М. Горкага (1975, у сааўт.) і часткі праспекта Ф. Скарыны (1985), архіт.-ландшафтныя комплексы ўсх. раёнаў горада на аснове *Сляпянскага водна-паркавага паўкальца* (Дзярж. прэмія СССР 1989), добраўпарадкаванне прывакзальнай плошчы аўтавакзала «Маскоўскі» (1990), рэканструкцыя і аднаўленне парку ў Нясвіжы (1990, у сааўт.).

**ЖЛО́БА** Мікалай Фёдаравіч (н. 5.1.1935, Гомель), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1960). З 1952 працаваў у канструктарскім бюро Міністэрства гандлю, з 1962 у Ін-це будаўніцтва і архітэктуры, з 1971 у «Белкамунпраекце», з 1974 у «Мінскпраекце» (гал. архітэктар праектаў). Асн. работы ў Мінску: рэканструкцыя парку імя М. Горкага (1975) і тэр. стадыёна «Дынама» (1980), парк па вул. Матусевіча (1987), архіт.-ландшафтныя комплексы ўсх. раёнаў горада на аснове *Сляпянскага водна-паркавага паўкальца* (Дзярж. прэмія СССР 1989), 17 паркаў і сквераў вакол Сляпянскай водна-паркавай сістэмы (1988), добраўпарадкаванне набярэжнай р. Свіслач ад Камсамольскага воз. да вадасховішча Дразды (1989), парк па праспекце Праўды, парк атракцыёнаў (1990), помнік партызанам-падпольшчыкам братам Сянько (1973, у сааўт.); праект генплана г. Старыя Дарогі (1967), паркі імя Суворава ў Кобрыне (1973), Оршы (1971), Віцебску (1972), Асіповічах (1982), рэканструкцыя і аднаўленне парку ў Нясвіжы (1990, у сааўт.).

**ЖУРАЎЛЁЎ** Іван Сяргеевіч (н. 11.2.1942, г. Куртамыш Курганскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыўшы БПІ (1968), працаваў у Ташкенце. У 1971 і 1983—84 у ін-це «Мінскпраект» (гал. архітэктар праектаў, нач. архіт.-планіровачнай майстэрні), у 1981—83 і з 1987 у гал. упраўленні архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінскага гарвыканкома. У 1984—87 нач. архіт.-канструктарскай майстэрні ін-та «Белдзяржпраект». Адначасова з 1978 выкладае ў БПІ. Кіраўнік творчай майстэрні пры Саюзе архітэктараў Беларусі. Асн. работы ў Мінску: забудова мікрараёна Усход 1 (1980), праекты блок-секцый буйнапанельных жылых дамоў серый М464-9 і М111-90, жылыя дамы ў раёнах Серабранка, Паўднёвы Захад, Ангарская, у 2-м завулку Баграціёна (1973—85), стаматалагічная і дзіцячая паліклінікі ў мікрараёне Паўднёвы Захад 2 (1982, усе ў сааўт.) і інш.

# З

**ЗАБО́РСКІ** Георгій Уладзіміравіч [н. 29.10(11.11).1909, Мінск], беларускі архітэктар. Нар. архітэктар СССР (1981). Засл. будаўнік БССР (1961). Скончыў Ленінградскую АМ (1939). У 1952—64 выкладчык БПІ (дацэнт з 1954). Працаваў у ін-тах «Белдзяржпраект», «Мінскпраект», з 1964 у БелНДІдзіпрасельбудзе (у 1966—79 кіраўнік майстэрні). Гал. кірунак творчасці — грамадзянская і сельская архітэктура. Асн. работы ў Мінску: корпус Лечсанупраўлення (1948, у сааўт.), ансамбль жылых дамоў па вул. Леніна (1949—56), карпусы пед. ін-та імя М. Гор-

кага (1951—59), гасцініца СМ БССР і Літаратурны музей Я. Коласа (1952), тыпавыя праекты райкомаў КПБ і райвыканкомаў (1952—56), рэканструкцыя будынка Мінскага сувораўскага вучылішча, ЦК ЛКСМБ (абодва 1953), аэравакзал «Мінск-1» (1957, у сааўт.), забудова Аўтазаводскай пл. і прылеглага раёна (1955, у сааўт.), Бел. дзярж. музей гісторыі Вял. Айч. вайны (1967), рэканструкцыя пл. Леніна (1947—57), кінатэатр «Піянер» і Дзярж. тэатр лялек (1964). Сааўтар генплана Полацка (1949). З 1966 працуе ў галіне сельскага буд-ва; сааўтар планіроўкі і забудовы вёсак *Верцялішкі* Гродзенскага (1969, Дзярж. прэмія СССР 1971), *Сарачы* і *Рэдкавічы* Любанскага р-наў (усе ў сааўт.), аўтар Палаца культуры, гандлёвага цэнтра з гасцініцай, жылых дамоў у в. *Мышкавічы* Кіраўскага р-на, адм. будынка ў в. *Сноў* Нясвіжскага р-на (усе 1970-я г.) і інш. Работы ў галіне манум. мастацтва: *Манумент Перамогі* і помнік Я. Коласу (1972, у сааўт.) у Мінску, мемарыяльны комплекс Зыслаў (Любанскі р-н).

**ЗАНКÓВІЧ** Валянцін Паўлавіч (н. 5.6. 1937, Мінск), беларускі архітэктар і скульптар. Скончыў БПІ (1959) і Бел. тэатральна-маст. ін-т (1976). Працаваў у ін-це «Мінскпраект» (1960—70). З 1975 удзельнічае ў маст. выстаўках. Асн. работы: мемар. комплексы *Хатынь* (Ленінская прэмія, 1970), *Брэсцкая крэпасць-герой, «Кацюша»*, помнікі М. Гастэлу і яго экіпажу каля г. п. Радашковічы, К. Заслонаву ў Оршы (абодва 1964), падпольшчыкам Асінторфа (1966), камсамолцы-падпольшчыцы Ф. Конанавай у г. Любань (1967, усе ў сааўт.) і інш. Аўтар помнікаў кулямётнаму разліку (1975) перад уваходам у музей «Белавежская пушча» (Камянецкі р-н), падпольшчыкам в. Лошыца 2-я (цяпер у межах Мінска) і жыхарам в. Брусы Мядзельскага р-на, якія жывымі былі спалены гітлераўцамі (абодва 1980), дэкар. скульптуры «Арфей» каля Мінскага муз. вучылішча (1979), дэкар. кампазіцый «Бег» на стадыёне «Дынама» (1980), «Зіма» (1982) і абеліск *Мінск — «горад-герой»* (1985) на праспекце Машэрава ў Мінску, манум.-дэкар. кампазіцыі «Ручнікі» (1983) каля Палаца культуры вытв. аб'яднання «Хімвалакно» ў Магілёве. Прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1967.

**ЗАСЛÁЎСКІ** Яўген Львовіч (н. 24.5.1920, г. Александрыя Кіравагpадскай вобл.), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1980). Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1949). Канд. архітэктуры (1961). У 1962—72 нам. гал. архітэктара Мінска. З 1973 у БелНДІПгорадабудаўніцтва (з 1978 заг. аддзела цэнтраў гарадоў), у 1960—80 адначасова выкладчык БПІ. Асн. работы ў Мінску: будынак Бел. таварыства дружбы і культ. сувязі з зарубежнымі краінамі (1956), жылыя дамы па вул. Казлова (1958), праект планіроўкі і забудовы жылога раёна Чыжоўка (1964, у сааўт.). Адзін з аўтараў генпланаў (1965, 1980) і праекта дэталёвай планіроўкі і забудовы цэнтра (1974) Мінска, схем фарміравання гар. і сельскіх населеных месцаў Беларусі на 2000 год (1975) і раённай планіроўкі Мінскай, Гомельскай, Брэсцкай, Магілёўскай абл. (1977), схемы рассялення Беларусі (1981). Аўтар прац па архітэктуры і горадабудаўніцтву.

*Тв.:* Общественные центры районных населенных мест БССР: (Планировка и застройка). М., 1963; Минск: Послевоенный опыт реконструкции и развития. М., 1966 (у сааўт.); Что такое архитектура. Мн., 1978; Градостроительство Белоруссии. Мн., 1988 (у сааўт.).

**ЗІГФРЫ́ДАН** Іван (Іаган З і г ф р ы д), беларускі архітэктар. З 1772 губернскі архітэктар Полацкай, з 1796 Віцебскай, з 1799 Беларускай губерняў. Творчасць была пераходнай ад барока да класіцызму. Створаныя ім пабудовы вылучаюцца манументальнасцю і рацыянальнасцю planіровачных вырашэнняў. Асн. работы: палац віцэ-губернатара і дом каменданта ў Віцебску (абодва 1780, не захаваліся), комплекс жылых і адм. будынкаў на *Полацкайараднай плошчы* (1783—86) і план-чарцёж Полацка (1793), тыпавыя праекты казённых дамоў (суд, магістрат, магазіны), якія ў 1780—95 сфарміравалі ансамблі цэнтраў Дрысы, Рэжыцы (цяпер г. Рэзекне, Латвія), Гарадка і інш.

**ЗРАЖЭ́ЎСКІ** Васіль Іванавіч (20.4. 1776—3.1.1837), беларускі архітэктар. Прадстаўнік класіцызму. Скончыў Пецярбургскую АМ (1797). У 1805—12 Магілёўскі губернскі архітэктар. Аўтар праектаў у Магілёве астрога і дома для рэктара і прэфекта (тып гарадскога жылога дома; гл. *Магілёўскай духоўнай семінарыі будынкі*, 1808), у Мсціславе Троіцкага сабора (каля 1810), выканаў праекты мураваных цэркваў для Магілёва.

**ЗЭЙДЭЛЬ** Іван (Іаган Георг) (? — пасля 1787), беларускі архітэктар. У 1764—67 кіраваў будаўніцтвам Рундальскага палаца (узведзены ў 1736—40 у стылі барока каля г. Бауска, Латвія, арх. В. Растрэлі). У 1777—86 Магілёўскі губернскі архітэктар. У 1774—75 стварыў праект будынка павятовых устаноў для гарадоў Магілёўскай губ.— Оршы, Рагачова і Мсціслава (узведзены ў 1780). У 1778—84 пад яго кіраўніцтвам ажыццёўлена забудова гал. плошчы горада — Губернатарскай. Распрацаваў тыпавыя праекты правіянцкага склада, правіянцкага і салянога магазінаў для гарадоў Магілёўскай і Полацкай губерняў.

# І

**ІАÁН**, І в а н, беларускі дойлід 12 ст., прадстаўнік *Полацкай школы дойлідства.* Пабудаваў у сярэдзіне 12 ст. Спаса-Ефра-



В. П. Занковіч.



Я. Л. Заслаўскі.



І. А. Іода.



Я. К. Казлоў.



А. П. Калніньш.

сіннеўскую царкву ў Полацку (гл. ў арт. *Полацкі Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр).* Верагодна, удзельнічаў у стварэнні *Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра*, дзе пабудаваў 3 царквы.

**ІВА́НЧАНКА** Фёдар Мацвеевіч (н. 6.10. 1929, в. Александрыя Шклоўскага р-на), беларускі архітэктар. Скончыў саратаўскія будаўнічы тэхнікум імя Леніна (1950) і політэхнічны ін-т (1967). З 1952 працаваў у праектных арганізацыях Саратава. З 1968 у Мінску ў ін-це «Белдзяржпраект», у 1971—89 у ін-це «Мінскграмадзянпраект». Асн. работы на Беларусі: інтэрнат Дзяржбуда Беларусі (1972), будынак ін-та «Мінскграмадзянпраект» (1972, у сааўт.) у Мінску; туберкулёзны дыспансер (1975) і анкалагічная бальніца (1986, у сааўт.) у в. Бараўляны Мінскага р-на; забудова г. Салігорска і яго адм.-грамадскага цэнтра (1968—86, кіраўнік аўт. калектыву). Сярод інш. работ: гасцініца «Саратаў» (1963), Палац культуры з-да тэхн. шкла (1967), абл. Дом Саветаў на пл. Рэвалюцыі (1969, у сааўт.) у Саратаве; санаторый «Волга» ў Энгельскім р-не Саратаўскай вобл. (1968, у сааўт.).

**ІДЗКО́ЎСКІ** (Idźkowski) Адам (24.12. 1798—3.5.1879), польскі архітэктар. Чл. Акадэміі прыгожых мастацтваў у Фларэнцыі. Скончыў Варшаўскі ун-т (1822), выкладаў там жа. Работы на Беларусі: рэканструкцыя і дабудова палаца, планіроўка парку *Гомельскага палацава-паркавага ансамбля*; палац, гасп. пабудовы і пахавальня ў в. Трылесіна (Горацкі р-н).

**ІО́ДА** Ірына Антонаўна (н. 5.10.1932, Мінск), беларускі архітэктар. Д-р архітэктуры (1987), прафесар (1989). Скончыла БПІ (1959). Працавала ў ін-це «Мінскпраект», Ін-це буд-ва і архітэктуры Дзяржбуда Беларусі, з 1981 заг. навук. аддзела Бел. дзярж. н.-д. і праектнага ін-та горадабудаўніцтва Дзяржбуда Беларусі, адначасова выкладчык (з 1967) БПІ. У навук. працах (больш за 100) даследуе тэарэтычныя і метадалагічныя асновы горадабудаўніцтва, фарміраванне і развіццё сеткі населеных месцаў. Адзін з аўтараў «Схемы размяшчэння і развіцця гарадскіх і сельскіх паселішчаў БССР да 2000 года» (1975), а таксама «Генеральнай схемы комплекснай тэрытарыяльнай арганізацыі БССР» (1987).

*Тв.:* Основы градостроительства: Теория, методология. Мн., 1983; Градостроительство Белоруссии. Мн., 1988 (у сааўт.).

**ІЎЖАНКА** Юрый Сяргеевіч (н. 27.5.1947, г. Вінаградаў Закарпацкай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў Львоўскі політэхнічны ін-т (1972). З 1972 працаваў у ін-це «Магілёўграмадзянпраект», з 1981 гал. архітэктар Магілёва, з 1987 гал. архітэктар ін-та «Магілёўграмадзянпраект», з 1990 кіраўнік творчай майстэрні пры Саюзе архітэктараў Беларусі і гал. архітэктар праектаў ін-та «Магілёўграмадзянпраект». Асн. работы ў Магілёве: інтэр'еры магазіна «Залатая рыбка», будынкі Кастрычніцкага райвыканкома (1981, у сааўт.), інспекцыі Дзяржстраха (1981), 70-кватэрны жылы дом па зав. Мігая (1982, у сааўт.), Упраўленне ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкома (1983), цір лучнікаў «Робін Гуд» (1984, у сааўт.).

# К

**КАЗЛО́Ў** Яўген Кузьміч (н. 2.8.1937, Магілёў), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1962). Засл. архітэктар Беларусі (1985). З 1962 працуе ў ін-це «Гомельграмадзянпраект» (з 1984 нам. дырэктара па архітэктуры) у галіне горадабудаўніцтва. Асн. работы: жылы раён Аэрадром (1967—70), мікрараёны № 11 (1978), № 12 (1979, у сааўт.), № 17 (1986, у сааўт.), у жылым раёне Волатава, № 35 і Крышталь па вул. Ільіча (1975, у сааўт.) у Гомелі; прымаў удзел у праектаванні мікрараёнаў Рагачова, Рэчыцы, Светлагорска.

**КАЛНІНЬШ** Альберт Пятровіч (н. 30.9. 1928, Мінск), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1980). Скончыў БПІ (1958). Працуе ў БелНДІдзіпрасельбудзе (з 1976 кіраўнік архіт. майстэрні). Асн. работы: генплан і праект дэталёвай планіроўкі г. Чавусы (1963—67), у сааўтарстве праекты планіроўкі і забудовы вёсак Леніна Горацкага (1965—75), Сяменча Жыткавіцкага (1970—78), Сноў Нясвіжскага (1970—80), Расна Камянецкага (1975—80); комплексны праект Усакіна Клічаўскага і Жамчужны Баранавіцкага (абодва 1979—85) р-наў; мемарыял Вязень-Сялец (1985) у Клічаўскім р-не, помнік У. І. Леніну ў Клічаве (1985). Аўтар публікацый па пытаннях архітэктуры і капітальнага буд-ва на вёсцы.

**КА́ЛЬНІН** Пётр Іванавіч (1872, Адэса — пасля 1917), беларускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскі ін-т грамадзянскіх інжынераў (1896). Працаваў малодшым архітэктарам будаўнічага аддзялення Магілёўскага губернскага праўлення, у 1906—07 гарадскі, у 1907—17 Магілёўскі губернскі архітэктар. Паводле яго праектаў узведзены ў Магілёве дваранскі банк, будынак Магілёўскага крэдытнага таварыства і царква Трох Свяціцеляў (апошняй таксама і кіраўнік будаўніцтва), у Шклове гарадская бойня і папяровакардонны з-д; выкананы 2 эскізныя праекты будынка Магілёўскага пазямельнасялянскага банка (выкарыстаны ў значнай ступені аўтарам праекта арх. А. Друкерам, інтэр'еры асобных памяшканняў выкананы па яго эскізах; ажыццяўляў тэхнічны нагляд за будаўніцтвам), з мэтай рэстаўрацыі абследаваў Магілёўскую Мікалаеўскую царкву (1901, з арх. П. Па-

крышкіным). У 1913 распрацаваў праекты будынкаў земства і рамеснай школы для Быхава, гандл. крам для Оршы, астрога для Рагачова, яўрэйскай гімназіі для Магілёва, рамеснай школы для Клімавіч. Да 1972 у Магілёве на Піянерскай вул. існаваў прыватны жылы 1-павярховы дом К. (знесены).

**КА́МБУРАЎ** Пётр Георгіевіч (1860 — пасля 1914), беларускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскі ін-т грамадзянскіх інжынераў (1885). З 1887 працаваў у Магілёве (у 1892—95 губернскі, у 1895—1914 гарадскі архітэктар). Пабудаваў гарадскі тэатр (1886—88, з У. Мільяноўскім; гл. *Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра будынак), Магілёўскага жаночага епархіяльнага вучылішча будынак* (1889—92, з М. Маркавым), *Магілёўскага банка будынак* (1904—06), шмат жылых дамоў і культавых будынкаў у Магілёве і Магілёўскай губ.

**КАРА́КА** Віктар Іванавіч (н. 29.7.1948, Гродна), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1972). У 1972—76 і з 1985 у ін-це «Белдзяржпраект» (гал. архітэктар праектаў, кіраўнік аддзела, адначасова з 1989 кіраўнік творчай майстэрні пры Саюзе архітэктараў Беларусі. У 1976—85 у БелНДІПгорадабудаўніцтва. Асн. работы: судзейскі домік на гоначным кальцы «Баравая» (1979), рэканструкцыя мінскай СШ № 4 (1979); маладзёжны цэнтр «Мінск» (1980, Прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1982) і гандлёва-грамадскі цэнтр 6-га мікрараёна ў Наваполацку (1986); гасцініца маладзёжнага турызму ў Брэсце (1986); гараж і адм. будынак Упраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома па вул. Апанскага ў Мінску (1990).

**КАРАТКО́Ў** Аркадзь Цімафеевіч (н. 26.5.1939, г. Полацк), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1967). У 1961—62 у ін-це «Мінскпраект» — тэхнік-архітэктар, у 1967—1970 у Віцебскім філіяле Белдзяржпраекта (кіраўнік групы), у 1971—1988 у БелНДІПгорадабудаўніцтва (кіраўнік групы, гал. архітэктар праектаў, гал. архітэктар майстэрні, у 1988—1990 кіраўнік архітэктурна-планіровачнага бюро пры аддзеле архітэктуры і горадабудаўніцтва Наваполацкага гарвыканкома, з 1990 — галоўны архітэктар г. Наваполацка. Асн. работы: усе ў Наваполацку — забудова мікрараёнаў № 5 (1969—75) і № 7 (1980—90), школа рабочай моладзі ў мікрараёне № 3 (1977—80), 5—6-павярховыя жылыя дамы па вул. Маладзёжнай (1968—79); работы, выкананыя сумесна з Ю. Шпітам — школа са спартыўным ухілам (1977—85), вучэбна-вытворчы камбінат нафтаправода «Дружба» (1981—83), 13-павярховы інтэрнат (1975) і інш. Дзяржаўная прэмія БССР 1984 за планіроўку і забудову Наваполацка.

**КА́РГЕР** Міхаіл Канстанцінавіч [17(30).5. 1903, Казань — 26.8.1976], савецкі археолаг і мастацтвазнавец. Д-р гіст. навук (1959), прафесар (1949). Скончыў Петраградскі ун-т (1923). З 1949 заг. кафедры гісторыі мастацтва Ленінградскага ун-та, заг. Ленінградскага аддзялення Ін-та археалогіі АН Расіі (1964—72). Вывучаў славяна-рус. археалогію і гісторыю стараж.-рус. культуры і мастацтва. З сярэдзіны 1950-х г. даследаваў архіт. помнікі ў Полацку, Віцебску, Тураве, Навагрудку, Ваўкавыску, зрабіў дэталёвае апісанне, вызначыў іх асаблівасці і архіт. школы. Дзярж. прэмія СССР 1952.

*Тв.:* Новый памятник зодчества XII века в Турове // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1965. Вып. 100; К вопросу о памятниках зодчества XII в. в Волковыске // Славяне и Русь. М., 1968; К истории полоцкого зодчества XII в.: (Руины вновь открытого храма на Верхнем замке) // Новое в археологии. М., 1972.

**КАРО́ЛЬ** Уладзімір Адамавіч (14.12.1912, г. Чэрвень — 26.5.1980), беларускі архітэктар, дзярж. дзеяч БССР. Засл. будаўнік БССР (1962). Нар. архітэктар СССР (1970). Правадзейны чл. АМ СССР (1979). Скончыў Усерасійскую АМ у Ленінградзе (1941). З 1945 нам. начальніка, з 1951 нач. Упраўлення па справах архітэктуры пры СМ БССР, у 1955—79 старшыня Дзярж. камітэта БССР па справах буд-ва, адначасова з 1959 заг. кафедры горадабудаўніцтва БПІ. Зрабіў значны ўклад у развіццё і станаўленне будаўнічай індустрыі рэспублікі. Сярод работ у Мінску: праекты планіроўкі і забудовы Ленінскага праспекта і Цэнтральнай пл. (у аўт. калектыве; Дзярж. прэмія БССР 1968), будынак Гал. тэлеграфа, *Мінскі галоўны паштамт* (абодва ў сааўт.), *манумент Перамогі* і інш. Адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу *Брэсцкая крэпасць-герой.* Рэдактар бюлетэня «Строительство и архитектура Белоруссии». Аўтар прац па архітэктуры і горадабудаўніцтву Беларусі. Дэп. Вярхоўнага Савета БССР у 1955—80. Яго імем названы вуліца ў Мінску, школа ў Чэрвені. На доме ў Мінску, дзе жыў К., устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Тв.:* Архитектурный облик будущего Минска. Мн., 1953; Минск: Послевоенный опыт реконструкции и развития. М., 1966 (у сааўт.).

**КАРЧЭ́ЎСКІ** Мікалай Фёдаравіч (1824— пасля 1900), беларускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскае будаўнічае вучылішча (1844, грамадзянскі інжынер). Працаваў губернскім архітэктарам Камянец-Падольскага (1848), Разані (1885—90). У 1870—85 Віцебскі губернскі інжынер. У Віцебску паводле яго праекта (з інж. А. А. Палонскім) і пад яго кіраўніцтвам узведзены 3-павярховы будынак мужчынскай гімназіі (1880), перабудаваны пад гарадскі тэатр 2-павярховы будынак б. паліцэйскага аддзялення (1870-я гады), рэканструяваны 2-павярховы жылы дом, прыстасаваны пад публічную бібліятэку (1883). Удзельнічаў у праектаванні і ўзвядзенні *Віцебскага акруговага суда будынка* (1882, арх. Л. П. Камінскі), выканаў праекты добраўпарадкавання


В. І. Карака.


А. Ц. Караткоў.


У. А. Кароль.

Замкавай гары (1881, ажыццявіў) і 1-павярховага мураванага будынка бальніцы (1884). Ажыццяўляў тэхнічны нагляд за буйнымі грамадскімі і дзярж. збудаваннямі Віцебска і губерні.

**КАРЭЎ** (Karew) Францішак (10.12.1731, Аршанскі пав.— 30.7.1802, Полацк), беларускі архітэктар. Прадстаўнік архітэктуры барока. Прафесар архітэктуры. У 1754 уступіў у ордэн езуітаў. Вучыўся ў езуіцкіх калегіумах Оршы і Пінска, архітэктуры ў Полацкім езуіцкім калегіуме пад кіраўніцтвам Габрыеля Лянкевіча. У 1769—72 выкладаў філасофію і матэматыку ў Полацкім калегіуме езуітаў, у 1772—74 кіраўнік кафедры архітэктуры, з 1786 рэктар. У 1779—86 рэктар езуіцкага калегіума ў Оршы. У 1769—72 кіраваў буд-вам езуіцкага касцёла ў Полацку.

**КАСПЯРО́ВІЧ** Мікалай Іванавіч [9(22).5. 1900, в. Ізабалёва Пухавіцкага р-на — 3.4.1945], беларускі краязнавец, мастацтвазнавец і літаратуразнавец. Скончыў Мінскі ін-т нар. асветы (1921). У 1926—29 навук. сакратар Цэнтр. бюро краязнаўства пры Інбелкульце, потым АН Беларусі. Вывучаў гісторыю выяўленчага мастацтва, архітэктуру, сучасную графіку (артыкулы «Асноўныя моманты ў гісторыі беларускага дойлідства», «Віцебская архітэктура ў гістарычнай перспектыве», «Мінск у графіцы А. М. Тычыны», «Краязнаўства ў сучаснай графіцы» і інш.). Аўтар агульнага нарыса па архітэктуры Беларусі «Беларуская архітэктура» (Віцебск, 1925).

**КАСЯКО́Ў** Аляксандр Іванавіч (н. 12.5. 1914, г. Гомель), беларускі архітэктар. Скончыў Харкаўскі інж.-будаўнічы ін-т (1941), у 1945—56 працаваў у Гомельскім філіяле ін-та «Белдзяржпраект», з 1957 гал. архітэктар Гомеля, з 1965 кіраўнік маст.-канструктарскіх майстэрняў, з 1968 кіраўнік архіт.-маст. майстэрні Гомельскага аблспажывсаюза, у 1971—73 кіраўнік маст. майстэрні Гомельскага камбіната добраўпарадкавання. Асн. работы (усе ў Гомелі): будынкі ўпраўлення КДБ Гомельскай вобл. (1948), дарожна-будаўнічага тэхнікума (1952, у сааўт.), павільён на калгасным рынку (1949), генплан Гомеля (1963, у аўтарскім калектыве), жылыя дамы па вул. Савецкай (1950) і па праспекце Леніна (1963).

**КА́ЦАР** Міхаіл Сяргеевіч [н. 25.10(7.11). 1906, в. Клімавічы Сенненскага р-на], беларускі гісторык мастацтва, педагог. Д-р мастацтвазнаўства (1952), праф. (1956). Скончыў Маскоўскі ін-т гісторыі, філасофіі і л-ры (1939). З 1946 у АН БССР: да 1950 у Ін-це мовы, л-ры і мастацтва (з 1947 заг. сектара выяўленчага мастацтва), з 1950 у Ін-це л-ры і мастацтва, у 1957—73 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (у 1957—64, 1969—70 заг. сектараў выяўленчага мастацтва і збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі). Адначасова ў 1953—56 заг. кафедры выяўленчага мастацтва Бел. тэатральна-маст. ін-та. Аўтар кніг па гісторыі бел. стараж. і сав. выяўленчага дэкар.-прыкладнога мастацтва і архітэктуры, асобных артыкулаў для «Гісторыі мастацтва народаў СССР» (т. 3, 1974; т. 4, 1976; т. 7, 1972; т. 8, 1977).

*Тв.:* Белорусская архитектура: Ист. очерк. Мн., 1956.

**КВАРЭ́НГІ,** Гварэнгі (Quarenghi) Джакома [20 або 21.9.1744, Вале-Іманья, каля Бергама ў Ламбардыі — 18.2(2.3). 1817], рус. архітэктар. Прадстаўнік класіцызму. Італьянец. З 1763 вучыўся ў Рыме жывапісу, архітэктуры. З 1780 у Расіі. Сярод значных работ: Аляксандраўскі палац у Царскім сяле (сучасны г. Пушкін, 1792—96), Акадэмія навук (1783—89), Эрмітажны тэатр (1783—87), Смольны ін-т (1806—08) у Пецярбургу. На Беларусі ў Полацку паводле яго праекта (1782) пабудаваны *Полацкі Богаяўленскі манастыр* — царква і 2-павярховы жылы корпус (у ім знаходзіліся келлі манахаў).

*Літ.:* Морозов В. Ф. Комплекс Богоявленского монастыря в Полоцке: (К вопросу о творчестве Д. Кваренги в Белоруссии) // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1978. № 2.

**КВІТНІ́ЦКАЯ** Алена Дзмітрыеўна (8.10. 1919, Масква — 5.7.1981), савецкі гісторык архітэктуры. Канд. тэхн. навук (1947). Скончыла Маск. архіт. ін-т (1941). Працавала ў Цэнтр. НДІ прамысл. збудаванняў (1941—47), Цэнтр. НДІ тэорыі і гісторыі архітэктуры (1948—81). Аўтар прац па гісторыі архітэктуры Беларусі, у якіх разглядала пытанне планіроўкі і забудовы населеных месцаў, крэпасцей. Упершыню даследавала шмат помнікаў жылой, грамадскай культавай архітэктуры: «Старыя гарадскія драўляныя дамы паўднёва-заходняй Беларусі», 1961; «Планіроўка Гродна ў XVI—XVIII стст.», 1964; «Малавядомыя зальныя збудаванні Беларусі канца XV— пачатку XVI ст.», 1967; «Калегіумы Беларусі XVII ст.», 1969; «Адміністрацыйныя будынкі Беларусі канца XVIII ст.» і «Беларускія калегіумы XVIII ст.», 1972; «Планіроўка Бабруйскай крэпасці», 1976; і інш. (усе ў зб. «Архітэктурная спадчына»); «Архітэктура Беларусі: Архітэктура XIV—XVIII стст.» (у кн. «Усеагульная гісторыя архітэктуры». М., 1968. Т. 6). Чл. рэдкалегіі навук. зборнікаў «Архітэктурная спадчына» і «Праблемы гісторыі архітэктуры народаў СССР», адзін з аўтараў энцыклапедыі «Мастацтва краін і народаў свету» (т. 1—4, 1962—78).

**КЕСКЕ́ВІЧ** Валерый Георгіевіч (н. 19.8. 1951, Брэст), беларускі архітэктар. Скончыў Брэсцкі інж.-будаўнічы ін-т (1973). У 1973 працаваў у Гродзенскім філіяле ін-та «Белкалгаспраект», з 1974 у ін-це «Брэстграмадзянпраект» (з 1986 гал. архітэктар праектаў). Асн. работы (усе ў Брэсце): комплекс гаражоў (1978, у сааўт.), будынак выдавецтва газеты «Зара» (1984, у сааўт.), жылы дом на бульвары Касманаўтаў (1985, у сааўт.), *Брэсцкі аэравакзал* (1986, у сааўт., Дзярж. прэмія БССР 1988). З 1975 удзельнічае ва



В. Г. Кескевіч.

ўсесаюзных і міжнар. архітэктурных конкурсах. Лаўрэат міжнар. конкурсу ЮНЕСКА і Міжнар. саюза архітэктараў «Жыллё — заўтра» (1984).

**КІБА́РДЗІН** Ціхан Васілевіч (1863, г. Слабадской Кіраўскай вобл., Расія — 1.11. 1933), беларускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскую АМ (1890). Працаваў у Віцебску малодшым архітэктарам будаўнічага аддзялення Віцебскага губернскага праўлення, потым да 1924 гарадскім архітэктарам (з 1923 губернскім). Пад яго кіраўніцтвам у 1890 і 1902 распрацаваны генеральныя планы Віцебска, у 1912 кіраваў будаўнічымі работамі пры ўзвядзенні *Віцебскага помніка героям Айчыннай вайны 1812* (арх. І. Фамін). У канцы 19 — пач. 20 ст. паводле яго праектаў пабудаваны банк (па вул. Талстога), бровар і дрожджавы з-д, казармы 41-й артылерыйскай брыгады, перабудаваны пасля пажару 1887 гарадскі тэатр (пабудаваны ў 1845) і бальніца (пабудавана ў 1820). У канцы 19 — пач. 20 ст. для гал. архітэктара горада пабудаваны дом № 6 па вул. камісара Крылова.

*Літ.:* Губенка В. М. Дойлід // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 2.

**КЛАРК** (Clark) Джон, беларускі архітэктар і будаўнік 1-й пал. 19 ст. Па паходжанні англічанін. Прадстаўнік архітэктуры класіцызму. У 1800—26 жыў і працаваў у Гомелі. Работы: сядзібны комплекс на беразе р. Сож (1802, не збярогся), бакавыя флігелі палаца *Гомельскага палацава-паркавага ансамблю* (перабудаваны пры рэканструкцыі 1837—48), царква (1805), *Гомельскі Петрапаўлаўскі сабор, Гомельскага духоўнага вучылішча будынак*, гандлёвыя рады з вежай (згарэлі ў 1865), *Гомельскай ланкастэрскай школы будынак*, бальніца (1819, перабудавана ў 20 ст.), касцёл (1822, не збярогся), *Гомельскага «рускага тракціра» будынак*, царква ў в. Гадзілавічы Рагачоўскага р-на (1822, не збераглася).

**КЛЯМЕ́НЦЬЕЎ** Аляксандр Мікалаевіч (1852 — пасля 1917), беларускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскае будаўнічае вучылішча (1879, грамадзянскі інжынер). Працаваў малодшым архітэктарам будаўнічага аддзялення Віцебскага губернскага праўлення, у 1887—90 Віцебскі губернскі інжынер, адначасова ў 1878—90 Полацкі епархіяльны архітэктар. З 1878 ажыццяўляў тэхнічны нагляд за буд-вам у Віцебску і павятовым горадзе Веліжы. Паводле праекта К. пабудаваны *Віцебскага духоўнага вучылішча будынак* (1890), флігель наглядчыка пры губернатарскім доме (1872), расшыраны будынак лазарэта для жаночага духоўнага вучылішча, рэканструяваны пасля пажару будынак гарадскога тэатра (1888—90). К. распрацаваны праекты гарадскога клуба, будынкаў губернскага праўлення ў Віцебску, астрога ў в. Струнне (Полацкі р-н).

**КО́ЛІ** Мікалай Джэмсавіч [Якаўлевіч; 5(17).8.1894, Масква — 3.12.1966], савецкі архітэктар. Правадзейны чл. Акадэміі архітэктуры СССР (з 1950) і Акадэміі буд-ва і архітэктуры СССР (з 1957). Скончыў Вышэйшыя маст.-тэхн. майстэрні ў Маскве (1922). Працаваў у Маскоўскім вышэйшым тэхн. вучылішчы імя Баўмана, Маскоўскім архіт. ін-це (1920—41). Работы: асн. збудаванні Днепрагэса (1927—32, у сааўт.), жылыя кварталы ў г. Запарожжа (1927—32), станцыі метрапалітэна «Кіраўская» (1935) і «Павялецкая-кальцавая» (1949) у Маскве, праекты аднаўлення г. Цвер (1945), Рыгі (1946) і інш. Адзін з аўтараў «Эскіза планіроўкі Мінска» (1944), праекта стадыёна *«Дынама»* ў Мінску (1947—54).

**КО́МАР** Віктар Іванавіч (5.5.1932, г. Чугуеў Харкаўскай вобл.— 21.8.1990), беларускі архітэктар. Скончыў Новасібірскі інж.-будаўнічы ін-т імя В. У. Куйбышава (1957). З 1958 працаваў у праектных арганізацыях г. Новакузнецк Кемераўскай вобл. З 1969 у ін-це «Гомельграмадзянпраект» (у 1985—88 гал. архітэктар тэхн. аддзела). Асн. работы (усе ў Гомелі): будынак Гомельскага абкома КПБ (1978, у сааўт.), 12-павярховы жылы дом у мікрараёне № 51 (1988), 16-павярховы жылы дом па Рэчыцкай шашы (1989), Палац культуры вытв. аб'яднання «Гомсельмаш» на праспекце Касманаўтаў (1989), мемарыяльны сквер па вул. Білецкага (1987).

**КО́РШЫКАЎ** Уладзімір Фёдаравіч (1858—1920), беларускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскі ін-т грамадзянскіх інжынераў (1886). Працаваў малодшым інжынерам будаўнічага аддзялення Віцебскага губернскага праўлення, у 1895—1902 губернскі архітэктар, у 1902—17 губернскі інжынер Віцебска, адначасова ў 1895—1917 Полацкі епархіяльны архітэктар. З 1887 ажыццяўляў тэхнічны нагляд за будаўніцтвам у павятовых гарадах губерні Лепелі, Себежы, Люцыне, Рэчыцы. Паводле праектаў К. і пад яго кіраўніцтвам пабудаваны ў Полацку Крыжаўзвіжанская царква (1897), у Віцебску жаночая Марыінская гімназія (1902), рэканструяваны будынкі духоўнай кансісторыі (1900) і губернатарскага дома (1916), вялося буд-ва пазямельна-сялянскага банка (1912—15, аўтар інж. К. Тарасаў). Выканаў праекты цэркваў і ажыццяўляў іх буд-ва ў вёсках Нача і Марцінава Лепельскага пав., Старая Слабада Люцынскага пав., Чурылава (1900) і Нова-Замшаны (1905) Дрысненскага пав.; Астроўскае і Таралева (1903) Віцебскага пав. (перабудова апошніх), праектаваў і будаваў царкоўнапрыходскія школы, жылыя дамы.

**КРАМАРЭ́НКА** Віктар Уладзіміравіч (н. 11.6.1945, Гродна), беларускі архітэктар. Пасля сканчэння БПІ (1968) працаваў у ін-це «Белдзяржпраект», з 1976 у ін-це «Мінскпраект» (гал. архітэктар ін-та, нам. дырэктара, нач. архіт.-канструктарскай майстэрні), з 1990 адначасова кіраўнік персанальнай творчай майстэрні Саюза архітэктараў Беларусі,



А. М. Кулагін.

выкладае ў БПІ (дацэнт). Найбольш значныя работы: будынак тэатра драмы і камедыі (1977) у Бабруйску, археалагічны музей «Старажытнае Бярэсце» на тэр. мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой» (1978, у сааўт.) у Брэсце; кінатэатр *«Масква»* (1980), навучальна-лабараторны корпус Ін-та механізацыі сельскай гаспадаркі на праспекце Ф. Скарыны (1986), Палац культуры рэспублікі на Кастрычніцкай пл. (будуецца, 1991), архіт.-скульпт. комплекс *«Мінск — горад-герой»* на праспекце Машэрава (1985), станцыя Мінскага метрапалітэна «Трактарны завод» (1990) у Мінску; помнік змагарам за Сав. ўладу «Рудабельская рэспубліка» ў г. п. Акцябрскі Гомельскай вобл. (1984, усе ў сааўт.).

**КРА́МЕР** Фёдар Аляксандравіч, беларускі архітэктар. Прадстаўнік класіцызму. У канцы 18 — пач. 19 ст. Мінскі губернскі архітэктар. Работы: перабудова *Мінскай ратушы,* дом віцэ-губернатара (1800), перабудовы базыльянскага манастыра пад дваранскае вучылішча (1799), езуіцкай школы пад дом губернатара, езуіцкага калегіума пад адм. будынак (усе 1800), будынак губ. паштовай канторы (каля 1807) у Мінску, адм. будынак у Пінску, перабудова езуіцкага манастыра пад адм. будынак у Бабруйску (абодва 1800) і інш.

**КРАСНЯ́НСКІ** Уладзімір Гаўрылавіч [9(21).7.1863, с. Руціна Балагоўскага р-на Калінінскай вобл.— 4.5.1930], беларускі краязнавец, педагог. Пасля сканчэння Пецярбургскага гісторыка-філалагічнага ін-та (1886) на выкладчыцкай рабоце ў Беластоку, Мінску (1896—1903), Мсціславе (1906), Віцебску (з 1911). Актыўна супрацоўнічаў у Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (1911—18), Т-ве аховы помнікаў старажытнасці і мастацтва (1918—24), акруговым таварыстве краязнаўства (1924—28). Зрабіў значны ўклад у захаванне і сістэматызацыю музейных каштоўнасцей Беларусі. Аўтар прац па стараж. бел. архітэктуры і горадабудаўніцтву: «Горад Мсціслаў (Магілёўскай губерні)» (1912), «Чарцёж» места Віцебска 1664 г. як дакументальны помнік да гісторыі беларускага драўлянага будаўніцтва» (1928) і інш.

**КРЫВАШЭ́ЕЎ** Сяргей Паўлавіч (н. 5.1. 1944, г. п. Старобін Салігорскага р-на), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1967). З 1967 у ін-це «Гомельграмадзянпраект». Асн. работы: генпланы Гомеля (1977), Мазыра (1981), Рэчыцы (1980, усе ў сааўт.), праекты дэталёвай планіроўкі цэнтра (1979) і жылых раёнаў Валатава (1985) у Гомелі, па вул. Інтэрнацыянальнай у Мазыры (1986), Светлагорскай шашы ў Рэчыцы (1983), забудова мікраараёнаў № 5 (1990), 5а, 16, 17, 19, 20, 21, 53 (забудоўваюцца, 1990) у Гомелі.



В. Б. Ладыгіна.

**КУДЗІНЕ́НКА** Анатоль Дзмітрыевіч (н. 23.1.1940, с. Ленінскае Ленінскага р-на Хабараўскага краю), беларускі архітэктар, педагог. Канд. архітэктуры (1972). Скончыў БПІ (1963). З 1963 у ін-це «Гомельграмадзянпраект», з 1967 у ін-це «Брэстграмадзянпраект», з 1974 выкладчык Брэсцкага інж.-будаўнічага ін-та (з 1974 заг. кафедры, з 1984 дацэнт). Асн. работы: генпланы гарадоў Калінкавічы (1965), Драгічын (1973), планіроўка турбазы «Белае возера» ў Брэсцкім р-не (1970—73), забудова мікраараёнаў № 1, 2 і па вул. Набярэжнай у Брэсце (1967—75), праекты жылых дамоў у г. Шклоў (1989), г. п. Барань Аршанскага р-на (1990) і інш.

*Тв.:* Планировка и застройка сельских населённых мест. Мн., 1984; Районная планировка и региональное расселение. Мн., 1986 (разам з І. Д. Белагорцавым, В. М. Саламеннікам).

**КУДРА́ЎЦАЎ** Дзмітрый Пятровіч (н. 22.10.1931, в. Пакроўка Гайскага р-на Арэнбургскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе (1958). У 1958—60 працаваў у ін-це «Белдзяржпраект», у 1960—75 у ін-це «Мінскпраект», у 1975—78 у ін-це «Белжылпраект», з 1978 у ін-це «Мінскпраект» (гал. архітэктар праектаў). Асн. работы (усе ў Мінску): 9-павярховы жылы дом з магазінам «1000 дробязей» (1959), 11-павярховыя жылыя дамы на бульвары Луначарскага (1965—72), 2-я чарга гасцініцы «Мінск» (1969; усе ў сааўт.), забудова 3-й чаргі Ленінскага праспекта (1970), будынкі НДІ сродкаў аўтаматызацыі на праспекце Ф. Скарыны (1977, у сааўт.), музычнай школы па вул. Радзістаў (1973), рэканструкцыя будынка тэатра імя Я. Купалы (1977), інж. корпус Мінскага метрапалітэна на пл. Незалежнасці (1981, у сааўт.).

**КУЛА́ГІН** Анатоль Мікалаевіч (н. 23.1. 1947, Барысаў), беларускі мастацтвазнавец, гісторык архітэктуры. Канд. мастацтвазнаўства (1986). Скончыў БПІ (1960). З 1970 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Друкуецца з 1970. Працы па гісторыі і тэорыі архітэктуры і мастацтва Беларусі. Адзін з аўтараў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (Дзярж. прэмія БССР 1990), «Гісторыі беларускага мастацтва».

*Тв.:* Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в. Мн., 1981; Помнікі Слоніма. Мн., 1983 (разам з В. Б. Караткевіч); Дзержинщина: Прошлое и настоящее. Мн., 1986 (разам з А. І. Валахановічам); Архитектура и искусство рококо в Белоруссии. Мн., 1989; Ambony rokokowe w kościołach na Białorusi // Biuletyn historii sztuki. 1988. № 1—2.

**КУЧАРЭ́НКА** Аляксандр Цімафеевіч (н. 1.9.1922, с. Баландзіна Каменскага р-на Кіеўскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1958). З 1958 працуе ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект» (гал. архітэктар майстэрні). Асн. работы ў Магілёве: будынак абкома КПБ (1973), кінатэатр «Кастрычнік» (1970), Дом палітасветы (1964—65), адм. будынак аблсельгастэхнікі (1974), будынак пед. ін-та (1969), будаўнічы тэхнікум (1970—71),

дзіцячая бальніца (1975—76, у сааўт.), жылыя дамы па вуліцах Першамайскай (1971—73), Лепяшынскага і Піянерскай (1970—71), Лазарэнкі (1978) і інш.



**ЛАДЫ́ГІНА** Вольга Барысаўна (н. 23.12. 1922, Масква), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1969). Скончыла Маскоўскі архіт. ін-т (1949). З 1949 працуе ў ін-це «Белдзяржпраект» (у 1969—75 гал. архітэктар). Гал. кірунак творчасці — архітэктура жылых і грамадскіх будынкаў. Асн. работы: *Водна-спартыўны камбінат* у Мінску, вадаскідныя збудаванні і ГЭС на Заслаўскім вадасховішчы (1955); мост цераз Дняпро (1955) і Палац культуры хімікаў (1980, у сааўт.) у Магілёве; мост цераз Зах. Дзвіну ў Віцебску (1955); комплекс абл. клінічнай бальніцы і НДІ анкалогіі і мед. радыялогіі пад Мінскам (1960—67); забудова р-на і праекты жылых і грамадскіх будынкаў вуліцы В. Харужай (1964—90); жылы дом з гастраномам «Сталічны» (1962); жылыя дамы, грамадскія і вучэбныя ўстановы па вул. Варвашэні, Казлова, М. Горкага, Кульман; гал. корпус Бел. тэхнал. ін-та (1956, у сааўт.); корпус прэзідыума АН Беларусі (1964, у сааўт.); рэканструкцыя гал. корпуса АН Беларусі (1982, у сааўт.); адм.-грамадскі комплекс на пр. Машэрава (1977, у сааўт.). У 1961—64 старшыня праўлення Саюза архітэктараў БССР.

*Літ.:* Потапов Ю. Ф. Признание // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1983. № 1.

**ЛАНГБА́РД** Іосіф Рыгоравіч [6(18).1. 1882, г. Бельск-Падляскі, Польшча — 3.1.1951], савецкі архітэктар і педагог. Засл. дз. мастацтваў Беларусі (1934). Д-р архітэктуры (1939). Скончыў Пецярбургскую АМ (1914). У 1935—47 выкладчык (з 1939 прафесар) АМ, з 1947 — Ін-та жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе. Адзін з заснавальнікаў сав. архітэктуры Беларусі. Асн. работы: у Мінску — *дом урада Рэспублікі Беларусь, Акруговы Дом афіцэраў, Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета рэспублікі Беларусь будынак,* гал. корпус АН Беларусі (1939); *Магілёўскі Дом Саветаў* (1939). Адзін з аўтараў «Эскіза планіроўкі Мінска» і схемы генплана Гомеля (абодва 1944). Сярод інш. работ: жылыя дамы і стадыён імя У. І. Леніна (1934) у Ленінградзе, будынак абкома Кампартыі Украіны (1938) у Кіеве, помнікі В. І. Чапаеву (1932) у Самары, Т. Р. Шаўчэнку (1935) у Харкаве, З. Касмадзям'янскай (1947) у Тамбове (усе са скульптарам М. Манізерам).

*Літ.:* Абрамов Л. К. Работы И. Г. Лангбарда в Белорусской и Украинской ССР // Архитектура Ленинграда. 1940. № 1; Воинов А. А. И. Г. Лангбард. Мн., 1976.

**ЛА́РЧАНКА** Барыс Міхайлавіч (н. 18.4. 1941, г. Мінск), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1984). Скончыў БПІ (1964). У 1964 раённы архітэктар Гродзенскага райвыканкома, з 1965 у ін-це «Мінскпраект» (з 1980 кіраўнік майстэрні, з 1989 гал. архітэктар ін-та). Найбольш значныя работы: комплекс будынкаў праектных ін-таў па вул. Варвашэні («Белдзіправадгас», «Сельгастэхпраект»; 1970—84), станцыя метрапалітэна «Плошча Перамогі» (1984, прэмія СМ СССР 1987), рэканструкцыя пл. Перамогі і падземны ўзровень (1984), кінатэатр *«Аўрора»* (1987) у комплексе з гасцініцай (усе ў сааўт.) у Мінску, аэравакзальны комплекс аэрапорта «Мінск-2» (гл. ў арт. *Мінскія аэрапорты*; у сааўт.) каля г. Смалявічы і інш. Удзельнік міжнар., усесаюзных і рэспубліканскіх архіт. конкурсаў.

**ЛАЎРО́Ў** Георгій Лаўрэнцьевіч [29.12. 1895(10.1.1896), в. Балахнята Сафонаўскага р-на Смаленскай вобл.— 24.5.1967], савецкі архітэктар. Скончыў Вышэйшыя маст.-тэхн. майстэрні (1926). Працаваў у Маскве, у 1928—34 — у Мінску. Работы на Беларусі: гал. корпус і карпусы факультэтаў Бел. дзярж. ун-та (1928—31), клінічны гарадок (1931), *Бібліятэкі дзяржаўнай імя У. І. Леніна будынак* (1932), *Беларускага політэхнічнага інстытута будынкі*, лабараторны корпус і друкарня імя Ф. Скарыны АН Беларусі (1934) у Мінску; інтэрнат і навуч. корпус Бел. с.-г. акадэміі ў Горках Магілёўскай вобл. (1930—33), будынак кінатэатра ў Оршы (1932). Сярод інш. работ: кінастудыі ў Алма-Аце, Ашхабадзе, Фрунзе (1956—59, у сааўт.), кінатэатры ў Бухарэсце (1956), Сафіі (1958) і інш.

**ЛЕ́ВІН** Леанід Мендэлевіч (н. 25.7.1936, Мінск), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1988). Скончыў БПІ (1960). Працуе ў ін-це «Мінскпраект» (з 1980 кіраўнік архіт. майстэрні). Работы ў Мінску: інтэрнат трактарнага з-да па вул. А. Кашавога (1966), павільён выставкі дасягненняў нар. гаспадаркі Беларусі (1968), будынак Мінскага гаркома КПБ, станцыі метрапалітэна «Плошча Леніна» (1984) і «Няміга» (1990); праект дэталёвай планіроўкі і забудовы цэнтра (1970—75), *Машэрава праспекта*, рэканструкцыя і добраўпарадкаванне Траецкага прадмесця (1980—86; усе ў сааўт.). Працуе таксама ў галіне манум. мастацтва: архіт.-скульпт. мемарыяльныя комплексы *Хатынь* (Ленінская прэмія 1970), *«Прарыў»*, *«Кацюша»* і «Праклён фашызму» (на месцы былой в. Шунеўка Докшыцкага р-на); помнікі Я. Купалу і Я. Коласу ў Мінску (абодва 1972), К. С. Заслонаву ў Оршы (1964), падпольшчыкам Асінторфа; камсамольцы-падпольшчыцы Ф. Конанавай у г. Любань (абодва 1967), М. Ф. Гастэлу і яго экіпажу каля г. п. Радашковічы (1976), у Мінску —



І. Р. Лангбард.



Б. М. Ларчанка.



Л. М. Левін.


Э. П. Левіна.


З. М. Леўчанка.


Я. Л. Ліневіч.

мемарыяльныя знакі ў Цэнтр. скверы на месцы загубы членаў Мінскага камуністычнага падполля ням.-фаш. захопнікамі (1979), на пл. Незалежнасці на месцы гібелі рэдактара падпольнай газеты «Звязда» Героя Сав. Саюза У. С. Амельянюка (1981), помнікі воінам-бухарцам у Бухары (1975), «Салдацкае поле» ў Валгаградзе (1976—80, усе ў сааўт.). Прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1967.

**ЛЕ́ВІНА** Эла Пятроўна (н. 7.11.1927, г. Кіеў), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1991). Скончыла Кіеўскі інж.-будаўнічы ін-т (1950). З 1953 працавала ў ін-це «Белдзяржпраект», з 1961 у ін-це «Мінскпраект» (гал. архітэктар праектаў). Асн. работы: серыі цагляных і буйнаблочных жылых дамоў МК-5, МК-9, 1-434, 1-433; шматпавярховыя цагляныя жылыя дамы на праспекце Машэрава (1962—67), Лагойскім тракце (ад вул. Валгаградскай да вул. Гамарніка), па вуліцах Казінца, Рэспубліканскай, гандл.-грамадскія цэнтры «Вільнюс» (1975), «Зялёны Луг 5» (1978), «Зялёны Луг 7» (1983), планіроўка, праектаванне і забудова мікрараёнаў Зялёны Луг 1, 2, 3, 5, 7 (1962—1980-я гады), пуцеправоды па праспектах Ф. Скарыны і Машэрава ў Мінску (усе ў сааўт.).

**ЛЕ́ЎЧАНКА** Зінаіда Мікалаеўна (3.3. 1925, г. Новачаркаск — 16.5.1980), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1971). Скончыла Харкаўскі інж.-будаўнічы ін-т (1949). З 1975 гал. спецыяліст-архітэктар тэхаддзела Ін-та «Брэстграмадзянпраект». Гал. кірунак творчасці — архітэктура жылых і грамадскіх будынкаў. Асн. работы ў Брэсце: жылы дом на пл. імя Леніна (1959), кафэ па вул. Савецкай (1960), дом будаўнічых арг-цый (1966), комплекс Брэсцкага інж.-будаўнічага ін-та, эксперыментальная сярэдняя школа па вул. Маскоўскай (1979, абодва ў сааўт.), праект размяшчэння жылога і культ.-быт. буд-ва (1959—65), праект дэталёвай планіроўкі Паўднёвага жылога раёна (1962).

**ЛІНЕ́ВІЧ** Яраслаў Львовіч (н. 16.1. 1932, в. Беліца Лідскага р-на), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1982). Скончыў БПІ (1958). Працаваў у Віцебскім абласным філіяле ін-та «Белдзяржпраект» (з 1958), ін-тах «Белдзяржпраект» (з 1962), «Мінскпраект» (з 1971), з 1974 нам. начальніка Гал. архіт.-планіровачнага ўпраўлення Мінскага гарвыканкома, у 1985—88 гал. архітэктар БелНДІПгорадабудаўніцтва, у 1988—89 начальнік аддзела горадабудаўніцтва Дзяржбуда Беларусі, з 1989 начальнік Галоўмінскархітэктуры, гал. архітэктар горада Мінска. Работы: генплан Брэста (1965), праекты планіроўкі і забудовы мікрараёнаў у Віцебску, Гродне, Магілёве, Наваполацку і інш. (1960—74), праекты дэталёвай планіроўкі і забудовы цэнтра водна-зялёнага дыяметра (1971), генплана і прыгараднай зоны Мінска да 2000 г. (1982), бел. квартал раёна Чыланзар у Ташкенце (1966; усе ў аўт. калектыве). У 1975—77 старшыня праўлення Саюза архітэктараў Беларусі. Прэмія СМ СССР 1985.

**ЛІ́ЎШЫЦ** Мордух Насонавіч (н. 17.4. 1918, г. Рэчыца), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1969). Скончыў Ленінградскі інж.-будаўнічы ін-т (1941). З 1946 працуе ў праектных ін-тах Мінска (з 1969 гал. архітэктар ін-та «Белкамунпраект», у 1974—78 — ін-та «Белжылпраект»). Асн. кірунак творчасці — архітэктура жылых і грамадскіх будынкаў. Найбольш значныя работы: у Мінску — жылыя дамы па вуліцах Я. Коласа (1951), Чырвонай (1953) і Камуністычнай (1954, абодва ў сааўт.), праспекце Ф. Скарыны (1956), 2-я чарга тэхналаг. ін-та (1967), адміністрацыйныя карпусы Дзяржкамсельгастэхнікі і Мінпрамбуда, Міністэрствам мантажных і спец. будаўнічых работ (усе 1970), адм. будынкі на праспекце Ф. Скарыны (1953) і па вул. Савецкай (1976; усіх кіраўнік аўтарскага калектыву), ін-т «Белжылпраект» (1981), планіроўка жылых кварталаў на праспекце Ф. Скарыны, вуліцах Чырвонай, Я. Коласа (1950-я г.); праект рэканструкцыі гіст. цэнтра Гродна (1971, кіраўнік аўтарскага калектыву), серыі тыпавых праектаў жылых дамоў, гандл. збудаванняў і інш. грамадскіх будынкаў (усе 1957—69); планіроўка цэнтр. плошчы (1960) у Барысаве, помнік танкістам каля Дома афіцэраў у Мінску (1952) і інш.

**ЛО́РЭНЦ** (Lorentz) Станіслаў (28.4.1899, г. Радам, Польшча), польскі мастацтвазнавец. Прафесар Варшаўскага ун-та (1947), ганаровы член многіх еўрапейскіх акадэмій, эксперт ЮНЕСКА. Вучыўся ў Варшаўскім ун-це. У 1929—35 узначальваў аддзелы аховы помнікаў у Віленскім і Навагрудскім ваяводствах, адначасова выкладаў у Віленскім ун-це. З 1935 віцэ-дырэктар, з 1936 дырэктар Народнага музея, у 1945—51 узначальваў Дырэкцыю нацыянальных музеяў і аховы помнікаў у Варшаве. У работах 1930-х гадоў даследаваў асобныя пытанні развіцця бел. архітэктуры. Аўтар манаграфіі пра І. К. *Глаўбіца* «Ян Кшыштаф Глаўбіц, віленскі архітэктар XVIII ст.» (1937).

**ЛО́ЦЫ**, Лочы (Locci, Loczczi) Аўгуста Вінцэнці [1640(?) Варшава — 22.10.1732], архітэктар. Прадстаўнік барока. Вучыўся ў Аўгуста Станіслава Лоцы (бацькі) і Дж. Б. Джызлені ў Рыме. Кіраўнік будаўніча-дэкарацыйных работ і мастацкі дарадца польскага караля Яна III (Сабескага). Паводле яго праектаў пабудаваны палац у Вілянах (колішняя каралеўская рэзідэнцыя каля Варшавы, 1677—1794), створаны план Варшавы (1683). На Беларусі для *Нясвіжскага палацава-паркавага комплексу* ім быў зроблены праект галерэі (1678).

**ЛУКІ́Н** Павел Пятровіч (14.1.1769— 22.11.1826), архітэктар. У 1773—88 вучыўся ў Пецярбургскай АМ. У 1786 працаваў у арх. Ч. Камерона. У 1803—05 Гродзенскі губернскі архітэктар. Аўтар праектаў

мураванага моста цераз Нёман і ратушы (пабудавана ў 1807), фіксацыйных чарцяжоў стараж. пабудоў у Гродне.

**ЛУТНІЦКІ** Лявон, беларускі архітэктар. З'яўляўся прыдворным архітэктарам і будаўніком князёў Радзівілаў у канцы 18 ст. Прадстаўнік архітэктуры барока. Удзельнічаў у рэканструкцыі *Альбінскага палацава-паркавага комплексу*, дзе пабудаваў палац «Кансаляцыя», альтанку, сістэму каналаў. Зрабіў праект Каралеўскай залы для Нясвіжскага палаца (гл. ў арт. *Нясвіжскі палацава-паркавы комплекс*), рэстаўрыраваў палац у Слуцку (гл. ў арт. *Слуцкія замкі*), касцёл св. Міхала і драўляную царкву ў Нясвіжы.

**ЛЫСЕНКА** Аляксандр Васілевіч (н. 13.11. 1922, станіца Платніраўская Караноўскага р-на Краснадарскага краю), беларускі архітэктар. Канд. архітэктуры (1955). Скончыў Кіеўскі інж.-будаўнічы ін-т (1950). У 1951—64, 1966—70 у НДІ буд-ва і архітэктуры Дзяржбуда Беларусі, у 1964—66 і з 1970 у БелНДІПгорадабудаўніцтва. Асн. кірунак навуковых даследаванняў: прасторава-planіровачная структура, архіт.-маст. аблічча, добраўпарадкаванне бел. гарадоў, горадабудаўнічае засваенне пойменных тэрыторый. Надрукавана звыш 50 навуковых работ. Прэмія СМ СССР 1983.

*Тв.:* Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии. Мн., 1957 (у сааўт.); Главная улица Минска: (Ленинский проспект). Мн., 1963; Микрорайоны Белоруссии. Мн., 1963 (у сааўт.); Градостроительное освоение пойменных территорий Белорусской ССР. Мн., 1986 (у сааўт.).

**ЛЬВОЎ** Мікалай Аляксандравіч [4(15).3. 1751, с. Нікольскае Таржоцкага р-на Калінінскай вобл.— 21 ці 22.12.1803(2 ці 3.1.1804)], рускі архітэктар, графік, паэт, музыкант і вынаходнік. Адзін з заснавальнікаў пейзажнага стылю ў рус. садова-паркавым мастацтве. Прадстаўнік рус. класіцызму 2-й пал. 18 ст. Чл. Расійскай акадэміі (з 1783) і ганаровы чл. Пецярбургскай АМ (з 1786). Праектаваў сядзібы, цэрквы, асабнякі, «узорныя» грамадскія будынкі для павятовых і губернскіх гарадоў імперыі. На Беларусі стварыў *Магілёўскі Іосіфаўскі сабор*, серыю акварэлей з відамі Магілёва (канец 18 ст.)

**ЛЯНКЕВІЧ** Габрыэль (1722—1798), архітэктар, педагог. Ураджэнец Беларусі. Вучыўся архітэктуры ў Віленскай езуіцкай акадэміі (1752—54, у Т. Жаброўскага) і Рыме (1762—65). Займаўся выкладчыцкай дзейнасцю. У 1768—72 прафесар архітэктуры, у 1783 рэктар Полацкага езуіцкага калегіума. У 1768 выканаў праект перабудовы капліцы ў касцёле св. Яна ў Вільні.

**ЛЯЎДАНСКІ** Аляксандр Мікалаевіч [29.8(10.9 ).1893, в. Юр'ева Смалявіцкага р-на — 1942], беларускі гісторык, археолаг. Канд. гіст. навук (1934). Скончыў Смаленскае аддзяленне Маскоўскага археал. ін-та (1922). З 1927 член гісторыка-археал. камісіі Інбелкульта, заг. аддзела археалогіі Бел. дзярж. музея. З 1931 вучоны сакратар, заг. секцыі археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР. Арганізатар першых навук. археал. экспедыцый на Беларусі. Зрабіў класіфікацыю гарадзішчаў жалезнага веку, вызначыў іх культурна-археал. прыналежнасць і арэалы археал. культур. Даследаваў Віцебск, Оршу, Заслаўе, Барысаў і інш. Смаленшчыны, даў першую і найбольш поўную гіст. тапаграфію стараж. Полацка, вывучаў яго архіт. помнікі (Сафійскі сабор, Спаса-Ефрасіннеўская царква, бельчыцкія храмы). Аўтар прац «Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўі Мінскай акругі» (1928), «Археалагічныя доследы ў Віцебскай акрузе» і «Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе» (1930), «Археалагічныя доследы ў БССР пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі» (1932) і інш.

*Літ.:* Каробушкіна Т. Вучоны энцыклапедычнай эрудыцыі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1984. № 3.

**ЛЯШУК** Алег Васілевіч (н. 22.7.1949, г. Брэст), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1971). Працаваў у Брэсцкім будаўнічым тэхнікуме, з 1971 у ін-це «Брэстграмадзянпраект». Асн. работы ў Брэсце: будынкі дзіцячага сада-ясляў з плавальным басейнам па вул. Герояў абароны Брэсцкай крэпасці (1977), фізкультурна-аздараўленчага камбіната (1982, у сааўт.), дзіцячага кафэ «Казка» па вул. Гаўрылава (1985), аблвыканкома (1991), *Брэсцкі аэравакзал* (1986, у сааўт., Дзярж. прэмія БССР 1988), забудова Усходняга жылога раёна (1990, у сааўт.) і інш.



М. Н. Ліўшыц.

# М

**МАКЛЯЦОВА** Наталля Мікалаеўна [н. 25.9(8.10).1909, в. Мсціслаўская Слабодка Дарагабужскага р-на Смаленскай вобл.], беларускі архітэктар. Канд. тэхн. навук (1954). Скончыла Ленінградскі інж.-будаўнічы ін-т (1931). Працавала ў ін-тах «Белдзяржпраект» (1931—38), «Белпрампраект» (1944—48, гал. архітэктар), адначасова выкладала ў БПІ (1938—41, 1945—75, дацэнт з 1954). Работы: *Мінскі жылы дом спецыялістаў* (разбураны ў Айч. вайну), 8-павярховы дом на пл. Я. Коласа (1957, у сааўт.) і рэканструкцыя гал. корпуса БПІ (1937) у Мінску; жылыя дамы № 12, 14 (1936) па вул. Першамайскай у Гомелі, тыпавы праект 24-кватэрнага жылога дома (у 1932—38 пабудаваны дамы ў Мінску, Гомелі, Магілёве, Барысаве і інш. гарадах). У навуковых працах даследуе тэарэтычныя метадалагічныя асновы праектавання жылых будынкаў.

*Тв.:* Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии. Мн., 1957 (у сааўт.);



А. В. Ляшук.



В. М. Малышаў.

Основы проектирования жилых зданий. Мн., 1960 (у сааўт.).

**МА́ЛЫШАЎ** Валянцін Мікалаевіч (н. 1.12.1931, Ленінград), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1983). Скончыў Ленінградскі ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры (1958). Працуе ў ін-це «Белдзяржпраект» (з 1958 і ў 1978—80 гал. архітэктар). Асн. работы: *Мінскі Палац спорту*, кінатэатр *«Кастрычнік»*, корпус бальніцы Лячсанупраўлення (1968), Рэсп. школаінтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве (1969), генплан акадэмгарадка па вул. Жодзінскай, Дом праектных арганізацый Дзяржбуда Беларусі ў Мінску (1980), Палац культуры (1967, у сааўт.) у Салігорску, конна-спартыўны манеж у Ратамцы (1969), серыя буйнапанельных жылых дамоў для гарадоў Гродна, Гомеля, Бабруйска, Брэста (1972—77); санаторыі «Беларусь» у г. Друскінінкай (Літва, 1972), «Беларусь» у Юрмале (Латвія, 1976) і інш.

**МАРАІ́НА** (Maraina), Мараіні (Marainі) Іначэнца, архітэктар і мастак-дэкаратар 2-й пал. 18 ст. Родам з Італіі (Лугана). Вучыўся ў Мілане ў Брэры. З 1764 працаваў у асноўным у Польшчы. З 1.6.1777 пры двары М. К. Агінскага ў Слоніме, да 1780 кіраваў будоўляй спец. памяшкання для Слонімскага тэатра Агінскага («Новы дом оперы»), пісаў дэкарацыі. Пакінуў Слонім паміж 1780 і 1785. Відаць, у 1786 пісаў дэкарацыі для тэатра «Ла Скала» (Мілан). Гал. работы: перабудова Нацыянальнага тэатра ў Варшаве, буд-ва драўлянага амфітэатра ў Львове (1790-я гады).

**МАСКАЛЕ́ВІЧ** Леанард Віктаравіч (н. 5.12.1936, в. Казлоўка Светлагорскага р-на), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1985). Скончыў БПІ (1961). Працаваў у «Брэстграмадзянпраекце» (1961—65), «Мінскпраекце» (1965—72), у апараце ЦК КПБ (1972—76), у 1976—90 нам. старшыні Дзяржбуда Беларусі, адначасова ў 1972—90 у «Мінскпраекце», «Белдзяржпраекце», маст. фондзе Беларусі. З 1990 кіраўнік творчых майстэрняў пры Саюзе архітэктараў Беларусі. Аўтар праектаў: комплексу Брэсцкага інж.-будаўнічага ін-та (1965, у сааўт.), жылых дамоў па вул. Маскоўскай (1964—75, у сааўт.), дзіцячага кафэ са станцыяй пракату (1962) у Брэсце; Палаца культуры ў калгасе «Савецкая Беларусь» Камянецкага р-на (1968); пансіяната на Заслаўскім вадасховішчы (1968, у сааўт.); комплексу ін-таў культуры (1975) і павышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў нар. гаспадаркі (1978, у сааўт.), жылога дома з магазінам «Несцерка» па вул. Багдановіча (1974), муз. вучылішча імя М. І. Глінкі (1976), шэрага жылых дамоў па вул. Караля, Сухой, Куйбышава (1970-я гады, у сааўт.), выставачнага павільёна для правядзення замежных і міжнародных выстаў (1988, у сааўт.), Палаца рэспублікі (у сааўт.; будуецца, 1992) у Мінску, серыі тыпавых жылых дамоў і блок-секцый для малых гарадоў Беларусі (1984, у сааўт.; дыплом Саюза архітэктараў СССР за лепшы праект, 1984); аўтар помнікаў М. Багдановічу ў Мінску (1981), У. І. Леніну ў Оршы (1984).



Л. В. Маскалевіч.

**МАЦКЕ́ВІЧ** Леў Пятровіч (24.4.1903, Орша — 27.11.1968), беларускі архітэктар. Скончыў Маскоўскі архіт. ін-т (1936). З 1945 на Беларусі: у 1945—48 нам. нач. Упраўлення па справах архітэктуры пры СМ БССР у Мінску, з 1948 гал. архітэктар Мінска і нач. Упраўлення па справах буд-ва і архітэктуры Мінгарвыканкома. З 1962 выкладчык БПІ, дацэнт. Асн. работы: генплан Масквы (1935, у сааўт.), праекты забудовы 1-й Мяшчанскай вуліцы і плошчаў Яраслаўскай і Краснаваротскай (1937—39, кіраўнік брыгады), адм. будынка ін-та «Электрахіммет» (1936—37, у сааўт.) у Маскве; генплан цэнтр. сядзібы саўгаса «Культура» Разанскай вобл. (1940—41), генпланы Оршы (1946), Полацка (1946—47); праекты забудовы плошчаў Леніна (цяпер пл. Незалежнасці) і Я. Коласа, *праспекта Ф. Скарыны* (1947—51), забудовы *Машэрава праспекта* (1954), вул. Маскоўскай (1948), Цэнтральнай пл. (цяпер пл. Кастрычніцкая; 1950—55), праекты дэталёвай планіроўкі Мінска (да 2000 года), забудовы 2 кварталаў па вул. Даўгабродскай (1954—55, усе ў сааўт.) у Мінску. У 1958—61 старшыня праўлення Саюза архітэктараў Беларусі.

*Тв.:* Минск: Послевоенный опыт реконструкции и развития. М., 1966 (у сааўт.).

**МЕ́ЛЬНІКАЎ** Аўраам (Абрам) Іванавіч [30.7(10.8).1784, Ламаносаў — 1(13).1.1854], рускі архітэктар. Вучыўся ў Пецярбургскай АМ (1795—1807); з 1811 яе выкладчык, з 1843 рэктар. Чл. Пецярбургскага буд. камітэта (з 1818). Праектаваў і будаваў у Кішынёве, Смаленску, Архангельску, Ніжнім Ноўгарадзе, Маскве, Растове, Яраслаўлі і інш. Сярод работ Нікольская царква ў Пецярбургу (Музей Арктыкі), ансамбль Паўкруглай пл. ў Адэсе (1826—29, цяпер пл. Камуны). Работы на Беларусі: *Мазалаўская царква Ушэсця*, царква ў Рэчыцы (1840-я гады, не захавалася), праект духоўнай семінарыі ў Мінску (1839, пасля перабудовы ў 1950—53 сувораўскае ваеннае вучылішча).

**МЁЗЕР** (Möser) Іаган Георг (паводле інш. звестак І. М. і Ю. М.), архітэктар і будаўнік 2-й пал. 18 ст. Немец. З 1738 жыў і працаваў у Гродне (у 1765—74 на службе ў гродзенскага старосты А. Тызенгаўза). Паводле яго праектаў узведзены *Гродзенскі палац Тызенгаўза* (1760—70-я гады) і *Гродзенскага тэатра Тызенгаўза будынак* (1780-я гады, абодва з арх. Дж. *Сака*), *Гродзенскія корчмы* (1770-я гады). Аўтар тыпавых праектаў жылых дамоў для замежных майстроў, якія працавалі на мануфактуры Тызенгаўза, і вайсковай варты Гродзенскай каралеўскай эканоміі (пабудаваны ў

1768—73, гл. *Гродзенскі «домік майстра»*). Выкладаў у школе будаўнікоў на Гарадніцы ў Гродне.

**МІЛАНЕГ** Пётр, беларускі дойлід 12 ст. Прадстаўнік *Гродзенскай школы дойлідства.* Ім узведзены шэраг манументальных будынкаў у Гродне (імаверна, што Ніжняя, Барысаглебская і Прачысценская цэрквы, княжацкія палаты і мураваныя абарончыя сцены). У канцы 12 ст. быў асабістым дойлідам кіеўскага князя Рурыка. Яго прозвішча зафіксавана ў Іпацьеўскім летапісе пад 1119 — аб узвядзенні ў Выдубіцкім манастыры пад Кіевам мураванай падпорнай сценкі з боку Дняпра (адначасова з'яўлялася і агляднай пляцоўкай). Паводле заказу князя М. пабудаваны цэрквы св. Васіля ў Оўручы, св. Апосталаў у Белгарадзе і Пятніцкая ў Чарнігаве. У гэтых помніках выразна адчуваюцца традыцыі гродзенскай архітэктуры, што і дазваляе даследчыкам меркаваць пра аўтарства М.: у сцены ўмураваны каляровыя шліфаваныя камяні (Оўруцкая царква) і паліваныя керамічныя пліткі (Белгарадская царква), скошаныя вонкавыя вуглы (Пятніцкая царква), аналагічныя падпорныя і аглядныя сцены Выдубіцкага манастыра і на мысе Гродзенскага дзядзінца.

*Літ.:* Рапапорт П. Пётр Міланег — гродзенскі дойлід XII стагоддзя // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1987. № 4.

**МІХАЭ́ЛІС** Віктар, беларускі архітэктар 1-й пал. 19 ст. Прадстаўнік архітэктуры класіцызму. Вучань Гродзенскага губернскага архітэктара К. В. *Багеміле.* У 1826—49 працаваў Гродзенскім губернскім архітэктарам. Выканаў праекты гандлёвых радоў у Навагрудку (1835), бальніцы для ніжніх воінскіх чыноў, сіроцкага дома, багадзельні для Гродзенскай губ. (1849), сінагогі на Кобрынскім фарштаце Брэсцкай крэпасці.

**МУСІ́НСКІ** Сяргей Сцяпанавіч (н. 21.9. 1920, с. Лісіцына Вялікаусцюгскага р-на Валагодскай вобл.), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1973). Скончыў Ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе (1952). У 1960—67 і з 1969 кіраўнік майстэрні ў ін-це «Мінскпраект», у 1967—69 гал. архітэктар ін-та «Белдзяржпраект». Асн. работы: у Мінску — праект забудовы *Калініна плошчы* (1954—62), праект планіроўкі і забудовы 2-й чаргі Ленінскага праспекта (1958—64), жылыя дамы (1960—64) і корпус ін-та фізкультуры па праспекце Ф. Скарыны (1960), будынак гарвыканкома (1964), Палац культуры тэкстыльшчыкаў (1960), Палац мастацтваў (1973), комплексы 5—14-павярховых інтэрнатаў БПІ па вуліцах Сурганава (1969—75), Цнянскай (1978) і Металістаў (1979), НДІ сродкаў аўтаматызацыі па праспекце Ф. Скарыны (1977), фантан «Юнацтва» каля гасцініцы «Мінск» (1978, усе ў сааўт.), комплекс жылых дамоў па вул. Няміга (1991, кіраўнік аўт. калектыву); санаторны комплекс «Беларусь» у Сочы (1953—68), мемарыяльны комплекс «Вязынка» (1972, в. Вязынка Маладзечанскага р-на); будынак аблвыканкома ў Гомелі (1974), Дом Саветаў у Шчучыне (1979, усе ў сааўт.) і інш. Дзярж. прэмія БССР 1968 за ўдзел у стварэнні архіт. ансамбля Ленінскага праспекта (цяпер праспект Ф. Скарыны) у Мінску.



С. С. Мусінскі.

# Н

**НЕКРАШЭ́ВІЧ** Іван Іосіфавіч (н. 6.6.1937, в. Плотніца Столінскага р-на), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1962). З 1962 у Брэсцкім аблпраекце, з 1963 у ін-це «Белпрампраект», з 1976 гал. архітэктар ін-та «Белсельбудпраект», з 1987 гал. архітэктар Мінскай вобл. Асн. работы: Віцебскі ўсходні прамысл. вузел (1971, у сааўт.; прэмія СМ СССР 1971), Брэсцкі ўсх. прамысл. вузел (1970, у сааўт.), схемы ген. планаў прамысл. вузлоў у Гродне, Магілёве, Бабруйску (1965—73), комплекс з-даў Брэсцкага паўд. прамысл. вузла (1973), прамысл. комплекс БелАЗ у Жодзіне (1976), забудова в. Асавец Любанскага і пас. Жамчужны Баранавіцкага (1982) р-наў (усе ў сааўт.). Прэмія СМ СССР 1987 за распрацоўку і ўкараненне тыпавых серый сельскіх дамоў сядзібнага тыпу з маналітнага бетону.

**НЕЎМЫВА́КІН** Сяргей Барысавіч, (17.4.1930, с. Белаводскае Калінінскага р-на Фрунзенскай вобл. Кыргызстан), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1991). Скончыў Ленінградскі ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна (1961). У 1961—67 працаваў у Душанбэ, з 1967 у Мінску: галоўны архітэктар праектаў, начальнік аддзела праектнага ін-та «Белдзіпрагандаль», з 1990 кіраўнік творчай майстэрні пры Саюзе архітэктараў Беларусі. Асн. работы: гандлёвыя цэнтры па вул. Маскоўскай у Брэсце (1977), па вул. Ракасоўскага ў Пінску (1990, у сааўт.), па Ракаўскай шашы (1984, у сааўт.) і ў жылым раёне Паўднёвы Захад 1 і 2 у Мінску (1982, 1984, у сааўт.), Рэспубліканскі спарт. комплекс «Раўбічы» (1973—86), Палац шахмат па вул. К. Маркса (1982, у сааўт.) у Мінску, клуб-сталовая (1982, у сааўт.), медыцынскі блок і добраўпарадкаванне пляжа санаторыя «Беларусь» і Місхоры, рэканструкцыя будынкаў ГУМа (1984) і ЦУМа (1990, абодва ў сааўт.) у Мінску.

**НО́НХАРТ** (Nonhardt, Nonhaart, Nonharteken) Пётр (? — 1633), беларускі архітэктар і будаўнік. Паходзіў з Галандыі. З 1611 загадваў каралеўскімі збудаваннямі ў Вільні, начальнік каралеўскіх фартыфікацый у Вял. кн. Літоўскім. Пабудаваў *Гайцюнішскі дом-крэпасць.*



С. Б. Неўмывакін.



Н. М. Нядзелька.

**НЯДЗЕ́ЛЬКА** Нона Міхайлаўна (н. 20.7.1937, Мінск), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1991). Скончыла БПІ (1960). З 1960 працуе ў ін-це «Белдзіпрасельбуд» (з 1969 гал. архітэктар праектаў). Асн. кірунак творчасці — архітэктура жылых і грамадскіх будынкаў для сельскіх населеных пунктаў. Найбольш значныя работы: праект планіроўкі і забудовы в. *Малеч* Бярозаўскага р-на (1983, прэмія СМ СССР 1981), 1-кватэрныя блакіраваныя жылыя дамы (1982), кантора саўгаса (1983), блок 16-кватэрных жылых дамоў з памяшканнямі гандл. прызначэння (1978), цэнтр. плошча (1978) у в. Малеч; адм. будынак і бульвар у в. *Аснежыцы* Пінскага р-на (1983), Дамы культуры ў в. Абухава Гродзенскага (1988) і ў в. Аўсянка Гарацкага (1989) р-наў. Аўтар тыпавых праектаў жылых і грамадскіх будынкаў, школ і інш.

# О



Н. Орда.

**О́РДА** Напалеон (11.2.1807, в. Варацэвічы Іванаўскага р-на — 26.4.1883), мастак і кампазітар. Творчасць звязана з маст. жыццём Беларусі і Польшчы. Маст. адукацыю атрымаў у студыі П. Жэрара (Парыж), вучыўся ў Віленскім ун-це. Удзельнік паўстання 1830—31 (належаў да тайнага студэнцкага т-ва «Заране»), пасля задушэння якога эміграваў у Францыю. З 1856 на радзіме, жыў у Варацэвічах, у 1862—63 у Гродне, потым на Валыні. Шмат падарожнічаў па Беларусі, Украіне, Польшчы і Літве, рабіў замалёўкі мясцін, звязаных з жыццём вядомых людзей і архіт. помнікаў. Вылучаюцца яго архіт. замалёўкі (больш за 200 па Беларусі), выкананых алоўкам, сепіяй, акварэллю. Сярод іх віды вёсак, маёнткаў, замкаў, палацаў, гарадоў Гродна (больш за 20 малюнкаў), Віцебска, Полацка, Магілёва, Мінска, Пінска, Навагрудка, Нясвіжа, Камянца, Чашнікаў, Сянна, Свіслачы, Друі і іншых. Гіст. каштоўнасць маюць замалёўкі Камянецкай вежы, Горы-Горацкага земляробчага ін-та, замкаў (Крэўскага, Гальшанскага, Смалянскага і інш.), палацаў (Дзярэчынскага, Паланэчкаўскага, Моладаўскага, Дукорскага), сядзіб (Завосеўскай, Убельскай, Туганавіцкай, Скокаўскай, Закозельскай і Высокаўскай), палацава-паркавых ансамбляў і комплексаў (Ружанскага, Сноўскага, Жыліцкага, Станькаўскага, Прылуцкага, Астрашыцка-Гарадоцкага і Бешанковіцкага), Мядзведкаўскага сядзібнага дома, Полацкага Сафійскага сабора і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы, манастыроў (Пінскага, Ляшчынскага, Слуцкага Троіцкага і Жыровіцкага), касцёлаў (Гнезнаўскага, Сар'еўскага, Варнянскага і Ішкалдскага Троіцкага), Смілавіцкага, касцёла і кляштара, Койданаўскага кальвінскага збору і інш. Малюнкі вызначаюцца строгай дакументальнасцю, маюць каштоўнасць для гісторыі архітэктуры. Вял. колькасць малюнкаў О. зберагаецца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве (Польшча). Паводле яго малюнкаў і акварэлей у 1873—83 створаны (мастак А. Місуровіч) і выдадзены ў Варшаве літаграфіі (260 графічных аркушаў у 8 серыях).

*Літ.:* Якімовіч Ю. А. Беларуская архітэктура ў малюнках Напалеона Орды // Мастацтва Беларусі. 1983. № 7; Дробаў Л. Н. Напалеон Орда — мастак і збіральнік // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1971. № 3; Kaczanowska M. Napoleon Orda, twórca widoków architektonicznych: Zarys życia i twórczości // Rocznik Museuma Narodowego w Warszawie. Warszawa, 1968. T. 12.

# П



Л. М. Пагарэлаў.

**ПАГАРЭЛАЎ** Леў Мікалаевіч (н. 27.6.1929, г. Ачакаў Мікалаеўскай вобл.), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1973). Скончыў Адэскі інж.-будаўнічы ін-т (1954). З 1954 у ін-це «Мінскпраект» (з 1964 кіраўнік майстэрні). Асн. работы (у Мінску): жылыя дамы па вуліцах Казлова, Енісейскай, Апанскага, Серафімовіча, Партызанскім праспекце, у мікраераёне Чыжоўка (1960—70-я г.), па вул. Танкавай (1977—84, у сааўт.), Омскім зав., на Велазаводскай пл., масты цераз р. Свіслач па вуліцах Кастрычніцкай і Аранскай (1962), гасцініца «Турыст» (1972), будынкі Цэнтр. н.-д. і праектна-тэхналагічнага ін-та арганізацыі і тэхнікі кіравання (1973, у сааўт.), ін-та «Мінскпраект» (1975, у сааўт.), гасцініца *«Кастрычніцкая»* (1980), *мінскі аўтавакзал «Усходні»* (1983, у сааўт.), станцыі метрапалітэна «Маскоўская» (1984, прэмія СМ СССР 1987) і «Пралетарская» (1990, абедзве ў сааўт.), гасцініца *«Беларусь», Дом палітычнай асветы* (абодва 1987, у сааўт.) і інш.

**ПАДЧАШЫ́НСКІ** Карл Іванавіч [7.11.1790, в. Жырмуны Воранаўскага р-на — 26.3(7.4).1860], беларускі архітэктар. Прадстаўнік стылю класіцызму. Працаваў на Беларусі, у Літве і Польшчы. Вучыўся ў Віленскім ун-це (1813—14), Пецярбургскай АМ (1814—16), у 1817—19 у Італіі і Парыжы. У 1819—31 узначальваў кафедру архітэктуры ў Віленскім ун-це. Аўтар трохтомнай працы «Пачаткі архітэктуры». Па яго праектах пабудаваны: вучылішчы ў Бабруйску, Невелі Пскоўскай вобл. (абодва каля 1819, разам

з арх. К. *Хрщановічам*), Мазыры (1820-я г.); *Жыліцкі палацава-паркавы ансамбль* (1830-я г.); калонная зала ун-та (1817), палац генерал-губернатара (1825—32, разам з арх. В. Стасавым) і евангелічная рэфармацкая царква (1830—35) у Вільні.

**ПАКРО́ЎСКІ** Веньямін Веньямінавіч (1839, Магілёўская губ.— 15.8.1881), беларускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскае будаўнічае вучылішча (1862, грамадзянскі інжынер). Працаваў малодшым архітэктарам Віцебскай будаўніча-дарожнай камісіі (1862—76), Полацкім епархіяльным архітэктарам (1876—78). Аўтар праектаў рамонту з частковай рэстаўрацыяй Сафійскага сабора ў Полацку (1869), мураванай царквы для в. Валынцы Верхнядзвінскага р-на (1881).

**ПАКРЫ́ШКІН** Пётр Пятровіч (1870—1921), рускі архітэктар і рэстаўратар. Акадэмік архітэктуры (1909). Член Археалаг. камісіі. Вывучаў і рэстаўрыраваў архіт. помнікі, у т. л. на Беларусі: Полацкі Сафійскі сабор (1909), Супрасльскую царкву-крэпасць, Лідскі замак (1908—10), Гродзенскую Барысаглебскую царкву (упершыню зрабіў рэканструкцыю гэтага храма, 1904—06).

**ПАНАМАРО́ВА** Яўгенія Самойлаўна (н. 3.3.1936, Харкаў), беларускі архітэктар, педагог. Д-р архітэктуры (1988), праф. (1989). Скончыла БПІ (1959). У 1959—62 архітэктар ін-та «Белдзяржпраект», з 1965 выкладчык БПІ. Працуе ў галіне інтэр'ера, архіт. каларыстыкі. Асн. работы: серыя будынкаў камбінатаў быт. абслугоўвання (1960—62, у сааўт.), тыпавы праект школы на 964 месцы (1961—62, у сааўт.).

*Тв.:* Рекомендации по проектированию цветовой отделки интерьеров общественных зданий. М., 1984 (у сааўт.); Цвет в интерьере. Мн., 1984; Интерьер гражданских зданий. 2 изд. Мн., 1991.

**ПАПО́ВА** Ія Міхайлаўна (н. 15.5.1924, г. Алма-Ата), беларускі архітэктар. Скончыла Маскоўскі архіт. ін-т (1950). З 1950 працавала ў ін-це «Казгарбудпраект» у Алма-Аце. У 1966—80 у Мінску ў ін-це «Мінскпраект» (з 1968 гал. архітэктар праектаў). Асн. работы: буйнапанельныя 9-, 12-, 16-паверховыя жылыя дамы ў мікрараёнах Усход 1 (1968—78, у сааўт.; прэмія СМ СССР 1978), Ракаўская шаша 3, жылых раёнах па вул. В. Харужай, Някрасава, у мікрараёнах Серабранка 1, 2, 5, 6, 7, 3, 4 (усе 1975—81, у сааўт.) у Мінску. З інш. работ: жылыя дамы ў цэнтры (1958, у сааўт.) і па вул. Маметавай (1963), гал. павільён ВДНГ Казахскай ССР (1963), кінатэатр «Алатау» (1959), адм. будынак міністэрства сувязі (1968, у сааўт.) у Алма-Аце.

**ПАРА́КА** (Рагасса) Антоні, архітэктар 2-й пал. 18 ст. Італьянец, родам з Генуі. Прадстаўнік архітэктуры барока. У 1762—83 працаваў на Віленшчыне і Навагрудчыне. Пабудаваў касцёлы бернардзінцаў (1773) у Друі Браслаўскага і місіянераў (1783) у Асвеі Верхнядзвінскага р-наў.

**ПАРСАДА́НАЎ** Георгій Арцёмавіч (28.8.1911, г. Уладзікаўказ Паўн.-Асецінскай АССР — 15.10.1989), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1969). Скончыў Ленінградскі інж.-будаўнічы ін-т (1937). З 1959 гал. архітэктар ін-та «Белдзяржпраект», у 1962—73 нач. Упраўлення па справах буд-ва і архітэктуры Мінскага аблвыканкома. Асн. работы: генпланы гарадоў Мінска (1946, у сааўт.), Рэчыцы (1937 — 39, 1951, у сааўт.), Слуцка (1937—40, 1947), Магілёва (1947—50, у сааўт.; 1961), Салігорска (1958, 1971, у сааўт.), карэкціроўка генплана Мінска (1959). Аўтар праектаў жылых раёнаў аўтамабільнага, падшыпнікавага з-даў, камвольнага камбіната (1945—55), мікрараёна па вул. Валгаградскай (1956, усе ў сааўт.) у Мінску; курортнай зоны воз. Нарач (1966, 1974—75). У 1955—58 старшыня праўлення Саюза архітэктараў Беларусі.

**ПА́РУСНІКАЎ** Міхаіл Паўлавіч (30.10.1893, Масква — 1.2.1968), савецкі архітэктар, педагог. Акад. АН БССР (1950), праф. (1948). Скончыў Маскоўскае вучылішча жывапісу, скульптуры і дойлідства (1918) і Вышэйшыя маст.-тэхн. майстэрні (1924). Выкладаў у Маскоўскім архіт. ін-це (1934—41 і з 1948). Работы ў Мінску: забудова 1-й чаргі Ленінскага праспекта (1945—54, у сааўт.; Дзярж. прэмія БССР 1949), *мінскі адміністрацыйны будынак* (1945—48), *Беларускага рэспубліканскага банка будынак,* праект планіроўкі і забудовы цэнтра і Цэнтральнай пл. (цяпер Кастрычніцкая пл.), жылыя дамы і мост цераз р. Свіслач на праспекце Ф. Скарыны, стадыён *«Дынама»* (усе 1946—54, у сааўт.). Сярод інш. работ: будынкі электрастанцый у Нагінску Маскоўскай вобл. (1926) і Кіеве (1929), праект планіроўкі і забудовы г. Астрахані (1930).

**ПАТА́ЕЎ** Георгій Аляксандравіч (н. 27.9.1944, Мінск), беларускі архітэктар. Канд. архітэктуры (1974). Скончыў БПІ (1967). Выкладчык БПІ з 1970. З 1977 у БелНДІПгорадабудаўніцтва (з 1980 нам. дырэктара па н.-д. рабоце). Працуе ў галіне горадабудаўніцтва і ландшафтнай архітэктуры. Асн. праектныя работы: «Схема развіцця і размяшчэння курортаў, месцаў адпачынку і турызму, прыродных паркаў і запаведнікаў у СССР» і «Генеральная схема развіцця і размяшчэння курортаў і зон адпачынку Беларускай ССР» (1981), «Схема размяшчэння і развіцця гарадскіх і сельскіх паселішчаў Беларускай ССР да 2000 года» (1982), «Генеральная схема комплекснай тэрытарыяльнай арганізацыі Беларускай ССР» (1988), «Генеральны план рэспубліканскай курортна-рэкрэацыйнай зоны «Нарач» (1990; усе ў сааўт.). Адзін з аўтараў кніг «Горадабудаўнічае асваенне пойменных тэрыторый Беларускай ССР» (1986), «Горадабудаўніцтва Беларусі» (1988) і інш.

**ПАТА́ПАЎ** Юрый Фёдаравіч (н. 3.9.



Я. С. Панамарова.



Г. А. Парсаданаў.



М. П. Паруснікаў.



Ю. Ф. Патапаў.

1930, г. Сяміпалацінск, Казахстан), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1985). Пасля сканчэння ў 1954 Маскоўскага архіт. ін-та працаваў у праектных арг-цыях Свярдлоўска, Масквы, Мінска, Гродна, у 1980—90 гал. архітэктар ін-та «Белдзяржпраект». Асн. работы на Беларусі (усе ў сааўт.): забудова мікрараёнаў № 1, № 2 і вул. Леніна (1965—67), 9-павярховага жылога дома (1966) і адм. будынак (1967) у Салігорску; добраўпарадкаванне прывакзальнай плошчы (1974—85), 16-павярховая гасцініца па вул. Савецкіх пагранічнікаў (1982) у Гродне; мост цераз Зах. Дзвіну (1973) і добраўпарадкаванне плошчы імя 1000-годдзя Віцебска (1985) у Віцебску; забудова цэнтра в. Расна Камянецкага р-на (1976—85); тыпавыя праекты жылых дамоў для індывідуальнага будаўніцтва (1975) і дзіцячых дашкольных устаноў (1980—85). З іншых работ (усе ў сааўт.): планіроўка і добраўпарадкаванне пл. Камунараў і манумент у гонар Уральскіх камунараў (1957—58), 110-кватэрны жылы дом і адм. будынак па вул. Луначарскага, мікрараёны № 5 і № 7 у Паўд.-Зах. жылым раёне (1962) у Свярдлоўску; водалячэбніца санаторыя «Беларусь» (1984) у г. Друскінінкай (Літва) і інш. У 1980—85 старшыня праўлення Саюза архітэктараў Беларусі.

*Тв.:* Архитектура Советской Белоруссии. М., 1986 (у сааўт.).

**ПА́ЎЛАЎ** Вісарыён Міхайлавіч (6.6. 1762—1804), беларускі архітэктар. Прадстаўнік класіцызму. Скончыў Пецярбургскую АМ (1782). Працаваў у Пецярбургу, у 1783—85 у Маскве пад кіраўніцтвам арх. В. Бажэнава прымаў удзел у буд-ве палацавых ансамбляў Падмаскоўя. У 1785—99 Магілёўскі губернскі архітэктар. Прымаў удзел у перабудове гарадоў Магілёўскай і Віцебскай губерняў. Паводле яго праектаў пабудаваны саляныя крамы ў Рагачове і Новай Беліцы (з 1854 прадмесце Гомеля) і 2 мураваныя флігелі для дзярж. установы ў Клімавічах (усе 1787), астрог (1796), палац губернатара і будынак дзярж. устаноў (1797, прыстасаваны будынак б. манастыра базыльян) у Віцебску, зрабіў праект мытні ў Талачыне (1788). Ажыццяўляў тэхнічнае кіраўніцтва буд-вам *Магілёўскага Іосіфаўскага сабора,* пасля завяршэння якога выканаў інвентарызацыйныя чарцяжы і падрабязнае апісанне будынка (1780—98), некаторыя дапрацоўкі Крычаўскага палаца (1785).

**ПАЎЛІ́НАЎ** Андрэй Міхайлавіч [1(13).10. 1852, Іркуцк — 13(25).11.1897], рускі гісторык архітэктуры, архітэктар. Скончыў Пецярбургскую АМ (1879). Акадэмік архітэктуры (1882). Правадзейны чл. Маскоўскага археал. таварыства (1885). З 1888 заг. аддзела Аружэйнай палаты ў Маскве. Бываў на Беларусі, вывучаў помнікі архітэктуры і выяўленчага мастацтва, рабіў іх навуковыя апісанні і замалёўкі. Аўтар манаграфіі «Гісторыя рускай архітэктуры» (1894). На 9-м археал. з'ездзе ў Вільні (1893) выступіў з дакладамі пра стараж. помнікі мураванага і драўлянага дойлідства Віцебска і Полацка. Вызначыў, што зах. апсіды *Полацкага Сафійскага сабора* прыбудаваны пазней, падрабязна апісаў муроўку *Віцебскай Благавешчанскай царквы* і датаваў гэты помнік 12 ст. Аўтар шэрага пабудоў у Маскве.

*Тв.:* Деревянные церкви в Витебске // Тр. IX археологического съезда в Вильне, 1893. М., 1895. Т. 1; Древние храмы Витебска и Полоцка // Там жа.

**ПАХАЛАВІ́ЦКІ** (Пахалавецкі, Пахаловіч) Станіслаў, мастак і картограф 2-й пал. 16 ст. Жыццё і творчасць звязаны з Беларуссю і Польшчай. Служыў сакратаром у магнатаў, у 1563—66 пры двары вял. князя і караля Жыгімонта II, потым у канцылярыі вял. князя і караля Стэфана Баторыя. У час Лівонскай вайны (1558—83) удзельнічаў у 1579—81 у вызваленні Полацка, ваенных паходах на Пскоў і Вялікія Лукі. Склаў «Карту Полацкай зямлі» і «План аблогі Полацка войскамі Стэфана Баторыя ў 1579» (абодва награвіраваны Т. Трэтэрам у Рыме), «Аблога Полацка 29.8.1579» (рысунак пяром з акварэльнай падмалёўкай, захоўваецца ў Дзярж. архіве ў г. Дрэздэн, Германія). Выканаў (з інж. П. Франкусам) аксанаметрычныя выявы 6 крэпасцей на Полаччыне: Казьян (гл. *Казьянскі замак),* Красная (гл. *Красны замак*), Сітна (гл. *Сітнаўскі замак*), *«Сокал»,* Суша і Туроўля. Малюнкі П.— каштоўны матэрыял для рэканструкцыі фартыфікацыі і забудовы Полацка 2-й пал. 16 ст. Яго «Карту Полацкай зямлі» выкарысталі картограф Г. Меркатор (карта «Літва», 1595), Т. Макоўскі («Карта Вялікага княства Літоўскага», 1613) і інш.

**ПЕДЭ́ЦІ** (Pedetti) Маўрыцо (1719, Караска каля Мілана, Італія — 14.3.1799), італьянскі архітэктар. Працаваў у Нясвіжы ў князёў Радзівілаў (1748—52). Пабудаваў капліцу ў двары *Нясвіжскага касцёла Божага цела,* удзельнічаў у буд-ве невял. палаца «Кансаляцыя» ў *Альбінскім палацава-паркавым комплексе.*

**ПЕ́ШКА** (Peszka) Юзаф (19.2.1767, Кракаў — 4.9.1831), польскі жывапісец. Прадстаўнік класіцызму. Творчасць звязана з маст. жыццём Беларусі. Вучыўся ў Д. Эстрэйхера ў Кракаве (з 1786) і ў Ф. Смуглевіча ў Варшаве. У 1793—1812 жыў у Гродне, Мінску (часта наведваў Магілёў, Нясвіж, Смілавічы, Дукору), Вільні, Маскве і Пецярбургу. З 1812 жыў у Кракаве, з 1815 праф. жывапісу і малюнка ў Школе прыгожых мастацтваў. Пісаў алегарычныя і гіст. кампазіцыі і партрэты. Асабліва каштоўнымі для вывучэння гісторыі бел. архітэктуры з'яўляюцца пейзажы П., сярод іх серыі відаў *Мінска, Віцебска, Магілёва, Нясвіжа, Навагрудка, Ліды,* в. *Любчы* (Навагрудскі р-н), в. Лошыцы (Мінскі р-н), *Смалянскага замка* і інш. Большасць тво-

раў П. зберагаецца ў музеях Польшчы, а таксама ў б-цы АН Украіны ў Львове.

*Літ.:* Чантурыя Ю. У. Акварэлі Іосіфа Пешкі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1972. № 4.

**ПЁПЕЛЬМАН** (Pöppelmann) Матэус Даніэль [3(?).5.1662, г. Герфард, Германія — 17.1.1736], нямецкі архітэктар. Прадстаўнік позняга барока і ракако. Гал. работа П.— палацавы ансамбль Цвінгер у Дрэздэне. На Беларусі паводле яго праекта пабудаваны *Гродзенскі каралеўскі палац.*

**ПІПКІНА** Таццяна Аляксандраўна (н. 2.3. 1937, Мінск), беларускі архітэктар. Скончыла БПІ (1960). Працуе ў ін-це «Віцебскграмадзянпраект» (кіраўнік групы). Асн. работы: праект планіроўкі і забудовы пас. *Акцябрскі* саўгаса «Сялюты» Віцебскага р-на (1970, у сааўт.; прэмія СМ БССР 1976), забудова вёсак Пальмінка Гарадоцкага р-на, Копці і Ноўка Віцебскага р-на, Нікіціха Шумілінскага р-на.

**ПІРАГÓЎ** Міхаіл Міхеевіч (н. 25.1.1933, г. Арцёмаўск Краснаярскага краю), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1991). Скончыў Новасібірскі інж.-будаўнічы ін-т імя В. У. Куйбышава (1957). У 1957—75 працаваў у Новасібірску ў «Аблпраекце», «Новасібпраекце», з 1975 у «Белдзяржпраекце» (архітэктар, ст. архітэктар, кіраўнік групы, гал. архітэктар майстэрні, гал. архітэктар праектаў). Асн. работы: у Новасібірску — манумент Славы (1967), комплекс рачнога вакзала з гасцініцай (1973), адм. будынак (1980, усе ў сааўт.); у Бабруйску — тэатр драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча (1979); у Мінску — станцыі Мінскага метрапалітэна «Акадэмія навук» і «Плошча Я. Коласа» (1984), прафілакторый на 100 месцаў у Валожынскім р-не (1986, усе ў сааўт.), Палац рэспублікі на Кастрычніцкай пл. (кіраўнік аўт. калектыву; будуецца, 1992).

**ПІЯТРÓЎСКІ** Віктар Іосіфавіч (1855—пасля 1917), беларускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскае будаўнічае вучылішча (1879, грамадзянскі інжынер). У 1879—80 малодшы інжынер будаўнічага аддзялення Наўгародскай губ., у 1881—87 Віцебскі гарадскі архітэктар. Паводле праекта П. і пад яго кіраўніцтвам пабудаваны піваварны з-д у мяст. Чашнікі Лепельскага пав. (цяпер горад Віцебскай вобл.), рэканструяваны Віцебскі гарадскі тэатр (1882) і *Віцебскі Варварынскі касцёл* (1884).

**ПÓРТА** Пётр Антонавіч (1780 — пасля 1865), беларускі архітэктар. У 1834—42 Полацкі епархіяльны архітэктар. У 1830—35 архітэктар Полацкага кадэцкага корпуса. Работы на Беларусі: перабудова касцёла *Полацкага езуіцкага калегіума* ў праваслаўны сабор св. Мікалая (1831—38), праект мураванай 5-купальнай царквы для Лепеля (1835), перабудова езуіцкага вучылішча ў Віцебску ў будынак мужчынскага духоўнага вучылішча (1841). Побач з культавымі праектаваў грамадзянскія дзяржаўныя пабудовы, распрацоўваў праекты па прыватных заказах.

**ПУРЭ́ЦКІ** Юлій Платонавіч (н. 22.6. 1929, г. Ташкент), беларускі архітэктар. Засл. будаўнік Узбекскай ССР (1972). Скончыў Ташкенцкі політэхн. ін-т (1954). У 1945—69 працаваў у праектных арганізацыях Ташкента. З 1975 у ін-це «Мінскпраект» (кіраўнік майстэрні). Асн. работы ў Мінску: ген. план Мінска (1982, кіраўнік аўт. калектыву), праект планіроўкі прыгараднай зоны (1979), праект дэталёвай планіроўкі цэнтра Мінска (1983, у сааўт.). Адзін з аўтараў ген. плана Ташкента (1971), планіроўкі і забудовы цэнтра Ташкента (1975, Дзярж. прэмія СССР 1975). Аўтар прац у галіне горадабудаўніцтва.

*Тв.:* Научно-методические основы разработки генерального плана Минска и его пригородной зоны // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1982. № 2; Основные принципы формирования центра Минска (разам з М. Ц. Гардзеенкам) // Там жа. 1984. № 2.

**ПУ́ШКІН** Уладзімір Паўлавіч (н. 16.3. 1936, г. Горкі), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1960). У 1960—63 гал. архітэктар праектаў у Магілёўскім аблпраекце, у 1963—85 у ін-це «Белдзяржпраект» (ст. архітэктар, кіраўнік групы, гал. архітэктар праектаў), з 1985 кіраўнік архіт. майстэрні ў ін-це «Мінскпраект». Асн. работы: распрацоўка серый 5- і 9-павярховых буйнапанельных жылых дамоў (1-464А, 1-464Д, 152 і інш.) для гарадоў Беларусі (у сааўт.); універмаг па вул. Першамайскай у Магілёве (1963); комплекс будынкаў праектных ін-таў Белдзіпрадор і Дзіпрасувязь па вул. Сурганава (1973—76), 16-павярховыя жылыя дамы па вул. В. Харужай (1974—79), маналітныя 20-павярховыя жылыя дамы (1988, у сааўт.) у Мінску і інш.



М. М. Пірагоў.

# Р

**РАПАПÓРТ** Павел Аляксандравіч (29.6. 1913, Пецярбург — 11.9.1988), савецкі гісторык архітэктуры і археолаг. Д-р гіст. навук (1965). Скончыў Ленінградскі інж.-будаўнічы ін-т (1937). У 1939—88 працаваў у Ін-це археалогіі АН СССР (Ленінградскае аддзяленне), адначасова выкладчык гісторыі архітэктуры ў Ін-це жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе. Даследаваў праблемы гісторыі і археалогіі манум. архітэктуры Кіеўскай Русі ў 10—13 стагоддзях. Унёс вялікі ўклад у гісторыю даследавання полацкай і гродзенскай архітэктурных школ 12 ст., вывучаў Камянецкую вежу і Барысаглебскую царкву ў Навагрудку. Ім праведзены даследаванні (сумесна з М. М. *Варонiным*) Ніжняй царквы (1948), Княжацкіх палат, Каложскай царквы і



П. С. Рудзік.

абарончай сцяны 12 ст. (сумесна з экспедыцыяй Спец. навукова-вытворчых рэстаўрацыйных майстэрняў Міністэрства культуры Беларусі, 1981, 1985) у Гродне, Ваўкавыскага храма (1959), Полацкіх княжацкіх палат (1976—77), царквы на Ніжнім замку ў Полацку (1977), Спаскай царквы Ефрасіннеўскага манастыра (сумесна з Г. М. Штэндарам, 1976), прадоўжаны даследаванні храма-спачывальні ў Ефрасіннеўскім манастыры (1976), Вялікага сабора Бельчыцкага манастыра (1977) і Віцебскай Благавешчанскай царквы (сумесна з А. А. Трусавым і Т. С. Бубенькай, 1982).

*Тв.:* Полоцкое зодчество XII века // Сов. археология. 1980. № 3; Спасская церковь Ефросиньева монастыря в Полоцке (разам з Р. М. Штэндэрам) // Памятники культуры: Новые открытия, 1979. Л., 1980; Дворец в Полоцке (разам з Я. У. Шолахавай) // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1981. Вып. 164; Зодчество Древней Руси. Л., 1986; Памятник древнерусского зодчества в гродненском детинце (у сааўт.) // Памятники культуры: Новые открытия, 1987. М., 1988; Новые данные об архитектуре древнего Гродно // Древнерусское искусство: Худож. культура X — первой половины XIII в. М., 1988.

**РУБАНЕ́НКА** Барыс Рафаілавіч (29.8.1910, Самара — 6.5.1985), савецкі архітэктар. Нар. архітэктар СССР (1980). Акад. Акадэміі буд-ва і архітэктуры СССР (1956) і АМ СССР (1979). Чл.-кар. Акадэміі буд-ва ГДР (1975). Д-р архітэктуры (1967). Праф. (1970). Скончыў Ін-т грамадзянскіх інжынераў (1931) і АМ у Ленінградзе (1934). З 1963 дырэктар Цэнтр. НДІ эксперым. праектавання жылля (Масква). Работы на Беларусі: ансамбль Прывакзальнай пл. ў Мінску (1948—56) і «Эскіз планіроўкі Мінска» (1944, у сааўт.). Сярод іншых работ: жылыя дамы ў Ленінградзе (1932—47, у сааўт.), Дом урада ў Алма-Аце (1958), забудова гарадоў Тальяці (1967), Набярэжныя Чалны (1970, усе ў сааўт.) і інш. Дзярж. прэмія СССР 1973.

**РУ́ДЗІК** Пётр Сафронавіч (н. 29.6.1913, Харкаў), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1970). Скончыў Харкаўскі інж.-будаўнічы ін-т (1941). З 1946 працуе ў БелНДІдзіпрасельбуд (у 1946—78 гал. архітэктар праектаў). Асн. кірунак творчасці — архітэктура жылых і грамадскіх будынкаў для сельскіх населеных месцаў. Найбольш значныя работы: забудова цэнтр. сядзіб калгасаў «Прагрэс» і «Гвардыя» Гродзенскага, імя Калініна Магілёўскага, імя Леніна Брэсцкага р-наў і інш., саўгасаў «Леніна» Горацкага, «Волма» Мінскага, «Камуніст» Ельскага р-наў і інш. Аўтар шэрага тыпавых праектаў 1—2-павярховых (2- і 4-кватэрных) жылых дамоў, клубаў на 200—400 месцаў, дзіцячых дашкольных устаноў, адм., гандл. і грамадскіх будынкаў.

**РЫМІ́НСКІ** Леў Мікалаевіч (19.5.1913, г. Зарасай Літоўскай ССР — 3.12.1971), савецкі архітэктар. Вучыўся ў Маскоўскім архіт. ін-це (1933—38), скончыў БПІ (1947). У 1938—46 працаваў у гарадах Мядзвежжагорск Карэльскай АССР, Пожва Пермскай вобл., Варкута Комі АССР. З 1946 на Беларусі: архітэктар Дзіпрагара (з 1946), гал. архітэктар Магілёўскага філіяла ін-та «Белдзяржпраект» (з 1949). У 1958—61 гал. архітэктар Ін-та буд-ва і архітэктуры АН Беларусі, з 1961 гал. архітэктар ін-та «Белпрампраект», з 1963 выкладчык БПІ, дацэнт. Асн. работы: адм. будынак (1939—40, у сааўт.) і чыг. вакзал (1940—41) у Мядзвежжагорску, гал. корпус БПІ (1946—48), тыпавыя праекты жылых дамоў серый 1-414, 434, 1-433 (усе 1956—57), санітарна-кантрольны пункт з-да лічыльных машын (1965—67), ген. рэканструкцыя станкабудаўнічага з-да імя С. М. Кірава (1963; усе ў сааўт.) у Мінску; жылыя 48- і 143-кватэрныя дамы (1951—55) і праект рэканструкцыі цэнтра (1963, у сааўт.) у Магілёве; карпусы з-да «Электрапрылада» ў Брэсце (1961—62, у сааўт.); гасцініца ў Оршы (1955—59); помнік Я. Купалу ў Радашковічах (1959).

# С



А. А. Сабалеўскі.

**САБАЛЕЎСКІ** Аляксандр Аляксандравіч (н. 11.12.1942, г. Жодзіна Мінскай вобл.), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1991). Скончыў БПІ (1968). Працаваў у ін-тах «Белдзяржпраект» (1968—75), «Мінскпраект» (1975—77). З 1977 — гал. архітэктар праектаў ін-та «Белдзяржпраект» (з 1990 арэнднае прадпрыемства «Белпраект»), адначасова кіраўнік творчай майстэрні пры Саюзе архітэктараў Беларусі. Асн. работы ў Мінску: будынкі праектных ін-таў «Белдзіпрадор» і «Дзіпрасувязі» па вул. Сурганава (1973—76), райвыканкама Партызанскага р-на (1978—80), эксперыментальная школа на 40 класаў з плавальным басейнам у мікраёне Усход 1 (1978, у сааўт.), забудова мікраёна Сярова 1 (1977—82), вучэбна-лабараторны корпус інж.-фізічнага факультэта БПІ (1985—90), гал. вучэбна-лабараторны корпус універсітэцкага гарадка і студэнцкі інтэрнат для замежных студэнтаў пры БДУ (1991, будуюцца).

**САГА́ЛАЎ** Леанід Якаўлевіч (27.4.1939, г. Волагда), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1963). З 1963 працаваў у БелНДІПдзіпрасельбуд, з 1967 у ін-це «Белпрампраект», з 1971 у Саюзмашпраекце, з 1977 у Белдзіпрамясамалпрам (гал. архітэктар). Асн. работы: будынак ін-та БелНДІПдзіпрасельбуд (1973), інжынерны корпус з-да «Прамсувязь» (1973), лабараторны корпус Ін-та цепла- і масаабмену

АН Беларусі (1972), гармалзавод № 3 (1983) у Мінску; карпусы Беларускага аўтамабільнага завода ў Жодзіне (1977, усе ў сааўт.), прыладабудаўнічыя з-ды ў Вологдзе, Растове Вялікім, Рагачове (1973—76); вытворчы і інжынерны карпусы прадпрыемстваў машынабудавання і прыладабудавання ў Новасібірску, Барнауле, Казані, Мінску, Брэсце, Гомелі (1973—76); прадпрыемствы мясной і малочнай прамысловасці ў Барысаве, Бярозе, Слуцку, Віцебску, Баранавічах, Клецку, Полацку, Гродне, Навагрудку і інш. (1978—90).

**СА́КА** (Sacco) Джузепе (Юзаф; 1735, г. Верона, Італія — 22.12.1798), архітэктар. Італьянец. Прадстаўнік архітэктуры барока і класіцызму. З 1773 у Гродне. Прыдворны архітэктар графа А. Тызенгаўза (1774), гал. архітэктар па буд-ву каралеўскіх мануфактур Вял. кн. Літоўскага. У 1770-я г. кіраваў будаўнічай школай на Гарадніцы ў Гродне. Пабудаваў *Гродзенскую Аўгустоўскую сядзібу, Свяцкі палацава-паркавы ансамбль,* палац *Станіслававоўскай сядзібы, Шчорсаўскі палацава-паркавы ансамбль* (разам з арх. К. *Спампані*). Удзельнічаў у афармленні інтэр'ераў і рэканструкцыі *Гродзенскага палаца Тызенгаўза* (разам з арх. Ю. *Мёзерам*), *Гродзенскага Каралеўскага палаца,* езуіцкага касцёла (1773), ратушы (1775, разам з арх. Фрэйліхам) у Гродне. Працаваў таксама ў Паставах (1770-я г.), Ішчалне (1776, цяпер вёска Шчучынскага р-на), Добасне (1781, цяпер вёска Кіраўскага р-на). Стварыў праект ратушы ў Вільні (1784, не ажыццёўлены).

**САКАЛО́ЎСКІ** Уладзімір Эдуардавіч (н. 13.9.1930, Мінск), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1979). Канд. архітэктуры (1966). Скончыў БПІ (1958). У 1958—61 працаваў у ін-це «Белдзяржпраект». У 1965—69 гал. архітэктар, з 1972 дырэктар БелНДІдзіпрасельбуда. З 1965 адначасова выкладчык БПІ (з 1972 дацэнт). Кіраўнік і ўдзельнік праектаў забудовы эксперыментальна-паказальных пасёлкаў на Беларусі (1960—70-я г.). Асн. работы: праект дэталёвай планіроўкі і забудовы Салігорска (1959—60), праекты дэталёвай планіроўкі зоны адпачынку на Заслаўскім вадасховішчы пад Мінскам і воз. Нарач у Мядзельскім р-не (1959—60), дом адпачынку на воз. Нарач (1959—61), будынак БелНДІдзіпрасельбуда і лабараторны корпус з-да імя Вавілава (1969) у Мінску, праект і забудова пас. Малеч у Бярозаўскім р-не (1969—81, усе ў сааўт.). Прэмія СМ СССР 1981.

*Тв.:* Архитектура Советской Белоруссии. М., 1973 (у сааўт.); Проектирование и строительство промышленных комплексов. Мн., 1975 (разам з І. Г. Малковым); Архитектура нового белорусского села. Мн., 1979 (разам з Р. М. Алімавым); Архитектура Советской Белоруссии. М., 1986 (у сааўт.); Сельский индивидуальный жилой дом: (Справ. пособие). 2 изд. Мн., 1990 (разам з Р. М. Алімавым, С. І. Осіпавым).

**САНКО́ЎСКІ Ф.,** беларускі архітэктар 2-й пал. 18 — пач. 19 ст. Прадстаўнік класіцызму. У пач. 19 ст. віцебскі губернскі архітэктар. Аўтар праектаў адм. будынкаў у Віцебску, *Гарадоцкай Казьмадзям'янаўскай царквы,* выканаў праект і кіраваў перабудовай дома Кудзіновічаў пад *Віцебскі палац губернатара.*

**САПУНО́Ў** Аляксей Парфёнавіч [15(27).3.1851, в. Усвяты Усвяцкага р-на Пскоўскай вобл.— 2.10.1924], беларускі краязнавец. Прафесар (1913). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1873). З 1879 працаваў у Віцебску выкладчыкам гімназіі, з 1895 у Цэнтр. архіве стараж. грамат (з 1897 выкладчык Маскоўскага ун-та), з 1901 сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага камітэта. Адзін з ініцыятараў адкрыцця Віцебскага аддзялення Маскоўскага археал. ін-та, выкладаў у ім (чытаў курс «Старажытнасці Паўночна-Заходняга краю») і ў Віцебскім настаўніцкім ін-це (1911—22). У 1923—24 чытаў курс «Беларусазнаўства» ў Віцебскім вышэйшым педагагічным ін-це. Удзельнік стварэння Віцебскага царкоўна-археал. музея (1893) і Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (1909, выдавала зборнік «Полацка-Віцебская даўніна», дзе друкаваліся яго матэрыялы і па архітэктуры, у т. л. «Чарцёж г. Віцебска 1664 г.», «Малюнкі крэпасцей, пабудаваных па загаду цара Івана Грознага пасля заваёвы Полацка ў 1563 г.», «Гістарычны нарыс Віцебскай Беларусі» і інш.). Аўтар прац па гісторыі, этнаграфіі і археалогіі Віцебшчыны. Даследаваў архітэктуру, пераважна Падзвіння. Апісаў асобныя архіт. помнікі: працы «Полацкі Сафійскі сабор» (1888), «Помнікі часоў старажытных і найноўшых у Віцебскай губерні» (1903), «Універсітэт у Полацку» (1908) і інш. Гал. праца С.— зборнік дакументаў па гісторыі Віцебшчыны 11—19 стагоддзяў «Віцебская даўніна» (1883—88), багата ілюстраваны, у т. л. малюнкамі помнікаў архітэктуры.

*Літ.:* Стукалич В. К. А. П. Сапунов: К 25-летию его учёной и литературной деятельности. Витебск, 1905; Кахановскі Г. Вандраванні // Маладосць. 1984. № 10.

**СВЯТЛО́ВА** Эліса Віктараўна (н. 21.6.1935, Мінск), беларускі архітэктар. Скончыла БПІ (1960). У 1960—67 і з 1973 у ін-це «Мінскпраект» (старшы архітэктар, нам. начальніка майстэрні генплана). У 1967—71 архітэктар Кастрычніцкага р-на г. Мінска, з 1971—73 нач. упраўлення планіроўкі Галоўнага архіт.-планіровачнага ўпраўлення Мінскага гарвыканкома. Асн. работы: жылыя дамы па вуліцах А. Кашавога і Ульянаўскай (1968); генеральны план развіцця Мінска і праект планіроўкі яго прыгараднай зоны да 2000 г. (1982, у аўт. калектыве; прэмія СМ СССР 1985).

**СКО́ТА** з Пармы (Scotto), італьянскі архітэктар 2-й пал. 16 ст. Паводле яго праекта ў 1580 перабудаваны палац *Гродзенскага Старога замка* (ад ранейшага гатычнага замка 1398 асталіся толькі сцены і некалькі вежаў).



У. Э. Сакалоўскі.



Г. В. Сысоеў.



А. В. Сычова.



Л. М. Тамкоў.

**СПАМПА́НІ** (Spampani) Карла [1750, Рым (?) — 2.5.1783], архітэктар. Прадстаўнік паладыянскай школы. Італьянец. Працаваў на Беларусі і ў Літве. Прымаў удзел у стварэнні *Шчорсаўскага палацава-паркавага ансамбля* (у 1770—76) і *Нясвіжскага палацава-паркавага комплексу* (у 1778—79). Паводле праектаў С. пабудаваны *Радзівілімонтаўскі палацава-паркавы ансамбль,* палац у Заслаўі (1778—82), сядзібны дом і лямус у в. Беніца (гл. *Беніцкая сядзіба*), мост і капліца ў в. Кухцічы (цяпер пас. Першамайскі Уздзенскага р-на). У Вільні ў 1773 кіраваў буд-вам асобных карпусоў езуіцкага калегіума і прыбудовай да абсерваторыі ун-та, у 1775 стварыў праект палаца ў Паўлаве (каля Вільні), у 1782 абнаўляў капліцу св. Казіміра ў кафедральным саборы.

**СТАРО́Ў** Іван Ягоравіч [12(23).2.1745, Пецярбург — 5(17).4.1808], рускі архітэктар. Прадстаўнік класіцызму. Вучыўся ў Пецярбургскай АМ (1758—62; у 1769—72 выкладаў; з 1769 акадэмік, з 1785 прафесар). У 1772—74 гал. архітэктар Камісіі па мураванай будоўлі Санкт-Пецярбурга і Масквы. Сярод асн. работ: Троіцкі сабор з планіроўкай плошчы ў Аляксандра-Неўскай лаўры (1778—90) і Таўрыйскі палац у Пецярбургу (1783—89, з Ф. Волкавым). На Беларусі стварыў: тыпавы праект мураванага і драўлянага паштовага дома (1772, мураваныя дамы пабудаваны ў Віцебску, Магілёве, Полацку), у Дуброўне для рэзідэнцыі графа Р. А. Пацёмкіна праекты планіроўкі гасцінага двара, сядзібнага дома і перабудовы Спаскай царквы (1784), у Крычаве праект палаца Пацёмкіна (канец 1780-х гадоў) і суднабудаўнічай верфі (1785).

*Літ.:* Морозов В. Ф. Петербургские зодчие — Белоруссии // Ленинградская панорама. 1982. № 12.

**СТАСЕ́ВІЧЫ** Адам, Валенты і Марцін, беларускія дойліды 1-й пал. 17 ст. Жылі ў в. Дойліды (Іўеўскі р-н). Удзельнічалі ў буд-ве Іўеўскай сядзібы і інш. пабудоў на Іўеўшчыне.

**СТАХО́ВІЧ** Алег Аляксандравіч (н. 21.1. 1934, Мінск), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1959). Адзін з аўтараў *Кургана Славы Савецкай Арміі — вызваліцельніцы Беларусі* (Дзярж. прэмія БССР 1970), мемарыяльнага комплексу *Брэсцкая крэпасць-герой.*

**СТРУ́ЕЎ** Віктар Іванавіч (1864—1930-я г.), беларускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскую АМ (1892). З 1893 працаваў у Мінску, у т. л. ў 1909—17 Мінскім епархіяльным архітэктарам, з 1921 заг. аддзела Камітэта дзярж. збудаванняў. Паводле яго праектаў узведзены *Мінскага царкоўна-археалагічнага музея будынак* (1913, з арх. І. Фаміным), званіца *Барысаўскага Васкрасенскага сабора* (1907), мураваныя цэрквы ў Лунінцы (1907), Любчы (1908), вёсках Зембін Барысаўскага (1901), Камень Валожынскага, Мядзведзічы Ляхавіцкага (1904), Латыгопічах Чашніцкага (1906) і Тарасава Мінскага (1908) р-наў. Распрацаваў 5 тыпавых праектаў школьных будынкаў (1912). У 1909—10 выканаў праекты мураваных будынкаў школ для Турава, Ракава і Заслаўя (узорныя), в. Даманавічы Салігорскага р-на, у 1912 — в. Бабчын Хойніцкага р-на.

**СТРУ́КАЎ** Дзмітрый Міхайлавіч [1827 (?) — 1899], рускі мастак, археолаг. Скончыў Строганаўскае вучылішча ў Маскве. У 1864 ажыццявіў экспедыцыю на Беларусь. Зрабіў замалёўкі: населеных месцаў — Полацка, Магілёва, Нясвіжа, Рагачова, мяст. Раманава (сучасная в. Леніна Слуцкага р-на) і інш.; помнікаў архітэктуры — манастыроў Куцеінскіх Богаяўленскага і Успенскага ў Оршы, Спаса-Ефрасіннеўскага ў Полацку, Барысаглебскага ў Бельчыцах, Маркава ў Віцебску; цэркваў у мяст. Раманава, Ільінскай і Троіцкай у Віцебску, Барысаглебскай і Крыжаўзвіжанскай у Магілёве, Петрапаўлаўскай у Мінску і Маладзечне; Слуцкай брамы ў Нясвіжы; фрагментаў асобных збудаванняў — скляпенняў Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку, твораў выяўл. і дэкар.-прыкладнога мастацтва (у т. л. крыж Ефрасінні Полацкай) і інш. Праводзіў архіт.-археал. пошукі на Беларусі. Дзённікі, палявыя запісы, малюнкі С.— каштоўны матэрыял для вывучэння гісторыі бел. дойлідства; захоўваюцца ў Вільнюскім ун-це, Дзярж. гіст. музеі Расіі ў Маскве і ў Ленінградскім аддзяленні Ін-та археалогіі АН Расіі.

*Літ.:* Романов Е. Р. Альбом художника Д. М. Струкова... Вильна, Б. г.

**СУ́СЛАЎ** Уладзімір Васілевіч (1857—1921), рускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскую АМ (1893). Вывучаў і прапагандаваў помнікі стараж.-рус. архітэктуры, асабліва драўлянага дойлідства. На Беларусі рэстаўрыраваў *Камянецкую вежу* (1903) і выканаў праект рэстаўрацыі *Віцебскай Ільінскай царквы.*

**СЫСО́ЕЎ** Георгій Васілевіч (н. 17.10. 1919, Волагда), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1973). Скончыў Ленінградскі ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна (1949). Працаваў у ін-тах «Белдзяржпраект» (1952—60), «Белдзіпрагандаль» (1966—71), у 1960—66 і з 1971 у ін-це «Мінскпраект». Гал. работы ў Мінску: праект планіроўкі і забудовы 2-й чаргі Ленінскага праспекта [жылыя дамы з магазінамі «1000 дробязей», «Кветкі», «Сілуэт», «Сінтэтыка», «Дом абутку», «Акадэмкніга» і інш. (1955—64)]; дом з магазінам «Тэхніка ў побыце» на Юбілейнай пл. (1965), 11-павярховыя дамы на бульвары Луначарскага (1965—72), 16-, 18-, 20-павярховыя дамы ў мікрараёне Усход 1 (1972—79), 2-я чарга гасцініцы «Мінск» (1969), будынак гарадскога Савета нар. дэпутатаў (1964, усе ў сааўт.). Адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу *Брэсцкая крэпасць-герой,* помніка-бюста двойчы Герою

Сав. Саюза С. І. Грыцаўцу ў Мінску (скульпт. З. Азгур, 1956), помніка Герою Сав. Саюза К. С. Заслонаву ў Оршы (скульпт. С. Селіханаў, 1955). Дзярж. прэмія БССР 1968 за ўдзел у стварэнні архіт. ансамбля Ленінскага праспекта (цяпер праспект Ф. Скарыны) у Мінску, прэмія СМ СССР 1978 за праектаванне і буд-ва ў Мінску 9—12—16-павярховых жылых дамоў.

**СЫЧО́ВА** Ала Васілеўна (н. 28.10.1928, Ленінград), беларускі архітэктар, педагог. Д-р архітэктуры (1983). Праф. (1985). Скончыла Уральскі політэхнічны ін-т у Свярдлоўску (1956). Працавала ў ін-це «Белдзяржпраект» (1958—61). З 1964 у БПІ (выкладчык, з 1983 заг. кафедры горадабудаўніцтва). Аўтар прац па горадабудаўніцтву, ландшафтнай архітэктуры. Найбольш значныя праектныя работы: схема планіроўкі зоны адпачынку на воз. Нарач і вадасховішчы Пціч (Мінскі р-н, 1959), парк у г. Беразіно (1979, усе ў сааўт.). Аўтар больш як 100 навуковых прац.

*Тв.:* Загородный отдых детей. М., 1971; Охрана природы и архитектура. Мн., 1976; Ландшафтный облик белорусского села. Мн., 1982; Архитектурно-ландшафтная среда. 2 изд. Мн., 1982; Ландшафтный дизайн. Мн., 1984 (разам з Н. П. Цітовай); Градостроительство Белоруссии. Мн., 1988 (у сааўт.).

# Т

**ТАМКО́Ў** Леў Мікалаевіч (н. 2.8.1937, г. Жлобін), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1976). Скончыў БПІ (1960). З 1969—84 гал. архітэктар ін-та «Гомельграмадзянпраект», з 1984 гал. архітэктар Гомельскай вобл. Асн. работы ў Гомелі: праекты планіроўкі і забудовы мікрараёнаў і жылых раёнаў (№ 1, Фестывальны і інш., 1960—70-я г.; адзін з аўтараў), рэстаран «Беларусь», аэравакзал (1969), Ін-т механікі металапалімерных сістэм АН Беларусі (1972), жылыя дамы па вуліцах Савецкай і Кожара (1979) і інш.; мемарыяльны комплекс на брацкіх магілах байцоў нар. апалчэння ў парку імя Луначарскага (1975, у сааўт.).

**ТКАЧО́Ў** Міхаіл Аляксандравіч (10.3.1942, г. Мсціслаў — 31.10.1992), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (1987), прафесар (1989). Скончыў БДУ (1964). З 1968 у Ін-це гісторыі АН Беларусі, з 1978 у Гродзенскім ун-це (выкладчык, заг. кафедры), з 1989 заг. рэдакцыі гісторыі Беларусі выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, з красавіка 1992 быў галоўным рэдактарам гэтага выдавецтва. Вывучаў ваенна-абарончае дойлідства, матэрыяльную культуру і архітэктуру гарадоў Беларусі 11—18 ст.: Віцебска, Гальшан, Гомеля, Гродна, Заслаўя, Камянца, Крэва, Ліды, Любчы, Міра, Навагрудка, Чачэрска і інш. Адзін з аўтараў кніг «Нарысы па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972), «Гісторыя беларускага мастацтва» (т. 1—2, 1987—88).

*Тв.:* Вежы валынскага тыпу і іх распаўсюджванне на Беларусі // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972; Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.). Мн., 1977; Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Замки Белоруссии. Мн., 1987; Замкі і людзі. Мн., 1991.

**ТКАЧУ́К** Аксана Фёдараўна (н. 10.6.1933, Ленінград), беларускі архітэктар. Засл. архітэктар Беларусі (1976). Скончыла Ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры ў Ленінградзе (1958). З 1960 працавала ў Ін-це «Мінскпраект», у 1977—83 гал. мастак Мінска, адначасова нам. гал. архітэктара горада. Кіраўнік аўтарскага калектыву праектаў будынкаў Ін-та нар. гаспадаркі (1964—74), жылых дамоў па вул. Старавіленскай (1977—79), Палаца культуры вытв. тонкасуконнага аб'яднання (1984), планіроўкі і забудовы мікрараёнаў Ракаўская шаша 6 і 7 у Мінску; у сааўтарстве: праекты рэстарана «Журавінка» (1969), Дзярж. тэатра муз. камедыі Беларусі (1981) у Мінску, праект рэканструкцыі Бел. тэатра імя Я. Коласа ў Віцебску (1985) і інш.


А. Ф. Ткачук.

**ТРАФІМЧУ́К** Алег Рыгоравіч (16.1.1941, Мінск — 18.5.1984), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1968). У 1968—70 гал. архітэктар Маладзечна, з 1971 працаваў ва ўпраўленні па буд-ву і архітэктуры Мінскага аблвыканкома (з 1973 нач. упраўлення, гал. архітэктар вобласці). Асн. работы: *Манумент у гонар савецкай маці-патрыёткі* (Дзярж. прэмія СССР 1977) у Жодзіне, праекты планіроўкі і забудовы 3 мікрараёнаў і праспекта Леніна ў Маладзечне (1969—73), цэнтраў гарадоў Капыль (1972) і Жодзіна (1974—75), мікрараёна ў г. Клецк (1972), генпланы г. п. Мядзел (1973), г. Вілейка (1977), вёсак Крупіца Мінскага (1979), Слабада Смалявіцкага (1980) р-наў; усе ў сааўтарстве. Помнікі: М. Горкаму ў Мінску (1981), Г. А. Нікандравай у г. Дуброўна (1980), мемарыяльны комплекс у гонар Ветрынскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, партыз. брыгады імя Варашылава ў в. Гомель Полацкага р-на (1977).


А. Р. Трафімчук.

**ТРАХТЭНБЕ́РГ** Навум Яфімавіч (4.1.1910, г. Бахмач Чарнігаўскай вобл.— 16.10.1977), беларускі архітэктар. Скончыў Адэскі ін-т грамадзянскага і камунальнага буд-ва (1932). У 1953—56 кіраўнік майстэрні Генплана ў ін-це «Мінскпраект», адначасова ў 1954—76 выкладчык БПІ. Асн. работы (у сааўт.): у Мінску — праект дэталёвай планіроўкі (1939), генпланы (1946, карэктуры 1952, 1958; 1965, карэктуры 1969, 1972—73), праект дэталёвай планіроўкі і забудовы цэнтра, праект планіроўкі і забудовы 2-й чаргі Ленінскага праспекта (1953, Дзярж. прэ-


Н. Я. Трахтэнберг.

мія БССР 1968); генпланы Бабруйска (1936, 1939), Магілёва (1939), праект забудовы цэнтр. часткі Віцебска (1950). Гал. архітэктар і аўтар схемы планіроўкі прыгараднай зоны Мінска (1964), праекта планіроўкі зоны адпачынку на Заслаўскім вадасховішчы пад Мінскам (1968).

*Тв.:* Минск: Послевоенный опыт реконструкции и развития. М., 1966 (у сааўт.).

**ТРУ́САЎ** Алег Анатольевіч (н. 4.5.1954, г. Мсціслаў), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1981). Скончыў БДУ (1976). З 1988 начальнік археалагічнага аддзела ін-та «Белспецпраектрэстаўрацыя». Вывучае ваенна-абарончае дойлідства, матэрыяльную культуру і архітэктуру гарадоў Беларусі 11—18 ст.: Ліды, Міра, Крэва, Мазыра, Заслаўя, Гродна, Віцебска, Навагрудка, Магілёва, Мсціслава і інш. Апублікаваў больш 400 навуковых і навукова-папулярных артыкулаў. Дэп. Вярх. Савета Рэспублікі Беларусь (1992).

*Тв.:* Археалагічнае вывучэнне помнікаў беларускай манументальнай архітэктуры XIII—XVIII стст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1980. № 6; Помнікі старажытнага Мсціслава. Мн., 1985 (разам з Р. В. Баравым); Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: Архит.-археол. анализ. Мн., 1988; Старонкі мураванай кнігі. Мн., 1990; Старадаўніх муроў адраджэнне: Мінулае і сучаснасць Лідскага замка. Мн., 1990.

**ТЫЧЭ́ЦКІ** Б. Л., беларускі архітэктар канца 18 — 1-й пал. 19 ст. У 1827 пабудаваў *Сноўскі палацава-паркавы ансамбль.* Стварыў шэраг праектаў пабудоў для сядзібы ў в. Беніца (Маладзечанскі р-н) і ў Пружанах.

# У

**УВЯДЗЕ́НСКІ** Канстанцін Аляксандравіч (1851 — ?), беларускі архітэктар, інжынер. Скончыў Пецярбургскае вучылішча грамадзянскіх інжынераў (1872). Працаваў у Гродне, адначасова да 1875 быў гарадскім архітэктарам Брэста. З 1877 губернскі інжынер Архангельскай губ. (пабудаваў мураваныя карпусы ў Салавецкім манастыры). У 1886—92 мінскі губернскі інжынер. Найбольш значныя работы: *Мінскі гарадскі тэатр* і будынак рэальнага вучылішча ў Мінску.

**У́САВА** Любоў Дзмітрыеўна (н. 6.9. 1921, г. Іркуцк), беларускі архітэктар. Скончыла Маскоўскі архіт. ін-т (1947). З 1946 у архіт.-планіровачных майстэрнях Мінгарвыканкома, з 1953 у Мінгарпраекце, з 1960 у ін-це «Мінскпраект». Асн. работы ў Мінску: рэканструкцыя *Рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў* (1952), Тэатра юнага гледача (1956), абком і гарком КПБ (1954), жылыя дамы на Прывакзальнай пл. (1960), гал. корпус БПІ (1950, усе ў сааўт.), інтэрнаты (1955), бібліятэчны і спарт. карпусы БПІ (1967), Рэсп. Дом юнага тэхніка па вул. Першамайскай (1968), Цэнтр. дзіцячы парк імя М. Горкага (набярэжная р. Свіслач, пешаходны мост цераз яе, дзіцячыя кафэ і інш., 1960—70). Сааўтар праектаў дэталёвай планіроўкі водна-зялёнага дыяметра Мінска (паўн.-зах. і паўд.-ўсх. часткі), зоны адпачынку «Вяча» (1970—80, у сааўт.), вадасховішчы «Крыніца» і «Дразды», рэканструкцыя стараж. парку ў Пружанах (1978) і інш.

# Ф

**ФАДЗЕ́ЕВА** Галіна Іванаўна (н. 18.7. 1923, станцыя Нянь-Цзы-Шань, Кітай), беларускі архітэктар. Скончыла Новасібірскі інж.-будаўнічы ін-т (1947). У 1947—67 працавала ў ін-це «Новасібграмадзянпраект». У 1967—83 гал. архітэктар праектаў ін-та «Мінскпраект». Асн. работы: ген. планы Новасібірска, сярэдніх і малых гарадоў Новасібірскай вобл. (1947—67), Мінска (1967—83; усе ў сааўт.). Аўтар праектаў арганізацыі і планіроўкі гарадскіх зон адпачынку «Зялёны дыяметр» (1975), планіроўкі і буд-ва жылых раёнаў Зялёны Луг 6—8 (1975), Уручча 1—3 (1977) у Мінску. Прэмія СМ СССР 1985.

**ФАНТА́НА** (Fontana) Іосіф III [1700 (?) — пасля 1755], беларускі архітэктар. Паходзіў з Італіі. Прадстаўнік барока. Працаваў пераважна ў Гродне і Вільні. Пабудаваў царкву Раства Багародзіцы ў *Гродзенскім манастыры базыльянак* (1726) і палац Сапегаў у Гродне (1741—44), склаў праект (1740) і кіраваў буд-вам (1741—43) *Сталавіцкай царквы Іаана Хрысціцеля.*

**ФЕ́СЬКА,** беларускі дойлід 2-й паловы 17 ст. з Магілёва. Пабудаваў у 1679—81 *Магілёўскую ратушу.*

**ФЁДАРАЎ** Ілья Мікітавіч (1815 — пасля 1890), беларускі архітэктар. Скончыў Пецярбургскую АМ (1836). Працаваў памочнікам, у 1844—81 Магілёўскім губернскім архітэктарам, адначасова ў 1844 — 70 Магілёўскім епархіяльным архітэктарам. Сярод работ — праекты будынкаў багадзельняў (1837, 1850, 1855), ін-та шляхетных дзяўчат, пансіяната пры Магілёўскай губернскай камісіі і будынка пажарнай каманды (1848—52), казармы для жандарскай каманды (1850), жылога дома для свяшчэнніка Троіцкай царквы (1859) і рэканструкцыі астрога (1838), распрацаваў праектную дакументацыю на рамонт будынка Магілёўскага губернскага праўлен-

ня. У 1843 выканаў праект будынка прысутных месцаў для Сянно.

**ФІЛІМОНАЎ** Сяргей Дзмітрыевіч (н. 14.4.1937, Манчагорск Мурманскай вобл.), беларускі архітэктар. Канд. архітэктуры (1971), дацэнт (1974). Пасля сканчэння БПІ (1960) працаваў у ін-це «Белдзяржпраект» (1960—73). У 1973—88 выкладчык БПІ (да 1983 заг. кафедры жылых і грамадскіх будынкаў). З 1988 кіраўнік архіт. майстэрні «Белдзяржпраекта». Аўтар спарт. комплексу Усесаюзнага фізкультурна-спарт. таварыства *«Дынама»* (1978), жылога дома па вул. Чарвякова (1971) у Мінску, гасцініцы «Гарызонт» (1980) у Баранавічах, актавай залы Бел. с.-г. акадэміі ў Горках (1962). У сааўтарстве выканаў праекты *Мінскага Палаца спорту* (1966), Палацаў спорту ў Чэлябінску (1967), Валгаградзе (1974), Палаца культуры ў Салігорску (1968) і інш. Вывучае праблемы развіцця архітэктуры мнагамэтавых відовішчных і спарт. збудаванняў.

*Тв.:* Архитектура универсальных зрелищно-спортивных залов. Мн., 1980; Архитектура общественных зданий Белоруссии. Мн., 1985.

**ФРАЛОЎ** Ігар Іванавіч (н. 23.6.1933, г. Быхаў Магілёўскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў Ленінградскі інж.-будаўнічы ін-т (1959). З 1959 працуе ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект» (архітэктар, старшы архітэктар, гал. архітэктар праектаў, гал. архітэктар ін-та), адначасова ў розныя гады выкладчык у Магілёўскім машынабудаўнічым ін-це і будаўнічым тэхнікуме. Асн. работы ў Магілёве: мікраараён Магілёў 2 (1960—61), жылы раён па Мінскай шашы (1961), мікраараёны Мір 1 і Мір 2 (1962), Юбілейны (1967—68), Задняпроўе 3 і 4 (1969—70), забудова паўн.-зах. боку праспекта Пушкіна (1965—66), праспект Міра (зах. частка, 1965—74), будынкі КДБ (1963), рэканструкцыя вул. Першамайскай (1972—73), гараж абкома КПБ (1966), прыбудова да ін-та «Магілёўграмадзянпраект» (1972), жылы дом з цэнтр. універсамам, рэстаранам «Габрава» і інш. прадпрыемствамі абслугоўвання па вул. Першамайскай (1973—78) і інш.

# Х

**ХАЮЦІН** Леў Ісаакавіч (н. 7.6.1947, Мінск), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1970). З 1970 працуе ў ін-це «Белдзяржпраект» (з 1986 кіраўнік архіт.-канструктарскай майстэрні). Асн. работы: комплекс будынкаў ін-таў Аддзялення грамадскіх навук АН Беларусі і вылічальны цэнтр ін-та матэматыкі АН Беларусі па вуліцах Ф. Скарыны і Сурганава (1978—80), будынкі паліклінікі Беларускай чыгункі (1988), Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі (1991) у Мінску (у сааўт.); гасцініц у Брэсце (1990), Маскве (1977); будынак Ін-та фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў АН БССР у Віцебску (1982); бальніца Беларускай чыгункі ў Брэсце (1990).

**ХІНЧЫН** Шолам Іонавіч (н. 25.12.1916, г. Белая Царква Кіеўскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў Кіеўскі інж.-будаўнічы ін-т (1951). З 1951 у ін-це «Гомельграмадзянпраект» (гал. архітэктар праектаў, кіраўнік майстэрні аб'ёмнага праектавання). Выкладаў у Бел. ін-це інжынераў чыг. транспарту (1957—77, у 1962—72 дацэнт). Асн. работы (усе ў Гомелі): жылыя дамы на праспекце Леніна (1952—64), па вуліцах Камсамольскай (1966, у сааўт.), Білецкага (1967), Пушкіна (1978), будынак Гомельскага гарвыканкома Савета нар. дэпутатаў (1960), спарт. корпус Бел. ін-та інжынераў чыг. транспарту (1967, 2-я чарга), сярэдняя школа № 10 па вул. К. Маркса (1968), чыгуначны паштамт і блок інтэрнатаў на праспекце Кастрычніка (1990, усе ў сааўт.). Аўтар праекта планіроўкі і забудовы Прывакзальнай пл. (1954—59), праекта аднаўлення і рэканструкцыі Палаца культуры шклозавода (1954).

**ХОЗЕРАЎ** Іван Макаравіч [24.1(5.2). 1889, Смаленск — 21.3.1947), савецкі мастацтвазнавец, гісторык архітэктуры. Вучыўся на аддзяленні Маскоўскага археал. ін-та ў Смаленску (1916—19). Працаваў у Смаленскім дзярж. музеі (да 1941), з 1946 нач. аддзела аховы помнікаў Упраўлення па справах архітэктуры пры СМ БССР. Даследаваў помнікі стараж. дойлідства Полацка (Сафійскі сабор, тры Бельчыцкія царквы, 1928; зрабіў графічную рэканструкцыю Спаскай царквы Ефрасіннеўскага манастыра, 1927), Віцебска (абмераў Благавешчанскую царкву), Смаленска, фрэскавыя размалёўкі ў Полацку, Віцебску.

*Тв.:* Да пытання аб Спасаўскай царкве ў Полацку // Гіст.-археал. зб. Мн., 1927. № 1; Полацкае будаўніцтва старадаўняга перыяду//Запіскі аддзела гуманітарных навук. Мн., 1928. Кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Т. 1, сш. 1.

*Літ.:* Воронин Н. Н. И. М. Хозеров // (Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры АН СССР. М., 1948. Вып. 19); Штыхов Г. В. Древнеполоцкое каменное зодчество // Белорусские древности. Мн., 1967.

**ХРШЧАНОВІЧ** Казімір Мельхіёравіч (1794—8.5.1871), беларускі архітэктар. У 1819 скончыў Віленскі ун-т. У 1825—63 мінскі губернскі архітэктар. Найбольш значныя работы ў Мінску: *Мінскі адміністрацыйны будынак* на рагу пл. Свабоды і вул. Інтэрнацыянальнай, *Мінскага вайсковага шпіталя будынак,* будынкі гарадской бальніцы (1840-я г.), *Мінскай мужчынскай гімназіі будынак,* губернатарскі дом (канец 1830-х г.). Аўтар праектаў: у Мінску — ратушы (1825), жылога дома Аксельрода (1844), адм. устаноў (1847,


А. І. Чадовіч.


У. А. Чантурыя.


В. П. Чарнышоў.

1852, 1853, 1857) і інш.; у Барысаве — адм. устаноў (1843); у Пінску — жылога дома А. Ліпко (1847) і інш.

# Ц

**ЦІ́ХАЎ** Рыгор Канстанцінавіч (н. 12.2. 1935, г. Нэхэ ў Кітаі), беларускі архітэктар. Скончыў Уральскі політэхнічны ін-т імя Кірава ў Свярдлоўску (1961). З 1961 працаваў у Новакузнецку ў праектных ін-тах «Сібпрамбудпраект» і «Кемеравагрумадзянпраект». З 1967 у ін-це «Гомельграмадзянпраект» — гал. архітэктар, з 1988 у «Гомельпраекце» (гал. архітэктар праектаў). Асн. работы (усе ў Гомелі ў сааўт.): тэлеграфна-тэлефонны вузел сувязі (Дом сувязі, 1973—79), будынак абкома КПБ (1981), сталовая на 200 месцаў у комплексе будынкаў абкома КПБ і Дома палітасветы (1982).

**ЦУГ** (Zyg) Шыман Багуміл (20.2.1735, Мерзенбург, Саксонія — 11.8.1807), польскі архітэктар. Немец па паходжанні. Прадстаўнік архітэктуры класіцызму. З 1752 член Саксонскай будаўнічай калегіі. У 1754, 1771 наведваў Італію. Найбольш значныя работы: палацы Ф. Браніцкага (1775—77) і Сангушкі (1777), праект перабудовы б-кі Залускіх (1777, не ажыццёўлены), евангелісцкі касцёл (1777—79), жылыя дамы Рэзлера (1784), Брэса (1782—85), Малахоўскага (1780-я г.) у Варшаве; палац А. Чартарыжскага ў Наталіне пад Варшавай (1780—81), перабудова палаца Радзівілаў у Няпораве (1775—80). На тэр. Беларусі па праекце Ц. пабудаваны драўляны палац Л. Тышкевіча ў Гародне (Воранаўскі р-н, 1779—80, не захаваўся, гл. ў арт. *Гародзенская сядзіба*).

# Ч

**ЧАДО́ВІЧ** Аляксандр Іванавіч (н. 19.1. 1952, ст. Прасвет Курганскага р-на Курганскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1981) і Маскоўскі архіт. ін-т (1983). З 1973 у ін-це «Мінскпраект» (з 1980 гал. архітэктар праектаў), з 1990 адначасова кіраўнік персанальнай творчай майстэрні Саюза архітэктараў Беларусі. Асн. работы: *Мінскай бібліятэкі № 11 будынак* (1980; прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1982), грамадска-культурны цэнтр на XII Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Маскве (1985), *Дом палітычнай асветы* (1988), будынак выканкома Савета нар. дэпутатаў Цэнтральнага р-на (1990; усе ў сааўт.) у Мінску.

**ЧАНТУ́РЫЯ** Уладзімір Аляксандравіч (28.6.1923, Баку — 28.11.1988), беларускі архітэктар, гісторык архітэктуры, педагог. Д-р архітэктуры (1965), праф. (1968). Скончыў Азербайджанскі індустрыяльны ін-т (1947). Працаваў у ін-це «Белдзяржпраект» (1947—49) у Мінску. З 1953 выкладчык, з 1969 заг. кафедры тэорыі і гісторыі архітэктуры БПІ. Аўтар прац па гісторыі бел. архітэктуры і (у сааўтарстве) праектаў дэталёвай планіроўкі гіст. цэнтраў Гродна (1970) і Віцебска (1972). Пад яго кіраўніцтвам праведзены абмеры помнікаў бел. дойлідства (1954—70) і абследаванне гіст. забудовы гарадоў Беларусі (1971—82). Дзярж. прэмія БССР 1980 за кн. «Гісторыя архітэктуры Беларусі» (дакастрычніцкі перыяд, 2-е выд., 1977).

*Тв.:* Архитектура Белоруссии конца XVIII — начала XIX века. Мн., 1962; Архитектура конца XVIII — начала XIX вв. // Всеобщая история архитектуры. М., 1968. Т. 6; Из истории белорусского зодчества // Наука и человечество. М., 1977; Архитектурные памятники Белоруссии. Мн., 1982; Атлас памятников архитектуры и мемориальных комплексов Белоруссии. Мн., 1983; История архитектуры Белоруссии. Т. 1 (Дооктябрьский период). 3 изд. Мн., 1985; Белоруссия, Литва, Латвия, Эстония. М., 1986 (у сааўт.); Памятники архитектуры и градостроительства Белоруссии. Мн., 1986; Белорусский «экватор». 2 изд. Мн., 1988 (у сааўт.).

*Літ.:* Воинов А. П., Воинов А. А. Устремлённость // Стр-во и архитектура Белоруссии. 1983. № 3.

**ЧАРНЫШО́Ў** Віктар Паўлавіч (н. 17.7. 1919, г. Луганск), беларускі архітэктар. Засл. будаўнік БССР (1965). Скончыў Харкаўскі ін-т інжынераў камунальнага буд-ва (1941). Працаваў гал. архітэктарам Оршы, Гомеля, Мінска, нач. Віцебскага абл. філіяла ін-та «Белдзяржпраект», гал. архітэктар ін-та «Белдзяржпраект», нам. дырэктара БелНДІдзіпрасельбуд, дырэктар Мінскага філіяла цэнтр. н.-д. і праектнага ін-та горадабудаўніцтва. У 1954—57 выкладчык Віцебскага будаўнічага тэхнікума. Работы: праекты забудовы кварталаў па вуліцах Савецкай, Сялянскай, Першамайскай у Гомелі (1949—50), вул. Фрунзе ў Віцебску (1957), планіроўка пл. Леніна ў Оршы (1962), генпланы (з карэкціроўкамі) Віцебска (1966), Наваполацка (1960, 1973, усе ў аўтарскім калектыве). Дзярж. прэмія БССР 1984 за планіроўку і забудову Наваполацка.

**ЧАРНЯ́ЎСКАЯ** Тамара Ігнатаўна (н. 2.10.1934, Масква), беларускі гісторык архітэктуры. Канд. архітэктуры (1967). Скончыла БПІ (1959). З 1961 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі (з 1971 старшы навуковы супрацоўнік), адначасова ў 1963—71 выкладчык БПІ. Даследуе гіст. планіроўку і забудову Віцебска, Магілёва, Мінс-

ка, помнікі архітэктуры Беларусі. Адзін з аўтараў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (Дзярж. прэмія БССР 1990), «Гісторыі беларускага мастацтва».

*Тв.:* Архітэктура Магілёва. Мн., 1973; Архітэктура Віцебска. Мн., 1980; Памятники архитектуры Минска XVII — начала XX в. Мн., 1984 (разам з А. Ю. Пятросавай).

**ЧАСНО́Ў** Уладзімір Дзмітрыевіч (н. 28.6. 1933, в. Шухабіна Данілаўскага р-на Яраслаўскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў Маскоўскі архітэктурны ін-т (1966). У 1966 — 73 працаваў у ін-це «Кастрамаграмадзянпраект», у 1973—77 у ін-це «БелНДІПгорадабудаўніцтва», з 1977 у ін-це «Мінскпраект» (майстэрня генплана). Асн. работы: прыбудова да ін-та «Кастрамаграмадзянпраект» (1970—72), абеліск у гонар 50-годдзя Савецкай улады ў г. Шар'е Кастрамской вобл.; генплан Мінска (1978—82, прэмія СМ СССР 1985) і інш.

**ЧАХО́ЎСКІ** Міхаіл Іосіфавіч [н. 1763—пасля 1825(?)], беларускі архітэктар. У 1804—31 займаўся архіт. практыкай у Мінску, у 1817—25 Мінскі губернскі архітэктар, прадстаўнік архітэктуры класіцызму. Работы: праекты будынка ўрадавай установы і будынка павятовага і ніжняга земскага суда ў Чэрвені (1803—06), флігеля для павятовага казначэйства ў Мазыры (1804), буд-ва духоўнай семінарыі (з А. Мельнікавым) і дома К. Шэмета па вул. Французсканскай у Мінску (1803), праекты будынкаў урадавай установы для Вілейкі, казначэйства і гараднічага праўлення для Бабруйска, 2-павярховага корпуса і 3 флігеляў для казначэйства і гараднічага праўлення ў Слуцку, дома гараднічага ў Пінску (усе 1806), моста цераз р. Свіслач у Мінску (1812), вайсковых пабудоў у Мінску і дваранскага дома ў Бабруйску (1814), корпуса ўрадавай установы і казначэйства ў Пінску і будынка ўрадавай установы з архівам і казначэйства ў Барысаве (1817), праект рамонту і частковай рэканструкцыі Кацярынінскай (Петрапаўлаўскай) царквы ў Мінску (1824).

**ЧЫСЦЯКО́Ў** Генадзь Пятровіч (н. 22.5. 1937, г. Бузулук Арэнбургскай вобл.), беларускі архітэктар. Скончыў Маскоўскі архітэктурны ін-т (1962). У 1962—66 працаваў у Маскве і г. Рашаль Маскоўскай вобл. З 1966 у Брэсце — гал. архітэктар праектаў, з 1981 спецыяліст-архітэктар тэхн. аддзела ін-та «Брэстграмадзянпраект». Асн. работы: жылыя дамы на бульвары Шаўчэнкі (1966), абл. бібліятэка (1969), дзіцячая спарт. школа па вул. Дзяржынскага (1968), Дом культуры (1978—80), Дом Саюзаў па вул. К. Маркса (1973), грамадска-адм. цэнтр Маскоўскага р-на (1979), гасцініца па вул. Чкалава (1973) у Брэсце; санаторый *«Бярэсце»* на воз. Рагазнянскім Брэсцкага р-на (1976); Дамы культуры ў Пінску (1976) і Маларыце (1981, у сааўт.); раённая бальніца ў Кобрыне (1975); жылыя дамы і адм.-грамадскі цэнтр у калгасе «Кастрычнік» Ляхавіцкага р-на (1976); музей касманаўтыкі на радзіме П. І. Клімука ў в. Камароўка Брэсцкага р-на (1978, у сааўт.).



**ШАБУНЕ́ЎСКІ** Станіслаў Данілавіч (1871, Адэса — 1937, Гомель), беларускі архітэктар. Дыяпазон яго творчасці — ад стылізатарства, праз мадэрн да канструктывізму. Скончыў Пецярбургскі ін-т грамадзянскіх архітэктараў (1897). У 1897 — 1937 гарадскі архітэктар Гомеля, аўтар многіх жылых і грамадскіх будынкаў горада. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі па яго праектах пабудаваны: *Гомельскай мужчынскай гімназіі будынак,* Арлоўскі камерцыйны банк на рагу вуліц Румянцаўскай і Ірыненскай (1901, цяпер грамадскі будынак на рагу вуліц Савецкай і Першамайскай), *Гомельскага камерцыйнага банка будынак,* гасцініца «Савой» па вул. Румянцаўскай (1912, не захавалася), *Гомельскі Дом урача,* жылы дом на рагу вуліц Баярскай і Мільённай (1909, цяпер жылы дом на рагу вуліц Баўмана і Білецкага), даходныя дамы па вул. Румянцаўскай (цяпер вул. Савецкая), пажарнае дэпо па вул. Замкавай (1913, не захавалася), земская бальніца і ваенны шпіталь па вул. Паскевіча (1914, цяпер корпус бальніцы хуткай дапамогі і ваенны шпіталь па вул. Камісарава). Пасля рэвалюцыі кіраваў аднаўленнем згарэлай часткі Гомельскага палаца (1923), складаў праекты добраўпарадкавання вул. Савецкай, тэрыторыі т. зв. «гарэлага балота» (1925). Аўтар будынка хлебазавода (1920-я г.), жылых дамоў па праспекце Леніна, 31 (1928) і 51 (1931, гл. *Гомельскі дом-камуна),* па вул. Пушкіна, 26 (1927), і інш. У 1937 рэпрэсіраваны. На будынку б. гімназіі, пабудаванай паводле яго праекта, была ўстаноўлена дошка ў гонар Ш. (цяпер зберагаецца ў абл. краязнаўчым музеі).

**ШВАБ** Аляксей, беларускі дойлід 1-й пал. 17 ст. Жыў у б. в. Задворнае (Дзяржынскі р-н). Будаваў сядзібы і палацы ў б. мяст. Койданава (Дзяржынск) і ў в. Рубяжэвічы (Стаўбцоўскі р-н).

**ШЛЯ́ЙМОВІЧ** Макс Моўшавіч (14.10. 1941, г. Пенза), беларускі архітэктар. Скончыў БПІ (1969). У 1960—61 тэхнік-архітэктар Мінгарпраекта, 1969—71 старшы архітэктар Віцебскага філіяла ін-та «Белдзяржпраект», 1971—81 гал. архітэктар Навапалацка (адначасова з 1981 кіраўнік майстэрні БелНДІПгорадабудаўніцтва). Асн. работы ў Навапалацку: удзельнік рэалізацыі генеральнага плана горада, праекта дэталёвай планіроўкі, праектаў забудовы мікрараёнаў 4, 5, 6,



Т. І. Чарняўская.



М. М. Шляймовіч.

